АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК
# БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

У ПЯЦІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»



1986

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК
# БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

ТОМ 5

С—Я



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»



1986

ББК 81.2Бел-4
С 48

Укладальнікі:
Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч,
А. І. Чабярук, Ф. Д. Клімчук, С. Г. Лобач,
А. Р. Мурашка, В. Д. Старычонак, С. Глінка,
Я. Петручук, Э. Смулкова, А. Багроўска,
Т. Ясінска-Соха, Я. Глушкоўска

Рэдакцыйная калегія:
Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч,
А. І. Чабярук, Ф. Д. Клімчук

Рэдактар тома Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ

**Слоўнік** беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. Т. 5. С—Я / Уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.; Рэд. Ю. Ф. Мацкевіч.— Мн.: Навука і тэхніка, 1986.— 563 с.
С 48

Дадзены том змяшчае звыш сямі тысяч слоў на літары С — Я.

**С** $\frac{4602020000-132}{\text{М316—86}}$ **124—86**

**ББК 81.2Бел-4**



## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

У падрыхтоўцы пятага тома «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» прымаў удзел вялікі навуковы калектыў. Слоўнікавыя артыкулы распрацавалі: Ю. Ф. Мацкевіч (С, У, Ц), С. Г. Лобач (Т, Ш), Я. М. Рамановіч (Ф, Х), А. І. Чабярук (Ч), А. Р. Мурашка (частку артыкулаў на літару Ш), Ф. Д. Клімчук (Э, Ю), В. Д. Старычонак (Я).

А. І. Грынавецкене ўдакладніла значэнні мнагазначных слоў, унесла паралелі да беларускіх дыялектных слоў з балтыйскіх і некаторых германскіх моў. Акрамя гэтага, яна выканала вялікую работу па рэдагаванню рукапісу слоўніка.

Польскія ўкладальнікі падрыхтавалі матэрыялы, сабраныя на тэрыторыі ўсходняй ускраіны ПНР. С. Глінка ўважліва прачытаў рукапіс слоўніка і дапоўніў польскія адпаведнікі.

Тэхнічную апрацоўку рукапісу пятага тома правяла А. А. Савіцкая.

---

Спіс населеных пунктаў, матэрыялы з якіх уключаны ў дадзены выпуск, і прозвішчы збіральнікаў апублікаваны ў папярэдніх тамах (1—4) «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча».

Дадаткова ў апошнім томе выкарыстаны матэрыялы, сабраныя Ю. Ф. Мацкевіч і А. І. Чабярук у в. Маркоўскае Гомельскай вобл. у 1983 г.



# С

СТЫДЗІ́ЦЦА *незак.* Тое ж, што і стыда́цца. *Ён ні стыдзіцца, ні брыдзіцца старых.* Кудзялянцы Шальч. *Змітрук казав: «Зыдземса!», а я стыджуса.* Хатынічы Ганц.; *парайн.* руск. *стыдиться* 'тж'.

СТЫДЗІ́ЦЬ *незак.* Сароміць. *Яна яго стыдзіць.* Валынцы В.-Дзв. *Я змахлявай, а ён дазнайся і стыдзя мяне.* Гемзы Шальч.

СТЫДЛІ́ВЫ *прым.* Сарамлівы. *Стыдлівы чалавек, не бардзо яго ўкяруеш.* Гемзы Шальч. *Стыдлівы чалавек стыдаецца.* Ёдлавічы Брасл., Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Малькуны Ігн. *Я гадавалася стыдлівая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *стыдливый* 'тж'.

СТЫ́ДНА, СТЫ́ННА́ *прысл.* у знач. *вык.* Соромна, сорам. *Я плачу, што мне стыдна.* Саланое Віл. *Як табе ня стыдна!* Гемзы Шальч. *Як паехаць куды, дык стыдна гаварыць.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Стыдна, дзет, табе так рабіць. Я выстыдзіла яга. Стыдна ў очы глядзець, як не заплаціш за работу.* Вузла Мядз. *Багатыя сваталі, бывала, алі ж я бедная — стынна ісці.* Буды В.-Дзв. *Паабіцала грошы — і не дала, як табе не стынна!* Мачаск Бярэз. *Як не стынна так гаварыць!* Ухвала Круп.

СТЫ́ЙЛО *гл.* СТО́ЙЛА I

СТЫКА́ЛЬНІК *м. ткац.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога датыкаюць кросны. *Стыкальнік прывязавалі, як датыкалі кросны — кавалак палатна з кутасамі, прывязаны да кіёчка.* Саланое Віл., Вузла Мядз.

СТЫКА́ЦЦА *незак.* Быць, знаходзіцца. *Я мала стыкаюся дома.* Дакудава Лід.

СТЫ́ЛІЦЬ *незак. экспр.* Лаяць, бэсціць, паносіць. *Што ты мяне стыліш, ты сваю жонку стыль!* Рыбчына Віл.

СТЫ́ЛУ *прысл.* Ззаду. *Шылі каптан з гэстачкай стылу і спераду. Стылу прычэплівалі вяроўкі харошыя. Палюбіла дзеда, ходзя стылу.* Гемзы Шальч. *Праз хмызнячок бегла, адзін чалавек гнайся стылу, лавій за плашч.* Рагулішкі Даўг. *Стылу за ім мы стаём. Дзевачкі, стылу ўзяўшы, нясуць гэты вэлюм.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *tył* 'тыл', *z tyłu* 'ззаду'.

СТЫ́НКА, СТЫ́НЬКА *ж. заал.* Корушка. *Стынка — рыба такая, у ей ніякай костачкі німа.* Рагулішкі Даўг. *Стынка то-*

*ненькая светлая рыбка, без касцей.* Ахрэмаўцы Брасл. *Стынка — рыба такая, пахніць агурцом. Кагда хішная рыба ганяіць стынку, яна уходзіць, як бы хочыць уляцець у нёбу.* Замошша Брасл. *Стынька ест у нашай рэчцы.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* ням. *Stint* 'тж'.

СТЫ'ННА *гл.* СТЫ'ДНА

СТЫР *м.* 1. *плыт.* Штыр, рулявое вясло. *Кіравалі плытнікі стыром.* Мсцібава Ваўк. 2. Жэрдка, калок. *Стагавішча дзелалі для стога, пасярэдзіне стага стыр быў.* Пасіене Лудз.; *парайн.* ням. *Steuer* 'руль', *stier* 'нерухомы'; польск. *styr, ster* 'руль'.

СТЫ'РНІК, СТЭ'РНІК *м. плыт.* Галоўны плытнік, які кіруе плытом. *Стырнік на плыце.* Завельцы Астр. *Смігі памагаюць стэрнікове кіраваць плытам.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* ням. *Steuerer* 'рулявы'.

СТЫРНЯ' *ж.* Іржышча. *Жэтня, овсяна стырня.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Кылько на нэбэ зорочок, тылько на зымлі дырочок* — іржышча. Дзмітравічы Кам.

СТЫРО'К *м. памянш.* Шпянёк, кіёчак. *Ёсць такі стырок у боячцы.* Саланое Віл.

СТЫРЧА'К *м.* 1. Ствол зламанага дрэва; шпень. *Бура дзерава паламала, лес паламала, адны стырчакі стаяць. Як што зломана, то стырчак.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Галоўны корань дрэва. *Стырчак пашоў ад хвоі, ад ябланы.* Дзяніскавічы Ганц.

СТЫЦЬ *незак.* Застываць. *Халадзец будзя стыць у кладоўцы.* Рыбчына Віл.

СТЫ'ЧАНЬ *м.* Студзень. *Пятнаццатага стычня радзіўся Мечык.* Завельцы Астр. *Мароз найвенцэй бывае ў стычню.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *styczeń* 'тж'.

СТЭ *гл.* СТОЙ

СТЭГНО' *н.* Сцягно, бядро. *Стэгно, а звэрху клуб.* Азарычы Пін.

СТЭ'ЖКА *гл.* СЦЕ'ЖКА

СТЭ'ЖОР *гл.* СЦЕ'ЖАР

СТЭ'ЖЭЧКА *ж. памянш.* да сцёжка 1. *Стэжэчкою пуойдэтэ і зайдэтэ до сёла.* Курашэва Чыж.

СТЭЛЬВА'ГА *гл.* СТАЛЬВА'ГА

СТЭ'ЛЬМАХ *гл.* СТАЛЬМА'Х

СТЭ'МШЫЦЬ *зак. экспр.* Украсці. *Пака я гаварыла, яна дзесятку стэмшыла.* Раўбічы Мін.

СТЭНЧ *м.* Вясёлка, радуга. *Стаў стэнч, з балота ваду набірая стэнч — будзя боляй дажджу.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *tęcza* 'тж'.

СТЭР *м.* Тое ж, што і стыр 1. Сапоцкіна Гродз.

СТЭРАВА'ЦЬ *незак.* Кіраваць пры дапамозе штыра. *Плытнікі стэрам стэравалі плытамі.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* польск. *sterować* 'тж'.

СТЭРБА'К *м.* Сцябло расліны. *Стонка картохлі ззіела, одны стэрбакі осталі.* Курашэва Чыж.

СТЭРБАЧЫЭ'НЁ *зб. н.* Сухія сцяблы раслін. *Стэрбачыэнём ногі собіе поколола.* Курашэва Чыж.

СТЭ'РНІК *гл.* СТЫ'РНІК

СТЭРНЯ' *ж.* Тое ж, што і с т ы р н я́. *Ніні коровы будэмо на стэрніе пасті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *стернь, стерня* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карты № 269, 271.

СТЭ'РПНУТІ *зак.* Здранцвець, знямець. *Нога стэрпнула і нэ дам рады іті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ścierpnąć* 'тж'.

СТЭ'ЦКА *ж.* Сцежка. *Мы там на стэцца стаялі.* Кемялішкі Астр.; *парайн.* польск. *stecka* 'тж'.

СТЯГА'ТІ *незак.* 1. Здзіраць. *Хто нэ вміе с коровы скуоры стягаті, то ціелу покалечыт.* Курашэва Чыж. 2. Спаганяць, сыскваць доўг. *Прыйіехав сэквэстратор податкі стягаті.* Курашэва Чыж.

СУ'БАЛАТКІ толькі *мн.* Сумежныя балоты. *У Крывой грэблі бор, субалаткі такія, мосцік ёсць.* Ухвала Круп.

СУ'БАР *м.* 1. Зерневыя адходы ад веяння збожжа. *Субар курам мелям, плашэйшае зярно і свіням змелюць.* Азяраны Раг. *Субар — паследнія малюсенькія зярняткі.* Лапічы Асіп. *Субару свінням намалоў.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Сумесь рознага збожжа. *Субар — ячмень, грэчка, змешаныя разам.* Лапічы Асіп.

СУ'БАРНІЦА *ж.* Тое ж, што і с у б а р 1. *Субарніца — усякія атходы, субарніцы курам пасыпіш.* Мярэцкія Глыб.

СУ'БАРНЫ *прым.* Які прыгатаваны з с у́ б а р у 2. *Субарную муку свіням мяшалі.* Лапічы Асіп.

СУБІРА'ЦЦА *гл.* САБІРА'ЦЦА

СУБІРА'ЦЬ *гл.* САБІРА'ЦЬ

СУБО'НЯ *ж.* Мянушка цяляці, якое нарадзілася ў суботу. Вялікія Нястанавічы Лаг.

СУБРА'ЦЦА *гл.* САБРА'ЦЦА

СУБРА'ЦЬ *гл.* САБРА'ЦЬ

СУ'ВАЛКА *ж. бат.* Пырнік; карэнне пырніку. *Сувалка — карэння белая, доўгая, а лістоў няма. Бараной сувалкі насцягаваіць, яна толькі трэсь-трэсь.* Вузла Мядз. *Сувалка сціснула ячмень.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* літ. *sùvalka* 'тж'.

СУ'ВАРАТА *ж.* Балота, зараслае кустамі. *Сuварата — дзе кусты алешніка.* Нізок Уздз.; *парайн.* літ. *sùvarta* 'тж'.

СУ'ВАРНАСЦЬ *ж.* Прысмак варанай стравы. *Кісель мая сваю суварнасць і смак.* Старыя Смільгіні Воран.

СУВА'ЦЦА *незак.* Лезці. ∇ *Не знайшы броду, не сувайся у воду.* Перабродздзе Міёр.

СУВА'ЦЬ *незак.* ◇ *Сува́ць рыла* — лезці, умешвацца ў чужую справу. *Ні сувай, свіня, рыла ў чужы агарот!* Кураполле Паст.

СУВЕ'Й *м.* Гурба снегу, сумёт. *Сувей такі каля ганку — не прайсці!* Глівін Барыс. *Сувей вялікі надуло.* Рудня Чэрв.

СУ'ВЕРЦЕНЬ *м.* Скрутак, трубка. *Суверцень палатна. Сувертні круцілі і з дзеругі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СУВІРА'ЦЦА *гл.* СУВЯРА'ЦЦА

СУВІ'ТКАМІ *прысл.* Пакручасты. *Бывае сувіткамі бярэзіна, такая кручаная, як ракіта.* Лісна В.-Дзв.

СУВІ'СЦЯЛЬ *м. абрад.* Падарунак, падарак. *Добры сувісцяль прыносяць на хрысціны, на свадзьбу.* Жыдзевічы Іўеў. *Ідуць с сувісцялям на вяселя, на банкет, с сувісцялям ідуць у адветкі, як ідуць, то сувісцяль бяруць: булку, сыр, калбасу, хлеб, сланіну, масла — хто што мая. І свае родныя нясуць сувісцяль.* Бакшты Іўеў.

СУВО'ІНА *ж.* Тое ж, што і с у́ в е р ц е н ь. *Сувоіна палатна.* Рудня Чэрв.

СУВО'Й, СВОЙ *м.* Тое ж, што і с у́ в е р ц е н ь. *Сувой палатна.* Беняконі Воран. *Сувой палатна зверчываюць.* Бакшты Іўеў. *Тры губкі — сувой. Палатно пазоліш, папалошчыш і скачаеш на качалку ў сувой.* Азяраны Раг. *С палатна сувоі круцяць.* Гемзы Шальч. *Як выбеліш — скруціш сувоі.* Стральцы Шальч. *Палатно рэзалі на кускі па дзве-тры сцяны, выбяляць і скачаюць у свой. Свой палатна дала матка.* Жылі Іўеў. *Свой — тры губіцы.* Дакудава Лід. *Адзін свой у куфар клалі на паклат, у запас было.* Старыя Смільгіні Воран. *Свой палатна яшчэ маю.* Вялікія Баяры Шчуч. *У своі скручвалі палатно.* Старыя Трокі Трак. *У адным своі — чатыры губіцы.* Малахоўцы Бар. *Веле ты зрабіла свояў?* Новыя Мацалі Варэн. *У яе многа свояў палатна.* Кіралі Шчуч. *Куфры былі панакладаны свояў.* Жылі Іўеў. *«Ці шмат свояў мая маладая?» — так некалі пыталі:* Жыдзевічы Іўеў. *Дайней наччом свояў палатна.* Кудзялянцы Шальч. *Трэба палатно ў своі згарнуць.* Дзяніскавічы Ганц. *Паскатваюць палатно ў сваі.* Лапічы Асіп.; *парайн.* літ. *suvýti* 'звіць'.

СУВО'ЙЧЫК *памянш.* да с у в о́ й. *Сувойчык палатна ляжыць у скрыні.* Азяраны Раг. *Сувойчык палатна мая.* Жыдзевічы Іўеў.

СУВО'РКА *ж.* Повад, вяровачка. *Суворка — раменны пасак ці вяровачка. Доўга суворка, трэба карочша суворка звязаць коні, каб ішлі бліжэй.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *sąvaras* 'вяровачка'.

СУВО'РЫЦЬ *зак.* Звязаць (у пару). *Як гарэш ці барануеш парай коні, то трэба суворыць коні.* Мсцібава Ваўк.

СУВЯРА'ЦЦА, СУВІРА'ЦЦА *незак.* Сварыцца, лаяцца. *Не сувяраецца ён, мірна жывём.* Саланое Віл. *Надзя на свайго Івана сувіралася.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СУ'ГАНІ толькі *мн.* Загон поля ад разоры да разоры. *Сугані узароў.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СУГЛЕ'ІСТЫ *прым.* Падзолісты. *Там суглеістая зямля, нічога не расцець.* Мішневічы Шум. *Тут суглеістай зямлі ёсць.* Малькуны Ігн.; *гл.* г л е й.

СУГЛЕ'Й *м.* Падзол. *Суглей — дзе зімля спадзістая, дрэн-*

*ная, падзол.* Рагулішкі Даўг. *Суглей, а пад нізом вада, сыпун.* Мачаск Бярэз.

СУГЛІ'НКІ *мн.* Глеба, якая змяшчае ў сабе гліну і пясок. *Суглінкі у нас.* Месянцы Брасл.

СУ'ГНУЦЬ *зак.* Хуткім рухам пасунуць, усадзіць. *Сугнула ў печ бонды, каб спякліся.* Пацаўшчына Дзятл.

СУГО'РАК *м.* Узгорак, пагорак. *Там сугорак — бальшая горка.* Глівін Барыс.

СУГРО'Б *м.* Тое ж, што і с у в е́ й. *Намяло сугробы снегу — сугроб лі кожнай хаты.* Азяраны Раг.; *параўн.* руск. *сугроб* 'тж'.

СУГРЭ'БКІ, СУГРЭ'ПКІ толькі *мн.* Каласы і дробная сало́ма, што зграбаецца са змалочанага збожжа. *Сугрэбкі — дробныя адходы пры малацьбе.* Ракаўскія Швянч. *Сугрэпкі — гэта каласнік, што сугрэбвалі. Пойсалі сугрэпкі.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *sùgrėbos* 'тж'.

СУД, СУТ *м.* Суд. *Нет суду на яго.* Кемялішкі Астр. *Суду не было яму.* Валынцы В.-Дзв. *Сут яго судзіў.* Лісна В.-Дзв. *Хто ў суду быў?* Ёдлавічы Брасл. *Яго судом судзілі.* Вецярэвічы Пух. *Вінават, то вінават, то устанаві судам, зачэм збіваць чалавека?* Месянцы Брасл.

СУДАВА'ЦЬ *незак. экспр.* Абмяркоўваць, радзіцца. *Што яны там судуюць, гэтыя хлопцы?* Альхоўка Навагр.

СУДАВЫ' *гл.* САДАВЫ'

СУДА'К *м. заал.* Судак. *Судак — самая лепшая рыба, пахож на шчуку, толькі святлейшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Судак водзіцца ў нас, але мала.* Петкуны Брасл. ◇ *Судаку́ застава́цца* — пераходзіць у карыстанне чужым (пра маёмасць). *Вот робіш, робіш, а каму застанецца? — судаку, бо німа сваіх дзяцей.* Кузьмічы Люб. *Мая хата, мой сат — судаку застаўся. Судак — непрыяцель. Хто схопіць што ў хаце — той судак.* Вецярэвічы Пух.

СУ'ДАР *м. мед.* Сутарга. *Судар нагу ломя.* Рыбчына Віл.

СУ'ДАРГА *гл.* СУ'ТАРГА'

СУ'ДАЧКІ *гл.* СУ'ТАЧКІ

СУДА'ЧЫЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць, гаманіць. *Бегая і судача з хаты ў хату.* Рыбчына Віл.; *параўн.* руск. *судачить* 'тж'.

СУ'ДЖАНА *безас.* у знач. *вык.* Прызначана лёсам. *Не было мне суджана, таму не вышла замуш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не суджана мне пагібнуць.* Мсцібава Ваўк.

СУ'ДЖАНЫ *прым.* Прызначаны лёсам. *Ён быў суджаны на смерць ад нараджэння.* Ёдупка Шальч.

СУДЗІ'ЦЦА *незак.* Мець з кім-н. судовую справу. *Нам нада было судзіцца с панам.* Швэды Вільн. *Ён з роднай маткай судзіўся.* Руднікі Шальч.

СУДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Асуджаць, абмаўляць, ганіць. *Судзяць яе людзі.* Старыя Смільгіні Воран. *Проці мяне жывець сусетка — не магу яе судзіць.* Саланое Віл. *Адна адну судзіць, нада абсудзіць усіх.* Пераброддзе Міёр. *Сабраліся бабы і давай яе судзіць.* Гальшаны Ашм. ▽ *Не судзіця чужых дзевак — наву-*

*чыця сваіх дзетак!* Вузла Мядз. 2. *юрыд.* Разглядаць якую-н. справу ў адпаведнасці з судовымі законамі. *Судзя прыехала судзіць іх.* Ністанішкі Смарг. ◇ *Судзіць турмо́й* — судзіць на зняволенне. *За дно каліва махоркі судзілі турмой за Польшчай.* Жылі Іўеў.

СУДЗЬБА′ *ж.* Лёс. *У яго такая судзьба — захварэць або памерці.* Ністанішкі Смарг. *Каму судзьба, то і дома памрэць. Не судзьба наша.* Саланое Віл. *Каго прысніла, той самы прыехаў у сваты — судзьба мая.* Кудзялянцы Шальч. ∇ *Некалі казалі: «Ад судзьбы не увайдзёш! Судзьбу у свае сілы не вазьмёш!» Я то не веру у судзьбу, а другія верац, што ест судзьба на свеця.* Ёдупка Шальч.

СУДЗЬЯ′, СУДЗЯ′ *м.* і *ж.* 1. *юрыд.* Суддзя. *Судзья судзіць у судзе.* Кіралі Шчуч. *Судзя прыехаў.* Паляцкішкі Воран. *Судзя прыехала.* Ністанішкі Смарг. 2. Хто знеслаўляе, ганьбіць, абмаўляе. *Павесіўся чалавек — я не судзья яму.* Кудзялянцы Шальч.

СУ′ДЗЯ *зб. н.* Драўляны посуд. *Раньшы рабілі дзяравяная судзя, усё рабілі: балеі, вёдра, цабрэ.* Стральцы Гродз.

СУ′ДКІ *гл.* СУ′ТКІ I

СУ′ДНІК, СУ′ННІК *м.* 1. Паліца. *Суднік — паліца з полачкамі.* Рыбчына Віл. *Суднік для пасуды.* Індра Красл. *Суднік — полка для пасуды.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Суднік — дзе пасуда стаіць.* Ухвала Круп. 2. Прыстасаванне для сушкі лыжак. *Суднік ці суннік, куды лыжкі затаркаюць.* Саланое Віл. 3. Кубел. *Суднік — такі вушацік з клёпак на сала.* Азяраны Раг. *У сунніку муку, дабро, посуд дзяржалі.* Мачаск Бярэз.

СУ′ДНІЧАК *м. памянш.* да с у́ д н і к 1. *Суднічак быў: дзве дошкі і полкі пастаўлены.* Опса Брасл.

СУДНО′ I *н.* Пасудзіна. *У судно сцякаў дзёгаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У вялікім судне многа сала.* Мачаск Бярэз. *Набіралі свае судны ягод.* Азяраны Раг.

СУДНО′ II *н.* Карабель. *Калісь там судно потопілось.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СУ′ДНЫ *прым.* ◇ *Ніку́ды ні су́дны* — нікчэмны, нікуды не варты. *Спешчаная дзяўчына — ляля: яна нікуды ні судна.* Жылі Іўеў. *Пакуль баба цвіце — баба добра, а як перáквітла — нікуды не судна.* Каменка Шальч.

СУДОСЫ′ТЫ *зак.* Сустрэць. Сіманавічы Драг.

СУДОША′ТЫ *незак.* Сустракаць. *Набэру у кузню* [пасудзіну] *ягад, іду домой, а мэнэ дэты судошают, бо я нэсу у кузні ягоды.* Горск Бяроз.

СУ′ДЫ толькі *мн.* Два вядры вады, якія прыносяць за адзін раз. *Суды вады — два вядры, што нясуць на каромыслі.* Азяраны Раг. *Суды — два вядры вады.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Нада пяцёра судоў вады мне на дзень.* Ахрэмаўцы Брасл.

СУДЭ′МІ *прысл.* Сюды. *Судэмі ехаць будуць.* Галубы Маст.

СУЕТА′ *ж.* Мітусня, беганіна. *Суета мне с каровай — рашыла прадаць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *суета* 'тж'.

СУЖДЖЭ′ЦЬ *незак.* Насоўвацца з шумам, ветрам (пра хмару). *Суждэыць хмара — будзя дошч.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *šiugždėti* 'шастаць'.

СУ′ЗБІЦА *гл.* СУ′СПІЦА

СУЗДО′ЛІЦЬ *зак.* Змагчы, здолець. *Я ўжо стары — ні суздолію касіць.* Граўжышкі Ашм.

СУЗДРО′М *прысл.* Зусім, цалкам, поўнасцю. *Суздром прапалі мае гуркі!* Малыя Аўцюкі Калінк.

СУЗДРЫ′ЦЦА *зак. безас.* Падумацца. *Яна паглядзела на мяне, а мне адразу суздрылася, што яна так падумала: «Такая маладая — і ідзе за старога».* Малі Астр.

СУЗДРЫ′ЦЬ *зак.* Здагадацца, зразумець. *Я адразу суздрыла, што ў яго дзенех нет.* Малі Астр.

СУ′ЙМА *прысл.* у знач. *вык.* Хутка накіравацца куды-н., сунуцца, лезці. *Цяпер, калі госці бываюць, то дзеці — суйма да стала, гатовы пасесці, а даўней толькі з печы пазіралі.* Саланое Віл.

СУК *м.* 1. Тоўстая галіна. *Расахатая дрэва, сукі бальшыя, сукі крывыя.* Солы Смарг. *Сук атсек.* Альхоўцы Лях. *Сук велькі, сук тоўсты.* Кіралі Шчуч. 2. Засохлая галіна. *Сук голы, бэз атросткаў — гэто сухі сук, а так — галіна.* Дзяніскавічы Ганц. *Яловы сук сорак лет стаяў у агароджы.* Гальшаны Ашм. 3. *перан.* Адростак рога. *Я нашоўшы рогі на восем сукоў.* Замошша Брасл.

СУ′КА *ж.* 1. Сука. *У нас сабака, а гэта сука.* Кіралі Шчуч. 2. *перан. лаянк.* Жанчына, якая абгаворвае другіх, лаецца. *Ах ты сука! — Што ты там набрахала на мяне?* Кіралі Шчуч. *Сука ты сівая!* Альхоўцы Лях. *Яна, як сука, брэшыць на мяне.* Пераброддзе Міёр.

СУКАВА′ТЫ *прым.* Галінасты. *Сукаватая дзерава стаіць на полі.* Старыя Смільгіні Воран. *Сасна сукаватая — толькі на дровы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Натта жэртка сукаватая, нада яе добра ацерабіць.* Гемзы Шальч. *Сукаватая палена — на адных сукох.* Кіралі Шчуч.

СУКА′ДЛА, СУКА′ДЛО *н., ткац.* Прылада для навівання нітак на цэўкі. *Сукадла было, сукалі цэўкі на сукадла.* Рыбчына Віл. *На сукадла навіваюць цэўкі.* Жодзішкі Смарг. *Сукадла, што некалі цэўкі сукалі.* Альхоўка Навагр., Кіралі Шчуч. *Сукадла, што сучаць цэўкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сукадло круцілася і на цэўку маталася нітка.* Баброўнікі Гарад.

СУКА′ЙЛО *н.* Тое ж, што і с у к а́ д л а. *Было сукайло цэлкі сукаць.* Міратычы Карэл. *Цэлкі сучаць на сукайло.* Дзяніскавічы Ганц.

СУКА′ЛА, СУКА′ЛО *н.* Тое ж, што і с у к а́ д л а. *Цэўкі сучылі на сукала.* Саланое Віл. *На сукала сучуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Было сукала і цылкі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Сукало,*

*што сукаць на цэўку пражу.* Альхоўцы Лях. *Калаўродак цяпер, а некалі было сукало.* Дакудава Лід. *Сукала было — надзета калясо такоя дзеравяноя. Сукалам кожны сучыць цэўкі мох.* Слабада Мін.

СУКАЛЕ′НКІ *мн. анат.* Суставы пальцаў. *Сукаленкі на руке ўдарыў.* Мішневічы Шум.

СУКАЛЕ′НЦЫ *мн.* 1. Тое ж, што і с у к а л е́ н к і. *Сукаленцы збіў, як падаў.* Мачаск Бярэз. 2. *бат.* Вузел кушчэння. *Сукаленцы ў хвошчыку.* Рудня Астравітая Чэрв.

СУКА′ЛКА *ж.* Тое ж, што і с у к а́ д л а. *Сукалка, што цэўкі сукаць.* Лапічы Асіп.

СУКА′ЛО *гл.* СУКА′ЛА

СУКА′ЛЬНІК *м. ткац.* 1. Станок для снавання красён. *Быў сукальнік такі: зроблена кола, на шнюрку кола навязана — і снавалі. Цяпер сукальніка няма.* Магуны Паст. 2. Сукала. *Сукальнік, што на цэўку сукаць.* Лука Нараўк.

СУ′КА′НЫ *дзеепрым.* Скручаны, звіты з дзвюх столак у адну. *Даўней былі су́каныя ніткі льняныя для шыцця.* Парэчча Гродз. *Ніты — з нітак сука́ных, як шпагат.* Падгаі Мін.

СУ′КАРАТКА *ж.*, СУ′КАРАТКІ *мн.* Закрутка на крутой нітцы. *Сукараткі на нітках.* Лоск Валож. *Крутыя ніткі ў сукараткі бягуць.* Рудня Чэрв. *Кепска страсціла ніткі, крута, сукаратак многа.* Альба Нясв. *Еслі крутая пража, палучаюцца сукараткі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Усё пакруцілася ў сукараткі.* Мачаск Бярэз. *Крутыя ніткі — сукараткі пашлі.* Кураполле Паст. *У сукараткі пашло — крута спрадзена.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Крутыя ніткі с сукараткамі.* Малі Астр. *Сукараткі не даюць матаць — крута папрала.* Азяраны Раг.; *параўн.* літ. *sūkarka* ’тж’.

СУ′КАРЫЦЦА *незак.* Скручвацца ў закруткі. *Сукарацца ніткі, як крутыя.* ПерабродДзе Міёр.

СУКА′СТЫ *прым.* Тое ж, што і с у к а́ в а́ т ы. Пасека Ст.-Дар.

СУКА′ТЫ *прым.* Тое ж, што і с у к а в а́ т ы. *Як сукатая дрэва, то па сукох лезуць, а не — так драбіну нясём.* Быстрыца Астр.

СУКА′ЦЬ, СУКА′ТІ *незак.* 1. Скручваць дзве ніткі ў адну. *Сукалі ніткі шыць.* Дзяніскавічы Ганц. *Трэба сукаць ніткі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ніткі сукаць.* Лука Нараўк. *Прынэсі коврутка, буду ніткі сукаті, сукана нітка муцнейша.* Курашэва Чыж. 2. Намотваць. *Сукай цэўкі!* Бенmuse Беняконі Воран. *Бярэш цэўку і сукаіш у калаўрот.* Солы Смарг. 3. *перан. экспр.* Паносіць, лаяць, сварыцца. *Ён сукоў, сукоў яго, хацеў выцяць, але не выцяў.* Вецярэвічы Пух.

СУКА′Ч *м.* Закручаная, зблытаная нітка. *Такого сукача нэ розбронтаеш.* Курашэва Чыж.

СУКАЧЫ′, СУКАЧЭ′ *мн.* 1. Скручаныя пасмы конскай грывы. *Ласачка ў сукачы круціць грыву каню.* Мсцібава Ваўк. 2. Бруд на целе. *Гразнае цела, аш сукачы засукваюцца. Сука-*

*чэ — як намочыш руку ці што і гразь качаецца.* Галубы Маст.

СУКЕ'НКА *ж.*, СУКЕ'НЬКІ *мн.* Верхняе жаночае адзенне, плацце. *У яе бела сукенка была. Трэба злажыць сукенку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Трэба сукенку пашыць.* Навасёлкі Свісл. *Тры рублі сукенка, купіла ў магазіне.* Вецярэвічы Пух. *Ехала купляць сукенку.* Старыя Трокі Трак. *Купіла сукенку новую. Калісь сукенкі шылі просценькія.* Гемзы Шальч. *Длугія сукенкі насілі.* Грыкені Вільн. *Едвабна сукенка надзета, стаіць у бокі ўпёршыся. Кліны ў сукенцы дубуяць, як папрасую — добра будуць ляжаць.* Малі Астр. *У адных сукенках пашлі — цёпла.* Гальшаны Ашм. *Адзежы быў прыслаўшы, сукенак.* Груздава Паст. *На сукенькі купляя.* Вострава Маст. *Сукенькі шылі дзецям з плаценка — паска чорна, паска бела і ператкана то белым, то чорным.* Кіралі Шчуч. *Сукенькі ў дзяцей былі падраныя.* Кудзялянцы Шальч. *Сукенькі памыла.* Граўжышкі Ашм. *Сукенькі там пазабіраўшы.* Новыя Мацалі Варэн.; *параўн.* польск. *sukienka* 'тж'.

СУКЕ'ННЫ *прым.* Суконны. *Даўней рукавіцы сукенныя насілі.* Стральцы Гродз.; *параўн.* польск. *sukienny* 'тж'.

СУКЛЯРО'С *м. мед.* Склероз. *У мяне сукляроc, я ня помню.* Ахрэмаўцы Брасл.

СУКМА'НКА *ж.* Кароткая жаночая верхняя адзежына. *Сукманка кароткая, як куртка.* Васілевічы Гродз.

СУКМА'НЫ *мн.* Світкі. *Даўней сукманы с сукна ткалі і шылі.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *sukmana* 'світка'.

СУКНАВА'ЛКА *ж.* Сукнавалка. *Тут сукнавалка была.* Багушэвічы Бярэз., Новая Ніва Чэрв.

СУКНІНА' *ж.* Суконныя ніткі, сукно. *По кужэлеві поткано сукніною.* Смаляніца Пруж.

СУКНО' *н.* Тканіна з авечай воўны. *Сукно нігды не цераець фасон, абы дзе ладзіць.* Малькуны Ігн. *Бурнос шылі с сукна.* Гальшаны Ашм. *Выткуць ангерку с сукна.* Васілевічы Гродз. *З воўны ткалі сукна.* Навасёлкі Лід.

СУ'КНЯ *ж.* 1. Выхадная, святочная сукенка. *Адзень сукню! Для красаты ўстаўлялі ўстаўкі з другога матэрыялу кругом сукні.* Солы Смарг. *Ладна сукня.* Беняконі Воран. *Каб, здэцца, сукню меў такую!* Галубы Маст. *Сукня нова ў яе. Сукню купіла ладную.* Паляцкішкі Воран. *Сукню прывезла Аньцы з кароткімі рукаўкамі.* Пацаўшчына Дзятл. *Едзьма купім на сукню мацца. Учора адзела сукню, а сёня — адымачка: так зблоціла.* Малі Астр. 2. Шлюбная сукенка. *Белую сукню злажылі маладой.* Старыя Смільгіні Воран. *Сукня доўгая суцэльная, шылі маладой. Паркаль куплялі і тожа шылі сукні.* Ракаўскія Швянч. *Маладая пашыла сукню доўгую.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *suknia* 'тж'.

СУКНЯ'НКА *ж.* Суконная світка. *Шылі світкі, суконкі, сукнянкі.* Ухвала Круп.

СУКО'БА *ж. перан. лаянк.* Сука. *Сукоба ты! Што ты брэшаш на мяне?!* Вялікія Баяры Шчуч.

СУКО'ЛЫ *мн.* Два перавітыя віткай калкі ў плоце. *Суколы — парныя калы; перавязываюць суколы перавіткай.* Лісна В.-Дзв.

СУКО'НЕНКА *ж.* Суконная хустка сярэдняй велічыні. Азарычы Пін.

СУКО'НКА *ж.* Тое ж, што і с у к н я́ н к а. *Суконкі і світкі шылі.* Ухвала Круп.

СУКО'ННІК *м.* Суконная даматканая спадніца. *Мы даўней суконнік насілі.* Янова Рас.

СУКО'ННІКІ толькі *мн.* Даматканыя суконныя штаны. *Даўней суконнікі на зіму шыюць, а летам — у белых штанах.* Рудня Чэрв. *Надзень суконнікі — цяплей будзя!* Ухвала Круп. *Суконнікі ткалі з чыстага сукна, мушчыны насілі суконнікі.* Вузла Мядз.

СУКО'ННЫ *прым.* 1. Зроблены з сукна, пашыты з суконнага матэрыялу. *Ганучка суконная на печы ляжыць.* Гемзы Шальч. *На базары купів суконну ясёнку.* Курашэва Чыж. *Спадніцы суконныя насілі.* Вузла Мядз. 2. Шарсцяны. *Я мела маткоў суконных.* Парэчча Гродз. *Суконны ўток.* Васілевічы Гродз.

СУКО'ННЫ ЛАПУ'Х *м. бат.* Лопух. *Суконны лапух, што шышкі растуць.* Дэгшні Шальч.

СУ'КРАВАТКА *ж.* Тое ж, што і с у́ к а р а т к а. *Сукраваткі лятуць, натта ўкручаны ніткі.* Ракаўскія Швянч. *Напрала крута, плоха снаваць — нітка бярэцца ў сукраваткі.* Кіралі Шчуч. *Нітка ў сукраваткі збягаяцца.* Збляны Лід.

СУКРАВА'ТЫ *прым.* Крутавата спрадзены. *Сукраватыя ніткі твае.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *sukrùs* 'тж'.

СУ'КРАВІЦА I, СУ'КРАВЫЦЯ, СЫ'КРАВІЦА *ж.* 1. Крывяністая вадкасць. *Сукравіца з раны ідзе.* Пацаўшчына Дзятл. *Сукравіца цячэ.* Альхоўцы Лях. *Путэкла сукравыця з ранэ.* Радастаў Драг. *Крові ныма, оно сукравыця тычэ.* Сіманавічы Драг. *Сыкравіца сочыцца, кроў не ідзе.* Кузьмічы Люб. 2. Крывавыя гнойныя выдзяленні. *Сукравіца — кроў з гноем з скулы.* Галубы Маст. *Сукравіца сочыцца, як паляц абрывая.* Рыбчына Віл. *Болька, нарыў праре — ужо сукравіца пашла.* Вецярэвічы Пух. *З раны цячэ гной, а потым сукравіца.* Номікі Бабіц. *Вот нарвала скула, выцісніла брут, а ціпер сукравіца ідзе.* Кіралі Шчуч.

СУ'КРАВІЦА II *ж.* Тое ж, што і с у́ к а р а т к а. *У сукравіцы пашлі ніткі.* Каўняны Гродз.

СУ'КРАК *м.* Лядзяш. *Як са страхі цячэ і замерзне — то сукрак.* Кузьмічы Люб.

СУКРА'К *м.* Аскепак хваёвага карча. *Смольны сукрак добра гарыць.* Пасека Ст.-Дар.

СУ'КРАТ *м.* Тое ж, што і с у́ к а р а т к а. *Сукраты на нітках.* Валынцы В.-Дзв.

СУ'КРАТАК *м.* Скрутак ільновалакна. *Пяць павесмаў лёну круцяць у сукратак.* Мсцібава Ваўк.

СУ'КРАТКА *ж.* 1. Тое ж, што і с у́ к а р а т к а. *А-ей, напра-*

*ла! — Аднэя сукраткі.* Быстрыца Астр. *Нітка ў сукраткі збіраецца.* Гемзы Шальч. *Ніткі пашлі ў сукраткі.* Рагулішкі Даўг. *Сукраткі на нітках, як крутыі ніткі.* Валынцы В.-Дзв. *Сукратка на ніцях.* Мсцібава Ваўк. 2. Вязка скручанага сена. *У сукратку скруціць тое сена.* Вецярэвічы Пух.

СУКРУ'ТАК *м.* Скрутак. *Сукрутак палатна.* Семежава Кап.

СУКРЫ'СТЫ *прым.* 1. Кучаравы. *У яго сукрыстыя валасы — самі завіваюцца.* Лісна В.-Дзв. 2. Крута спрадзены, ссуканы. *Сукрыстая нітка.* Чычалі Швянч. *Ніткі сукрыстыя: спралі сільна крута.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *sukrùs* 'круты'.

СУКРЯЦЫ' *мн. ткац.* Сукараткі, launcheratkanыя ў палатне. *Сукрец нарабіла ў палатне.* Мішневічы Шум.

СУЛА' *ж.* Бярозавы сок. *Ідзі напусці сулы, як многа націякець сулы, так і карове даець.* Малькуны Ігн. *Бярозавая сула салодкая.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *sulà* 'тж'.

СУЛА'ДЗІЦЬ *зак.* Паладзіць. *Яму з людзьмі усімі нада суладзіць.* Груздава Паст.

СУЛА'ДНА *прысл.* Мірна, дружна, лагодна. *Маладыя міс сабою жывуць суладна.* Бакшты Іўеў.

СУЛІ'ХА *ж.* Той, хто многа чаго абяцае. *Суліха і нідаха — родныя сёстры.* Мішневічы Шум.

СУЛІ'ЦЬ, СЮЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Прапаноўваць, даваць. *Запрашаюць цану — суліш яму палавіну дзенег.* Замошша Брасл. *Суліла яму есці — ён ня еў.* Мярэцкія Глыб. *Стала сюліць мне піць. Есці я вам не сюлю.* Ракаўскія Швянч. *Сюліла, сюліла, а яна не прынялася есці.* Быстрыца Астр. *Што ты мне сюліш мала?* Магуны Паст. 2. Абяцаць. *Ён усё суліць, а выпалніць не можыць.* Мыто Лід. 3. Жадаць. *Не сулі ты мне плахое!* Беразіно Докш. *Той мне добра суліў, а гэны зло пасуліў.* Рыбчына Віл. *Яна мне суліла добрага, а другая — благога суліць.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* руск. *уст. сулить* 'абяцаць'; літ. *siũlyti* 'суліць, прапанаваць'.

СУЛО'ТАЦЬ *незак.* Мачыць слюной, лізаць. *Цялёнак сулотаў мне кофту.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *sulótis* 'сачыцца'.

СУЛЯ'ЦЬ *незак.* Прапаноўваць. *Я ей кольцу* [кальцо] *і не суляла. Золата суляюць.* Чычалі Швянч.

СУ'МА' *ж.* Пэўная колькасць грошай. *Даю гэту су́му грошы.* Гемзы Шальч. *З гэтае сумы́ сто пяцьдзесят злотых уплаціў.* Альхоўцы Лях. *Ачапілі хату, заклалі першы вянок — ставяць гаспадары бутэльку, акрамя сумы́,— грошы потым.* Гальшаны Ашм.; *параўн.* руск. *сумма* 'тж'.

СУМЕ'НЯ *н.* Сумленне, характар. *У яго суменя мякчэйшая — ён плача па сыну.* Гемзы Шальч. ◇ *Мець суме́ня, прыслу́швацца суме́ня* — быць сумленным, сумленна пастулаць. *Трэба суменя мець — дурна не рабіць.* Ёдупка Шальч. *Ты далжна прыслушвацца свайго суменя, сама сябе.* Дэгшні Шальч. *На сумені мець* — непакоіцца, трывожыцца. *Пахавалі яго добра — на сумені мець не будзям.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *sumienie* 'тж'.

СУМЕ'ЦЦА *зак.* 1. Занудзіцца, засумаваць, замаркоціцца. *Ён сумеўся, і яна сумелася, нешта скучная.* Мярэцкія Глыб. 2. Спалохацца, разгубіцца, збянтэжыцца. *Як я стала гаварыць усё, яны сумеліся троха. Паказаў ён, дзе было закопана, той спужаўся, сумеўся.* Вецярэвічы Пух. *Баба сумелася.* Альхоўцы Лях.

СУМЕ'ЦЬ *зак.* Здолець, змагчы. *Яна і сама сумея зрабіць.* Міратычы Карэл. *Кап ты сумела песню спіяць.* Буды В.-Дзв.; *параўн.* руск. *суметь* 'тж'.

СУМЁТЫ *мн.* Гурбы. ∇ *Міхайлаўскія сумёты не зімуюць: яшчэ гэты снег згоніць.* Мішневічы Шум.

СУ'МКА *ж.* 1. Ранец. *Дзеці ксёншкі носяць у сумцы, трэба сумку купіць Лёніку.* Гемзы Шальч. 2. Сумка, у якой носяць прадукты. *Рукі мне ужо атарваліся ат сумак.* Пераброддзе Міёр.

СУМЛЕ'ННЫ *прым.* Сумленны. *Еслі чалавек сумленны, то будуць жыць.* Дакудава Лід.

СУМЛЯВА'ЦЦА *незак.* Сумнявацца. *Ана сумляваецца, што гэта ён зробіў.* Месянцы Брасл.

СУ'МНА *прысл.* Надта многа. *Бяроскі на бульбі сумна-сумна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сумна, што было гадаўя.* Вецярэвічы Пух.

СУМНАТА' *ж.* Натоўп, гурт, вялікае мноства. *Дзе куча збярэцца людзей — кажуць: «Сумна, сумната людзей».* Вецярэвічы Пух.

СУМНАЦЕ'ННЯ *н.* Тое ж, што і с у м н а т á. *Як пойдзеш у ягады — у леся сумнацення, сколькі людзей: адно на дном.* Вецярэвічы Пух.

СУМУВА'Р *гл.* САМАВА'Р

СУМЫ'СЛЯ *прысл.* Наўмысна. *Сумысля ўрача паклікаў.* Навіны Нясв. *Сумысля сабяромся і пайдзём у лес.* Палік Барыс.

СУ'МЯРАК *м.* 1. Змрок. *Сумярак прыдзя.* Граўжышкі Ашм. 2. У знач. *прысл. на сýмярках.* У час змроку. *Ён на сумярках прыехаў.* Старыя Смільгіні Воран.

СУ'НАЗДКІ *мн. ткац.* Вяровачкі для падвешвання нітоў. *У кроснах суназдкі: кацюлкі работаюць імі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СУНДУ'К *м.* Куфар. *Было ў мяне ў сундуку дваццаць своях.* Слабада Мін.; *параўн.* руск. *сундук* 'тж'.

СУНІМА'ЦЦА *незак.* 1. Сціхаць, пераставаць. *Дош не сунімаецца. Не сунімаецца вецяр.* Вецярэвічы Пух. 2. Спыняцца, прыпыняцца. *Ні хоча тут сунімацца аўтобус — ідуць людзі да паваротки.* Рудня Астравітая Чэрв.

СУНІМА'ЦЬ *незак.* 1. Прыпыняць, спыняць. *Ён сунімая каня, хто едзе на кані — сунімая.* Азяраны Раг. 2. Спыняць цячэнне (пра кроў). *Падбел кроў сунімая.* Пасека Ст.-Дар.

СУНІ'ЦА *ж.*, СУНІ'ЦЫ *мн.* Суніца. *Суніца ад сэрца, ад кашлю.* Беразіно Докш. *Паспелі суніцы.* Дзяніскавічы Ганц. *У суніцы пойдам.* Пасека Ст.-Дар. *Суні[...]бірала.* Рудня Астравітая



Чэрв. *Суніцы па нашым леся латочанамі растуць.* Вузла Мядз. *Суніцы растуць вялізныя, здаравенныя.* Кузьмічы Люб.

СУНІ'ЧНІК *м. бат.* 1. Ягаднік суніц. *Сунічнік сушаць.* Беразіно Докш. *Сунічнік—пярвейшая зелля ат праступы, ат цімпіратуры.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. 2. Навар з сунічніку. *Сунічнік п'юць ад сэрца, ад кашлю.* Беразіно Докш.

СУ'ННІК *гл.* СУ'ДНІК

СУНО'ЖКІ толькі *мн.* Планкі, што змацоўваюць ножкі стала, табурэта. *Суножкі ў сталу, у табурэтцы, дзе ногі чалавек ставіць.* Ухвала Круп.

СУ'НУЦЦА *незак.* 1. Высоўвацца. *Віджу — сунецца з вакна.* Малышы Лід. 2. *экспр.* Ледзь рухацца, павольна ісці. ∇ *Сунецца, як вош. Апікула ты!* Дэгшні Шальч. 3. *перан.* Сімпатызаваць каму-н., хінуцца. *Баба красівая — мушчыны сунуцца да яе.* Кіралі Шчуч. 4. *зак.* Намерыцца. *Ён вродзі сунуўся да яе біцца.* Малі Астр. 5. Грозна напасці, накінуцца. *Дзікія свіні як сунуцца да цябе: могуць парваць на кавалкі.* Курaполле Паст. *Сабака суніцца за катом, кот — на плот і муся ўдраць.* Гемзы Шальч. *Наш пятух як сунуўся да сусецкага, дык той паляцеў прас плот, аш пёры паляцелі.* Ахрэмаўцы Брасл.

СУ'НУЦЬ *незак.* 1. Пасоўваць, ставіць. *Насыпала бульбы ў гаршчок, вады не ўліла і суніць у печ.— Нашто ты суніш без вады?! — А мама сказала, што і так поўна.* Курaполле Паст. 2. Цягнуць. *Воўк суня хвост.* Вулька Гродз. 3. Укладаць, усоўваць у што-н. *Сунь руку ў кішэнь!* Вялікія Баяры Шчуч. *Суня руку — мянтузы пад каменямі.* Дэгшні Шальч. *Ня сунь пальчыкаў у агонь — упячэш!* Стральцы Шальч. 4. *перан., экспр.* Ісці. *Усе да міне сунуць.* Дэгшні Шальч. 5. *зак.* Пакласці ў што-н. *Дайней сусла зробяць: кашы картафлянай у анучку сунуць і даюць дзецям.* Збляны Лід.

СУНЯ'ЦЦА *зак.* 1. Перастаць ісці, сціхнуць. *Дош суняўся.* Вецярэвічы Пух. *Вецяр суняўся і дошч.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Спыніцца, стаць, затрымацца. *Суняўся трактарысты.* Рудня Астравітая Чэрв. *У абозе яго раніла — суняліся паглядзець яго.* Азяраны Раг. *Паглядзіця, ці каля мяне суняўся?* Вецярэвічы Пух. *Машына суняласа і стаіць.* Пасека Ст.-Дар.

СУНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Запыніць, затрымаць. *Суняў каня, як бёх.* Рудня Астравітая Чэрв. *Я каня суняла, сама з возу злезла і стаю.* Зацітава Слабада Пух. *Сунялі аўтобус. Каб суняць клейню, крычаць: «Бяры на рала!» Нітка завязалася вузлом — суняла матаць.* Азяраны Раг. 2. *мед.* Затрымаць, спыніць кровацячэнне. *Крыві не суняць!* Вецярэвічы Пух. 3. Супакоіць. *Як плача дзіця, дак яго суніміш, скажаш: «Вэн кусюля, пазірай!»* Азяраны Раг.

СУО'К *гл.* СОК

СУО'ШКА *гл.* СО'ШКА I

СУП *м.* 1. Крупнік, суп. *Грыбны суп вару.* Гемзы Шальч.

*Калісь суп варылі з лебяды.* Гальшаны Ашм. 2. Булён. *С сухой рыбы суп варылі картафляны.* Пераброддзе Міёр.

СУПАДА'ЦЬ *незак.* Зліванца ў адно рэчышча. *Бераспоння — там рака Поня і Бярэзіна супадаюць.* Беразіно Докш.

СУ'ПІК *м. памянш.* да с у п 1. *Такі супік вару: жменьку куцці — і прыскварыць.* Навасёлкі Свісл.

СУ'ПЛЯЧ *прысл.* Поплеч. *Стаяць супляч вучні, у рад станавяцца.* Ністанішкі Смарг.

СУПО'Л *м.* Вузел на нітцы, вяроўцы і інш. *Такого супла нэ розвэжу.* Курашэва Чыж.

СУПО'ЛКА *ж.* Група людзей за супольнай работай. *Іх ніхто ні хацеў браць да суполкі: яны адныя жнуць.* Тупічаны Ваўк.

СУПО'ЛНІЦЦА *зак.* Здзейсніцца, збыцца, спраўдзіцца. *Тое, што прыснілася, не суполніцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *исполниться* 'тж'.

СУПО'ЛЬНІКІ *мн.* Суседзі. *Нашы дварэ радам — мы супольнікі.* Кіралі Шчуч.

СУПО'ЛЬНІЦА *ж.* Жаночая кашуля, сарочка. *Супольніца длінна — да кален.* Малахоўцы Бар.

СУПО'НЬ *ж.* Супоня. *Супонь у хамуце.* Мешкінева Лудз., Чычалі Швянч., Грыкені Вільн., Бенаконі Воран. *Супонь заводзіцца ў дзюру, у кляшчу. Супонь сцягвая хамут.* Гемзы Шальч. *Супонь трэба туга зацягнуць.* Крэва Смарг. *Дзе супонь: каня трэба засупоніць.* Быстрыца Астр. *Супонь сцягвая хамут.* Жодзішкі Смарг.

СУПО'НЯ *ж.* Тое ж, што і с у п о́ н ь. *Супоня — хамут засупоніць.* Мярэцкія Глыб. *Супоня — клешчы сцягваць хамута.* Навікі Лудз. *Кладзецца хамут, у хамуце гужы зацягваюцца, кладзецца дуга, аглоблі прыстаўляюцца, а патом супоняю сцягваецца, кап дзяржала крэпка.* Пацаўшчына Дзятл. *Супоня такая, з вяровак плялі самі.* Чуркі Ашм. *Раменна супоня — найлепша.* Курашэва Чыж. *Зацягваюцца супоняю клешчы.* Калясное Міхал., Лука Нараўк., Кіралі Шчуч., Рудня Астравітая Чэрв.

СУПРА'ГАЙ *прысл.* Парай коней. *Будуць гараць супрагай.* Номікі Бабіц.

СУПРО'ХАМ *прысл.* Молячы. *Супрохам просіць адалжыць грошай.* Мішневічы Шум.

СУПРО'ЦІЎ *прысл.* Супраць. *Супроціў жывець мой сын.* Рыбчына Віл.

СУПУ'ЛЬНЫ *прым.* Агульны, супольны. *У нас паставілі супульную лазню.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *wspólny* 'тж'.

СУПУСТА'Т *м. абразл.* Супраціўнік, нягоднік. *Ах ты супустат!* Якубова Рас.

СУПУ'ЦІЦЦА *зак.* Адумацца, прыйсці да розуму, супакоіцца. *З часам і ён супуціцца, як паразумнее.* Рудня Астравітая Чэрв.

СУПЫНІ'ЦЦА *зак.* Спыніцца, затрымацца. *Яны прывезлі яго і супыніліся каля нас.* Рудня Астравітая Чэрв.

СУРАВЕ'ЖЫ, СУРАЕ'ЖЫ *мн. бат.* Сыраежкі. *Мы суравежы бяром, суп з іх салаткавы.* Ухвала Круп. *Сураежы тут растуць, красныі сураежы гаркаватыі.* Валынцы В.-Дзв.

СУРАВІ'ЗНА *ж.* 1. Суравое палатно. *Суравізна — палатно, якое не бялілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Суравізна — нявыбяляная палатно.* Магуны Паст., Быстрыца Астр. *Суравізна — неадбеленая палатно.* Падгаі Мін. 2. Рудая вада ад суравога палатна. *Палатно залівалі вадою, вот і нацягнула суравізны.* Кіралі Шчуч. *Суравізна рудая, як моем лугам.* Ракаўскія Швянч. *Ад жаўтачкі суравізну запараць і дзіця парацць.* Завельцы Астр. *Дайней у суравізня купалі дзяцей ад жаўтухі.* Рыбчына Віл. 3. Суравы, руды колер. *Суравое палатно; сонца скора выцягвае суравізну.* Крэва Смарг. *Суравізна з палатна выходзіць.* Кіралі Шчуч. *Раса выядая суравізну.* Дакудава Лід. 4. Балота, дзе ёсць іржавая вада. *Пры балотах такая суравізна, гразка месца, ржа там.* Чычалі Швянч.

СУРАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і с у р а в і з н а 3. *Трэба палатно замачыць, кап суравіна сышла.* Бакшты Іўеў.

СУРАВЫ' *прым.* Неадбелены, вытканы з неадбеленага льну. *Суравыя ніткі красілі.* Слабада Мін. *Суравоя палатно, а тады белім яго.* Завельцы Астр. *Суравое палатно мачылі ў лузе с попелу.* Навасёлкі Лід. *Суравое палатно толькі вытканае.* Беняконі Воран. *Суравоя палатно — калянае палатно.* Мярэцкія Глыб. *Па суравым палатне вышывалі.* Солы Смарг. *Суравая аснова была, а ткалі крашаным: чорным, рудым — шарачак звалі.* Вузла Мядз. *Па белай аснове тчэцца суравымі ніткамі.* Гемзы Шальч. *Суравое палатно — як нетбелена.* Малышы Лід. *Суравыя ніткі моцныя.* Гальшаны Ашм. *Некалі ніці суравыя былі, флёркі насыпіш і беліш.* Чуркі Ашм.

СУРА'ГІ *мн.* Рагі. *Мокрыя вокна — сурагі цякуць.* Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* літ. *srúogos* 'тж'.

СУ'РАДА *прысл.* Змалку, ад маленства. *Сурада прывыкла браць толькі гэтыя грыбы.* Вузла Мядз.

СУРАЕ'ЖЫ *гл.* СУРАВЕ'ЖЫ

СУ'РАМЯЦЬ, СУ'РАМЯЗЬ *гл.* СЫ'РАМЯЦЬ

СУРАЯ'ТКА *ж. бат.* Сыраежка. *Сураяткі растуць каля ройста.* Дэгшні Шальч.

СУРВІТУ'Т *гл.* САРВІТУ'Т

СУРВЭ'ТА, САРВЭ'ТА *ж.* Абрус, настольнік. *Сяганя сурвэту нада памыць.* Груздава Паст. *Палатно на наўлечкі, на сурвэты ткалі.* Ракаўскія Швянч. *Ніхай твая дачка спрадзець, вытчыць і прынясець мне заўтра сурвэту!* Русакі Паст. *Сурвэта с кутасамі.* Ёдлавічы Брасл. *Сарвэта з фрэзлямі.* Кемялішкі Астр.; *парайн.* польск. *serweta* 'тж'.

СУР'Ё'ЗНА *прысл.* 1. Сур'ёзна. *Яна сур'ёзна атказувалася і*

*атказувалася.* Кураполле Паст. 2. Цяжка. *Ён сур'ёзна хварэў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *серьезно* 'тж'.

СУР'ЁЗНЫ *прым.* Злы, куслівы. *Гадзюкі не велькія, але сур'ёзныя.* Гемзы Шальч.

СУРМАЛІ'НА *ж.* Ажыны. *Сурмаліны прынёс многа — поўнае вядро.* Мішневічы Шум.

СУ'РМЕТКА *ж.* Папруга, повад з сырамяці. *Сурметка — пасак з сурмязі. Сурметкай можна суворыць коні.* Мсцібава Ваўк.

СУРО'ДАВАЦЬ *зак.* Знявечыць, скалечыць. *Ня слухая мяне — суродуе яе.* Крэва Смарг.; *параўн.* руск. *изуродовать* 'тж'.

СУРО'ЖЫЦЦА *зак.* Скасавурыцца; узлавацца, пагражальна глянуць. *Адзін раз я замоцна крыкнула на яе — ён сурожыўся да мяне: «Што вы дзелаеця з рабёнкам!»* Гемзы Шальч.

СУРО'КІ толькі *мн.* Хваробы і іншыя няшчасці, якія, паводле традыцыйнага ўяўлення, прычыняюцца ад нядобрых «благіх вачэй». *Сурокі ўзялі дзіця!* Ухвала Круп. *Яму стала с сурокаў.* Рыбчына Віл. *Ты захварэла с сурокаў.* Беразіно Докш. *Захварэла дзіця ад сурокаў.* Глівін Барыс.

СУРО'ЧЫЦЬ *зак.* Пашкодзіць каму-н., прычыніць хваробу позіркам «благіх вачэй». *Сурочыла дзіця — крычыць цэлы дзень.* Беразіно Докш. *Сурочылі яе, яна вока баіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сурочыў чараўнік майго ўнука, курацъ нада, упуднічкам паіць — трава такая ёсць.* Валынцы В.-Дзв. *Сурочыць, як у каго благія вочы: як маці аднімя ад грудзі дзіця, патом пажалея і зноў дасць грудзі, такоя дзіця ўрэдная будзя для чужых і для сябе, будуць у яго вочы благія, будзя сурочыць.* Рыбчына Віл. *Калі шкодныя очы ў каго, то заўсёды сурочыць.* Малі Астр.

СУРУ'ГІ *мн.* Тое ж, што і с у р а́ г і. *Адлёга — суругі пашлі па вокнах.* Ісерна Слуц.

СУСЕ'Д, САСЕ'Д, САСЕ'ДЗЬ *м.* Сусед. *Дзе будзя сусед добры?!* Рыбчына Віл. *Пазбіраліся суседы.* Гемзы Шальч. *І я тут постою, і нашы суседы.* Смаляніца Пруж. *Суседы бралі ў нас ваду.* Паляцкішкі Воран. *Суседзя падмовяць — і ён краў.* Новікі Гродз. *Многа суседаў прышло.* Ністанішкі Смарг. *Няма дома маіх сусядоў.* Альхоўка Навагр. *Суседам даў, што было ў яго.* Гемзы Шальч. *Ён злосны, як сабака, с суседзямі.* Парэчча Гродз. *Саседзі праехалі за намі.* Пасіене Лудз. *Як сказала я саседзю тое, ён смяяўся.* Дзераўное Стаўб. ▽ *Ня йшчы добрай сялібы, а йшчы добрага суседа! — гэта прыказка правільная.* Рыбчына Віл. *Калі не знаеш, што ў доме робіцца, то схадзі да суседа, ён усё раскажыць.* Вузла Мядз.

СУСЕ'ДКА, СУСЕ'ТКА *ж.* Суседка. *Чы нэ до суседкі вышла?* Смаляніца Пруж. *Наша сусетка тчэць.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Тры сусеткі не начавалі ўдома. Трэба схадзіць да сусеткаў.* Малі Астр.

СУСЕ'ЦСТВА. У выразе: *Быць у сусе́цстве* — жыць па-суседску. *Яны былі ў сусецстве.* Завельцы Астр.

СУСЁМ, СУСІ'М *прысл.* Зусім. *Я сусём не утрусіла.* Рагу-

лішкі Даўг. *Тут нідалёка сусём.* Магуны Паст. *Сусём хворая была.* Саланое Віл. *Выбеліла хату — сусём бела.* Лоск Валож. *Сусём не хацелі даваць.* Малі Астр. *Прышоў да прылаўка, стаіць, аж тут сусім яму адабрала вочы.* Пацаўшчына Дзятл.

СУ'СЛА *ж.* Соска. *Дзіця суслу ссала.* Дакудава Лід. *Суслай карміла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Даўней хлеб жавалі, завярчвалі ў анучку і давалі дзіцяці ссаць. Зрабі суслу!* Дзяніскавічы Ганц.

СУ'СЛАЧКА *ж. памянш.* Камяк чаго-н., сціснуты ў руцэ. *Некалі талакно дзелалі, суслачку сцісніш і ясі.* Янова Рас.

СУ'СЛІКІ *мн.* Ледзяшы. *Суслікі, чылі соплі, са стрэх звісают.* Лука Нараўк.

СУСЛЯКІ' *мн.* Тое ж, што і с у́ с л і к і. *Сусякі на стрэхах вісяць.* Саланое Віл.

СУСО'Л *м. заал.* Суслік. ∇ *Заспаны, як сусол.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *suseł* 'тж'.

СУСО'ЛКА *ж.* Тое ж, што і с у́ с л а. *Дай яму сусолку пассаць!* Мярэцкія Глыб.

СУ'СПАРЫ толькі *мн. буд.* Вуглавое спалучэнне ў зрубе. *Хату як ставяць, суспары зложаць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *są́spara* дыял. *sūspara* 'тж'.

СУ'СПІЦА, СУ'ЗБІЦА *ж.* Тое ж, што і с у́ б а р 1. *Суспіца — адходы ад зернавых.* Ісерна Слуц. *Далі коням, каровам сузбіцы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СУСТА'ВА *ж. анат.* Сустаў, суставы. *Хацелі адымаць пальца па гэту суставу.* Старыя Смільгіні Воран. *У старых людзей высыхая клей у суставах.* Малі Астр. *Старым баляць ногі — васпаленя суставаў, на аграваня ездзяць.* Дэгшні Шальч.

СУСТА'ЎКІ *мн.* Тое ж, што і с у к а л е́ н к і. *Састаўкі хрусцяць на руках.* Ухвала Круп., Рудня Астравітая Чэрв.

СУСТРАКА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Некалі, як засуха была, сустракалі хмарку с хлебам, с сольюі са сталом: стол накрыты настольнічкам, акрайчык на стале, ізмочыць дождж ык; мужыкі дзве дані патсоўвалі.* Альхоўцы Лях.

СУСТРАЧА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Сустрачая чалавека, той падае рукі вітацца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

СУСТРЭ'ЦЦЯ *зак.* Сустрэцца, спаткацца. *Сустрэнецца з чалавекам і паздароўкаецца.* Кіралі Шчуч.

СУСТРЭ'ЦЬ *зак.* Сустрэць, спаткаць. *Яна яго сустрэла і нешта гаворыць.* Кіралі Шчуч.

СУСУ'ЛЬКІ *мн.* Тое ж, што і с у́ с л і к і. *Сусулькі вісяць зімой.* Солы Смарг.

СУТ *гл.* СУД

СУ'ТАРГА', СУ'ДАРГА *ж.* Тое ж, што і с у́ д а р. *Сутарга сцягівая.* Гемзы Шальч. *Сутарга ногі сцягнула, як нехарашо ляжаш, ці прамарозіш ногі.* Кіралі Шчуч. *Сутарга круціць ногі, рукі, калі паляц на паляц закладваецца, становяцца нідзвіжымыя.* Мсцібава Ваўк. *Скочыць у воду — і яго сутарга хваціць.*

Дарава Лях. *Сутарга, як вецяр падвеяў.* Вострава Маст. *Сутарга бярэ нагу.* Дзяніскавічы Ганц. *Сутарга цягне ногу.* Галубы Маст. *Сударгі бяруць.* Пацаўшчына Дзятл. *Як возме сударга, кап не атпусціла — памёр ба.* Вецярэвічы Пух.

СУ'ТАЧКІ, СУ'ДАЧКІ толькі *мн.* 1. *памянш.* да сýткі I, 1. *Сутачкі паміш хатамі.* Завельцы Астр. *Калісь хата ат хаты — недалёка, то называлі сутачкі, дрова между суткаў пат страху зложаны.* Жылі Іўеў. *Такія вузкія сутачкі прамежду будынкаў.* Беразіно Докш. *Сутачкі — прастора паміж двух будынкаў.* Мярэцкія Глыб. *Паміж хатамі ест прастранства, там праходзіш — гэто сутачкі.* Малахоўцы Бар. *Дровы ляжаць у сутачках.* Саланое Віл. *Судачкі — праход паміж будынкамі.* Масілавічы Сл. 2. Вузкі праход паміж загародамі. *Сутачкі — праход паміж заборамі ці будынкамі.* Дакудава Лід.

СУ'ТКА *ж.* Суткі. *Адна сутка прайшла, дзве суткі — ані вады не піла, ані ела.* Старыя Смільгіні Воран. *Адну сутку прабыў, дзве, тры суткі не быў у хаці.* Паляцкішкі Воран.

СУ'ТКІ I, СУТКЕ', СУ'ДКІ толькі *мн.* 1. Вузкі праход паміж сценамі сумежных будынкаў. *Суткі вузкія: блізка страха да страхі, праехаць нельга.* Пасека Ст.-Дар. *Суткі міжы хлявоў.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Суткі — праход паміж будынкамі.* Малахоўцы Бар., Ісерна Слуц. *Паміж будынкамі сутке.* Збляны Лід. *Судкі мы закладаем дравамі.* Азяраны Раг. 2. Вузкі праход у будынку. *Ціелы суткі січкою засыпав.* Курашэва Чыж. ▽ *Двор вузкі, як суткі.* Пасека Ст.-Дар. 3. Прамежак паміж печчу і сцяной у хаце. *Печ стаіць атступлена ат сценькі — тожа называлі сутке.* Збляны Лід.

СУ'ТКІ II *мн.* Тое ж, што і сýтка. *Суткі — дзень і ноч.* Рыбчына Віл. *Дзень і ноч — тожа суткі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Як гадзіна ўкусіла — цэлыя суткі рвала мяне.* Старыя Смільгіні Воран. ▽ *Дзень і ноч — суткі проч.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СУТО'НІВАЦЦА *незак. безас.* Змяркацца. *Мы жалі, пакуль чуць стала сутоніваца.* Вецярэвічы Пух.

СУТО'НІЦЦА *зак.* Замерзнуць. *Мароз — вада сутонілася ў вядры, у карыця і на рацэ.* Вецярэвічы Пух.

СУТО'НЬ *ж. крав.* Расточка. *Сутонь устаўляецца ў сарочку: да шыі — вужэйшая, ад рукава — роўная.* Вецярэвічы Пух.

СУ'ТРА *ж. абразл.* Неахайная жанчына, бруднюха, мурза. *Як завядземса, то адна на другую: «сутра!» — кажам.* Парэчча Гродз. *Сутра — брудна баба, неакуратная.* ▽ *Ты робіш, як сутра, ходзіш, як сутра.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *sùtros* «гнойная жыжка», *sutrà* «мурза».

СУТУЛАВА'СТЫ *прым.* Сутулаваты. *Сутулаваcты парань, я яго не люблю.* Пераброддзе Міёр.

СУ'ТУЛАВАТЫ *прым.* Тое ж, што і сутулавáсты. *Сутулаваты чалавек ходзіць прыгорблены.* Кіралі Шчуч.

СУТУ'ЛІСТЫ *прым.* Тое ж, што і сутулавáсты. *Ён быў сутулісты, некрасівы.* Рудня Астравітая Чэрв.

СУТУ'НАК *м.* Сутонне, змрок. *Як збяруцца на сутунку бабы пагаварыць.* Зблянь Лід.

СУТУНЯ'ЦЬ, СУТЭНЯ'ТІ *незак. безас.* Змяркацца. *Сутуняя, пачынае цямнець.* Вострава Маст. *Пачало сутуняць, трэбо ісці додому. Матка заганяла на печ, бо ужэ, кажэ: «сутуняе!» каб мы не дурэлі.* Баброўнікі Гарад. *Почынае ужэ сутэняті.* Азарычы Пін.

СУТУРАВІ'ЦЦА *незак.* Падбадзёрвацца. *Нада табе сутуравіцца, што ты рукі апусціла!* Лісна В.-Дзв.

СУТЫКА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Пашоў с поезду сутыкаць.* Солы Смарг.; *параўн.* літ. *sutikti* 'тж'.

СУ'ФІ'Т *м.* Столь. *Су́фіт — кажуць і сталяванне.* Грыкені Вільн. *Дайней не гэтакія суфіты былі, а сталяванне.* Завельцы Астр. *У нас суфіт у шулы паложан. Каросту* [кастру] *клалі на суфіт.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *sufit* 'тж'.

СУ'ХА *прысл.* 1. Суха. *На дварэ ўжо патсохла, суха стала.* Рыбчына Віл. 2. *кулін.* У выразе: *Су́ха вары́ць бу́льбу* — варыць цэлую бульбу. *Будзем бульбу суха варыць.* Быстрыца Астр.

СУХАБО'КІ *прым.* Усохлы з аднаго боку (пра дрэва). *Сухабокая дрэва стаяла на полі.* Руднікі Шальч.

СУХАБУ'ЛЬБА *ж. кулін.* Цэльназвараная бульба. *Мама, звары сухабульбы!* Солы Смарг. *Трэба сухабульбы зварыць.* Крэва Смарг.

СУХАВА'ТЫ *прым.* Падсушаны, не зусім сухі. *Канюшына сухавата.* Дарава Лях.

СУХАВЕ'Й *м.* Сухое, ветранае надвор'е. *Сухі такі вецер — дзёрскі сухавей.* Завельцы Астр. *Сухавей дуець.* Ракаўскія Швянч. *Во сягоння вялікая раса, а ўчора быў сухавей.* Ністанішкі Смарг. ∇ *Як ёсць раса — будзе добрая пагода, а як сухавей — на дошч. Сухавей, як няма расы, надзейся дажджу.* Солы Смарг.

СУХАВЕ'ЙКА *ж. бат.* Цмен. *Сухавейка ад печані.* Крэва Смарг., Старыя Смільгіні Воран., Альхоўка Навагр.

СУХАВЕ'РХ *м.* Дрэва з засохлым верхам. *Калі ў дрэве верх засох, то такое дрэва называюць сухаверх, а сухастоіна — як саўсім засохла.* Глівін Барыс.

СУХАВЕ'РХІ *прым.* Які мае сухі верх (пра дрэва). *Сухаверхая дзеравяка — іх зразалі кругом па лесе.* Пацаўшчына Дзятл.

СУХАВЕ'РШЧА *зб. н.* Лес, дзе многа сухіх вяршын. Дзяніскавічы Ганц.

СУХАВЕ'ТРЫЦА *ж.* Тое ж, што і с у х а в е́ й. *Як дажджу німа, сухаветрыца дуя і дуя.* Пасека Ст.-Дар.

СУХАВЕ'Я *ж.* Тое ж, што і с у х а в е́ й. *Як сонца із ветрам — сухавея. Сухавея была, я грапці сена прыехала.* Дзяніскавічы Ганц.

СУХАДО'ЛЬКІ *мн.* Тое ж, што і с у х а в е́ й к а. *Сухадолькі добра ад печані.* Завельцы Астр.

СУХАІ'М'Е *гл.* СУЧАІ'М'Е

СУХАЛЕ'СОК *м.* Сухое месца, грудок. *Вушлі каровы на сухалесок; сухалесок міжду балота, грабнік на сухалесках расце.* Кузьмічы Люб.

СУХАЛО'М *м. бат.* Шабельнік балотны. *Сухалом на балоце расцець. Сухалому цвет паруць і ванны робюць, як ногі баляць.* Ёдлавічы Брасл.

СУХАМА' *прысл.* Есці, харчавацца сухой ежай, без вадкага і варанага. *Наеўся хлеба сухама.* Дакудава Лід. *Есць сухама хлеп.* Рудня Астравітая Чэрв. *Некалі бедне жылі, тры бульбачкі з'ем сухама — і пайду спаць.* Дэгшні Шальч. *Бліны пульхныя з грачыхі, сухама так наясіся.* Гемзы Шальч. *Сухама з'есць хлеб.* Пацаўшчына Дзятл. *Хлеп біз нічога так сухама з'ем.* Вузла Мядз.

СУХАНДЭ'ЛЬ *м. зневаж.* Хто надта худы, хударлявы. *«Сухандэль ты!» — кажуць на сухога, худога чалавека.* Азяраны Раг.

СУХАНО'ЖКА, СУХАНО'ШКА *ж.* Расада з засохлым карэньчыкам. *У расадзі нашай суханожкі багата.* Азяраны Раг. *Ёсць у мяне па каліву гэтай суханошкі.* Граўжышкі Ашм.

СУХАПАСТО'Й *зб. м.* Сухастой. *Сухапастой — сухі лес, сухая дзеравіна.* Старое Сяло Зэльв. *Сухапастой зразаць можна на дровы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як сухапастой не зрэжуць, то ўпадзе і згніе.* Пацаўшчына Дзятл.

СУХАПУ'ЦЦЕ, СУХАПУ'ЦЕ *н.* Сухая мясцовасць — поле, сенажаць. *Тут заліўны сенакос, у нас сухапуцця німа.* Вецярэвічы Пух. *На сухапуцці барсук жыве.* Рудня Астравітая Чэрв. *Метраў трыста — чатыраста да сухапуця даехаць вадой.* Замошша Брасл.

СУХАПУ'ЦЬ *ж.* Тое ж, што і с у х а п у́ ц ц е. *На сухапуці не растуць журавіны. І на сухапуці купіны ест.* Гемзы Шальч. *На сухапуці сена злажылі.* Кураполле Паст. *У нас німа балотаў, у нас сухапуць. У нас сухапуць — няма возяра.* Кіралі Шчуч. *Хады баброў выходзяць у раку і на сухапуць.* Саланое Віл. *На сухапуць выйдуць, агонь разложуць.* Буды В.-Дзв. *На сухапуці чуць уцёк.* Ахрэмаўцы Брасл.

СУХАПЯ'ТКА *ж.* Тое ж, што і с у х а н о́ ж к а. *У капуснай расадзі сухапяткі багата.* Азяраны Раг.

СУХА'Р *м.* 1. Высушаная лустачка хлеба, булкі. *Я сухары пасушыла.* Саланое Віл. *Яны ядуць, як булку, гэтыя сухары.* Старыя Смільгіні Воран. *Сухара есцімеш?* Смаляніца Пруж. 2. *мн.* Пячэнне. *Сухарэ пяклі з мукі пытлёваной. Сухарэ круглыя — як шклянкаю націскалі; канцястыя — як нажом рэзаць. На ліст капусні садзілі ў печы і пяклі сухарэ.* Васілевічы Гродз. *І мы самі сухары пяклі.* Саланое Віл. 3. *перан.* Худы чалавек. *Ён хварэў доўга і высах на сухара, стаў худы-худы.* Солы Смарг. ∇ *Высах чалавек, як сухар.* Саланое Віл.

СУХА′РКІ *мн.* Пячэнне. *Сухаркі ў магазіне купляем і самі пячом.* Вялікія Баяры Шчуч.

СУ′ХАРКІ *мн.* Сукараткі. *Сухаркі на ніцях, як закрута спрадзены.* Жыдзевічы Іўеў.; *гл.* с у́ к а р а т к а.

СУХАРЭ′БА *ж. заал.* Гусцяра. *Сухарэба тоненька, як плотка, красненькія пёрушкі ў іх.* Мыто Лід.

СУХАСТО′ІНА, СУХАСТО′ВІНА *ж.* Засохлае на корані дрэва. *Сухастоіна — сухоя дрэва.* Ёдлавічы Брасл., Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Сухастоіна ў лесі.* Дзёрнавічы Брасл. *Сухастоіна стаіць, нада спілаваць на дровы.* Гемзы Шальч. *Сухоё дзераво — сухастоіна.* Малахоўцы Бар. *Сухастовіну нада зрэзаць.* Валынцы В.-Дзв.

СУХАСТО′Й *м.* 1. Тое ж, што і с у х а п а с т о́ й. *Сухастою ў лесі многа.* Беразіно Докш., Чычалі Швянч., Рудня Чэрв. 2. Тое ж, што і с у х а с т о́ і н а. *Сухастой — засохшае стаячае дрэва.* Пасека Ст.-Дар. *Сухастой — ёлка ці другое дрэва, якое апсыпалася, ссохла, поўна іх пасохла.* Солы Смарг. *Сухастою напілаваў на дрова.* Руднікі Шальч.

СУ′ХАСЦЬ *ж.* Суш. *Шыльнік дзяржыць сухасць, ім стараюцца аблажыць хлеўчык для курэй, камору.* Кіралі Шчуч.

СУХАТА′ *ж.* 1. Засуха. *Да гэтага дажджу сухата была.* Вузла Мядз. *Такая сухата — бульба не ўсходзіць.* Саланое Віл. *Сухата, усё павыгаравала, усё баіцца сухаты.* Рыбчына Віл. *Такая сухата на дварэ.* Солы Смарг. 2. Цвёрдая, засохлая глеба. *На полі сухата, такая цвярдзіна, не ўкапаць.* Асавец Віл. *Сухі год быў — у каладзязёх сухата была.* Альхоўцы Лях.

СУХА′Я МАЛАННЯ′ *ж.* Маланка без дажджу. *Сухая маланння з'ела былнік.* Лісна В.-Дзв.

СУХІ′ *прым.* 1. Высушаны, пасохлы. *Ён усегда сухое сено сабіраў.* Вулька Гродз. *Сухоя бяльё нада зняць.* Вузла Мядз. 2. Засушлівы. *Як сухі гот, то ройста высыхае.* Солы Смарг. ∇ *Сухі апрэль, а мокры май — будзіць жыта як гай.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Не забалочаны. *На сухім месцу сеў.* Паляцкішкі Воран. *Мурох на сухой сенажаці.* Завельцы Астр. 4. Засохлы. *З зімы грушка сухая была, але атпілася.* Кудзялянцы Шальч. ∇ *Ляці пуля туды — на сухія лясы!* Дзёрнавічы В.-Дзв. 5. Худы, схуднелы, які доўга хварэў. *Чалавек, як памірае сухі, то нічога, а як мокры, то пах, і трэба паліць свечку.* Слабада Мін. 6. У выразах: *Сухі хлеб* — сухая ежа без варанай стравы. *Есцім хлеб сухі.* Смаляніца Пруж. *Сухі снех* — снег, які ідзе ў час марозу. *Марозам сухі снех ідзе.* Стральцы Гродз. *Сухі мазо́ль* — цвёрды мазоль. *Набіла сухі мазоль.* Ёдлавічы Брасл. *Сухія зу́бы* — іклы. *У парасят сухія зубы, яны доўгія, чорныя, яны врэдныя, парасё сцяць не можыць зубы, іх вырываюць.* Саланое Віл.

СУХМЕ′ЛЬ *м.* Цеплата, суш. *Сухмель на дварэ, а ў нашым склепі вады поўна.* Ухвала Круп.

СУХО′Е *н. прым. субст.* 1. Ежа без вадкай стравы. *Сухога паеўшы — слаба: жывот ужо паўнейшы паеўшы не сухога.* Аль-

хоўка Навагр. 2. Суша. *Камар баіцца сухога, у сырасці і бываіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

СУХО′ТА *ж. мед.* Сухоты, туберкулёз. *Давней людэ часто на сухоту уміралі, тэпэр ужэ рыэтко.* Курашэва Чыж.

СУХО′ТЛІВЫ *прым.* Хворы на сухоты. *Ні жанаты ён — сухотлівы.* Малахоўцы Бар.

СУХО′ТНІК I *м.* Той, хто хворы на сухоты. ▽ *Як сухотнік* — хто худы, бледны. *Вэрнувсе с турмы, як сухотнік.* Курашэва Чыж.

СУХО′ТНІК II *м.* 1. Тое ж, што і с у х а в е́ й к а. *Сухотнік на дзірванох расце.* Солы Смарг. *Сухотнік здаюць у аптэку.* Стральцы Гродз. 2. Навар з кмену. *Сухотнік п'юць, як чалавек асіпне, як цяшко на грудзях.* Баброўнікі Гарад.

СУХО′ТНІКІ *мн.* Тое ж, што і с у х а в е́ й к а. *Сухотнікі на дзірванох растуць.* Солы Смарг.

СУХО′ТНІЧКІ *мн. памянш.* да с у х о́ т н і к і. *Сухотнічкі па сухіх мейсцах растуць, іх ад печані п'юць.* Солы Смарг.

СУХО′ТЫ *мн.* Тое ж, што і с у х о́ т а. *Даўней бедна жылі, часта хварэлі на сухоты. Захварэў на сухоты і ў маладым веку памёр.* Ёдлавічы Брасл. *Ён на сухоты балеў.* Курaполле Паст. *Даўней сухоты не маглі вылячыць.* Слабада Мін. *Калісь с сухотаў мала вылечаліcь. Сухоты цяпер вылечваюць.* Завельцы Астр. *Гэта было даўно: адзін меў сухоты — тры сабакі з'еў — лячыўся.* Дэгшні Шальч. *На сухоты хварэла.* Каўняны Гродз. *Былі сухоты ў яе: сохла і сохла.* Солы Смарг.

СУХО′ЦКІ *прым.* 1. Тое ж, што і с у х о́ т л і в ы. *Ён сухоцкі, худы, усяроўна як хворы на сухоты.* Асавец Віл. 2. *абразл.* Худы, хворы. *Як паспорацъ, могуць сказаць на худога: «Сухоцкі ты!»* Асавец Віл. *Ты сухоцкі!* Ахрэмаўцы Брасл.

СУХРА′ПКІ толькі *мн.* Замерзлая гразь, груда. *Сухрапкі былі на дварэ, яна бутлю выкінула і пабіла.* Азяраны Раг.

СУЦЭ′ЛНЫ, СУЦЭ′ЛЬНЫ *прым.* 1. Не перарэзаны на часткі, цэлы. *Суцэлна бервяно ляжала.* Магуны Паст. *Суцэлна атоса прывязваецца. Лава суцэлная прыбітая.* Гемзы Шальч. *Ест обад суцэльны і обад часцічны.* Судэрва Вільн. 2. Не сточаны, не сшыты. *Суцэлныя дываны ткалі.* Галубы Маст. *Былі кросны, што суцэльная палатно ткалі.* Солы Смарг.

СУЧАІ′М'Е, СУХАІ′М'Е *н. анат.* Павялічаныя залозы пад пахай. *Сучаім'е нарывае.* Кузьмічы Люб. *Сухаім'е нарывае, і вопух як скула, прыкладаюць семя льняноя.* Кіралі Шчуч.

СУ′ЧАЧКА *ж. памянш.* да с у́ ч к а III. *Пашчапалася сучачка ў калаўроця.* Магуны Паст.

СУ′ЧКА I *ж. заал.* 1. Сука. *Сучка шчэніць сабачанята.* Маркоўскае Лельч. 2. Шчаня жаночага полу. *Старая сука ошчэнілясе, прывела две сучкі і два собачкі.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Жанчына, якая абгаворвае, лаецца. *То такая сучка, вона всёго набрэшэ.* Курашэва Чыж. ◇ *Як су́чка ў рашчы́ня круці́цца* — рабіць многа розных работ, мітусіцца, кідацца. *Жонка, як сучка*

*ў рашчыня круціся: купі, накармі ўсіх, прыбяры ў хаці, а ён не глядзіць.* Малі Астр.

СУ'ЧКА II *ж.*, СУ'ЧКІ *мн.* Маленькія саначкі, якія выкарыстоўваюцца як дапаможныя пры перавозцы бярвення. *Калісь лес вывозілі на длінных санях — мэтра на тры, а потым прыдумалі кароткія і прыдзелалі да саней сучку і длінныя дзеравы вазілі, паварот добры давалі.* Лука Нараўк. *Сучку прывйазуют до каруов.* Курашэва Чыж. *Сучкі — маленькія саначкі, яны бягуць за санкамі.* Масілавічы Сл. *Сучкі ўзадзі былі, адно — аглобляў не было.* Пацаўшчына Дзятл. *А санкі малыя называлі сучкі.* Дакудава Лід. *Сучкі прывязвалі, калі дзераво вазілі.* Малахоўцы Бар.

СУ'ЧКА III *ж.* Лапатачка, якая накладаецца на вось у калаўроце, а другім канцом прымацавана да падножкі. *Сучка кола рухая ў калаўротку.* Дакудава Лід., Кураполле Паст. *Сучка к падношке прыкрэплена.* Баложы Даўг. *Сучка надзяецца на корбу і круціць кола ў калаўроце.* Вецярэвічы Пух. *У прялкі сучка верціцца, тоненькая, як лучынка.* Навікі Лудз.

СУ'ЧКІ I *гл.* СУ'ЧКА II

СУ'ЧКІ II толькі *мн.* 1. *бат.*Ваўчкі, насенныя калючкі ваўчкоў. *Сучкі як пачапляюцца, то еле адчэпіш.* Ухвала Круп. 2. Навар з ваўчкоў. *Ад залатухі прышчыкі павысыпалі ў маей унучкі, я сучак натаплю, напаю яе — і пройдзе.* Вялікі Лес Круп.

СУЧО'К *м. памянш.* да с у к 1. *Сучок вецяр абламаўшы — вісіць.* Ёдлавічы Брасл. *Сучок на лісцёвых дрэвах.* Мярэцкія Глыб.

СУЧО'НЫ *дзеепрым.* Ссуканы. *Аснова сучонымі ніткамі снавана і патыкана — сучонае сукно.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СУ'ЧЧА *зб. н.* Сухое галлё. *Я ня ўспела ўцеч, пад дзеравам і асталася, а сучча на галаву ляціць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СУЧЫ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і с у к а в á т ы. *Сучыстае дзерава расце, харошыя лапы.* Вострава Маст. *Калі ніская і сучыстая, то на чорта такая ель!* Гемзы Шальч.

СУЧЫ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і с у к á ц ь 1. *Трэба ніткі страсціўшы сучыць.* Лоск Валож. *Сучылі на сукала.* Падгаі Мін. *Пралі кудзелю, пражу сучылі, снавалі і рыззям патыкалі дываны.* Вузла Мядз. *На верацяно суча ніткі.* Збляны Лід. 2. Тое ж, што і с у к á ц ь 2. *Сучылі цэўкі на калаўрот.* Валынцы В.-Дзв. *Сучуць і на сукала.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Круціць. *Стала я сучыць караўлат.* Саланое Віл.

СУШ *ж.* 1. Тое ж, што і с у х а т á 1. *Такая суш стаіць.* Старыя Трокі Трак. *Суш была, балота высахла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вот стала суш велькая, такою сушаю жыта не абыдзя.* Альхоўка Навагр. *Суш бярэ.* Альхоўцы Лях. *Найболій як суш, тады мошка.* Завельцы Астр. 2. Сухія галінкі; сухая паверхня зямлі. *У лесі суш, учора хадзілі — аш трашчыць.* Кіралі Шчуч. 3. *пчал.* Вашчына. *Ператапляюць суш на воск.* Ахрэмаўцы Брасл. *Суш — чорныя вашчыны.* Мішневічы Шум. *Слабыя пшчолы,*

*пустыя соты — суш, адзін воск.* Опса Брасл.

СУ'ША *ж.* 1. Тое ж, што і с у х а т а́ 1. *Суша стаіць, сухавей.* Вострава Маст. *Тэпэра суша, згорыт хата.* Азарычы Пін. 2. Сухое месца. *У сушы ляжаць дрова.* Вецярэвічы Пух.

СУ'ШАЙ *прым. выш.* Сушэйшы. *У лесе ест зялёны мох, ён лепшы ад саломы, і сушай бывае, як на хату кладуць яго.* Альхоўка Навагр.

СУШАНІ'ЦА *ж.* Скошаная і высушаная канюшына, віка і іншы корм. Малахоўцы Бар.

СУ'ШАНЫ *дзеепрым.* Высушаны. *Сушаны грыб — на зіму.* Дзяніскавічы Ганц. *С сушаных грыбоў пірашкі грыбовыя пяклі. Піва закусаваць сушанай рыбай — сама лепш.* Ахрэмаўцы Брасл. *У мяне ёсць сушаныя дрожджы.* Дзяніскавічы Ганц.

СУША'РНЯ *ж.* Сушня. *Сушарня на лён — сушат лён.* Ялова Пруж.

СУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і с у ш 1. *Такая сушка — пажары бываюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СУШНІ'К *зб. м.* Тое ж, што і с у х а п а с т о́ й. *Сушніку нарубаў.* Вострава Маст. *Сушнік ё ў лесі, сушнік трэба выразаць.* Рудня Астравітая Чэрв.

СУ'ШНЫ *прым.* Засушлівы. *Сушны год быў.* Альхоўцы Лях.

СУ'ШНЯ' *ж.* Тое ж, што і с у ш а́ р н я. *Су́шня была, дзе сушылі лён.* Рагулішкі Даўг. *Су́шні былі, ставілі лён.* Збляны Лід. *Су́шня як байня.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лён сушылі ў лазні і ў су́шні.* Паляцкішкі Воран. *Даўней куле́ лёну вязуць у су́шню і сушаць, сушылі і церлі.* Кіралі Шчуч. *Там сушня́ стаяла.* Жылі, Жыдзевічы Іўеў. *У сушне́ лён сушылі і церлі.* Дзяніскавічы Ганц. *Рабілі су́шні бывала, і лён сушылі.* Слабада Мін.

СУШНЯ'К *м.* Тое ж, што і с у х а п а с т о́ й. *Дзялянaчка цэлая сушняку.* Лапічы Асіп.

СУШО'НІКІ *мн.* Сушаныя грыбы. *Сушонікаў торбачку маю.* Мярэцкія Глыб.

СУШЧА'ВЫ *прым.* Худы. *Сушчава карова — мала́ка мала дае.* Галубы Маст.

СУШЧЭ'ЦЬ *незак.* Шастаць, шамацець, шапацець, шалясцець. *Хвоіч сушчыць.* Солы Смарг.; *параўн.* літ. *šiužėti* 'тж'.

СУШЫ'ЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і с у́ ш н я. *Сушылі лён у су́шылца.* Падгаі Мін. 2. Сушня, прызначаная для прасушвання абмалочанага зерня. *Бывае, што ў сушылках хлеп перапалюць, клею ў ім німа, бываіць — згарыць саўсём.* Саланое Віл.

СУШЫ'ЛЬНЫ ЗАВО'Д *м.* Тое ж, што і с у ш ы́ л к а 2. *Свят-цо — возера, за сушыльным заводам.* Месянцы Брасл.

СУШЫ'ЦЬ *незак.* 1. Прыводзіць у сухі стан што-н. *Печ вымяталі памялом і рыбу сушылі даўней. Рыбу гэтак сушылі, як і хлеп: саджалі ў печ. У восіці лён сушылі.* Перабродздзе Міёр. *Даўней лён сушылі ў печы: выпалілі печ, выгарнулі і нанач напіхаем — і сох.* Слабада Мін. *Лебяду сушылі і варылі.* Васіле-

вічы Гродз. *Снапы сушылі ў дзісятках.* Стральцы Гродз. *Грыбы сушым і варым поліўку з грыбамі.* Груздава Паст. *Баба шчаўя сушыла на зіму. У блакаду асаку сушылі і ў жорны малолі, куракі пяклі. Бадзягу нада сушыць, пацерці мягінька і змяшаць са спіртам, добра памагаіць ад рамацізму.* Вузла Мядз. *Вангора ў печку ўлажы, так ён растопіцца, яго толькі на сонцы сушаць.* Збляны Лід. *Сушаць гарбуз на зіму і вараць.* Кудзялянцы Шальч. 2. *безас.* і *асаб.* Смагнуць. *Як выпіш — сушыць у роце.* Кураполле Паст. *Смага суша, як хто воткі нап'еецца.* Малі Астр. ◇ *Галаву сушыті* — знясільваць сябе разумовай працай. *Нашто вы собіе так голову сушыте над тым пісанём?* Курашэва Чыж.

СУЯ'РАК *м.* Мука з сумесі яравога збожжа. *Пшаніцу, ячмень, авёс малолі разам і называлі суярак.* Вецярэвічы Пух.

СУЯЦІ'ЦЦА *незак.* Мітусіцца; хваляваццa, непакоіцца. *Суяціцца чалавек. Я суяцілася, а тады ляжала логам. Ты ня суяцісь: дадзём ёй трыста рублей, ня будзім суяціцца.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *суетиться* 'тж'.

СФАЛДАВА'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Затузаць, затармасіць. *Во як ён хлопца сфалдаваў!* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *fałdować* 'збіраць у зборкі, рабіць складкі'.

СФАЛЬШАВА'НЫ *прым.* Падроблены, ненатуральны. *У мяне ніколі не было сфальшавана малако.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *fałszywy* 'тж'.

СФАТЫГАВА'ЦЦА *зак.* Патурбавацца. *Сфатыгуйся, сходзі ты!* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *fatygować się* 'турбавацца'.

СФЛЯНДРАВА'ЦЬ *зак. перан., экспр.* 1. Стаптаць. *Цялюк сфляндраваў ячмень.* Гемзы Шальч. 2. Патраціць дарма час. *Мне нада рабіць многа работы, а я цэлы дзень сфляндраваў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *перан.* *flądra* 'неахайная жанчына'.

СХАВА'НЫ, СХО'ВАНЫ *дзеепрым.* у знач. *вык.* Пахаваны. *Ацец схаваны там.* Стральцы Шальч. *Бацька ўжо быў схованы, як сын прыехаў.* Бакшты Іўеў.

СХАВА'ЦЦА *зак.* 1. Утаіцца ад іншых, каб ніхто не бачыў, не знайшоў. *Дайна выцягнеш лошку цыбулі з алею, схаваешся і з'ясі, каб матка ня відзела.* Вузла Мядз. *Ён схаваўся ад людзей.* Лапічы Асіп. ▽ *Схаваўся, як заяц пад барану.* Івашкаўцы Смарг. *Ад бяды не схаваесся нідзе, рас яна табе намерана.* Вузла Мядз. 2. Быць пахаваным (пра памёршага). *Мой прасіў мяне: «Дзе я буду схаваны, каб і ты там схавалася».* Кудзялянцы Шальч.

СХАВА'ЦЬ *зак.* 1. Пакласці ў патаемнае месца. *Я схаваю цукеркі, а яны знойдуць і з'ядуць.* Кіралі Шчуч. *Трэба схаваць ад яго грошы.* Альхоўцы Лях. *Сюды схаваю грошы, каб не згубіць.* Перабродздзе Міёр. 2. Пахаваць памёршага. *Маць памёрла — сын схаваў, а як я памру — некаму мяне схаваць будзіць.* Валынцы В.-Дзв.

СХАДЗІ'ЦЦА I *незак.* 1. Сыходзіцца ў адно месца. *Патом рэвалюцыя: салдаты сходзяцца пасярот лініі.* Дарава Лях. 2. Ісці ў наступленне. *Вайна — як схадзіліся з немцам.* Дарава Лях.

СХАДЗІ'ЦЦА II *зак.* Узняцца, пачацца (пра моцны вецер, навальніцу). *Вецер схадзійся, як перад навальніцаю.* Руда Яварская Дзятл. *Цяпер вецяр схадзійся.* Бакшты Іўеў. *Гром схадзійсё, стрэл.* Міратычы Карэл. *Нека бура схадзілася, дрэвы горне да зямле.* Кіралі Шчуч. *Схадзіліся грымоты, хмара ідзе.* Бакшты Іўеў.

СХАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Пайсці за якой-н. патрэбай. *Я схаджу за мясам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Схадзем у лес па ягады!* Альхоўка Навагр. *Ці схадзіць за татам?* Васілевічы Гродз. 2. Наведаць; зайсці да каго-н. *Хай яны да цябе сходзяць.* Гемзы Шальч. *Ну, схадзім на васэля!* Малі Астр.

СХАДНЕ'Й *прысл.* Хутчэй, лепш (пры наяўнасці большага выбару). *У Пухавічах схадней купіш дзецкую адзежу.* Вецярэвічы Пух.

СХАДО'ВЫ *прым.* Усходні. *Схадовы вецер — ад Масквы дзьме.* Гемзы Шальч.

СХАЛАДЗІ'ЦЬ *зак.* Ахаладаць, астудзіць. *Трэба вынесці ў сенцы схаладзіць кісель.* Семежава Кап.

СХАЛО'ДАЦЬ *зак.* Астыць. *Хай схалодая, тады будзям есці.* Іванава Нясв. *Там схалодая малако.* Альхоўцы Лях.

СХАМЯНУ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца, сціхнуць. *Рабёнак плакаў, а цяпер трохі схамянуўся.* Груздава Паст.

СХАПІ'ЦЦА *зак.* Устаць, падняцца быстра. *Гарачка паліла яе да сарака,— як схопіцца, яна на сцену лезла.* Крынкі Крын.

СХАПІ'ЦЬ *зак.* 1. *экспр.* Атрымаць. *Як толькі пажэняцца, так і схопяць у калхозе кварціру.* Навасёлкі Лід. 2. *перан.* Пачаць моцна балець; трэсці (у час прыступу). *Як схапіў яе жывот — і на той свет пашла.* Вецярэвічы Пух. *Канвульсія як схопіць дзіця, так трасе і трасе.* Старыя Смільгіні Воран.

СХАРАНЁНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і с х а в а́ н ы. *Тут каліна гэта пасаджана, тут мамулька наша схаранёна.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Салдаты тут былі схаранёныя.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* руск. *схороненный* 'тж'.

СХАРАНІ'ЦЬ *зак.* 1. Пакласці, палажыць. *Схарані кілбасы ў лядуўку!* Лука Нараўк. 2. Тое ж, што і с х а в а́ ц ь 2. *Як памёр, мы яго схаранілі там.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *схоронить* 'пахаваць'.

СХАРАШЫ'ЦЦА *зак.* Ачысціцца ад плацэнты (пра карову). *Пасцель у каровы, пакуль карова схарошыцца, пільнуем, каб ня з'ела.* Дзяніскавічы Ганц. *Карова схарашылаcа.* Пасека Ст.-Дар., Кузьмічы Люб.

СХАХАТА'ЦЦА *зак.* Насмяяцца ўдосталь. *Схахатацца з яе можна, з гэтай дзяўчыны.* Груздава Паст.

СХАХУ'ЛІЦЦА *зак. экспр.* Скурчыцца. *У нас на чалавека*

*скажаць: «Вот схахуліўся на печы, на лошку!» Перамерс, залез на печ ды схахуліўса і ляжыць.* Дзяніскавічы Ганц.

СХВАРЭ'ЦЬ *зак.* Пахудзець за час хваробы. *Так схварэла матка — адна сцень.* Мішневічы Шум.

СХВАЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Праявіць жаданне, ахвоту. *Ён не схваціцца крэпка памагчы.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Апамятацца, абдумацца. *Твой сын схваціцца, ды будзіць позна. Якая яму там жысь?* Янова Рас. 3. Ускочыць, з'явіцца, узнікнуць. *Апёксё — схваціўсё на руцэ бэмбаль.* Міратычы Карэл. *Як патрэш гэтай травой — буняк схваціцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Схваціўся прышчанак нейкі на ліцэ.* Рудня Астравітая Чэрв. *Упала з арэшыны — схваціласа ляпа на руцэ.* Кузьмічы Люб.

СХВАЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Хуткім рухам узяць што-н. *Трапку схваціць і пол падатрэць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Ухапіць і загубіць каго-н. (пра драпежнікаў). *Сарока двоя пісклят схваціла. Бацяны на ліпе гняздо дзелаць прывыкшы. Іх ліса можа схваціць.* Месянцы Брасл. ◇ *Схваціць у вачах* — раптам, у прысутнасці людзей. *Ужо велькія курчаткі былі — кот прыбег, схваціў аднаго у вачах і пабех.* Солы Смарг. 3. Раптоўна востра праявіцца (пра боль, хваробу ў час прыступу). *Схваціла жара, стала галава балець, думаў згару, так ударыла жара.* Пераброддзе Міёр. *Яго схваціла галавой — ён енчыцца, енчыцца. Сударга схваціла.* Курапалле Паст. *Схваціла сударга — такі боль несчыслёны.* Малі Астр. *Рзненця мяне схваціла.* Руднікі Шальч. *Свіню схвацілі лёўкі — можыць здохнуць.* Ёдлавічы Брасл. 4. Удыхнуць паветра. *Так забілася сэрца — чуць воздуху схваціла.* Ёдлавічы Брасл. 5. Зазлавацъ, уз'юшыцца. *Яго схваціла злосць — ён так зажвэрыў.* Солы Смарг. ▽ *Кап цябе чорт схваціў!* Лісна В.-Дзв. *Чортава вяселле схваціло* — пра віхор. Дарава Лях. 6. *перан.* Апаліць, запячы. *Як полымца схваціць — і хлеб ідзе ўверх, падымаіцца.* Лісна В.-Дзв.

СХІ'ЛАЧКІ *мн. памянш.* Складачкі. *Ззаду на сукенцы гэтыя схілачкі відаць.* Крэва Смарг.

СХІЛЕ'ННІ *мн. анат.* Паджылкі, каленныя сухажыллі. *Стала дзеўка была, каса аш да схіленняў.* Завельцы Астр.

СХІЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Павярнуцца, апусціцца. *Як слонцо схіліласо — гэто ідзе з поўдня.* Стральцы Гродз. *Галава сланэчніка схілілася к сонцу.* Жылі Іўеў. 2. Згорбіцца, сагнуцца. *Верачка ўжо схілілася — ходзя ў дугу схіліўшыся.* Гемзы Шальч.

СХІЛІ'ЦЬ *зак.* Схіліць, нахіліць. *Спіць — схіліла галаву.* Чычалі Швянч.; *параўн.* польск. *nachylić* 'тж'.

СХІ'ЛКІ *мн.* Маршчыны. *Старая: ужэ схілкі на твары.* Крэва Смарг.

СХІЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Складвацца. *Лышкі ў салдат схіляліся.* Магуны Паст. 2. *перан.* Быць падобным у якіх-н. адносінах. *І цётка на дзядзьку схіляецца.* Кузьмічы Люб.

СХЛЫ'НУЦІ *зак.* 1. Імкліва сабрацца ў адным месцы ў вялікай колькасці. *На вэсіеле госці схлынулі, всё пойіелі, горыэлку*

*выпілі — і ніц нэ зосталосе.* 2. Наляцець. *Мухі схлынулі до хаты, тэпэр йіх повно.* Курашэва Чыж.

СХЛЯ́НУТІ *зак.* Схудзець, змарнець. *Вэсною было мнуого роботы, всё куоньмі оралі, сіеялі, волочылі — і коло роботы коні муоцно схлянулі.* Курашэва Чыж.

СХМУРНЕ́ЦЬ *зак. перан.* Панурыцца, зрабіцца змрочным, невясёлым. *Па абедзе хлопец схмурнеў.* Завельцы Астр.

СХМЫ́ЛІЦЦА *зак. экспр.* Зазлаваць, выказаць незадаволенасць выразам твару. *Лена як схмылілася — ні цукеркаў у іх не ўзяла, ні вады не падала.* Малі Астр.

СХНУЦЬ, СХНУ́ТЫ *незак.* 1. Сохнуць. *Цяпер не зіма, што ня схне доўго. Схло на дварэ.* Альхоўцы Лях. *Ніхай схне канюшына.* Дарава Лях. *Хустка хутко схнэ.* Дзмітравічы Кам. *Сталі снапэ схнуць.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Трывожыцца, хвалявацца. *Схні за сено, што гніе.* Дарава Лях.

СХО́ВА *ж.* Схоў. *Знашоў схову добру і схаваўся.* Кіралі Шчуч.

СХО́ВАЛКА *ж.* Тое ж, што і с х о́ в а. *Цяпер у мяне сховалкі ня будзя.* Вецярэвічы Пух.

СХО́ВАНЫ *гл.* СХАВА́НЫ

СХОВА́ТЫ *зак.* Тое ж, што і с х а в а́ ц ь 2. *Трэбо сховаты мёртвого.* Горск Бяроз.

СХО́ВІШЧА *н.* Укрыцце. *Сховішча для парцізан было тут харошая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рыбы сховішча — на мелях.* Замошша Брасл.

СХОД *м.* 1. Усход. *Да сонца сходу выганялі пасці карой.* Месянцы Брасл. ◇ *Ад схо́да да захо́да* (сонца) — на працягу ўсяго светавога дня. *Калісь на жалезнай дарозі рабілі ад схода да захода слоньца — і зараблялі дзесяць капеяк за дзень.* Азяраны Раг. *Ад сходу да заходу работаў я ў пана.* Навасёлкі Лях. 2. Апошняя квадра месяца. *Ужо месяц на сходзя.* Жодзішкі Смарг. *На сход месяца благая пара.* Мярэцкія Глыб. 3. у знач. *прысл. схо́дам.* У час апошняй квадры месяца. *Сходам месячка пагода не паладзілася.* Азяраны Раг.

СХО́ДАЦЬ *зак.* Перасіліць, перамагчы, пераадолець. *Я не сходаю іх.* Саланое Віл.

СХО́ДЖВАЦЬ *незак.* Убываць, змяншацца (пра квадры месяца). *Стары месяц сходжвае.* Мачаск Бярэз.

СХО́ДЖУВАЦЦА *незак.* Стыкацца. *Дзве доскі там сходжуваюцца на крышы.* Ухвала Круп.

СХО́ДЗІЦЦА, СХО́ДІТІСЕ *незак.* 1. Сыходзіцца ў адно месца. *Людзі сходзіліся глядзець іх.* Жылі Іўеў. *Хтосьці купіў той плуг, то сходзіліса і глядзелі с кожнай праве хаты.* Васілевічы Гродз. *Гості началі сходітісе на вэсіеле по обіеді.* Курашэва Чыж. 2. Сустракацца. *Молодые сходілісе вэчэром в садкові.* Курашэва Чыж. 3. Супадаць (пра дарогі). *Дорогі сходятсе.* Курашэва Чыж. 4. Набліжацца, быць падобным. *Іх гаворка ў наш разгавор сходзіцца.* Кураполле Паст.

СХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Узыходзіць. *Рана сонца сходзіць і ўвечары заходзіць.* Альхоўка Навагр. *Слонцо сходзіць.* Номікі Бабіц. *Вун ясна — будзя сходзіць слонца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Зараніца рана сходзіць і позна заходзіць.* Дакудава Лід. 2. Тое ж, што і с х о́ д ж в а ц ь. *Маладзічок настаў: тады поўна робіцца, тады сходзіць.* Гайна Лаг. *Месяц сходзіць.* Жодзішкі Смарг. *Маладзік — як пачынаецца, а віташок — як сходзіць.* Завельцы Астр. 3. Прарастаць, паказвацца на паверхні глебы. *Бураку і таму час сходзіць.* Асавец Віл. *Як бульба сходзіць, яе баразнуюць, падрасцець — плушком абганяюць, баразнуюць.* Рыгалаўка Ліпск.

СХО'ДІТІ *незак.* 1. Знікаць. *Вэ́рэды з твару пачалі сходіті.* Курашэва Чыж. 2. Падняцца (пра цеста). *Замісіла хліеб, але шчэ нэ пачав сходіті. Хліеб і піруог в пэчыэ пачалі сходіті.* Курашэва Чыж. ◇ *Нэ схо́діті з стола* — мець дастатак, спажываць удосталь. *У нас мйасо з стола нэ сходіло.* Курашэва Чыж. *Схо́діті на бок* — рабіцца менш важным, адыходзіць на задні план. *Сіето діело на буок сходіт, трэба занятісе другім.* Курашэва Чыж. *Сходіті ногі* — стаміцца ад хадзьбы. *Ногі сходів і нэ купів того, што трэба.* Курашэва Чыж.

СХО'ДІТІСЕ *гл.* СХО'ДЗІЦЦА

СХО'ДКІ толькі *мн.* Прыступкі. *Каля клеці былі сходкі.* Кураполле Паст.

СХО'ДНІЕ ДНІ *мн.* Апошняя квадра месяца. Пасека Ст.-Дар.

СХО'ДЫ толькі *мн.* Лесвіца, усходы. *Сходы — сходзіць файно.* Навадворцы Васільк. *Ён сходы паробіў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Па сходах ісці трэба.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* польск. *schody* 'тж'.

СХО'ЖЫ *прым.* Падобны. *Сын да яго схожы.* Міратычы Карэл. *Схожы ты на бацьку ці на маці?* Беразіно Докш.

СХОРО'ВАНЫ *прым.* Знясілены хваробай, схварэлы. *Як чоловіек схорованы, то з ёго робуотніка нэма.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *schorowany* 'тж'.

СХОТЭ'ТЫ *зак.* Захацець. *Вын ны схотыв робэтэ там. Послале іх картопле копатэ, а вонэ ны схотыле.* Дзмітравічы Кам.

СХРА'МШЧЫЦЬ *зак. экспр.* З'есці, схрумстаць. *Храмшчыла кавалак цукру.* Каўняны Гродз.; *параўн.* літ. *kramtýti* 'жаваць'.

СХРОН *м.* Бункер, бамбасховішча. *Кінулі бомбу, дзяцька сядзеў у схроня. Гранату кінулі ў схрон.* Малахоўцы Бар. *Як мага ў той схрон хаваліся, як самалёт ляціць.* Дарава Лях. *Схронэ покопале в зымлі.* Дзмітравічы Кам. *Былі схроны пад Смургоню.* Быстрыца Астр. *Як была война, то людэ копалі схроны; мы в картохлях выкопалі схрон. Немці всіех мушчын загналі копаті схроны.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *schron* 'тж'.

СХУ'ДНУТІ *зак.* Схуднець. *Свіні зімою схуднулі.* Курашэва

Чыж. *За адзін месяц ён так схут. Ты там скоро схудніш.* Стральцы Гродз.; *парайн.* польск. *schudnąć* 'тж'.

СХУО'ВОК *м.* Тайнік, патаемнік. *Схуовок — міестэ, дэ можна штось положыті, сховаті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *schowek* 'тж'.

СХУО'ДКІ толькі *мн.* Тое ж, што і с х о́ д ы. *В блокові на пйаты этаж трэба схуодкамі сходіті, а так высоко, аж в головіе крутіцце.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *schodki* 'тж'.

СХУО'ДОК *м.* Прыступка, ступенька. *Схуодок — одін стопень схуодкуов.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *schodek* 'тж'.

СЦА *ж.* Сліна, асца. *Як завілася сца — слюна будзя сці.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЦАГЛЕ'ЦЬ *зак.* Зацвярдзець, зрабіцца надта цвёрдым. *Зямля сцаглела.* Вязынка Маладз.

СЦАГЛЯНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с ц а г л е́ ц ь. *Зямля ад дажджу сцаглянела.* Кіралі Шчуч.

СЦВІ'СЦІ *зак.* Заплеснець, пакрыцца цвіллю. *Сцвій хлеп.* Номікі Бабіц. *Сена сцвіло.* Жодзішкі Смарг.

СЦЕБАНУ'ЦЬ, СЦІБАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Пагнаць (жывёліну). *Сцебані пугай каня!* Кураполле Паст. *Сцебані ты карову!* Стральцы Гродз. *Сцібанула віткай каня.* Ахрэмаўцы Брасл. *Плёткай сцібанула каня.* Валынцы В.-Дзв. 2. Пакараць (пра дзіця). *Трэба сцебануць рабёнка — рабёнак распустуя.* Руднікі Шальч. *Сцебануць бы віткай, каб не крычаў.* Чычалі Швянч. *Ты яго сцебані, а не кляні!* Кураполле Паст. *Сцебані яго розгай бярозавай!* Каўняны Гродз.

СЦЕБА'ЦЬ *гл.* СЦЯБА'ЦЬ

СЦЕБА'ЧКА *ж.* Самаробны брусок вастрыць касу. *Сцебачка — дошчачка шурпатая і сцебалі касу. А дзе сцебачку дзелі, нада касу сцебаць?!* Вузла Мядз.

СЦЕ'БЕЛЬ, СЦЕ'БЯЛЬ *м.* 1. Сцябло. *Трава расцець у сцебель.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і с т ы р ч а́ к 2. *Ігруша ідзе ў зямлю сцебялям, такі глыбокі сцебяль.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *стебель* 'сцябло'.

СЦЕБЛО' *н.* Парастак. *Сцебло — як усходзіць штось.* Лука Нараўк.

СЦЕ'ЖАР, СТЭ'ЖОР *м.* 1. Укапаны высокі шост, вакол якога кладуць стог. *Робім адзёнак, укопаем сцежар пасярэдзіне, а кругом кідаем сена.* Вецярэвічы Пух. *Сцежар — жэрдка ў стозе.* Рудня Чэрв. *У стоговэ е стэжор, кругом його кладут сыно.* Дзмітравічы Кам. 2. Подсціл пад стог. *Трэба зрабіць сцежар: аптыкаць калоткамі, ды гальля накласці, ды кала пасярэдзіне ўбіць.* Дзяніскавічы Ганц. *На гэтым сцежары будуць сена класці.* Галубы Паст. *Сцежар — падклад пад стог.* Дакудава Лід.; *гл.* ДАБМ, карта № 287.

СЦЕ'ЖАРНО *н.* Месца, дзе стаяў стог, стажар'е. *Сцежарно астаецца, як сена забяруць са стога.* Старыя Смільгіні Воран.

СЦЕ'ЖАЦЬ *ж.* Сцежка. *Вытапчу сцежаць у сад.* Жыдзевічы Іўеў.

СЦЕ'ЖКА, СЦЕ'ШКА, СТЭ'ЖКА *ж.* 1. Сцежка. *Ідзі, там сцежка е.* Дзяніскавічы Ганц. *Сцешка была пратаптана па лонкі.* Ёдлавічы Брасл. *Па якой сцешца ісці — не знаяць.* Лоск Валож. *Стэжка — узкая дорожка.* Смаляніца Пруж. *Як паходзіць хто па полю, то кажуць — адны сцежкі.* Дзяніскавічы Ганц. *Харошыя сцешкі каровы парабілі.* Кіралі Шчуч. 2. у знач. *прысл. сцешкаю; сцежкамі.* Па сцежцы; у радкі. *Ехаў сцешкаю, на шасе з'ят'жджаў.* Дарава Лях. *Ткалі ручнікі сцежкамі.* Азяраны Раг. ◊ *Відзець сцёшку* — мець зрок. *Добра, як сцешку сам сабе відзіш.* Вузла Мядз. *Не відзець сцешкі* — траціць зрок, быць сляпым, не бачыць. *Скора не буду пад нагамі відзець сцешку.* Ёдупка Шальч. *Як дапяў да дзешкі, то не ўвідзіў сцешкі.* Малі Астр. *Загáдзіць сцёшку* — стварыць перашкоды другому, прычыніць вялікія непрыемнасці. *Благі чалавек загадзіць сцешку харошаму.* Вузла Мядз.

СЦЕЖЭРЫ'СКО *н.* Тое ж, што і с ц é ж а р 2. *Сцежэрыско роб'ят: забівают палі, дручкі кладут і на іх — сено.* Лука Нараўк.

СЦЕ'КАЦЬ *незак.* 1. Сцякаць. *Адагрэтае кісла молоко ў сырніку сцекае.* Лука Нараўк. *Упяцёх, ушасцёх на машыне, з іх вада сцекае.* Дзяніскавічы Ганц. *Са страхі сцекала вада.* Вецярэвічы Пух. 2. У выразе: *Як рукá сцéкае* — як абхапіць пальцамі рукі. *Цёрты лён вяжуць у жменькі: бяруць жменьку, як рука сцекае.* Дзяніскавічы Ганц.

СЦЕ'КЛЫ *прым.* Шалёны. *Ён не сцеклы сабака — не, не! Сабака файны — пільнуе дому.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *wściekły* 'тж'.

СЦЕ'КЦІСЯ *зак.* Зрабіцца кволым, змарнець (пра гародніну). *Сцекліся буракі, зараслі травою.* Чарняўскія Лудз.

СЦЕ'ЛІШЧА *н.* Месца, дзе сцелюць лён. *Вязуць на сцелішча лён, расцілаюць.* Мішневічы Шум. *Сцелюць лён на сцелішча, як вылі́жыўся — у кулі візалі.* Валынцы В.-Дзв. *Лён са сцелішча ў вяскі візалі.* Кураполле Паст. *На сцелішчы лён быў пасланы.* Саланое Віл.

СЦЕ'ЛЬКА *ж. шав.* Вусцілка, сцілка. *Сцелька парвалася ў ботах.* Альба Нясв.; *парайн.* руск. *стелька* 'тж'.

СЦЕ'МНІЦЦА *гл.* СЦЁМНІЦЦА

СЦЕНА' *гл.* СЦЯНА'

СЦЕ'НАЧКА *памянш.* да с ц é н к а II, 3. *Сценачка вядзе прас кусты.* Гемзы Шальч.

СЦЕ'НКА I *ж.* 1. *памянш.* да с ц я н á 1. *Сценку закінуў у шулля.* Рыбчына Віл. *Званок у сценца зроблены, каб званіў.* Гальшаны Ашм. *Павесіла на сценку халат.* Малышы Лід. 2. Грубка з высокай абагравальнай часткай, у якой праходзіць дымаход. *Трэба сценку паліць — выстудзіла хату.* Дэгшні Шальч. *Кап я каля сценкі цёплай пасядзела.* Вострава Маст.

3. *ткац.* Мера даўжыні палатна. *Тры сценкі палатна выткала.* Дакудава Лід.

СЦЕ́НКА II *ж.* 1. Дарожка каля гародаў, гумнаў. *Паўз гумны ішла сценка.* Мачаск Бярэз. *Сценка — дарошка каля гумнаў.* Бакшты Іўеў. *Сценка — дарошка праз агарод.* Рыбчына Віл. *Сценка — на выган дарошка.* Дакудава Лід. *Сценка — каля граніцы вёскі.* Ракаўскія Швянч. *Сценка — проходная дорошка коло хат — сценкі.* Хатынічы Ганц. 2. Дарога паміж палеткаў. *У полі сценка праходзіць. Пагналі кароў прас сценку. У Навасёлкі пайшоў сценкай.* Навасёлкі Лід. *Сценка — дарога ў поле. Сценка і дарога между палосамі, палосы былі дліныя.* Малахоўцы Бар. *Дарожка між палеткаў — сценка.* Альхоўцы Лях. *Дарожка паміж палёў і каля хаты — сценка; на сценку пашоў.* Жылі Іўеў. *Палетак адзін разбіваецца сценкай на два. Дарога между палёў — сценка.* Дзяніскавічы Ганц. *Сценка — дарошка, што раздзяляе адзін палетак ад другога, ей можна праехаць, збоку травка расце.* Старыя Смільгіні Воран. *Сценка — дарога між палямі.* Міратычы Карэл., Старое Сяло Зэльв., Рудня Астравітая Чэрв., Малыя Аўцюкі Калінк. *Сценка — дарога ў полі.* Гайна Лаг. *Сценка — дарога на поля ад будынку.* Вязынка Маладз. 3. Дарога ад вёскі да вёскі; дарога праз лес. *Дарога ад дзярэўні да дзярэўні — сценка.* Граўжышкі Ашм. *Як нада ісці на Данюшава, гаворацьь: «Сценка там, сценкай ідзі!»* Жодзішкі Смарг. *Между пахатнай зямлі сценка прама ў другую дзярэўню.* Масілавічы Сл. *Былі ў лясу дарошкі — сценкі.* Глівін Барыс. 4. у знач. *прысл.* *Сценкай, сценкаю.* Па дарозе, па сцежцы. *Не пайшла дарогай, а пайшла сценкай.* Мачаск Бярэз. *Як пойдзеш патайною дарошкаю — сценкаю, то хутчэй дойдзеш да дзярэўні.* Галубы Маст. *Вышаў на сценку тую, ішоў сценкаю.* Міратычы Карэл. *Сценкаю ідзе, ішоў сценкаю.* Старое Сяло Зэльв. *Паехаў сценкаю.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЦЕ́ННЫ *прым.* Насценны. *Сценны загарак у мяне і два будзільнікі.* Завельцы Астр.

СЦЕ́НТЫ *дзеепрым.* Зрэзаны. ◇ *Сцента шыя* — бяда, гора, шмат клопату. *Ей сцента шыя, як я захварэю: трэба самой усё рабіць, паліць у печы.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *ścięty* ’тж’.

СЦЕНЬ *м.* і *ж.* 1. Цень. *Сцень ад чалавека.* Якубова Рас. *Сцень бываіць ат чалавека, а цень — ат дзерыва.* Якубова Рас. *Сцень ад чалавека, ад дзерава.* Мярэцкія Глыб. *Сцень бальшы ўжо.* Глівін Барыс. 2. *перан.* Хто вельмі худы. *Так схварэла матка — адна сцень.* Мішневічы Шум.

СЦЕ́НЬКА *ж.* Тое ж, што і с ц е́ н к а I, 1. *Даўней вісяць на сценькі баранкі* [скруткі лыка], *з іх лапці плялі.* Месянцы Брасл.

СЦЕНЯ́ЦІЦЦА *зак.* Пакрыцца тонкім лёдам, замерзнуць. *Ужо сценяцілася рэчка.* Дакудава Лід., Завельцы Астр.

СЦЕНЯЧО́К *м. памянш.* Скрылёк воску. *На трэці гот бярэш*

*сценячкоў некалькі, нада штобы вашчына была асвежана.* Масілавічы Сл.

СЦЕП *м. перан.* Вялізнае поле, прастор. *Такі сцеп лёну засеялі!* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* руск. *степь* 'стэп'.

СЦЕПАНУ'ЦЬ *зак.* Страсянуць што-н. адным узмахам рук, трапануць. *Сцепані хустку!* Новіны Нясв.

СЦЕ'ПАЎКА *ж.* Мянташка. *Сцепаўка — касу тачыць, вайстрыць.* Беразіно Докш.

СЦЕ'ПАЦЬ *незак.* 1. Трасучы, узмахваць чым-н.; вытрасаць. *Кросна торгаюць і сцепаюць, бы ўстрахнуць. Я сцепала ходнікі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Вастрыць. *Сцепаўка — дошчачка, якой сцепаюць касу.* Беразіно Докш.

СЦЕРАЖНЫ' *прым.* Асцярожны. *Сцеражны чалавек сцеражэ сябе. Сцеражнога і бох сцеражэць.* Вузла Мядз.

СЦЕ'РВА *ж. лаянк.* Сцерва, падла. *«Сцерва старая!» — кажуць на бабу.* Альхоўцы Лях.

СЦЕ'РПЕЦЬ *зак.* Сцярпець. *Каб я гэта сцерпіла — і прайшло п.* Кураполле Паст.

СЦЕ'РПНУЦЬ *зак.* Ацячы, апухнуць. *Рука сцерпла.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* літ. *tir̃pti* 'нямець'.

СЦЕ'РЦІ, СЦЕРЦЬ *зак.* 1. Ператварыць у мяккую масу. *Сцерла суніц два літры.* Кузьмічы Люб. *Картофлю сатрэш і бапку спячэш.* Мсцібава Ваўк. 2. Сціраннем зняць пыл і іншае з якой-н. паверхні; памыць. *Нада стол сцерць.* Кіралі Шчуч. *Алех, стры стала!* Стральцы Гродз. *Такая дзеўка і не сатрэ падлогі!* Вецярэвічы Пух. 3. Апрацаваць пры дапамозе церніцы. *Як упярот, то і на печы яшчэ сушылі лён, я с печы яшчэ сцерла.* Навасёлкі Лід. *Мяць бярэш жменю* [лёну], *сатрэш, перадаеш чысціць.* Завельцы Астр. 4. *перан.* Загубіць, знішчыць. *Фашысты сцерлі столькі народу.* Вецярэвічы Пух.

СЦЕ'РЦІСЯ *зак. перан.* Змарнавацца, без карысці прайсці. *Сцерліся маладыя лета!* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЦЕ'ШКА *гл.* СЦЕ'ЖКА

СЦЕ'ШЫЦЦА *зак.* Нацешыцца. *Ні сцешыцца бацька: такія дзеці, так слухалі.* Вецярэвічы Пух.

СЦЁБАЛЬ *м.* Тое ж, што і с ц ё б е л ь 1. Беняконі Воран.

СЦЁБАЦЬ *гл.* СЦЯБА'ЦЬ

СЦЁБНУЦЬ *зак.* Сцебануць. *Трэба яго сцёбнуць віткай.* Чычалі Швянч.

СЦЁГЦІСА *зак.* Паказацца вельмі доўгім, здоўжыцца. *Сёні мне дзень сцёгса: думала вечар, а яшчэ тры часы.* Кузьмічы Люб.

СЦЁЖАЧКА *ж. памянш.* Прабор. *Зраблю сцёжачку напрост у валасах.* Хатынічы Ганц.

СЦЁК *м.* Нахіл страхі, па якому сцякае вада. *Шлапаватая страха гніе — сцёку няма.* Гальшаны Ашм.

СЦЁКІ толькі *мн.* Гнаявая жыжка. *Сцёкі с хлява ідуць.* Мсцібава Ваўк. *Сцёкі вялікія кала хлева.* Вецярэвічы Пух.

СЦЁКЛЫ *прым.* Тонкі, слабы, кволы. *Сцёклыя буракі сталі ў траве.* Рагулішкі Даўг.

СЦЁМНІЦЦА, СЦЕ′МНІЦЦА *зак. безас.* Сцямнець. *Пайду, бо сцёмніцца мне там.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Сцёмнілася, папрыбягалі людзі з поля. Пакуль ні сцемніцца добра, куры не сядаюць на седала.* Азяраны Раг.

СЦЁНЧКА *ж.* Стужка. *Купіла сцёнчку Таня.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *wstążka* 'тж'.

СЦЁП *выкл.* у знач. *вык.* Сцёбнуць. *Ён сцёп яго палкай.* Валынцы В.-Дзв.

СЦЁПКА *ж.* Кладоўка. *У адном канцэ жывуць, у другом — сцёпка. У сцёпца жорна стаяць, кадушкі — усё, што не стаіць у хаце.* Стральцы Гродз. *Сцёпка коло хаты, сцёпку роб'ят у сенях.* Смаляніца Пруж. *Прывезлі дзве сцёпкі і здзелалі сарай.* Белічаны Бярэз.

СЦЁРЦІ, СЦЁРЦЬ *зак.* 1. Змыць. *Што ты ня можаш грась с падлогі сцерць?* Ёдлавічы Брасл. *Паехалі картошку капаць, а я пол сцёр.* Месянцы Брасл. 2. Тое ж, што і с ц ё р ц і 1. *Нада бульбу сцёрць на тарку.* Валынцы В.-Дзв. 3. Параніць, абдзерці. *Нагу сцёрла.* Жодзішкі Смарг. 4. *с.-г.* Ачысціць. *Абмалаціла жыта, сцёрла, у мяшкі сабрала — запрацавалася.* Валынцы В.-Дзв.

СЦІБАНЁНЫ *дзеепрым.* Караны, біты. *Мае ні разу ні сцібанёныя дзеці.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЦІБАНУ′ЦЬ *гл.* СЦЕБАНУ′ЦЬ

СЦІБА′НЫ *дзеепрым.* Сцёрты, без лісця, стары [пра венік]. *Там будзіць другі венік, алі ён сцібаны.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЦІБА′ЦЬ *гл.* СЦЯБА′ЦЬ

СЦІБА′ЧКА, СЦЯБА′ЧКА *ж.* Тое ж, што і с ц е п а ў к а. *Сцібачкай пасцібаць касу, а бруском павастрыць.* Саланое Віл. *Сцябачкай пасцябаў касу.* Жодзішкі Смарг.

СЦІБІ′КЛІ *мн.* 1. Ігліца. *Сцібіклі — іголкі з хвоі і ёлкі.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Кастрыца. *Са льна сыплюцца сцібіклі, як трэплеш лён.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Адросткі пер'я пасля лінькі. *Сцібіклі растуць, як лінея курыца.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *stibìkliai* 'кастрыца', 'ігліца'.

СЦІ′БІЦЦА *незак. экспр.* Ушчамляцца, лезці. *Чаго ты сцібісся?!* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *stiẽbtis* 'выцягвацца'.

СЦІБЯЛЁК *м. памянш.* да с ц ё б е л ь 1. Сцяблінка, каліва. *Сцібялёк аўса, ячменю.* Кураполле Паст. 2. Ствол. *Ссохла груша — стаіць адзін сцібялёк.* Кіралі Шчуч. 3. Парастак. *Сцібяльі атрастаюць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *stiebẽlis* 'тж'.

СЦІГА′ *ж.* Сцежка. *Сціга ў лес збочыла.* Якубова Рас. *Там толькі адны сцегі ваўчыныя відаць.* Замошша Брасл.; *параўн.* руск. устар. *стезя* 'дарога'.

СЦІГАВА′ЦЬ *незак.* Цікаваць, пільнаваць. *Кот сцігуя мыш.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

СЦІГАНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць, жарнуць. *Сцігані яго палкай!* Кіралі Шчуч.

СЦІДЗЁ'НЫ *гл.* СЦЮДЗЁ'НЫ

СЦІ'ЖА *гл.* СЦЮ'ЖА

СЦІ'ЖБА *ж.* Вялікі статак. *Такая сціжба кароў!* Вецярэвічы Пух.

СЦІ'ЛІШЧА *н.* Тое ж, што і с ц е́ л і ш ч а. Мярэцкія Глыб.

СЦІМБУ'Р, СЦІМБІ'Р, СЦЫМБУ'Р *м.* 1. Сцябло агародных культур, пустазелля. *У сланэчніку сцімбур.* Стральцы Гродз. *Грубы сцімбур у сланэчніка.* Солы Смарг. *Быльнік высокі, карэнні глыбокія, сцімбур у ім вялікі.* Дакудава Лід. *У гародзе стаіць сцімбур, трэба яго вырваць — ён мяшая добрай расліня расці. Сцімбуры бобу я перарубаў і ў гной выкінуў.* Гемзы Шальч. *Сцімбур вырас, толькі сцімбуры на шчаўніку.* Дэгшні Шальч. *Сцімбуры стаяць без лісця.* Пераброддзе Мядз. *Сцымбур расцець высока.* Завельцы Астр. 2. Чаранок ліста. *Сцімбур — цвёрдая частка ліста, я зразаю сцімбуры.* Малі Астр. *Падваротнік, як шчаўё, сцімбур у ім ёсць.* Плябанцы Ашм. *Праколваюць шаршаткай сцімбур ліста самасейкі і вешаюць сушыць. Абломліваюць сцімбурэ ад лісту і складаюць у копкі.* Гемзы Шальч. *Сцымбурэ ў бураках, у бруццы.* Масілавічы Сл. 3. Кветаножка, сцябло суквецця. *Цыбуля выцветне і сцімбурэ вялікія пуская.* Гемзы Шальч. 4. Стрыжань пяра. *Дайней уложаць сцімбіры ў сенічок і дзеці спалі і ня прэлі.* Ёдлавічы Брасл. 5. Сплеценыя ніткі ў матузы. *Сцімбурэ ў скарачэ.* Гемзы Шальч. 6. *анат.* Хваставы адростак у жывёл. *У каровы длугі, а у каня кароткі сцімбур. Сцімбур — хвост, скура на ім ёсць, на гэтым сцімбуру.* Руднікі Шальч.; *парайн.* літ. *stimburÿs, stim̃biras* 'тж'.

СЦІМБУРО'К, СЦІМБІРО'К *м. памянш.* да с ц і м б у́ р, с ц і м б і́ р 1, 2, 3. *Сцімбурок у травы.* Стральцы Гродз. *Нарву сцімбуркоў красных буракоў, звару, туда кропу, пёрышкаў, цыбулькі — і хлоднік.* Індра Красл. *Сцімбуркі атрывала ад вішні і ела.* Малі Астр. *Сцімбірок таўставаты ў трыпутніку.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЦІМБЮ'Р *м.* Тое ж, што і с ц і м б у́ р 4. *Зарэзала курыцу — адны сцімбюры, не атрасло пер'я, не магу вырваць сцімбюр.* Рагулішкі Даўг.

СЦІНА'ЦЦА *незак.* 1. Пакрывацца тонкім лёдам, замярзаць. *Пачыная вада сцінацца.* Жылі Іўеў. *Рака сцінаіцца, лядок пачыная замярзаць.* Саланое Віл. *Яшчэ лядок толькі сцінаецца.* Рыбчына Віл., Крэва Смарг. *Лёт сцінаяцца.* Магуны Паст. *Возіра сцінаіцца, замярзаіць, тонкі лядок.* Вузла Мядз. *Будзя вельмі марос: ужо звечара вада сцінаецца.* Гемзы Шальч. *Сцінацца стала вада.* Глівін Барыс. *Вада сцілася — зацягнулася тонкім лядком.* Мярэцкія Глыб. 2. Зябнуць, уздрыгваць. *Бягу і сцінаюся, як усё роўна змерз.* Ісерна Слуц.

СЦІНА'ЦЬ *незак.* 1. Зразаць. *У вас есць ножніцы, што клы сцінаць парасятам?* Мсцібава Ваўк. *У малых свіней сцінают*

*кла — языка растрэпле.* Лука Нараўк. *Як цвічацца салдаты: куль саломы паставяць і сцінаюць.* Кудзялянцы Шальч. 2. Шчыльна змыкаць, сціскаць, сашчамляць. *Баліць ёй — сцінаіць зубы, каб не крычаць.* Беразіно Докш. 3. Зашчамляць. *Сэрцавата дзерава есць і крыжавата, крыжавата сціная пілу.* Дакудава Лід.

СЦІНКА'ЦЦА *незак.* Сціскацца, згінацца. *Цвёрда даіць карову — пальцы не сцінкаюцца.* Кузьмічы Люб.

СЦІНЯЦЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с ц е́ к ц і с я. *Сціняцелі бурачкі, сціняцелі ў траве.* Індра Красл.

СЦІНЯ'ЦІЦЦА *зак.* да с ц і н а́ ц ц а 1. *Калі лёд сцінянціцца?* Мачаск Бярэз.

СЦІ'ПЕРЫ толькі *мн.* Жабры. *Рыба дыхая сціперамі.* Руднікі Шальч.

СЦІРА'ЦЬ *незак.* 1. Мыць. *Цяпер у нас кажуць — мыла і сцірала бяльё.* Вострава Маст.; *параўн.* руск. *стирать* 'тж'. 2. *с.-г.* Ачышчаць, абмятаць абмалочанае збожжа ад каласкоў, дробнай саломы. *Сціраць будзіш жыта, як абмалоцюць.* Валынцы В.-Дзв. *Граблямі аграбаюць салому, а патом мятлой сціраюць.* Мішневічы Шум. 3. Масажыраваць. *Як падарвецца чалавек, рукой сціралі жывот, гаршчок ставілі на пуп — так даўней рабілі.* Лайпушкі Ігн. *Слухай, як даўней лячылі: скіня сваю сарочку і падалом сцірая карову — усё лякарства.* Слабада Мін.

СЦІ'РДА *гл.* СЦІ'РТА'

СЦІРДАВА'ЦЬ *гл.* СЦІРТАВА'ЦЬ

СЦІ'РКА *ж.* 1. Ручнік, якім выціраюць посуд. *Сцірка — вузенькі ручнік для пасуды.* Чычалі Швянч. 2. Анучка, шматок. *Сціркай стол сціралі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Вазьмі сцірку, сатры стол! Кажная сцірка я знаю на што.* Кіралі Шчуч.

СЦІРТ *м.* 1. Града, рад. *Дровы склалі ў сцірт.* Гемзы Шальч. 2. Штабель, стос. *Сцірт бярвеня ляжаў.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *stìrta* 'тж'.

СЦІ'РТА', СЦІ'РДА *ж.* 1. Тое ж, што і с ц і р т 1, 2. *Дроў сцірта.* Чычалі Швянч., Старыя Смільгіні Воран., Пасека Ст.-Дар. *Злажылі дрова ў сцірту.* Кіралі Шчуч. *Вазілі лес зімой, накладзена яго сцірты вялікія, а тады збівалі палкамі ўперак: саб'юць, звяжуць і гонюць па рэках.* Лісна В.-Дзв. 2. Вялікая тарпа́ сена, саломы, збожжа. *Сена сцірта.* Чычалі Швянч. *Сціртá сена.* Мярэцкія Глыб. *Сена ў сціртý злажываюць.* Руднікі Шальч. *Сціртá сена ў гумне.* Каўняны Гродз. *Сцірта саломы стаіць ад восені.* Вялікія Баяры Шчуч. *Складвалі стагі, а тады сцірты.* Ёдлавічы Брасл. *Наклалі дзве сцірты саломы.* Альба Нясв. *Сцірты карма кладуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Сцірды сцірдуюць.* Малахоўцы Бар., Пасека Ст.-Дар. *Не адна сцірта жыта ў яга.* Беразіно Докш. *Сціртá збож'я — доўга кладзь.* Дзяніскавічы Ганц. 3. *перан.* Вялікая куча чаго-н. *Тых паўзуноў ляжыць сціртá!* Пацаўшчына Дзятл.

СЦІРТАВА'ЦЬ, СЦІРДАВА'ЦЬ *незак.* Складваць у сцірты.

*Будзім сціртаваць сягодня салому.* Ёдлавічы Брасл. *Будзім сціртаваць сена.* Мярэцкія Глыб. *На полі сцірдуюць салому.* Пасека Ст.-Дар.

СЦІ'СКАНЫ *дзеепрым.* у знач. *вык.* Стоўчаны. *Гарох зварапы і качалкай сціскапы, яго пакачаюць у руках — і гарохавы цінцюк ядуць.* Рагулішкі Даўг.

СЦІСКА'ЦЦА I *незак.* Туга звязвацца. *Пундэляў трыццаць сціскаліся вяроўкамі ў балы.* Гальшаны Ашм.

СЦІСКА'ЦЦА II *незак.* Змяркацца. *Зайшло сонца, святло сціскаецца — ноч наступая.* Азяраны Раг.

СЦІСКА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с ц і н á ц ц а 1. *Рэчку ўжо лядок сціская.* Солы Смарг.

СЦІСКІ' толькі *мн.* Ціскі. *Камінь і сціскі дзіравяныя, што сыр рабіць.* Філіпаўцы Красл. *Ёсць сціскі на шрубі: палажыў туды сыр і сціснуў.* Кіралі Шчуч.

СЦІ'СКЛА *прысл.* Туга. *Звязала сноп сціскла.* Жодзішкі Смарг.

СЦІСКЛЕ'Й *прысл.* Больш ашчадна, эканомна. *Даўней сцісклей людзі жылі, чым цяпер.* Парэчча Гродз.

СЦІ'СКЛІВЫ *прым.* Ашчадны, скупаваты. *Мой тата сцісклівы такі быў.* Крэва Смарг.

СЦІ'СКЛЫ I *прым.* Тое ж, што і с ц í с к л і в ы. *Ён сціcклы чалавек: усё сам сабе сцісніць.* Кураполле Паст.

СЦІ'СКЛЫ II *прым.* Круты, крута спрадзены. *Сцісклыя ніткі не распускаюцца.* Жодзішкі Смарг.

СЦІ'СЛЫ *прым.* Тое ж, што і с ц í с к л і в ы. *Гэна жонка была сціслая.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЦІ'СНЕНЫ *дзеепрым.* Сціснуты. *Не люблю, як у мяне сцісненыя грудзі — біс станіка хаджу.* Кураполле Паст.

СЦІ'СНУЦЦА *зак.* Тое ж, што і с ц і н я́ ц і ц ц а. *Рэчка сціснулася — лядок ужэ.* Солы Смарг.

СЦІ'СНУ'ЦЬ *зак.* 1. Заціснуць пальцамі рукі. *Так сціснеш у пальцах.* Грыкені Вільн. *Сціснеш жменю.* Рагулішкі Даўг. *Не магу пальцамі сціснуць.* Кіралі Шчуч. *Свечку сціснула ў руках і памёрла.* Ёдлавічы Брасл. 2. Выкруціць. *Трэба туга сціснуць бялізну, каб ваду выжаць.* Рагулішкі Даўг. 3. Згарнуць; укруціць, звязаць. *Сціснём каласкі ў кучу, а зверху накрыем дзесятым снапом.* Вузла Мядз. *Як ня сцісну дзіця — усё раўно ручонкі вон.* Індра Красл. 4. Забалець, пачаць балець. *Як толькі тут сцісне, то завець банкі ставіць.* Завельцы Астр. ◊ *Сэрца сціснуць* — пра востры боль у момант сардэчнага прыступу. *Можа сэрца сціснуць за адну мінюту.* Малі Астр. *Сціснуць у карман* — назапасіць грошы, захапіць усё сабе. *Усё сцісніць у свой карман і не дасць.* Кураполле Паст.

СЦІХ *м.* Верш. *Я сціх расказала, мяне пахвалілі.* Солы Смарг. *Сціхі піша такія складныя.* Дэгшні Шальч.; *параўн.* руск. *стих* 'тж'.

СЦІ'ХА' *прысл.* Цішком, паціху, крадучыся. *Ён сціха за ягá*

*і панёс.* Груздава Паст. *Сціха падпоўз воўк да авечак.* Пасека Ст.-Дар. *Яна сцíха да яга падкралася.* Груздава Паст.

СЦІХАМІ'РАЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Сціхамíралася ўсё на свеці.* Чапаеўскі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *утихомириться* 'тж'.

СЦІХА'ННЯ *н.* Спакой, цішыня. *Цэлу ночку сціхання няма!* Вецярэвічы Пух.

СЦІХА'ЦЬ *незак.* Пастунова сунімацца, пераставаць. *Болі сталі сціхаць.* Мыто Лід.

СЦІ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Супакоіцца, уціхамірыцца. *Не дурэй, сціхні!* Мачаск Бярэз. *Сціхні ты, карчыла старое!* Новіны Нясв. *Ай, сціхні ты!* Буды В.-Дзв. *Бітва ў хляве сціхла.* Васілевічы Гродз. 2. Перастаць ісці, ліць, падаць. *Дошч сціх.* Магуны Паст. *Сціх дошч.* Дарава Лях. *Дош сціх.* Лоск Валож.

СЦІША'ЦЬ *зак.* Супакоіцца. *Вецяр сцішая.* Вялікія Баяры Шчуч. *Можа вецяр сцішая.* Альхоўцы Лях. *Вецяр сцішаў перад дажджом.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сцішаў вецяр.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сцішала на дварэ.* Рудня Чэрв.

СЦІШКА' *прысл.* Цішком, нішкам, не павышаючы голасу. *Яна табе сцішка дакажа, што ты не захочаш жыць на свеці.* Малі Астр. ▽ *Як скажа сцішка, як з мяшка* — нечакана, раптам. Малі Астр. *Ня бойся сабакі, які брэша, а бойся таго, які сцішка ўкусіць.* Кураполле Паст.

СЦІ'ШНА *прысл.* Ціха. *Сцішна было ў лесе.* Альхоўка Навагр.

СЦІ'ШЫЦЦА *зак.* Замоўкнуць. *Стары схіліўся, сцішыўся ды сядзіць.* Вецярэвічы Пух.

СЦІШЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і сцішáць. *Сцішэў вецер — цяплей стала.* Пацаўшчына Дзятл.

СЦУКРАВА'ЦЦА *зак.* 1. Ператварыцца ў дробназярністую цукровую масу. *Варэнне стаіць на другі рок і сцукруецца.* Мсцібава Ваўк. *Мёт сцукруецца, як пастаіць.* Груздава Паст. 2. *перан.* Зацвярдзець, ушчыльніцца, утварыць снежную корку. *Снех сцукраваўся, па ім можна ісці.* Навасёлкі Лід.; *парайн.* польск. *scukrzyć się* 'сцукравацца'.

СЦЫМБУ'Р *гл.* СЦІМБУ'Р

СЦЫ'НДРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Зрабіцца надта цвёрдым, зацвярдзець. *Але ж зямля сцы́ндрэла.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і сцукравáцца 2. *Сцындрэ́ў снег: як адліга, а потым умарозіць — можна і канём ехаць.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* дзíндра.

СЦЭ'ЛІЦЦА *зак. перан.* Уцалець, астацца жывым. *Лётчыка збілі: жыў быў, і сцэліўся, у нас жыў.* Крэва Смарг.

СЦЮ'ДЗЕНЬ *ж. кулін.* Халадзец, квашаніна. *Сцюдзень наварыла са свіных нох.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЦЮДЗЁНА, СЦЮ'ДЗІНА *прысл.* Холадна. *Ай, ях сцюдзёна на дварэ.* Беразіно Докш., Мішневічы Шум. *Калі стала сцюдзіна, ні стала балезні. Ой, сцюдзіна было! Як сцюдзіна — жэнюць рукавы.* Саланое Віл. *Ногі, як лідакі, яму сцюдзіна.* Кураполле Паст.

СЦЮДЗЁ'НАЯ МЯ'ТА *ж. бат.* Перцавая мята. *Сцюдзёнай мяты для апіціту навары!* Кураполле Паст.

СЦЮДЗЁ'НЫ, СЦІДЗЁ'НЫ, СТУДЗЁ'НЫ *прым.* 1. Халодны (пра ваду). Рыбчына Віл., Палік Барыс., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Кап уліць сцюдзёнай вады.* Груздава Паст. *Сцюдзёная раніца, сцюдзёны дош ідзе.* Саланое, Рыбчына Віл. *Вада са студні студзёная, зімная.* Жылі Іўеў. 2. Ахалоджаны, астуджаны. *Жур сцюдзёны са сметанай елі.* Мішневічы Шум. 3. Замёрзлы, акалелы. *Твае рукі сцюдзёныя, ідзі ў хату!* Груздава Паст. *У курыцы жары німа, не сядзіць на яйках: яна сцюдзёная, як падла.* Саланое Віл. 4. Неапалены, неацеплены. *Хата сцідзёная — не тапіла яшчэ.* Шатрова Дрыс.

СЦЮ'ДЗІНА *гл.* СЦЮДЗЁ'НА

СЦЮДЗЯНЕ'Й *прысл.* Халадней. *Сцюдзяней у хаця стала.* Мярэцкія Глыб.

СЦЮДЗЯНЕ'Ц *м.* Тое ж, што і с т у д з я́ н к а. *У сцюдзянцы вада халодная.* Саланое Віл.

СЦЮ'ЖА, СЦІ'ЖА *ж.* 1. Моцны холад, халадэча. *Сцюжа на дварэ.* Кураполле Паст. *Была сціжа на дварэ.* Груздава Паст. ◇ *У сцюжу кідаць* — трэсці, калаціць. *Маму ў сцюжу стала кідаць.* Кураполле Паст. 2. у знач. *прысл. сцю́жай.* У час сцюжы. *Буду сцюжай бульбу капаць.* Кураполле Паст.

СЦЮК *м.* Асцюк. *Сцюк коліцца. Ад ячменю сцюкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *гл.* асцю́к.

СЦЮЛЁЗГАЦЬ *зак., экспр.* 1. Зглуміць, змарнаваць. *Добрую адзежу сцюлёзгала.* Кураполле Паст. 2. Нанесці гразі, павэдзгаць. *Куры залезлі ў карыта і сцюлёзгалі свіную яду.* Кураполле Паст.

СЦЮ'ПАЦЬ *зак.* Дробна пасячы. *Я сікачом храп'я сцюпаю і курам даю.* Мярэцкія Глыб.

СЦЮ'ПІЦЦА *зак.* Натапырыцца, уцягнуць шыю ў пёры. *Кура сцюпіцца і сядзіць.* Кураполле Паст.

СЦЮ'ПЦІЦЦА *зак.* 1. Скурчыцца. *Як хто змокне ці змерзне, то сцюпціцца і ляжыць на печы.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Зажурыцца, сцішыцца. *Як каму гора якое, то кажуць: «Што ты сцюпціўся?»* Мсцібава Ваўк.

СЦЮЦЮ'РЫЦЦА, СЦЮЦЮРЭ'ЦЦА, СЦЯЦЮ'РЫЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і с ц ю́ п і ц ц а. *Нешта сцюцюрыўся пісклюк.* Саланое Віл. *Курыца сцюцюрылася, сядзіць — мусіць, здохніць.* Мярэцкія Глыб. *Сцюцюрэлася курыца мая, сядзіць.* Рыбчына Віл. 2. *перан.* Тое ж, што і с ц ю́ п ц і ц ц а 2. *Чалавек сцяцюрыўся, зложыў рукі і сядзіць.* Ракаўскія Швянч.

СЦЮ'ШКА *ж.* 1. Вузкая палоска поля. *Я сцюшку жыта жжала. Скасіў сцюшку аўса.* Слабада Смал. 2. Кусок сала прадаўгаватай формы. *Сцюшку адразаеш сала: вузейшую на шырыну, як на дліну.* Слабада Смал.

СЦЯБА'ЦЬ, СЦІБА'ЦЬ, СЦЕБА'ЦЬ, СЦЁБАЦЬ *незак.* 1. Караць. *Розгай сцябай яго!* Беняконі Воран. *Даўней дзяцей сці-*

*балі.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Пугай сцябаць перан.*— абмаўляць, паносіць каго-н. завочна. *Завочняга купца і пугай сцябаюць.* Кураполле Паст. 2. Паганяць. *Сцёбай каня!* Беразіно Докш. 3. Вастрыць. *Бруском касу сцябаюць. Раней былі сцябачкі, а цяпер — брускі.* Рыбчына Віл. *Касу бруском сцібаюць.* Палік Барыс. *Дайней сцебачкай сцебалі касу.* Вузла Мядз. 4. Моцна падаць, біць па шыбах (пра дождж); пырскаць вадой. *Сцібаіць дошч па вокнах.* Кураполле Паст. *Вадой сцебаеш, як выляціць рой.* Вузла Мядз. 5. *перан.* Кусаць. *Сільна балюшча сцябаюць мурашкі!* Месянцы Брасл. 6. *перан.* Быць падобным на каго-н. *Ён сцёбаець троху на матку.* Беразіно Докш.

СЦЯБА'ЧКА *гл.* СЦІБА'ЧКА

СЦЯБЕ'ЛЬКІ *мн. памянш.* Сцяблінкі травяністых культур. *У валасніку сцябелькі сцеляцца.* Быстрыца Астр.

СЦЯБЛАВЫ' КО'РАНЬ *м.* Тое ж, што і с т ы р ч а́ к 2. *Сцяблавы корань — прамы.* Стральцы Гродз.

СЦЯБЛІ'НА *ж.* Сцябло збожжавых культур, саломіна. *Сцябліна жытня і гаўсяна сцябліна.* Вострава Маст.

СЦЯБЛІ'НКА *ж. памянш.* да с ц я б л і́ н а. *Спарыш — адна сцяблінка і два каласы.* Збляны Лід.

СЦЯБЛІ'СТЫ *прым.* З высокім сцяблом, цыбаты. *Сцяблістa капуста, галоўкі маленькія.* Старое Сяло Зэльв.

СЦЯБЛО' I *н.* Тое ж, што і с ц я б л і́ н а. *Сцябло — пруцік жыта.* Дзяніскавічы Ганц.

СЦЯБЛО' II *н.* Журавель. *У студні сцябло, да сцябла прымацоўваюць ключ, а на яго вешаюць вядро.* Каменка Стара Сакол.

СЦЯБНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с ц е б а н у́ ц ь 1. *Сцябнуў каня пугаю.* Збляны Лід.

СЦЯБЯЛЬЦО' *н. памянш.* Адно каліва чаго-н. *Сцябяльцо маку с карэньчыкам вырвай.* Альхоўцы Лях.

СЦЯГ, СЦЯХ *м.* 1. Абшар, плошча, пляц. *Кала Калной сцяг бальшы лугу.* Рыбчына Віл. 2. Рад, палоска. *За тры дні сцях страхі накрыў.* Саланое Віл.

СЦЯГА'ЦЦА *незак.* Сцягвацца. *Сцягаюцца жылы на нагах — цяшко хадзіць.* Новікі Гродз.

СЦЯ'ГВАЦЦА *незак.* Перасяляцца. *Цяшка на другоя месца сцягвацца.* Рыбчына Віл.

СЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Перасяляць. *Перад вайной сталі сцягваць хутары ў адно места.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЦЯГЕ'НЦО *н. памянш.* да с ц я г н о́ 2. *Сястра як упора голкай у сцягенцо: таквеля яе пакалолі, папаролі.* Альхоўцы Лях.

СЦЯ'ГЛІ, СЦЯ'ГЛЫ *мн.*, СЦЯ'ГЛЯ *ж.* Каленныя сухажыллі. *Баляць мне сцяглі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Баляць сцяглы, жылы пад сцяглами.* Жылі Іўеў. *Сцягля пад каленкам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сукенка па сцяглю. Злажыла п даўжэйшую су-*

*кенку, хоць бы сцяглі закрыла.* Гемзы Шальч. *Але жылы паўсталі ў сцяглях.* Кіралі Шчуч.

СЦЯ'ГЛІНА *ж.* Дол, упадзіна, лагчына. *Сярод лесу ішла сцягліна.* Кураполле Паст.

СЦЯГНЕ'ННЯ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова с ц я́ г в а ц ь. *Сцягнення хутароў было.* Вецярэвічы Пух.

СЦЯГНО' *н.* 1. Кумпяк. *Даўней казалі сцягно, а цяпер — акорак, шынка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сцягно і лапатка, як кабана разбіраеш.* Дзяніскавічы Ганц. *Сцягно капчонае вісіць.* Азяраны Раг. *Кабана забілі, сцёгна былі добрыя.* Міратычы Карэл. 2. *анат.* Бядро, бёдры. *Сцягно на назе пад сукенкаю, вышэй калена.* Малахоўцы Бар. *Яма была на ўсё сцягно.* Пацаўшчына Дзятл. *Сцягно пабіў.* Лука Нараўк. *Сцягно баліць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Баляць сцёгна.* Старое Сяло Зэльв. *Сцёгны баляць.* Кураполле Паст. *Раз'елася — сцёгны які!* Беразіно Докш. *Па сцёгнам дам!* Альхоўцы Лях.

СЦЯГНУ'ЦЦА *зак.* Збегчыся, ссесціся (пра тканіну). *Як памыю сарафан, баюся, што сцягніцца.* Ёдлавічы Брасл.

СЦЯГНУ'ЦЬ, СТЯГНУ'ТЫ *зак.* 1. Цягнучы што-н. па зямлі, знесці ў адно месца; падняць. *Сцягнулі ў балота сліўнік сухі.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Балеў* [муж], *ні магу сцягнуць на каравацъ — сілы няма.* Слабада Мін. 2. Зашнураваць. *Баба, хадзі сцягні шнюркі!* Ракаўскія Швянч. 3. *перан.* Сцебануць. *Калісьці матка махрачамы сцягня па спіне, сцебане.* Івашкаўцы Смарг. 4. Украсці, узяць, забраць. *Нада было яму сцягнуць салетры мяшок.* Ёдлавічы Брасл. ◇ *Оста́тню соро́чку сцягну́ті* — усё забраць. *Остатню сорочку готовы стягнуті.* Курашэва Чыж. 5. Уцягнуцца ўнутр чаго-н., збегчы. *Ніхай вада сцягніць і патсохніць, тады будзім бульбу садзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 6. Заглушыць, пашкодзіць росту. *Зельё сцягнуло буракі: зрабілісё тоненькія.* Міратычы Карэл. *Бяроска бульбу чыста сцягнула, скруціла.* Ёдлавічы Брасл. ◇ *Як касо́й сцягну́ць* — пра густую вялікую траву; шырокі пракос. *Трава там — як касой сцягнуць.* Альхоўка Навагр. *Заняў палоску, як касой сцягнуць.* Саланое Віл. 7. Панізіць ціск крыві (пры дапамозе п'явак). *Болела голова, п'яўкі кроў сцягнулі.* Хатынічы Ганц. 8. Неадвольна скараціцца (пра мышцы пры некаторых захворваннях). *Сударга сцягнула нагу.* Рагулішкі Даўг. 9. Пазбавіцца, сагнаць (пра мазоль). *Сухі мазоль будзе вечне: яго не сцягнеш.* Кіралі Шчуч. ◇ *Ні сцягну́ць песню* — страціць здольнасць пець. *Цяпер песню ні сцягну, а даўней — усякія умела.* Саланое Віл. *Сцягну́ць врэ́мя, сцягну́ць с пары́* — быць доўгі час перашкодай, састарыць каго-н. *Яго жонка дваццаць гадоў хварэла — сцягнула мужыку врэмя, чалавек стаў ужо стары і ня мох жаніцца, сцягнула чалавека с пары, яму ўжо было восемдзесят гадоў.* Каменка, Ёдупка Шальч.

СЦЯГНЯ'К *м.* 1. Тое ж, што і с ц я г н о́ 1. *Сцягняк вісіць на гарэ.* Рыбчына Віл. *Сцягняке сасхлі.* Вецярэвічы Пух. 2. Тое ж,

што і с ц я г н о́ 2. *На сцягняках сабакі шэрсць вылезла.* Слабада Мін. 3. *мн.* Бёдры. *Што ты атставіла сцягнякі! — Будзеш ганяць гусі і куры!* Альхоўцы Лях.

СЦЯ'ГНЯНЫ *дзеепрым.* Сцягнуты. *Сцягняны вузёл — ні магу развязаць.* Асавец Віл.

СЦЯГНЯЧКЕ' *мн. памянш.* да с ц я г н я́ к 3. *Цяпер кароткія сукенкі носяць: усе сцягнячке відаць.* Вецярэвічы Пух.

СЦЯГЦІ' *зак.* Сцягнуць. *Сцягла граблямі рачны асот.* Вецярэвічы Пух. *Кошка сцягла туфяль Анюцін. Усё сцягла туды.* Азяраны Раг. *За ногі ее сцёг.* Маркоўскае Лельч.

СЦЯГЦІ'СА *зак.* 1. Тое ж, што і с ц ё г ц і с а. *Вам сцяглоса ўрэм'я?* Пасека Ст.-Дар. *Сцягса мне дзень.* Кузьмічы Люб. 2. *экспр.* Пайсці, выйсці. *Сцяглася я з дому.* Кузьмічы Люб.

СЦЯЖ *м.* Рад. *Сядзіць Антон і другія: гэта было радышкам, у адным сцяжы.* Мельканавічы Сл.

СЦЯ'ЖКІ, СЦЯ'ШКІ толькі *мн.* Атрэп'е. *Путаны лён, ён пойдзе ў сцяжкі.* Мішневічы Шум. *Сцяшкі, што сцягвалі з лёну. Са сцяжак путы вілі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Абцягнеш ручэячку — сцяшкі.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб.

СЦЯ'ЖЫКІ *мн.* Сляды гада. *Вышла я з хаты, гляджу — сцяжыкі па дварэ, а гэта гадзюка ці вуж пахадзіў.* Азяраны Раг.

СЦЯ'ЖЫЦЬ *зак.* Сцягнуць, украсці. *Нехта сцяжыў у яго сена.* Рагулішкі Даўг. *Сцяжыл рэмень, кружку. Браце вылупілі дзверы і сцяжылі сала.* Месянцы Брасл.

СЦЯЖЭ'РЫК *м. памянш.* да с ц е́ ж а р 1. *З дзерава зробяць сцяжэрык і там сена складаюць. Апкасіў сцяжэрыка.* Навасёлкі Свісл.

СЦЯ'КА'ЦЬ *незак.* 1. Выцякаць. *Лееш гарачую ваду на попел, сця́кая і робіцца слізкі шчолак, харошы, мылкі.* Азяраны Раг. *У латачок сцяка́я алей.* Гемзы Шальч. *Выжымаюць мед, і ён сцяка́іць.* Саланое Віл. *Мёт сцяка́ў, а вашчына заставалася.* Вузла Мядз. 2. Рабіцца тонкім, кволым (пра гародніну). *Сцякаюць гуркі.* Галубы Маст. *Сцякаюць буракі.* Бакшты Іўеў. *Гародніна сцякая, робіцца як нітачкі.* Кіралі Шчуч. *Усе апалолі, а ў яе сцякая.* Вялікія Баяры Шчуч.

СЦЯКЛО' *н.* 1. Шкло. *Бутыл аб бутыл удараць возле лесу — сцякол надзелалі.* Месянцы Брасл. 2. *мн.* Шыбы ў вокнах. *Зазвінелі сцякло* [сцёклы]. *Сцякло плачат* [плачуць]. Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *стекло* 'шкло'.

СЦЯКЛЯНЫ' *прым.* Шкляны. *Гляк сцякляны, аплятаны.* Магуны Паст.; *парайн.* руск. *стеклянный* 'тж'.

СЦЯКУ'Н I *м.* Крынічнае месца, якое зімой не замярзае. Міратычы Карэл.

СЦЯКУ'Н II *м.* Баран-вытворнік, маркач. Лайпушкі Ігн.

СЦЯЛІ' ПО'ЛЯ *бат.* Вязель палявы. *Сцялі поля — трава такая ёсць, расце па дзірванох, сцеліцца, яе п'юць ад язвы.* Солы Смарг.

СЦЯЛІ'ЦЦА *зак.* Ацяліцца. *Не сцялілася карова, яе прырэ-*

*залі.* Вострава Маст. *У нас карова не сцялілася.* Вузла Мядз.

СЦЯЛІ'ЦЬ *незак.* Слаць. *Мачылі лён у сажалку, насякуць алешніку, націснуць, калі валакошка лушчыцца, то сцялілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЦЯМНЕ'ЦЦА *зак., безас.* Сцямнець. *Бывала так, што ні сцямнеіцца добра, а яны коні вядуць.* Ахрэмаўцы Брасл.

СЦЯМНЕ'ЦЬ, СЦЯМНЯ'ЦЬ *зак.* 1. *безас.* Тое ж, што і с ц я м н е́ ц ц а. *Як сцямнела, мы заехалі ў Сіўцы.* Кураполле Паст. *Ужо сцямнела.* Саланое Віл. *Скора ўжо сцямняя.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. *асаб.* Зацьміцца. *Сцямняла слоньца — нека надышла хмара.* Кіралі Шчуч.

СЦЯНА', СЦЕНА' *ж.* 1. Сцяна ў будоўлі. *Сцены стаяць, а крышы німа.* Дарава Лях. *Па сценах дыркі пасвідраваны.* Месянцы Брасл. 2. Бервяно, роўнае даўжыні сцяны. *Спілаваў старую хвою, дзве сцянэ вышлі с хвоі.* Кіралі Шчуч. 3. *ткац.* Мера даўжыні асновы красён і палатна. *За Вільёй — гупкі, а ў нас сце́ны. Сколькі сцен выткаў? — Шарачку выткала дзесяць сцен. Вытчэш дзесяць сцен, то разразаеш і беліш гэтыя кускі.* Завельцы Астр. *Вытку дзевяць сцен, разрэжу на тры кавалкі — па тры сцяны.* Дэгшні Шальч. *Мы цяпер на сцяны снуем: калкі ўгонім у сцяну.* Малькуны Ігн. *На снуйках пяць сцен: ад аднаго кута да другога.* Бенякoні Воран. *Сягоня сцяну цэлую пакульніцы выткала — сцяну праз дзень.* Ёдлавічы Брасл. *Шэсць сцен ччом, адрэжам і белім.* Быстрыца Астр. *Веле сцен аснавала? — Пяць сцен.* Грыкені Вільн. ▽ *Даўней бацянова пер'ячко затыкалі ў сцены, каб блохі* [клапы] *звяліся ў хаце.* Дарава Лях. ◇ *Біць аб сце́ну* — пра што-н. вельмі моцнае. *Гаршчок даўней абкруціць лыкам — аб сцену бі — не разаб'еш.* Пераброддзе Міёр. *У сце́нах дзю́ркі рабіць* — разгароджваць хату. *Я ў сценах дзюрак рабіць не буду — пабудую сам хату; я яму казала прарэзаць другія дзверы і перабіць хату.* Вузла Мядз.

СЦЯРАГЧЫ' *незак.* 1. Аберагаць. *Сцяражы, каб збаны ні пабіў! Сцяражы збанка, не пабі!* Сакаляны Сакол. 2. Даглядаць. *Старому добра, яго там сцярэгуць.* Малыя Аўцюкі Калінк. ◇ *Божа сцеражы!* Паляцкішкі Воран.

СЦЯРВІ'НА *ж.* Тое ж, што і с ц е́ р в а. *Вот сцярвіна — часы сапсавала! — Я пілную, кап часы ішлі.* Кіралі Шчуч.

СЦЯРЦО'ВЫ КО'РАНЬ *м.* Тое ж, што і с т ы р ч а́ к 2. *Сцярцовы корань ідзе ў зямлю.* Міратычы Карэл.

СЦЯ'ТЫ *дзеепрым.* У выразе: ◇ *Ні сця́ты, ні паве́шаны* — ні тое, ні другое. *Мая дачка з мужам не жыве, яна ні сцятая, ні павешаная, ні такая, ні-сякая.* Малі Астр.

СЦЯЎПЦІ' *зак.* Пацерці, перамяшаць. *Ягады сцяўпеш, сахару насыпеш, усё ўместа сцяўпеш і паставіш на зіму.* Вузла Мядз.

СЦЯХ *гл.* СЦЯГ

СЦЯ'ЦЦА *зак.* 1. *зак.* да с ц і н а́ ц ц а 1. *Марос, аж вада сцяла́ся.* Жылі Іўеў. *Сцяла́ся вада на рэцца.* Жыдзевічы Іўеў.

*Сцяла́ся рэчка, лёт сця́ўся.* Навасёлкі Лід. *Возіра сцяло́ся, стала. Марос, у вядрэ вада сцяла́ся.* Кіралі Шчуч. *Вада на сажалцы сцяла́ся, скора замерзніць.* Мярэцкія Глыб. *Сцяла́ся крынічка.* Глівін Барыс. *Рэчка сцяла́ся.* Стральцы Гродз. *Рэка ўжо кала берагоў сцяла́ся, становіцца рэка.* Гемзы Шальч. *Рака сцяла́ся.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сцяла́ся рэчка, лёдам пацягнулася.* Быстрыца Астр. *Марос вялікі — гатова рака сцяцца.* Рыбчына Віл. *Сцяло́ся возяра.* Магуны Паст. *Сця́ўся лёд на рачулках.* Пацаўшчына Дзятл. *Лядок сця́ўся на рацэ.* Кураполле Паст. *Лядок сця́ўся.* Беразіно Докш. 2. *перан., экспр.* Пасварыцца, пацапацца. *Сцёўся я з ім, перагаварыліся.* Дакудава Лід.

СЦЯЦЬ *зак.* 1. Зрэзаць, ссячы. *Што не грубоя, можна сякерай сцяць. Нашто ты сцяў клянок маладзы? — Няхай ба рос.* Гемзы Шальч. *Трэба ўзяць серп і пайсці гэты асот сцяць, кажды гот яго сцінаюць.* Кіралі Шчуч. *Сціла́ траву сярпом, як хто ідзець і маханець сярпом.* Мярэцкія Глыб. 2. *перан.* Абкусаць, аб'есці. *Пчолы сцялі мне плечы.* Крэва Смарг. *Пакуль загон абрабіла — сцялі камарэ, мошкі ногі.* Пацаўшчына Дзятл. ◇ *Сцяць зубы (губы)* — змоўкнуць, зазлаваць. *Сцяў зубы і маўчыць.* Масілавічы Сл. *Ён зубы на дзяцьку сцяў і кулакі сціснуў. Што ты сцяў зубы?!* Валынцы В.-Дзв. *Паляцеў і губы сцяў.* Азяраны Раг.

СЦЯЦЮ'РЫЦЦА *гл.* СЦЮЦЮ'РЫЦЦА

СЦЯЧЫ' *зак.* да с ц я к а́ ц ь 2. *У гародзя сцякло, зелля заглушыла.* Вялікія Баяры Шчуч. *У зелві буракі сцяклі, шчэ я не апалола. Як аполіш, то тоўсценькія, харошыя.* Дзяніскавічы Ганц. *Сцяклі бураке ў зелі, не паполаныя.* Вострава Маст. *Мак дужа густы — ён сцячэ, нада прарадзіць.* Вецярэвічы Пух.

СЦЯ'ШКІ *гл.* СЦЯ'ЖКІ

СЦЯЯ' *ж.* Тое ж, што і с ц я г 2. *За тры дні сцяю* [страхі] *накрыў.* Саланое Віл.

СЧА'ДЗІЦЬ *зак.* Учадзець. *Счадзіла дзеўка — і памярла, яе пахавалі, прыбралі, як маладую, стала сніцца яна, што жывая, яе адкапалі, але яна задушылася.* Солы Смарг.

СЧАРВЕ'ЦЬ *зак.* Стаць чарвівым. *Твае грыбы счарвеюць, чаму не варыш?* Кіралі Шчуч.

СЧАРНЕ'ЦЬ *зак.* Пачарнець, стаць чорным. *Ён шчарнеў — да таго боль.* Малахоўцы Бар.

СЧАСА'ЦЬ *зак.* Апрацаваць часальнай машынай. *Воўны счэшаш і прадзеш.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЧАЎПСЦІ' *зак. экспр.* Прыдумаць, сказаць што-н. *Як прывяжыцца, хоць бы што счаўпсці яму.* Завельцы Астр.

СЧАХРА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с ч а с а́ ц ь. *Счахраюць воўну — і мякінька працсі.* Кудзялянцы Шальч. *Дзве кілаграмы счахрала воўны.* Ракаўскія Швянч.

СЧМУРЭ'ЦЬ *зак. безас.* Пацямнець. *Ужэ счмурэла, уліўны дошч даў.* Парэчча Гродз.

СЧЫЖАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і с ч а с а́ ц ь. *Счыжуюць война і прадуць.* Каўняны Гродз.

СЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Скруціць кудзелю для прадзіва. *Нада кудзеліны счыніць.* Якубова Рас. *Кужаль счынюць і прадуць.* Гайна Лаг.

СЧЫНЯ'ТЫ *незак.* Пластаваць. *Буду счыняты шчэнок* [пласт сена]. Дзмітравічы Кам.

СЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і с ц і р а́ ц ь 2. *Малоцім і счыняем зярно.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЧЫ'СЦІЦЦА *зак.* Тое ж, што і с х а р а ш ы́ ц ц а. *Счысцілася пасля цёлу карова.* Пасіене Лудз., Беразіно Докш., Мачаск Бярэз., Мішневічы Шум.

СЧЫТА'ЦЦА *незак.* Лічыцца. *У нас з яйкам ніхто не счытаўся.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *считаться* 'тж'. ◇ *Не счытацца з часам* — не спяшацца. *Я раблю і з часам не счытаюся.* Курапалле Паст.

СЧЭ'ЗНУЦЬ *зак. экспр.* Памерці. *Ён чэз, чэз ды й счэз.* Пацаўшчына Дзятл.

СЧЭ'РПАВАЦЬ *незак. экспр.* Рабаваць, абіраць. *У тую вайну казакі, як ад'яжджалі, усё счэрпавалі ў людзей.* Ёдлавічы Брасл.

СЧЭ'РСТВЕЦЬ *зак.* Счарсцвець. *Хлеп счэрствеў, зацвіў і зялёныя пушкі найдуцца.* Старыя Смільгіні Воран.

СШЫЦЬ *зак.* Пашыць. ∇ *Век зжыць — то не мех сшыць.* Малі Астр.

СЫБО'ТА, САБО'ТА *ж.* 1. Субота. *Сыбота была, было свята.* Вецярэвічы Пух. *Дзяжу ў сыботу мылі.* Дарава Лях. *Яна ў мяне ад сыботы.* Курапалле Паст. *Заўтра сабота.* Кіралі Шчуч.; *гл.* ДАБМ, карта № 21. 2. у знач. *прысл. сыбо́таю.* У суботу. *Месяца два работаюць сыботаю.* Пацаўшчына Дзятл.

СЫБО'ТНІКІ *мн. абрад.* Памінальны ліст. *У сыботнікі пішуць мяртвых.* Вецярэвічы Пух.

СЫГУ'Н *гл.* ЧЫГУ'Н

СЫ'ДАЛО *гл.* СЕ'ДАЛА

СЫ'ЗМА *ж.* і *м.* 1. Пустая, неўрадлівая зямля. *Сызма — зямля такая, нет у ей пітацельнага нічога.* Груздава Паст. 2. *перан., неадабр., лаянк.* Скупы чалавек. *Сызма кажуць на чалавека скупога.* Саланое Віл. *Сызма — гэта натта скупы чалавек.* Чуркі Ашм. Зблянны Лід. *О, гэты сызма не дасць нічога!* Курапалле Паст. *Як сызма, да сябе ўсё забірае.* Дакудава Лід. *Баба на бабу кажа: «Сызма скупая!»* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Злы, благі чалавек. *Сызма — урэдны, нехарошы чалавек.* Валынцы В.-Дзв. *Сызма — подлы, жулік такі.* Магуны Паст. *Сызма — урэдны чалавек; і сызма, і цытра кажуць на чалавека.* Вострава Маст. *Ох ты сызма!* Ёдлавічы Брасл. *Сызма — лядачы чалавек.* Кіралі Шчуч. *Сызма ты, урэдная баба!* Крэва Смарг. *Сызма — злая баба.* Жылі Іўеў. *Во злая, як сызма!* Жодзішкі Смарг. *Сызма ты дурная!* Мсцібава Ваўк. *«Сызма!» — благую бабу называюць*

*так.* Івашкаўцы Смарг. *Калі ругаюцца, абзываюць адзін аднаго, то кажуць: «Сызма ты!»* Гемзы Шальч. ▽ *Як сызма лезе ў вочы* [сляпіцаю]. Дакудава Лід. 4. *экспр.* Хто жыве ў недастатку. *Сызма — галодны; сызма ты галодная!* Мсцібава Ваўк.

СЫ'ЗЫ *прым.* Не адбелены (пра лён). *Сызы лён куплялі, сізы лён — ня мочаны, а сланы лён.* Кураполле Паст.

СЫЙСЦІ', СЫСЦІ' *зак.* 1. Крануцца з месца, ступіць, пайсці. *Ногі баляць, я ні сыйду.* Слабада Мін. *Ніяк з места ні сыйду.* Азяраны Раг. ▽ *Спарына́, сыдзі да нас, кап спарыла хлеб у нас.* Ракаўскія Швянч. ◇ *З галавы сысці* — забыцца, забыць. *Не хадзіла я, мне з галавы сышло, што нада ісці.* Магуны Паст. *С ума ты сышоў!* Ухвала Круп. 2. Растаць. *Ідзе каторы месяц, як снех сышоў.* Дружба Мін.

СЫ'КАЦЬ *незак.* 1. Сыкаць. *Сыкая змяя.* Магуны Паст. *Гадзіна сыкая.* Солы Смарг. *Гадзюка сыкая, уцякайця, дзеці!* Кіралі Шчуч. 2. *перан., экспр.* Наракаць, скардзіцца, гаварыць. *На яго людзі сыкаюць, што ён дурна робіць.* Ёдупка Шальч.

СЫКА'Ч *гл.* СЕКА'Ч

СЫ'КРАВІЦА *гл.* СУ'КРАВІЦА І

СЫКУ'Н *м. анат.* Мачавы пузыр. *У сыкун парсюка зложаць мяса і называюць кундзюк.* Гемзы Шальч.

СЫЛО' *гл.* СЯЛО'

СЫН *м.* Сын. *Адзін сын у сына — і ўжо дзядуля. Я ганяюся за ім, як за сынам.* Малі Астр. *Сын такі велькі, як бацька.* Пацаўшчына Дзятл. *Сына ўбілі на вайне.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сынэві паслала пісьмо.* Смаляніца Пруж. *Пры сы́наві жыву.* Каўняны Гродз. *Яны сыны жэняць, дочкі выдаюць.* Малі Астр. *Раздзялілі спаткі двум сыном.* Ухвала Круп. *Сыном дзве хаты далі.* Саланое Віл. *Ні я сыном купляла.* Парэчча Гродз.

СЫНАВА', СЫНАВА'Я, СЫНО'ВА *ж.* Жонка сына, нявестка. *Была прыехаўшы сынава, яна ўжо сівая.* Малькуны Ігн. *Ляксея сынава ідзе.* Стральцы Шальч. *Сынава жые асобна.* Старыя Трокі Трак. *З нашай вёскі сынава была.* Кудзялянцы Шальч. *У мяне ёсць сынавая ў Беластоку.* Бброўнікі Гарад. *Да сынавой паехала жыць.* Дэгшні Шальч. *Тэрас для сынавой памагаю.* Навадворцы Васільк. *Сынаву нямужна ганіць—не благая.* Стральцы Шальч. *Сынавая такрок прывезла на сукенку.* Граўжышкі Ашм. *Сынавая была у нас. Сынавая робіць на ферме.* Паляцкішкі Воран. *Сынавая асобне жыве.* Міратычы Карэл. *Сынавая прышла.* Вялікія Баяры Шчуч. *З сынавой нядобра жывуць — усё вадзяцца.* Гемзы Шальч. *Сынова была голая, як бізун, яна бэз бацькоў гадавалася. Яна разумна, а чаму ж с сыновай не жые?!* Малі Астр. *Сынова — жонка сына.* Талейкі Швянч. *Сынова мая там жыве.* Гемзы Шальч. *Мая сынова беларуска, ад Свір.* Чычалі Швянч. *Сынова стаіць з маім сынам.* Стральцы Гродз. *Сынова малачка прыносіт.* Пераброддзе Міёр. *Сынова ў магазіне работает.* Рагулішкі Даўг. *Мая сынова ў Мурманску.* Быстрыца Астр. *Сынова была добрая.* Ёдлавічы Брасл. *Мае сы-*

*навыя тут робяць: адна метсястрой, другая на ферме.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *synowa* 'тж'.

СЫНДЫЛІ'Я *ж. бат.* Падтыннік. Міратычы Карэл.; *гл.* дзіндзялéй.

СЫ'ННЯВЫ *прым.* Які належыць сыну. *Сыннявага ганка ні відаць.* Асавец Віл.

СЫНО'ВА *гл.* СЫНАВА'

СЫ'НОВЫ *прым.* Тое ж, што і сы́ннявы. *Сынова дзіця ў мене. Сынову жонку ні выжаню.* Хатынічы Ганц.

СЫНО'ВЯЦ *м.* Пляменнік. *Прыедзя сыновяц, паможа сена касіць.* Стральцы Гродз. *Братні сын — сыновяц.* Навасёлкі Свісл. *У яе сыноўца пяцёра дзяцей.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *synowiec* 'тж'.

СЫНО'ГАЦЬ *ж.* Сенажаць. *Мая сыногаць ні кошана.* Пасека Ст.- Дар.

СЫНО'ЖАЦЬ *ж.* Тое ж, што і сынóгаць. *Сыножаць—дзе косяць, балота сотак дзесяць дзе пры лесу; е і сухая сыножаць, дзе астравок.* Кузьмічы Люб.

СЫНЯ'К *гл.* СІНЯ'К I, II

СЫНЯЧО'К *гл.* СІНЯЧО'К II

СЫП *м. мед.* Высыпка. *Сып быў, трасло міне.* Міратычы Карэл.

СЫПАНУ'ЦЬ *зак.* Сыпнуць. ◊ *Зімнóй сыпанýць* — моцна ўразіць, усхваляваць. *Як сказалі пра гэта — аж мяне зімной сыпанула.* Малі Астр.

СЫ'ПАНЯ *н.* Высушанае збожжа. *Даўней устанеш рана, печ насыпана сыпаня, гэта сыпаня за доднік нада змалоць у жорны; тата пойдзіць, меліць і пяець.* Кураполле Паст.

СЫПАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Сыпацца, ляцець. *Сыпацяць іскры с печы.* Альхоўцы Лях. 2. Шугаць. *Сыпаціць агонь с печы.* Альхоўцы Лях.

СЫ'ПАЦЦА *незак.* 1. Сыпацца. *Цякун — пясок такі — сыпецца, як капаеш.* Каменка Стара Сакол. *Кругом сыпецца пясок.* Паляцкішкі Воран. *Мяльніцай лён труць — кастра сыпецца, мала дулькі атходзя. Як лён трапаяць — дулька сыпецца.* Малі Астр. *У засекі даўней хлеп сыпаўся.* Пасіене Лудз. *Апілкі сыпуцца, як пілуюць дрова.* Паляцкішкі Воран. 2. Тое ж, што і сыпацéць 1. *Сып'юцца іскры.* Смаляніца Пруж. 3. Цячы, ліцца. *Слёзы сыпляцца, на яе гледзячы.* Тухавічы Лях. *Слёзы, як грат, сыпуцца.* Паляцкішкі Воран.

СЫ'ПАЦЬ *незак.* 1. Сыпаць што-н. сыпучае. *Я муку сыпу і мяшу хлеп. Яны муку сыпуць.* Паляцкішкі Воран. *Многа сыпіш мукі?* Солы Смарг. *Сыпіш мукі шмат.* Гальшаны Ашм. *Куды ты сыплеш?!* Крынкі Крын. *Адзін млён круця, а другі сыпе.* Грыкені Вільн. *Трошкі круп сыпюць у пасоку і на скварадзе пякуць яе.* Саланое Віл. *На два бакі сыпяць дабро.* Ністанішкі Смарг. *Зерня сыпляць.* Навасёлкі Лід. *Яны сыпяць пясок.* Кемялішкі Астр. *Попел сыплюць на папяльнік.* Малышы Лід. *Ня сып солі—*

*досіць!* Ёдлавічы Брасл. *Многа сыпіш сòлі.* Паляцкішкі Воран. 2. Пасыпаць чым-н. *Дайней салітрай не сыпяць* [на мяса]. Завельцы Астр. *На тройцу аер крышылі і сыпалі на падлогу, кап пахла ў хаце.* Дарава Лях. 3. Сыпаць для заваркі. *Сыпя свентаянскае зелье, вараткам залье і п'е.* Малі Астр. 4. Угнойваць мінеральным угнаеннем. *Яна ня сыпя удабрэня.* Стральцы Гродз. 5. *метэар.* Падаць, ісці. *Сыпіць дош.* Саланое Віл. *Дошч сыпля, як імгла.* Стральцы Гродз. *Снех ціха сыпаў усё на спіну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ∇ *Во мой сын пішыць — як з рукава сыпіць!* Кураполле Паст.

СЫ'ПАЧКА *ж. памянш.* да с ы́ п к а I. *У мяне ў падушках сыпачкі чысценькія.* Кудзялянцы Шальч.

СЫПЕ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і с ы́ к а ц ь 1. *Вуш сыпіць.* Малахоўцы Бар. 2. *экспр.* Злавацъ, лаяцца. *Ён зазлуе, сыпіць, як вуш.* Пацаўшчына Дзятл.

СЫ'ПКА I *ж.* Насыпка. *Сыпка — пёры ссыпаць.* Старыя Смільгіні Воран. *Сыпку шыюць для пяра.* Жодзішкі Смарг. *Нада сыпку купіць на падушку.* Дакудава Лід. *Сыпку пашыла, а пяро ня драла.* Магуны Паст. *Сыпку пашыла і пер'я ўсыпала туды.* Галубы Маст., Кіралі Шчуч., Гемзы Шальч. *Во дзе якую сыпку ці просціну падраблю.* Пацаўшчына Дзятл. *У сыпку пяро насыпалі.* Стральцы Гродз. *Сыпкі спецыяльна густыя.* Завельцы Астр.

СЫ'ПКА II *ж.* Тое ж, што і с ы п. *Сыпка на руках пайшла.* Беразіно Докш. *Сыпка высыпала.* Рыбчына Віл. *Высыпала сыпка такая свярбучая.* Масілавічы Сл.

СЫ'ПКІ' *прым.* Разварны, сопкі. *Сыпкая бульба.* Паляцкішкі Воран. *Сыпкая картофля — так сыплецца, што не схопіш атцадзіць.* Кіралі Шчуч. *Сыпкáя бульба.* Ракаўскія Швянч., Солы Смарг. *Бульба сыпкáя.* Гемзы Шальч., Завельцы Астр.

СЫПКО'СЦЬ *ж.* Верхні слой бульбы, які разварваецца. *Як чысціш груба, так уся сыпкосць зрэжыцца з бульбы.* Ракаўскія Швянч.

СЫ'ПНІК *м.* Тое ж, што і с ы́ п к а I. *Сыпнік, куда сыплецца пер'я.* Вострава Маст.

СЫПНУ'ЦЬ *зак.* Сыпнуць. *Сыпнець яблыкі ў пеляну, у пеляне нясуць.* Кураполле Паст.

СЫПО'НЯ *ж.* Тое ж, што і с у п ó н ь. *Сыпоня е ле хамута.* Альхоўцы Лях., Пасека Ст.-Дар.

СЫПУ'Н *м.* 1. Пя́счаная зямля. *Зямля ні цікавая, сыпун нейкі.* Рудня Чэрв. 2. Сыпкі снег. *Сыпун — снех як пясок.* Рудня Чэрв.

СЫПУ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і с ы́ п к а II. *У яе твар апсыпаны сыпучкай.* Парэчча Гродз.

СЫПЦЬ *выкл.* у знач. *вык.* Сыпануць. *Бярэ пясок — і сыпць на галаву.* Гемзы Шальч.

СЫ'ПЯЛЬ *м.* Пясчаны астравок. *Сыпяль — пясок намыты:*

*вада гоня пясок і прысыпая; з сыпля абразоўваецца з часам солка. Сыпяль абходзя вада.* Рыбчына Віл.

СЫР *м.* Сыр. *Атагрэю кісляк, вылію ў сырнік, сцячэ, камянням прыцісну на дэначку — і сыр гатоў.* Магуны Паст. *Кажды дзень сыр дзелала.* Лоск Валож. *На́ гэтого сыра!* Смаляніца Пруж. *Дала ім тры сыры і малака слоік. Даўна свякроў сыры сушыла і прадавала, а унукам не давала.* Вузла Мядз. *Была карова — былі сыры.* Плябанцы Ашм. *Ты сыраў насушыла на два гадэ.* Вецярэвічы Пух. ∇ *Купацца* [*жыць*] *як сыр у ма́сля* — жыць добра, заможна, быць шчаслівым. *От жыццё мая — купаецца як сыр у масля.* Малі Астр. *Яна за ім жыве як сыр у масля.* Солы Смарг.

СЫ′РА *прысл.* у знач. *вык.* Вільготна, мокра. *На двары сыра.* Пацаўшчына Дзятл.

СЫ′РАВА′ТКА, СЫ′РВАТКА, САРАВА′ТКА *ж.* Сыроватка. *Атагрэюць малако, астаецца сырава́тка.* Ёдлавічы Брасл. *Сырава́тка ест.* Гемзы Шальч. *Сырава́ткі няможна даваць цёплай свіням — нада астудзіць.* Кураполле Па́ст. *Сырава́ткі напіўся.* Беразіно Докш. *Сы́раватку свіням даём.* Рагулішкі Даўг. *Сы́раватка, кагда атаграваеш малако.* Філіпаўцы Красл. *Сы́раватку свіням улію.* Магуны Паст. *Сырватка пасля тварогу.* Солы Смарг. *Зліця сырватку!* Жодзішкі Смарг. *Сараватка — па-прамому называецца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У твара́гу і сараватка яшчэ есь.* Буда В.-Дзв.

СЫРАВА′ТЫ, САРАВА′ТЫ *прым.* 1. Недасушаны. *Сена сыраватая зграблі.* Ёдлавічы Брасл. *Сыраватая сена бувая гарачая.* Парэчча Гродз. *Маё сена сыравата.* Дарава Лях. *Сараватая сена.* Мярэцкія Глыб., Лісна В.-Дзв. 2. Недавараны. *Сягоня сыраватыя буракі — не даварыліся.* Старыя Смільгіні Воран.

СЫРАВІ′ЗНА I *ж.* Садавіна, агародніна. *Сыравізна — усё сыроя: грушкі, яблыкі, агуркі, шчаўё.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *surowizna* 'тж'.

СЫРАВІ′ЗНА II *ж.* Суравое палатно. Ракаўскія Швянч.

СЫРАВІНА *ж.* Тое ж, што і сыраві́зна I. *Ня еш ты гэту сыравіну — бруха будзіць балець.* Ёдлавічы Брасл.

СЫРАВЫ′ *прым.* Тое ж, што і суравы́. *Сыравая нітка з лёну, ена не хварбавана, не белена.* Баброўнікі Гарад.

СЫРАДО′Й, САРАДО′Й *м.* Сырадой. *Сырадой—свежая малако, як падоіш карову.* Крэва Смарг., Пасека Ст.-Дар. *Карову падаю, сырадою нап'юся — і здорава.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сарадой — цёплае малако, як падоюць.* Буды В.-Дзв.

СЫРАКВА′Ш *м.* Квашаны бурачнік. *З батвы буракоў у дзешку ставілі кіслю — сыракваш на зіму.* Жодзішкі Смарг.

СЫРАКВА′ША, САРАКВА′ША *ж.* Сыракваша. *Сыраквашу летам добра есці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Бульбу і сыраквашу вам абдзвюм нада есці.* Груздава Паст. *Сыракваша свежая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Раблю цуру: у сыраквашу накрышу хлеба і ем.* Слабада Мін. *Сараквашу елі.* Кіралі Шчуч. *Сараквашу*

*паела.* Саланое Віл. *Сараквашa — звалі даўней, а цяпер — кіслае малако.* Мярэцкія Глыб. *Сараквашa — скішшысь малако гэта.* Буды В.-Дзв.

СЫРАМАЛО'Т *м.* Збожжа, абмалочанае без папярэдняй падсушкі. *З сырамалоту* [аўса] *кісель варылі; авёс — с поля і малацілі — сырамалот.* Ёдлавічы Брасл.

СЫРАМАЛО'ЧАНЫ *прым.* Сырамалотны. *Бабовыя лісты і сырамалочанае жыта — добра ад ружы.* Граўжышкі Ашм.

СЫ'РАМЯЦЬ, СЫ'РМЕЦЬ, СЫ'РМІЦЬ, СУ'РАМЯЦЬ, СУ'РАМЯЗЬ *ж.* Спецыяльна апрацаваная пэўным спосабам скура, якая прызначалася для розных вырабаў. *Сырамяць — сырамятная шкура.* Рудня Астравітая Чэрв. *Уся збруя шылася с сырамяці. Сырамяць смазвалі, круцілі — і рабілася мяккая.* Граўжышкі Ашм. *Сырмець ішла на гужы.* Беразіно Докш. *Сырміць — такі сырэц, хамут апшыюць. Сырміць — скура недавырабленая, ні квашаная, яна вымікніць, тады яе круцюць і дзёгцям палівають — гэта трывалая скура, з яе гужы рабілі.* Мярэцкія Глыб. *Ужык да цэпа с сурамяці робяць.* Парэчча Гродз. *Сурамяць — ні абрабляна скура.* Малахоўцы Бар. *Сурамязью прывязвалі біч да цапільна.* Міратычы Карэл.

СЫРАПЕ'НЯ *ж.* Тое ж, што і с ы р а к в á ш а. *Налей у міску сырапені ды еш!* Глівін Барыс.; *парайн.* літ. *pienas* 'малако'.

СЫ'РАСЦЬ, СЫ'РОСЦЬ *ж.* Сырасць. *У склепе сырасць бальшая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бывая і ў хаце сырасць.* Кураполле Паст. *Сыросць зыходзіт.* Смаляніца Пруж.

СЫ'РВАТКА *гл.* СЫ'РАВА'ТКА

СЫРДОВА'ТЫ *гл.* СЯРДАВА'ЦЬ

СЫ'РМЕЦЬ, СЫ'РМІЦЬ *гл.* СЫ'РАМЯЦЬ

СЫ'РНІК *м.* Клінковы мяшочак, клінок. *Сырнік — мяшочак для прыгатавання сыру.* Беняконі Воран. *Сырнік — мяшок на сыры.* Гемзы Шальч. *Сырнік — мяшэчак, каб рабіць творах.* Ракаўскія Швянч. *Атагрэю кісляк, вылію ў сырнік.* Магуны Паст. *Сырнік — мяшок сыры рабіць.* Каўняны Гродз. *У мяне сырнік белы тры гады.* Ахрэмаўцы Брасл. *Памый ты мне сырнік, нада атагрэць малако.* Валынцы В.-Дзв. *Сырнік ці клінок для сыра з творагу.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Рабіўся сырнік — туды семя і алей ціснулі.* Быстрыца Астр. *У сырніку кіслэ малако адагрэтае сцекае.* Лука Нараўк.

СЫ'РНІЦА *ж.* Тварог з маслам, падрыхтаваны для доўгага захоўвання. *Даўней, як паацеліваюцца каровы, робяць сырніцу: сыр маслам перакладаецца, слой масла на паляц і на два пальцы сыру слой, гнятуць рукой, а дзе — дзеравяннай лошкай, поўную дзяжу накладуць, нагда ўдачна, а нагда сплеснее, цвіллю паробіцца, зацвіце — свіням аддавалі, а сабе квас з буракоў варылі.* Рыбчына Віл. *У ряшкі сырніцу дзелалі с творага, творах атваряжвалі.* Янова Рас.

СЫРНЯ'К *м.* Сырыя дровы. *Сырняк у печы не гарыць.* Гемзы Шальч.

СЫРОВУ'ТЭНЬКІ *прым. экспр.* Сыры, недавараны. *Сыровутэньке мйасо с печы вынала.* Курашэва Чыж.

СЫРО'КВАШ *ж.* Тое ж, што і сыраквáша. *Сырокваш харошая.* Багушэвічы Бярэз. *Сырокваш — кіслае малако.* Рудня Чэрв., Лапічы Асіп.

СЫ'РОСЦЬ *гл.* СЫ'РАСЦЬ

СЫРО'ЎКА *ж.* Сырцовая неапаленая цэгла. *Сыроўку з гліны робілі — сыровая цэгла, самі робілі цэглу.* Хатынічы Ганц.

СЫРУ'ТКІ *прым. экспр.* Надта вільготны. *Куды садзіць буракі — сырутка зямля!* Мсцібава Ваўк.

СЫРЫ' *прым.* 1. Няварaны, у сырым стане. *Сям'я вялікая была, даўней капусты сырой накрышыш, алеям зальеш і елі ў пост.* Падгаі Мін. *Мілту сырую рабілі і елі.* Гальшаны Ашм. *Сырыя яйкі, як сапляке.* Парэчча Гродз. 2. Недапечаны. *Сыры хлеп, не дапёкся.* Саланое Віл. ∇ *Як авечкі выганялі, то ў бярлог яйцо сыроя клалі, кап вяліся, кап па пары радзіліся.* Дарава Лях.

СЫРЫ'ЗНА *ж.* Тое ж, што і сыравíзна I. *Наеўся сырызны і забалеў брух.* Гемзы Шальч. *Сырызна шкодзіць дзецям.* Кіралі Шчуч. *Люблю сырызну ўсякую.* Нізок Уздз. *Сырызну ясцё, грызіцё.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *surowizna* 'тж'.

СЫРЫ'ЦА *ж.* 1. Тое ж, што і сы́рамяць. *Супоня з сырыцы, гужы.* Рудня Чэрв. *Вырабіў скуру, але яшчэ сырыца.* Кіралі Шчуч. 2. Нявырабленая скура, аўчына. *Сырыца — сырая скура.* Малыя Аўцюкі Калінк., Азяраны Раг. *Сырыца — аўчына не выраблена.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Тое ж, што і сыро́ўка. *Самі мясілі гліну і рабілі сырыцу, з сырыцы рабілі цэглу.* Альхоўцы Лях.

СЫРЫЭ'ЦІ *незак.* Рабіцца вільготным. *Як дошч пуойдэ, то сіено начнэ сырыэці.* Курашэва Чыж.

СЫРЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш вільготны. *Сырэйшая сена складу, солю пасалю, і пасоляная карова зімой есць добра.* Слабада Мін.

СЫРЭ'ННЫ *прым.* Надта сыры. *Сырэнных дроў набрала.* Азяраны Раг.

СЫРЭ'Ц *м.* 1. Тое ж, што і сыры́ца 1. *Сырэц — шкура не выбраляная.* Багушэвічы Бярэз. *Скура с сырцом — сырцовая скура.* Рыбчына Віл. 2. у знач. *прысл. сырцóм.* У сырым стане, не сухое. *Рэпу ядуць сырцом — аблупяць і ядуць.* Ністанішкі Смарг. *Некалі траслі кулі: абаб'ём жыта сырцом.* Саланое Віл.

СЫСА'К *м.* Сысун. *Двое тэлят шчэ сысакі, трэба от ціцькі одняті.* Курашэва Чыж.

СЫСА'ЦЬ *незак.* Ссаць. *П'яўкі кроў сысалі, яна нап'ецца, як бочка.* Кіралі Шчуч.

СЫ'СКА *ж.* 1. Сасок. *Сыска ў каровы баліць.* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і су́сла. *Сыску рабілі з хлеба і цукру.* Вузла Мядз. *Даўней на сыску сахару не было. Бабуля дасць хлеба*

*пайфунта на сыску, лусту хлеба дасць сыску дзіцяці зрабіць.* Саланое Віл. *Сыску давалі дзіцяці: хлеб, цукер — і ў латку.* Лука Нараўк. *Колісь в латку завівалі дітяті ссаті сыску, навэть цукру нэ было, коп посыпаті, тэпэр такіх сысок ніхто нэ робіт.* Курашэва Чыж. 3. Тое ж, што і с ы с а́ к. *Сыска ссе кабылу.* Лука Нараўк.

СЫ′СКАВАЦЬ *незак.* Спаганяць доўг. *Я ні сыскавала яшчэ грошы.* Лоск Валож.

СЫСКА′ЦЦА *зак.* Вярнуцца. *Егдзіў, егдзіў — ды сыскаўся дахаты.* Дзяніскавічы Ганц. *Яна сыскалася з Мінску. Каб яна скарэй сыскалася з бальніцы.* Вецярэвічы Пух.

СЫСКА′ЦЬ *зак.* 1. Адшукаць, знайсці. *Кап вы мне, дзеці, сыскалі слона.* Навасёлкі Свісл. 2. *зак.* да с ы́ с к а в а ц ь. *Пазычыш грошы, а тады папрабуй сыскаць.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Ён свістаў, пака дастаў, а ты свішчы, пака сышчыш.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Выпатрабаваць. *Ён сыскаў пэнсію.* Гальшаны Ашм.

СЫ′СКІ *мн.* Сасіскі. *Сыскі ў магазіне набрала.* Журавок Бярэз.

СЫ′СЛА *ж.* Тое ж, што і с у́ с л а. *Сыслу зробяць з хлеба і цукру. Я так Андрэя карміла.* Жылі Іўеў.

СЫСО′ЛКА *ж.* Тое ж, што і с у́ с л а. *Цукерак, батон — і ў анучку. Такой сысолкай я Люсю карміла.* Крэва Смарг. *Сысолку рабілі с хлеба.* Стральцы Гродз. *Зрабіця дзіцяці сысолку.* Рыбчына Віл. *Сысолку дзіцяці давалі.* Вузла Мядз.

СЫСО′ХА *ж. экспр.* Жанчына з вялікім бюстам. *Ідзе сысоха, у яе грудзі вялікія.* Альхоўцы Лях.

СЫ′СПАДУ *прысл.* Спадыспаду. *Сыспаду дрова сухія.* Вецярэвічы Пух.

СЫСТРА′ *гл.* СЯСТРА′

СЫСТРЫ′Н *прым.* Тое, што і с я с т р ы́ н. Смалявіца Пруж.

СЫСУ′Н *м.* Тое ж, што і с ы с а́ к. *Якое табе цяля — сысун!* Кіралі Шчуч.

СЫСУ′НАК *м.* Тое ж, што і с ы с у́ н. *Сысунак — яму да року.* Стральцы Гродз.

СЫСУ′НКА *ж.* Тое ж, што і с ы с а́ к. *Першы год цяляці — сысунка.* Вялікія Баяры Шчуч.

СЫСЦІ′ I *гл.* СЫЙСЦІ′

СЫСЦІ′ II *зак.* 1. *астр.* Падняцца над гарызонтам. *Ужэ ранняя зорка сышла.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *с.-г.* Прарасці, выпусціць парасткі, лісткі. *Буракі шчэ ў вілачках, адно што сышлі, а потым лісточкі выходзяць.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзе вышай, там сышла картошка харашо, а дзе ніска — пагніла.* Тухавічы Лях.

СЫСЦІ′ III *зак.* 1. *мед.* Абяскровець, выцячы. *У сусеткі матка была, у яе сышла ўся кроў, ноччу сасуда прарвалася.* Слабада Мін. 2. Звесціся, знікнуць, прапасці. *Сышлі ў мяне тру-*

*скалкі, цяпер німа.* Магуны Паст. *Рэшта цеста ў дзяжы сыскрэбваецца, прыплескваецца, кап кісля ні сышла.* Дакудава Лід.

СЫСЦІ'СЯ *зак.* 1. Уступіць у шлюб. *Сышліся, а я там нікагуська не знаю.* Дарава Лях. *Я са старыком сышлася.* Пасіене Лудз. *Яны сышліся ў Эйшышках.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *А як мы сышліся, то не нада было прасці.* Буды В.-Дзв. ◇ *На штыке сысціся* — уступіць у рукапашны бой. *Мы на штыке з немцамі сышліся.* Дарава Лях. 2. Стачыцца, стаць цэлым. *Дзе ж ён, гэты шнюрок, сыдзіцца, як яго разрэжаш?!* Кіралі Шчуч.

СЫТА' *ж. кулін.* 1. Вада, засалоджаная мёдам. *Сыта — страва з мёду.* Міратычы Карэл. *Сыта — вада салоткая з мёдам, і елі з кісялём. Сыта — мядовая вада: мёд разведзены вадой, хлеба накрышыў, на дзяды елі, на памінках.* Азяраны Раг. *Сыта — вада салоткая с-пад воску, з мядовым нізам.* Мярэцкія Глыб. *Сыты з меду зроб'яць.* Маркоўскае Лельч. *З мёду сыту рабілі.* Рудня Чэрв. *Сыту рабілі: м'ёд, вада, і елі з кісялём.* Дзяніскавічы Ганц. *Сыту ў куцю рабілі.* Жылі Іўеў. *Сыту елі с куццёй.* Лісна В.-Дзв. *Як вашчыны перамываюць, то гэту ваду называюць сытой, як пастаіць — кісленькая зробіцца, смашная вада.* Рыбчына Віл. 2. Падсалоджаная вада з макам. *Сыта — салоткая вада з маку: труць мак і патсаладжвалі сахарынам.* Рыбчына Віл. 3. Падкормка для пчол. *Сыта — это разведзены сахар, паткормка для пчол.* Тухавічы Лях.

СЫ'ТАЕ *н. прым. субст.* Мясныя прадукты, у якіх многа тлушчу. *Цяпер ніхто не любіць сытае.* Завельцы Астр.

СЫ'ТКА, СЫТО'ЎКА *ж. заал.* Пліска. *Сытка за хлявом у вуллі пустым гняздо зрабіла.* Пасека Ст.-Дар. *Сытку жураў на хвасце нясе.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Сытоўка ля кароў у чарадзе бегая, рабенькая.* Вецярэвічы Пух.

СЫ'ТНА *прысл.* Сытна. *Зварыла і скора, і добра, і сытна.* Кураполле Паст.

СЫ'ТНІК *м. бат.* Сіт. *Сытнік на балоця расцэ, высокянькі.* Плябанцы Ашм.

СЫ'ТНЫ *прым.* Сыты. *Кусочак пышнага хлеба з'ясі — і сытны.* Кудзялянцы Шальч. *Зварыла скора, добра, з'ела — я і сытна.* Кураполле Паст.

СЫТО'СЦЬ *ж.* У выразе: *У сыто́сць* — удосталь, уволю. *Вы не карміце іх у сытосць!* Груздава Паст.

СЫТО'ЎКА *гл.* СЫ'ТКА

СЫТУ'ШЧЫ *прым.* Вельмі тоўсты, сыты, укормлены. *Яно такое сытушчае, для того, напэўне, на ногі не можэ устаць.* Баброўнікі Гарад.

СЫ'ТЫ' *прым.* 1. Укормлены, тлусты. *Сы́ты кабан, скора будзім біць.* Саланое Віл. *Свінчо сы́тая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сы́тага патсвінка не корміш.* Баброўнікі Гарад. *Такая сы́тая курыца быўшы.* Малі Астр. *Курыца бывая сыта́я.* Малькуны Ігн. *Трус такі сыты́.* Магуны Паст. *Шмальц гусіны, індычы, як сыты́я гусі, індыкі.* Завельцы Астр. *Такія сыты́я цялята.* Ра-

каўскія Швянч. ▽ *Трэба так рабіць, кап воўк быў сыты і козы цэлы.* Ёдупка Шальч. 2. Які ўтрымлівае многа тлушчу (пра мяса, сала). *Сланіна бывая сытая і худая.* Дакудава Лід. *У сланіне — любовая часць і сытая.* Крэва Смарг. *Сыта мяса.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мясо сыто.* Малахоўцы Бар. *Любовую скварку давай ім — сытага не ядуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сытае м'ясо і клустае кажуць.* Тухавічы Лях. *С такім сытым гэтыя вантробы смашныя.* Крэва Смарг. 3. Запраўлены тлушчам; дзе многа тлушчу. *Такая сытая бульба, а ты ня еў.* Азяраны Раг. *Вара сыта.* Навасёлкі Свісл. *Сытая страва — трывалая.* Мярэцкія Глыб. *Сытая яда — трывушча.* Мярэцкія Глыб. 4. Спорны ў вазе; з лішкам. *Сыты хунт масла атвесіла.* Мішневічы Шум. 5. Які не можа больш есці (пра гідлівага). *Муху ўбачу ў твораху — і я сытая.* Магуны Паст. 6. Поўны, тоўсты, мажны. *Я і не была вельмі сыта.* Азарычы Пін. *Сытыя поўныя людзі ўміраюць ат ціфу.* Рагулішкі Даўг. *Цяпер сытыя людзі.* Гальшаны Ашм. ◊ *Сыты як кукамі збіты* — дзябёлы, укормлены, грубы. *У нас, як сыты чалавек, то кажаць: «Ну і сыты, як кукамі збіты».* Вузла Мядз.

СЫЦЕ'ЙШЫ *прым. выш.* да с ы т ы 1, 6. *Мо ваша карова сыцейшая?* Магуны Паст. *Колька ў плечы сыцейшы.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЫЦЁ'РНЫ *прым.* Надта сыты. *Сыцёрна свіня!* Вострава Маст.

СЫ'ЦІЦЬ *незак.* Саладзіць. *Ваду сыцяць, крышаць булку і канун робяць.* Азяраны Раг.

СЫЦЬ *ж.* Спажыва. *Якая з яе сыць, з поснай яды?* Саланое Віл.

СЫЧ *м.* 1. *заал.* Сыч, сава. ▽ *Сыч стогня на смерць і плача — смерць вяшчуя.* Кіралі Шчуч. 2. *перан. абразл.* Хто пануры, маўклівы. *Такі сыч — ніц нэ говорыт, а свое робіт.* Курашэва Чыж.

СЫ'ЧАЎКА *ж.* Забалочанае поле. *На той сычаўцы нічога не расце.* Глівін Барыс.

СЫЧА'ЦЬ, СЫЧА'ТІ, СЫЧЭ'ТЫ *незак.* Тое ж, што і с ы к а ц ь 1. *Сычыць гадзіна.* Грыкені Вільн. *Змія сычыт.* Курашэва Чыж., Сіманавічы Драг.

СЫ'ЧКА *гл.* СЕ'ЧКА I

СЫЧУ'К *м.* Страўнік цяляці-сысуна. *У цялёнку, пака ён сасёт, такі маленькі жывот — етат сычук.* Мішневічы Шум.

СЫ'ЧЧЫ *прым. выш.* Сыцейшы, таўсцейшы. *Яе кабан сыччы за мой.* Пацаўшчына Дзятл.

СЫ'ЧЫКІ толькі *мн.* Начоўкі з рылам для зліву вадкасці. *Сычыкі з дзерава выдзеўбаны, як ночвы, а ў канцы рыльцо.* Семежава Кап.

СЫ'ШЧЫК *м.* Шпіён. *За ніемца часто сышчыкі прыходзілі зобачыті, чы партізануов нэма.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *сыщик* 'тж'.

СЬКАЛЁПАК *м.* Аскепак, аскалёпак. *Палена буду ськапаць на ськалёпкі.* Рыбчына Віл.; *гл.* ш а к а́ л ь.

СЬКАПА'ЦЬ *гл.* СКІПА'ЦЬ

СЭ *злуч.* Калі. *Сэ будэ гожа погода, то пойіедэмо до міеста.* Курашэва Чыж.

СЭЙМІКАВА'ЦЬ *гл.* СЕЙМІКАВА'ЦЬ

СЭЙТ *м.* 1. Стойла для каровы. *Кажда карова ідзёт да свайго сэйта.* Рагулішкі Даўг. 2. Аброжак, нашыйнік. *Карова хадзіла с сэйтам, каровы насілі сэйты на шыі.* Рагулішкі Даўг. *Сэйты шылі з варатніка мушчынскіх штаноў і рэпачку ўшывалі. Карова с сэйтам не баялася калдавання.* Рагулішкі Даўг.; *гл.* с э́ й т а.

СЭ'ЙТА *ж.* Прывязь. *Сэйта — для прывязі каровы: палка дзеравяная пад шыю і пятля з вяроўкі да палкі. На сэйтах усе каровы стаялі.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *seĩtas* 'тж'.

СЭКВЭСТРА'ТОР *м.* Судовы выканаўца. *Як ідэ сэквэстратор, то людэ ховают, што мают дорошшого, навэт свіні, бо зара запішэ, а послі прыйіедут і забэрут.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *sekwestrator* 'тж'.

СЭЛО' *гл.* СЯЛО'

СЭ'НДЗЯ *м.* і *ж.* 1. Суддзя. *Сэндзя назначаны ў наш раён.* Пацаўшчына Дзятл. *Ён добры быў сэндзя.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *sędzia* 'тж'. 2. Хто можа крытычна разважаць, меркаваць, быць сведкай. *Будзьця вы сендзяй: і гусянята, і куранята — усё на мне, і адгані, і накармі.* Кіралі Шчуч. 3. *перан.* Хто абгаворвае, перасуджвае. *Свякроў — добра сэндзя!* Альхоўцы Лях.

СЭ'ПЛІ толькі *мн.* 1. Соплі. *У цябе сэплі вісяць, вытры свае сэплі!* Ёдлавічы Брасл. *Сэплі з носа ідуць.* Кіралі Шчуч., Асавец Віл. 2. *перан.* Ледзяшы. *Сэплі са стрэх звісаюць.* Міратычы Карэл.

СЭР *м.* Тое ж, што і с ы р. *Ніхто ей сэра не прадаў.* Кудзялянцы Шальч. *З малака сэры рабілі.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *ser* 'тж'.

СЭРДОВА'ЦІ *гл.* СЯРДАВА'ЦЬ

СЭ'РНІК *м.* Тое ж, што і с ы́ р н і к. *Сэрнік на сыры шэвся клінком на рыг.* Дзмітравічы Кам.

СЭ'РО *прысл.* Сыра. *Сэро на дварэ.* Дзмітравічы Кам.

СЭРО'Д *прысл., прыназ. з род.* Сярод. *Сэрод болота ростэ каліна.* Горск Бяроз.

СЭРП *гл.* СЕРП

СЭ'РЦА, СЕ'РЦА, СЭ'РЦО *н.* і *ж.* 1. *анат.* Цэнтральны орган кровазвароту. *У грудзях сэрца б'ецца.* Рагулішкі Даўг. *Так спалохалася, што начало мне сэрца біцца.* Гемзы Шальч. *Раней я не адчувала сэрца — было яно, ці не было.* Дэгшні Шальч. *Сэрца, як малатком, дае.* Слабада Мін. *Сэрца сёлета менш баліць.* Завельцы Астр. *Як схаджу да лазні — баліць галава, сэрца б'е.* Бадзюлі Шальч. *Нагаткі пасадзіла — ад сэрца лякарст-*

*ва.* Кудзялянцы Шальч. *Яму сэрца будзя пячы.* Малі Астр. *Сэ́рдачнік ад сэрца.* Гальшаны Ашм. *Маё сэрца ніякая — добрага сэрца ні маю.* Малькуны Ігн., Груздава Паст., Кемялішкі Астр. *Рамацізм, ад рамацізма серца забалела. Вылячыў рамацізм бадзягамі, і серца паправілася.* Вузла Мядз. *Ландаш п'юць ад серца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мая серца нядобрая.* Старыя Смільгіні Воран. 2. у знач. *дап. сэрцам.* Ад хваробы сэрца. *Ён сэрцам памёр і быў мяккі — рукі байталіся, як адзівалі.* Ёдлавічы Брасл. 3. У выразах: *Мець добрае сэрца* — быць чулым, спагадлівым, памяркоўным. *Яна сэрца добрае маіць і дзяцей любіць.* Ёдлавічы Брасл. *Дытыну выжинуты — у мэнэ такого сэрця ныма.* Дзмітравічы Кам. *Сэрца прачувала* — прадчуваць што-н. *Мая сэрца прачувала гэту бяду.* Старыя Смільгіні Воран. ◇ *Пераесці сэрца* — знерваваць, давесці да захворвання. *Ён пераеў сэрца жонцы.* Саланое Віл. *Цябе прасі — яшчэ сэрца ад'ясі.* Сасноўка Смарг. *На сэрцы пераносіць* — смуткаваць, сумаваць, перажываць. *Маўчыць, па сыну не плакала, можа на сэрцы пераносяя.* Ёдупка Шальч. *Адпорнае сэрца мець* — не перажываць, не зведваць душэўных мук. *У той бабы атпорная сэрца: яна дачку пахавала, зяця, ей восемдзесят сем гадоў, а яна яшчэ крэпкая баба.* Пераброддзе Міёр. 4. *перан.* Асяродак дрэва, стрыжнёвая частка караняплодаў. *У сосны ўнутры сэрца.* Солы Смарг. *Елка дуплявата: сэрца высахла, а абалонь стаіць.* Кіралі Шчуч. *У сярэдзіне дзерава сэрцо.* Старое Сяло Зэльв. *Ад кары да сэрца — кругі, як спілуеш дрэва.* Руднікі Шальч. *Зрэжыш сасонку, нарэжаш круглакі, папалам рашчэпіш, серца — вон, бакавіны — на стрыжанькі паб'еш, шчапаеш лучыну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У морхвы сэрца і абалоніна.* Солы Смарг. *У моркві сэрца.* Збляны Лід. *У морквы сэрца белае такое.* Навасёлкі Лід., Завельцы Астр.

СЭРЦАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і с э́ р ц а 4. *Дзе разбіраяць будынак, і дрэва бываіць крэпкая, кажуць: «Во сэрцавіна здаровая!»* Завельцы Астр.

СЭРЦАКАВА'ТЫ *прым.* Шчыльны, моцны. *На будоўлю выбіраюць дзерава сэрцакавата — моцнае дзерава, а як абалонь сіня — гніе прэнтка* Кіралі Шчуч.

СЭРЦО'ВЫ *прым.* 1. Які мае адносіны да с э́ р ц а 1. *У яе сэрцовая хвароба.* Жодзішкі Смарг. 2. Тое ж, што і с э р ц а к а в а́ т ы. *Сэрцова дзерава моцнае.* Пацаўшчына Дзятл.

СЭРЭХВУО'ШЧКА *м.* і *ж. зневаж.* Хто неакуратна выконвае работу. *Чоловіек, што усё робіт хутко і быле як, звут сэрэхвуошчка.* Курашэва Чыж.

СЭСТРА' *гл.* СЯСТРА'

СЮДА' *прысл.* Сюды. *Хадзі сюда!* Альхоўка Навагр.; *параўн.* руск. *сюда* 'тж'.

СЮДАМА' *гл.* СЮДЭ'МА

СЮДАМУ'Х *прысл.* Тое ж, што і с ю д а́. *Сюдамух ідзі, па маіх слядох!* Пацаўшчына Дзятл.

СЮДО'Ю *прысл.* Тое ж, што і с ю д а́. *Сюдою пойдзем, па загуменях.* Баброўнікі Гарад. *Сюдою ён ішоў.* Вялікія Баяры Шчуч.

СЮДЫ', СЮДЭ' *прысл.* Тое ж, што і с ю д а́. *Нясі сюды, Сярожа!* Міратычы Карэл. *Ходзь сюды!* Васілевічы Гродз. *А як калгас паставіўся, дык і я сюды.* Якшыцы Бярэз. *Сюдэ машына ідзе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дай сюдэ ййй! Ідэ сюдэ, сыночак!* Дзмітравічы Кам. ◇ *Туды-сюды* — у розныя бакі, да розных асоб. *Як не маеш свайго, то туды-сюды прасіць трэба.* Пацаўшчына Дзятл. *Ні туды, ні сюды* — ні ў які бок. *Бык з ярма — ні туды, ні сюды не паверне, не выйдзе.* Гемзы Шальч. *Сют-тут* — хутка. *Яна сют-тут і купляе.* Пацаўшчына Дзятл. *Партызаны сют-тут — ды да нас.* Дарава Лях.

СЮДЭ'Й *прысл.* Тое ж, што і с ю д а́. *Сюдэй ідзіця!* Грыцавічы Ганц.

СЮДЭ'МА, СЮДЫ'МА, СЮДАМА' *прысл.* Тое ж, што і с ю д а́. *Сюдэма сценкай ідуць. Едзьма сюдэма!* Вялікае Сяло Зэльв. *Сюдыма пойдзем.* Баброўнікі Гарад. *Сюдама пойдзем!* Пацаўшчына Дзятл.

СЮ'КЛІ *мн. бат.* Хвошч. *Сюклі без лісця і кудлатыя — тожэ лякарства.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *asiūklis* 'тж'.

СЮЛІ'ЦЬ *гл.* СУЛІ'ЦЬ

СЮПТЫ'НЯ *ж.* Танец. *Наўчылі мяне сюптыню гуляць.* Дэгшні Шальч.; *парайн.* літ. *suktìnis* 'тж'.

СЮ'РКАЎКА *ж. заал.* Берасцянка. *Сюркаўка сюркаіць на сцюжу.* Мярэцкія Глыб.

СЮ'РКАЦЬ *незак.* Цвыркаць. Мярэцкія Глыб.

СЮСЮ'КАЦЦА *незак.* Гусці. *Пчолы сабе сюсюкаюцца.* Дакудава Лід.

СЮТ-ТУТ *гл.* СЮДЫ'

СЯ'БАР *м.* 1. Прыяцель. *Мой сябар прышоў, сябры сабраліся да яго ў хату.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Швагер. *Мой брат узяў тваю сястру — гэта мы сябрэ.* Кіралі Шчуч. 3. Кампаньён, супольнік. *Бываіць так: мой рой паляцеў і я не паймаў, заляцеў у чужы вуляй — я кажу яму: «Мы сябры».* Груздава Паст.

СЯБРАВА'ЦЦА *незак. пчал.* Супольна дзяржаць пчол. *Сябры сябраваліся — мелі агульныя пчолы.* Жылі Іўеў. ∇ *Даў бох пчолы, а чорт сябра.* Жылі Іўеў.

СЯБРАВА'ЦЬ *незак. плыт.* Узаемна дапамагаць у плытніцкай справе. *Сябравалі штырнікі: адзін штырнік памагая другому, пераходзіць на другі плыт і патчэплівая. Штырнік крычыць: «Эй, там сябруй!»* Рыбчына Віл.

СЯБРО'ЎСКІЯ ПЧО'ЛЫ толькі *мн.* Супольныя пчолы, якімі карыстаюцца два гаспадары. *Некалькі калодак дае адзін гаспадар другому, той даглядая — гэта сяброўскія пчолы.* Саланое Віл.

СЯБЭ'РКА *ж. пчал.* Суполка на пчол. *Бываіць сябэрка на пчолы: калі гаспадар прыгнаўся за сваімі пчаламі, а пчолы*

*прыляцелі ў чужую стайку — значыць, пчолы ў сябэрцы, перайшлі ў сябэрку.* Груздава Паст.

СЯБЭ'РНЫЯ ПЧО'ЛЫ *мн.* Тое ж, што і сяброўскія пчолы. Граўжышкі Ашм.

СЯБЭ'РСТВА *н.* Тое ж, што і сябэрка. *Еслі той, к каму прыляцелі пчолы, прымя ў сябэрства, то сябэрныя пчолы.* Граўжышкі Ашм.

СЯВЕ'НКА, СЯВЕ'НЬКА *ж.* Плеценая пасудзіна для ручной сяўбы. *Сявенка была.* Вострава Маст. *Сявенка рабілася с саломы і дупцоў.* Номікі Бабіц. *Сявенка сплецена з ляшчыны і с саломы, крутую здзелая, адмысловую.* Старыя Смільгіні Воран. *Сявенку плялі з саломы. У каго ні было сявенкі, у фартух сыпалі і сеялі.* Малахоўцы Бар. *Сявенку плялі з жылгуцёў і саломы. Цяпер райніца, а калісь збіралі пшчол у сявенку.* Стральцы Шальч. *С сявенкі жыто сеялі.* Крынкі Крын. *Сеялі даўней с сявенькі: ідзе і сея.* Кіралі Шчуч. *Сявенька была, рабілі с саломы і акручвалі лазою.* Вострава Маст. *Сявенька з саломы і дубам звязавалі.* Тухавічы Лях. *Сявенька, яна зроблена з лазы.* Масілавічы Сл. *Сявенька, сеялі з яе і сыпалі муку.* Альхоўка Навагр., Дакудава Лід. *Сеялі с фартуха або іс сявенькі.* Збляны Лід. *Сявенька із саломы і дупчыкаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Дралі слокшыны з ляшчыны і плялі сявенькі с саломы. Калісьці збіралі пшчол у сявенькі.* Кудзялянцы, Дэгшні Шальч., Жылі Іўеў. *З лыкі, бывала, сявенькі плятуць.* Парэчча Гродз. ∇ *На Багача кідай рагача, бяры сявеньку ды сей памаленьку!* Вялікія Баяры Шчуч. *Як сяўба, то кідай саху, бяры сявеньку ды сей памаленьку!* Дзяніскавічы Ганц. *Галава як сявенька зробіцца ад работы.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* каробачка, каробка 1.

СЯВЕ'Ц *м.* Сейбіт. *Сявец сеяў жыта.* Вострава Маст. *Сявец сеяў уручную.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сявец бярэ каропку, да яе прывязана вяроўка ці рамушок, бярэ на шыю, а ў каропку насыпая зярна, надзеня на шыю і ў поля ідзе.* Гемзы Шальч. *Благі сявец, нарабіў узрэхаў.* Відаўцішкі Вільн. *Які ён сявец, калі ён яшчэ слаба сея.* Кіралі Шчуч. *Які з цябе сявец!* Дзяніскавічы Ганц.

СЯВЕ'ЯЛКА *ж.* Тое ж, што і сявенка. *Сявеялка была, у яе найбольш пайпуда лезя жыта, з яе сеялі.* Солы Смарг.

СЯВО'К *м.* Тое ж, што і сявенка. *Сявок рабілі так: ліпу лупілі тоўстыя і сявок рабілі, сеялі з яго, с сяўком ходзяць у грыбў* [грыбы]; *сяўкі рабілі калісь.* Кузьмічы Люб. *Пры маей памяці сеялі з сяўка.* Пасека Ст.-Дар.

СЯГАЛЕ'ТАК *м.* Цяля гэтага года. *Карова ў мяне і сягалетак.* Мішневічы Шум.

СЯГАЛЕ'ТАЧАК *м. памянш.-ласк.* да сягалетак. *Сягалетачак — цялёначак, а як зіму перазімуець — перазімачак.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЯГА'НІКА *гл.* СЯГО'НІКА

СЯГА'ННІ, СЯГА'ННЯ, СЯГА'НЯ *прысл.* Сягоння. *Сяганні сню і сню дзяцёнка.* Саланое Віл. *Добрая бульба, сягання выбірала.* Асавец Віл. *Сягання не папала к глаўурачу.* Беразіно Докш. *Сягання хлеп прывязлі.* Рыбчына Віл. *Цяплейшы сяганя дзень. Сяганя я чуць прышла.* Груздава Паст. ∇ *Сягання таксяк, а заўтра бліны.* Вузла Мядз.

СЯГО'ДНЯ, СЯГО'ННЯ, СЯГО'НЯ, СЯГО'ННІ, СОГО'ННІ *прысл.* 1. Тое ж, што і с я г а́ н н і. *Сягодня пайду ў грыбы.* Ёдлавічы Брасл. *Ён сягодня прыедзя.* Быстрыца Астр. *Пух прала сягодня.* Слабада Мін. *Сягоння прыехалі госці.* Жодзішкі Смарг. *Явіліся сягоня ў вёску.* Старыя Трокі Трак. *Сягоня будзя ў нас вяселя.* Завельцы Астр. *Пайду сягонні прасіць, кап каня прыгнаў.* Солы Смарг. 2. Цяпер. *Согонні дэсіць раз лепш, як было пры Польшчы.* Смаляніца Пруж.

СЯГО'ЛЕТА *прысл.* Сяголета, у гэтым годзе. *Сяголета ягадаў будзя.* Вецярэвічы Пух. *Сяголета купіла парасят.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сяголета грыбоў много.* Пасека Ст.-Дар.

СЯГО'ЛЕТКА, СЯГО'ЛЯТКА *ж.* Цялушка гэтага года. *Гэта цялушка — сяголетка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сяголятку купілі.* Рудня Чэрв.

СЯГО'НЕЧЫ *прысл.* Тое ж, што і с я г а́ н н і. *Ён сягонечы паехаў у Зецела.* Пацаўшчына Дзятл.

СЯГО'НІКА, СЯГА'НІКА *прысл.* Сягоння. *Унучка сягоніка прынясла вады. Сягоніка ні прынімала лікарства.* Валынцы В.-Дзв. *Сяганіка ўстала заранне.* Саланое Віл.

СЯГО'ННІ, СЯГО'ННЯ, СЯГО'НЯ гл. СЯГО'ДНЯ

СЯДАВІ'ЦЦА, СЯДОВЭ'ТЫСЯ *незак.* Сядаць, садзіцца. *Вы сядавецеся!* Навасёлкі Свісл. *Мы сядовэмося тут.* Дзмітравічы Кам.

СЯДА'ЦЬ *незак. 1.* Тое ж, што і с я д а в і́ ц ц а. *Дзе німа ягат, там сядаю.* Парэчча Гродз. *Чаго ты сядаеш, трэба не сядаць, а ісці рабіць.* Паляцкішкі Воран. *Прыходзя, сядая на лавя.* Кудзялянцы Шальч. *Яны сядаюць есці, клічуць мяне.* Гальшаны Ашм. *Ён паварачваўся і сядаў.* Малі Астр. *Сядай на лавя. Проша сядаць!* Старыя Трокі Трак. 2. Садзіцца конна. *Я сядаю на каня.* Гемзы Шальч. *Конна сядая і едзя.* Альхоўка Навагр. *Сядаюць на коні і едуць.* Паляцкішкі Воран. 3. Заходзіць у аўтобус, поезд і садзіцца. *Арбон ідзе вёскай, хто хоча — сядая і едзе.* Старыя Трокі Трак. *Сядаеш у конку.* Грыкені Вільн. 4. Узлятаць і садзіцца. *Куры сядаюць на седало.* Крынкі Крын. 5. *пчал.* Звівацца, спыняцца ў часе палёту. *Рой выходзіць і на дзераве яком сядая.* Альхоўка Навагр. *Пшчолы сядаяць на белы клевяр.* Івашкаўцы Смарг.; *параўн.* польск. *siadać* 'садзіцца'.

СЯДЗЕ'ЦЦА *незак.* 1. Доўга сядзець, выконваючы якую-н. работу. *Падушкі рабіць — з імі трэба доўга сядзецца.* Кудзялянцы Шальч. 2. *безас.* з адмоўем. Не хацець знаходзіцца дзе-н. *Ні сядзелася яму ў хаце.* Лоск Валож.

СЯДЗЕ́ЦЬ *незак.* 1. Сядзець. *Сядзіць дзет і нешта гудзіць сабе пад нос.* Вузла Мядз. *Во ваш любівы зяць сядзіць.* Руднікі Шальч. *Мы сядзём тут гаворым.* Паляцкішкі Воран. *Прышоў бацька, падае мне руку, сядзём-сядзём, ён плача адным вадам, што вінават.* Пераброддзе Міёр. *Мы на печы сяджом.* Багушэвічы Бярэз. *Мы сядзём на лавачкі.* Старыя Трокі Трак. *Бывала, сядзём, прадзём на прасніцы.* Беняконі Воран. *Мы сядзём, а хлопцы вянок нам надзелі на галаву.* Ёдлавічы Брасл. *Сядзімо мы, чакаем. Там у Гарбачоў сядзімо.* Дарава Лях. *Сядзіць у хаце цэлы дзень.* Альхоўка Навагр. *Маям хату, сядзім дома.* Кудзялянцы Шальч. *У хаця сядзём.* Стральцы Гродз. *Сядзела б баба дома ды ўнука глядзела!* Малі Астр. 2. Бяздзейнічаць, не быць занятым. *Цэлая лета сяджу, нічога не магу рабіць.* Слабада Мін. *Без работы не сядзелі.* Завельцы Астр. *Чаго сядзяць, рукі паскладаўшы?! — Работа ёсь.* Граўжышкі Ашм. 3. ◇ *Сядзе́ць на пе́ршых сала́х* — займаць пачэснае месца. *У маладога і ў маладой свадзьба сядзіць на першых сталах.* Завельцы Астр. *Сядзець без хлеба* — жыць бедна. *Я даўней бес хлеба сядзеў.* Дарава Лях. ▽ *Даўней гаварылі: «Чорт сядзіць да Міколы ў рацэ».* Дарава Лях. *Сядзіш мендзы варон — гаргай, як вароны!* Малі Астр. ◇ *Седзьба-сядзець* — нічым не займацца. *Ён ня робіць — седзьба-сядзіць.* Рудня Чэрв. 4. Жыць дзе-н., пасяляцца. *Сядзіць там Васкуновіч на той колёніі.* Дэгшні Шальч. *У Асінаўцы ляснік сядзеў. Мы на гэты бок ракі сядзелі, там наша хата стаяла. Хто тут сядзеў гэтым местам?* Вузла Мядз. *Ён на хутары сядзіць.* Паляцкішкі Воран. *Тая дзялка, дзе Лясун сядзеў.* Лоск Валож. *Ён купіў хату і сядзеў там.* Малі Астр. *Шавяла там сядзеў.* Жылі Іўеў. *Тут, дзе мы сядзім, Сяліцкія жылі.* Саланое Віл. *Даўней на прагалках людзі сядзелі.* Мярэцкія Глыб. *Ляснік у лесі сядзеў.* Кіралі Шчуч. *Паня сядзела каля Айшышак.* Кудзялянцы Шальч. *Хто сядзеў у курнай хаця, той лучыну паліў.* Гемзы Шальч. *Толькі адна дачка сядзіць на гаспадарцы.* Кіралі Шчуч. *Каб ён у бацькі сядзеў, ён бы жыў.* Ёдупка Шальч. *Будзе, мусі, пры маме сядзець.* Завельцы Астр. ▽ *Сяджу як пень адна.* Слабада Мін. ◇ *Сядзець адзін на адным* — жыць скучана, цесна, хата каля хаты. *Жылі плоха, дзярэўня бальшая, адзін на адным сядзелі.* Яніна В.-Дзв. 5. Кватэраваць у чужой хаце, не мець свайго кутка. *Ня меў хаткі — у сястры сядзеў.* Кудзялянцы Шальч. *Адна жэншчына ў яе доме сядзела.* Гемзы Шальч. *Будзем у адной хаце сядзець, а есці асобна.* Чуркі Ашм. ◇ *Сядзець на куце, сядзець кутам* — не мець сваёй хаты. *Даўней казалі: «Сядзеў на куце»,— як хто сваей хаты не маў.* Гемзы Шальч. *Бацька зямлі не меў, сядзеў кутам у чужой хаце.* Вузла Мядз. *Сядзелі кутам, плацілі за хату.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сядзець начыку* — быць напагатове, чакаць чаго-н. *Яна цяперача сядзіць, толькі чакае, сядзіць начыку.* Збляны Лід. *Сядзець, як за печай* — мець падмогу ад каго-н., у дастатку жыць. *Яна сядзіць,*

*як за печай: ей сын усё зробіць — і пасадзіць, і пабарануіць.* Малі Астр. 6. Быць зняволеным, адбываць пакаранне. *Ён ужо не першы год сядзіць.* Малі Астр. *Яго асудзілі, год сядзеў.* Альхоўка Навагр. 7. Змяшчацца дзе-н. *У падпечку даўней куры сядзелі.* Дарава Лях. 8. Расці (пра расліны). *Там сядзела бяроза і раку бярэзінай заваліла.* Беразіно Докш. *Астальныя канаплі сідзяць зялёныя.* Гемзы Шальч. 9. Адносіцца да якога-н. органа цела, з'яўляцца часткай яго. *У пашчэнцы зубы сядзяць.* Кіралі Шчуч. *У яе вочы навярху сядзяць, як яблыкі.* Малі Астр. 10. Не мець здольнасці рухацца, хадзіць. *Яна быўшы сядун — тры гады сядзела, не хадзіла, сядуном была маленькая, не магла хадзіць.* Малі Астр. 11. Выводзіць птушанят, выседжваць. *Курыца квірчыць, як сядзіць на яйцах.* Старыя Смільгіні Воран.

СЯДЗЁЛАК *м.* Падсядзёлак. *Сядзёлак кладзецца каню, як запрагаюць.* Мярэцкія Глыб.

СЯДЗЁЛКА *ж.*, СЯДЗЁЛКО *н.* Тое ж, што і с я д з ё л а к. *Сатрэць сядзёлка карак каню. Сядзёлка на спіну каню.* Мешкінева Лудз. *Бубянцы к сядзёлкі прывязаны.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сядзёлко на шпіне кладзецца.* Лука Нараўк.

СЯДЗІ'БА, СЯДЗІ'МА *гл.* СЯЛІ'БА

СЯДЗЬМУ'ХА *ж.* Сёмая частка надзелу зямлі аднаго гаспадара. *Выдзяліў мне бацька сядзьмуху зямлі.* Магуны Паст.

СЯДЗЭ'НЯ *н.* Гарызантальная частка прасніцы. *У прасніцы сядзэня, на чым сядзіш, як прадзеш.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *siedzenie* 'тж'.

СЯДЗЯ'К *м. неадаб.* Хто не хоча працаваць. *Гэты сядзяк не пойдзе збіраць зеля.* Парэчча Гродз.

СЯДЗЯ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і с я д з э́ н я. *Сядзялка ў прасніцы, на чым сядзіш і прадзеш, покуль шпулю напрадзеш.* Малькуны Ігн.

СЯДЗЯ'ЛЫ *прым.* Нерухавы, паседлівы, хто любіць сядзець. *Я баба не сядзялая, чаго я буду сядзець.* Магуны Паст.

СЯДЛО' *н.* Тое ж, што і с я д з э́ н я. *У прасніцы сядло, што садзіцца.* Вецярэвічы Пух. *У прасніцы сядло, садзіцца на сядло і прадзе.* Слабада Мін.

СЯДМІ'НА *ж.* Тое ж, што і с я д з ь м у́ х а. *У мацяры засталася сядміна зямлі.* Мярэцкія Глыб.

СЯДМУ'ШКА *ж.* памянш. да с я д з ь м у́ х а. *У бацькі сядмушка зямлі была.* Саланое Віл.

СЯДМЫ' *ліч.* Сёмы. *Ужо сядмы час.* Дарава Лях. *Пяклі шэсь булак, а сідмая маленькая бондачка.* Масішкі Красл.; *параўн.* руск. *седьмой* 'тж'.

СЯДНІ'К *гл.* СЯННІ'К

СЯДНО' *прысл.* Усё роўна; як быццам. *Сядно паеду.* Пасека Ст.-Дар. *На небе відаць сядно як коляска — зорочна коляска.* Хатынічы Ганц.

СЯДОВЭ'ТЫСЯ *гл.* СЯДАВІ'ЦЦА

СЯ'ДРАВА, СЯ'ДРАВО, СЯДРО'ВА *прысл.* Холадна, сцю-

дзена (пра надвор'е). *Ідзі ў хату, бо тут сядрава.* Малахоўцы Бар. *Сёня ужэ сядраво.* Масілавічы Сл., Тухавічы Лях. *Зраніцы было сядрова.* Лапічы Асіп.; *гл.* *ся́драві.*

СЯ'ДРАВЫ, СЯДРО'ВЫ *прым.* 1. Халодны, сцюдзёны. *От сядрава раніца! Ночы сталі сядравы.* Малахоўцы Бар. *Сядравая раніца.* Тухавічы Лях. *У нас большую часць кажуць — раніца сядрова, як халодная раніца летам ці пад восень.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *siaudrùs* 'гулкі, звонкі (ад холаду)', *siaudìmas* 'гул, гудзенне, шапаценне'. 2. Цвердаваты, хрумсткі, ядраны. *Сядравая яблыка.* Тухавічы Лях.

СЯ'ДРАНА *прысл.* Тое ж, што і ся́драва. *Сядрана на дварэ: халодна, зябка.* Рудня Астравітая Чэрв.

СЯ'ДРАНЫ *прым.* Тое ж, што і ся́дравы. *Раніца сядраная, зяпкая, ядраная, адзявайся.* Рудня Астравітая Чэрв.

СЯДУ'Н *м.* Дзіця, якое яшчэ не можа хадзіць. *Сядун — няскора пачынае хадзіць.* Мярэцкія Глыб. *Сядун ня скора ходзіць.* Ракаўскія Швянч. *Сядун — дзіця, якое доўга не пачынае хадзіць.* Быстрыца Астр., Магуны Паст. *Сядун ня хоча поўзаць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. ∇ *Яна сядзіць як сядун, няспорна ў яе работа.* Валынцы В.-Дзв.

СЯДУ'ХА *ж.* Хворая, у якой баляць ногі. *Яна сядуха — ходзіць на двух кійках.* ∇ *Лёня сядзіць як сядуха, у яе ногі ад маленства баляць.* Валынцы В.-Дзв.

СЯДЫ'-ТАДЫ' *прысл.* Часам, часамі, зрэдку, іншы раз. ◇ *Сяды-тады прыходзіць да нас.* Номікі Бабіц.

СЯЗО'Н *м.* Сезон, час уборкі. *Усякая работа свой сязон маіць.* Азаркі-Пудавінка Мядз.

СЯКА'НКА I *ж.* Карыта, у якім сякуць што-н. *У сяканцы сякуць зеля, бульбу свіням.* Груздава Паст.

СЯКА'НКА II *ж. кулін.* Верашчака. *Сяканку варацьтак: насякуць дробнянько мяса і варацьа потом паткалочваюць пшонною мукою — гэта сяканка.* Дакудава Лід. *Дробнянька мяса пасякуць і паткалоцяць — і сяканка.* Альхоўка Навагр.

СЯКА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і сяка́нка І. *Карыта, у якім сякуць бульбу свіням — сякаўка.* Груздава Паст.

СЯ'КАЦЬ, СЯ'КАТЫ, СЯ'КАТЭ *незак.* Смаркаць. *Сякае носа.* Ісерна Слуц. *Сякаты носа.* Дзмітравічы Кам. *Сякаты суплі.* Сіманавічы Драг. *Сякатэ суплі.* Радастаў Драг.; *параўн.* польск. *siąkać* 'тж'.

СЯКА'Ч *гл.* СЕКА'Ч

СЯКЕ'РА *ж.* Тапор, сякера. *Ё сякера, што дрова рубяць.* Івашкаўцы Смарг. *Сякера таней, калун таўсцейшы, большы.* Малахоўцы Бар. *Трэба гастрыць сякеру.* Ліпнікі Вільн. *Сякера гостра.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзе мая сякера?* Лоск Валож. *Каб была сякера — была п яго забіўшы. Узяў сякеру і абухом таўчы.* Гемзы Шальч. *Сякерою калоць буду дровы.* Лука Нараўк. *Дровы сякерай шчапаюць.* Дакудава Лід. *Сякерою рубаюць дрова.* Кіралі Шчуч. *Сяку дзераво сякерою.* Дзяніскавічы Ганц.

*Атсёк пальцы сякераю.* Альхоўцы Лях. *Мой бацька ўмеў сякеры рабіць.* Гемзы Шальч. ◇ *Сякеру з'есці* — мець здаровае нутро. *Ён сякеру можа з'есці — і будзя спаць.* Дэгшні Шальч.; *параўн.* польск. *siekiera* 'тж'.

СЯКЕ'РКА *ж. памянш.* да с я к е́ р а. *Сякерка ёсць і тапарышча дзераўляна.* Малькуны Ігн. *Нашоў сякерку пад лаўкай.* Стральцы Гродз.

СЯ'КЛЯ *ж. рыб.* 1. Ез. *Сякля — загарада на рэчцы, застаўка на рацэ пры лоўлі рыбы.* Дакудава Лід. 2. Праломка. *Зімой дзелаюць сяклю: прасякаюць, каб рыба дышала.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *sẽklius* 'мель'.

СЯКУ'НД *м.* Хвіліна, секунда. *Дзіця падзяржыць ляльку сякунд і нясе мне.* Стральцы Гродз.

СЯЛЕ'ДЗЕЎКА *ж.* Селядзёўка, селядзёвая бочка. *Сяледзеўка смярдзіць жывымі сіляццамі.* Кіралі Шчуч. *Сяледзеўка вады наліта.* Мсцібава Ваўк. *Сяледзеўку следзі купплялі на пост.* Парэчча Гродз.

СЯЛЕ'НЕЦ *м.* Селядзец. *З сяленцам у пост елі.* Пасека Ст.-Дар.

СЯ'ЛЕТА *прысл.* Сяголета. *Сялета жыта добра парасло.* Мачаск Бярэз.

СЯЛЕ'ТАК *м.* Тое ж, што і с я г а л е́ т а к. *Сялетак цёлны ня будзя.* Лоск Валож.

СЯЛЕ'ТНІ *гл.* СЁЛЯТНІ

СЯЛЁДЗЯЎКА *ж.* Тое ж, што і с я л е́ д з е ў к а. *Сялёдзеўка — бочка ад сялёткі.* Жылі Іўеў.

СЯЛЁТАК *м.* Жарабё гэтага года. *Жарабятка — сялёта́к.* Быстрыца Астр.

СЯЛЁТКА I *ж.* Селядзец з ікрой. *Сялётка с ікрой, а селядзец — малочнік.* Лоск Валож. *Былі харошыя сялёткі.* Слабада Мін.

СЯЛЁТКА II *ж.* Тое ж, што і с я г о́ л е т к а. Быстрыца Астр.

СЯЛІ'БА, СЯДЗІ'БА, СЯДЗІ'МА *ж.* Сядзіба. *Мая сяліба харошая была: рэчка бліска цікла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней гаварылі сяліба, а цяпер — участак.* Рудня Чэрв. *Гэта не ў нашай сялібы.* Малькуны Ігн. *На іхнай сялібя мушчыны зміраюць.* Саланое Віл. *На гэтым месця сядзіба была мая ў Шастакох.* Гемзы Шальч. *Гэта сядзіма мая.* Кіралі Шчуч.

СЯЛІ'БІШЧА *н.* Месца, дзе была сяліба. *Прышлі на сялібішча, там зімлянкі былі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЯЛІ'ЦЦА *незак.* Пасяляцца. *С Палесся селяцца тут, бліжэй Баранавіч. Даўней ля рэк людзі сяліліся.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СЯЛО', СЭЛО', СЫЛО' *н.* Вялікае сялянскае паселішча, вялікая вёска. *Сяло наша вялікая.* Мярэцкія Глыб. *Сяло — старадаўняе названня.* Рудня Астравітая Чэрв., Малыя Аўцюкі Калінк. *Тое сэло вэліке-вэліке. Нашэ сэло было беднэ, але чысты*

*людзі.* Смаляніца Пруж. *Прамая дарога у канцэ сэла.* Горск Бяроз. *Усэ сыло выйіхало.* Дзмітравічы Кам. ▽ *Як на покуці ляжаў — было трошкі жалка, а як вынeслі за сяло, так і стала весяло.* Перабродзе Міёр. *У сяле, як у сіле: скажы каму — усё перададуць.* Вузла Мядз. *У (на) сяле (сяло)* — быць у вёсцы, не знаходзіцца дома. *На сяло бабы былі прышоўшы.* Лоск Валож. *Прыхоць да міне на сяло.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бабы пашлі на сяло.* Ністанішкі Смарг. *На сяло ходзіць да дзяўчат гуляць.* Кузьмічы Люб. *Дзеці сышлі на сяло.* Курaполле Паст. *Пашоў у сяло.* Вострава Маст. *Ай, ладна, мама, пайдзём на сяло.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

СЯЛО'С *м.* Сілас. *Будуць сялос закладаць для жывёлы.* Стральцы Шальч.

СЯЛЦО', СЯЛЦЭ' *н. памянш.* да с я л о́. ▽ *Дзе сялцо, там і нараўцо* — свая звычка, гаворка. *Як сялцо, так і нараўцо.* Азяраны Раг. *Як сялцэ, так і нараўцэ.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Дзе сялцэ, там іншае нараўцэ.* **Хатынічы Ганц.**

СЯЛЬНІ'К *м.* Сяннік. *Сяльнік я пашыла, салома ня трусіцца.* Дакудава Лід. *Трэ напхаць сяльнік саломаю.* Дзяніскавічы Ганц. *Сяльнік напханы сенам ці саломаю.* Тухавічы Лях., Вострава Маст., Мярэцкія Глыб., Крэва Смарг.

СЯЛЬНІЧО'К *м. памянш.* да с я л ь н і к. *У калыску сяльнічок зробіць.* Старыя Трокі Трак.

СЯЛЯ'ВА *гл.* СІЛЯ'ВА

СЯЛЯДЗЕ'Ц *гл.* СЕЛЯДЗЕ'Ц

СЯЛЯ'ЎКА *ж.* Тое ж, што і с і л я́ в а. *Сяляўка зверху плавая.* Малахоўцы Бар. *Сяляўка ў нас ня водзіцца, сяляўка быўшы ў Дрывяці.* Рагулішкі Даўг.

СЯМА'К *м.* Сямёрка ў калодзе карт. *Адбівайся, сямака давай.* Любішчыцы Івац.

СЯМЕ'ЙКА *ж. памянш.* да с я м ' я́. *Белыя ўсю сямейку выбілі.* Малышы Лід. *Раньша сямейкі бальшыя былі, у мяне семера было.* Яніна В.-Дзв.

СЯМЕ'ЙСТВО, СЯМЯЙСТВО' *н.* Сям'я. *Мо п'яць сот сямействаў выехала ў первую вайну.* Любішчыцы Івац. *Наша сямяйство сабралася.* Магуны Паст.; *параўн.* руск. *семе́йство* 'тж'.

СЯМЕ'НА *мн.* Насенне. *Сямена сланэчніка даспявае ўжэ.* Старыя Трокі Трак.

СЯМЕ'ННЫ, СЯМЯННЫ'Й *прым.* Дабыты з ільнянога семя. *Бывала, наробім канаплянага і сяменнага алею.* Старыя Смільгіні Воран. *Алей сямянный робілі.* Рагулішкі Даўг.

СЯМЕ'НЯ(Е), СЯМЕ'ННЯ *зб. н.* Ільняное семя. *Сяменя лёну.* Ракаўскія Швянч. *Са сяменя алей рабілі.* Рагулішкі Даўг. *Гналі алей са сяменя.* Ёдлавічы Брасл. *Алей рабілі з сяменя, сырую капусту пракінеш — так смачна.* Малькуны Ігн. *Сяменя ллянага напражаш, у ступя натаўчом і бонды пяклі.* Старыя Трокі Трак. *Сяменя пражылі.* Быстрыца Астр. *Сяменя сеялі.* Грыкені Вільн. *Сяменя, як высахня — ганялі коні: так малацілі*

*сяменя.* Лайпушкі Ігн. *С сяменя — самая лепшая масла. Патпражыш сяменя і стаўчэш — і жыр пускаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *С сяменя алей гналі, сяменя сліскоя.* Малі Астр. *Сяменя добра, з яго алей рабілі.* Руднікі Шальч. *Алей канопны — лучшы, як с сяменя.* Старыя Смільгіні Воран., Альхоўка Навагр. *Жыла бедна, пазычала літар сяменя.* Крэва Смарг. *У пойла цялятам сяменя клалі, туды і аўсянку паплесканую.* Стральцы Гродз. *Вышкі рабілі дзеля лубіну, сяменя.* Гальшаны Ашм. *Сяменя ў азяроды складалі на саломку.* Чуркі Ашм. *Сяменя клалі да мешка, яго ўпараць і прыкладаюць, як у каго гручолы.* Гемзы Шальч. *Даўней алей с-пат сямення; завязуць пару пудоў сямення — і запраўлялі алеям.* Солы Смарг., Завельцы Астр.; *параўн.* літ. *sėmenys* 'тж'; *гл.* с е́ м я.

СЯМЁХ *зб. ліч.* Сямёра, усемярых. *Сямёх іх было.* Навасёлкі Свісл. *Бывала так: сямёх жылі на часці — гэта батраке.* Парэчча Гродз.

СЯМІЗУ'БКА *ж. с.-г.* Драпак. Чычалі Швянч.

СЯМІ'ЦА *ж. рэліг.* Сёмуха. Чычалі Швянч.

СЯМ'Я' *ж.* Тое ж, што і с я м е́ й с т в о. *Даўней уставалі досвіта: сям'я вяліка, дваццаць душ, трэба было наварыць усім.* Дзяніскавічы Ганц. *Я жыла ў сям'і.* Саланое Віл. *Гэту сям'ю яна пакінула.* Альхоўцы Лях. *Сям'я ўся пагібшы.* Замошша Брасл. *Яна з добрай сям'і.* Ністанішкі Смарг. *Аднэй сям'ей жылі, пяць дзевяроў было ў адной хаці.* Падгаі Мін. *С сям'ею не дружэў.* Хатынічы Ганц. *Я пры сям'е жыла.* Парэчча Гродз. *Тры сям'і там і цяпер, у Арганціне.* Дарава Лях. *У вёсцы восем сем'яў выбілі немцы і дама спалілі.* Каўняны Гродз. ▽ *Даўней казалі: «Ня ўмеіць ні касіць, ні араць, а як сям'ю гадаваць?»* Пераброддзе Міёр. *Дай бох, кап сям'я — ты ды я* — жаданне маладых жыць асобна ад сям'і мужа. Парэчча Гродз.

СЯМЯЙСТВО' *гл.* СЯМЕ'ЙСТВО

СЯМЯНІ'К *м.* Насенны агурок. *Сямянік — жоўты, вялікі, палезуць куры і здзюбаюць гэтыя семянікі.* Ёдлавічы Брасл.

СЯМЯННЫ'Й *гл.* СЯМЕ'ННЫ

СЯНАВА'ЦЬ *гл.* СЕНАВА'ЦЬ

СЯНАКО'С *гл.* СЕНАКО'С

СЯНА'Ш *м.* Сянаж. *Машыны сянаш вязуць у кароўнік.* Гальшаны Ашм.

СЯНДЗЭ'НЯ *н.* Сядзенне. *Сяндзэня рабілі на возе з саломы.* Чуркі Ашм.

СЯ'НІШНІ *прым.* Сягонняшні. *Сянішнім днём нада на печ уцякаць — такі холад.* Вузла Мядз.

СЯННІ'К, СЯДНІ'К, СЯНІ'К, СЕНІ'К *м.* Тое ж, што і с я л ь н і к. *Сяннік накрапан саломай іржаной.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сяннік набівалі мягкай саломай.* Крэвені Даўг. *Сяннік у мяне ёсць у гумне. Сяннікі рабілі з саломы: у вялікі ворак напхне.* Старыя Трокі Трак. *Сяднік трэба напхнуць, сцёрся сяднік.* Рыбчына Віл., Навасёлкі Свісл. *Лусту хлеба ад свякрыві пад сяднік*

*хавала нявестка.* Вузла Мядз. *Дайней сяднікі напіхаяш саломай — і спалі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сянік напіхалі саломаю.* Кіралі Шчуч. *Такі цяшкі сянік.* Паляцкішкі Воран. *Дайней сянікі шылі ў чатыры полкі.* Альхоўцы Лях. *Сенік прынясу. Сенікі былі.* Грыкені Вільн.

СЯННІ'ЦА *ж.* Сяннік, што клалі пад галаву замест падушкі. *Сянніцу рабілі, клалі ў галовах і трэба было спаць.* Саланое Віл.

СЯ'ННЯ, СЯ'НЯ *прысл.* Сягоння. *Сяння вечарам прыедзе ўнук.* Любішчыцы Івац. *Сяння буракоў у калхос прывясці можна.* Асавец Віл. *Сяня ў слоічак атлажу рашчыны, ён закрыты шчытна — і стаіць кісля.* Масішкі Красл.

СЯНЦО' *н. памянш.* да с е́ н а. *Сянцо патсохла, нада паварочаць.* Івашкаўцы Смарг. *Дала сянца трошкі цялусі, цялушка сянцо есь.* Саланое Віл.

СЯНЧУ'К *м.* Няскошаная ў свой час сухая трава, звычайна па балотах. *Сянчук косяць па льду на потсціл, сянчуку накасіў.* Рудня Астравітая Чэрв.

СЯНЫ' *мн.* Сенакосы, сенажаці. *Такія ў нас сяны: лукі, на луках косім.* Ністанішкі Смарг.

СЯ'НЯ *гл.* СЯ'ННЯ

СЯ'РАД, СЯРО'Д *прыназ. з род.* Пасярод (чаго-н.). *Ён ляжыць сярад поля.* Саланое Віл. ▽ *У добрага мужа — сярод печы лужа* — поўны дастатак. Малі Астр.

СЯРДАВА'ЦЬ, СЫРДОВА'ТЫ, СЭРДОВА'ЦІ *незак.* Крыўдзіцца, злавацца. *Яна сярдуе на мяне.* Альхоўцы Лях. *Хай жыве, хай сярдуя.* Кіралі Шчуч. *Вона ны сырдуе на його.* Дзмітравічы Кам. *Чэго сэрдуеце на мэнэ?* Смаляніца Пруж.

СЯРДЗЕ'ЧНІК *гл.* САРДЭ'ЧНІК

СЯРЁДАВЫ *прым.* Перамяшаны з мякінай. *Дайней сярёдавы хлеп пяклі — мякіны дабаўлялі.* Янова Рас.

СЯРЁДКА *ж.* Нутро. *Нешта мне сярёдка баліць.* Янова Рас.

СЯРМЯ'ГА *ж.* Верхняя адзежына з даматканага сукна. *Дайней сярмягі шылі з сукна, доўгія.* Новікі Гродз. *Сярмягі і кажухі шылі.* Парэчча Гродз. *Сярмяга як бурнос.* Солы Смарг. *Мы сярмягаю ўкрываліся, як пасвілі валэ.* Дарава Лях.

СЯРМЯ'ЖКА, СЯРМЯ'ШКА, СЕРМЯ'ЖКА *ж. памянш.* да с я р м я́ г а. *Сярмяжка — такоя было калісь адзеня.* Талейкі Швянч., Грыкені Вільн. *Сярмяшка шылася на кудзелі, кароткая.* Крэва Смарг. *Дайней людзі самі хадзілі ў ірваных сярмяшках, а куплялі зямлю.* Вузла Мядз. *Помню, як мне мама пашыла сярмяшку.* Парэчча Гродз. ▽ *Свая сярмяшка ні цяшка — свая ноша, яе нясеш, і не цяшка.* Малі Астр., Багдзюлі Шальч. *Свая сермяжка не цяжка* — усе цяжкасці, звязаныя з гадаваннем сваіх дзяцей, сям'і. Вецярэвічы Пух.

СЯРНІКІ' *гл.* СЕ'РНІКІ

СЯРНІ'ЧКІ *мн.* Тое ж, што і с я р н і к і. *Сярнічкі палажы на прымурак.* Валынцы В.-Дзв. *Сярнічкі размоклі.* Мачаск Бярэз.

*Дайней казалі сярнічкі, а цяпер — спічкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Карабок сярнічак.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл.

СЯРО'Д *гл.* СЯ'РАД

СЯРО'ДАВІК *м.* Сярэдні маладзенькі лісток. *Плісьнік на падсцілку косюць, а сяродавік з плісніку дзеці ядуць.* Глівін Барыс.

СЯРО'ДАК *м.* Стрыжань. *Сяродак у морквы.* Малахоўцы Бар.

СЯРО'ДКА *ж.* 1. Сярэдняя, цэнтральная частка чаго-н. *Сяродка рудая ў бульбі.* Малькуны Ігн. 2. Зародак. *Я натруднюся, пакуль сяродку выкіну з яйка, не магу выпіць яйко з сяродкай.* Вузла Мядз.

СЯРО'ДКІ *мн.* Нутраныя органы. *Ён бальны на сяродкі.* Старыя Трокі Трак. *Я старая, мне семьдзесят пяць гадоў, алі сяродкі мае здаровыя.* Руднікі Шальч.

СЯРПО'К *м. памянш. астр.* 1. Маладзік у першай квадры. *Ужэ сярпок есць, на трэці дзень яго ўвідзім.* Гемзы Шальч. 2. Месяц у апошняй квадры. *Вятох — на раніцы сярпок, а маладзік — вечарам.* Гальшаны Ашм.

СЯРУ'НЬ *ж.* Шарон, шарпак. *Мы па сяруні прышлі напрасткі.* Ёдупка Шальч.

СЯРЧУКІ', СЯРЧЫКІ', СЕРЧЫКІ' *мн.* Тое ж, што і с я р н і к і. *Дайней у нас сярчукі гаварылі, а цяпер — запалкі.* Каменка Шальч. *Дзе мае сярчыкі?* Стральцы Шальч. *Сярчыкі — запалкі.* Жодзішкі Смарг. *Любы агонь распаліць, трэба кап серчыкі былі.* Гемзы Шальч.

СЯРЭ'ДЗІНА *ж.* 1. Ствалавая частка дрэва (без пня). *У дрэві пень, сярэдзіна і вершаліна.* Солы Смарг. 2. Што знаходзіцца ўнутры чаго-н. *Калісь мама яечка ў сярэдзіну бондачкі паложа — і спячэцца.* Малі Астр. 3. *анат.* Нутро. *Я ў сярэдзіне здарова, але вочы баляць.* Парэчча Гродз. 4. Паясніца, крыж. *Сярэдзіна баліць.* Вузла Мядз., Завельцы Астр., Гемзы, Дэгшні Шальч., Дзёрнавічы В.-Дзв. *Баліць сярэдзіна — ня можна стаць на ногі.* Ёдлавічы Брасл. *Сярэдзіна ные — не разагнуцца.* Мачаск Бярэз., Дакудава Лід. *Сярэдзіна баліт.* Лука Нараўк. ∇ *Дайней, як першы гром, то да сцяны прыпіраліся, каб сярэдзіны не балелі, скарэй-скарэй да сцяны!* Дарава Лях. 5. у знач. *прысл. сярэдзінай.* Усярэдзіне, пасярод. *Сярэдзінай травы меняй.* Альхоўка Навагр.

СЯРЭ'ДЗІНКА *ж. памянш.* Шыйка. *Сярэдзінка ў маткі пчалінай тонкая, яна даўжэйшая за другіх пчол.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЯРЭ'ДЗІНКІ *мн. памянш.* Саломка трасты льну. *У лёні выдзяляюць вярхе, сярэдзінкі і камле.* Вялікія Баяры Шчуч.

СЯРЭ'ДНІ *прым.* 1. Які знаходзіцца ў сярэдняй частцы чаго-н. *Былі і сярэднія шулы ў сцяне гумна.* Чычалі Швянч. 2. Адзін з дзяцей у сям'і — між старэйшым і малодшым. *Сярэдні сын вучыцца ў цехнікуме.* Ёдлавічы Брасл. *Мой муш поля рабіў, старшы араў, сярэдні яго брат строіў усё ў хаці: кошыкі*

*плёў, усё для хазяйства рабіў.* Завельцы Астр. *Сярэдняя дачка замужам.* Рыбчына Віл.

СЯРЭ'ДНІЦА *ж.* Тое ж, што і с я р э́ д з і н а 4. *Сярэдніца баліць.* Вострава Маст.

СЯРЭ'ДНЯ *прысл.* У пэўнай меры, троху. *Я тожа сярэдня панімаў.* Цярэшкі Ваўк.

СЯСТРА', СЕСТРА', СІСТРА', СЫСТРА', СЭСТРА' *ж.* 1. Сястра. *Яго сястра прыехала.* Кіралі Шчуч. *Сястра старэй мяне.* Вострава Маст. *Была адна сястра — блакадай пагібла.* Вузла Мядз. *А сястра хаваўшыся пад лошкам.* Завельцы Астр. *Ат прастуды умерла адна сястра.* Дарава Лях. *Сестрэ сын прыходзіў.* Вялікі Краснік Пруж. *Маміна сістра — мая цётка.* Індра Красл. *У мое сэстрэ была.* Смаляніца Пруж. *От сыстрэ прышла. Було сім сэструв.* Дзмітравічы Кам. 2. Медсястра. *Урач прымаў бяз сястрэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яна ў Забрэззе сястрой робя.* Люск Валож.

СЯСТРА'Н *м.* Пляменнік. *Мой сястран прышоў, сястры сын.* Жылі Іўеў.

СЯСТРАНІ'ЦА, СЕСТРАНІ'ЦА *ж.* Пляменніца. *Сястраніца — дачка сястры.* Жылі Іўеў., Ракаўскія Швянч. *Сястраніца — сястры дачка замуш ішла.* Кудзялянцы Шальч. *Мая сястраніца плакала горкімі слязьмі.* Малі Астр. *Маёй сястры дачка — мне сестраніца.* Солы Смарг. *Сестраніца дзецям аддала грошы.* Кудзялянцы Шальч. *Маей сястры дзеці — сестраніцы прыходзяцца.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *siostrzenica* 'тж'.

СЯСТРО'НКА *ж.* Дваюрадная сястра. *Мы сястронкі з Варварай.* Вецярэвічы Пух.

СЯСТРУ'ХА' *ж.* Тое ж, што і с я с т р о́ н к а. *Яніна — сяструхá мая.* Багушэвічы Бярэз. *Па сродству яна ёй сястру́ха, сястру́ха за ім.* Азяраны Раг. *Сястру́ха яго зубы ставіць.* Палік Барыс. *Сястру́хі чым-та падобны.* Ухвала Круп. *Я сама сяструхé плаціла.* Міратычы Карэл.

СЯСТРУ'ХНА *ж.* Тое ж, што і с я с т р у́ х а́. *Мая сяструхна ідзе.* Альхоўцы Лях. *Мая сяструхна да мяне не зайшла.* Вецярэвічы Пух. *Мая старшая сяструхна за яго замуж пашла.* Кузьмічы Люб.

СЯСТРУ'ШКА *ж. памянш.-ласк.* да с я с т р у́ х а́. *Яго к сяструшкі прыпісалі.* Янова Рас. *Сяструшкі пасабіраліся і ніяк не нагаворацца.* Мішневічы Шум.

СЯСТРЫ'Н, СЯСТРЫ'НІН *прым.* Які адносіцца да сям'і, радні сястры. *Сястрын сын прыехаў.* Дакудава Лід. *Сястрыная дачка замуш ішла.* Граўжышкі Ашм. *Сястрыны дзеці прышлі да мяне.* Старое Сяло Зэльв. *Сястрынін сын быў харошы на усе сяло, цяпер рабіць не магіыме.* Альхоўцы Лях.

СЯСТРЫ'ЦКА *ж. памянш.-ласк.* да с я с т р а́ 1. *Сястрыцка мая жаласная дужа.* Валынцы В.-Дзв.

СЯСТРЭ'НІЧ *м.* Тое ж, што і с я с т р а́ н. *Сястрэніч — пля-*

*меннік, сын сястры.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* польск. *siostrzeniec* 'тж'.

С'Я'ТО *гл.* СВЯ'ТА I

СЯТРЫ'ЦЬ *незак.* Хваляваццa. *Сятрыць вада, як вецер ганяя маленькія волны на рэчцы, вада як бы дрыжыць.* Азяраны Раг.

СЯЎБА' *зб. ж. с.-г.* 1. Насенне розных культур (збожжа, гародніны, клубні бульбы), прызначанае для пасеву. *Жыта нада на сяўбу абабіць.* Груздава Паст. *Буйная жыта адбіраюць на сяўбу.* Кураполле Паст. *Первый сорт жыта на сяўбу атсыпаюць.* Лісна В.-Дзв. *Аддзяляюць бульбу: гэта будзя сяўба, гэта яда, а самая дробная — паранка.* Магуны Паст. *Бульбу на сяўбу адкідавалі.* Кураполле Паст., Лісна В.-Дзв. *Мама, каб мы сяўбы не звялі, каб хоць пятнаццаць пудоў пасеяць. Сядзіць баба, прадаець сяўбу: бурачкі, цыбулю.* Вузла Мядз. 2. Працэс пасеву, сеянне. *Я ўмела сеяць, даўней людзі казалі: «Не атлічыш, дзе яе сяўба — дзе мушчына сеяў, а дзе баба?»* Вузла Мядз. *Поле згорано ў загон пат сяўбу.* Крынкі Крын. *Цяпер самая сяўба лёну.* Малькуны Ігн. ▽ *Прыйшоў Барыс — за сяўбу бярысь.* Ухвала Круп.

СЯЎБЕ'Ц *м.* Сейбіт. *Быў малы, слабы сяўбец.* Азяраны Раг.

СЯЎБІ'НЫ *прым.* Насенны. *Сяўбіная жыта ішла на сяўбу.* Малькуны Ігн.

СЯЎБІ'Т *м.* Тое ж, што і с я ў б е́ ц. *Сяўбіт прытаміўся, сеў на зямлю.* Беразіно Докш.; *гл.* с я в е́ ц.

СЯЎБІ'ТКА *ж.* Тое ж, што і с я в е́ н к а. *Была сяўбітка з ліпавай кары, сеялі збожжа; у сяўбітку ставілі паску, як вазілі пасвяцаць.* Ухвала Круп.

СЯЎБЯ'НКА *ж.* Насенная бульба. *Сяўбянка — сярэдняя бульба.* Магуны Паст.

СЯЎБЯ'НЫ *прым.* Тое ж, што і с я ў б і н ы. *Сяўбяная зерня — лепшая.* Ракаўскія Швянч.

СЯЎНІ'К *м.* Тое ж, што і с я в е́ н к а. *Сяўнік — каропка з лубу, з ліпы, сеялі з яе.* Ісерна Слуц.

СЯЎНЯ' *ж.* Тое ж, што і с я в е́ н к а. *Боб садзілі, а с сяўні — сеялі дабро.* Кураполле Паст.

СЯЎЦЫ' толькі *мн. астр.* Стажары. *У нас сяўцы іх звуць.* Граўжышкі Ашм.

СЯЧКА'РНЯ, СЕЧКА'РНЯ *ж.* Сячкарня. *Была карова і сячкарня — усё нажылі.* Слабада Мін. *Трэба сечку на сячкарню рэзаць.* Малькуны Ігн., Малышы Лід. *Сячкарню забрала.* Гальшаны Ашм. *Сячкарні былі куплены.* Месянцы Брасл. *Ест сечкарня сечку рэзаць.* Гемзы Шальч. *Сечкарня ў нас е, сечку рэжам.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *sieczkarnia* 'тж'.

СЯЧО'НЫЙ *дзеепрым.* Дробны, здроблены. *Сячоный суп наварыла* [з дробных круп]. Мішневічы Шум.

СЯЧЫ' *незак.* 1. Валіць, спілоўваць лес. *Людзі тапары, палкі пабралі і ляцелі ні даваць гэты лес сячы.* Саланое Віл. *Hi-*

*хто мне дроў у лесе ні сек, усё сама.* Гайна Лаг. 2. Шчапаць, калоць. *Танейшыя дровы хай сама гаспадыня сячэ.* Слабада Мін. *На дрывотніку дровы сячом.* Солы Смарг. 3. Раздрабняць корм на дробныя часткі. *Сякуць картоплю, бураке свіням, каровам.* Вострава Маст. *Сякуць зелля свіням.* Саланое Віл. *Лопух свіням сякуць, з другой травой даюць.* Слабада Мін. 4. Караць, біць, сцябаць. *Казалі, што адна мачаха намоча ручнік, пасцеля на дзіця і сячэ.* Кудзялянцы Шальч. *Крапівай сякуць курыцу, як заквокчыць, штоб ей шчыпалась, штоб яна бегала, не сядзела.* Саланое Віл. 5. *перан.* Кусаць, джаліць. *Камары сякуць — няма спасення.* Валынцы В.-Дзв. *Камары сякуць, у іх ногі ценкія.* Кудзялянцы Шальч. 6. *перан.* Бойка гаварыць. *Ён так палітоўску сячэ, як рэпу грызе.* Кудзялянцы Шальч.

СЯЧЫ'СЯ *незак.* Ссякацца, зразацца. *Цяпкай трава сячэцца.* Плябанцы Ашм.

# Т

ТА *гл.* ТОЙ

ТАБА'КА I *ж.*, ТАБА'К *м.* 1. *бат.* Тытунь. *Пучча з табакі партызанам дала.* Ухвала Круп. *Табаку сеялі калісьці; маток табакі.* Ёдлавічы Брасл. *Табаку ў шнюры вязалі.* Навасёлкі Лід. *Расце ва гародзе табак.* Альхоўцы Лях. 2. Высушанае і нарэзанае лісце і сцёблы тытуню, якія ідуць на курэнне. *Табаку насілі ў машонках.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *tabaka* 'тж'.

ТАБА'КА II *ж. бат.* Галаўня. *Табака ў пшаніцы, у ячмені, сціснеш, як попел чорны.* Пацаўшчына Дзятл. *Табака ў пшаніцы.* Збляны Лід. *Табака чорная ў пшаніцы.* Навасёлкі Лід. *Табака — чорнае зерне ў ячмені.* Дакудава Лід. *Табака горло пераела.* Номікі Бабіц. *Чорны парашок у каласках называюць табака.* Вострава Маст. *Натта табакі ў ячмені многа, трэба яго добра скружваць.* Кіралі Шчуч. *Табака ў пшаніцы, ячмені.* Вялікія Баяры Шчуч., Рыбчына Віл.

ТАБАКЕ'РКА *ж.* Табакерка. *Табакеркі рабілі з рогу, у гэтым розе была дзюрка, адна старана аткрывалася.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *tabakierka* 'тж'.

ТАБАЛА' *ж.* 1. Вялікая зграя. *Як ваўчыныя красы — табаламі ваўкі ходзюць, страшна, кап воўк ні піраняў, красы цяпер, кап не настрашыў, ваўкі збяруцца табаламі.* Саланое Віл. 2. *перан.* Набор жартаўлівых песень. *Табала — быле якое, зборніца, збіраюць боб з гарохам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *tabalas* 'тж'.

ТА'БАРЫЦЦА *незак.* Сяліцца. *Нарот табарыўся, там сядзелі з дзярэўні людзі ва ўрэмя вайны тысяча васемсот дванацца-*

*тага года, уцякалі ад французаў, там пушча была.* Рыбчына Віл.

ТАБАЧКО'ВЫ *прым.* Зеленавата-карычневы; колеру тытуню. *Красілі сукно ў табачковы цвет.* Граўжышкі Ашм. *Табачкова хустка мніе понравілась, але не было грошы, коб купіті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tabaczkowy* 'тж'.

ТА'БІРЫШЧА *н.* Месца жыхарства. *Выбраліcь на сваё табірышча.* Палік Барыс.

ТАБЛЕ'ТКА *ж.* Таблетка. *Таблеткі кроў перавярнулі.* Валеўка Навагр.; *параўн.* польск. *tabletka* 'тж'.

ТАБЛІ'ЦА *ж.* 1. Дошка (школьная). *Табліца шкуольна, на ёй пішут дзіеті в школі.* Курашэва Чыж. 2. Дошка аб'яў. *Коло гміны віесіт табліца, там вывіешуют разны вывіешкі.* Курашэва Чыж. 3. Паказальнік дарог. *Там табліца на гары.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *tablica* 'дошка, дошка (школьная)'.

ТАБЛІ'ЧКА I *ж. памянш.* Дошчачка з надпісам, які ўказвае, абазначае што-н. *Тэпэр каждого воза трэба, коб була прыбіта таблічка, на ёй напісана фамілія, сёло, гміна.* Курашэва Чыж.

ТАБЛІ'ЧКА II *ж. памянш.* Табліца, пералік лічбавых даных, размешчаных у пэўным парадку. *Дзве зімы ходів коліcь до школы, таблічкі множэня уміев на память.* Курашэва Чыж.

ТАБЛЯВА'ЦЬ *незак.* Пракручваць, свідраваць дзіркі, заганяючы ў іх драўляныя гвазды. *Сцены скручваюць, таблююць, заганяюць, каб сцяна не выкручвалася.* Пацаўшчына Дзятл.

ТАБО'РЫ *мн.* Лагер. *У чатырнаццатом году адступае антальерыя, таборы былі.* Швэды Вільн.

ТАБУ'Н *м.* 1. Статак, табун. *Табун авец пагналі, табун кароў.* Пацаўшчына Дзятл. *Гані кароў у табун да пастыра, табун коні, табун кароў.* Рыбчына Віл. *Часцей гавораць табун, а так: пагналі кароў, пагноў коняй.* Малахоўцы Бар. *Праганялі быдла ў табун.* Бакшты Іўеў. *Табун пашоў кароў.* Альхоўцы Лях. *Цэла стада кароў, цэлы табун каней, свіней табун гоняць.* Гемзы Шальч. *Табун кароў вялікі.* Ракаўскія Швянч. *Дзікі табинамі праходзюць з лясоў у лясы.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *табун* 'статак коней'; польск. *tabun* 'табун'. 2. Зграя (ваўчыная). *Ваўкі ходзяць табунамі.* Рыбчына Віл. *Табун ваўкоў.* Альхоўцы Лях. *Табунамі хадзілі ваўкі некалі.* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Натоўп. *Табун людзей сабраўся.* Чуркі Ашм. *Табун сабраўся бап, нешта новая, пайдзём паслухаем і мы.* Курапполле Паст. *Ідуць табунамі дзяўкі, многа табуноў.* Альхоўцы Лях.

ТАБУ'Р *м.* Качарга. *Табур у нас ёсць, а па-рускаму, па-маскоўскі, качарэжка завецца.* Петкуны Брасл.

ТАБУРЭ'ТКА *ж.* Табурэтка. *На табурэццы стаіць.* Груздава Паст. *Вы сядзіце на табурэццы.* Кіралі Шчуч. *Табурэтка ест.* Гемзы Шальч. *Бэрэтэ табурэтку.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* руск. *табурет, табуретка* 'тж'.

ТАБУРЭ́ЦІК *м. памянш.* да т а б у р э́ т к а. *Прынясі табурэцік.* Жодзішкі Смарг.

ТАВА́Р *м.* 1. Тое, што з'яўляецца прадметам гандлю. *Ездзілі ў Рыгу за таварам.* Швэды Вільн. *Як тавар, як купец нарвецца.* Валеўка Навагр. 2. Вырабленая скура. *Купіў тавару на боты.* Груздава Паст. *Набраў тавару на боты.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* руск. *товар* 'тж'. 3. Свойская рагатая жывёла. *Тавар не ідзе з пашы.* Азяраны Раг. *Тавар пояць с пракувеку.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТАВАРАВЕ́Д *м.* Таваразнаўца. *Ён вучыўся на тавараведа.* Валеўка Навагр.

ТАВА́РНІ *прым.* Таварны. *Ім давалі тrazварнія паязда.* Гальшаны Ашм.

ТАВАРЫ́СТВА, ТАВАРЫ́СТВО *н.* 1. Аднагодкі, равеснікі. *Я і Агапка — таварыства.* Жылі Іўеў. *Калі з аднаго году — таварыства.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ужэ мае гады ні ходзяць. Маё таварыства ні ходзіць.* Руднае Кап. *Ужо яго таварыство ходзіць.* Альхоўцы Лях. *Яе таварыство во якое, а яна худзюе.* Вецярэвічы Пух. 2. Сябры. *Тут няма таварыства, аднаму надакучая.* Мсцібава Ваўк. *У яго многа таварыства.* Альхоўцы Лях. *Гэта не тваё таварыства, і бяры гэту хэўру.* Вецярэвічы Пух.

ТАВАРЫ́ЧАСКІ *прым.* Таварыскі. *Таварычаскі суд яго судзіў.* Мачаск Бярэз.

ТАВА́РЫШ *м.* 1. Сябра, таварыш. *Таварышы, перамена палучылася, поезд с красным флагам ідзець.* Пасіене Лудз. *Таварыш яго.* Чычалі Швянч. 2. Аднагодак. *Яна Варына таварыш.* Вецярэвічы Пух. *Ён не Валікаў таварыш.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТАВА́РЫШКА *ж.* 1. Сяброўка. *Паслухала таварышкаў.* Дакудава Лід. *Хоўра со мной у таварышках.* Азяраны Раг. 2. Аднагодка. *Маіх таварышкаў ужо няма, умерлі.* Старыя Трокі Трак. *Таварышка — калі разам радзіліся.* Дзяніскавічы Ганц.

ТАВА́РЫШКАВАЦЬ *незак.* Сябраваць. *Яны таварышкуюць.* Малахоўцы Бар.

ТАГА́НКА *ж.* Трыножка. *Таганку падсунь да агню.* Азяраны Раг.; *парайн.* руск. *таган* 'металічная падстаўка ў выглядзе абруча на ножках'.

ТАГАНЫ́ *мн.* Прыстасаванне ў выглядзе трох пераплеценых уверсе калкоў, на якое падвешваецца калыска. *Таганы — тры палкі расстаўляюць і вешаюць люльку-лубянку.* Беразіно Докш.

ТАДЫ́, ТАГДЫ́, ТАГДЭ́ *прысл.* 1. У той час, перыяд. *Тады дош ішоў.* Латыгаль Віл. *Тады ён праехаў.* Пасіене Лудз. *Зямлі было і тады, а было і дружыны.* Васілевічы Гродз. *Тагды ўдавою была.* Альхоўцы Лях. *Тагды начаў жылі.* Новікі Гродз. *Тагды пахалі сахой.* Кемялішкі Астр. *Стаімо ў варотах, тагды загараў.* Міратычы Карэл. *Тагды той таго паклікаў.* Вецярэвічы Пух. 2. Пасля таго, потым. *Абівалі лён, тады сцялілі, тады падымалі.* Латыгаль Віл. *Пагурак, а тады дол, даліна.* Чычалі

Швянч. *Як слалі лён, тады не мачылі. Палажыў подруб і тады ўжо ганіў.* Грыкені Вільн. *Я тады на это дзерэво.* Сонічы Гродз. *Лён трапаюць, а тады чэшуць.* Стракішкі Трак. *Тады ідзе ён.* Швэды Вільн. *Тады ужэ снуе, круціць эту кручолку.* Баброўнікі Гарад. *Як паставяць крохлы і тагды латы.* Быстрыца Астр. *Тагды прышоў бацька да настаўніка.* Пасека Ст.-Дар. *Як слонко ўстане, тагдэ ідуць на работу.* Васілевічы Гродз.

ТАІ′ЦЦА *незак.* Утойваць. *Чаго ты тоісся, гавары праўду, тоіцца ад мацяры.* Рыбчына Віл. *Я таілася, што мы дрэнна жывём.* Гемзы Шальч. *Таіліся, таіліся, што яна хворая.* Старыя Смільгіні Воран.

ТАІ′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і т а і ц ц а. *Заўтра чалавек будзе ехаць, тармаза плахія і наедзе, што тут таіць.* Збляны Лід.

ТАЙКО′М *прысл.* Цішком. *Тайком сядзелі ў лесі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ходзіць тайком.* Мярэцкія Глыб.

ТА′ЙНА *прысл.* Патаемна. *Што бы ты не дзелаў тайна, што бы ты не здзелаў ціха, скрыта, то ўсё адно выясніцца.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *тайно* 'тж'.

ТА′ЙНЫ *прым.* Таямнічы, загадкавы. *Ты не відала — такая тайная луна.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАКІ′ *займ.* Такі. *Такі плот благі.* Солы Смарг. *Такі ён гаваркі.* Цяпінцы Віл. *Выкрутасы ён такі.* Парэчча Гродз. *Гаворыць, пачаму ты такі.* Саланое Віл. *Такі суш быў у пятнаццатым годзе.* Латыгаль Віл. *Такім пуцём гэта было.* Валынцы В.-Дзв. *Дошч будзе, зноў такая парнасць.* Малышы Лід. *Я буду себя паказываць, што я такая.* Кураполле Паст. *А скуль такая маладая?* Гальшаны Ашм. *Такое во было жыцe.* Васілевічы Гродз. *У бёрдзе такое трысцё.* Кухты Віл. *Храсткі пусціць во такія.* Малышы Лід. *Така сама дзяруга.* Стракішкі Трак. *У караўлоце такое кола, такая шпуля, такія вілачкі, такі шнур.* Дзераўное Стаўб. *Хадачкі былі с шнуркамі і вушкі такія.* Канюкай Вільн. *Санкі такія пакрашаныя. Зачаплялі сеткі такія.* Судэрва Вільн. *Лавы шырокія такія былі.* Латыгаль Віл. *Такія абручы жалезныя на колах.* Васілевічы Гродз.

ТАКІ′-СЯКІ′ *займ.* Абы-які. *Такі-сякі — абы быў.* Саланое Віл.

ТАКОВУ′ТКІ *займ.* Такі самы. *Пожычыла ў мэнэ хустку і дэсь згубіла, але откупіла і прынэсла таковутку. Рэшэто двіе нэдіелі было на дворыэ, але нэ поржавіла, было таковутке.* Курашэва Чыж.

ТАКРО′К, ТАКРУ′К *прысл.* У мінулым годзе. *Такрок зайшла замуш. Такрок — значыць, в прошлум годзе.* Вострава Маст. *Гэта было такрок.* Альхоўка Навагр. *Далі такрок цяля.* Вострава Маст. *Пашла такрок у грыбы, нашлася ў кустах, у незнаёмым месцы.* Старыя Смільгіні Воран. *Такрок пяць курэй сядзела, у гумне вёўся шашок. Такрок дзве курыцы сядзела і жадная ні мела курчат. Сушыла яблыкі такрок.* Жылі Іўеў. *Такрок купіла і пашыла сукенку.* Граўжышкі Ашм. *Такрок бэз*

*цвіў, а ў гэты рок не цвіце. Такрок так спалохалася: стаіць таксоўка, гляджу, і стаіць чатырох іх.* Кіралі Шчуч. *Такрок хавала троя гусей.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яны такрок прыяжджалі.* Альхоўка Навагр. *Такрок была мацнейшая. Картошка такрок была харошая, цяпер вывялася.* Дакудава Лід. *Такрок карову купіла.* Паляцкішкі Воран. *Такрок забілі кабана, знялі, скруцілі падбрушша.* Малі Астр. *Такрок быў пасееўшы жыта.* Гемзы Шальч. *Такрук прадоў я карову.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *tak rok* 'тж'.

ТАКРО'ЧНЫ, ТАКРО'ЧНІ, ТАКРО'ШНІ *прым.* Мінулагодні. *Часнок такрочны вісіць.* Граўжышкі Ашм. *Такрочная цяля купіў.* Альхоўка Навагр. *Такрочні цялюк.* Старыя Смільгіні Воран. *За такрошні свет заплаціла яшчэ семдзесят капеек.* Альхоўка Навагр. *Такрошняе цяля пусціла на зіму.* Пацаўшчына Дзятл. *Такрошня цялушка або бычок такрошні.* Кіралі Шчуч. ∇ *Баюся я цябе, як такрочнай зімы!* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *takroczny* 'тж'.

ТАКСА'МА *прысл.* Такім спосабам. *Целега таксама устроена, як тарантас.* Пасіене Лудз.

ТАКСІ' *ж.* і *н.* Легкавы аўтамабіль. *Таксі былі ўжо купіўшы, а ён памёр.* Ракаўскія Швянч. *Сваю таксі мая.* Старыя Смільгіні Воран.

ТАКСО'ЎКА, ТАКСУ'ОВКА, ТАКСУ'ВКА *ж.* Тое ж, што і т а к с і. *Мы завем машыну таксоўка.* Парэчча Гродз. *Стаіць таксоўка і чатырох іх ля таксоўкі.* Кіралі Шчуч. *Вана схваціла каменя і кажэ: «Я вашу таксоўку разаб'ю!»* Ялова Пруж. *Тэпэр на сэліе некоторы богатшы таксуовкі купуют.* Курашэва Чыж. *Таксувкі свае бяруць і едуць дадому ў суботу.* Гемзы Шальч. *На таксувцы з Вільні прыехалі.* Судэрва Вільн. *На таксувцы з Дорогычыня прывызлы.* Сіманавічы Драг. *Таксувкою до Дубоя завызлы.* Відзібар Стол.; *парайн.* польск. *taksówka* 'тж'.

ТАЛАБО'НІЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць, несці лухту. *Ні талабонь ты!* Новіны Нясв.

ТАЛАКА' *ж.* 1. Талака, калектыўная дапамога ў выкананні с.-г. работы. *Збіралі людзей і гной вывозілі талакой.* Янова Рас. *Талакою гной накідаюць на вазэ.* Кіралі Шчуч. *Прашу на талаку накідаць гной на вос.* Гемзы Шальч. *Талака бываіць жаць і бульбу капаць: усё талакой робяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Талаку зберыш, і мнуць лён.* Кураполле Паст. *Сушылі лён, тады збіралі талаку, мялі лён.* Латыгаль Віл. *Цяпер талок нетуці, ціпер усё на машынах.* Лісна В.-Дзв. *Зрабіў талаку.* Ністанішкі Смарг. *На талаку збіраюць.* Кемялішкі Астр. *Талака была, быў на талацэ.* Граўжышкі Ашм. *Аспадар адзін дзерава на хату ні прывязе, бярэ талаку.* Стральцы Гродз. *Талака — нада страху перакрываць.* Кураполле Паст. *У талокі хадзілі.* Лоск Валож. *Збіралі талаку.* Чычалі Швянч. *Бывала, рабілі талокі, як вялікая работа была.* Старыя Трокі Трак. *Талака — калі людзі хату крыюць ці дровы рэжац, наймяць людзей і быва-*

*іць ні плаціць; дзе многа-многа людзей, там талака.* Груздава Паст. *На талаку купіў гарнец воткі — пяць бутылак.* Гемзы Шальч. *Талака — людзей нада талаку сабраць, у талацэ выпіў.* Саланое Віл. *Талаку справілі.* Старыя Смільгіні Воран. 2. у знач. *прысл. талакой.* Гуртам. *Мы апступілі яе талакой.* Крэва Смарг. *Картошку талакой садзілі.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* руск. *толока,* літ. *talkà* 'тж'.

ТАЛАКАВА'ННЯ *н.* Перыяд цечкі ў ваўкоў. *Воўчыя талакавання, ваўкі гуртам ходзяць.* Крэва Смарг.

ТАЛАКНО' *н.* 1. Мука з ачышчанага спражанага аўса. *Возьмеш аўса, у печ, у ступу — аптаўчэш, змелеш, на рэшата прасеяш — талакно.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Гавёс апарыш, высушыш у жарнях, абгоніш, змеляш у жарнах, на сітко, прасеяш — талакно.* Малькуны Ігн. *Талакно з паранага аўса робілі.* Ёдлавічы Брасл. *Талакно: авёс паруць, пасушуць і аптаўкуць.* Лісна В.-Дзв. *Талакно робілі: авёс паруць, аптаўкуць з ашакоў, астаецца чыстая зернета, высушуць, змелюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *У нас талакно рабілі.* Альхоўка Навагр. *Талакно з аўса робяць.* Рыбчына Віл. *Талакно аўсяна.* Кіралі Шчуч. *Талакно дзелаеш так: аўсы есць, нада ставіць у печку, вада выкіпіць, станець авёс сухой, топіш печку, вымятаіш, сыпіш у печку авёс, трэскаіць, памешваіш, высахніць, стаўчэш, поліш чэрэз карыцца, сеіш праз рэшата.* Скрыпчына Лудз. *З паранага аўса, высушанага і змеленага — талакно.* Мярэцкія Глыб. 2. Страва з аўсянай мукі. *Талакно робяць так: патпаруць авёс, патспражыцца ў печы, стаўкуць, замяшаюць густа, як балтанку, цукру дадаюць.* Малькуны Ігн. *Авёс паруць, высушаць, аптаўкуць у ступі, ашак — вон, у жорны змелюць, з вадой муку змішаюць — і талакно.* Валынцы В.-Дзв. *Талакно з аўсянай мукі: у халоднай вадзе муку баўтаюць, баўтаюць — і ядуць сырую.* Пацаўшчына Дзятл. *Талакно разводзіш з вадой і падсоліш. Талакно так люблю.* Пасека Ст.-Дар. 3. Страва, прыгатаваная з грэцкай мукі і кіслага малака. *Грэцку муку сыпалі ў кісло молоко і елі — і называлі талакно.* Альхоўцы Лях. ∇ *Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца, як багаты пад акно — бедны есць талакно.* Альхоўцы Лях.

ТАЛАКНЯ'НІК *м. бат.* Талакнянка. *Талакнянік як брусьнічнік, толькі ягады мелкія, сопкія, крахмальныя, някіслыя, ад жалутка.* Навікі Лудз.

ТАЛАКНЯ'НКА *ж. кулін.* Ежа, прыгатаваная з аўсянай мукі (талакна). *Робілі густую і рэткую талакнянку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАЛАЛА'ЙСТВО *зб. н. перан. пагардж.* Зброд. *Всякого талалайства назбіралосе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tałałajstwo* 'тж'.

ТАЛА'Н *м.* Званок, які чапляецца на шыю карове. *Таланы каровам чаплялі, каб не губіліся, каб у шкоду не хадзілі. У таланах у сярэдзіне была біла.* Беразіно Докш.

ТАЛАЧА'НІК *м.* Удзельнік талакі. *Талачанікі — хто работаў талакой.* Янова Рас. *Ужо прыехалі нашы талачанікі, будзім талачыць.* Кураполле Паст.

ТАЛАЧЫ'ЦЬ *незак.* Удзельнічаць у рабоце, якая выконваецца супольна, талакой. *Талачыў Янук цэлы дзень, бալькі вазіў разам з іншымі.* Ёдлавічы Брасл. *Як збіраецца да каго, зрабілі талакой, талака, куды ідзеш — талачыць.* Чычалі Швянч.

ТА'ЛЕНТ *м.* Здольнасць. *Такі талент імеіць.* Малькуны Ігн. *Кажды мае свой талент.* Парэчча Гродз. ◇ *Таленты пабраць* — стаць разумным, дасведчаным. *Наўчыўшыся чытаць, пісаць, усе таленты пабрала.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *talent* 'здольнасць'.

ТА'ЛЕР, ТА'ЛЯР *м. устар.* Талер (манета). *Талеры — былі такія грошы, за талер нешта купіш.* Кухты Віл. *Таляры нікаторыя давалі.* Малькуны Ігн. *Яна таляры мела.* Кураполле Паст. *Таляр стоіў дзесяць злотых.* Дакудава Лід. *Таляры палучала ад радні.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *talar* 'тж'.

ТАЛЕ'РКА, ТАЛІ'РКА, ТАРЭ'ЛКА *ж.* 1. Талерка. *Мелкая талерка пабілася.* Мярэцкія Глыб. *У адну талерку налію.* Саланое Віл. *Памыў талерку ды пабіў, баба сварылася.* Збляны Лід. *Начыння — талеркі, уся пасуда. На плыткую талерку мяса можна пакроіць.* Солы Смарг. *Плыткая талерка, а дзе глыбокая?* Старыя Трокі Трак. *Талерка глыбокая.* Ёдлавічы Брасл. *Талерка плытка.* Дакудава Лід. *Талірка побылася.* Дзмітравічы Кам. *Тарэлкаў няма, місачкі есць.* Пацаўшчына Дзятл. *Тарэлку пастаў.* Быстрыца Астр. 2. Колькасць стравы, што кладзецца на талерку. *Талерку грыбоў з'елі.* Солы Смарг. ▽ *Калі гарэлка, калі тарэлка.* Валеўка Навагр.

ТАЛІНА' *ж.* Праталіна. *В'іехав на таліну.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *talina* 'тж'.

ТА'ЛІЯ I *ж.* Талія. *Платіе в таліі добрэ лежыт, але рукавы кепсько попрышываты.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *talia* 'тж'.

ТА'ЛІЯ II *ж.* Калода карт. *Всіе карты до іграня — то талія.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *talia* 'тж'.

ТАЛКА'Ч *м.* Таўкач. *Талкачы былі, гушчу таўклі.* Навікі Лудз.

ТАЛКАЧЭ' *мн. кулін.* Галушкі з талакна. *Аўсяныя талкачэ рабілі з цеста і елі.* **Парэчча Гродз.**

ТАЛКО'ВЫ *прым.* Талковы, дзелавы. *Дзяўчына талковая, сім'я харошая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Муш быў разумны, талковы.* Лайпушкі Ігн.

ТАЛО'ЧНЫ *прым.* Які мае адносіны да талакі. *Даўней талаку саберуць, гной трасуць, песні пяюць талочныі.* Лісна В.-Дзв.

ТАЛО'ЧЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і т а л а ч ы́ ц ь. *Талочыць — удзельнічаць у талацэ.* Чычалі Швянч.

ТАЛХАНУ'ЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Падбег, талхануў у зубы.* Багушэвічы Бярэз.

ТАЛХА'ЦЬ *незак.* Запіхаць. *Талхаіш* [хлеб] *у квашню, а ён лезіць абратна.* Індра Красл.; *параўн.* руск. *толкать* 'тж'.

ТА'ЛЬКА *ж.*, ТАЛЬК *м.*, ТА'ЛЬКІ *мн.* 1. Тонкая пража. *Талька — натта ценянька напрадуць.* Магуны Паст. *Талька — тоненькая пража.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Талька — тоненькая прадзіва.* Тухавічы Лях. *Талька — дужа тонкія ніткі.* Глівін Барыс. *Пралі тальку тоненечка, тоненечка выпрадалі, ткалі з яе намёты.* Рудня Чэрв. *Талька — тонкая пряжа.* Мішневічы Шум. *Тальк — тонкая пража на шпулі.* Крупіца Мін. *Тонка пралі і пража называлася талькі. Талькі на адэткі, ценная, самая тонкая пража.* Старыя Трокі Трак. *Талькі — тонка пража.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Паном пралі талькі, кап прашло прас кальцо.* Жодзішкі Смарг. *Даўней талькі пралі — прас кальцо працягвалі, тонка пралі.* Валынцы В.-Дзв. 2. Маток з дваццаці пасмаў тонкіх нітак. *На вітушкі талька накладваецца і в'ецца на цэўку калаўродам. Талька — што пралі і маталі на матке. Талькі па дваццаць пасм, а пасма па дваццаць нітак, тры талькі — кілаграм.* Пацаўшчына Дзятл. *Талька — маток.* Галубы Маст. *Талька матаецца на матавідла.* Каўняны Гродз. *Талькі — маткі такія, жэнічызны пры панічызне рабілі.* Малі Астр. *Талька — моток тоншых ніток.* Лука Нараўк. 3. Няроўна спрадзеныя ніткі. *Прадзеш, прадзеш, саскаквая, талька — дзе то танчэйшая, то грубейшая. Талькі панаводзіш, калі прадзеш.* Малахоўцы Бар. *Як прадзеш ніткі, у адном месці таўсцей, а ў другім танчэй, і кажуць: «Панапрадвала таляк, дрэнна напрала, палатно ччэш — рвуцца талькі».* Вецярэвічы Пух. 4. у знач. *прысл.* *та́лькамі.* Няроўна. *Талькамі напраў саўсём.* Жодзішкі Смарг. ◇ *Ну і пряжа: дзе талькі, а дзе — балькі* — дзе тонка, дзе тоўста спрадзена. Мішневічы Шум. 5. Мулінэ. *Талькою кашулю вышывала.* Лапічы Асіп. *Накупляла талькі, вышываць буду плацце.* Мачаск Бярэз.

ТА'ЛЯЧКІ *мн. памянш.* да т а́ л ь к а 5. *Талячкі — маточкі купляных нітак.* Дзяніскавічы Ганц.

ТАМ *прысл.* Там. *Там галя такая і пляц.* Гальшаны Ашм. *Там унук мой вучыцца.* Малышы Лід. *Я ў Вільнюс паехала — там васалей.* Граўжышкі Ашм. *Касуля пад ябланьку ідзе і там спіць.* Вулька Гродз. *Вун там твая карова прывязана.* Ёдлавічы Брасл. *Там нічога не расце.* Рыбчына Віл. *Там, на каленіі, добра.* Солы Смарг. *Там пакладзі мех.* Мярэцкія Глыб. *Там мёду ёсь з альясам.* Малі Астр. *Там, у Рымошашках, санажаць харошая.* Гемзы Шальч.

ТА'МА *прысл.* Тое ж, што і т а м. *Тама і ляжыць, вочы вылупі.* Ухвала Круп. *Тама возьмі.* Азарычы Пін.

ТА'МАКА, ТА'МЫКА *прысл.* Тое ж, што і т а м. *Тамака і клуб добры.* Валеўка Навагр. *Тамака прадавалі памідоры.* Валынцы В.-Дзв. *Тамака і жыве.* Старыя Смільгіні Воран. *Дык*

*тамака капцы закопаны.* Рыбчына Віл. *Тамака ўсе сышліся.* Асавец Віл. *Тамака і людзі не жывуць, балота, твань.* Мярэцкія Глыб. *Ажаніліся тамака, у Варшавя.* Магуны Паст. *Тамака і спаў на сене да восені.* Старыя Смільгіні Воран. *Тамака хутар быў.* Быстрыца Астр. *Тамака яго хата, каля лесу.* Ухвала Круп. *Тамака заначавалі.* Дзевятні Смарг. *Тамака рамонт ідзе.* Пацаўшчына Дзятл. *Тамака ягаднік рос густы — чарнічнік, брусьнічнік.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пешчаная зямля — жоўты песок, лес тамака засаджвают.* Лука Нараўк. *Тамыка многа дуба.* Навікі Лудз.

ТА′МАЦЬКА, ТА′МАЦЬКІ *прысл.* Тое ж, што і т а м. *Тамацька зрэзаў два качаны капусты.* Лісна В.-Дзв. *Тамацькі іх німа.* Ухвала Круп. *Тамацькі ніхто не жывець.* Мішневічы Шум.

ТА′МАЧЫ *прысл.* Тое ж, што і т а м. *Тамачы агонь разлажылі.* Альхоўцы Лях.

ТА′МКА *прысл.* Тое ж, што і т а м. *Ёсць у мяне тамка гарэлыя* [цёмна-рудыя] *ніткі.* Сакаўшчына Валож.

ТА′МОШНІ *прым.* Тамашні. *В Сібіры тамошні людэ здоровы, а наш чоловіек нэ прывыкшы до клімату, хворыэе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *тамошний,* польск. *tamtejszy* ’тж’.

ТАМТО′Й *займ.* Той. *Трэба пуйті на тамтой бэрэх ліеса, можэ, там буольш бэток.* Курашэва Чыж. ◇ *Тамтой свіет* — замагільны свет. *Такі гіцэль, што сваю жуонку на тамтой свіет выслав.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tamten* ’тж’.

ТА′НБУРКА *ж.* Кручок. *Танбуркай вязалі каўнерыкі.* Мішневічы Шум.; *параўн.* лат. *tamborēt* ’вязаць кручком’ < ням. *Tamburin* ’круглыя пяльцы’.

ТА′НҐА *ж.* Танк. *І танґа праз яе праехала і пацёрла бок.* Гемзы Шальч. *У канцы дзярэўні танґа стаяла.* Ракаўскія Швянч. *Танґі ідуць.* Парэчча Гродз. *Танґі ішлі, равэ павыбівалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Помэтаю, як німецкі танґі прыіехалі.* Курашэва Чыж. *Як ішлі танґі, выбілі яму велькую, там вада.* Кіралі Шчуч.

ТАНДЭ′Т. У выразе: *На тандэт* — абы-як. *На тандэт робяць.* Вецярэвічы Пух.

ТАНЕ′Й *гл.* ТАННЕ′Й

ТАНЕ′ЙШЫ *прым. выш.* Больш танны. *У нядзелю танейшыя парасяты былі.* Малі Астр. *У магазіне памідоры многа танейшыя.* Пацаўшчына Дзятл.

ТА′НЕЦ, ТА′НЭЦЬ *м.* Танец. *Танцаваў танец і паляцеў.* Малі Астр. ◇ *Вот урадзіўся: ні да танцаў, ні да ражанца* — ні да чаго не спасобны. Малі Астр. *Яно гэдак кажацца: «Дзяўчына ні да танца, ні да ружанца».* Вузла Мядз. *Ны дывітэсь, мулуцці, шо хуроша ў танці, пудывітэся на полэ, на шырокуму загонэ.* Радастаў Драг.

ТАНЕ′ЦЬ *незак.* Худзець. *Бабы са злосці танеюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАНЁХА *ж.* Таннасць. *В серэду на поросята вэліка танёха была.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *taniocha* 'тж'.

ТАНЖЭ'Й *прысл.* Тужэй. *У калаўротку шруба есць такая, хочаш танжэй — шрубай паткручваяш.* Старыя Трокі Трак.

ТАНІЕ'ТІ *незак.* Дзешавець, таннець. *Картохлі началі таніеті; в сэрэду зрана картохі продалі по сто підісят, а по полудню за сто двацэть оддавалі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *tanieć* 'тж'.

ТА'НКА I *ж.* Тое ж, што і т á н ґ а. *А як нашы прышлі, дык тут многа танак стаяла.* Багушэвічы Бярэз. *Танкі пашлі.* Швэды Вільн.

ТА'НКА II *ж.* Вершаліна дрэва. *Танка — верхавіна дрэва таўшчынёй дваццаць пяць цаляў.* Мсцібава Ваўк.

ТАНКІ' *прым.* Тонкі. *Зверху (у свінні) танкая саланіна.* Асавец Віл. *Трупкі палатна прынясі, дзве танкога атложыш.* Кураполле Паст. *Танкі кужаль.* Груздава Паст. *Ёсць танкія чаровы.* Вузла Мядз.

ТАНКЛЯ'ВЫ *прым.* Танкаваты. *Ён быў танклявы такі у маладосці.* Альхоўцы Лях.

ТА'ННА, ТА'НА, ТА'ННО *прысл.* Танна. *Танна купіў, бісплатня аддаў.* Рыбчына Віл. *Танна купіў парасё.* Паляцкішкі Воран. *Тана свіня прадаюць.* Малі Астр. *Танно купіла гуркі.* Вострава Маст. *Купіла танно масла.* Старое Сяло Зэльв.; *парайн.* польск. *tanio* 'тж'.

ТАННЕ'Й, ТА'ННЯЙ, ТАНЕ'Й *прысл.* Дзешавей. *Кап танней купіць.* Старое Сяло Зэльв. *Першую пару танняй пакупалі.* Магуны Паст. *Таней і даражэй была зямля.* Грыкені Вільн.

ТА'ННЫ, ТА'ННІ, ТА'НЫ *прым.* Танны, дзяшовы. *Танны сыр.* Тухавічы Лях. *На заводзя буфэт танны.* Магуны Паст. *Кажуць: і танны, і дзяшовы — і так, і так.* Рыбчына Віл. *Тэрас танны хлеп.* Старыя Трокі Трак. *Танныя крупы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гэтыя часы танныя.* Паляцкішкі Воран. *Танныя цяпер парасята.* Старое Сяло Зэльв. *На базары ўсё было танная.* Гальшаны Ашм. *Скуркі танныя.* Жылі Іўеў. *Танні товар.* Калясное Міхал. *Гэтыя цукеркі таныя.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *tani* 'тж'.

ТАНУ'ЦЬ *незак.* Тануць. *На вадзе топіцца, тане.* Паляцкішкі Воран. *Тане чалавек.* Дзяніскавічы Ганц. *Ён тане, ратуйце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Тут тане, а там уздуецца бугром.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сітнік у гозяры пры бярагох, ён ня таня.* Стральцы Гродз. *Танула ў рацэ.* Старое Сяло Зэльв. *Печані цяжкія і тануць, а лёхкія выплываюць.* Альхоўка Навагр.

ТАНЦАВА'ЦЬ, ТАНЦЭВА'ЦЬ, ТАНЦЁВА'ТІ *незак.* Танцаваць. *Танцавалі басяком.* Латыгаль Віл. *Пры Польшчы танцавалі ў святліцы.* Дзераўное Стаўб. *Мая маць танцавала кадрылю.* Малі Астр. *Ганэтка танцавала з імі, ей зрабілася нядобра.* Кураполле Паст. *І танцуяць, сколькі хочаць.* Малі Астр. *Дівчынята і хлопці пушлі на мосты танцёваті.* Курашэва Чыж. ▽

*Як іграюць, так нада танцэваць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як іграют, так трэба і танцёваті.* Курашэва Чыж. *Танцуй, каб яйцо з галавы не звалілася.* Саланое Віл. ◇ *Танцёваті (коло когось)* — з вялікай павагай адносіцца, паддобрывацца. *Прыіехав до сёла пшэводнічонцы, богаччы, началі коло его танцёваті, я нэ муог до ёго навэт пудыйті і поговорыті.* Курашэва Чыж.

ТАНЦО′Р *м.* Танцор. *Танцор, ані ўседзіць, ані ўлежыць, добра ўмеіць танцаваць.* Ністанішкі Смарг.

ТАНЦО′РКА, ТАНЦЁРКА *ж.* Танцорка. *Я была добрая танцорка.* Дзераўное Стаўб. *Я танцорка была, кажды таняц вытанцую.* Малі Астр. *Нас чатырох было танцорак.* Дакудава Лід. *Добра танцёрка.* Дзмітравічы Кам.

ТАНЧО′ВЫ *прым.* Шматкаляровы, колеру вясёлкі. *Танчовыя дыванэ ткуць.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *tęcza* 'вясёлка'.

ТА′НЧЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і т а н ц а в а́ ц ь. ∇ *Абы ўмела танчыць, а рабоці гора научыць.* Макраны Кап.; *парайн.* польск. *tańczyć* 'тж'.

ТАНЧЭ′ЙШЫ *прым. выш.* Танчэйшы. *Пазрэпцы палучаюцца, калі чэшуць на танчэйшыя цвічкі.* Дакудава Лід. *За картошкай ляжджай, у яго корань танчэйшы, чым у аіра.* Збляны Лід.

ТА′НЫ *гл.* ТА′ННЫ

ТАНЬЦЕ′НЬКІ *прым. памянш.* Вельмі тонкі. *Таньценька натта нітка.* Дакудава Лід.

ТА′НЭЦЬ *гл.* ТА′НЕЦ

ТАНЯ′ *гл.* ТО′НЯ

ТАПАРНЯ′К *м.* Танкастволы лес, які высякаецца сякерай. *Тапарняк — як дзялянку робяць.* Быстрыца Астр. *Тапарняк — гэто лес, што сакерай сячэцца.* Малахоўцы Бар.

ТАПАРЫ′СКА, ТАПАРЫ′СКО, ТОПОРЫ′СКО *н.* Тапарышча. *Тапарыска зрабіў да сякеры, моцная тапарыска.* Старыя Смільгіні Воран. *Тапарыска найпрачнейшае з бярозы. Тапарыска ў сякеры нада зрабіць і асадзіць сякеру.* Гемзы Шальч. *Тапарыско ад сакеры трэба зрабіць.* Мсцібава Ваўк. *Тапарыска ў сякеры.* Дзяніскавічы Ганц. *Наймуцніейшэ топорыско роб'ят з ясёна або з дуба. Тронок од сокіеры мы звэм топорыском.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *toporzysko* 'тж'.

ТАПАРЫ′ШЧА, ТАПАРЫ′ШЧО, ТАПАРЫ′ШЧЭ *н.* Тое ж, што і т а п а р ы́ с к а. *У сакеры тапарышча ест.* Парэчча Гродз. *Адзін прасіў тапарышча зрабіць да сякеры.* Збляны Лід. *Зрабіў тапарышча, нада тапор асадзіць.* Вузла Мядз. *Буково тапарышчо цяжоло і крэпко, як жалезо.* Альхоўцы Лях. *Тапарышчэ ў сакеры і абух.* Кузьмічы Люб.

ТАПЕ′ЛЬ *ж.* Багна, твань. *Балота, тапель, ня вылісьці.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* польск. *topiel* 'тж'.

ТАПЕ′Р, ТАПЕ′РА, ТАПЕ′РЯ, ТАПЭ′Р *прысл.* Цяпер. *Тапер стала маладзёж раз'яжджацца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Тапер бу-*

*рыя, а раньшы рабыя каровы былі.* Пелічава Лудз. *Тапер я бальны. Тапер ён у Краславе.* Істра Лудз. *Тапер трудна людзей знайсці.* Рагулішкі Даўг. *Тапер няма так, як дайней.* Малькуны Ігн. *Тапера маладзёш не такая.* Скрудалена Даўг. *Таперя жонка даяркай.* Істра Лудз. *Тапэр ляхчэй людзям одзеўку купіці.* Вялікі Краснік Пруж.; *парайн.* руск. *теперь* 'тж'.

ТАПЕ'РАМО *прысл.* Тое ж, што і т а п е́ р. *Таперамо ў каждай хаці ровары.* Ялова Пруж.

ТАПІ'ЛЫ *мн.* 1. Тое ж, што і т а п е́ л ь. *У нас такія бэгмы, тапілы е, куп'ё там.* Вецярэвічы Пух. 2. Вадаём са стаячай вадой. *Тапілы — дзе вада стаіць.* Азяраны Раг.

ТАПІ'ЦЦА *незак.* Тапіцца. *Тлустасць топіцца.* Малахоўцы Бар. *Сала топіцца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТАПІ'ЦЬ, ТОПІ'ЦІ, ТОПІ'ЦЬ, ТОПЭ'ТЭ *незак.* 1. Палячы дровы, ацяпляць. *А ці топіш ты баню?* Лісна В.-Дзв. *Лазню тапіць буду.* Рыбчына Віл. *Баню тапілі.* Валынцы В.-Дзв. *Байню топіць, аяра ў ваду накідаіш, і пахніць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мы самі сабе тапілі лазню.* Груздава Паст. *Тапіць баню і парыцца будзем.* Багушэвічы Бярэз. *Ужэ паставім сушыць лён, топіш, каб высах, добро церці.* Дзяніскавічы Ганц. *Тапілі баню і сушылі лён.* Латыгаль Віл. *Тапілі сушню і сушылі лён.* Дзераўное Стаўб. *Трэба печ тапіць.* Азяраны Раг. *У вадной печэ топят.* Ялова Пруж. *У чорным плаці печку топ'ю.* Смаляніца Пруж. *Будым топэтэ піч.* Дзмітравічы Кам. 2. Пераўтвараць у вадкі стан. *Топім сала і зліваім у стаўбуны.* Валынцы В.-Дзв. *Топяць сала на лета, трэба топіць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Калісьці мёд у пячэ тапілі, у саган ды ў печ.* Мсцібава Ваўк. 3. Стварожваць. *Топім квасная малако і сыры дзелаем.* Каўняны Гродз.

ТАПКІ' *прым.* Гразкі, багністы. *Тапкоя мейсца.* Рыбчына Віл.

ТАПЛЁНКА *ж.* Кіпячонае малако. *Малако скіпяціш — таплёнка.* Буды В.-Дзв.

ТАПЛЁНЫ *прым.* Кіпячоны. *Таплёнае малако люблю.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТАПЛІ'ННІК *м.* Затанулае бервяно. *Таплíннік выцягнулі з вады.* Глівін Барыс.

ТАПЛЯ'К *м.* Тое ж, што і т а п л í н н і к. *Тапляк у вадзе доўга ляжаў, на самым дне.* Палік Барыс.

ТАПО'ЛЬ *м.*, ТАПО'ЛЯ *ж.* Таполя. *Два таполі і абодва зялёны.* Ялова Пруж. *У нас таполю заводзяць, садзяць у сяле.* Вецярэвічы Пух. *Тaполя велькая пад вокнамі.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *topola* 'тж'.

ТАПО'Р *м.* Сякера, тапор. *Тапор гостры.* Мярэцкія Глыб. *Тапор там ляжыць.* Рыбчына Віл. *Тапор прынясі.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Не бойся тапароў* [дзевяроў], *а бойся прасніц* [залавак]. Саланое Віл. *Бес тапара, як бес рук.* ◇ *Хоць тапор ве-*

*шай* — пра цяжкае, нясвежае паветра ў памяшканні. *Дыму поўна хата — хоць тапор вешай.* Малі Астр.

ТАПО′РНІК *м.* Дровы, падрыхтаваныя для паліва. *Тапорнік там злажыў.* Вецярэвічы Пух.

ТАПТА′ЦЦА *незак.* Паволі выконваць якую-н. працу. *Таптуха на месця топчацца.* Малі Астр. ◇ *Таптацца ў навозе* — рабіць без значнага плёну. *Ён таптаўся ў навозе — ён нічаго не відзеў у жыцці.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАПТА′ЦЬ I *незак.* 1. Таптаць, утрамбоўваць. *Я таптала воз.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хоць падае, але воз топча.* Гемзы Шальч. *Сена ў стагі топчуць.* Палік Барыс. *Тапчу ў банку шчоўя.* Вецярэвічы Пух. 2. Націскаць, надаўліваць, прыводзіць у рух. *Караўлот круціш, нагой топчаш дошчачку.* Солы Смарг. 3. *перан.* Выконваць хатнюю работу. *Яна ў хаце каля шасці гадзін таптала: то гуркі саліла, то прыбірала.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *І коньскую галаву цягні, і чалавечую не тапчы.* Кураполле Паст.

ТАПТА′ЦЬ II *незак.* Апладняць. *Качар топчыць.* Беразіно Докш. *Качар топча* [гуляе]. Глівін Барыс. *Топча пятух.* Лука Нараўк.

ТАПТУ′ХА I *ж. рыб.* Таптуха. *Таптуха — дзве палкі і сетка, нагамі таптали і заганялі рыбу.* Мыто Лід.

ТАПТУ′ХА II *ж. зневаж.* Жанчына, якая паволі выконвае якую-н. працу. *Яна на месця топчацца — таптуха гэта.* Малі Астр.

ТА′ПЦІ, ТЭ′ПЦІ *мн.* Тапкі. *Тапці надзень.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тэпці стаптаныя, старыя.* Рудня Чэрв.

ТАПЧА′Н *м.* Канапа. *Наш тапчан з разьбой.* Кемялішкі Астр. *На тапчане сядзіць.* Ністанішкі Смарг. *Тапчан, як зэдаль, шырокі, длугі, з дылі зробляны.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *tapczan* 'тж'.

ТАПЧЭ′Й *м. зневаж.* Пра таго, хто марудна, паволі ходзіць. *Тапчэй ты! Топча і топча, ходзя памалу.* Азяраны Раг.

ТАПЭ′Р *гл.* ТАПЕ′Р

ТАРАБА′НІЦЬ *незак. экспр.* Цягнуць, валачы. *Хлопец вядро тарабаніць.* Навасёлкі Мядз.

ТАРАДА′ЙКА *ж.* 1. Воз на двух колах для выезду ў поле. *Положу плуга на тарадайку і поіеду на ціелы дэнь в поле.* Курашэва Чыж. 2. *экспр.* Стары, паламаны воз. *Такою тарадайкою далеко нэ заіедэш.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *taratajka* 'тж'.

ТАРАЙДА′ *м.* і *ж. зневаж.* Дурань. ∇ *Такі тарайда!* Малі Астр.

ТАРАКА′Н, ТАРАКО′Н *м. заал.* Таракан. *Тараканэ чорныя, як жуке, па куткох сядзяць.* Пацаўшчына Дзятл. *А тараканы былі велькія.* Малышы Лід. *Тараканы раней былі, у хаця вяліся.* Навасёлкі Лід. *Жылі мы ў старой хаце, дзе вяліся тараканы.* Жылі Іўеў. *Тараканы таўстыя.* Рыбчына Віл. *А чорныя*

*тараканы.* Чуркі Ашм. *Тараканы былі, прусы.* Солы Смарг. *Чорны таракан бальшы, тараканы кусаюцца, пааб'ядаюць цела.* Кіралі Шчуч. *Плюскаў было і тараконаў.* Малькуны Ігн.; *парайн.* руск. *таракан,* літ. *tarakõnas* 'тж'.

ТАРАКЦЕ'ЦЬ *гл.* ТАРАХЦЕ'ЦЬ

ТАРАНДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Тарахцець. *Матацыкл тарандзіць і тарандзіць.* Кураполле Паст. 2. *перан. экспр.* Балбатаць, балабоніць. *Буду тарандзіць і есці не пастрою. Таранджу, таранджу, а работай не занімаюсь.* Кураполле Паст.

ТАРАНО'ЎКА *ж.* Шарсцяная (ваўняная) хустка з кутасамі. *Таранойку надзела новую і ў Зецела паехала. Гэта шарсцяная хустка з кутасамі.* Пацаўшчына Дзятл.

ТАРАНТА'С, ТЫРЫНТА'С *м.* Чатырохкалёсная гаспадарчая павозка. *Мазнік прадаець дзёгаць, нада ш калёсы, тарантасы мазаць. Тарантасы высокія, сена вазіць; калёсы — нізенькія.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У тарантасі атосы, колы.* Валынцы В.-Дзв. *Бацька мой тарантас правіў. Атпрох каня ат тарантаса.* Кураполле Паст. *Тры тарантасы бралі сена.* Груздава Паст. *А гавораць, еслі вос набудаваць добра, то болей біс тарантаса, як с тарантасам павязеш.* Хвасты Брасл. *У тарантасах длінные былі ручкі і былі натыканые палкі.* Мешкінева Лудз. *Дайней тарантас накладайся на караван, ён рабіўся, як клетка іс палачкамы і прывязвайся путамы.* Мярэцкія Глыб. *Тарантас с такімі палкамі, як яслі.* Пасіене Лудз. *Тарантас, дзе возяць сена, вышэй рамы і палачкі длінныя, шырокія.* Навікі Лудз.; *парайн.* руск. *тарантас* 'тж'.

ТАРАПА'НЫ *мн.* 1. Здані, страх. *Тарапаны ей зрабіліся.* Альхоўка Навагр. 2. Мітусенне, мільгаценне ў вачах. *Тарапаны ў вачах у мяне.* Дакудава Лід.

ТАРАПА'ТЫ I *мн.* Клопат, турботы. *Попав в такіе тарапаты, што чуть з іх вукараскавсе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *tarapaty* 'тж'.

ТАРАПА'ТЫ II *прым.* Дурнаваты. *Мо ён які тарапаты?* Кузьмічы Люб.

ТАРАПІ'ЦЦА *незак.* Спяшацца. *Іна таропіцца на работу.* Кураполле Паст. *Чаго ты таропіся з граблямі?* Альхоўка Навагр. ▽ *Ні тарапісь на тот свет — кабакоў там нет.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *торопиться* 'тж'.

ТАРАПЛІ'ВЫ *прым.* Паспешлівы, хапатлівы. *Баба тараплівая.* Кураполле Паст.

ТА'РА-РА-РА-РА *выкл.* Гукапераймальная перадача стуку колаў аб камні. *Униерод тут камні былі, тара-ра-ра-ра, як возам едзе.* Грыкені Вільн.

ТАРАРА'ХНУЦЦА *зак. экспр.* Упасці, зваліцца. *Тарарахнулась с печы мая баба.* Новіны Нясв.

ТАРА'Х *выкл.* Бух, тарарах. *Было тіхо — аш тарах!* Курашэва Чыж.

ТАРАХЦЕ'ЦЬ, ТАРАКЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Тарахцець, грука-

тацьі. *Едзе і тарахціць калясьмі.* Навасёлкі Лід. *Калёсы таракцяць.* Азяраны Раг. 2. Тое ж, што і тарандзіць 2. *Будзя ўвесь час тарахцець і тарахцець.* Малі Астр. *Мельніца пустая— кажуць на таго, хто любіць языком тарахцець.* Вузла Мядз.

ТАРАЧЫ'ЦЬ *незак.* Сохнуць (у горле). *Што-та горла тарачыць, тарачыць, нада горла прамачыць, прамачыць.* Валеўка Навагр.

ТАРБАВА'ТЫ *прым. перан. груб.* Мешкаваты, мехаваты, тоўсты. *Яна такая тарбаватая, грубая.* Малі Астр.

ТАРГАВА'ЦЦА *незак.* 1. Таргавацца. *Будзеш таргавацца, ці за столькі аддаш парасё?* Мачаск Бярэз. ∇ *Таргавацца за руп — рукой ня пойдзіць парасёнак* [паводле прыкметы, не будзе гадавацца жывёліна]. Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Спрачацца. *Таргаваліcь самі между сабой.* Мельнікі Лудз.

ТАРГАВА'ЦЬ *незак.* Гандляваць. *Таргаваў лавачнік, хто лаўку дзіржаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён салам таргаваў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Таргаваў кошыкамі мой дзед.* Грыкені Вільн. *Бутка — гдзе таргуюць.* Крынкі Крын.

ТАРГАВІ'ЦА *ж.* Базарная плошча. *Таргавіца ў горадзе, паеду на таргавіцу.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* польск. *targowisko* 'рынак'.

ТАРГАНУ'ЦЬ *зак.* 1. З сілай пацягнуць, рвануць. *Тарганула моцна — і камянь зрушыла.* Малі Астр. 2. Рушыць з месца. *Конь тарганyў, ён паляцеў з воза.* Гемзы Шальч.

ТА'РГАЦЬ *незак.* Трымаць. *Не хачу, кап мяне таргалі.* Парэчча Гродз.

ТАРГО'ЎЛЯ *ж.* 1. Гандлёвая сетка. *Дачка, як пашла ў гэту таргоўлю, і цяпер робіць.* Рагулішкі Даўг. 2. Гандлёвая дзейнасць. *А ці плоцюць што табе за таргоўлю?* Едлавічы Брасл.

ТА'РКА *ж.* 1. Тарка. *Пашукайце тарку, натаркуем бульбы.* Солы Смарг. *На тарцы тром картофлю — і да ладкаў.* Пацаўшчына Дзятл. *На тарку дралі картоплю.* Малахоўцы Бар. *Таркай картоплю таркуюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Там тарка занесена.* Паляцкішкі Воран. *На тарку драла бульбу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тарка гострая, шаравацъ, тарка на чатыры баке.* Кіралі Шчуч. *На тарцы натаркуе рэпы з бульбаю.* Беняконі Воран. *Картошку на тарку цёрлі.* Рагулішкі Даўг. *Церць на тарцы, тады на патэльню і на агонь і пякуць аглаткі.* Крынкі Крын. *На тарку дзяром бульбу.* Пасека Ст.-Дар. *Тарка вострая.* Малькуны Ігн. *Ён грэў соты і выцісквау, працэджвалі на тарку.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* польск. *tarka* 'тж'. 2. Церніца. *Тарка, што лён цёрці.* Стракішкі Трак. 3. Пральная дошка. *Тарка ест у нас для бялізны, шаруеш на тарцы.* Мсцібава Ваўк.

ТАРКАВА'НЫ I *дзеепрым.* Дзёрты. *У нас робяць і так: кішкі начыняюць таркаванай бульбай.* Магуны Паст. *Драчы — таркаваныя бліны.* Ракаўскія Швянч.

ТАРКАВА'НЫ II *дзеепрым.* Тынкаваны. *Столь таркаваная.* Вострава Маст.

ТАРКАВА'ЦЦА *незак.* Дзерціся на тарцы. *Таркуіцца бульба.* Гемзы Шальч.

ТАРКАВА'ЦЬ *незак.* Драць на тарцы. *На тарку таркуюць.* Быстрыца Астр. *Праз драсляк цэдзім, як таркуям.* Магуны Паст. *Бульбу на бонды таркуюць.* Жодзішкі Смарг. *Таркавала бульбу на тарку.* Малькуны Ігн. *Трэба таркаваць картоплі.* Кузьмічы Люб. *Бульбу таркуям на тарку.* Солы Смарг. *Тыя разы таркавала я бульбу.* Масішкі Красл. *На тарку таркуем картошку і камы дзелалі.* Навікі Лудз. *С картошкі таркуем тожа бапку і на паску бапку пяклі.* Індра Красл. *Натаркуе на тарцы рэпы з бульбаю. Хрэн таркавалі.* Беняконі Воран.; *параўн.* польск. *tarkować* 'тж'.

ТАРКАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Даць што-н. *Як прыедзіць, таркане пяцёрку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАРКАТА'ЦЬ *незак.* Выдаваць бесперапынныя гукі, трэлі. *Дзяцел таркочыць на дрэве.* Лайпушкі Ігн.

ТА'РЛІЦА, ТАРНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і т а́ р к а 2. *Тарліцай цёрлі лён.* Старыя Трокі Трак. *Лён тром у тарліцы.* Новыя Мацалі Варэн. *Тарніца лён церці.* Грыкені Вільн.

ТАРМАЗА' *м.* і *ж. неадабр.* Непаседа. *Тармаза ты! Не сядзіш, тармазіш!* Валынцы В.-Дзв.

ТАРМАЗЫ' *мн.* Падрэзы (у санях). *Пад нізом тармазы жалезныя. Пад нізом падбойкі, доскі такія пад тармазамі.* Мешкінева Лудз.

ТАРНАВА'ЦЬ *незак. плыт.* 1. Кіраваць, накіроўваць у пэўным напрамку. *Як цямнея — ужо тарнуюць, патарнуй да берага.* Рыбчына Віл. *Тарнуй туды.* Гемзы Шальч. 2. Тармазіць, затрымліваць (пра плыт). *Падганяй к берагу зат, будзім тарнаваць. Кардэль звіты з доўгіх лазовых дупцоў і завязан за плыт — ён тарнуя, задзержывая плыт, кап астанавіўся.* Рыбчына Віл. *Тарнаваць трэба, дзе ціхая вада.* Бакшты Іўеў. *Заякараваць плыт, тарнаваць, у земле кол заганяюць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. *перан.* Біцца (у канвульсіях). *Тарнуя кунвурсія.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* ням. *steuern* 'кіраваць'.

ТАРНІ'СТАР *м.* Каністра. *Тарністар з дзвюма ручкамі на дванаццаць літраў і на дваццаць. Тарністар на малако бальшой, зверху верхнічкаю закрываецца.* Кіралі Шчуч.

ТАРНІ'ЦА *гл.* ТАРЛІ'ЦА

ТАРО'ЙКАЦЦА *незак. экспр.* Важдацца, займацца. *Кап п'яны не зайшоўся, тады з ім таройкайся.* Магуны Паст.

ТАРО'КАЦЦА *незак.* Барукацца. *Як пачнуць тарокаца, так я крычу, як вам хочаца гэтак дрэнчыца.* Ракаўскія Швянч.

ТАРО'ЧЫЦЬ *незак. экспр.* Везці (з грукатам). *Бяжыць і дзіця тарочыць у калясцы.* Альхоўцы Лях.

ТАРПА' I *ж.* Запоўнены чым-н. застаронак у гумне. *Калі складалі снапы ў застаронкі, накладзены поўны застаронак называлі тарпа, тарпа жыта, тарпа ярыны.* Груздава Паст. *Тарпа жыта наложана, другая — аўса. Сена з тарпа аддаў.* Кураполле

Паст. *У таку былі торпы: тарпа жыта, тарпа аўса.* Вузла Мядз. *Салому ў тарпу складаяць.* Лісна В.-Дзв. *Снапы ў ток ложаць, у тарпу. Тарпа жыта, тарпа аўса. У тарпу салому злажылі.* Рыбчына Віл. *Тарпа ў гумне.* Чычалі Швянч. *Пашлі мы ў гумно, ляглі на тарпе.* Мацясы Мядз. *Тарпу перакладалі ў гумне.* Вострава Маст. *У тарпу рож кладзецца.* Глівін Барыс. *Тарпу налажылі жыта.* Багушэвічы Бярэз. *Тарпа — растаянія ад вярэі да сахі, ад сахі да другой вярэі.* Гальшаны Ашм. *Снапы скідала с тарпы.* Рудня Астравітая Чэрв. *У тарпу складалі ў гумне.* Ракаўскія Швянч. *Вазілі ў умно, у торпы складалі.* Быстрыца Астр. *Грыку ў тарпы складалі.* Беняконі Воран. *У тарпы складалі снапы.* Старыя Трокі Трак. *Торпы ў гумне пошару наложаны.* Малі Астр.; *парайн.* літ. *tárpas* 'тж'.

ТАРПА′ II, ТАРФА′ *ж.* 1. Торф. *Тарпу возяць у якія калхозы, а ў якія — жджвір.* Пацаўшчына Дзятл. *Як капаюць тарпу, то находзяць карчэ ў багне.* Вострава Маст. *Тарпа гарыць добра.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тарфой яго абнясло.* Ёдлавічы Брасл. *Там тарфа, маліны раслі крупныя.* Рагулішкі Даўг. 2. Тарфяное балота. *У мяне там тарпа такая, балота.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАРПАВА′ЦЬ *незак.* Складаць у тарпу. *Тарпуем сена, але рэдка, рож кладзецца ў тарпу.* Глівін Барыс.

ТАРПАВІ′СКО *н.* Тарфянішча. *А што на тым тарпавіску цяпер? Туды, на тарпавіско, не хадзі.* Альхоўцы Лях.

ТАРПАВЫ′ *прым.* Тарфяны. *Тарпавоя балота.* Рыбчына Віл.

ТАРПАТЫ′Н, ТЭРПАЦІ′Н *м.*, ТАРПАТЫ′НА, ТЭРПАТЫ′НА *ж.* Шкіпінар. *Тарпатын накапаюць, рабакі ня любяць.* Гемзы Шальч. *Тарпатын давалі ад болю ў жываце.* Стары Свержань Стаўб. *Тарпатын быў.* Дзяніскавічы Ганц. *Тэрпацін гналі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тарпатыну з карчой робяць.* Пацаўшчына Дзятл. *У смалярні гналі тарпатыну іс смалякоў.* Збляны Лід. *Тарпатыны прынясі.* Калясное Міхал. *Майдан — гэта фабрыка, гдзе смалу вараць, там робіца тэрпатына.* Крынкі Крын. *Як тэрпатына з цукрам, нічога не чуваць.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *terpentyna* 'тж'.

ТАРПАТЫ′НЬКА *ж. памянш.* да т а р п а т ы′ н. *Што-та быў забалеў, падняліся чэрві, тарпатынькі давалі.* Пацаўшчына Дзятл.

ТАРПІ′НА *ж.* Застаронак. *У гумне былі тарпіны, летам пустыя, а пад восень заложаны збожам. У гумне было шэсьць тарпін: адна тарпіна — сено складалі, у другой — авёс, у трэцяй — ячмень, у чацьвёртай — грыка, у пятай — жыто, у шостай — лубін.* Мсцібава Ваўк. *Тарпіна ў стадолі една і друга, а посьродку — ток.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* літ. *tarpìnė* 'тж'.

ТАРПІ′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і т а р п а в á ц ь. *Можа, тарпіць жыта прыдзецца.* Альхоўка Навагр.

ТАРПО′ЎСКІ *прым.* Тарфяны. *Там тарпоўская место, добро расце збожжо.* Стральцы Гродз.

ТАРПЭ′ *мн.* Мітусенне, мільгаценне ў вачах. *Так спалоха-*

*лася, аш тарпэ ў вачах станавяцца.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *tarpaĩ* 'кругі'.

ТАРПЯ'К *м.* Тое ж, што і т а р п á I. *Тарпяк жыта, аўса, а дзе складаецца — старана.* Старое Сяло Зэльв.

ТАРПЯ'НІК *м.* Тарфяное балота. *На тарпяніку дабываюць торф.* Рыбчына Віл.

ТАРФА' *гл.* ТАРПА' II

ТАРФАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і т а р п а в í с к о. *На тарфавіне торф капалі.* Жодзішкі Смарг. *Тарфавіна — дзе капалі торф.* Новікі Гродз.

ТАРФІ'ННЫ *прым.* Тарфяны. *Тарфінная балота ў нас.* Солы Смарг.

ТАРФЯ'НІК *м.* Тое ж, што і т а р п а в í с к о. *Тарфянік на балоці, ямы.* Старыя Смільгіні Воран.

ТАРФЯ'НІСКО *н.* Тое ж, што і т а р п а в í с к о. *Не хадзі на тарфяніско, у яму ўпадзеш.* Малахоўцы Бар.

ТАРФЯ'НІШЧА *н.* Тое ж, што і т а р п а в í с к о. *Тарфянішча там, дзе торф капалі, вазілі ў калхоз.* Беразіно Докш. *Каровы ходзяць на тарфянішчы.* Ёдлавічы Брасл. *Тарфянішча — дзе капалі торф.* Багушэвічы Бярэз.

ТАРФЯ'НЫ *прым.* Які мае адносіны да торфу. *Тарфяная балота і купа.* Мярэцкія Глыб. *Тарфяная канава.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТАРЧА'ЦЬ, ТАРЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Тарчаць, выпінацца (на роўнай паверхні). *Горп тарчыць.* Груздава Паст. *От худое цялёнка — скабы тарчаць. З галавы, з хваста калючкі тарчаць* [у окуня]. Валеўка Навагр. *У озеры камень тарчыць навярху.* Ахрэмаўцы Брасл. *Уберу, не будзе пад нагамі тарчэць.* Солы Смарг. 2. *перан.* Апірацца, прысутнічаць. *Ён тут і тут тарчэў, дзе нада і дзе не нада.* Ёдлавічы Брасл.

ТАРЧО'К I *м. бат.* Тарчок, таўкачык, хвошч. *Тарчкі вясной растуць раскідзістыя — таўкачыкі іх яшчэ завуць.* Ухвала Круп.

ТАРЧО'К II *м. бат.* Смаржок. *Тарчкоў набраў поўную шапку.* Ухвала Круп. *Тарчкі чубацянькія.* Лапічы Асіп.

ТАРЧЫ'ЦА, ТАРЧЫ'ЦЯ *ж. мед.* Шчытападобная залоза. *Тарчыца на гарляку.* Лука Нараўк. *Тэпэр як хтось мае тарчыцю, то дохторы роб'ят опэрацію. Колісь нэкоторы хворы на тарчыцю уміралі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *tarczyca* 'тж'.

ТАРЫБУ'ШКА *ж.* Вясёлая жартаўлівая песня. *В вэлікі пуост тарыбушку нэ можна співаті.* Курашэва Чыж.

ТАРЫ'ФА *ж.* Таксі. *У тарыфе ездзіць.* Баброўнікі Гарад.

ТА'РЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і т а р к а в á ц ь. *Тарыць — драць бульбу на тарку.* Семежава Кап.

ТАРЭ'ЛКА *гл.* ТАЛЕ'РКА

ТАСАВА'ЦЦА *незак.* Падыходзіць, дапасоўвацца. *Яна нам не тасуецца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАСАВА'ЦЬ *незак.* Зносіць, цягаць, кідаць. *Тасуюць галкі галлё ў комін.* Азяраны Раг.; *парайн.* літ. *tąsýti* 'цягаць'.

ТАСЕ'МАЧКА *ж. памянш.* да т а с ё м к а. *Прырамкі звалі, каўнер аткладны, тасемачкай вышыты.* Рыбчына Віл. *На тасемачку пацяркі наніжы.* Малахоўцы Бар. *Па тры-чатыры тасемачкі прышывалі ў падалох* [спадніцы]. Гемзы Шальч.

ТАСЕ'МКА *ж.* Тасёмка. *Прышыла тасемкі да фартуха.* Солы Смарг. *Тасемкай апкладалі спадніцу.* Рыбчына Віл. *Тасемкі ткалі вузенькія, на два пальцы і нітак розных.* Кіралі Шчуч. *У падалох па тры-чатыры тасемачкі розных колёраў.* Гемзы Шальч. *На тасемцы крыжык вісіць.* Беразіно Докш. *Тасемкай убрана блюска.* Магуны Паст. *Каля нізу спадніцы прышывалі шчотачку, а патом — тасемкі.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *tasiemka* 'тж'.

ТАСКА' *ж.* Туга. *Нет такой таскі, як мацяры дзяцей хавацъ.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* руск. *тоска* 'тж'.

ТАСЦЁВА, ТАСЦЯВА', ТАСЦЯВА'Я *гл.* ТЭСЦЁВА

ТАСЬМА' *ж.* 1. Тасьма. *Шчотачкі на тасьмі былі, падшывалі да падолкаў.* Старыя Трокі Трак. 2. Пасма. *Тасьма — палоска на клубку нітак.* Беняконі Воран.

ТАСЬМО'ВЫ *прым.* Зроблены з тасьмы. *Тасьмовыя лейцы.* Міратычы Карэл.

ТА'ТА, ТА'ТО *м.* Бацька. *Тата ўсё панімаў, усё рабіў.* Солы Смарг. *Тату, прыдзі да нас!* Парэчча Гродз. *Тата брыўся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Маго тата брат — мой дзяцька — тут жыве.* Старыя Смільгіні Воран. *Мой тата быў развітой, музыка.* Саланое Віл. *Мама і тата прыехалі.* Рыбчына Віл. *Тата бедны быў.* Новікі Гродз. *Тату, ці будзіця снедаць?* Мсцібава Ваўк. *Дзе тата?* Стракішкі Трак. *Тата, а ты чаго тут?* Малькуны Ігн. *Тата і мама памярлі.* Лоск Валож. *Тата пахаваны на кладбішчы.* Гальшаны Ашм. *Наш тато прышоў.* Вострава Маст. *Тато, дзе ваша торба?* Вялікі Краснік Пруж. *Тато мый. Покліч тата.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *tato* 'тж'.

ТАТАРВА' *зб. ж. устар.* Татары. *Татарскі калодзеж — каменны калодзеж у лясу, калі татарва была, вырылі.* Глівін Барыс.

ТАТАРЧУ'К *м.* Татарын. *Татарчук расказваў.* Старыя Трокі Трак.

ТА'ТАЧКА, ТА'ТОЧКО *м. памянш.-ласк.* да т а́ т а. *Выгадаваў мяне татачка.* Кухты Віл. *Я кажу: «А таточко, а любенькі, хто туды папаў, дык навек прапаў».* Валеўка Навагр.

ТА'ТКІН *прым.* Татаў. *Гэта таткіна сястра.* Гальшаны Ашм.

ТА'ТОВЫ *прым.* Бацькаў. *Тут татова сыстра.* Дзмітравічы Кам.

ТАТРО'К *прысл.* Тое ж, што і т а к р о́ к. *Летась і татрок раней называлі.* Гальшаны Ашм.

ТАТУ'ЛЬ *м.* 1. *ласк.* да т а́ т а. *Татуль, а навэть нэ загляне, як дітя жывэ.* Курашэва Чыж. 2. *іран.* Вялікі хлапец, старэйшы за іншых. *Стёпа міжы дітміма такі татуль найбуольшы і учыт іх чорт ёго знае чого.* Курашэва Чыж.

ТАТУ′ЛЬКА *м.* 1. Тое ж, што і т а т у́ л ь. *Аддаў мяне татулька ні за таго, што я хацела.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мне татулька падарыў.* Кухты Віл. 2. Хросны бацька. *Яе мужык татулька мой быў.* Саланое Віл.

ТАТУ′ЛЯ *м.* Тое ж, што і т а т у́ л ь. *Мой татуля.* Талейкі Швянч.

ТАТУ′ЛЯВЫ *прым.* Тое ж, што і т а́ т о в ы. *Татулява хата, а не твая.* Саланое Віл.

ТАТУ′ЛЯЎ *прым.* Тое ж, што і т а́ т о в ы. *Гэта татуляга хата.* Саланое Віл.

ТА′ТУСЬ *м.* Тое ж, што і т а т у́ л ь. *Татусь расказуваў.* Паляцкішкі Воран. *Татусь паехаў. Татусь б'е.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТАЎКА′НІКІ *мн. кулін.* Бульбянікі. *З бульбы таўканікі пяклі смашныі, бульбу парылі, атцэджвалі, таўклі, рабілі круглыя галушкі і абсмажвалі ў тлушчы.* Валынцы В.-Дзв.

ТАЎКАНІ′ЧКІ *мн. памянш.* да т а ў к а́ н і к і. *Абварануюбульбу таўклі і пяклі таўканічкі.* Чуркі Ашм.

ТАЎКА′Ч I, ТОЎКА′Ч *м.* 1. Таўкач. *Былі ступы, таўклі куцю і таўкачы былі, таўкач дзеравяны.* Альхоўцы Лях. *Ступа і таўкач, будзем груцу аптаўкаць.* Рыбчына Віл. *Таўкачом у ступя таўклі.* Збляны Лід. *Панцак таўклі ў ступі таўкачамі.* Васілевічы Гродз. *Таўкачом таўклі ў ступіцы.* Сонічы Гродз. *Таўкач ест кашу таўчы.* Сапоцкіна Гродз. *Ступа і таўкач.* Дзяніскавічы Ганц. *Таўкач прынясі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Аббівалі зярно, таўкач з ліпы тонкай дзелалі.* Мельнікі Лудз. *Б'юць таўкачом капусту, кап расол выступіў.* Лісна В.-Дзв. *Таўкач, што таўчы картошку.* Баброўнікі Гарад. *Хлеба не было, ступы, таўкачы былі.* Паляцкішкі Воран. *Тоўкач — свіням тоўчы картофлю.* Мсцібава Ваўк. 2. Круг, кальцо. *Сын даў два таўкачэ калбасы.* Збляны Лід.

ТАЎКА′Ч II *м. перан.* Плавальны пузыр. *Рыб'я таўкач.* Рыбчына Віл.

ТАЎКАЧО′К *м. памянш.* Драўляная бірка. *Таўкачок ушывалі ў штаны.* Валынцы В.-Дзв. *Таўкачкі з дзерава, ушывалі і зашпільваліся.* Мішневічы Шум.

ТАЎКАЧЫ′, ТАЎКАЧЭ′ *мн.* 1. Пачаткі (кукурузы). *Таўкачы кукурузы.* Навасёлкі Свісл. *Таўкачэ спарым у сагане і ядзім. От смачна.* Галубы Маст. *Таўкачэ ў кукурузе.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Кіяхі (рагозу). *Збіраюць на подушкі таўкачэ, мяккія, што пух. Набрала таўкачоў лугавых.* Кіралі Шчуч.

ТАЎКА′ЧЫК I. *м. памянш.* Кветаножка. *Таўкачыкі ад трыпутніку.* Бакшты Іўеў. *З аеру таўкачыкі.* Кіралі Шчуч.

ТАЎКА′ЧЫК II *м.* Тое ж, што і т а р ч о́ к I. *Таўкачыкі ў нас называюцца яшчэ і тарчкі.* Ухвала Круп.

ТАЎКЦІ′ *гл.* ТАЎЧЫ′

ТАЎСМА′ТЫ *прым.* Таўставаты, таўсматы. *Для сваіх год яна таўсматая.* Новіны Нясв.

ТАЎСТА′Я *гл.* ТО′ЎСТАЯ

ТАЎСТУ'ХА I *ж.* Тоўстая жанчына. *Узяў такую таўстуху і сагнуцца не можа.* Мачаск Бярэз. ∇ *Маць — таўстуха, дачка — красуха, сын — перабор пабег на двор* — печ, полымя, дым. Саланое Віл.

ТАЎСТУ'ХА II *ж. бат.* Таўстуха. *Таўстухі растут у лесе.* Лука Нараўк.

ТАЎСТУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і т а ў с т ý х а II. *Таўстушак назбірала поўны кошык.* Багушэвічы Бярэз.

ТАЎСТУ'ШЧЫ, ТАЎСЦЮ'ШЧЫ *прым. павел.* Таўшчэзны. *Такі таўстушчы, ня улезіць у машыну.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *А дзерава была таўсцюшчая.* Ёдлавічы Брасл.

ТАЎСТЫ' *гл.* ТО'ЎСТЫ

ТАЎСЦЕ'Й *прысл.* У некалькі столак. *Як таўсцей накрыюся, то цёпла будзя.* Лісна В.-Дзв.

ТАЎСЦЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш тоўсты. *Сама благата, калі на таўсцейшыя цвікі чэшуць.* Дакудава Лід. *Таўсцейша цалёўка.* Гальшаны Ашм. *Таўсцейшая зрэб'я.* Лоск Валож.

ТАЎСЦЁРАЗНЫ *прым.* Тое ж, што і т а ў с т ý ш ч ы. *Такі таўсцёразны хлопяц.* Міратычы Карэл.

ТАЎСЦІНЯ' *ж.* Таўшчыня. *Рыба такой таўсціні, як сялёткі.* Лісна В.-Дзв. *Вілі вяроўкі мушчыны, якой хоча таўсціні.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Былі ў драчцы набіты гвоздзі, таўсціні, як ручка.* Латыгаль Віл. *Калі дагледзіць, то і таўсціня коласа добрая.* Вязынка Маладз.

ТАЎСЦЮ'ШЧЫ *гл.* ТАЎСТУ'ШЧЫ

ТАЎСЦЯ'К *м.* Таўстун, вельмі тоўсты. *Таўсцяк ты!* Старое Сяло Зэльв.

ТАЎХНУ'ЦЬ *зак.* Піхнуць. *У мяне мала работы: таўхнуў, трухнуў, вады прымкнуў, узяў вілы, напяў жылы, падняў паднос і ускінуў на калёс* — пра наём парабка. Граўжышкі Ашм.

ТАЎЧАНІ'ЦА, ТАЎЧАНІ'ЧА *ж.* Бульбяная каша. *Будзеш есці таўчаніцу?* Номікі Бабіц. *Таўчаніцу таўклі з бульбы.* Васілевічы Гродз. *Наеліся таўчаніцы.* Сонічы Гродз. *Таўчаніча — каша, бульбу мялі, прыскварацъ.* Новікі Гродз.

ТАЎЧО'НІКІ *мн.* Тое ж, што і т а ў к á н і к і. *Таўчонікі з бульбы, у калапні мачалі.* Саланое Віл. *Таўчонікі шлёпаюць і на лапату і ў печ, яны жоўценькія, ядуць з раўгеняй. З бульбы таўчонікі пяклі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТАЎЧ'ОНКА *ж.* Тое ж, што і т а ў ч а н і ц а. *Таўчонка — каша, з картошкі таўчонка.* Баброўнікі Гарад.

ТАЎЧЫ', ТАЎКЦІ' *незак.* 1. Таўчы, мяць. *Ужо кіпіць бульба, таўчы трэба кашу.* Кіралі Шчуч. *Таўклі кашу.* Саланое Віл. *Таўклі ў ступіцы.* Сонічы Гродз. *Калатоўкай таўклі гарбуз, бручку, як варылі.* Вузла Мядз. *Таўклі просо.* Вулька Гродз. *Панцак таўклі ў ступі.* Васілевічы Гродз. *Таўчы бульбу, а то астыгне.* Галубы Маст. *Бульбу варылі з луской: абіралі, таўклі — і бонды пяклі: на брытван — і ў печ.* Руднікі Шальч. *Таўчы кашу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Буду бульбу таўкці.* Азяраны Раг. *Канаплі таўклі ў-*

*ступе*. Ахрэмаўцы Брасл. *Калапні таўклі*. Латыгаль Віл. *Папарацьь таўклі ў ступе, сеялі і пяклі балабушкі — такія булачкі*. Гальшаны Ашм. 2. Выціскаць. *Таўчы мёд з сотаў*. Ухвала Круп. 3. Ачышчаць ад шалупіння, лускі. *Луску абтаўчэш з ячменю, дасі, дасі,— так таўчэш*. Грыкені Вільн. *Хто ш цяпер будзе таўчы авёс?* Чуркі Ашм. *Панцак таўклі ў ступах*. Ахрэмаўцы Брасл. 4. *перан*. Біць, калаціць, *Нап'ецца сын і свага атца таўчэць, як яму што скажаш, ён кажа: «Я ня помню»*. Вузла Мядз. *А Леначку што Сідараву казу таўкуць*. Кузьмічы Люб. ▽ *Камары мак таўкуць — будзя цяпло*. Солы Смарг. *Камары мак таўкуць*. Ахрэмаўцы Брасл. *Камары мак таўкуць — будзя цёпла*. Рудня Астравітая Чэрв.

ТАЎЧЫ́СЯ I *незак. экспр*. 1. Бесперастанку працаваць, завіхацца. *У чатыры часа было, устала ў чатыры — і ўсё таўкуся і таўкуся*. Кіралі Шчуч. 2. Забаўляцца, гуляць, дурэць. *Паедзіць і таўчэцца з дзеўкамі*. Ёдлавічы Брасл. ▽ *Таўчэцца, як шыла*. Кіралі Шчуч.

ТАЎШЧЫНЯ́ *ж*. Тое ж, што і т а ў с ц і н я́. *Бондачкі, як длонь, таўшчыні*. Стракішкі Трак. *Саланіна — во такая таўшчыня*. Асавец Віл.

ТАЎШЧЭ́ЙШЫ *прым. выш*. Больш тоўсты. *Цырта таўшчэйшая за плотку*. Збляны Лід. *Яна таўшчэйшая*. Дзяніскавічы Ганц. *Таўшчэйшыя і танчэйшыя ніці*. Альхоўка Навагр.

ТАФАЛЁЎКА *ж*. Настойка на таполевых пупышках. *Тафалёўкай заліць паляц, і зажыве*. Быстрыца Астр.

ТАХ-ТАХ *выкл*. 1. Гукапераймальнае абазначэнне рытмічных удараў цэпам. Бах-бах. *Цапамі малацілі: тах-тах, тах-тах*. Гальшаны Ашм. 2. Гукапераймальнае абазначэнне ўдару падкоў. Цок-цок. *Капыты толькі тах-тах, тах-тах*. Чычалі Швянч.

ТАХТ *м*. Такт. ◇ *У тахт* — у адпаведнасці з рытмам чаго-н. *У тахт б'юць цапамі, малоцяць у тахт*. Гемзы Шальч.

ТА́ЧКА *ж*. Невялікі вазок. *Ён прыезжая на тачке, барану ўзяў*. Гемзы Шальч.

ТАЧЫ́ЛА, ТАЧЫ́ЛО, ТАЧЫ́ДЛА, ТАЧЫ́ДЛО *н*. Тачыла. *Тачыла бяруць і сякеру точаць*. Беразіно Докш. *Там тачыла стаіць, натачы нажы*. Рыбчына Віл. *Змучыўся, пакуль натачыў нажы на тачыле*. Рудня Астравітая Чэрв. *Тачыла тачыць гаршкі. Быў у нас Пальчэўскі, тачыў гаршкі*. Ахрэмаўцы Брасл. *Нада на тачыле навастрыць ці натачыць тапор, ножык*. Ёдлавічы Брасл. *Вазьмі сякеру і патачы на тачыла*. Кіралі Шчуч. *Мае тачыло зламаласо*. Мсцібава Ваўк. *Тачыдла вазьмі, павастры нажы*. Вялікія Баяры Шчуч. *Тачыдла стаіць за хатай: камень з ручкай, што круціць, станка не маю, і карыцо падвязваецца, спот камня ходзя ў вадзе, нажы точыш да сячкарні*. Гемзы Шальч. *Корба ў тачыдле: карытка, круглы брусок, а корба ў брусок устаўляецца, круціць і вострыць нажы*. Солы Смарг. *На тачыдле точаць сякеру*. Магуны Паст. *Тачыдлам востраць*. Жодзішкі Смарг. *Тачыдло точыць нож*. Быстрыца Астр. *Тачыдло*

*круглае.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *toczydło* 'тж'.

ТАЧЫ'ЦЦА *незак.* 1. Паўзці, імкліва пранікаць. *Мухі ў хату точуцца.* Лісна В.-Дзв. *Прас трупку вада точыцца.* Граўжышкі Ашм. 2. Рухацца, перамяшчацца. *Рак точыцца назат.* Сапоцкіна Гродз.

ТАЧЫ'ЦЬ, ТОЧЫ'ЦІ *незак.* 1. Вастрыць. *Тачыць касу нада.* Лісна В.-Дзв. *Скора точыць нажы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нада тапорыкі тачыць.* Істра Лудз. *Трэба тачыці ножа, сэрпа.* Смалянiца Пруж. 2. Падаўжаць, сточваць адно з другім. *Суцэльнае брайно, палена точым, замок дзелаецца, каб адно заходзіла за другое.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Рыць. *Кратэ точуц землю.* Парэчча Гродз. *Крот точыць зямлю.* Кураполле Паст. 4. Пераядаць, перагрызаць. *Чэрві дрэво точаць.* Номікі Бабіц. 5. Расціраць, церці. *Тачылі ягады на машынку, з сахарам мяшалі.* Азяраны Раг. 6. Наліваць. *З боку барылкі точаць піва.* Жылі Іўеў. ◇ *Тачыць вайну* — сварыцца, вадзіцца. *Ён з сынам вайну точа.* Малі Астр. *Тачыць кроў* — мучыць, прыгнятаць каго-н., здзекавацца з каго-н. *Кроў тачылі з яго колькі хацелі.* Граўжышкі Ашм.

ТАШЧА'К. У выразе: *У ташчак* — нашча. *Я пайшоў у ташчак.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *tùščias* 'пусты'.

ТАШЧА'ЛЫЙ *прым.* Знясілены, худы. *Ташчалый пленны, еў мурайку.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* літ. *tùščias* 'пусты'.

ТАШЧАНІ'ЦА *ж. ткац.* Дапушчаная памылка пры ўвядзенні асновы ў бёрда. *Звіла ташчаніцу.* Саланое Віл.

ТАШЧЫ'МА *прысл.* Без паклажы. *Улехцы, ці ташчыма. Болей ташчыма паехаў.* Магуны Паст.

ТАШЧЫ'МНІЦА *ж.* Нішчымніца. *Яна есць усё ташчымніцу, жырнага не есць. Сёня ташчымніцу вару.* Кіралі Шчуч.

ТАШЧЫ'МНЫ *прым.* Нішчымны, посны. *Ташчымны крупнік з картофляю ў пост елі. Ташчымна вара, нічым незасквараna.* Кіралі Шчуч.

ТАШЧЫ'ЦА ж. Тое ж, што і т а ш ч а н і ц а. *Укінала ташчыцу.* Мярэцкія Глыб. *Як прапусціш адну атрасціну і не ўвядзеш ніткі, то называлі ташчыца.* Вузла Мядз.

ТВАЖ *м.* Твар. *Тваж у крыві.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *twarz* 'тж'.

ТВА'НКІ *прым.* Тваністы. *Рыб калек многа, дно гразнае, тванкае.* Ухвала Круп.

ТВАНЬ *ж.* Твань, вязкае балота. *З аднаго боку стараполіца, а там твань, лядайкае полё.* Дзяніскавічы Ганц. *Такая твань, ня пройдзеш.* Ухвала Круп.

ТВАР *м.*, ТВА'РА *ж.* Тое ж, што і т в а ж. *Твар рабы.* Альхоўка Навагр. *На твары рана.* Альхоўцы Лях. *Ацекаіць твар.* Саланое Віл. *Праз твар аж рагі пацяклі.* Старыя Смільгіні Воран. *На твар ён брыткі, ніхарошы. На твары кнопкі, пегі, оспа пабіўшы.* Малі Астр. *Папер прыложыць да твары.* Ёдлавічы Брасл. ∇ *Твар, як рашпіль.* Кураполле Паст.

ТВА'РДЫ, ТВЭ'РДЫ *прым.* Цвёрды. *Як бяроза, кару абгані, яна твардая.* Грыкені Вільн. *Нэ крышы, вон* [бурак] *тэврды.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* польск. *twardy* 'тж'.

ТВАРО'Г, ТВАРО'Х, ТВО'РАХ, ТВО'РАК *м.* Тварог. *Тварог — адаграванае малако кіслае.* Буды В.-Дзв. *У банца тварох.* Асавец Віл. *Малако аттопляно зліваям ў клінок, сцякая сыроватка, астаецца тварох.* Дакудава Лід. *Малако атопіцца, будзе тварох.* Кіралі Шчуч. *Тварогу ест.* Стракішкі Трак. *Квасьная малако адагрэем, і тварох палучаецца.* Старыя Трокі Трак. *Малако трэба атагрэць і тварох на сыр, а сываратка — свінням.* Саланое Віл. *Была пасуда на малако, масла, тварох, елі з малаком.* Альхоўцы Лях. *Творах развядзі з малаком.* Быстрыца Астр. *Творах свежы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *А творах які харошы з казлінага малака, жоўты, як масла.* Валеўка Навагр. *Я творах, смятану ем.* Лайпушкі Ігн. *Творах, як атагрэіш малако, творах разведзены смятанай.* Рагулішкі Даўг. *Творак у сырнік зліваюць і сыры дзелаіш.* Парэчча Гродз.

ТВАРО'К *м. памянш.* да т в а р. *Бачыш, які тварок у дзіцяці?* Альхоўцы Лях. *Ідзі на двор, там памый тварок.* Кіралі Шчуч. *Тварок спякла.* Вецярэвічы Пух.

ТВАРО'Х, ТВО'РАХ, ТВО'РАК *гл.* ТВАРО'Г

ТВАРЫ'ЦЬ *незак.* Вытвараць, вырабляць. *Што яны тварылі, гэтыя немцы.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ТВЕРЦЬ *ж.* Цвёрдасць, зацвярдзенне. *Тверць зрабілася, так зямля асела.* Вецярэвічы Пух.

ТВЭ'РДЫ *гл.* ТВА'РДЫ

ТВЯРО'ЗЫ *прым.* Цвярозы. *Тверозага я яга ні відзяла.* Саланое Віл.

ТЕЛЕ'Ш *м.* Вялікае палена. *Добры телеш — большое полено.* Азарычы Пін. ∇ *Дітя, бы телеш.* Азарычы Пін.

ТЕ'МРАВА *ж.* Цемра, цемната. *Поночы темрава, хоч очы повыколвай.* Азарычы Пін.

ТЕПЕ'Р *прысл.* Сёння. *Тепер дванаццатае.* Азарычы Пін.

ТЕРТУ'ХА *ж. кулін.* Бульбяная каша, камы. *Натоўчу картоплю, налью молока і зроблю тертуху.* Азарычы Пін.

ТЁРГАТІ *незак.* Тузаць, торгаць. *Нэ тёргай ёго за чупрыну.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *targać* 'тж'.

ТЁТОЧКА *ж. памянш.-ласк.* Цётка. *Теточко, іді сюдэ!* Дзмітравічы Кам.

ТІЕ'ПАТІ *незак.* Ледзьве дыхаць (жыць). *Курэня чуть тіепае, мусіт, здохнэ.* Курашэва Чыж.

ТІ'ЛІСТЫ *прым.* Цялесны, светлы. *Надя купіла собіе гожэ тілістэ платіе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *cielisty* 'тж'.

ТІНТЮ'К *м.* Галушка з варанага гароху. *Гарохавы тінтюк сціснуць у руках і ядуць. Тінтюк рабілі так: гарох парылі, качалкай мялі, лук сыры лажылі і ў рукі бралі і елі.* Рагулішкі Даўг.

ТІП *м.* Тыф. *Вмэр чоловік з тіпу.* Збураж Малар.

ТІ'ТКА *ж.* Цётка. *Тітка тут.* Дзмітравічы Кам.

ТІТЮ'ОН *гл.* ТЫТУ'Н

ТІХАЧО'М *прысл.* Паціху, крадучыся. *Тіхачом пудыйшов і вдырыв мэнэ оброткою по головіе.* Курашэва Чыж.

ТІХО'НЯ *м.* і *ж.* Хто ціхі, маўклівы, ціхоня. *Тіхоня — маўклівы чалавек.* Рагулішкі Даўг.

ТІЧ *м.* Тое ж, што і т у р к а́ ч. Ласіцк Пін.

ТКА'ЛЛІ толькі *мн.* Ткацкая фабрыка. *У ткаллях у Вільня машыны.* Старыя Трокі Трак.

ТКА'ЛЛЯ, ТКА'ЛЯ, ТКА'ЙЛЯ, ТКА'ЛЬНЯ *ж.* Жанчына, якая тчэ; ткачыха. *Ткалля харошая.* Рыбчына Віл. *Ткалля кросны тчэ.* Азяраны Раг. *Ткалля што трэба.* Мярэцкія Глыб. *Такая ты ткалля, што наткала недасеку.* Мачаск Бярэз. *Ткаля — жанчына, якая тчэ.* Вострава Маст. *Ткаля, хто ччэ.* Альхоўцы Лях. *Ткайля тчэ.* Магуны Паст. *Ткальня ччэ кросны.* Старыя Смільгіні Воран. *Такая ткальня, рукі залатыя ў яе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ткальня ччэ.* Малыя Аўцюкі Калінк. ∇ *Спешня, ткайля!*— пажаданне спору ў працы ткачысе. Ёдлавічы Брасл.

ТКА'ЛЬНІЦА I *ж.* Тое ж, што і т к а́ л л я. *Ткальніца якая с цібе, калі ты не ўмееш і ў берда ўкінуць.* Кіралі Шчуч. *Ткальніца умея добра ткаць і палатно, і шарак.* Гемзы Шальч.

ТКА'ЛЬНІЦА II *ж.* Валік для прычоскі. *Ткальніца, як абручык, з полотна шыемо, туда льнёную жылочку і закручвалі волосы і надевалі чепца, а по чепцу червону чы вішнёву гічку зав'язовалі.* Азарычы Пін.

ТКА'НАЕ *н.* у знач. *назоўніка.* Матэрыя (тканіна), вытканая ў хатніх умовах, саматужным спосабам. *Насіла прадаваць тканае.* Снягяны Смарг.

ТКАНІ'НА' *ж.* Тое ж, што і т к а́ н а е. *З крутых нітак, дзёрсткая каляная тканіна, што кол стаіць, як намочыш.* Кіралі Шчуч. *Нагроды давалі за тканіну.* Солы Смарг. *Пані брала тканіну — ручнікі, сціркі.* Малі Астр. *Тканіну мылі ў лугу.* Кудзялянцы Шальч.

ТКА'НІЦА, ТКА'НЫЦЯ, КА'НЫЦЯ *ж.* Тое ж, што і т к а́ л ь н і ц а II. *Тканіца — з льну, непрадзены лён круцілі, канцы, каб ройна кубанка была, як кубял на галаве. Клалы тканыцу на голову, а на тканыцу — чыпця.* Дружылавічы Іван. *Чыпця, каныцю клалы.* Сіманавічы Драг.

ТКА'ННЯ, ТКА'НЁ, ТКА'НЬЕ *н.* Тое ж, што і т к а́ н а е. *На другі навой навіваяцца ткання.* Дакудава Лід. *У адзін дзень напралі, выткалі і пазавешвалі тканём вокны — так спасаліся ад халеры.* Кудзялянцы Шальч. *На самае найгоршае тканье асморжыны ідуць.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *tkanie* 'тж'.

ТКА'НЫ *дзеепрым.* Тканы. *Ходнікі ў пасы тканыя.* Старыя Трокі Трак. *Гэта кашуля ткана.* Навасёлкі Лід. *Тканы пояс быў спавіваць дзіця.* Збляны Лід.

ТКАНЬЁ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова *ткаць. Якоя твае тканьё — усе трасціны павыбіваеш у бёрдзі.* Кіралі Шчуч.

ТКАЦЬ, ТКА'ЦІ, ТКА'ТЭ *незак.* Ткаць. *Кросна ччэш месяца два.* Альхоўка Навагр. *Кужаль пралі, ткалі на кашулі.* Вузла Мядз. *Ткуць дыванэ тэраз па вёсках.* Васілевічы Гродз. *Ткалі такое грубое з гэтых ачоскаў. Ніці плохія даюць ткаць. Пасматрэць, як тчымо, хочаце?* Малышы Лід. *Даўней ткалі ў звёздачку, у вяночак, у дарошкі.* Дзераўное Стаўб. *Начыналі ткаць.* Цяпінцы Віл. *Ты ччэш?* Саланое Віл. *Кроснаў не ткуць, німа скарачэй.* Гемзы Шальч. *Ччуць палатно.* Новыя Мацалі Варэн. *Як ткуць дыванэ, купуюць ніткі. Як хто хацеў, так і ткалі. На кроснах ткалі.* Васілевічы Гродз. *Будэмо ткатэ дывана.* Дзмітравічы Кам. ◊ *Кросны ткаць* — плесці сетку з павуціны. *Мы смяёмся, што павук кросны тчэць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТКА'ЧКА *ж.* Прадзільшчыца. *Прадзе тоніњка, як якая ткачка.* Дакудава Лід.

ТКАЧЫ'ХА *ж.* Тое ж, што і т к а́ л л я. *Былі і такія ткачыхі, якія спецыяльне вучыліся.* Дзераўное Стаўб.▽ *Добрая ткачыха і на плату будзіць ткаць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТКНУ'ТІ *зак.* Даць ці пададць што-н. рэзкім рухам. *Нэвістка ткнула мніе пара грошы, як жэбрушчому діедові, забыласе, што я ёй ціелу господарку дала.* Курашэва Чыж.

ТЛЕЦЬ *незак.* Тлець. *Сырыі дровы тлеюць.* Валынцы В.-Дзв. *Сырыя дровы ў печы тлеюць.* Альба Нясв. *Тлеюць дрова.* Пасека Ст.-Дар. *Дровы тлеюць, кураць бэз духу.* Мсцібава Ваўк. *Тлеюць дрова і не гараць.* Вецярэвічы Пух. *Дровы тлеюць.* Гемзы Шальч.

ТЛУМА' *ж.* Клопат. *Нашто мне тлума пат старасць. Тлума вялікая.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *tłum* 'натоўп'.

ТЛУМА'К *м. экспр.* 1. Клунак. *Якісь чоловіек с тлумаком на плечах ішов гуліцёю.* Курашэва Чыж. 2. *перан. экспр.* Абмежаваны чалавек, дурань. *Такому тлумакові тлумач — нэ тлумач, і так нічого нэ поймэ.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tłumok* 'тж'.

ТЛУМА'Ч *м.* Перакладчык. *Гэты тлумач мне кажа: «Ён усё выдрукаваў».* Гальшаны Ашм. *С сусіеднёго сёла быв одін тлумачом у ніемцюов, добрэ говорыв по-німецькі, бо вчывсе пэрэд войною в школі в Варшаві.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tłumacz* 'тж'.

ТЛУМА'ЧЫЦЬ *незак.* 1. Расказваць, гаварыць, апавядаць. *Мне тлумачыла тая баба, як бульбу збірала. Мне тлумачыў мой чалавек, што ехаў з млына — і баран ляжаў на дарозя.* Кудзялянцы Шальч. *Яна мне тлумачыла: «Гары па частках, а ня цэлым шнюром».* Івашкаўцы Смарг. *Тлумач, які ланцух будзіш прычапляц!* Парэчча Гродз. 2. Тлумачыць. *Я ўсё тлумачыла усім.* Гальшаны Ашм. 3. Перакладаць. *Яна цяпер тлумачыць з нямецкай мовы.* Вострава Маст. *Тлумачыла некаторыя нашы*

*словы брату, што прыехаў с Польшчы.* Дзераўное Стаўб.; *парайн.* польск. *tłutaczyć* 'тж'.

ТЛУ'СТАСЦЬ *ж.* Тлушч. *Тлустасць пашла на ваду.* Паляцкішкі Воран. *Тлустасць с кішок смажаць на жыр.* Альхоўка Навагр. *Тлустасць застывае.* Навасёлкі Свісл. *Тлустасць топіцца, застывая, белянькая, як снех.* Малахоўцы Бар. *Тлустасць, а цяпер жыр, будзім макацца ў тлустасць, у жыр.* Ёдлавічы Брасл.

ТЛУСТІЕ'НЬ *м. экспр.* Вельмі тлусты, сыты (пра парсюка). *Тлустіень паршук, нэ дасть ужэ рады на ногах стояті.* Курашэва Чыж.

ТЛУ'СТЫ *прым.* 1. Які ўтрымлівае шмат тлушчу (пра сала, мяса). *Тлуста мяса.* Старыя Смільгіні Воран. *Тлустая мяса.* Жодзішкі Смарг. *Няможна есці тлустага мяса.* Быстрыца Астр. *Тлустае менса.* Старыя Трокі Трак. *Тлустоя сала.* Ёдлавічы Брасл. *Тлустоя мяса.* Малькуны Ігн. 2. Прыпраўлены тлушчам. *Посная куця і тлустая куця.* Быстрыца Астр. *Была посная куця і тлустая куця.* Старыя Трокі Трак. 3. Сыты, гладкі, поўны. *Ён такі тлусты.* Старыя Смільгіні Воран. *Такі тлусты сын быў у яе.* Грыкені Вільн. *Тлусты парсюк.* Крынкі Крын. 4. Моцна насычаны карыснымі рэчывамі. *Руда на балоце фарбуе, красная вада, аш блішчыць, яна тлустая нейкая, у зямлі жалеза ёсць.* Паляцкішкі Воран. 5. Сакавіты. *Тлустаю траву каровы не ядуць.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *tłusty* 'сыты'.

ТЛУ'ЧКА *ж.* Маслабойка. *В тлучці б'ют масло.* Курашэва Чыж. *Тлучку прынясі масло біць.* Калясное Міхал.; *парайн.* польск. *tłuczka* 'таўкач'.

ТЛУШЧ *м.* Тое ж, што і т л у́ с т а с ц ь. *Тлушч называлі.* Парэчча Гродз. *Тлушч ператоплены звалі тлустасць.* Паляцкішкі Воран. *Зімной вадой не атмыеш тлушч.* Ністанішкі Смарг. *Некалі жыр не казалі, а тлушч.* Чуркі Ашм. *Тлушчу прынясі.* Старыя Трокі Трак. *Тлушч распусціўся.* Лайпушкі Ігн. *У мяне тлушч ат сланіны ў адным балоне, тлушч ат кішак у другім.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *tłuszcz* 'тж'.

ТЛУШЧЫНЯ' *ж.* Таўшчыня. *Такая тлушчыня ў асіны.* Швэды Вільн.

ТЛЯ *ж. заал.* Тля. *Попіл і табачная пыль тлю зганяіць.* Валынцы В.-Дзв.

ТМІН *м. бат.* Кмен. *Тмін у хлеп лажылі, на гарэ расцёт.* Навікі Лудз.

ТНУЦЬ *незак.* Кусаць, джаліць. *Гадзюка жалам тне.* Вецярэвічы Пух. *Мухі тнуць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мухі гэдак тнуць, халера іх знаіць.* Граўжышкі Ашм. *Слепакі тнуць.* Кудзялянцы Шальч. *Ласачка так тне больно.* Мсцібава Ваўк. ◇ *Тнуць язык* — умешвацца не ў свае справы; умешвацца ў размову. *Не тні языка, дзе не трэба.* Малі Астр. *Тнуць нос* — звяртацца з просьбай, прасіць. *Як што, то і тнуць нос да мяне, каб узяла на кватэру.* Малі Астр.

ТО 1. *злуч.* То. *Калі не едзеш са мной, то сідай в маю хату.*

Гальшаны Ашм. *Як пост, то опроч алея нічым не засквырыш.* Канюкай Вільн. *А не, то посэдзетэ.* Смаляніца Пруж. *Сколько жыву, то не чула такого.* Крынкі Крын. *Як тутэйшыя, то не забудзь.* Навасёлкі Лід. *Пойдзеш служыць, то хіба пасадзяць. Хтосьці купіў той плуг, то схадзіліса і глядзелі. Як ліпа лупіцца, то пааблупваюць.* Васілевічы Гродз. *Дзед казаў: «Сегодня, штобы гарох сеяць, то быў бы гарох добры».* Вулька Гродз. 2. *займ.* Гэта. *Дзе сосна — то баравы лес. Ангіна і гурчолы — то самая.* Старыя Трокі Трак. *Ці то ўспомніш ўсенютко? Мой брат казоў, што гэтыя Саветы — то анельскія людзі.* Васілевічы Гродз. 3. *часц.* То. *Рабіці-то трэба было, пэўне.* Васілевічы Гродз. *Які пачатак-то быў.* Чычалі Швянч. *У гэтай-то вадзе пракалаці.* Мыто Лід.

ТОВА'РЫШ *м.* Сябар. *Его товарышэві послала посылку.* Смаляніца Пруж.

ТОВКАНІ'ЧНІК *м.* Пра асобу, якая любіць бульбяную кашу. *Стёпа — то такі товканічнік, еў бы і еў бы товканіцу.* Курашэва Чыж.

ТОВКАНЫ'ЦЯ *гл.* ТОЎКАНІ'ЦА

ТОВКА'ТІ *незак.* Штурхаць. *Вуон мэнэ пуд буок товкав, а я нэ знав, чого вуон хочэ, а голосно нэ можна говорыті.* Курашэва Чыж.

ТОВКОТНЯ' *ж.* Таўкатня. *Коло склепу такая товкотня, што нэ можна в сэрэдіну вбітісе.* Курашэва Чыж.

ТО'ВСТА *гл.* ТО'ЎСТАЯ

ТО'ВСТЫЙ *прым.* Тоўсты. ∇ *Товстый, як бочка.* Дзмітравічы Кам.

ТОВЧЭ'ЗНЫЙ *прым.* Таўшчэзны, вельмі тоўсты. *Такі товчэзный будэ.* Дзмітравічы Кам.

ТОГДЫ', ТОДЫ', ТОГДЭ' *прысл.* У той час, пасля таго. *Тогды поеду до его. Тогды была с свекрывею. Тогды ему послала дзве посылкі. Тогды коньмі езьдзілі на базар.* Смаляніца Пруж. *Діетём шчэ тогды быв, як Марыся за Яна замуж вышла. Тогды поіеду на базар, як змолочу збуожэ.* Курашэва Чыж. *Тоды не так робілі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Тогдэ мытэньчат косу і косят. Тогдэ жэто берэцьця рунэтэ.* Дзмітравічы Кам.; *парайн.* руск. *тогда* 'тж'.

ТО'ГНУЦЬ *незак.* Правальвацца. *Можна по серэну іці, ён не тогне, ідзі, бы по леду, по серэну.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТО'ЖО, ТО'ЖЭ *прысл.* Таксама. *Аркадзік — тожо нічого лёгко імя.* Валеўка Навагр. *Ушкі ў лапцях і ў хадаках тожэ ушкі.* Грыкені Вільн.; *парайн.* руск. *тоже* 'тж'.

ТОЙ *займ.* Той. *Ат таго часу мы знаёмыя.* Чуркі Ашм. *Занямонцы с той стараны Нёмана.* Вулька Гродз. *Хтосьці купіў той плуг.* Васілевічы Гродз. *Той харашо жывець.* Саланое Віл. *Тая да тага, тая да тага — і так бегаюць.* Вузла Мядз. *Та тога, та тога возьме.* Альхоўцы Лях. *Пад тэй фабрыкай.* Грыкені Вільн. *На тэй гары жывуць.* Пасіене Лудз. *Тэй работы нет, штоб я не*

*здзелаў. Ты пойдзіш да тэй і да тэй.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сасет расціў тую касулю.* Вулька Гродз. *Пасагу давалі с скрыняю таей.* Судэрва Вільн. *Тое жа восені яшчэ было.* Глівін Барыс. *Саган і чыгун — тое самае.* Грыкені Вільн. *Я была на тых ягадах.* Васілевічы Гродз. *Тыя разы таркавала бульбу.* Масішкі Красл. ◊ *Тое-сёе* — выкарыстоўваецца для пераліку розных прадметаў, акалічнасцей і г. д. *Тое-сёе ён мне гукаіць.* Пярэкі В.-Дзв. *Плуг направіў, занясла таго-сяго.* Пацаўшчына Дзятл. *Той свет* — замагільны свет. *Ён як бы з таго свету.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТОК I, ТЫК *м.* 1. Гумно. *У ток клалі жыта і там малацілі; у токе малатарня, сячкарня, арпа.* Саланое Віл. *У ток звозяць снапы, сена.* Асавец Віл. *У ток вазілі жыта, ячмень, авёс.* Вузла Мядз. *Такамы звалі, у таках былі восіці, сушылі снапы.* Кураполле Паст. *А як возяць жыта, першы воз-дзятка — кладуць наверх на вос і вязуць у ток.* Груздава Паст. 2. Пляцоўка для малацьбы. *У гумне адгароджаны ток.* Дзяніскавічы Ганц. *С пуні снапы носім у ток малаціць.* Саланое Віл. *Ток у гумне вазілі, гліну збівалі калоткамі і на таку малацілі збожжа цапамі.* Міратычы Карэл. *Ток — дзе малацілі, у гумнах глінай злівалі, накладалі, потым збівалі і быў ток.* Навасёлкі Свісл. *Ток у гумне.* Мсцібава Ваўк. *Ток, дзе малоцяць у гумне, серадзіна.* Паляцкішкі Воран. *На таку малацілі с коньмі, уяжджалі ў гумно.* Кіралі Шчуч. *Там, дзе малоцяць, ток.* Вялікія Баяры Шчуч. *У гумне быў ток, выбівалі яго з гліны.* Альхоўцы Лях. *Ток у гумне, малацілі на таку.* Руднікі Шальч. *Ток у адрыне, дзе малоцяць.* Стракішкі Трак. *Тык е в клуні, на току молотят.* Дзмітравічы Кам. 3. Земляная падлога, пакрытая зверху глінай. *Яшчэ ток у хаце не біты.* Паляцкішкі Воран. *Як німа падлогі, ток у хаця збівалі.* Навасёлкі Свісл. *У майстэрні ток — падлога выбіта глінай.* Збляны Лід. *Земляны ток у хаце.* Жылі Іўеў. *У сенях можа быць ток з гліны зроблены і ў нас самых ток.* Альхоўцы Лях. *У сенях ток з гліны зроблены.* Мсцібава Ваўк. *Выбіць токам падлогу.* Магуны Паст. *Калоткай ток збівалі, ток збіць, у хаці ток.* Дзяніскавічы Ганц. *У хаце, дзе няма пала,— гэта ток.* Паляцкішкі Воран. *Ток у хаце быў, а ў свірнах былі падлогі.* Лайпушкі Ігн. *Ток быў у хаце, пудлогі не было.* Навадворцы Васільк. 4. Под (у печы). *У печы не гладкі ток.* Паляцкішкі Воран. *У печы пелюсці, ток, паднябенё.* Малахоўцы Бар. *У печы ток і паднябеня.* Старыя Смільгіні Воран. *Ток паднізам у печы, круглае паднябене.* Мыто Лід. *Ток у печы.* Жылі Іўеў. *Бонды пяклі на капусным лісце на таку ў печы. Капусцяныя лісты на ток ляпаюць.* Старыя Трокі Трак. *А с току смачней хлеп. Пах такі есць.* Магуны Паст. *На таку і хлеп пяклі, і есці варылі.* Галубы Маст. *На таку упячоны хлеп.* Быстрыца Астр. *Ток натта лядачы ў печы.* Пацаўшчына Дзятл. *Ток прагарэў, нада прынясці цэглаў і гліны і уставіць новы ток.* Кіралі Шчуч. *Выгараў ток у печы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ток выдзярся ў печы.* Малькуны

Ігн. *У печы тожа ток, яго укладаюць цэглаю.* Міратычы Карэл.; *парайн.* літ. *tãkas* 'пляцоўка для малацьбы'.

ТОК II *м.* Ток (электрычны). *Мужа токам забіла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гурына токам забіла.* Жылі Іўеў.

ТО'КЛІШЧА *н.* Вытаптанае месца, вытаптаны ўчастак (на полі, у агародзе). *У агародзе дзеці зрабілі токлішча ў клубніках.* Вецярэвічы Пух.

ТО'КЛІШЧО *н.* Тое ж, што і с т а ж á р'е. *Токлішчо, дзе стох стаяў.* Малахоўцы Бар.

ТОЛК, ТОЎК *м.* 1. Сэнс, разумны змест сказанага. *З вамі толку дайдзеш?* Вялікія Баяры Шчуч. *Дабілася, нарэшце, да талку.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Карысць, добры вынік. *З старага толк — ужэ не тот, што быў.* Ахрэмаўцы Брасл. *З гэтага толка ня будзе.* Гемзы Шальч. ▽ *Ці языком, ці пугай па вадзе* — адзін толк. Саланое Віл. ◇ *Без талку, бяс тоўку, ні па толку, ня к толку* — без патрэбы, без карысці, дарма, недарэчы. *Звязаўся без талку.* Старыя Смільгіні Воран. *Трэліш бяс тоўку.* Быстрыца Астр. *Ні па толку слова сказаў.* Валынцы В.-Дзв. *Ня к толку гаворыць.* Мішневічы Шум. *Да толку* — дарэчы, да месца. *Нічога да толку ён і не скажа.* Граўжышкі Ашм. *Да толку не гаварыла — малая была.* Гемзы Шальч. *Давесці да толку* — прывесці ў парадак. *Давялі яе да толку, абмылі, надзелі ва ўсё чыстае і новае.* Валынцы В.-Дзв. *Збіць з толку* — выклікаць замяшанне, заблытаць. *Нешта хацела сказаць, а ён збіў мяне с толку.* Вузла Мядз. *Няма толку* — бескарысна. *І разышоўшыся, толку няма.* Канюкай Вільн.

ТО'ЛЬКІ I, ТО'ЛЬКО, ТУО'ЛЬКО 1. *часц.* Выключна, адзіна. *Мне толькі каты да сабакі.* Кураполле Паст. *Мы толькі ўдваіх жывём.* Саланое Віл. *Толькі я і брат, нас двух было.* Стракішкі Трак. *Санкі только на выезд.* Судэрва Вільн. *Туолько мушчыны прыходзілі на собраніе, бабуов нэ было.* Курашэва Чыж. 2. *часц.* Толькі (узмацняе ўяўленне аб пажаданасці, магчымасці якіх-н. з'яў). *Толькі нікому ні авары.* Старыя Смільгіні Воран. 3. *злучн.* Толькі. *У абет прысядзеш толькі, як з'ясі.* Чуркі Ашм.

ТО'ЛЬКІ II, ТО'ЛЬКА, ТУО'ЛЬКО *прысл.* Столькі, у такой колькасці. *Падушкаў, дзяругаў саматканых толькі прынесла, што на сто гадоў хопіць.* Чуркі Ашм. *Трэба толькі мячак мяць лён.* Латыгаль Віл. *Толька народу было, усе выступалі.* Крэва Смарг. *Прынэсі туолько дров, коб хватіло в пэчые напаліті, туолько грошы возьмі, коб хватіло всё купіті. Зробів туолько, што куот наплакав. А хто тобіе казав аж туолько дров прынэсті? Туолько роботы згінуло, туолько часу змарновала тым ходіенем до склепуов і ніц нэ купіла, і я вжэ туолько всёго бачыв, што і нічому нэ дівлюсе.* Курашэва Чыж. ◇ *Туолько і бачылі* — пра раптоўнае бясследнае знікненне каго-н. *Туолько і бачылі мэнэ там, зайшов раз і буольш нэ пуйду.* Курашэва Чыж.

ТО'МІЦЬ *незак.* Таміць, мучыць. *Каб яна не томіла яго — дзіця, дай мне яго, яно горкія слёзы льець.* Валеўка Навагр.

ТО'МНЫ *прым.* Стомлены. *Я такая томная.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТО'НА *ж.,* ТОН *м.* Тона. *Тоя лета тона агуркоў была дзевяноста рублёў.* Вецярэвічы Пух. *Две тоне прывезлі мукі.* Старое Сяло Зэльв. *Тры тоне налапалі рыбы, везлі на машыне.* Вострава Маст. *За адзін заход семдзесят два тона ўзялі лішча.* Ахрэмаўцы Брасл. *Два тоны травы выперлі з балота.* Ёдлавічы Брасл. *Солі купілі два тоны на траіх.* Гальшаны Ашм.

ТО'НЕНАЧКІ *гл.* ТО'НЯНЕЧКІ

ТО'НЕНЬКА *прысл.* Тонкім голасам. *Дзевачка плачыць тоненька, а хлапец тоўста.* Саланое Віл.

ТО'НЕНЬКІ *прым. памянш.* да т о́ н к і. *Карашок тоненькі.* Лісна В.-Дзв.

ТО'НКА *прысл.* Тонка. *Як зрабіць, штобы тонка напрасьʼ?* Навікі Лудз.

ТО'НКІ *прым.* Тонкі. *Тонкія кішкі і тоўстыя кішкі.* Кіралі Шчуч. *Тонкія ніткі.* Вялікія Баяры Шчуч. ∇ *Тонак — гонак.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТОНЧА'ТІ *незак.* Худзець, марнець. *Тэкля як вышла замуж, то хутка начала тончаті.* Курашэва Чыж.

ТО'НШЫ *прым.* Танейшы, танчэйшы. *З ільну тоншыя, а с пакулля групшыя прадут ніці.* Лука Нараўк.

ТОНЬ I *ж.* Адзін заход з рыбацкай снасцю пры лоўлі рыбы і адзін улоў. *Тонь — заход, зайшлі, працягнулі сетку, выбралі — адну тонь выбралі.* Кураполле Паст.

ТОНЬ II *ж.* 1. Вялікі невад. *Тонь — бальшая сетка.* Старыя Трокі Трак. 2. Частка вуды, лескі. *Тонь — удачкі кусок, лескі.* Жылі Іўеў.

ТО'НЬКА *ж. памянш.* да т о́ н я 4. *Рыба ў тонькі заходзіць.* Беразіно Докш.

ТО'НЯ *ж.* 1. Тое ж, што і т о н ь I. *Які круг закінулі рыбакі, гэта тоня называецца.* Галубы Маст. *Рыбу ловіш, і сколькі выцягніш за адзін рас, кажуць тоня.* Дакудава Лід. *Сколькі тоняў я здзелаў. Закінуў сець і выцягаеш — і тоня.* Збляны Лід. *Сцягнуў тоню і рыбы няма. Сцягнулі дзве-тры тоні.* Саланое Віл. *Раз зацягнуў невадам, ды гэта тоня.* Глівін Барыс. *Тоня, як рыбу цягнуць, але не знаю, точна што.* Рагулішкі Даўг. *Дзве тоні сышлі і мала налавілі.* Лісна В.-Дзв. *Хазяін выйдзіць, некалькі тонь закруціць каля мосту і візець рыбу. Тоні зацягуюць і ловяць рыбу.* Кудзялянцы Шальч. *Пяць тонь невадам нацягаў.* Вецярэвічы Пух. *Займаецца невадам метраў дваццаць-трыццаць, па якой цягнуць неват. Гэта тоня. Тоня — захот с сеткай ці іншай снасцю, тры тані сцягнуў і ні злавіў рыбы.* Мярэцкія Глыб. 2. Глыбокае месца на рацэ ці возеры, дзе закідаецца невад; вір. *Тоня — месца, дзе закідаецца невад зімою альбо летам. У гэтай тоні закінуў неват, гэтая тоня глыбокая, а некаторыя тоні былі мелкія.* Альхоўка Навагр. *На тоні, у глыбокам, не замярзае.* Навасёлкі Свісл. *Тоня — глыбокая месца на Немні.* Збляны Лід.

*Тут плытко, а там тоня. Рыбы многа на тэй тоні.* Стары Свержань Стаўб. 3. Частка возера. *Азяро падзелена на кускі і называецца тоні. Бытінская тоня, там лух на Бытні касілі.* Лісна В.-Дзв. 4. Старарэчышча, затока. *Рака пайшла па другому руслу, а гэта засталося ўбаку — тоня. Тоня — ад ракі адход. У тоні лён мачылі.* Беразіно Докш.

ТО'НЯНЕЧКІ, ТО'НЕНАЧКІ *прым. памяниш.* Тоненькі. *Палатно тонянечкая.* Навасёлкі Лід. *Тоненачкі, худзенькі брыгадзір.* Пацаўшчына Дзятл.

ТО'ПАЦЬ *незак.* 1. *экспр.* Ісці. *А Быкаў з вудай топаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Хадзіць. *Я топаю, але слаба. Топай, бацяя, хоць кала стала, і ён топаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТО'ПЕЛЬНІК *м.* Тапелец. *Два топельнікі сёлета пахавалі, утапіліся.* Кухты Віл.

ТО'ПЕНЬ *ж.* Таптуха. *Топень усодзіць у воду, нагой патопае — і рыба.* Пасека Ст.-Дар.

ТОПЕ'РЭЧКА *прысл.* Цяпер, зараз. *Добрэ вам, молодэжу, топерэчка. Усе обутые ў чэрэвіках, у чобоцях.* Смаляніца Пруж.

ТО'ПІЛЬ *гл.* ТО'ФАЛЬ

ТОПІ'РО, ТОПЫ'РО, ТУПІ'РО *прысл.* Тое ж, што і т о п é р э ч к а. *В лавку сходыла, а топіро дэшш, в городы зроблю.* Сіманавічы Драг. *Топыро ны плачэ.* Дзмітравічы Кам. *Тупіро я косу клыпав.* Радастаў Драг.

ТОПІ'ТІ *незак.* ◊ *В горыэлці топіті* — растрачваць грошы, здароўе ў выніку злоўжывання алкаголем. *Е такіе, што ціелу господарку і здоровіе в горыэлці топят.* Курашэва Чыж.

ТОПІ'ЦІ *гл.* ТАПІ'ЦЬ

ТО'ПКА I *ж.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова тапіць. *Када пачынаецца топка, дым ідзе, дзвер аткрывая.* Масілавічы Сл.

ТО'ПКА II, ТО'ПКО *прысл.* Гразка, вязка. *Топка — граска.* Мярэцкія Глыб. *Топка, ногі вязнуць.* Беразіно Докш. *Ня йдзі, бо там топко, утопісся.* Солы Смарг.

ТО'ПКІ I *прым.* Які выдзяляе многа тлушчу. *Топко сало.* Малахоўцы Бар. *Топка сланіна.* Номікі Бабіц.

ТО'ПКІ II, ТУ'ПКІ *прым.* 1. Гразкі, вязкі. *Там тупко балото.* Малахоўцы Бар. *У нашым возяры берагі топкія.* Ёдлавічы Брасл. *Нарач — топкая возіра, бываюць топкія балоты.* Вузла Мядз. *Топкі, кап неват тануў.* Мыто Лід. *Такоя топкая балота, угрузнеш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тупкае месца на рацэ, дзе купаюцца.* Вострава Маст. 2. Цвёрды. *Тупко дно, не правальваецца. Топкая балота там, дзе не угразніш.* Нізок Уздз. *Тупкая балота, зверху угразнеш, а там цвёрда.* Бакшты Іўеў. *На балоце, дзе грудок, там тупкае месца.* Збляны Лід. *Каля Котры тупко балото, можно прайсці.* Стральцы Гродз. *Дарога тупкая была.* Новіны Нясв.

ТО'ПКІ III толькі *мн.* Цяжар, які прымацоўваецца да рыбалоўнай сеткі, каб яна трымалася на дне і не ўсплывала наверх.

*А знізу да сеткі прывязваліся топкі, зробленыя з гліны, выпаленыя ў печы, кап ні размоклі.* Альхоўка Навагр.

ТО'ПЛЕНІК *м.* Тое ж, што і т а п л і н н і к. *Бярно, якое ідзе на дно ракі,— топленік. У нас топленікаў хватала, цягалі з ракі і будаваліся заборы.* Вецярэвічы Пух.

ТО'ПЛЕНЫ *прым.* Кіпячоны (пра малако). *Топленая малако піў бы і піў.* Азяраны Раг.

ТО'ПЛЯ *ж.* Тое ж, што і т а п о́ л ь. *Топля адна, топлямі усадзілі парк.* Дзяніскавічы Ганц.

ТО'ПНУЦЬ *зак.* Тупнуць. *Як топнуў нагой, як закрычаў!* Саланое Віл.

ТОПОЛІ'НА *ж.* 1. Адно дрэва таполі. *Тополіна вэльмі хутко ростэ.* Курашэва Чыж. 2. *зб.* Зараснік таполі. *Колісь за клунямі мнуо́го тополіны росло.* Курашэва Чыж.

ТОПОРЫ'СКО *гл.* ТАПАРЫ'СКА

ТОПОРЭ'ШЧЭ *н.* Тое ж, што і т а п а р ы́ с к а. *Топорэшчэ побэв.* Дзмітравічы Кам.

ТО'ПСАЦЦА *незак.* Таптацца, хадзіць, выконваючы якую-н. работу. *Мама ў вірандзі топсаіцца.* Ёдлавічы Брасл.

ТОПТУ'ХА *ж. кулін.* Бульбяная каша. *Люблю топтуху ў печ паставіць, каб скарыначка зробілася, а дзеці дак свежую ядзяць.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ТОПЫ'РО *гл.* ТОПІ'РО

ТОПЭ'ТЭ *гл.* ТАПІ'ЦЬ

ТО'ПЯЛЬНІК *м.* Тое ж, што і т а п л і н н і к. *Топяльнік з ракі выцягнуў.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТОР *м.* 1. Дарога. *Дзе шырокі тор, там прыстаўка добрая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тор — выхажаная дарога ці выежджаная.* Масілавічы Сл. 2. Чыгуначны пуць. *Муой дієд робів пры торові до Біельска.* Курашэва Чыж. 3. Каляіна, след. *Калясным торам вада паляцела.* Магуны Паст. *Прашло каляса — астаўся тор.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *tor* 'дарога', *tor kolejowy* 'чыгуначны пуць'.

ТО'РБА *ж.* 1. Торба, кайстра. *Павесіў чалавек торбу на гвоздзіку, у торбі хлеп быў дужа чорны, але дужа пахнючы, з добрай кісьлей — ён з розным зёлачкамі, з зеллям.* Вузла Мядз. *Набраў бы торбу арэхаў.* Альхоўка Навагр. *Еслі з полотна, то торба.* Калясное Міхал. *Набраўшы бадзягі цэлу торбу.* Пльбанцы Ашм. *Торбу тую забралі.* Пацаўшчына Дзятл. *Гонькаю накрывалі каня, а торбу коньскую вешалі каню.* Малахоўцы Бар. 2. Харч, які бралі з сабой. *Я табе торбу ні дам. Пастуху давалі торбу: лусту хлеба і кусочак сала.* Кіралі Шчуч. ▽ *Хто торбу носіць, той есці ня просіць.* Кураполле Паст. *Мая мама казала: «Хто торбу носіць, той есці ня просіць».* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *торба,* польск. *torba* 'тж'.

ТО'РБАЧКА *ж. памянш.* да т о́ р б а 1. *Трэба тые торбачке пашыць свае роботы.* Баброўнікі Гарад.

ТОРГ *м.* Базар. *На торг паедзе.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *tur̃gus* (<старaруск. *търгъ*) 'тж'.

ТОРГ-ТОРГ *выкл.* у знач. *вык.* Пык-мык (пра немагчымасць выразна выказацца). *Я торг-торг — і не знаю, што сказаць.* Саланое Віл.

ТО'РГАЦЬ, ТО'РГАТЫ *незак.* 1. Тузаць, цягнуць. *Торгая мяне за рукаў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Што ты мяне торгаеш!* Каўняны Гродз. *Торгае за сподныцю.* Дзмітравічы Кам. 2. Выцягваць, выпростаць. *Кросна торгалі, як пасхнуць, торгаюць і сцепаюць, бы утрахнуць.* Дзяніскавічы Ганц. 3. *асаб.* і *безас.* Торгаць, пульсаваць з болем. *Мазоль ноччу як начнець торгаць!* Магуны Паст. *Торгая ногу.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТОРК *выкл.* у знач. *вык.* Тыц. *Торк я ў хату, а там крык такій.* Лісна В.-Дзв. *Матка, бывала, мяса есь — торк і мне дась.* Валынцы В.-Дзв.

ТО'РКАЦЬ I *незак.* Тое ж, што і т о́ р г а ц ь 1. *Я его торкаю, торкаю за руку, а ён хоць бы што.* Дзераўное Стаўб.

ТО'РКАЦЬ II *незак.* Засаджваць. *Торкаю у зярод снапы.* Малыя Аўцюкі Калінк. ∇ *Дуп торкалі кругом акон вродзі ат ведзьмы.* Груздава Паст.

**ТО'РНУЦЬ** *зак.* **1. Апусціць, усадзіць у што-н.** *Паліц у мешанку торнула.* Валынцы В.-Дзв. 2. Ткнуць, даць. *У іх ёсць грошы, можа, Марыся торнула яму?* Ёдлавічы Брасл.

ТО'РНЫ *прым.* Пракладзены, уезджаны, утрамбаваны. *Торная дарога бывая і зімой, і летам, як ездзяць па ёй багата. Сцежкі кароўскія ў нізіне, торныя сцежкі.* Азяраны Раг.; *гл.* т о р.

ТОРП I *м.* 1. Застаронак у гумне. *Торп — старана ў гумне.* Быстрыца Астр. *Торп — у амбару адна старана.* Беняконі Воран. 2. Адгароджаная частка гумна, застаронка. *Адзін торп злажыла ў гумне жыта. У гумне было ў нас восім тарпоў: у гэты торп жыта складвалася, у гэты — ячмень, у асобны — авёс.* Солы Смарг. *Раней жыто, авёс, ярына — гэто клалі ў торп, як на дварэ стог.* Валеўка Навагр. *Як высахня збожжа, кладуць на вос і вязуць у гумно і складаюць у торп, тарпа ячменю, аўса, грэчкі, пшаніцы.* Альхоўка Навагр. *У гумне ў нас шэсць тарпоў было, а застаронкаў — два.* Івашкаўцы Смарг. *Торп сена наклаў у гумне.* Малі Астр. *Торп адзін ад сахі да сахі.* Жылі Іўеў. *Высокі торп і нада вашаваць сена. Торп жыта ці два тарпы, наклаў тарпоў збожа. Прыставіў драбіну да тарпа.* Гемзы Шальч. *Цэлую старану тарпоў наклаў.* Бакшты Іўеў. *У гумне накладалі: адзін торп ячменю, торп жыта.* Руднікі Шальч.; *парайн.* літ. *tárpas* 'тж'.

ТОРП II, ТОРФ, ТОРХ *м.* Торф. *Торп капалі, і сажалкі астаюцца.* Ракаўскія Швянч. *Торп капалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Мне яшчэ трэба мяшкоў чатэры торпу забраць.* Лешня Кап. *Як капалі торф, то нашлі грэблю, маставую.* Латыгаль Віл. *Торф капаець.* Кемялішкі Астр. *Торф рэжаць, паляць.* Рыбчына Віл.

*Торф прывезлі.* Відаўцішкі Вільн. *Торх дрэна гарыць.* Саланое Віл.

ТО'РПА, ТО'РФА *ж.* Чорная тарфяная зямля. *У далу зямля чорна, торпа, але не та, што паліш. Торфа — зямля чорная.* Парэчча Гродз.

ТОРТ *м.* Торт. *Кавал торту прынясла.* Малі Астр.

ТО'СНА *прысл.* Млосна. *Аш мне тосна робіцца.* Парэчча Гродз.

ТО'ЎБА *ж.* і *м. экспр.* Непаваротлівы, тоўсты чалавек. *Тоўба ты! Тоўстая падла, не можаш саўладаць з сабой.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *taũbė* (<яўрэйскае імя *Taube*) 'тж'.

ТОЎК *гл.* ТОЛК

ТОЎКАНІ'ЦА, ТОВКАНЫ'ЦЯ *ж.* Тое ж, што і т а ў ч а н і ц а. *Озьмі тоўканіцы хоч у руку.* Смаляніца Пруж. *Грудачкі ў тоўканіцы.* Лука Нараўк. *Пастаўлю на стэл, тоўканіцу еж!* Азарычы Пін. *Зварыла картоплюв, натовкла товканыці.* Дзмітравічы Кам.

ТОЎКА'Ч *гл.* ТАЎКА'Ч І

ТО'ЎЛА *ж. экспр.* Тое ж, што і т о́ ў б а. *Тоўла, гнёпа ты! Ламіна, лом асінавы! Заруганазіцца свякроўка на нявестку і казала: «Тоўла ты!»* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *tūlóti* 'цёпла апранаць'.

ТОЎПЕ'КА-НЕЎМЕ'КА *ж. зневаж.* Непаваротлівая, няўдалая жанчына. *Тоўпека-няўмека ў яго жонка, мучыцца з ёй усё жыццё.* Вецярэвічы Пух.

ТО'ЎПІЦЦА *незак.* 1. Змяшчацца. *Ня тоўпюцца ў хаці.* Саланое Віл. 2. Збірацца, тоўпіцца. *Не тоўпяцца ля вакна.* Азяраны Раг. 3. Ісці клубамі (пра дым). *Дым не тоўпіцца ў вярхнік.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *tilpti* 'тж'.

ТО'ЎСТАЯ, ТО'ЎСТА, ТО'ВСТА, ТАЎСТА'Я *ж.* Цяжарная. *Анця тоўстая ў яго служыла.* Гальшаны Ашм. *Тоўстая баба, скора родзіць ужо.* Збляны Лід. *Яна ўжо тоўста, скора будзя дзіця.* Кіралі Шчуч. *Вона товста.* Дзмітравічы Кам. *Ужо таўстая, у цянжары.* Рыбчына Віл. *Яна таўстая, скоро дзіця прывядзе.* Стральцы Гродз.

ТО'ЎСТЫ, ТАЎСТЫ' *прым.* 1. Поўны, сыты. *Тоўсты, чуць ходзіць.* Міратычы Карэл. *Як гармата, тоўсты.* Бакшты Іўеў. *Таўсты крэпка.* Мярэцкія Глыб. *А яна была таўстая. Таўсты такі быў.* Саланое Віл. *Ніхарошая, натта таўстая.* Рыбчына Віл. *Яна таўстая.* Груздава Паст. 2. Тоўсты. *Тоўстыя былі браўна.* Альхоўцы Лях. *Можна перайсці на той бок, там клатка таўстая.* Вязынка Маладз. *Сосна таўстая.* Ністанішкі Смарг. *Таўстоя дрэва.* Груздава Паст. 3. Тоўсты, тлусты (пра слой сала). *На спіне найбольш тоўстае сала.* Дзяніскавічы Ганц. *Сланіна тоўста.* Крынкі Крын. *Зверху* [у свінні] *таўстая саланіна.* Асавец Віл. 4. Мясісты, мускулісты. *Таўстыя лыткі.* Рыбчына Віл. *Грудзі таўстыя.* Дакудава Лід. 5. Вялікі па памерах. *У апалоніка галава тоўстая, а хвосцік маленькі.* Кіралі Шчуч. *Грузды белыя*

*тоўстыя растуць.* Лісна В.-Дзв. *Адзін канец таўсты і круглы ў боўткі.* Рагулішкі Даўг. *Кінула таўстую косць.* Жодзішкі Смарг. 6. Грубы. *Штобы тоўста напрась, доўга думаць не трэба.* Навікі Лудз. *Тоўстыя ніткі.* Лісна В.-Дзв.

ТО́ЎСТЫ ПА́ЛЕЦ *м.* Вялікі палец. *Тоўсты, або вялікі, палец пабіў.* Ванелевічы Кап.

ТО́ЎСТЫЯ КРУ́ПЫ *мн.* Буйныя ячныя крупы. *З тоўстых круп каша зварана.* Ухвала Круп.

ТО́ЎХАЦЬ *незак.* Пульсаваць. *Кроў у пальцы тоўхая.* Вецярэвічы Пух.

ТО́ФАЛЬ, ТО́ФЕЛЬ, ТО́ФІЛЬ, ТО́ПІЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і т а п о́ л ь. *Тофаль — ні шчопкі, трэшчыны нет.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тофелем пахнець пчельны клей.* Саланое Віл. 2. *зб.* Зараснік тапаляў. *Заросшы кустарнямі магілкі, тофаль зарос.* Ракаўскія Швянч. 3. *зб.* Пупышкі таполя. *Тофаль набраці і заліць воткай — і паляц заліць.* Быстрыца Астр. 4. Тое ж, што і т а ф а л ё ў к а. *Тофіль піў с параным малаком.* Мярэцкія Глыб. *Топіль дужа гоіць.* Валынцы В.-Дзв.

ТО́ХНУЦЬ *незак.* Гінуць ад недахопу паветра. *Рыба тохніць, еслі зіма марозная, снегу многа, у тым азярку рыба заўсігда тохла.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТО́ХТАЦЬ *незак.* Тое ж, што і т о́ ў х а ц ь. *Так, так — я чую, як кроў тохтая.* Гемзы Шальч.

ТО́ЧКА I *ж. біял.* 1. Цечка. *Точка ваўкоў.* Вострава Маст. *Точка ваўкоў — воўчае гулянне.* Масілавічы Сл. 2. у знач. *прысл.* *то́чкаю.* Зграею (у час цечкі). *Точкаю ходзяць ваўкі перад грамніцаю.* Пацаўшчына Дзятл.

ТО́ЧКА II *ж.* Радыёкропка. *Точка не іграіць, усе маўчыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТОЧЫ́ЦІ *гл.* ТАЧЫ́ЦЬ I

ТО́ЧЫШЧА *н. павел.* Тое ж, што і т о к 1, 2. *Точышча — дзе малацілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТО́ШНА *прысл.* Моташна, млосна. *Пад ложачкай тошна.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТО́ШЧА *прысл.* Пуста. *Наском біць нада яйка, пушкай ня нада біць, бо там тошча.* Ракаўскія Швянч. *У торбе і ў сумцы тошча.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *tùščia* 'тж'.

ТО́ШЧЫ *прым.* 1. Парожні, пусты. *Тошчая вядро, ці парожняя.* Солы Смарг. *Баба, ты воду выпіла, тошча вядро, саган тошчы, бяры, налівай. Вядро, цабэрак тошчы, вады няма, пасуда тошчая.* Гемзы Шальч. *Тошчая вядро.* Жодзішкі Смарг. *Жбаночкі тошчыя стаяць.* Саланое Віл. *Тошчы збаночак.* Лісна В.-Дзв. *Тошчае вядро стаіць.* Альхоўцы Лях. 2. Нежылы, пусты. *Тошчая хата стаіць, ніхто не жыве. Хата тошчая.* Альхоўка Навагр. *Калі ніхто ня жывець, то тошчая хата.* Магуны Паст. *Тры хаты тошчыя, тры паразбіралі, а адна стаіць.* Малі Астр. *Тошчы сарай, пустыя куты.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Не заняты. *Тошчы дзіван.* Ністанішкі Смарг. *Лошка тошчая стаіць.* Старыя

Смільгіні Воран. 4. Незапоўнены, пусты. *Тошчая каробачка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тошчая скрыня, усё па мяшочках цяпер. Пляйстры тошчыя зноў застаўляіць хазяін у вулей.* Магуны Паст. *Рой пускаюць у тошчая вульё. Каранёк тошчы ўвесь.* Саланое Віл. *Тошчая вульё, рой пускаюць.* Альхоўка Навагр. 5. Без паклажы, без груза. *Паехаў с тошчым возам.* Лісна В.-Дзв. *Конь калёсы тошчыя ні пацягніць.* Саланое Віл. 6. Галодны, не пад'еўшы. *Тошчая карова — бакі праваліліся, непаеўшая.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Тошчы конь, ні пад'еў.* Рыбчына Віл. *Тошчы — галодны, конь ні пад'еў, саўсём бакі тошчыя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тошчы — галодны, тошчая карова, конь тошчы.* Мярэцкія Глыб. 7. Худы. *Саўсём бакі тошчыя.* Рыбчына Віл. *Карова тошча, як бы ніколі не есць нічога.* Беразіно Докш. *Тошчая карова.* Мярэцкія Глыб. *Тошчы такі, худы.* Альхоўцы Лях. *Тошчы бок у каровы.* Малькуны Ігн. *Тошчая карова саўсём ператашчаўшы.* Рагулішкі Даўг. *Тошчы — худы, сухі.* Азарычы Пін.; *параўн.* літ. *tùščias* 'тж'.

ТРАБУШО'К *м. памянш.* да т р ы б у́ х 1. *Стушыла трабушок, тушоны трабушок.* Мярэцкія Глыб.

ТРАВА' *ж.* Трава, зёлкі, пустазелле. *На жвіры і трава не расце.* Малі Астр. *У нас травой парасло.* Малышы Лід. *Стаў на траве.* Сонічы Гродз. *Па траве лезе выдра.* Вулька Гродз. *Сабіраюць зёлкі лячыць, косяць ня зёлкі, а траву.* Магуны Паст. *Палын — гэта трава.* Талейкі Швянч. *Цяляці травэ прынясла. Віця, дай карове травэ, яна не пад'еўшы.* Кіралі Шчуч. *Гэтых тровэй не называюц.* Парэчча Гродз. *Тровы плоха растуць.* Беразіно Докш. *Тровы усякія есць, адна трава, яна па тровам ходзіць. С троў усе лікарствы, збіраюць тровы.* Саланое Віл. *Мама лячыла травамы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Песні пяець, а гарот травой расцець.* Кураполле Паст. *Разных траваў мая.* Плябанцы Ашм.

ТРАВА'ЛЬНО *прысл.* Сытна. *Травально мяса пад'еўшы.* Альхоўка Навагр.

ТРА'ВАЧКА *ж. памянш.* да т р а в а́. *Усялякая травачка расце.* Дзераўное Стаўб.

ТРА'ВЕР *м.* Прыцэп (у трактары). *Некаму плот вязуць на траверы.* Пацаўшчына Дзятл.

ТРАВІЕ'НЕ *н.* Ператраўліванне, засвойванне. *Кажут, што уголь на травіене помагае.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *trawienie* 'тж'.

ТРАВІНА' *ж.* 1. Асобнае каліва травы. Асавец Віл. *Кажну травіну вырвяш.* Жодзішкі Смарг. *Травіна адна, дзве травіне.* Дзяніскавічы Ганц. *Вырвала травіну.* Крэва Смарг. *Расцець такая травіна, і ўсё.* Саланое Віл. 2. Асобная разнавіднасць травы. *Каждая травіна лякарства.* Плябанцы Ашм.

ТРАВІ'НКА *ж. памянш.* да т р а в і н а́ 1. *Травінка парасла.* Магуны Паст. *Маслянку выпіў, травінку ўзяў і гэтым жывець.* Валынцы В.-Дзв. *Пыляты ядуць траву, каторы ў травінку ўчэпіцца і піракуліцца.* Вузла Мядз.

ТРАВІ'ТІСЕ *незак.* Труціцца. *Одна діевчына травіласе: напіласе ёдыны.* Курашэва Чыж.

ТРАВІ'ЦА *ж. памянш.* да т р а в á. *Падразала травіцу матычкай.* Саланое Віл.

ТРАВІ'ЦКА *ж. памянш.* да т р а в á. *Травіцка ніская.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Я травіцку ўсё парвала.* Валынцы В.-Дзв.

ТРАВІ'ЦЬ I, ТРАВІ'ТІ *незак.* Ператраўляць, засвойваць. *Чалавек стары не травіць.* Гемзы Шальч. *Жолудок чоловіека або звіера травіт едло. Старому жолудок добрэ нэ травіт, тлустого нэ можна есті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *trawić* 'тж'.

ТРАВІ'ЦЬ II *незак.* Атручваць. *Брат мой травіў лісоў.* Цяпінцы Віл.

ТРАВІ'ЦЬ III *незак.* Лячыцца травамі. *Буду сама сябе травіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТРАВЯНЫ' *прым.* Які ўтрымлівае шмат травы, травяны. *Як травяная салома, то есць скот яе.* Азяраны Раг.

ТРАЁХ *зб. ліч.* Трое. *Нас траёх было паехаўшы.* Гемзы Шальч.

ТРАІ' *зб. ліч.* Тры. *Траі тарпін.* Мсцібава Ваўк.

ТРАІ'ЦЬ *незак.* Трэці раз араць. *На зіму траілі. Траілі, гдзе дзерно, гдзе пырнік зарастае.* Відаўцішкі Вільн. ∇ *Хто поле троіць, той хлеб кроіць.* Багушэвічы Бярэз.

ТРАЙГУ' *прысл.* Утрох. *Яны жылі трайгу — дзве сёстры, брат, такія харошыя.* Кіралі Шчуч.

ТРАЙДА' *ж. экспр.* Балбатуха, лапатуха. *Яна гусценька гавора, як трайда.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *traidà* 'тж'.

ТРАЙКО' *н.* Трыко. *Адзень трайко.* Вецярэвічы Пух.

ТРАЙЛА', ТРЭЙЛО', ТРАЛА' *ж.* і *м. экспр.* Балбатуха, лапатуха; балбатун, лапатун. *Трайла — баба, якая балтая.* Старыя Трокі Трак. *Ён трайла такі, хто яго знае. Ходзіць трайла, трыйлочыць.* Старыя Смільгіні Воран. *Трайла трэйліць і трэйліць.* Руднікі Шальч. *Трэйло ты! — хто шмат трэйліць пустое.* Мсцібава Ваўк. *Брэшаш, як трала.* Каўняны Гродз.; *параўн.* літ. *traila* 'тж'.

ТРАЙЛАВА'ТЫ *прым.* Балбатлівы. *Трайла, баба трайлаватая.* Руднікі Шальч.; *гл.* т р а й л á.

ТРАЙЛІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і т р а í ц ь. *Мяшаць пад жыта, трайліць, трэці раз араць.* Кіралі Шчуч.

ТРАЙНІ'К *м. рыб.* Крыга. *У трайніку гегні і сетка, ловяць утрох. Трайнікам ракі ловяць.* Кураполле Паст. *Трайнікам лавілі рыбу, утрох нада лавіць, ззадзі палка і крылы.* Петкуны Брасл. *Я трайнікам лавіла.* Лайпушкі Ігн. *Трайнік — утраіх лавілі, крыга раньшы называлі, па азёрам, дзе можно, лавілі.* Шкаўна Лудз.

ТРАЙНІ'ЛА, ТРАЙНІ'ЛО, ТРАНІ'ЛА *н.* Трайня. *Трайніла ўзадзі воза, яно з двух старон, скрапляе воз, без трайніла вузавалак бы круціўся.* Пацаўшчына Дзятл. *Трайніла ў задняй часці воза.* Збляны Лід. *Трайніла ўсаджваецца ў вузавалак.* Вялікія

Баяры Шчуч. *Трайніла саядзіняя зат і пярот у возя.* Дакудава Лід. *Трайніло ў возе.* Масілавічы Сл. *Траніла саедзіняла вазок.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *trainìlas* 'тж'.

ТРАЙНЯ' I, ТРЭЙНЯ' *ж.* Тое ж, што і т р а й н і л а. *Трайня закрапляя дышаль.* Рыбчына Віл. *Ад трайні да шворня ідзе падшворнік.* Опса Брасл. *Трайня перад і зад злучаець у калёсах.* Беразіно Докш. *Трайня сагнёная, гарбатая.* Лісна В.-Дзв. *Пры заднім масце далжна быць трайня.* Старыя Смільгіні Воран. *Трайня ў возе.* Мярэцкія Глыб. *Трайня праз увесь воз, у трайні вузалаўкі, у вузалаўкі забіваюць ручкі дубовыя. Трайня ў возе злучае пярэдні вузавалак і задні вузавалак.* Альхоўцы Лях. *Трайня накладаецца на дышаль.* Старыя Трокі Трак. *Трайня — па-старынаму называлі, прадоўбана ў падушцы, а не гарбатая, прама ў передняю і задняю падушку.* Скрудалена Даўг. *На вось дзеравянная падушка, патом удоль градкі і трайня.* Мешкінева Лудз. *Трэйня ў цялегі.* Навікі Лудз.; *парайн.* літ. *trainỹs, treĩnė* 'тж'.

ТРАЙНЯ' II *ж.* Трайняты. *Яна трайню радзіла.* Малі Астр.

ТРАЙЦЯ'К *м.* Траціна. *Трайцяк зямлі меў бацько.* Кузьмічы Люб.

ТРАЙЧА'К I *м.* Тое ж, што і т р а й н і к. *Трайчак троя цягалі.* Жодзішкі Смарг.

ТРАЙЧА'К II *м.* Сноп саломы, звязаны з трох кулёў. *С кулёў вяжуць трайчакі і крыюць хату.* Вострава Маст.

ТРАЙЧА'ТКІ *мн. астр.* Стажары. *Далёка, яшчэ рана, і трайчаткі — тры зоркі ратком ідуць, адна каля аднае.* Кіралі Шчуч.

ТРАКЕ'НЯ *ж.* Багна. *Конь у тракеню ўваліўся.* Старое Сяло Зэльв.; *парайн.* літ. *trãkas, trakà* 'багністае месца'.

ТРАКТ, ТРАХТ *м.* Тракт. *Тут убіты тракт до самого сёла вэдэ.* Курашэва Чыж. *Па трахту ехалі.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *trakt* 'тж'.

ТРА'КТАР, ТРА'ХТАР, ТРА'ХТОР *м.* Трактар. *Ужэ трактар пашоў гараць.* Паляцкішкі Воран. *Нада цэлы дзень драгацца на трактары.* Вузла Мядз. *Трактар паламалі.* Лісна В.-Дзв. *Сын сеў на трактар. З раніцы трахтар лапатаў на полі. Каля Барадзіна трахтар лапатаў.* Альхоўка Навагр. *Ці заглушыўшы трахтар?* Стракішкі Трак. *Бульбу садзяць трахтарам.* Кіралі Шчуч. *Трахтар шалыгне ў гразь і ўгразне.* Дзяніскавічы Ганц. *Трахтор поорау усэ поле. На трахторэ сэдзеў.* Смаляніца Пруж. *Трахторы пойдуць і аруць.* Васілевічы Гродз.

ТРАКТАРЫ'СТ, ТРАКТАРЫ'СТА, ТРАКТОРЫ'СТ, ТРАХТАРЫ'СТ *м.* Трактарыст. *Сын наўчыўся трактарыстам.* Ністанішкі Смарг. *Трактарыст на трактары едзе, паша.* Гемзы Шальч. *Ужэ робіць трактарыстам.* Мсцібава Ваўк. *Ест свідзецельства трактарыста.* Вулька Гродз. *Трактарыста ўкалтунеўшы стаяў.* Крэва Смарг. *Будэ за якого тракторыста.* Дзмітравічы Кам. *Ён быў трахтарыстам.* Лысавічы Мін. *Адзін трахтарыстам рабіў.* Саланое Віл.

ТРАКТАРЫ'СТЫ, ТРАХТАРЫ'СТЫ *м.* Тое ж, што і т р а к т а р ы́ с т. *Наш сын трактарысты, робіць на трактары.* Кіралі Шчуч. *Прыехаў трактарысты.* Граўжышкі Ашм. *Ён трактарысты.* Вецярэвічы Пух. *Ён там за трактарыстага.* Груздава Паст. *Вучыўся за трактарыстага, у калхозі трактарыстыя многа палучаюць.* Старыя Трокі Трак. *Трактарыстыя булі прышлі.* Пасека Ст.-Дар. *Вучыўся ў вучылішчы за трахтарыстага.* Вострава Маст. *Трахтарыстыя і камбанёры очэнь многа зарабляюць.* Гемзы Шальч.

ТРАЛА' *гл.* ТРАЙЛА'

ТРА'ЛЯ *ж.* Жанчына, якая трэ лён. *Траля трэ лён.* Вострава Маст.

ТРАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Вывозіць бярвенне з лесу. *Калхос будзя траляваць дрэва.* Лісна В.-Дзв. *Лес тралююць — вывозяць, траляваць — з лесу вывозіць на адно месца, каб добра было браць.* Паляцкішкі Воран. *Траляваць сталі лес.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На рум егдзілі мы лес траляваць.* Крэва Смарг.

ТРАМ, ТРАН *м.* Трама. *Трам дзержыць папярочную бэльку.* Малахоўцы Бар. *Тран — глаўна балка ў хаці.* Альхоўцы Лях. *Падоўжанае бервяно пад папярочныя — тран.* Масілавічы Сл. *Тран — балька папярочная.* Альхоўцы Лях. *Пат столяй тран, чэсана бервяно, удоўш клалася, лапці сушыліся, анучы.* Гальшаны Ашм.; *парайн.* польск. *tram* 'тж'.

ТРА'МА *ж.* Тое ж, што і т р а м. *Трама — апорная бэлька.* Мсцібава Ваўк. *Трама — бэлька і дзірка пад бэлькай.* Вецярэвічы Пух.

ТРАМАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Мігацець. *Трамацяць зоры на марос.* Мсцібава Ваўк. 2. Зззяць. *Трамаціць на ім усе — гэта адзеты хораша, усё на ім такое харошае.* Нізок Уздз.

ТРАМБАВА'ЦЬ *незак.* Шчыльна ўкладваць, закладваць прыціскаючы. *Пчолы ў ячэйкі трамбуюць пяргу.* Вецярэвічы Пух.

ТРАМЗА' *ж.* Тое ж, што і т р а й д а́. *Мална, лапатуха, трамза! Страмціць, што і слухаць няма чаго.* Крэва Смарг.

ТРА'МСІКІ *мн. памянш.* да т р а́ м с ы. *Парваліся штаны, толькі трамсікі асталіся.* Вецярэвічы Пух.

ТРА'МСЫ *мн.* Лахманы, рызманы, транты. *Трамсы свае паказвала.* Вецярэвічы Пух.

ТРАМЦЕ'ЦЬ I *незак.* Бражджаць. *Бітая пасуда трамціць, як пастукаеш, яна трамціць.* Кіралі Шчуч.

ТРАМЦЕ'ЦЬ II *незак.* Пакрывацца пухірамі, зудзець, пячы. *Рукі трамцяць ад крапівы.* Альхоўка Навагр.

ТРАН I *гл.* ТРАМ

ТРАН II *м.* Рыбін тлушч. *Мазаяцца транам.* Граўжышкі Ашм. *Транам мажаць струпы.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *tran* 'тж'.

ТРАНАВА'Я МАЦЬ *ж. пчал.* Матка, якая адкладвае чарву,

з якой выводзяцца трутні. Груздава Паст.; *параўн.* літ. *tranìnė mótina* 'тж'.

ТРА'НДЫ *гл.* ТРА'НТЫ

ТРАНІ'ЛА *гл.* ТРАЙНІ'ЛА

ТРА'ННЯ *н.* Дзеянне паводле дзеяслова *церці*. *Пасля трання чэшуць на жалезную шчотку лён.* Стральцы Гродз.

ТРАНСА'ВА *ж.* Тое ж, што і т р а к е́ н я. *Трансава там, не уваліся.* Новікі Гродз. *Не праганяй бліско да трансавы кароў, бо заваліцца.* Баброўнікі Гарад.

ТРАНСАВІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і т р а к е́ н я. *У райстах трансавіца, карову не ўзгоніш на трансавіцу.* Руднікі Шальч.; *параўн.* польск. *trzęsawisko* 'тж'.

ТРАНСА'ВЫ *прым.* Дрыгвяны. *Трансавыя балоты.* Вострава Маст.

ТРАНТЛІ'ВЫ *прым.* Смярдзючы. *Сільна трантліва самагонка.* Магуны Паст.

ТРА'НТЫ, ТРА'НДЫ *мн.* Лахманы. *Каму патрэбныя яго транты смярдзячыя?* Пацаўшчына Дзятл. *У трандах не ходзіць.* Грыкені Вільн.

ТРА'НШПАРТ *м.* Транспарт. *На траншпарці рабіў.* Кукарава Бярэз.

ТРАПА'ЙЛО *н.* Прылада, якой трэплюць лён; трапальня. *Трапайло трымаецца ў руках і трэпецца лён.* Баброўнікі Гарад.

ТРАПА'К I *м.* Падстаўка, якая выкарыстоўваецца пры трапанні льну. *Трапак — доска, куды ложаць жменю, доска, удоўбаная ў калодачку.* Гемзы Шальч.

ТРАПА'К II *м. с.-г.* Драпак. *Баранілі, патом трапаком. Пад трапак пару коней нада.* Істра Лудз. *Трапак — сем зубоў, валік, палкі жалезныя, круглыя валікі.* Петкуны Брасл.

ТРАПА'К III *м. экспр.* Балбатун, лапатун. *Ой, трапак ён велькі.* Гемзы Шальч.

ТРАПАКІ' *мн.* Стаптаныя чаравікі. *Благія зношаныя бацінкі называлі трапакі.* Крэва Смарг.

ТРАПА'ЛКА *ж.* Тое ж, што і т р а п а́ й л о. *Трапалка — што лён трапаць, трэпяць трапалкай.* Лайпушкі Ігн.

ТРАПА'ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая трэпле лён. *Трапальніца якая з яе!* Рудня Астравітая Чэрв. *Будзем лён трапаць, нада ісці па трапальніцы.* Кіралі Шчуч. *Трапальніца трапала лён.* Навасёлкі Лід.

ТРАПА'ЛЬНЯ I *ж.* Тое ж, што і т р а п а́ к I. *У калодку ўбіта доска, называют трапальня, часом кадлубкі бралі, на іх трэплют.* Лука Нараўк.

ТРАПА'ЛЬНЯ II *ж.* Тое ж, што і т р а п а́ л ь н і ц а. *Трапальні лён трэплюць.* Старыя Смільгіні Воран.

ТРАПА'ЛЬШЧЫЦА *ж.* Тое ж, што і т р а п а́ л ь н і ц а. *Трапальшчыцы трэплюць лён.* Гемзы Шальч. *Трапальшчыцы пошлі трапаць ілну.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТРАПА'ННЯ, ТРАПА'НЯ, ТРАПА'НЁ *н.* Трапанне. Дзеянне

паводле значэння дзеяслова *трапа́ць 1. Якое тваё трапання!* Мярэцкія Глыб. *Лён падгатовілі да трапаня. Якоя тваё трапаня, ты больш ручку* [*лёну*] *зб'еш да пальца.* Кіралі Шчуч. *Якое тваё трапаня, што ты натрапала!* Ёдлавічы Брасл. *Ну, якоя тваё трапанё!* Старыя Смільгіні Воран.

ТРАПАНУ'ЦЬ *незак экспр.* Ударыць. *Ён яго ў морду трапануў.* Гемзы Шальч.

ТРАПА'НЫ *дзеепрым.* Трапаны. *Трапаны лён звязвая.* Збляны Лід.

ТРАПАТА'ЦЦА *незак.* Дрыжаць, калаціцца, узбуджацца, напрагацца. *Нервы ўсе трапочуцца.* Беразіно Докш.

ТРАПАТЫ'Н *м.* Тое ж, што і т а р п а т ы́ н. *Чоп быў бальшы на смалярні, гналі трапатын, чоп для халаджэння быў.* Жодзішкі Смарг.

ТРАПА'ЦЬ, ТРЯПА'ЦЬ, ТРЭПА'ЦІ, ТРЭПА'ТІ *незак.* 1. Трапаць, ачышчаць. *Як трапалі, то выбівалі кастрыцу, і атрэп'е выбівалася.* Дзераўное Стаўб. *Адну жменю ільну бяруць і трэплюць.* Навасёлкі Лід. *Баба на стоўпчык трэпе лён.* Збляны Лід. *Тэраз лён трапалі.* Грыкені Вільн. *Трапачкамі трапалі.* Васілевічы Гродз. *Цёрлі лён, потым трапалі трапачкай.* Канюкай Вільн. *Буду лён трапаць.* Кіралі Шчуч. *У зімнюю пару лён трапаць добра.* Навікі Лудз. *Лён трапу.* Паляцкішкі Воран. *Трэпе лён.* Беняконі Воран. *Трэпім, чэшым лён.* Старыя Смільгіні Воран. *Лён трапаюць, а тады чэшуць.* Стракішкі Трак. *Лён трапаяць — дулька сыпіцца.* Малі Астр. *І трапала, і ціснула лён.* Гальшаны Ашм. *Трэба трэпаці лён, я трэп'ю і вона трэп'е.* Смаляніца Пруж. *Лён впэруч тэрлі на тэрніці, послі трэпалі найчастіей на ступі, потуом чэсалі на шчуотці.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *trzepać* 'тж'. 2. Вастрыць бруском, мянташкай. *Касу ня ўмела трапаць.* Рагулішкі Даўг. 3. *перан.* Гаварыць недарэчнасці. *Не тряплі абы-што.* Мішневічы Шум. *Вот чакірда, трэпіш абы-што.* Малі Астр. *Трэпліць абы-што.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Трэпля языком.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трэпляць языком.* Магуны Паст. *Дык ты языкам трапі, а рукам волю не давай.* Валеўка Навагр. ∇ *Трэпля языком, як сука хвастом.* Кіралі Шчуч.

ТРАПА'Ч *м.* Трапальшчык. *У нас мушчыны трапалі лён, мой бацька трапаў лён, бабы не трапалі, хадзіў трапач і трапаў.* Валынцы В.-Дзв.

ТРАПА'ЧКА I *ж.* Мянташка. *Дай трапачку памяньціць касу.* Вязынка Маладз.

ТРАПА'ЧКА II, ТРЭПА'ЧКА *ж.* 1. Тое ж, што і т р а п а́ й л о. *Трапло і трапачка — такая лапатачка, трапалі лён.* Дзераўное Стаўб. *Трапачкай трапалі.* Гемзы Шальч. *Былі трапачкі, як лапата длінная, выбіваць кастру.* Опса Брасл. *Трапачкай трапалі лён.* Лісна В.-Дзв. *Трапачка лён трэпле.* Мярэцкія Глыб., Беразіно Докш. *Трапачкай трэплюць лён.* Беняконі Воран. *Трэплям лён трапачкай.* Дакудава Лід. *Была дзеравяная трапачка, лён*

*трапалі.* Новыя Мацалі Варэн. *Лён трэпяць трапачкай.* Магуны Паст. *Трапло — гэто ўсё, а трапачка — чым лён трэпіш.* Быстрыца Астр. *Трапачка лён трапаць.* Кіралі Шчуч. *Трапачка — дошчачка для трапання ільну.* Солы Смарг. *Былі трапачкі, лён трэпуць.* Грыкені Вільн. *Трапачка стаіць на зямле.* Баброўнікі Гарад. *Трапачка ест лён трапаць.* Парэчча Гродз. *Трапачка з доскі зроблена, лён трапаць.* Збляны Лід. *Трапачкай трапаяць лён.* Старыя Трокі Трак. *Лён трэплют трапачкай.* Лука Нараўк. *Трапачка лён трапаць.* Мельнікі Лудз. *Трэпачкай лён трэплюць.* Мішневічы Шум. *Лён потрэп'ют трэпачкамі.* Горск Бяроз. *Трэпачкою лён трэплют.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *trzepaczka* 'тж'. 2. *перан.* Тое ж, што і т р а й д а́. *Ожэнівсе с такою трэпачкою.* Курашэва Чыж.

ТРА'ПАШНІК *м.* Анучнік. *Трапашнік сабіраў рыззя.* Азяраны Раг.

ТРАПА'ШЧЫЦЬ *незак.* Мянціць. *Касу трэба трапашчыць.* Мачаск Бярэз.

ТРАП'Ё' *зб. н.* Рыззё. *Трап'я многа назбіралася.* Саланое Віл. *Трап'ё падзяруць, ходнікі выткуць. Парвала трап'ё ў дрыст* [нашчэнт] *і кінула.* Кіралі Шчуч.

ТРАПІ'НА *ж.* Сцяжына. *Трапіна ў траве.* Багушэвічы Бярэз.

ТРА'ПІЦЬ, ТРА'ФІЦЬ, ТРОПІ'ТІ *незак.* 1. Знайсці. *Дзе-нібуць трафіце малако.* Солы Смарг. 2. Папасці, трапіць. *Яна не трапіць адна да хаты.* Кіралі Шчуч. *Ходзя па полі, да хаты не трапе.* Гемзы Шальч. *Паедзе — не трапіць у Баранавічы.* Валеўка Навагр. 3. Напаткаць, папасці. *Пуля мяне не трафіла, а другіх — параніла.* Малі Астр. 4. Высочваць, асочваць. *У борові лісы мают свое норы, але ліса тропіті нэ е лёко.* Курашэва Чыж. 5. Дагаджаць, наравіць. *Я табе ні траплю розак нарэзаць.* Багушэвічы Бярэз. 6. Магчы. *Я б ні трапіла з ім жыць.* Багушэвічы Бярэз. *Ён не трафіў з маткаю жыць.* Валынцы В.-Дзв. ▽ *Каса на камянь трапе — будуцьката дзерці* [пра тых, хто сварыцца, не ўступае адзін другому]. Малі Астр.; *параўн.* польск. *trafić* 'тж'.

ТРАПІ'ЧНІК *м.* Тое ж, што і т р а п а́ ш н і к. *Трапічнік на трапкі прадаваў мыла, іголкі, спічкі.* Вузла Мядз.

ТРА'ПКА *ж.* Ануча. *С трапак ткуць ходнікі.* Солы Смарг. *Палавікі с трапык ткалі.* Навікі Лудз.

ТРАПКА'ЦЕНЬКІ *прым.* Растрапаны, растапыраны (у розныя бакі). *Венікі рабілі трапкаценькія.* Баброўнікі Гарад.

ТРАПКА'Ч *м.* 1. Ручнік з доўгімі махрамі. *Адрэжа палатна кусочак, выціраць рукі. Гэта — трапкач.* Пацаўшчына Дзятл. *Трапкач з палатна.* Беразіно Докш. *Была ў мяне бабушка, расцілаюць трапкач, высыпаюць картошку і ядзяць с трапкача.* Малышы Лід. *Трапкачэ з канцоў робяцца. Трапкачом абцерці што-небуць, сцерці са стала.* Малахоўцы Бар. *Трапкач, дзе ніткі патрэпаныя.* Лука Нараўк. *Трапкач — рушнік з канцоў па-*

*латна.* Тухавічы Лях. *Некалі былі трапкачэ, накрывалі хлеп.* Дзяніскавічы Ганц. *Я табе зараз трапкачом!* Ухвала Круп. *Трапкач для пасуды; трэш і датыкаеш, пасленне аткруціш, а потым папляцеш пляцёнкі, трапкач з пасledняга.* Мачаск Бярэз. *Трапкач з канцоў палатна. Трапкач з махрамі. Трапкач — адрэзаныя канцы асновы красён, дам трапкача дзецям.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Махры, вытрапаныя ніткі. *Трапкачэ ў спадніцы.* Баброўнікі Гарад.

ТРАПКА'ЧЫК *м. памянш.* да т р а п к а́ ч 2. *Суравенныя трапкачыкі вісяць.* Азяраны Раг.

ТРАПЛАВА'ТЫ *прым.* Які любіць гаварыць недарэчнасці. *Бацька трапласаты, кажа «таптуха» на жонку. Траплаваты быў кавалер.* Малі Астр.

ТРАПЛО' *н.* Тое ж, што і т р а п а́ й л о. *Траплы маям, зроблены з доскаў: трапло — гэто ўсё, а трапачка — чым трэпім.* Быстрыца Астр. *Траплом трапалі лён.* Вузла Мядз. *Трапалі лён траплом, тропаны лён аддавалі гасударству.* Яніна В.-Дзв. *Гладкае трапло і трапачка, трапалі лён.* Дзераўное Стаўб. *Трапло было трапаць лён.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Траплом трэплям, атлятая атрэп'я, кастрыца.* Буда Уздз. *Трапло — чым трэплюць.* Дзяніскавічы Ганц., Рудня Астравітая Чэрв. *У трапле ручка дзяржацца войстрая.* Беразіно Докш. *Трапло было, такая дошчачка і ручачка, трапалі лён, кастра выбівалася.* Латыгаль Віл. *Троплямі трапалі з генціны.* Гайна Лаг.

ТРАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Пасяваць, бываць, з усім спраўляцца. *Мне, дзеткі, восімдзісят, а ёй пяцьдзесят гот з лішнім, дык яна ўсюды трапляець.* Жукоўні Астр.; *параўн.* польск. *trafić* 'тж'.

ТРАПНІ'К *м.* Тое ж, што і т р а п к а́ ч 1. *Трапнік буў, у канцы брызгуле ў трапніку.* Парэчча Гродз.

ТРА'ПНЫ *прым.* Жвавы, спрытны. *Адна баба трапная, а ў другой толькі дно закрыта, як пойдуць па ягады.* Валеўка Навагр.

ТРАПУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і т р а п а́ ч к а II, 1. *Трапушка — чым трапалі лён.* Альхоўцы Лях. *Трапушкаю лён трэплям.* Малахоўцы Бар.

ТРАПЯЛЦО' *н. памянш.* да т р а п л о́. *Трапялцом ачышчаім лён.* Саланое Віл.

ТРАПЯСТА'ЦЦА *незак.* Кідацца, старацца зрабіць усё з апошніх сіл. *Чаго так трапястацца? Ня можаш — не рабі, хваціць хлеба, малака хваціць.* Парэчча Гродз.

ТРАПЯТУ'ХІ *мн. кулін.* Печыва з цёртай бульбы. *Трапятухі — к куцці яда з таркаванай картоплі.* Дзяніскавічы Ганц.

ТРАПЯТУ'ШКІ *мн. памянш.* да т р а п я т у́ х і. *Натаркуем картоплі, атціснем яе і робім трапятушкі, кладом на бляху і ў печ стаўляем, кладом у чыгуньчык, а после сем'я стаўком, у вадзе разводзім, цыбулькі ўкрышым, заліваем і ставіцца ў печ, каб яны ўпараліса, вымаюць з печы і ядуць.* Дзяніскавічы Ганц.

ТРАСАГУ'ЗКА *ж. заал.* Сітаўка. *Трасагузка ходзіць там,*

*дзе сена скосяць.* Валеўка Навагр.; *параўн.* руск. *трясогузка* 'тж'.

ТРАСА'ЛКА *ж.* Частка бульбаўборачнага камбайна. Дзераўное Стаўб.

ТРАСАНУ'ЦЬ *зак.* Трасануць, стрэсці. *Зачэпім лейцы і трасану рой у раёўку.* Саланое Віл.

ТРАСА'ЦЬ *незак.* Трэсці. *І знова трасаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТРАСЕ'ЛЬШЧЫК *м.* Той, хто трасе гной. *Трасельшчыкі пашлі трэсці гной. Трасельшчыкі трасуць гной.* Гемзы Шальч.

ТРАСЕ'ННІЦА, ТРАСЕ'НІЦА, ТРАСЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая растрасае гной. *Трасенніца трасе гной.* Мярэцкія Глыб. *Трасеніцы трасуць гной.* Валынцы В.-Дзв. *Трасельніцы трэслі гной.* Старыя Смільгіні Воран.

ТРАСЁНКА *ж.* Трасянка. *Трасёнку дзелалі каровам: сена с саломай, раньшэ лашадзей берaглі.* Пасіене Лудз.

ТРАСКА' *зб. ж.* Дранка. *Страха бывая саламянная, з гонты, з траскі.* Асавец Віл. *Даўная траска хату крыць.* Саланое Віл.

ТРАСКА'ЛКІ, ТРАСКА'ЎКІ *гл.* ТРУСКА'ЎКІ

ТРАСКАНІ'НА *ж.* Траскатня. *Што дзелая гэта трасканіна!* Азяраны Раг.

ТРАСКАНЯ' I *ж.* Тое ж, што і т р а с к а н і н а. *Чую — трасканя на гарэ.* Кураполле Паст.

ТРАСКАНЯ' II *ж.* Журба, смутак, маркота. *Якая недагаднасць, трасканя!* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *troska* 'клопат'.

ТРАСКЕ' *гл.* ТРЭ'СКІ

ТРАСНІ'К, ТРО'СНІК, ТРЫСНІ'К, ТРЭСНІ'К *м. бат.* Чарот. *Траснікам стрэхі крылі.* Беразіно Докш. *Траснік у нас каля ракі расце.* Глівін Барыс. *Траснік жала ды крыла страху, расце на азёрах.* Белы Бераг Іўеў. *Траснік на балоце.* Мярэцкія Глыб. *Траснік на сечку прывозілі і стрэхі ім крылі.* Альхоўцы Лях. *Троснік на балоце расце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нарос адзін трыснік, мяцёлку пускаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Трыснік на балоце.* Лайпушкі Ігн. *Трэснік на балоце расцець.* Пасіене Лудз.

ТРАСНЯ'Г, ТРАСНЯ'К, ТРАСНЯ'Х, ТРЫСНЯ'Г, ТРЫСНЯ'К, ТРЫСНЯ'Х, ТРЫСНЁГ, ТРЫСНЁХ *м.* 1. Тое ж, што і т р а с н і к. *Шмат траснягу ў возяры.* Альхоўка Навагр. *Траснягом стрэхі крылі.* Солы Смарг. *Трасняку ўкосіць.* Міратычы Карэл. *На трасняку мяцёлачка цёмная, у балоце расце.* Гемзы Шальч. *Траснях у возяры.* Альхоўцы Лях. *Трыснягу скаціна ня есь.* Рыбчына Віл. *Трысняк расце на райстах.* Руднікі Шальч. *Трыснях з мяцёлачкай.* Жодзішкі Смарг. *Трыснягу накасіў.* Мярэцкія Глыб. *Трыснёх ля балот, нарэзаў яго дах крыць.* Рыбчына Віл. 2. *бат.* Рагоз. *Трыснях — на ім булаўкі, з іх падушкі дзелаюць.* Солы Смарг.

ТРАСО'ТНІК *м.* Месца на двары, дзе сякуць дровы. *Трасотнік — дзе дровы шчапаюць. На трасотніку дровы напілаваны,*

*там тапор ляжыць.* Ёдлавічы Брасл. *Трасотнік — дзе трэскі. Дрывотня тое ж, што і трасотнік, шчапалі дровы.* Саланое Віл. *Трасотнік трэба пачысціць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТРАСО'ЧНІК *м.* Тое ж, што і т р а с о́ т н і к. *Трасочнік, там смецце сыплюць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТРАСТА' *ж.* Тое ж, што і д р а́ н к а. *Трасты з Докшыц прывес.* Саланое Віл.

ТРАСТКА' *ж.* Асобная пласцінка ў бёрдзе, трысціна. *Трастка ў бёрдах.* Лука Нараўк.

ТРАСТЫ' *гл.* ТРАСЦІ'

ТРАСУ'ШКА *ж. заал.* Сітаўка, пліска. *Трасушка — шара, з доўгім хвастом, больша ад яскулкі.* Баброўнікі Гарад.

ТРАСУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Дрыгвяністы, багністы. *Трасушча балота, дзе лух, там багон, куп'е, не ступіш там.* Вострава Маст.

ТРА'СЦА, ТРЯ'СЦА *ж. мед.* Малярыя. *У войну і на трасцу захварэла, ледзве вычухалася.* Пацаўшчына Дзятл. *Трасца трасець.* Саланое Віл. *Трасца трасець чалавека.* Малькуны Ігн. *Усяго трасца трэсла, такую балезню меў.* Гемзы Шальч. *Яе трасца схваціла.* Кураполле Паст. *Трасца калоця.* Мачаск Бярэз. *Трасца трасе, рады німа.* Кіралі Шчуч. *Трасца трасе.* Рыбчына Віл. *Трясца трясе.* Мішневічы Шум. ◇ *Трасцу найсці* — не знайсці нічога. *Сам-та, гат, трасцу п нашоў, бо дзе яны знаюць, якія дарогі ці што.* Скрыль Пух.

ТРАСЦЁ I, ТРАСЦЕ', ТРЫСЦЁ *зб. н.* Тое ж, што і т р а с т к а́. *Раньша трасцё было дзяравяная. Трасцё ў бёрдзя.* Малахоўцы Бар. *У бёрдзе трасце.* Дзяніскавічы Ганц. *Трысцё ў бёрдзе.* Валынцы В.-Дзв. *Трысцё рабілі с клёну.* Саланое Віл. *У бердзе пруцікі ўверсе і ўнізе і такое трысцё.* Кухты Віл. *У бёрдзе было трысцё.* Цяпінцы Віл. *Трысцё драўляная.* Магуны Паст.

ТРАСЦЁ II *зб. н.* Тое ж, што і т р а с н і к. *Трасця ўкосіць.* Міратычы Карэл. *Трасцё ля балот.* Саланое Віл.

ТРАСЦІ', ТРАСТЫ', ТРЯСТІ', ТРЭСЦІ', ТРЭСЦЬ, ТРЭСЬ *незак.* 1. Растрасаць, растрэсваць. *Былі драўляныя вілы пошар каровам трасці.* Вузла Мядз. *Як зложаць сыраватая сена — трасуць і сушаць.* Лісна В.-Дзв. *Трэсла сена.* Паляцкішкі Воран. *Трасці тыля сена не мецьмеця часу.* Навасёлкі Свісл. *Вын трасэ солому.* Дзмітравічы Кам. 2. Перамешваць сена з саломай. *Трэба трэсці трасянку.* Лісна В.-Дзв. *Трасем трасянку.* Старое Сяло Зэльв. *Нада страсці трасянкі каровам — траслі віламі салому з сенам.* Вузла Мядз. *Трасянку трасе.* Міратычы Карэл. *Трасці трасянку.* Мярэцкія Глыб. *Дзеравянымі віламі салому траслі, палка на два сука раздваіўшысь.* Рагулішкі Даўг. *Буду трасянку трэсць.* Жылі Іўеў. 3. Выбіраць роўную салому для кулёў. *Кулі трасці трэба.* Саланое Віл. *Трасуць куле саломы водзіка.* Кіралі Шчуч. *Салому трэба трэсць* [на кулі]. Старыя Смільгіні Воран. 4. Падсцілаць (у хляве). *Дужа німа чым трасці ў хляве.* Рагулішкі Даўг. 5. Разбіваць, трэсці (пра гной). *Трасці гной і я хадзіла.* Парэчча Гродз. *Гной трасець ён, карову*

*эоіць, цёлку поіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гной трасці.* Мярэцкія Глыб. *Гэтымі днямі будзім гной трасці.* Ністанішкі Смарг. *Гной трэба трасці.* Паляцкішкі Воран. *Гной трасла, разбівала.* Рыбчына Віл. *Пашоў гной трэсці.* Чуркі Ашм. *Чаго ты сядзіш у хаця, трэба гной трэсці.* Жылі Іўеў. 6. Ачышчаць ад кастрыцы. *Траслі валакно.* Грыкені Вільн. 7. Зрываць, трасучы. *А якоя ты меў права яблыну маю трасці?* Ністанішкі Смарг. 8. Пустошыць, спаражняць. *Пашоў Панас каробачкі трэсці.* Вецярэвічы Пух. 9. Выбіраць з сеткі. *Пайду рыбу трэсці.* Бакшты Іўеў. 10. Рабіць вобыск. *Немцы пачалі нас трасці.* Саланое Віл. 11. *безас.* Калаціць, трэсці (у час хваробы). *Стала трасці яе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мяне ні трасло, толькі галава балела.* Рагулішкі Даўг. *Мяне трасло.* Альхоўка Навагр. *Трасца трасець.* Ухвала Круп. *Тые года, як я была молодая, шухля трасла.* Смаляніца Пруж. 12. *перан.* Біць. *За што ён майго дзяцьку трасець!* Вузла Мядз. ∇ *Кап цябе трасло, гультай!* Вострава Маст.

ТРАСЦІНА′ I, ТРО′СЦІНА *ж.* Тое ж, што і т р а с т к á. *Трасціна ў бёрдзе.* Беняконі Воран. *Трасціна ў бёрдах.* Крэва Смарг. *Адна трасціна ў бёрдзе паламалася.* Валынцы В.-Дзв. *Трасціна ў бердах.* Малышы Лід. *Адна трасціна ў бёрдзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Пакіняш тросціну, ні ўвядзеш нітку, вот і блізна.* Быстрыца Астр.

ТРАСЦІНА′ II, ТРОСТІ′НА, ТРЫСЦІНА′, ТРЭСЦІНА′ *ж.* Тое ж, што і т р а с н í к. *Трасціна калышыцца на вятру.* Альхоўцы Лях. *Трасцінаю, што каля рэчкі есь, выбіваюць.* Баброўнікі Гарад. *У лузе дужо тростіны ростэ.* Курашэва Чыж. *Трысціна ў балоце.* Саланое Віл. *Трэсціна ў рэчцы расце.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *trzcina* 'тж'.

ТРАСЦІ′НКА *ж. памянш.* да т р а с ц í н á I. *Трасцінкі ў бердах.* Дакудава Лід. *Трасцінкі, як грэбянь.* Малахоўцы Бар. *Адна пасма — трыццаць трасцінкаў у бердзе.* Васілевічы Гродз. *З дзерава пароблены трасцінкі, трасцінкі ў бёрдзе.* Альхоўцы Лях. *Каля каждай трасцінкі кідаеш ніці ў бердо.* Баброўнікі Гарад.

ТРАСЦІНО′ВЫ *прым.* Зроблены з асобных пласцінак. *Бёрдо трасціново, з дзерава трасцінкі.* Альхоўцы Лях. *Трасціновыя берда калісь былі.* Баброўнікі Гарад.

ТРАСЦІ′СЯ *гл.* ТРЭ′СЦІСЯ

ТРАСЦІ′ЦЬ *гл.* ТРЫСЦІ′ЦЬ

ТРАСЦЯВЫ′ *прым.* Тое ж, што і т р а с ц і н ó в ы. *Берда было трасцявое, было і стальное.* Дзераўное Стаўб. *Трасцявоя берда было.* Кіралі Шчуч.

ТРАСЯ′НКА, ТРАСЯ′НЬКА, ТРУСЯ′НКА *ж.* Трасянка, корм, прыгатаваны з сумесі саломы з сенам. *Нада трасянку трасці.* Валынцы В.-Дзв. *Трасянку мяшаюць.* Навасёлкі Лід. *Ідзі натрасі трасянку карове.* Ёдлавічы Брасл. *Трасянкі занясі карове.* Беразіно Докш. *Трасянкі натрос.* Вострава Маст. *Трасянку траслі: разам сена і салому, віламі траслі.* Пацаўшчына Дзятл.

*Трасянка — гэта сена і салома.* Івашкаўцы Смарг. *Трасянку занесла каровя.* Жодзішкі Смарг. *Давалі каровам трасянку.* Малі Астр. *Нада трасянкі каровам страсці.* Груздава Паст. *Трасянка для каровы. Натрасі трасянкі, пласток зробіцца і даецца карові.* Альхоўцы Лях. *Трасянка — сена, салома і страсеца.* Чуркі Ашм. *Трасянка — смесь сена і саломы.* Малахоўцы Бар. *Трасянка — зімой у салому ўтрасуць сена.* Гайна Лаг. *Трасянку носяць у рэзьгінях.* Кудзялянцы Шальч. *Гэта дзеравяныя вілы — трасянку трасці.* Івашкаўцы Смарг. *Некалі траслі трасянку — салому з сенам.* Дзяніскавічы Ганц. *Трасянку трэслі карове.* Гемзы Шальч. *Трасянку страсалі с саломы і сена і тапер страсают.* Рагулішкі Даўг. *Траслі сена з саломай — гэта трасянка.* Старыя Трокі Трак. *Трасянка с сена і саломы.* Лука Нараўк. *Ідзі страсі трасянькі і дай каровя.* Кіралі Шчуч. *Трасянькі траслі.* Вострава Маст. *Нада трусянку трасці.* Асавец Віл.

ТРАТАВА'Р *м.* Тратуар. *Ідзём тратаварам, дзяўчата напярадзя, а мы крыху ззаду.* Строчыцы Мін.

ТРА'ЎКА *ж. памянш.* да т р а в á. *Траўка маленька.* Дзяніскавічы Ганц.

ТРАЎЛЕ'ННЕ *н.* Атрута. *Чэрві папрывыкалі да ўсяга, да гэтага траўлення.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *отравление* 'атручванне'.

ТРАЎЛЯНЫ' *прым.* Зарослы травой. *Дзе траўляны авёс, на каленчыках жала.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТРАФІЕ'Й *м.* Аказія. *Мніе такі трафіей попавсе: за сто злоты на базары чэрэвікі купів.* Курашэва Чыж.

ТРА'ФІЦЬ *гл.* ТРА'ПІЦЬ

ТРАХА' *прысл.* Ледзьве. *Мусіць, будзя жыць, траха не памёр, я білася ап сцену.* Альхоўка Навагр.

ТРАХАЛА' *ж. экспр.* Растрэпа, неразумная. *Ляціць, крычыць, як гэта трахала, такая нізвязная. Трахала ты! Ніхай будзя і красівая, а трахала — ні то глупая, ні то умная.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *strãkalas* 'непаседа', *trãkas* 'апантаны'.

ТРАХАНУ'ЦЬ *зак.* Трасянуць, страсянуць. *Трахані, так і пасыпюцца з клёну кляновыя жучкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТРАХАЦЕ'ЦЬ *незак.* Дрыжаць, трашчаць. *Аш лес трахацеў, як ішлі дзіке.* Кіралі Шчуч.

ТРАХНІ'ЦА *ж.* Пацяруха, дробная салома. *Трахніца — пацёртая салома, калі малацілі цапамі.* Магуны Паст.

ТРАХНЯ' *ж.* Адходы ад кулёў (саломы). *Трахня — дробная салома з каласамі, ад кулёў, як зноў малацілі.* Груздава Паст. *Трахня — як малацілі, салома дробная.* Мярэцкія Глыб. *Як траслі кулі, трахню вытрасалі, трэба трахню вытрахці.* Івашкаўцы Смарг.

ТРАХО'М *м. мед.* Трахома. *Трахом на вачах быў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Трахом у яе.* Быстрыца Астр.

ТРАХТ *гл.* ТРАКТ

ТРАХТАВА'ЦЬ *незак.* Спакушаць. *Ніхто цяпер не трахтуе:*

*«На, закуры!»* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *traktować* 'трактаваць, абыходзіцца, абмяркоўваць'.

ТРА'ХТАР, ТРА'ХТОР *гл.* ТРА'КТАР

ТРАХТАРЫ'СТ *гл.* ТРАКТАРЫ'СТ

ТРАХТАРЫ'СТЫ *гл.* ТРАКТАРЫ'СТЫ

ТРАЦІ'НА, ТРАЦЫ'НА *ж.* Трэцяя частка зямельнага надзелу. *Была траціна зямлі.* Валынцы В.-Дзв. *Участак зямлі: траціна зямлі — трэць участка.* Лісна В.-Дзв. *Траціна поля, чацвярціна поля было.* Бакшты Іўеў. *Траціна — трэцяя частка ўчастка. Траціна зямлі.* Солы Смарг. *У мяне траціна зямлі была.* Мярэцкія Глыб. *Траціна зямлі — трэцяя частка надзела.* Граўжышкі Ашм. *Былі каждаму полосы: каму шасціна, каму — траціна, каму — чацьвярціна.* Малахоўцы Бар. *Траціна — мера зямельнага участка.* Беразіно Докш. *Траціна зямлі, чацвярціна зямлі.* Саланое Віл. *Доў траціну зямлі сыну.* Вецярэвічы Пух. *Траціна зямлі — адна трэцяя частка надзела.* Азяраны Раг. *Траціна — трэцяя частка валокі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Траціна зямлі.* Гемзы Шальч. *Ад валокі адрэзалі трацыну.* Чычалі Швянч. ▽ *На грамніцы хлеба палавіна, а пошару — траціна.* Вузла Мядз.

ТРАЦІ'НЫ толькі *мн. абрад.* Памінкі (праз тры дні пасля пахавання). *Траціны спраўлялі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТРА'ЦІЦЦА *незак.* 1. Знікаць (пра сваяцкія сувязі). *У трэцяй стрэчы і радня траціцца.* Паляцкішкі Воран. 2. Забываць, збівацца, губляць паслядоўнасць у час размовы. *Яна траціцца ў гаворцы.* Лайпушкі Ігн.

ТРА'ЦІЦЬ *незак.* Траціць. *Самі час трацяць і мяне адрываюць.* Кураполле Паст. ◇ *Траціць ум (розум)* — траціць здольнасць цвяроза думаць. *Старыя натта трацяць ума.* Гемзы Шальч. *Пуць маіць і ні ціраіць, не траціць розум.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *tracić* 'тж'.

ТРАЦІЯ'РКА *ж. рэліг.* Манашка. *Траціярак было многа.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *tercjarka* 'тж'.

ТРАЦЯ'К I *м.* 1. Тое ж, што і т р а ц і н а. *Трацяк зямле быў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Трацяк — зямле — чатэры дзісянціны.* Кіралі Шчуч. *Трацяк поля, чацвяртак поля.* Альхоўцы Лях. *Трацяк зямлі — адна трэцяя частка.* Старыя Смільгіні Воран. *Трацяк гавораць на зямлю.* Міратычы Карэл. *Трацяк поля заняў.* Дзяніскавічы Ганц. *Трацяк зямлі, чацвяртак зямлі.* Рыбчына Віл. 2. Трэцяя частка ўраджаю, якую плацілі (аддавалі) за арэнду зямлі. *Гаспадары даўней панскую зямлю на трацяк, на чацвяртак, на палавіну абрабатывалі.* Мярэцкія Глыб.

ТРАЦЯ'К II *м.* 1. Трохгадовая жывёліна. *Трацяк — бык трох год.* Рыбчына Віл. *Прадай быка-трацяка.* Парэчча Гродз. 2. Трэці рой. *Трацяк — трецій рой.* Янова Рас.

ТРАЦЯ'К III *м.* Клін. *Ушывалі трацяк у рукавы.* Міратычы Карэл.

ТРАЦЯ'КА *ж.* Цялушка ва ўзросце трох гадоў. *Трацяка —*

*цялушка*. Альхоўцы Лях. *Як цёлка пабегая — трацяка*. Дзяніскавічы Ганц.

ТРАЦЯ'ЧКА *ж*. Тое ж, што і т р а ц я́ к а. *Трацячка мая каройка*. Магуны Паст. *Трацячка — ужо карова*. Дакудава Лід. *Трацячка і не пахадзіла, а другачка пахадзіла ўжо*. Саланое Віл. *Трацячка — цёлка велькая*. Быстрыца Астр. *Трацячка — цёлка трох год*. Рыбчына Віл. *Цёлка-трацячка*. Рудня Астравітая Чэрв.

ТРАЧ *м*. Пільшчык. *Трач — то такі чоловіек, што трачуе, рыэжэ клёцы на доскі або на дыліе*. Курашэва Чыж. *Трач рэжа дзерэво на доскі альбо на дыле, на латы*. Калясное Міхал.; *парайн*. польск. *tracz* 'тж'.

ТРА'ЧКА *ж*. Распілоўка. *Трачка — вырэзванне дылей*. Лука Нараўк. *Ондрыэй за молоду трачкою займавсе*. Курашэва Чыж.

ТРАЧОВА'ТІ *незак*. Пілаваць (на дошкі). *По войніе пара ліет в закуопкі ходів, трачовав по людях*. Курашэва Чыж.

ТРА'ШКІ *мн. заал*. Конік. *Трашкі скачуць у траве*. Малькуны Ігн.

ТРАШКУЦІ' *мн. бат*. Казялец. *Трашкуці — дробнянькі жоўцянькі цвяточак, сам ценянькі. Трашкуці горкі, скот ня есць*. Быстрыца Астр.; *парайн*. літ. *traškūčiai* 'тж'.

ТРАШЧА'ЦЬ, ТРАШЧЭ'ЦЬ, ТРАШЦЕ'ЦЬ *незак*. 1. Трашчаць. *Вялікі марос, аш трашчаць сцены*. Магуны Паст. *Марос, аш калэ трашчаць*. Кіралі Шчуч. *Дровы яловыя, доскі яловыя трашчаць, як гараць*. Азяраны Раг. *У калене так трашчыць*. Валеўка Навагр. *Аш косці трашчэлі ўсе*. Палік Барыс. 2. Грукацець, тарахцець. *Трашчаць вазы на шашы*. Грыкені Вільн. 3. Бразгатаць, брынчаць. *Пабілася міска — трашціць. Хто яе пабіў?* Кіралі Шчуч. 4. Адзывацца гукамі, падобнымі да трэску. *Цвіркун стаў трашчэць*. Рагулішкі Даўг. 5. *перан*. Гінуць. *Гэта ўсё скарб мой трашчыць*. Дзераўное Стаўб. ◇ *Брух трашчыць* — пра стан пераядання. *Дайней саладуху рабілі, так наясіся, што брух трашчыць*. Руднікі Шальч. *Трашчэць ад крыку* — напаўняцца рэзкімі гукамі, лямантам. *Уся вёска трашчэла ад крыку*. Саланое Віл. ∇ *Да калят хоць трашчу, але не пушчу. У апрэле хоць не трашчу, але пушчу* [лёд на рацэ]. Бакшты Іўеў.

ТРАШЧЫ'ЦЬ *незак*. Тое ж, што і т р а с ц і́ ц ь. *Трашчыць пряжу: зматываю на клубок, а тады сучыць*. Мішневічы Шум. *Буду трашчыць ніткі*. *Збляны Лід*. *Ніткі трашчыць*. Лука Нараўк.

ТРАЯ'К I *м*. Тры рублі. *Траяк кожны прося і мусіш даць*. Гемзы Шальч.

ТРАЯ'К II *м*. Шасціметровае бервяно. *Па тры траякі выходзіць з хвоі. Траяк — шэсць метраў бервяно*. Рудня Чэрв.

ТРАЯ'КІ *прым*. Траякі, які мае адносіны да трох крыніц. *Траякія былі дзеці — ад трох бацькоў*. Малькуны Ігн. ∇ *Хлеб бывая траякі: белы, чорны і ніякі*. Кураполле Паст., Малькуны Ігн.; *парайн*. польск. *trojaki* 'тж'.

ТРАЯНЫ′ *мн.* Прыстасаванне ў выглядзе трох перакрыжаваных уверсе калкоў, на якое падвешвалі калыску. *Калыску рабілі з карыцы, з ліпы сагнуць, тры калочкі бралі — траяны і вешалі калыску.* Саланое Віл. *Ідзеш на поля і траяны за сабой цягнеш.* Азяраны Раг.

ТРО′БА *ж.* Панос. Азарычы Пін.

ТРО′ГАЦЬ *незак.* Чапаць. *Не трогай, у кірасіну задзелаісся.* Пярэкі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *трогать* 'тж'.

ТРО′ЙКО *зб. ліч.* Тое ж, што і т р а й н я́ II. *Тройко дзяцей у яе.* Навасёлкі Свісл.

ТРОЙКО′НЦІК *м.* Трыкутнік. *Тройконцік выдзяляюць на тры вуглы, туды ідзе цырта на нэраст, і там ловім.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *trójkąt* 'тж'.

ТРО′ЙЦА *ж. рэліг.* 1. Сёмуха. *Паехаўшы на тройцу ў Юркава.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На тройцу выехалі ў Варшаву.* Багушэвічы Бярэз. *На тройцу аер ірвалі і на Пятра.* Валеўка Навагр. *На тройцу ў цэркаў хадзіла.* Беразіно Докш. *Паска, ражаство, а тамака тройца.* Опса Брасл. *Тройцу спраўлялі.* Пасека Ст-Дар. 2. у знач. *прысл. тро́йцай.* На сёмуху, у час сёмухі. *Прыйшоў тройцай дамоў.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *trójca* 'тж'.

ТРО′ЙЦЫН ДЗЕНЬ *м.* Тое ж, што і т р о́ й ц а 1. *На тройцын дзень і сваха прыехала.* Ухвала Круп.

ТРО′НАК *м.*, ТРО′НКА *ж.* 1. Ручка ў нажы. *Тронак — ручка нажа, тронкі называлі, эта па-літоўску. Цяпер не называюць.* Быстрыца Астр. *Тронкі ў нажы, чаранкі.* Альхоўцы Лях. *Тронкі гразныя.* Магуны Паст. *Тронак у нажы, ручка.* Жодзішкі Смарг. *Трэба зрабіць тронкі да нажа.* Гемзы Шальч. *Тронкі ў складаным нажы.* Рыбчына Віл. *Тронка ў нажа зламалася.* Мачаск Бярэз. *Тронка — ручка ў складаных ножыках.* Рудня Чэрв. 2. Вілачнік. *Тронак да вілаў, да чапялы.* Старыя Смільгіні Воран. *Тронка ў вілах.* Старыя Трокі Трак. 3. Цапільна. *Тронка — ручка ў цэпа.* Старыя Трокі Трак. 4. Ручка ў іншых прыладах. *Тронак ад хваёвага веніка.* Вялікія Баяры Шчуч. *В молоткові тронок зломавсе.* Курашэва Чыж. *Тронка зламалася ў піле, як рэзаць цяпер?* Глівін Барыс. *Дзераўляныя тронкі паламаліся, трэба асадзіць.* Малькуны Ігн. *Тронкі паламаліся.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *trzonek,* літ. *kriaũnos* 'тж'.

ТРОНТ *м.* Непрыемны пах. *Як чалавек пачынае гнісці, пачынае выхадзіць тронт з магілы.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *trąd* 'праказа'.

ТРО′НУЦЦА. У выразе: *С ума тронуцца* — страціць розум, звар'яцець. *У нас с ума тронулася адна небарака.* Вецярэвічы Пух.

ТРО′НЦІЦЬ I *зак.* Штурхнуць, піхнуць. *Зладзея, як тронцяць тую бабу — і косці рассыпаліся.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *trącić* 'тж'.

ТРО′НЦІЦЬ II *незак.* Трохі пахнуць, прыпахваць. *Мяса*

*тронціць.* Кудзялянцы Шальч. *Тронціць, адбіваець чалавеку* [мяса]. Магуны Паст.; *параўн.* польск. *trącić* 'тж'.

ТРО'ПА *ж.* Сцяжынка. *Выгрызлі траву каровы, толькі тропа чорная.* Малькуны Ігн.; *параўн.* руск. *тропа* 'тж'.

ТРО'ПАНКА *ж.* Адна або дзве жмені льну, якія браліся для трапання. *Тропанка — жменя льну для трапання.* Пасека Ст.-Дар. *Дзве жмені лёну для трапання — тропанка.* Семежава Кап.

ТРО'ПАНЫ *дзеепрым.* Ачышчаны ад кастрыцы. *Тропаны лён аддавалі на завод.* Яніна В.-Дзв.

ТРОПІ'ТІ *гл.* ТРА'ПІЦЬ

ТРО'ПНУЦЬ *незак.* Ударыць. *Як тропнула яго токам!* Пацаўшчына Дзятл.

ТРО'СКА *ж.* Трысціна, кій. *Троскай папіраецца жалезнай.* Мішневічы Шум.

ТРО'СКАЦЬ *незак.* Турбаваць, непакоіць. *Мяне ніц не троска.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *troskać się* 'клапаціцца, турбавацца', *troska* 'клопат, турботы'.

ТРО'СНІК *гл.* ТРАСНІ'К

ТРО'СНІЧКІ *мн. памянш.* Тое ж, што і т р а с т к а́. *У бердах густыя троснічкі.* Крэва Смарг.

ТРОСТІ'НА *гл.* ТРАСЦІНА' II

ТРО'СЦІНА *гл.* ТРАСЦІ'НА' I

ТРОСЦЬ I, ТРОСЬ *зб. ж.* Тое ж, што і т р а с т к а́. *У бэрдах тросці.* Старыя Трокі Трак. *Тросць у бёрдзе.* Грыкені Вільн. *Трось з клёна робіцца, одна тросціна.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТРОСЦЬ II, ТРОСЬ *ж.* Тое ж, што і т р а с н і́ к. *Тросць у балоці.* Рагулішкі Даўг., Чарняўскія Лудз. *Тросць на балоце расцець.* Пасіене Лудз. *Трось, як выплывая, нажаўшы, карова малака дасць, на поўкаровы нажынаў трасты. Трось ядуць каровы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТРО'СЦЯ *зб. н.* Тое ж, што і т р а с т к а́. *Тросця ў бёрдах.* Быстрыца Астр.

ТРО'СЦЯЧКІ *мн. памянш.* Тое ж, што і т р а с т к а́. *Тросцячкі ёсць у бёрдзя.* Малі Астр.

ТРОСЬ-ТРОСЬ *выкл.* Трух-трух. *Ідзець і брухам трось-трось.* Саланое Віл.

ТРОХ *зб. ліч.* Тое ж, што і т р а ё х. *Трох мне прынасілі малако.* Вялікія Баяры Шчуч. *Іх трох было.* Кудзялянцы Шальч. *Мы трох узялі гэтага жоўтага матэрыялу. Трох братоў было.* Паляцкішкі Воран. *Трох бабаў пашло.* Кіралі Шчуч. *Нас трох палажыў бы.* Лісна В.-Дзв. *Нас трох у хаці.* Старыя Смільгіні Воран. *Нас было трох сыноў у бацькі.* Альхоўка Навагр. *Іх было трох братоў.* Вострава Маст. *Нас трох засталася з маткай.* Жылі Іўеў. *Іх дачок трох.* Груздава Паст. *Вас трох і Ванька.* Альхоўцы Лях. *Нас трох у бацькі.* Старое Сяло Зэльв. *Тогды до нас прыбіглы йшчэ трох людэй.* Ляскавічы Бяроз. *Ідут трох.*

Дзмітравічы Кам. *Прышлі трох да нас, наварылі ім картофлі, сала нажарылі.* Мсцібава Ваўк.

ТРО'ХА, ТРО'ХІ, ТРО'ХО, ТРО'ХУ *прысл.* 1. Троху, у невялікай колькасці. *Трэба ісці ўкапаць троха картопляў.* Вялікія Баяры Шчуч. *А хлеў велязны, а там холадна, лехчы недзя, саломы толькі троха.* Веркалы Пух. *Усе як кінуліся ўцякаць! Толькі троха ўлавілі.* Ачыжа Чэрв. *Троха мукі прывезла.* Малахоўцы Бар. *Мы былі замарынаваўшы троха казлякоў.* Старыя Трокі Трак. *Дайця троха пажывіцца.* Дакудава Лід. *Парыпаў троха музыкант.* Малі Астр. *Малачка трохі.* Грыкені Вільн. *Панцаковых круп троху зварыла.* Пацаўшчына Дзятл. *Троху ранішняга малака было.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Троху прынёс дроў.* Чычалі Швянч. *Троху ўзяў солі.* Калясное Міхал. 2. Троху, на працягу кароткага перыяду часу. *Дошч трохі памарушэў.* Навасёлкі Лід. *Учора трохі прызаснулі.* Смаляніца Пруж. *Пойду дэсь трохо походжу.* Дзмітравічы Кам. *Пажджы трохо, прыдзя.* Крынкі Крын. *Троху пожді, я зара прыду. Вчора простудівсе. Ніні троху голова боліт. Лоні жыто троху хоруошчэ было, як сёголіта.* 3. Троху, у нязначнай ступені. *Ужо троха становіцца нагой.* Лісна В.-Дзв. *Мае ногі троха ходзяць.* Збляны Лід. *Троха дошч марусіць.* Мсцібава Ваўк. *Троха было зімнавата. Жыла троха начай.* Гальшаны Ашм. *Можна троха шляхетней сказаць.* Парэчча Гродз. *Я троха ні еўшы.* Сакаляны Сакол. *Сукно ўфалююць трохі.* Васілевічы Гродз. *Я трохі відзяла.* Гальшаны Ашм. *Святлейшы трохі.* Грыкені Вільн. *Я троху і шыла, пака мода была простая.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *А сабе, як вытчыш рубашку, кусаіць троху.* Буды В.-Дзв. *Троху атойдзіць — і нічога.* Юркава В.-Дзв. *Троху зябну.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *trochę* 'тж'.

ТРОХДЗЁННІКІ *мн. устар.* Назва вясковых людзей, якія адпрацоўвалі пану на працягу трох дзён. *Доўней была панічына. Гэтыя Старынкі трохдзённікі называліся, усе вёскі — шэсцьдзённікі: яны рабілі шэсць дней пану.* Старынкі Івян.

ТРОХСЦЕ'НАК *м.* Трысцень (у хаце). *Трохсценак у іх быў, дзе яны жылі з маткай.* Валынцы В.-Дзв. *Уладжана хата, трохсценак.* Рыбчына Віл.

ТРОХЦАЛЁВЫ *прым.* Трохцалёвы. *Трохцалёвы цвек.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *calowy* 'роўны 2,54 см'.

ТРО'ШАЧКА, ТРО'ШАЧКІ, ТРО'ШЭЧКІ, ТРО'ШАЧКУ *прысл.* Трошачкі, крышачку. *Я налію трошачка.* Солы Смарг. *Трошачка быў солі, цукру ўсыпаў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трошачкі быў здрабнеў.* Вецярэвічы Пух. *Як сядзець, то шчэ трошэчкі, як хадзіць — магіла.* Баброўнікі Гарад. *Трошачку назбірала ягад.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *troszeczki* 'тж'.

ТРО'ШКА, ТРО'ШКІ, ТРО'ШКУ *прысл.* 1. Трошкі, у невялікай колькасці. *Адно яйко, трошка мукі, малака і пяку. Дай мне трошка хлеба.* Солы Смарг. *Абагналі картошку трошка адтуль.* Валеўка Навагр. *Трошка солі.* Рудня Астравітая Чэрв.

*Трошка пад'ехалі.* Навасёлкі Лід. *Завязі трошка масла.* Пасека Ст.-Дар. *Трошку бульбы асталося, летась добрая была.* Саланое Віл. *Трошку — нямнога, кусок.* Рыбчына Віл. 2. Трошкі, на працягу невялікага перыяду часу. *Я з ім трошку пагавару.* Пасіене Лудз. *Памалюе трошку, то і так абыйдзецца.* Баброўнікі Гарад. *Трошку паляжыш — і зноў за работу.* Саланое Віл. 3. Крыху, у нязначнай ступені. *Малако ссеўшысь — трошку закісаіць.* Буды В.-Дзв.; *параўн.* польск. *troszkę* 'тж'.

ТРОШЧЫ'ТІ *незак. экспр.* Есці з апетытам. *Дієті трошчат моркву. Яблыка былі шчэ зэлёны, а дієті вжэ іх трошчылі.* Курашэва Чыж.

ТРО'Я, ТРО'І *зб. ліч.* Трое. *Троі гокаў.* Мсцібава Ваўк.

ТРУБА' *ж.* 1. Цэментнае колца студні, труба. *Многа ў студні трубаў.* Ністанішкі Смарг. 2. Скрутак палатна; сувой. *Труба кужалю, труба пачасся.* Саланое Віл. *Труба палатна.* Рыбчына Віл. *Палатно бялілі, у трубу качалі, труба палатна.* Латыгаль Віл. *Даўна матка трубу палатна на стол паставіць і мерыць, каму сколькі нада, на кашулі, на штаны.* Вузла Мядз. *Палатно бялілі і трубу качалі і ставілі ў скрыню. Я мала трубаў напрадала.* Лісна В.-Дзв. *Палатно белім, выцягуяш, у трубу качаям. Вельку трубу зробім, многа мэтраў.* Быстрыца Астр. *Трубы палатна накруціўшы.* Малі Астр. *Багата дзеўка, трубаў многа.* Солы Смарг. *У кублы трубы палатна накладалі.* Магуны Паст. *Палатно выбеліца, скруціца ў трубу.* Грыкені Вільн. *Касу лёну круцім у трубу велькую.* Гемзы Шальч. 3. у знач. *прысл. трубой.* У скрутак, у сувой (скручваць). *Трубой сварачвалі палатно.* Навікі Лудз. 4. у знач. *прысл. трубой.* Угару. *Трубой дым валіць.* Асавец Віл. ∇ *Нос, як труба.* Парэчча Гродз.

ТРУ'БАЧКА *ж. памянш.* да т р у б á 2. *Трубачка палатна.* Мярэцкія Глыб.

ТРУБІ'НА *м.* і *ж. неадабр.* Нягодны чалавек. *Трубіна ты, а ні чалавек.* Асавец Віл.

ТРУ'БІЦА *ж. рыб.* Трыгубіца. *Трубіца да буча падобна. Трубіца, як кошык.* Старыя Смільгіні Воран.

ТРУБІ'ЦЬ, ТРУБІ'ТІ *незак.* 1. Трубіць. *Даўней трубілі пастыры, трубіць пастыр, пярэйдзіць вёску і трубіць.* Груздава Паст. ◇ *Трубіць трубой* — падымаць, утвараць вялікі шум. *Яны спяць, хоць ты трубі трубой, яны не пачуюць.* Саланое Віл. 2. *экспр.* Галасна размаўляць, крычаць. *Пэрэстань мніе над ухом трубіті.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Кракаць. *Свойская качка не так трубіць, як дзікая.* Вецярэвічы Пух.

ТРУ'БКА І, ТРУ'ПКА *ж.* Тое ж, што і т р у б á 2. *Трубка — скрутак свайго палатна, свайго вырабу.* Беразіно Докш. *Скачаеш у трубку палатно.* Васілевічы Гродз. *Трупка палатна.* Мярэцкія Глыб. *Палатно нада скруціць у трупку.* Ёдлавічы Брасл. *У трупку скруціла палатно.* Магуны Паст. *Трупку палатна скатала.* Солы Смарг. *Трупка палатна, на качалку і скачаюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скачаў трупку палатна і пастукаў пабаешкай.*

Рагулішкі Даўг. *Трупкі былі палатна панатыканага.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У кублы складаюць трупкі, дзяругі сваёй работы з хужэйшага лёну.* Ухвала Круп. *Ня дзеўка, якая ня мела трыццаць трубак палатна.* Крэва Смарг. *Скруці ў трупкі палатно.* Вецярэвічы Пух.

ТРУ'БКА II, ТРУ'ПКА *ж.* Калодка (у коле). *Трубка ў коле, спіцы ўсаджваюцца ў яе.* Глівін Барыс. *У трупку насажаны спіцы, чатырнаццаць спіц. Чатырома абручама акована трупка.* Істра Лудз. *Трубка — што ўбіваюцца спіцы ў колах.* Мешкінева Лудз. *У трупку ўкладвалася тулка.* Пасіене Лудз. *Трупка ў коле.* Мярэцкія Глыб. *В трупку заганяются спіцы.* Рагулішкі Даўг.

ТРУ'БКА СПРЫХО'ВАЯ *ж.* Тое ж, што і т р у́ б к а II. *Трубка спрыховая — калодка ў коле, у якую ўстаўляюцца спіцы.* Чычалі Швянч.

ТРУД I, ТРУТ *м.* Праца. *Шкода труду. С трудам нажываіш.* Лісна В.-Дзв. *Сколькі труду мела.* Гемзы Шальч. *Лёгкі труд, рукі не баляць.* Кузьмічы Люб. *Бэс труду чалавек не можа жыць.* Гемзы Шальч.∇ *Бог труд любіць, а труд чалавека корміць.* Кураполле Паст. *Потліецца с трудоў.* Граўжышкі Ашм. ◇ *Трудом накрыцца* — жыць за кошт уласнага заробку. *Мае спаткі забяруць, што ў домя, мне цяпер ніякай карысці, трудом накрыюся.* Дакудава Лід.

ТРУД II, ТРУТ *м. мед.* Сып, сыпка. *Іссыпала трудам дзіця.* Альхоўцы Лях. *Трут высыпаў па целе ў дзіця.* Мсцібава Ваўк. *Трут — высыпка, як гарачэ.* Вострава Маст. *Трут высыпаў у дзіцяці, дробны, як мачок.* Пацаўшчына Дзятл. *Трут выступіў, пасыпано дзіця ўсё трудам.* Міратычы Карэл. *Хай яго трут, хай яго халерыя!* Лісна В.-Дзв.

ТРУДАВА'ЦЬ *незак.* Цяжка раджаць, мучыцца. *Як першага сына мела, то трудавала, а дачку лёганька радзіла.* Лайпушкі Ігн.

ТРУДАВІ'ТЫ *прым.* Працавіты. *Натта трудавіты чалавек.* Бакшты Іўеў.

ТРУДАДЗЕ'НЬ *м.* Працадзень. *Каб трудадні зарабляць, цёгалі лён.* Валеўка Навагр. *За мої трудодне пэрэнэслі хату.* Смаляніца Пруж. *Заробіў трудадне.* Ялова Пруж.; *парайн.* руск. *трудодень* 'тж'.

ТРУДА'ЦЬ *незак.* Мучыцца. *Я трудаю з імі.* Магуны Паст. *Самалёт праваліўся з людзьмі ў балота, як людзі трудалі.* Ёдлавічы Брасл.

ТРУ'ДЗІЦЦА *незак.* 1. Цяжка працаваць. *Трудзіліся да калхозу.* Лісна В.-Дзв. *Трудзіцца цяжка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трудзіцца і трудзіцца матка, свету не бачыць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Мучыцца, пакутаваць. *Трудзіцца чалавек, мучаіцца, а не ўміраіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пірат смерцяй чалавек трудзіцца.* Мярэцкія Глыб. 3. Недаядаць. *Дайней трудзіліся — мякіну*

*елі, паловы хлеп елі.* Лісна В.-Дзв. 4. Брадзіць. *Дзве нядзелі трудзійся* [раствор]. Рыбчына Віл.

ТРУДЗІ'ЦЬ *незак.* Вяліць, рыхтаваць для курэння. *Нада самасейку трудзіць: складалі ў кучу, накрывалі адзежай, кап прыпарылася, патрудзілася самасейка.* Кураполле Паст.

ТРУДЗЯ'ШЧЫ, ТРУДЗЯ'ЧЫ *прым.* Працавіты. *Яе матка такая трудзяшчая старуха была.* Валынцы В.-Дзв. *Людзі ў нас трудзяшчы.* Навасёлкі Лід. *Трудзяшча маладзіца была.* Вострава Маст. *Яны трудзячыя ў мяне.* Мыто Лід.

ТРУ'ДНА, ТРУ'ДНО, ТРУ'ННО *прысл.* 1. Пакутліва, балюча, нясцерпна, пякельна. *Іншаму трудна памярці.* Старыя Смільгіні Воран. *Трудна очынь іна хварэла.* Пярэкі В.-Дзв. *Мне трудна — такая слабасць.* Чычалі Швянч. *Мне слаба, трудна.* Гальшаны Ашм. *Карова здыхае як трудно, жыватом аб землю.* Вялікі Краснік Пруж. 2. Цяжка, трудна (пра жыццё, працу). *Цяжка, трудна учыць дзяцей.* Буды В.-Дзв. *Трудна касіць свіннуху, іна свінное шарсцінне.* Пярэкі В.-Дзв. *Я сама ўсё пасвіла, калі трудно прыдзе летам, то наймаю.* Баброўнікі Гарад. *Трудно было работаць.* Кемялішкі Астр. *Мыні трудно.* Сіманавічы Драг. *Трудно ім, старые бацьке.* Міратычы Карэл. *Трудно яму купіць карову.* Сакаляны Сакол. *Два сукі на дзеравяныя вілы трудно знайсці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трунно прышлося.* Альхоўцы Лях. ∇ *Трудна знайсці, згубійшы.* Груздава Паст. *Хто людны, с тым жыць трудна.* Вузла Мядз.; *парайн.* руск. *трудно* 'тж'.

ТРУДНАВА'ЦЬ *незак.* 1. Перажываць, хваляватща, нервавацца. *Яна труднуе, што такі сын. Труднуюць, што хата згарэла.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Мучыцца, цяжка хварэць. *Бапка труднавала. Цэлую ноч труднавала.* Граўжышкі Ашм. 3. Мучыцца. *Труднавай — цяжка паміраў.* Быстрыца Астр.

ТРУ'ДНАСЦЬ *ж.* Цяжкасць. *Дужа труднасці ест.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* руск. *трудность,* польск. *trudność* 'тж'.

ТРУДНАТА', ТРУДНО'ТА *ж.* 1. Беднасць, цяжкія ўмовы жыцця. *Я згадавалася ў такой труднаце, жызні ня відзела з маленства.* Рыбчына Віл. *Бяднота да труднота была.* Вецярэвічы Пух. 2. Цяжкая праца, зморанасць, знясіленасць. *Трудната грапці ў балоце.* Міратычы Карэл.

ТРУДНІ' *мн. заал.* Трутні. *Трудні ляцяць уверх галавой, засмяняюцца ў воздуху.* Гемзы Шальч.

ТРУДНІ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і труднава́ць 3. *Трудніцца — мучаецца. Вот ён, бедны, трудніцца, гэткая хвароба цяжкая.* Рыбчына Віл. *Тата сільно трудніўся, пакуль умёр.* Азяраны Раг.

ТРУ'ДНЫ *прым.* Цяжкі. ∇ *Для мілэга ніц труднэга.* Кураполле Паст.

ТРУДЫ' *мн.* Пакута, цяжкасць, нясцерпны боль. *Ногу я паламайшы, наступаю, алі с трудамі і слязыма.* Руднікі Шальч. *Я с трудамі падаю карову.* Вузла Мядз.

ТРУМА'ЦЬ *незак.* Трымаць. *Жаць жала, серп трумала ў руцэ.* Старыя Смільгіні Воран.

ТРУМЦЕ'ЦЬ *незак.* Дранцвець, нямець. *Ногі трумцяць, як бы адлягаюць ногі.* Бакшты Іўеў.

ТРУНА' *ж.* Дамавіна, труна. *Нада труну дзелаць, у труну кладуць пакойніка.* Альхоўцы Лях. *Труну зрабіў.* Валеўка Навагр. *Тыя двох пашлі, адзелі і ў труну паклалі і бацьком не паказалі.* Альхоўка Навагр. Старое Сяло Зэльв. *Труну харошую купіла, не шкадавала грошай.* Солы Смарг. *Труну купілі за васемсот злотых.* Гальшаны Ашм. *Дайней гаварылі труна, а цяпер — гроп.* Валынцы В.-Дзв. *Труну рабіць трэба, памёр чалавек.* Гемзы Шальч. *Адзін чалавек сабе труну зрабіў, а памаляваць не ўспеў — памёр.* Ёдлавічы Брасл. *У труну кладуць мярца.* Кіралі Шчуч. *Пакрываюць на труну станіну. Труны ні куплялі.* Быстрыца Астр. *Труну апускаюць у магілку.* Магуны Паст. *Мы доскі падавалі на хату, а дзеці кажуць нам: «Пасцігалі ўсе труны, а вам трэба дзве труны, як вы памрыцё».* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *trumna* 'тж'.

ТРУ'НАК *м.* 1. Трунак, напітак. *Чартоўскі трунак, падай тры цыбуліны.* 2. Атрута. *Не можна вутку піць — гэта трунак.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *trunek* 'тж'.

ТРУ'ННО *гл.* ТРУ'ДНА

ТРУП *м.* Труп. *Трупоў хавала многа.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *trup* 'тж'.

ТРУ'ПКА *гл.* ТРУ'БКА I, II

ТРУПНЕ'ЦЬ *незак.* Бразджаць. *Трупніць талерка пабітая.* Кузьмічы Люб.; *парайн.* літ. *trupnùs* 'сыпкі'.

ТРУПЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і трупнéць. *Паколаная талерка ці міска трупціць.* Вецярэвічы Пух. *Скаварада трупціць, як расколана, трупціць талерка.* Альхоўцы Лях. 2. Хрустаць, храбусцець. *Яйцо паколана, лупіна ўжэ трупціць.* Альхоўцы Лях. 3. Скрыпець. *Трупціць дзерава, глухі звук, гнілы звук.* Альхоўцы Лях. 4. Лопацца. *Абгарэла дзевачка, скура на ей трупцела.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *trùpti* 'сыпацца'.

ТРУС *м. заал.* Трус. *Быў пажар, усё пагарэла, каровы, свіне, адзін трус астаўся.* Дзераўное Стаўб. *Трус хлеп любіць.* Ёдлавічы Брасл. *Трус велькі, цяжкі.* Мярэцкія Глыб. *Трус есць траву.* Саланое Віл. *Трус — ангорчык і прасты, гладкія трусы.* Гемзы Шальч. *Трус уцёк.* Альба Нясв. *Завуць трусы і кролікі.* Лісна В.-Дзв. *У нас есць трусэ.* Кіралі Шчуч. *Трусы гадую на м'яса.* Лешня Кап. *Ідзі нарві трусом зельля.* Навасёлкі Свісл. *Трусоў дзяржыць у клетцы.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТРУ'СІК *м. памянш.-ласк.* да трус. *Трусік цяжкі, як падняць.* Кіралі Шчуч. *Трусік такі маленькі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТРУСІНА' *ж.* Трусіная шэрсць. *З трусіны вяжуць шапкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТРУСІ'НЫ *прым.* Які мае адносіны да труса. *Трусіная і індзюковая — самая лепшая мяса.* Кіралі Шчуч.

ТРУСІ'ХА *ж. заал.* Самка труса. *У нас трусіха і трус вель-кія такія.* Мярэцкія Глыб. *Трусіха белая з чорным.* Пасека Ст.-Дар.

ТРУСІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і трусіха. *Трусіца адна, яшчэ адну-дзве трэбо завесці.* Малахоўцы Бар. *У нас ест трус і трусі-ца.* Кіралі Шчуч. *Трусіца і трусянята сядзяць.* Альхоўцы Лях. *Трусіца і трус у нас.* Гемзы Шальч. *Трусіца такая, што ні пад-няць.* Магуны Паст. *Трусіцу купіў, а трус у мяне быў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТРУ'СІЦЦА *незак.* 1. Сыпацца, натрасацца. *Саломай слалі ў лошкі. Салома ні так трусіцца.* Крэва Смарг. *Сяльнік я пашы-ла, салома ня трусіцца.* Дакудава Лід. 2. Дрыжаць. *Лісцікі тру-сяцца на асіне.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТРУ'СІЦЬ *незак.* Імжэць. *Дожджык стаў трусіць.* Альхоўка Навагр. *Трусіць дошч.* Міратычы Карэл.

ТРУСІ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і трасці 5. *Гною возіць, трусіць можно.* Баброўнікі Гарад. 2. *незак. безас.* Калаціць, трэсці. *Мяне трусіла цэлы вечар.* Вецярэвічы Пух.

ТРУ'СКА *ж.* Тое ж, што і трусіха. *Труска — саміца тру-са.* Чуркі Ашм. *Труска морхву, хлеп любіць.* Ёдлавічы Брасл. *Труска велькая, а трус марны.* Саланое Віл. *Труска ня есь ні-чога.* Беразіно Докш. *Шашок зарэзаўшы труску.* Рагулішкі Даўг. *Дарагі сталі трускі.* Рыбчына Віл. *Развялося трусоў, толь-кі тры трускі.* Дакудава Лід.

ТРУСКА' *зб. ж.* Акаліна. *З кузьні труску бралі і хварбавалі адзення.* Вецярэвічы Пух.

ТРУСКА'ЎКІ, ТРУСКА'ВКІ, ТРУСКА'ЛКІ, ТРАСКА'ЎКІ, ТРАСКА'ЛКІ *мн.* Трускалкі, клубніка. *Трускаўкі белым цветам цвітуць, добрыя ягады.* Гальшаны Ашм. *Была трох пасадзіўшы трускавак.* Магуны Паст. *Не руш трускаўкаў.* Пацаўшчына Дзятл. *Кошык трускавак нарвала.* Васілевічы Гродз. *Пуйдзэм по трускавкі.* Дзмітравічы Кам. *Пара сотак трускавак пасадзі-лі.* Курашэва Чыж. *Скора трускалкі паспеюць.* Магуны Паст. *Траскаўкі смачныя з малаком.* Ракаўскія Швянч. *Агрэст, трас-каўкі звяліся ў мяне.* Крэва Смарг. *Траскаўкі людзі садзяць.* Гальшаны Ашм. *Траскалак насадзіла.* Ахрэмаўцы Брасл.; *па-раўн.* польск. *truskawki* 'тж'.

ТРУ'СНУЦЬ *зак.* Трэснуць. *Так здавіў, што чуць косці не труснулі.* Валеўка Навагр.

ТРУСЦІ'НКА *ж.* Трысцінка. *Выструшкаюць такія цененькія трусцінкі.* Ракаўскія Швянч.

ТРУСЭ' толькі *мн.* Трусы. *Дзе ш твае трусэ? Зложы трусэ.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТРУСЮ'ХА *ж.* Дробная салома. *Як змалоцяць, наперад тру-сюхі зграбаюць.* Кураполле Паст.

ТРУСЯ'НКА *гл.* ТРАСЯ'НКА

ТРУТ I *гл.* ТРУД I

ТРУТ II *гл.* ТРУД II

ТРУТІ'ЗНА *гл.* ТРУЦІ'ЗНА

ТРУ'ТКА *ж.* Атрута. *В радіві говорылі, як чоловіек жуонку хотіев отравіті і в шклянку с кавою трутку вкінув. Шчурыэ, мышы чы мухі труткою трутят.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *trutka* 'тж'.

ТРУТНЁВКА *ж. заал.* Трутнёўка. *Трутнёвка трутней стала чарыть.* Прэдэ Даўг.

ТРУТНЯ'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да трутня. *Трутнявую вашчыну выразалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТРУТО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і трутнёвка. *Трутоўка — абыкнавена пчала, калі пагібае матка, пчолы яе кормяць спецыяльным малачком, яна аткладвае трутнёў, бо не спараная.* Мыто Лід.

ТРУХА' *ж.* Пацяруха. *Труха ад канюшыны.* Вострава Маст.

ТРУ'ХАМ, ТРУХО'М *прысл.* Трушком. *Бяжыць конь павольна, трухам.* Альхоўцы Лях. *У кабана ногі баляць, каб пагнаць, дык трухом не пабяжыць, а галопам скача.* Азяраны Раг.

ТРУ'ХАЦЬ *незак.* Трухаць, бегчы, ехаць трухам. *Трухаіць конь, памаленьку бяжыць.* Саланое Віл.

ТРУХЛЁ *зб. н.* Парахня. *Трухлё ўсё, дзерава згніло.* Міратычы Карэл.

ТРУ'ХЛЫ *прым.* Спарахнелы. *Трухлоя дзерава.* Магуны Паст. *Того хата трухлая, однэ порохно.* Азарычы Пін. *Трухлымі дрывамі вэндзят мяса.* Рагулішкі Даўг.

ТРУХЛЯ' *зб. ж.* Тое ж, што і трухлё. *Хата струхлеўша, адна трухля.* Старыя Трокі Трак.

ТРУХЛЯ'ВЫ *прым.* 1. Трухлявы. *Трухлявая дрэва.* Міратычы Карэл. *Дрэва трухлява.* Кіралі Шчуч. *Трухляво дзераво.* Мсцібава Ваўк. 2. Ператочаны чарвямі. *Трухлявы грып, нашто падымаеш?* Гемзы Шальч. *Трухлявы нашла грып.* Ёдлавічы Брасл. 3. *перан.* Стары, які дажывае век (пра чалавека). *І чалавек можа быць трухлявы, як стары.* Мсцібава Ваўк. ∇ *Трухлявы як грыб.* Пацаўшчына Дзятл.

ТРУХЛЯ'К *м.* 1. Які-н. трухлявы прадмет, абломак чаго-н. трухлявага. *Хата згніўшы саўсем — трухляк.* Старыя Трокі Трак. *Нейкі трухляк, а не дзерава.* Галубы Маст. 2. *перан.* Непаваротлівы чалавек, гультай. *Трухляк ляжыць, нікуды ні пойдзя, з яго пыл сыпяцца.* Дакудава Лід.

ТРУХНЕ'ЦЬ *незак.* Гніць, парахнець. *Пол стаў трухнець, гнілью ўзяўся.* Саланое Віл. *Тут стаяла велька вярба — трох трэба было абнімаць — яна начала трухнець, была бура, яе ўсю звярнула, усю дарогу заваліла.* Рагулішкі Даўг.

ТРУХНЯ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і трухлявы 1. *Дрэва трухнявая.* Асавец Віл.

ТРУХО'М *гл.* ТРУ'ХАМ

ТРУХТО'Ю *прысл.* Тое ж, што і тру́хам. *Ціелу дорогу*

*куонь біег трухтою, хутко з міеста прыіехалі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *truchtem* 'тж'.

ТРУХЦЕ'ЦЬ *незак.* Трухлець, парахнець. *Трухціць дуплястая брушка.* Мсцібава Ваўк.

ТРУЦ *гл.* ТРУЦЬ

ТРУ'ЦЕНЬ, ТРУ'ЦЯНЬ *м.* 1. *пчал.* Труцень. *Труцянь у пчол.* Граўжышкі Ашм. *Трутням пчолы самі аторваюць крылы, і яны падаюць далоў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Трутні патрабуюцца дваццаць тры дня. а тады ім аткусаваюць крыллі.* Груздава Паст. *Трутні толькі мёд ядуць.* Саланое Віл. *Трутні ваду носяць.* Старыя Смільгіні Воран. *Матка трутней стала чарыть.* Прэдэ Даўг. 2. *перан.* Бычок. *Трутні носяцца, як шалёныя.* Старыя Смільгіні Воран. 3. *перан.* Гультай, лодар. *Труцянь ты калхозны, што ты сядзіш тут?* Міратычы Карэл. *Ён дармает, яго выцягнулі, як трутня с караніка.* Малі Астр.

ТРУЦІ'ЗНА, ТРУТІ'ЗНА *ж.* 1. Ядахімікат. *Калісь не было труцізны жаднай.* Мсцібава Ваўк. *Труцізну на бульбу пускалі.* Граўжышкі Ашм. *Труцізны напусцяць.* Жылі Іўеў. *Поля труцізнай злілі.* Ракаўскія Швянч. *Ён выкасаваў сады — труцізну пусціў на вішні.* Кудзялянцы Шальч. *Крапілі картоплі трутізною.* Азарычы Пін. 2. Тое ж, што і т р у́ т к а. *Яна труцізну вязла, труцізны насыпала ў малако.* Кудзялянцы Шальч. ∇ *Жоўць горкая, як труцізна.* Руднікі Шальч.; *парайн.* польск. *trucizna* 'атрута'.

ТРУ'ЦІЦЬ *незак.* Труціць, атручваць. *Мы яго труцім* [каларацкага жука]. Малькуны Ігн. *Трэба мухамору прынясці з лесу, спячы, абліць малаком і мух труціць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *trucić* 'тж'.

ТРУ'ЦЦА *незак.* Труціцца, атручвацца. *Трулася ўжо, такая нікчэмная дзеўка.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *truć się* 'тж'.

ТРУЦЬ, ТРУЦ *незак.* Тое ж, што і т р у́ ц і ц ь. *Труюць жукоў.* Старыя Смільгіні Воран. *Спецыяльна труюць мух.* Чуркі Ашм. *Труц мух нада.* Солы Смарг. *Мухаморы пяклі, імі мух трулі.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *truć* 'тж'.

ТРУЦЯ'ГА *м.* Працавіты чалавек. *Трудзіліся бесканечна, ён такі труцяга.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТРУША' *ж.* 1. Псіна. *Сабака трушой смярдзіць, труша.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Гніль, цвіль, гной, падла. *Трушой смярдзіць, дзе несолена мяса, трушой павярнулася.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *trąšà* (дыял. *trūšà*) 'гной, гніль'.

ТРУ'ШАНКА *ж.* Тое ж, што і т р а с я́ н к а. *Трушанку трасуць.* Стральцы Гродз. *Трушанка — калі боб, гарох і віку скалаціць.* Мачаск Бярэз. *Трушанку трусяць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трушанка — з бобу, гароху, вікі.* Рудня Чэрв.

ТРУШКА' *прысл.* Тое ж, што і т р у́ х а м. *Бяжыць конь трушка.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТРУШКО'М *прысл.* Тое ж, што і т р у́ х а м. *Трушком бяжыць.* Саланое Віл. *Трушком конь ляціць і ляціць.* Гемзы Шальч.

ТРУ'ШЧЫЦЬ *незак. экспр.* Есці, хрумстаць. *Трушчаць дзеці агуркі.* Жылі Іўеў.

ТРУ'ШЫЦЦА *незак.* Ісці паволі, трушком. *Трушыцца баба памаленьку.* Бакшты Іўеў.

ТРЫ *ліч.* Тры. *Тры людзі былі.* Старыя Смільгіні Воран. *Тры вядры малака, як вады.* Валеўка Навагр. *Сястра тры гады маладзей мяне.* Граўжышкі Ашм. *Нядзель зо тры як паехала.* Кіралі Шчуч. *С трыма дзецьмі жаць хадзіла.* Бакшты Іўеў. *С трома парасятамі што рабіць?* Смаляніца Пруж.

ТРЫ'БА *ж.* Прасечаная дзялянка ў лесе, лінія. *Дзялянка бальшая — трыба — прарублена ў лесе, растуць ягады, грыбэ на трыбе. У нас лес быў баравы, трыбы павысякалі.* Кіралі Шчуч. *У леся трыбы парабілі, падзялілі на кварталы.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *tribà* 'лінія'.

ТРЫБЛА'ТЫ, ТРЭБЛА'ТЫ *прым.* Які мае вялікае чэрава, трыбухаты. *Трыблатая такая карова.* Мішневічы Шум. *Трэблата корова.* Дзмітравічы Кам.; *парайн. літ. driblâ* 'той, хто вялікі'.

ТРЫБУ'Х *м.* 1. Страўнік у жывёл. *Трыбух у свіні, каровы, цялят.* Магуны Паст. *Яда ў трыбух пападая. Трыбух у каровы, свіні, авечкі.* Быстрыца Астр. *Трыбух ва ўсіх жывёл.* Гемзы Шальч. *У трыбух злажылі мяса калбасная і палажыла да лета.* Вузла Мядз. *У свіні трыбух і ў каровы.* Пасіене Лудз. *Трыбух і чаровы ў кабана.* Саланое Віл. *Трыбух у свіней, кароў.* Лука Нараўк. *Трыбух у каровы, яна трыбухатая.* Дакудава Лід. *Трыбух у кароў.* Рыбчына Віл. *Трыбух — страўнік у каровы.* Грыкені Вільн. *Трыбух у каровы.* Новыя Мацалі Варэн. *Трыбух велькі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Валовыя трыбухі нада скрабаць.* Солы Смарг. 2. Чэрава, бруха. *На трыбусе патпаўзе воўк да авячок, ты яго не замеціш.* Мсцібава Ваўк. *Трыбух наела карова.* Лука Нараўк. *Во разнясло трыбух у каровы!* Магуны Паст. *О, які трыбух у тваёй каровы.* Беразіно Докш. 3. *груб.* Жывот. *Упаў трыбухом, пуля прайшла цераз бядро і руку.* Пацаўшчына Дзятл.

ТРЫБУХА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і т р ы б л á т ы. *Ну і трыбухата твая карова.* Пацаўшчына Дзятл. *Трыбухата карова ў яе, многа малака дае, ды і есць многа.* Галубы Маст. *Натта ш трыбухата карова.* Кіралі Шчуч. *Трыбухата карова ў нас.* Лука Нараўк. *Карова трыбухатая.* Дакудава Лід.

ТРЫБУХА'Ч *м. груб.* Чалавек з вялікім чэравам. *У горадзе трыбухачыэ, ідзе, наставіўшы жывот, як баба бярэменная.* Баброўнікі Гарад.

ТРЫБУХЛЕ'Й *м. экспр.* Брухач, пузан. *Такі трыбухлей, яму хадзіць цяшко.* Любішчыцы Івац.

ТРЫБУХНА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і т р ы б л á т ы. *Бывая трыбухнаты конь.* Альхоўка Навагр.

ТРЫБУШО'К *м. памянш.* 1. да т р ы б ý х 3. *Трыбушок нездаровы, згага пячэць.* Лайпушкі Ігн. 2. да т р ы б ý х 1. *Трыбушок — начынены, нарэжаш мяса, зашыеш.* Чуркі Ашм.

ТРЫБУШЫ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і т р ы б л а́ т ы. *Трыбушыстая карова.* Магуны Паст.

ТРЫ'БЫ толькі *мн. тэхн.* Шасцярня, зубчастая перадача. *В січкарні або в другіх машынах трыбы крутят інны часткі машыны; коло машыны трэба осторуожно, бо можна в трыбы пальці всадіті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tryb* 'тж'.

ТРЫВА'ЛЫ *прым.* 1. Сытны, пажыўны, трывалы. *Трывалая іда.* Беразіно Докш. *Трывалая яда, мясная.* Ухвала Круп. 2. Моцны, дужы, здаровы. *Трывалая кабыла.* Рыбчына Віл. *Трывалы конь.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв., Старыя Трокі Трак. *Ой, баба была трывалая!* Саланое Віл. 3. Устойлівы, вынослівы. *Камайскія трывалыя дрэўцы.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *trwały* 'моцны, устойлівы'.

ТРЫВА'ЛЬНЫ, ТРЫВА'ЛНЫ *прым.* 1. Тое ж, што і т р ы в а́ л ы 1. *Укусныя і трывальныя грэцкія ладкі.* Пацаўшчына Дзятл. *Трывальная патрава — боп.* Гемзы Шальч. *Клундзюк з'ем скора, ён трывалны.* Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і т р ы в а́ л ы 3. *Клён не трывальны, крохкі, слаісты, ударыш і атшчэпіцца.* Гемзы Шальч.

ТРЫВА'ЦЬ, ТРЫВА'ЦІ *незак.* Цярпець, вытрымліваць. *Як гэта трываюць людзі?* Граўжышкі Ашм. *Усе лекі вышлі і просто не магу трываць.* Баброўнікі Гарад. *Не можно трываць, як ён вытварае.* Кузьмічы Люб. *Сэрца ні трываіць, печань замучыў. Я трываць не магу: як яна гэта дзіцянё здавала ў прыют.* Вузла Мядз. *І як яго кішкі трываюць?* Чапаеўскі В.-Дзв. *Як яна трывая, мыючы зімой на рэчцы?* Альхоўка Навагр. *Як воны трывают холодно?* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *trwać* 'трываць, працягвацца'.

ТРЫ ВЁДРЫ *мн.* Трохвядзёрны, мера вадкіх цел. *Тры вёдры — адзін з размераў барылак.* Судэрва Вільн.

ТРЫВО'ГА *ж.* Трывога, неспакой. *Была мне трывога.* Старыя Смільгіні Воран. *Трывога мне; як якая трывога, я не сплю.* Гемзы Шальч. ∇ *Як нам трывога, так мы да бога.* Кураполле Паст.

ТРЫВУ'ШЧЫ *прым.* 1. Тое ж, што і т р ы в а́ л ы 1. *Жырнага паела — трывушчага паела.* Дакудава Лід. *Трывушчая яда.* Малахоўцы Бар. *Боб трывушчы, у нас ня рос добро.* Альхоўцы Лях. 2. Жывучы. *Гад трывушчы, не ўбіць яго. Трывушчыя мікробы.* Азяраны Раг.

ТРЫВУ'ШЧЭЙ *прысл.* Дужэй, мацней, здаравей. *Як паясі сала, то будзя трывушчэй.* Малахоўцы Бар.

ТРЫГІ'К-ТРЫГІ'К *выкл.* Скок-скок. *Трыгік-трыгік — на адной назе скачу.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТРЫГУ'БІЦА, ТРЭГУ'БІЦА *ж.* Тое ж, што і т р у́ б і ц а. *Трыгубіцай ловяць рыбу: доўгая, закладаюць у рэчку, па зямлі цягнуць.* Солы Смарг. *Трыгубіца ў тры столі.* Мыто Лід. *Трыгубіца была: палатно з бакоў, сетка была.* Чуркі Ашм. *Трыгубіца — сетка пасярод густая, а па баках рэткая, называецца рэць,*

*на канцах тры калкі, адзін ззаду, а два ўперадзі, цягнуць або застаўляюць, колікамі прыкрэпліваюць.* Саланое Віл. *Трыгубіца — тры сеткі разам.* Альхоўцы Лях. *У трыгубіцы плавук, плавукі з бярости і патопіч з волава.* Рыбчына Віл. *Трыгубіца мэтраў пяць, з тоўстых нітак саракоўкі, па бакох — рэць, а пасрадзіне палатно.* Быстрыца Астр. *Рыбу лавілі сеткамі, няротамі, трыгубіцай.* Малахоўцы Бар. *Трыгубіца для лоўлі рыбы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трэгубіца з паплаўкамі, сетка дліная па дваццаць-пяцьдзесят.* Беразіно Докш. *Трэгубіца з трох палоцен — дзве частыя па старанам, адна рэдкая, рыба цераз частыя ўдараецца.* Ванелевічы Кап.

ТРЫГУ'ПКА *ж. памянш.* Тое ж, што і т р ы́ б і ц а. *Трыгупка — сетка такая, на лотках ездзяць, абгружваюць і заганяюць у трыгупку.* Мсцібава Ваўк.

ТРЫЗІ'МАК *м.* Трацяк, конь (цялё) ва ўзросце трох год. *Конь трызімак.* Номікі Бабіц. *Трызімак — цялё, якое перазімавала тры зімы.* Грыкені Вільн.

ТРЫ'ЗНІЦІ *незак.* Гаварыць няпраўду, маніць, хлусіць. *Трызніці — говорыці нэпраўду.* Смаляніца Пруж.

ТРЫЙЛО'ЧЫЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнасці, глупства, разводзіць плёткі. *Трыйлочыць трайла гэтая. Ходзіць, трыйлочыць па вёсцы.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* т р а й л а́.

ТРЫ'КНУЦЬ *зак. экспр. перан.* Выпіць (спіртное). *Давай трыкнім* [вып'ем]. *Я ўжо трыкнуў.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *trinknóti* <ням. *trinken* 'тж'.

ТРЫЛА'ПНІК *м. бат.* Бабоўнік. *У трылапніку лісткі кругленькія: тры пальчыкі на сучку.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *trilãpis* 'тж'.

ТРЫЛУ'ЗІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і т р ы й л о́ ч ы ц ь. *Трылузіць — абы-што гаворыць. Што ты там трылузіш? Па хатах ходзіць, трылузіць абы-што.* Мярэцкія Глыб.

ТРЫМА'ЦЦА, ТРЫМА'ТІСЕ *незак.* Трымацца. *Што ты трымаесся за бок?* Навасёлкі Свісл. *Віткі ў баране круцілі с карэнь, каб трымаліса зубы.* Васілевічы Гродз. *Трымайсе рукою за плуот, коб нэ ўпасті.* Курашэва Чыж. ◇ *Трыматісе купы* — жыць, рабіць што-н. разам. *Трыматісе з боку* — не прымаць удзелу ў чым-н. Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *trzymać się* 'тж'.

ТРЫМА'ЦЬ, ТРЫМА'ЦІ, ТРЫМА'ТІ *незак.* 1. Гадаваць, разводзіць. *Мы да вайны козы трымалі. Яны натта былі багатыя, мо восям кароў трымалі.* Альхоўка Навагр. *Трымая карову.* Навасёлкі Свісл. *Казу трымала, потым прадала.* Мсцібава Ваўк. *Тата быў, трымаў цялят.* Гальшаны Ашм. *Я ні буду трымаць паршука.* Старыя Смільгіні Воран. *Яны трымаяць гусей.* Смаляніца Пруж. *Трымая жывёл, не лянуецца.* Стракішкі Трак. *Цімох пчолы трымая.* Вецярэвічы Пух. 2. Выхоўваць. *Ён, швагар наш, трымая сястру Чэсяву.* Вострава Маст. 3. Захоўваць, трымаць. *Вясковыя людзі адзенне трымаюць у сундуке.* Кнышэвічы

Бабіц. *З'ямо ягады: доўга не буду трымаці.* Парэчча Гродз. *Паша е, купів бы шчэ корову, але нэ маю дэ трыматі, хлівы замалые.* Курашэва Чыж. 4. Быць уладальнікам. *Трымаў адразанку і храніў у скрыні.* Гальшаны Ашм. 5. *устар.* Наймаць і мець на сваім утрыманні слуг. *Ён парапкаў трымаў.* Гальшаны Ашм. *Колісь трымав парубка і діевку, дэсэть коруов, пэтеёро коні і ціелы погуон овэчок.* Курашэва Чыж. 6. Мець за жонку. *Трымаю ёго дочку.* Курашэва Чыж. 7. Прымацоўваць, падтрымліваць. *Паскі клалі, кап чулкі трымалі.* Гальшаны Ашм. 8. Стаяць, працягвацца, трымаць (пра мароз). *Мороз од двох нэдіель трымае, нэ віадомо, колі злігне.* Курашэва Чыж. ◊ *Трыматі язык за зубамі* — маўчаць, быць стрыманым. Курашэва Чыж.

ТРЫНА'СЦЯ *ліч.* Трынаццаць. *Самый большы мае трынасця лет.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *trzynaście* 'тж'.

ТРЫНА'ЦАТАЯ ЗАРПЛА'ТА *ж.* Дадатковая зарплата ў канцы года. *У канцы года бывае і трынацатая зарплата.* Збляны Лід.

ТРЫНІ'Т *м. ткац.* Спосаб ткання (у тры ніты). *Ткаць ў тры ніты — трыніт.* Чычалі Швянч.

ТРЫНІ'ЦІ *мн.* Тое ж, што і т р ы н і т. *Трыніці ткалі па чырвонай аснове.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* літ. *trinýčiai* 'тж'.

ТРЫНІ'ЧЭЛЬНІЦА *ж.* Выраб, тканы ў тры ніты. *Трынічэльніцу ткалі.* Гемзы Шальч.

ТРЫНО'ЖАК *м.* Трыножка. *Трыножак — круг такі, як дно кацялка і тры ножкі. Жыбуры падсуваюць пад трыножак.* Опса Брасл.

ТРЫНО'Х *м.* Бочка, якая апіраецца на тры выступы. *Трынох, як кубел, толькі на ношках.* Кураполле Паст.

ТРЫНО'ШКА *ж.* Тое ж, што і т р ы н ó х. *Трыношка — бочка на трох нагах.* Магуны Паст.

ТРЫНЧА'ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць, балбатаць. *Я адно трынчу, а яна другое піша.* Ухвала Круп.

ТРЫ'ПАЦЬ *незак. экспр.* Ісці паволі, дробна ступаючы. *У дзярэўню трыпаіць бацька.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *trỹpti* 'тж'.

ТРЫП-ТРЫП *выкл.* у знач. *вык.* Туп-туп. *Ісці, ступаючы часта і дробна. Матка: трып-трып — і прышла ў дзярэўню.* Валынцы В.-Дзв.

ТРЫПУ'ТНІК, ТРЭПУ'ТНІК, ТРЭ'ПАТНІК *м.* 1. *бат.* Трыпутнік. *Трыпутнік прылажы да раны, ад трыпутніка гоіцца.* Ёдлавічы Брасл. *Ма завём трыпутнік, а падарожнік — другая трава.* Пярэкі В.-Дзв. *Трыпутнік пры дарозе расцець.* Вялікі Лес Круп. *Трыпутнік — шырокі ліст.* Азяраны Раг. *Трыпутніка лісцё прыкладаюць на рану.* Беразіно Докш. *Трыпутнік лечнічы.* Мярэцкія Глыб. *Трыпутнік ад жывата.* Рыбчына Віл. *Трыпутнік ад гастрыту.* Саланое Віл. *Трэпутнік — шорокае лісце.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Трэпатнік ля дарог расце.* Ванелевічы Кап. 2. Ад-

вар, настой. *Трыпутнік сок п'юць ад жывата.* Глівін Барыс. *Трыпутнік ад серца, каму ўдушша — с сахарам, з мёдам дзелаюць настойку, як скула, нарыў — ложаць.* Пасіене Лудз. *Трыпутнік варыла мая мама.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Трыпутнік даўней варылі з крапівай.* ∇ *Трыпутнік — пакутнік, сядзіш ля дарогі, бачыш малога і старога, ня бачыў ты майго мілога?* Багушэвічы Бярэз.

ТРЫСНЁГ, ТРЫСНЁХ *гл.* ТРАСНЯ'Г

ТРЫСНІ'Қ *гл.* ТРАСНІ'Қ

ТРЫСНЯ'Г, ТРЫСНЯ'Қ, ТРЫСНЯ'Х *гл.* ТРАСНЯ'Г

ТРЫСЦЕ'Н, ТРЫСЦЕ'НЬ *м.* 1. Тое ж, што і т р о х с ц é н а к. *Сельсавет маленькі быў, як гэты трысцен.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Паставіў трысцен дрывянны.* Сакаляны Сакол. *У трысцені жыць не будзіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трысцень купілі і паставілі.* Альхоўцы Лях. *Трысцень прыстаўляецца.* Магуны Паст. *Трысцень паставілі.* Саланое Віл. *Тут ганак, там трысцень.* Малькуны Ігн. *Трысцень бацьку пакінуў.* Вецярэвічы Пух. 2. Трысцень (у гаспадарчым будынку). *Два трысцены ў таку і асяродак.* Мярэцкія Глыб. 3. *ткац.* Мера даўжыні асновы кросён (пры снаванні на сцяне). *Трысцень — калі на сцяну снавалі, дванаццаць губак.* Мачаск Бярэз. *Трысцень — снуюць на сцяну, тры губіцы, тры сцянэ снавала.* Галубы Маст.

ТРЫСЦЕ'НАҚ *м.* 1. Тое ж, што і т р о х с ц é н а к. *Трысценак да хаты — тры сцяны прырабілі, а чацвертая — старая сцяна.* Қіралі Шчуч. *Трэба прымураваць трысценак.* Гемзы Шальч. *Трысценак прыбудаваны, у ім ната лоўка, як на калоніі жывуць.* Малькуны Ігн. 2. Тое ж, што і т р ы с ц é н 2. *У нас пры адрыня трысценак: ложым сено, салому.* Стральцы Гродз.

ТРЫСЦЕ'НІҚ *м.* Тое ж, што і т р о х с ц é н а к. *Трысценік: там адна, а там — дзве сцяны.* Быстрыца Астр.

ТРЫ'СЦІЦЬ, ТРАСЦІ'ЦЬ *незак.* Звіваць дзве ніткі ў адну. *Трысціць у дзве ніткі.* Магуны Паст. *Трысціла ніткі.* Мачаск Бярэз. *Трысціць — круціць дзве ніткі ў адну.* Пасека Ст.-Дар. *Трысцяць у дзве нітачкі.* Рудня Чэрв. *У дзве столкі ніткі трасцяць.* Малахоўцы Бар. *Трэсцім ніткі.* Дакудава Лід.

ТРЫ'ЦАЦЬ *ліч.* Трыццаць. *Трыцаць дзесяцін меў.* Грыкені Вільн. *Ён плаціў трыцаць капеек у дзень.* Швэды Вільн.

ТРЫ'ШЧАНЫ, ТРЭ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Які страсцілі (пра ніці, пражу). *Трышчана пража, дзве ніткі ў адну трысцяць.* Пасека Ст-Дар. *Трышчаная нітка, трэба трысціць.* Рудня Чэрв. *Трэшчаныя ніткі, з іх уюць вяроўкі.* Дакудава Лід.

ТРЫШЧЯ'ТЭ *незак.* Трашчаць. *Мороз аж трашчэт.* Дзмітравічы Қам.

ТРЫШЭ'ЎНІҚ *м.* Суконная світка са сточанай спінной часткай. *Трышэўнік шылі с сукна, кароткі, мушчыны надзявалі, трэцяя шво на спіне.* Магуны Паст.

ТРЫЭ'ЛІТІ *незак. экспр.* Гаварыць без толку, абы-што. *Тут нэма што трыэліті, трэба говорыті правду, а то прышов натры-*

*эліў ціелу бочку орэштантуов і думав, што повіеру.* Курашэва Чыж.

ТРЫЭ'ПАТІ *незак.* Тое ж, што і т р ы́ п а ц ь. *Такая жара, змучаны, чуть с поля до дому трыэпаю.* Курашэва Чыж.

ТРЭ, ТРЭ'БА у знач. *вык.* 1. Неабходна што-н. выканаць. *Хлеба трэ крашыць у вядро. Малака трэ ўліць.* Стральцы Гродз. *Трэ зрабіць гэта. Трэба было куль лёну выцерці. Рабіці то трэба было.* Васілевічы Гродз. *Трэба выпісваць дрова, трэба ехаць на склат.* Кудзялянцы Шальч. *Трэба якоя парасё купіць.* Солы Смарг. *Трэба на работу ісці. Трэба хлеп садзіць.* Плябанцы Ашм. *Трэба бульбу капаць.* Альхоўка Навагр. *Людзям трэба на работу.* Навасёлкі Свісл. *Трэба біць масла.* Малькуны Ігн. *Трэба было тое золата хаваць.* Дзераўное Стаўб. *Трэба наплесці вянкоў адзінаццаць.* Гальшаны Ашм. *Трэба ехаць.* Грыкені Вільн. *Трэба гаварыць так, як мама казала.* Гемзы Шальч. 2. Мець патрэбу ў чым-н., кім-н. *Дастаў сколькі трэба, адрэзаў, а астальное аставіў.* Івашкаўцы Смарг. *Нажа трэба добрага, каб перарэзаць.* Паляцкішкі Воран. *Трэба мяшкі два мукі.* Швэды Вільн. *Дожджыка на жытка трэба, на ярыну.* Кудзялянцы Шальч. *Ці ёсь твой бацька цяпер у хаце, мне трэба яго.* Ністанішкі Смарг. *Мне трэба цябе.* Лісна В.-Дзв. ∇ *Трэба жыць—трэба рабіць.* Жылі Іўеў.; *гл.* ДАБМ, карта № 227; *параўн.* польск. *trzeba* 'тж'.

ТРЭБЛА'ТЫ *гл.* ТРЫБЛА'ТЫ

ТРЭБЛО' *н.* Тое ж, што і т р ы б у́ х 2. *О, якое трэбло ў каровы!* Дзмітравічы Кам.

ТРЭГУ'БІЦА *гл.* ТРЫГУ'БІЦА

ТРЭ'ЗВЫ *прым.* Трэзвы, не п'яны. *Некаторы і трэзвы дае жонцы канту.* Валеўка Навагр.; *параўн.* польск. *trzeźwy* 'тж'.

ТРЭЙЛО' *гл.* ТРАЙЛО'

ТРЭЙНЯ' *гл.* ТРАЙНЯ' I

ТРЭ'ЙЦЫ *гл.* ТРЭ'ЦІ

ТРЭ'ЙЧЫ *прысл.* Тройчы. *Церас яго пярэйдуць, пераступяць трэйчы.* Міратычы Карэл.

ТРЭ'ЛІЦЬ, ТРЭ'ЛІЦ, ТРЭ'ЙЛІЦЬ *незак.* Тое ж, што і т р ы й л о́ ч ы ц ь. *Што ты трэліц? Памаўчы лепей. Трэліш абы-што.* Галубы Маст. *Трэліць, а што — сама не знае.* Пацаўшчына Дзятл. *Трэліш, трэліш ты языком.* Магуны Паст. *Трэліш бяс тоўку. Трэліш, а чалавеку патом колькі гора.* Быстрыца Астр. *Трэліш невядома што.* Вялікія Баяры Шчуч. *Што ты трэліш тут!* Старыя Трокі Трак. *Вот трэля і трэля ерўнду, досьць табе трэліць, ідзі ты да работы.* Гемзы Шальч. *Што ты мне тут трэліш, будзя трэліц мне тут!* Парэчча Гродз. *Трэйліць невядома што! Трэйліць з пустого ў парожняе.* Мсцібава Ваўк. *Баба трэйля, на вёску пашоўшы.* Руднікі Шальч.

ТРЭЛЬ *ж.* Уезджаная дарога. *Трэль — утоптаная дарога, паеду па трэлі, хоць і далей будзя. Трэль — уежджаная дарога*

*зімой, паеду па трэлі па дровы, хоць уцэла было бліжэй.* Азяраны Раг.

ТРЭНІРАВА́ЦЬ *незак.* Тармазіць. *Гончыкам трэба трэніраваць плыт.* Руднікі Шальч.

ТРЭ́НІЦА *ж.* Тое ж, што і т р а́ л я. *А рано прыходзяць трэніцы і труць, цёрты лён вяжуць у жменькі.* Дзяніскавічы Ганц.

ТРЭ́ННЯ *н.* Цвёрдыя адходы пры апрацоўцы льну, кастрыца. *Як згніе лён — палезя ўсё ў трэння. Трэння ад церніцы. На хіп страхі кладуць трэння.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТРЭ́НТЫ *мн. зневаж.* Тое ж, што і т р а́ н т ы. *Не перакідай трэнтаў.* Пацаўшчына Дзятл.

ТРЭПА́ЛО *н.* Тое ж, што і т р а п а́ л к а. *Было трэпало лён трэпаці.* Смаляніца Пруж.

ТРЭ́ПАНЫ *дзеепрым.* Трапаны. *Трэпаны лён самі чэшуць.* Малахоўцы Бар.

ТРЭ́ПАТІ, ТРЭ́ПАЦІ *гл.* ТРАПА́ЦЬ

ТРЭ́ПАТНІК *гл.* ТРЫПУ́ТНІК

ТРЭ́ПАЦЦЯ *незак.* Брыкацца, біцца. *Карова будзя трэпацця.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *trepóti* 'ісці, дробна ступаючы, таптаць'.

ТРЭ́ПАЧАК *м. памянш.* Тапачак. *Трэпачак знайшлі за печчу.* Солы Смарг. *Купі трэпачкі хоць пакойніку.* Кудзялянцы Шальч.

ТРЭПА́ЧКА I *гл.* ТРАПА́ЧКА II

ТРЭПА́ЧКА II *ж.* Жанчына, якая трэпле лён. *Трэпачка прышла, лён трэпаць.* Калясное Міхал.

ТРЭ́ПКІ I *мн.* Кутасы. *Настольніцы ткалі, трэпкі зацягалі.* Баброўнікі Гарад.

ТРЭ́ПКІ II *мн.* 1. Даўні сялянскі абутак на скураной падэшве ці падэшве з іншага матэрыялу; сандалі. *Трэпкі на ногі шылі, патшывалі палатном, сукном, шкуратом.* Бакшты Іўеў. *На трэпках ляжаў кот.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трэпкі скураныя шылі.* Солы Смарг. *На гарые можна якіесь трэпкі найті, на стэрню будут добры.* Курашэва Чыж. *Якія добрыя трэпкі атрымаліся, яны са скуры, як лапцікі.* Солы Смарг. 2. Даўні сялянскі абутак на драўлянай падэшве, абшыты зверху скурай. *Трэпкі насілі, падэшва дзеравяная, скура зверху, сама насіла.* Жылі Іўеў. 3. Тапачкі. *Некалі тапкі называлі трэпкі.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* польск. *trepki* 'сандалі, тапачкі'.

ТРЭ́ПЛА *н.* Тое ж, што і т р а п л о́. *Трэпла, стаўпец ёсць, на ём трапушкаю трэплюць.* Міратычы Карэл.

ТРЭПОНУ́ТІ *зак.* Ударыць. *Трэпоні ёго, то, можэ, пэрэстанэ тэбэ зачыпать.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *trzepnąć* 'тж'.

ТРЭП-ТРЭП *выкл.* у знач. *вык.* 1. Брык-брык. *Даіла карову — карова трэп-трэп нагой.* Кіралі Шчуч. 2. Стук-стук; тах-тах. *Прабуджаюся: сэрца трэп-трэп, як удэра.* Граўжышкі Ашм.

ТРЭПУ́ТНІК *гл.* ТРЫПУ́ТНІК

ТРЭ'ПЦІ *мн. зневаж.* Стаптаны, зношаны абутак. *Трэпці — благі обуй, яго можна выкінуць.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *trèpčiai* 'тж'.

ТРЭ'ПЫ I *мн.* 1. Тое ж, што і т р э́ п к і II, 1. *Жэншчыны шылі трэпы.* Масілавічы Сл. *Трэпы, пэпці — дамавікі, трэпы багатыя насілі.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і т р э п к і II, 2. *Трэпы — дзеравяк, падэшва дзеравянная, зверху абабіты сукном ці скурай.* Пацаўшчына Дзятл. *Трэпы мелі дзеравяную падошву, апшытыя кожай трэпы.* Лука Нараўк. *Трэпы на дзеравянай падэшве, скурай абіты.* Дакудава Лід. *Трэпы ў заводзе насілі немцы, спот дзеравянны, верх кожай абіты, завот, дзе шкло выраблялі.* Вецярэвічы Пух. *Трэпы — абутак, спод дзеравянны, у іх хадзілі на работу.* Дзяніскавічы Ганц. *Трэпы — абутак на дзеравянай падэшве, як пойдзеш гуляць, то моцно грукалі.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *trepy* 'тж'. 3. Тое ж, што і т р э́ п ц і. *Выкінь гэтыя трэпы, яны старыя, парваныя.* Нізок Уздз.

ТРЭ'ПЫ II *мн.* Прыступкі, ступенькі. *На трэпах пасядзела і пашла.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. дыял. *trẽpai* > ням. *Trерре* 'тж'.

ТРЭ'СКІ, ТРАСКЕ' *мн.* Трэскі, шчэпкі. *Трэскі, як апсякаюць, чэшуць бярвення.* Чуркі Ашм. *Трэскі валяцца на землю.* Старыя Смільгіні Воран. *І шыпулямі зашыпуліў, і трэскамі.* Гемзы Шальч. *Трэсак прынесла.* Чычалі Швянч. *Траске ў печ кінуў.* Пацаўшчына Дзятл.

ТРЭ'СНІК *м.* Тое ж, што і т р а с о́ т н і к. *Трэснік — рубаем дрова.* Парэчча Гродз. *Дзе дрова пілуюць і шчапаюць — там трэснік.* Ліпнікі Вільн. *Сякеру пакінуў на трэсніку.* Руднікі Шальч.

ТРЭ'СНІК *гл.* ТРАСНІ'К

ТРЭ'СНУЦЬ *зак.* 1. Лопнуць. *Абруч на боццы трэснуў.* Альхоўцы Лях. 2. Ударыць. *Трэснуў пярун.* Крынкі Крын. 3. Парвацца. *Спіна у сукенцы трэснула пасярэдзіне.* Жодзішкі Смарг. 4. Кальнуць (пра прыступ вострай болі). *Як трэснула ў самым згібя нагі — з мейсца не магла зрушыцца.* Малі Астр.

ТРЭСЦІ' *гл.* ТРАСЦІ'

ТРЭСЦІНА' *гл.* ТРАСЦІНА' II

ТРЭ'СЦІСЯ, ТРАСЦІ'СЯ *незак.* 1. Хістацца (пра дрэвы, лес). *Лес трасецца — як ён запяець, ліст адваляваецца.* Саланое Віл. 2. Дрыжаць. *Як зямля траслася, зямля пэнкала.* Солы Смарг. 3. Хваляваццa. *Вада трасецца, як вецярок павея.* Вецярэвічы Пух. 4. Баяцца, дрыжаць. *Як падыйду да газу, пакуль запалю, трасуся.* Ахрэмаўцы Брасл. *А самі трасёмся, баімся, як стала страляніна.* Азяраны Раг. 5. Калаціцца, тахаць, трапятацца. *Сэрца трасецца.* Мярэцкія Глыб., Старыя Трокі Трак. 6. Перажываць, турбавацца. *Я буду за яго трасціся.* Лісна В.-Дзв. *Так век будзеш трэсціся — і захварэеш на нервы.* Беразіно Докш.

ТРЭСЦЬ, ТРЭСЬ *гл.* ТРАСЦІ′

ТРЭСЬ *выкл.* у знач. *вык.* 1. Бух. *Пярун трэсь ды трэсь.* Магуны Паст. 2. Трэсь, хрусь. *Ступлю нагамі, а пад нагамі — трэсь.* Малышы Лід. 3. Хап. *Котка рыбу трэсь — і німа.* Беняконі Воран.

ТРЭ′ЦІ, ТРЭ′ЙЦІ *ліч.* Трэці. *Я трэцяя ў маткі.* Лісна В.-Дзв. *Трэці рас на шарсцяную шчэтку чэшуць.* Дакудава Лід. *Два разы есць, а трэйці рас трэбо ў торбу даць.* Баброўнікі Гарад.

ТРЭ′ЦЯ СТРЭ′ЧА *ж.* Траюрадныя (браты, сёстры). *А трэця стрэча — і радня траціцца.* Паляцкішкі Воран.

ТРЭ′ШЧАНЫ *гл.* ТРЫ′ШЧАНЫ

ТРЭ′ШЧЫ *мн.* Прыгаршчы. *Узяла мукі трэшчы.* Навасёлкі Лід.

ТРЭ′ШЧЫЦЬ *незак.* Пляскаць. *Мальчонак усё трэшчыць і трэшчыць у ладошкі.* Мішневічы Шум.

ТРЯПА′ЦЬ *гл.* ТРАПА′ЦЬ

ТРЯПЕ′Ц *м.* Той, хто трэпле лён. *Сабіраюць талаку, асець ілі дзве, мнуць лён машынай, а патом тряпцы ідуць. Пайду найму тряпцоў: нада лён натрепаць.* Мішневічы Шум.

ТРЯСТІ′ *гл.* ТРАСЦІ′

ТРЯ′СЦА *гл.* ТРА′СЦА

ТУ *прысл.* Тут. *Ту калісь пасікі былі.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *tu* 'тж'.

ТУ′БАЛЬНІЦА *ж.* Уласніца маёмасці, валадарка. *Што ты тут тубальніца некая, што прышла і камандуяш. Яна, бра, нясе сябе, ак тубальніца.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ТУ′БАЧНІК *м. бат.* Крапінец чубаты. *Тубачнік сінім квітніць, ён у полі квітніць.* Рагулішкі Даўг.

ТУ′БЕЛЬ *гл.* ТЭ′БЕЛЬ

ТУГАВА′ТЫ *прым.* Схільны да запораў. *Тугаваты жалудак.* Івашкаўцы Смарг.

ТУ′ГАНЬКА *прысл.* Шчыльна, туга. *Вілам і туганька складаюць сена.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТУГІ′ *прым.* 1. Густы. *Каша тугая.* Беразіно Докш. 2. Густа замешаны, цвёрды. *Хлеп тугі.* Лісна В.-Дзв. *Тугі хлеп, перасядае ў горле.* Паляцкішкі Воран. *Кісьніць хлеп, ня хочыцца яго тугім паставіць, паставіш рэдзінькі.* Масішкі Красл. 3. Перасмажаны, перапечаны. *Яечню тугую зрабіла, як скалу.* Ністанішкі Смарг. 4. Цвёрды, мускулісты. *Во, Ганнушка, пакажы, ці тугі жывот.* Пацаўшчына Дзятл. ◇ *Тугое малако* — пра малако, якое цяжка выдойваецца ў сувязі з асаблівасцямі будовы вымя ў каровы. *Як жарало тоненькае, то цяшка даіць, натта тугоя малако.* Вузла Мядз.

ТУ′ДАКА, ТУ′ДАКО *гл.* ТУ′ТАКА

ТУДЫ′, ТУДА′, ТУДЭ′ *прысл.* Туды. *Дзе браў, туды адвязі.* Гальшаны Ашм. *Па траве туды лезе выдра.* Вулька Гродз. *Туды я не пайду.* Саланое Віл. *Туды ніхто не зайдзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Туды павялі дзесяць чалавек.* Істра Лудз. *Туды не хадзі.*

Беняконі Воран. *Туды бегуць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Туды ідзі.* Чычалі Швянч. *Няма каму: і туды трэба, і туды трэба.* Гемзы Шальч. *Туда нада беч.* Пасіене Лудз. *Так тудэ, так тудэ бяжыць.* Кіралі Шчуч. *Тудэ іті.* Дзмітравічы Кам. *Тудэ ні ідзі!* Номікі Бабіц. ∇ *Куды вецер, туды і ён.* Вузла Мядз. *Ідзі тудэ, дзе курта брэша!* Кіралі Шчуч.

ТУДЫ′-СЮДЫ′, ТУДА′-СЮДА′, ТУДЭ′-СЮДЭ′ *прысл.* Туды-сюды, у розныя бакі, у розных напрамках. *Пачынаюць гарадь туды-сюды — склат злажыў.* Солы Смарг. *Суваяш чалнак туды-сюды.* Ракаўскія Швянч. *Цяпер танцую туды-сюды, а даўней, як пойдзе ў танцы — зямля дрыжыць.* Вецярэвічы Пух. *Туды-сюды павярнулася — і пашла: кампанія не наравіцца.* Малі Астр. *Туда-сюда хадзіць ме.* Дзяніскавічы Ганц. *Носіць туда-сюда.* Альхоўцы Лях. *Гадзіна тудэ-сюдэ паўзе.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТУДЭ′МІ *прысл.* У тым напрамку, у той бок. *Тудэмі паехаў, тудэмі пойдзем. Яна тудэмі не ўлезе.* Пацаўшчына Дзятл. *Тудэмі ходзіць аўтобус.* Галубы Маст.

ТУДЭ′Ю, ТУДО′Ю *прысл.* Тое ж, што і т у д э́ м і. *Ідзеця тудэю. І каровы ганілі тудэю.* Дзяніскавічы Ганц. *Ідзі тудэю.* Вецярэвічы Пух. *Тудэю дошч пашоў.* Вялікі Краснік Пруж. *Тудою на гару лезуць.* Альхоўка Навагр. *Тудою весці прыдзецца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тудою іды.* Сіманавічы Драг. *Будэш іті тудою, кудою я тобіе скажу.* Курашэва Чыж.

ТУДЭ′Ю І СЮДЭ′Ю *прысл.* Туды-сюды. *Я тудэю і сюдэю — німа курыцы.* Кузьмічы Люб.

ТУЖУ′РКА *ж.* Тужурка. *Яму тужурку новую купілі.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *тужурка* ’тж’.

ТУЖЫ′ЦЬ І *незак.* Журыцца, смуткаваць, маркоціцца. *Мой біз міне будзіць тужыць.* Лісна В.-Дзв. *Цяпер я так тужу — братава паехала, і я адна.* Масішкі Красл.; *парайн.* руск. *тужить* ’тж’.

ТУЖЫ′ЦЬ ІІ *незак. ткац.* Нацягваць аснову красён. *Палатно тужыць — калочкам патпірадь.* Нізок Уздз.

ТУЖЭ′Й *прысл.* Цяжэй, горш. *Крышкі тужэй дастаць увосень.* Вецярэвічы Пух. *Трошкі тужэй было з хлебам.* Ванелевічы Кап.

ТУ′ЗАЦЦА, ТУ′ЗАТІСЕ *незак.* 1. Біцца, барукацца, дужацца. *Тузаліся з ім, а пан удраў.* Гальшаны Ашм. *Хлопці тузаюцце, пуйді і розжэні іх.* Курашэва Чыж. 2. Вазіцца, старацца ўзваліць (на плечы, воз і г. д.). *Сам тузаессе з мішком і нэ дасі рады, пуйді пособ ёму.* Курашэва Чыж.

ТУ′ЗАЦЬ *незак.* 1. Рваць, ванітаваць. *Тузая яго, тузала, тузала, ды вырвала.* Вецярэвічы Пух. *Яе тузае, белая стала, мабыць, нешта благое з'ела.* Валеўка Навагр. 2. Трэсці. *Як прыступ, як начнець тузаць яго.* Вузла Мядз.

ТУЗГАНУ′ЦЬ *зак.* Рэзка пацягнуць, тузануць, рвануць. *Пас-*

*ля вайны аралі каровамі, карова бойкая, як тузганець, тузгаець туды-сюды.* Валынцы В.-Дзв.

ТУ'ЗГАЦЬ *незак.* Тузаць. *Тузгала, тузгала — не магла выплутаць з вяровак.* Солы Смарг.

ТУ'ЗІН *м.* Тузін. *Дванасця снапоў — тузін.* Івашкаўцы Смарг. *Тузін гузікаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тузін — дванаццаць штук, напрыклад, гузікаў.* Номікі Бабіц. *Цалы тузін купіла гузікаў.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *tuzin* 'тж'.

ТУЙ-ГА' *выкл.* Выкрык, якім адганяюць ваўкоў (пужаюць ваўкоў). *«Туй-га, туй-га»— на ваўка так крычаць.* Кудзялянцы Шальч.

ТУК *м.* Растоплены тлушч. *Скваркі забяруць, астаецца тук на скварадзе.* Альхоўцы Лях. *Як скварыті солоніну або сало, то робіцце тук і скваркі, тук можна зліеті, а скваркі останут; е такіе людэ, што самы тук п'ют.* Курашэва Чыж. *Тук — растоплены тлушч, скварада туку стаіць.* Кузьмічы Люб. *Здор ператаллююць на тук, тучна сала.* Азяраны Раг. *Тук з сала.* Палік Барыс. *На скварадзе тук, як пячэш сало.* Дзяніскавічы Ганц. *У тук памачыў блінамі, туку шмат.* Рудня Астравітая Чэрв. *Прынёс саганчык сала, а туку поўна.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* руск. *тук* 'тж'.

ТУ'КАЦЬ-ГУ'КАЦЬ *незак.* Лаяць, пакрыкваць, нападаць. *Людзі на яго тукаюць-гукаюць, як на ваўка, што ты ніякі чалавек.* Кураполле Паст.

ТУ'ЛАВА *н.* Тулава. *Тулава ў яе дліннае.* Пярэкі В.-Дзв.

ТУ'ЛАВІШЧА *н.* Тое ж, што і т у́ л а в а. *Абразаюць мяса із тулавішча, крышаць яго на кілбасы, дабаўляюць прыпраў.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* руск. *туловище* 'тж'.

ТУЛЁЎКА *ж.* Хустка, абшытая карункамі. *Тулёўкі — хусткі рэдзенькія.* Семежава Кап.

ТУЛІНЯ'ЦЦА, ТУЛЯНЯ'ЦЦА *незак.* Туляцца. *Тулiнялiся па лісах зладзеі.* Кураполле Паст. *Куды туляняеся каля платоў?* Дакудава Лід.

ТУЛІ'ЦЦА *незак.* Хінуцца, прыязна адносіцца, туліцца. *Тады ш калежанкі не будуць да мяне туліцца, як будуць знаць, што замужняя.* Гальшаны Ашм. *Унук ня туліцца так да іх.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзеці туляцца да міне.* Бакшты Іўеў. *Наша дзеці да нас туляцца.* Солы Смарг. *Ён будзя туліцца — і пагрэбая за калена.* Малі Астр. *Тулілася да яго, каб ён узяў, мадэравалася.* Гемзы Шальч. *Я пацешуся: скаціна да мяне туліцца.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *tulić się* 'тж'.

ТУ'ЛКА *ж.* Утулка, жалезная трубка ў коле, у якую ўстаўляецца вось. *У трупку ўкладвалася тулка.* Пасіене Лудз.

ТУЛУ'П, ТУ'ЛАП *м.* 1. Кажух. *Ладны тулуп мела.* Паляцкішкі Воран. *Тулап быў доўгі с аўчын.* Дзяніскавічы Ганц. 2. у знач. *прысл. тулу́пам.* Цалкам. *Скура здымаецца з вангора цэлым тулупам.* Бакшты Іўеў.

ТУЛУ'ПАВІШЧА *н.* Тое ж, што і т у́ л а в а. Паляцкішкі Воран.

ТУ'ЛЬКІ, ТУ'ЛЬКО *прысл.* 1. Толькі. *Надоіела ужэ нам, старым, удвох тулькі жыці.* Лукомір Бяроз. 2. Столькі. *Дід кажэ: «Бабо, нашто нам тулько проса?»* Сасноўка Пруж.

ТУМА'К *м.* Тупы, неразвіты чалавек. *Тумак малы.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *tumak* 'футра са шкур куніц'.

ТУМА'Н *м.* 1. Туман. *Вот вялікі туман, усё паеў, ат тумана пачарнела, як туман паесць—чарнеіць картаплянік, памідоры.* Ністанішкі Смарг. *Ат туману прапалі памідоры, туман з'есць памідоры.* Рудня Астравітая Чэрв. *Да самай зямлі туманом пакрыла.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Тое, што перашкаджае добра бачыць, што засцілае зрок. *Вочы было туманам зацягнуўшы.* Кіралі Шчуч. ◇ *(Як) туман (у вачах), (як) праз туман, (як) у тумане* — няясна, цьмяна бачыць. *Зробіцца як туман у вачах.* Груздава Паст. *Як праз туман бачу гэтым вокам.* Саланое Віл. *Бачу як у тумане.* Кузьмічы Люб. *Туман (а) пускаць, туманом пускаць* — гіпнатызаваць. *Цыганка туман пусціла. Цыганы туманом пусцілі. Яна табе туманом пусціла, страх пакажа, то змяю — і дасі, што яна скажа.* Рыбчына Віл. *Тумана пускаць*— ствараць ілжывае ўражанне, выстаўляючы сябе, сваё становішча ў лепшым выглядзе, чым на самай справе. *Тумана ты пускаяш.* Альхоўцы Лях.

ТУМА'НІСТЫЯ ВО'ЧЫ *мн.* Няясны, слабы зрок. *Ужо ў мяне не такія відныя вочы, а туманістыя вочы.* Парэчча Гродз.

ТУ'МАРНІК *м. абразл.* Пануры чалавек, нелюдзень. *Што ты возьмеш з тумарніка гэтага?* Груздава Паст. *Хто сядзіць насупяўшыся, на таго кажаць тумарнік.* Вузла Мядз. *Тумарнік — хто староніцца людзей.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ТУМАЦІ'ЦЬ *незак.* Дурманіць. *Што ты тумаціш міне?* Мсцібава Ваўк.

ТУ'НЬКАЦЦА *незак. экспр.* Хутка перамяшчацца, мітусіцца. *Тунькаецца с кутка у куток. Чаго ты тунькаесся па вуглах.* Саланое Віл.

ТУО'ЛЕЗНО *прысл. павел.* У вялікай колькасці, многа. *Пуд вэсіеле туолезно всёго прыготовілі, што гості нэ позз'ідалі.* Курашэва Чыж.

ТУО'ЛЕЧКО *прысл.* Мала, крыху. *А чом оно туолечко конёві овса всыпав?* Курашэва Чыж.

ТУО'ЛЬКО *гл.* ТО'ЛЬКІ I, II

ТУО'ЛЬКО ШТО *прысл.* Нядаўна, толькі што. *Як мы прышлі, то вуон туолько што до дому пушов.* Курашэва Чыж.

ТУ'ПА, ТУ'ПО *прысл.* Марудна, павольна. *Індзюке тупа растуць.* Кіралі Шчуч. *Тупо растуць яблыні.* Навасёлкі Свісл.

ТУПАВА'ТЫ I *прым.* Тупаваты, не зусім востры. *Цяпка тупавата, пагастры!* Збляны Лід.

ТУПАВА'ТЫ II *прым.* Глухаваты. ◇ *Тупаваты на вушы* — пра таго, хто дрэнна чуе. Пасіене Лудз.

ТУ'ПАЦЬ *незак.* 1. Хадзіць паволі, таптацца. *Тупаў кала хаты.* Гемзы Шальч. *Тупаў, тупаў кала лавы.* Старыя Трокі Трак. 2. Хутка перастаўляць ногі. *Овадні як нападуць, то карова, бедна, не мае дзе падзецца, хвастом махае ды нагамі тупчэ.* Баброўнікі Гарад.

ТУП'Ё *н.* Тупая частка нажа. *Туп'ём нажа чысцяць кішкі.* Кіралі Шчуч.

ТУПІ'РО *гл.* ТОПІ'РО

ТУПІ'ЦА *ж.* Тупая сякера. *Тупіцай рашчэпліваяць лучыны, калотку.* Магуны Паст. *Тупіца — такая сякера тупая.* Вялікія Баяры Шчуч.

ТУ'ПКА, ТУ'ПКО *прысл.* Цвёрда. *Тупка, ня граска, дзяржыць, добра ісці.* Жыдзевічы Іўеў. *Ідзі там, кап тупко было пад нагамі.* Стральцы Гродз. *Тупко — цвёрдо, а там ні тупко, а вяско.* Малахоўцы Бар. *На дне, дзе мох, тупко, па мсе не прарываецца, а дзе прорва — там трава расце лапікамі, прарываецца.* Дзяніскавічы Ганц.

ТУ'ПКІ *гл.* ТО'ПКІ II

ТУ'ПЛІ *гл.* ТУ'ФЛІ

ТУПЫ' *прым.* 1. Тупы, нявостры. *Тупая мая каса.* Кухты Віл. *Габлі — шэсць зубоў, картошку накідаюць з буртоў, капцоў, зубы тупыя, з булаўкаю, каб картошку не прабіваць.* Валеўка Навагр. 2. *перан.* Неразумны, недаразвіты. *Такі тупы чалавек.* Малі Астр. 3. Павольны, лянівы. *Тупы конь: ідзець, цягнець, але яго лупіць нада.* Магуны Паст. ∇ *Госпадзі, памажы тупому ўстроіцца!* Збляны Лід. *Жана — тупая піла.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТУ'ПЯНЬКІ *прым. памянш.* да т у́ п ы. *Якоя яйцо: які носік тупянькі.* Вязынка Маладз.

ТУР *м. заал.* Тур. ∇ *Здаровы як тур, нічога яму не ўрадзіць.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *tur* 'тж'.

ТУ'РА *ж.* Група, партыя. *Паследнюю туру качак унучка карміла. Первую туру качак здавалі вот цяпер, у маі, а другую туру ў юні здаваць будуць, і трэцяя тура ёсць — па восені.* Вузла Мядз.

ТУРАВІ'ЦЦА *незак.* Спяшацца. *Туравіцца нада на работу.* Кураполле Паст. *Нада мне туравіцца. Учора туравіліся, сена складалі, алі ўправілісі.* Валынцы В.-Дзв. *Нады туравіцца: іці ці ехаць куды.* Лісна В.-Дзв.

ТУ'РАК, ТУ'РОК *м.* 1. Турак. *Вайна вялася з туркам.* Якшыцы Бярэз. 2. *перан.* Упарты чалавек. *Скуоль такі турок в нашуом селіе взявсе?* Курашэва Чыж.

ТУРБАВА'ЦЦА *незак.* Турбавацца, непакоіцца. *Яна турбуецца.* Граўжышкі Ашм. *Пані, ні турбуйся.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *turbować się* 'тж'.

ТУРБАВА'ЦЬ *незак.* Турбаваць, непакоіць. *Не прыходзь, не турбуй мяне.* Беразіно Докш. *І нашто табе мяне турбаваць?* Мярэцкія Глыб. *Паша прасіла не турбаваць маткі.* Гемзы Шальч.

*Больш тлуміць, чым турбуя, скажуць, але і так гавораць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ТУРБАНІ́НА *ж.* Клопат, турбота. *Дома турбаніна: то карову падаі, то завядзі.* Гемзы Шальч.

ТУРБА́ЦЫЯ *ж.* Тое ж, што і т у р б а н і н а. *Турбацыя вялікая.* Мярэцкія Глыб. *Кажды мае турбацыю.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. дыял. *turbacja* 'тж'.

ТУРБО́ТА *ж.* Тое ж, што і т у р б а н і н а. *Адно турбота за турботай: то адно зробіш, то другое зваліцца.* Рыбчына Віл.

ТУ́РЗАЦЬ, ТУ́РЗАТІ, ТЫ́РЗАЦЬ *незак.* 1. Торгаць, цягаць рыўкамі, рэзкімі рухамі. *Турзаюць кросна, патурзаюць і навіваюць, і ткуць, і ткуць.* Альхоўцы Лях. *Турзают кросна.* Азарычы Пін. *Моткі ніток, як вымают з лугу, турзают.* Лука Нараўк. *Крутую аснову тырзалі.* Тухавічы Лях. *Турзаюць свіні мех.* Вялікія Баяры Шчуч. *Турзая сабака ласкут.* Кіралі Шчуч. *Усе турзаюць свата: «Сват, цукеркі, сват, цукеркі».* Зблянь Лід. *Гусяняты турзаюць адно аднаго, ухопіць за карк — і трасе.* Кіралі Шчуч. 2. Торгаць туды-сюды, імкнучыся адчыніць што-н. *Турзая дзверы.* Бакшты Іўеў. 3. Рытмічна торгаць, пранізваць (пра боль). *Руку ўсю ноч турзаў моцны боль.* Міратычы Карэл. 4. *безас.* Нудзіць, рваць. *Ад ікавіцы аж турзае.* Галубы Маст. 5. *перан.* Не даваць спакою каму-н., дакучаць якімі-н. патрабаваннямі. *Чаго ты турзаеш мяне?* Гемзы Шальч.

ТУРЗЫ́КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і т у́ р з а ц ь 1. *Свіня турзыкаіць мех.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТУ́РКАЦЬ *незак.* Цвыркаць. *Туркачы туркаюць такім яркім звукам.* Старыя Трокі Трак.

ТУРКА́Ч *м. заал.* Мядзведка. *Туркач туркая, да рачка падобны.* Мсцібава Ваўк. *Туркач, як рак, выглядая.* Каўняны Гродз. *Туркач жыве ў зямлі, падгрызае карэнні.* Сакаляны Сакол.

ТУРКЛІ́С *м.* Тое ж, што і т у р к а́ ч. *У зямлі сядзіць туркліс, такі жоўты.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *turklỹs* 'тж'.

ТУРКОТА́ТІ *незак.* Тарахцець. *Масыклет туркочэ.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *turkotać* 'тж'.

ТУРКУ́ЦЬ *м.* Тое ж, што і т у р к а́ ч. *Туркуць — жоўценькі, длугенькі, падымая зямлю — шкоднік. Туркуць у бульбе, на сапажаці, у балоце. Туркуць — длугі такі, па фасоне большых осв.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *turkūtis* 'тж'.

ТУРМА́ *ж.* Турма. *Сядзела дзевяць месяцаў у турме.* Гальшаны Ашм. *У турме не сядзеў.* Грыкені Вільн.

ТУРНЕ́ПС, ТУРНЭ́Т *м. бат.* Турнэпс. *Турнепсу дзялкі па паўтара гактара.* Новіны Нясв. *Турнепс расцець, а пацягнеш — як друза.* Кураполле Паст. *Турнэт каровы ядуць.* Лісна В.-Дзв. *Турнэт сеюць.* Мельнікі Лудз.

ТУРНУ́ЦЬ *зак. груб.* Турнуць. *Так турнуў, аш ногі задзёр.* Жылі Іўеў. *Я турнула яго з хаты.* Гемзы Шальч.

ТУ′РОК *гл.* ТУ′РАК

ТУРО′К *м.* Тое ж, што і т у р к а́ ч. *Турок — рыжэнькі, у зямлі турчыць, туркамі іх завуць.* Лісна В.-Дзв. *Турок турчыць ноччы на двары.* Якубова Рас.

ТУРО′ЧАК *м. памянш.* да т у р о́ к. *Турочак рыжанькі, небальшэнькі, у зямле жывець, турчыць.* Лісна В.-Дзв.

ТУ′РХАЦЬ *незак.* Штурхаць, піхаць. *Ну, што ты мяне турхаеш?* Мачаск Бярэз. *Не турхай у плечы.* Рудня Чэрв.

ТУРЦІ′ЗНА *ж.* Тое ж, што і т р у ц і з н а 2. *Ці не турцізны наеліся куры, што паздыхалі?* Дзераўное Стаўб.

ТУРЧА′К *м.* Тое ж, што і т у р к а́ ч. *Турчак падобны да дрэжыня* [яшчара]. Старыя Смільгіні Воран. *Гэтыя турчакі на віюна добра. Турчакі турчаць.* Магуны Паст. *Турчак у зямлі турчыць.* Лісна В.-Дзв. *Турчак сядзіць на полі, жоўты ён.* Навасёлкі Лід. *Што п іх зямля паела, турчак прэнтка ў землю хаваецца, у яго носік шылаваценькі.* Кіралі Шчуч. *Турчак турчыць.* Жылі Іўеў. *У нас іх турчакі звалі.* Вузла Мядз. ∇ *Калі забіць турчака, то хлеп будзя патходзіць.* Кіралі Шчуч.

ТУРЧА′ЦЬ, ТУРЧЭ′ЦЬ *незак.* 1. Утвараць характэрныя гукі, тур-тур (пра мядзведку). *Турчыць турчок.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Туркач у полі турчыць, галава кругленькая ў туркача.* Малі Астр. *Турчакі турчаць.* Магуны Паст. *Туркуць турчыць.* Гемзы Шальч. ∇ *Турчак турчыць — будзіць ніпагода.* Вузла Мядз. 2. Квакаць. *Жаба будзе турчаць: ко́м, ком, брэ-ке-ке.* Пацаўшчына Дзятл. *Турчыць увечары лягушка.* Калясное Міхал. *Жабы турчаць.* Чычалі Швянч. 3. Тое ж, што і т у р к о т а́ т і. *Рана прыехаў тут і турчыць пад носам* [трактар]. Гальшаны Ашм.

ТУРЧО′К *м.* 1. Тое ж, што і т у р к а́ ч. *Турчок точыць у зямле.* Якубова Рас. *Маленькій, я відзіўшы турчка.* Рагулішкі Даўг. 2. Цвыркун. *Турчок турчыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ∇ *Турчкі пад печчу прадвесні — харошы ў хаце лад будзе.* Шкаўна Лудз.

ТУРЧУ′К *м.* Тое ж, што і т у р к а́ ч. *Турчук водзіцца на полі.* Кудзялянцы Шальч.

ТУ′РЧЫК *м.* Тое ж, што і т у р к а́ ч. *Мо нейкі турчык з'ядае вярхе ў памідораў?* Пацаўшчына Дзятл.

ТУРЧЭ′ЦЬ I *гл.* ТУРЧА′ЦЬ

ТУРЧЭ′ЦЬ II *незак.* Цурчаць, дзюрчаць. *Вада аш турчыць.* Старыя Смільгіні Воран.

ТУРЫ′ЦА, ТУРЫ′ЦЯ *ж. бат.* Вадаперыца, вадзяны кураслеп. *Расце на балоце зелье — турыца, на ём бурачкова кветачка, маленька, цёмненька.* Дзяніскавічы Ганц. *Турыця на лужку ростэ, такая бы бурачкова.* Сіманавічы Драг.

ТУРЫ′ЦЬ *незак.* Біць, ганяць. *Ён турыць дзяцей, а я — крычу.* Кураполле Паст.

ТУРЫ′ЦЯ *ж. заал.* Самка тура. *Ны тур в ворота торкае, мынэ, молоду, лякае, тож ны турыця рожкамы, то мый свёкорко з міста йдэ* (фальк.). Сіманавічы Драг.

ТУТ, ТУ′ТА, ТУ′ТАЙ *прысл.* Тут. *Вадацечы тут німа.* Цяпін-

цы Віл. *Тут палажу, тут забуду, потым найду, як ні трэба.* Парэчча Гродз. *Тут машынамі ходжана.* Ністанішкі Смарг. *Дзе тут кацялок?* Малькуны Ігн. *Када-та я жыў тут, тут мая бацькаўшчына.* Малышы Лід. *Я тут тыле лят жыву.* Васілевічы Гродз. *Ты тут?* Скрудалена Даўг. *Тута было ранняшняе і абедашняе малако.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Тут многа пагарэўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тута мы і жывём.* Галубы Маст. *Шчо ветэ тута рвэтэ?* Смаляніца Пруж. *Пабудзеце тута.* Ялова Пруж. *Тутай былі людзі.* Кемялішкі Астр. *Пасуць у тум закутку, тутай ужо дзіскуюць, мабыць, будуць сеяць. Тутай у карчах боязно.* Пацаўшчына Дзятл. *Айцец жыве тутай.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *tu, tutaj* 'тж'.

ТУ'ТАКА, ТУ'ДАКА, ТУ'ДАКО, ТУ'ТАКАЙ *прысл.* Тое ж, што і т у т. *Брыгадзірка тутака жывець.* Асавец Віл. *Я іду тутака.* Саланое Віл. *Тутака блізка пасем.* Валеўка Навагр. *Пастуха тутака нанімалі.* Малахоўцы Бар. *Тутака, кап хацеў, дак німа дзе і калі разгуляцца.* Іванава Нясв. *Тутака ест дзюра выразана.* Кудзялянцы Шальч. *Тутака прыходзіла адна, хоча на дачу прыехаць.* Навасёлкі Лід. *Тутака была іх хата велькая такая.* Дакудава Лід. *Тутака быў велькі лес.* Быстрыца Астр. *І мы тутака хадзілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тутака яшчэ старэйшыя за мяне ёсць.* Буды В.-Дзв. *Узяла тутака памідор, нада пасадзіць.* Валынцы В.-Дзв. *Тутака пастаў.* Стральцы Гродз. *Тутака жылі.* Новікі Гродз. *Тутака балота, граска.* Пасека Ст.-Дар. *Яна ўжэ даўно тутака. Тутака работаюць не нашы.* Масішкі Красл. *Шчэ тудака вас не было.* Кіралі Шчуч. *Тудака суха, можна садзіць буракі.* Мсцібава Ваўк. *Хвабрыкі былі тутакай.* Крынкі Крын.

ТУ'ТАЦЬКА *прысл.* Тое ж, што і т у т. *Тутацька сельсавет новы пабудавалі.* Ухвала Круп.

ТУ'ТАЧЫ *прысл.* Тое ж, што і т у т. *Яны ўжо былі самы тутачы.* Ляхавічы Навагр.

ТУ'ТАШНІ *прым.* Тутэйшы, мясцовы. *Туташні чалавек памёр.* Валынцы В.-Дзв. *Туташні чалавек ішоў.* Азяраны Раг.

ТУ'ТКА *прысл.* Тое ж, што і т у т. *Тутка хата стаіць даўнейша.* Маствілішкі Ашм. *А тутка стаялі рускія.* Солы Смарг.

ТУТУ'Н, ТУТУ'НЬ *гл.* ТЫТУ'Н

ТУТЭ'Й *прысл.* Тое ж, што і т у т. *Тутэй ручнік паложыш.* Старыя Трокі Трак.

ТУТЭ'ЙШЫ *прым.* Тое ж, што і т у́ т а ш н і. *Гэта наш тутэйшы чалавек.* Рыбчына Віл. *Як тутэйшыя, то не забудуць.* Навасёлкі Лід. *Ні тутэйшы чалавек заходзіў.* Саланое Віл. *Тутэйшы ён, не прыежжы.* Калясное Міхал. *Яна тутэйша, з мае стараны.* Старое Сяло Зэльв. *Нявеста тутэйшая.* Паляцкішкі Воран. *Хочыць тутэйша хлопца ўзяць.* Груздава Паст. *Тутэйшы ён, далёка людзей зная.* Гемзы Шальч. *Яны не тутэйшыя.* Кемялішкі Астр. *Её ўважалі хлопцы тутэйшыя.* Новыя Мацалі Варэн.; *парайн.* польск. *tutejszy* 'тж'.

ТУЎХА'ЦЬ *незак.* Піхаць, штурхаць. *Што-та за мода туўхаць малых у снег?* Мачаск Бярэз.

ТУ'ФЛІ, ТУ'ПЛІ *мн.* Пантофлі. *Туфлі купавалі і рабілі на заказ.* Васілевічы Гродз. *Даўней туфлі багатыя мелі, а бедныя—брызянтовачкі. У цэркаў ішлі, туфлі ў руках няслі.* Латыгаль Віл. *У туфлёх пойдзіця.* Ністанішкі Смарг. *Туфлі і жанчыны, і мушчыны насілі.* Чычалі Швянч. *Туплі ніяк ні купя.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* руск. *туфли* 'тж'.

ТУ'ХЛАСЬ *ж.* Тухласць, гніль. *Тухлась, прытухла капуста зверху.* Азяраны Раг.

ТУ'ХЛЫ *прым.* Тухлы. *Тухлае ўсё сена.* Парэчча Гродз.

ТУ'ХЛЯ *ж.* Тухліна. *Злажылі сырое сена—тухляю смярдзіць.* Вузла Мядз.

ТУ'ХНУТІ I *незак.* Спадаць (пра пухліну), змяншацца. *Рука была муоцно спухла, але вжэ начынае тухнуті.* Курашэва Чыж.

ТУ'ХНУТІ II *незак.* Тухнуць, загнівацца, непрыемна пахнуць. *Сырое збуожэ, як довго лэжыт, то начынае тухнуті.* Курашэва Чыж.

ТУ'ХНУЦЬ *незак.* Гаснуць, пераставаць гарэць. *Тухня агонь.* Лісна В.-Дзв.

ТУ'ЧА *ж.* 1. Хмара. *Туча находзіць, і доіш ідзець.* Груздава Паст. *Ідзець чорная туча — будзіць навальніца.* Ёдлавічы Брасл. *Сініі тучы ходзюць, дажджавыі.* Валынцы В.-Дзв. *Тутака тучэй не было.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Вялікая колькасць чаго-н. *Туча ваўкоў — стада ваўкоў.* Мярэцкія Глыб. *Туча авадней у лясу, скату цяжало.* Ахрэмаўцы Брасл.∇ *З вялікай тучы будзя малы дошч.* Парэчча Гродз. ◇ *Як туча* — вельмі тоўсты. *Тая здаровая, як туча.* Валынцы В.-Дзв. *Юр'явыя тучы па небе ходзяць.* Галубы Маст.; *параўн.* руск. *туча* 'тж'.

ТУЧА'Й *м.* Паглыбленне ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаецца збожжа. *У жорнах тучай, куды збожа сыпалі.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* в я ч а́ й.

ТУЧА'НЫ *прым.* Які выдзяляе многа тлушчу. *З кабана тучаноё сала.* Ухвала Круп.

ТУ'ЧКА *ж. памянш.* да т у́ ч а 1. *Нашла тучка маленькая, і гром ударыў па назе.* Вузла Мядз.

ТУ'ЧНІК *м.* Адкормачнік, кормнік. *Тэпэр некоторы вкормляного паршука тучніком звут.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tucznik* 'тж'.

ТУ'ШАНЫ *дзеепрым.* Тушаны. *Так мне смакуе тушаная бульба.* Рыбчына Віл. *Тушаную картофлю ем з малаком.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ідзі еш тушану картофлю, яна смашна.* Кіралі Шчуч.

ТУШКАВА'ЦЬ *незак.* Тушыць. *Картошку тушкуяш з грыбамі. Укляю тушкавацъ харашо, вкусная.* Лісна В.-Дзв.

ТУШО'НКА, ТУ'ШАНКА *ж.* Тушаная бульба. *Тушонка ўпарыцца з бульбы, а смажанка — з варанай бульбы.* Груздава

Паст. *Тушонкі мо з'ясі?* Рудня Астравітая Чэрв. *З бульбы робіца тушанка, каша.* Чуркі Ашм.

ТУ'ЯС *м.* Пасудзіна з бяросты для захоўвання альбо пераноскі чаго-н. *З бяросты туяс дзелалі, слой кары і ўстаўлялі днушка зверху і знізу і называлі туяс; прынясі туясам вады.* Рыбчына Віл.

ТХЛІ'НА *ж.* Тухліна, тухлы пах. *Чуваць тхліна.* Номікі Бабіц.

ТХЛО *н.* Недахоп кіслароду ў вадзе. *Тхло на возіры, рыба затыхаіцца, як праб'юць цюшку, яна тады лезіць у гэту цюшку наверх.* Мярэцкія Глыб.

ТХОР *м. заал.* Шашок. *Тхор падавіў курэй.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тхор завёўся, давіць курэй.* Альба Нясв. *Тхор голавы па-ад'ядае, кроў высасае.* Валеўка Навагр. *Тхора я відзеў у жызні раз.* Сонічы Гродз. *Тхор так смярдзіць, што куры падаюць.* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* польск. *tchórz* 'тж'.

ТШЭНСАВІ'СКО *н.* Тое ж, што і т р а к е́ н я. *Там велька тшэнсавіско, багно.* Каўняны Гродз.; *параўн.* польск. *trzęsawisko* 'тж'.

ТЫ *займ.* Ты. *Ты чаго ляціш? Засяку, табе і галава злеціць на бок!* Навасёлкі Свісл. *Табе шкоды нарабілі — цыбулю пабралі.* Груздава Паст. *Цячэ табе хата — хай цячэ.* Паляцкішкі Воран. *Як ты да людзей, так і людзі да цябе.* Малі Астр.

ТЫ'БЕЛЬ *гл.* ТЭ'БЕЛЬ

ТЫГЕЛЁК *м. памянш.* Каструля. *Скваркі в тыгелькові возьмі і окрасі куліеш. Товканіця в тыгелькові, а кваснэ молоко в гладунці, як хочэтэ іесті, то собіе возмэтэ.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tygielek* 'тж'.

ТЫ'ДЗЕНЬ, ТЫ'ДЗІНЬ, ТЫ'ДЗЯНЬ, ТЫ'ДЖДЭНЬ, ТЫ'ЖДЖАНЬ, ТЫ'ЖДЕНЬ, ТЫ'ЖДЭН, ТЫ'ДЭНЬ *м.* Тыдзень. *Ат пярэпалаху сем тыдняў ляжала. Тры тыдні вуча.* Солы Смарг. *У тыдні рас прыедуць, усе чатыры дачкі ў Лідзе.* Навасёлкі Лід. *Тыдзень после спаса — спошка зельная.* Збляны Лід. *Яшчэ тыдзень будзеце ў нас.* Кузьмічы Люб. *Тыдзень пройдзе — і зноў рыя.* Гемзы Шальч. *Цэлы тыдзень за вадою жыў.* Крынкі Крын. *Тыдзінь прайшоў быстра.* Лісна В.-Дзв. *Я цэлы тыдзянь палола.* Саланое Віл. *Тыдзянь прайшоў.* Малышы Лід. *Тыдзянь прайшоў, а ты сядзіш у хаце. Праз тыдзянь прывёз трыццаць пяць воркаў.* Ністанішкі Смарг. *Цэлы тыдзянь прайшоў, а што я зрабіла?* Навасёлкі Свісл. *На гэтым тыдні паедзе да Мінска.* Вострава Маст. *На тым тыдні было свято.* Альхоўцы Лях. *Праз тыдзянь хварэла. Сярод тыдня будзе мыцця.* Кіралі Шчуч. *Адзін тыдзянь бракавала корму.* Стракішкі Трак. *Ужо тыдзянь, як ён ходзіць тут. Я там не жыла больш, як тыдзянь.* Вецярэвічы Пух. *На прошлому тыдждэнёвэ быў.* Дзмітравічы Кам. *Мая матка хадзіла адрабляць пану тыжджань. Тыжджань лежала.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Тыждзень жыў у нас.* Азарычы Пін. *Каждый тыждэн діт ходыв до пана по тры дні, а тры дні робыв собі.* Вярхі Кам.

*Е плаце, я ей мэняю на тыдэнь кілька раз.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* польск. *tydzień* 'тж'.

ТЫ'ДНІК *м.* Тое ж, што і ты́дзень. *Адзін тыднік пажыло дзіця.* Саланое Віл.

ТЫ'ЖЫЦЬ *незак. экспр.* 1. Прымушаць, застаўляць рабіць. *Яна мяне тыжа, каб спёкся на абаранку.* Гемзы Шальч. 2. Хлусіць, гаварыць абы-што. *Ён тут тыжыў, а яны верылі.* Гемзы Шальч.

ТЫК *гл.* ТОК

ТЫ'КАТЫ *незак.* Спароўвацца. *Тыкала сучка.* Дзмітравічы Кам.

ТЫ'КАЦЬ *незак.* Закладаць, запраўляць, запіхаць. *Снопы тыкалі ў зярод.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Тыкалі снапы между жортак рад-другі — і каласы навісаюць; у вайну панараблялі азяродаў.* Кузьмічы Люб.

ТЫКЛО' *н.* Доўгая жэрдка, якая ўбіваецца ў зямлю і вакол якой ставіцца стог (кідаюць стог). *Убівают тыкло высокае пасерэдзіне і кладут сена.* Лука Нараўк.

ТЫК-МЫК *выкл.* у знач. *вык.* Тык-мык. *Тык-мык — і не даб'ешся ад яе ні слова.* Валеўка Навагр.

ТЫ'КО *прысл.* Толькі. *Тыко пака з вясны пчолы бяруць.* Быстрыца Астр. *Сланіну солім насуха, тыко соль.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *tylko* 'тж'.

ТЫЛ *м.* 1. Задняя частка чаго-н. *Перат і тыл воза.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дронк злучае пярэдняя крэсла і аш у тыл ідзе.* Чуркі Ашм. *Залягліпат тыл возу.* Граўжышкі Ашм. *Адводзіцца нітка ў тыл, а па-руску — у зад.* 2. Ніжняя частка тулава чалавека, клубы. *Тыл шырокі, кумпякі не пралязаюць.* Старыя Трокі Трак. 3. у знач. *прысл.* Ззаду. *У плыце жэрдка наперадзе і з тылу.* Грыкені Вільн. *Гегні рыбу лавіць, палазы загнуты, с тылу торба с прадзеных нітак.* Старыя Трокі Трак. ◇ *З тылу* — акольным шляхам (зайсці і пад.). *С тылу за ім іду.* Паляцкішкі Воран. *У тыл даваць* — біць заднімі нагамі, брыкацца. *Наравісты конь: у тыл дае.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *tył* 'тж'.

ТЫ'ЛАК I *м.* Заднік. *Абіякі с тылкам, тылак нізюткі. Нізенькі тылак у клюмпах, каб ногу ўсадзіць.* Васілевічы Гродз.

ТЫ'ЛАК II *м.* Ягадзіцы. *Тылак заголены — стыд.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *tyłek* 'тж'.

ТЫ'ЛЕ, ТЫ'ЛЯ *ліч.* Столькі, вельмі многа, шмат. *Гняздо нашоў і ў гняздзе тыле еец.* Баброўнікі Гарад. *Я тут тыле лят жыву. Тыле будзе палатна.* Васілевічы Гродз. *Тыле нада мукі на замес.* Грыкені Вільн. *Па тыле плаціць.* Беняконі Воран. *Тыле месяцаў прайшло.* Сонічы Гродз. *Тыля іх тудака развялосё.* Мсцібава Ваўк. *Тыля хлопцаў было.* Гемзы Шальч. *Тыля людзі ходзі ў лес.* Стральцы Шальч. *Тыля было работы.* Старыя Трокі Трак. *Тыля работы каля льну.* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *tyle* 'тж'.

ТЫ́ЛО *н.* Цела. *Трэбо накінуты на тыло, душа быс тыла.* Дзмітравічы Кам.

ТЫЛУ́ШКА *ж.* Цялушка. *Тылушка б'юшча.* Дзмітравічы Кам.

ТЫ́ЛЬКО, ТЫ́ЛЬКІ *прысл.* 1. Тое ж, што і то́лькі I, 1. *Нас тылько двох ест. Прыпаруе, не сушыць, а тылько гноіць* [пра сена]. Паляцкішкі Воран. *Веселе было — тылько ў суботу, нядзелю.* Васілевічы Гродз. *Тылько з булкою пытэ. Тылько два хлопці.* Дзмітравічы Кам. *Я кавалак тылько купіла торту.* Баброўнікі Гарад. 2. Толькі што, нядаўна. *Тылько ўнука пахаваўшы, усё плача і плача.* Паляцкішкі Воран. *Тылько лігла, біла масла.* Старыя Смільгіні Воран. *Тылькі з Вільня прывозілі.* Кемялішкі Астр.; *параўн.* польск. *tylko* 'тж'.

ТЫ́ЛЬНЫ, ТЫ́ЛЬНІ *прым.* 1. Задні. *Перадок і тыльная часць у возе.* Судэрва Вільн. *Дышаль злучая тыльную і пярэднюю ось. У вазе тыльная крэсла.* Быстрыца Астр. *Тыльна сцяна.* Малахоўцы Бар. *Быў тыльны плытнік, які быў у канцы пасаў.* Рыбчына Віл. *Асада пярэдняя і тыльня асада.* Кнышэвічы Бабіц. 2. Знешні, які знаходзіцца зверху. *Панцак таўклі — абтаўкуць гэту скурку тыльную.* Васілевічы Гродз.; *параўн.* польск. *tylny* 'задні'.

ТЫЛЮ́К *м.* 1. Цяля. *Понысу своёму тылюковы пыйло.* Сіманавічы Драг. 2. *перан. жарт.* Малое дзіця. *Тылюк ты малый, вжэ всэ молоко выпыв.* Сіманавічы Драг.

ТЫ́ЛЯ *гл.* ТЫ́ЛЕ

ТЫЛЯ́ *н.* Цяля. *Тыля корову іссэ.* Дзмітравічы Кам.

ТЫМБУРАВА́ЦЬ *незак.* Вязаць кручком. *Буду тымбураваць карункі.* Ёдлавічы Брасл.; *гл.* та́нбурка.

ТЫМБУ́РАК *м.* Тое ж, што і та́нбурка. *Тымбуркам буду робіць сарвэтку.* Ёдлавічы Брасл.

ТЫМО́ТКА *ж. бат.* Цімафееўка. *Як я быв молоды, то шчэ тымоткі сіеялі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *tymotka* 'тж'.

ТЫН *м.* 1. Тын, плот з дошак. *Тын — з нешырокіх досачак.* Лісна В.-Дзв. *Тынам хата абгароджана.* Номікі Бабіц. 2. Частакол. *С тыну быў плот, з яловых сукоў.* Гемзы Шальч. *Яшчэ тынам гарадзілі — яловымы сукамы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тын—плот з кійкоў.* Гемзы Шальч. *Тын гародзяць яловымі сукамі.* Кемялішкі Астр. 3. Віткі. *Тры плаціны кладзе і пераплетуе тынам.* Быстрыца Астр.

ТЫ́НАВЫ *прым.* Зроблены з частаколу. *Есь тынавы плот і жардзяны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТЫНЁНКА *ж.* Прасцейшая прылада для апрацоўкі трасты льну. *Тынёнка з дрэва здзелана, мяць кудзелю.* Мачаск Бярэз.

ТЫНК *м.* Тынк. *Тынк — чым трэба тынкаваць хату.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* польск. *tynk* 'тж'.

ТЫНКАВА́ЦЬ *незак.* Тынкаваць. *Трэбо хату выбіць лучынай, бо буду тынкаваць.* Номікі Бабіц. *Дралі лучыну, прыбівалі да сцяны і тынкавалі. Тынкавалі пазэ.* Збляны Лід. *Раней тын-*

*кавалі лучынамі з глінаю.* Мыто Лід.; *парайн.* польск. *tynkować* 'тж'.

ТЫНКО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і т ы́ н а в ы. *Тынковы плот — палка пры палцэ.* Ахрэмаўцы Брасл.

ТЫНО'К *м. памянш.* да т ы н 1. *Тынком загароджана: да жэрткаў прыбіты досачкі.* Ёдлавічы Брасл.

ТЫПЛО' *прысл.* Цёпла. *Трава роьтэ, бо тыпло.* Дзмітравічы Кам.

ТЫПЭ'Р, ТЫПЭ'РО *прысл.* Цяпер. *А тыпэр ужэ ны быда — у колхоз пошлі.* Сасноўка Пруж. *Тыпэро ізнов пошла.* Дзмітравічы Кам.

ТЫ'РЗАЦЬ *гл.* ТУ'РЗАЦЬ

ТЫ'РКАЦЬ *незак.* 1. Закладаць, насаджваць· *Снапы тыркалі ў азярод.* Азяраны Раг. *Тыркаць у азярод снапы.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Засоўваць. *Грэбяшок, што тыркаюць у валасы.* Азяраны Раг.

ТЫ'РСА, ТЫ'РША *ж.* Пілавінне, апілкі. *Тырсы насыпана і там, і тут.* Дзяніскавічы Ганц. *Тырша сыплецца.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТЫРЦ *выкл.* у знач. *вык.* Тыц. *А ён галаву тырц с-пад вады.* Саланое Віл.

ТЫРЧА'ЦЬ, ТЫРЧЭ'ЦЬ *незак.* Тарчаць. *Пярына тут тырчала ў капялюшы.* Магуны Паст. *Жэрдка тырчыць. Трэба ўграбаць гной, а то будзя тырчаць.* Азяраны Раг. *Будзя барада тырчэць.* Лісна В.-Дзв.

ТЫРЫНТА'С *гл.* ТАРАНТА'С

ТЫСЕ'НЧНІК *м. бат.* Крываўнік. *Тысенчнік памагая ад катара жалутка.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *tysięcznik* 'цвінтарэй'.

ТЫСЁНЦ *м.* Тысяча. *Мне сказала два тысёнцэ.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *tysiąc* 'тж'.

ТЫ'СЯЧА *ж.* Тое ж, што і т ы с ё н ц. *На почце зняў два тысячы.* Гальшаны Ашм.

ТЫТУ'Н, ТУТУ'Н, ТУТУ'НЬ, ТІТЮО'Н *м.* 1. Тое ж, што і т а б а́ к а 1. *Тытун наш тата садзіў.* Солы Смарг. *Пасадзіў тытуну.* Гемзы Шальч. *Кальво тутуну найдуць у гародзі.* Вострава Маст. *Тутун, каторы рос.* Дзяніскавічы Ганц. *Тутунь абвесіў вушы.* Кайшоўка Карэл. *Тэпэр тітюону нэ садят.* Курашэва Чыж. 2. Тое ж, што і т а б а́ к а 2. *Быў свой тытун, круцілі.* Гальшаны Ашм. *Ніжыць тытун на ніці.* Вялікія Баяры Шчуч. *Тытун у папушкі вязалі.* Кудзялянцы Шальч. *Тытун нанізваюць сушыць.* Відаўцішкі Вільн. *Курцы куплялі капшукі, тытун туды напіхаяць.* Старыя Трокі Трак. *Папужу тытуну скруціў.* Руднікі Шальч. *Мужык курыт тытун.* Дзмітравічы Кам. *Тутун сушу.* Галубы Маст. *Тутуну пачка.* Дзяніскавічы Ганц.

ТЫТУНО'ВЫ *прым.* Тытунёвы. *Кветкі тытуновыя зрываць трэба.* Гемзы Шальч.

ТЫ'ФУС *м. мед.* Тыф. *Я на тыфус хварэла.* Магуны Паст. *Ты-*

*фус мучыў людзей.* Малі Астр.; *параўн.* польск. *tyfus* 'тж'.

ТЫХЦЕ'ЦЬ *незак.* Уздувацца. *Там тыхціць балота.* Ісерна Слуц.

ТЫЦ *выкл.* у знач. *вык.* 1. Тыц. *Яна тыц у хату.* Рагулішкі Даўг. *Тыц — з мяльніцай.* Жылі Іўеў. *Я тыц руку ў карман — няма ключа.* Малі Астр. *Тыц цыбук за халеву — і пайшоў.* Гемзы Шальч.

ТЫ'ЦКАЦЬ *незак.* Датыкацца да чаго-н. *П'яўка будзе тыцкаць, уплятацца, дзе плюгавая кроў.* Вецярэвічы Пух.

ТЫ'ЦНУЦЬ *зак.* Пакласці, падзець. *Тыцнула некуды рукавіцы і шукаю.* Лісна В.-Дзв. *Гэтую галку* [лякарства] *трэба тыцнуць далёка — да гарляка каровы.* Гемзы Шальч.

ТЫЦ-ТЫЦ *выкл.* у знач. *вык.* Тое ж, што і т ы к-м ы к. *А гэты тыц-тыц — і няма чаго сказаць.* Малі Астр.

ТЫ'ЧАК *м.* Фасоль, якая ўецца. *Тычак — то такі буоб, што на тычкі пнэцце, як ростэ.* Курашэва Чыж.

ТЫ'ЧКА I *ж.* Тычка, шост, абчасаная жэрдка. *Бучы бес крылаў: тры абручы і тычка, якая заганялася ў землю, што п вада не панясла.* Мыто Лід. *Там тычку робіць, а там куль уточыць. Тычка — палка такая.* Збляны Лід. *Тычка на пасолю, на гарох.* Азарычы Пін.; *параўн.* польск. *tyczka* 'тж'.

ТЫ'ЧКА II *ж.* Кветаножка. *Па балотах рос бабоўнік, с карэннем, круглая тычка жоўценькім цвіціць, цягаеш свінням.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТЫЧКО'ВАЯ ФАСО'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і ты́ ч а к. *Тычковая фасоля ў нас была, смачная, добрая.* Альба Нясв.

ТЫЧЫ'НА' *ж.* Доўгі шост, жэрдка. *Забіў мядзведзянят тычы́наю. Вяху на палку і трут комін гэтаю тычы́наю. Тычы́на — доўгая палка.* Вецярэвічы Пух. *Тычына́ — палка, на якую насаджаюць вілы.* Бакшты Іўеў.

ТЫЧЫ'ННІК *м.* Частакол. *Агарадзіў дом тычыннікам.* Беразіно Докш.

ТЫ'ЧЯТІ *незак. экспр.* Соваць, даваць. *Нэма што едла тычяті пуд нуос, як схочэ, то сам будэ іесті.* Курашэва **Чыж.**

ТЭ *займ.* Ты. *Шчо тэ зробэв?* Дзмітравічы Кам.

ТЭ'БЕЛЬ, ТЭ'БАЛЬ, ТЭ'БЭЛЬ, ТЭ'БЯЛЬ, ТУ'БЕЛЬ, ТЫ'БЕЛЬ *м.* 1. Свердзел. *Тэбель — плотніцкі інструмент, свярдзёлак.* Пацаўшчына Дзятл. *Тэбель дзелае дзіркі шырокія.* Дзяніскавічы Ганц. *Тэбель—вялікі свярдзель.* Чычалі Швянч. *Тэбаль— велькі свідар.* Кудзялянцы Шальч. *У тэбалі самы канец востры.* Гальшаны Ашм. *Тэбаль — самы большы свідэрак.* Гемзы Шальч. *Тэбаль — такі свідэр бальшы.* Грыкені Вільн. *Тэбэль прынёс.* Сіманавічы Драг. *Тэбяль — свідар бальшы.* Солы Смарг. *Тубель— чым дзелалі філінговыя дзверы.* Навасёлкі Свісл. 2. Вялікі драўляны гвозд, пры дапамозе якога змацоўваліся бярвенні ў сцяне зруба. *Тэбель бальшы, сцены скручваць.* Пацаўшчына Дзятл. *Тэбяль — драўляны шып, якім скрапляюць бярвенні ізруба.* Галубы Маст. *Брусы браліся на тэбаль, каб не выкручваліся, зага-*

*няўся такі дзеравяны гвозд, брусы бяруць на тэбаль.* Мсцібава Ваўк. *Дыліе в стіне бэрут на тыблі, свэрдёлком вэртят дыркі в двох дылях, тыблі вбівают в ніжні дыль, а на іх набівают другого дыля.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *tybel, tebel* 'тж'.

ТЭЖ, ТЭШ *прысл.* Таксама. *Бульба — ламаным языком, картофля тэж.* Відаўцішкі Вільн. *Ляшчына тэж кара светлая.* Грыкені Вільн. *Бабы тэш насілі каптуры.* Гемзы Шальч. *Ксяндзы былі тэш такіе.* Старыя Трокі Трак. *Быў тутака тэш ляснічы, ціпер за граніцою.* Баброўнікі Гарад. *Раней біз дазволу бацькоў ня можна было жаніцца, а бацькі тэш глядзелі толькі багацце.* Дзягілі Мядз.; *парайн.* польск. *też* 'тж'.

ТЭЙ *займ.* Тое ж, што і т о й. *Тэй мукі грамулька адна была.* Пярэкі В.-Дзв.

ТЭ'ЕЧКА *ж. памянш.-ласк.* да т э́ й к а. *Ой, тэечка, у мене ўсе індзюкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТЭ'ЙКА *ж.* Сяброўка. *Ідом з тэйкаю — не бойся, свіціцца поле.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ТЭЛЕПА'ТІ *незак. экспр.* Ледзьве ісці, ісці паволі. *Куонь чуть тэлепае.* Курашэва Чыж.

ТЭЛІЕ'ШЧЫТІ *незак.* Падымаць з цяжкасцю, праз сілу несці. *Такі тяжызны мішок жыта, чуть тэліешчыт його на вуоз.* Курашэва Чыж.

ТЭЛЬБУ'Х *м. абразл.* Чалавек з вялікім чэравам, вельмі тоўсты. *Такі тэльбух, покуоль всатачыцце на вуоз, тэльбухуов пара прыіехало на полёване, одін с собою столка носів.* Курашэва Чыж.

ТЭЛЯ'ЧЫ *прым.* ◇ *Тэлячы голос* — немузыкальны, непрыгожы, без слыху. *Тэлячым голосом співаті.* Курашэва Чыж.

ТЭМІЕ'ЖНІК *м.* Прыгнятальнік. *Тэміежнікі выбівалі всіех рускіх, як старые людэ росказуют.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ciemiężca, ciemięzca* 'тж'.

ТЭМІЕ'ЖЫТІ *незак.* 1. Падвяргаць ганенню, знішчаць. *В тые часы всіех богатых тэміежылі.* Курашэва Чыж. 2. Знішчаць, высякаць. *Колісь ніемцы началі тэміежыті ліес, то мало остало.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ciemiężyć* 'прыгнятаць'.

ТЭМНОТА' *ж.* Цемра. *На дворыэ тэмнота, нігдэ тэпэр нэ пуойдэш, лепі пэрэночуй у нас.* Курашэва Чыж.; *парайн. польск. ciemnota* 'тж'.

ТЭМНОТЭ'ЧА *ж.* Тое ж, што і т э м н о т á. *На дворыэ тэмнотэча.* Курашэва Чыж.

ТЭМПЕРАТУ'РА *ж.* Тэмпература. *Пэўня ў мяне тэмпература.* Солы Смарг.

ТЭМПЕРАТУ'РЫЦЬ *незак.* Тэмпературыць. *Яны нешта тэмпературылі.* Саланое Віл.

ТЭ'МРА *ж.* Тое ж, што і т э м н о т á. *Така тэмра на двурі.* Радастаў Драг. *Такая поночота, такая тэмра, хоч ты гоко выбыры.* Сіманавічы Драг.

ТЭ′МРАВІЦЯ *ж.* Тое ж, што і т э м н о т а́. *На дворыэ такая тэмравіця.* Курашэва Чыж.

ТЭ′НГА *прысл.* Туга. *Мяса тэнга набівалі ў кундзюк.* Руднікі Шальч. *Кросна трэба навіць тэнга.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *tęgo* 'тж'.

ТЭ′НГІ *прым.* Рослы, поўны. *Высокі, тэнгі мушчызна.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *tęgi* 'тж'.

ТЭ′НЧА *ж.* Вясёлка. *Тэнча — радуга па-вашаму.* Жодзішкі Смарг. *Тэнча на небе.* Навасёлкі Свісл. *Ваду набірая тэнча.* Старыя Трокі Трак. *Тэнчу вы ўжо бачылі?* Паляцкішкі Воран. *Тэнча пекная.* Каўняны Гродз. *Сп'е дошч тэнча — не будзя ліць дошч.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *Тэнча на небе* — будзе добрая пагода. Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *tęcza* 'тж'.

ТЭПЛАТЭ′ЧА *ж.* Цеплыня, гарачыня. *Тэплатэча на дворыэ.* Курашэва Чыж.

ТЭПЛОТІЕ′НЬ *ж.* Тое ж, што і т э п л а т э́ ч а. *На дворыэ такая тэплотіень, в полудэнь жара будэ.* Курашэва Чыж.

ТЭ′ПЛЫЙ *прым.* Цёплы. *Тэплый каптан.* Дзмітравічы Кам.

ТЭПЛЯ′ВО *прысл.* Цёпла. *Тэплярво в ногі.* Дзмітравічы Кам.

ТЭ′ПЦІ *гл.* ТА′ПЦІ

ТЭПЭ′Р *прысл.* Цяпер. Дзмітравічы Кам.

ТЭПЭ′РЭЧКА *прысл.* Зусім нядаўна, толькі што. *Тэпэрэчка была ў нас Ганна і пытала, чы на базар поіедэм.* Курашэва Чыж.

ТЭ′РАЗ, ТЭ′РАС *прысл.* Цяпер, зараз. *Тэраз у нас фабрыкі лянок абрабляюць.* Старыя Трокі Трак. *Тэраз у радкі сеюць бульбу. Тэраз людзі добра жывуць.* Беняконі Воран. *Ткуць дыванэ тэраз. Тэраз тут кантора. Тэраз заробкі добрыя.* Васілевічы Гродз. *Рагач быў такі дзерэвяны, тэраз не робяць.* Грыкені Вільн. *Тэраз ходзяць аўтобусы. А тэраз гатовае ўсё купляюць.* Швэды Вільн. *Касою косяць і тэраз.* Відаўцішкі Вільн. *Усе хлапцы тэрас вучацца. І тэрас маю церніцу і калаўротак.* Старыя Трокі Трак. *Алей ціснулі, тэрас алей завуць аліва. Тэрас з цэглы печы робім.* Быстрыца Астр. *Тэрас трэба ўнукаў гадаваць.* Новыя Мацалі Варэн. *Тэрас я запомніла пра тое. Жаніўся, а тэрас глуміць яе.* Граўжышкі Ашм. *Тэрас, як нап'еццa, ляжыць, як нежывы.* Жылі Іўеў. *І тэрас скалка звецца. А тэрас іх чорт знае колькі. Тэрас ён у вёсцы. Тэрас караюць такіх. Тэрас назве. Чорт кажа на гаспадара: «Ну, як мы іх будзям тэрас рваць?»* Паляцкішкі Воран. *Тэрас дасць сена.* Кемялішкі Астр. *Былі лонкі, а тэрас поле зрабілі. Тэрас просы можна купіць. Трэба дзялкі тэрас рабіць.* Канюкай Вільн. *Тэрас лышкамі чэрпаяць верашчаку.* Стракішкі Трак. *Тэрас польку танцуюць іначай.* Кудзялянцы Шальч. *Зыгарак стаў, тэрас яка гадзіна?* Каменка Стара Сакол.; *парайн.* польск. *teraz* 'тж'.

ТЭРАЗНЕ′ЙШЫ *прым.* Цяперашні. *Тэразнейшыя колы не такія, як даўнейшыя.* Васілевічы Гродз.; *парайн.* польск. *teraźniejszy* 'тж'.

ТЭРКАНУ'ЦЬ *зак.* Таркануць. *Яшчэ тэрканеш пальцам у вока.* Беразіно Докш.

ТЭ'РНЫЦА *ж.* Тое ж, што і т а́ р к а 2. *Лён трут у тэрныцы.* Горск Бяроз.

ТЭРПАТЫ'НА, ТЭРПАЦІ'Н *гл.* ТАРПАТЫ'Н

ТЭ'РПКІ *прым.* Даўкі, кіслы. *Сіетэ яблыко тэрпке, нэ іеш его.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *cierpki* 'тж'.

ТЭ'РПНУТІ *незак.* Дранцвець (ад аскомы). *Яблыко такое кваснэ, што аж язык тэрпнэ, як его йісі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *cierpnąć* 'тж', літ. *tir̃pti* 'дранцвець, нямець'.

ТЭ'РТКА *ж.* Тое ж, што і т а́ р к а 1. *На тэртку тэртэ кортопле.* Дзмітравічы Кам. *Тэрткою трэ картоплі.* Азарычы Пін.

ТЭРТО'ЖКА *ж.* Тое ж, што і т а́ р к а 1. *Тэртожка бульбу тэрці.* Смаляніца Пруж.

ТЭ'РТЭ *незак.* Церці. Дзмітравічы Кам.

ТЭ'РЦІ, ТЭ'РТЭ *незак.* 1. Драць. *Трэба бульбу тэрці на бліны.* Смаляніца Пруж. *Трэба картопле тэртэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Церці. *Сушат лён і трут.* Дзмітравічы Кам.

ТЭ'РЫН *м. бат.* Цярноўнік. *Сухый тэрын. Гуляй, коню, по тэрну!* [з песні]. Дзмітравічы Кам.; *парайн.* польск. *cierń* 'тж'.

ТЭСА'РКА *ж. буд.* Склюд. *Тэсарка — то малая сокіера до тэсаня.* Курашэва Чыж.

ТЭСЦЁВА, ТЭ'СЦЯВА, ТЭСЦЯВА'Я, ТАСЦЁВА, ТАСЦЯВА', ТАСЦЯВА'Я *ж.* Цешча. *Тэсцёва была файна, яна ўмірала на маіх руках.* Каўняны Гродз. *Тэсцёва прыходзіла да мяне.* Старыя Трокі Трак. *Тэсцява ў другой вёсцы жые.* Ліпнікі Вільн. *Тэсцявая тут жыла.* Старыя Смільгіні Воран. *Маім зяцём мая жонка — тасцёва.* Гемзы Шальч. *Мая тасцява любіла пячы булку.* Руднікі Шальч. *Тасцявая гадавала яго.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *teściowa* 'тж'.

ТЭСЦЬ, ТЭСЬ *м.* Цесць. *Тэсць і тэсцявая прыехалі ў госці.* Паляцкішкі Воран. *Гэто яго тэсць.* Васілевічы Гродз. *Твой тэсць едзе.* Старыя Смільгіні Воран. *Тэсць — жончын бацько.* Смаляніца Пруж. *Прыедзе тэсць у госці.* Старыя Трокі Трак. *Тэсць жыў, а твой бацька даўно памёр.* Гемзы Шальч. *Тэсць і тэсцёва памерлі.* Малькуны Ігн. *Прышоў яго тэсь.* Гемзы Шальч. ∇ *Як дась тэсць, то ні сабака — воўк з'есць* [пра пасаг]. Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *teść* 'тж'.

ТЭ'ЧКА I, ТЭ'ЦКА *ж.* 1. Партфель. *Пашоў, кажа, некі з тэчкаю.* Пацаўшчына Дзятл. *Тэчку новую з Брэска яму прывёз.* Галубы Маст. *Школьная тэчка, дзяціная тэчка.* Старыя Трокі Трак. *Агент, ужэнднік, пад пахай нося тэчку.* Гемзы Шальч. *Раміенну тэчку сынові купів, будэ міеті в чуом ксёнжкі носіті до школы.* Курашэва. Чыж. *Як в п'ятый клас пошов, то купылы мыні тэчку.* Сіманавічы Драг. 2. Сумка. *Тэцка — цяпер, мусіць, сумка такая вешчавая.* Магуны Паст. 3. Торба. *Аднаму далі тэчку і сказалі: «Цягай з яе грошы веле нацягаеш, але не купляй нічога, покі не кінеш тэчку ў мора. Ён цягаў, цягаў, покі не па-*

*мёр з голаду».* Асава Воран.; *парайн.* польск. *teczka* 'тж' > ням. *Tasche* 'кішэнь'.

ТЭ'ЧКА II *ж.* Тое ж, што і т у р к á ч. *Тэчка точыт.* Азарычы Пін.

ТЭ'ЧКА III *ж.* Шост. *Тэчка — одэжу вішаты.* Дзмітравічы Кам.

ТЭШ *гл.* ТЭЖ

ТЭ'ШЧА *ж.* Тое ж, што і т э с ц ё в а. *Тэшча жыла тут.* Дзмітравічы Кам.

ТЮРЭ'МНІК *м.* Вязень. Радастаў Драг.

ТЯГА'ТЭ *незак.* Цягаць. *По хатэ цягаю.* Дзмітравічы Кам.

ТЯЖІ'РНЫЙ *прым. павел.* Вельмі цяжкі. *Такый тяжірный мышок.* Сіманавічы Драг.

ТЯ'ЖКО *прысл.* Цяжка. Сіманавічы Драг.

ТЯЖЫ'ЗНЫ *прым.* Тое ж, што і т я ж і р н ы й. *Тяжызны мішок жыта.* Курашэва Чыж.

ТЯЛЕ'ГА *ж.* Воз, калёсы. Курашэва Чыж.

ТЯ'ПАТІ *незак.* Таўчыся, топаць. *Што ты там в кухні тяпаеш? — Роблю палюшкі на вэчэру.* Курашэва Чыж.

ТЯ'ТІ *гл.* ЦЯЦЬ

# У

У I *прыназ.* з *він.* Указвае на прасторавыя, мэтавыя і іншыя адносіны. 1. Пры абазначэнні накіраванасці руху да канцавога пункта. У. *Паехала ў Рудзішкі.* Кемялішкі Астр. *Паехаў у Свіра.* Груздава Паст. *Паехалі ў Польшч.* Альхоўка Навагр. *Як я ляцела з Растова ў Кіеў, то мыгла была.* Солы Смарг. *У Паругвай паехаў.* Літва Лях. 2. Пры абазначэнні накіраванасці руху ў пэўную сукупнасць, у статак. У. *Шэсць штук вайкоў уляцела ў авечкі, дык с крукамі ганялі.* Саланое Віл. *Яе карова ў быдла ходзіць, а мая ў быдла ня хочыць хадзіць — усё здалёк.* Міратычы Карэл. 3. Пры абазначэнні накіраванасці руху, дзеяння ўнутр, у сярэдзіну чаго-н. У. *Загані цяля ў хлеў!* Альхоўцы Лях. *Ён уляцеў у хату.* Дэгшні Шальч. *Хадзілі ў лазню мыцца.* Рагулішкі Даўг. 4. Пры назве прадпрыемства, куды хто-н. паступае на работу. На. *Паступіў рабіць у завод.* Крэва Смарг. 5. Пры назвах частак цела, усярэдзіну якіх накіравана дзеянне. У. *Гузака чорная улезла ў вуха.* Малышы Лід. 6. Пры абазначэнні некаторых спецыяльных працэсаў, выкананне якіх звязана з дзеясловамі *увясці, укінуць, уцягнуць, улазіць* і інш. У. *Не магу нітку уцягнуць у іголку.* Мярэцкія Глыб. *Трэба увясці ніткі у ніты, у берда, между імі закладаецца зеў.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У чалнык цэўка улазіць.* Васілевічы Гродз. 7. Пры ўказанні на мэту,

прызначэнне каго-, чаго-н. У. *Яна ў помац мне паслана.* Магуны Паст. *Свіню малюсеньку трэба кідаць у племя.* Навасёлкі Свісл. 8. Пры ўказанні на аб'ект збору, нарыхтоўкі чаго-н. У. *Пашоў бацька ў рыбу.* Рыбчына Віл. *Пашоў і наш сын у рыбу.* Валынцы В.-Дзв. *У ягады, у грыбы ходзяць.* Саланое Віл. *І дайней хадзілі ў грыбы, у ягады.* Груздава Паст., Цемялішкі Астр. *За Баброўным ходзюць у ягады.* Лісна В.-Дзв. *Пашлі ў варэхі — не нашлі арэхаў.* Валынцы В.-Дзв. *Мая мама казала ўсё «Пайду ў варыва».* Солы Смарг. *Анатоля пабегла ў дрова.* Вецярэвічы Пух. 9. Пры ўказанні на ўступленне ў шлюб. Беспрыназоўнікавая канструкцыя. Замуж. *Бязвокая дзеўка, але бяруць у замуш.* Крэва Смарг. *Пашла ў замуш.* Лісна В.-Дзв. 10. Пры абазначэнні дзеяння, накіраванага на ўдзел у якой-н. абраднасці, гасціннасці. У, на. *Паехала к яму ў госці.* Валынцы В.-Дзв. *Еду да сястры ў госці.* Рагулішкі Даўг. *Мы з ім ідзём у бяседу.* Саланое Віл. *Ездзіла ў праветкі да дачкі.* Мішневічы Шум. *Пайду ў хрысціны.* Кураполле Паст. *Куды ты йдзеш? — У хрэсбіны.* Рыбчына Віл. *Я ў канцэрт хадзіла.* Ёдлавічы Брасл. *Прыдзецца ў веселе каму ехаць.* Васілевічы Гродз. 11. Пры абазначэнні спосабу дзеяння. У, на або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *У лехі садзіла буракі, цыбулю, капусту.* Саланое Віл. *У рукі малаці́лі дайней.* Вецярэвічы Пух. *У жорны малолі.* Ністанішкі Смарг. *У жорны рабілі крупы.* Вецярэвічы Пух. *Ён падаваў у цапы.* Лоск Валож. *Лён мнём у мяліцы.* Саланое Віл. *Бялізну качалі ў качалкі, а цяпер гладзюць. Патруць у рукі і зноў мыюць. Трэба травы ў січкарню нарэзаць.* Саланое Віл. *У дымкі — у чатыры ніты і ў восім нітоў ткалі.* Мачаск Бярэз. *У васьмінітнікі ткалі палаценца, скацерці на стол.* Салады Істр. *Ткалі так у елачку.* Латыгаль Віл. *Снуём у дзве ніткі.* Дзераўное Стаўб. *Еслі ў лапу рубюць хату, то заганяюць шыпы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дралі лучыну і ў пукі вязалі.* Малышы Лід. *Скачаеш у трубку палатно.* Васілевічы Гродз. 12. Пры выражэнні розных пачуццяў ад холаду, болю і інш. У або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Я ў рукі замерзла.* Стральцы Гродз. *Замерзну ў рукі. Мне ў нагу зімна.* Магуны Паст. *У ногі нязімна.* Старыя Трокі Трак. *У рукі горача.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 13. Пры ўказанні на падабенства, меру і ступень. На, у, да, як. *Яна ўся ў матку. Дзеці бываюць пахожы ў бацьку ці ў матку.* Лісна В.-Дзв. *Лён вялікі — у пояс.* Быстрыца Астр. *У стан чалавека мяхі з бульбай.* Магуны Паст. *Лябяда парасла ў рост чалавека.* Ёдлавічы Брасл. *Скорчылася ў кручок і палажылася.* Рагулішкі Даўг. 14. Пры абазначэнні часавых адносін. У час, на, праз, да, к, за. *Мой дзедушка помніў паншчыну — хадзіў рабіць у паншчыну.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дзядуля хадзіў у прыгон.* Ракаўскія Швянч. *Ён плаціў трыцаць капеек у дзень.* Швэды Вільн. *Па вялікадню ў дзве нядзелі бывая Юр'я.* Кіралі Шчуч. *Спошка зельная ў тыдзень пасля спаса.* Збляны Лід. *Хазяін у лазні мыецца — строіцца ў гадавоя свята.* Ракаўскія Швянч. *Але прыязджала да мя-*

*не, муся, у гот.* Крэва Смарг. ∇ *Ясная неба ў куцю — будуць куры нясушчыя.* Быстрыца Астр.

У II *прыназ.* з *месн.* 1. Пры абазначэнні месца заняткаў, знаходжання, прабывання, змяшчэння. У, на або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Цяпер людзі ў заводзя добра палучаяць.* Крэва Смарг. *У даму найшлі прадсядацяля.* Магуны Паст. *Мне ў верандзе заваляць усё.* Крэва Смарг. *Пчолы работаюць у домку.* Быстрыца Астр. *Саломы насцелеш у лошку.* Дакудава Лід. *Рашчыняюць хлеп у дзяжэ.* Солы Смарг. *У вуліцы не было вады над маей смачнейшай.* Семежава Кап. *Сушылі лён у восяці.* Саланое Віл. *Астаўшыся, у лаўках сядзяць.* Ракаўскія Швянч. *Быў у гасцях, у бяседзі.* Рудня Астравітая Чэрв. *У бяседзі мы побач сядзім.* Саланое Віл. *Вяселля гуляюць, быў у вяселлі.* Мярэцкія Глыб. *Мы былі ў свадзьбе.* Асавец Віл. *Ні ён дзе быў у свадзьбя.* Ністанішкі Смарг. *Былі ў канцэрце.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пашоў перад Ільёю, быў у маракох.* Вецярэвічы Пух. *У грыбох былі. Я там у ягадах не была.* Ністанішкі Смарг. *Німа бабаў — усе ў буракох.* Дакудава Лід. *Даўней у панах не былі так убраны, як цяпер людзі ўбраны.* Малькуны Ігн. *Дзве дачкі былі ў свеці. Дачка пагібла ў свеці.* Валынцы В.-Дзв. *Нейкая хвароба ў сярэдзіне была.* Саланое Віл. *Вальчаць ў бітве, ў вайне.* Быстрыца Астр. 2. Пры абазначэнні часавых значэнняў. У, у час, на або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Тхора я відзеў у жызні.* Сонічы Гродз. *Ён можа прывясці буракоў у палудні.* Асавец Віл. *Даўней у досвітку малацілі, на пліце карчы гарэлі.* Вецярэвічы Пух. *У вайне мы там жылі, як Вільгельм ваяваў.* Старыя Трокі Трак. *Бывала, кашу з жытняй мукі і ў посця смачна елі.* Крэва Смарг. *Садзіць што — лепш у маладзіку.* Альхоўцы Лях. 3. Пры параўнанні па ўзросту, абазначэнні ўзросту. У або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Ён у Пашкавых гадах.* Груздава Паст. *Яны ў адных гадох.* Ністанішкі Смарг. *Ужо ў гадох чалавек.* Стральцы Шальч. 4. Пры абазначэнні стану; развіцця працэсу, яго ўнутранага і знешняга праяўлення. У, у час. *Чалавек быў у маніі, у маніі гаварыў.* Граўжышкі Ашм. *Яна ў маніі памёрла.* Рагулішкі Даўг. *Відзіла Глашу ў восьні — можа прыедзіць.* Валынцы В.-Дзв. *Даўней казалі: «Баба ў цяшку».* Лісна В.-Дзв. *Ружа яшчэ у пучкох.* Груздава Паст. 5. Пры ўказанні на знешні выгляд каго-, чаго-н. У. *Весь сад стаіць у белі.* Жылі Іўеў.

УАБЕРУ́ШКІ *прысл.* 1. Дзвюма рукамі. *Даўней уаберушкі наскобляць, наскобляць лыткі; рубаха апцягненая па самыя пяты.* Кураполле Паст. 2. Ахапіўшы рукамі. *Уаберушкі ўзялі яе і паняслі.* Гемзы Шальч.

УАБМІ́НКІ *прысл.* Наперагонкі. *Яны ўабмінкі ідуць, каб адзін аднаго абагнаць.* Рыбчына Віл.

УАДНАВО́Р. У выразе: *Пасеяць уаднавор* — пасеяць што-н., адзін раз узараўшы поле. *Уаднавор пасеялі авёс.* Рудня Астра-

вітая Чэрв. ∇ *Пасеяў жыта уаднавор — на чужы пагавор.* Мачаск Бярэз.

УАПЕЦІ′Т *прысл.* Ахвотна, з апетытам. *Дайней мурцы рабілі і уапеціт кушалі.* Саланое Віл.

УАХО′ТУ *прысл.* Ахвотна. *Папілю, пасяку і ў клетачку злажу дровы; мне было ўахоту, ні чуствавала ценжар.* Слабада Мін.

У′БА *гл.* ГУ′БА I

УБАЙЦА′. У выразе: *Убайца ісці* — у час гульні на вялікдзень біць адно яйцо другім з мэтай выйгрышу. *Бывала, набяруць яёк і убайца ідуць′ хто ў каго паб′ець.* Валынцы В.-Дзв.

УБАРАНІ′ЦЬ *зак.* Абараніць, захаваць. *За катамі валір'янку не ўбароніш, кап іх ні знаць!* Валынцы В.-Дзв.

УБАРО′ЦЬ *зак.* Пабароць, перамагчы. *Наша карова убора гэту цялушку.* Навасёлкі Свісл.

УБАСО′НАЧ *прысл.* Басаནож. *Убасонач ходзіць.* Каменка Стара Сакол.

УБАСЦІ′ *зак.* Парнуць, баднуць. *Убала карова цябе.* Беразіно Докш.

УБА′ЧЫЦЬ *зак.* 1. Убачыць. *Аглядуецца, перакружыцца і места ўбачыць сваё.* Азяраны Раг. 2. Сустрэць. *Сына сястрынога ўбачыла ў Ляхавічах.* Альхоўцы Лях.

УБЕЖДА′ЦІ *незак.* Пераконваць, упэўніваць, прасіць. *Убеждаю мого брата перэехаці до нас.* Ялова Пруж.; *параўн.* руск. *убеждать* 'тж'.

УБЕ′ЙЦА *м.* Забойца. *Банда — гэта там розныя злодзеі, убейцы.* Мачаск Бярэз.; *параўн.* руск. *убийца* 'тж'.

УБІВА′НЫ *дзеепрым.* Усаджаны, убіты ўглыб чаго-н. *На сцяну снавалі — калкі ўбіваныя.* Старыя Трокі Трак.

УБІВА′ЦЦА *незак.* 1. Усаджвацца, прымацоўвацца. *Ручкі ў возе ўбіваюцца ў падушку.* Пасіене Лудз. 2. Знішчацца, гінуць. *Бывая, што і ад лякарства рабакі не ўбіваюцца.* Жылі Іўеў. 3. У выразе: *Не ўбівацца на работы* — не працаваць звыш сілы. *Мой мужык не ўбівайся натта дужа на работы: ён і рабіў, але відаць, што быў хворы.* Вецярэвічы Пух.

УБІВА′ЦЬ *незак.* 1. Стукаючы па прадмеце, усаджваць у што-н., прымацоўваць. *Стайпец да грабляў, галоўка, і туды зубы ўбіваюць.* Завельцы Астр. *Гвоздзь убівоў у сцену.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Забіваць, знішчаць. *Як тры маткі, то пчолы убіваюць старую матку.* Кураполле Паст. *Дайней за межы убівалі, калі хто заарэ мяжу.* Вузла Мядз. 3. Утрамбоўваць. *Гліну ўбіваюць туга — і падлога.* Завельцы Астр. 4. Учыняць самазабойства. *Мужыкі ніколі не ўбівалі сябе, а ўбівалі сябе графэ, панэ ад раскошы.* Дарава Лях.

УБІНДАЖАВА′ЦЬ *зак.* Забінтаваць. *Яна кроўю аплыла, я ўбіндажавала ей галаву.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *bandażować* 'бінтаваць, завязваць'.

УБІРА′ЦЦА *незак.* 1. Прыгожа адзявацца, прыбірацца. *Як яны ўбіраюцца — глядзіце!* Магуны Паст. *Убіраліся людзі на*

*пакрава, ехалі здаляка паглядзець — дзецюкі на дзевак.* Вузла Мядз. 2. Адзявацца, апранацца. *Убірацца пачаў у свойская.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *ubierać się* 'тж'.

УБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Прыбіраць. *Дзеці мяне ўбіраяць, усё кажаць: «Мама, чаму ня носіш?»* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *ubierać* 'тж. 2. Упрыгожваць, аздабляць. *На Яна ўбіраюць хату бяроскай.* Быстрыца Астр. *Убіралі каплічкі.* Васілевічы Гродз.

УБІ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Убіты, увагнаны. *Там цвік убіты.* Малахоўцы Бар. 2. Забіты. *Ляжаў ён убіты.* Перабродззе Міёр. 3. *перан.* Зmoраны, перагружаны. *Яны работай не ўбітыя, і дзенег у іх есь.* Ахрэмаўцы Брасл.

УБІ'ЦЦА *зак.* 1. Забіцца. *Я спужаўся ночы, як сын убіўся на матацыклі — і ночы прыпаткі сталі біць. Убіліся абадва — ляжаць, як снапы.* Вузла Мядз. 2. *экспр.* Увайсці, залезці, улезці. *Карова ўбілася ў гарод.* Чычалі Швянч. *Карова збройная, як чорт, у гарот уб'ецца.* Стральцы Гродз. *Убіўся чужы кот у хату, разбіў валер'янку і так лізаў.* Солы Смарг. *Убіўся воўк у хлеў праз акно і пабіў авец. Ні забілі — уцёк воўк.* Мярэцкія Глыб. *Коньскі воўк убіўся.* Дакудава Лід. *Убілася недзе ў ваўке.* Пацаўшчына Дзятл. *Убіўся ў сад, налаташыў яблык.* Быстрыца Астр. *Тут у гароччык убіўся.* Збляны Лід. 3. Насеецца, укараніцца. *Ёлачка завецца, яна ў дабро ўб'ецца і расце.* Солы Смарг. 4. Завясціся, распладзіцца. *Убіліся рабакі ў мяса.* Жылі Іўеў. *Чэрві ўбіліся ў мяса, аш шумяць.* Крэва Смарг. 5. Напасці, заразіцца. *Нешта яму ў галоўку ўбілася, у валаскі — галоўка голая стала, у Полацк звазілі.* Дуброўкі Брасл. *Бывая гнілец уб'ецца на пчол.* Граўжышкі Ашм. ◇ *Убіцца ў галаву* — надумацца, задумаць што-н., імкнуцца выканаць задуму. *Яму ўбілася ў галаву — надумаўся жаніцца.* Кіралі Шчуч. *Убіцца з дзюбай* — умяшацца, зацікавіцца. *І ты ўбіўся з сваей дзюбай, усё хочаш знаць.* Пярэкі В.-Дзв. *Як здарыцца якое няшчасце, то скажуць: «Нячыстая сіла ўбілася».* Рыбчына Віл. *Не знайсці камня ўбіцца* — пра мясцовасць, дзе няма каменя. *У нас такое поля, што камня ўбіцца не найдзеш.* Курапалле Паст.

УБІ'ЦЬ *зак.* 1. Забіць. *Ніхто не хоча чапаць яго, бо ўб'е.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Тату белыя ўбілі.* Збляны Лід. *Убіла павука.* Азяраны Раг. ▽ *Как міне кроў не ўбіла?!* Перабродззе Міёр.; *парайн.* руск. *убить* 'тж'. 2. З сілай загнаць у зямлю. *Калы ўб'е побач і гародзіць.* Грыкені Вільн. 3. Ушчаміць. *Дзед зловіць унука, галаву уб'ець между ног і налупіць.* Саланое Віл. 4. *экспр.* Усадзіць у што-н. вязкае. *Ты ня ўмееш хлеб мясіць: як убіла рукі, то ня выцягняш.* Кіралі Шчуч. *Як уб'еш ногі ў тую грась — рыжыя, як руда.* Граўжышкі Ашм. ◇ *Убіць галаву* — непрыязна адносіцца да каго-н., пазбягаць. *Ён убачыць мяне, галаву ўб'ець і не здароўкаецца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УБЛІЗЁ'НКУ *прысл.* У выразе: *Ткаць ублізёнку* — ткаць у радкі, якія ўтвараюцца блюзнамі. *Ублізёнку ткалі спадніцы.* Вузла Мядз.

УБЛУ'ТВАЦЬ *незак.* Абкручваць, спавіваць. *Повясам ублутвалі дзіця.* Дакудава Лід.

УБО'ГІ *м. устар.* Жабрак. *Бывала, ходзіць па хатах убогі, небарака.* Беразіно Докш. *Рагойшы пяклі і давалі ўбогім.* Кудзялянцы Шальч. *Кукачкі пяклі на ўбогіх, якія дайней сядзелі кала касцёла.* Ракаўскія Швянч. ◇ *Ад убогага кій адабраць* — пазбавіць апошняга сродку існавання. *Ён такі, што ад убогага кій адбярэць.* Кураполле Паст. *Даць на ўбогія* — ахвяраваць на бедных. *Дзісека хацеў бы даць на ўбогія — і німа каму, німа бедных.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *ubogi* 'тж'.

УБО'ІСТЫ *прым. лаянк.* Гультаяваты. *Падла ты убоістая!* Лоск Валож.

УБО'ЙЛІВЫ *прым.* Лянівы. *Убойлівы конь ні ляціць, яго б'еш, а ён ні дбая.* Рыбчына Віл.

УБО'ЙЦА *м.* Забойца. *Убойцы некія хадзілі пасля вайны.* Галубы Маст. Гл. у б е́ й ц а.

УБО'РКА *ж.* Уборка ўраджаю. *Некалі казалі жніво, а цяпер — уборка.* Дзяніскавічы Ганц.

УБО'РЫ толькі *мн.* 1. Добрае адзенне. *Ей уборы пакуплялі.* Кураполле Паст. *Ты купляяш уборы, адкуль узяць грошы?* Ракаўскія Швянч. 2. У выразе: *На ўборы* — для прыбірання ў святочны дзень. *Футра на ўборы хароша. Чаравікі храмовыя былі на ўборы.* Магуны Паст.

УБРА'НЁ, УБРА'НЬЕ, УБРА'НЯ *н.* 1. Тое ж, што і ў б о́ р ы 1. *Яна убранё дасць.* Касілавічы Дзярж. *Убранё мела добрае.* Альхоўцы Лях. 2. Адзежа. *Дайней убраня было простая: гаці шарачковыя, кажух.* Старыя Смільгіні Воран. *Верхняе убранье.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *ubranie* 'тж'.

УБРА'НЫ *дзеепрым.* 1. Добра адзеты, прыбраны. *Цяпер усе акуратна ўбраныя ходзяць.* Каўняны Гродз. *Ён харашэ убраны.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *ubrany* 'тж'. 2. Упрыгожаны, аздоблены. *Тасемкамі ўбрана блюска.* Магуны Паст. *Каравай убраны цукеркамі, розмаітымі там фокусамі.* Баброўнікі Гарад.

УБРА'ЦЦА *зак.* 1. Апрануць добрае адзенне, прыбрацца. *Найлепей убярыся і дай нам скрынку з грашыма!* Кудзялянцы Шальч. *Дзейкі ў клёшкі, клёшныя спадніцы убраліся і танцавалі.* Ракаўскія Швянч. *Маладая была, убраца хочацца.* Збляны Лід. *Яна ўбралася, адзежу паспрайляла.* Асавец Віл. 2. Апрануцца. *У нас, у Кудзялянцах, кажаць убярыся, а тут — апраніся.* Кудзялянцы Шальч. 3. Надзець благое адзенне. *Я ўбралася для малявання — падлогу буду красіць.* Солы Смарг. 4. *экспр.* Залезці. *У яблыкі дзеці ўберуцца, а ён ні выганяіць.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *ubrać się* 'адзецца, апрануцца'. ◇ *Убрацца ў русалку* — вычварна адзецца, каб мець выгляд русалкі. *Дайней чалавек убярэцца ў русалку: зробіць чучала на галаве, хустку ці кофту надзене на галаву, балахон такі шырокі надзене, і адзін пранік у руцэ.* Дарава Лях.

УБРА'ЦЬ I *зак.* 1. Адзець, прыбраць. *Я яго ўбяру, бывала,*

*ён чысценькі хадзіў.* Кудзялянцы Шальч. 2. Сабраць, звезці, упарадкаваць. *Нада сена ўбраць.* Мярэцкія Глыб. *Ён аржышча ўбéрыць.* Ністанішкі Смарг. 3. Выправадзіць, выдаліць, выгнаць. *Убéрым дзяцей с хаты.* Магуны Паст.

УБРА'ЦЬ II *зак.* Ахапіць, змясціць. *Картоплі параслі, што ў жменю не ўбярэ́ш.* Кузьмічы Люб.

УБРО'Д, УБРО'Т *прысл.* Уброд. *Перайшлі рэчку ўброд.* Лісна В.-Дзв. *Там мелка, пойдзім уброт.* Ёдлавічы Брасл. *Можна праехаць уброт.* Быстрыца Астр.

УБРО'НЧКА *ж.* Пярсцёнак. *Убрончка да шлюбу. Пярсцёнак з вочкам, без вочка — убрончка.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *obrączka* 'тж'.

УБРО'СІЦЬ *зак.* Укінуць. *Для кіслі хлеба ўбросіць у дзешку.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *вбросить* 'тж'.

УБРЫКНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць задняй нагой (пра капытных жывёл). *Убрыкнуць конь можа.* Завельцы Астр.

УБРЫСЦІ' *зак.* Увайсці ў ваду. *Убрыдзеш у рэчку, там стаяць ня можна — такі холад, і мусіш вылесці.* Кураполле Паст. *Мы ўбрыдзём у ваду і купаемся.* Ёдлавічы Брасл.

УБУЧЭ'ЦЬ *зак.* 1. Дасягнуць сталасці, стаць поўным, мажным. *Дзеўка дужая, убучэла. Так скажуць і на сталую дзеўку.* Мярэцкія Глыб. 2. Набраць вагу, стаць сытым. *Курыца па волі хадзіла, яна дужа ўбучэла, б'ець усіх курэй.* Мярэцкія Глыб.

УБЫВА'ЦЬ *незак.* Змяншацца, карацець. *Скора дзень будзя ўбываць, а як у гарэху пачне расці зярнятка, так і ноч будзя прыбываць.* Альхоўка Навагр.

УБЫ'ЦЬ *зак.* 1. Ужыцца (патрафіць жыць разам). *Ты з маей маччыхай ні ўбудзіш.* Асавец Віл. *Ён тут не ўбудзя — пойдзе ад яе.* Вецярэвічы Пух. 2. Прыжыцца, прывыкнуць, застацца жыць. *Забралі бацьку ў Мінск на зіму — не ўбыў, прыехаў у вёску.* Саланое Віл. *Завёз двоя дзяцей у інтэрнат, але не ўбылі там.* Кіралі Шчуч. *І ён там не ўбудзя.* Старыя Смільгіні Воран. *Я роблю ў школе, а там не ўбыла́ п.* Рагулішкі Даўг. 3. Уседзець. *Хто дома ўбудзе́ць?!* Ністанішкі Смарг. *Дзе ж дзеці адны ўбу́дуць?!* Асавец Віл.

УБЭ'ХНУЦЬ *зак. экспр.* Укінуць, упусціць. *Убэхнула хлеб у воду.* Вецярэвічы Пух.

УБЯРЭ'МКІ *прысл.* У абдымку. *Яна дзіця убярэмкі бярэ.* Граўжышкі Ашм.

УВАГУ'Л *прысл.* Сумесна, разам. *Рабеце ўвагул, кап прадзержаць каровы.* Дзяніскавічы Ганц.

УВАДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Уцягваць у што-н. *Увядзі нітку ў іголку!* Ахрэмаўцы Брасл. *Нада ўвадзіць у ніты.* Магуны Паст. *Будзім увадзіць у ніты, а ў бёрда — укідаваюць.* Ёдлавічы Брасл. *У бёрда ўвадзілі.* Лісна В.-Дзв. 2. Запісваць. *У цітрадзь так уводзіць.* Валынцы В.-Дзв.

УВАЖА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і у в а ж а́ ц ь 1. *Ён троху*

*ўважайся бацькоў, а жонку натаўхая.* Азяраны Раг. *Трэба троха ўважацца.* Дзевятні Смарг.

УВАЖА'ЦЬ, УВАЖА'Ц *незак.* 1. Адносіцца з павагай, паважаць. *Гэтага дырэктара уважаяць усе.* Груздава Паст. *Нада ўважаць людзей.* Ахрэмаўцы Брасл. *Быў бедны заброшаны чалавек, ніхто яго не ўважаў. Ніхто тэй дзеўкі не ганьбаваў — усе ўважалі.* Вузла Мядз. *Унукі мяне не будуц уважац.* Парэчча Гродз. *Калі ты не ўважаеш сябе, то людзей уважай!* Солы Смарг. *Сын і нявестка бацькоў уважалі.* Ністанішкі Смарг. *У маладога маладой сватоў уважаюць лепш, а ў маладой — маладога сватоў.* Завельцы Астр. *Калісь бабаў не ўважалі.* Кудзялянцы Шальч. 2. Смакаваць. *Я ўважаю крышаны.* Азарычы Пін. ∇ *Не ўважай на ўраджай, а жыта сей!* Вузла Мядз. ◇ *Мала ўважаць* — не звяртаць увагі. *Я мала ўважала яго — пій, як маеш за што!* Каўняны Гродз.

УВА'ЖЫЦЬ *зак.* 1. Уступіць. *Я ўважу ўсім, не раздражыла нікога.* Азяраны Раг. *Прадаваў за сямсот, а уважыў за шассот.* Стральцы Гродз. 2. *перан.* Зняважыць, абняславіць. *Рас ты так міне ўважыла, я табе пакажу! І пачалася вайна ў хаці.* Пераброддзе Міёр.

УВАЖЭ'ННЯ, УВАЖЭ'НЯ *н.* Павага, паважанне. ◇ *Мець уважэння* — паважаць, ушаноўваць. *Дзеці ўважэння ўсе мелі, мне завідавалі.* Вузла Мядз. *Мець (на каго-н.) уважэня* — мець на ўвазе, улічваць. *Добра, я буду мець на яго ўважэня.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* руск. *уважение* 'павага'.

УВАЙСЦІ' *зак.* 1. Зайсці. *А ў горадзе ў дом і не ўвойдзе ніхто цэлы дзень.* Навасёлкі Лід. *Увайшлі ў хату.* Завельцы Астр. 2. Перасяліцца. *Уашлі ў новую хату жыць.* Дакудава Лід.

УВАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Незнарок укінуцца, праваліцца. *Ён уваліўся ў рэчку.* Альхоўцы Лях. *Наш парсюк уваліўся ў студню.* Паляцкішкі Воран. *Карова ўвалілася ў крыніцу.* Жылі Іўеў. 2. Упасці. *Яна ў грась увалілася.* Кемялішкі Астр. 3. *экспр.* Улезці, уляцець. *Куры ўваліліся ў гарот і падзёрлі грады.* Гемзы Шальч. 4. *экспр.* Увайсці. *Замарылася, чуць увалілася ў хату.* Саланое Віл. 5. *экспр.* Уварвацца, набегчы, нахлынуць. *На дварэ маладыя індычаняты ўваляцца, няма ад іх ратунку.* Слабада Мін.

УВАЛІ'ЦЬ *экспр.* Задаць, нахвастаць. *Абаім па вушам як увалю, то будзеця ведаць.* Вузла Мядз.

УВАЛО'ЧКА *ж.* Вяроўка, звітая з некалькіх тонкіх вяровачак. *Увалочка — моцная вяроўка, яна звіта у тры і больш столкі.* Дзяніскавічы Ганц.

УВАЛЬНЯ'ЦЦА *незак.* Вызваляцца ад якой-н. пасады, працы. *Прасілі: «Увальняйся, цяжолае дзела»,— а ён ні хоча.* Слабада Мін.

УВАРА'ЦЦА *зак.* Узараць сумежную палоску суседняга загона. *Дайней крычалі' «Ты мэтр увараўся ў маё!»* Рыбчына Віл.

УВАРА'ЦЬ *зак.* Узараць. *Паспрабуй, можа ты ўварэш той*

*цалік*. Беразіно Докш. *За гэтай сухатой няможна ўвараць плугам*. Ністанішкі Смарг.

УВАРВА'ЦЬ *зак*. Укараціць. ∇*Варвары ўварвалі дня і ночы прытачылі. Варвары ночы ўварвалі і дня прытачылі*. Кіралі Шчуч.

УВАРО'ТНЫ *прым*. Паваротлівы. *Ён такі ўваротны — усё паробіць за адзін дзень*. Вецярэвічы Пух.

УВАРЫ'ЦЬ *зак*. 1. Добра зварыць. *Слаба паліцца ў печы, не ўварыш мяса*. Мішневічы Шум. 2. *перан*. Ударыць, жарнуць. *Я кошцы як увару зара!* Граўжышкі Ашм.

УВАХО'ДЗІЦЬ *незак*. 1. Улазіць куды-н., упаўзаць. *У лётку пчала ўваходзіць*. Завельцы Астр. 2. Упадаць. *Там рэчка Дзісенка ўваходзіць*. Месянцы Брасл.

У ВАЧА'Х, УВАЧЧУ' *прысл*. 1. Вельмі хутка, у прысутнасці людзей. *Курчаткі ўжо велькія былі, кот прыбех і схваціў аднаго ў вачах і панёс*. Солы Смарг. 2. Выразна, уяўна (пра разумовы зрокавы вобраз). *Гэта даўно было, а ўваччу стаіць ён і цяпер. Ён мне у вачах і цяпер стаіць*. Вялікія Баяры Шчуч.

УВАШАВА'ЦЦА *зак*. Утаміцца ад цяжкай працы. *Увашавалася я з гэтай вадой. І што ты будзеш з ей рабіць? Тыля навашавала вады!* Старыя Смільгіні Воран.; *гл*. в а ш а в а́ ц ь.

УВЕ'ДАЦЬ *зак*. Атрымаць звесткі, даведацца, прачуць пра што-н. *Прышла баба — хоча нешта ўведаць*. Бакшты Іўеў. *Рана ўстала і ўведала*. Нізок Уздз. *Уведала, дзе жыве,— і пайду*. Пасека Ст.-Дар. *Уведалі, што бараніўся ён*. Вецярэвічы Пух.

УВЕЗЕ'НЫ *дзеепрым*. Звезены, завезены. *Дабро ўвезена ў гумно*. Саланое Віл.

УВЕ'РАД *м. мед*. Грыжа. *Як уверад увярэдзіш, то ўпіраецца гузамі*. Дакудава Лід.

УВЕРАДЗІ'ЦЦА, УВЯРЭ'ДЗІЦЦА *зак*. Стаміцца. *Уверадзілася за дзень*. Малахоўцы Бар. *На гэтай рабоце можна ўвярадзіцца*. Ісерна Слуц. *Ты ўжо ўверадзілася, дала духу!* Міратычы Карэл. *Што ты там уверадзіўся? Колькі ты зрабіў?!* Альхоўцы Лях. *Што вы там ўверадзіліся на гэтай рабоце?!* Тухавічы Лях. *Уверадзілася! Там не было чаго рабіць*. Малыя Аўцюкі Калінк.

УВЕРАДЗІ'ЦЬ, УВЯРЭ'ДЗІЦЬ *зак*. Натрудзіць, пашкодзіць, пакалечыць. *Уверадзіў руку — папухла; нагу можна уверадзіць, звіхнуць*. Старыя Смільгіні Воран. *Руку ўверадзіў работай*. Тухавічы Лях. *Увярэдзіла руку, апухла*. Малахоўцы Бар. *Увярэдзіў руку*. Збляны Лід.

УВЕ'РЫЦЬ *зак*. Пераканацца, паверыць. *Тады я ўверыў, што студня вышэй кузьні*. Ахрэмаўцы Брасл.

УВЕСНО'Ю *прысл*. Увесну. *Вечно бозар буў у Лахві. Гэто увесною*. Лахаўка Лун.

УВЕ'СЦІ, УВЯСЦІ' *зак*. 1. Увесці ўнутр памяшкання. *Быў свекар стары, я яго ўвяду ў хату*. Саланое Віл. 2. *зак*. да у в а д з і ц ь 1. *Трэба ўвесці нітку ў голку*. Грыкені Вільн. *Трэба нітку ўвесці ў вушка*. Лоск Валож. *Я ў іголку ўвяду нітку бэз*

*акуляр.* Парэчча Гродз. *Трэба нітку ўвясці ў іголку.* Малькуны Ігн. *Трэба нітку ўвясці і зашыць спадніцу, панчохі царавацъ.* Кіралі Шчуч. *Нада ўвясці нітку ў голку.* Гемзы Шальч. *Увядзі нітку ў іголку, нічога не бачу.* Магуны Паст. *Увясці нітку ў ніты і зноў у берда.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *На кросны навіваеш, у нічальніцы ўвядзеш, у бёрда ўкінеш, навязвалі на скарачы.* Завельцы Астр. 3. Пераліцъ. *Ей чужую кроў увялі — пажыла троху.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Увесці ў сорам* — засароміць. *Што ты сказала, ты ўвела мене ў такі сорам!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Увясці убэ́т* — прычыніць вялікую непрыемнасць, абняславіць, ашукаць. *Ты ўзяла казённыя грошы, ты увядзеш нас убэт!* Вузла Мядз. *Увясці у кулакі* — унесці разлад, пасварыць. *Яна увяла іх у кулакі, яны ездзілі на месная дазнанне.* Ёдупка Шальч.

УВЕ'СЦІСЯ *зак.* 1. Распладзіцца, размножыцца. *Вайною ўвяліся таракан,э прусэ́.* Вецярэвічы Пух. 2. Разрасціся, укараніцца. *Як увядзецца пырнік, рві с карэннем, а то яго будзіць больш і больш.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УВЕСЬ *займ.* 1. Увесь, ушчэнт. *Увесь забор паламалі каровы.* Солы Смарг. 2. Праз усю даўжыню. *Шнур бяруць і прэ праз увесь шнур. Не будзем праз увесь шнур ганяць — дзелім на гоні.* Солы Смарг. 3. На працягу пэўнага адрэзка часу. *Увесь дзень быў на рабоце.* Гемзы Шальч. *Усю нядзелю была ў Гродне.* Васілевічы Гродз. 4. Усёй постаццю, фігурай. *Гляджу, ён хінецца ўвесь.* Завельцы Астр.

УВЕ'ЧАР, УВЕ'ЧАРА *прысл.* Вечарам, увечары. *Увечар яго пазвай к сабе.* Лешня Кап. *Ты ўвечар робіш урокі.* Альхоўка Навагр. *Увечар не даіла карову.* Альхоўцы Лях. *Пачтарка вызвала машыну ўвечар і адвезла яе.* Дэгшні Шальч. *Сягоння ўвечара прыедзе хлопяц з Вілейкі.* Асавец Віл. *Прыду ўвечара — прачытаю. Увечара едзіць назад.* Пярэкі В.-Дзв. *Увечара зараня прыходзяць.* Ракаўскія Швянч.

УВЕ'ЧАРЫ *прысл.* Тое ж, што і у в е́ ч а р. *Рано і ўвечары праз два дне выпалівала рожу, і нага стала здарова.* Сакаляны Сакол. *Увечары немцы мушчынаў давай цягаць на дапрос.* Малышы Лід. *Увечары будзе вячэра.* Вецярэвічы Пух.

УВЕЧА'ЦЬ *незак.* Упэўніваць, пераконваць. *Яна ўвечаіць, што іх вывезуць.* Груздава Паст.

УВЁРТАК *м.* Скручаны дубец, вітка для прымацавання чагон. *Яловы ўвёртак нада здзелаць.* Лісна В.-Дзв. *Для аглабель былі ўвёрткі: лазіна скручаная, увёрткам зажымала аглоблю, штоб дзяржалася. Каждэй аглоблі было па ўвёртку; ілі петлі, ілі ўвёрткі.* Мешкінева Лудз.

УВІВА'ЦЬ *незак.* Звіваць. *Патом сядзім і ўвіваям клубке.* Малахоўцы Бар.

УВІ'ДЗЕЦЦА *зак.* Спаткацца, сустрэцца. *Як увіджуся з ей, то гаворым і гаворым.* Саланое Віл.

УВІ'ДЗЕЦЬ *зак.* 1. Спаткаць, сустрэць. *Як увідзіш яго, ска-*

*жы, каб зайшоў да нас.* Саланое Віл. 2. Заўважыць які-н. непарадак, несправядлівасць. *Я не абгаваравую людзей, ну што ўвіджу, то скажу, за тоя і благая.* Вузла Мядз. ◇ *У вочы ня ўвідзець* — адсутнічаць, не быць у наяўнасці. *Як пагоды нет — рыбу ў вочы ня ўвідзіш.* Лісна В.-Дзв.

УВІНУ'ЦЦА *зак.* Увішна ўзяцца за працу. *Як увінуцца рабіць, то хутко зробяць.* Міратычы Карэл. *Дзеўчыны як увінуцца, то скора паробяць.* Вострава Маст. *Увініцёся — паедзіця, не ўвініцёся — я буду дома, будзем гаварыць.* Солы Смарг.

УВІРА'ЦЦА *незак.* Давярацца. *Што я буду ўвірацца табе, ты мне ня верыш.* Кураполле Паст.

УВІРЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Сцебануць. *Дай табе ўвіру гэтым рэмнем, як жалезам.* Ухвала Круп.

УВО'Д *м. царк.* Абрад, пасля якога парадзіха магла наведваць царкву, касцёл. *У царкву прыводзілі парадзіху з дзіцём чарас шэсць нядзель да ўводу.* Стральцы Гродз.

УВО'ДЗІЦЦА *незак.* Уцягвацца. *Аснова ўводзіцца ў нічальніцы, а потым у бёрда.* Гемзы Шальч.

УВО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і у в а д з і ц ь 1. *Уводжу нітку ў голку; буду ўводзіць нітку.* Паляцкішкі Воран. *Суконную нітку уводзіш у шаршатку.* Завельцы Астр. *Гочка у нічальніцах, уводзіш аснову ў нічальніцы. А ў бёрда па дзве ніткі уводзяць.* Дэгшні Шальч. *Аснову ў нічальніцы ўводзяць.* Жылі Іўеў. *Навівалі кросна і ўводзілі ў нічальніцы і ў бэрда.* Старыя Смільгіні Воран. *Ніткі ў нічальніцы ўводзяць.* Беразіно Докш. *Кольчыкі ў вушы, у бліночкі ўводзяць.* Солы Смарг. 2. *тэх.* Праводзіць. *Свет уводзяць электрыкі.* Солы Смарг. ◇ *Уводзіць у злосць* — выклікаць злосць, злаваць. *Ідзі з хаты, ня ўводзь мяне ў злосць!* Альхоўцы Лях.

УВО'ІНЫ *мн.* Планачкі для замацавання трысцінак бёрда. *Увоіны — такія тросці з дрэва.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УВО'Й *зб. м.* Віткі. *Трэба ўвою насеч плот гарадзіць. Увой ў плоце пагніў, трэба мяняць.* Вецярэвічы Пух.

УВО'РЗАНЫ *дзеепрым.* Запэцканы, замазаны. *У цябе уворзаныя ў грась боты.* Рудня Астравітая Чэрв.

УВО'РЗАЦЬ *зак.* Запэцкаць, замазаць. *Дзе ты так уворзала боты?!* Рудня Астравітая Чэрв.

УВО'РУВАЦЦА *незак. с.-г.* Заворвацца. *Перш растрасём, тады ўворуецца салома, гной.* Азяраны Раг.

УВО'СЕНЬ, УВО'СЯНЬ, УВО'СІНЬ, УВО'СЕНІ *прысл.* У асенні час. *Увосень два разы быў дома.* Пярэкі В.-Дзв. *Тэраз увосень паеду ў Вільню.* Грыкені Вільн. *Увосень пазебляць.* Збляны Лід. *Багатыя дзяды былі ўвосень.* Кухты Віл. *Прыехаў ён увосень.* Цяпінцы Віл. *Увосень як узарэш, то бараной толькі ўзрушыш вясной.* Сасноўка Смарг. *Увосень капусту скварылі гэтым салам. Я мела Казіка ўвосень.* Завельцы Астр. *Увосянь ночы цёмныя.* Кіралі Шчуч. *Як рас увосінь, бульбу біручы, гэта было.* Вузла Мядз. *Выехалі ўвосені.* Чычалі Швянч.

УВО′СЬНІ *прысл.* У сне. *Як увосьні ўвідзіла свайго мужыка, стала ждаць яго з вайны.* Валынцы В.-Дзв.

УВО′СЯНЬ *гл.* УВО′СЕНЬ

У ВО′ЧКІ *прысл.* У петлі (пра ніт). *Ніт бывая просты і ў вочкі. Ніт у вочкі робіцца на такі станок.* Вецярэвічы Пух.

У ВУ′ГАЛ *прысл. буд.* У нямецкі вугал. *Наша хата зрублена ў вугал.* Ахрэмаўцы Брасл.

УВУЗГАРЭ′ДЖВАЦЬ *незак.* Закладваць што-н. у азярод, азяродзіць. *Снапы ў нас не увузгарэджвалі.* Саланое Віл.

УВУЗГАРЭ′ДЗІЦЬ *зак.* да у в у з г а р э́ д ж в а ц ь. *Трэба ўвузгарэдзіць гарох, канюшыну ў азярод.* Саланое Віл.

УВЫ′КНУЦЬ *зак.* Панадзіцца, набыць звычку. *Цялюк увык у гарох хадзіць.* Кудзялянцы Шальч.

УВЯ′ЗАНЫ *дзеепрым.* Заверчаны ў што-н. *Бывала, чаравікі занясеш да касцёла ў хусцы ўвязаны.* Васілевічы Гродз.

УВЯЗА′ЦЦА *зак. экспр.* 1. Наляцець, напасці. *Шпакі як увяжуцца ў яблыкі — усё падзяўбуць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Пачаць беспарапынна ісці. *Дошч увязаўся: сыпіць і сыпіць кажды дзень.* Валынцы В.-Дзв.

УВЯЗА′ЦЬ *зак.* 1. Звязаць. *Тытунь у папушкі ўвяжам.* Быстрыца Астр. *Трэба хлеба ў клунак і місачку на поля ўвязаць.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Прывязаць да чаго-н. *Трэба кудзелю ўвязаць у поцясь.* Малахоўцы Бар. *Салому на страсе трэба ўвязаць як трэба.* Рыбчына Віл.

УВЯ′ЗВАЦЬ, УВЯ′ЗЫВАЦЬ *незак.* да у в я з á ц ь 2. *Расцілалі салому на страсе, повязні круцілі з лазы і ўвязвалі салому.* Збляны Лід. *Кудзельку рабілі на стале, патом увязваем у прасніцу і прадзём.* Магуны Паст. *Увязывалі кудзелю да прасніцы.* Латыгаль Віл. *Кудзелю ўвязываць была прасніца.* Завельцы Астр.

УВЯЗДЗЕ′ *прысл.* Усюды, паўсюдна. *Калапенькі точна, як калапні, не ўвяздзе растуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *везде* ’тж’.

УВЯ′ЗКА, УВЯ′СКА *ж.* 1. Прывязка ў цэпе. *Даўней казалі: «Трэба выразаць увязку і прывязаць ужык да булаўкі».* Гемзы Шальч. *Увяска да цэпа; цапільно, булаўка і дзве ўвяскі.* Жылі Іўеў. 2. Скручаны дубец, вітка для прывязвання саломы да латаў страхі. *Увязкі з вітак рабілі і салому ўвязвалі на страсе.* Івашкаўцы Смарг.

У′ВЯЗЬ, УВЯ′СЬ *ж.* 1. Прывязь. *Кантар надзяваеца на шэі — гэта еслі на ўвязі стаіць сільная лошаць.* Масілавічы Сл. *Каня прывяду да ўвязі.* Граўжышкі Ашм. 2. Дзеянне паводле значэння дзеяслова ў в я́ з в а ц ь. *Увясь рабілі лазой, як крылі саломай страху.* Бакшты Іўеў. *Увясь — калі крыюць страху.* Рыбчына Віл.

УВЯРА′ЦЬ *незак.* Верыць. *Ён не ўвяраў у гэтыя замовы.* Завельцы Астр.

УВЯРНУ′ЦЦА *зак.* Укруціцца, закруціцца. *Ехала на лісапе-*

*дзе, мая каса ўвярнулася.* Замошша Брасл.

УВЯРО'Д, УВЯРО'Т *м.* 1. Тое ж, што і у в ё р а д. *Увярод ад сільнай натугі, работы цяжкай. Ад увяроду нада палячыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бывала, баба палечыць увярод.* Пасека Ст.-Дар. 2. Расцяжэнне сухажылля. *Увярот у мяне: апухла рука.* Малахоўцы Бар.

УВЯРТНІ' *мн.* Тое ж, што і у в ё р т а к. *Бывала, увяртні рабілі дзяравяныя, а патом — вераўчаныя для прыкраплення аглабель да палазоў.* Саланое Віл.

УВЯРХУ' *прысл.* Уверсе. *Увярху ў печы — паднябенне.* Солы Смарг.

УВЯРЦЕ'ЦЬ *зак.* Абкруціць, укруціць. *Я скарэй у хату, галаву ўвярцела ды на печ.* Багушэвічы Бярэз.

УВЯРЭ'ДЗІЦЦА *гл.* УВЕРАДЗІ'ЦЦА

УВЯРЭ'ДЗІЦЬ *гл.* УВЕРАДЗІ'ЦЬ

УВЯРЭ'ДНІК *м. бат.* 1. Увярэднік. *Тут увярэднік расце, пакажу вам.* Альхоўка Навагр. 2. Настой з увярэдніку. *Увярэднік п'юць, еслі ногі баляць.* Бакшты Іўеў.

УВЯ'СКА *гл.* УВЯ'ЗКА

УВЯСЦІ' *гл.* УВЕ'СЦІ

УГАБЛЯВА'ЦЬ *зак.* Выгаблеваць. *Крутоя дзерава, яго няможна ўгабляваць.* Солы Смарг.

УГАВА'РВАЦЬ, УГАВА'РАВАЦЬ, УГОВО'РВАЦІ *незак.* 1. Супакойваць, уцяшаць. *Яна пачала яго ўгаварваць: «Ні плач, што ш ты зробіш?!»* Кіралі Шчуч. 2. Пераконваць, прасіць, раіць, радзіць. *Я стала ўгаварваць дачку, яны сміркіліся і зноў запісаліся.* Слабада Мін. *Я ўгаваравала, а ён не паслухаў і не паехаў, куды я пасылала.* Гемзы Шальч. *Я вас не ўговорваю.* Навасёлкі Свісл. *Яны мене ўговорвалі рабіць.* Збляны Лід. *Уговорваю его: ідзі до цёці.* Смаляніца Пруж. 3. Замаўляць. *Ездзілі угаварваць да якое шаптункі.* Дарава Лях.

УГАВАРЫ'ЦЬ *зак.* да у г а в а́ р в а ц ь 2. *Ніхто яго не ўгаворыць.* Жылі Іўеў. *Яе не ўгаворыш.* Пасіене Лудз.

УГА'ДВАЦЬ *незак.* 1. Разгадваць. *Старая ўгадвая добро сны.* Альхоўцы Лях. 2. Гаварыць што-н. смешнае, гумарыстычнае, выдумваць. *От пачвара ўдаўся: толькі ўсё ўгадуе і ўгадуе — штобы людзі смеялісь.* Гемзы Шальч.

УГАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Унаравіць, дагадзіць. *Не магу яму угадзіць — усё не так, як ён хоча.* Граўжышкі Ашм. *Ня ўгодзіць усім.* Груздава Паст. *Усе яе любілі, яна ўсім угодзіць, паможыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як ні гадзі, а ўсім не ўгодзіш.* Вузла Мядз. 2. *перан.* Збіць, папасці ў цэль. *Нямецкі прылящеў самалёт, так яму і ўгадзілі.* Дарава Лях.

УГА'ДЛІВЫ *прым.* Хто ўмее варажыць; прарочы, прароцкі. *У нас тут быў угадлівы чалавек, памёр ужо.* Гемзы Шальч.

УГА'ДНІК *м.* Варажбіт, знахар. *Даўней бабы хадзілі да ўгадніка.* Рудня Астравітая Чэрв.

УГА'ДНІЦА *ж.* Варажбітка, знахарка. *Некалі казалі, што ўгадніца можа адлячыць.* Рудня Астравітая Чэрв.

УГАІ'ЦЬ *зак.* Загаіць. *Разраніўшыся нага, не могуць угаіць.* Гемзы Шальч. *Сабачы зуб* [укус] *угаіць цяшка.* Рагулішкі Даўг. *Гэту рану цяшка ўгаіць.* Груздава Паст. *Прыкладала мачой, і гэтым угаілі рану, стала гаіцца і загаілась.* Валынцы В.-Дзв.

У'ГАЛ *м.* Вугал. ∇ *Баба дзяржыць тры ўглы гаспадаркі, а муж — толькі адзін угал.* Саланое Віл.

УГАЛЁП *прысл.* Наўгалоп, галопам. *Нашто ты гоніш каня ўгалёп?!* Гемзы Шальч.

УГАЛУ'ЖАНЫ *прым.* Упэцканы, укачаны. *Прыбег у хату угалужаны ўвесь у гразь.* Мсцібава Ваўк.

УГАЛУ'ЗІЦЦА *зак.* Упэцкацца, укачацца. *Паршук угалузіўся ў гразь.* Мсцібава Ваўк.

УГА'ЛЬ *м.* Вугаль. *Угаль выскачыў з печы. Угале ў печы разгарэліся.* Вострава Маст.

УГАМАВА'ЦЬ *зак.* Суняць, спыніць. *Ні ўгамавала кроў, як ішла з носу.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *hamować* 'тармазіць, стрымліваць'.

УГАМАНІ'ЦЬ *зак. перан.* Упарадкаваць. *Няхай дошч ня ідзець, пака сена не ўгамонім.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УГАНЯ'ЦЦА *незак.* Смакаваць, любіць. *Наш дзед за рыбай не ўганяецца.* Гемзы Шальч.

УГА'Р *м.* Чад. *Быў угар у лазні.* Рыбчына Віл. *Можа ўгар у галаў даць.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *угар* 'тж'.

УГАРУ' *прысл.* Уверх. *Шчэткі — дошка, гваздзямі набіта ўгару.* Дзераўное Стаўб.

УГА'РЫНА, УГО'РЫНА *ж.* Раменьчык са скуры вугра для прымацавання біча да дзяржання цэпа. *Угарына перш са скуры ўгорыша рабілася, ей бічоўка прывязвалася.* Кураполле Паст. *Як гарох малоцяць — угарына рвецца.* Валынцы В.-Дзв. *Угорына крэпкая, як рамень.* Ахрэмаўцы Брасл.

УГА'РЫНКА *ж. памянш.* да у г á р ы н а. *Угарынка рабілася са скуры вугорыча.* Кураполле Паст.

У'ГАРЬ *гл.* УГО'Р I

УГАРЭ' *прысл.* Уверсе. *У снойцы ўдолі і ўгарэ былі такія крыжакі.* Васілевічы Гродз. *Шчыт угарэ.* Завельцы Астр.

УГАРЭ'ЦЦА, УГАРЭ'ЦА *зак.* 1. Загарэцца. *Угарэлася кудзеля і бараду апякла мне.* Альхоўка Навагр. 2. Разгарэцца. *Хоць дрова ўгараца, але ўсё раўно копаць ёсць.* Масішкі Красл.

УГАРЭ'ЦЬ *зак.* Учадзець. *Ён угарэў у галаву, угар у лазні быў.* Рыбчына Віл.; *параўн.* руск. *угореть* 'тж'.

УГАЦІ'ЦЬ *зак.* Укінуць. *Іх угацілі ў возера.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УГАШЧА'ЦЬ *незак.* Частаваць. *Яна іх дзесяцьма стравамі ўгашчала.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* руск. *угощать* 'тж'.

УГІ'БНУЦІ *зак.* Задзяўбаць, загубіць. *Каршун можа ўгібнуці куранятка.* Парэчча Гродз.

УГЛЕ'ДЗЕЦЬ, УГЛЕ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Убачыць. *Я ўгледзіла, як вуш быстро паўзе.* Вялікі Краснік Пруж. *Сын угледзіў бацька і пабех за ім.* Міратычы Карэл. *Дзе ўгледжу мокрае сена, буду адкідаць.* Дарава Лях. *Здалёк угледзіў мяне.* Вострава Маст. 2. Першы раз убачыць. *Як сюды прышла, то раку ўгледзела. У нас ракі не было.* Вецярэвічы Пух. *Пакуль самі не ўгледзілі, не зналі, хто курэнятко браў.* Масілавічы Сл. 3. Спаткаць, сустрэць. *Мо дзе Кацярынку ўгледзеш, то скажы, каб забегла к нам.* Вецярэвічы Пух. 4. Дагледзець. *Дзяцей много, угледзяць манэ, бо ногі боляць, ходзіць ні могу.* Хатынічы Ганц.

УГЛЁДАЦЦА *гл.* УГЛЯДА'ЦЦА

УГЛІ' *мн.* 1. Вуглі. *З карчоў выраблялі тарпантыну, смалу, дзёгаць і углі.* Гемзы Шальч. 2. Гарачае вуголле, жар. *Углі па кутках стаўлялі, кап душа з кладбішча не ішла, кап пяты папякла.* Дарава Лях.

УГЛУ'БІЦЦА *зак.* Паглыбіцца, глыбока выкапаць. *Калі ўглубіцца тры метры, то вада паявіцца.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *углубиться* 'тж'.

УГЛУ'МБАЦЦА *зак. экспр.* Стаміцца, прыстаць. *Бывала, як паходзіш у гэтых ґлумбах, драўляніках, то ўґлумбаешся. Яна ўґлумбалася за дзень.* Кураполле Паст.; *гл.* ґ л у м б ы.

УГЛЯДА'ЦЦА, УГЛЁДАЦЦА *незак.* Пільна глядзець, прыглядвацца, паглядзець. *Углядаюся і не пазнаю вас.* Граўжышкі Ашм. *Усё ўглядаюся на дарогу — яна павінна ехаць.* Жылі Іўеў. *Углядайся! Дзяцюк пашоў.* Саланое Віл. *Тая адразу так і ўглядалася.* Лоск Валож. *Ня буду ўглядацца.* Рыбчына Віл. *На ногі не ўглядайсё!* Старое Сяло Зэльв. *Брытко ўглядацца.* Вострава Маст. *Углёдаюся — і не магу пазнаць цябе. Углёдаюся з час мо на дарогу, а машыны не відаць.* Мачаск Бярэз.

УГЛЯ'К *м.* Тое ж, што і у г а́ л ь. *Плечы пасечаны, чорныя, як угляк. Не кладзі ніякай ганучы, бо на тым свеці будзеш есці ўгляк.* Кіралі Шчуч.

УГЛЯ'Р *м.* Смалакур. *У Талеях жыў угляр, у яго печы былі. Людзі капалі сасновыя карчы і звозілі да яго.* Гемзы Шальч.

УГЛЯ'СТЫ *прым.* З чорным суквеццем. *Яжджаль бывая угласты.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УГНАВІ'ЦЬ *гл.* УГНЯВІ'ЦЬ

УГНА'НЫ *дзеепрым.* Увагнаны, убіты. *Кол угнаны ў сцяну.* Ракаўскія Швянч.

УГНА'ЦЦА *зак.* Дагнаць, зраўняцца. *Са мной было трудна рабіць — я рабіла так, што ніхто ні ўгоніцца.* Слабада Мін.

УГНА'ЦЬ *зак.* Загнаць. *Ты цяля ні ўганеш у хлеў.* Альхоўцы Лях. ◇ *Курч угнаць* — знясілець ад празмернай працы, захварэць. *Аж курч угналі ў ногі ад натугі.* Магуны Паст. *У гроб уганўць* — прычыніць вялікія турботы, давесці да хваробы. *Дзеці ў гроб уганўць.* Кузьмічы Люб. *У зямлю ўгнаць* — забіць. *Я цябе ў зямлю ўганю!* Вузла Мядз.

УГНЕЦЁННЫ *дзеепрым.* Нахілены. *Угнецённае дзерава да*

*зямлі прыгнулася.* Беразіно Докш.; *параўн.* руск. *угнетённый* 'прыгнечаны'.

УГНІ'БНУЦЬ *зак.* Ушчыпнуць. *Падсуніш пальцы, так рак і ўгнібне, можа ўгнібнуць.* Старыя Смільгані Воран.; *параўн.* літ. *ignýbti* 'тж'.

УГНО'ЕНЫ *дзеепрым. с.-г.* Удобраны, угноены. *Угноена зямля, часта гной ложаць.* Гемзы Шальч.

УГНУ'ЦЦА *зак.* Увагнуцца. *Палажылі на стол, і стол угнуўся.* Саланое Віл.

УГНЯВІ'ЦЬ, УГНАВІ'ЦЬ *зак.* 1. Увесці каго-н. у гнеў, раззлаваць. *Еслі ты благога чалавека ўгнéвіш — галавеньку можа прынесці і спаліць.* Вузла Мядз. 2. *перан.* Выклікаць запаленне, раздражніць (пра рану). *Можна ўгнявіць рану.* Мярэцкія Глыб. *Угнявіў рану — месца не знаходжу.* Беразіно Докш. *Угнавіла ты рану, як палажыла мазі.* Валынцы В.-Дзв.

УГО'ДА *ж.* Умова. *Складалі гасцінец пастуху, такая ўгода была з ім, усё увосінь плацілі, як атработаў лета.* Малькуны Ігн.

УГО'ДНЫ *прым.* Угодлівы. *Такая ўгодная, яна ўсім угодзя.* Рыбчына Віл.

УГО'Л *м.* Вугал. *Угол зруба кладзецца.* Асавец Віл. ∇ *У мушчын адзін угол, а баба тры ўглы дзяржыць — гэта абазначаіць, што мушчына дроў прывязець, карові пошару прыстараецца, а баба далжна наварыць, накарміць, усіх абшыць, абмыць і гаспадарскую работу рабіць.* Вузла Мядз.

УГО'ЛЬЁ *н.* Валлё. *Угольё ў курыцы.* Малахоўцы Бар.

УГО'ЛЬЯ *зб. н.* Вуголле. *У кузні мех раздувае ўгольа.* Горск Бяроз.

УГО'Р І, У'ГАРЬ *м. заал.* Вугор. *Угор пападаецца тожа.* Беразіно Докш. *Угры ў другіх азірах.* Мельнікі Лудз. *Угрі, как змея, такія рыбы.* Навікі Лудз. *Я рас ішла ў Мядзела, і угроў горы ляжалі.* Вузла Мядз.

УГО'Р II *м.* Узаранае поле, ворыва. *Ржыско гаруць і зовуць угор.* Ліпнікі Вільн.

УГО'РАЧ *гл.* УГО'РЫЧ

УГО'РАШ *гл.* УГО'РЫШ

УГО'РАШЧА *ж.* Тое ж, што і у г á р ы н а. *Цапы навязвалі ўгорышчай — скурай угорашча.* Ахрэмаўцы Брасл.

УГО'РУ *прысл.* Угору. *Рукі падымая ўгору і паткідая мяч.* Міратычы Карэл. ∇ *Булбаткі скачуць угору — будзя дошч велькі.* Кіралі Шчуч.

УГО'РЫНА *гл.* УГА'РЫНА

УГО'РЫЧ, УГО'РАЧ *м.* Тое ж, што і у г о р І. *Самая жырная рыба — угорыч. Угорыч ідзець, як змей, галоўку уверх падняўшы. Водзіцца ўгорыч, дзе буж'яна возіра, ён пахніць бузой. Угорыч пітаецца матылямы. Немцы, яўрэі ні елі ўгорыча і ліна. Дайней з угорыча скуру знімалі і цапы навязывалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Угорыч — як змія.* Янова Рас. *Угорыч у гарох ходзіць.*

Валынцы В.-Дзв. *Угорач ёсць у нас.* Рагулішкі Даўг. *Угорач у гарох ходзіць.* Ёдлавічы Брасл. *Даўней было ўгорычаў.* Рагулішкі Даўг. *У азярэ угорычаў лавілі на ўюноў.* Лісна В.-Дзв. *Угорычы да ўтоплінікаў чапляюцца.* Рагулішкі Даўг.

УГО′РЫШ, УГО′РАШ *м.* Тое ж, што і у г о́ р I. *Угарына са скуры ўгорыша рабілася.* Кураполле Паст. *Угораш без жабрэй.* Ахрэмаўцы Брасл.

УГРАВА′ЦЬ *незак.* Саграваць. *Трэба нагу ўграваць, укрываць, а не хадзіць.* Завельцы Астр.

УГРА′ЗНУЦЬ *зак.* Загразнуць. *Даўней граскія канавы былі, угразня карова па спіну.* Рудня Астравітая Чэрв.

У ГРАША′Х ◊ *Быць у грашах* — мець вялікую вартасць, каштоўнасць. *У той час зямля была ў грашах.* Грыкені Вільн.

УГРО′БІЦЬ *зак.* Загубіць. *Так можна чалавека угробіць, калі нявінна упратаць у цюрму. Ён яго ўгробя.* Лоск Валож.; *парайн.* руск. *угробить* 'тж'.

УГРО′ЖАНЫ *дзеепрым.* Строгі, выхаваны ў строгасці. *Я дужа ўгрожана была, дысцыпліну мела.* Саланое Віл.

УГРУ′Д *м.*, УГРУ′ДЫ *мн.* Куча галля, лому. *Сухое суччa зносюць у угруд, нада паліць угруды, ліснікі палюць угруды.* Лісна В.-Дзв.

УГРУ′ЗНУЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і у г р а́ з н у ц ь. *Каля ракі можна ўгрузнуць. Там конь угрус.* Вецярэвічы Пух. 2. Завязнуць, прыліпнуць. *Угрузла пчала ў мёдзе і ўкусіла мяне за язык.* Вецярэвічы Пух.

УГРУНЁМ *прысл.* Вельмі хутка. *Як пусціўся ўгрунём бехчы.* Беразіно Докш.

УГРЫ′, УГРЭ′ *мн.* Бугаркі на скуры жывёл, у якіх паразітуюць лічынкі авадня. *Угры ў кароў выціскаюць, там рабак.* Гемзы Шальч. *Угрэ бываюць пат скурай у кароў, цяпер сосам выціраюць, выціскаюць рабаке.* Новікі Гродз.

УГРЭ′ПЦІ *зак.* Згрэбці. ◊ *Ні ўкасіць, ні ўгрэпці* — хто непрыгодны ні да якой работы. *Яна ні ўкасіць, ні яна ўгрэпці, ні да чаго не здатна.* Бакшты Іўеў.

УГРЭ′Х *м.* Загон. *Угрэх — паласа, якую трэба ўзараць у адным палетку.* Мсцібава Ваўк.

УГРЭ′ЦЦА *зак.* 1. Сагрэцца, нагрэцца. *На дварэ пазябла, а ў хаці пасядзела і угрэлася. Хлапец угрэўся, паляжаў на печы.* Лоск Валож. 2. Упарыцца, спацець. *Угрэлася я на рабоці — уся мокрая.* Мсцібава Ваўк. *Я ўчора угрэлася: цёпла адзелася.* Ёдупка Шальч. 3. Сапрэць, зляжацца. *Мокрае сена угрэіцца і гніець.* Палік Барыс.

УГРЭ′ЦЬ *зак.* 1. Сагрэць. *Так змерзла — ногі не магу ўгрэць.* Лайпушкі Ігн. 2. Упарыць, утаміць. *Угрэў ты каня.* Быстрыца Астр.

УГУ′ *выкл.* Ага, ну, так. *Ты скасіў луг? — Угу, скасіў.* Рудня Астравітая Чэрв.

УГУМАНІ′ЦЬ *зак.* Угаварыць. *Чуць угуманілі яго.* Лісна В.-Дзв.

УГУСЦІ′ЦЬ *зак.* Зварыць вельмі густую страву. *Угусціла кашу — нада дабавіць кіпятку.* Мішневічы Шум.

УГЭ′ *прысл.* Ужо. *Што, угэ злавіў цябе кашаль?!* Пасека Ст.-Дар.

УДАБРО′НЫ, УДО′БРАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і угно́ены. *Зімля там удаброная, добра родзіць.* Мярэцкія Глыб. *Удобраная гнойная зямля.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *удобренный* 'тж'.

УДАБРЭ′НЕ, УДАБРЭ′ННЯ, УДАБРЭ′НІЯ *н.* Неарганічнае ўгнаенне. *Прывязлі ўдабрэне. Пагібаюць пчолы ад удабрэня.* Швэды Вільн. *Рассявала ўдабрэння я сама, і забарануюь.* Саланое Віл. *Удабрэнія пасеелі.* Солы Смарг.; *парайн.* руск. *удобрение* 'тж'.

УДАВА′ *ж.* Жанчына, у якой памёр або загінуў муж. *Яна — удава.* Мярэцкія Глыб. *Асталася адна, удаве і жыця плахоя.* Кіралі Шчуч. *Дачка асталася ўдавой — муж памёр.* Солы Смарг. *Восім гадоў пажыла удавой.* Слабада Мін. *У Дайнаве дзве ўдовы былі.* Кудзялянцы Шальч. *Мы ўдовы жывём.* Масішкі Красл. *Колькі ж іх, такіх удоў?!* Дзёрнавічы В.-Дзв. ∇ *Ні дай бох сіраце радзіцца, а ўдаве чыніцця.* Кіралі Шчуч.

УДАВА′ЦЦА I *незак.* 1. Атрымацца дабраякасным. *Свякроў пікла хлеп, у яе хлеп нікада ні ўдаваўся.* Масішкі Красл. 2. Радзіцца здаровым, пацешным. *Бывая, дзяцёнак удаецца — усе радуюцца.* Ракаўскія Швянч. 3. Здавацца, паказвацца. *Там страхе ўдаваліса.* Старое Сяло Зэльв.

УДАВА′ЦЦА II *незак.* Заляцацца, хадзіць. *Тут удаецца да яе чалавек з другога сяла.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *udawać się* 'адпраўляцца (у падарожжа); звяртацца'.

УДАВА′ЦЬ *незак.* Раскрываць што-н. сакрэтнае, даносіць на каго-н. *Быў адзін, што ўдаваў парапкоў пану. Яму гаварылі: «Ты удаеш нас!»* Дэгшні Шальч. *Ты што удаеш яго?!* Ністанішкі Смарг.

УДАВЕ′Ц *м.* Мужчына, у якога памерла жонка. *Удавец прыехаў у сваты.* Ахрэмаўцы Брасл. *Удавец застаўся.* Паляцкішкі Воран. *За ўдаўца, за старога вышла замуш.* Саланое Віл. *Доўга яму быць удаўцом: рас-два — і жэніцца.* Кіралі Шчуч. *Мікіта ўзяў Зосю ўдаўцом.* Вецярэвічы Пух. *Ён ужо стары ўдаўцом астаўся, але жаніўся, то казалі, што грэўся каля сценкі і да маладой жонкі ляцеў. Ад печы не нагрэесся, калі свайго цяпла няма!* Ёдупка Шальч. *Усе бабы хворыя, усе стогнуць — а ў сяле тры ўдаўцэ і трыцаць тры ўдавы.* Збляны Лід. *Прыпатковая мяса — удавец.* Граўжышкі Ашм.

УДАВІ′ЦЦА *зак.* Падавіцца чым-н. *Можа ўдавіцца свіня косцяй.* Гемзы Шальч. *Я ўдавіўся калюшкай.* Быстрыца Астр. ◊ *Пе́ршым куско́м удавіцца* — адзін раз выходзіць замуж. *Дай божа першым куском удавіцца — не хадзіць другі рас замуш.*

Лоск Валож. *Удавіцца каласко́м* — перастаць кукаваць. *Як ячмень выплывае, то зязюля пакідае кavaць посьлі Пятра, то кажуць: «Удавілася зязюля ячменем, каласком».* Дарава Лях.

УДАГО'Н *прысл.* Наўздагон. *Ён удагон крычыць ёй нешта.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УДАЛЕ'Ц *м.* Той, хто ўдалы, здатны да ўсялякай работы. *Ён такі ўдалец — усё можа зрабіць.* Саланое Віл.

УДА'ЛКА *ж.* Мянушка. *«Удалка» — дражняць гэту бабу.* Глівін Барыс.

УДА'ЛУХА *ж.* Жанчына, якая ўсё ўмее рабіць, здатная да ўсяго. *Эй ты, удалуха, расскажы, як ткала?!* Ухвала Круп.

УДА'ЛЫ *прым.* 1. Здатны, умелы. *Ён удалы чалавек.* Міратычы Карэл. *Удалы ён, добра зарабляя.* Гемзы Шальч. *Удалы сын памёр.* Крэва Смарг. *Баба ўдалая, пякла хлеб смачны, кісля добрая.* Багдзюлі Шальч. 2. Быстры. *Удалы конь ляціць, як страла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Які хутка расце, набірае вагу. *Парасяты ўдалыя.* Завельцы Астр. *Парсюкі ўдалыя нашы, добра ядуць.* Гемзы Шальч.

УДА'ЛЬ *прысл.* Удалячынь, далёка. *Удаль віджу добра.* Магуны Паст. *Да лесу вярсты не было удаль.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* руск. *вдаль* 'тж'.

УДА'Р *м.* Ударанае месца. *Удар — выцятае месца. Дайней, як выцяўся хто, казалі:«Ідзі, хай загавораць табе ўдар».* Альхоўцы Лях.

УДА'РАЦЬ *зак.* Ударыць, моцна выцяць. *Як раззлуецца, ён можыць ударать.* Марэцкія Глыб.

УДАРА'ЦЬ *незак.* ◇ *Удараць у галаву* — прыліваць да галавы (пра кроў). *Мне горача, у галаву ўдарая.* Лоск Валож.

УДАРО'БКА, УДАРО'ПКА *ж.* Круг з лубу для намотвання пражы. *Дайней была ўдаропка — ніткі звіваць.* Кураполле Паст.; *гл.* а д а р о́ б а к.

УДАРО'ЖЫЦЦА *зак. перан.* Пачаць ісці без перапынку. *Дош як ударожыцца, дык будзіць ісці доўга.* Саланое Віл.

УДА'РЫЦЦА, УДЫ'РЫЦЦА, УДЭ'РЫЦЦА *зак.* 1. Балюча выцяцца. *Я паваліўся і ўдарыўся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не п'яны быў, але ўпаў і ўдэрыўся.* Паляцкішкі Воран. *У галаву ўдэрыўся.* Крэва Смарг. 2. *перан.* Шчыра ўзяцца. *Я сам адзін, дык удырыўся ў работу.* Альхоўцы Лях.

УДА'РЫЦЬ, УДЫ'РЫЦЬ, УДЫ'РЫЦІ, УДЫ'РЫТЫ, УДЭ'РЫЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і у д а́ р а ц ь. *Ён мажэ ўдарыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дайней як ударыш што, то сваей мочы прыкладалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ударыў яго.* Чычалі Швянч. *Ударыў яго па назе.* Бенякові Воран. *Ён ударыў яга.* Груздава Паст. *Ты глянь, як Алех удырыў Жанку!* Стральцы Гродз. *Ён удырыў, выбіў руку мне.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Удырыў дугою.* Вялікі Краснік Пруж. *Яго машынай удырыла.* Альхоўцы Лях. *Так муцно вун удырыв хлопца.* Відзібар Стол. *Можа, ты дзе удэрыў нагу?— Я нідзе не удэрыў.* Ёдупка Шальч. *Паленам удэрыць мо-*

*жа.* Паляцкішкі Воран. *Удэрыць вербачкай скаціну.* Старыя Смільгіні Воран. *Я зазлавалася, і мушу яго аблаяць, і кап удэрыць.* Граўжышкі Ашм. 2. Ударам перуна спаліць, забіць; зламаць. *Конь стаяў у хлевя, забіў каня пярун, як ударыў.* Саланое Віл. *Перун удырыў по голаве.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Чы дэ удырыло блізко?* Смаляніца Пруж. *Пярун удэрыў.* Вострава Маст. *Удэрыў у дзерава пярун.* Старыя Смільгіні Воран. 3. *перан.* Раптоўна наступіць, пачацца з вялікай сілай (пра з'явы прыроды). *Як ударыў мароз — ніякага толку німа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вот удырыў марос!* Семежава Кап. *Скора удэрыць марос.* Старыя Смільгіні Воран. *Ударыла суш трэцяга года.* Альхоўка Навагр. 4. *перан.* Спацець. *Я ўкрылася — пот ударыў і пераcтала паліць.* Валынцы В.-Дзв. 5. *перан.* Заахвоціцца. *Калі ахота удырыла, то, не паліўшы печ, паехала.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Не ўдарыць паляц ап паляц (пальца ў паляц)* — гультаяваць, нічога не зрабіць. *Яна паляц ап паляц не ўдарыць, нічога ня робіць.* Вузла Мядз. *Яна пальца ў палец не ўдарыць цалюткі дзень.* Саланое Віл.

УДАЎБО'ЎВАЦЬ *незак.* Прымацоўваць, убіваць, заганяць. *Крoквы ўдаўбоўваюць у ключэ.* Кіралі Шчуч.

УДАЎЁ *н.* Вудзільна. *Удаўё ў вудзе гнуткае.* Лісна В.-Дзв.

УДАЎЛЕ'ННЯ, УДАЎЛЕ'НЯ *н. мед.* Ціск крыві. *Чорныя п'яўкі пры ўдаўленні ставяць.* Завельцы Астр. *Удаўленя памерыла — не высока.* Багдзюлі Шальч. *Дало ў голаву ўдаўленя.* Новікі Гродз. *Паніжала ўдаўленя.* Саланое Віл.

УДА'ЎЛІНІКІ *мн.* Цвёрдыя, даўкія плады. *Дзікія грушы — удаўлінікі.* Янова Рас.

УДАЎШКЕ', УДАЎШКІ', УДО'ЎЖКІ *прысл.* У даўжыню. *За Польскім удаўшке зямлю не дзялілі, а папярок, бо малыя надзелы былі.* Кіралі Шчуч. *Ён возера удаўшкі і перак пераплываў.* Груздава Паст. *Разрэж удаўшкі!* Быстрыца Астр. *Гон мерылі ўдоўжкі.* Смаляніца Пруж.

УДА'ЦЦА I *зак.* 1. Даць добры вынік, атрымацца дабраякасным. *Трэба, кап лён удаўся ў лежы на балоці* [добра вымак] *і ў пасле, як будзе пасланы.* Міратычы Карэл. *Мне ні ўдалася груша. Не ўдаўся хлеб.* ▽ *У хазяйкі хлеб не ўдаўся — пад скарынку кот схаваўся.* Азяраны Раг. 2. Быць падобным на каго-н. у якіх-н. адносінах, унаследаваць рысы падабенства. *Настуля ў бацьку ўдаласа.* Кузьмічы Люб. *Сын удаўся ў бацьку, а дачка — у матку.* Малыя Аўцюкі Калінк. ▽ *Ах, міленькі ты мой, у каго ты ўдаўся? Шчочкі рабы, як у жабы, а мне спадабаўся.* Кураполле Паст. 3. Пашанцаваць, быць шчаслівым, мець такі лёс. *Лацвей табе, як у цябе жызнь удалася!* Магуны Паст. *Усе яе дзеўкі ўдаліся нешчаслівымі.* Вузла Мядз. 4. Атрымацца, паспяхова завяршыцца. *Ён кажа, што яму гэта не ўдалося.* Гемзы Шальч.

УДА'ЦЦА II *зак. безас.* Здацца, паказацца. *Мне ўдалась, што там змей.* Ахрэмаўцы Брасл.

УДА'ЦЦА III *зак.* Паддацца дрэнным звычкам. *Удалася баба ў бадзяніну — толку ня будзя.* Ёдупка Шальч.

УДА'ЦЬ *зак.* да у́ д а в а́ ц ь. *У нас не такія людзі, кап удаць адзін другога.* Вецярэвічы Пух.

У'ДАЧКА *ж. памянш.* да в у́ д а. *Ён рыбу ўдзіць удачкай.* Мельнікі Лудз. *Лавілі рыбу ўдачкамі.* Чычалі Швянч.

УДВАЕ' *прысл.* Удвая. *Удвае палатно зложана. Нітка ўдвае зложана.* Парэчча Гродз. *Злажыць удвае ніткі і снаваць аснову.* Лука Чыж.

УДВАЁМ *прысл.* Удваіх. *Удваём мылі бялізну.* Солы Смарг. *Мы ўдваём памыліся.* Груздава Паст.

УДВАЁХ, УДВАІ'Х *прысл.* Тое ж, што і у д в а ё м. *Удваёх цягалі маглі.* Рагулішкі Даўг. *Удваёх пасат змалацілі.* Саланое Віл. *Удваёх паехалі.* Асавец Віл. *Удваёх жывуць. Удваёх жа лепяй жыць.* Лоск Валож. *Мы ўдваіх паедзім.* Саланое Віл.

УДВАЙГУ' *прысл.* 1. Удваіх. *Жывуць удвайгу, грошы маюць.* Каўняны Гродз. *Жывём удвайгу с сынам.* Новікі Гродз. 2. Два разы, двойчы. *Удвайгу наверадзіў нагу.* Навасёлкі Свісл.

УДВАЙНЕ' *прысл.* У два разы больш. *Удвайне заплацій.* Дакудава Лід., Завельцы Астр.

УДВО'ЙГУ *прысл.* Тое ж, што і у д в а й г у́ 1. *Паедуць удвойгу.* Масілавічы Сл.

УДВО'ЙКУ *прысл.* Удвая, у дзве ніткі. *Ткалі ўдвойку на штаны мушчынам: белыя і чорныя ніткі, уцяганыя ў нічальніцы.* Стральцы Гродз.

УДВО'Х, УДВУ'Х *прысл.* 1. Удвух. *Прымалі ўдвох.* Альхоўцы Лях. *Зышліся ўдвух.* Грыкені Вільн. 2. Удваіх. *Мы ўдвух жыём —я і мужык.* Дэгшні Шальч.

УДЖГУ'Р *м.* Рэмень, аборка, матуз. *Патпіразаўся уджгуром.* Граўжышкі Ашм.

УДЗВЕ'ЙГУ *прысл.* 1. Тое ж, што і у д в а й г у́ 1. *Мы жывём удзвейгу — я і стары.* Вялікія Баяры Шчуч. *Удзвейгу жывеце?* Пацаўшчына Дзятл. 2. Тое ж, што і у д в а е́. *Трэба трасціць ніткі — злучваць удзвейгу, тады сукаць.* Міратычы Карэл. *Гэта ўдзвейгу полак складалі.* Альхоўцы Лях.

УДЗВЁХ, УДЗВЮ'Х *прысл.* Удзвюх. *Яны ўдзвёх сядзяць.* Лоск Валож. *Яны ўдзвёх робяць.* Валеўка Навагр. *Удзвюх былі мы там.* Солы Смарг.

УДЗВЯЁХ *прысл.* Тое ж, што і у д з в ё х. *Пяраць палатно на рэчцы ўдзвяёх, як малоцяць: стук-стук.* Кураполле Паст. *Мы жылі ўдзвяёх. Удзвяёх карову дзіржалі дзесяць лет.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мы полім удзвяёх, пол мыім удзвяёх.* Рагулішкі Даўг.

УДЗЕВЯЦЁХ *прысл.* У колькасці дзевяці асоб. *Удзевяцёх тры машыны бульбы нагрузілі.* Вецярэвічы Пух.

У ДЗЕ'ЛЕ. У выразе: *Быць у дзеле* — мець шырокае выкарыстанне, шырока ўжывацца для розных мэт. *Некалі чарот быў*

*вельмі ў дзеле: стрэхі крылі чаротам, уцяплялі хлявы.* Азяраны Раг.

УДЗЕ'НЬ *прысл.* Днём. *Бывала, удзень сабіраліся прасці — гэта дзянюшкі.* Старыя Трокі Трак. *Удзень, як сон агорне, ляжыш.* Завельцы Астр.

УДЗЕ'РЖЫЦЬ *зак.* Утрымаць, затрымаць. *Не ўдзержылі кароў на полі, горача было — пусцілі ў хлеў.* Кіралі Шчуч.

УДЗЕ'РЦІ *зак.* Абдзерці. *Рукі паперхлі: пайдзеш на вецяр, дзе удзярэш картапленнем.* Масілавічы Сл.

УДЗЕ'ЦЬ *зак.* 1. Усунуць. *Руку ня ўдзела ў рукаў.* Рагулішкі Даўг. 2. Уцягнуць. *Удзець нітку ў голку.* Беразіно Докш. *Нітку ў іголку нада ўдзець.* Рагулішкі Даўг.

УДЗЁЎБЦІ, УДЗЁЎПЦІ *зак.* Дзюбнуць. *Удзёўп гусак мяне, дзяўбець гусак.* Саланое Віл.

УДЗІВА'ЦЬ *незак.* 1. Закладваць. *Нада гарох у пярэплаты ўдзіваць.* Мярэцкія Глыб. 2. Уцягваць. *Свіням дрот удзяюць у лыч, каб не рылі.* Малькуны Ігн.

УДЗІ'ЛО *н.* Цуглі. *Добра обрыць — з удзілом.* Смаляніца Пруж.

УДЗІРА'ЦЬ *незак.* Уцякаць. *Яны не ўдзіраюць нікуда: прышоў і бяры.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *удирать* 'тж'.

УДЗІРВАНЕ'ЦЬ *зак.* Зарасці травой, ператварыцца ў дзірван. *Зямля ўдзірванела — не гараў.* Івашкаўцы Смарг. *Удзірванела зімля, уся дзірваном занілася.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* д з і р в á н.

УДЗІРЖА'ЦЦА *зак.* Утрымацца. *Кот кіпцямі удзержыцца на дрэве.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *удержаться* 'тж'.

УДЗІРКАВА'НЫ *прым.* Пульхны. *На дражджах блін удзірканы, як булка.* Кураполле Паст.

УДЗЮ'БНУТЫ *дзеепрым.* Усаджаны вастрыём у што-н. *Удзюбнуты тапор у калоду.* Валынцы В.-Дзв.

УДЗЯРЖА'ЦЬ *зак.* Затрымаць, запыніць. *Каня так не ўдзержыш. Так пчаліну не ўдзержыш.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *удержать* 'тж'.

УДЗЯЎБЦІ' *зак. перан.* Вытлумачыць. *Табе ў галаву не ўдзяўбеш нічога.* Завельцы Астр.

УДЛІ'НКУ *прысл.* У даўжыню. *Бычок менш метра ўдлінку. Жарало санціметраў трыццаць удлінку.* Істра Лудз.

УДЛУ'Ж, УДЛУ'Ш *прысл.* Удоўж. *Удлуж злазы былі.* Магуны Паст. *Удлуш паставілі.* Быстрыца Астр. *Удлуш не кладуць, упоперак толькі.* Старыя Трокі Трак. *Стол стаяў удлуш.* Гемзы Шальч. *Удлуш наклецкі паложаны ў рагуцях.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *wzdłuż* 'тж'.

УДО' *н.* Сцягно. *Яму пакалечылі удо.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *udo* 'тж'.

УДО'БРАНЫ *гл.* УДАБРО'НЫ

УДО'ВАЯ *прым.* у знач. *наз.* Жанчына, якая заўдавела. *Асталася яна удовай.* Стральцы Гродз.

УДО′ВІЦА *ж.* Тое ж, што і у д а в а́. *Удовіцы благо жыці.* Смаляніца Пруж.

УДО′Д, УДО′Т *м. заал.* Птушка са стракатымі пёрамі з сямейства ўдодавых. *Удод крычыць: вут-вут-вут. Натта пер'я харошае.* Пацаўшчына Дзятл. ∇ *Ураніцы крычыць удот — на вецер, будзіць вецір падымацца.* Вузла Мядз.

УДО′ДЗІНА *ж. перан. экспр.* Неслух. *Удодзіна кажуць на непаслухмянага. Удодзіна ты!* Вялікія Баяры Шчуч.

УДО′Й *м.* Колькасць малака, надоенага ад каровы за адзін раз. *Малака надаіла за адзін рас пяць літраў — адзін удой.* Быстрыца Астр. *За адзін удой дала карова вядро малака.* Сalаное Віл. *Вялікі удой.* Рудня Астравітая Чэрв. *Адзін удой здала на ферму.* Ёдлавічы Брасл. *Адзін удой малака сабе застаўляем.* Валеўка Навагр.

УДО′ЛЕ, УДО′ЛІ *прысл.* 1. У падоле. *Помню, бурносы шылі: удоле шырокія.* Навасёлкі Свісл. *Парвецца ўдоле спадніца.* Крэва Смарг. 2. Унізе. *У снойцы ўдолі і ўгарэ былі крыжаке́ такія.* Васілевічы Гродз.

УДО′ЛЬ *прысл.* Тое ж, што і у д л у́ ж. *Гліцы ў санях удоль ідуць.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *вдоль* 'тж'.

УДО′МА, УДО′МУ *прысл.* 1. Дома, у хаце. *Яна ўдома.* Ракаўскія Швянч. *Нада вам ехаць, удома быць.* Магуны Паст. *Засталі яго ўдома. Я засталася ўдома.* Дакудава Лід. *Удома начаваў.* Жыдзевічы Іўеў. *Рана ўдома была.* Паляцкішкі Воран. *Спіць удома.* Старое Сяло Зэльв. *Удома мама.* Міратычы Карэл. *Не буду ўдома. Пакінулі ўдома. Адны бабы ўдома. Да паўдня была ўдома. Удома адцямна. Чацвёрты год ня быў удома.* Альхоўка Навагр. *Два ўдома сыны: Янук і Вінцук.* Старыя Смільгіні Воран. *Удома ніхто не падлівае вады.* Пацаўшчына Дзятл. *Заўтра будзе ўдома, будзе картошку даставаць.* Кіралі Шчуч. *Удома бабы ўставалі да схода слонца. Удома работы шмат. Хто ўдома быў, усіх немцы злапалі.* Мсцібава Ваўк. *Удома гаспадар умёр. Яна ўдома не была, а я сяджу ўдома.* Навасёлкі Свісл. *Хадзілі к Рэні, удома была.* Альхоўцы Лях. *Удома лепш.* Ісерна Сл. *Можа, яна ўдома?* Вострава Маст. *Ён сядзіць удома.* Старое Сяло Зэльв. *Удома яны разгавараваюць па-літоўскі.* Ёдлавічы Брасл. *Як вярнуўся з Германіі, нашоў удому старуху.* Чычалі Швянч. *Буду ўдому.* Дзмітравічы Кам. 2. Знаходзіцца ў роднай сям'і да замужжа. *Як я была ўдома, у нас быў бык Красук.* Кіралі Шчуч.◇ *Не ўсе́ ўдо́му* — пра ненармальнага, псіхічна хворага. *У яе не ўсе ўдому.* Солы Смарг.

УДО′Т *гл.* УДО′Д

УДО′ЎЖ, УДО′ЎШ *прысл.* Тое ж, што і у д л у́ ж. *Удоўж бервяно кладуць і вязуць.* Кіралі Шчуч. *Удоўш разрэзаў.* Завельцы Астр.

УДО′ЎЖКІ *гл.* УДАЎШКЕ′

УДО′ЎКА *ж. памянш.-ласк.* да у д а в а́. *Яна ўдоўкай аста-*

*лася, на сядзмісцы жыла* [сёмая частка зямельнага надзелу]. Саланое Віл.

УДРАЖНІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у г н я в і ц ь 2. *Рожу німожна мачыць — удражніш.* Солы Смарг. *Ружа ўдражніна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Удражніў рану.* Ухвала Круп. *Удражніла рану.* Быстрыца Астр., Лука Нараўк. *Удражнілі скулу.* Гемзы Шальч.

УДРАЧЫ'ЦІ *зак.* Раз'юшыць, раздражніць. *Ужа можна ўдрачыці, ужэ кусаюцца, як удрачыш.* Парэчча Гродз.

УДРУ'ЗГІ *прысл.* Удрузг. *Стол паламалі ўдрузгі.* Мсцібава Ваўк.

УДУ'БАЛЬТ *прысл.* За дваіх. *Удубальт нада работаць.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *dubeltowy* 'падвойны'.

УДУ'БАЦЦА *зак. экспр.* Праявіць упартасць, уперціся, не саступіць. *Стары — як малы: як удубаецца ў што-небудзь, то яго не перапрэш.* Мсцібава Ваўк.

УДУ'МАЦЦА *зак.* Надумацца, задумацца. *Я такая хворая, як удумаюся, то не хачу жыць на свеця.* Кураполле Паст.

УДУ'МАЦЬ *зак.* Задумаць, рашыцца. *Калі удумаіць што, то не атступіць, здзелаіць.* Лісна В.-Дзв.

УДУ'РБАЦЦА *зак. экспр.* 1. Угледзецца. *Удурбалася ў гэту кветку і пазірае, як варона.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Затлуміцца, памыліцца. *Я ўдурбайся: не пазнаў цябе.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* д у́ р б а ц ь І.

УДУ'РБАЦЬ *зак. экспр.* Прыдумаць што-н. *Ён удурбаў, што ня будзя вінават, дурным прыкінуўся.* Граўжышкі Ашм. ◊ *Удурбаць у галаву́* — надумацца. *Нейку халеру ўдурбаў у галаву, дурбая і дурбая адно і тоя.* Жылі Іўеў. *Яна ўдурбала ў галаву і не слухаіць.* Крэва Смарг.; *гл.* д у́ р б а ц ь І.

УДУ'СІЦЬ *зак.* Задушыць. *Удушу цябе!* Паляцкішкі Воран. *Чуць сама сібе не ўдусіла.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *udusić* 'тж'.

УДУ'ХА *ж. мед.* Дыхавіца, задышка. *Ён меў удуху, на лёхкія хварэў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ад дулёк удуха напала.* Кіралі Шчуч. *У яго удуха, ня можа ўдыхнуць.* Быстрыца Астр. *Удуху бальшую меў, стаў пухнуць.* Граўжышкі Ашм. *У яго удуха натта сільная.* Пацаўшчына Дзятл. *Удуха невылічыма саўсём.* Дэгшні Шальч.

УДУ'ША *гл.* УДУ'ШША

УДУ'ШКІ. У выразе: *Уду́шкі бра́цца, драцца* — бароцца, абхапіўшы адзін аднаго. *Натта быў дужы, удушкі браліся — і забіўся.* Саланое Віл. *Хлопцы ўдушкі драліся.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

УДУ'ШЛІВЫ *прым. мед.* Дыхавічны. *Як удушлівы чалавек, яму дух забівая.* Кіралі Шчуч. *Удушлівы дыхаць ня можа.* Груздава Паст. *Баба ўдушлівая была.* Альхоўка Навагр. *Удушлівыя людзі баяліся дулёк.* Вялікія Баяры Шчуч.

УДУШНЕ′ЦЦА *зак.* Упарыцца, спацець. *Дзеўка ўдушнелася — косы мокрыя.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УДУ′ШША, УДУ′ША, УДУ′ШЧА *н.* і *ж.* Тое ж, што і у д у́ х а. *Каму ўдушша, п'юць настойку трыпутніку.* Пасіене Лудз. *Удушша ў яго.* Мярэцкія Глыб. *Удушша дачку мучыць.* Беразіно Докш. *Падбел ёсь, п'юць ад удушы.* Груздава Паст. *Яго удуша ўдушавая.* Вострава Маст. *Удушча ў яе, яна хворая зусім.* Мачаск Бярэз.

УДУШЫ′ЦЦА *зак. перан.* Станіцца, умарыцца. *Удушылася адна баба, пасучы карой.* Альхоўка Навагр.

УДУШЫ′ЦЬ, УДУШЫ′ЦІ *зак.* Тое ж, што і у д у́ с і ц ь. *Яе сало ўдушыць: натта тоўстая яна.* Мсцібава Ваўк. *Яны п удушылі цябе.* Кудзялянцы Шальч. *Удушыла свіня парасята.* Вялікі Краснік Пруж.

УДЫ′ГАВАЦЬ *незак. экспр.* Заляцацца, ганяцца. *Гэты хлопец удыгуе окропне за ей.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *dyg* 'рэверанс'.

УДЫ′МКУ *прысл. ткац.* У чатыры ніты. *Рушнікі ткалі ўдымку.* Стральцы Шальч.

УДЫ′РЫЦЦА *гл.* УДА′РЫЦЦА

УДЫ′РЫЦЬ *гл.* УДА′РЫЦЬ

УДЫ′ШКА *ж.* Тое ж, што і у д у́ х а. *У мяне ўдышка, хадзіць не магу.* Рагулішкі Даўг.

УДЭ′РЫЦЦА *гл.* УДА′РЫЦЦА

УДЭ′РЫЦЬ *гл.* УДА′РЫЦЬ

УДЭ′РЭНЫ *дзеепрым.* Удараны. ◇ *Во́ркам удэ́рэны* — ненармальны, псіхічна хворы. *Ён із-за вугла воркам удэрэны.* Гемзы Шальч.

УЕ′ДЛІВА *прысл.* Заўзята, старанна. *Яна ўедліва працуе.* Палік Барыс.

УЕ′ЖДЖАНЫ *дзеепрым.* Уезджаны. *Уежджана дарога, як ток глаткая, лёхкая дарога, добра да Вільні з'ездзіць.* Гемзы Шальч.

УЕ′СЦІ *зак.* 1. З'есці. *Іх не ўясі — натта кіслыя яблыкі.* Кіралі Шчуч. 2. Разам з кормам праглынуць што-н. непрыгоднае для яды. *Карова драціну ўела.* Рыбчына Віл. *Можа, карова што ўела? — Нічога карова ні ўела: печане глядзелі, у трыбуху, як прырэзалі.* Валынцы В.-Дзв.

УЕ′СЦІСЯ *зак. Уесціся ў косці* — вельмі надаесці, апрацівець, прычыніць многа непрыемнасці каму-н. *На цібе людзі сталі гаварыць, што ты ўеўся ўсім у косці.* Кіралі Шчуч.

УЕ′ХАЦЬ *зак.* ◇ *Што ўбіў, тое ўехаў* — пра гультаяватага чалавека. *Ты сам не зробіш, табе што ўбіў, тоя ўехаў, як каня тупога.* Кураполле Паст.

УЁЛАЧКУ *прысл.* Крывулямі, завілінамі. *Паглядзі, уёлачку пашоў.* Ахрэмаўцы Брасл.

УЁРЗАЦЦА *зак. экспр.* Укачацца. *Ён уёрзаўся ў балота.* Ста-

рыя Трокі Трак. *Уёрзаўся ў грась, дзе ты быў?!* Ракаўскія Швянч.

УЁЎЗАНЫ *дзеепрым. экспр.* Укачаны. *Уёўзаны ў гразь паршук.* Пацаўшчына Дзятл.

УЖ, УШ *м. заал.* Вуж. *Ужа забіла, у байні быў уш.* Лісна В.-Дзв. *Ужы з вушыма.* Старыя Смільгіні Воран. *Ужы па хатах бываюць.* Гемзы Шальч.

УЖА'К *м.* Тое ж, што і уж. *Ужак шуміць, ён свішча.* Старыя Трокі Трак.

УЖА'КА *ж. заал.* Гадзіна. *Ужака ўкусіла мяне за нагу.* Рыбчына Віл.

УЖАЛЕ'ЦЦА *зак.* Разжаліцца. *Ужалеўся на бацьку, вышаў на двор у жалі; жаль забрала так, што жылка лопнула.* Кураполле Паст.

УЖАЛЕ'ЦЬ I *зак.* Пашкадаваць. *Яна мяне ўжалела, узяла да сябе жыць.* Ракаўскія Швянч.

УЖАЛЕ'ЦЬ II *зак. кулін.* Утушыцца, усмажыцца. *Ужалела каша.* Глівін Барыс.

УЖА'Р *м.*, УЖАРЫ' *мн.* Тарфяное балота; выгарышча. *Тут адзін ужар, ужары — гразкія; даўней ставілі каробкі ва ўжары, рыба была, а цяпер нема, пасхло ўсе.* Кузьмічы Люб.

УЖА'РАВАЦЬ *незак.* Усмажваць. *Даўней аўсяныя пяклі бліны, ужаравалі ў сале.* Валынцы В.-Дзв.

УЖА'РЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і ужалéць II. *Печ напалена, ужарыцца каша.* Рыбчына Віл.; *параўн.* руск. *ужариться* 'тж'.

УЖА'РЫЦЬ *зак.* Усмажыць у тлушчы. *Жыру не нада класці: вангор сябе ўжарыць — такі жырны ён.* Вузла Мядз.

УЖА'ЦЬ *зак.* Нажаць невялікую колькасць чаго-н. *Трэба травы ўжаць карові.* Бакшты Іўеў. *Як пойдзеш жаць, ужнеш каласоў курам, травы ўжнеш.* Альхоўка Навагр. *Чаратоў уважне, сечкі урэжа.* Навасёлкі Свісл.

У'ЖВА *ж.*, У'ЖВЫ *мн.* Гуж, гужы. *К хамуту ўжвы прыкрэплены.* Старыя Трокі Трак. *У хамуце ўжвы.* Бенякені Воран., Жылі Іўеў., Грыкені Вільн.

УЖГУ'Р I *м.* Скручаная пасма ў вяроўцы. *У вяроўцы не адзін ужгур, а два ці тры. Не завязаў узла на канцы — пабрызгалася вяроўка на ўжгуры.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *áiža* 'тж'.

УЖГУ'Р II *м.* заал. Ёрш. *Ёрш ест, у нас — ужгур.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *jazgarz,* укр. *язгир,* літ. *ežgỹs* 'тж'.

УЖО', УЖЭ' *прысл.* Ужо. *Ужо вечар. Патом ужо ў Лаврынішкі паехалі.* Швэды Вільн. *Ужо ў нас саўхоз.* Мількіні Лудз. *Яшчэ агню не паляць, а ўжо сцямнела.* Завельцы Астр. *Ужо сядмы час. Ужэ з большага ухадзіўся.* Дарава Лях. *Куфры ўжэ патом паявіліся.* Судэрва Вільн. *Ужэ спемо, ужэ зноў говорэмо.* Смаляніца Пруж. *Яна ўжэ давно тутака.* Крынкі Крын. *Во ўжэ людзі жнуць жыта.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УЖО́РНУЦЬ *зак. экспр.* Жарнуць, ударыць. *Бярозавым кійком як ужорнула па каленях!* Саланое Віл.

УЖЫВА́НЫ *дзеепрым.* Які быў ва ўжытку. *Не новая, а ўжываная ужэ вешч. Гэта ўжываная, а то не ўжываная яшчэ вешч.* Мсцібава Ваўк.

УЖЫВА́ЦЬ *незак.* 1. Спажываць. *Яны ўжываюць усе: мёд, масла, каву.* Міратычы Карэл. 2. Піць, прымаць (пра лякарства). *Я не ўжываю ніякіх пігулак.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *używać* 'тж'.

У́ЖЫК *м.* Раменны абадок у цэпе. *Ужык, а да яго—два прузуке: адзін к цапілну, а другім біч прывязваецца.* Міратычы Карэл. *Ужык і прывяска ў цэпе, ужык с сурамяці рабілі.* Парэчча Гродз.

УЖЫ́ЦЬ *зак.* 1. Патрафіць жыць разам, ужыцца. *Ні даў рады, з жонкай не ўжыў. Не маглі ўжыць — дзерлі ката: то шагнець не так, то скажыць не так.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Зведаць, зазнаць. *Я гора ўжыла многа.* Быстрыца Астр.

УЖЫ́ШЧЭ *н.* Тоўстая вяроўка, вужышча. *Ужышчэ не вілі, а спускалі: быў станок спускаць ужышчэ, гэты станок быў у лічаных людзей.* Дзяніскавічы Ганц.

УЖЭ́НДЗІЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і у ж о́ р н у ц ь. *Рас ужэнджу табе — і на смерць заб'ю!* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *urządzić* 'арганізаваць, уладзіць'.

УЖЭ́НДНІК *м.* Служачы; начальнік. *За нейкага ўжэндніка дачка замуш ішла.* Солы Смарг. *Хто быў якім ужэнднікам, той жыў.* Чычалі Швянч. *Ужэнднікі былі, вывозілі хлеб. Ніхай ужэнднікі занімаюцца імі.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *urzędnik* 'тж'.

УЖЭ́НДНІКАВЫ *прым.* Які мае адносіны да у ж э́ н д н і к а. *Дайно казалі, што Пётравы дзеці, як ужэнднікавыя ходзюць: вясной ясёначкі надзеты, абуты.* Саланое Віл.

УЗАГНА́ЦЬ *зак.* 1. Прымусіць падняцца, устаць. *Узгані карой — ужо дайно ляжаць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Узбіць, нагнаць на што-н. *Дашчурачкі пашчапаеш, дзешку зложыш, абручы ўзгоніш — і чысціш.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

У ЗАГО́Н, У ЗАГО́НЫ у знач. *прысл.* Спосаб ворыва — ад краёў да сярэдзіны. *Гарут у загон на жыта: пачынае с краю, і ў баразну падае скіба.* Лука Нараўк. *Поле згорано ў загон.* Крынкі Крын. *Другі рас гарэ ў загоны на аўёс, на ячмень.* Дзяніскавічы Ганц. *У загоны гаралі, осем баразён загон быў.* Беняконі Воран. *Гаралі ў загоны.* Гемзы Шальч.

УЗА́Д, УЗА́Т *прысл.* 1. Назад, ад сучаснага да мінулага; з таго часу. *Чатыры гады ўзад я чытаў кнігу.* Ракаўскія Швянч. *Дваццаць гадоў узат яны сюды прыехалі.* Магуны Паст. 2. Вярнуцца назад. *Я іду ўзат.* Лоск Валож. 3. У выразах: *Аддáць узáд* — аддаць доўг. *Яна аддала ўзад дзеньгі.* Лоск Валож. *Узад казáць* — апавядаць аб мінулым. *Нада ўзат казаць.* Курaполле Паст.

УЗАРА'ЦЬ *зак.* Узараць. *Узаралі на зіму поле.* Беразіно Докш. *Узаралі дзвесці гектарaў.* Саланое Віл.

УЗАРВА'ЦЬ *зак.* ◇ *Жывóт узарвáць* — выклікаць уздуцце. *Як пад'ясі юшніку крэпка, то можыць і жывот узарваць.* Рагулішкі Даўг. *Сэ́рца ўзарвáць, галаву́ ўзарвáць* — страціць здароўе, захварэць. *За адзін гот Зося сэрца ўзарвала. Яны маю галаву ўзарвалі.* Вецярэвічы Пух.

УЗАРЫ'СТЫ *прым.* Узорысты, узорны. *Якое ўсё ў маткі было ўзарыстае: і ў восем нітоў, і ў шаснаццаць нітоў. Яна была рукадзельніца — і ткала, і прала.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УЗА'Т *гл.* УЗА'Д

УЗА'ЎТРА (О), УЗО'ЎТРА, УЗА'ЎТРЫ (Э), ВЗА'ВТРА *прысл.* Заўтра. *Узаўтра завязем яго да бабы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Узаўтра прыду. І ўзаўтра не будзя пагоды.* Мсцібава Ваўк. *Табе ўзаўтра трэба ехаць. Узаўтра прышоў. Узаўтра пайду на работу. Узаўтра прыедзе дачка.* Дзяніскавічы Ганц. *Узаўтра згаворымса. Паедзем узаўтра.* Крынкі Крын. *Узаўтро старая сходзіць.* Мсцібава Ваўк. *Узоўтра павяду карову.* Вялікія Баяры Шчуч. *Узоўтра хачу па чорныя схадзіць ягады.* Парэчча Гродз. *Чаго ехаці ўзаўтры. Узаўтры пайду ў ягады.* Навасёлкі Свісл. *Узаўтры прыду.* Тухавічы Лях. *Узаўтрэ прыедзе.* Навадворцы Васільк. *Чого нэ зробів ніні, то зроблю взавтра.* Курашэва Чыж. *Ны тыпэр, а взавтра прыду.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

УЗА'ХАДЫ *прысл.* ◇ *Узáхады хахатáць* — заходзіцца з рогату. *Як расказаў ён пра таго чалавека, дык мы ўзахады хахаталі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УЗБІВА'ЦЬ *незак.* Насаджваць, набіваць. *Выбіраюць дзеравянны калок, узбіваюць жалеза на яго — ета пешня.* Беразіно Докш.

УЗБІ'ЦЦА *зак.* Параніць сябе, наступіўшы на што-н. вострае. ▽ *Кап ён на войстры камінь узбіўся!* Ёдлавічы Брасл.

УЗБРЫСЦІ'СЯ *зак. экспр.* Сустрэць, спаткаць, напаткаць. *Ідзі, мо на Юзіка ўзбрыдзесся?* Магуны Паст.

УЗБУ'БНЯВАЦЬ *незак.* Уздувацца, надзімацца, падымацца. *Местам там балота ўзбубнявая.* Вецярэвічы Пух.

УЗБУ'РЫЦЦА *зак.* Пачацца, узняцца. *От узбурыўся вецяр, аж дрэвы нахіляя.* Ністанішкі Смарг.

УЗВА'Л *м.* 1. Доўгі земляны насып. *На гэтым узвалі каля канавы было загароджана кругом, гай быў абгароджаны. С узвала камні скоцяцца і будуць пад узвалам ляжаць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Узвышша. *Па той бок сіла — прыродны ўзвал і канава, а тут — ніска, дзе мост, нізіна.* Мярэцкія Глыб.

УЗВА'ЛЛЯ *н.* Тое ж, што і у з в á л 2. *Каля ўзвалля — лух, вясной займаецца вада аш па кусты; пакуль лух ідзе — цягнецца ўзвалля. Узвалля — месца красівая. Сенакос, трава не асоба харошая, там ляшчэўнік на ўзваллі, лес бальшы быў, цяпер выразалі.* Рыбчына Віл.

УЗВІ′ЖАННЯ *н. царк.* Свята чатырнаццатага верасня па ст. стылю. Ухвала Круп.

УЗВІРАДЗІ′ЦЦА *зак. экспр.* Раз'юшыцца, разлютавацца. *Ні чапай яго, бо як узвірадзіцца, дык яшчэ і па вуху дастанеш. Чаго ты ўзвірадзіўся?!* Рыбчына Віл.

УЗВІРАДЗІ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у в е р а д з í ц ь. *Узвірадзіў руку, нагу — нацёр, збіў.* Мярэцкія Глыб.

УЗВЯЗА′ЦЬ *зак.* Завязаць. *Калі складу, узвяжу хустачку.* Ракаўскія Швянч.

УЗГАВАРЫ′ЦЦА *зак.* Разгаварыцца. *Узгаварылася з ім.* Магуны Паст.

УЗГАЛАВА′ШКА *ж.* Вузгалаўе. *Узгалавашка напарадзе воза, трайня ў адной і ў другой узгалавашках.* Азяраны Раг.

УЗГАЛАВА′ШША *н.* Тое ж, што і у з г а л а в á ш к а. *На пярэднюю вось кладуць узгалавашша.* Беразіно Докш.

УЗГАЛО′ЎЕ *н.* Тое ж, што і у з г а л а в á ш к а. *На пярэднюю вось узгалоўе накладаюць.* Ухвала Круп., Глівін Барыс.

УЗГАРЭ′ЖАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і у в у з г а р э́ д ж в а ц ь. Ухвала Круп.

УЗГЛЯ′ДЗІНЫ толькі *мн.* Абрад знаёмства жаніха і яго сваякоў з нявестай. *Нічога не гаварылі, паехалі на ўзглядзіны, а ўдрух не панравіцца.* Індра Красл.

УЗГРАБЦІ′СЯ *зак. экспр.* Залезці, узлесці. *Узгробся на горку, і сядзіць.* Валынцы В.-Дзв.

УЗГУ′РАК *м.* Узгорак. *Наша хата на узгурку стаіць. Баркун расце на узгурках.* Дэгшні Шальч.; *парайн.* польск. *wzgórek* 'тж'.

УЗДА′ *ж.* Вуздзечка, аброць. *Упранш на выяст: хамут, шлеі, патсядзёлак і узда.* Быстрыца Астр.; *парайн.* руск. *узда* 'тж'.

УЗДАГНА′ЦЬ *зак.* Дагнаць, апярэдзіць. *Ляці, кап ён цябе не ўздагнаў!* Магуны Паст.

УЗДАГО′Н *прысл.* Наўздагон. *Ляціць уздагон.* Магуны Паст. *Ён кінуўся бехчы ўздагон за ім.* Глівін Барыс.

УЗДА′ЦЬ *зак.* Падняць што-н. цяжкае з зямлі. *Вот прывалакла ношку: сама ні ўздала, папрасіла бабу, кап памагла ўскінуць.* Ністанішкі Смарг.

УЗДЖГУ′Р *м.* Абрэзак вяроўкі, рэменя. *Патпіразаўся узджгуром.* Граўжышкі Ашм.

УЗДЗЕ′ТЫ *дзеепрым.* Праткнуты, прымацаваны. *Лісток воску ўздзеты на грабёнку ў калодзе.* Саланое Віл.

УЗДЗЕ′ЦЦА *зак.* Наплысці, насунуцца, затармазіцца. *Можа клейня ўздзецца на камянь.* Азяраны Раг.

УЗДЗЕ′ЦЬ *зак.* Занавесіць. *Фіранкі на вокны ўздзень!* Магуны Паст.

УЗДЗЕ′ЧКА, УЗДЭ′ЧКА *ж.* Тое ж, што і у з д á. *Уздзечка — на свадзьбу ехаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Уздзечка ўздзяецца.* Скрудалена Даўг. *Уздэчка раменная.* Гемзы Шальч. *Уздэчка — раменная аброць.* Грыкені Вільн. *Уздэчка з цуглямі.* Кемялішкі

Астр. *Уздэчка — далікатней, чым аброць.* Рыбчына Віл. *Цуглі к уздэчкі.* Старыя Трокі Трак.

УЗДЗІ́ДЛА *н.*, УЗДЗІ́ДЛЫ *мн.* Тое ж, што і у д з і́ л о. *Уздзечка з уздзідлам.* Мешкінева Лудз. *Уздзідлы — чым келзаюць каня.* Чычалі Швянч.; *парауйн.* польск. *wędzidło* 'тж'.

УЗДЗЯВА́ЦЦА *незак.* Насаджвацца. *Падшворнік на шворан уздзяваецца.* Чычалі Швянч.

УЗДО́ЛЕЦЬ *зак.* 1. Падолець, асіліць, перамагчы. *Хто каго ўздолеіць?* Чычалі Швянч. 2. Змагчы, магчы. *Я ня уздолею рабіць — ужо старая.* Ністанішкі Смарг. *Я ня ўздолела з'есці.* Ёдлавічы Брасл. *Старая не ўздолела хадзіць.* Пераброддзе Міёр.

УЗДО́Р *м.* Здор. *Уздор — ля кішок сала.* Тухавічы Лях. *Цяпер кажуць — сала нутраное, раньша — гаварылі ўздор.* Стары Свержань Стаўб.

УЗДРЭ́НЧЫЦЦА *зак. экспр.* Пачаць моцна рыкаць, пішчаць, падняць голас (пра жывёлін). *Раніцай, як есці захочуць, уздрэнчуцца ўсе: гэта рыкаіць, той пішчыць. Чаго вы раздрэнчыліся?!* Кураполле Паст.; *парауйн.* польск. *dręczyć* 'мучыць'.

УЗДУВА́ЦЦА *незак.* Тое ж, што і у з б у́ б н я в а ц ь. *Балота ўздулося, ступіш тут — уздуецца.* Рудня Астравітая Чэрв.

УЗДУ́МАЦЬ *зак.* Успомніць, прыпомніць. *Уздумала, што ён казаў.* Магуны Паст. *Хто ўздумая званя гэтай травы?* Вецярэвічы Пух. *Вот Воліcь можа ўздумая, хто гэта?* Нізок Уздз. *Я уздумала, як я жыла ў курані.* Азяраны Раг. *Уздумала пра гэту атраву.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жыву я дауно, дауно, як уздумаю.* Ракаўскія Швянч. *Я ўздумаў, што лежачага не б'юць.* Тухавічы Лях. *Я ўздумаў: ля Пінска балоты асушылі ці не?* Збляны Лід. *Уздумаю зараз, як яшчэ каровы завуцца.* Валеўка Навагр.

УЗДУ́НУЦЬ *зак.* Уздуць. *Скаціну ад панны — травы такой — уздуня, і мажэ здохнуць.* Дзяніскавічы Ганц.

УЗДУ́ТНІК *м. вет.* Уздуцце. *Калі карова вяхі наелася — схваціць уздутнік.* Кураполле Паст.

УЗДУ́ХА *ж.* 1. Зыбкае балота. *Уздуха — сільная балота: мох расце, трава не расце, пат сподам — грась, навярху — мох, калышыцца.* Граўжышкі Ашм. *Не ідзі на ўздуху — укінясся! Як ідзеш, дак гоцкаяцца ўсё.* Лапічы Асіп. 2. Месца на балоце, дзе не замярзае вада. *Дзе ўздуха, там і зімой стаіць вада.* Малахоўцы Бар. 3. Нізіна. *Па ўздухах лён сеялі.* Парэчча Гродз.

УЗДУ́ХАВІНА *ж.*, УЗДУ́ХАВІНЫ *мн.* 1. *анат.* Бакавая ўпадзіна між апошнім рабром і тазасцегнавым суставам у жывёл. *Уздухавіна ў баку ў каровы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Уздухавіны — упалыя бакі.* Глівін Барыс. 2. Тое ж, што і у з д у́ х а 1. *Уздухавіна — такое балота.* Нізок Узд.

УЗДУ́ХІ *мн.* Тое ж, што і у з д у́ х а в і н а 1. *Уздухі ў каровы, такія ўпадзіны каля клуба.* Магуны Паст. *Воўк схапіў маркаліка* [барана] *за ўздухі.* Вецярэвічы Пух. 2. Пад лыжачкай. *Баляць мне ўздухі.* Жодзішкі Смарг. *Ён даў яму пад уздухі.* Рыбчына Віл.

УЗДУ'ЦЦА *зак.* Стаць пукатым, падняцца (пра балота). *Як пераходзілі, балота ўздулося.* Рудня Астравітая Чэрв.

УЗДУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і уздунуць. *Вохват у каня, як угрэўшыся конь, і вады дасі напіцца, стане апой, каня тады ўздуя — гэто вохват.* Малахоўцы Бар.

УЗДЫМА'ЦЦА *незак.* Высока ўзлятаць, падымацца. *Пташучкі маленькія, а высока ўздымаяцца.* Кудзялянцы Шальч.

УЗДЫ'Р *м.* Камель снапа. *Уздыр — частка снапа ад перай-ясла да нізу. Трэба вазярэдзіць снапы і к сонцу ўздырэ́.* Дзяніскавічы Ганц.

УЗДЫХНУ'ЦЬ *зак.* Уздыхнуць. *Бывае, задумаецца і ўздыхне цяшка.* Альхоўка Навагр.

УЗДЭ'ЧКА *гл.* УЗДЗЕ'ЧКА

У'ЗЕЛ, УЗЁЛ *м.* Вузел. *Узел на канцы пляцёнкі.* Гемзы Шальч. *Нада завязаць узёл.* Рагулішкі Даўг. *Узёл завязуюць, завязаў узла.* Паляцкішкі Воран. *Развяжы ўзёл!* Асавец Віл. ◇ *Саба́чым узло́м завяза́ць* — неакуратна завязаць што-н. *Платок сабачым узлом завязала!* Пераброддзе Міёр.

УЗІРА'ЦЦА *незак.* 1. Прыглядацца, углядацца. *Ідзе баба, узіраецца.* Крынкі Крын. *Узірайся, дзе верх.* Дакудава Лід. *Ні ўзірайса ў люстэрко!* Номікі Бабіц. *Узіралася на вас.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ня буду ўзірацца.* Дакудава Лід. 2. Глядзець. *Нашы на цільвізір узіраюцца.* Кіралі Шчуч. *І дзісь узіраюся на яго.* Старыя Смільгіні Воран. *Во, узірайся, што мама купіла.* Дакудава Лід. *На яго страх узірацца.* Навасёлкі Свісл. *Ён не хоча ўзірацца на людзей, нялюцкі чалавек.* Каўняны Гродз. 3. Паглядзець. *Калі захочуць на мяне ўзірацца, то здымуць — ходзіць здымшчык па дзярэўні.* Галубы Маст. 4. *перан.* Даглядаць. *Бацька на іх ні ўзіраіцца. Ні ўзіраяцца яны маццы.* Дакудава Лід.

УЗЛАВА'ЦЦА, УЗЛАВА'ЦЦЯ *зак.* 1. Раззлавацца, узлавацца. *Ён узлаваўся на яё.* Саланое Віл. *Яна ўзлавалася, што ты паехала. І ён узлавоўся.* Дакудава Лід. *Яна, як узлуецца, то ўсіх лупіць падрат.* Кіралі Шчуч. 2. Узрушыцца, адчуць горыч, цяжка перажываць. *Узлуюся на сябе, што стала я такая бяссільная.* Слабада Мін.

УЗЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Надзець. *Узлажыць можна штаны, сарочку.* Семежава Кап. *Я ўзлажыла рубашку з лёну і села ткаць і так змерзла — лён халадзіць.* Малышы Лід. *Пярсцёнак узлажыла на паляц.* Дзесятнікі Валож. *Як узлажу ачкі — усё бачу.* Магуны Паст. 2. Уставіць. *А зубоў* [пратэз] *забылася ўзлажыць.* Крэва Смарг.

УЗЛА'МУВАЦЬ *незак.* Разломліваць. *Лёд узламуя на рацэ.* Азяраны Раг.

УЗЛЕ'ЗЦІ *зак.* 1. Залезці куды-н., падняцца ўверх. *Я туды не ўзлезу.* Саланое Віл. *Яна ўзлезла высока на гару.* Солы Смарг. *А тады ўзлезла на стул і крычу.* Малышы Лід. 2. Наступіць. *Вы ўзлезлі на калючы дрот.* Сакаляны Сакол.

УЗЛЕ́СЦЬ *зак.* Тое ж, што і у з л е́ с ц і 1. *Нада узлесць на палок, папарыцца.* Пераброддзе Міёр.

УЗЛІВА́ЦЬ *незак.* да у з л і́ ц ь 1. *Узлівалі на печку вады — і дух пойдзе гарачы.* Завельцы Астр.

УЗЛІ́ЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Бацька так узліўся на яго.* Міратычы Карэл.

УЗЛІ́ЦЬ *зак.* 1. Лінуць зверху на што-н. *Нада духу узліць на каменку і папарыцца.* Пераброддзе Міёр. 2. Уліць у што-н. *Мукі жытняй разбоўтая, кап сквасілася, крыві трошкі, варатак узлія на крой і варыць юшнік.* Быстрыца Астр.

УЗЛО́ЎВАЦЬ *незак.* Выклікаць злосць у каго-н., дражніць. *Ня ўзлоўвай дзіця!* Альхоўцы Лях.

УЗЛУ́ЦЬ *зак.* Выклікаць неспакой, растрывожыць чым-н. *Пчала можа засячы, еслі пчалу ўзлуць.* Быстрыца Астр.

УЗЛЯЦЕ́ЦЬ *зак. перан.* Вельмі хутка ўбегчы. *Каб дзяўчына ні ўзляцела ў хату, ён забіў бы маці.* Ракаўскія Швянч. *Узляцела карова ў гарод, нарабіла шкоды.* Вялікія Нястанавічы Лаг. ◇ *Узляцець на памяць* — прыпомніць, успомніць. *Ня помню, можа, узляціць на памяць.* Кураполле Паст.

УЗМЕ́ЖАК *м.* Узмежак. *Узмежак абкасіў. На ўзмешках шчавіль расцець.* Валынцы В.-Дзв.

УЗНАВА́ЦЬ *незак.* 1. Пазнаваць. *Не ўзнаю я гэтага чалавека.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Вызначаць час у межах сутак. *Некалі па гвяздах узнавалі, якая пара: раней ці пазней.* Кальнішкі Шальч.

УЗНАКУ́ *прысл.* ◇ *Ні ўзнаку́* — непрыкметна. *Адзін месяц ні ўзнаку ў маладым вяку.* Рыбчына Віл.

УЗНА́ЦЬ *зак.* Распазнаць, уведаць. *Па глазах чалавека ўзнаіш, які ён.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Пажывём — узнаям.* Солы Смарг.

УЗНІКА́ЦЬ *незак.* Пачынацца. *Узнікала вайна, а дзеці былі ў Мінску.* Ністанішкі Смарг.

УЗНІМА́ЦЦА *незак.* да у з н я́ ц ц а II. *Карова ўзнімаецца на валы.* Завельцы Астр.

УЗНО́Р *м.* 1. Крыніца, фантан. *Узнор — ключ, які б'е з зямлі фантанам ваду. Вясной зямля дыхаецца — гэта ўзнор. Там на ўзноры нада капаць калодзец.* Мішневічы Шум. 2. Назва часткі поля. *Куды ісці жаць? — Ва Узнор, там наша палоска.* Мішневічы Шум.

УЗНО́Ў *прысл.* Зноў. *Я днём узноў падаю карову.* Крэва Смарг.

УЗНЯ́ЦЦА I *зак.* 1. Распачацца, падняцца. *А потым, як узнялася бура, бярозкі на мяне кладуцца* [нахіляюцца]. Гемзы Шальч.

УЗНЯ́ЦЦА II *зак. біял.* Быць у стане цечкі. *Карова ўзнялася пад быкі.* Саланое Віл. *Карова ўзнялася да бугаёў.* Азяраны Раг. *Наша кароўка ўзнялася на быка. Свіння ўзнялася на кну-*

*ры.* Асавец Віл. *Карова ўзнялася на быкоў.* Якубова Рас. *Свіня на цякуна ўзнялася.* Магуны Паст.

УЗНЯ'ЦЬ *зак.* Падняць. ◇ *І рук не ўзня́ць* — пра няшчасце, роспач, гора. *У вайну людзей пабілі, папалілі — і рук не ўзняць, такое гора парабілася.* Вецярэвічы Пух. *Узня́ць во́чы* — прачнуцца, устаць. *Калі ўзняла вочы — усё за мной: і варыць, і карміць, уся работа.* Кузьмічы Люб.

УЗО'Р *м.* 1. Памер, форма, мадэль. *Па гэтым узоры дзелай уль.* Мыто Лід. 2. Рысунак на тканіне. *Мая матка ткала кросны, ехала па ўзор за трыццаць кіламетраў.* Рагулішкі Даўг. *Узоры ткаліся розмаітыя.* Грыкені Вільн. *Выткалі разнымі ўзорамі.* Стральцы Гродз. *Перабіралі узор і ўшэсць нітоў і ў восім.* Слабада Мін. 3. Рысунак на замёрзлых шыбах акон. *Такія кветкі, узоры рысуя на шыбах мароз.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* руск. *узор* 'тж'.

УЗО'РНЫЙ *прым.* Тое ж, што і у з а р ы́ с т ы. *Узорныя дэкі* [пакрывалы] *былі і рабыя.* Рагулішкі Даўг.

УЗО'ЎТРА *гл.* УЗА'ЎТРА

УЗРА'ДАВАЦЦА, УЗРА'ДОВАТЫСЬ *зак.* Абрадавацца. *Бацька ўзрадаваўся, як увідзеў яго.* Ністанішкі Смарг. *Узрадуйіцця батько.* Дзмітравічы Кам.

УЗРАСЦІ' *зак.* 1. Вырасці, стаць дарослым. *Як узрасла, так я ткала і прала, а тады друга сястра ўзрасла — вязала карункі.* Ракаўскія Швянч. *Пака дзеці ўзраслі, так бедавалі.* Чычалі Швянч. 2. Вырасці, паспець. *Узрос лён, тады давай мачыць на бела.* Рагулішкі Даўг. *Узрос клевер вэсока.* Малькуны Ігн.

УЗРО'К *м.* Зрок. *У яе ніскі ўзрок.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *wzrok* 'тж'.

УЗРО'СЛІВЫ *прым.* Дарослы. *У іх ужо дзеўкі узрослівыя.* Вецярэвічы Пух.

УЗРУ'ХАЦЬ *зак.* Парушыць, страціць. *Мая галоўка скручаная, узрухала памяць.* Магуны Паст.

УЗРУ'ШЫЦЬ *зак.* 1. Сагнаць, выгнаць, адагнаць. *Я сваіх кароў як ні ўзрушу, то запачкаюць увесь двор.* Крэва Смарг. 2. *с.-г.* Пабаранаваць. *Увосень як узарэш, то вясной бараной толькі ўзрушыш і сеіш.* Сасноўка Смарг.

УЗРЭ'КА *ж.* Бераг ракі. *Узрэку падмывая, дзе дзерава стаіць, яно падая.* Азяраны Раг.

УЗРЭ'Х *м. с.-г.* 1. Агрэх. *Узрэх пакінаў.* Рыбчына Віл. *Узрэх зрабіў.* Відаўцішкі Вільн. *Дзе аруць, і хто можа пакінуць узрэх.* Вязынка Маладз. *Узрэх, як крыва гарэ.* Быстрыца Астр. *Ну і ўзараў, адны ўзрэхі!* Рыбчына Віл. *Ой, узрэхі пакінулі!* Солы Смарг. *Як ты арэш, узрэхаў нарабіў столькі!* Мачаск Бярэз. 2. Незасеяная прагаліна, абсеў. *Благі сявец, нарабіў узрэхаў.* Відаўцішкі Вільн.

УЗЫЙСЦІ' *зак.* Узысці, паказацца на паверхні зямлі. *Зярно можа ня ўзыйсці.* Малахоўцы Бар. *На лясе два рады не ўзышло — цыбулін двінаццаць.* Валынцы В.-Дзв. *Як уззйдзя бульба,*

*бараной баранують.* Старыя Трокі Трак. *Картохля узышла — аборвають.* Слабада Мін.

У'ЗЫНЬКЫЙ *прым.* Вузенькі. *Як лестык узынькый, тонынькый, то благое жето.* Дзмітравічы Кам.

УЗЯ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Узяты. *Было хлеба ўзяджана троху.* Валынцы В.-Дзв.

УЗЯ'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* 1. Тое ж, што і у з я́ д ж а н ы. *Сыры ўзядзены.* Міратычы Карэл. 2. *перан.* Страчаны (пра здароўе, сілы). *Сколькі з жызні ўзядзена!* Асавец Віл.

УЗЯ'ТКА *ж. пчал.* Медазбор, ношка. *Ліпа цвіціць — узятка для пчол.* Груздава Паст. *Узятку з кветак бяруць.* Мыто Лід.

УЗЯТО'К *м.* Тое ж, што і у з я́ т к а. *Узяток іе ў прыродзі.* Вецярэвічы Пух.

УЗЯ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Забраны, узяты. *У мяне ўзята жэртка, кавалак астаўся ў руцэ.* Пераброддзе Міёр. *У вайну тры кабаны ўзята.* Груздава Паст. 2. Украдзены. *Кура с пуд плота ўзятая.* Горск Бяроз. 3. Узятая замуж. *Дзеўка Янакам з Борцянікаў узята.* Ракаўскія Швянч. *Яна ўзята з другога сяла.* Валынцы В.-Дзв.

УЗЯЦІ'. *Пайці на ўзяці* — пайсці ў прымы. *Наш хлопяц пашоў на ўзяці ў другую вёску.* Ліпнікі Вільн.

УЗЯ'ЦЦА *зак.* 1. Прыступіць да выканання чаго-н. *От узяўся зяць насіць ваду. Вазьмуся ро́біць — не магу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хаця п у дзесяць яны узяліся рабіць!* Слабада Мін. *Узялісь страляць. Узяўся есці — смачна.* Завельцы Астр. ∇ *Узяўся за гуж — не кажы, што не дуж.* Вузла Мядз. 2. Пачаць хутка расці, інтэнсіўна развівацца. *Зімля жырная была — бульба і ўзялася.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не буду палоць, пакуль возьмецца ўсё за землю.* Вецярэвічы Пух. 3. У выразах: *Узя́цца зельём* — зарасці пустазеллем. *Грады ўзяліся зельём.* Пасека Ст.-Дар. *Лятко́м узя́цца* — пакрыцца тонкім лёдам, замерзнуць. *Камяніца* [рэчка] *зашорхла, лятком узялася.* Збляны Лід. *Узя́цца шу́мам* — забрадзіць, запеніцца. *Узяўся шумам квас.* Вузла Мядз. *Гніллю ўзяцца* — пачаць гніць, загнісціся. *Пол стаў трухнець, гніллю ўзяўся.* Саланое Віл. *Узя́цца за каго-н.* — даць наганяй. *Ты за яго вазьміся, за гэтага гультая!* Курапалле Паст. 4. Упацець, спацець, упарыцца, пакрыцца пенай. *Конь спацеў, аш шум возьмяцца.* Дакудава Лід. 5. Узяць што-н. *Хустачку ўзялася і завязала. Яна ўзялася грошы і пашла ў магазін. Нада, можа, грошы ўзяцца?* Ёдлавічы Брасл.

УЗЯ'ЦЬ *зак.* 1. Узяць для прыгатавання чаго-н. *Яна перагон возьміць, прыпарыць, кавы ўсыпіць — і п'юць.* Рагулішкі Даўг. 2. Здабыць, прыдбаць. *Дзе яна возьме грошы хату купіць?* Старое Сяло Зэльв. *Дзе вы гэта ўзялі?* Альхоўка Навагр. 3. Атрымаць у сваё карыстанне, купіць. *Яны казалі, што возьмуц парасяты.* Парэчча Гродз. 4. Схапіць за што-н., учапіцца *Ён за грудзі яго ўзяў.* Ухвала Круп. 5. Прызначыць, абраць, прыняць *Яго ўзялі за прэдседацеля.* Смаляніца Пруж. *Яны мяне ўзялі за*

*памочніка.* Адрэмаўцы Брасл. *Узялі яго на работу.* Груздава Паст. *Узялі яе бабы ў сваю брыгаду.* Кураполле Паст. *Узялі яго ў армію.* Міратычы Карэл. 6. Запрасіць сесці, пасадзіць. *Я салдата ўзяў на вос.* Дарава Лях. 7. Узяць за што-н., каб утрымаць. *Даўней поп прынясе ввды ў кубал, дзіцё возьме за вушы, акуне тры разы — і пахрысціці.* Слабада Мін. 8. Уступіць у шлюб, ажаніцца. *Пашоў у сваты, кап узяць мяне.* Падгаі Мін. *Ён узяў яе за жонку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён узяць хацеў другую сястру.* Саланое Віл. *У прымакі яго ўзялі.* Пасіене Лудз. 9. У спалучэнні з іншымі дзеясловамі падкрэслівае значэнне нечаканасці, раптоўнасці, рашучасці. *Свякроў яе пусціла на работу, ды ўзяла і памярла.* Навасёлкі Лід. *Рафал узяў хату прадаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Узялі і паелі.* Паляцкішкі Воран. *Хацела прынясці, а патом узяла і кінула.* Ахрэмаўцы Брасл. *Узяў напіўся вады.* Гемзы Шальч. 10. *безас.* Праймаць болем. *Руку так узяло: пачало калоць — уцярпець ня можна.* Стральцы Гродз. *Узяло за галаву — і баліць.* Кузьмічы Люб. ◇ *Узяў смех* — пачаў смяяцца. *Як ўзяў мяне смех, як яна сказала.* Груздава Паст. *Дро́гліца ўзяла́* — пачаць дрыжаць ад холаду. *Вот змерз — аж дрогліца ўзяла.* Кузьмічы Люб. *Сон не ўзяў* — не заснуў. *Цэлую ноч ляжала — сон не ўзяў міне.* Рагулішкі Даўг. *Узяло́ дзіва* — здзівіцца. *Мяне дзіва ўзяло, што людзі на сабе плух цягалі.* Вузла Мядз. *Злосць узя́ць* — раззлавацца. *Ей ужо злосць узяў.* Завельцы Астр. *Смерць не во́зьме* — не памрэ. *Бес прычыны смерць не возьме.* Кіралі Шчуч. *Узя́ць у галаву́* — клапаціцца, перажываць. *Яна ўзяла ў галаву, што сына немцы злапалі.* Гемзы Шальч. *Ні ўцяць ні ўзяць* — нічога няма. *Вайной усё прапала* — ні ўцяць ні ўзяць. Груздава Паст. *Чорт яго не возьмя* — нічога яму не станецца. Гемзы Шальч.

УКАЗА́НЁ *н.* Указанне, загад. *Матка дала ўказанё купіць хустку. Не йдзі, чакай указаня!* Міратычы Карэл.

УКАЗЕ́І. ◇ *На ўказеі* — напаказ. *Зрабіла добра — палош на ўказеі!* Лісна В.-дзв.

У КАЛЕ́НА *прысл.* у знач. *прым.* Вельмі вялікі. *Даўней прыкалаткі навараць кацёл у калена — і ядуць цэлы дзень.* Вузла Мядз.

УКАЛЕ́ЧЫЦЬ, УКАЛЕ́ЧЫЦІ *зак.* Скалечыць, пашкодзіць. *Руку ўкалечыла ў лесі.* Груздава Паст. *Упала і ногу ўкалечыла.* Вялікі Краснік Пруж. *Калі скажыш што на рабёнка, не ўкалечыш гэтым.* Кураполле Паст.

УКАЛО́ЦЬ *зак.* 1. Укалоць, кальнуць. *Не лезь, а то ўколя цёця чужая.* Лоск Валож. 2. Убасці. *Уцякай, а то карова ўколя!* Міратычы Карэл.

УКАЛУ́ПІЦЬ *зак.* Укалупнуць. *Малы залез на лаву і ўкалупіў хлеба. Сала настыўшы — не ўкалупіш.* Лоск Валож.

УКАЛУПНУ́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у к а л у́ п і ц ь. *Такой кашы наварыла густой — ня можна лошкаю ўкалупнуць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УҚАЛЫ'МІЦЬ *зак. экспр.* Зарабіць на пабочнай рабоце. *Укалымілі добра на разгрузцы вагонаў.* Жыдзевічы Іўеў.

У ҚАМЁЛ *прысл.* ◇ *Ліць у камёл* — заліваць (пра вялікі дождж). *Грымоты, у камёл дош ліець.* Вецярэвічы Пух.

УҚАПА'НЫ *дзеепрым.* Змешчаны ў глыбіні, добра ўмацаваны. *Што ўкапано — будзе ўкапана, ні выцягняш.* Малахоўцы Бар.

УҚАПА'ЦЬ *зак.* 1. Накапаць у невялікай колькасці. *Қартошкі нада ўкапаць.* Стральцы Гродз. *Трэба ісці ўкапаць троха картопляў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пайду ўкапаю картоплі.* Малахоўцы Бар. *Нада трошкі бульбы ўкапаць.* Вузла Мядз. *Укапайце бульбы!* Паляцкішкі Воран. 2. Выкапаць паглыбленне ў зямлі для чаго-н. *За гэтай сухатой ня можна ўкапаць зямлю, ці слуп укапаць.* Ністанішкі Смарг.

У ҚАПЕ'ЙҚУ *прысл.* ◇ *Қапейка ў капейку* — дакладна, поўнасцю. *Ён капейка ў капейку здачу прынёс.* Вецярэвічы Пух.

УҚАРА'ЦЬ *зак.* Пакараць. *Ён нашкодзіў, яго ўкараюць.* Жылі Іўеў. *Вас ні ўкараюць.* Міратычы Қарэл. *Што яму будзя за гэта, яго ўкараюць?* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *ukarać* 'тж'.

УҚАРМІ'ЦЦА *зак.* Выкарміцца, стаць сытым. *Як укорміцца, то стане глаткая свіня, а як добра есць, то етка.* Вострава Маст.

УҚАРМІ'ЦЬ, УҚАРМІ'Ц *зак.* 1. Выкарміць. *Што астанецца, так і кабана ўкорміць.* Дакудава Лід. *Укорміць кабана і прадасць.* Старыя Смільгіні Воран. *Нада ўкарміць кабана.* Старыя Трокі Трак. *Қабана ўкорміш, прадасі — і рубель ест на расхот.* Мсцібава Ваўк. *Штоба свіню ўкарміць, трэба хлеб і бульба. Укарміла я ня мала свіні.* Паляцкішкі Воран. *Қожны год можна кабана ўкарміц.* Парэчча Гродз. 2. Накарміць. *Чорт іх укорміць, свіней: анэгды тры саганы бульбы з'елі.* Граўжышкі Ашм.

УҚАРЧЭ'ЦЬ *зак.* Разрасціся, разгалінавацца ў выглядзе куста. *Зямля ўгноена, бульба ўкарчэла.* Альхоўцы Лях.

УҚАРЭ'НІЦЦА *зак.* Развіць разгалінаваную каранёвую сістэму. *Крапіва ўкарэніцца; як дакранесся паў яе — пячэцца.* Азяраны Раг.

УҚАСІ'ЦЦА *зак.* Усё пакасіць, управіцца з касьбой. *Я ўжо укасіўся — усё пакасіў, пасушыў і злажыў.* Старыя Смільгіні Воран.

УҚАСІ'ЦЬ, УКОСЫ'ТЫ *зак.* Накасіць чаго-н. у невялікай колькасці. *Укасіць — трохі, накасіць — многа.* Дакудава Лід. *Сколькі ён ўкосіць?!* Груздава Паст. *Можна ўкасіць травы.* Дзяніскавічы Ганц. *Мне хочацца ўкасіць нараніцы.* Жылі Іўеў. *Нада травы ўкасіць.* Груздава Паст. *Укосіш травы цяляці.* Міратычы Қарэл. *Яна хоча укасіць сена.* Дэгшні Шальч. *Кужды хоча укасіць.* Едупка Шальч. *Пойдзім дзе ўкосім травы каровам.* Граўжышкі Ашм. *Укасіў каровя травы.* Ракаўскія Швянч. *Троху ўкасіла травы.* Мярэцкія Глыб. *Коб укасіў два кошыкі зеля.* Ялова Пруж. *Ідзі ўкасі травы!* Навасёлкі Свісл. *Возьмы*

*косу, іды ўкосыты травы!* Горск Бяроз. 2. Накасіць, назапасіць сена. *Як ты сена ці ўкасіў?* Магуны Паст. *Ён нам укасіў цэлы воз сена.* Граўжышкі Ашм. *То там, то там укосіць — нацягаў сена.* Жыдзевічы Іўеў. 3. Скасіць. *Свінарка — такая трава, што ўкасіць яе німожна.* Магуны Паст.

УКАЦІ′ЦЦА *зак. перан.* Убегчы, уляцець. *А курыца ўкацілася ў катух.* Кураполле Паст.

УКАЧА′ЦЦЯ *зак.* Упэцкацца, умазацца. *Дзе ты ў балота ўкачаўся, дзе ты так мох укачацця?!* Кіралі Шчуч.

УКА′ЧВАЦЦА *незак.* Пакрывацца чым-н., набіраць на паверхню што-н. *Рабочая пчала на лапках носіць, яна ўкачваецца ў пярху.* Мыто Лід.

УКВА′СІЦЬ *зак.* 1. Рашчыніўшы, паставіць, каб укісла. *Даўней кісель варылі з аўса: муку мяшалі, уквасяць, працэдзяць — і вараць кісель.* Стральцы Шальч. 2. *перан.* Заліць, ператварыць у балота. *Дош уквасіў землю, што не ўлесці, балота такое стала.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *ukwasić* 'тж'.

УКВАСНЕ′ЦЬ *зак.* Укіснуць. *Паставім кісель, укваснеіць, тады цэдзім.* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* польск. *ukwaśnieć* 'тж'.

УКВЕ′ЦІЦІ *зак.* Упрыгожыць кветкамі. *Давай укведім партрэта!* Смаляніца Пруж.; *парайн.* польск. *ukwiecić* 'тж'.

УКВЯЛІ′ЦЬ *зак.* 1. Пакрыўдзіць. *Сыночак мой, уквяліў цябе той бальшун.* Рыбчына Віл. *Больш ні пойдзя баба — уквяліў ты яе.* Асавец Віл. *А можа ты ўквяліла матку?* Саланое Віл. *Сын маўчыць: ні хоча ні тую, ні тую ўквяліць.* Кураполле Паст. *Ужэ ўквялілі Лену.* Стары Свержань Стаўб. *Вы ўквялілі маю ўнучку, уквялілі дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Тое ж, што і у г н я в і ц ь 2. *Уквяліў рану, няможна загаіць.* Магуны Паст. *Сам лячыў — і ўквяліў рану.* Рыбчына Віл. *Уквяліла рану, стала гнаіцца.* Саланое Віл.

УКЕ′ЛЗАЦЬ *зак.* Зацугляць. *Трэба ўкелзаць каня.* Стральцы Шальч., Ліпнікі Вільн.; *гл.* к е́ л з а ц ь.

УКІДА′ЦЬ *незак. ткац.* Уцягваць ніткі асновы красён у ніт і бёрда. *Перш трэба аснаваць кросна, тады ў нічальніцы ўкідаць.* Альхоўка Навагр. *У бэрда ўкідаюць.* Жылі Іўеў. *У ніт укідаюць.* Альхоўцы Лях.

УКІ′ДАЦЬ *зак.* 1. Апусціць у што-н. вадкае, укінуць. *Укідала грыбы ў поліўку — будзе смашная.* Лоск Валож. 2. *зак.* да у к і д а́ ц ь. *Стала ткаць, сусетка ўкідала ў ніт, а ў бёрда сама ўцягнула.* Слабада Мін.

УКІ′ДВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і у к і д а́ ц ь. *Укідваем ніткі ў ніт, у берда.* Дзераўное Стаўб.

УКІ′НЕНЫ *дзеепрым.* Укінуты. *Укінена цыбуля, хай варыцца.* Магуны Паст.

УКІ′НУЦЦА *зак. экспр.* Сесці. *Укінуўся ў розвальні і паехаў.* Ёдлавічы Брасл.

УКІ′НУЦЬ, УКІ′НАЦЬ *зак.* 1. Палажыць у што-н. *Як выхадны дзень, дзеці ўкінуць сухі батон у сумку — і ляцяць у вёс-*

*ку, давай ім масла, яйкі.* Ёдлавічы Брасл. 2. *кулін.* Прыправіць чым-н. страву. *Для смаку тушонкі ўкіням у суп.* Солы Смарг. 3. Укласці густой стравы; уліць. *Можаш кашы сабе ўкінуць — за засланкай стаіць.* Кіралі Шчуч. *Німа той бабы, якой прасіла вады ўкінуць.* Магуны Паст. 4. *экспр.* Усяліць; паставіць на ўтрыманне. *Прывезена дзеўка ад вайны, да мяне ў хату яе ўкінулі.* Дакудава Лід. ∇ *Бяз стуку, бяз груку ўкінулі яе, як суку.* Збляны Лід. 5. *зак.* да у к і д а́ ц ь. *Як навілі кросна, тады ў ніт нада ўкінаць.* Мярэцкія Глыб. 6. *перан. экспр.* Даць лупцоўку, набіць, пакараць. *Не насіся, а то ўкіну я табе дубца!* Вецярэвічы Пух. ◇ *Укінуць слова* — прамовіць, сказаць. *Яны сядзелі з бацькам, гаварылі, і я слова ўкіну, а яна пашла за парох.* Груздава Паст.

УКІ́СНУЦЬ *зак.* Набыць кіслы смак. *Стаўлю малако, кап добра ўкісла. Буракі накрышу, вадой залью, яны ўкіснуць, палучыцца расол.* Слабада Мін. *Як размяшаець, яна* [рашчына] *укісня.* Завельцы Астр.

УКЛАДА́ЦЦА I *незак.* Засоўвацца. *Выдлаблена карыта, і туды ўкладаецца дышаль.* Солы Смарг.

УКЛАДА́ЦЦА II *незак.* Класціся спаць. *Якой парой укладаліся спаць?* Саланое Віл. *Спаць укладаюсю, і унук кладзецца, к старухі ціснецца.* Валынцы В.-Дзв. *Мне не было калі ўкладацца ў пасцель.* Слабада Мін.

УКЛАДА́ЦЬ *незак.* Пэўным чынам замацоўваць у чым-н., усоўваць у што-н. *Цэўку ў чаўнок укладалі.* Слабада Мін. *У лыч камянь укладаяць забітаму кабану, каб кішкі не парыліся, бо кішкі параццa, як смаляць кабана.* Дэгшні Шальч.

УКЛА́ДВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і у к л а д а́ ц ь. *Кіёчык укладваецца ў адвяжыч і ўкладваецца ў навой.* Васілевічы Гродз. *У чалнок укладваецца цэўка. У ляды ўкладваюцца берда, што заводзяцца ніткі.* Малышы Лід. *У трупку ўкладвалася тулка.* Пасіене Лудз.

УКЛА́ДВАЦЬ *незак.* Накладваць на што-н. *Порчу* [порт] *скрабуць і ўкладвалі ў крэсіва.* Мыто Лід.

УКЛА́ДУВАЦЬ *незак.* Укладваць, класці спаць. *Укладуй мужыка, хай спіць!* Вецярэвічы Пух.

УКЛА́СЬ *зак.* 1. Апусціць што-н. у вадкасць; засаладзіць. *Агрэст разросся, навару варэння, ложачку укладу ў чай — і п'ю.* Валынцы В.-Дзв. 2. Уцягнуць. *Нада нітку ў іголку ўклась.* Валынцы В.-Дзв.

УКЛЕ́ІЦЬ *зак.* Прымацаваць, засунуць. *Мушчына спарыш* [два каласкі на адной сцяблінцы] *у шапку ўклеіць і ходзіць.* Відаўцішкі Вільн.

УКЛЕ́ЙКА *ж. заал.* Верхаводка. *Уклейка па вярху ходзіць.* Магуны Паст. *Уклейка — маленькая рыпка, павярху плаваіць.* Валынцы В.-Дзв. *Уклейка есць падобіе плоткі.* Істра Лудз. *Зверху плавая ўклейка, калюшка, варжалапка.* Быстрыца Астр.

*Кагда пакупаісся, уклейка жыр сабіраець.* Беразіно Докш.; *гл.* клёйка.

УКЛЕ'ЙНІЦА *ж. рыб.* Сетка для лоўлі верхаводкі. *Укляю ўклейніцамі ловюць. Поўная ўклейніца — па два-тры пуды, яе столька накрапаеца.* Лісна В.-Дзв.

УКЛЕ'НЧЫЦЬ *зак.* Стаць на калені. *Я ўкленчу тут.* Міратычы Карэл. *Не магу укленчыць — так баліць нага.* Дэгшні Шальч. *Як людзі моляцца?! Я не ўкленчу — такія токі ў калена ідуць.* Замошша Брасл. *Прышоў, укленчыў каля крыжа.* Дзесятнікі Валож. *Ён укленчыць каля лошкі.* Дакудава Лід. *Так і лепіцца да бацькі, аш укленчыла на калені.* Новіны Нясв.; *параўн.* польск. *uklęknąć, klęczeć* 'тж'.

УКЛЕЯ', УКЛЯЯ', УКЛІЯ' *ж.* Тое ж, што і уклёйка. *Уклея больш паверху плаваіць, і сяляўкай яе завуць.* Пасіене Лудз. *Уклея плавая зверху.* Жодзішкі Смарг. *Укляя водзіцца ў возяры.* Груздава Паст. *Укляя павярху ходзіць.* Магуны Паст. *Укляя — мелкая рыбёшка. Укляя серабрыстая, у берах прыдзя нараставаць. Столька была ўкляі!* Лісна В.-Дзв. *Укляя—павярхоўная рыба, натопча поўны жалудак матылькоў гэтых.* Азяраны Раг. *Уклія — малая, як стынка, як камса.* Ахрэмаўцы Брасл.

УКЛО'Н *м.* Схіл, нахіл. *Ад Гарадка да Мішневіч — уклон.* Мішневічы Шум. *Уклон малы — значыць хлюпа страха.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* руск. *уклон* 'тж'.

УКЛЫНА'ЦЬ *незак.* Праклінаць. *Яна і цяпер уклыная міне.* Бакшты Іўеў.

УКЛЯВІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і увялі́ць 2. *Не ўкляві рану!* Беразіно Докш.

УКЛЯНКА'ЦЬ *незак.* да уклёнчыць. *Уклянкая на калені.* Альхоўцы Лях.

УКЛЯЯ' *гл.* УКЛЕЯ'

УКО'Л *м. мед.* Укол. *Градзенскі доктар даў мне ўкол.* Парэчча Гродз. *Яму ўколы давалі.* Кемялішкі Астр. *Я як стаў жыць, у целе ўколу не было, а ў роце — парашка.* Збляны Лід.

У КО'М *прысл.* ◇ *У ком збіць* — крэпка параніць біццём, пакалечыць. *Некалі пабіліся бабы: баба бабу у ком збіла.* Ёдупка Шальч.

УКО'ПАВАЦЬ *незак.* да укапа́ць 1. *Укопавала б троха бульбы, каб раней пасаджана была.* Граўжышкі Ашм.

УКО'ПАНЫ *дзеепрым.* ◇ *Як укопаны* — нерухомы. *Ён як укопаны стаў.* Літва Лях. *Стаіць карова як укопана.* Дарава Лях.

УКО'ПАЦЬ, УКО'ПАЦІ *зак.* 1. Закапаць. *Як прападзе жывёліна, у яму укопаюць.* Кузьмічы Люб. 2. Накапаць. *Трохі бульбы ўкопалі.* Вялікі Краснік Пруж.; *параўн.* польск. *ukopać* 'накапаць крыху'.

УКО'ПКІ толькі *мн.* Абрадавае свята ў дзень заканчэння капання бульбы. *Укопкі правюць, як дакапаюць бульбу.* Ліпнікі Вільн.

УКО'РМУВАТЭ *незак.* Выкормліваць, адкормліваць. *Вона укормуе порося.* Дзмітравічы Кам.

УКО'С *м. с.-г.* Заканчэнне касьбы (першай і другой). *Укос — калі пакосяць лугі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Первы і другі ўкос сена: як не пусцяць скот, то і другі раз косяць.* Азяраны Раг.

УКО'СНА *прысл.* Наўскос. *Калі ня сіла ўзяць бярвяно, завязваюць укосна вяроўку і цягнуць наверх.* Магуны Паст.

УКО'СНІК *м.* Каснік, стужка. *Дзе мае ўкоснікі?* Валынцы В.-Дзв.

УКО'СНЫ *прым.* Наўскосны. *Там, за лесам, укосна дарога праз поля ідзе.* Вялікія Баяры Шчуч.

УКО'ЎЗАЦЦА *зак.* Тое ж, што і у к а ч а́ ц ц я. *У градах была — укоўзалася.* Багушэвічы Бярэз. *Кошка ўкоўзалася ў сажу.* Дзяніскавічы Ганц.

УКРА'ДКАМ, УКРА'ТКАМ *прысл.* Употайкі. *Ідзець па дзірэўні ўкрадкам.* Мішневічы Шум. *Хоць украдкам пасмакчы мяса, калі няможна. Усю жысць мы украдкам жылі.* Валеўка Навагр. *Украткам сышліся хлопцы.* Альхоўка Навагр. *Ідуць дзеці ў сат украткам, кап яблыкаў нарваць.* Кіралі Шчуч. *Украткам ішлі.* Палік Барыс.

УКРА'ДКІ, УКРА'ТКІ *прысл.* Тое ж, што і у к р а́ д к а м. *Украдкі прадаў, трыста рублей сарваў. Ён п'е ўкрадкі.* Азяраны Раг. *Украткі хадзілі ў чужы сат. Украткі баючыся ішоў.* Альхоўцы Лях.

УКРА'ПАЦЦА *зак. перан.* Заехаць далёка. *Дзе ты так украпаўса ў такую даль?!* Стральцы Гродз.

УКРАПІ'ЦЬ *зак.* Умацаваць. *Еслі зуп ківаяцца, дак яго ўжо ня ўкрэпіш у дзясне.* Скрыль Пух.; *параўн.* руск. *укрепить* 'тж'.

УКРА'СЦІ *зак.* 1. Употайкі ўзяць. *Баба ўкрадзе́ ад дзеда гарэлкі.* Паляцкішкі Воран. *Дзе заробіць, дзе ўкра́дзя.* Вецярэвічы Пух. *Ён укра́дзя і падзеліцца з другім.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён грошы не шчытая, я ад яго ўкраду і ім дам.* Рагулішкі Даўг. *Давай украдзём і з'ядзём, прышоўшы ў кухню.* Ёдлавічы Брасл. *Трэба травы ўкрасці.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Ухапіць. *Воўк усё роўна ўкрадзе авечку, хоць і пільнуюць: ляжа на жываце, патпаўзе і ўкрадзе́.* Альхоўка Навагр. *Воўк украдзе́ цяля.* Альхоўцы Лях. 3. Звесці дзяўчыну без дазволу яе бацькоў, употай уступіць з ёй у шлюб. *Старавер возьміць і ўкрадзець сабе нявесту.* Пераброддзе Міёр. ∇ *Хто ўкроў парасё, таму ў вушах пішчыць.* Вецярэвічы Пух.

УКРА'СЦІСЯ *зак.* Пайсці ўпотайкі ад каго-н. *Я ўкрадуся ад яе і пайду.* Ёдлавічы Брасл.

УКРО'ІЦЬ *зак.* 1. Адрэзаць невялікую частку чаго-н. *Троху ўкрою ў грыбэ сала. Падзі, укрой сала! Укрой скварку!* Міратычы Карэл. *Ён сала ўкроіць.* Малахоўцы Бар. *Укрой хлеба!* Альхоўцы Лях. *Трэба хлэба ўкроіць дзіцяці.* Стары Свержань Стаўб. *Укроіць хлеба нажом.* Лайпушкі Ігн. 2. Парэзаць. *Ён укроіў руку.* Быстрыца Астр. ∇ *Укрой — ня ўдой* — пра сала і

малако. Вузла Мядз.; *парайн.* польск. *ukroić* 'тж'.

УКРО'П *м. бат.* Кроп. *Укроп расце.* Малыя Аўцюкі Калінк. *У нас укроп прападая, мы яго рвом, як полім грады.* Вецярэвічы Пух. *Укроп у гуркі кладут.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* руск. *укроп* 'тж'.

УКРО'ПІНКА *ж.* памянш. да у к р о́ п. *Злётала ў гарот, укропінку, марговінку вырвала.* Кураполле Паст.

УКРУ'Г, УКРУ'Х *прысл.* 1. Кружком, укругавую. *Укруг бабы паселі.* Альхоўка Навагр. 2. Спрэс, усё цела. *Як кладуся, выціраюсю укрух уся.* Валынцы В.-Дзв.

УКРУГА' *прысл.* Навокал, кругом. *Укруга будзім пад сонца ісці. Шэсць аршын укруга.* Кураполле Паст.

УКРУГАВУ'Ю *прысл.* Тое ж, што і у к р у г а́. *Ходзіць укругавую.* Жылі Іўеў. *На птушак адзін хадзіў мазіла, ціпер другі прышоў; не забіў лісіцу і пашоў укругавую.* Валынцы В.-Дзв.

УКРУЖКА' *прысл.* Кружком. *Беразак укружка пасаджаны, ужо парос.* Вецярэвічы Пух.

УКРУТАВА'ЦЦА *зак.* Укруціцца, заблытацца. *Карова так укруталаса ў ланцух, што ледво я ее аткруціла.* Верхалессе Крын.

УКРУТНЯ' *ж.* Пятля, скручаная з дубца ці вяроўкі. *Укрутня — такая абаранка, зробя ўкрутню і закручуя за капыл.* Івашкаўцы Смарг. *Укрутня ў санях з лазы або з вяровачкі для прымацавання аглабні да палазоў, дайней — укрутня, а цяпер — на круках.* Рыбчына Віл. *Укрутні былі ў санях.* Вузла Мядз.

УКРУ'Х *гл.* УКРУ'Г

УКРУ'ХІ толькі *мн. кулін.* Цура. *Дайней ўкрухі рабілі: у хлебны квас цыбулі, хлеба, льнянога семя стаўкуць.* Масілавічы Сл.

УКРУЦЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і у к р у т н я́. *Укруцень рабілі і прывязвалі аглаблю да палаза. Адзін укруцень парвайся, нада новы зрабіць.* Вузла Мядз.

УКРУЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Увярцецца ў што-н., абкрыцца. *Укруцілася ў хустку, кап цяплей было.* Лісна В.-Дзв. *А мы сярмягаю ўкруціліся.* Дарава Лях. 2. *перан.* Знайсці выйсце з якога-н. становішча. *Я, бывала, вып'ю, жонка падніміць сварку — я ўкручуся.* Збляны Лід.

УКРУЦІ'ЦЬ *зак.* Увярцець у што-н. *Пакупае дзіця і ўкруціць.* Валеўка Навагр.

УКРУ'ЧАНЫ *дзеепрым.* 1. Уверчаны ў што-н. *Цукеркі ўкручаны ў паперку.* Завельцы Астр. 2. Крута спрадзены, ссуканы. *Сукраваткі лятуць — натта ўкручаны ніткі.* Ракаўскія Швянч.

УКРЫВА'ЦЦА *незак.* Накрывацца. *Зімой укрываюся ватнім адіялам.* Валынцы В.-Дзв.

УКРЫВА'ЦЬ *незак.* 1. Накрываць. *Каня ўкрываюць гунькай.* Рыбчына Віл. 2. Хаваць. *Голаў укрывалі, каб іх не бачылі.* Альхоўцы Лях.

УКРЫВУ'ЛЬКІ *прысл.* Тое ж, што і у ё л а ч к у. *П'яны ідзе*

*ўкрывулькі ад рова да рова.* Кураполле Паст.

УКРЫ'ЎДЗІЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць. *Ты дзіця ўкрыўдзіў?* Гемзы Шальч.

УКРЫ'ЦЦА *зак.* Накрыцца. *Дзяругай укрыўся.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён з галавою ўкрыецца і спіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

УКРЫ'ЦЬ *зак. буд.* Накрыць. *За два дні ня ўкрыіш страху.* Саланое Віл. *Яна п шыферам укрыла страху.* Саланое Віл.

УКРЫШЫ'ЦЬ *зак.* Накрышыць троху. *Нада капусты ўкрышыць.* Гемзы Шальч.

УКРЭ'НІСТЫ *прым.* Ломкі, крохкі. *Укрэністая дзерава, сасну не ўрэжыш, не атдзярэш драніцу — іна ломкая.* Лісна В.-Дзв.

УКРЭ'НЬ *ж.* 1. Паўночны бок ствала хваёвага дрэва. *На север — укрэнь, на запад, юг — харошая белая ель.* Якубова Рас. 2. Дрэва, якое непрыгодна для будаўнічага матэрыялу. *Укрэнь — красная ялушка. Укрэнню пол памасціць — ён будзе неўстойчывы і некрасівы. Укрэнь рубіш — кускамі адлетаіць. З укрэні не сячы аглоблі — яны — цяжкія.* Якубова Рас.

У'КСУС *м.* Воцат. *Без уксусу квашаніна ні смашна, як мдле* [польск. *mdleć* 'нудзіць']. Груздава Паст.; *парайн.* руск. *уксус* 'тж'.

УКУЛІ'ЦЦА *зак.* Укаціцца. *Патом усётакі ў разору ўкуліўся, да разораю папоўз.* Скрыль Пух.

УКУЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Укаціць, увагнаць. *Укулілі чалавека вужакі ў агонь.* Старыя Трокі Трак. 2. *перан. экспр.* Выпіць. *Укуліў бутылку віна адзін.* Вузла Мядз.

УКУРЫ'ЦЦА *зак.* Пакрыцца копаццю. *Укурылася хата каля печы.* Альхоўцы Лях.

УКУ'С I *м.* Укушанае месца, захворванне ад укусаў гадаў. *Чалавек замаўляў ад укусаў гада.* Завельцы Астр.

УКУ'С II *м.* Смак. *Груздзі зялёныя, цёмныя, нада мачыць, стануць красныя; як вымакаюць — укуса ў іх нет.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *вкус* 'тж'.

УКУСІ'ЦЬ *зак.* 1. Укусіць, уджаліць. *Залезніца як укусіць, памерці можна.* Солы Смарг. *Гадзюка хай укусіць — паміраіць чалавек. Даўней замаўлялі, верылі, што памагаіць.* Вузла Мядз. *Гадзіна ўкусіла за вымя, вымя разнесла, малако ня йдзе.* Дэгшні Шальч. *Некалі гадзіна укуся — замаўлялі.* Завельцы Астр. *Шмель як укуся, то папухня.* Ёдупка Шальч. 2. З'есці што-н., перакусіць. *Я сама рас укушу, а чалавека пакармлю.* Кузьмічы Люб. *Нада ўкусіць чаго-небуць.* Лісна В.-Дзв. 3. *перан.* Прымарозіць, пашкодзіць марозам. *Мароз укусіў ягады.* Лісна В.-Дзв.

УКУ'СНА *прысл.* Смачна. *Даўней райгеню с картошкай елі — очань укусна.* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *вкусно* 'тж'.

УКУСНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Смачнейшы. *Сала гэта ўкуснейшая.* Пярэкі В.-Дзв. *Лешч за ўсе рыбы ўкуснейшы.* Ахрэмаўцы Брасл.

УКУ'СНЫ *прым.* Смачны. *Суп укусны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Курыца бывая сытая, але мяса ўкусная.* Малькуны Ігн. *Укусная каша была.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Вантрабянку добра зробіш — яна ўкусная.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Бальшыя ляшчы — укусныя.* Лісна В.-Дзв. *Самыя ўкусныя галовы ляшча, язя і ліна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Грыбэ́ ўкусныя.* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. *вкусный* 'тж'.

УЛАВІ'ЦЬ *зак.* 1. Злавіць. *Гуску ўлаві малую!* Рудня Чэрв. *Улаві курыцу, забралася ў грады.* Беразіно Докш. *Птушку трэба ўлавіць. Галубы два ўлавіў.* Цяпінцы Віл. *Сабака ўлавіла ката.* Пасека Ст.-Дар. *Гэту ўлавіў і аддаў.* Саланое Віл. *Цялушку ўлавілі і прывезлі дамоў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Тры разы хацелі нас немцы ўлавіць.* Ачыжа Чэрв. 2. *перан.* Набраць, назбіраць. *Брусніцы мала калі ўловіш, зялёныя, а іх вызбераюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

У ЛА'Д, У ЛА'Т *прысл.* 1. У такт. *Трэба цапамі біць у лад.* Магуны Паст. *Як малацілі, білі ў лат цэпам.* Мсцібава Ваўк. 2. Згодна, наладжана. *Наша жысць ішла ў лат.* **Рум Валож.**

УЛА'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Упарадкаваны. *Яшчэ не ўладжана хата.* Лоск Валож.

УЛА'ДЗІЦЬ *зак.* Дагадзіць, быць памяркоўным. *Усім хочацца ўладзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *З людзьмі з усімі нада ўладзіць.* Груздава Паст. 2. Умець кіраваць. *Калхоз вялікі, такім хазяйством нада ўладзіць.* Груздава Паст.

УЛАДКАВА'ЦЬ *зак.* Наладзіць. *Трэба лепш уладкаваць справу. Ім жыццё трэба ўладкаваць.* Дварчаны Паст.

УЛАЖЫ'ЦЦА *зак.* ◇ *Улажы́цца ў па́мяці* — запамятаць, захаваць у памяці. *Яшчэ малая была, а мне ўлажылася ў памяці, як жалі ячмень, і жыбулька калолася.* Старыя Смільгіні Воран.

УЛАЖЫ'ЦЬ, ВЛОЖЫ'ЦІ *зак.* 1. Пакласці, палажыць куды-н., у што-н. *Вангора ў печку ўложы, так ён растопіцца, толькі на сонцы сушыць.* Збляны Лід. *Вложыв в торбу кусок хліеба і слоніны і пойіехав до ліеса.* Курашэва Чыж. 2. Дабавіць, прымяшаць чаго-н. *Рашчынеш і бульбы ўложыш.* Завельцы Астр. 3. Пакласці спаць. *Ужо дзяцей улажылі спаць.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Тое ж, што і у в е́ с ц і 2. *Трэба улажыць нітку ў іголку.* Палік Барыс. *Не магу нітку ўлажыць у іголку.* Валынцы В.-Дзв. 5. Скласці, напісаць. *Нехта улажыў байку — і баялі.* Ёдупка Шальч. *Патом вы харашо ўложыця тое, што я расказала.* Канюкай Вільн.; *парайн.* польск. *ułożyć* 'тж'. ◇ *Па́льца не улажы́ць* — не караць, не біць. *Рас як даў яму, то па той рас пальца нікагда не ўлажыў.* Замошша Брасл. *Как у руку́ улажы́ць* — угадаць праўду. *Как у руку улажыла цыганка: усю праўду сказала.* Замошша Брасл. *Казу́ ўлажы́ць* — зрабіць памылку пры снаванні красён. *Начала снаваць — і казу ўлажыла.* Магуны Паст. *Віну́ не ўлажы́ць* — не абвінаваціць, не ўзвесці паклёп. *Я свайго не пакрыю, і на чужога віны не ўлажу.* Вузла Мядз.

УЛА'ЗІНЫ толькі *мн.* 1. Наваселле. Пасека Ст.-Дар., Багушэвічы Бярэз. *Улазіны ў новы дом.* Азяраны Раг. 2. Абрадавае свята з выпадку перасялення. *Дайней хадзілі і так запрашалі: «Прашу бога і вас на ўлазіны».* Рудня Астравітая Чэрв.

УЛА'ЗІЦЬ *незак.* Умяшчаць. *Барылкі былі для піва на васэля, вядро ўлазіла, і большыя былі.* Стральцы Гродз.

УЛАМА'ЦЦА *зак.* Праламацца. *Уламаўся мост.* Навасёлкі Свісл., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Мост уламаўся ад ценжару.* Альхоўка Навагр. *Уламаўсё пол.* Міратычы Карэл.

УЛАМА'ЦЬ *зак.* Зламаць. *Шчэ рэбры ўламаў, аперацыя была.* Асавец Віл. *Жэбры ўламаў.* Быстрыца Астр.

УЛАМІ'ЦЬ *зак.* Наламаць, назбіраць (пра лісце караняплодаў). *Я думала бацьвіня уламлю свіням, але мокра.* Вузла Мядз. ◇ *Касці ня ўламіць* — не перапрацавацца, не перасіліцца. *Бяжыця памажыця ім, вы ж касці ня уломіця, а яна будзіць рада і будзіць вас хваліць.* Кураполле Паст.

УЛА'НКА *ж.* Посцілка, гунька. *Ідзеця, хлопцы, у сена спаць, вазьмеця ўланку на дварышчы!* Літва Івян.

УЛА'ПНУЦЬ *зак.* Ухапіць, злавіць. *Сарока ўлапнула курчука і панесла.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *złapać* 'тж'.

У ЛА'ПУ *прысл.* Тое ж, што і ў в у г а л. *Еслі ў лапу рубюць хату, то заганяюць шыпы.* Ахрэмаўцы Брасл.

УЛА'СНЫ *прым.* Уласны. *Што ўласна хатка — не чужая.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *własny* 'тж'.

УЛА'СЦЬ *ж.* Улада, права. Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *власть* 'тж'.

УЛА'ТВІЦЦА *зак.* Прыстасавацца. *Нічога, будзя рабіць і ў акулярах, улатвіцца й гэдак.* Тупічаны Ваўк.; *парайн.* польск. *załatwić* 'уладзіць, выканаць'.

УЛАТО'ТАЦЬ *зак. экспр.* Выканаць, зрабіць. *Каб вам як работу гэту ўлатотаць за тыдзянь.* Кіралі Шчуч.

УЛЕ'ВА *ж.* Праліўны дождж. *Улева была, такі ўліўны дошч, грады змыў.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *ulewa* 'тж'.

УЛЕ'ГЧЫ *зак.* 1. Налегчы тулавам, уперціся. *Бывая, уляжа, каб клейню ўперці ад берага, і ўпадзе ў ваду.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Набыць звычку, схільнасць да чаго-н. *Быў добры гаспадар, а тэрас улёх у вотку — лянцяй.* Дэгшні Шальч.

УЛЕ'ЗЦІ, УЛЕ'СЦІ *зак.* 1. Пранікнуць, увайсці ў што-н., куды-н. *У буч улезе рыба.* Грыкені Вільн. *У сак рыба ўлезя і ня выйдзя.* Солы Смарг. *Згубіць ключ, і ў хату ніхто ня ўлезіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цялушка ўлезла ў канаву і напілася.* Саланое Віл. *Муха ўлезя ў павучыння — і усё.* Солы Смарг. 2. Умясціцца. *Ня ўлёс свіны хвост у гаршчок.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Залезці на паверхню чаго-н. *Каты ўлезуць на стол — прыкра нешта.* Солы Смарг. ◇ *Языко́м улёзці* — урэзацца клінам у чужую тэрыторыю. *Саўхоз у Авіжэнях, авіжэнцы да возера языком улезлі.* Швэды Вільн. *Улёсці ў галаву* — захаваць, утры-

мацьу памяці. *Што з маленства ўлезла ў галаву, тое не вылазіць.* Кухты Віл. *У галаву інцярэснае ўлезе.* Дарава Лях.

УЛЕ'Й, У'ЛІЙ *м.*, УЛЬЁ *н.*, У'ЛЬЯ, УЛЯЕ' *мн.* Вулей, вуллі. *Улей ставілі к елцы на сучках і прывязывалі. Да ліпы прывязывалі ўлей тошчы, прынадай крапілі.* Саланое Віл. *Адзін улей, дзве леткі ў адным ульюю.* Гемзы Шальч. *Цяпер улій, а былі калоды.* Жодзішкі Смарг. *Калотка замяняла ўльё.* Альхоўка Навагр. *Пешняй выдалбывалі ульа, хто займаўся пчалама.* Дзяніскавічы Ганц. *Цяпер тры ўлья пчолы, раньшы было дзесяць.* Навікі Лудз. *Уляе для пчол.* Вострава Маст.

УЛЕ'ЙЧЫК *м. памянш.* да у л е́ й. *Які улейчык быў пчол.* Мыто Лід.

УЛЕ'ПІЦЦА *зак.* Учапіцца. Магуны Паст.

УЛЕ'СЦІ *гл.* УЛЕ'ЗЦІ

УЛЕ'ТКУ *прысл.* Летам. *Вэнджаны кумпяк вісіць доўго: улетку рэжам, укусна.* Дакудава Лід. *Улетку прышлі ў хату.* Пярэкі В.-Дзв. *Улетку былі там.* Палік Барыс.

УЛЕ'ЎНЫ *гл.* УЛІ'ЎНЫ

УЛЕ'ХЦЫ, УЛЕ'ХЦА, УЛЕ'ХЧЫ *прысл.* Без паклажы, паражняком, не абцяжарана. *Воз улехцы.* Дакудава Лід. *Улехцы ехаць.* Быстрыца Астр. *Кап я йшла ўлехцы, то сястра ўлеяла б малака.* Вецярэвічы Пух. *Ехаў улехца.* Рыбчына Віл. *Ехаў ўлехчы, калі не гружоны воз ці сані.* Мсцібава Ваўк.

УЛЕ'ЦЕЦЬ, УЛЕ'ЦЯЦЬ *зак.* 1. Паляцець, вылецець у вырай. *Ужэ улецелі ластаўкі.* Масілавічы Сл. 2. *перан.* Хутка ўбегчы куды-н. *Дачка ўлецела ў хату.* Міратычы Карэл. 3. Упасці. *Капейка ўлецела.* Малахоўцы Бар.

УЛЕ'ЦІ *прысл.* Тое ж, што і у л е́ т к у. *Улеці памёр бацька.* Сакаляны Сакол.

УЛЕ'ЦЯЦЬ *гл.* УЛЕ'ЦЕЦЬ

УЛЕ'ЯЦЬ *зак.* 1. Уліць у што-н. *Газы трэба ўлеяць у газоўку. Парасятам улею малака.* Рудня Астравітая Чэрв. *У стаканчык улеюць.* Багушэвічы Бярэз. *Сястра ўлеяла малака.* Вецярэвічы Пух. 2. Пачаць ліць (пра праліўны дождж). *А дошч як улеяў, кап ты ведала.* Ачыжа Чэрв. *Дош як улеяў, улеяў — мы дадому не прышлі.* Вецярэвічы Пух.

УЛЁК *м. памянш.* да у л ь. *Улёк паставілі на дзерава.* Бакшты Іўеў.

УЛЁТКА *ж. пчал.* Ляток. *Улётка: пчолы ўлятаюць у ўлётку.* Малахоўцы Бар.

УЛІЗНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Уцячы, схавацца. *Прахожаму думаіцца «Трэба ўлізнуць».* Слабада Смал.

У'ЛІЙ *гл.* УЛЕ'Й

УЛІПА'ЦЬ *незак.* Прыліпаць. Мішневічы Шум.

УЛІ'ЎНЫ, УЛЕ'ЎНЫ ДОШЧ *м.* Праліўны дождж. *Такі ўліўны дошч даў па первае чысло.* Парэчча Гродз. *Уліўны дошч.* Чычалі Швянч., Вялікія Баяры Шчуч. *Такі ўліўны дошч, грады змыў.* Солы Смарг. *Уліўны дошч, лье як з вядра.* Крэва Смарг.

*Уліўны дошч.* Гайна Лаг. *Праходны дошч, а тады як дась уліўны дошч.* Завельцы Астр. *Улеўны дошч два дні шоў, дзергануў добры дошч.* Ёдупка Шальч. *Улеўны дошч.* Жодзішкі Смарг., Стральцы Гродз. *Улеўны дошч прайшоў — жыта чыста збіў, невядома, ці будзя з яго што.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *ulewny* 'тж'.

УЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і у л е́ я ц ь 1. *Парагону ўлію свіням.* Дакудава Лід. *Я ўлію малака і дам ім, хай з'ядуць.* Лоск Валож. *Улію боляй малака.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Пайду ульюю малака.* Лоск Валож. *Уліеш вады ў гаршчок.* Солы Смарг. *У суп, у клёцкі ўліеш алею.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мёду ўліла более за стакан.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і у л е́ я ц ь 2. *Дажджы ўлілі.* Быстрыца Астр.

УЛО'ВЫ толькі *мн.* Лоўля (пра здабычу спажывы). *Воўк мох пайсці на уловы. На уловы ходзяць звяры.* Магуны Паст.

УЛОГАВА'ЦІНА *ж.* Лог. *Улогавацiна там, харошае места.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УЛО'ННЕ, УЛО'ННЯ *н.* 1. Бярэма. *Улонне дроў набраў.* Беразіно Докш. *Улоння дроў.* Рудня Чэрв., Лапічы Асіп. 2. У выразах: *Узяць (пасадзіць, лезці) на ўлонне(я)* — узяць на рукі, пасадзіць на калені. *Хоць бы калі ўзяў дзіця на ўлонне.* Мачаск Бярэз. *Узяў дзіця на ўлонне і гуляе з ім.* Беразіно Докш. *Пасадзіць дзіця на улоння.* Палік Барыс. *Ні прыся на ўлоння мне! Дажы кот і той, каторы лашчыцца, будзя лезці на ўлоння.* Азяраны Раг. *Дзяржала дзіця на ўлонні і давала цыцку.* Рудня Астравітая Чэрв.

УЛО'НЬКІ *мн. памянш.* да у л о́ н н е 2. *Дзіця сядзіць на улоньках.* Багушэвічы Бярэз.

УЛУПІ'ЦЬ *зак.* Даць лупцоўку, пакараць. *Улупі палкай яму!* Саланое Віл. *Як ён яе ўлупіў!* Альхоўка Навагр. *Я хацеў сваей улупіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як што блага зробіш, то матка махрачом як улупіць. Вот ён яму ўлупіў.* Вузла Мядз.

УЛУПЦУВА'ЦЬ *зак. экспр.* Лінуць (пра дождж). *Дош як улупцуіць, дык стагі да калена ў вадзе стаяць.* Саланое Віл.

УЛУ'ЧКА *ж.* Гарус, бавaўняныя ніткі. *Улучка — ніткі такія, як катушачныя, купляліся. Па ўлуццы патыкалі.* Дакудава Лід. *Набрала ткаць улучкі.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* в л у́ ч к а.

УЛУЧЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, даць. *Вот ён яму ўлучыў у лоп!* Якубова Рас.

УЛЫГА'ЦЦА *зак.* Заблытацца. *Карова ўлыгалася ў поват, я баялася, кап нох ні паламала.* Семежава Кап.

УЛЬ *м.* Тое ж, што і у л е́ й. *Уль, дзе месяцца пчолы.* Груздава Паст. *Улі для пшчол даўблі.* Судэрва Вільн. *З хвоі рабілі ўлі.* Старыя Смільгіні Воран.

У'ЛЬМА *ж.* Мноства, безліч. *Там дарогаў — ульма!* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *уйма* 'тж'.

УЛЬТА'Й *м.* Гультай. *Ультай яшчэ спіць.* Паляцкішкі Воран.

*Ультай ты!* Старыя Смільгіні Воран. *Яны былі ультаі.* Парэчча Гродз.

УЛЮБІ'ЦЬ *зак.* 1. Упадабаць, палюбіць. *Яны ўлюбілі яе, за дачку мелі.* Малькуны Ігн. 2. Пакахаць. *Ён яе ўлюбіў, жаніцца хацеў.* Альхоўка Навагр. *Спрытны румяны хлопяц, гэтага ты улюбіла п.* Пераброддзе Міёр.

У ЛЮ'ДЗІ *прысл.* ◇ *Пайсці ў людзі* — пайсці на працу па найму. *Даўней казалі: «Пашла ў людзі служыць»,— калі наймаліся на работу.* Дэгшні Шальч.

УЛЯГА'ЦЬ *незак. перан.* Мець схільнасць, цягу да чаго-н. *Мы ў гарэлку ні ўлягаем.* Кухты Віл.

УЛЯКНУ'ЦЦА *зак.* 1. Спалохацца, спужацца. *Улякнуўся дзед — нехта піраехаў на жалезных каткох поле.* Мішневічы Шум. *Улякнуўся ён.* Лісна В.-Дзв. *Можна ўлякнуцца ў лесі.* Альхоўцы Лях. *Улякнулася, ад спужання захварэла. Даўней, як улякнецца хто, замовіць вадзілі, той дасць вады папіць.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *zlęknąć się* 'тж'. 2. *перан.* Знікнуць (пра малако ў каровы). *Карова захварэла, малако ўлякнулася.* Рыбчына Віл.

УЛЯЛЕ'ЧЫЦЦА *зак. экспр.* Закахацца, улюбіцца. *Як улялечыўся ў яе дарэктар — спасення не было.* Мачаск Бярэз.

УЛЯ'ПАЦЦА *зак. экспр.* 1. Тое ж, што і у л я л е́ ч ы ц ц а. *Уляпаўся мой хлапец у яе. Уляпаўся ў яе — дзень у дзень ходзіць да яе.* Ухвала Круп. 2. Захапіцца чытаннем. *Мой гаспадар як уляпаўся ў кнішку, то нічога ні відзіць.* Жылі Іўеў.

УЛЯПІ'ЦЦА *зак. экспр.* Учапіцца, утрымацца за што-н. *Што за дзіця: як улепіцца за руб у ложку, так і прастаіць цэлы час.* Жылі Іўеў. *За дзіван рабёнак улепіцца і пройдзіць да стала.* Кураполле Паст. *Матка ўляпілася ў наш плот і трасець. Дзяўчына ўляпілася за мяне — дзяржыцца за спадніцу; малыя хлопцы ўляпіліся за мяне.* Вузла Мядз.

УЛЯ'ТАЦЬ *незак.* Адлятаць, вылятаць. *Качкі ўлятаюць, а маглі зімаваць і ў нас.* Дзяніскавічы Ганц.

УЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і у л е́ ц е ц ь 2. *Уляту ў хату, пагляджу на дзяцей.* Дэгшні Шальч. 2. Уваліцца, укінуцца. *Не йдзі, бо ў бухту уляціш!* Грыкені Вільн. *Не ўляці!* Магуны Паст.

УЛЯ'ЦЬ *незак.* Гуляць. *Катэ уляюць у гародзе, і бураке паламалі.* Парэчча Гродз.

УМ *м.* Розум. *На ум ей было ўпаўшы.* Бакшты Іўеў. *Сын у яе няпоўнага ума.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ты умом багатая. Ён умом красівы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ты з умом рабіў?! — Так малога набіў!* Солы Смарг. ◇ *На ум збе́гчы* — успомніць. *Якая шчэ на ум збяжыць песня?* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Не на уме́* — не міла, не ў думках. *Усё баліць: мне белы свет не на уме!* Малыя Аўцюкі Калінк.

УМА'ЗАЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Мама ўмазалася ў сажу.* Жылі Іўеў.

У МА'К *прысл.* ◇ *У мак разбіцца* — праявіць вялікае нама-

ганне ў дасягненні мэты. *Дохтар ужо стары чалавек, здаецца, у мак разбіўся і кончана: так хацеў яе вылячыць.* Ёдупка Шальч.

УМАЛІ'ЦЬ *зак.* Укараціць. *Ты мне на пяць гадоў жызні ўмаліла!* Кіралі Шчуч.; *парайн.* руск. *умалить* 'зменшыць'.

УМАЛО'ТНЫ *прым.* Які дае добры ўмалот. *Кап дош праходзіў, жыта было п умалотная.* Асавец Віл. *У гароха — флянсы, крупная зярно — і ўмалотны.* Валынцы В.-Дзв.

УМАНІ'ЦЬ *зак.* Падзываючы, увесці куды-н. *Уманю карову ў хлеў.* Азяраны Раг.; *парайн.* руск. *приманить* 'прывабіць, прынадзіць прынадай'.

УМАРЫ'ЦЦА *зак.* Замарыцца, стаміцца. *Вот я сёня ўмарыўся — натта многа скасіў.* Кіралі Шчуч. *Умарылася полючы.* Груздава Паст.

УМАСТАКО'ЛІЦІ *зак. экспр.* Уладкаваць; сасватаць. *Братанец мой умастаколіў яе і ажаніў яго.* Парэчча Гродз.

УМАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Дамаўляцца, умаўляцца. *Дайней давалі бацькі дачцэ ўсё тоя, што ўмайляліся сваты.* Гемзы Шальч.

УМЕ'РАНЫ *прым.* Нармальны, ураўнаважаны, спакойны. *Умераны такі, красівы маліц.* Пярэкі В.-Дзв.; *парайн.* руск. *умеренный* 'памяркоўны, сярэдні, мерны'.

У МЕ'РАЧКУ *прысл.* У норме. *Нада піць у мерачку, а то і робіць некаму будзя.* Лоск Валож.

УМЕ'РЗНУЦЬ *зак.* 1. Пакрыцца тоўстым слоем лёду. *Ужэ ўмерзла рака.* Навасёлкі Свісл. 2. Ператварыцца ў цвёрды стан. *Умерзла капуста — і тапаром не ўсячэш.* Мярэцкія Глыб.

УМЕ'РЛЫ *прым.* у знач. *назоўніка.* Нябошчык, нябошчыца. *Я рас умерлу відзіў.* Мсцібава Ваўк. *Стары чалавек плача без прычыны, як па ўмерламу.* Парэчча Гродз.

У МЕ'РУ *прыс.* ◇ *У меру (быць)* — нармальным, ураўнаважаным. *Людзі ня ройны: адзін у меру, а другі — празмеру.* Ёдупка Шальч.

УМЕ'РЦІ, УМЁРЦІ, УМЯРЦІ', УМЭРТЫ'(ТІ') *зак.* Памерці. *Кажды чалавек мусіць умерці.* Сакаляны Сакол. *Яна рана ўмерла.* Стральцы Гродз. *Ат прастуды ўмерла сястра.* Дарава Лях. *Умéр: атказала серца.* Месянцы Брасл. *Умерла дзейка, два дні толькі пажыла.* Пярэкі В.-Дзв. *Сынавая ўмерла.* Мсцібава Ваўк. *Умёр адзін, яму было дзевяноста лет.* Вострава Маст. *Умёр бацька, дыхавіца была ў яго.* Стральцы Гродз. *Аспадар мой умёр.* Дакудава Лід. *Умёрла мама.* Крэвені Даўг. *Дзедушка умёр перадам* [раней]. *Дайней, як умрёць хто, адпявалі.* Перабродздзе Міёр. *Чалавек умярці можа.* Старое Сяло Зэльв. *Як хворы, то можа ўмярці.* Кіралі Шчуч. *Як прыдзецца ўмярці?* Старыя Трокі Трак. *Мажэ умярці.* Навасёлкі Свісл. *Умярла мама.* Новікі Гродз. *Ее мужык ум'ёр.* Смаляніца Пруж. ▽ *Ня ўмрэш — а дні патрэш, як будзеш хварэць* — пра страту часу ў перыяд хваробы. Лісна В.-Дзв. *Як умёр, то ўсім атпёр* — вызваліў усіх ад турбот. Кіралі Шчуч. *Ні ўмёр Даніла, то скула*

*ўдавіла* — пра непазбежнасць смерці. Вялікія Баяры Шчуч. ◇ *Умэрты* [*умэрті*] *от сміеху* — заходзіцца ад рогату. *Як вона говорыла, то можно було бэ умэрті от сміеху.* Дзмітравічы Кам. *Мы умэрлі от сміеху.* Горск Бяроз.

УМЕ'СНА *прысл.* Сумесна. *Умесна жывуць с сястрой.* Шамялі Брасл.

УМЕ'СНЫ *прым.* Супольны, сумесны. *Баня ўмесная — з дзядзькам на дваіх.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Толькі сена у нас умесная.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* руск. *совместный* 'тж'.

УМЕ'СТА *прысл.* 1. Блізка адно каля аднаго. *Уместа будынкі не ставілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Адно з другім у адно. *Дайней уместа змесюць калатоўкай боб з бульбай.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. У кучу. *Полку* [снасць] *на беразе сцягаеш уместа.* Збляны Лід. 4. *прыназ.* з *род.* Замест. *Уместа чая хмель заліваюць кіпячонай вадой і п'юць.* Месянцы Брасл.

УМЕ'СЦЕ, УМЕ'СЦЯ *прысл.* 1. Прымацавана адно да аднаго. *Дайней было два гаршчочкі ўмесце: есці браць на поле.* Індра Красл. 2. Разам, сумесна. *Як жывеш умесця с сям'ёй, то добра.* Пераброддзе Міёр. ∇ *Умесце жыць, як у цесця* — пра дзве сям'і ў адной хаце. Паляцкішкі Воран.

УМЕ'ЦЦЯ *зб. н.* Амецце. *Памалоцім і згортаваям у кучу умецця.* Вязынка Маладз. *Як абмалоціш, правеяш — астаецца мякіна і ўмецця.* Саланое Віл. *Умецця — ад зярнят каласы.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* а м е ц і.

УМЕ'ЦЬ *незак.* 1. Валодаць навыкам, выконваць якую-н. работу, быць майстрам у якой-н. справе. *Быў каваль, умеў сякеры рабіць.* Гемзы Шальч. *Печы ўмелі рабіць.* Латыгаль Віл. *Умеў сплесці с саломы капалюш.* Васілевічы Гродз. △ *Усё жыццё вучымся і памром, не будзем усяго ўмець. Ня ўмеіць ні прасці, ні ткаць, а замуш — хоць у пятніцу.* Вузла Мядз. 2. Набываць здольнасць перамяшчацца. *Дзіця скоро ўмецьме поўзаць.* Альхоўцы Лях. 3. Валодаць мовай. *Ніграматныя былі старыя людзі, алі ўмелі добра гаварыць.* Вузла Мядз. *Тут людзі ўмеюць па-літоўску, мала каторы не ўмее.* Парэчча Гродз. ∇ *Што умеяш — за плячыма не трэба насіць.* Ёдупка Шальч.

УМІДЫҐАВА'ЦЬ, УМІТЫҐАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Супакоіць, уціхамірыць, утаймаваць. *Каб быў бацька, то ўмідыґаваў бы дачку. Як сабяруцца дзеці — крык, плач, енк — не ўмітыґуеш іх ні чым.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *mìdikis* 'упарты', польск. *umitygować* 'сцішыць'.

УМІРА'ЦЬ *незак.* да у м е р ц і. *Ён быў слаб, уміраў.* Саланое Віл. *Ці не труцізны яны наеліся, гэтыя людзі, што ўміраюць.* Дзераўное Стаўб. *Каму прышло врэмя — умірая, а не будзя пара — паздаравея.* Дэгшні Шальч. ∇ *Умірая не стары, а паравы, каму пара прышла.* Рыбчына Віл. *Не ўмірая, хто хут, а ўмірая — каму сут. Кагда ўміраць, тагда дзень цяраць* — пра затрату часу на пахаванне. *Каб людзі не ўміралі, то неба патпіралі п.* Кіралі Шчуч. *Век чалавек жывець, а дураком уміраіць.*

Ахрэмаўцы Брасл. *Каму гараваць, таму не ўміраць.* Вузла Мядз. ◊ *Хоць ты ўмірай* — пра якія-н. цяжкасці, перашкоды. *Гэты дошч не даець убіраць — хоць ты ўмірай.* Чычалі Швянч.

УМІ'ТУСЬ *прысл.* У супрацьлеглы бок адно ў адносінах да другога. *Умітусь клалі жэрткі, як гарадзілі плот: камлём да вяршыні.* Рудня Чэрв.

УМІ'ТУСЬКІ *прысл.* Тое ж, што і у м і т у с ь. *Умітуські спалі.* Асавец Віл. *Палягглі дзеці ўмітуські.* Рудня Астравітая Чэрв.

УМІТЫГАВА'ЦЦА *зак.* Супакоіцца, перастаць балець. *Усю ноч зуб балеў, а цяпер умітыґаваўся.* Гемзы Шальч.; *парайн.* у м і д ы ґ а в а́ ц ь.

УМІТЫГАВА'ЦЬ *гл.* УМІДЫГАВА'ЦЬ

УМІ'ТЫНГУ. У выразе: *Умітынгу німа* — уціхамірання, супакою няма. *Умітынгу німа на гэтых дзяцей.* Гемзы Шальч.; *гл.* у м і д ы ґ а в а́ ц ь.

УМЛЕ'ЦЬ I *зак.* Абамлець, самлець. *Як стаяла, так і ўмлела.* Вецярэвічы Пух.

УМЛЕ'ЦЬ II *зак. кулін.* Утушыцца. *Умлела наша каша.* Бакшты Іўеў. *Тушонка ўмлела добра, аш румяная.* Рудня Астравітая Чэрв.

УМНАЖА'ЦЦА *незак.* Памнажацца, павялічвацца ў колькасці. *Пайдзі возле пчолак — вылятаюць, умнажаюцца.* Месянцы Брасл.

У'МНЕНЬКІ *прым. памянш.* Разумненькі. *Умненькі быў мальчык.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *умный* 'разумны'.

УМНІ'САК *м.* Гумнішча. *Умнісак — мейсца каля гумна.* Старыя Смільгіні Воран.

УМНО' *н.* Гумно. *Вазілі снапы ў умны.* Быстрыца Астр.

УМО'ВІЦЦА *зак.* Дамовіцца, умовіцца. *Умовіліся зрабіць васэлле.* Рыбчына Віл.

УМО'М ◊ *Умо́м тро́нуць* — звар'яцець. *Мае бабачкі, як яна ня тронула умом?!* Пераброддзе Міёр.

УМУРАВА'НЫ *дзеепрым.* Пабудаваны з цэглы. *Мела скрыткy ўмуравану* [сховішча]. Івашкаўцы Смарг.; *парайн.* польск. *wmurowany* 'тж'.

УМУ'РЗАНЫ *прым.* Упэцканы, замурзаны. *Ён такі ўмурзаны.* Пацаўшчына Дзятл.

УМУ'РЗАЦЦА *зак.* Упэцкацца, замурзацца. *Дзіця ўмурзаласо.* Дзяніскавічы Ганц.

УМЫКА'ЦЬ *незак.* Хавацца, уцякаць. *Той бандыта ўмыкаў, умыкаў, але яго злавілі.* Новыя Мацалі Варэн.; *парайн.* руск. *умыкать* 'выкрадаць'.

УМЫ'СНЯ *прысл.* Знарок. *Ён умысня памыў бочку ад аміяка і рыбу ў стаўку патравіў.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *naumyślnie* 'тж'.

УМЫ'ЦІ *зак.* Памыць. *Умыла б падлогу ў хаці.* Смаляніца Пруж.

УМЫ′ЦІСА *зак.* Памыцца. *Віетэ поспеетэ ўмыціса. Я шчэ нэ ўмыласа.* Смаляніца Пруж.

УМЫШЛЯ′ЦЦА *незак.* Насміхацца, празываць, кпіць. *Ідзеш, а хлопцы ўмышляюцца. «Клында клышанога!» — так на бабаў умышляюцца.* Малахоўцы Бар.

УМЭРТЫ′ (ТІ′), УМЭ′РТЫ, УМЯРЦІ′ *гл.* УМЕ′РЦІ

УМЯСІ′ЦЦА *зак. перан. экспр.* Дапяць, выкрасці, улезці. *Хлапчакі ўсюды ўмесяцца, ад іх не ўцалея нічога.* Кудзялянцы Шальч.

УН *часц.* Вунь. *Ун ідзе нехта.* Жылі Іўеў.

УНАВО′ЗІЦЬ *зак.* Угнаіць. *Унавозіць зямлю нада.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *унавозить* 'тж'.

УНА′ДЗІЦЦА *зак.* Набыць звычку, прывыкнуць, прызвычаіцца (пра жывых істот, чалавека). *Унадзіласа карова ў калхозна жыта хадзіц.* Парэчча Гродз. *Унадзілася ўрэдна карова сюды хадзіць.* Солы Смарг. *Унадзілася і ляпіць апцэсам да канюшыны.* Гемзы Шальч. *Карова унадзілася ў капусту.* Мсцібава Ваўк. *Унадзілася хадзіць карова ў буракі — ні адагнаць.* Глівін Барыс. *Унадзілася курыца хадзіць у сат.* Старыя Смільгіні Воран. *Куры як унадзіліся ў гарод, і падзерлі грады.* Гемзы Шальч. *Унадзіліся куры, і пакапалі ячмень на ямы.* Гемзы Шальч. *Але ў гэты сат унадзілася была адна птушка.* Буняны Ашм. *Як унадзіцца сарока — пахватаіць усіх куранят.* Саланое Віл. *Унадзіўся, чаго ты ходзіш?* Галубы Маст. *Унадзіўся к дзеўкам як свіня ў бульбу.* Старыя Смільгіні Воран.

УНАРАВІ′ЦЬ, УНАРО′ВІЦЬ *зак.* Дагадзіць. *Я хацела ўнаравіць сыну да нявесця.* Кіралі Шчуч. *Яму не ўнаровіш.* Альхоўцы Лях. *Яны хаджайцы не ўнаровяць.* Мсцібава Ваўк. *Унаравіў я яму.* Літва Лях. ∇ *Лепей чорту ўнаравіць, чым табе!* Збляны Лід.

УНАСІ′ЦЬ *зак.* Запэцкаць, занасіць. *На гэтай рабоце так унося кашулю — не дамыцца.* Лоск Валож.

УНАЧЫ′ *гл.* УНО′ЧЫ

УНЕ′СЦІ *зак.* Схапіць, панесці. *Квохайка пабегла за цыплёнкам, а арол яго ўнёс.* Пярэкі В.-Дзв.

УНЕ′СЦІСЯ *зак. перан. экспр.* Хутка выбегчы. *Яна ўнеслася з магазіна і пашла па вёсцы хаваючыся.* Дэгшні Шальч.

УНІЗА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у в е с ц і 2. *Трэба ўнізаць нітку ў іголку.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* у л а ж ы́ ц ь 4.

УНІ′ЗВАЦЬ *незак.* да у н і з а́ ц ь. *Унізвалі нітку ў іголку.* Стральцы Гродз.

УНІЗЕ′ *прысл.* У ніжняй частцы чаго-н., унізе. *Жолап плялі з саломы, з дупцой: унізе — шырока, кверху — вузей.* Асавец Віл. *Дзверы запёрты ўнізе.* Магуны Паст. Прыбі *цвек унізе!* Жодзішкі Смарг. *Прывязана ўнізе вяроўка. Адзін — унізе, другі — уверху.* Ракаўскія Швянч. *Даліна ўнізе.* Лайпушкі Ігн.

УНІКА′ЦЬ I *незак.* Убываць, трацiцца, слабець. *Стары чалавек, здароўя ўнікая.* Гемзы Шальч.

УНІКА'ЦЬ II *незак.* Распытваць, высвятляць. *Я не ўнікала, як там у іх было.* Курапалле Паст.

УНІ'КНУЦЬ *зак.* 1. Знікнуць. *Унікла вада — пустая студня.* Граўжышкі Ашм. 2. Пасохнуць, прапасці. *Унікнуць агуркі — дажджа німа.* Саланое Віл.

УНІСТАЖА'ЦЦА *незак.* Знішчацца. *Каб трава ўністажалася на пасевах, аміячку развялі ў вадзе.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *уничтожаться* 'тж'.

УНІСТАЖА'ЦЬ *незак.* 1. Знішчаць, вытраўляць. *Уністажаіць траву вада-аміячка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Забіваць. *Нашто сабаку ўністажаць?!* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Нельзя жывых істот уністажаць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* руск. *уничтожать* 'тж'.

УНІСТО'ЖЫЦЬ *зак.* да у н і с т а ж а́ ц ь 1. *Куколь уністожылі, ён урэдны.* Быстрыца Астр.

УНІЧТО'ЖЫЦЬ *зак.* да у н і с т а ж а́ ц ь 2. *У сем'і больш адной маткі не буваіць: адна адну ўнічтожыць.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *уничтожить* 'тж'.

УНО'РЫСТЫ *прым.* Тое ж, што і у к р э́ н і с т ы. *Унорыстая дзерава.* Рудня Чэрв.

УНО'С *м. пчал.* Медазбор. *Ні было ўносу, не нанасілі мёду пчолы — засуха была.* Рыбчына Віл.

УНО'СЛІВЫ *прым.* Натурлівы. *Унослівы конь быў.* Бакшты Іўеў.

УНО'Ў *прысл.* 1. Зноў. *Вясной уноў праветрылася.* Саланое Віл. 2. Незвычайна, нова. *Пераменая жысь, усё ўноў.* Індра Красл.

УНО'ЧЫ, УНАЧЫ', УНАЧЭ' *прысл.* Ноччу. *Уночы мялі лён мялкамі.* Ракаўскія Швянч. *А я ўночы прыхожу, яна ўстаіць і сенца есь.* Крэва Смарг. *У нас дні жаркія, а ўночы — холат.* Солы Смарг. *Яна ўночы прыбегла.* Дакудава Лід. *Калісьці малацілі ўночы.* Кемялішкі Астр. *Яны ўночы паелі.* Ёдлавічы Брасл. *Я сон прысніла ўночы. Як месяц засвеціць, то чалавек ходзя ўночы.* Кудзялянцы Шальч. *Едуць, смалякі паляць уночы.* Завельцы Астр. *Уночы пасвілі валэ.* Дарава Лях. *Капалі яму ўночы.* Рагулішкі Даўг. *Уначы малацілі.* Беняконі Воран. *Уначэ всталі.* Горск Бяроз. *Яны ўначэ пазванілі і прыляцелі уначэ.* Парэчча Гродз.

УНУДЗІ'ЦЬ *зак. экспр.* Даказаць, пераканаць, давесці. *Хто каму ўнудзіць, што гэта не так было?!* Мсцібава Ваўк.

УНУЗДЖА'ЦЬ *экспр.* Доўга ўпрошваць, прымушаць. *Што я буду унузджаць: «Тата, еш, снедай!» — Сам зная гэто, што трэба рабіць.* Мсцібава Ваўк.

УНУ'К *м.* Сын дачкі ці сына. *Ішоў унук з бабуляй. Ужо ўнукі ёсць два.* Рагулішкі Даўг. *Унукі прыяжджаюць.* Пераброддзе Міёр. *Чатыры ўнукі, а ні адзін за каваля ня хоча быць. І я маю двох унукоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Унукі прыяжджалі.* Гемзы Шальч. *Яны гадуюць унукоў.* Рагулішкі Даўг. *Хадзіла з уну-*

*ком у грыбы, з унукамі хадзіла ў лес.* Едупка Шальч. *З унукамі прыехала да бацькоў.* Пераброддзе Міёр.

УНУ'КА *ж.* Унучка. *Ідзе да мяне мая ўнука.* Малахоўцы Бар. *Адна ўнука — селядорша ўзяла прымака.* Альхоўцы Лях. *Мая ўнука прышла.* Парэчча Гродз. *Унука мая ў Меньску.* Пасека Ст.-Дар.

УНУРЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Усунуць, схаваць. *Яна ўнурыць галаву ў падушку і маўчыць.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* бел. літар. *унурыць* 'апусціць галаву'.

УНУТРЫ' *прысл.* У сярэдзіне чаго-н. *Зверху — абалона, а ўнутры — мяздра, семкі.* Солы Смарг.

УНУ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і у н у́ к а. *Яго ўнучка ў нас жыве.* Лоск Валож. *Мае ўнучкі прыбеглі.* Швэды Вільн.

УНУЧО'К *м. памянш.-ласк.* да у н у́ к. *У мяне ужэ унучок есць.* Пераброддзе Міёр.

УНЫ'ЦЬ *зак.* 1. Ператрывожыцца, пералсыць. *Я так не ўныла па мужыку, як па дзіцяці — усё жыццё кладу.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Прайсці (пра гады). *Ужо гады ўнылі.* Крэва Смарг.

УНЬ *часц.* Вось. *Унь, як цяпер, мае вы дзяўчатка, ні так, як даўней было.* Адамава Валож.

УНЭРВАВА'ЦЦА *зак.* Знервавацца. *Дачка калека: абгарэўшы была, а як вучылася ў школе — унэрвавалася яшчэ горай.* Рагулішкі Даўг.

УНЭ'Т. У выразе: *На ўнэ́т* — ушчэнт. *Усе памідоры згнілі на ўнэт.* Пацаўшчына Дзятл. *Свінья на ўнэт з'елі буракі.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *wnet* 'зараз'.

УНЯСЦІ' *зак.* Унесці. *Ён яе ўнясці памох.* Рагулішкі Даўг.

УНЯСЦІ'СЯ *зак.* Усяліцца, пасяліцца. *Яны толькі што ўнясліся ў гэту хату.* Вузла Мядз.

УПАГО'НЬ *прысл.* Наўздагон. *Яна як устаня ды за ім упагонь.* Бакшты Іўеў.

УПАДАБА'ЦЦА *зак.* Спадабацца. *Ці ўпадабалася вам наша дзярэўня?* Быстрыца Астр. *Прыехаў ён у сваты: у кажушку, у армячку, бедны, але упадабайся — і пашла за яго.* Кудзялянцы Шальч. *А Стася яму упадабалася.* Гемзы Шальч.

УПАДАБА'ЦЬ *зак.* 1. Выклікаць у каго-н. сімпатыю да сябе, прыхільнасць, ласку. *Як упадабаў Стэфана, так і ўнука назваў Стэфанам.* Завельцы Астр. 2. Адпавядаць пэўным запатрабаванням, звычкам, нораву. *Мо жыць у нас упадабала?* Ракаўскія Швянч. *Яна ні ўпадабала школы.* Магуны Паст. *Курыца, дзе ўпадабая мейсца, там нясецца.* Кудзялянцы Шальч. *Калі пчолы ўпадобаюць кадаўб, то будуць сядзець.* Вецярэвічы Пух. 3. Тое ж, што і у н а́ д з і ц ц а. *Упадабала карова хадзіць у шкоду.* Жодзішкі Смарг. 4. Спадабаць, захапіцца кім-н. *Ён яе ўпадабаў. Пазнаёміліся на васэлі, упадабалі адзін аднога.* Магуны Паст. *Вы ўпадабалі яго? — Важны хлопец.* Гемзы Шальч. 5. Адпавядаць смакавым патрабаванням, смакаваць, быць смачным.

*Прыехаў брат, упадабаў баланду.* Стральцы Гродз. *Што лепей упадабалі: чабор ці кмін?* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *podobać się* 'падабацца'.

УПА'ДАВАЦЬ *незак.* Ганяцца, лавіць. *Кот упадаваіць за птушкамі.* Груздава Паст.

УПА'ДАК *м.* 1. Страта. *Мей такую гаспадарку, як я, і не будзеш мець жаднага ўпадку.* Гемзы Шальч. 2. Хвароба, згуба. *Упадак на ўсе куры, упадак на курэй прышоў — ліюцца яны, німа яёк.* Вузла Мядз. ∇ *Ох, каб на цябе ўпадак найшоў! Каб на цябе ўпадак уваліўся! Каб на вас упадак!* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *upadek* 'падзенне'.

УПАДА'ЦЬ I *незак.* 1. Знішчацца, гінуць. *На вайне народ упадаіць і упадаіць.* Завельцы Астр. 2. Пашкоджваць, выклікаць захворванне, боль. *Курч упадае ў нагу, у руку.* Старыя Трокі Трак. *Рак упадае ў дзерава — дзерава сохне.* Кудзялянцы Шальч.

УПАДА'ЦЬ II *незак.* Упадаць. *Канава, з возера копана, упадала ў Дзісёнку.* Замошша Брасл.

УПА'ДУВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і у п а д á ц ь II. *Тут была рака — упадувала ў Дзітву.* Старыя Смільгіні Воран.

УПАКО'ЙНІК *м.*, УПАКО'ЙНІКІ *мн.* Нябожчык. *За ўпакойнікі давалі палатно ў цэркву.* Альхоўцы Лях. *Радаўніца пасля вялікадня, на могілкі ходзяць па ўпакойніках.* Рыбчына Віл. *Афяру даюць, молюцца за упакойнікаў.* Валынцы В.-Дзв.

УПА'Л *м.* Спёка, спякота. *Упал такі, а жнеш.* Лука Нараўк. *Дзісяка ўпал.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *upał* 'тж'.

УПА'ЛІВАЦЦА *незак.* Запальвацца. *Даўней крэсая напільнік аб скалку — прэнтка ўпалівалася.* Быстрыца Астр.

УПАЛІ'ЦЦА *зак.* Запаліцца. *Як губа ўпаліцца — вугля прыкладалі.* Парэчча Гродз.

УПАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Падпаліць, распаліць. *Сырыя дрова не ўпаліш.* Вецярэвічы Пух. 2. Запаліць, спаліць. *Як вайна была, упалілі пшаніцу, гарыць. Як веле дабра упалілі!* Альхоўцы Лях.

УПАЛУ'ДНІ *прысл.* Апоўдні, паўднём. *Прышоў з работы ўпалудні.* Навасёлкі Свісл.

УПА'ЛЫ *мн.* Тое ж, што і у п á л. *Упалы былі вялікія.* Граўжышкі Ашм. *Упалы вялікія, няма росту.* Быстрыца Астр.

УПАЛЯВА'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Пачуць, запісаць. *Такія словы ўпаляваць цяшка.* Ахрэмаўцы Брасл.

УПАМІНА'ЦЬ *незак. абрад.* Рабіць памінкі, памінаць. *На дзяды я ўпамінала пакойнікаў.* Дакудава Лід.

УПАМКІ' ◇ *Не ўпамкі* — не ў памяці, не ў галаве. *Мне не ўпамкі, калі гэто сталосё.* Альхоўцы Лях.

УПА'МЯТАЦЬ *зак.* Запомніць. *Я ўпамятала гэта, як бабуля расказвала.* Рудня Астравітая Чэрв.

УПАПЯРО'К *гл.* УПО'ПЕРАК

УПАПЯРКІ' *прысл.* Упоперак. *Баба паложыцца ўпапяркі перад машынай.* Кудзялянцы Шальч. *Удлуш не кладуць, а ўпа-*

*пяркі толькі.* Старыя Трокі Трак. *Трэба ўпапяркі разрэзаць.* Быстрыца Астр.

УПАПЯРЭ′Ч *прысл.* Насупраць. *Ён так упапярэч робіць.* Крэва Смарг.

У′ПАР *м. неадабр.* 1. Упарты чалавек. *Упар такі, ён робіць сваё.* Жылі Іўеў. *Такі ўпар — свет ня відзіў!* Граўжышкі Ашм. *Спорны чалавек, як упар, упарты.* Быстрыца Астр. *Во упар які, упорыцца і не хоча зрабіць.* Парэчча Гродз. 2. Наравісты, натурлівы конь. *Упар ня цягніць вос, б'ець у хамут, аглоблі паламаіць.* Лісна В.-Дзв.

УПА′РАВАЦЬ *незак.* Саграваць, прыкладаючы кампрэс. *Я стала ўпараваць руку бярозавымі лістамі.* Лоск Валож.

УПАРА′ДКАВАЦЦА *зак. перан.* Абжыцца, набыць самае неабходнае ў гаспадарцы. *Пасля вайны упарадкаваліся троху, пачалі жыць.* Завельцы Астр.

УПАРАДКАВА′ЦЬ *зак.* Прывесці ў парадак што-н. *Яна ўсё выпрасавала, упарадкавала.* Дэгшні Шальч.

УПА′РКУ *прысл.* Парай. *Дайней аралі валамі — два валы упарку ўпрагалі.* Слабада Мін.

УПАРО′Т *гл.* УПЕ′РАД

УПАРО′ЦЬ *зак.* 1. Укалоць, параніць. *Дзеўчына палкай упарола вока.* Жылі Іўеў. *Ухо ўпаролі.* Старое Сяло Зэльв. 2. *перан.* Набіць, пакараць. *Матка ўпора яму!* Паляцкішкі Воран.

УПА′РТЫ *прым.* 1. Які ўпіраецца, не згаджаецца з парадамі іншых, настойвае на сваім. *Упарты чалавек на сваё верніць, ёсць такіх упартых.* Малькуны Ігн. *Яна така упарта — ні на макулінку ні ўступіць.* Яцаўляны Сідр. 2. Капрызны. *Дзіця упартаё.* Альхоўцы Лях. ∇ *Ласкавая цілятка двух матак ссець, а упартая — ніводнай.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* польск. *uparty* 'тж'.

УПАРУ′ *прысл.* У тэрмін, своечасова. *Падымаецца добра, калі ўсё ўпару.* Ракаўскія Швянч.

УПАРЧЫ′ВЫ *прым.* Тое ж, што і у п а́ р т ы 1. *Але вы — чысто казёл упарчывы: як даберыцеся да таблетак, то бэз жаднай нормы.* Мсцібава Ваўк.

УПА′РЫЦЦА *зак.* 1. Набрыняць, разбухнуць у гарачыні. *Развядзеш ржаную муку ў цёплай вадзе і паставіш у печ, каб упарылася.* Вузла Мядз. *Хлеп, на подзе печаны, мае смак, а ў блясе ён упарыцца.* Солы Смарг. 2. Утушыцца, усмажыцца. *У печы мяса ўпарыцца.* Груздава Паст.

УПА′РЫЦЬ *зак.* Утушыць. *Картошку ўпарыш, с кіслым малаком еш.* Старыя Трокі Трак.

У ПА′САЧКІ *прысл.* У палоску. *У пасачкі, у краткі ткалі дайнейшыя ручнікі.* Быстрыца Астр.

УПА′СЦІ, УПА′СТЫ(Э), УПА′СЦЬ *зак.* 1. Паваліцца. *Ішла з шчаўю і ўпала.* Кіралі Шчуч. *Кожны можа ўпасці.* Навасёлкі Свісл. *Упала і далавах ляжыць.* Юркава В.-Дзв. *Буду даіць, і пад каровай упаду.* Кіралі Шчуч. *Дзіця ўпадзя на мост.* Азяра-

ны Раг. *Упадзя, і ляжыць.* Альхоўцы Лях. *Ня лесь, зноў упадзяш!* Малахоўцы Бар. *Упадзяш! Не ўпаць!* Навасёлкі Свісл. *Глядзі ж, не ўпадзь.* Пацаўшчына Дзятл. *То ўпаду і разоб'юса. Упадэш!* Дзмітравічы Кам. *Мог упасць.* Кемялішкі Астр. *Упаў і разарваў языка багато.* Кузьмічы Люб. *Галавой упаў. Галавой я ўпала ў землю. Ня лесь, бо ўпадзеш!* Парэчча Гродз. 2. Зваліцца. *Ні садзі на край дзіця, бо ўпадзе.* Альхоўцы Лях. *Упаў з каня, галавой аб дарогу ударыўся.* Пераброддзе Міёр. *С хлява ўпоў.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Зляцець, упасці. *Як распачалася другая вайна, на наша поля ўпаў самалёт.* Новікі Гродз. *Ляціць іскрына і ўпадзя на блін.* Азяраны Раг. 4. Уваліцца. *Ён упаў у воду.* Міратычы Карэл. ∇ *Як на трэці дзень упадзе* [асядзе] *магіла — нехта памрэ.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. Нізка апусціцца, разаслацца, расцягнуцца над зямлёй. *Туман упаў, мігла.* Дзяніскавічы Ганц. 6. *мед. вет.* Пашкодзіць той ці іншы орган (пра хваробу). *Яму упаў у губу рак.* Кіралі Шчуч. *Гангрына ў ногу ўпала.* Номікі Бабіц. *Рана не гоіцца на руцэ, наверна, вогнік упаў.* Кіралі Шчуч. *Бывае, што ангелька ў ногі ўпадзе.* Збляны Лід. *З нох ён упаў, баляць ногі, не можа хадзіць.* Месянцы Брасл. *Карова ўпала на ногі.* Лоск Валож. *Еслі цялёнак на ногі ўпадзёць сінакосам, жарой, то печань бальная.* Саланое Віл. 7. Пашкодзіць драўніну, згнаіць. *У пол упаў рак — нанет з'есць.* Стральцы Гродз. 8. Распладзіцца ў вялікай колькасці. *Чэрві ўпалі ў кумпяк — выкінулі вон.* Парэчча Гродз.

УПАТАЙКІ' *прысл.* Патаемна, скрытна. *Ціха, упатайкі яны прыходзілі да іх. Упатайкі хадзіла ў сат.* Вузла Мядз.

УПАЎЛЕ'ТА *прысл.* Сярод лета. *Бярозкі, як упаўлета, ломяць, вяжаць, робяць венікі.* Завельцы Астр.

УПАЎНАЧЫ' *прысл.* Апоўначы. *Уставалі, бывала, упаўначы і церлі лён, мяльніца была такая.* Магуны Паст.

УПАЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Спацець. *Жнучы ўпацела.* Міратычы Карэл. *Касіў і ўпацеў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Упарыцца. *Конь упацеў, аж запеніўся.* Ухвала Круп. *Так упацеў, што з яго пар ідзе.* Сасноўка Смарг. *Конь упацеў, пакрыўся шумай.* Збляны Лід.

УПАЦЁМАЧКУ *прысл. памянш.* да у п а ц ё м к у. *Трэба ўпацёмачку заплакаць, а пры людзях вясёлай быць.* Саланое Віл.

УПАЦЁМКУ *прысл.* Упоцемку. *Упацёмку нічого ні відаць.* Дзяніскавічы Ганц.

УПА'ШКІ толькі *мн. абрад.* Свята з нагоды завяршэння веснавой сяўбы. *Дайней, як упашуцца, рабілі ўпашкі, святкавалі.* Мярэцкія Глыб.

УПЕ'КАЦЬ *незак.* Прыпякаць. *Сонца шчэ больш упекая, як пара, прыпарвае.* Вецярэвічы Пух.

УПЕ'КЦІСЯ *зак.* Спячыся. *Упекся хлеб, бліны ўпекліся.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УПЕ'РАД, УПЕ'РАТ, УПЕРО'Д, УПЯРО'Д, УПЯРО'Т, УПА-

РО′Т *прысл.* 1. Калісьці, даўней. *Уперад былі прывыкшы да загону свайго.* Крэва Смарг. *Уперад сабіраліся, камсянікаў напячэш, салат посным маслам пракіняш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Униерод лавілі рыбу невадам.* Швэды Вільн. *Уперод тут камені былі.* Грыкені Вільн. *Упярот на зямле ўсе аставаліся рабіць. Як упярот, то і на печы сушылі лён. Упярот ездзілі церць лён далёка.* Навасёлкі Лід. *Цяпер і на гаспадарках не так кепско, як упярот.* Баброўнікі Гарад. *Упярот быў пастух і патпасвіч.* Малахоўцы Бар. *Графка ўпярот гаварылі, а цяпер шпілька.* Крэва Смарг. 2. Спачатку, перш, раней. *Упярод жмені рвалі, потым у снапок* (пра лён). Грыкені Вільн. *Упярот лавіў рыбу. Упярот ніткі спрадзём, матаям, потым снуём.* Солы Смарг. *Упярот ты схадзі.* Асавец Віл. *Упярот дам гэтага, а тады — другога.* Кураполле Паст. *Упярот мяне пашла замуш сярэдняя сястра.* Ракаўскія Швянч. *Упарот яго сястра умёрла.* Хатынічы Ганц. 3. Спераду. *Саха была дзеравяная: два нарогі, а ўперад паліца — гэта адвал.* Швэды Вільн.

УПЕ′РАДЗЕ *прысл.* Спераду. *Связь дзелалі ўперадзе і ззадзі.* Пасіене Лудз.

УПЕ′РАДЗЬ *прысл.* Спачатку, перш. *Уперадзь немцы прыехалі і дзевяць сямей пабілі.* Ухвала Круп.

УПЕ′РАК *прысл.* Тое ж, што і у п а п я р к і. *Па Друці бярвення ўперак ляжыць.* Азяраны Раг. *Палка была пастаўлена ўперак.* Вузла Мядз.

УПЕРАМЕ′ШКУ, УПЯРЭ′МЯШКУ *прысл.* Уперамежку, чаргуючы адно з другім. *Карові даю ўперамешку: то сена, то сечкі.* Мярэцкія Глыб. *Трэба даваць упярэмяшку: рас сена, рас сечкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Упярэмяшку і камяк добро з'есці.* Альхоўцы Лях.

УПЕ′РАТ *гл.* УПЕ′РАД

УПЕ′РАЧ *прысл.* Раней, наперад. *Ён уперач няхай пойдзець, а яна не выступіць з хаты.* Беразіно Докш.

УПЕ′РАЧЫ *прысл.* Тое ж, што і у п е́ р а д з е. *Я ўперачы была.* Лісна В.-Дзв.

УПЕ′РУЧ *гл.* УПЯРО′Ч

УПЕ′РЦІ *зак. экспр.* Упіхнуць, пасадзіць. *Мяне ўперлі сілай у тую каляску і везлі праз усю вёску, і музыка грае.* Кіралі Шчуч.

УПЕ′РЦІСЯ *зак.* Заўпарціцца. *Я ўпруся, ні пайду. Злодзяй можа сумку схваціць — і што ты ўпрэсся, не аддасі?!* Солы Смарг.

УПЕ′ЧАНЫ *дзеепрым.* Добра выпечаны. *Хлеб упечаны, як люстра.* Кальнішкі Шальч.

УПІВА′ЦЦА *незак.* Упівацца, ссаць кроў (пра насякомых, паразітаў). *Кляшчы ёсць, у кароў упіваяцца.* Груздава Паст.

УПІКА′ЦЬ *незак.* Папракаць. *Яна мне цёнгля упікая, што я гаварыла.* Кіралі Шчуч. *Упікая, што ні памагая ён дзеўчыне.* Да-

кудава Лід. *Ён цёнгля мне ўпікая і ўпікая, што я браў, а я не браў.* Гемзы Шальч. *Што ты ўпікаіш!* Малькуны Ігн.

УПІЛАВА′ЦЬ *зак.* 1. Напілаваць невялікую колькасць. *Пайду ўпілую дроў печ выпаліць.* Міратычы Карэл. 2. Распілаваць. *Крутоя дзерава, яго няможна ні ўпілаваць, ні ўгабляваць.* Солы Смарг.

УПІЛЬНАВА′ЦЬ, УПІЛНАВА′ЦЬ *зак.* 1. Усцерагчы. *Я ж яго* [дзіця] *ні ўпільную.* Солы Смарг. 2. Прыпільнаваць, выкрыць. *Я ўпілную, хто брацьме сено.* Кузьмічы Люб.

УПІНА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і у п і к а́ ц ь. *Я што здзелаўшы, а ён усё ўпіная.* Гемзы Шальч.

УПІ′РА *м.* і *ж.* Тое ж, што і у́ п а р 1. Багушэвічы Бярэз.

УПІРА′ЦЦА *незак.* 1. Супраціўляцца, адмаўляцца. *Некаторыя ўпіраліся, не хацелі ехаць у лес.* Слабада Мін. 2. Абапірацца на што-н. *Бярвяно ўпіраецца ў зямлю.* Гемзы Шальч. 3. Даходзіць, сутыкацца. *Гарод у раку ўпіраіцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ◇ *Упіра́цца рука́мі і нага́мі* — напорыста супраціўляцца. *Людзі ўпіраліся рукамі і нагамі, каб не йсці на хутары.* Паляцкішкі Воран.

УПІСА′ЦЦА *зак.* Запісацца. ◇ *Упіса́цца ў шча́сця* — стаць шчаслівым. *Упішыся ты ў іх шчасця, яны што хочуць, тоя зробяць.* Кураполле Паст.

УПІСА′ЦЬ *зак.* Запісаць. *Паслухала — і яшчэ нешта упіша.* Дэгшні Шальч.

УПІ′СЫВАЦЬ *незак.* Запісваць. *Гэта ў кнішкі ўпісываем.* Навасёлкі Лід.

УПІХА′ЦЬ *незак.* Усоўваць у што-н. *Кіёк упіхалі ў навой.* Завельцы Астр.

УПІХНУ′ЦЬ *зак.* Усадзіць, усунуць. *У жарало можна было руку ўпіхнуць.* Істра Лудз.

УПІ′ЦЦА I *зак.* Напіцца. *Упіўся Іван — і вашуіць.* Беразіно Докш. *Я не ўпіўся.* Саланое Віл.

УПІ′ЦЦА II *зак.* да у п і в а́ ц ц а. *П'яўка ўп'ецца ў нагу — не адарвеш.* Солы Смарг.

УПЛА′ВЫ толькі *мн. мед.* Белі. *Яна на ўплавы хвора.* Вецярэвічы Пух. *Ад уплаваў карэнні капаюць гэтай травы.* Кудзялянцы Шальч. *Белая крапіва ад белых уплаваў.* Солы Смарг.

УПЛА′КАЦЬ *зак.* Наплакацца, праліць многа слёз. *Што я ўплакала!* Жыдзевічы Іўеў. *Сколька я ўплакала, ён памёр за паўтара месяца перад Новым годам.* Альхоўка Навагр. *Веля я ўплакала.* Стральцы Шальч. *Сколькі я ўплакала!* Дакудава Лід. *Сколькі мы уплакалі: прышлюць ліст, пішу ім ліст, змачу слязьмі, другі пішу.* Ёдупка Шальч.

УПЛА′Ў *прысл.* Уплынь, уплаў. *Пусці каня ўплаў!* Янова Рас. *Уплаў каровы ішлі.* Рудня Астравітая Чэрв.

УПЛЕ′СЦІ *зак.* Уплятаючы, прымацаваць адно да аднаго. *Стужку якую упляцець, а так нічога.* Завельцы Астр.

УПЛЕ′СЦІСЯ *зак. перан.* 1. Прыляпіцца, прыліпнуць. *Глей*

*той уплецецца за ногі — не вырвеш, прыліпне к назе.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Тое ж, што і упіцца II. *П'яўка ўпляцецца, дзе плюгавая кроў, і нап'ецца.* Вецярэвічы Пух.

УПЛЕ'ТНІК *м.* Тое ж, што і укоснік. *Уплетнік у валасы ўплятаяцца.* Малахоўцы Бар.

УПЛЕ'ЦЕНЫ *дзеепрым.* Заплецены. *Ладне косы ўплецены.* Стральцы Гродз.

УПЛЁНТАЦЬ *зак.* Ублытаць. *Як уплёнтала рукі ў валасэ.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *wplątać* 'тж'.

УПЛЫ'ЦЬ *зак.* Даплыць, праплыць. *Уплыў ў палавіну озера.* Ахрэмаўцы Брасл.

УПЛЮ'ЖЫЦЦА *зак. экспр.* Разрасціся, укараніцца. *Макрыца, яна дзе ўплюжыцца, то бох мой!* Семежава Кап.

УПЛЯНТАВА'ЦЦА *зак. экспр.* Улезці. *Як хто ўплянтуецца ўночы — усе цвяты пакрадзе.* Ёдлавічы Брасл.

УПЛЯТА'ЦЬ *незак. перан. экспр.* Есці. *Уплятаіць хлеб, дубіць малако.* Месянцы Брасл.

УПНУ'ЦЦА *зак.* Уступіць, улезці. *Дзе ўпнесся ў грась — і стаіш.* Магуны Паст.

УПО'КАЦЬ *зак. экспр.* Налавіць. *Алік прыедзіць, рыбы ўпокаіць, сколькі хочыш.* Ахрэмаўцы Брасл.

УПО'ПЕРАК, УПАПЯРО'К *прысл.* 1. Тое ж, што і упапяркі. *Бывала, і ўпоперак жалі, калі ў каго шнуры былі шырокія.* Солы Смарг. *Удоўш разрэзаў — не ўпоперак.* Завельцы Астр. *Баранавалі ўдлуш і ўпапярок.* Відаўцішкі Вільн. 2. *прыназ.* з *род.* Упоперак чаго-н. *Карэц размешчаны упоперак лемяшніцы каля лемяхоў.* Істра Лудз.

УПО'Р *м.* У выразе: *Упóр сóнца* — санцапёк. *Упор сонца на верандзе — так жарка тут.* Пераброддзе Міёр.

УПО'РА *м.* і *ж.* Тое ж, што і упіра. *Упора гэта, як упрэцца — хоць ты кол на галаве чашы!* Кіралі Шчуч.

УПО'РКІ *мн. буд.* Слупы для падпоры. *Упоркі — слупы для ўмацавання бэляк у гумне.* Чычалі Швянч. *Трэба упоркі атсеч у лесі.* Мсцібава Ваўк.

УПО'РТЫ *прым.* Тое ж, што і упáрты 1. *Упорты хлапец.* Азяраны Раг.

УПО'РУЧКІ *прысл.* Поплеч. *Садзяцца маладыя ўпоручкі за сталом, яшчэ і на падусцы, кап мякко было.* Семежава Кап.

УПО'РЫСТА *прысл.* Напорыста. *Ён упорыста робіць.* Малахоўцы Бар.

УПО'РЫСТЫ *прым.* Тое ж, што і упáрты 1, 2. *Яна такая ўпорыстая.* Саланое Віл. *Дзіця ўпорыстая, упар.* Граўжышкі Ашм.

УПО'СПУЛЬ *прысл.* Сумесна, супольна. *Мялі лён ўпоспуль.* Дэгшні Шальч.

УПО'ЎЗВАЦЬ *незак.* Упаўзаць. *Упоўзваюць ракі ў спецыяльныя такія лавушкі.* Збляны Лід.

УПРАВА'ДЖВАЦЦА *незак. царк.* Падлягаць абраду, пасля

якога парадзіха можа наведваць царкву, касцёл. *Трэба ўправаджвацца ў касцёл.* Магуны Паст.; *гл.* у в о́ д.

УПРА'ВІЦЦА *зак.* 1. Парабіць хатнюю работу, дагледзець жывёлу, ухадзіцца. *Трэба ўсё у хаці парабіць, усіх накарміць, управіцца.* Солы Смарг. *Я ўжо трохі ўправілася.* Азяраны Раг. 2. Закончыць якую-н. работу. *Мы з работаю ўправіліса.* Крынкі Крын. 3. Паспець. *Яна не ўправіцца памыцца — усё робіць.* Гемзы Шальч. 4. Пачаць ісці (пра спорны дождж). *Управіўся дошч, куды там ісці.* Гемзы Шальч.

УПРА'ВІЦЬ *зак.* 1. Уваткнуць, прымацаваць. *Калісьці лучыну ўправя ў святок — і прадзе.* Кудзялянцы Шальч. 2. Наладзіць, асадзіць. *Я табе грабельцы ўпраўлю.* Ністанішкі Смарг. *Управіў касу.* Жылі Іўеў. 3. *буд.* Паставіць, пабудаваць. *Задумаў хату ўправіць.* Бакшты Іўеў. 4. Дагледзець, накарміць. *Пакуль я ўсіх ня ўпраўлю, сама ня ем.* Вузла Мядз. ◇ *Упра́віць мазге́* — навучыць, утлумачыць, пераканаць. *Скажу бацьку, хай бацька яму мазге ўправіць — цярпеня з ім нехапая.* Кіралі Шчуч.

УПРАВЛЯ'ТЫСА *незак.* да у п р а́ в і ц ц а 1. *Усё ўправляюс коло пэчы, коло скотыны.* Горск Бяроз.

УПРАГЧЫ' *зак.* Запрэгчы. *Аднаго каня ўпраглі.* Старое Сяло Зэльв.

У'ПРАНЖ, УПРО'НШ *ж.* Вупраж. *Упранж на выязд: хамут, шлеі, падсядзёлак, узда.* Быстрыца Астр. *Упронш прынясі, трэба каня закладаць.* Ліпнікі Вільн.; *параўн.* польск. *uprząż* 'тж'.

УПРАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і у п р а в л я́ т ы с а. *Ужо вечар, упраўляцца нада ісці.* Кураполле Паст. *Упраўлялася з работай: і каровы, і цяляты, і куры даглядала.* Лоск Валож. 2. Выконваць якую-н. работу, спраўляцца з работай. *Трэба ісці ўпраўляцца — работу рабіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Пераврралі, ці ўпраўляюся я.* Дакудава Лід. *Пайду ўпраўляцца.* Навасёлкі Лід., Дэгшні Шальч.

УПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Выконваць гаспадарчую работу. *Пайду ўпраўляць сваё хазяйства.* Мсцібава Ваўк. 2. Будаваць, ставіць. *Ей німа за што хату ўпраўляць.* Бакшты Іўеў.

У'ПРАШ *м.* Тое ж, што і у́ п р а н ж. *Маю упраш харошы.* Івашкаўцы Смарг.

УПРАША'ЦЬ *незак.* Упрошваць. *Ён ні стаў ўпрашаць, хай едзя.* Стральцы Гродз.

УПРА'ШКА *ж.* Тое ж, што і у́ п р а ш. *Купіў упрашку і канём ехаў с Паставы.* Гемзы Шальч.

УПРО'К *м.*, УПРОКІ *мн.* Дакор, упіканне. *У жызні маей — упрокі і упрокі.* Граўжышкі Ашм.

УПРО'НШ *гл.* У'ПРАНЖ

УПРО'СТКУ *прысл. ткац.* Проста, у два ніты. *Упростку ткалі палатно: дзве ніткі перапляталіся, як ткалі.* Навікі, Пасіене Лудз.

УПРО'ЦІ *прысл.* Супраць, супроць. *Яна адгрызнулася, упроці Пецькі сказала.* Валынцы В.-Дзв.

УПРО'Ч *прысл.* Асобна. *Дзве ўместа плятуць, адну — упроч.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УПРУ'ЖНЫ *прым.* Пруткі, пругкі. *Біс прута каса ні будзіць упружная.* Істра Лудз.

У ПРЫПРА'ЖКУ, У ПРЫПРЫ'ШКУ *прысл.* Упрыпрэжку. *Конь — у прыпражку, калі вядуць яго прадаваць.* Дакудава Лід. *У прыпрышку ўзялі маладую кабылу.* Старыя Трокі Трак.

УПРЫЦЁН *прысл.* Паслядоўна, адно за адным. *Каб упрыцён гаварыць — па парадку, дык таго не ўздумаю.* Азяраны Раг.

УПРЭ'ЛЫ *прым.* Спацелы, упараны. *Конь упрэлы.* Крынкі Крын.

УПРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Доўга варыцца, упарыцца. *Галаву, ногі зварацб, у печы параць, кап упрэла, квашаніну разліваюць, і яна застынець.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і у п а ц е ц ь 2. *Конь упрэў.* Крынкі Крын.

УПУ'Д *м. мед.* Спалох; захворванне ад спалоху. *Ён хворы, гэта ўпуд у яго.* Лісна В.-Дзв.

УПУ'ДЗІЦЦА *зак.* Спужацца, спалохацца. *У вачох воўк стаіць — так упудзілася.* Лісна В.-Дзв. *Я як упудзіўся — упаў у балота.* Старыя Трокі Трак.

УПУ'ДНАЯ СКУ'ЛА *ж.* Язва. *Балеў доўга, упудная скула ў жываце была.* Валынцы В.-Дзв.

УПУ'ДНІК *м. бат.* Назва лекавай травы, смалянка. *Упуднік — белым цвяточкам цвіціць, там на пяске расцець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УПУ'Л *м. анат.* Крыж, сярэдзіна. *Упул баліць.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. дыял. *'boli wpół'* 'тж'.

УПУМЛЕ'ННЕ *н. мед.* Непрытомнасць, забыццё. *У тым упумленню і памерла.* Гемзы Шальч.

УПУСКА'ЦЦА *незак.* Уступаць. *Я яму упускаюся — не ён мне упускаецца.* Кальнішкі Шальч.

УПУСКА'ЦЬ *незак. крав.* Ушываць. *Так упускалі рукаў.* Рагулішкі Даўг.

УПУ'СКЛІВЫ *прым.* Уступчывы, падатлівы, незлапамятны. *Упусклівая дачка — усё благоя даруя. Ён упусклівы — і добра з жонкай жыве.* Гемзы Шальч.

УПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Адчыніць дзверы для ўваходу, упусціць. *Пісклят упусціла ў хлеў і зачыніла дзверы.* Саланое Віл. 2. Апусціць у дол. *Пакуль я прыбегла, Марука упусцілі ў яму.* Вецярэвічы Пух. 3. Уджаліць, укусіць. *Пшчала жагайла ўпусціла ў руку.* Воўкуш Ліпск. *Жыгадла упусціла пчала.* Дэгшні Шальч.

УПУ'ТВАЦЬ *незак.* Спавіваць. *Кап ношкі былі простыя, даўней упутвалі дзіця повясам.* Дакудава Лід.

УПХНЁНЫ *дзеепрым.* Насаджаны. *Нарошкі ўпхнёныя ў сохах.* Ракаўскія Швянч.

УПХНУ'ЦЬ *зак.* Усадзіць, улажыць. *Упхнула яму дроцік у бот — і дроцік не давай яму хадзіць.* Кіралі Шчуч.

УПЫ'НАК *м.* Перапынак, спыненне. *Пытаяця і пытаяця — няма ўпынку вам плесць мне ў вушы!* Старыя Смільгіні Воран.

УПЫНІ'ЦЬ *зак.* 1. Спыніць, затрымаць. *Як пажэнуць у поля, то мая карова будзя бехчы і бехчы дахаты, ніхто яе не ўпыня.* Мсцібава Ваўк. 2. Скончыць работу, упарадкаваць, справіцца. *Як упыню картоплю: спалю, абганяю пападымаю, кап ні пазасыпалася, тады ўжо напішу пісьмо сыну.* Лапічы Асіп.

УПЭ'ЙХАЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *Яна яго ўпэйхала.* Рудня Астравітая Чэрв.

УПЭ'ЦКАНЫ *дзеепрым.* Запэцканы, брудны. *Адзене ўпэцкано.* Кнышэвічы Бабіц.

УПЭ'ЦКАЦЦА *зак.* Запэцкацца, укачацца. *Свіня ўпэцкалася ў калу.* Крынкі Крын. *Ты ўпэцкайся ў балота.* Кіралі Шчуч.

УПЭ'ЦКАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Лоп упэцкаў.* Мсцібава Ваўк.

УПЯ'ЛІЦЦА *зак.* 1. *экспр.* Быць густа пасаджаным, пасеяным. *Як упялілася ўсё ў адно места, то расці ня будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і у н а́ д з і ц ц а. *Упяліўся хадзіць да іх.* Ахрэмаўцы Брасл.

УП'ЯНЕ'ЦЬ *зак. перан.* Учадзець. *Уп'янела я ад багана: ён такі ванючый, па нем паходзіш — і да ташнаты даходзіш.* Рагулішкі Даўг.

УПЯРАДЗІ' *прысл.* Тое ж, што і у пе́р а д з е. *Бродзянь утраёх цягалі: адзін ззадзі, а двоя ўпярадзі.* Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *впереди* 'тж'.

УПЯРО'Т *гл.* УПЕ'РАД

УПЯРО'Ч, УПЕ'РУЧ *прысл.* Тое ж, што і у пе́р а д 1. *Упяроч бяльё мылі ў возеры. Упяроч высушыў сена — і ў гумно.* Валеўка Навагр. *Уперуч усё жалезнякамі ехалі.* Бабро‌ўнікі Гарад.

УПЯ'РЫЦЬ *зак. экспр.* 1. Ударыць чым-н. *Матка крычыць: «Упяру табе чапялой!»* Лоск Валож. *Гаспадыня ўпяра котцы — тая шмык на плот і на страху, і тады яна там смела.* Гемзы Шальч. 2. *перан. экспр.* Вельмі многа з'есці. *Бывала, яна сядзя, упяра чыгунок бульбы.* Лоск Валож.

УПЯРЭ'МЯШКУ *гл.* УПЕРАМЕ'ШКУ

УПЯЦІ'Х *прысл.* Упяцярых. *Бывала, малоцім упяціх, а я была яшчэ дзяўчонка — снапы падношу ў рэй.* Пасіене Лудз.

УПЯ'ЦЦА *зак.* Уперціся. *Ён упяўся, не прызнаецца і адно цвярдзіць.* Мярэцкія Глыб.

УПЯЧЫ' *зак.* 1. Добра выпячы. *Картапляны блін тоўсты, яго трэба ўпячы.* Вецярэвічы Пух. *Даўней казалі: «Дзеці, ужо паскрэбачак ўпёкся, бярыця!»* Кіралі Шчуч. 2. Напячы, спячы. *Бывала, хлеба ўпячэш на тыдзянь.* Кудзялянцы Шальч. 3. *перан.* Тое ж, што і у пя́р ы ц ь 1. *Ну, упёк дык упёк яму дупцом!* Кураполле Паст.

УПЯЧЫ'СЯ *зак.* Спячыся. *Гэта густавата бапка, хай упячэцца.* Саланое Віл. ◇ *Упячы́ся ў душу́* — расхваляваць, сапсаваць

настрой, прывесці да захворвання. *Ах, гэта дачка, упяклася яна мне ў душу!* Альхоўцы Лях.

УРАБАЧЭ'ЦЬ *зак.* Быць ператочаным чарвямі; распладзіцца ў вялікай колькасці. *Урабачэлі за ноч грыбы.* Жылі Іўеў.

УРАБЕ'ЦЬ *зак.* Спалохацца, перапалохацца. *Яны ўрабелі: ён быў узяўшы пісталет.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *оробеть* 'тж'.

УРАБІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і у п э́ ц к а ц ц а. *Ён урабіўся у балота.* Паляцкішкі Воран.

УРАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Папэцкаць. *Урабіў ручкі, ідзі памый!* Паляцкішкі Воран. 2. Укачаць, пасыпаць. *Калісь у нас рабілі так: пралі калаўроткам, маталі ў матке пражу, парылі і ураблялі ў попял, клалі на печ, патом палакалі маткі.* Стральцы Гродз.

УРА'Г *м.* Вораг. *Калі хочаш нажыць урага, то вазьмі пазыч грошы.* Вузла Мядз. *Пазыч каму грошы, то ты нажывеш урага.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Свая мацi не ураг дзіцяці.* Вузла Мядз.; *параўн.* руск. *враг* 'тж'.

УРА'ГАВАЦЬ *незак.* 1. Капрызіць, наравіцца, упірацца, выказваць непаслушэнства. *Рабёнак ураґаваіць: крычыць, ня слухаіць, трэба розгай высцябаць яго. Ён ураґаваіць: заваліцца, нагамі б'ець, а дзяцька розачкай як сербануў — «Дзядзічка, ня буду!»* Валынцы В.-Дзв. 2. Супраціўляцца, не падпарадкоўвацца, рабіць насуперак. *Ён чатыры месяцы ўраґаваў: нічога ня робіў, ліжаў на хаці.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* у р а́ ґ і.

УРА'ҐІ толькі *мн.* Капрызы, норавы. *Дзяцька розачкай як сербануў — дзе яго ураґі дзеліся?!* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *ráugas* 'злюка'.

УРА'ҐЛІВЫ *прым.* Капрызны, крыклівы, непаслухмяны. *У яе рабёнак ураґлівы, нада ўраґі адганяць розачкай.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* польск. *urągliwy* 'з'едлівы, здзеклівы'; *гл.* у р а́ ґ і.

У РА'Д *прысл.* Падрад. *Дайней койкі не было, быў пол, лажыліся ўсе ў рад.* Малахоўцы Бар.

УРАДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Нарадзіцца. *Я ўрадзілася ў тэй вёсцы.* Стральцы Гродз. *Урадзіўся таўсты чалавек.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ∇ *Калі ўрадзілася жарабя з лысінай, яно і здохня з лысінай* — пра ўнаследаваныя недахопы чалавека. Вецярэвічы Пух. *Урадзілася жарабё з лысінай — і здохніць з лысінай, і воўк з'есць з лысінай. Не ўрадзіўся мак — пражывём і так.* Вузла Мядз.

УРАДЗІ'ЦЬ I *зак.* 1. Урадзіць. *Добра ўрадзіла бульба.* Паляцкішкі Воран. *Так бульба яму ўрадзіла.* Жылі Іўеў. *Жыта ўрадзіла, як сцяна.* Вецярэвічы Пух. *Каб жыто табе урадзіла.* Старое Сяло Зэльв. 2. Нарадзіць. ∇ *На то мяне бог урадзіў, каб каля мяне хто хадзіў.* Валеўка Навагр.

УРАДЗІ'ЦЬ II *зак.* 1. Шкодзіць для здароўя. *Я ня ем таўстоя сала — урадзіць мне.* Груздава Паст. 2. Прычыняць вялікія стра-

ты, наносіць урон. *Враг будзіць век урадзіць.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *вредить* 'тж'.

УРАДЛІ'ВЫ *прым.* Урадлівы. *Урадліво жыто.* Альхоўцы Лях. *Гэта картопля — урадлівая.* Кіралі Шчуч. *Такая была урадлівая брушка* [бручка]. Мсцібава Ваўк.

УРА'ДНА *прысл. ткац.* У рады. *Урадна ткалі палатно.* Янова Рас.

УРАЖА'Й *м.* Ураджай. *Уражай быў добры.* Рагулішкі Даўг.

УРА'З І, УРА'С *м. мед.* 1. Апендыцыт, грыжа і іншыя хваробы жывата. *Ураз — ад натугі, цяшкай работы. Мусіць, і я зварушыла ўрас, паварочвае пад грудзі.* Даўней казалі: «*Трэба шаптаць ад уразу*». Альхоўцы Лях. *Калісь ад уразу лечылі бабы: ставілі гарнак на жывот, гарнак сцягваў. Рушыў урас — боль жалутка.* Мсцібава Ваўк. *Як чалавека ўрас возьме — качаецца клупком па жываце.* Міратычы Карэл. *Урас у яго: падарваўся дзесьці.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Нервовае захворванне. *Ураз ходзіць па ўсяму арганізму: баліць нага, плячэ, на голаў пераходзіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Загаворваюць ад уразу.* Новіны Нясв.; *параўн.* польск. *uraz* 'траўма'.

УРА'З ІІ *прысл.* Зараз жа. *Ураз прыходзіць брат.* Барок Стаўб.; *параўн.* польск. *wraz* 'тж'.

УРА'ЗІЦЬ *зак.* Пашкодзіць. *Густая яда ня ўразіць: паеў густога — і сыты.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *urazić* 'зняважыць, пакрыўдзіць, ударыць'.

УРА'ЗНІК *м. бат.* Увярэднік. *Як чалавека ўраз возьме — п'юць зельё — уразнік.* Міратычы Карэл., Дзяніскавічы Ганц.

УРАЗО'Р *прысл. с.-г.* Спосаб ворыва ў загоны з разорай між імі. *Можна араць уразор.* Глівін Барыс. *Уразор ганялі, аралі.* Пасіене Лудз.

УРАЗО'РКУ *прысл.* Тое ж, што і у р а з о́ р. *Шнурок узараў уразорку.* Малькуны Ігн.

УРАЗО'РУ *прысл.* Тое ж, што і у р а з о́ р. *Аралі ўразору.* Беразіно Докш.

УРА'ІЦЬ *зак.* Угаварыць, пераканаць; сасватаць. *Хто мяне ўраіў за яго?* Талейкі Швянч.

УРАКА'ЦЬ *незак.* да у р а ч ы́. *Як гляне хто, то мяне уракае, бо я на маладзік радзілася.* Завельцы Астр.

УРАКНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у́ р а ч ы́. *Калісь казалі: «Уракнулі дзіця, а хто парася мажэ ўракнуць?»* Дзяніскавічы Ганц.

УРА'НО *прысл.* Рана, раніцай. *Урано топілі пэчэ.* Ялова Пруж.

УРАСІ'ЦЦА *зак.* Абмачыць адзенне расой. *Рана ўросісся па траве — уся мокрая.* Альхоўка Навагр.

УРАСКІ'Д *прысл.* Тое ж, што і у р а з о́ р. *Ураскід пераворваюць поле, гарод.* Мішневічы Шум.

УРАСКІ'ДКУ, УРОСКІ'ТКУ *прысл.* Тое ж, што і у р а з о́ р. *Ураскідку гаралі.* Беняконі Воран. *Ураскітку пахалі: пасрадзіне*

*канава палучаецца.* Індра Красл. *Ураскітку абараў.* Мярэцкія Глыб.

УРАССЫПНУ'Ю *прысл.* Разрознена, уроссып. *Урассыпную гналі лес па Ісلачы да Бярозы, а там лавілі і білі плыты.* Мсцібава Ваўк.

УРАСЦІ' *зак.* Тое ж, што і у р а д з і ц ь I, 1. ∇ *Сухі марац, а мокры май — урасце жыта, як гай.* Вузла Мядз.

УРАТАВА'ЦЬ *зак.* Зберагчы. *Грошы уратавала.* Сакаляны Сакол.

УРАТОВА'ТЭ *зак.* Выратаваць. *Мэ тэбэ ўратуімо.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *uratować* 'выратаваць, уратаваць'.

УРА'Ч *м.* Доктар. *Урачом работаіць.* Стральцы Шальч. *Не па ўрачох хадзіць, а пара ўміраць.* Новікі Гродз.; *параўн.* руск. *врач* 'тж'.

УРАЧЫ' *зак.* Сурочыць. *Баба карову ўракла.* Крынкі Крын. *Уракли маю карову — не дае малака.* Вялікія Баяры Шчуч. *Чалавека ўраклі, свінчагу якую.* Дакудава Лід. *Натта ўраклі яе, урочнік піла.* Солы Смарг. *Некалі казалі: «Ураклі дзіця, с аччу зрабілася, соллю сцiралі, а соль — свянцоная».* Рыбчына Віл.

УРВА'ЦЦА *зак.* Парвацца, разарвацца. *Як урвецца нітка, трэба прывязаць і завязаць.* Кудзялянцы Шальч.

УРВА'ЦЬ *зак. безас.* Укараціць. *Многа дня ўжэ ўрвала: цэльны час.* Гемзы Шальч.

УРЗНУ'ЦЬ *зак.* Парэзаць. *Урзні палец і залей ёдынай.* Сапоцкіна Гродз.; *параўн.* польск. *urznąć* 'адрэзаць'.

УРЛЁП, У'РЛЕП *м.* Водпуск, адпачынак. *Урлёп вы маеце асабісце.* Баброўнікі Гарад. *Мы прасілі, кап прыехаў, але атпісаў, што не дают шчэ урлепу.* Вялікі Краснік Пруж.; *параўн.* польск. *urlop* 'тж'.

УРО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Добра апрацаваны. *Трэба, кап поля было уроблена, не марнавалася.* Завельцы Астр.

УРО'ВІШЧА *н. мед.* Зрушэнне цяжарнасці; кровацячэнне. *Уровішча — як забярэменяя жанчына, і не зносіць, падымя цяшка — зроніць. У мае мамы было ўровішча, не знасіла да пары, зраніла.* Вецярэвічы Пух.

УРО'ДА *ж.* 1. Тое ж, што і у р а ж а́ й. *Як дажджы ўмерныя, то ўрода, а як сушыць, то не будзе ўроды.* Мсцібава Ваўк. *Як урода на грыбы, то цэлае вядро набярэш.* Ухвала Круп. 2. Натура, унаследаваныя рысы характару. *Вот урода чалавека якая: можа быць урода харошая і нехарошая.* Альхоўцы Лях. *Хацела, каб многа зрабіць і добра — такая я ўжо ўрода.* Слабада Мін. 3. *м.* і *ж. перан. зневаж.* Недарэка. *Ён ня пойдзіць: заві не заві — такі ўрода.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *Не паможа ні мыдла, ні вода, кеды така урода.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *uroda* 'краса, прыгажосць'.

УРО'ДЗІ *часц.* Быццам. *Уродзі фронт стаў двігацца назад.* Пярэкі В.-Дзв.; *параўн.* руск. *вроде* 'накшталт'.

УРО′ДНЫ *прым.* Ураджайны. *Уродны корч бульбы — многа бульбы пад карчом.* Азяраны Раг.

УРО′ДУ. У выразе: *Ад уроду* — ад нараджэння. *Яна такая ад уроду ў нас.* Магуны Паст.

УРОДЫ′ЦІ *зак.* Урадзіць. *Согоні уродыло жураўлін, бы насыпано.* Смаляніца Пруж.

УРО′ЗЬ, УРО′СЬ *прысл.* 1. Асобна, паасобку. *Жылі яны ўрозь.* Кураполле Паст. *Ні рабі кажды зуп урось!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. У розныя бакі. *У клышаногага ўрось ногі, ад прыроды бывая ўрось.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* руск. *врозь* 'асобна, не разам'.

УРО′К *м.*, УРО′КІ *мн. устар.* Урокі. *Як лядаштыя вочы паўзіраюцца на скаціну — то ўрок. Даўней урок замаўлялі.* Жылі Іўеў. *Даўней казалі: «Трэба ўрокі замаўляць».* Ёдупка Шальч. *На яго ўрокі напалі, яго здзівілі.* Дарава Лях. *Урокі — як хто ўракая скаціну.* Альхоўка Навагр. *«Можа, ўрокаў спужайся? — дай падалом сатру»,— так, бывала, лячылі.* Саланое Віл. *Дзіця баіцца ўрокаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Ён ад урокаў умеў варажыць.* Старыя Смільгіні Воран. *Пералётнік добра ад урокаў.* Дакудава Лід. *Даўней казалі: «Нясі пат святую ваду ад урокаў!»* Вязынка Маладз.

УРО′СКІДЗЬ *прысл.* Тое ж, што і у р а з о́ р. *Уроскідзь аралі і ў разор.* Відаўцішкі Вільн.

УРО′СКІДКУ, УРО′СКІТКУ *прысл.* Тое ж, што і у р а з о́ р. *Уроскідку гаруць, загон раскідаюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Увосень трэбо ўроскідку гараць.* Лука Нараўк. *Уроскітку на зіму аруць.* Крэва Смарг.

УРО′СТАЦЬ *зак.* Зарасці. *Там уростала крэпка травой.* Вецярэвічы Пух.

УРО′СЬ *гл.* УРО′ЗЬ

УРО′ЦЫ толькі *мн.* Тое ж, што і у р о́ к. *Даўней казалі: «Ён уроцаў баіцца».* Мярэцкія Глыб. *Карова ўроцаў ня будзіць баяцца, як з'есць места.* Валынцы В.-Дзв.

УРО′ЧЛІВЫ *прым.* Які, паводле павер'яў, часта хварэе ад урокаў. *Урочлівы баіцца ўроцаў.* Мярэцкія Глыб.

УРО′ЧНІК *м. бат.* 1. Мужчынская асобіна папараці. *Папараць дробненькую называюць урочнік.* Солы Смарг. *Урочнік падобны да папаратніка, ім курыць трэба.* Жылі Іўеў. *Трава есць урочнік.* Магуны Паст. 2. Настой урочніку. *Урочнік п'юць, як хто ўрачэ каго.* Солы Смарг.

УРО′ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і у р о́ ч л і в ы. *Ён урочны, на яго падзівіліся.* Саланое Віл.

УРО′ЧЫСКА, УРО′ЧЫСКО *н.* Урочышча. *Ячына — урочыска такое.* Тухавічы Лях. *Там урочыско такое.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* польск. *uroczysko* 'тж'.

УРО′ЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і у р а ч ы́. *Калісь казалі: «Урочыла карову ці здзівіла корову».* Альхоўцы Лях. *Благія вочы урочаць.* Солы Смарг.

УРУБА'ЦЬ *зак.* Насячы. *Ён цёскі ўрубаў.* Навасёлкі Свісл.

УРУ'БВАЦЦА *незак. буд.* Урубліваццa. *Зруб робяць, броўна ўрубваюцца адно ў другое.* Стральцы Гродз.

У РУКУ' *прысл.* Зручна. *Мне не ў руку тут рубаць.* Гемзы Шальч. ◇ *Даць у руку* — падкупіць. *Дайней, як у руку дасі, то і вылячаць.* Жылі Іўеў.

УРУ'Н *м.* Рунь. *Урун харошы ўвосень.* Дзяніскавічы Ганц.

УРУ'НА *ж.* Тое ж, што і у р у́ н. *Уруна — асеннія ўсходы, уруна харошая.* Стары Свержань Стаўб. *Як добра жыто позэлэнэе, называют уруна.* Горск Бяроз. *Уруна вэсной.* Смаляніца Пруж.

УРУНІ'ЦЦА *зак.* Добра падрасці, зазелянець. *Жыта уруніласо.* Воўкуш Ліпск.

УРУЧА'ЦЬ *незак.* Ручацца. *Я не ўручаю за гэтых людзей.* Вецярэвічы Пух.

УРУЧНУ'Ю *прысл.* Ручным спосабам. *Гоздзі ўручную рабілі велькія.* Валеўка Навагр. *Дранку ўручную дралі.* Збляны Лід. *Дайней усё рабілі ўручную.* Слабада Мін.

УРЫ'МСЦІЦЬ *зак. экспр.* Пасядзець, затрымацца; супакоіцца. *Ён ня ўрымсціць на дном месцы.* Дакудава Лід.; *парайн.* літ. *rimstùs* 'спакойны'.

УРЫ'СЛІВЫ *прым.* Мсцівы. *Урыслівы чалавек мсціць доўга.* Азяраны Раг.

УРЭ'Д *м.* Страта, шкода. *Ты урэд мне робіш! Нашто яна мая урэд рабіць?* Дэгшні Шальч. *Гарабей урэда не прыносіць.* Валеўка Навагр.; *парайн.* руск. *вред* 'тж'.

УРЭ'ДНЫ *прым.* 1. Ядавіты; шкодны. *Урэдны вуж рыжы, чорны за ногу ўкусіў.* Вялікі Краснік Пруж. *Гады ўрэдныя.* Альхоўка Навагр. *Яшчаркі ні ўрэдныя.* Солы Смарг. *Бывае віхор ўрэдны — спарыжуе.* Дарава Лях. 2. Збродлівы. *Унадзілася ўрэдна карова сюды хадзіць.* 3. Злы, сярдзіты. *Для міне Стась не быў урэдны.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Які можа сурочыць. *Калі матка атніміць ат цыцкі дзіця, а тады пажалеіць і зноў дасць, то такі чалавек будзіць урэдны для скаціны.* Вузла Мядз.; *парайн.* руск. *вредный* 'які прычыняе шкоду, небяспечны'.

УРЭ'ЗАК *м.* Невысокая пасудзіна з клёпак. *Урэзак — бочка невысокая, у ёй сякуць траву.* Тухавічы Лях.

УРЭ'ЗАЦЬ *зак.* 1. Адрэзаць чаго-н. *Урэзаць — значыць трохі; нарэзаць — многа. Гэтым нажом вы ні ўрэжыця.* Дакудава Лід. *Сала ўрэзала троха.* Альхоўцы Лях. *Хай сала кусочак урэжа. Урэш, укрой скварку!* Міратычы Карэл. *Трэба мяса ўрэзаць.* Навасёлкі Свісл. 2. Дробна нарэзаць. *Хай ён сечкі ўрэжа.* Навасёлкі Свісл. *Трэба троха сэчкі ўрэзаць.* Мсцібава Ваўк. 3. Спілаваць. *Укрэністая дзерава сасна, яе не ўрэжыш, не атдзерыш.* Лісна В.-Дзв. 4. Зрэзаць сярпом, зжаць. *Жыта — як троснік, ні яго ўрэжыш сярпом. Урэжу травы свіням, тут такая добрая трава.* Кіралі Шчуч. *Урэзалі шмат травы.* Жыдзевічы Іўеў. 5. Закалоць, зарэзаць. *Урэжаш паршука.* Баброўнікі Гарад. 6. *экспр.*

*Ударыць, выцяць, пакараць. Я табе ўрэжу па худым карку!* Лоск Валож. *Матка махрачом па попі як урэжыць!* Вузла Мядз. *Я ўрэжу гэтаму сабаку!* Беняконі Воран.

УРЭ́ЗВАЦЬ *незак.* Укарочваць; адрэзваць канцавую частку. *Карові рогі ўрэзваюць, катора прабівая каровы.* Навасёлкі Свісл.

УРЭ́МЯ *н.* 1. Прамежак часу. *Некалькі ўрэмені так маўчала.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Пара, у пару. *Трэ ва ўрэмя сабраць лён.* Альхоўцы Лях. *Марос бяз урэмя ўсё паеў.* Лісна В.-Дзв. 3. У знач. *прысл. гэ́тым урэ́мем.* У гэты час. *Кроў з носу як дала гэтым урэмем.* Солы Смарг. *За по́льскім урэ́мям* — у мінулым, пры Польшчы. *Некалі ў арміі салдаты накрываліся — гэта коц. Гэта за польскім урэмям.* Малышы Лід.; *параўн.* руск. *время* 'тж'.

УРЭ́ПІЦЦА *зак.* Тое ж, што і у л я п і ц ц а. *Урэпіцца кот за клямку, кап цябе паляруш, і атчыніць дзверы. За шчэляпі ўрэпісся і выцягніш мянька. Гусь як урэпіцца за травіну.* Саланое Віл. *Дзіця ўрэпіцца за фартух.* Рыбчына Віл.

УРЭ́Х *м. с.-г.* 1. Агрэх. *Дзе не захваціў плугам — урэх.* Вострава Маст. *Последню скібу не забярэш плугам і астанецца кусочак — урэх.* Баброўнікі Гарад. *Урэх аставіў.* Тухавічы Лях. *Урэх пакінуў на полі.* Галубы Маст. *Пагараў на ўрэх.* Паляцкішкі Воран. *Араў і ўрэх зробіў. Урэх — як ён гарэ, і яму плух выскачыць.* Навадворцы Васільк. *На ўрэхі пагараў.* Жылі Іўеў. *Урэхі пакінуў.* Пацаўшчына Дзятл. *Ён араць не ўмее, урэха пакінуў.* Альхоўцы Лях. *Дзіця яшчэ, за плух першы рас узяўся, таму ўрэхаў нарабіў.* Малахоўцы Бар. *Без урэхаў барануя. Бараной далей пашоў, не зачапіў — вось урэх.* Збляны Лід. 2. Неўзараны ўчастак; край загона. *Урэх — шырокі загон, мэтраў чатыры-п'яць.* Лука Нараўк. *Одзін ідзе борозною вол, а другі — урэхом.* Калясное Міхал.

УСА́ДЖВАЦЦА *незак.* Усоўвацца, устаўляцца, прымацоўвацца. *У калотку ўсаджваяцца букса.* Жодзішкі Смарг. *У крэсло ручкі ўсаджваліся.* Грыкені Вільн.

УСА́ДЗІБНЫ *прым.* Сядзібны. *Усадзібны вучастак засадзілі бульбай.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *усадебный* 'тж'.

УСАДЗІ́ЦЬ, ВСАДІ́ТІ *зак.* 1. Пасадзіць. *Ест такіх людзей, што не ўсадзят бульбу.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Пасадзіць пячыся. *Хлеп замеся мукой і ўсадзя ў печ на под.* Гемзы Шальч. 3. Абуць. *А тылак* [заднік] *нізенькі ў клюмпах, каб ногу ўсадзіць.* Васілевічы Гродз. 4. Застраміць. *Шчэпку ў паліц усадзіла.* Пярэкі В.-Дзв. 5. Усадзіць. *Яна ножык у сэрца ўсадзіла мужыку.* Пярэкі В.-Дзв. 6. *перан.* Патраціць. *Колькі яны туда дзенег усадзілі!* Саланое Віл. 7. Схаваць. *Грошы дэсь всадів і нэ муох найті.* Курашэва Чыж. ▽ *Усадзіў бох душу: ні ў пень, ні ў грушу* — кажуць, калі чалавек неакуратны, непрыгодны ні да якой работы, да нічога. Збляны Лід. ◇ *Всадзіць казла* — зрабіць па-

мылку пра сnаванні красён. *Снавала кросны і всадзіла казла.* Грыкені Вільн.

УСА'ДЗЬБА *ж.* Сядзіба. *Усадзьба мая, яна мне бясплатная.* Слабада Мін.

УСАЛАДЖА'ЦЬ *зак.* Зрабіцца салодкай, набыць салодкі смак. *У гарачай вадзе разводзяць муку, пастаіць яна, усаладжая.* Слабада Мін.

УСА'МІЦЬ *зак.* Добра зрабіць што-н., уладзіць. *Калі-нібуць і ўсаміш: і юшка не аткіпаецца, зварыцца добра. Не ўсаміш, як табе зрабіць, як табе зварыць.* Кіралі Шчуч.

УСА'ТЫЙ *прым.* Вусаты. *Усатый вуон.* Дзмітравічы Кам.

УСА'Ч *м.* Вусач. *Усачоў цяпер паяўляецца многа.* Быстрыца Астр.

УСВА'ІВАЦЦА *незак.* Набіраць моц, спарнець. *Дошч усваіваіцца, большым робіцца.* Беразіно Докш.

УСЕ' I *займ.* Усе. *Прадалі ўсе парасяты.* Дакудава Лід. *Усе гусі папродалі.* Вострава Маст. *Нас ведалі ўсе.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Усе цялята папрывязвай.* Дзяніскавічы Ганц. *Як мага ўсе выбягаюць глядзець.* Дарава Лях. ◊ *Выбіць да нагі — усіх.* Дарава Лях.

УСЕ' II *гл.* УСЁ

УСЕАДНО' *гл.* УСЯДНО'

УСЕГДА' *прысл.* Заўсёды. *Он ўсегда сухое сено сабірай.* Вулька Гродз.; *парайн.* руск. *всегда* 'тж'.

УСЕ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Пасядзець працяглы час. *Пагляджу, як уседзіця вы там.* Завельцы Астр. *Не уседзіла на дварэ.* Дэгшні Шальч. 2. *экспр.* Ужыцца. *Дай бабе свабоду, то і мужыку ня ўседзіць у хаце.* Збляны Лід.

УСЕ'Й *займ.* Увесь. *Усей твар у вяснушках.* Старое Сяло Зэльв.

УСЕЛЯ'К *прысл.* 1. Па-рознаму. *І кросны ткуць уселяк: адзін харашо вытча, а другі — абы-як.* Завельцы Астр. 2. У розны час. *Я уселяк устаю, але не рана.* Солы Смарг.

УСЕЛЯ'КІ *прым.* Розны, усялякі. *Уселякія зелья насушыла.* Дакудава Лід.

УСЕЛЯ'КО *прысл.* Розна, па-рознаму. *Я папякла ўсяляко.* Баброўнікі Гарад.

УСЕНАВА'ЦЬ *зак.* Нарыхтаваць сена. *Я гэты рок усенавай сена, маю.* Гемзы Шальч.

УСЕ'НАШНАЯ *ж. царк.* Ноч перад вялікаднем. *Пашла баба на ўсенашную.* Пярэкі В.-Дзв.

УСЕ'НКА *гл.* УСЕ'НЬКА

УСЕ'НКІ *мн.* Ніткападобныя атожылкі на сцябле некаторых раслін. Палік Барыс.

УСЕ'НЬКА, УСЕ'НКА *займ.* 1. Уся. *Усенька падлога закідана. Смятану ўсеньку з'еў. Ён усенькую здзёршы нагу.* Паляцкішкі Воран. *Я усенкая ў сажы.* Старыя Трокі Трак. 2. Усялякая. *Усеньку работу ён робіць.* Стральцы Шальч. 3. Усцяж усёй. *Ма-*

*ладая ў час вяселля прыплакуе, усеньку дзярэўню плача.* Парэчча Гродз. 4. Усё. *Усенька баліць: і рукі, і карак.* Новікі Гродз. *Усенька выраблялі з гэтага лёну і насілі. За дзень лётала і ў Ліду, і ў сельсавет — усенька зрабіла.* Навасёлкі Лід. *У хаці ўсенка ўбрана. Пасталэ, кош — ўсенька дзеравяны, із ліпы.* Парэчча Гродз. *Усенка начай гаварылі.* Новікі Гродз. 5. *мн.* *Усе. Усенка бубяшке ападвалі з яблыні, усенка на зямле.* Парэчча Гродз.

УСЕ́НЬКІ *займ.* 1. Увесь. *Усенькі свет зная пра гэта.* Вялікія Баяры Шчуч. *Спацёў ён, усенькі ў рагах.* Кудзялянцы Шальч. *Усенькі выпхнулі гной.* Жылі Іўеў. *Усенькі спухшы.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён усенькі трасецца. Усенькі быў сіні. Ён усенькі ў крыві.* Паляцкішкі Воран. *Дзе ён быў? — Прамок усенькі!* Жылі Іўеў. 2. Цэлы, увесь. *Усенькі дзень там раблю.* Старыя Трокі Трак. 3. Усякі. *Яны ўсенькія збіраюць грыбэ.* Новікі Гродз. *Усенькія балезні бываяць.* Кудзялянцы Шальч. 4. Усе. *Усенькія прыехалі п назат.* Старыя Трокі Трак. *Усенькія міне зналі.* Новікі Гродз. *Дажджом збіралі ягады, то пацяклі ўсенькія.* Парэчча Гродз. *Гэта ўсенькія манашкаў будынкі.* Васілевічы Гродз.

УСЕ́НЬКО, УСЭ́НЬКО *займ.* Усё. *Я ўсенько зраблю ў мамэнт. Як пасеш каровы, усенько відзіш. Думаеця, усенько пачуеця?* Каўняны Гродз. *Даўней усенько было іначай. Усенько ў ксёнжицы напісано.* Новікі Гродз. *Усенько аднесі, што ўзяў.* Скебелева Ліпск. *Вырубая, цярэбіць усенько драбязо.* Паляцкішкі Воран. *Усенько продаюць, чым труць* [труціць] *трэба.* Каўняны Гродз. *Лакомы да ўсенькага.* Новікі Гродз. *Коб нэ ройілі мухі, усэнько закрытэ. У кубёл сыпалі усэнько. Муж усэнько рабіў.* Смаляніца Пруж.

УСЕНЮ́ТКО *займ.* Поўнасцю ўсё. *Ці то ўспомніш усенютко, як было?* Васілевічы Гродз.

УСЕ́СЦІ *зак.* Апусціцца ніжэй у зямлю. *Ідуць слухі, што ўсеў касцёл.* Саланое Віл.

УСЕ́ЯЦЦА *зак.* Закончыць сяўбу. *Пака ўсеюцца, і бульбу трэба садзіць.* Саланое Віл.

УСЁ, УСЕ, ВСЭ *займ.* 1. Усё. *Мама ўсё ей і ей купляя, і нам трэба.* Старыя Смільгіні Воран. *Бывая, есць вучоны, каторы зная тое, што вывучыць — і ўсё. Яны з'елі ўсё.* Солы Смарг. *Ён умець умее усе рабіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Мого бацькі бацька умер, одна жэншчына забрала усе, што было. У мене усе е, што нада.* Малыя Аўцюкі Калінк. *У мене усе е: і вілкі, і міскі.* Азяраны Раг. *Яна прыдзе, усе мне раскажа.* Кузьмічы Люб. *Всэ віетэ спісалі.* Смаляніца Пруж. 2. Заўсёды, увесь час. *Мніе почті всэ голова боліт; нэ всэ в дому бывае.* Курашэва Чыж. 3. Скончана, канец. *Муха ўлезя ў павучыння — і ўсё.* Солы Смарг. ◇ *Усё чыста* — як ёсць усё, поўнасцю. *Усё чыста веціp сарвець.* Пярэкі В.-Дзв. *Усё чыста там ёсць. Усё чыста рабёнак тады робіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Усё адно́* — усё роўна. *Усё адно цябе возь-*

*муць у саўхоз.* Ахрэмаўцы Брасл. *Усе адно ні добрэ.* Пукава Кам.

УСЁНАК *м. рыб.* Адтуліна, уваход у рыбалоўную снасць. *Буч, а ў бучу — усёнак, рак заходзіць туды, па бучу ходзіць.* Лісна В.-Дзв.

УСІ'НЫЯ ЛА'ПКІ толькі *мн. бат.* Гусялапка. Быстрыца Астр.

УСІТАВА'ТЫ *прым.* Трухлявы, паточаны. *Дзераво ўсітавато: много дзірак, яно нездароваё, гнілаватоё.* Альхоўцы Лях. *Трухляваё дзераво — гэто усітовато дзераво.* Малахоўцы Бар.

УСІТАВА'ЦЬ *зак.* Загнісціся, затрухлявець. *Дзераво ўсітавалосё, як яно стало гнілаватоё, дзіркі е.* Альхоўцы Лях.

УСКАБЛІ'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Лінуць, секануць (пра дождж). *Папалася пад дош, як ускабліў дош — ні рубіначкі сухой!* Курaполле Паст. *Як ускобліць дождж, так па калена стоіш у вадзе.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *skaĩbti* 'жлукціць'.

УСКАЛО'ЦЬ *зак.* Прабіць, пракалоць. *Нагу ўскалоў на цвек.* Магуны Паст. *Руку ўскалола на лёне.* Быстрыца Астр.

УСКАЛУПНУ'ЦЬ, УСКАЛЫПНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Разараць, раскапаць барозны. *Ускалупнець кілька баразён і выбіраіць бульбу. Некалькі баразён ускалыпнець мне Віцька віламі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УСКА'ПУВАЦЦА *незак.* Ускопвацца. *Ускапуецца гароччык і садзім цвяты.* Азяраны Раг.

УСКАРМЁНКІ *мн.* ◊ *Браць на ўскармёнкі* — харчаваць, карміць. *Яна племянніцу брала на ўскармёнкі.* Мішневічы Шум.

УСКЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Убегчы, ускочыць. *Ускечыла ў хату — і стою.* Смаляніца Пруж.

УСКІ'Д *прысл. с.-г.* У адзін загон. *Ускід пашуць гарот.* Мішневічы Шум.

УСКІДА'ЦЬ *незак.* ◊ *Ускідаць на вочы* — упікаць, папракаць, кпіць. *Ёй людзі ўскідаюць на вочы: «Во твая матка вуньдзіка ідзець!»* Саланое Віл. *Што ты ўскідаеш мне ўсё на вочы?!* Крэва Смарг.

УСКІ'ДКУ, УСКІ'ТКУ *прысл.* Тое ж, што і у с к і д. *Ускідку і ўразору аралі.* Валынцы В.-Дзв. *Ускітку арэць: ад сярэдзіны загона да краёў.* Малькуны Ігн.

УСКІ'НУЦЬ *зак.* Укінуць. *От сядзіць, а не ўскініць палку дроў у печ.* Якубова Рас.

У СКЛА'Д *прысл.* Тое ж, што і у с к і д. *У склад гаралі.* Беняконі Воран. *У склад — кругом ганяць ад сярэдняй разоры.* Пацаўшчына Дзятл. *Аралі ў склад, у склады і ўроскідзь.* Відаўцішкі Вільн. *У склад араць, пахаць.* Глівін Барыс.

УСКЛАДА'ЦЦА *незак.* 1. Насаджвацца. *На шпенчык жалеска ўскладаецца.* Завельцы Астр. 2. Надзявацца. *Маладой герлянда і вэлін ускладаецца.* Завельцы Астр.

УСКЛАДА'ЦЬ *незак.* Надзяваць адно на адно. *Станік на кашулю ускладалі.* Завельцы Астр.

УСКО'РАСЦІ *прысл.* Неўзабаве. *Ускорасці пасля таго і памёр.* Ухвала Круп.; *параўн.* руск. *вскорости* 'тж'.

УСКО'РСЫ толькі *мн.* Галоўкі ў санях. *Ускорсы — загнёныя часткі палазоў.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *skérsiai* 'тж'. (Атлас літоўскай мовы, I, 102—103).

УСКО'РЫЦЬ *зак.* Паскорыць. *Трэба ўскорыць работу.* Чычалі Швянч.

УСКО'ЧЫЦЬ *зак. 1.* Праваліцца ўглыбіню. *Усе ішлі па кочках, а адна баба ступіла на зялёную травічку і ўскочыла ў вакно* [прорва ў балоце]. Вузла Мядз. 2. Уплыць у снасць. *З адным крылом кулёк дзелаеш, можа, рыба ўскочыць; гуляе, але ня можа выйці.* Збляны Лід. 3. *мед.* З'явіцца, выступіць на целе. *Ускочыла прышчва.* Магуны Паст. *Ускочылі панхіры на руках.* Дэгшні Шальч. ◇ *Ускóчыць казёл* — зрабіць памылку пры снаванні красён. *Часам казёл ускочыць, як снуеш. Ускочыў казёл, як снавала.* Грыкені Вільн. *Ускочыць з дыму ды ў вагонь* — з аднаго дрэннага становішча апынуцца ў другім — горшым. *Як блага, а зробіш яшчэ горш, то кажуць: «Вот ускочыў з дыму ды у вагонь!»* Азяраны Раг.

УСКРАЗНУ'Ю *прысл.* Скрозь. *І ачысцілася неба ўскразную.* Месянцы Брасл.

УСКРА'Й *прыназ.* з *род.* Каля. *Ноч цёмна, а мы паўзём ускрай лесу.* Паперня Мін.

УСКРУ'ТАЦЬ *зак. экспр.* Устаць. *Позна я ўскрутала — яшчэ печ не паліла.* Рагулішкі Даўг.

УСКРЫВА'ЦЦА *незак.* Рушыцца (пра крыгалом на рэчках). *Ускрываецца рака, крыгі ідуць.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *вскрываться* 'тж'.

УСКРЫ'ТЫ *дзеепрым.* Патаемны. *Пашлі ўскрытай дарогай.* Саланое Віл.

УСКРЫ'ЦЯ *н.* Анатаміраванне. *Ускрыця рабілі, як памёр.* Лайпушкі Ігн.

УСКУБНУ'ЦЬ *зак.* Скубануць. *Травы якой карова ўскубнула — і зразу яе абдуло.* Ракаўскія Швянч.

УСКУ'БСЦЬ, УСКУ'ПСЦЬ *зак. перан.* Нарваць, сабраць. *Ці ўскубла ты дзе травы? Нада і мне схадзіць дзе травы ўскупсць.* Груздава Паст.

УСКУ'РАЦЬ *зак. экспр.* Паспець, змагчы ўсё зрабіць, управіцца. *Ці я ўскураю: падлогу памыць, цябе пакупаць, паўзуны памыць?!* Альхоўцы Лях. 2. Адолець, перамагчы, асіліць, справіцца. *З Зосяю сваей і я ні ўскураю.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *wskórać* 'дабіцца, дамагчыся'.

УСКУ'РЫЦЬ *зак.* Трапіць у час. *Ускурыць на работу нада.* Дакудава Лід.

УСЛА'ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Праслаўлены. *Услаўлены быў чалавек.* Гемзы Шальч.

УСЛЕ'Д *прысл.* Адразу, у той жа час. *Ён і забудзя ўслед* Дзяніскавічы Ганц.

УСЛО'ВІЦЬ *зак.* Дамовіць. *Условілі пастуха толькі на гэты гот.* Глівін Барыс.; *парайн.* руск. *условиться* 'дамовіцца'.

УСЛО'Н *м.* Зэдаль, услон. *Услон паставіць і пасядуць.* Саланое Віл. *Падсунь услон бліжэй да печы — пагрэйся!* Мачаск Бярэз. *Сядай на ўслон!* Беразіно Докш. *На ўслоне ляжыць.* Альхоўцы Лях. *На ўслоне сядзім.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *І ўслон і зэдаль — адзінакава.* Вузла Мядз.

УСЛО'НІМ *м.* Услончык. *Услонім — маленькая лавачка на чатырох ножках.* Солы Смарг.

УСЛО'ННЕ *н.* Схіл гары. *На ўслонні ягады растуць.* Лісна В.-Дзв.

УСЛУ'ЖНЫ *прым.* Услужлівы. *Мой сын харошы; кап вы ведалі, які ён услужны.* Дакудава Лід. *Услужна дзяўчына.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Услужна, шчырая дзяўчына була.* Парэчча Гродз. *Ён услужны чалавек.* Збляны Астр.

УСЛУ'ХА'ЦЦА, УСЛУХА'ЦІСА *зак.* і *незак.* Паслухаць, прыслухоўвацца. *Услу́хайцісо, што я вам скажу.* Баброўнікі Гарад. *Я ўслуха́юся, што яны гаварылі.* Вострава Маст. *Я слухала, услуха́лася.* Альхоўка Навагр. *Я не ўслухаюся на гэты цільвізар, што я маю час час услухацца.* Новікі Гродз. *Я ўжэ і на зубы нэ буду ўслухаціса* [на зубны боль]. Смаляніца Пруж.

УСЛЫ'Х *прысл.* Услых. *Яна гаварыла ўслых.* Альхоўцы Лях.

УСМА'ГНУЦЬ *гл.* УСМЯ'ГНУЦЬ II

УСМА'ЖЫЦЦА *зак.* Падсмажыцца. *Усмажылася бульба, аж сухаркі ест.* Гемзы Шальч. *Усмажылася качка.* Беразіно Докш.

УСМАКАВА'ЦЦА *зак.* Асмакавацца. *Цялюк выпіў рас — усмакаваўса і сам стаў піць. Пачакайця, усмакавацца нада.* Парэчча Гродз.

УСМА'Л *м.* Смаляк. *Усмал добра гарыць.* Вецярэвічы Пух.

УСМІРА'ЦЬ *незак.* Мірыць, уціхамірваць, супакойваць. *Я іх усміраю, яны не ладзяць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *усмирять* 'тж'.

УСМЯ'ГНУЦЬ I *зак.* Утушыцца. *Каша ў печы ўсмягніць.* Валынцы В.-Дзв.

УСМЯ'ГНУЦЬ II, УСМА'ГНУЦЬ *зак.* Пасмягнуць. *І ты усмяг.* Саланое Віл. *Усмяглі, а ціпер п'юць ваду.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яна хворая — губкі усмаглі.* Кузьмічы Люб.

УСО'КІ *прым.* Высокі. *Ушула усокая, дзве ушулі паставілі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

УСО'КО *прысл.* Высока. *Падымайце усоко!* Кузьмічы Люб.

УСО'ЎВАЦЬ *незак.* Ставіць. *Гаршке ўсоўвай у печ.* Збляны Лід.

УСО'ХНУЦЬ *зак.* 1. Стаць цвёрдым, перасохнуць. *Мыла так усохла, што не размыліш яго.* Кіралі Шчуч. 2. Засохнуць, загінуць (пра дрэва). *Наша груша можа ўся ўсохнуць.* Кіралі Шчуч.

УСПАКАІ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Ну, успакаіўся?* Паляцкішкі Воран.

УСПАМАГА'ЦЬ *незак.* Аказваць дапамогу, памагаць. *Яна мяне ўспамагала.* Парэчча Гродз.

УСПА'СЦІ *зак. экспр.* Абурыцца, аблаяць. *Я на Матруну ўспала ды ўспала, выругала.* Вецярэвічы Пух.

УСПАЎЗЦІ' *зак. экспр.* Устаць, падняцца. *Успаўзець с пасцелі, як свіня, і за стол садзіцца. Ты ш памый ручкі, а тады еш!* Кураполле Паст.

УСПА'ЦЬ *зак.* У выразе: *Не ўспáць* — не заснуць, не магчы спаць. *Дзе клапы, там не ўспіш — клоп усюды далезіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

УСПЕ'ЦЬ *зак.* Трапіць своечасова, паспець. *Калі вы ўспеіце на аўтобус?! — Ужо скора атходзіць.* Валынцы В.-Дзв. ◇ *Успéць с кóзамі на торх* — спяшацца, мець мала часу. *Яшчэ мы ўспеім с козамі на торх!* Парэчча Гродз.

УСПІВА'ЦЬ *незак. царк.* Адпяваць. *Успіваюць па памёршаму, як вязуць пакойніка, то ўспіваюць.* Мярэцкія Глыб.

УСПІРГНУ'ЦЬ *зак.* Піхнуць на каго-н. Вялікія Нястанавічы Лаг.

УСПЛА'ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Аднесены вадой, плывучы. *Усплаўленую траву аднесла ад берага.* Альхоўцы Лях.

УСПЛЫ'СЦЬ *зак.* Наплыць на што-н. *Як усплыў на вір, то вада пацягніць.* Вузла Мядз.

УСПО'МНІЦЬ *зак.* Прыпомніць, успомніць. *Можа пабыўшы ўспомнім.* Курапoлле Паст. *Папробуй успомніць!* Ахрэмаўцы Брасл. *Ні ўспомніш усяго!* Альхоўка Навагр. *Сіводня я ўспомніла свякроўку.* Пасіене Лудз. *Чорт іх успомня!* Гемзы Шальч. *Ноччу ня сплю, усё ўспомню: як даўней рабілі, як ноччу малацілі.* Слабада Мін. *Ці то ўспомніш усенютко, як было.* Васілевічы Гродз. ∇ *Успомні той дзень, у каторы было раждзяство — і ня ўвідзіш змяю ў лесі.* Лісна В.-Дзв.

УСПО'Т *прысл.* Уніз. *Аснова кроснаў ідзе то ўверх, то ўспот. Зявы — то ўверх, то ўспот.* Солы Смарг.

УСПО'ХНУЦЬ *зак.* Успухнуць. *Руку зажала — гэдак успохла.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

УСПРАВЯДЛЯ'ЦЦА *незак.* Апраўдвацца. *Яна пачала ўсправядляцца.* Граўжышкі Ашм. *Пад хатаю стаяў і ўсправядляўся.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *usprawiedliwić się* 'тж'.

УСПУ'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і у с п ó х н у ц ь. *Калена ўспухла.* Дакудава Лід.

У'СТА *ж.*, У'СТЫ, У'СТА *мн.* Вусны, рот. *Як адна — уста, а так — усты.* Быстрыца Астр. *Уста баляць.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *usta* 'тж'.

УСТА'ВА *ж.* Закон. *Яна сваей уставы не зробіць.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *ustawa* 'тж'.

УСТАВА'ЦЬ *незак.* Паднімацца з пасцелі пасля сну. *Я ўселяк устаю, але не рана.* Солы Смарг. *Ты ўжо ўстаеш?* Паляцкішкі Воран. *Стасюк, уставай!* Старыя Смільгіні Воран. *Уставайця есці!* Навасёлкі Свісл. *Яна рана ўстае.* Ёдупка Шальч. *Ні ў сваё*

*врэмя ўставала.* Слабада Мін. *І мусіла я ўставаць.* Саланое Віл. ∇ *Хто рана ўстаець, таму работа спорыцца.* Вузла Мядз.

УСТА'ВІЦЬ *зак.* Прымацаваць; уставіць. *Ён жэбры ўставіць у кошык.* Чычалі Швянч. *Калодачкі ставілі на дрэва, туды вашчыну сухую ўставяць.* Вузла Мядз. *Устаў дзверы!* Малышы Лід.

УСТАКА'НІЦЦА *зак. экспр.* Утаймавацца, супакоіцца. *Ты ўстаканься?!* Стральцы Гродз.

УСТАЛЯВА'ЦЦА *зак.* Наладзіцца (пра надвор'е). *Можа, усталюецца пагода.* Рудня Чэрв.

УСТАНАЎЛЁНЫ *дзеепрым.* Праведзены. *Яшчэ тут не ўстанаўлёны газ.* Валынцы В.-Дзв.

УСТАНА'ЎЛІВАЦЬ *незак.* Добра ўплываць, нармалізаваць. *Грэчка ўстанаўлівая жалудак.* Альхоўцы Лях.

УСТАРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Састарыцца. *Цяпер мы ўстарэлі, і хадзіць цяшка.* Валынцы В.-Дзв. 2. Вырасці, разрасціся. *Як сад устарэя, будзя яблык многа.* Альхоўка Навагр.

УСТА'ЎКА *ж.* 1. Прошва. *Зрабіла ўжо адну ўстаўку ў падушку.* Груздава Паст. *Эта ўстаўкі да наўлечак. Устаўляюць у наўлечкі ўстаўкі.* Старыя Трокі Трак. 2. Устаўка. *Для красаты ўстаўлялі ўстаўкі з другога матэр'ялу ў сукенкі.* Солы Смарг.

УСТАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што у с а́ д ж в а ц ц а. *У камені выдлублана, там парпліца устаўляецца.* Солы Смарг. *У навоі дзюркі чатыры і ўстаўляецца кіёк, каб навой не круціўся.* Завельцы Астр. *У ўторы ўстаўляіцца дно.* Солы Смарг. *Ніжні камень устаўляецца ў жорны.* Парэчча Гродз. *Жэбры ўстаўляюцца ў кошык.* Грыкені Вільн. 2. *ткац.* Уцягвацца. *У набіліцы ўстаўлялася такоя сіта, праз якоя ўстаўляліся ніткі.* Слабада Мін.

УСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. *незак.* да у с т а́ в і ц ь. *У корань* [вулей] *устаўлялі лісток воску.* Саланое Віл. *Дзет, куды лучыну ўстаўлялі.* Мыто Лід. *Рабілі сеткі, як куль, туды душкі ўстаўлялі.* Вузла Мядз. *Устаўлялі палукашак у воз.* Васілевічы Гродз. *Набельніцы, куды ўстаўляеш бёрда.* Завельцы Астр. *Жэбры ўстаўляюць і аплітаюць.* Завельцы Астр. *Шпоны пры сядле — ногі ўстаўляць.* Завельцы Астр. 2. *буд.* Вертыкальна ставіць. *Адрыні робяць: вянок зруба кладуць, слупы ўстаўляюць.* Завельцы Астр. 3. *крав.* Ушываць. *Даўней цвіклі ўстаўлялі ў кашулі.* Слабада Мін. *Кліны ўстаўлялі пат пахі.* Дружба Мін. *Для красаты ўстаўлялі ўстаўкі з другога матэрыялу.* Солы Смарг. *Выразалі кантаваты кусочак і ўстаўлялі пат пахай.* Рагулішкі Даўг. 4. *мед.* Аднаўляць які-н. орган шляхам аперацыі. *Ей гардзель устаўлялі.* Кудзялянцы Шальч. 5. Ставіць. *Яна мне ўстаўляла банкі.* Саланое Віл.

УСТА'ЦЦА *зак. безас.* да у с т а в а́ ц ь. *Нешта ўсталася рана.* Валынцы В.-Дзв.

УСТА'ЦЬ І *зак.* 1. *зак.* да у с т а в а́ ц ь. *Можна і а трэцім пятуху устаць.* Кальнішкі Шальч. *Найраней устану, раней за другіх, і іду па грыбы.* Завельцы Астр. *Устала, умылася і пашла*

*на работу. Кладзесся спаць і не знаеш, ці заўтра ўстанеш.* Дарава Лях. *Я дык устала да сонца.* Груздава Паст. *Нарано не магу ўстаць.* Валеўка Навагр. *Устань з лошку, прыбуй ношку!* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Як красату дзялілі, я спала, а як шчасце і долю — я і ўстала. Так гавораць пра шчаслівую.* Ухвала Круп. 2. Падняцца з сядзення, стаць. *Вот сяджу, устану — ногі дрыжаць.* Дружба Мін. 3. *астр.* Падняцца над гарызонтам, узысці. *Як слонко ўстане, тогдэ ідуць на работу.* Васілевічы Гродз.

УСТА'ЦЬ II *зак.* Змарыцца, утаміцца. *Я не ўстала седзячы.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* руск. *устать* 'тж'.

УСТО'РЧ *прысл.* Старчма, старчком. *Упала ўсторч галавой.* Мсцібава Ваўк.

УСТО'ЯЦЬ *зак.* Устаяць, вытрымаць. *Ёсць сівы мох, калі ім падаслаць у хлеве, то карова не устоіць.* Вузла Мядз.

УСТРАЧА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. ∇ *Устрачаюць чалавека па адзёжы, а выпушчаюць — па ўму.* Ахрэмаўцы Брасл. *Па адзежы устрачаюць, а па уму праважаюць.* Вузла Мядз.; *парайн.* руск. *встречать* 'тж'.

УСТРА'ШЫЦЬ *зак.* Напалохаць, застрашыць. *Я ўстрашыла яе, што мне благі сон прысніўся.* Саланое Віл.

УСТРАШЭ'ЦЬ *зак.* Напалохацца, настрашыцца. *Як устрашэў ён, то як пераходзіць мост, то крычыць.* Беразіно Докш.

УСТРЕКА'ЦЬ *незак.* Сустракацца. *Я не ўстрекала з вамі.* Замошша Брасл.

УСТРО'ІЦЬ *зак.* 1. Упарадкаваць. *Нам далі хату, мы ўсё устроілі самі.* Саланое Віл. 2. Устроіць, аддаць куды-н. *Яны п яго ўстроілі вучыцца.* Груздава Паст. *Мы цябе там устроім на работу.* Кураполле Паст. 3. Наладзіць (пра сямейнае жыццё). *Ці пупала вам шчасця ўстроіць жызнь? — Ня ўстроіш жызнь з гэткім мужам.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *устроить* 'тж'.

УСТРО'ЙВАЦЬ *незак.* Прымаць, уладкоўваць. *У нас тады не ўстройвалі на работу.* Любішчыцы Івац.

УСТРУ'ГАВІНА *ж.* Сухое месца сярод балота. *Нашлі на днэй уступгавіні многа ягат.* Лісна В.-Дзв.

УСТРУ'ХА *ж.* Узрушэнне, хваляванне, клопат. *Займей мужыка, то будзе табе ўструха.* Вецярэвічы Пух.

УСТРЫКНУ'ЦЬ *зак. Апячы* (пра крапіву). *Далонь свярбіць — устрыкнула крапіва, ногі абстрыкала.* Ёдлавічы Брасл.

УСТРЭ'НУЦЬ *зак. перан.* Напаткаць. *Ой, нівядома, як шчасця чалавека ўстрэня.* Квачы Нясв.

УСТРЭ'ЦІЦЦА *зак.* Спаткацца, сустрэцца. *Устрэціцца, галаву апусціць — і ні слова.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Мы устрэцімся.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *встретиться* 'тж'.

УСТРЭ'ЧАННЕ *н. рэліг.* Свята, якое адзначаецца другога лютага па ст. стылю. *Устрэчанне другога лютага спраўляюць.* Ухвала Круп.

УСТРЭЧА'ЦЦА *незак.* да у с т р э́ ц і ц ц а. *Прыходзілось з*

*лосямі ўстрэчацца.* Сонічы Гродз.; *парайн.* руск. *встречаться* 'тж'.

УСТУДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пазябнуць, змерзнуць. *Рукі ўстудзелі.* Малахоўцы Бар.

УСТУ'ЖКА *ж.* Тасёмка, шнурок, стужка. *На ўстужку крыжык вешалі.* Мішневічы Шум.

УСТУПА'ЦЦА *незак.* Абувацца. *Ты хутчэй уступайся ў чаравікі!* Каўняны Гродз.

УСТУПА'ЦЬ *незак.* Не супярэчыць, згаджацца, пакарацца. *Я яму уступаю, бо так мы не жылі п.* Дэгшні Шальч. *Ён каждаму ўступаіць.* Кураполле Паст.

УСТУ'ПАЧКІ *мн. памянш.* да у с т у́ п к і. *Уступачкі шылі з палатна.* Старое Сяло Зэльв.

УСТУПІ'ЦЦА, УСТУПЫ'ТЫСЬ *зак.* да у с т у п а́ ц ц а. *Дай мне ў што ўступіцца, ды пайду.* Гемзы Шальч. *А ў што ўступіцца? — У сандале.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дайней казалі: «Уступлюся ў цюпы, у папуці».* Навасёлкі Свісл. *Уступіся ў свае башмаке і паглядзі гусей! Уступіся ў сандалы і ідзі! Я ўступлюся ў тапкі і пайду.* Кіралі Шчуч. *Уступіцца ў боты.* Стральцы Гродз. *Уступіся ў боты і ідзі!* Ракаўскія Швянч. *Уступіўся басанош.* Быстрыца Астр. *Уступіўся ў боты без наска, бес парцянкі.* Дакудава Лід. *Уступілася ў чаравікі.* Пацаўшчына Дзятл. *Уступіліся ў клумпі.* Старыя Смільгіні Воран. *Такыі чырывыкы, уступывся і пошов.* Сіманавічы Драг.

УСТУПІ'ЦЬ *зак.* 1. Ступіць, шагнуць. *І толькі я ўступіў на масток, як раптам — бух! І боляй я ўжо нічога і не пачуў.* Азаркі-Пудавінка Мядз. 2. Наступіць. *Уступіў на міну.* Пярэкі В.-Дзв.

УСТУ'ПКІ *мн.* Сандалі, тапці. *Дзе я кінуў свае ўступкі? Трэба надзець.* Парэчча Гродз.

УСТУРЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Разбудзіць, падняць. *Сына яшчэ да дожджу ўстурыла.* Валынцы В-Дзв.

УСТЫ' *прым.* Густы. *Устая воўна.* Старыя Смільгіні Воран.

УСТЫ'ГНУЦЬ *зак.* 1. Застыць, зацвярдзець. *Так масла ўстыгла, што косць, у студню апушчана было.* Жылі Іўеў. 2. Прастудзіцца, пазябнуць. *Я ўстыгла на холадзе.* Жылі Іўеў.

УСТЫ'Д *м.* Сорам. *Устыда німа ў цябе!* Міратычы Карэл.

УСТЫДА'ЦЦА *незак.* Саромецца. *Цяпер устыдаюцца маладыя па-беларуску гаварыць.* Мсцібава Ваўк.

УСТЫДЗІ'ЦЬ *незак.* Сароміць. *Устыдзілі яго.* Мсцібава Ваўк.

УСТЫДЛІ'ВЫ *прым.* Сарамлівы. *Ён устыдлівы такі чалавек.* Калясное Міхал.; *парайн.* польск. *wstyd* 'сорам', *wstydzić się* 'саромецца', *wstydzić* 'сароміць', *wstydliwy* 'сарамлівы'.

УСТЫ'ЦЬ *зак.* Пазябнуць. *Устыла нага, рука, ці сама ўстыла ўся.* Міратычы Карэл. *Паехала, было холадна — і ўстыла.* Дакудава Лід. *Мы ходзім, нам цёпла, а вы ўстылі.* Збляны Лід. *Мая скура ўстыла.* Альхоўка Навагр. ▽ *Кап ты ўстыў!* — згінуў, памёр. Рудня Астравітая Чэрв.

УСТЭ'Ч *прысл.* Назад. *Тое было два лет устэч.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *wstecz* 'тж'.

УСУВА'ЦЦА *незак.* Усоўвацца, устаўляцца. *А ў тую трубку чугунную ўстаўляецца ось, а ў прыгалоўнік усуваюцца ручкі.* Чычалі Швянч.

УСУВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і у в а д з і ц ь 1. *Усуваюць па пары нітачкі ў берда.* Солы Смарг.

УСУ'НУЦЦА *зак. экспр.* Увайсці. *Аччыніла дзверы, і яна ўжо ўсунулася.* Груздава Паст.

УСУ'НУЦЬ *зак.* Укласці, змясціць што-н. у чым-н. *Ён усунуў рукі ў кішэні і стаіць.* Вузла Мядз. ◊ *Усу́нуць нос* — унікнуць, умяшацца ў чужыя справы; пацікавіцца. *Яшчэ і табе нада было усунуць нос!* Груздава Паст. *Яна ўжэ як прыле́ціць — сразу ў яшчык нос усуніць.* Малышы Лід.

УСХАДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Разбушавацца, падняцца (пра стыхійныя прыродныя з'явы). *Вецер усхадзіўся, натта пясок нясе ў хату.* Кіралі Шчуч. *Усхадзілася бура.* Альхоўка Навагр. *Усхадзіўся вецер, як сумашэтшы.* Мсцібава Ваўк. 2. Раз'юшыцца разз лавацца. *Чаго ты ўсхадзіўся так?!* Альхоўцы Лях.

УСХВАЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Схамянуцца, падняцца. *Усхваціўся бацька — аж гэта воўк.* Паплавы Бярэз. 2. Тое ж, што і у с к о́ ч ы ц ь 3. *Гузак усхваціўся на руцэ.* Бакшты Іўеў.

УСХЛУ'ПЦІ *зак.* Успыхнуць, загарэцца. *Быў пажар у сяле каля нашага дома — вот мог усхлупці і наш дом.* Азяраны Раг.

УСХЛЫПА'ЦЬ *незак.* да у с х л у́ п ц і. *Дом пачаў усхлыпаць.* Азяраны Раг.

УСХНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у с о́ х н у ц ь 2. *Усхло дзерава, і другое мажэ там усхнуць.* Дзяніскавічы Ганц.

УСХО'Д, УСХО'Т *м.* 1. Час з'яўлення сонца над гарызонтам. *Дайней ад усхода да захода рабіў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бывала, як пойдзеш жаць, то ад усходу да заходу сонца.* Вузла Мядз. 2. Напрамак свету, супрацьлеглы захаду. *Неба ачышчаецца ад усходу на запад.* Месянцы Брасл. 3. У выразе: *На ўсхо́т со́нца* — раніцай. *На ўсход сонца схапілі немцы мушчын.* Вецярэвічы Пух.

УСХО'ДАМ *прысл.* Перыядычна, праз некаторы прамежак часу. *Інагда ўсходам спіна баліць мне: не баліць — і забаліць.* Ахрэмаўцы Брасл.

УСХО'ДЗІЦЬ *незак.* Паднімацца над гарызонтам. *Ранішняя заранка, яна ўсходзіць як і сонца.* Завельцы Астр. *Заранка вечарам першая ўсходзіць.* Солы Смарг.

УСХО'ДЫ толькі *мн. с.-г.* Усходы. *Коні ўсходы скачалі.* Валынцы В.-Дзв.

УСХО'ЖЫ, УСХО'ЖЫЙ *прым.* Які здольны прарасці, усходжы. *Семена ўсхожыя, жыта ўсхожая.* Мсцібава Ваўк. *Ідзець у рост, усхожый ячмень.* Мішневічы Шум.

УСХО'ЛЫ *прым.* Тое ж, што і у с х о́ ж ы. *Усхолая жыта.*

Янова Рас. *Усхолая зернета.* Валынцы В.-Дзв. *Расток то расток, алі ці ўсхолы ён?* Ахрэмаўцы Брасл.

УСХО'ЦЦЫ *толькі мн.* Прыступкі, ганак. *Пачакай мяне на ўсхоццах.* Асавец Віл.; *параўн.* польск. *schody* 'усходы'.

УСЦЕ'ШЫЦЦА *зак.* Абрадавацца, атрымаць задавальненне. *Усцешылася сваця, як сустрэлася са мной.* Кураполле Паст.

УСЦЁНШ *прысл.* Усцяж. *Усцёнш ішоў адной дарогаю.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *wciąż* 'пастаянна, заўсёды'.

УСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Засцілаць. *Не хочам і пол усцілаць палавікамі.* Вострава Маст.

УСЦІ'ЛКА *ж.* Вусцілка ў абутку. Грыкені Вільн.

УСЦІ'ПНУЦЦА *зак.* Зашпіліцца на ўсе гузікі, зацягнуцца (пра адзенне, якое прылягае да таліі). *Усціпніцца шнуроўкай, і красіва ідзець.* Ухвала Круп.

УСЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Усцягваць. *І здаецца, высока вуллі ўсцягвалі, а мядзвецъ патом узлезя і сцягня.* Грабёнка Чэрв.

УСЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* да у с ц я́ г в а ц ь. *Вяроўкай усцягніць на дзерава другога чалавека, і стаўку снімаюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УСЦЯ'Ж *прысл.* Бесперапынна, увесь час. *Надаелі яны, трымкаючы ўсцяж.* Лоск Валож.

УСЦЯРА' *ж. заал.* Падлешчык. *Усцяра, як лешч, такі выгляд мая.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *gusterà,* польск. *guszczora,* ням. *Güster* 'тж'.

УСЦЯ'Т *прысл.* Уздоўж. *Верандачка ўсцят хаты.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УСЫ' *мн.* Асцюкі. *Смалацілі ячмень, не апойсавалі — адны усы.* Рагулішкі Даўг.

УСЫВА'ЦЦА *незак.* Усоўвацца. *Дошчачкі ўсываюцца ў ніткі.* Стральцы Гродз.

УСЫНАВІ'ЦЬ *зак.* Усынавіць. *Усынавілі яго, узялі за сына.* Лісна В.-Дзв.

УСЫНА'ЦЬ *незак.* Усыпляць. *Яго ўсыналі, як апарацыю рабілі.* Івашкаўцы Смарг.

УСЫ'ПА *ж.* Насыпка на падушку. *Усыпа куплена была.* Баброўнікі Гарад.

УСЫПА'ЦЦА *незак.* Высыпацца. *Мак-відзюк, як паспее, усыпаецца.* Кузьмічы Люб.

УСЫ'ПАЦЬ *зак.* 1. Насыпаць. *Вядро грэччыны ўсыпала і дала. Усыпала гарнец мукі і дала.* Вузла Мядз. 2. Пасаліць; змяшаць адно з адным для прыгатавання стравы. *Усыпаць солі нада, усыпця шчыпотку солі ў малако.* Солы Смарг. *Бывала, у квасна малако усыпіш грычану муку — і добра пасёрбаць.* Кальнішкі Шальч. 3. Пасыпаць. *Курам усыплю зернят.* Дзяніскавічы Ганц.

УСЫ'ПІШЧА *н.* Кадаўб. *Усыпішча было ў клеці — такая пасудзіна дзеравяная, ён лістоўкі туды схаваў.* Пераброддзе Міёр.

УСЫ'ПКА I *ж.* Тое ж, што і у с ы́ п а. Солы Смарг. *Усыпка*

*на пер'е.* Грыкені Вільн. *Усыпка купленая ссыпаць пер'я.* Лайпушкі Ігн. *Наўлечку на ўсыпку адзяваюць.* Быстрыца Астр. *Пёры ўсыпаюцца ў усыпку.* Старыя Трокі Трак.

УСЫ'ПКА II *ж. мед.* Высыпка, сып. *Усыпка высыпалася па целу.* Мішневічы Шум.

У'СЬ *ж.* Гусь. *Бяры венкшанькую усь.* Паляцкішкі Воран. *Усі дзержалі, падушкі рабілі.* Новыя Мацалі Варэн.

УСЭ'НЬКО *гл.* УСЕ'НЬКО

УСЮ'ДЫ *прысл.* Паўсюдна, скрозь, усюды. *Мятліца расце ўсюды.* Вялікія Баяры Шчуч. *Тут ройсты ўсюды былі.* Грыкені Вільн. *Травой усюды зарастаіць.* Навасёлкі Свісл. *Гэта не толькі ў нас, а ўсюды, па ўсім свеце.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бывала, у курнай хаце жылі, дым усюды.* Месянцы Брасл.

УСЮ'ДЫХ *прысл.* 1. Тое ж, што і у с ю д ы. *Я ўсюдых была, палавіна Саюза аб'ехала.* Слабада Мін. *Усюдых зайдзець, яго накормяць.* Скрыпчына Лудз. *Начуіць усюдых.* Ракаўскія Швянч. *Усюдых утапіцца можна.* Багушэвічы Бярэз. 2. Ва ўсе справы. *Усюдых уб'ецца ён са сваім носам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УСЮ'К *м.* Гусяня. *Адна усь з усюкамі на выгані.* Новыя Мацалі Варэн.

УСЮНЯ'К *м.* Тое ж, што і у с ю к. *Выседзіла курыца усюняка.* Старыя Смільгіні Воран.

УСЯГА' *займ. род.* 1. Усяго. *Усяга сена не зграблі сягання.* Груздава Паст. *Усяга было, ляжаць ні было калі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. *прысл.* Толькі. *У нас усяга адны пчолы.* Вузла Мядз.

УСЯГДЫ', УСЯГДА' *прысл.* 1. Заўсёды. *Яна памагала ўсягды.* Латыгаль Віл. *Усягда ў яго работа.* Пасека Ст.-Дар. 2. Пастаянна, стала. *Усягды ў яе чалавек на кварцірэ.* Саланое Віл. *Немцы не ўсягды стаялі тут.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Увесь час, спрадвеку. *Усягды мы тут зямлю пахалі.* Лоск Валож. *Усягды было так.* Мярэцкія Глыб. *Усягды дома сядзіць.* Лоск Валож. *Усягды тоя самая робіць.* Малькуны Ігн. 4. Кожны год. *У нас ягад, грыбоў усягды многа.* Асавец Віл.

УСЯДЗЕ'ЦЬ *зак.* Доўга сядзець, пасядзець. *Стася ў хаці ўсядзіць.* Ёдлавічы Брасл.

УСЯДНО', УСЕАДНО' *прысл.* 1. Усё роўна, у кожным разе. *Усядно нада мачыць лён — белы тады.* Старыя Трокі Трак. *Я ўсядно бунтуюся: яна нічога ня робіць.* Ракаўскія Швянч. 2. Так або інакш. *Усеадно ні добра.* Анкуды Ашм.

УСЯ'К *прысл.* Па-markознаму, розна. *Як у пана жылі—усяк жылося і былося.* Вузла Мядз. *Пасля вайны тожа было цяжка жыць, было ўсяк.* Анкуды Ашм. *Усяк цябе зругаюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УСЯ'КІ *займ.* 1. Усялякі, розны. *Збажына ўсякая есць.* Солы Смарг. *Усякай рыбы есць.* Солы Смарг. *Усякіх людзей дурных ест.* Старыя Смільгіні Воран. *Было ўсякіх людзей.* Вузла Мядз. *І ціпер усякіх дзяцей есь, і даўней усякіх было.* Ахрэмаўцы

Брасл. *Усякіх мухаморау ёсць.* Лайпушкі Ігн. *Усякіх бед было.* Груздава Паст. *Усякія вочы есць.* Саланое Віл. *Усяка перажыўшы. Усякага на свеці нажыўшыся.* Пасіене Лудз. *Усякае бывае.* Семежава Кап. 2. Кожны. *Не ўсяку работу машынай зробяць.* Альхоўка Навагр.

УСЯЛЯ'К *прысл.* Тое ж, што і у с я́ к. *Усяляк скажуць.* Масілавічы Сл. *Усяляк звалі.* Чычалі Швянч. *Усяляк бывая.* Лоск Валож. *Усяляк бываець.* Талейкі Швянч. *Усяляк было.* Гемзы Шальч. *Усяляк лячуся: і зелям, і прошкамі.* Стральцы Шальч.

УСЯЛЯ'КА *прысл.* Тое ж, што і у с я́ к. *Усяляка бывая.* Ракаўскія Швянч.

УСЯЛЯ'КІ *займ.* Тое ж, што і у с я́ к і 1. *Пух усялякі аддзяляяцца ад дабра, пустазелля.* Жодзішкі Смарг. *Рыба ўсялякая: шчукі, окунь, платва, лешч, карасі, ліны.* Швэды Вільн. *Яда ўсялякая: капуста, булён, крупнік.* Солы Смарг. *Усялякая работа е.* Цярэшкі Ваўк. *Усялякая травачка расце.* Дзераўное Стаўб. *Лес блізютка, усялякіх ест грыбоў.* Дэгшні Шальч. *Усялякіх пужайлаў панаставілі ад варон, чаек.* Перабродзе Міёр. *Даюць усялякая пячэнне.* Івашкаўцы Смарг. *Усяляка было гора — плачу, бядую.* Альхоўка Навагр. *Усялякая гора случаяцца.* Збляны Лід. *Усялякае дрэва па лесе. Былі людзі ўсялякія.* Васілевічы Гродз. *Усялякія дрэвы: грабіна, дуб, клён, ясень тут растуць.* Валеўка Навагр. *Напусціў вады ў балію — і цёплай, і халоднай, там усяляка ест.* Баброўнікі Гарад. *Ён робіць усялякія штукі для дзвярэй.* Солы Смарг. *Усялякіх людзей прышло.* Ракаўскія Швянч. *Усялякіх людзей ёсць на свеця.* Малькуны Ігн. *Усялякіх людзей насцягана.* Альхоўка Навагр. *Байкаў усялякіх набая нам бабуня.* Солы Смарг. *Усялякіх цудаў было.* Чычалі Швянч. *Назбіралі ўсялякіх грыбоў.* Малахоўцы Бар. *Кіціцы ўсялякімі ўзорамі ткалі.* Дакудава Лід.

УСЯНО'ШНАЯ *ж. царк.* Усяночная. *У каропку з ліпы клалі, што пасвяцаць на ўсяношнаю.* Рудня Астравітая Чэрв.

УСЯНЯ' *н.* Гусяня. *Усяня прапала. Малыя ўсянята.* Старыя Смільгіні Воран.

УСЯРАЎНО' *прысл.* Тое ж, што і у с я д н о́. *Як ня рабі — усяраўно матка благая.* Крэва Смарг.

У СЯРЭ'ДЗІНЕ *прысл.* 1. Унутры. *Зоп у сярэдзіне ў мяне, так доктар сказаў.* Дэгшні Шальч. 2. За пазухай. ∇ *Даўней гаварылі: «Кап цябе не здзівілі* [не асурочылі], *трэба зашпіліць шпільку ў сярэдзіне».* Дарава Лях.

УСЯЎБАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Дабыць, разжыцца (пра пітво). *Ты сягання не ўсяўбаваў нідзе?!* Груздава Паст.

УСЯ'ЧЫНА *зб. н.* 1. Рознае (пра зелле). *Там усячына расце: асот, зябра, лібяда.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Выдумкі, байкі. *Гукáў усячыну. Усячыну яму расказвалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

УТАІ'ЦЦА *зак.* Скрыць што-н. ад іншых, утрымаць у таямніцы. *Ён не ўтоіцца, усё раскажа.* Гемзы Шальч.

УТАІ́ЦЬ *зак.* Скрыць; схаваць. ▽ *Шыла ў мяшку не ўтаіш.* Вузла Мядз. ◇ *Утаіць духі* — пазбягаць, цурацца; зазнацца. *Яна як стала начальнікам — утаіла духі.* Пераброддзе Міёр.

УТАЙКІ́ *прысл.* Употай, употайкі. *Утайкі купіў і занёс ей.* Азяраны Раг.

УТАЛО́ПІЦЦА *зак. экспр.* Вытарашчыць вочы. *Як я сказала, ён уталопіўся і глядзіць.* Кураполле Паст. *Уталопіцца і стаіць.* Навасёлкі Свісл.

УТАМІ́ЦЦА, УТОМІ́ЦЦА, УТОМІ́ЦІСА *зак.* Замарыцца, знясіліцца. *Утаміўса я ўчора. І я ўчора папарабіла, утаміла   са.* Дзяніскавічы Ганц. *Боліць спіна, рэжа, утомілась.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Утоміласа пішучы.* Смаляніца Пруж.

У ТА́НЦЫ. У выразе: *Ісці (пайсці) у танцы* — танцаваць, гуляць. *Некалі ішлі ў танцы, абуўшыся ў лапці. Як пойдзе ў танцы — зямля дрыжыць. А цяпер танцуюць туды-сюды.* Вецярэвічы Пух.

УТА́РКАВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і у с а́ д ж в а ц ц а. *Млён утаркаваецца ў парпліцу.* Пераброддзе Міёр.

УТАРНУ́ЦЬ *зак.* Уткнуць, уторкнуць. *Зямля, як скала на гародзі — не ўтарнеш пальцаў.* Кіралі Шчуч.

УТАНУ́ЦЬ, УТО́НУЦЬ *зак.* Патануць, утапіцца. *Утанеш, ня лесь у ваду! Балота дуніцца, ступіш, дык чуць ні ўтанеш.* Альхоўцы Лях. *Ён ня думаў, што ўтане.* Паляцкішкі Воран. *Быў манастыр — і ўтонуў.* Ухвала Круп. ▽ *Хай утане чарка!* Вялікія Баяры Шчуч.

УТАПА́ЮШЧЫ *дзеепрым.* у знач. *назоўніка.* Тапелец. ▽ *Утапаюшчы брытвы хапаіцца.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *утопающий* 'тж'.

УТАПІ́ЦЦА *зак.* Тое ж, што і у т а н у́ ц ь. *Ня йдзі, бо там топко, утопісся!* Солы Смарг. *Утопісся!* Засецце Дзятл. *Сын утапіўся, а бацька, як набраў у галаву — і павесіўся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Унук утапіўсё — учапіўсё за корч.* Паляцкішкі Воран. *Ён утапіўсо.* Вострава Маст. *Панскі вір — там паненка ўтапілася.* Саланое Віл. *Пашлі троя замак глядзець і ўтапіліся ў возіра.* Вузла Мядз.

УТАПІ́ЦЬ *зак. перан.* Прычыніць непрыемнасць, няшчасце, загубіць. *Яна глядзіць, каб цябе ўтапіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

УТАПЛЕ́НЯ *н.* Хвароба, згуба, смерць. *Утапленя на чалавека прыходзіць.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *utrapienie* 'прыкрасць, непрыемнасць, мучэнне'.

УТАРО́П *м.* Вар'ят. *Яна, як утароп: пацярала памяць, здзяцініла.* Новіны Нясв.

УТАРЫ́ЧНЕ *прысл.* Другі раз, паўторна. *Гэта там утарычне закрыта было.* Пузыры Мядз.; *параўн.* руск. *вторично* 'тж'.

УТАЎКАНУ́ЦЬ *зак.* Парнуць. *Бывая, зрок вытнеш ці ўтаўканеш, так аслепне чалавек.* Дакудава Лід.

УТА́ХТУ *прысл.* У такт, зладжана. *Як цапамі малацілі, то*

*білі ўтахту. «Нашто вы мне брыво разбілі?! — «А не сунься, калі не ўтахту, а бі ўтахту!»* Кіралі Шчуч.

УТА'ЧАВАЦЬ *незак.* Уточваць, устаўляць. *Уточку ўтачавалі ў кашулю.* Мярэцкія Глыб.

УТАЧЫ'ЦЦА *зак.* Пранікнуць у сярэдзіну чаго-н. *Грыб утачылся, з'еў броўны.* Месянцы Брасл.

УТАЧЫ'ЦЬ *зак.* 1. Уваткнуць што-н. вострае, завостранае. *Нош я ўтачыла ў сценку, павесіла ачкі на чарэнь.* Малышы Лід. *У дзірку дубец уточыць і будзіць круціць на круцень.* ∇ *Як едзеш у дарогу, то трэба іголку ўтачыць, каб не баяцца зглазу.* Вузла Мядз. 2. Прышпіліць. *Яна прыберыцца і брошку ўточыць тут.* Вузла Мядз. 3. Усадзіць. *Уточыць грэбень у галаву — і лепей.* Пацаўшчына Дзятл. 4. Улажыць. *Ён стары, а беленькі платочык уточыць у карман, каб берашкі відаць былі.* Вузла Мядз. 5. Усунуць. *Гарыць сена ў капе: утачы руку — так жарка там.* Лапічы Асіп. 6. Ушчаміць у што-н., прымацаваць. *Там тычку робіць, а там куль лёну ўточыш і галоўкі абразаеш. Крылья ўточыш і там уточыш.* Збляны Лід. 7. Залажыць за што-н. *Карэлую трапку утачыла за дошку.* Вузла Мядз. 8. *крав.* Прышыць, уставіць. *Уточку ўтачылі на падол кашулі.* Мярэцкія Глыб.

УТАШЧА'К ◊ *Уташча́к ісці* — рабіцца тошчым, худзець. *Карова ўташчак ідзець — мала грошаў дадуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

У'ТКА *ж.* Качка. *Утка дзікая.* Пасіене Лудз.; *гл.* ДАБМ, карта № 297.

УТКНЁНЫ *дзеепрым.* Уваткнуты, уторкнуты, усаджаны. *Былі калісь міскі дзеравяныя: міска вярбовая, міска ліповая, круглая, з ручкай, палачка уткнёна; міскі выдлубавалі, не было абручыкаў. Квач уткнёны ў мазніцу.* Рыбчына Віл. *Палка ўткнёна.* Навасёлкі Лід.

УТКНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у т а ч ы́ ц ь 3. *Уткнула грэбянь у галаву.* Ёдупка Шальч.

УТЛУМА'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Растлумачыць. *Утлумачыць трэба, бо так не разбе́рыш, што такоя бульбяшы.* Ёдлавічы Брасл. 2. Сказаць; пераканаць. *Нехта ўтлумачыў ёй, што як вырвеш зуб, два часэ нельга есь.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *wytłumaczyć* 'вытлумачыць, растлумачыць'.

У'ТЛЫ *прым.* 1. Патлівы. *Але ш утлы да поту: калі чуць падрабіў, то ўжо потам і аблійся.* Кіралі Шчуч. 2. Слабы. *Утлы чалавек часта хварэе.* Мсцібава Ваўк. 3. Кволы. *Індычынята натта ўтлыя: холаду, макраты баяцца.* Мсцібава Ваўк. *Індзюкі такія ўтлыя.* Вострава Маст. 4. Які траціць свае дадатныя якасці; няўстойлівы. *Такія ўтлыя чарэшні* [плады]. *Усё можа быць утлым.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *ątły* 'слабы'.

УТНУ'ЦЬ *зак.* 1. Укусіць. *Гіль як утне, каровы гілююць: хвасты дудой, і прэцца ў кусты.* Кудзялянцы Шальч. *Калісьці як утне блыха, то патскочыш. Бонкі, стракі як уткнуць каравы,*

*то страчацца*. Мсцібава Ваўк. 2. *перан. экспр.* Ударыць. *Як утну цябе зара чым-коліка!* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *ciąć* 'рэзаць', *tknąć* 'крануць, дакрануцца, зачапіць'.

УТО'К *м. ткац.* 1. Пража, прызначаная для ўтку. *На што ты прадзеш: на аснову ці на ўток?* Магуны Паст. *Есць утку, думаю ткаць дываны.* Вузла Мядз. 2. Папярочныя ніткі ў тканіне. *Як уток не прыб'еш — не хароша тканіна. Тут аснова — бавэлна, а уток — война.* Завельцы Астр. *Льняная аснова, а суконны уток.* Васілевічы Гродз. *Уток — нітка, якая ідзе упоперак асновы. Аснова адных нітак, а уток — другіх.* Асавец Віл. *Па чырвонай аснове уток іншае дае.* Кудзялянцы Шальч. ▽ *Як снуюць кросны, а чужы зойдзе, то прыгаварвае: «С кутка ў куток, каб хапіла на ўток!» Тая, што снуе, адказвае: «Спасіба».* Азяраны Раг.

УТОМІ'ЦЦА, УТОМІ'ЦІСА *гл.* УТАМІ'ЦЦА

УТОМІ'ЦЬ *зак.* Натрудзіць. *Руку ўтоміла — боліць.* Хатынічы Ганц.

УТО'НУЦЬ *гл.* УТАНУ'ЦЬ

УТО'ПЛЕНІК *м.* Тапелец. *Угорычы да ўтопленікаў чапляюцца.* Рагулішкі Даўг.

УТО'Р *м.* След ад колаў або палазоў. *Як едуць, астаецца ўтор.* Вялікія Баяры Шчуч.

УТО'РКНУТЫ *дзеепрым.* Уваткнуты. *Дурнюк сільна калючы.* ▽ *Еслі сцебель будзіць пад дзвярамі хлева уторкнуты — ніхто не зглазіць карову.* Месянцы Брасл.

УТО'РКНУЦЦА *зак.* 1. Застраміцца. *Папараць у руку уторкнецца — і парэжаш руку.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. *перан. экспр.* Вымкнуцца, сказаць. *Гавару па-руску, тут уторкніцца беларускае слова.* Солы Смарг.

УТО'РНІК *м. тэх.* Прылада для выемкі пазоў, разец. *Трэба ўзяць уторнік і выпілаваць уторы.* Граўжышкі Ашм.

УТО'РНУЦЬ *зак.* 1. Уваткнуць. *Даўней лучынкі дзелалі с сосьніку, лучыну ўторнула, і пралі.* Лісна В.-Дзв. 2. Усадзіць, падсунуць. *Спяць курыцы на курусадні курочнай сідзя: пад крыло ўторніць гагалу* [дзюбу], *і так сідзіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ◇ *Язы́к уто́рнуць* — сказаць што-н. непажаданае для другога. *І яна язык уторнула свой!* Валынцы В.-Дзв. *Кама́р но́су не уто́рніць* — такая густая лаза, асіннік. Замошша Брасл.

УТО'РЫ толькі *мн.* Пазы. *Расцом рабілі уторы і дно ўстаўлялі.* Кіралі Шчуч. *Уторы абразаюцца, і дно ўстаўляецца.* Дакудава Лід. *Дзежка з дном, веко зверху, у клепках вырэзаваюць уторы і ўпускаюць дно.* Грыцавічы Свісл. *Уторы трэба празэзаць.* Крэва Смарг. *У ўторы ўстаўляецца дно.* Солы Смарг. *У клепках ўнізу выробляе ўторы — раўчачок такі, у дне канцік цененькі, уладзіць канцік дна ў уторы, тады надзявае абруч і заганяе адзін, другі.* Гемзы Шальч. *Уторы выразаюць, дно ўстаўляюць.* Ракаўскія Швянч. *Уторы дзелалі для ўстаўкі дна.* Азяраны Раг.

УТО'РЫЧ *м.* Тое ж, што і у т о́ р н і к. *Уторыч — пілка, якой робяць уторы.* Азяраны Раг.

УТО'ЎПІЦЦА *зак.* Змясціцца дзе-н. *Не ўтоўпіцца скаціна, там места мала.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *talpùs* 'умяшчальны'.

УТО'ЧАВАЦЬ *незак.* Усоўваць. *Дзве палачкі ў светашы, міжду іх — шчэлка, лучыну туды ўточаваеш, запаліш — і гарыць.* Вузла Мядз.

УТО'ЧКА *ж. крав.* Прыточаная ніжняя частка жаночай кашулі. *Стан кашулі шылі з танейшага палатна, а ўточка з павузраб'я, яе ўточвалі на падол.* Мярэцкія Глыб.

УТО'ЧКІ *мн.* Дужкі ў кошыку. *Уточкі — аснова каша, іх пераплятаюць лазою, карэням.* Збляны Лід. *Уточкі ўставіў у кош.* Пацаўшчына Дзятл.

УТРАВЕ'ЦЬ *зак.* Зарасці травой. *Утравела картошка.* Лісна В.-Дзв. *Бручка ўтравела.* Граўжышкі Ашм.

УТРАЁ'Х *прысл.* Утраіх. *Утраёх мы вышлі з хаты.* Асавец Віл. *Бродзянь утраёх цягалі.* Быстрыца Астр.

У'ТРАМ *прысл.* Раніцай. *Зараначка утрам і вечарам ясная.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *утром* 'тж'.

УТРАНСА'ЦЦА *незак.* Унікаць, умешвацца. *Я ні ўтрансаюся і не ўтрансалася, як хочуць, хай так жывуць.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* польск. *utrącać się* 'тж'.

УТРАПЕ'НЕ *н.* Прыкрасць, непрыемнасць. *Жые чалавек в ружным утрапені.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *utrapienie* 'тж'.

УТРАПЕ'ЧЫЦЬ *зак. экспр.* Пакамечыць, стаптаць нагамі. *Дзеці як стануць насіцца, утрапечуць лошку, што німа як спаць лехчы: скачуць то на печ, то с печы, і ўсё па лошцы.* Кіралі Шчуч. *Утрапечуць палатно дзеці.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* літ. *trepčióti, tripčióti* 'таптацца, тупаць'.

УТРАПЁНЫ *прым.* 1. Неспакойны, непаседлівы, надаедлівы, апантаны. *Такая дзяўчына ўтрапёная, ветраная.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Баба была такая ўтрапёная. На бацёк абіжалася, ён утрапёны.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* польск. *utrapiony* 'тж'. 2. Быстры. *Утрапёная карова, а нельзя біць па мордзі.* Валынцы В.-Дзв.

УТРА'ПІЦЬ *зак.* Дагадзіць, угадзіць. *Дзе ш каждаму ўтрапіш?* Курапалле Паст.; *параўн.* польск. *potrafić* 'здолець, змагчы'.

УТРА'ТА *ж.* Страта. *Велька ўтрата яму: страцілася карова.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *utrata* 'тж'.

УТРА'ФІЦЬ *зак.* 1. Здолець, змагчы. *А як я ўтраплю зрабіць так? Ці утрафлю, ці не утрафлю, алі пайду.* Рагулішкі Даўг. 2. Тое ж, што і у т р а́ п і ц ь. *Ніяк ня можна утрафіць яму.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *utrafić* 'папасці, здолець, змагчы', ням. *treffen* 'угадваць; трапляць'.

УТРА'ЦІЦЬ *зак.* Страціць. *Утраціла ўсё нажытоя.* Саланое Віл.

УТРО'Х *прысл.* Тое ж, што і у т р а ё х. *Мяшок утрох былі ўзяўшы.* Альхоўка Навагр.

УТРУСІ'ЦЬ *зак.* Спалохацца, спужацца, збаяцца. *Смерць была прышоўшы — яна ўтрусіла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я саўсём не ўтрусіла.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *струсить* 'тж'.

УТРЫМА'НЕ *н. буд.* Апора. *Для ўтрыманя пад балькі паложана папярочная балька.* Збляны Лід.

УТУ'ЛКА *ж. тэх.* 1. Утулка. *Утулка ў калясе жалезная.* Істра Лудз. *Калёсы дзеравяные, толькі ўтулкі жалезные.* Мешкінева Лудз. 2. Трубка. *Утулка, дзе калясо верціцца. З абода ў утулку — спіцы.* Навікі Лудз.

УТУ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Прыхіляць да галавы (пра вушы). *Конь утульвая вушы — хоча ўкусіць.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *utulić* 'прылашчыць, прыгалубіць'.

УТУЛЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і у т у́ л ь в а ц ь. *Конь спалохаўся, вушы ўтуляя.* Жылі Іўеў.

УТУ'ПАЦЦА *зак. экспр.* Стаміцца ад хады. *Утупалася за дзень ды пашла на печ.* Вецярэвічы Пух.

УТУ'ПТАЦЬ *зак.* Утаптаць. *Бычок утуптаў рэзгіны ў гной, там і засталіса.* Дзяніскавічы Ганц.

УТУШЫ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і у с м я́ г н у ц ь I. *Бульба ўтушылася.* Солы Смарг. *Добра ўтушылася бульба.* Вузла Мядз.

УТУШЫ'ЦЬ I *зак. кулін.* Добра стушыць. *Раней катлетаў не рабілі, утушаць мяса.* Завельцы Астр.

УТУШЫЦЬ II *зак.* Затушыць. *Балоты былі тарфяныя, як загарыцца, то глыбока выгаруя, ніяк не ўтушыць.* Альхоўцы Лях.

УТЫ'ЖЫЦЬ *зак.* Супакоіць, утаймаваць. *Дзеці носяцца, ты іх не ўтыжыш.* Гемзы Шальч.

УТЫКА'ЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і у с а́ д ж в а ц ц а. *Палкі ўтыкаліся ў крыжачкі.* Вузла Мядз. 2. Сутыкацца, межаваць. *Бывала так, што мужыцкія шнурочкі* [зямлі] *утыкаюцца ў тыя, што прадаюцца.* Дарава Лях.

УТЫКА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і у т о́ ч а в а ц ь. *Лучыну ўтыкалі ў свяцельнік.* Збляны Лід. *Утыкаюць папіросу ў муштук.* Гемзы Шальч. *Утыкалі лучыну у шчель жалезную.* Месянцы Брасл.; *парайн.* польск. *wtykać* 'утыкаць'.

УТЫ'Л *прысл.* Узад, назад. *Рукі ўтыл — і ходзя.* Кудзялянцы Шальч. *Я ўжэ не рак, кап тачыўса ўтыл.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *do tyłu* 'тж'.

УТЫ'ЦЬ *зак.* Азызнуць, распаўнець. *Можна ўтыць, тая жэншчына ўтыла.* Мсцібава Ваўк.

УФАЛЯВА'ЦЬ *зак.* Зваліць (пра сукно). *Бывала, выткуць ангерку с сукна, уфалююць трохі.* Васілевічы Гродз.; *парайн.* польск. *folować* 'валіць'.

УФАРБАВА'ЦЬ *зак.* Афарбаваць, выфарбаваць. *Дайней*

*пальто свае работы уфарбуе — і так хадзілі.* Васілевічы Гродз.; *парайн.* польск. *farbować* 'тж'.

У'ХА *гл.* УХО'

УХА'БА *ж.*, УХА'БЫ *мн.* Выбоіна на дарозе. *Сані на ўхабу як далі, шыбель — і абярнуліся.* Кураполле Паст. *Ухабы слізкія, сані ідуць убок.* Азяраны Раг.; *парайн.* руск. *ухаб* 'тж'.

УХА'БІСТЫ *прым.* Выбоісты. *Ухабіста дарога, калі сані гоніць убок.* Дзяніскавічы Ганц. *Ухабіста дарога.* Малахоўцы Бар.

УХАВА'ЦЬ *зак.* 1. Захаваць, зберагчы. *Як ухаваць гэтыя куранята?* Збляны Лід. 2. Выгадаваць, утрымаць. ***На прывязе сабаку не ўхаваеш.*** Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *uchować* 'захаваць'.

УХА'ДЖАВАЦЬ *незак.* Даглядаць. *Я за імі ухаджавала, за гэтымі дзецьмі.* Жылі Іўеў. *Нада ухаджаваць за жывёлай.* Кіралі Шчуч.

УХАДЖА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і у п р а в л я́ т ы с а. *Трэба ўжо ухаджацца, а то цёмна будзе.* Нізок Уздз.

УХАДЖО'Р, УХАЖО'Р *м.* Кавалер. *Адзін мой ухаджор утапіўся, а другі разлучыўся, вот якія мае ухаджоры былі.* Вецярэвічы Пух. *Ухажор прыходзіў часта.* Паляцкішкі Воран. *Гэта мае два ухажоры.* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *ухажер* 'тж'.

УХАДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. *зак.* да у х а д ж а́ ц ц а. *Вот уходзіцца і прыдзе. Я ўжо ўхадзілася: панакарміла і ўлажыла спаць.* Дакудава Лід. *Кап ухадзіцца скарэй.* Альхоўцы Лях. *Ухадзілася ўжо.* Старое Сяло Зэльв. *Покуль ухаджуся, зноў гані ў поля.* Альхоўка Навагр. *Трэба ісці ухадзіцца.* Завельцы Астр. *Ужэ з большага ухадзіўся, яшчэ кароў ажыдаем.* Дарава Лях. 2. Выканаць, закончыць якую-н. работу. *У свої пакруціла палатно, і ўхадзілася баба.* Дакудава Лід. 3. Падрыхтаваць усё неабходнае. *Ухаджуся на зіму.* Малахоўцы Бар. 4. *перан.* Стаміцца, умарыцца. *Вот я ўхадзілася, палючы ды варучы.* Груздава Паст. *Ухадзілася за дзень — і лягла.* Пацаўшчына Дзятл. 5. *перан. экспр.* Супакоіцца, уціхамірыцца. *Дурнёха ты, ці ўходзісся ты?!* Кураполле Паст.

УХАДЗІ'ЦЬ I *незак.* Уваходзіць у выемку. *Ручкі у целеге у падушку ўходзяць.* Істра Лудз.

УХАДЗІ'ЦЬ II *зак.* Прайсці вялікую адлегласць у розных напрамках. *Сколькі я ухадзіла па лесі!* Альхоўка Навагр.

УХАДЫ' толькі *мн.* Розная работа. *Ухадоў ёй многа.* Граўжышкі Ашм.

УХА'ЖЫВАЦЬ *незак.* Заляцацца, кахаць, любіць. *Ён за другой дзяўчынай ухажывае, а матка усватала Тарэську.* Пераброддзе Міёр.; *парайн.* руск. *ухаживать* 'тж'.

УХАПІ'ЦЦА *зак. перан.* Ахвотна пачаць. *Піць ухапіўся бычок.* Ракаўскія Швянч.

УХАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Хутка ўзяць, схапіць. *Ён дзеньгі ухапіў.*

Саланое Віл. 2. *перан.* Украсці. *Зрабіў клямру — ужэ каня злодзей не ўхопіць.* Номікі Бабіц. ◇ *Аглянуцца не ўхапіць* — вельмі хутка. *Аглянуцца не ухопіш — зноў купляй вобуй!* Кіралі Шчуч.

УХВАЛІ'ЦЬ *зак.* Адобрыць, пахваліць. *Яна добра рабіла, прадсідацель ухваліў. Я сціх расказала, учыцяль ухваліў.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *uchwalić* 'пастанавіць, устанавіць'.

УХВА'Т I *м.* 1. Вілкі. *Трэба абсадзіць ухват.* Магуны Паст. *Ухват, чапяла стаяць у памяльніку.* Ракаўскія Швянч. *Пад ухват пакаточак клалі пад ніз — і каціцца.* Пасіене Лудз. *Ухваты пазней былі, а мы качаргой саганы даставалі.* Старыя Трокі Трак. 2. Чапяла. Дзмітравічы Кам.

УХВА'Т II *м.* Спрыт, звычка, кемлівасць. *Трэба мець ухват да работы, і да ўсяго.* Солы Смарг.

УХВА'ТКА *ж.* Тое ж, што і у х в а́ т II. *Какая ухватка ў яго! Ён усё дзелаіць з толкам.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *ухватка* 'тж'.

УХВА'ТКІ толькі *мн.* Тое ж, што і у х в а́ т I, 1. *Ухваткі, качарга, чапяла каля печы стаяць.* Малькуны Ігн.

УХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Ухапіцца. *За плот як ухвацілася — чуць атарвалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *ухватиться* 'тж'.

УХВАЦІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у х а п і́ ц ь I. *Яна ухадзіла і хустку ухваціла.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *ухватить* 'тж'.

УХЛО'ПАЦЬ *зак. экспр.* Забіць, застрэліць. *Ухлопаў казу у лясу.* Істра Лудз.

УХЛЯ'БІНА *ж.* Лука, сенажаць, якая акружаецца ракой. *Ухлябіна міжду ракі е, сыножаць там.* Кузьмічы Люб.

УХМУ'ЛІЦЬ *зак.* Нахмыліцца. *Ухмуліць вушкі сабака — і за ёю ўздагон.* Кіралі Шчуч.

УХНА'ЛЬ *м.* Цвік для прымацавання падкоў. *Ухналь загнаў, ухналямі куў каня.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыбіваюць дзюрку ў паткове для ухналя.* Гемзы Шальч.; *парайн.* ням. *Hufnagel* 'тж'.

УХО', У'ХА *н.* і *ж.*, УШЫ *мн.* 1. *анат.* Вуха. *Ухо будзіць пухнуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ухо забалела, пацякло.* Рагулішкі Даўг. *Руку пад ухо пакладзеш і спіш.* Лісна В.-Дзв. *Тыська адная уха ест. Уха малая.* Старыя Смільгіні Воран. *Часта бацька біў па ушах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жарабёнак ушам* [вушамі] *стрыгець.* Пасіене Лудз. ▽ *У адно ухо вашло, а во второе вышла.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Мець ушы* — прадчуваць. *У сэрцы ест ушы.* Быстрыца Астр. *Серцэ ушы меіць — даець прычуствіе пра то, што далжно быць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Прыстасаванне ў пасудзіне, якое выконвае ролю ручкі. *У цэбры адно ухо і другое — два уха.* Судэрва Вільн. *Балеі былі з ушамі.* Старыя Трокі Трак. *Збан з ухам. Як то збан без уха! Гарнушэк з ухам.* Грыкені Вільн.

У ХО'Д. У выразе: *Пайсці ў хо́д* — пачаць уходжвацца, выконваць работу, звязаную з хатняй гаспадаркай. *Я пайду ў ход — свінёй* [свінні] *даваць.* Ёдлавічы Брасл.

УХО'ДАЦЬ *зак.* 1. Перамагчы. *Слапшы дужэйшага не ўходае.* Солы Смарг. *Ні уходаю яго.* Саланое Віл. 2. Упарадкаваць, скончыць работу. *Мы ня ўходаім бульбу.* Асавец Віл. 3. *перан. экспр.* Уціхамірыць, утаймаваць, супакоіць. *Я цябе скора уходаю!* Альхоўцы Лях.

УХО'ДЖАВАНО *дзеепрым.* у знач. *безас. вык.* Упарадкавана. *Яшчэ бач у мяне ня ўходжавано.* Альхоўцы Лях.

УХО'ДЖВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і у х а д ж а́ ц ц а. *Я пайду яшчэ уходжваца. Ідзеш ужо уходжваца?* Малахоўцы Бар. *Мне трэба ўходжваца.* Пацаўшчына Дзятл. *Пайду уходжваца, трэ уходжваца за скатом.* Альхоўка Навагр. *Уходжваца пайду.* Валеўка Навагр. *Валя, ты ўходжвайся ды бяры цяпку і брушку садзі!* Зблявы Лід.

УХО'ДЗІНЫ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і у л а́ з і н ы 1. *Уходзіны, як у новую хату ўходзілі.* Лука Нараўк. ∇ *Як уходзіны ў новую хату, ката першага пускаюць у хату.* Ёдлавічы Брасл. *Дайней, як уходзіны рабілі, трэба было, кап перш пераначавай абрас у хаці.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і у л а́ з і н ы 2. *Уходзіны спраўляюць.* Беразіно Докш. *Трэба сыну на ўходзіны ґрошы даць.* Саланое Віл. *На ўходзіны завуць — увашлі ў новую хату.* Дакудава Лід. *Купілі хату, у іх уходзіны; пашлі бабы на ўходзіны.* Малахоўцы Бар. *Уходзіны спраўлялі.* Зблявы Лід.

УХО'ДЗІЦЦА *незак. безас.* Выходзіць; ёсць магчымасць; дазваляюць умовы. *Калі ўходзіцца, то дзісятку прышляце мне.* Кузьмічы Люб.

УХО'ДЗІЦЬ I *незак. пчал.* Ляцець у другое месца. *Первый рой не уходзіць.* Кураполле Паст.

УХО'ДЗІЦЬ II *незак.* Уступаць, арганізоўваць. *Як уходзілі ў калхоз, то тут было балота.* Дзераўное Стаўб.

УХО'ДНЯ *ж.* Сукупнасць работ каля хатняй гаспадаркі. *Самая уходня цяпер.* Пацаўшчына Дзятл.

УХО'ДЧЫНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і у х о́ д з і н ы 2. *Як у нову хату пэрэходзят, то уходчыны робйат.* Смаляніца Пруж.

УХО'ШКА *ж.* Тое ж, што і у х о́ д н я. *Трэба ухошку зрабіць.* Кіралі Шчуч. *Да ўхошкі трэба ісці, а я ўжэ ухадзілася.* Мсцібава Ваўк.

УХО'ШЧЫНЫ *мн.*, ВХУО'ТЧЫНА *ж.* Тое ж, што і у х о́ д з і н ы 2. *Як у нову хату перайшлі, яна рабіла ўхошчыны.* Жыдзевічы Іўеў. *На вхуотчыні выпілі пара літруов вуткі.* Курашэва Чыж.

УХУ'ТАЦЦА *зак.* Цёпла апрануцца. *Ухутайся ты добра, мароз вялікі.* Вецярэвічы Пух.

УЦА'ЛЯ *прысл.* Зусім. *Уцаля не быў ён.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* польск *wcale* 'тж'.

УЦВЯ'ЛІЦЦА *зак.* Раскапрызіцца. *Уцвялілася дзіця.* Альхоўцы Лях.

УЦВЯЛІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у к в я л і́ ц ь 2. *Уцвяліў рану,*

*не так лячыў.* Ісерна Слуц. *Уцвяліў балячку.* Дзяніскавічы Ганц.

УЦЕ'КІ *мн.* у *знач. прысл.* Наўцёкі. *Адна танга* [танк] *уцекі пашла.* Пацаўшчына Дзятл.

УЦЕ'НАК *м.* Тое ж, што і у с ё н а к. *Уценак — уваход у нараток.* Беразіно Докш.

УЦЕ'РПІЦЬ *зак.* Вытрымаць. *Ні магла яна уцерпіць.* Ракаўскія Швянч. *Чуць уцерпіла.* Валынцы В.-Дзв.

УЦЕ'ХА *ж.* 1. Радасць, супакой. *Усяраўно ўцехі ня будзя.* Дакудава Лід. 2. Уцеха, пацеха. *Асталіся дзве дзяўчатка — хоць як на уцеху.* Альхоўка Навагр.

УЦЕ'ШЫЦЦА *зак.* Абрадавацца, пацешыцца. ▽ *Кап ты не ўцешылася, што маяш наймілейшая!* Кудзялянцы Шальч.

УЦЁГАЦЬ *зак. экспр.* Запэцкаць, занасіць. *Уцёгая рубашку, страх!* Міратычы Карэл.

УЦЁКАМ *прысл.* ◇ *Уцёкам уцякáць* — вельмі хутка. *Яны ўцёкам уцякалі.* Вецярэвічы Пух.

УЦЁМНАЧЫ *прысл.* Упоцемку. *Ён удзень ні чытая, як відно, а уцёмначы.* Пасека Ст.-Дар.

УЦЁРЦІ *зак.* Здзерці. *Картопель трохі уцёр, блінцэ с картошкі зрабіў.* Масілавічы Сл.

УЦІКА'ЦЬ *гл.* УЦЯКА'ЦЬ

УЦІКІНЕ'РЫ *мн.* Бежанцы. *Уцікінеры былі вайной.* Гемзы Шальч.

УЦІ'НАК *м.* Адрэзак чаго-н. *Узяў палачку, уцінак адняў, каб рыхтык змясцілася.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *ucinek* 'тж'.

УЦІРА'ЛЬНІК *м.* Ручнік. *Дай ей уціральнік.* Замошша Брасл. *Уціральнікі сама наткала.* Слабада Мін. *Уціральнік уціраца, а рушнік на іконы.* Малышы Лід.; *параўн.* руск. *утиральник* 'тж'.

УЦІРА'ЦІ *незак.* Выціраць. *Носа уцірай!* Смаляніца Пруж.

УЦІРА'ЦЦА *незак.* Выціраццa. *Уціраліся ўціральнікам.* Малышы Лід.

УЦІ'СКАНЫ *дзеепрым.* Уезджаны, утрамбаваны. *Праеżджана, уціскана дарога.* Кіралі Шчуч.

УЦІСКА'ЦЬ *незак.* 1. Увязваць, сціскаць. *Верайке нада браць і жэртку і ўціскаць вос.* Кіралі Шчуч. *Вазы ўціскаць вяроўкі вілі.* Завельцы Астр. 2. Ушчыльняць, утрамбоўваць. *Трактар уціскае гэты пясок.* Дарава Лях. *Уціскалі гэты пясок.* Літва Лях.

УЦІ'СНЕНЫ *дзеепрым.* Уверчаны. *Сыр уціснены ў мацерыю.* Філіпаўцы Красн.

УЦІ'СНУЦЬ *зак. перан.* Укусіць. *Уціснуў сабака за нагу.* Мішневічы Шум.

УЦІ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Заціхнуць, спыніцца. *Стральба ўціхла.* Дарава Лях. 2. Перастаць балець. *Галава ўціхла.* Паляцкішкі Воран.

УЦУ'ПАЦЦА *зак. экспр.* Не адпускаць, затрымліваць. *Як уцупалася дзяўчына за нас — ні вырваца, мы завялі яе дамой, і бягом ад яе.* Валынцы В.-Дзв.

УЦУРКАВА'ЦЬ *зак.* Туга звязаць пры дапамозе спецыяльнай прылады. *Цуркай як уцуркуеш снопа, то не развяжацца.* Альхоўцы Лях.

УЦЭ'Л *прысл.* Цалiком. *Снег глыбокі, ішла ўцэл.* Быстрыца Астр. *Як наснігана, то уцэл ехаў.* Завельцы Астр.

УЦЭ'ЛА *прысл.* Тое ж, што і у ц э́ л. *Свежы след: нехта праехаўшы уцэла.* Гемзы Шальч. *Едуць уцэла, як дарога завеяна.* Мярэцкія Глыб. *Едзяш уцэла.* Стральцы Гродз. *Уцэла паехаў.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Уцэла было б бліжэй.* Азяраны Раг.

УЦЮ'Г *м.* Прас. *Карпая* [рамантуе] *уцюга.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Уцюгоў дайней не было — качалі бяльё.* Вузла Мядз.; *парайн.* руск. *утюг* 'тж'.

УЦЮ'ПАЦЬ *зак. экспр.* Усунуць, апусціць, утаптаць у гразь. *Дайней фарбавалі так: у рудавіну апускаюць і фарбуюць, уцюпаюць у балота.* Солы Смарг.

УЦЯ'ГАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і у в а д з і́ ц ь 1. *Уцягаваіць ніткu і ня можа ўцягнуць.* Асавец Віл.

УЦЯ'ГАНЫ *дзеепрым.* Уцягнуты. *Белыя і чорныя ніткі, уцяганыя ў нічальніцы.* Стральцы Гродз.

УЦЯ'ГАЦЬ *незак.* Уцягваць. *Кольчыкі ў вушы уцягаюць.* Солы Смарг.

УЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і у в а д з і́ ц ь 1. *Уцягваем, укідваем ніткі ў ніт, у берда.* Дзераўное Стаўб. *У берда ўцягвалі папарна.* Слабада Мін.

УЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* 1. *зак.* да у ц я́ г а в а ц ь. *Не магу нітку ўцягнуць у іголку.* Мярэцкія Глыб. *Уцягні нітку — ні бачу!* Слабада Мін. 2. *безас.* Уцягнуць у вадаварот, засмактаць, паглынуць. *Купайся — і яго ў вір уцягнула.* Вузла Мядз.

УЦЯГЦІ' *зак.* 1. Уцягнуць куды-н. *Трэба сані ў хлеў уцягці.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Увесці. *Не уцягці яго ў хату.* Вецярэвічы Пух. 3. Увабраць. *Пакуль уцягла зямля ваду — усё пагніло на гародзе.* Азяраны Раг. 4. Ушчыльніць, сціснуць. *Вада уцягла землю.* Вецярэвічы Пух.

УЦЯГЦІ'СЯ *зак.* Уцягнуцца. *Сена уцяглося у копанку.* Вецярэвічы Пух.

УЦЯЖКУ', УЦЯШКУ' *прысл.* У выразах: *Хадзіць* [*быць, стаць*] *уцяжку* — знаходзіцца ў стане цяжарнасці (пра жанчыну). *Яна уцяшку хадзіла.* Валынцы В.-Дзв. *Як уцяшку хадзіла, зага мне ела.* Стральцы Гродз. *Хадзіла уцяшку.* Гемзы Шальч. *Яна уцяжку хадзіла, і перадражнівала калекаў. Яна уцяшку была, груба хадзіла.* Кудзялянцы Шальч. *Як уцяшку стала, нашлася рана.* Лайпушкі Ігн. *Любілася і уцяшку вінчалася: не спагадала дачке.* Валынцы В.-Дзв. *Цяпер на грубую бабу кажуць: «уцяшку».* Ёдлавічы Брасл.

УЦЯ'К *м.* Качар. *Утка і ўцяк адзін ходзіць.* Валынцы В.-Дзв.

УЦЯКА'ЦЬ, УЦІКА'ЦЬ *незак.* 1. Пазбягаць небяспекі, хавацца. *Людзі ня ўцякалі.* Малышы Лід. *Уцякаймо, бо ўкусіць гадзюка!* Ванелевічы Кап. *Хто кудама пусціўся ўцякаць.* Дарава Лях. *Так уцікаюць, як яны лбы ні паразбіваюць ліця.* Пераброддзе Міёр. *Ад некага уцікаў і хаваўся.* Завельцы Астр. 2. Ляцець у іншае месца (пра рой). *Бывая, што уцякаяць пшчолы, а хазяін гоніцца за імі, скіня кашулю на зямлю — і бывая, што сядаюць на кашулю.* Кальнішкі Шальч. 3. Адыходзіць, пакідаць каго-н.; адракацца. *Што гэта за матка, што ад дзяцей уцякая: праз тры дні ў хату не уходзіла.* Гемзы Шальч. *Каб вы жылі, як людзі, то і дзеці не ўцікалі б ад вас.* Вузла Мядз.; *парайн.* польск. *uciekać* 'тж'.

УЦЯНУ'ЦЬ *зак.* Усцягнуць. *Сам цянець — і уцянець санкі на гару.* Ахрэмаўцы Брасл.

УЦЯНЮ'К *м.* Качаня. *Уцянюк напіўшысь вады.* Старыя Смільгіні Воран.

УЦЯПЛЕ'ННЕ *н.* Матэрыял, якім уцяпляюць. *Уцяплення ў кадаўбе не было, не патрэбна было уцяпляць.* Вецярэвічы Пух.

УЦЯПЛІ'ЦЬ *зак.* Агледзе́ць, захаваць ад холаду. *Нада ўцяпліць скрыню, дзе зроблена акно ў парніку.* Ахрэмаўцы Брасл.

УЦЯПЛЯ'ЦЬ *незак.* да у ц я п л і́ ц ь. *Домікі для пчол уцяпляюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

УЦЯ'ЦЬ, ВТЯ'ТІ *зак.* 1. Адрэзаць, выразаць. *Уцяла ножнамі кусок, дзе не трэба.* Масілавічы Сл. 2. Рассячы, параніць. *Уцяў нагу тапаром.* Стральцы Гродз. 3. Укусіць. *Уцяць — укусіць зубамі.* Збляны Лід. 4. Сцебануць, пакараць, набіць. *Я яму ўцяў дупцом! Уцяў, ажні ён паваліўся.* Рыбчына Віл. 5. *перан.* Абразіць, унізіць. *Ён так уцяў маю Гальку, так яе абідзеў, яна перажывала.* Граўжышкі Ашм. ◇ *Як уця́ць* — у меру, колькі трэба. *Як уцяць хваціла.* Мыто Лід. *Ні ўця́ць ні ўзя́ць* — не мець нічога. Малахоўцы Бар., Вецярэвічы Пух. *Ні взя́ті ні втя́ті* — абсалютны брак. Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ściąć* 'зрэзаць, усячы, зваліць'.

УЦЯЧЫ' *зак.* 1. Паспешна схавацца, знікнуць. *Сам у пераулак уцёк ад іх.* Дарава Лях. *Сястра ўцякла, а немяц яе шукаў. Хлопяц с канём уцёк, і немяц ня бачыў.* Малышы Лід. *Двох уцяклі, а аднаго злавілі.* 2. *зак.* да у ц я к а́ ц ь 2. *Пчолы выбралі места — і уцяклі.* Кураполле Паст. *Уцяклі нашы пчолы.* Саланое Віл. 3. *перан.* Паліцца праз верх у час кіпення. *Глядзі, кап зацірка не ўцякла!* Солы Смарг. ∇ *Гаварылі дайней, што чорт да Спаса сядзіць на яблыні, а тады ў воду ўцячэ.* Дарава Лях.

УЦЯШКУ' *гл.* УЦЯЖКУ'

УЧА'ДАЦІ *зак.* Тое ж, што і у ч а́ д з і ц ь 1. *Коб я тут нэ ўчадала.* Смаляніца Пруж.

УЧАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і у ч а́ д з і ц ь 1. *Ён учадзеў на печы.* Асавец Віл.

УЧА'ДЗІЦЬ, УЧА'ДЗЯЦЬ, ВЧА'ДІТІ *зак.* 1. Учадзець; задыхнуцца ад чаду. *Злізай з печы, а то учадзіш!* Лоск Валож. *Як*

*некалі: вуглёў насунеш у прас, галаву учадзіш — і баліць.* Солы Смарг. *Бывала, ён галаву учадзіць — і хворы.* Гемзы Шальч. *Ад багуна ўчадзяш.* Быстрыца Астр. *Вы тут учадзяце.* Вецярэвічы Пух. *Учадзяла, цёмна у ваччу.* Лоск Валож., Азяраны Раг. *Ідзе чат, учадзяць можна.* Солы Смарг. 2. *перан. экспр.* Адурэць. *Што ты вчадів?! — Разумны чоловіек так нэ зробів бы!* Курашэва Чыж.

УЧАЛЬНІ'К *м.* Вучань. *Ужэ ў школу ходзіць, учальнік.* Вострава Маст.; *параўн.* руск. *ученик* 'тж'.

УЧАЛЬНІ'ЦА *ж.* Вучаніца. Вострава Маст.

УЧАПІ'ЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і у л я п і́ ц ц а. *Як учапіўся за шыю: ручак атарваць не магла.* Кураполле Паст. *Пыляты траву ядуць: каторы ў травіну ўчэпіцца і перакуліцца.* Вузла Мядз. 2. *экспр.* Моцна ўджаліць, укусіць; упіцца ў цела. *Вовадзень як учэпіцца за ногу — не вытрываць.* Парэчча Гродз. *П'яўка ўчэпіцца за ногу, то не адарвеш.* Альхоўцы Лях. 3. *перан.* Прыдзірацца да каго-н., прыстаць. *Чаго ты да мяне ўчапіўся?!* Бакшты Іўеў. 4. *перан.* Замацавацца назаўсёды. *Як на каго ўчэпіцца мянушка, так і на дзяцей яго пераходзіць.* Валеўка Навагр.

УЧАПЛЯ'ЦЦА *незак.* Нападаць. *Трох пчол учапляюцца за ягá* [трутня] *і цягнуць з дуплянкі.* Саланое Віл.

УЧАРА' *гл.* УЧО'РА

УЧАРА'СЬ *прысл.* Тое ж, што і у ч ó р а. *Учарась я з дзеўкамі ходіла в ліес.* Смаляніца Пруж.

УЧАРВЕ'ЦЬ *зак.* Стаць чарвівым, счарвівець. *Усе грыбэ учарвелі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Учарвелі яблыкі.* Альхоўка Навагр.

УЧАРСТВЕ'ЦЬ, УЧЭ'РСТВЕЦЬ *зак.* Стаць чэрствым. *Учарствела буханка хлеба.* Гемзы Шальч. *Учэрствеў хлеп.* Лоск Валож. *Ня ўчэрствея за адзін дзень хлеп.* Рыбчына Віл.

УЧАРЭ'ПІЦЦА *зак. экспр.* Учапіцца кіпцюрамі ў што-н. *Кацяня ўчарэпіцца лапамі — ні адарвеш.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

УЧАСА'ЦЦА *зак.* 1. Прычасацца. *Чаму ты не ўчасалася?* Кудзялянцы Шальч. 2. Вычасацца. *Учашыся частым густым грыбушком.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *uczesać się* 'прычасацца'.

УЧАСА'ЦЬ *зак.* Прычасаць. *Бывала, учэша мяне мамá.* Кухты Віл.

УЧА'СТАК *м.* 1. Зямельны надзел. *Участак зямлі было і трыццаць, і сорак гектар.* Мельнікі Лудз. *У нас быў участак семнаццаць гектараў або дваццаць чатыры гектары.* Латыгаль Віл. *У іх было два участкі зямлі.* Альхоўцы Лях. *Надзел зямлёй называўся участкамі.* Жылі Іўеў. 2. Выдзеленая частка засеянага поля, сенажаці і інш. для апрацоўкі. *Участак далі прапалоць.* Рыбчына Віл. *Участак лёну вырвала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Далі участак сена.* Лісна. В.-Дзв.

УЧАСТКО'ВІК *м.* Уладальнік участка зямлі. *Даўней участ-*

*ковікі сварацца, кап скот не пускалі на іх зямлю.* Парэчча Гродз.

УЧАЦВЯРО'Х *прысл.* Учацвярых. *Учацвярох малацілі цапамі.* Лоск Валож.

УЧВА'ЛАК *м.* Палена, цурбан. *Учвалак узяў, чуць падняў.* Гемзы Шальч.; *гл.* у ш в á л а к.

УЧВЭ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Зрабіць дрэнны ўчынак; сказаць недарэчнае. *Ён мажэ учвэрыць, зрабіць лядайко. Ты ш заўсюды учвэрыш абы што.* Дзяніскавічы Ганц.

УЧКУ'Р *м.* 1. Тое ж, што і у д ж ґ ý р. *Учкур завяжа. Завяжа штаны учкуром.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Драўляны гузік. *Тэраз гузік, а бывала, учкур, учкуры ушывалі.* Грыкені Вільн.

УЧО'РА, УЧО'РЭ, УЧАРА' *прысл.* Учора. *Учора ён прыехаў.* Саланое Віл. *Учора пас кароў.* Альхоўка Навагр. *Учора было цёпла.* Гемзы Шальч. *Учора пракалола нагу на іржавую провалаку.* Ёдлавічы Брасл. *Учора не была пашыўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Учора была зайшоўшы.* Пасіене Лудз. *Учорэ ходыв на конюшню.* Дзмітравічы Кап. *Учара то было зімна.* Старыя Трокі Трак.

УЧО'РАЙ *прысл.* Тое ж, што і у ч ó р а. *Учорай рано выганяў пастух.* Навасёлкі Свісл.

УЧО'РАКА *прысл.* Тое ж, што і у ч ó р а. *Учорака пасхаў.* Крынкі Крын. *Учорака быў п'яны.* Ністанішкі Смарг. *Учорака ён касіў да пазна.* Навасёлкі Свісл. *Дзісь спёка горы, як учорака.* Вострава Маст. *Учорака я закапалася.* Кураполле Паст.

УЧО'РЭ *гл.* УЧО'РА

УЧО'Т *м.* 1. Рэгістрацыя, запіс, улік. *Учот малака Ева вядзе.* Вецярэвічы Пух. 2. У выразах: *Зняць з учóту* — выбыць з уліку, са спісу, выпісацца. *Яго знялі з учоту па інваліднасці, ён здаровы.* Гемзы Шальч. *На учóті не стаяць* — не ўлічвацца. *Воны на учоті не стоят.* Ялова Пруж.

УЧО'ЧЫК *м.* Учотчык. *Гэна дзеўка стала учочыкам.* Лоск Валож.

УЧУ'ПІЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і у л я п í ц ц а. *Як учупілася за падол — не магла атняць.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Загарэцца. *Дзе сухі торф, агонь туды як учупіцца — курыцца і курыцца купа.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *čiùpti* 'схватваць'.

УЧУ'ХНУЦЬ *зак. экспр.* Усадзіць, замачыць. *Я ногу учухнула у воду, памый мае шкарпэткі.* Кіралі Шчуч.

УЧУ'ЦЬ *зак.* Пачуць. *Раптам учуў, што нешта сапе ззаду ле міне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мальчык учуў, што старая плачыць.* Валынцы В.-Дзв. *Бацька як учуў пра гэта.* Альхоўка Навагр. *Я учула, што ваша карова чыкнула.* Дзяніскавічы Ганц. *Учула, што пішчыць дзіця.* Гемзы Шальч. *Учула гэта яна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Учула Янінка яго голас. Там ніхто ня учуіць, спявай тут!* Ёдлавічы Брасл. *Такую гавэнду учуеш.* Мсцібава Ваўк. *Яна учула, што шэфы прыягджаюць.* Валеўка Навагр.

УЧЦІ'ВА *прысл.* Сумленна, добрасумленна. *Часам учціва, часам неучціва працуе.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *uczciwie* 'тж'.

УЧЫНІ'ЦЬ I *зак.* Рашчыніць. *Учыніць трэба хлеб.* Рудня Чэрв. *Нада хлеп учыніць.* Янова Рас., Асавец Віл.

УЧЫНІ'ЦЬ II *зак.* Зрабіць, утварыць што-н. незвычайнае, злачыннае. *Нада ш такое учыніць: грошы паследнія забраў і пашоў.* Вузла Мядз. *Немяц ахвоту* [ахоту] *учыніў — людзей пабіў, вёску спаліў.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *uczynić* 'тж'.

УЧЫНЯ'ЦЬ, УЧЫНЯ'ЦІ *незак.* да у ч ы н і ц ь I. *Даўней хлеп учынялі.* Рудня Чэрв. *Муку сыпалі ў ваду, учынялі хлеб, ён падходжуя, кіс, тады мясілі кулакамі. Учынялі кісель: забаўтаюць муку.* Азяраны Раг. *Буду хлеб учыняці.* Смаляніца Пруж. *Я учыняю хлеб на заквасцы.* Баброўнікі Гарад.

УЧЫТА'НЫ *дзеепрым.* Начытаны, граматны, дасведчаны. *Ён учытаны чалавек, газеты чытая.* Граўжышкі Ашм. *Ён учытаны і ўпісаны быў.* Груздава Паст.

УЧЫ'ЦЕ'ЛЬКА, УЧЫТЕ'ЛЬКА *ж.* Настаўніца. *На хутарах учыцелька е, голас вельмі харошы.* Вялікі Краснік Пруж. *Я хачу быць учыцéлькай.* Заполле Скідз. *Каб міне пусцілі да школы пахадзіць, я б учыцéлькай была.* Баброўнікі Гарад. *Яна за учыцéльку не хоча — дурэніе галавы.* Гемзы Шальч. *Йійі братавая учытéлька.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *nauczycielka,* руск. *учительница* 'тж'.

УЧЫ'ЦЕЛЬСТВАВАЦЬ *незак.* Настаўнічаць. *За Лудзай ён учыцельствуець.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *учительствовать* 'тж'.

УЧЫ'ЦЦА *незак.* Вучыцца. *Ахоту меў учыцца, і тэрас учыцца.* Старыя Трокі Трак. *Унучка добра учылась.* Паляцкішкі Воран. *Як яна учылася, яна днямі-начамі ані дзе вышла.* Баброўнікі Гарад. *Як Віце учыўсё, было трох хлопцаў.* Валеўка Навагр.

УЧЫ'ЦЬ *незак.* Вучыць. *Учыць чалавека сама жызь.* Ахрэмаўцы Брасл.

УЧЫ'ЦЯЛЬ *м.* Настаўнік. *Учыцяль адзін рас сціх* [верш] *перагаварыў — я расказала.* Солы Смарг. *Ён работает учыцялям.* Пераброддзе Міёр.; *параўн.* руск. *учитель* 'тж'.

УЧЭ'ПЫ *мн.* Карчы пад вадой. *Былі учэпы у рацэ.* Бакшты Іўеў.

УЧЭ'РСТВЕЦЬ *гл.* УЧАРСТВЕЦЬ

УША'К I *м.,* УШАКІ' *мн.* Вушак. *Праз ушак папала ей пуля.* Кураполле Паст. *У дзвярах ушакі, звязаны шапкаю.* Старыя Смільгіні Воран. *Ушакі чваракантовыя, дзюрка выдлубваецца у швэлі, і на канцах — чатыры ушакі.* Гемзы Шальч. *Шулы ўсе ў гумне, в хаце — ушакі.* Чычалі Швянч. *Прабой у ушакох.* Гемзы Шальч.

УША'К II *м.* Дзежачка. *Ушак — пасудзіна, вушкі былі, сowалася такая крышка.* Пасіене Лудз.

УШАЛО'ПІЦЬ *зак. экспр.* Зразумець, уцяміць, скеміць. *Я ўшалопіла гэта троху, што да чаго.* Вузла Мядз.

УШАСЦІ' *прысл.* Ушасцярых. *Гаёвыя ушасці капаюць*

*бульбу.* Гемзы Шальч. *Яны цапамі малацілі ушасці.* Параброддзе Міёр.

УШАТО'К *м. памянш.* Цабэрак. *Ушаток бы цэбэр.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* руск. *ушат* 'тж'.

УШАЧО'К *м. памянш.* да у ш а́ к I. *Ушачкі ставяць на подруп, робяць выемкі з двух бакоў на версе залогі.* Гемзы Шальч.

УШВА'ЛАК *м.* 1. Тое ж, што і у ч в а́ л а к. *Ушвалак — палено, як валяецца, то ушвалак.* Вострава Маст. 2. Аскалёпак. *Ушвалак с палена кусочак; назбірай ушвалкаў і разлажыў агонь.* Навасёлкі Свісл. ∇ *Як ушвалак* — пра тоўстага непаваротлівага чалавека ці жывёлу. *Ён тоўсты, як ушвалак, чуць ідзе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як сыты парсючок, то кажуць: «Як ушвалак!» І на дзіця так кажуць.* Вострава Маст.

УШВА'РАК *м.* 1. Тое ж, што і у ш в а́ л а к 1. *Ушварак небальшы адрэзаў — мэтр ці поўмэтра.* Дакудава Лід. 2. Палка. *Вось ушваркам вытну цябе!* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Вялізны кавалак чаго-н. *На ушваркі парэжуць сала, і яно ляжыць, чахня, а тады рэжуць на круглыя кускі ды соляць.* Азяраны Раг.

У'ШКІ *мн.* Петлі. *Ушкі ў лапцях, і ў хадакох ушкі.* Грыкені Вільн. *Ушкі трымалі нагу, без ушкаў як гэтая абора завядзецца?* Грыкені Вільн.

УШКО'ДЗІЦЦА *зак.* Вымазацца ў што-н. *Маліц ушкодзіўся, памый яго!* Якубова Рас.

УШКУ'Р *м.* Матуз. *Ушкурамі завяжы хвартух!* Лапічы Асіп.; *гл.* у ч к у́ р 1.

УШПА'РЫЦЬ *зак. экспр.* Моцна сцебануць, хвоснуць каго-н. *Як ушпарыш пугаю, то шнар знаць.* Баброўнікі Гарад.

УШПІЛІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і у ч а р э́ п і ц ц а. *Было столькі ракаў, лавілі іх: бывая, як ушпіліцца, чуць страсеш.* Малахоўцы Бар.

УШПЫЛІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і у с ц і́ п н у ц ц а. *Ушпыліцца шнуроўкаю, і добра.* Ухвала Круп.

У'ШТАЦЦА *незак.* 1. Гушкацца. *Дзеці уштаюцца, калышуцца.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Катацца. *Я ушталася на саначках з гары.* Старыя Смільгіні Воран.

У'ШТАЦЬ *незак.* Гушкаць. *Уштаць трэба малых. На руках яго уштаеш.* Старыя Смільгіні Воран.

УШТУРНУ'ЦЬ *зак.* Штуршком укінуць куды-н. *Ён уштурнуў курыцу у хату.* Валынцы В.-Дзв.

УШУ'ЛА *ж. буд.* Шула, шуло. *Ушула згніла, другую ставіць трэба. Ушулы дубовыя стаяць у варотах.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* ш у́ л а.

УШУ'ЛКА *ж. памянш.* да у ш у́ л а. *Няма ушулкі плот паставіць.* Вецярэвічы Пух.

УШУМЯ'ТКУ *прысл.* Усмятку. *Жайток ушумятку палучыўся.* Ванелевічы Кап.

УШЧАМІ'ЦЦА *зак.* Зашчаміцца, аказацца сціснутым з

двух бакоў. *Яна ушчэміцца з машынай між двух соснаў і выехаць не можа. А ён крычыць: «Чорт цябе угнаў у тыя сосны!»* Ёдлавічы Брасл.

УШЧАМІ'ЦЬ *зак.* Заціснуць што-н., замацаваць між чым-н. *Мама, бывала, кашулю у ногі ушчэміць і шыіць.* Груздава Паст.

УШЧАНУ'ЦЦА *зак.* Пачацца з вялікай сілай. *Кашаль як ушчанецца, аш на воніты верніць.* Груздава Паст.

УШЧАПЕ'РЫЦЦА *зак.* Тое ж, што і учапіцца 1. *Як ушчаперылася яна за шыйку — ня можна было ручак атарваць.* Кураполле Паст.

УШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Упіцца, прысмактацца. *Клешч ушчапіўся на шыі.* Дзяніскавічы Ганц.

УШЧАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Прышчапіць. *Ушчапіць яблыню.* Воўкуш Ліпск. *Нада ушчапіць такога і такога сорту яблык.* Стары Свержань Стаўб. *І нам ушчапіць трэба яблыну.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *мед.* Увесці ў арганізм вакцыну. *Нада ушчапіць ёй воспу.* Магуны Паст. 3. Прымацаваць. *Каб ета ў мяне старыкоўска здароўя, дак я, чорт е бяры, уставіў бы зубы. Ест у мяне за што ўшчапіць.* Скрыль Пух.

УШЧАПЛЯ'ЦЬ *незак.* да ушчапіць 1. *Ушчапляюць яблыні: пат кару расток.* Вострава Маст.

УШЧА'ЦЦА *зак.* Завесціся. *Ушчаўся рабак у цыбулі.* Старыя Смільгіні Воран., *параўн.* польск. *wszcząć się* 'пачацца'.

УШЧУВА'ЦЬ *незак.* Выхоўваць, настаўляць; дакараць, лаяць. *Бацькі не ушчуваюць, ён расце, як брыднік у лесі.* Кузьмічы Люб. *Ушчувай ты яго, чаму ты яго не ушчуваяш?!* Рудня Астравітая Чэрв. *Ушчувай ты свайго сына — ён такі благі: шыбае ў сабаку. Яна яго не ушчувая — сваё дзіця.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *czuwać* 'наглядаць, назіраць за кім-н., клапаціцца аб кім-н.'

УШЧУ'ЦЬ *зак.* да ушчуваць. *Яна яго не ушчуя — шкадуя: сваё дзіця.* Вецярэвічы Пух.

УШЧЫКНУ'ЦЬ *гл.* УШЧЫПНУ'ЦЬ

УШЧЫ'НЕНЫ *дзеепрым.* Зачынены. *Не ушчынена хата на клямку.* Кураполле Паст.

УШЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Зачыніць. *Хату ня ушчыніць, марос у хату ідзець, і інія ідзець.* Саланое Віл.

УШЧЫПНУ'ЦЬ, УШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* Ушчыкнуць. *Ён яе ўшчыпнуў за руку.* Чычалі Швянч. *Ён яе ўшчыпне.* Паляцкішкі Воран. *Ушчыкнець ён яе.* Саланое Віл. *Так ушчыкнуў, што крычала.* Любішчыцы Івац. *Ушчыкнуў рак своімі клюшнямі.* Вузла Мядз.

УШЧЭ'НТ *прысл.* Зусім, ушчэнт, удрузг. *Ён ушчэнт п'яны.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *do szczętu* 'датла, дашчэнту'.

УШЧЭ'П *м.* Прышчэпленае дрэва. *Там у нас трыццаць тры ушчэпы было, адзін ушчэп усох.* Мсцібава Ваўк. *У нас паміж ушчэпаў растуць канапельцы.* Завельцы Астр.

УШЧЭ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Прышчэплены. *Сліў няма, а на ўшчэпленай грушы сколькі груш.* Збляны Лід.

УШЧЭ'ПЛІВАЦЬ *незак.* да ушчапіць 1. *Ушчэплівацяь прышчэпкі дуляў* — сорт груш. Магуны Паст.

УШЧЭ'РП *м.* Страта, урон. *Ён вялікі ушчэрп мне зрабіў: паламаў плух, барану.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *ущерб* 'тж'.

УШШАНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і усхадзіцца 2. *Ой, гэдакі мой злосны: як ушшанецца, дык, бывая, усё у хаця паломя. Я яму гавару: «Чаго ты ушшануўся, узвірадзіўся, што табе зрабілася, што табе трэба?!» Ні чапай, бо як ушшанецца, дык яшчэ і па вуху дастаняш!* Рыбчына Віл.

УШЫБНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць. *Ушыбнула тут галаву.* Багушэвічы Бярэз. *Ушыбне нагу. Не прагаварьі ушыбнуць, толькі асцерагайся!* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *ушибить* 'тж'.

УШЫВА'ЦЬ *незак.* Прышываць, уточваць, устаўляць. *У сукню ўшывалі карункі.* Ракаўскія Швянч. *Дайней бірку ушывалі у штаны замест гузіка.* Вузла Мядз. *Хадаке рабілі іс скуры — юхты: збіралі яе ў хвандачкі, ушывалі вушкі.* Збляны Лід.

УШЫ'ВЯЦ *м. бат.* Свінакроп. *Ушывяц у льне расце, як лён полям, яго рвом.* Мсцібава Ваўк.

УШЫКАВА'ЦЬ *зак.* Упарадкаваць, упрыгожыць. *Пабудуюся, хату ушыкую.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* польск. *uszykować* 'выстраіць; падрыхтаваць'.

УШЫ'РКІ, УШЫ'РКУ *прысл.* Ушырыню, ушыркі. *Двор ушыркі — пяць мэтраў.* Альхоўцы Лях. *Ушырку сетка санціметраў дваццаць, іна вуска.* Істра Лудз.

УШЫ'ТЫ *дзеепрым.* Прышыты. *У сукманцы пасэк ушыты.* Васілевічы Гродз.

УШЫ'ЦІСА *зак.* Скончыць шыццё. *Я ушыюса ды пайдзем.* Смаляніца Пруж.

УШЫ'ЦЬ *зак.* 1. Прышыць, ушыць. *Рукаўко ўшыла.* Стральцы Гродз. 2. Пашыць. *Ушыеш сукеначку і добра.* Саланое Віл. *Кедысь с плаценка спадніцу ушыюць і кафтана.* Навадворцы Васільк. *Ушыла спадніцу доўгую.* Старыя Трокі Трак. *Ушый мне чаравічкі з камаровай скуры!* (фальк.). Талейкі Швянч.; *параўн.* польск. *uszyć* 'тж'.

УШЭ'СКА *мн. павеліч.* Вушы. *От, ушэска, волостэ ростэ.* Дзмітравічы Кам.

УШЭ'СНІК *м. царк.* Ушэсце. Беразіно Докш.

УШЭ'СЦЕ *н.* Тое ж, што і ушэ́снік. *Ушэсце ў шэсць недзель пасля пасхі.* Баброўнікі Гарад. *Было свята ушэсце — шоста нядзеля от паскі.* Хатынічы Ганц.

УЮ'ГА *ж.* Завіруха, завея. *Уюга усхадзілася.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *вьюга* 'тж'.

УЮ'Н *м. заал.* Уюн. *Уюны ёсць, яны да змяі падобны.* Рагулішкі Даўг. *Уюн падобен да ужа. Уюн жывушчы, пасып на яго солі — ён скача і пішчыць.* Парэчча Гродз. *Уюны вядуцца*

*ў гразі.* Кузьмічы Люб. *Навэрне махоў* [мяхоў] *тры уюноў!* Хатынічы Ганц. ∇ *Круціцца як уюны ў каробаццы* — гарэзаваць. *Гэтыя дзеці, як уюны у каробаццы, круцяцца і круцяцца.* Вецярэвічы Пух.; *гл. віюн.*

У Я′БЛЫКІ. У знач. *прым.* Сівой масці з цёмнымі круглымі плямамі. *Конь быў сівы ў яблыкі — стаенны конь.* Вузла Мядз.

УЯДА′ЦЬ *незак.* 1. Раз'юшана брахаць. *Сабака ўядая некага.* Жыдзевічы Іўеў. 2. Нагаворваць, даносіць, выдаваць. *Былі такія людзі, што ўядалі другіх, даносілі немцам на парцізан.* Вузла Мядз. *Тут адзін чалавек яго ўядаў.* Ёдупка Шальч.

УЯ′ДЛІВА *прысл.* Тое ж, што і у е д л і в а. *Уядліва робіць ён.* Семежава Кап.

УЯ′ДЛІВЫ *прым.* Уедлівы, які пакідае плямы. *Пот — уядлівы.* Дакудава Лід.

УЯ′ДЛЫ *прым.* Заўзяты, увішны. *Да работы уядлая мая маці.* Міратычы Карэл.

ЎЯЗЫ′ *мн. анат.* Карак; жылы на карку. *Ўязы заболелі; голова на ўязах. Ўязы — шея сзади.* Азарычы Пін.

# Ф

ФА′БРЫКА *ж.* Фабрыка. *На фабрыцы на калошнай робіць.* Кемялішкі Астр. ∇ *Усё ў мяне, як на фабрыцы, ідзець.* Груздава Паст.

ФАЕ′РКА, ФАІЕ′РКА *ж.* 1. Гарэлка ў газавай пліце. *Фаерка ат пліты, крушкі такія.* Завельцы Астр. *У плітке чатыры фаеркі.* Багдзюлі Шальч. *Лішню фаерку выключы.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Канфорка. *Знімі фаіеркі і постав чыгуна с картохлямі, коб варывсе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *fajerka* 'канфорка'.

ФА′ЗАЧКА *ж. паманш.* Кадушачка.*Фазачка суцэльная, німа клепкаў, зліваюць смятану і масла кладуць.* Гемзы Шальч.

ФА′ЙКА *ж.* Люлька для курэння. *Колісь наш діет файку курыв.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *fajka* 'тж'.

ФА′ЙНА, ФА′ЙНО *прысл.* 1. Добра. *Як файно відаць.* Жодзішкі Смарг. *Як яна* [бульба] *грўбая, ножык файна чысціць.* Солы Смарг. *Сходы пасходзілі файно.* Навадворцы Васільк. 2. Смачна. *Гавячу кроў на жыры паджарыць — вот файна!* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Моцна. *Еслі файна любіць, то прыедзя.* Жодзішкі Смарг. 4. Прыгожа. *Харашо, файна адзеўся.* Солы Смарг. 5. Багата. *Яны файна жывуць, такія ганаровыя.* Парэчча Гродз.; *парайн.* ням. *fein* 'тж'.

ФА′ЙНЫ, ХВА′ЙНЫ *прым.* 1. Які мае дадатныя рысы характару. *У Нінкі будзяця жыць, яна файны чалавек.* Збляны Лід. *Дачка пры ей файная. Бацька быў файны чалавек.* Гемзы

Шальч. 2. Прыгожы. *Я з ім дружыла, файны хлопчык.* Малі Астр. *Файны хлопец, але ён ніякага фаху не маіць.* Завельцы Астр. *Харошы, файны ён.* Вострава Маст. *І такая была файная дзеўчына!* Гемзы Шальч. *Да Лоўчыкаў такія файныя дзяўчаты прыехалі!* Дварчаны Паст. *Здаровая, файная яна.* Чычалі Швянч. 3. Добрага заводу, з добрымі якасцямі. *Карову маюся здаваць, яна с пятым цялюком, файная карова.* Старыя Трокі Трак. *Файнэ парася.* Ялова Пруж. *Сабака файны, пілнуе дому.* Старыя Трокі Трак. *Файны пятух.* Гемзы Шальч. *Дзеляспёр — рыба файная.* Дакудава Лід. 4. Смачны. *Палучыўся суп файны.* Дакудава Лід. *Файны хлеп, адны дзірачкі.* Парэчча Гродз. *Ніхто ні есць гэтаго сала, а яно такое файнэ.* Баброўнікі Гарад. *Хвайны, мяккі хлеб.* Азарычы Пін. 5. Добрага гатунку. *Такі файны парашок, як «Новасць»!* Солы Смарг. 6. Ураджайны. *Файны картохлі выраслі.* Курашэва Чыж. 7. Урадлівы. *Наша зімля файная.* Трыбухі Міёр. 8. Ясны, цёплы (пра пагоду). *Файная пагода.* Кіралі Шчуч.; *гл.* ф а́ й н а.

ФАЙТ *выкл.* у знач. *вык.* Перадае хуткі рух. *Файт пад лошка, а там сучка са шчанятамі!* Граўжышкі Ашм.

ФАЙТА́К *м.* Сажань. *Файтакі зрабілі мерыць поля.* Жылі Іўеў.

ФА́КТАР, ФА́КТОР *м.* 1. Пасрэднік. *Ён плот прыцэпам паламаў, а потым некага фактара прывёў, што ш той скажа?!* Пацаўшчына Дзятл. *Фактор пудбівае ціну: дае буольш.* Курашэва Чыж. 2. Заступнік. *Мніе факторуов нэ трэба, сам собіе дам рады.* Курашэва Чыж. 3. Сват. *Высілле ў нас адразу пачынаіцца так: ідэш до невесты і бырэш дружка, і заходыть фактор і пытае: «Шчо е до продання?»* Сычы Брэсц.; *парайн.* польск. *faktor* 'пасрэднік'.

ФАКТУ́РА *ж.* Накладная. *Мужык мой гаворыць: «А ну-ка, сяць ты едзь, а я пайду ў кантору фактуру пяраправіць».* Заціщава Слабада Пух.; *парайн.* польск. *faktura* 'тж'.

ФАЛДАВА́НЫ *прым.* Складзены ў зборку, у складку. *Фалдаваная спадніца, а цяпер гуфраваная.* Быстрыца Астр. *Шылі фалдаваныя такія спадніцы.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *fałdowany* 'тж'.

ФАЛДАВА́ЦЬ *незак. перан.* Біць. *Як начаў фалдаваць адзін аднаго!* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *fałdować* 'збіраць у зборку, рабіць складкі'.

ФА́ЛДЫ, ФА́НДЫ, ХВА́НДЫ, ХВА́ЛДЫ *мн.* 1. Зборкі, складкі. *Закладкі складаюцца, а фалды збіраюцца.* Солы Смарг. *У бакежах распоркі — такія фалды.* Грыкені Вільн. *Фалдаў панакладаюць, фалды на фалдах, у закладкі.* Новікі Гродз. *Сарачкі з фандамі.* Альхоўцы Лях. *Шылі андаракі, у іх было семдзісят сем хвандаў.* Збляны Лід. *Спадніца пашыта ў хванды.* Лоск Валож. *Шырока пашыла ў тры полкі, хвалдоў тых наробіць.* Баброўнікі Гарад. *Хвалды вялікія былі, спадніцы шырокія.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *fałda* 'тж'. 2. *пе-*

*ран. бат.* Пласцінкі ў пласцінчатых грыбах. *У мухаморы пад нізом фалды стаяць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. *перан.* Маршчыны. *Лэп у хвалдах, зморшчыўся ўвесь.* Ракаўскія Швянч.

ФА′ЛЕР *м.* і *ж.* Той, хто спрытны. *Хто робіць быстра — фалер.* Парэчча Гродз.

ФА′ЛЕЦ *м. тэхн.* Паз. *Рама прыпіраецца к раўку, к фальцу. Нада фалец вынімаць у шленґах. У шленґах і ў шапке — па два фальцы, а ў падаконніку — адзін фалец.* Скрудалена Даўг.; *парайн.* ням. *Falz* 'тж'.

ФАЛЁВАТІ *гл.* ФАЛЯВА′ЦЬ І і ІІ

ФАЛІВА′РАК *гл.* ФО′ЛЬВАРАК

ФА′ЛІСТЫ *прым.* Кучаравы (пра валасы). *У Колі такая фаліста чупрына!* Курашэва Чыж.

ФАЛЬБА′НАЧКА *ж. памянш.* да ф а л ь б о́ н а 1. *Фальбаначкі прыкладаюцца ўнізе да каптана.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *falbonka* 'тж'.

ФАЛЬБО′НА, ХВАЛЬБО′НА *ж.* 1. Брыжы. *Фальбона ў шурпачкі.* Саланое Віл. *Фартух с фальбонамі.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Шырокая аборка. *Спадніцы насілі, і тры фальбоны адна па аднэй прышыта.* Рыбчына Віл. *Шылі юпкі с фальбонамі падспот спадніцы.* Старыя Трокі Трак. *Брыжы вузянькія, фальбоны шырокія.* Солы Смарг. *Брыжы вушшыя, а фальбоны шыршыя прышываліся.* Дакудава Лід. *Хвальбона шырокая, многа хвалдаў, прышывалі да спадніцы.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *falbona* 'тж'.

ФАЛЬБО′НКА, ФАЛЬБА′НКА, ФАЛЬБУО′НКА *ж.* 1. *памянш.* да ф а л ь б о́ н а 1. *Фальбонку прышыла знізу.* Магуны Паст. *Фальбонка да спадніцы прышывалася і фартухі апшывалі кругом фальбонкай. Фальбонка да сукні прышыта: уподалі і ўверсе.* Завельцы Астр. *Каптан шыецца з фальбанкай. Сукенкі с фальбанкамі, па тры-чатыры фальбанкі.* Гемзы Шальч. *Ганка пашыла собіе нову спудніцю с фальбуонкамі.* Курашэва Чыж. 2. у знач. *прысл.* ф а л ь б о́ н к а й. У выглядзе фальбонкі. *Фартух пашыты фальбонкай.* Гемзы Шальч.

ФА′ЛЬКА *ж. памянш.* да ф а́ л я 1. *Фалькі бягуць, вада фалюецца.* Мсцібава Ваўк.

ФАЛЬЦАВА′ЦЬ *незак.* Рабіць паз. *Фальцэбіль фальцаваць доскі.* Кураполле Паст.; *парайн.* ням. *falzen* 'шпунтаваць, фальцаваць'.

ФАЛЬЦЭ′БІЛЬ *м.* Від рубанка. *Быў фальцэбіль, доскі фальцавалі ім.* Кураполле Паст.

ФА′ЛЬШ, ФА′ЛЬЧ *м.* Загана, недахоп. *І тут, у сукенцы, фальш ёсць.* Ёдлавічы Брасл. *Карова трэпнула нагой, гэта фальч.* Кураполле Паст. *Ён робя сабе, ці каму бес фальшу, шчыры чалавек.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *fałsz* < ням. *Falsch* 'фальш, хлусня'.

ФАЛЬШЫ′ВІЦЬ *незак.* Ашукваць. *Прыёмшчыца не фаль-*

*шывіла, правільна апрадзіляла жыры.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *fałszować* 'фальшывіць, падрабляць'.

ФАЛЬШЫ'ВЫ, ФАЛЬЧЫ'ВЫ *прым.* Крывадушны. *Фальшывы ён.* Мярэцкія Глыб. *Яна фальшывая была.* Старыя Трокі Трак. *Фальчывы чалавек.* Міратычы Карэл.; *парайн.* польск. *fałszywy* 'тж'.

ФАЛЬШЫ'ВЫ СВЯ'ТКА *м. юрыд.* Ілжэсведка. *Фальшывыя сяткі былі, іх засудзілі.* Кудзялянцы Шальч.

ФАЛЬШЫ'ВЯ *прысл.* Прытворна. *Усе відзелі, што яна фальшывя плача па нябошчыку.* Малі Астр.

ФАЛЮ'ШНІК *м.* Валюшнік. *Быў фалюшнік, што фалявай тое сукно.* Новікі Гродз.

ФА'ЛЯ *ж.* 1. Хваля. *Фаля вялікая, чуць уцёк: я бягу, яна за мной. Фалі былі высокія, і дрэнна было ехаць на лоткі. Вот харашо, маляначкія фалі, вецярок гоніць фалі.* Ёдлавічы Брасл. *Вялікія фалі на Вільe.* Завельцы Астр. *Учора былі вялікія фалі.* Кемялішкі Астр. *Фалі на рацэ.* Быстрыца Астр. *На возіры б'юць фалі.* Вузла Мядз. *Фалі на вадзе.* Старыя Смільгіні Воран., Ністанішкі Смарг., Грыкені Вільн. *Як велікі ветёр, то па водіе робяцце фалі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *fala* 'тж'. 2. *перан.* Локан. *Галава ўпаратку, усё фалі, фалі на валасах.* Солы Смарг. *Прычэша, рукой прыцісне і ўкладаюцца фалямі.* Завельцы Астр. 3. у знач. *прысл.* ф á л я м і. У выглядзе хваль. *Круціліся валасы фалямі ладне.* Малі Астр.

ФАЛЯВА'ЦЦА *незак.* 1. Хваляваццa. *Фалькі бягуць, вада фалюецца.* Мсцібава Ваўк. 2. Нерваваццa. *У карты іграючы фалюецца.* Солы Смарг.

ФАЛЯВА'ЦЬ I, ФАЛЁВАТІ *незак.* 1. Прыходзіць у хваляванне. *Як вада фалюя, не бярэцца рыба.* Гемзы Шальч. 2. Боўтаць. *Не фалюй воду, нехай будэ спокойна.* Курашэва Чыж. 3. Круціцца ў віры. *Вада фалюе, дзе ямы ў рэццы.* Руднікі Шальч.

ФАЛЯВА'ЦЬ II, ФАЛЁВАТІ *незак.* Валіць сукно. *Фалюшнік фалявай сукно.* Новікі Гродз. *Колісь ткалі сукно і нэслі до нэзбуоткі фалёваті.* Курашэва Чыж.

ФАМІ'ЛІЯ *ж.* 1. Прозвішча. *Кабак — яго фамілія.* Дзераўное Стаўб. *Фамілію забыла, начынаю путаць.* Слабада Мін. *У нас адзінакавая фамілія.* Рагулішкі Даўг. 2. Радня. *Уся фамілія сабралася.* Быстрыца Астр. *Фамілія тады, як ты тулісся. Мая лепшая фамілія, як твая.* Малі Астр. *Як быў муш, так была фамілія.* Завельцы Астр. *Мой тры начы ліжай, чакалі, кап уся фамілія прыехала. Усю сваю фамілію звёў.* Солы Смарг. *Мы ім ніякая фамілія, нас не папросяць.* Кіралі Шчуч. *Да фамілії пойдзя, накорміць хто.* Жылі Іўеў. *Там мая ўсенька фамілія.* Парэчча Гродз. *Выслайляя на усю фамілію.* Ёдупка Шальч. 3. Сям'я. *У майго бацькі была велька фамілія — адзінаццаць чалавек, асталося троя — усе памярлі.* Кіралі Шчуч. 4. Род. *Савіцкія — добрай фаміліі, мая баба з Савіцкіх.* Івашкаўцы

Смарг. *Мы з ёю — сёстры дваюродныя, з аднае фаміліі.* Кіралі Шчуч. *Сватаюцца, фамілію добрую выбіраюць.* Ракаўскія Швянч. *Сынава с фаміліі харошай.* Кудзялянцы Шальч. ∇ *Шваґер — не фамілія, вантробы — не мяса.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *familia* 'сям'я, радня'.

ФАМІЛЬЯ'НЕЦ *м.* Родны па крыві, кроўны. *Мы ш с табой фамільянцы.* Глівін Барыс.

ФАМІЛЬЯ'НТ, ФАМІЛЬЯ'Т, ФАМІЛІЯ'Т *м.* Тое ж, што і ф а м і л ь я́ н е ц. *Сваіх фамільянтаў сабраў.* Старыя Смільгіні Воран. *Стары салдат сваіх фамільянтаў шукаў.* Гемзы Шальч. *Мой фамільят. Фамільяты — крэўныя мае — хацелі, кап я за краўцову вучылася.* Гальшаны Ашм. *Яны былі фамільяты.* Жылі Іўеў. *Гэта фаміліяты нашы.* Завельцы Астр. *Мае фаміліяты з добрай фаміліі.* Паляцкішкі Воран.

ФАНАБЭ'РЫСТЫ, ФАНАБА'РЫСТЫ, ХВАНАБЭ'РЫСТЫ *прым.* Пыхлівы. *Ён — фанабэрысты чалавек.* Ністанішкі Смарг. *Ён такі фанабарысты, куды там!* Магуны Паст. *Хванабэрысты такі, сам сабе высока вядзе.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *fanaberia* 'ганарыстасць'.

ФАНА'Р *м.* Ліхтар. *С фанаром у хлеў хадзілі.* Завельцы Астр. *З фанаром хадзіла вечарам у сельсавет.* Слабада Мін. *Курнічак уставяць у фанар і пашлі запаліўшыся.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* грэч. φανός 'свяцільнік, свет, факел' (Фасм., IV. М., 1973, с. 202).

ФА'НДАЧКІ *мн. памянш.* да ф а́ н д ы 1. *Андаракі ў фандачкі зложыць.* Вецярэвічы Пух. *Нажутка з фандачкамі, кароценькая, суконная.* Галубы Маст.

ФА'НДЫ *гл.* ФА'ЛДЫ

ФАНЦІ'НКА *ж.* Чыстая анучка накрываць прадукты. *Накрый фанцінкай хлеп.* Нізок Уздз.

ФА'РБА, ХВА'РБА *ж.* Фарба. *Накшай купіла фарбы.* Вострава Маст. *Хварбу на трапкі куплялі.* Вузла Мядз. *Хварба засохла, чым хварбаваць?* Мярэцкія Глыб. *Хварбу прывёс.* Рыбчына Віл., Пасека Ст.-Дар. *Хварбу купіў, трэба пахварбаваць падлогу.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *farba* < ням. *Farbe* 'тж'.

ФАРБАВА'ЦЬ, ХВАРБАВА'ЦЬ *незак.* Фарбаваць. *Мех фарбавалі і шылі спадніцы.* Гальшаны Ашм. *На верхняе фарбавалі ніткі, а на просціні — белыя. Фарбавалі палацяныя туфлі.* Завельцы Астр. *Я па дзесяць губак фарбавала.* Саланое Віл. *У сажу маткі фарбавалі, у карычневы цвет.* Вузла Мядз. *Фарбавалі так: ягаднік збіралі, утаўчэш у балота* [руду]. Старыя Смільгіні Воран. *Фарбаваць трэба ніці.* Кіралі Шчуч. *Хварбуюць палатно.* Альхоўцы Лях. *Маткі хварбавалі: абальём і кладзём у рудовіну.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *farbować* 'тж'.

ФАРСІ'ВЫ *прым.* Фарсісты, ганарысты. *Яна фарсівая, мая ўнучка.* Вецярэвічы Пух.

ФАРСІ'СТЫ, ХВАРСІ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і ф а р с і-

вы. *Фарсісты хлопец, натта нос задзіраіць.* Вузла Мядз. *Старая баба ды хварсістая.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ФАРСІ'ЦЬ, ФОРСІ'ТІ *незак.* Выхваляцца. *Фарсіць дзеўка.* Завельцы Астр. *Ніколі не фарсі.* Груздава Паст. *Гандзя так форсіт, што мало с кім говорыті хочэ.* Курашэва Чыж.

ФАРСУ'Н *м.* Той, хто любіць фарсіць. *Фарсун такі хлопец.* Завельцы Астр.

ФАРСУ'ХА *ж.* Тая, якая любіць фарсіць. *Фарсуха мая сусетка.* Завельцы Астр.

ФАРТУ'Х, ХВАРТУ'Х *м.* Фартух. *Фартух бабы насілі.* Кемялішкі Астр. *Набярэць у прыпол, у фартух яблыкаў.* Завельцы Астр. *Фартух с фальбонкай і кяшэнкам і два шнюркі завязваць.* Гемзы Шальч. *Матузы ўшываюцца ў фартух.* Магуны Паст. *Фартух паскамі завязваяцца.* Малахоўцы Бар. *Завяжы фартух! Тасемкі да фартуха.* Солы Смарг. *Запіналі фартух рабе́нькі.* Кіралі Шчуч. *Фартух прыпні!* Рудня Астравітая Чэрв. *С фартуха сеялі ўручную.* Вострава Маст., Навадворцы Васільк. *Фартух шылі з нагруднікам, сеялі з яго.* Навасёлкі Лід. *Завязвалі фартухе, насыпая жыта і сеялі.* Парэчча Гродз. *Фартух с плотнаго* [палатна] *рабілі, жыто з яго сеялі.* Сакаляны Сакол. *Павешу на печ фартух мой.* Лоск Валож. *Бабы прадуць с фартухам белым.* Малькуны Ігн. *Фартух дарагі — чырвоныя берагі на вароцях павешала, усіх хлопцаў пацешыла.* Кураполле Паст. *Сыра кусочак у хвартух увяжу, укушу сыра і раблю.* Вузла Мядз. *Хвартух падвязаць трэба.* Рыбчына Віл., Беразіно Докш. *Я бульбу чысціла, хвартухі мыла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У нас ні сеялі с хвартуха. С хвартуха мушчына будзя сеяць?!* Хатынічы Ганц. *Хвартух бабы носілі.* Смаляніца Пруж. *С хвартухоў сеялі.* Тухавічы Лях. *Хвартух пашыла.* Крынкі Крын.; *парайн.* ням. *Vortuch* 'тж'.; *гл.* ДАБМ, карта № 330.

ФА'РТУШАК *м. памянш.* да ф а р т у́ х. *Фартушак харошы.* Гальшаны Ашм.

ФАРФЛЕ'ДА *ж.* Ліштва вакол аконнага праёма. *Тры фарфледы — дзве бакавых і адна верхняя, а ніжняя — падаконнік.* Саланое Віл.

ФАРФУРО'ВЫ *прым.* Фарфоравы. *Крушка фарфурова.* Лоск Валож. *Палміска і талеркі фарфуровыя.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *farfurowy* 'тж'.

ФАРЭ'ЛЬ *ж. заал.* Фарэль. *Фарэль любіць чыстыя рэчкі.* Месянцы Брасл.; *парайн.* ням. *Forelle* 'тж' (Фасм., т. IV. М., 1973, с. 203).

ФАС *м.* Выдзеўбаная з дрэва або зробленая з клёпак дзежачка, якая служыць для захоўвання розных прадуктаў. *У фасы мёт злівалі.* Сасноўка Смарг.

ФАСАЛЁВЫ *прым.* Фасолевы. *Фасалёвая луска ат почкаў харашо.* Быстрыца Астр.

ФА'СКА *ж.* Тое ж, што і ф а с. *Фаска ў матулі была, вытачана з дзерава.* Быстрыца Астр. *Фаска невялічкая, дзяраўляная,*

*масла ў ёй дзяржалі.* Магуны Паст. *Кубял і фаску с клёпак рабілі, у большых фасках квасілі буракі, у невялікіх было масла.* Старыя Трокі Трак. *У фаскі мёт налівалі.* Солы Смарг. *На фасца ляжыць дуст.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *faska* 'тж'.

ФАСО'ВАТІ *незак.* Пасаваць. *Тые чэрэвікі тобіе фасуют, можэш купіті.* Курашэва Чыж.

ФАСО'ЛА *гл.* ФАСО'ЛЯ

ФАСО'ЛЬ *ж. бат.* Фасоля. *Фасоль я позна садзіла.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *fasola* 'тж'; *гл.* пасо́ль.

ФАСО'ЛЬНІК *м.* Сцяблы і лісце фасолі. *Фасольнік у хлеў кінуў, ён цвёрды, як дрот.* Гемзы Шальч.

ФАСО'ЛЬНІШЧА *зб. н.* Тое ж, што і фасо́льнік. *Фасоль сеім, фасольнішча сушым, падсцілаім, не хочыт скот есці.* Пасіене Лудз.

ФАСО'ЛЯ, ФАСО'ЛА *ж.* Тое ж, што і фасо́ль. *Фасолю с панцаком гатавалі.* Васілевічы Гродз. *Фасолю лушчуць рукамі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Фасоляў наварыла.* Магуны Паст. *Фасола ў супя.* Солы Смарг.; *гл.* пасо́ля.

ФАСО'Н *м. перан.* 1. Знешні выгляд (вырабу). *Сукно нігды не цераець фасон.* Малькуны Ігн. 2. Падобнасць да каго-н. *Гуж* [вуж] *на фасоне гадзіны.* Гемзы Шальч.

ФА'СТКА *ж.* Тое ж, што фас. *Фастка з дзвема ручкамі.* Жодзішкі Смарг.

ФАСТРЫ'ГА *ж.* Шво вялікімі шыўкамі. *Фастрыга рэткая, густа яе не шыюць, зратка.* Завельцы Астр. *Ты фастрыгу нафастрыгуй, а тады шый.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *fastryga* 'тж'.

ФАСТРЫГАВА'ЦЬ *незак.* Фастрыгаваць. *Фастрыгуюць перш, як шыяць.* Завельцы Астр. *Фастрыгуе, а тады шыя.* Быстрыца Астр. *Трэба фастрыгаваць, так ні пашыяш.* Жодзішкі Смарг. *Фастрыгу фастрыгуюць, так добро шыць.* Стральцы Гродз. *Трэба фастрыгаваць, раўней ушыяцца.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *fastrygować* 'тж'.

ФАТА' *ж.* Вэлюм. *У нас не ў фаце вянчаліся, а ў колцах, зробленых з лентаў.* Мельканавічы Слон. *Фату купялі, як ішлі замуш.* Падгаі Мін.; запазычана з тур. *futa, fota* 'фартух, паласатая тканіна'.

ФАТАГРА'ФЧЫК, ФАТАГРА'ФШЧЫК, ФАТАГРА'ЎШЧЫК *м.* Фатограф. *Паедзям сёна да фатаграфчыка.* Кіралі Шчуч. *Фатаграфшчык фатаграфуя.* Завельцы Астр. *Трэба ісці да фатаграўшчыка зняцца.* Гемзы Шальч.

ФАТЫ'ГА *ж.* Клопат, турбота. *Шкода фатыгі.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* польск. *fatyga* 'тж'.

ФАТЫГАВА'ЦЦА *незак.* Клапаціцца, турбавацца. *Не фатыгуйцеся, я толькі зайшоў паглядзець.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *fatygować się* 'тж'.

ФАФА'ЙКА *гл.* ФУФА'ЙКА

ФАХ *м.* Спецыяльнасць, прафесія. *Мой тата сто фахаў рабіў. — Які фах маў? — Сталяр.* Солы Смарг. *Файны хлопец, але ён ніякага фаху не маіць — дрывасек.* Завельцы Астр. *З гэтага фаху ты хлеба есці не будзеш.* Гемзы Шальч. *Коп чоловіек міев фах, то всюду роботу собіе нашов бы. До школы нэ ходів, але научывсе фаху.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *fach* 'тж'.

ФАХО'ВО *прысл.* Па-майстэрску, як належыць майстру. *Муляр фахово хату поставів.* Курашэва Чыж.

ФАХО'ВЫ *прым.* Уласцівы сапраўднаму майстру. *Вуон фаховы чоловіек: як до чогось возмецце, то добрэ зробіт.* Курашэва Чыж.

ФАХУО'ВЕЦ *м.* ◇ *Фахуовец на всіе рукі* — пра чалавека, які ўмее ўсё рабіць. *Трэба найті фахуовца на всіе рукі, коб уміев всё зробіті.* Курашэва Чыж.

ФАЦЭ'ТНА *прысл.* Цікава. *Але ш фацэтна, як ламае лёт: падымя высока, як дом, а тады — плясь!* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *facecja* 'жарт, анекдот'.

ФЕ'ЙЧАР, ФЭ'ЙЧАР, ФЕ'ЛЬЧАР, ФЕ'ЛЬШАР, ХВЕ'ЛЬЧАР *м.* Фельчар. *Фейчар прыехаў.* Слабада Мін. *Калісці былі фэйчары.* Ністанішкі Смарг. *Фельчар кажа: «Бабушка, з вашым даўленням у котлас* [космас] *можна ляцець».* Слабада Мін. *У Дарэве фельшар жыў.* Дарава Лях. *Мая адна пляменіца за хвельчара вучыцца.* Якшыцы Бярэз.; *параўн.* польск. *felczer* 'тж', ням. *Feldscher* 'цырульнік, хірург'. (Фасм., IV. М., 1973, с. 189).

ФЕ'ЛЕР *м.* Загана. *Сіеты куонь мае одін фелер — кульгае на задню ногу.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *feler* 'тж' < ням. *Fehler.*

ФЕ'НІК *м.* Пфеніг. *За ніемцуов былі маркі і фенікі.* Курашэва Чыж. ◇ *Зломаного феніка не варты* — не мае ніякай вартасці. *Зломаного феніка не достаць* — нічога не зарабіць. *За такую роботу і зломаного феніка не достанеш.* Курашэва Чыж.

ФЕ'РМА, ФЭ'РМА, ФІ'РМА, ХЕ'РМА *ж.* Жывёлагадоўчая ферма. *У ферме быў.* Кемялішкі Астр. *Дваём на ферме: Генік і Манька.* Месянцы Брасл. *Ён на фэрме работаў.* Канюкай Вільн. *У нашай фірме апаратамі цяпер дояць.* Крэва Смарг. *Па фірмах развозіць* [кармы]. Солы Смарг. *Ён робіць на херме.* Саланое Віл.; *параўн.* франц. *ferme, fermer* 'запіраць' (Фасм., IV. М., 1973, с. 190).

ФІ'ҐА, ХВІ'ҐА *ж. груб.* Фіга. *Фіґу дала.* Рагулішкі Даўг. *Як вадзяцца — фіґі даюць.* Кудзялянцы Шальч. *Фіґам вы торкаліся.* Малькуны Ігн. *А вашы дзеці хвіґу вам дадуць. Дай яму хвіґу!* Саланое Віл. *Вот на табе хвіґу!* Кіралі Шчуч. *А ты рўды, хадзі сюды, а ты чорны, стаі там. Я рудога пацалую, а чорнаму хвіґу дам.* Кураполле Паст. *Нявестка да печы старую не пусціла, што ласейшага — з'есць сама, а то як станя хвіґі даваць!* Пузыры Мядз. *Маю шэсь дачок, купляю па батону, а то*

*не куплю, будзе ім па днэй хвідзы.* Гемзы Шальч. *Даў хвіґай у дыхавіну, аш дух забіў.* Номікі Бабіц. ◇ *Фіґу даць касе* — парэзаць руку ў час вастрэння касы. *Фіґу даў касе, кроў ішла.* Граўжышкі Ашм. *Фіґа табе!* — лаянкавы выраз для катэгарычнага адмаўлення. Ёдлавічы Брасл. *Фіґу накруціць* — нічога не даць. *Ён мне фіґу накруціў за трыцаць рублей — вот як ёсь у жыцї.* Ахрэмаўцы Брасл.

ФІГУ'ЛКА *ж.* Таблетка. *Трэба фіґулку браць ад галавы.* Ёдупка Шальч. *Хто мая зоба, фіґулкі нейкія п'е.* Дэгшні Шальч.; *парайн.* польск. *pigułka* 'тж'.

ФІ'ЛАТАВЫ, ФІЛЕ'ТАВЫ, ФІЛІТО'ВЫ, ФІЛЮТО'ВЫ *прым.* Фіялетавы. *Саснулька — невялікія краскі, філатавы, на стаўбунках.* Быстрыца Астр. *Косачэ філетавыя, галубыя.* Пацаўшчына Дзятл. *Філітовы, як чарніла. Прыгожая сукенка: філітовы колер, у кветачкі.* Завельцы Астр. *Філютовыя рагульке растуць.* Баброўнікі Гарад.

ФІЛЁНГ *м.* Створка (дзвярэй). *З двэры одін філёнґ вылетів.* Курашэва Чыж. *Адзін філёнґ выпаў.* Завельцы Астр.

ФІЛІЖА'НКА *ж.* Кубак. *Чай п'юць з філіжанкі.* Кемялішкі Астр.; *парайн.* польск. *filiżanka* 'тж'.

ФІЛІНГО'ВЫ, ФІЛЯНГО'ВЫ *прым.* Двухстворкавы (пра дзверы). *У нас філінґовыя дзверы.* Завельцы Астр. *Дзверы бываюць філінґовыя і простыя.* Вострава Маст. *Двэры філінґовые.* Дзмітравічы Кам. *Філянґовыя дзверы: дзве форточкі, рамы робяцца, застаўляюцца доскі ў гэты рамы.* Мярэцкія Глыб.

ФІЛІНЧА'ТЫ *прым.* Тое ж, што ф і л і н ґ о́ в ы. *Філінчатыі дверы, на две палавінкі.* Скрудалена Даўг.

ФІЛІТО'ВЫ *гл.* ФІ'ЛАТАВЫ

ФІЛЬЦ *м.* Лямец. *З фільцу чосанкі пошыв.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *filc* 'тж'.

ФІЛЮ'ТА *м.* і *ж.* Гультай. *Я не даваў ёй быць філютай.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Сядзіць, як філюта, нічога не робіць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *filut* 'дасціпнік, прайдзісвет'.

ФІЛЮТО'ВЫ *гл.* ФІ'ЛАТАВЫ

ФІЛЮЦІ'РАВАЦЬ *незак.* Гультаяваць. *Філюціраваіць, не работаіць, глядзіць, кап за яго хто зрабіў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ФІЛЯНГО'ВЫ *гл.* ФІЛІНГО'ВЫ

ФІЛЯ'Р *м. буд.* 1. Шула. *Закідаюць броўнушкі ў філяры.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Прасценак. *Філяр — між вакон прасценак.* Гайна Лаг.; *парайн.* польск. *filar* 'калона, апора'.

ФІ'НА *ж.* Звужаная, завостраная частка малатка. *У молаце баня і фіна. Удэр фінай.* Гемзы Шальч.

ФІРА'НКА, ФІРА'НЬКА, ФІРА'МКА *ж.* 1. Фіранка. *Мы даўней дык вокнаў не завешвалі, а потым купілі паркалю і пашылі фіранкі.* Завельцы Астр. *Фіранкамі вокна завесь!* Тухавічы Лях. *Фіраньку кот сцягнуў. Фіранькамі акно завешваюць.* Быстрыца Астр. *Фіранькі ёсць начныя і дзенныя.* Солы Смарг. *Фірамкі аткрыла.* Ракаўскія Швянч. 2. Занавеска. *Не было фі-*

*ранкі на окнах.* Тухавічы Лях. *Фіранкі чаплялі. Ні было фіранкаў, як з бежанцаў прыехалі, тады сталі вешаць наўкос.* Малахоўцы Бар. *Нада пакупіць фіранькі.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *firanka* 'тж'.

ФІРА'НКІ НО'ЧНЫЯ *мн.* Тое ж, што і фіранка 1. *Фіранкі ночныя вешалі, завешвалі вокна звечара.* Навасёлкі Лід.

ФІ'РКАЦЬ *незак.* Пырхаць. *Кабыла фіркая.* Старыя Смільгіні Воран.

ФІ'РМА *гл.* ФЕ'РМА

ФІ'ТА *ж.* Прылада для абмеру дыяметра растучых дрэў. *Лес мералі фітаю.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *fita* 'тж' (СВ, т. 1, 747).

ФІЦІ'ЛЬ *м.* Кнот. *У светачы ўсадзяць трапачку замест фіціля.* Слабада Мін.

ФЛАЙКАВА'ЦЬ *незак.* Плоіць валасы. *Флайкуюць валасы, флойкі такія жалезныя былі.* Ёдлавічы Брасл.

ФЛАК *м.* Флаг. *Флакі былі вывешаны, як свята.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* ням. *Flagge* 'тж'.

ФЛА'НКА *ж.* Планка. *Гэты фланкі намаражнямі звалі.* Чычалі Швянч.

ФЛАНЭ'ЛЯ *гл.* ФЛЯНЭ'ЛЬ

ФЛАЧО'К *м. памянш.* да флак. *На красны флачок воўк не бяжыць, натта баіцца.* Саланое Віл. *Флачок купі яму.* Стральцы Гродз.

ФЛЁРАК *м.* Хлорная вапна. *Флёрак ест, адбельвалі ім бялізну.* Мсцібава Ваўк.

ФЛЁРКА, ФЛО'РКА *ж.* Тое ж, што і флёрак. *Некалі называлі флёрку смярдзюшкай.* Дакудава Лід. *Некалі ніці суравыя былі, флёркі насыпіш і беліш.* Чуркі Ашм. *Выфарбаваны ў флорца.* Дзевятні Смарг.

ФЛО'ЙКІ *мн.* Плойка. *Флойкі такія жалезныя былі з ручкамі дзераўнымі.* Ёдлавічы Брасл.

ФЛЮ'НДРА *м.* і *ж. пагард.* Пра неахайнага чалавека. *Во якая флюндра пашла. Флюндра — неакуратны чалавек.* Завельцы Астр. *Флюндра ты!* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ. *pliùndra* 'тж' (Фрэн., с. 626), ням. *plunderig* 'абадраны'.

ФЛЮНЭ'РА *ж. тэкст.* Фланель. *Бархан ці флюнэра. Бархан вузянькі, аднацветны, флюнэра шыршая, у кваты.* Быстрыца Астр.

ФЛЯ'ҐА *ж.* Мокры снег. ∇ *Трава цяшкая, як фляґа.* Дэгшні Шальч.; *гл.* пля́ґа I.

ФЛЯ'КІ *толькі мн.* 1. Кішкі. *Сын кішкі вала запхаў у мех.— Што ты цягнеш? — Флякі.* Завельцы Астр. 2. *кулін.* Страва, прыгатаваная са страўніка. *Нанесла флякаў і есць.* Чуркі Ашм. *Наварыла кулешу с флякамі.* Курашэва Чыж. *Варыцца тожэ флякі, толькі с каровы і авечкі.* Бaброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *flaki* 'тж'.

ФЛЯНСАВА'ЦЬ *незак.* Рассаджваць. *Флянсавала храсткі*

*ружовкі* [сорт бульбы]. Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *flancować*, нямъ. *pflanzen* 'тж'.

ФЛЯ'НСІК *м. памянш.* Невялікі атожылак. *Флянсік вазона дай.* Номікі Бабіц.

ФЛЯ'НСЫ, ФЛЯ'НЦЫ *мн.* Расада. *Флянсамі садзілі цыбулю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бацьвіня не расцець, бывала, флянсы садзілі.* Малькуны Ігн. *Флянцамі буракі садзіць лучый.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* польск. *flanca* < ням. *Pflanze* 'тж'.

ФЛЯНЭ'ЛЬ, ФЛАНЭ'ЛЯ *ж. тэкст.* Тое ж, што і ф л ю н э́ р а ∇ *Ты́ґер — як флянэль.* Старыя Трокі Трак. *Фланэлі на рубашку ўзяла.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *flanela* 'тж'.

ФЛЯ'ШКА *ж.* 1. Біклага. *Фляшку прынёс з вайны.* Мярэцкія Глыб. *Фляшка для вады цяпер.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Фляшкі былі ліміневыі.* Пасіене Лудз. 2. Бутэлька. *Купі фляшку воткі, госці прыехалі.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *flacha*, ням. *Flasche* 'бутэлька'.

ФО'КАЦЬ *незак.* Вымаўляць *ф* замест *в* у рускіх словах *вторник, второй* і падобных. *Яна, як гавора, фокая і фокая.* Малі Астр.

ФО'ЛЬВАРАК, ФАЛІВА'РАК, ХВАЛІВА'РАК, ФУЛЬБА'-РАК *м.* Фальварак. *Яшчо быў фольварак Бацянова.* Цінкаўцы В.-Дзв. *На гэтым месцы фольварак быў.* Глівін Барыс. *Два фольваркі былі тут.* Мельнікі Лудз. *Фаліварак у Віктараві быў. Тут фаліварак быў. Яны былі купіўшы гэты фаліварак.* Гемзы Шальч. *У вёскі Тракелі быў хваліварак.* Ёдупка Шальч. *Чы яго фульбарак большы?* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *folwark, foliwarek* 'тж'.

ФО'РА *гл.* ФУ'РА

ФО'РМА *ж.* Дзве вузкія металічныя трубкі, злучаныя між сабой, у якія адлівалі васковыя свечкі. *Свечкі рабілі ў форме: расплавяць воск, зробяць кнот і ліюць у форму.* Граўжышкі Ашм. *З лёну скруціш кнот і працягнеш прас форму, наліеш воску, апусціш у халодную ваду, застыніць, у кіпяток жых — і свечка вон.* Валынцы В.-Дзв.

ФО'РМАЧКА *ж. памянш.* Кавалачак. *Дай формачку цукру.* Быстрыца Астр.

ФОРС *м.* Нораў. *Конь с форсам, яґ малады. Адзін чалавек вясёлы, с форсам, а іншы апусціць галаву.* Бaброўнікі Гарад.; *парайн.* франц. *force* 'сіла' (Фасм., IV. М., 1973, с. 203).

ФОРСІ'ТІ *гл.* ФАРСІ'ЦЬ

ФОРСУ'НКА *ж.* Тое ж, што і ф а р с у́ х а. *Такая малая, ужэ форсунка.* Курашэва Чыж.

ФО'РТАЧКА, ХВО'РТАЧКА *ж. памянш.* Брамка. *Фортачка ў варотах, дзе людзі ўваходзяць.* Палік Барыс. *Зашчапі хвортачку, кап парасяты не вылезлі!* Рудня Астравітая Чэрв.

ФО'РТКА, ХВО'РТКА *ж.* 1. Тое ж, што і ф о р т а ч к а. *Фортку зрабілі так, як захочаш зайсці, дык не зойдзеш: не ат-*

*крыяш.* Рудня Чэрв. *Хвортка — маленькія варота, людзі ходзяць.* Малахоўцы Бар. 2. Адна створка варот. *У нас варота на дзве форткі.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *fortka* 'дзверы'.

ФО'СА *ж.* Абаронны роў вакол замка. *Вакол замка былі фосы, такі насып, вадой абведзены. Фоса — роў, выкапаны вакол замка, мост быў звадны, кругом лясы былі.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *fosa* 'тж'.

ФО'ТА *н.* Фатаграфія. *Ён фота выбірае* [дастае]. *На фоце сядзіць унучка.* Гальшаны Ашм. *На фотах была дачушка.* Гемзы Шальч.

ФРАС *м.* Прас. *Давніей фрасы былі на ўгэль.* Курашэва Чыж.; *гл.* прас.

ФРАСОВА'ТІ *незак.* Прасаваць. *Більё впэруч помылі, а послі фрасовалі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *prasować* 'тж'.

ФРОНТ, ХРОНТ *м.* 1. Фронт. *Спачатку мой муш уцёк у лес да парцізан, затым пашоў на фронт, як прышлі нашы.* Суднікі Віл. *Скрось тут фронт стаяў.* Латыгаль Віл. *Аттуль раняных бяруць, с фронта.* Дарава Лях. *Іх бацькі побіты на фронце.* Смаляніца Пруж. *Яны* [танкі] *паехалі на хронт.* Багушэвічы Бярэз. ◇ *Фронтам ісці* [пра хваробу] — паўсюдна. *Самым фронтам пашла грыпа.* Лайпушкі Ігн.; франц. *front* < лацін. *frons* 'лоб' (Фасм., IV. М., 1973, с. 208).

ФРО'НТОМ. У знач. *прысл.* франтонам. *Хату пастаўлю фронтом до гуліці.* Курашэва Чыж.

ФРУЗАВА'ЦЬ *незак.* Завіваць. *Фрузуяць на драты валасы.* Старыя Трокі Трак. *Даўней казалі фрузаваць валасы, а цяпер завійку робяць.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *fryzować* 'тж'.

ФРУ'КТА *ж.* Фрукт. *Другая фрукта расла.* Масілавічы Сл.

ФРЫЗЕ'Р, ФРЫЗІЕ'Р *м.* Цырульнік. *В суботу до фрызера пайду, нэхай пустрыжэ.* Курашэва Чыж. *Я зайшоў да фрызіера і прашу яго: «Я хачу падгаліцца і пастрыхчыся»,— і ён кажа: «Садзісь».* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *fryzjer* 'тж'.

ФРЭНЖ, ФРЭНЧ *м.* Фрэнч. *Фрэнж краўцы шылі, у яго стаячы варатнік.* Магуны Паст. *Фрэнжы шылі: стаячы каўнер, кішэні.* Старыя Трокі Трак. *Фрэнчы с сукна. Або ў мяне ёсць фрэнч, я пакажу вам.* Завельцы Астр. *Фрэнч да таліі, спераду на грудзіне і ўнізе па два кармана.* Пацаўшчына Дзятл.

ФРЭ'НЗЛІ, ФРЭ'НДЗЛІ *мн.* Махры. *Хустка з фрэнзлямі, купіла ўчора.* Завельцы Астр. *Вялікая хустка с фрэнзлямі.* Быстрыца Астр., Грыкені Вільн. *Адрэжаць ад палатна і фрэнзлі зробяць, то скарач.* Паляцкішкі Воран. *Фрэнзлі каля хусткі.* Старыя Смільгіні Воран. *У мяне ляжыць хустка с фрэнзлямі.* Магуны Паст. *Хусткі велькія ткалі с фрэнзлямі.* Стральцы Шальч. *Шарсцянка з фрэнзлямі шумяць.* Крэва Смарг. *Фрэндзлі да кавёрчыка парабіла, коб хораша была.* Валеўка Навагр. *Купіла собіе хустку шэленуовку с фрэндзлямі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *frędzla* 'махор'.

ФУГАВА'ЦЬ, ФУГАВА'ЦЬ *незак.* 1. Стругаць фуганкам. *Фуґанкам фуґавалі.* Дакудава Лід. 2. Рабіць паз фуганкам. *Гэбэляк — што фугуя, каб дошка ў дошку ўлезла.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *fugować* 'тж'. 3. *перан.* Веяць. *Фугавалі начовачкі, штоб аддаліць мякіну.* Месянцы Брасл. 4. *перан.* Гуляць. *Дачка ўжэ фуґуіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ФУГАНУ'ЦЬ *зак.* Раптоўна наплысці. *Фугануў плывун, як студню капалі.* Малі Астр.

ФУГО'ВАНЫ *прым.* Фугаваны. *У нас фуґованыя дзверы робяць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ФУДБО'Л *м.* Футбол. *Фудболамі многа ні заробіш.* Быстрыца Астр.

ФУЗ, ФУС *м.* 1. Асадак, адстой. *Фузу многа. Што нягоднае— фус называюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *У вядрэ астаўся адзін фус, прынясі свежай вады.* Малі Астр. *Фус састановіцца ў вадзе.* Саланое Віл. *Фус с подэнкаў што-небуць і ў вадзе.* Старыя Трокі Трак. *Фузу многа, вада мутная.* Магуны Паст. 2. Адходы ад воску. *Як астача ат пературпленага — вуза, нібыта фус які.* Магуны Паст. *Фус — гэто з воску атход, атхадзяшчы мацярыял.* Навасёлкі Свісл. *Вашчыны ў сотах устаўляе ў печ, растопіць, трэба ў ваду, і выліць у сырнік, фус потым с сырніка выварачвае вон.* Гемзы Шальч. *Як выцадзяць воск, фус астаецца.* Мсцібава Ваўк. 3. Адходы пры ачыстцы збожжа. *Звеяў жыта, паслет атняў, а там астаўся адзін фус. Дробненькія угалькі — самы фус.* Кіралі Шчуч. *Ашака — з дабра фус.* Магуны Паст. 4. Адходы пры часанні воўны. *Фус ат шэрсці ў лямец пушчалі.* Мсцібава Ваўк. *Як чэшуць воўну, то атпадае фус, нікудышнае такое.* Баброўнікі Гарад. 5. Рознае смецце, гнілыя прадукты. *Усякі фус змецены ў кут.* Крэва Смарг. *Столькі фусу плыве і ля берага задзержываецца.* Завельцы Астр. *Што нягоднае — фус называюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Самыя кепскія памідоры асталісо, фус самы.* Баброўнікі Гарад. *Фус — як цяпер памоі, што папорцілася — фус.* Слабада Мін. *Фус — бруд, смецце, што прыгніўшы ў лесе, драб'е.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *fuzy* 'асадак, гушча'.

ФУ'КАЦЬ *незак.* 1. Дзмуць. *Як ацвітуць, дзеці сарвуць адуванчыкі і фукаюць, і яны ляцяць, як пыл, як пушок.* Вецярэвічы Пух. 2. Абкурваць пчол. *Фукаеш кураўкай на пшчол.* Парэчча Гродз.

ФУЛЬБА'РАК *гл.* ФО'ЛЬВАРАК

ФУНДАВА'ЦЬ *незак.* Частаваць. *Мне паўлітра фундуюць.* Гальшаны Ашм. *Зафундаваць нада што, і фундуем за усё.* Крэва Смарг. *Хай фундуіць яна!* Груздава Паст. *Хай купіць падарачак, я яго буду фундаваць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ці будзя яна фундаваць?* Мсцібава Ваўк. *Яго ніхто ні фундуіць.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *fundować* 'тж'.

ФУНДА'МЯНТ, ФУНДА'МАНТ, ФУНДА'МЕНТ, ФУНДА'МЭНТ *м.* Фундамент. *Укладваюць с камень фундамянт. Закла-*

*даяцца фундамянт, а потым калоткі выкідваяцца.* Гальшаны Ашм. *А кап зацягнуў добра вугла, то і фундамянт знёс.* Збляны Лід. *Першы вянок закладаюць на фундамант.* Завельцы Астр. *Фундамант зрабілі высокі.* Ракаўскія Швянч. *Такой вышынею фундамент.* Малышы Лід. *Фундамэнт закладаецца і на фундамэнце ставіцца дом.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *fundament* 'тж'.

ФУНДАТО'Р *м.* Заснавальнік, ахвяравальнік. *Былі Ваўкі* [прозвішча], *фундаторы яны, касцёл ставілі.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *fundator* 'тж'.

ФУНТ, ХУНТ *м.* Фунт. *Лён важылі на фунты.* Завельцы Астр. *Іле веле там фунтаў было?* Васілевічы Гродз. *Прадзеш хунт, другі хунт, шчатаюць.* Малахоўцы Бар. *Руно мо два, мо тры хунты.* Дзяніскавічы Ганц. *Такі спорны хунт.* Мачаск Бярэз. *Хунт з цэцвярцю.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ФУР *выкл.* у знач. *вык.* Перадае хуткі рух. *Замясіла яна хлеп, паклала на стол, кап падышоў, тады памачыла, пасадзіла на лапату — фур у печ.* Сваткі Мядз.

ФУ'РА, ФО'РА, ФУО'РА, ХУ'РА *ж.* 1. Вялікі воз, прызначаны для перавозу грузаў. *Прывёс фуру бульбы.* Быстрыца Астр. *У фуры верас складалі і немцы вывазілі ў Германю — гэта яшчэ ў тую вайну.* Малі Астр. *Ледва фурай праедзеш прас падворкі.* Васілевічы Гродз. *Фура — снапы перавозіць, высокія драбіны.* Ракаўскія Швянч. *На воз накладзеш зерно, сено, салому — гэто фура.* Лука Нараўк. *Везе вельку фору сена.* Чорная Весь Касцельная Чорна-Беласт. *Двіе драбінясты фуоры сіена прывіос.* Курашэва Чыж. *За польскай называлі хура дроў, сена, саломы.* Альхоўцы Лях. *П'ять хур сена прыв'ёс. Вэзэ хуру дроў, хуру бульбы ў мэшках.* Горск Бярэз. *На хурах сыно возыла. Хура дров, хура жэта, хура куртоплюв. Гный накладают на выс, хура гною.* Дзмітравічы Кам. 2. Кібітка, фургон. *Цыганы па вёсках ездзілі ў такіх фурах.* Завельцы Астр. *Фуры з накрыццём, брызентам апцягненыя.* Завельцы Астр. 3. *перан.* Мноства. *Ціела фуора людзі прыіехала.* Курашэва Чыж.

ФУРАЖЭ'РКА *ж.* Пілотка. *По войніе на фуражэркі была мода.* Курашэва Чыж. *Цяпер капялюшы, а неек раней фуражэркі насілі.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *furażerka* 'тж'.

ФУРГО'Н *м.* Воз, у які запрагалі пару коней. *У фургон запрагалі пару коні.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *furgon* 'тж'.

ФУРГОНЕ'ТКА *ж. памянш.* Невялікая крытая машына. *Хліеб до села фургонеткамі довозят.* Курашэва Чыж.

ФУРГО'НШЧЫК *м.* Фургоншчык. *Фургоншчык вазіў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ФУ'РКАЦЬ, ФЫ'РКАЦЬ *незак.* 1. Фыркаць. *Кот фуркае.* Кіралі Шчуч. *Фыркаіць конь ноздрамі.* Пераброддзе Міёр. *Фыркае конь.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан.* Хутка лётаць. *Як аччыне дзверы ў хлеў, ластаўкі каля мяне фуркаяць.* Ёдупка Шальч.

ФУ'РКНУЦЬ *зак.* Хутка ўзляцець. *Фуркнуць галубы, на фермі іх такая стада!* Валынцы В.-Дзв.

ФУ'РМА'Н, ХУ'РМАН *м.* Вазак. *Бацька за фўрмана служыў. Фўрмана дзеці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён ляску дае маломy: «Я конь, а ты фўрман».* Гальшаны Ашм. *Фўрман нанімаўся ў пана.* Быстрыца Астр. *Фўрман вазіў, цяпер гаворацъ ізвошчык.* Стральцы Гродз. *Фурма́н рукавадзіў канём.* Мсцібава Ваўк. *Пан ездзіў заўсёды з фурмано́м.* Кіралі Шчуч. *Хурман у пана служыў.* Пасека Ст.-Дар. *Хурман — гэто звошчык.* Смаляніца Пруж. *Фурма́н мусе быць на коньцы.* Швэды Вільн. *Малы абет — сабе, большы пакідалі фурмaнў, каб бульбу прывёс.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *furman,* ням. *Fuhrmann* 'тж'.

ФУРМА'НКА, ХУРМА'НКА *ж.* Падвода. *Няма ў мяне ні воза, ні каня, я нанімаю фурманку.* Быстрыца Астр. *Ужо ўсе фурманкі паехалі.* Малышы Лід. *Прыехала дванаццаць фурманак.* Валеўка Навагр. *Немцы ганялі да дрэва* [лес вазіць] *у фурманкі.* Руднікі Шальч. *Былі выгнаўшы хурманкі.* Грыкені Вільн. *Фурманкі паехалі пустыя.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *furmanka* 'тж'.

ФУРФО'НІЦЦА *незак. экспр.* Злавацца. *Старшы сын фурфоніўся, што яна так сказала.* Дэгшні Шальч.

ФУС *гл.* ФУЗ

ФУ'ТАР, ХУ'ТАР *м.* 1. Хутар. *Футар — адна хата, дзве і тры хаты — засценкі.* Магуны Паст. *Я быў на футары.* Быстрыца Астр., Сонічы Гродз. *У трынаццатам гаду футара падзелалі.* Малахоўцы Бар. *Былі футары тут, а цяпер у вёску перaехалі.* Цяпінцы Віл. *Футары ў нас былі.* Навасёлкі Лід. *Футар быў нідалёка.* Слабада Мін. *Я жыла на футары дваццаць гот.* Валеўка Навагр. *На футары не былі мы, у Дзераўным не было футароў.* Дзераўное Стаўб. *Дзе-нідзе ёсь футар.* Дзевяткі Смарг. *Злівень паласой ішоўшы, а на нашых футарах град ішоўшы.* Скрыпчына Лудз. *Хутар быў пайтары кіламетры ат дзярэўні.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Там нейкія хутары, ці вёска.* Вузла Мядз. *Пасля нікалаеўскай вайны хутары былі.* Альхоўцы Лях. 2. Поле, якое далёка ад вёскі. *У Баброўніках было тры футары.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* руск. *хутор,* польск. *chutor,* венгр. *határ* 'граніца, рубеж' (Фасм., IV. М., 1973, с. 286—287).

ФУТАРА'ЛІК *м. памянш.* Футлярык. *Ручка ў футараліку зламалася.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *futeral* 'тж'.

ФУ'ТКАЛА *ж. заал.* Удод. *Футкала — рабая пташка, але яна смярдзіць, але пекна футкала крычыць: фут-фут-фут, у крушні гняздо ўе.* Каўняны Гродз.

ФУ'ТРА *ж.* і *н.* 1. Тое ж, што і ф у т р о́ в і н а. *Футра на ўборы хароша.* Магуны Паст. 2. Адзенне з футры. *Футру купіла.* Кемялішкі Астр. *Футра на гаўчынках сукном пацягнена.* Ёдупка Шальч. *Ён ёй футры купіў.* Солы Смарг. *У нас такія даўней футры былі: знізу мех, а зверху сукно.* Завельцы Астр. *Фут-*

*ры каб былі!* Гальшаны Ашм. *Я то ні бачыла ніґды таго футра.* Номікі Бабіц.; *парайн.* польск. *futro* 'тж'.

ФУТРАВА'НЫ *прым.* Абабіты (пра дзверы). *У нас футраваныя дзверы: з аднаго боку дошкі ідуць удаўшкі, а з другога — ёлачкай.* Завельцы Астр.

ФУТРО'ВІНА *ж.* Выррабленая шкура пушнога звера. *Футровіна бабра вельмі дарагая.* Альхоўка Навагр.

ФУТРЫ'НА *ж. буд.* Шуфляда ў дзвярах або акне. *Футрына звязана ў дзвярах ілі ў акне.* Збляны Лід. *Футрыны од дошчу погнілі, трэба вставіті новы.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *futryna* 'тж'.

ФУФА'ЙКА, ФАФА'ЙКА, ХУХВА'ЙКА *ж.* Фуфайка. *Фуфайкі ватовыя насілі. Кладзі фуфайку, а то рукі памерзнуць.* Кіралі Шчуч. *Трэба злажыць фуфайку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ты не тую фуфайку узяў.* Пацаўшчына Дзятл. *Фуфайку Васылёву одягнула.* Дзмітравічы Кам. *У нас кажаць: «Адзень фафайку!»* Вузла Мядз. *Халодны вецер, трэба надзець хухвайку.* Кузьмічы Люб.

ФУЯ'РКА *ж. муз.* Дудка. *Стары Міхал на фуярці іграв.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *fujarka* 'тж'.

ФЫРК *выкл.* паводле значэння дзеяслова ф ў р к а ц ь 2. *Дзеці* [сітаўкі] *вырастаюць — фырк — і пашлі.* Валеўка Навагр.

ФЫ'РКАЦЬ *гл.* ФУ'РКАЦЬ

ФЫ'РНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і ф ў р к н у ц ь. *Курапатка як фырне с-пад нох, аш спугаісся.* Месянцы Брасл. *Нейкая птушка фырнула, а дзевачка спужалася — гэта і пайрадзіла.* Рагулішкі Даўг.

ФЫРЧЭ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ф ў р к а ц ь 1. *Фырчаць коні, галовы задзерацъ і аш фырчаць.* Рагулішкі Даўг.

ФЭ'ЙЧАР *гл.* ФЕ'ЙЧАР

ФЭ'РМА *гл.* ФЕ'РМА

ФЭ'СІЯ *ж.* ◇ *І ўся фэсія* — і ўвесь расказ пра што-н. *І ўся фэсія пра жорны.* Магуны Паст.

ФЭСТ, ФЭС *м. царк.* Храмавое свята. *Фэсты былі, з'язджайся народ. У Опсе — фэст ці яшчэ дзе.* Месянцы Брасл. *На спошку фэст у вёсцы.* Збляны Лід. *Дайней фэсты былі. Хто паедзіць на фэст, ды кажыць: «Народу — зґрыянт!»* Груздава Паст. *У суседняй вёсцы фэст быў.* Пацаўшчына Дзятл. *На фэсце была, фэст — бальшой празнік.* Навікі Лудз. *Фэст — прастольны празнік у чэсць Пятра і Пайла.* Валеўка Навагр. *Фэс — быў бальшы празнік.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *fest* 'тж'.

ФЯЛЁНЧАТЫ *прым.* Тое ж, што і ф і л і н ґ о в ы. *Фялёнчатыі дзверы.* Лісна В.-Дзв.

# Х

ХА′БАЛЬ, ХА′БЕЛЬ, ХО′БАЛЬ *м. зневаж.* 1. Палюбоўнік. *Хабаль у яе.* Навадворшчына Мін. *Хобаля завяла сабе.* Малі Астр. 2. Той, хто вельмі захапляецца жанчынамі. *Хабаль ён такі: да бап ходзіць. Хабаль ты!* Саланое Віл. *Хабель па бабах ходзя.* Гемзы Шальч. 3. *перан. лаянк.* Мужчына. *Патсватайця дзе-якога хабеля!* Гемзы Шальч.

ХА′БАР, ХАБУО′Р *м.* Хабар. *Так не зрабілі, пашлі хабары тады.* Чычалі Швянч. *Кажут, што занюос хабора, то ёму так зробілі.* Курашэва Чыж.

ХАБАТО′К *м.* Хабаток (у членістаногіх). *Нашых пшчол хабаткі караткаватыя, з белага клевера ім браць нектар болей даступна, дастаць удабней.* Месянцы Брасл.

ХАБО′ТНЯ, ХАБАТНЯ′ *ж. рыб.* Стаўная рыбалоўная лавушка, сплеценая звычайна з лазовых дубцоў у выглядзе круглага каша з лейкападобным уваходам. *Хаботняй шчупакоў лавілі, яе з ляшчыны, лазы, бярозы плялі.* Кураполле Паст. *Хаботні застаўляюць. Хаботню з лазы, бярозы плятуць, як кашолка, ставяць два платы і хаботню між імі. Хаботня шчупакоў лавіць, застаўляюць на бастрыках.* Валынцы В.-Дзв. *Хабатню плялі з лазы ці з бярэзніку, лавілі рыбу, у хабатні ўваход, як лейка, а ў канцы вузенькая.* Саланое Віл.

ХАБУО′РНІК *м.* Хабарнік. *Був хабуорніком — і выкінулі його з роботы.* Курашэва Чыж.

ХАБЭ′ТА *ж. пагард.* Кляча. *Худого кепского коня звут хабэтою.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *chabeta* 'тж'.

ХАВА′НКІ, ХО′ВАНКІ толькі *мн.* Хованкі. *Мы ў хаванкі гулялі.* Завельцы Астр. *Дієті в хованкі іграют.* Курашэва Чыж.

ХАВА′НЯ, ХОВА′НЕ *н.* Дзеянне паводле знач. дзеяслова х а в а́ ц ь I, 1. *Ім самае хаваня тут.* Альхоўка Навагр. ∇ *Од домового злодія і ховане нэ поможэ.* Курашэва Чыж.

ХАВА′ЦЦА I, ХУВА′ЦЦА *незак.* 1. Хавацца ад каго-н., укрывацца. *Хаваўся люд хто куды.* Саланое Віл. *Хаваўся ад некага.* Завельцы Астр. *У леся мы хаваліся.* Збляны Лід. *Доўга хаваўся ад немцаў.* Малышы Лід. *Хавоўся ад людзей, нікуды ні хадзіў.* Слабада Мін. *У той схрон хаваліся.* Дарава Лях. *Чаго ш я буду хавацца?* Асавец Віл. *Ідзець і хаваецца, думае, што яго не бачу.* Малькуны Ігн. *Хувалісі ў лясу.* Лісна В.-Дзв. 2. Гуляць у хованкі. *Мы гулялі ў хаванкі, хаваліся за школай.* Завельцы Астр. *Буду хавацца пад лошка.* Паляцкішкі Воран.

ХАВА′ЦЦА II *незак.* Закопвацца (пра нябожчыка). *У кудры* [у ляску] *хаваюцца людзі.* Вузла Мядз.

ХАВА′ЦЬ I *незак.* 1. Хаваць. *Хаваць можна хоць што: грошы, дабро.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Грошы ўсё хаваю.* Збляны Лід. *Грошы хаваіць у сапагу — носіць, да нагі прывязаўшы. Яна, золата меўшы, хавала доўга, нехта выманіў у яе гэтыя*

*грошы.* Ёдлавічы Брасл. *Дзе ён хавая грошы?* Мярэцкія Глыб. *Трэба было тое золата хаваць.* Дзераўное Стаўб. *Ён ад мяне ўсё хавая, такі чалавек.* Стральцы Гродз. *Чаго ты ўсё хаваеш, каму тваё дабро трэба!?* Рыбчына Віл. *Хавалі куры ад немцаў.* Крупіца Мін.; *параўн.* польск. *chować* 'тж'. 2. Трымаць дзе-н. у патрэбным бяспечным месцы. *Бульбу хаваюць у капец, а патом становяць душнік.* Рыбчына Віл. *У ямы бульбу хаваюць.* Кіралі Шчуч. *У калхозі ў капцох хаваюць бульбу.* Крупіца Мін. 3. Ахоўваць таго, каму пагражае небяспека. *У нас людзі хавалі лёччыкаў, потым у парцізаны пашлі.* Дакудава Лід. *Яна хавала вайной яўрэяў.* Ёдлавічы Брасл. 4. Захоўваць пэўны час. *Май* [ссечаныя бярозкі] *ад сёмухі хавалі, а на купальнік сцягавалі і палілі агонь, скакалі праз агонь.* Вузла Мядз. ◇ *Пакуль бох хавае* — выражэнне перасцярогі, папярэджанне не рабіць чаго-н. *Сядзі, бапка, пакуль бох хавая!* Кудзялянцы Шальч.

ХАВА'ЦЬ II *незак.* Закопваць у зямлю (пра нябожчыка). *Нябошчыка хаваюць у панчошках.* Магуны Паст. *Дзяцька памёр, учора хавалі.* Дакудава Лід. *Скала хлопца задушыла, ездзілі хаваць.* Альхоўка Навагр. *Бувала, у лапцях хавалі.* Вецярэвічы Пух. *Як вязлі тату хаваць, то рабілі зд'енця* [здымкі]. Кальнішкі Шальч. *Як той казаў: «Дай бох панскіх дзяцей хаваць: паеў, выпіў і руп заплацілі — я яму капаў і засыпаў».* Ахрэмаўцы Брасл.

ХАВА'ЦЬ III *незак.* Гадаваць; даглядаць. *Кароўку хаваць не будзеце?* Рыбчына Віл. *Я ўжо каровы не хаваю.* Латыгаль Віл. *Яшчэ каня і кароўку хаваю.* Кухты Віл. *Свінні німа дзе хаваць. Троя дзяцей хавала. Карову як хаваць будзім, чым жыць хворым?* Саланое Віл. *Ці маіця чым хаваць карову? Хавала п адно парася!* Граўжышкі Ашм. *І кароўку хаваеш, прасянуеш.* Чуркі Ашм. *Кароў не маглі хаваць, толькі козы. Хавалі разам дзве каровы і двое коней.* Крэва Смарг. *Свіней сколькі хавалі! Чатыры каровы хавала.* С[illegible]лы Смарг. *Хто с парапкаў хаваў карову?! Сына хавала, а ён на матку не глядзіць.* Гайна Лаг. *Мы хавалі дзіка: ляціць у платэ, як дурны. Трэба хаваць жывёлу! Карову хавалі і гавец. Хочаш малака — хавай карову.* Кіралі Шчуч. *Такрок хавала троя гусей.* Вялікія Баяры Шчуч. *У вайну не было чым хаваць жывёл, бракавала кармоў.* Стральцы Шальч. *Два гады свіню хавалі, і не прыведзе парасёнкі. У хаце курэй іх не хаваў бы ні аднаго дня. Мы і цяпер хаваем дзве каровы. Не хавай карову — будзеш без малака! Авечкі хавалі, цяпер не хаваю.* Паляцкішкі Воран. *Хавалі авечкі, шылі ермякі.* Старыя Смільгіні Воран. *Хавалі быдло.* Сапоцкіна Гродз. *Хаваем кароўку, сена трэба накасіць. Трэба свіня хаваць. Дзяцька хаваў тры сынэ.* Новікі Гродз. *Калісьці авечкі хавалі зімой у хаці. Паны павы хавалі.* Кудзялянцы Шальч. *Некалі я індыкоў хавала. Людзі хавалі п каня, кап давалі корм.* Навасёлкі Лід. *Ён* [воўк-пястун] *хавая дзяцей ваўка? Ні чулі?* Дакудава Лід. *Карову мне хаваць цяшка. Дзяцей ха-*

*ваяш, хаваяш, а яны і паедуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Буду Ганчыны дзеці хаваць.* Лоск Валож. *Хто мяне будзе хаваць? Дахавайце мяне да смерці.* Дэгшні Шальч.

ХАДА′ *ж.* 1. Хадзьба. *Якая тут хада, чуць ногі перастаўляю.* Збляны Лід. *Баляць ногі ат хады.* Дакудава Лід. *Ногі ў кастачках так круцяць ат хады.* Альхоўка Навагр. *Яна спракудзілася сваёю хадою.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. У знач. *прысл. хадо́ю.* У час хадзьбы. *Карова хадою апчысціцца ад гною.* Гемзы Шальч. ∇ *Кап яна згарэла с такою хадою!* Міратычы Карэл. *Ніхэй вам хада ў ношкі!* Малыя Аўцюкі Калінк.

ХАДАВЫ′Й *прым.* Бывалы, дасведчаны. *Наша цёця хадавая, ён не такі.* Рагулішкі Даўг.

ХАДА′К I *м.* Хадок. *Які з яго хадак!* Кураполле Паст. ◇ *У хадакі ездзіць* — ездзіць на заработкі. *У хадакі ездзілі ў Сібір.* Азарычы Пін.

ХАДА′К II *м.* Хадункі. *Як хадзіць вучыўся дзіцёнак, рабілі яму хадак.* Ухвала Круп.

ХАДА′КА *м.* і *ж. экспр.* Тое ж, што і х а д а́ к I. *Во хадака які: не магу ступіць.* Валынцы В.-Дзв.

ХАДАКІ′, ХАДАКЕ′, ХОДАКІ′ *мн.,* ХАДА′К *м.* 1. Лапці, пашытыя са скуры. *Хадакі паходжы да лапцей, зроблены са скуры, пастыры насілі іх, калі пасцілі.* Магуны Паст. *Хадакі былі дайна, са скуры шылі.* Вузла Мядз. *Абуцца даўней не было чым, хадакі шылі, верайчаныя аборы ўцягвалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Лапці плялі з ліпы, хадакі — са скуры шылі.* Старыя Трокі Трак. *Хадакі — лапці з скуры пашыюць, аборы зацягнуць у вушкі і хадзілі ў гэтых хадаках.* Міратычы Карэл. *Хадакі шылі іс кожы падобны да ўсходніх лапцей.* Альхоўка Навагр. *У школу яшчэ ў хадакох хадзіла. Хадакі с кожы шылі. Іх віт саўсім такі, ціпа тапак.* Быстрыца Астр. *Хадакі іс скуры рабіліся, наколваліся дзюркі.* Крэва Смарг. *Хадакі рабілі са скуры, трохі далікатнейшыя, лапці — грубейшыя.* Дакудава Лід. *Хадакі насіла: анучамі акруціш да калена, патом аборамі.* Канюкай Вільн. *Дзюрачкі наўкола ў хадакох, ушкі ў хадакох і лапцях.* Грыкені Вільн. *Давалі пастыру на хадакі, бо хадзіў у сваім обую.* Гемзы Шальч. *Е хадакі — грыбы і е хадакі — лапці.* Альхоўцы Лях. *Хадакі з раменю былі. Маладыя дзяўчаты хадзілі ў хадакох.* Васілевічы Гродз. *Хадакі раменныя былі, ганучай акруця і хадак адзеня.* Малі Астр. — *Дзядук, скажы, як яны выглядалі тыя хадакі? — У хадаку такі шнур уцягвайся ў вушкі.* Швэды Вільн. *Хадаке шылі з раменю.* Вялікія Баяры Шчуч. *Скуру выраблялі і шылі лапці — хадаке. Хадаке с кожы, як тапкі, толькі сабіраліся і ўцягівалі аборкі.* Пацаўшчына Дзятл. *Такіе с скуры пашытые хадаке.* Баброўнікі Гарад. 2. Лапці, сплеценыя з ядлоўцу. *Даўней мушчыны старыя насілі хадаке. Хадаке плялі з елаўцу на дванаццаць вушак.* Кіралі Шчуч. 3. Абутак на драўлянай падэшве. *Хадакі са скуры на драўлянай падашве.* Ракаўскія Швянч. 4. Боты, у якіх адрэза-

ны халявы. *Хадак адрэзваўся ад бота.* Вострава Маст. 5. Чаравікі. *Хадакі насілі багатшыя людзі. Пашоў у хадакох.* Альхоўка Навагр. 6. Паношаны абутак. *На такое болото быле якіе ходакі наложы.* Курашэва Чыж. ▽ *Скура злезла, што хадак.* Рыбчына Віл.

ХАДАЛА′ *прысл. экспр.* Бягом. *Спалохаўся мужык, а тагды ўсе хадала за ваўком, біць яго с бусакамі, вілкамі.* Ваўкалатка Докш. *Там ляжала камення крушня вялікая, як ускачыў, а тады сабраўся ды хадала дамоў.* Саланое Віл.

ХАДАЛЯ′КУ *прысл.* Наўцёкі. *Хто куды — хадаляку: у кусты, хто ў лес.* Перабродзе Міёр.

ХАДАРО′М, ХАДЫРО′М, ХАДУРА′МІ *прысл.* ◇ *Хадаром (хадыром, хадурамі) хадзіць* — трэсціся, дрыжаць. *Жырны кабан, хадаром ходзіць увесь.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сталі дзверы хадурамі хадзіць, трасуцца.* Вузла Мядз. *Зявы у яго хадыром ходзяць, як разлуецца.* Малі Астр. *Пайсці хадыром* — загізаваць. *Пашлі хадыром каровы, хвасты залупілі.* Малі Астр.

ХАДАЧКІ′, ХАДАЧКЕ′ *мн. памянш.* 1. Дзіцячыя тапачкі, вязаныя кручком. *Дзяцём з нітачкаў плялі хадачкі. У гэтых хадачкоў выгодна было хадзіць.* Быстрыца Астр. *Тата вучыў, як вэрсаць хадачкі, як крыжаваць вяровачкі.* Ёдлавічы Брасл. *Кручком вяжуць хадачке малым.* Кіралі Шчуч., Галубы Маст. 2. Дзіцячыя тапачкі, пашытыя са скуры. *Хадачкі — с кожы, кожавы. Хадачкі — гэта харашо, а так босянькі.* Швэды Вільн. *У хадачкох летка малому.* Старыя Трокі Трак. *Хадачкі былі с шнуркамі і вушкі такія.* Канюкай Вільн. 3. Тое ж, што і х а д а к і 1. *Хадачкі — с скуры пашытыя жаць на поля.* Рабчына Віл. *Хадачкі — са скуры, без падашвы, скурай перанізана і звязана.* Чычалі Швянч.

ХАДЖА′ІН *гл.* ХАЗЯ′ІН I

ХАДЖА′ЙКА *гл.* ХАЗЯ′ЙКА

ХАДЖА′ЙСТВА *гл.* ХАЗЯ′ЙСТВА

ХАДЖА′ЛЫ *м.* Прахожы. *Хаджалы прышоў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХАДЖА′ЦЬ *незак.* Рухацца. *Чаўных хаджая туды і назат.* Малахоўцы Бар.

ХАДЗІ′ЦЦА *незак.* Хадзіць. *Некаторыя хадзіліса па магілках.* Парэчча Гродз. *На падворку ходзяцца — і мокро.* Мсцібава Ваўк.

ХАДЗІ′ЦЬ, ХОДЗІ′ЦЬ, ХОДЫ′ТЫ *незак.* 1. Набываць здольнасць навучыцца хадзіць. *Жуйку ёў, квасам прагоніць — і да году хадзіць пачаў мой сын.* Вузла Мядз. 2. Накіроўвацца куды-н. з пэўнай мэтай. *Хадзіла цялё прадаваць.* Лоск Валож. *Гэта ў грыбы хадзілі, у ягады.* Груздава Паст. *Не хажу па лясох, ня ведаю, грыбы бываюць.* Гальшаны Ашм. *Ня ходзя адна ў лес.* Кемялішкі Астр. *Як ходзім па грыбох, сустракаеш гадаў.* Завельцы Астр. *Хадзіла па траву каню.* Кудзялянцы Шальч. *Старая, а ў лес ходзіць па ягады. Як маладзейшая была, у кал-*

*гос хадзіла на работу.* Вузла Мядз. *Ходэла по вовну.* Дзмітравічы Кам. *На шчэдрынец з батлееюю ходзілі.* Дарава Лях. *Нескалька дней хадзіла купаць дзіцё бапка.* Слабада Мін. *Цэлу зіму хаджу ў школу.* Гальшаны Ашм. *Дзве зімы хадзіла ў школу.* Солы Смарг. *Два мальцы ў школу ходзюць.* Юркава В.-Дзв. *Дзеці яго ходзяць у школу.* Пераброддзе Міёр. *Некалі я хадзіла да школы.* Дэгшні Шальч. 3. Рухацца, крочыць без мэты. *Свет гарыць, яна ўсе ходзя і ходзя.* Солы Смарг. *Ходзіць туды і сюды. Ходзя і ходзя па хаця.* Завельцы Астр. 4. Прымусова працаваць на пана. *Мая бабуля хадзіла на прыгон і мой дзет хадзіў на прыгон, два дні ў нядзелю.* Ахрэмаўцы Брасл. *А дзень паншчызну адбывай, хадзіў.* Васілевічы Гродз. *Хадзілі некаторыя на работу ў маёнтак.* Літва Лях. 5. Наведваць. *Ён да нас ходзя.* Лоск Валож. *Да іх ніхто ня ходзіць.* Пераброддзе Міёр. *Я нідзе ні хаджу.* Слабада Мін. *Часта ў бальніцу ў Жодзішкі ходзя.* Завельцы Астр. 6. Заляцацца да каго-н. *Да тваей жонкі ходзіць другі.* Гальшаны Ашм. 7. Ледзь рухацца. *Троха ходзя па хаця.* Дэгшні Шальч. 8. Хадзіць марудна. *Ходзя, як соны, гаворыш яму, а ён глядзіць, як дурны.* Дэгшні Шальч. 9. Рухацца пры дапамозе чаго-н. *Ён на кульбах ходзя.* Малі Астр. 10. Насіць які-н. абутак, адзенне. *Дайней у лапцях хадзілі.* Латыгаль Віл. *У хадакох хадзілі, ботаў ня было.* Збляны Лід. *У клюмпах усі хадзілі. Хадзілі ў дзеравяных выдаўбаных — клёмпы ці гансюкі звалі. Маладыя дзяўчаты хадзілі ў хадакох. Мушчыны ў ботах хадзілі.* Завельцы Астр. *Пальто свае работы с кужалю ўфарбуя, і так хадзілі.* Васілевічы Гродз. *Яна хадзіла ў сароццы белай на благавешча.* Збляны Лід. 11. Хадзіць без абутку. *Калі босыя хадзілі, галодныя — усё бывала.* Завельцы Астр. 12. Хадзіць на спажыву. *Ваўчыца ходзіць на пажывеня.* Старыя Трокі Трак. *Ваўкі хадзілі, вочы бліщчэлі, як агні.* Вузла Мядз. 13. Пасвіцца. *Каровы ня ходзюць.* Малькуны Ігн. *Каровы хадзілі па пожні.* Вулька Гродз. *Ніхай хіба ходзіць карова там.* Парэчча Гродз. 14. *перан.* Араць. *Валы хадзілі ў сасе.* Мыто Лід. 15. Поўзаць. *Муха ходзя па назе.* Малі Астр. 16. Даглядаць. *Я не меўшы пчол: трэба ўмець хадзіць каля іх.* Дэгшні Шальч. 17. Круціцца (пра камень у жорнах). *Камень высока ў жорнах падымаецца, тады ён лёхка ходзіць.* Завельцы Астр. 18. Ездзіць (пра сродкі перамяшчэння). *Конька хадзіла ў Вільні, пара конікаў. Тэраз ходзяць аўтобусы.* Швэды Вільн. *Як колы ходзяць, то глубокая калюгавіна.* Солы Смарг. 19. Ліць (пра дождж). *Кругом хадзіў дош.* Вецярэвічы Пух. 20. Плысці (пра рыбу). *Рыба ходзіць, у вока пашла, а там матня — мех такі, як зойдзя, то ня выйдзя. Рыба ходзіць на нізе. Сіляўка поверху ходзіць, яна саўсем худая.* Збляны Лід. *Ліпéнь па быстраводам ходзіць.* Быстрыца Астр. 21. Хваляваціа. *Волначкі ходзяць па вадзе, як дуня вецер.* Кузьмічы Люб. 22. Мяняць русла (пра рэчку). *Рэкі хадзілі і аставілі возера ў вёсцы і называюць зазавань.* Рыбчына Віл. 23. Пульсаваць (пра кроў). *Не*

*трэба вязаць руку туга, крой ні ходзіць.* Кіралі Шчуч. 24. Укісаючы, брадзіць. *Варэння ходзя і перарабляецца на віно.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ходзіць брага. Кіпнём зальём, у бутылкі нальём, дрожджы кідаем — ходзіць квас. Саладуха астыня, пераліваюць у дзешку, там яна ходзіць.* Дакудава Лід. 25. Мець пэўны знешні выгляд. *Ходзіць расхрыстаны.* Мсцібава Ваўк. Быць цяжарнай. *Міхасём хадзіла.* Паляцкішкі Воран. *І нівы жалі, на руках нясу, аднаго за руку вяду, а трэцім хаджу.* Старыя Смільгіні Воран. *Хаджу другім дзіцем, чую, што жывое ўжо.* Гальшаны Ашм. *Як уцяшку хадзіла, зґаґа мне ела.* Старыя Трокі Трак. 26. Панаваць на працягу гістарычнага перыяду. *Тут паншчызна хадзіла.* Відаўцішкі Вільн. 27. Дабівацца чаго-н. *Хадзі яна, хадзі і не выхадзіла нічога.* Груздава Паст. 28. Запрашэнне ісці куды-н. *Хоць сюды!* Вострава Маст., Стральцы Гродз. *Хоць кушаць!* Галубы Маст. *Ваня, хадзі на лошка!* Гальшаны Ашм. *Хоць сюдэ, сыночок!* Дзмітравічы Кам. ▽ *Не за то біта, што хадзіла ў жыта, а за то біта, што стаптала жыта.* Збляны Лід. *Дары другой, каб не хадзіў з дугой.* Валеўка Навагр. *Кап ты па зямлі ні хадзіў і сонца ні відзеў!* Саланое Віл. ◇ *Хадзіць замуш* — станавіцца чыёй-н. жонкай. *Два раза хадзіла замуш.* Слабада Мін. *Хадзіць барца* — барацца. *Дзеці душацца, барца ходзяць.* Магуны Паст. *Хадзіць па месяцы* — пра хворага на лунацізм. *Лунацік па месяцы ходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як месяц засвеціць, ён схопіцца і ідзець па месяцы: есць такія людзі.* Кіралі Шчуч. *Хто па месяцы ходзя, ён пройдзя па вадзе, пярэйдзе рэку — і не ўтопіцца, толькі маўчы.* Малі Астр. *Хадзіць* [пра хваробу] — распаўсюджвацца. *Тады хадзіла халера.* Альхоўцы Лях. *Хадзіць з торбаю, хадзіць па людзях, хадзіць па свету* — жабраваць. *Даўней бацько с калят хадзіў с торбаю — хлеп так зарабляў, кап сем'ю карміць.* Кузьмічы Люб. *Я хадзіў па людзях, збіраў хлеп і другое, што давалі.* Саланое Віл. *Я хадзіла па свету, прасіла.* Слабада Мін. *Хадзіць ап тоя* — хваляваць. *Мне ходзіць ап тоя, каб яна памагла гадаваць дзіця.* Руднікі Шальч. *Што яму хадзіла* — хвалявала. *Пан усе землі папродаў каля сябе. Што яму хадзіла: сеў і паехаў.* Паляцкішкі Воран.

ХАДЗЯ'ІН *гл.* ХАЗЯ'ІН І

ХАДЗЯ'ЙКА *гл.* ХАЗЯ'ЙКА

ХАДЗЯ'ЙСТВА, ХАДЗЯ'ЙСТВО' *гл.* ХАЗЯ'ЙСТВА

ХАДЗЯ'ЧЫ *прым. перан.* Звязаны з работай, якая патрабуе не знаходзіцца пастаянна на адным месцы. *Кап хадзячую работу рабіць, ня гнуцца.* Асавец Віл.

ХАДНЯ', ХОДНЯ' *ж.* 1. Тое ж, што і х а д а́ 1. *Яму ногі да кален у чорных ранах, якая хадня с палкай.* Руднікі Шальч. *Я ўсё ў хадні.* Лоск Валож. *Яна натта быстра ў хадне і ў рабоце.* Кіралі Шчуч. *Унучак відзіць маю хадню.* Новікі Гродз. *Вжэ, можэ, дэсэть раз ходыв, вжэ надоіла гэта ходня.* Сіманавічы Драг. 2. Уваход у двор. *Брамка толька для хадне.* Кіралі Шчуч.

ХАДУЛІ′ I *мн.* Тое ж, што і хадакí I, 3. *Дайней насілі якія хадулі.* Ракаўскія Швянч. *Хадулі і дзеравяшкі — тоя ш. Ай, хадулі зрабій, абабій скурай.* Малькуны Ігн.

ХАДУЛІ′ II *мн.* Тое ж, што і хада́к II. *Хадулі цяпер купляюць, а раней круцелка была, дзіця пусціць і ходзіць кругом.* Збляны Лід.

ХАДУНЫ′, ХУДУНЫ′ *мн.* 1. Тое ж, што і хада́к II. *Хадуны рабілі, кап дзіця вучыласё хадзіць.* Малахоўцы Бар. *Былі спецыяльныя хадуны, плеценыя з дупцоў лешчыны, дзеці вучыліся хадзіць.* Баброўнікі Гарад. *Хадуны рабілі для малых дзяцей.* Лука Нараўк. *Худуны былі, дзеці вучыліся хадзіць.* Мярэцкія Глыб. 2. Хадулі. *Хадуны дзелалі, любілі малыя на хадунах хадзіць.* Солы Смарг.

ХАДУ′ХА *ж.* Тое ж, што і хада́к II. *Хадуха была, каб дзеці вучыліся хадзіць.* Рыбчына Віл. *Пашло дзіця с хадухаю.* Саланое Віл.

ХАДЫ′ *мн.* 1. Шагі. *Атшчытавая хады туды і назат.* Лоск Валож. 2. *перан.* Работа, справа. *У яе хадоў многа.* Ёдлавічы Брасл. ◊ *Пусціцца ў хады* — заняцца работай. *Пусцілася баба ў хады.* Лоск Валож.

ХАДЫРО′М, ХАДУРА′МІ *гл.* ХАДАРО′М

ХАЗЯ′ІН I, ҚАЗЯ′ІН, ХАДЖА′ІН, ХАДЗЯ′ІН *м.* 1. Уладальнік гаспадаркі, дома. *Дзержыць хазяін карову, трэба здаць малако.* Слабада Мін. *Я служыла па памешчыках, па хазяінах гэтых.* Васілевічы Гродз. *Я служыла ў Вільні ў хазяіна.* Чуркі, Гальшаны Ашм. *Мой сын харошы хазяін.* Стральцы Шальч. *Не хадзяін ён!* Вецярэвічы Пух. 2. Муж. *Хазяін памёр, адна я асталася.* Навасёлкі Лід. *Хазяін адбегся с парцізанамі, а мяне ў Дрысу.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *А як хазяін цябе атпусціў сюда?* Рагулішкі Даўг. — *Қазяін у хаця? — Қазяін прышоў.* Старыя Смільгіні Воран. *Қажа на хаджаіна, на хаджайку: «Запалі агонь!»* Бялевічы Слуц. *Хаджаін ідзе.* Вострава Маст., Крынкі Крын. *Хаджаін паехаў на ферму.* Пасека Ст.-Дар. ▽ *Ты такі хазяін, як ад пустога дому закрутка. З мяне такі хазяін, як ат пустога дому закрутка.* Малі Астр.

ХАЗЯ′ІН II *м. абрад.* Першы сноп жыта ў дзень зажынак. *Хазяін — першы сноп зажыналі і няслі дахаты, як звозілі жыта — першы хазяін уходзя ў гумно, бывая, што свéнцілі, як сеялі, то першая ґарсць з хазяіна сыпалі ў поля.* Руднікі Шальч.

ХАЗЯ′ЙҚА, ХАДЗЯ′ЙҚА, ХАДЖА′ЙҚА, ХОЗЕ′ЙҚА *ж.* Гаспадыня. *Булён хазяйка варыць.* Пераброддзе Міёр. *Хазяйка пакорміць добра.* Збляны Лід. *Благая хазяйка.* Қураполле Паст. *Яна не хазяйка: усю бульбу змарозіла.* Малі Астр. *Хазяйка будзе прывучваць.* Альхоўка Навагр. *Без петуха плохо курам, як хазяйцы без гаспадара.* Валеўка Навагр. *Я ў дзесяць лет хазяйка была.* Қудзялянцы Шальч. *Заплаціў хазяйкі.* Гальшаны Ашм. *Яна за хазяйку ўжо!* Саланое Віл. *Прывёс* [ласункі], *можа п ён даў хазяйкай* [хазяйцы]?! Ёдлавічы Брасл. *Я не ха-*

*зяйка тут.* Ялова Пруж. *Яна хаджайцы не ўнаровіць.* Альхоўцы Лях. *Хаджайка прасіла пасядзець у хаця.* Навасёлкі Свісл. *Ат хаджайкі завісіт, што трэба рабіць.* Кузьмічы Люб. *Хозейка ей не завадзіла. Дома хозейкою ты.* Малыя Аўцюкі Калінк. ▽ *Ах, с цябе хазяйка, як ад пустой бочкі затычка.* Малі Астр.

ХАЗЯ'ЙСКІ *прым.* Гаспадарскі. *На хазяйскай ядзе, як вы цяпер.* Жодзішкі Смарг.

ХАЗЯ'ЙСТВА, ХАЗЯ'ЙСТВО, ХАДЖА'ЙСТВА, ХАДЗЯ'ЙСТВА, ХАЗЯЙСТВО', ХАДЗЯЙСТВО' *н.* Гаспадарка. *Хазяйства было невялікае.* Рыбчына Віл. *Даравай нехта якое хазяйства і Дарэва сталі зваць.* Дарава Лях. *Сабака жыве на два хазяйствы.* Слабада Мін. *Ткалі, пралі на сваём хазяйстве. Робіш на хазяйстве.* Васілевічы Гродз. *Сем хазяйстваў у нашым фольварку было.* Мельнікі Лудз. *Во маё хазяйство. У сваём хазяйстве я знаю, ведаю, што рабіць.* Кузьмічы Люб. *Хаджайства мей.* Дзяніскавічы Ганц. *Маё хадзяйства.* Дакудава Лід. *Хадзяйство́ ў іх было харошая.* Завельцы Астр. *У іх хазяйство́ вялікая.* Малі Астр. *Хазяйство́ ў нас было. Хазяйство́ вясці — ня шутка.* Солы Смарг. *Хазяйства́ ні было.* Граўжышкі Ашм. *Хазяйство́ ў мяне, куды паедзяш?* Магуны Паст. *Хазяйство́ цэлая трэба было купіць. У хазяйстве́ многа работы.* Кузялянцы Шальч. *Хазяйство́ было велька.* Дэгшні Шальч. *У нас хазяйство́ вялікая, лонкі добрыя.* Руднікі Шальч. *Хазяйство́ цябе дўша. Хазяйство́м яна не займаецца.* Гемзы Шальч. *У хазяйстве́ страха стацей* [у будынку]. Быстрыца Астр. *Хазяйство́ не спусціл.* Малькуны Ігн. *Хазяйство́ велкае ў калхозе. Бальшы пасах прыпёрла, цэлае хазяйство.* Паляцкішкі Воран. *Пры хазяйстве жыла.* Лайпушкі Ігн. *Як завязлі ў Мядзела ў заразную бальніцу, усё хазяйство маё запусцела.* Вузла Мядз. ▽ *У хазяйстве добра не выхадзіш, а смачна не выпясі.* Дэгшні Шальч. *За добрым хазяйством і дурань будзя хазяінам.* Малі Астр.

ХАЗЯ'ЯВА, ХАЗЯ'Я, ХАЗЯ'І *мн.* Гаспадар і гаспадыня. *Спрашваю хазявой, які ўраджай ягадаў?* Слабада Мін. *Заўсёды хазяя так рабілі. Хазяя малыя мелі адрынкі.* Гемзы Шальч. *Пакінулі хазяі хату, паехалі да сына.* Альхоўцы Лях.

ХАЙ *часц.* 1. З дзеясловамі абазначае загад, пажаданне. *Хай яна не прыяжджаіць! Хай ён бяжыць! Пусці, хай у хлеў бяжыць!* Саланое Віл. *Ідзі гукні, хай прыдзя!* Дакудава Лід. *Хай Лена ляціць у хату! На весну хай дзяўчата прыходзяць!* Васілевічы Гродз. *Хай ідуць хлеба вазьмуць!* Альхоўка Навагр. *Хай трохі ачахне раса, вецер абдуя.* Кузьмічы Люб. *Хай за тыдзянь будзе, а яго пазнаю.* Завельцы Астр. *А ягады хай — яна набярэ.* Плябанцы Ашм. *Хай золата насыпяць, я слова ні скажу, ані.* Пярэкі В.-Дзв. ▽ *Хай ды няхай — самы горшы гультай.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Хай іх ліха!* — вокліч, якім выказваецца абурэнне, злосць. Відаўцішкі Вільн. 2. У спалучэнні з часціцай *бы, ба* і *ж ба* выражае пажаданне. *Хай бы прынёс хлеба!* Валынцы В.-Дзв. *Хай бы ей, па яйку ўбівала!* Завельцы

Астр. *Хай ба мне ворачак круп кінула!* Малі Астр. *Хай ж ба ганіла курэй!* Дзяніскавічы Ганц.

ХАЙЛУ'К I *м.* Гняздо. *Жаба зрабіла хайлук.* Пасека Ст.-Дар.

ХАЙЛУ'К II *м. зневаж.* Бабнік. *Хайлук з бабамі водзіцца.* Дзяніскавічы Ганц.

ХАЙЛУ'ХА *ж. зневаж.* Жанчына, якая вельмі захапляецца мужчынамі. *Хайлуха прыбярэцца, з мушчынамі водзіцца.* Дзяніскавічы Ганц.

ХА'КАЦЬ *незак.* 1. Цяжка дыхаць. *Ідзець, як друза, усе таўстыя хакаюць, як гусі.* Курាполле Паст. 2. *перан.* Дыхаць; жыць. *Хакаю панямногу.* Слабада Мін.

ХАЛАДАВА'ЦЬ *незак.* Адпачываць у халадку. *А яны сабраліся ў халатку і халадуюць.* Кураполле Паст.

ХАЛАДЖЭ'ННЯ *н.* Ахалоджванне. *Чоп бальшы быў на смалярні, гналі трапатын, для халаджэння чоп быў.* Жодзішкі Смарг.

ХАЛАДЗЕ'Ц *м. кулін.* Студзень. *Халадзец ад галавы варым.* Навікі Лудз. *Матка халадзец варыла — і абліла нагу.* Руднікі Шальч.

ХАЛАДЗЁНКА *ж.* Халодная вада. *Высыхаюць калоццы, выходзіць, што і халадзёнкі німа.* Беразіно Докш.

ХАЛАДЗІ'НА' *ж.* Халоднае надвор'е, халадзішча. *Куды ты гэтай халадзінай кароў гоніш?* Ахрэмаўцы Брасл. *Халадзіна якая!* Малахоўцы Бар. *Халадзіна такая!* Груздава Паст.

ХАЛАДЗІ'ЦЬ *незак.* Выклікаць адчуванне холаду. *Лён халадзіць: я ўзлажыла рубашку з лёну і села ткаць, так змерзла.* Малышы Лід.

ХАЛАДЗЮ'ШЧЫ *прым.* Вельмі халодны. *Халадзюшчая была вісна.* Лісна В.-Дзв.

ХАЛАДНА'ВА *прысл.* Халаднавата. *У нас халаднáва ў хаці.* Валынцы В.-Дзв.

ХАЛАДНІ'К *м.* Халодны боршч. *Дзядзеўнік сабіралі і варылі халаднік з яго.* Вузла Мядз. *Маю свайго халадніка, буду абедаць.* Малі Астр. *Вараць картошку цэлую, халаднік і ядуць.* Завельцы Астр. *Халаднік магу із'есці, а так — зубоў няма.* Слабада Мін.

ХАЛАДНІЧО'К *памянш.* да х а л а д н і к. *Пабольша халаднічку налі.* Пляшанцы Ашм.

ХАЛАДНО', ХАЛАННО', ХОЛОДНО', ХАЛО'ДНА, ХАЛО'ДНО, ХО'ЛАДНА, ХО'ЛАДНО, ХО'ЛАННО *прысл.* Холадна. *Гуркі пажоўклі, халадно.* Навасёлкі Лід. *У кажух трэба залазіць, бо халадно.* Збляны Лід. *Трэба хустку завязаць, а то халадно. Было ехаць халадно. На полі ячмень пажаўцеў, халадно.* Кіралі Шчуч. *На дварэ сягоння халадно.* Вялікія Баяры Шчуч., Дзяніскавічы Ганц., Старое Сяло Зэльв. *Халадно ў рукі, халадно ў ногі.* Парэчча Гродз. *Згарнуўса, бо халадно.* Номікі Бабіц. *Халанно на двары.* Пацаўшчына Дзятл. *Холодно ў ногі.*

*Холодно, отчынено окно. Нэ сэдзі, бо тэбэ ў плечы холодно.* Смаляніца Пруж. *Мне халодна. Тут халодна.* Магуны Паст. *Не натта халодно на дварэ.* Мсцібава Ваўк. *Як зімой холадна!* Чычалі Швянч. *Сягоня холадно.* Міратычы Карэл. *Гэдак холанно!* Валеўка Навагр. У выразе: *На холо́дно* — для засолкі (пра грыбы). *Грыбы варацьь на халодно так: варацьь, перамываюць, соляць, туды цыбулі, прыправы і заліваюць алеям.* Малахоўцы Бар.

ХАЛАДО′К *м. памянш.* Цень. *Ідзём пад дрэва, там у халадок сядзім.* Завельцы Астр. *Ідзі ў халадок.* Каменка Стара Сакол.

ХАЛАДУ′ШКА *ж.* Жаба, якой ахалоджвалі малако. *Жабу зялёную ў малако садзяць — халадушка, малако с халадушкай.* Кураполле Паст.

ХАЛАДЭ′ЧА *ж.* Тое ж, што і х а л а д з і н а́. *Трэба на печ злазіць, халадэча такая.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ХАЛАЙДА′ *м.* і *ж. зневаж.* 1. Пустамалот. *Ну, і халайда ты, невядома што і гаворыць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Жанчына неахайная, малапаважаная. *С такою халайдою ніхто не вжыве.* Баброўнікі Гарад.

ХАЛАННО′ *гл.* ХАЛАДНО′

ХАЛАЛУ′ШКІ *мн. экспр.* Песні абы-якія. *Мой дзядуля казаў: «Даўней бабы жніво харашо спявалі, а цяпер—халалушкі: халалы-халалы!»* Ёдупка Шальч.; *параўн.* літ. *talalúškos* 'тж'.

ХАЛАСЦІ′ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць глупства. *Халасціць языком, апрацівіў ён мне.* Міратычы Карэл.

ХАЛА′Т *м.* 1. Армяк. *Халат с капіжонам быў, доўгі, з сукна шыўся. У халаце пашоў. Халаты мушчыны насілі.* Дакудава Лід. *У бацькі быў суконны халат.* Малахоўцы Бар. *Халат нацягваўся на кажух.* Тухавічы Лях. *Аспадарскі халат.* Альхоўка Навагр. *Халатом накрыўся.* Мярэцкія Глыб. 2. Верхняя жаночая вопратка з даматканага сукна. *Ткалі сукна, з яго шылі халат: белы халат з чорнай аблямовачкай.* Зборяны Лід. 3. Халат (бальнічны). *І халаты давалі ў бальніцы.* Альхоўцы Лях. *І ідзе ў халаце ў белум.* Вецярэвічы Пух.

ХАЛДАБА′ *м.* і *ж. зневаж.* Неахайная асоба. *Халдаба ідзець.* Кураполле Паст.

ХАЛЕ′ВЫ *гл.* ХАЛЯ′ВЫ

ХА′ЛЕПА *гл.* ХА′ЛІ′ПА

ХАЛЕ′РА, ХОЛЕ′РА *ж.*, ХО′ЛЕР *м.* 1. Вострая заразная кішэчная хвароба. *Хадзіла халера. Нарот уміраў, былі случаі, што с халеры ўміралі.* Альхоўцы Лях. 2. *груб.* Ужываецца як лаянкавае слова. ∇ *Халера ты серпавітая!* Міратычы Карэл. *Каровы лятаюць, як халеры.* Дарава Лях. *Акіш, кап цібе холера!* Вузла Мядз. *Кусашчая, холера!* Хатынічы Ганц. *Хай іх холер пабярэ.* Валеўка Навагр. *Каб яе халера забрала, гэту хваробу!* Канюкай Вільн. *А хоць яе халера гэтай травы!* Багдзюлі Шальч. ◇ *Да халеры* — вельмі многа. *Людзей да халеры.* Малышы Лід. *У мамы ботаў да халеры.* Навасёлкі Лід. *Якой халеры, на халеру* — для

чаго, навошта. *Чаго сядзець, якой халеры?* Пацаўшчына Дзятл. *На халеру, кап смярдзеў ён радам.* Зблянь Лід. *Няма халеры ніякай* — адсутнасць чаго-н. *Няма на яе, на гэту хваробу, халеры ніякай.* Канюкай Вільн. *Халера с качкамі* — няхай будзе так. *Ісці заганяць ці халера с качкамі!* Саланое Віл.

ХАЛЕРАВА'ЦЬ *незак.* Весці сябе неспакойна. *Ты знаеш, што с курыцай зробілася? Крычала, халеравала курыца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ХАЛЕРЫ'ЧНЫ *гл.* ХАЛЯРЫ'ЧНЫ

ХАЛЕ'ЎКІ *гл.* ХАЛЯ'ЎКІ

ХА'ЛІ'ПА, ХА'ЛЕПА, ХА'ЛЯПА *ж.* Слота. *Ні хочацца выходзіць, такая халіпа.* Палік Барыс. *Куды ты ў такую халіпу пойдзеш?* Мачаск Бярэз. *Халіпа, аццепіль — мокры снег ідзець.* Пасіене Лудз. *Халепа ўсхадзіласа.* Дзяніскавічы Ганц. *Халяпа — сярот зімы марос і снех з дажджом ляпая.* Семежава Кап.

ХА'ЛІПАМ *прысл.* Насцеж. *Расчыніў дзверы, халіпам стаяць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ХА'ЛКАЦЬ *незак. экспр.* Есці. *Халкаіць, і прыбылі німа, нэндзненькая цыплянё.* Саланое Віл.

ХАЛМА'К *м.* Узгорак. *Быў халмак лесу сярот поля.* Саланое Віл.

ХАЛМАНІ'ЦЬ *незак. экспр.* Тармасіць, тузаць. *Дагнала матку, начала халманіць: здзёрла кажушок і пагнала да хаты.* Гемзы Шальч.

ХАЛМАНЫ' *мн.* Лахманы. *Халманы — што ўжо выбрасываць можна.* Старыя Трокі Трак.

ХАЛО'ДАЦЬ *незак.* Астываць. *Мо халодае суп?* Любішчыцы Івац. *Малако халодало на дварэ, ахаладзілася каля парога.* Альхоўцы Лях.

ХАЛО'ДНА *гл.* ХАЛАДНО'

ХАЛО'ДНАЯ, ХАЛО'ННО *н.* Тое ж, што і х а л а д з е́ ц. *Халоднаго ня будзя есці.* Лоск Валож. *Халонно падала ды і скварак нарэзала.* Мачаск Бярэз.

ХАЛО'ДНІЦА I, ХОЛО'ДНІЦЯ ж. Тое ж, што і х а л а д з е́ ц. *Лыч зварыла ў халодніцу. Халодніцу варыла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Зробі холодніці, то на обіет с товканіцою ззімо.* Курашэва Чыж.

ХАЛО'ДНІЦА II *ж.* Неўрадлівая, сівога колеру глеба. *Бувае зямля сівак — халодніца — халодная, як год цёплы — расце авёс, картошка, а як халодны год — выхаладае ўсё.* Пацаўшчына Дзятл.

ХАЛО'ДНО *гл.* ХАЛАДНО'

ХАЛО'ДНЫ, ХАЛО'ДНЫЙ *прым.* 1. Халодны. *Халоднай вадой раскалачваецца мука.* Чуркі Ашм. *Халодна вода.* Ялова Пруж. *Зямля халодная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хочацца рукі ўсунуць у* [што-н.] *халоднае.* Саланое Віл. *У халодную ваду крышылі хлеп, солі троху і, бывала, так елі. Халодный пот выступіў.* Парабродзе Міёр. *Мацай за нагу — халодная. Сяджу ў хаця, а рукі*

*халодныя.* Слабада Мін. 2. Які дрэнна захоўвае цяпло. *У нас дом халодны.* Парэчча Гродз. 3. Які ахалоджвае (пра льняное палатно). *Лён — халодны матэрыял, не гарачы.* Малі Астр.

ХАЛО'ННО *гл.* ХАЛО'ДНАЯ

ХАЛО'СТЫ *прым.* Нежанаты. *Халосты яшчэ, жонкі няма. Скора сорак гадоў, а яшчэ халосты.* Ухвала Круп.

ХАЛТАМА' *м.* і *ж.* Тое ж, што і халайдá 1. *Халтама халтаміць.* Валынцы В.-Дзв.

ХАЛТАМІ'ЦЬ *незак. экспр.* 1. Тое ж, што і халасці́ць. *Халтаміць — абы-што гаворыць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Мітусіцца. *Халтаміць — абы-што робіць, спяшыць, нічога не выходзіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ХАЛУЁВЫ *прым.* ◇ *Галава халуёвая* — пра таго, хто ў сваёй хаце ўсім прыслугоўвае, дагаджае. *На тваю галаву халуёваю хватае* [работы]. Мсцібава Ваўк.

ХАЛУ'Й *м. пагард.* Слуга. *Думаеш, што халуя собіе нашов, што я тобіе всё буду робіті, пошукай собіе халуя. Колісь у пана халуі былі.* Курашэва Чыж.

ХАЛУ'ПКА *ж. памянш.* Невялікая дрэнная хатка; хаціна. *Купілі халупку — і жывуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Старую халупку купілі. Як у той халупкі жыць?* Пярэкі В.-Дзв.

ХА'ЛЬКАМ *прысл.* ◇ *Халькам* — у беспарадку. *Усё было халькам.* Вузла Мядз.

ХАЛЭ'НДЗІЦЬ *незак. экспр.* Тармасіць. *Пачаў халэндзіць качар гусяня.* Кіралі Шчуч.

ХАЛЯ'ВЫ, ХАЛЕ'ВЫ *мн.* Халявы. *Халявы ў ботах, іх можна прышываць сколька.* Завельцы Астр. *Халявы кароценькія.* Грыкені Вільн. *У ботах халевы.* Старыя Трокі Трак. *Цыбук* [люлькі] *быў длугі, і ён затыкаў за халеву.* Гемзы Шальч.

ХА'ЛЯПА *гл.* ХА'ЛІ'ПА

ХАЛЯРЫ'ЧНЫ, ХАЛЕРЫ'ЧНЫ *прым. экспр.* Нягодны. *Я хапіла курыцу, дык халярычны пятух апсэсам скача ў вочы.* Гемзы Шальч. *Такое халерычнае цялё: як таўкануў—аж жывот забалеў.* Гемзы Шальч.

ХАЛЯ'ЎКІ, ХАЛЕ'ЎКІ *мн. памянш.* да халя́вы. *Чаравікі былі, на свята, на нядзелю, такія халяўкі на шнурках.* Чуркі Ашм. *Сніґоўцы былі і ґумовыя і суконныя, во с такімі халяўкамі.* Завельцы Астр. *У чаравіках халеўкі высокія.* Магуны Паст. *Камашы із доўгімі халеўкамі і на шнурочках.* Солы Смарг.

ХАМЛАЧО'К *м. памянш.* Невялікі ўчастак лесу. *Хамлачок лесу, а кругом поля.* Мярэцкія Глыб.

ХАМУ'Т I *м.* Хамут. *На каня — хамут, і шляя, і дуга. Галаґоны* [балабоны] *кала хамута, ґалаґон адзін. У хамуце клешчы, войлак, штоб не абшароўвалася кабыла.* Васілевічы Гродз. *Лямец у хамуце.* Чуркі Ашм. *Хамут налажы!* Грыкені Вільн., Мярэцкія Глыб. *Надзень хамут каню!* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Хто коні міняіць, у таго хамут гуляіць.* Вузла Мядз. *Хочаш мяняць — будзя хамут гуляць.* Малі Астр.

ХАМУ′Т II *м.* Нізка. *Два хамуты лісту нанізала.* Азарычы Пін.

ХАМУТО′ВАЯ КА′ПА *ж.* Пакрыццё ў хамуце. *Хамутовая капа пакрывая хамут, яе на хамуціну і клешчы накладаюць, цвярдзейшай скурай.* Чычалі Швянч.

ХАМУЦІ′НА *ж.* 1. Мяккі валік, які разам з кляшчамі пакрываецца лямцам. *У хамуце кляшчэ, лямяц і хамуціна, што нацягуецца саломай, хамуціна, як кішка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хамуціну робяць так: круця салому ў скрутку, звязвая, апшывая скурай цененькай, прыкрапляя да кляшчоў.* Гемзы Шальч. *Хамуціна — круглая частка хамута.* Саланое Віл. *Хамуціна да клешчаў прымыкая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У яжджомага хамута партная хамуціна, а ў аромага — кожаная.* Істра Лудз. 2. Тое ж, што і хамуто́вая ка́па. *Хамуціну са скуры робяць.* Быстрыца Астр. *Хамут пакрыты хамуцінаю.* Кіралі Шчуч. *У хамуце па кляшчах кладзецца лямец, па лямцу — хамуціна.* Малахоўцы Бар.

ХАМХА′ТЫ *прым.* Гугнявы. *Хамхаты чалавек гаворыць у нос.* Сапоцкіна Гродз.

ХАНА′ *нескл., ж.;* у знач. *вык. груб.* Смерць. *Каб зразу ды хана, каб доўга не мучыўся.* Кіралі Шчуч. *Хана на яго прышла.* Курашэва Чыж.

ХАНДАЛЫ′ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Хандалы драўляныя насілі, скурай абраблялі, падэшвы толькі драўляныя. Ладныя ўжо былі, у хандалох хадзілі. У хандалох цяшка пасціць.* Завельцы Астр.

ХАНДЗЕ′І *мн. экспр.* Непрыемныя размовы. *Дакуль тваіх хандзеяў слухаць буду, хандзеі надаелі.* Кураполле Паст.

ХАНЖАВА′ТКА *ж.* Ветраная, легкадумная асоба. *Ханжаватка — дужа ўтрапёная, ветраная дзяўчына.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *ханжа* ’крывадушнік’.

ХА′НУЦЬ *зак.* Загінуць. *Я п ханула там.* Рыбчына Віл.

ХАП *выкл.* у знач. *вык.* Ужываецца для перадачы раптоўнасці дзеяння. *Яна хап яго за плечы!* Дэгшні Шальч.

ХАПА′ЦЦА *незак.* 1. Трымацца. *За елавец ідзе хапаецца.* Івашкаўцы Смарг. 2. Лавіцца. *Шчука сільна хапаяцца.* Быстрыца Астр. 3. Працаваць старанна. *Зраня хапаюцца за работу.* Гемзы Шальч.

ХАПА′ЦЬ *незак.* 1. Рэзкім рухам рук браць што-н. *Чую, што мяне хапая за руку.* Руднікі Шальч. 2. Лавіць рукамі што-н. *Сванькі кідалі канфеты, а дзеці хапалі.* Васілевічы Гродз. 3. Лавіць здабычу. *Варона хапае ціплят.* Навасёлкі Лід. 4. *перан.* Старацца працаваць без перапынку. *Ён паспаў і зграбіў сена, а мы хапалі.* Солы Смарг. 5. *безас.* Бываць у дастатковай колькасці. *Ліхо было, але хлеба хапала.* Пасека Ст.-Дар. 6. *перан.* Размаўляць. *Уперат па-беларуску і па-польску хапалі.* Гальшаны Ашм. ◊ *Хопам хапаць* — рабіць хутка. *Як устала, то хопам хапай.* Міратычы Карэл.

ХАПІ′ЦЬ *зак.* 1. Рэзкім рухам рук узяць што-н. *Калі хаплю*

*венік, то палучыш баню.* Граўжышкі Ашм. 2. Злавіць здабычу (пра драпежнікаў). *Воўк хопя авечку, закіня за плечы — і папёр.* Малі Астр. 3. *перан.* Замерзнуць; азябнуць. *Хопя холат, то баляць ногі.* Малі Астр. 4. *перан.* Праняць, прадзьмуць. *Недзе цябе вецяр хапіў, ты і кашляеш.* Ністанішкі Смарг. 5. *перан.* Захварэць на якую-н. хваробу. *Хапіла запаленя мазок.* Кіралі Шчуч. *Як хапіла яго — адабрала нагу.* Гемзы Шальч. 6. *перан.* Наступіць, пачацца (пра моцныя болі). *Прыступ жаўтачкі хапіў.* Навасёлкі Лід. *Прыступ хопя, а потым атпусця.* Гемзы Шальч. 7. Закруціць у віры, зацягнуць вірам. *Папаў на вір, хапнула і ўтапнуўся.* Магуны Паст. 8. *перан.* Пагразіць моцна набіць каго-н. *Як я хаплю цябе!* Гемзы Шальч.

ХАПНУ′ЦЬ *зак.* Удыхнуць. *Хапнеш воздуху — і ляхчэй craня.* Кудзялянцы Шальч.

ХАПУ′Н *м.* Чорт, нячысцік. ∇ *Пропав, як бы хапун его украв.* Курашэва Чыж.

ХАПУНЫ′ *мн.* Карны атрад, аблавы. *Тут неміц быў, казалі тады: «Хапуны едуць, уцякайця!»* Ёдлавічы Брасл.

ХАРАВІ′ТЫ *гл.* ХВАРАВІ′ТЫ

ХАРАЖБА′, ХАРАШБА′, ХАРАСТБА′ *ж.* 1. Прыгажосць. *Ёсць дачка калекая, харажбы яна маіць.* Малькуны Ігн. *Харашбы ніякай німа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Другія пудраваліся — ня свая харашба.* Ракаўскія Швянч. ∇ *Уся харажба вылезла.* Скрудалена Даўг. *Як каму і харастбы і росту, а другому — нічога.* Быстрыца Астр. 2. Упрыгожванне. *Вешаюць харажбу ў куту, украшаюць. Яго для харажбы дзержаць.* Малькуны Ігн.

ХАРАКТЭ′РНЫ, ХАРАКТЫ′РНЫ *прым.* 1. Які мае добры характар. *Характэрны — добры чалавек.* Старыя Трокі Трак. 2. Наравісты. *Сіеты куонь характырны.* Курашэва Чыж.

ХАРА′КЦЯР, ХАРА′КЦЕР, ХАРА′ХЦЯР *м.* Характар. *Яны мой харакцяр знаяць.* Кудзялянцы Шальч. *Што за Тэклін харакцяр — у міры няма такога добрага!* Саланое Віл. *У яе харакцер паскудны.* Дэгшні Шальч. *Свінаваты харахцяр мая. Харахцяр благі.* Міратычы Карэл.; *параўн.* руск. *характер* 'тж'.

ХАРАНІ′ЦЦА I *незак.* Хавацца ад каго-н. *Харaнiлiся ў акопах.* Быстрыца Астр. *А немцы: «Міша Бялязін у вас хароніцца?»* Багушэвічы Бярэз.

ХАРАНІ′ЦЦА II *незак.* Быць пахаваным (пра нябожчыка). *Мы харонімся на могілках.* Рыбчына Віл. *Цераз пяцьдзесят лет можна на тым самым месцы харaніцца зноў.* Дарава Лях.

ХАРАНІ′ЦЬ I *незак.* 1. Хаваць што-н. *А гусь хароніць голаву пат крыло.* Малахоўцы Бар. 2. Захоўваць што-н. *Былі прамугі, там харанілі лучшая, замуроўвалі.* Старыя Трокі Трак. *У нас аддзельна хароняць адзежу.* Стары Свержань Стаўб. 3. Ахоўваць. *Хароняць матку, кругом* [пчолы] *аблепяць яе.* Быстрыца Астр.

ХАРАНІ′ЦЬ II *незак.* Адпяваць у час пахавання. *Ксёндз яго спавядаў і харaніў.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *хоронить.*

ХАРАНІ'ЦЬ III *незак.* Даглядаць. *Хараніла п ты мяне, як бы ні ён.* Валеўка Навагр.

ХАРАСТБА' *гл.* ХАРАЖБА'

ХАРАСТВО' *н.* Краса, прыгажосць. *Хараство на дварэ!* Номікі Бабіц.

ХАРА'ХЦЯР *гл.* ХАРА'КЦЯР

ХАРАША'НЫ *прым.* Пакладаны (пра жывёлу). *Харашаны баран.* Пацаўшчына Дзятл.

ХАРАША'СТЫ *прым.* Тое ж, што і х а р а ш а́ н ы. *Харашасты баран і маркач — гэто тоя ш.* Дакудава Лід.

ХАРАША'ЦЬ, ХАРАША'ТІ *незак.* Пакладаць (пра жывёлу). *Ідзі харашаць кнюра!* Рыбакі Нараўк. *Сусіет прыдэ паршучкі харашаті.* Курашэва Чыж.

ХАРАШБА' *гл.* ХАРАЖБА'

ХАРАШНЕ'Й *прым. выш.* Прыгажэй. *Гэты кветкі харашней.* Альхоўцы Лях.

ХАРАШО', ХАРАШЭ' *прысл.* 1. Заможна. *Цяпер усе харашо жывуць.* Лісна В.-Дзв., Новыя Мацалі Варэн. *Ён конюхам у калхозі, такі старацельны, жывуць харашэ.* Калядзічы Ваўк. 2. Як мае быць, добра. *Так харашэ высахне.* Парэчча Гродз. *Нос абмыяш харашэ.* Альхоўка Навагр. *Каровы харашо ходзяць.* Гемзы Шальч. *Мне абы хлеба можна купіць, так і харашо.* Канюкай Вільн. 3. Прыветна. *Харашо мяне устрэцілі.* Кемялішкі Астр. 4. Згодна. *Мой дзядук с цівуном харашо жыў.* Грыкені Вільн. *Жылі харашэ з жонкаю.* Баброўнікі Гарад. 5. Граматна, складна. *Харашо піша сын.* Стральцы Шальч. *Чытаў харашэ.* Крынкі Крынк. *Гэта харашэ вам раскажа. Патом вы харашэ ўлажыце то, што я расказала.* Канюкай Вільн. 6. Прыгожа. *Салавей пёя харашэ.* Малыя Аўцюкі Калінк. 7. Прыемна. *І харашэ пахнуць у хаця.* Ракаўскія Швянч. *Зрабілі венік такі доўгі і ўбралі яшчэ харашэ кветкамі.* Баброўнікі Гарад. 8. Надта. *Харашэ парыць у начэ.* Мсцібава Ваўк. ∇ *Во харашо было, як нас не было.* Малі Астр.; *параўн.* руск. *хорошо* 'тж'.

ХАРАШЫНЯ' *ж.* Тое ж, што і х а р а ж б а́ 1. *На дварэ такая харашыня стала.* Лісна В.-Дзв. *Што за харашыня ў хаце!* Граўжышкі Ашм.

ХАРАШЭ'Й *прысл. выш.* 1. Лепш. *Ты харашэй пажыўшы.* Лісна В.-Дзв. *Раскажа харашэй, чым чытае.* Солы Смарг. *Лёну нічога ня робіцца, чым болей ляжыць, тым харашэй робіцца.* Завельцы Ашм. *Там было харашэй жыць.* Ракаўскія Швянч. 2. Прывабней. *Даўней харашэй насілі, а цяпер толькі на кумпячках спадніцы.* Ракаўскія Швянч. ◇ *Харашэй хадзіць* — адзявацца па модзе, прыгажэй. *Маладзёш цяпер харашэй ходзіць у будзённыя дні, як некалі хадзілі ў свята.* Альхоўка Навагр.

ХАРАШЭ'ЙШЫ *прым. выш.* 1. Прыгажэйшы. *Гэта дзеўка хароша, а гэта яшчэ харашэйша.* Кіралі Шчуч. *Маладая харашэйшая была.* Лісна В.-Дзв. *Нашы дзеўкі харашэйшыя.* Крэва Смарг. *Гэты харашэйшы хлопяц.* Гемзы Шальч. ∇ *Мужык абы*

*харашэйшы за чорта, так і харошы.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Вышэйшы па якасці, каштоўнасці. *Ткалі харашэйша палатно, тонянька.* Быстрыца Астр. *Тая харашэйшая хустка.* Дзяніскавічы Ганц. *Харашэйшыя сукенкі буду насіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Харашэйшы замок купіла.* Ёдлавічы Брасл. *Махавік — харашэйшы грып.* Магуны Паст. 3. Больш урадлівы. *У Мядэнчыкі гуркі харашэйшыя.* Кемялішкі Астр.

ХАРКАЧЫЭ' *мн.* Макрота. *Зусім хворы, самымі харкачамі плюе.* Курашэва Чыж.

ХАРМУ'ШКА *ж. кулін.* Цура. *У ваду накрышу хлеба, цукар туды — і елі хармушку.* Масілавічы Сл. *Так захацелосё есці, трэбо зрабіць хармушку ды і паесці.* Міратычы Карэл.; *гл.* к а р м у́ ш к а.

ХАРО'К *м. заал.* Шашок. *Харок рыжаваты, красавец, шапка з яго дарагая.* Чарняўскія Лудз.

ХАРО'МА *ж.* Хата, будынак. *Сваю харому прададуць.* Валынцы В.-Дзв. *Так яны* [немцы] *і спалілі харомы, яго забралі ўсё, але жонка з дзецьмі асталася.* Слабодка Астр.; *параўн.* руск. *хоромы* 'палацы'.

ХАРО'МІНА *ж. павел.* да х а р о́ м а. *Філіцінская прадаець сваю хароміну.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жывець у сваёй хароміне.* Валынцы В.-Дзв.

ХАРО'ШЫ, ХАРО'ШШЫ, ХОРО'ШЫ, ХОРО'ШЫЙ *прым.* 1. Клапатлівы, спагадлівы. *Жыву ў харошай хазяйкі, глядзіць мяне.* Рудня Астравітая Чэрв. *Харошая сасетка: мне прынясе малака.* Слабада Мін. *Хозяйка хароша, ему всё прыготовіт.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Гаспадарлівы. *Мой сын харошы хазяін.* Стральцы Шальч. 3. Прыгожы. *Хароша дзеўка: высока, красіва.* Гальшаны Ашм. *Харошы хлопяц.* Старое Сяло Зэльв. *Ён малоды, харошы.* Стральцы Шальч. *Маладьі харошы, ой дык пара.* Рыбчына Віл. *На лічанька яна харошая, алі яна віхрыцца, аш на ей скура гарыць.* Малі Астр. *Цяпер нехарошая яна, худая, а была харошая маладая.* Ракаўскія Швянч. *Хорошый чоловік.* Дзмітравічы Кам. *Нова хороша спудніца.* Малыя Аўцюкі Калінк. 4. Добры па натуры. *Быў харошы ён чалавек.* Ёдлавічы Брасл. *Харошы, пенкны чалавек.* Дакудава Лід. *Сын старшы такі харошы.* Слабада Мін. *Там людзі харошыя.* Жодзішкі Смарг. 5. Здаровы, цягавіты. *Конь быў харошы.* Грыкені Вільн. 6. Добры па якасці. *Лесу далі харошага.* Пасіене Лудз. *Лён с-пат церніцы харошшы выходзіў.* Альхоўка Навагр. *У дзялянках трава харошая. Харошы вязуць шыльнік у гной, такі харошы гной, ён суш дзержыць.* Гемзы Шальч. 7. Урадлівы. *Хароша какуруза расце.* Кайшоўка Карэл. *Наша картошка харошая.* Малышы Лід. *Поле харошшэ, то і збожжэ лепшэ.* Ялова Пруж. 8. Смачны. *Ешча хлеп, хлеп харошы.* Парэчча Гродз. *Масла харошая.* Лісна В.-Дзв. 9. Добры, пагодлівы. *Пагода была хароша.* Дэгшні Шальч. *Пара хароша: усё цвіціць.* Месянцы Брасл. 10. Ударны. *Мяне наградзілі за харошую работу.* Рагулішкі Даўг. 11. Пры-

годны. *У Дамашах харошая дарога.* Рагулішкі Даўг. 12. Маляўнічы. *Харошая возіра відацца ад нас.* Рагулішкі Даўг. 13. кароткая форма *прым.* Тое ж, што і харошы 4. *Харош чалавек.* Граўжышкі Ашм. *Харош чалавек наш Іван.* Асавец Віл. 14. кароткая форма *прым.* Добры па якасцях. *Харош мёт.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* руск. *хорош* 'тж'. 15. у знач. *назоўніка харошае н.* Тое, што мае дадатныя якасці. *Харошэго не бачыла.* Малыя Аўцюкі Калінк. ∇ *За грошы — усюды харошы.* Малі Астр., Вецярэвічы Пух. *Хоць пад лаўкай пасяджу, а на харошага паглянджу.* Малі Астр.; *парайн.* руск. *хороший* 'тж'. ◊ *Харошая галава* — пра разумнага чалавека. *Старэйша мела харошу галаву.* Навасёлкі Лід.

ХАРО'ШЫЦЬ *незак.* Церабіць. *Капусту ссякаць, а потым харошаць.* Пасека Ст.-Дар.

ХАРХО'ПКІ *мн. экспр.* Клункі. *Куды дзяваць гэтыя　хархопкі?!* Слабада Смал.

ХАРЧ *м.* 1. Корм для жывёлы. *Харч для ската. Заложым весь ток харчам жывёлы. Наперат харч цягалі на санях* [свінням]. Лоск Валож. *Трэба набыць харчу. Будзя на карову харчу.* Альхоўцы Лях. *Харчы ў нас добрыя, не слабыя, каровы нямала даюць малака.* Мсцібава Ваўк. *Для каровы харчу настарайся.* Дарава Лях. *Трэба харч для свіней.* Вецярэвічы Пух. *Харчу шмат нада яму* [сабаку]. Альхоўка Навагр. *Харчэ там дастаўляют.* Вялікі Краснік Пруж. 2. Прадукты харчавання. *Пастух ішоў на харч.* Хатынічы Ганц. *Харчы добрыя.* Мярэцкія Глыб. *На вашых харчах буду.* Ёдлавічы Брасл. *Як хто едзя куды, трэба ўзяць харчоў.* Кіралі Шчуч. *Як пастуху, то лусту, а ў дарогу харчы.* Завельцы Астр. *Паблажнеў, харчэ благія.* Малахоўцы Бар. *Харчэ бэры на дорогу. Вона на твоіх хорчох. Хай бы до мэнэ прышла на своіх хорчох.* Смаляніца Пруж.

ХАРЧАВА'ННЕ, ХАРЧАВА'НЯ *н.* Сталаванне. *Як годзяцца рабіць, то кажаць: «Як, на вашым харчаванні ці на сваім?»* Завельцы Астр. *Харчаваня добрая.* Ёдлавічы Брасл.

ХАРЧАВА'ЦЦА *незак.* Харчавацца. *Харчаваліся добра.* Валынцы В.-Дзв.

ХАРЧАВА'ЦЬ *незак.* Утрымоўваць на сваіх харчах. *Я харчую его.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ХАРЧО'ЎНЫ *прым.* Які многа есць. *Я не харчоўная — чаю нап'юся, кісляку лыжку з'ем.* Вузла Мядз. *Ён харчоўны, харчу шмат нада яму.* Альхоўка Навагр. *Харчоўна карова, патрабуе харчу шмат.* Альхоўцы Лях.

ХАРЧЫ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і харчава́цца. *Харчыліся мы добра, мёду кадзямі было.* Вузла Мядз.

ХА'ТА *ж.* 1. Жылы сялянскі будынак. *Хата вяліка, адна асталася, хоць вайкоў ганяй.* Малі Астр. *Машыны вялікія ідуць, аш хата зыбіць.* Завельцы Астр. *Дайней так было: нізенька хата, курная, саломай крыта, печ велька біс коміна, сцены цёмна-карычневыя, блішчаць.* Мсцібава Ваўк. *Я не жыў у курнай*

*хаце; было курных хатаў многа.* Грыкені Вільн. *У сыботу пасыпіш у хаце пяском і явару парэжаш, пасыпіш, кап пахла.* Латыгаль Віл. *Я с хаты ўзіла падушку і ясік.* Гальшаны Ашм. *Тал тры хаці стаіць.* Парэчча Гродз. *Далі на хаты адбудавацца.* Васілевічы Гродз. *Хатаў наставілі!* Лоск Валож. *У Кернаве хаты немцы спалілі.* Руднікі Шальч. *Хадзем у хату!* Альхоўцы Лях. *У яе дзве хаці.* Кузьмічы Люб. *У суседа дзве хаці?* Вялікі Краснік Пруж. *Гэта хата гасударская, паставіў калхос.* Слабада Мін. *У Бродах быў пажар вельмі велькі, много хатоў згарэла.* Ялова Пруж. 2. Пакой. *Цяпер ставяць хаты па-другому: адна хата, дзе жывуць, другая — кухня.* Стральцы Гродз. *Адна руска печ, хата велька.* Валеўка Навагр. ∇ *Ад хаты — на ногаць, да хаты — на локаць.* Кураполле Паст. *Хата не воўк, у лес не паляціць.* Вузла Мядз. *Бяда сваей хаты не мая: з аднэй вылазя, у другую ўлазя.* Малі Астр. *Німа гасцей — хаця прасцей.* Вузла Мядз. *Дзе не бываць, абы ў хаце начаваць.* Кіралі Шчуч. *У яе золата ў кумодзя, а бруд па хаця ходзя.* Ёдупка Шальч.

ХА′ТАР *м. мед.* Катар. *Хатар напаў, чхая.* Старое Сяло Зэльв.; *гл.* к á т á р 1.

ХА′ТАЧКА *ж. памянш.* да х á т а 1. *Хатачка маленькая.* Саланое Віл.

ХА′ТКА *ж. памянш.* да х á т а 1. *І маю хатку сваю і соткі за хаткай.* Гальшаны Ашм. *Хатка наша небальшая.* Навікі Лудз. *Купілі хатку маленьку.* Пасіене Лудз. ∇ *Свая хатка, як родная матка: і сагрэіць і накорміць. Няма тэй хаткі, каб не было вадкі.* Вузла Мядз. *Німа тэй хаткі, каб не было зваткі.* Дэгшні Шальч.

ХАТКО′ВЫЯ *устар.* У выразе: *У хатковых* — у панскай хаце часова (жыць). *Пан дасць хату і андынарыю — жывеш у хатковых. Жыць у хатковых — жыць у панскай хаце, жыць не ўсягда.* Саланое Віл.

ХА′ТНІ, ХА′ТНЫ *прым.* Які адносіцца да хаты. *Бывая хатняя карова лепшая, а пасажная — горшая.* Завельцы Астр. *Шчэ трэба вады напіціся хатное.* Вялікі Краснік Пруж.

ХА′ТНІЦЬ *незак.* Кухарыць. *Ты ш хатніць падышла, есці пастроіла, паелі.* Курапалле Паст.

ХА′ТНІШЧА *ж.* Месца, дзе стаяла хата. *Ці асталася наша хатнішча?* Мярэцкія Глыб.

ХА′ТНЫ *гл.* ХА′ТНІ

ХАТО′МАК *м.* Клунак. *У хатомак усё ўвязала і панесла.* Мішневічы Шум.; *гл.* к а т ó м к а.

ХАТО′МКА *ж.* Тое ж, што і х а т ó м а к. *Навязала хатомку і панясла. Прынясла хатомку.* Рыбчына Віл. *Хатомкі прывёс, яго паклалі ў бальніцу.* Лоск Валож.

ХАТУ′ЛЬ *м.* Тое ж, што і х а т ó м а к. *Як ты панісеш хатуль?* Лоск Валож. *Хатуль за плечы закінула.* Мярэцкія Глыб., Беразіно Докш. *Сабрала яго хатулі — і ідзі з богам!* Малі Астр.

*Бывала, за плячамі хатулі насілі.* Ёдлавічы Брасл. *Усё хатулі, хатулі ў іх, а куды едуць?* Месянцы Брасл.

ХА'ЎКАЦЬ *незак.* Пазяхаць. *Сядзіш і хаўкаяш, ідзі спаць.* Дакудава Лід. *Хаўкае, спаць хоча.* Лука Нараўк.

ХАЎСЦІ'НА *ж.* Кавалак даматканай тканіны, прызначаны для адбельвання. *Палатна наткалі і бялілі хаўсцінамі. Хаўсціны нада зберыць для бялення. Дзе яшчэ адна хаўсціна?* Жодзішкі Смарг. *Вытчэш дзесяць сцен, то разразаеш і беліш гэтыя кускі, беліш і гаворыш: «Во хаўсціну беліш».* Завельцы Астр.

ХАЎТУ'РЫ, ХАЎТУРЫЭ' *толькі мн.* 1. Пахаванне памёршага. *Хаўтуры — даўней, пахарон — цяпер.* Мярэцкія Глыб. *У той вёсцы памёр чалавек — там хаўтуры. Пашлі мы на хаўтуры.* Гемзы Шальч. *Як хаваюць — хаўтуры.* Альхоўцы Лях., Вострава Маст. *Пабяжым мы на хаўтуры.* Валынцы В.-Дзв. *На хаўтуры сістра прыіжджала.* Пярэкі В.-Дзв. *Прыехалі с хаўтур. Курэй на хаўтуры парэзалі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Памінкі. *Як пахаваюць чалавека, то робяць хаўтурыэ.* Бáброўнікі Гарад. ∇ *Кап еты ягады святой сёмухай прынеслі табе на хаўтуры!* Вецярэвічы Пух.

ХАХАЛО'К *м. памянш.* Чубок. *Кнігаўка зовіцца, з хахалком.* Замошша Брасл.

ХА'ХАНЬКІ *толькі мн.* ◇ *Гэта хаханькі* — жарты. *Што гэта хаханькі такія гады пражыць глыбокія.* Цяпінцы Віл.

ХАХАТА'ЦЬ *незак.* Моцна смяяцца. *Хахаталі, што я не магу абняць дзерава. Мы не с цябе хахаталі.* Ёдлавічы Брасл.

ХАХЛА'ТЫ *прым.* Лахматы. *Шапку хахлатую з аўчыны насілі.* Саланое Віл.

ХАХО'Л *м.* 1. Чупрына. ∇ *Пусціўся ў драку — хахла не жалей.* Пераброддзе Міёр. 2. *перан.* Верх завязанага напоўненага мяшка (вышэй завязкі). *Малы хахол у мяшку кінаў, нада большы.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* х о́ х л а.

ХАХО'ТА *ж.* Рогат. *Хахоты было п, кап з нашых слоў кнігу напісалі.* Ёдлавічы Брасл.

ХАЦЕ'ЦЦА *незак. безас.* Мець патрэбу, жаданне. *Як добра жыць — хочацца яшчэ, яшчэ лепей. Хочацца цыбулькі паесці.* Малі Астр. *Хочацца малака, каб далі кусок.* Кухты Віл. *Яму хочацца паехаць у горат.* Кіралі Шчуч. *Яму хацелось туды.* Сонічы Гродз. *Там было озеро, а мне хацелось піць.* Вулька Гродз. *Плакаць толькі хочацца.* Плябанцы Ашм. *Так ня будзіш жыць, як хочацца.* Вузла Мядз. *На дошч спаць хочацца.* Дэгшні Шальч. *Час уміраць, алі ні хаціцца.* Парэчча Гродз.

ХАЦЕ'ЦЬ, ХОТЫ'ТЭ *незак. з інф.* 1. Мець намер, жаданне, ахвоту да чаго-н. *Матка хацела пасадзіць гарох. Хачу пераначаваць.* Вулька Гродз. *Як хто хацеў, так і ткалі.* Васілевічы Гродз. *Гальтаявай, не хацеў рабіць.* Барок Стаўб. *Як дзеці хочаць, так і робяць.* Снягяны Смарг. *Я дахаты хачу. Дочкі ня хочаць тут быць.* Парэчча Гродз. *Ны хо́чу!* Дзмітравічы Кам. *Патсушыць сено хочам. Пішэце, што хочаце.* Дараза Лях. *Што*

*хцецьме, то варыцьме.* Навасёлкі Свісл. 2. Мець патрэбу ў кім; чым-н. *Асталася ні старая, а замуш не хацела. Зара апсеў, а то хацеў жаніцца.* Солы Смарг. *Я мушчын не хачу, быў мужык, памёр, так жыву.* Вузла Мядз. *Мы ні хочам гасціма быць. Гэтак ужо хочыць, прама млея па гэтай сукенца.* Завельцы Астр. 3. Мець прагнасць. *Піць ён хочыць.* Навікі Лудз. 4. Мець зацікаўленасць у чым-н. *Пасматрэць, як тчымо, хочаце?* Малышы Лід. 5. Мець вартасць, каштоўнасць. *Сколькі ты хочыш за гэтыя боты?* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Ці бедны, ці багаты, усё роўна хочыць быць шчаслівым.* Кураполле Паст. *Што ты хочаш, каб не рабіўшы самі галкі ў горла ляцелі?* Малі Астр.

ХАЦЁНА *ж. зневаж.* Невялікая несамавітая хата. *Злажылі хацёну, печку.* Замошша Брасл. *Муш з вайны не прышоў, хацёну строіла сама, у горы жыла.* Пераброддзе Міёр.

ХАЦЁНКА, ХАЦІ′НКА *ж.* Тое ж, што і хацёна. *Нейкую хацёнку маіць.* Груздава Паст. *Хацёнку старэнькую купіў.* Старое Сяло Зэльв. *Жыла я ў той хацінцы.* Літва Лях. *Некалькі хацінкаў было ў Дарэве.* Дарава Лях.

ХАЦІ′, ХАЦЯ′ *часц.* 1. узмацняльна-абмежавальная. Выражае пажаданне. *Кап хаці дамоў прыехаць. Хаці ён на вуліцу выгнаў.* Вецярэвічы Пух. 2. узмацняльна-вылучальная. *Хаця ці ёсь хлеп?* Лісна В.-Дзв.

ХА′ЦІСКО *н. павел.* да ха́та. *Але ш хаціско собіе выставів!* Курашэва Чыж.

ХА′ЦІШЧА *н.* Тое ж, што і ха́тнішча. *І знаку няма нашага хацішча.* Рыбчына Віл. *Тут наша хацішча.* Палік Барыс.

ХВА′ДРА *ж.* Кожная з чатырох фаз Месяца. *Хвадра перва.* Старое Сяло Зэльв.; *гл.* ква́дра.

ХВАЁВЫ *прым.* Які мае адносіны да хвоі. *Хваёвых лапак прынёс.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХВАЁВЫ ВЕ′НІК *м.* Памяло. *Хваёвы венік насаджан на чэрань і вымятаюць печ.* Кіралі Шчуч. *Зрабі хваёвага веніка печ вымесці. Хваёвы венік робяць з хвойкі печ выме́таць.* Альхоўцы Лях. *Трэба звязаць хваёвы венік.* Дзяніскавічы Ганц.

ХВАІ′НА *ж.* Адно дрэва хвоі. *Там стаіць хваіна.* Міратычы Карэл.

ХВАІ′НКА *ж. памянш.* да хво́я 1, хваі́на. *Хваінкі маленькія, дзе пасаджаны лес.* Гемзы Шальч.

ХВАЙНА′, ХВАЙНЯ′ *ж.* 1. Хваёвы лес. *Лес хваёвы, стары, велькі — хвайна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хвайна — хваёвы лес са днэй хвоі.* Мярэцкія Глыб., Жылі Іўеў. *Мы ў хвайне жывем. Па хвайне сівы мох расце.* Парэчча Гродз. *Хвайна — там грыбы растуць.* Вострава Маст. *Хвайна, за тэй хвайной кудзерка. У хвайну заходзіць аўтобус і захіляецца на Руду Ліпічанскую.* Галубы Маст. *Дзіке як далі ў хвайну!* Парэчча Гродз. 2. Хвойнік. *На маладой хвайне много грыбоў.* Навасёлкі Свісл. *Ідзеця хвайною.* Навасёлкі Свісл. *Ён у хвайне стаіц з руж'ём.* Парэчча Гродз. *За рэчкаю хвайня — там адна хвайня, на той зараслі, на*

*той хвайні хадзілі па грыбу*. Кузьмічы Люб. 3. Тое ж, што і хваіна. *Там адна хвайна, а дзе адны ёлкі*. Кіралі Шчуч. *Расце хвайна*. Вялікія Баяры Шчуч. *Хвайна, яліна расце, беразіна расце*. Вострава Маст. *У лесі расце хвайна, еліна*. Крынкі Крынк. *Каб дзікі бліска наляцелі, то на хвайну палезла п*. Парэчча Гродз. 4. Галіны хвоі. *С хвайны памяло вязалі, гнутыя лапкі звяжуцца*. Мсцібава Ваўк., Дзяніскавічы Ганц. *Памяло с хвайны рабілі*. Баброўнікі Гарад. 5. Будаўнічы матэрыял. *Хвайна не гадзіцца для стройкі*. Івашкаўцы Смарг. ∇ *Як хвайна, была дзяўчына*. Старыя Смільгіні Воран.

ХВА′ЙНЫ *гл.* ФА′ЙНЫ

ХВАЙНЯ′К *м*. Тое ж, што і хвайна́ 2. *Хвайняк — слабы лес*. Кураполле Паст. *Грыбовыя хвайнякі*. Мярэцкія Глыб. *Быў у мяне шнурок зямлі, цяпер па хвайнякох мой шнурок зарошшы*. Рыбчына Віл.

ХВА′ЛА′ *ж*. Высокая пахвала. *Мне ўжо адна хвала́: ці мяне хваляць, ці ганяць*. Малькуны Ігн. *Вам чэсць і хва́ла, што вы выпалняіце план*. Рагулішкі Даўг.

ХВАЛА′ *ж*. Пахвала. ∇ *Адзін з'еш і вала — усеадно адна хвала*. Месянцы Брасл.

ХВАЛДАВА′ТЫ *прым. перан*. Які ў выглядзе фалдаў. *Дзяшары — тоўстыя кішкі, хвалдаватыя*. Ракаўскія Швянч.

ХВА′ЛДЫ *гл.* ФА′ЛДЫ

ХВАЛЁНЫ *дзеепрым*. Расхвалены. *Хвалёны масцер — і абмануў*. Ахрэмаўцы Брасл.

ХВАЛІВА′РАК *гл.* ФО′ЛЬВАРАК

ХВАЛІ′ЦЦА *незак*. 1. Выхваляць сябе. *Сідзяць яны і хваляцца*. Ахрэмаўцы Брасл. 2. Хваліць каго-н. *Мы ні хвалімся сватамі*. Саланое Віл. 3. Расказаць з хвальбой аб сабе. *Хваліцца німа чым*. Завельцы Астр. ∇ *Не хваліса, пасеяўшы жыта, а хваліса пажаўшы, бувае, вупрае жыта*. Кузьмічы Люб.

ХВАЛІ′ЦЬ *незак*. Добра адазвацца аб кім-н. *Хваля сваю свякроўку*. Кемялішкі Астр. *Бывая ні очань красівы, а ў чужой старане яго очань хваляць. Перш ганіла, а потым хваліла яго. Рабіла многа, але ш любіла, што хвалілі мяне*. Малі Астр. *Хваліла яна таго хлопца*. Кухты Віл. *Не то, што гэта мая дачка: і я хвалю, але і людзі скажуць*. Саланое Віл. *Вшэлькі свайго хваля*. Кудзялянцы Шальч. *Не нада хваліць*. Малыя Аўцюкі Калінк. *Ніхто ні хваліць, а ўсе парасяты харошыя*. Вузла Мядз. ∇ *І сава сваіх дзяцей хваліць*. Ёдлавічы Брасл. *І сава свае дзеці хваля*. Малі Астр. *Хто сам сябе хваліць, таго пёрун спаліць*. Мiратычы Карэл.

ХВАЛЬБО′НА *гл.* ФАЛЬБО′НА

ХВАЛЬБУ′Н *м*. Той, хто сябе выхваляе. *Хвальбуном прозывают такого чоловіека, што любіт хвалітісе*. Курашэва Чыж.

ХВАЛЬКО′ *м.* і *ж*. Тое ж, што і хвальбу́н. *Ён такі хвалько, выхваляецца* Паляцкішкі Воран. *Хвалько ты, хваліцца*. Завельцы Астр.

ХВАЛЬЧ *м.* Недахоп. *Абоя рогі пазбіваныя, хвальч ё ў кароввы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХВАЛЬЧАВІ́ТЫ *прым.* Бракаваны, з недахопам. *Хвальчавітая карова: абоя рогі пазбіваныя.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХВАЛЯВА́ЦЦА *незак.* Нервавацца, непакоіцца. *Не хвалюйся, не з'ем твой яблык.* Дварчаны Паст.

ХВАЛЯСТУ́Н *м.* і *ж.* Тое ж, што і хвалько́. *Ах ты хвалястун, усе хваліцца.* Альхоўка Навагр.

ХВАНАБЭ́РЫСТЫ *гл.* ФАНАБЭ́РЫСТЫ

ХВА́НДАЧКІ *мн. памянш.* да хва́нды. *Збіраям палатно ў хвандачкі, памочым і зноў расцелім.* Вузла Мядз. *Скуру юхту куплялі на хадаке, збіралі яе ў хвандачкі, ушывалі вушке.* Збляны Лід.

ХВА́НДЫ *гл.* ФА́ЛДЫ

ХВА́ПНЫ *прым.* Сквапны. *Які ты хвапны!* Ракаўскія Швянч.

ХВАРАВЕ́КА *м.* і *ж.* Той, хто хваравіты. *Хваравека ты!* Новікі Гродз., Жылі Іўеў., Сакаляны Сакол. *Ён у нас такі хваравека! Ён ні бальны і ні здаровы, хваравека, усё хварэя.* Стральцы Гродз. *Ён быў хваравека — і памёр.* Старыя Смільгіні Воран. *Баба яго хваравека, меў нядолю.* Гемзы Шальч.

ХВАРАВЕ́КІ *прым.* Які мае дрэннае здароўе. *Западлівы, хваравекі чалавек начне хварэці і хварэці.* Баброўнікі Гарад.

ХВАРАВІ́ТЫ, ХВОРОВІ́ТЫ, ХВОРОВЭ́ТЫЙ, ХАРАВІ́ТЫ *прым.* Тое ж, што і хваравёкі. *Хваравіты ён, хварэя і хварэя.* Груздава Паст. *Хваравіты чалавек.* Завельцы Астр. *Хворовіты чоловіек нэ можэ робіті тяшкоі роботы.* Курашэва Чыж. *Хворовэтый чоловык.* Дзмітравічы Кам. *Муш харавіты, самой усё трэба рабіць.* Руднікі Шальч. *Такіе харавітые, бо рок часу ім скончылосо і пашлі.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *chorowity* 'тж'.

ХВАРАСЦЯ́НЫ *прым.* Які зроблены з дубцоў, галля. *Хварасцяны плот зрабілі.* Кудзлянцы Шальч.

ХВАРАШЧА́Й *м. бат.* Хвошч. *Хварашчай дзікі і свойскі, адзін скаціна есць.* Галубы Маст.

ХВА́РБА *гл.* ФА́РБА

ХВАРБАВА́ЦЬ *гл.* ФАРБАВА́ЦЬ

ХВАРБО́ВАНЫ *прым.* Фарбаваны. *У горадзе варота хварбованые.* Баброўнікі Гарад.

ХВАРО́БА *ж.* 1. Хвароба. *Ён і цяпер ні злечыўшы гэтую хваробу.* Малі Астр. *Хваробы набраўся.* Плябанцы Ашм. *Што за хвароба прыстала!?* Саланое Віл. *Хвароба гэта заразна.* Кіралі Шчуч. *Кожнай хваробя ёсць лякарства.* Перабродздзе Міёр. *Нет на свеце той хваробы, на якую я не хварэўшы.* Паляцкішкі Воран. *Дзятлаўкі п'юць ад жэнскіх хвароп, еслі выдзяляюцца белі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Уміралі людзі с хваробы.* Альхоўцы Лях. *С пажару хвароба прычапілася і памёр.* Малькуны Ігн. *Доўго хвароба цянуласа, больш як чатырэ месяцэ.* Крынкі Крын. 2. Прыпадак. *Хвароба кідаіць.* Мярэцкія Глыб. *Так*

*кольніць хвароба!* Жодзішкі Смарг. ∇ *Ніхай на сухі лес ідзе тая хвароба!* Вецярэвічы Пух. *Каб яе халера забрала, гэту хваробу!* Канюкай Вільн. *Хвароба чалавека не змора, а толькі знаровя* [знервуя]. Солы Смарг. *Зелля ад хваробы спасая — не ад смерці. Будзя пара — памрош.* Дэгшні Шальч. *Слоньца забірая дванасьця хваробаў, а трынасту — душу.* Ёдупка Шальч. *Куды цябе хвароба гоніць?* — пра таго, хто хутка бяжыць. Міратычы Карэл.

ХВАРО'СТ *гл.* ХВО'РАСТ I

ХВАРСІ'СТЫ *гл.* ФАРСІ'СТЫ

ХВАРТУ'Х *гл.* ФАРТУ'Х

ХВАРЭ'ЦЬ *незак.* 1. Быць хворым. *Я хварэю тыдзень.* Солы Смарг. *Хварэла са тры дні.* Жодзішкі Смарг. *Ён ні хварэў, ні хварэючы памёр.* Саланое Віл. *На лошку ляжыць, усё хварэя.* Стральцы Шальч. *Затоя і людзі хварэлі даўней.* Кудзялянцы Шальч. *Доўга хварэя, кап кікнуў, то галава да спакою.* Каменка Шальч. *Цалую зіму хварэў.* Грыкені Вільн. *Слухай, як раней лячылі: як хварэлі людзі — жабу ў гаршчок і білі гаршчок перад тым чалавекам, каторы хварэў.* Дарава Лях. 2. Пераносіць якую-н. хваробу. *Галавой хварэў і дзве нядзелі праляжаў.* Ёдлавічы Брасл. *Хварэў на вопух мазгоў.* Дэгшні Шальч. *Хварэіць на прыпадак.* Мярэцкія Глыб. *На вантробу хварэў і памёр.* Дзераўное Стаўб. *Я на грыпу не хварэю.* Рагулішкі Даўг. *Як вайна началаса, то хварэлі на коклюш.* Крынкі Крын. 3. *пеpан.* Хваляваццa. *Што я маю хварэць, што яны ня едуць?!* Багдзюлі Шальч.

ХВАСЛІ'ВЫ *прым.* Выхвальны. *Ён хваслівы і любіў пагаварыць.* Саланое Віл.

ХВАСТА'НКА *ж.* Венік. *Хвастанкі з бярозы робяць, я хвашчуся* [у лазні] *хвастанкай з бярозы.* Старыя Трокі Трак.

ХВАСТА'ЦЦА *незак.* Хвастаць сябе венікам (у лазні). *Хвошчуцца венікам у лазні.* Солы Смарг., Мярэцкія Глыб., Лоск Валож. *Бяроскі, як упаўлета, ломяць, вяжаць, робяць венікі і хвошчацца.* Завельцы Астр. *Венікам бярозавым хвасталіся.* Кіралі Шчуч. *У нас лазня була, лілі воду на печку і хвасталіса.* Парэчча Гродз. *Палок у лазні, на палок лезлі і хвасталіся.* Рыбчына Віл., Кураполле Паст. *Хвошчуцца венікам і цяпер кажуць: «Палезім, пахвошчымся!»* Саланое Віл. *Я хвашчуся хвастанкай з бярозы.* Старыя Трокі Трак. ∇ *У хаці цёпла, хоць хвашчыся.* Рыбчына Віл.

ХВАСТА'ЦЬ, ХВЭ'СТАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і х в а с т а́ ц ц а. *Добра хвастаў мяне, венік удалы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Венікам хвэшчым адна адную.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Ліць (пра дождж). *Дош чуваць па крышы хвошча.* Вецярэвічы Пух. ∇ *У яе язык бэз косці — што хоча, то хвошча.* Малі Астр.

ХВАСТА'Ч *м.* Трапкач. *Хвастач шылі з палатна, канцы запліталі і уціраліся ім. Хвастач — рушнік с канцамі, з рэшткі палатна разам з недатканай асновай: з аднаго канца плётачкі, і з*

*другога, звяжаш іх, каб не разрабляліся. «Я табе хвастачом як упяру»,— кажуць на дзяцей, як ня слухаюць, дурэюць.* Саланое Віл. *Хвастач шылі с канцоў. Завязвалі ў кружавá канцы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Хвастачом мух ганяла. Дастанеш зараз хвастачом.* Беразіно Докш.

ХВАСТУ'Н *м.* Тое ж, што і хвальбýн. *Хто хваліцца і ніц нэ мае, той хвастун.* Смаляніца Пруж.

ХВАСЦЕ'Ц *м. анат.* Ніжняя частка пазваночніка. *Хвасцец ізбіў, як ехаў вярхом, конна.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХВАТАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Моцна ўкусіць. *Сабака як хватануў мяне ў паджылкі!* Рагулішкі Даўг. 2. З'есці наспех. *Ежкі паршук быў, як хватануў, дык задавіўся.* Месянцы Брасл. 3. *перан.* Запаліць. *Як пульнула пламя, хватанулі кудзелю — і ў бочку.* Месянцы Брасл.

ХВАТА'ЦЦА *незак.* ◇ *За лабы хватацца* — біцца. *Ніхай вадзяцца, хоць за лабы хватаюцца!* Вузла Мядз.

ХВАТА'ЦЬ I *незак.* 1. Хапаць здабычу. *Ластаўка хватаяць пчол на ляту.* Груздава Паст. *Крукі курчанята хватая і яйкі.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *перан.* Пераходзіць праз які-н. часовы рубеж. *Ён ужо ў другую сотню* [жыцця] *хватаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХВАТА'ЦЬ II *незак.* Тое ж, што і хапáць 5. *Хватаіць змей па берагах і па вадзе. У нас мышэй хватая.* Парэчча Гродз. *Летам хватаіць работы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хватаіць і бабам ціпер работы.* Лісна В.-Дзв. *Як ат старых дзеці, ім нечага не хватаіць.* Валынцы В.-Дзв. *Каласы ядраныя, не заліта, не запалена, усяго хватая.* Солы Смарг. *Кап усяго хватала!* Гальшаны Ашм. *Дайней не складалі ў стагі, бо хватала гумна.* Завельцы Астр. *Што яму таблеткаў не хватала?!* Дэгшні Шальч. *Хватае хлеба і да хлеба, і двох свіней колім на гот. Людзей хватае на вяселі. Не хватае грошы яму. Не хватае мне трох чыслінкаў, яшчэ трэба даснаваць тры чыслінкі.* Кіралі Шчуч. *Ні хватаіць корму. Чага прывязець, усім хватала.* Саланое Віл. *Дочкаў хватая ў нас.* Альхоўка Навагр. *Робіш, робіш, ўсё яму ні хватая.* Стральцы Гродз. *Хватае падушок.* Старое Сяло Зэльв. *За яе грошы хватая.* Вецярэвічы Пух. *На тваю голаву хватае* [клопату]. Альхоўцы Лях.

ХВАТКО'М *прысл.* ◇ *Хватком хватаць* — есці спехам. *Суп хватком хватаюць парасяты.* Лісна В.-Дзв.

ХВАЦІ'ЦЦА I *зак.* Ухапіцца. *Бяжыць насустрэчу мне мой хлопчык і хваціўся за карзіначку — памагае мне.* Зацітава Слабада Пух.

ХВАЦІ'ЦЦА II *зак.* Успомніць, схапіцца. *Хвацілася, што ён повад парэзаў.* Пярэкі В.-Дзв.

ХВАЦІ'ЦЬ I *зак.* 1. Тое ж, што і хапіць I. *Хваціў за плечы і ахнуў.* Валеўка Навагр. 2. *перан.* Купіць. *А другі за бутылкі хваціць што-небудзь з адзёжы.* Буды В.-Дзв. 3. Тое ж, што і хапіць 5. *Яго як хваціла жыватом, чуць атхадзілі.* Лісна,

Валынцы В.-Дзв. *Боль галавы хваціў.* Солы Смарг. *Як хваціла, то і галавой біўся аб сцяну.* Ахрэмаўцы Брасл. *Скочыць у воду, і яго сутарга хваціць.* Дарава Лях.

ХВАЦІ'ЦЬ II *зак.* 1. Быць у дастатковай колькасці. *Хваціць у мяне работы.* Курапполле Паст. *Мне на дзень хваціць, што ён зарас з'есь.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хваця яму грошы да смерці.* Малі Астр. *Хваця яму трыццаць рублёў.* Дэгшні Шальч. *Хваця хлеба. Хватая мне работы.* Лоск Валож. *Мне п гэтых ягат хваціла, на абедзвёх хваціць.* Альхоўка Навагр. *Я так рабіла, кап усім хваціла.* Гемзы Шальч. 2. Перастаць. *Хваціць леяць!* Рудня Астравітая Чэрв. *Хваця вам пісаць!* Лоск Валож. *Ужэ хваціць вам гамоніць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ХВА'ЦКІ *прым.* Спрытны, дзельны. *Хвацкі хлопэць, всё хутко робіт.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *chwacki* 'тж'.

ХВАШЧА'Й, ХВОШЧЭ'Й *м.* Тое ж, што і х в а р а ш ч а́ й. *Хвашчай глаткі і кудлаты, глаткі — па прыгурачках, а кудлаты — па палях. Гладзенькі хвашчай каровы ядуць.* Кіралі Шчуч. *Хвашчай балотны, цыбук у ім ладны.* Старыя Смільгіні Воран. *Хвашчай трапкаваты, на ім дробныя лісточкі.* Каўняны Гродз. *На возяры хвашчай расце.* Альхоўка Навагр. *Хвашчай на полі расце.* Кудзялянцы Шальч. *Мочалку с хвошчэю робілі.* Хатынічы Ганц.

ХВАШЧА'ЙКА *ж.* Мачалка з хвашчу. *Хвашчайка на гаршкі.* Каўняны Гродз. *Хвашчайкаю вымыла.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ХВАШЧА'НКА, ХВОШЧА'НКА *ж.* Мачалка з хвашчу, сухой травы і інш. *Хвашчанка шорстка, шарпата.* Малахоўцы Бар. *Хвашчанку робяць с хвашча.* Завельцы Астр. *З хвошчу хвашчанку робяць.* Граўжышкі Ашм., Вялікія Баяры Шчуч. *Рвуць хвошч і робяць хвашчанкі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Скруціла вехаць або хвашчанку, тоя ш.* Жодзішкі Смарг. *Хвашчанкай мылі саганы.* Дакудава Лід. *Хвашчанкай слоік памый.* Беразіно Докш. *З хвашча рабілі хвашчанку, хвашчанкамі шаравалі сталы, лаўкі, дзешкі, гладышкі.* Вузла Мядз., Кузьмічы Люб. *Хвашчанка — пасуду мыць, робяць яе с сухое травы.* Альхоўцы Лях. *Пучок з саломы — усё раўно хвашчанка.* Пасека Ст.-Дар. *Хвошчанку с хвошчэю робілі.* Хатынічы Ганц.

ХВАШЧА'Р *м.* Тое ж, што і х в а р а ш ч а́ й. *Хвашчары два ёсць. Ёсць прамы, а ёсць, як елачка. З вясны ён стаўбуночкам.* Магуны Паст.

ХВАШЧО'ЎНІК, ХВАШЧЭ'ЎНІК *м.* Тое ж, што і х в а р а ш ч а́ й. *Хвашчоўнік палявы, як зялёны, ядуць каровы.* Пярэкі, Дзёрнавічы В.-Дзв. *Хвашчоўнік расцець у балоці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хвашчоўнік палявы, мякі ад почак п'юць.* Рагулішкі Даўг. *Хвашэўнік у жыця расце, кудлаты.* Жодзішкі Смарг.

ХВАШЫ'НА *ж.* Подсціл пад стог з галля. *Хвашына кладзецца пат стога. Трэбо хвашыны прывесці, стага зрабіць.* Навасёлкі Свісл.

ХВАЯ'К *м.* Хвоя. *У хваяку слаі таўстыя.* Месянцы Брасл.

ХВЕ'ЛЬЧАР *гл.* ФЕ'ЙЧАР

ХВІ'ГА *гл.* ФІ'ГА

ХВІ'КУС *м. бат.* Фікус. *У мяне два раслі хвікусы.* Камена Лаг. *У нас тры хвікусы.* Смаляніца Пруж.

ХВІЛІ'НА *ж.* Часіна. *Пачакайця мяне хвіліну.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *chwilina* 'тж'.

ХВІЛІ'НКА *ж. памянш.* Мінутка. *Німа часу на хвілінку.* Альхоўцы Лях. ◇*Не мець хвілінкі* — быць занятым. *Не маю хвілінкі часу.* Вострава Маст.

ХВІЛІ'ЦЬ *незак.* Віляць. *Ён хвастом хвіліць, ня думаіць да яго ісці.* Кураполле Паст.

ХВІ'ЛЯ *ж.* Мяцеліца. *Хвіля такая мяце, дзед бабу за патыліцу ведзе* (з песні). Малыя Аўцюкі Калінк.

ХВОЙ *м.* Тое ж, што і хвая́к. *А хвой трэсь — і напалам разлятаецца.* Месянцы Брасл.

ХВО'ЙКА *ж. памянш.* да хво́я 1. *Адна хвойка расце на полі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Расце хвойка кірната, многа разложыстых кірнаў.* Кіралі Шчуч. *Хвойка не лупіцца.* Альхоўцы Лях.

ХВО'ЙКА-ГРУШО'ВІНА *ж. бат.* Нізкае дрэва хвоі, якое расце ў неспрыяльных умовах. *Хвойка-грушовіна ўверх не расце, не мая грунту.* Старыя Смільгіні Воран.

ХВО'ЙНІК *м.* Тое ж, што і хвайна́ 2. *Хвоя — адна, хвойнік — густы, маладыя хвойкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *У хвойніку ігліцай пахнець.* Беразіно Докш. *Много баравікоў па хвойніку.* Альхоўцы Лях. *Хвойнік, па бары хвойнік расце, там почва пяшчана.* Дзяніскавічы Ганц. *Хвойнік густы, велькі.* Пацаўшчына Дзятл.

ХВО'ЙНІЧАК *м. памянш.* да хво́йнік. *Я глянуў на хвойнічак — едзе дзядзько.* Дарава Лях.

ХВО'ЙНЫ *прым.* Які мае адносіны да хвоі. *Хвойны лес у нас.* Гемзы Шальч., Мельнікі Лудз.

ХВО'РАНЬКІ *прым. памянш.-ласк.* да хво́ры 1. *Хворанькі ляжыць.* Паляцкішкі Воран.

ХВО'РАСНІК *м.* Зараснік. *Хвораснік усякі: алешнік, лаза.* Пасека Ст.-Дар.

ХВО'РАСТ I, ХВАРО'СТ *зб. м.* Сухое галлё. *Хворост сухі добра гарыць.* Вузла Мядз. *Ідзі хворасту наламай агонь класці.* Вецярэвічы Пух. *Хворост купілі і смалякамі растаплівалі. Даўней хворост рубілі і в пучкі вязалі, складывалі в стагі.* Рагулішкі Даўг. *Насеклі хварасту і намасцілі, грэблю зрабілі.* Груздава Паст. *Прывёз вос хварасту.* Мсцібава Ваўк.

ХВО'РАСТ II *м. кулін.* Хрушчы. *Хворост хрупацясты рассыпаецца у роце.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХВОРОВІ'ТЫ, ХВОРОВЭ'ТЫЙ гл. ХВАРАВІ'ТЫ

ХВО'РТАЧКА *гл.* ФО'РТАЧКА

ХВО'РТКА *гл.* ФО'РТКА

ХВО'РЫ, ХО'РЫ, ХО'РЫЙ *прым.* 1. Нездаровы. *Хворая я, вобмарак даець у галаву, ляжу, што калок.* Вузла Мядз. *Яна*

*паганая, алі і хворая.* Ёдлавічы Брасл. *Яна ўсё хвора і хвора.* Плябанцы Ашм. *Жонка хворая ляжыць. Муш ляжаў хворы.* Груздава Паст. *Усе бабы хворыя, усе стогнуць, а тры ўдаўцэ і трыцаць тры ўдавы.* Збляны Лід. *Хазяін быў хворы.* Навасёлкі Лід. *Ты ш хвора, не ідзі с хаты.* Альхоўка Навагр. *У нядзелю ў бальніцу замчалі, такі хворы.* Валеўка Навагр. *Некалі Мікола быў хворы.* Вецярэвічы Пух. *Хворы мой дзет.* Канюкай Вільн. *Швагер хворы ляжыць.* Старыя Трокі Трак. *Вона хвора ў чохотцы.* Смаляніца Пруж. *Хворая кура.* Рудня Астравітая Чэрв. *Адна свіня хвора.* Паляцкішкі Воран. *Хоры чалавек.* Кемялішкі Астр. *Он хоры, не можэ работаць.* Новыя Мацалі Варэн. *Усе троя — хорыя.* Хатынічы Ганц. *Вона вэльмо хора була.* Дзмітравічы Кам. 2. Пашкоджаны хваробай (пра які-н. орган, кроў). *На сэрца хворая, яна доўга не пражыве.* Кудзялянцы Шальч. *Хвора на сэрцэ.* Горск Бяроз. *Хвора кроў сышла — і памерла.* Лайпушкі Ігн. 3. у знач. *назоўніка.* Той, які хварэе. *Возіць хворыя ў бальніцу.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *chory* 'тж'.

ХВОСТ, ХВЫСТ *м.* 1. *анат.* Хвост. *Воўк суне хвост. Ён ваўка за хвост і закруціў.* Вулька Гродз. *Сабакі гналі лісу, яна ў нару, а сабакі ўспелі за хвост яе і выцягнулі з нары.* Малі Астр. *У ласточкі, дзе хвост, разрэзіна.* Валеўка Навагр. *Каров'і хвыст, волов'і хвыст.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Як жарыш рыбу і яна свежая, толькі што з возера, хвасты угоры падымаюцца.* Замошша Брасл. *Калі карова нясе хвост, закінуўшы на сябе — будзя дошч.* Гемзы Шальч. *Еслі кончык хваста ў каровы жоўты, то масла будзя жоўтая.* Кудзялянцы Шальч. *Жывучы, кабылкай аручы, і пат хвост трэба паглядзець — трэба усё пераЖыць: і благое, і добрае, усяк прыходзіцца жыць. Каню хваста не вяжы, а бабі праўду не кажы.* Вузла Мядз. *Прышыў кабылі хвост, калі свой ёсць.* Малі Астр. *Пажалеў воўк кабылу, аставіў хвост ды грыву.* Ухвала Круп. *На чым свіня хвост нося?* Лоск Валож. ◇ *Хваста задзіраць* — ганарыцца. *Ня будзіш хваста задзіраць.* Лоск Валож. *Круціць хвост* — дрэнна паводзіць сябе. *Круця хвост, яшчэ хоча замуж выйсці.* Багдзюлі Шальч. *Віляць хвастом* — ліслівіць, падлізвацца. *Не віляй, як сабака, хвастом!* Малі Астр. *Хвастом накрыцца* — не аддаць грошы, якія пазычаны. *Пазычыла суседу грошы, а ён хвастом накрыўся — і ў той бок не глядзіць.* Малі Астр. *Даць па хвасце* — зняць з работы. *Прыехала камісія і дала па хвасце: так дала па хвасце, што цяпер не можа паступіць на работу.* Дэгшні Шальч. *Хвост у хвароcт* — схавацца, знікнуць; адмовіцца ад сваіх слоў. *Як прышлі да яго, каб разлічыў, дык ён тады хвост у хвораст — і слухаць ня хочыць.* Вузла Мядз. [Узяць] *за хвост* — арыштаваць. *Мяне немцы за хвост: «Дзе твая пляменніца?» Я маўчу — прасядзела нядзелю.* Слабада Мін. 2. Доўгі адрэзак палатна, прызначаны для бялення. *Хвост палатна выткала і буду яго бяліць.* Малахоўцы Бар., Семежава Кап. *Адрэзала хвост,*

*бяліць буду.* Мачаск Бярэз. *Хвост палатна ўжо адрэзала. Тры хвасты бяліла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Па тры губкі адразаюць — называюць хвост.* Рудня Чэрв. *Тры гупкі атаччэш — атразаеш — ета хвост палатна.* Вецярэвічы Пух. *Два хвасты вуткала.* Пасека Ст.-Дар. 3. Канцавая частка плыта. *У ганку быў хвост.* Вузла Мядз. 4. Самы канец баразны. *Хвасты асталіся недакопаных баразён.* Кузьмічы Люб.

ХВО'ШКА, ХВУО'ШЧКА, ХВЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і х в а р а ш ч а́ й. *Хвошка — як ёлачка. Кажуць, што хвошка памоцна ад почак.* Навасёлкі Свісл. *Хвошка ўжэ высыпала з зямлі.* Мсцібава Ваўк. *В городі трэба хвуошчку повырываті.* Курашэва Чыж. *Хвышка полевая.* Азарычы Пін.

ХВОШЧ *м.* Тое ж, што і х в а р а ш ч а́ й. *Бывае хвошч лугавы і хвошч палявы, без лістоў, і хвошч вадзяны.* Рыбчына Віл. *Хвошч ёсць на балотах і па барах сухіх, ім добра катлы церці.* Пярэкі В.-Дзв. *Хвошч палявы бывае і баравы. Хвошч палявы — мяккі.* Глівін Барыс. *На полю ґуґаль расцець, а ў лесе — хвошч.* Вузла Мядз. *Хвошч — адзін бадыль, жорсткі расце на дзірване, калаваты, каленцамі, каленцамі.* Солы Смарг. *Хвошч расце ў лесе, ён шорсткі.* Гемзы Шальч. *Хвошч расце ў лесе, ён без лісця.* Альхоўка Навагр. *Хвошч рос у лесе, хадзілі у яго, рвалі і прынясеш дадому, згорнеш у пучок і рабілі хвашчанку.* Дзяніскавічы Ганц. *Хвошч рвема і мыем падлогі — ён цвярды, доўгі, скруцім і шаруям.* Парэчча Гродз. *С хвашча дзелалі віхотку.* Індра Красл. *Голенькім хвашчом шаруем гаршкі.* Беразіно Докш. *Хвошч — шараваць лавы, пол, ён цвёрды. Хвошч па канавах расцець, ім катлы добра шараваць.* Вецярэвічы Пух. *Хвошч на падсцілку бяруць і крolікі ядуць.* Замошша Брасл. *Хвошч параць і, як не пуская мочы,— п'юць.* Міратычы Карэл.

ХВОШЧА'НКА *гл.* ХВАШЧА'НКА

ХВО'ШЧЫК *м. бат.* Стаўбунок палявога хвашчу. *Голы хвошчык. Хвошчык збірала, а ня ёлку.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХВОШЧЭ'Й *гл.* ХВАШЧА'Й

ХВО'Я *ж.* 1. Тое ж, што і х в а і́ н а. *Хвоя ў лесе высокая расце, на полі — кірната.* Кіралі Шчуч. *Хвоя высока расце.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ціпер ля пуці зноў вырас лес, а ў вайну немцы лес кругом вырубалі, хвоя на хвою звалівалі, кап парцізаны ні маглі падыйсці да дотаў.* Астравы Мін. *Хвоя то молодэнька.* Дзмітравічы Кам. 2. Тое ж, што і х в а й н а́ 4. *Наламай хвоі на памяло.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Драўніна хвоі. *Іс хвоі дралі лучыну.* Збляны Лід. 4. Ігліца. *На сосне хвоя.* Пераброддзе Міёр.

ХВЫСТ *гл.* ХВОСТ

ХВЫ'ШКА *гл.* ХВО'ШКА

ХВЭ'ЛЯ *ж.* Тое ж. што і х в і л і́ н а. *Посыдэтэ хвэлю, зарэ мокорону звару. На хвэлю на пычі посыджу. Пуждэ хвэлю, забавэлась одну хвэлю.* Дзмітравічы Кам.

ХВЭ'НДА *м.* і *ж. зневаж.* Неахайны чалавек. *Хвэнда ты!* Мсцібава Ваўк.

ХВЭ'СТАЦЬ *гл.* ХВАСТА'ЦЬ

ХЕ'МІЯ *гл.* ХІ'МІЯ

ХЕ'РМА *гл.* ФЕ'РМА

ХІБ, ХІП *м.* 1. Пярэдняя частка хрыбта ў жывёл. *Самы хіп, на хібу сала на чатыры пальцы. Як вадзень каню на хіб сядзя, і едзе, кроў ссе!* Рудня Астравітая Чэрв. *На хібу якое сала харошо.* Мачаск Бярэз. *Е хіб, прадай сала ат хіба.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Натапыраная шэрсць на хрыбце. *Свіння паставіла хіп.* Дзяніскавічы Ганц. *Свіня наставіла хіп. Сабака на ката злуе і наставіў хіп, кот тожа настаўляе хіп: падымя шэрсць ад галавы да хваста.* Альхоўцы Лях. *Сабака наставіў хіп.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. *перан.* Карак. *Бацька па хібу дасць.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. *перан.* Верх страхі хаты. *Вылажыў хіп на страсе, кап дошч не працякаў, хадзіць па самым хібу.* Альхоўцы Лях. *На хіп трэння носяць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХІ'БА, ХІ'БЕ', ХІ'БІ, ХІ'БЯ', ХЫ'БА 1. *часц.* Няўжо. *Хіба я ні знаю Маньку?* Сакаўшчына Валож. *Дзе мой старык? Хіба што зрабіласа?* Парэчча Гродз. *Хібе ня пойдзя? Хібе дурны ён?* Граўжышкі Ашм. *Хібе вос адзін?* Дакудава Лід. *Хібе трэба купляць боты? Хібе так зрабіць?* Альхоўка Навагр. *Прыехаў хібе?* Малыя Аўцюкі Калінк. *Хібя нада ўліць той фарбы?* Ёдлавічы Брасл. *Хібя яна старая?* Пацаўшчына Дзятл. *Хібя ў цябе адны дзверы?* Галубы Маст. *Хыба кажуць у нас «сермяшка»?* Малькуны Ігн. 2. у знач. *пабоч.* Можа. *То, хыба, маца занясі?* Жодзішкі Смарг. *Мо, хыба, у століку* [ніткі]? Номікі Бабіц. *Хыба, тапкі вазьму?* Альба Нясв. 3. *умоўны злуч.* Калі. *Пойдзеш служыць, то хіба пасадзяць, ідзі рабіць.* Васілевічы Гродз. *Хібі яна не мае, то не дась, а як мае, то дась. Хібі мне што падойдзе, кап я не пашла.* Гемзы Шальч. *Хібя, як каровы зажану, пагаворым.* Пацаўшчына Дзятл.

ХІБАВЫ' *прым.* Які знаходзіцца на хрыбце (пра сала). *Сала хібавоя.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ХІБА'ТІ *незак.* Хістаць. *Відрá з водою нэ можна хібаті.* Курашэва Чыж.

ХІБІ'ТІ *зак.* Прамахнуцца. *Кінув камэнём і нэ попав, хібів.* Курашэва Чыж.

ХІ'БІЦЬ *зак.* Прапасці, вымакнуць (пра пасевы). *Там ніско, жыто мажэ хібіць, мажэ не быць, ні парасце, прападзе. Так только на пашню кажуць: хібіло на полі, ні вырасло, е маленькае, але невартнае, жыто хібіло.* Дзяніскавічы Ганц. *Хібіла бульба.* Жылі Іўеў., Граўжышкі Ашм. *Хібіла картошка. Як картошка хібіць — а семяно верня.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХІБНУ'ТІСЕ *зак.* Спатыкнуцца. *Ішов, кроху хібнувсе і зломів ногу.* Курашэва Чыж.

ХІБНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Страціцца. *Здароўе хібнула, нешта не павязло.* Пацаўшчына Дзятл.

ХІБЫ'Ж *м. анат.* Запясце. *Болет рука в хібыжовэ.* Дзмітравічы Кам.

ХІ'БЯ' *гл.* ХІ'БА

ХІ'ЖА *ж.* Свіран. *Паставіў хіжу. У хіжах харонім дабро: жыта і пшаніцу, лён, каноплі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ХІ'ЖАСЦЬ *ж.* Рухавасць. *Чалавек хіжы — рухавы, а як асалавея, то траціць хіжасць.* Гемзы Шальч.

ХІ'ЖАНЬКІ *прым. памянш.* да х і ж ы І. *Хіжанька дзяўчынка.* Галубы Маст.

ХІ'ЖЫ *прым.* 1. Спрытны, рухавы, смелы. *Хіжая баба. Хіжы — натта спрытны.* Чуркі Ашм., Жодзішкі Смарг. *Хіжы — гэта такі баявы, жвавы і ў рабоце, і ва ўсём.* Солы Смарг. *Хіжая баба — жвавая такая.* Завельцы Астр. *Ты хіжы, спрытны.* Старыя Смільгіні Воран. *Хіжа баба быстра рухаецца.* Каўняны Гродз., Тухавічы Лях. *Ест хіжа дзеўчына.* Мсцібава Ваўк. *Хіжы — гэта бойкі такі, быстры.* Старыя Трокі Трак. *Хіжая, нічога не баіцца, уноч у Вільню пойдзя.* Быстрыца Астр. 2. І не дрэнны, і не добры. *Хіжы — ні то харошы, ні то плахі. Вот нейкі хіжы.* Масілавічы Сл. 3. Слабы. *Хіжы — такі слабенькі.* Мыто Лід. 4. Быстры, борзды; злосны. *Гэдака хіжа карова: сярдзітая, быстрая.* Навасёлкі Свісл. *Конь хіжы.* Быстрыца Астр. *Хіжы воўк.* Пасека Ст.-Дар.

ХІ'ЖЫНКА *ж. памянш.* Хатка. *Хіжынка ў яе старая.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХІЛІ'ЦЬ *незак.* 1. *спец.* Гнуць. *Дугі хіліў.* Паляцкішкі Воран. *Бацька мой палазы хіліў.* Малькуны Ігн. 2. Нахіляць да чаго-н. *Дзяўчынка захварэла — і стала яе хіліць да зямлі.* Солы Смарг. *Як стары, то хіля ўперат.* Малі Астр. 3. *перан.* Мець прыхільнасць. *Ніхто іх ня хіліць да сябе.* Паляцкішкі Воран.

ХІЛЭ'ТЫСЯ *незак.* Хінуцца. *Хілюся до своеі дытэнэ.* Дзмітравічы Кам.

ХІ'ЛЯНЫ *дзеепрым.* Гнуты. *Хіляныя палазы куплялі.* Гемзы Шальч.

ХІЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Нагінацца. *Дзе вы будзеце хіляцца на бульбе! Цяшка старой хіляцца.* Гемзы Шальч. 2. Разгінацца. *Паляц параніла, ня хіляецца.* Рагулішкі Даўг. *Ногі не баляць, а ў каленях не хіляюцца.* Івашкаўцы Смарг. 3. Гнуцца. *Дзіравянай бараной боб баранавалі, хіляецца боб і ні паломіцца.* Альхоўцы Лях. *Яно хіляецца, не пацягніце ім* [размова пра тонкі металічны прут]. Солы Смарг. 4. Хістацца з боку ў бок. *Хіляіцца сплючы, кладзіся ты!* Саланое Віл.

ХІЛЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і х і л і ц ь 1. *Габа* [дрэва] *расце, можна дугі і палазы хіляць. Дугу хіляям з бліндзі. Палазы хіляюць з ясеня.* Руднікі Шальч. *Хіляць палазы.* Гемзы Шальч. *Так гаспадар кажа чорту: «Хачу закінуць аж на неба. Мой там брат, а ты кап паткові хіляў».* Паляцкішкі Воран.

ХІ'МІЯ, ХЕ'МІЯ *ж.* 1. Хімічны раствор. *Яблыны паліваюць хіміяй.* Завельцы Астр. *Хіміяй апыльвалі — камароў менш ста-*

*ла.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Адходы ад хімічнай вытворчасці. *Хемія атраўляя рыбу.* Старыя Трокі Трак.

ХІНУ'ЦЦА *незак.* 1. Нахіляцца. *Усё аш хініцца ад пылу.* Гемзы Шальч. *Гляджу, ён хінецца ўвесь, я да сцяны яго прыціснула.* Завельцы Астр. *К сценца хінецца.* Талейкі Швянч. 2. *перан.* Гарнуцца да каго-н. *Бабушка і дзедушка хінуцца да мяне.* Кураполле Паст. *Ціпер стала хінуцца да нявесткі.* Валынцы В.-Дзв. ◇ *Душа хінецца* — мець прыхільнасць. *К каму душа хінецца, как за таго ішла.* Саланое Віл. *Ці ад гэтага мая душа не хінецца?!* Талейкі Швянч.

ХІП *гл.* ХІБ

ХІ'РАЦЬ *незак.* Хірэць. *Яна стала хірацъ і хірацъ.* Кузьмічы Люб.

ХІ'РДЫ *мн.* Мянушка. *Іх празываюць хірды, іхны дзет хірчэў.* Мярэцкія Глыб.

ХІ'РКАЦЬ *незак. экспр.* Настойліва гаварыць адно і тое ж. *Яна сваё хіркала ды хіркала: «Давай распісвацца!»* Кузьмічы Люб.

ХІРЧЭ'ЦЬ *незак.* Дыхаць з хрыпам. *Іхны дзет хірчэў, і цяпер прызываюць хірды.* Мярэцкія Глыб.

ХІ'РЫ *прым.* Кволы. *Яна з маленства хірая.* Кузьмічы Люб.

ХІСТА'ЦЦА *незак.* Ісці хістаючыся (ад хваробы, стомы). *Хістаюся, за сцяну дзяржуся. Я хістаюся, не магу ісці, стамілася.* Саланое Віл. *Хістаецца, як на шалках.* Граўжышкі Ашм. *Ён хістаецца ў бакі.* Альхоўцы Лях.

ХІСЬ *ж.* ◇ *Хісь бярэ* — мець вялікае жаданне. *Хісь яго бярэ на рыбу ехаць.* Вецярэвічы Пух.

ХІТА'ЦЦА *незак.* Хістацца (пра зуб). *Зуб хітаўса.* Азарычы Пін.

ХІТРАВА'ЦЬ *незак.* Хітрыць. *Нешта хітруя яна — чаго яна з бульбы вылятала?* Навасёлкі Свісл. *Ён хітруя і хітруя, кап што дзе дастаць, якімі дагаворамі.* Кіралі Шчуч.

ХІ'ТРАСЦЬ *ж.* 1. Кемлівасць. *Трэба хітрасцей зделаць.* Гемзы Шальч. 2. Хітрасць. *Просты чалавек, німа ў яго хітрасці.* Груздава Паст. *Ён быў бес хітрасцей.* Ахрэмаўцы Брасл. *С хітрасці не сказаў, што меўся сказаць.* Малі Астр.

ХІТРУ'ЛЯ *м.* і *ж.* Той, хто надта хітры. *От хітруля, то хітруля.* Саланое Віл.

ХІ'ТРЫ, ХІЦЁР *прым.* 1. Разумны. *Сусет мой хітры, умны ён.* Старыя Трокі Трак. *Хітры — пэўна ш не дурны.* Завельцы Астр. *Цяпер малыя хітрыя, раней баяліс усяго.* Чуркі Ашм. *Хітры — такі прамудры. Ён не прападзе, ён вёрткі.* Солы Смарг. *Плямянніца была баявая дзеўка, хітрая. Сабака такі хітры!* Слабада Мін. *Ё людзі хітрыя, напярот ведаюць, што будзя. У нас быў сабака хітры: пабяжыць на балота і найдзе нас на балоце.* Дзяніскавічы Ганц. ▽ *Дзмітра хітры, а Ванька тожа не дурак. Ён хітры — яго чорт нёшшы кінуў.* Малі Астр. 2. Шчыры, праўдзівы. *Яна дзяўчына правільная, не бывае хітрай.* Завельцы Астр.

3. Паваротлівы, спрытны. *Хітры — быстры, павёрткі. От хітры, выкруціцца, як заяц, уцячы ўмея.* Рудня Астравітая Чэрв. *Воўк — гэта хітрая штука, яны — хітрыя сабакі.* Цяпінцы Віл. *Заяц хітры, ні падыйдзе да яго ніхто.* Дзяніскавічы Ганц. *Заяц хітры: во як паварачваецца.* Груздава Паст. *Ён хіцёр.* Паляцкішкі Воран. 4. Які можа абмануць, ашукаць. *Натта хітры чалавек: каго абманя, а сам не дасца.* Мыто Лід. *Ён хітры, падходам усё робіць.* Магуны Паст. *Хітрыя бабы ёсь.* Груздава Паст. *Як хітры, то шэльма.* Жылі Іўеў. *Хітры — той, хто абдурвая, абманвая, абсмеявая, хітры хоча абмануць, бяссовісны чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён хітры, абманя цябе.* Малахоўцы Бар. *Хітры для сябе, ашукаць можа.* Быстрыца Астр. *Хітры чалавек цябе апшукаіць хітрыкай сваёй.* Магуны Паст. *Хітры любіць каго патсмяяць, абмануць.* Альхоўцы Лях. *Яна хітрая, як лісіца. Ён хітры, як ліс.* Малі Астр. *Хітрая, як сарока.* Саланое Віл. 4. Складаны. *Хітры замок.* Быстрыца Астр. 5. у знач. *назоўніка м.* Той, якому ўласціва хітрасць. *Хітры не дась ашукацца.* Быстрыца Астр. ▽ *О, хітрая с-пат гадзіны яйкі выбяра.* Малі Астр.

ХІ'ТРЫКА *ж.* Хітры прыём, круцельства. *Хітры апшукаіць хітрыкай сваёй.* Магуны Паст.

ХІ'ТРЫКАЙ *прысл.* ◇ *Хітрыкай жыць* — дзейнічаць з хітрыкамі. *Хітрыкай жыве, для сябе.* Завельцы Астр.

ХІТРЫ'ЛА *м.* і *ж.* Мянушка. *Іх называюць хітрылы, іх дзет быў хітры.* Саланое Віл.

ХІ'ТРЫЦА *ж.* Хітрая жанчына. *Хітрыца ты, такая хітрая баба.* Пасека Ст.-Дар.

ХІ'ТРЫЦЬ *незак.* Дзейнічаць з хітрасцю. *Рыба хітрыць: падаець на зямлю, на мель, а сець праходзіць па ей.* Замошша Брасл.

ХІТА'ТІ *незак.* Хістаць. *Віетёр дэрэва хітае. Не хітай стола, бо склянка впадэ.* Курашэва Чыж.

ХІТА'ТІСЕ *незак.* Хістацца, калывацца. *Зуб начав хітатісе.* Курашэва Чыж.

ХІХЛА'ЦЬ *незак. абрад.* Апранаць маладую пасля вяселля ў традыцыйныя жаночыя ўборы. *Маладую хіхлалі. Па-свойму бабу маладую хіхлаюць: на галаву дзелаюць хустку з махрамі кругом па цапцу* [чапцу] *завязуюць.* Азяраны Раг.

ХІХО'Л *м.* Кукса з валасоў. *Косу закручуют у хіхол.* Дзмітравічы Кам. *Хустку пат хіхол завяжа.* Старое Сяло Зэльв.

ХІХОТА'НЕ *н.* Хіхіканне. *Твое хіхотане ўжэ мніе збрыдло.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *chichotanie* 'тж'.

ХІЦЁР *гл.* ХІ'ТРЫ

ХЛАБАСЛІ'ВЫ *прым. зневаж.* Які многа гаворыць. *Дзейка хлабаслівая, хлабасціць.* Лісна В.-Дзв.

ХЛАБАСЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Боўтацца. *А каторая яйко балтун — хлабасціць.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Гаварыць многа, балбатаць. *Дзейка хлабасціць, хлабаслівая яна.* Лісна В.-Дзв.

ХЛАПАТА′ *ж.* Клопат. *Нашто мне гэта хлапата!* Навасёлкі Свісл.

ХЛАПАТЛІ′ВЫ *прым.* 1. Руплівы. *Мужык хлапатлівы: відра вады не дасць прынесці.* Беразіно Докш. 2. Які звязаны з клопатамі. *Работа ваша хлапатлівая.* Солы Смарг.

ХЛАПАЦІ′ЦЦА *незак.* Клапаціцца. *А што я буду хлапаціцца ап усіх.* Магуны Паст. *Хто, як ні маці, будзе аб ім хлапаціцца?* Беразіно Докш.

ХЛАПАЦІ′ЦЬ *незак.* Хадайнічаць. *Хадзіла хлапаціць, кап узялі яго на работу.* Рыбчына Віл.

ХЛА′ПАЦЬ *незак.* Утвараць стук. *Ні хлапаіць дуга с патпінкай* [пры вупражы каня]. Ахрэмаўцы Брасл.

ХЛАПЕ′Ц *м.* 1. Малады чалавек, нежанаты мужчына. *Я пабыла два гады, і там каснуўся хлапец, я і выхажу замуш.* Гальшаны Ашм. *Сватайся хлапец, але мусіць ні пара.* Чуркі Ашм. *Малады хлапец яшчэ.* Солы Смарг. *Як яны былі хлапцамі, былі друзьямі. У мяне хлапцоў было, куды палкай махану, там і хлапец.* Саланое Віл. *А што хлапцом будзіць?* Кураполле Паст. *Яшчэ быў хлапцом. На хлапца крычэлі.* Лісна В.-Дзв. *Памёр хлапцом.* Магуны Паст. *Ён хадзіўшы хлапцом па будовя. Гэты, што ест хлапцом, страшны, некрасівы.* Ёдупка Шальч. *Хлапцы плыты ганялі.* Грыкені Вільн. 2. Сын. *Прасіла хлапца прыехаць.* Магуны Паст. *Твой хлапец не хужы ўсіх людзей.* Саланое Віл. *Хлапец чураяцца, сёстры патскуюць.* Асавец Віл. *Хлапец мне памагая.* Крэва Смарг. *Хлапец у хаця благі.* Жодзішкі Смарг. *Боўдзіла яе хлапец. Хлапец удупкі з бацькам стаў* [біцца сталі]. Малі Астр. *Хлапец пабех у школу. Два хлапцы ў мяне.* Рыбчына Віл. *Мой хлапец у Мінску жыве. Было двое хлапцоў — паўміралі.* Падгаі Мін. *Мой хлапец прыехаў.* Грыкені Вільн. 3. У выразе: *Хлапцом хадзіць* — быць цяжарнай сынам. *Той гот я хлапцом хадзіла тым, што на матацыкле разбіўся.* Вузла Мядз.

ХЛАПІ′НА *м. павел.* Вялікі хлопец. *Гэтакі хлапіна, кавалер.* Масілавічы Сл.

ХЛАПЦО′ЎСКІ. У выразе: *Хлапцоўскі каравай* — пірог, якім частуюць маладога перад вяселлем. *У чэтвер хлапцоўскі каравай пякуць.* Саланое Віл.

ХЛАПЧА′К, ХЛАПЧА′Х *м.* Хлопчык. *Хлапчакоў нейкіх панабіраўшы.* Гальшаны Ашм. *Хлапчак гуляў на дварэ.* Граўжышкі Ашм. *Далі трахтар, і гэты хлапчак на трахтары паездзіў.* Завельцы Астр. *Пажаніліся, ён хлапчака нажыў.* Малі Астр. *А дзе твой хлапчак?* Кіралі Шчуч. *Хлапчак харошы. Хлапчакі лятуць у сат.* Старыя Смільгіні Воран. *Хлапчак прыбег.* Паляцкішкі Воран. *Хлапчак вінаваты, ён першы яе зачапіў.* Бакшты Іўеў. *Хлапчак пабех у сат.* Жылі Іўеў. *Ужо ладны хлапчак умёр, і бацька вазіў хаваць на родзіну:* Кіралі Шчуч. *Некі хлапчак стаяў нагнуўшыся.* Пацаўшчына Дзятл. *Гэтаго не было хлапчака.* Мсцібава Ваўк. *Пацешны хлапчак.* Навасёлкі Свісл. *С хлапчаком быў. Я яшчэ хлапчаком быў.* Альхоўцы Лях. *Аднаго*

*хлапчака мая.* Кудзялянцы Шальч. *Хлапчак не вінаваты.* Руднікі Шальч. *Хлапчак можа плакаць. Хлапчак астаўся пры ей.* Гемзы Шальч. *Хлапчак пашоў у школу.* Стральцы Шальч. *Гэта твой хлапчах?* Старыя Смільгіні Воран.

ХЛАПЧАНЁ *н.* Невялікі хлопчык. *Ён быў хлапчанё.* Саланое Віл. *Хлапчанё ты маё!* Рудня Астравітая Чэрв.

ХЛАПЧАЧО'К *м. памянш.* да х л а п ч á к. *Нічога хлапчачок, добры.* Малі Астр.

ХЛАПЧУ'К *м.* Тое ж, што і х л а п ч á к. *Есь хлапчук, сын яе.* Груздава Паст. *Хлапчук прыбех, будзям есці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Казік — велькі хлапчук.* Міратычы Карэл. *Хлапчука апарыла баба.* Кудзялянцы Шальч. *Хлапчук астаўся, я выгадавала яго.* Малькуны Ігн.

ХЛАПЧЫ'НА *м.* Тое ж, што і х л а п ч á к. *Нейкі хлапчына бяжыць.* Кураполле Паст.

ХЛАПЧЫ'СКО *н.* Тое ж, што і х л а п ч á к. *Куды ідзеш, хлапчыско?* Вялікія Баяры Шчуч.

ХЛАП'Я' *н.* Хлапчаня. *Да чаго ж етае хлап'я харашненна расказуе ўсе.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ХЛЕБ, ХЛЕП *м. кулін.* 1. Печаны хлеб. *Я бяс хлеба ем, мне лепш бяс хлеба есь.* Валынцы В.-Дзв. *Хлеп ён сабе кармі!* [няхай корміць]. *А хлеп — кап у сцяну біць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Які пяклі хлеп, такі з'елі, якоя дзела ім да хлеба.* Ёдлавічы Брасл. *Хлеб пяклі на аеры, запах прыятны.* Месянцы Брасл. *З мякінай жыта сушылі і малолі — і пяклі хлеп, называлі бярловы хлеб. Хлеба булку свякроў намячала, каб нявестка не адрэзала.* Вузла Мядз. *Ешча мякі хлеп!* Парэчча Гродз. *Пайдзі прынясі хлеп!* Дзяніскавічы Ганц. *Хлябы пяклі, сушылі жыта паўасмінкі сушылі ў печы.* Альхоўцы Лях. *Баханкаў дзесяць напякла хлеба.* Дарава Лях. *Даўней на полі астаўлялі нідажынкі, і хлеба кусочак паложаць туды.* Дарава Лях. *Дровы пілавалі некалі бярозавыя, і ў хлеп сыпалі* [апілкі]. *Мне абы хлеба можна купіць, так і харашо.* Канюкай Вільн. *Хлябы пяклі, сасновая памяло было.* Кальнішкі Шальч. ∇ *На Пятра баба хлеба напякла* [новага]. Валеўка Навагр. *Хто есць заплеснеўшы хлеб — грымотаў не баіцца.* Дэгшні Шальч. *Хлеп не ўдаўся: пад скарынку кот схаваўся.* Кіралі Шчуч. *Хлеп «удаўся» — пад скарынку кот схаваўся, хвост задраў і скарынкі не дастаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Лепій хлеб з вадой, абы не з бядой.* Малі Астр. *Хлеб ядзём траякі: белы, чорны і ніякі.* Граўжышкі Ашм., Вузла Мядз. *Хлеп, соль еш, а праўду рэш. Сякі-такі, абы быў, абы хлеба зарабіў. Чужы хлеп пірагом пахніць. Хлеп з мазаля — не з зямлі.* Вузла Мядз. *Прымацкі хлеп сабацкі. Хлеп ні нявестка, які спячэцца — такі з'есца.* Вузла Мядз. *Хлеп не нявеста, які ўдасца — такі з'есца.* Кураполле Паст., Масішкі Красл. *Хлеп — ні жонка: хлеп з'ясі і няма яго, а жонка благая астаецца.* Солы Смарг. *Быў хлеп — ды з'еджан, быў конь — ды з'ежджан.* Валынцы В.-Дзв. *Хлеп лёхкі* — пра лёгкую працу, без клопатаў

і турбот. *Ён пражые лёхкім хлебам.* Малі Астр. 2. Збожжа. *Хлеп у жорнах сваіх малолі.* Швэды Вільн. 3. *пчал.* Пярга. *Пшчолы нясуць на ношках хлеп.* Магуны Паст. *Хлеп і пярга адно, пчолы дзяцей кормяць.* Мыто Лід. *Хлеп для дзяцей* [пчол], *малады хлеп берацъ.* Груздава Паст. *Хлеп пчалінны — пчолы кормяць вусяняў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХЛЕБАНУ'ЦЬ *зак. перан.* Перажыць вялікія цяжкасці. *Яна хлебанула гора.* Кіралі Шчуч.

ХЛЕБА'ЦЬ *незак.* Сёрбаць. *На велькі чыгун тры бульбачкі скрышана і хлебай!* Гемзы Шальч.

ХЛЕ'БНАЯ ДЗЯЖА', ХЛЕ'БНА ДЗЕ'ШКА *ж.* Дзежка для заквашвання цеста. *Калісьці мелі хлебныя дзёжы.* Івашкаўцы Смарг. *Была хлебна дзешка, у ёй толька хлеп рашчынялі.* Кіралі Шчуч. *Грэем воду, льём у хлебную дзешку, сыплем муку і замешваем; стаіць ноч, месім дзвюма рукамі — патходзіць, пякуць скавароднік, прабуюць, ці хлеп укіс.* Кузьмічы Люб.

ХЛЕ'БНІЦА *ж.* Тое ж, што і х л е́ б н а я  д з я ж а́. *Хлебніца мама называла. Рашчынялі хлеп у хлебніцы, хлеп патходзіць, садзяць у печку. Добра хлеп спёкся!* Ёдлавічы Брасл. *Квас у хлебніцы, налівай!* Рудня Астравітая Чэрв.

ХЛЕ'БНЫ *прым.* Які мае адносіны да хлеба. *Хлебная какорына — як атнімаеш ат рошчыны — і пячэш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прывязі хлебнай мукі.* Рыбчына Віл. *Нада рашчыніць хлебнай мукі.* Рагулішкі Даўг.

ХЛЕ'БНЫ БЛІН *м.* Праснак. *На скаварадзе зробяць хлебны блін і проці полымя спякуць.* Завельцы Астр.

ХЛЕБО'ЎКА *ж.* Пякарня. *Хлебоўка — хлебна печ, хлеп пеклі.* Навадворцы Васільк.

ХЛЕ'ВІШЧА *н.* Месца, дзе стаяў хлеў. *На хлевішчы палажы салому.* Лоск·Валож.

ХЛЕП *гл.* ХЛЕБ

ХЛЕПТА'ТІ *незак.* Піць. *У нас говорат, што куот і собака нэ п'е, оно хлепчэ.* Курашэва Чыж.

ХЛЕПТУ'Н *м.* і *ж.* Той, хто многа п'е. *Хлептун всю смэтану выхлептав.* Курашэва Чыж.

ХЛЕЎ, ХЛЁЎ, ХЛІВ *м.* Хлеў. *Хлеў — дзе скот стаіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Выпуская карову с хлева.* Паляцкішкі Воран. *Карова стаяла ў хляве.* Навасёлкі Свісл. *У хляве карыта стаіць.* Жылі Іўеў. *Хай па хляве ходзіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яшчэ кароўка стаіць у хляве.* Вецярэвічы Пух. *Хлява толькі ня прыкрылі.* Парэчча Гродз. *Як скаціна на хлеве, то вучыліся.* Латыгаль Віл. *Бульба добрая за хлявом.* Лісна В.-Дзв. *Жыжу с хлява насіў і агуркі падліваў.* Пераброддзе Міёр. *Юзік забех за хлеў, набраў з балотца вады і прынёс.* Завельцы Астр. *Ён на хляве.* Ёдлавічы Брасл. *Пат хлявом ляжыць.* Граўжышкі Ашм. *Крычу ў хлеве, ніхто ні чуў.* Плябанцы Ашм. *Гані да хлева.* Кемялішкі Астр. *Быў гной у хляве.* Малі Астр. *Праз люхты дошч даваў у хлеў. Кала хлява пасаджана бульба.* Вузла Мядз. *За хлявом конь*

*ходзіць.* Ністанішкі Смарг. *За хлявом яна не бачыць.* Навасёлкі Лід. *Хлева продала сэстрэ.* Смаляніца Пруж. *Гной бярэш у хляве.* Грыкені Вільн. *С хлява прышла. Сядзіць котка на хляве.* Гемзы Шальч. *Зачыніла я хлеў.* Парэчча Гродз. *У хляве карова: да хлявоў не дайду.* Парэчча Гродз. *Ульеш малака парасятам і ў хлеў завядзеш.* Кузьмічы Люб. *З-за хлява вышаў.* Пасека Ст.-Дар. *Корова в хліві.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Калі паеў, то ідзі ў хлеў* (пра скаціну). *Купіў парася, а няма хлява.* Вузла Мядз.

ХЛЁБНУЦЬ *зак.* Сербануць. *Я як хлёбнула чай гарачы!* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ХЛЁПНУЦЬ, ХЛЁПНАЦЬ *зак.* Упасці. *У Лушках пасціць, там клатка, няможна перасці, хлёпнуў у ваду.* Вузла Мядз. *Яна хлёпнала крыжам.* Лоск Валож.

ХЛЁСНУЦЬ *зак.* Пляснуць. *Як хлёснула ў далошкі, казюлі і паперлі.* Замошша Брасл.

ХЛЁЎ *гл.* ХЛЕЎ

ХЛЁЎКІ *прым.* Ацеслівы, недапечаны. *Хлёўкі хлеп, недапечаны хлеп.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* г л ё ў к і.

ХЛІБА'ЦЬ *незак. экспр.* Піць многа. *Хлібаіць гарэлку.* Кураполле Паст.

ХЛІБНУ'ЦЦА *зак.* Хібнуцца. *Як хлібнуліся ногі ў бакі, а я аб вольху даўся галавой!* Вузла Мядз.; *параўн.* літ. *klibnóti* 'трохі хістацца'.

ХЛІБНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і х л е б а н ý ц ь. *Многа гора хлібнула, здаёт серца, з вайны муш не прышоў.* Пераброддзе Міёр.

ХЛІВ *гл.* ХЛЕЎ

ХЛІПАНІ'НА *гл.* ХЛЯ'ПАНІ'НА

ХЛІПАЦЕ'НЬ *ж.* Хлюпота. *Як ідзеш і хлопаіць пад нагамі, зовіцца хліпацень, як сільна мокра бываіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХЛІ'ПАЦЬ, ХЛЫ'ПАЦЬ *незак.* Усхліпваць. *Хліпая і хліпая дзіця. Здаровая дзіця не будзе хліпаць.* Завельцы Астр. *Хлыпая, плакаць хоча. Не плача, а толькі хлыпая.* Гемзы Шальч. *Хто тыбэ вкрывдыв, шо ты хлыпаіш?* Сіманавічы Драг.

ХЛІ'СНУЦЬ I *зак.* Тое ж, што і х л ё п н у ц ь. *Калі хліснула — чуць устала.* Кураполле Паст.

ХЛІ'СНУЦЬ II *зак. экспр.* Выпіць. *Была хліснула кялішак віна.* Малі Астр.

ХЛІСТА'ЦЦА *незак.* Хістацца. *Ідзе і хлістаецца, нідзе ня робя.* Малі Астр.

ХЛІСТА'ЦЬ *незак.* Моцна ліць. *Хлішчыць дошч па вокнах.* Кураполле Паст.

ХЛІЎЧУЧО'К *м. памянш.* да х л е ў. *Хліўчучок паставіў.* Саланое Віл.

ХЛО'ДНІК *м. кулін.* Халаднік. *У нас былі гаршочкі: у адным наліюць круп беленых, у другім — хлоднікy.* Індра Красл.

ХЛО'ПАТ *м.* Тое ж, што і х л а п а т á. *Мела многа хлопату.* Рыбчына Віл. *Нашто мне гэтыя хлопаты, біда.* Мярэцкія Глыб.

*Хлопатаў нет, адна жывёт. У хлапатах такіх жыла!* Малькуны Ігн. ▽ *Ня мела баба хлопату — купіла парася, а я прынясла ката.* Вузла Мядз.

ХЛО'ПАЎКА *ж.* Хлапушка для знішчэння мух. *Хлопаўка мух біць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХЛО'ПАЦЬ І *незак.* Хлюпаць. *Як ідзеш ды сільна мокра бываіць, хлопаіць пад нагамі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХЛО'ПАЦЬ ІІ *незак.* Стрыгчы вушамі (пра каня). *Конь вушамі хлопаець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ХЛО'ПНУЦЬ *зак.* Пляснуць. *Душу рыбы як хлопніш—пляст!* Гемзы Шальч.

ХЛО'ПЧЫК *м. памянш.* да х л о́ п я ц. *Памёр хлопчык Гэнюсь.* Кемялішкі Астр. *Хлопчык маленькі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Я вас, хлопчыкі, пачастую.* Кухты Віл.

ХЛОПЧЫ'СКО *н. павел.* Вялікі хлопец. *Хлопчыско, а нічого робіті нэ уміее.* Курашэва Чыж.

ХЛО'ПЯЦ, ХЛО'ПЕЦ, ХЛО'ПІЦ, ХЛО'ПЭЦ, ХЛО'ПЫЦЬ *м.* Тое ж, што і х л а п е́ ц 1. *Расказуя, як яе гэты хлопяц любіць.* Гальшаны Ашм. *Ён хлопцам служыў. Пайду па хлопцы.* Лоск Валож. *Хлопяц быў забраўшы грошы. Трох хлапцоў было.* Старыя Смільгіні Воран. *Два хлопцы маладых.* Сонічы Гродз. *Два хлопцы любілі адну дзеўку.* Лісна В.-Дзв. *Якія хлопцы! Ні было хлапцоў ніякіх.* Груздава Паст. *Пасці замуш не прышлося, хоць былі ў мяне хлопцы.* Дарава Лях. *Малады хлопіц.* Кемялішкі Астр. *Хлопыць прышов.* Дзмітравічы Кам. 2. Тое ж, што і х л а п е́ ц 2. *У іх чатыры хлапцы і дзве дзяўчыны.* Дэгшні Шальч. *Паабедзе хлопец схмурнеў.* Завельцы Астр. *Ужэ хлопцові трэці рок пашоў.* Вялікі Краснік Пруж. *Хлопцу купіў касцюм.* Кемялішкі Астр. *Міхалішын хлопэц сказав з тым хлопцэм.* Горск Бяроз. ◇ *Хадзіць хлопцам* — быць цяжарнай сынам. *Яна хлопцам хадзіла, а мужыка з залоўкай забралі.* Малькуны Ігн.

ХЛУД, ХЛУТ *м.* 1. Галіны, хвораст. *Разнага хлуду нанасіў* [вожык], *пакулы разнай, ад лёну астаткі. Наклонна злажыць трэба хлут, а каб не гніло — паткладаваюць сліжы.* Саланое Віл. 2. Дубец. *Хлут — лазнік гіпкі.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Выдаць хлудам, хлуду даць* — пакараць, насварыцца. *Выдаць бы ёй добра хлудам, ведала п тады.* Дубашы Валож. *Трэба хлуду маломy даць, каб не дурэў.* Ёдупка Шальч. 3. Стрэмка. *Хлут — стрэмка малая, ражон — вялікая стрэмка.* Жодзішкі Смарг. *Хлут у паляц загнаў.* Асавец Віл. *Ай, вот хлут загнала ў руку, пат пазногаць.* Вузла Мядз. *Я калі хлеп мясіла і як пальцам стукнула і хлут загнала.* Завельцы Астр.

ХЛУДАВА'ТЫ *прым. перан.* Сыраваты. *Буракі хлудаватыя і боп хлудаваты.* Саланое Віл.

ХЛУ'ПА, ХЛЮ'ПО *прысл.* Пахіла. *Хлупа паставілі стрэху.* Пасека Ст.-Дар. *Нешта хлюпо кроквы паставілі.* Дзяніскавічы Ганц.

ХЛУ'ПІЦЬ *незак.* Душыць. *Хлупіць задышка.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХЛУ'ПЫ *гл.* ХЛЮ'ПЫ

ХЛУС *м.* Ілгун. *Хлус ты, хлусіш.* Пасека Ст.-Дар., Малыя Аўцюкі Калінк.

ХЛУСА' *ж.* Свавольніца, гарэза. *Адмалела, як хлуса зрабілася.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ. *klùsas* 'глухаваты'.

ХЛУ'СІЦЦА *незак.* Дурэць. *Хлуса дурнаі хлусіцца. Што хлусішся, што ты штукуешся?* Крэва Смарг.

ХЛУСІ'ЦЬ *незак.* Ілгаць. *Ні хлусі!* Дзяніскавічы Ганц. *Хлусіць яна, дзіця с пляшачкі поіць.* Кузьмічы Люб. ∇ *Хто хлусіць, той вып'е і закусіць, а хто праўду кажа, той галодны ляжа.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ХЛУСЦІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і х л у с і ц ь. *Ці ні хлусціць іна.* Саланое Віл. *Ні хлусці!* Азяраны Раг.

ХЛУТ *гл.* ХЛУД

ХЛЫ'НУЦЬ *зак.* Выплысці. *Цяпер рыба хлыня на лёт, і людзі збіраюць.* Альхоўцы Лях.

ХЛЫ'ПАЦЬ *гл.* ХЛІ'ПАЦЬ

ХЛЫСНУ'ТЫ *зак.* Глынуць. *Ой чук чукы, чукы, чукы, я ны іла рыбы-шчукы, оно юшкы хлыснула, за хлопцямы свыснула.* Сіманавічы Драг.

ХЛЫСТ *м.* Ствол спілаванага дрэва з неадсечанай верхавінай. *Хлыст па дванаццаць метраў дліны.* Ёдлавічы Брасл. *Хлыст з верхам.* Рыбчына Віл. *Возяць хлысты з вяршиком.* Азяраны Раг. *Хлысты на лесавозы грузім.* Беразіно Докш.

ХЛЮ'БА *ж.* Тое ж, што і х л у д 2. *Хлюбаю кароў паганялі. Хлюба — тонкія пруцця.* Лука Нараўк. *Вырызав хлюбу.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* літ. *kliūbai* 'дубцы'.

ХЛЮБА'ЦЬ *незак.* 1. Глытаць. *Хлюбаіць ваду, чуць было не утапіўся.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і х л е б а́ ц ь. *Панцаку зварыла — хлюбай!* Кураполле Паст.

ХЛЮ'НДРА *ж.* 1. Неахайная жанчына. *Як хлюндра, ходзіць, сама сябе не апратаіць.* Кураполле Паст. 2. Распусная жанчына. *І даўней былі хлюндры такія.* Кураполле Паст.; *гл.* ф л ю́ н д р а.

ХЛЮ'ПА *ж.* Слата. *Такая хлюпа, ні хочацца выходзіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ХЛЮ'ПАЦЬ *незак.* Шморгаць (носам). *Выснякай нос, не хлюпай.* Малахоўцы Бар.

ХЛЮ'ПНУТІ *зак.* Разліць. *Кроха молока на помуост хлюпнула.* Курашэва Чыж.

ХЛЮ'ПО *гл.* ХЛУ'ПА

ХЛЮ'ПЫ, ХЛУ'ПЫ *прым.* Пахілы. *Гара хлюпа. Хлюпа страха. Пат хлюпым уклонам можна сайці і с страхі.* Дзяніскавічы Ганц. *Хлупая страха, не стромкая.* Пасека Ст.-Дар., Ісерна Слуц. *Па хлупай страсе будзяш хадзіць.* Лапічы Асіп.

ХЛЮ'СНУТІ *зак.* Моцна пайсці (пра дождж, кроў). *Вэлізны дошч хлюснув. Кров з носа хлюснула.* Курашэва Чыж.

ХЛЮСТ *м.*◇ *Пайсці с хлюстам* — нічога не атрымаць. *Нічога не палучыў, пашоў с хлюстам.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХЛЮШЧЭ′ЦЬ *незак.* Моцна цячы (пра ваду). *Вада хлюшчыць, негдзе прайсці.* Чычалі Швянч.

ХЛЯ′БА I, ХЛЯ′ПА *ж.* Тое ж, што і х л ю́ п а. *Хляба на двара ідзе.* Рудня Астравітая Чэрв. *Хляба — мокрая пагода, ідзе мокры снег.* Пасека Ст.-Дар. *Снех мокры з дажджом, хляпа пашла.* Вузла Мядз. *Во якая хляпа, апхляпаўся весь, балота.* Солы Смарг. *Хляпа на дварэ.* Нізок Уздз.

ХЛЯ′БА II *ж.* Падуздышная ўпадзіна. *Дала качару па хлябах. І ў каровы ёсць хляба. Не магу крутануцца, так коля ў хлябу. Рас воўк схапіў барана, а карова за ім і рагамі яму ў хлябы, у хлябы — і адабралі барана.* Кіралі Шчуч. *Хлябы ў каровы.* Старыя Смільгіні Воран., Альхоўцы Лях. *Хляба ва ўсіх жывёл і ў чалавека. «Як дам у хлябу, аш ты пакацісся!» Як галодна скаціна, хляба ўпаўшы, а калі паетая — круглыя, поўныя хлябы.* Міратычы Карэл. *Абівае хлябы. Хлябы бліжэй к заднім нагам.* Пацаўшчына Дзятл.

ХЛЯБА′ *мн.* Збожжа. *Білі цапамі і абівалі ўсе хляба.* Альхоўка Навагр.

ХЛЯБЕ′Ц *м.* Тое ж, што і х л е б 3. *Маладых пчол нічым не паткармліваем, хлябец павінен быць.* Мыто Лід. *Пчаліны хлябец.* Рыбчына Віл., Азяраны Раг.

ХЛЯ′БІНА *ж.* Тое ж, што і х л я́ б а II. *Хлябіна ў каровы.* Дзяніскавічы Ганц.

ХЛЯ′БІСТЫ *прым.* Худы, з вялікімі падуздышнымі ўпадзінамі. *Хлябісты конь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хлябіста карова, як не поўна.* Дзяніскавічы Ганц. *Духі ўпаўшы, хлябіста карова.* Альхоўцы Лях.

ХЛЯБЯНУ′ЦЬ *зак.* Хлябнуць. *Сабака спужоў — хай сабака хлябяне вады рас і два — гэтай вадой лячылі ат пярэпалахаў.* Слабада Мін.

ХЛЯБЯСТА′ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць многа, балбатаць. ▽ *Не хлябяшчы языком, як сабака хвастом.* Скварцы Дзярж.

ХЛЯВЕ′Ц *м.* Адгароджаны катух у хляве. *Хлявец — дзе свіні, а дзе куры — куратнік. Пашла ў хлявец курыца.* Мярэцкія Глыб. ▽ *Повен хлявец белых авец* (зубы), *адзін баран-бляец* (язык). Малі Астр.

ХЛЯВО′К *м.* Тое ж, што і х л я в е́ ц. *У хляўку ляжалі свіні.* Малькуны Ігн. *Хлявок для курэй.* Істра Лудз.

ХЛЯВУШО′К *м.* Тое ж, што і х л я в е́ ц. *Хлявушок у хлевя.* Альхоўцы Лях.

ХЛЯ′НУТЫ, ХЛЯ′НУТІ *зак.* Аслабець. *Я вжэ зусім хлянув, ныяк ны можу робыты.* Сіманавічы Драг. *Куонь захворыэв і в очах хляне.* Курашэва Чыж.

ХЛЯП *выкл.* Абазначае раптоўную смерць. *Другі пражыве сваё жыццё хварэючы, а другі — хляп — і памрэ.* Малі Астр.

ХЛЯ′ПА I *гл.* ХЛЯ′БА I

ХЛЯ́ПА II *ж.* Пашча. *Воўк ляціць, разевіўшы хляпу, а то і ні разевіў хляпу; разіўляіць хляпу.* Саланое Віл.

ХЛЯ́ПАНІ́НА, ХЛІПАНІ́НА *ж.* Тое ж, што і хлю́па. *Хляпаніна — мокрая пагода, снех ідзе.* Гайна Лаг., Рудня Астравітая Чэрв. *Якая сяння хляпаніна.* Рыбчына Віл. *Хліпаніна ідзець.* Мярэцкія Глыб.

ХЛЯ́ПАНІЦА *ж.* Тое ж, што і хлю́па. *Еслі адліга, садліжая снех і мокры ідзе — во хляпаніца.* Малахоўцы Бар. *Якая сяння хляпаніца.* Рыбчына Віл.

ХЛЯ́ПАТІСЕ *незак.* Плюхацца. *Дієті в водіе хляпаюцце.* Курашэва Чыж.

ХЛЯ́ПАЎКА *ж.* Тое ж, што і хлю́па. *Хляпаўка бывая, калі адліжная пагода.* Крэва Смарг.

ХЛЯ́ПАЦЬ I *ж.* Тое ж, што і хлю́па. *У такую хляпаць сядзі дома — і не рыпайся.* Беразіно Докш.

ХЛЯ́ПАЦЬ II, ХЛЯ́ПІЦЬ, ХЛЯ́ПАТІ *незак.* 1. Ісці (пра мокры снег). *Мокры снех хляпая, захляпаў вочы.* Гемзы Шальч. *Сяння снех хляпіць, мокры ідзець.* Вузла Мядз. 2. Пырскаць. *Хляпае па нагах дошч.* Завельцы Астр. 3. *перан.* Баўтацца. *Тошчая цялуха, аш бакі хляпаюць.* Саланое Віл.

ХЛЯ́ПНУТІ, ХЛЯ́ПНУЦЬ *зак.* 1. Апырскаць. *Самоход іехав і хляпнув на мэнэ болотом.* Курашэва Чыж. 2. Разліцца. *Молока кроху на помуост хляпнуло.* Курашэва Чыж. ◇ *Хляпнуті штось* — сказаць глупства. *Часом чоловіек высолопіт языка і нэпотрыэбно штось хляпне.* Курашэва Чыж.

ХЛЯ́ПНУЦЬ *зак. перан.* Загінуць, здохнуць. *Мой плімяннік хляпнуў у гэту вайну. Два плімянніка хляпнула. Два цяплёнкі ўжо хляпнула.* Валынцы В.-Дзв.

ХЛЯПЯСТА́ЦЬ *незак.* Булькаць. *Вада хляпешча ў носі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХЛЯСНУ́ЦЬ *зак.* Пляснуць. *Хляснуў яму — і ўсё.* Завельцы Астр.

ХЛЯ́СТКА *ж.* Тое ж, што і хлю́па. *Хлястка нейкая на дварэ, атліга.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ХЛЯСЬ *выкл.* у знач. *вык.* 1. Адпавядае знач. дзеяслова *хляснýць. Шчука хлясь хвастом — і няма яе.* Месянцы Брасл. 2. Упасці. *Лена бавілася — хлясь і расцягнулася.* Малі Астр.

ХЛЯ́ТІ *незак.* Многа піць. *Ранім вечором началі хляті, а куончылі по повночы.* Курашэва Чыж.

ХЛЯЎЧЫ́К *м.* Тое ж, што і хлявéц. *Цёплы хляўчык быў.* Саланое Віл.

ХМА́РА́, ХМУ́РА́ *ж.* 1. Звычайна цёмнае воблака, якое прадвяшчае навальніцу. *Хмáра чорная якая, будзе дошч.* Мярэцкія Глыб. *Якая хмáра цёмная!* Рыбчына Віл. *Хмáра чорная нашла.* Саланое Віл. *Хмáра найшла, пакапаў дош.* Вецярэвічы Пух. *Ізноў хмáра ідзе.* Валеўка Навагр. *Хмáра, дошч краплісты ідзе, крапля буйная. Хмáра здымалася. Хмáра цёмная, думалі, што бокам пойдзя.* Альхоўка Навагр. *Хмáра з дажджом.* Дзяніска-

вічы Ганц. *Хмара чорна ідэ, дошч будэ.* Смаляніца Пруж. *Хмары прошлі бокамі, а дошчыку не было.* Хатынічы Ганц. *Бела хмара надышла.* Кудзялянцы Шальч. *О то ш хмара цёмна ідзе. Хмару пагнала. Такая хмара цёмная, што свету не відно. З малоі хмары дошч велькі бывая. З велькай хмары дошч малы. Насунуліся хмары на сонца.* Кіралі Шчуч. *Надышла хмара.* Навасёлкі Лід. *Хмары находзяць, натта парыць, да дажджа падобна.* Парэчча Гродз. *Хмуры вісяць, дошч будзіць.* Валынцы В.-Дзв. *Хмуры, не выходзіць слонца.* Малькуны Ігн. *Хмура цёмная насоўваецца.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *chmura* 'тж'. 2. у знач. *прысл. хмараю.* Чарадою. *Птушкі хмараю лётаюць.* Мсцібава Ваўк.∇ *Абадне, бы хмара, насядуць на кароў, а тыя гілююць.* Пацаўшчына Дзятл.

ХМА'РКА *ж. памянш.* да хмара 1. *І зноў стае хмарка.* Дарава Лях.

ХМА'РНА, ХМУ'РНА *прысл.* Хмурна. *Во які дош палііў, хмарна.* Валынцы В.-Дзв. *Хмарна, добра садзіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Хоць хмурна, але цяпло, вецер цёплы аш з духам.* Кіралі Шчуч. *Тогды на дворыэ хмурна, як в дэнь нэма сонця.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *chmarnie* 'тж'.

ХМАРНАТА' *ж.* Хмурнасць. *Хмарната такая.* Магуны Паст.

ХМА'РНЫ, ХМУ'РНЫ *прым.* 1. Хмурны. *Сяння нядобры дзень—халодны, хмарны.* Вузла Мядз. *Хмарны дзень, ня пойдзім у ягады.* Ёдлавічы Брасл. *Хмарны дзень.* Жодзішкі Смарг. *Хмурны дзень.* Граўжышкі Ашм., Гемзы Шальч., Пасека Ст.-Дар., Рудня Астравітая Чэрв. *Хмурны дзень, няма слонца.* Кіралі Шчуч. *Од рана хмурны дэнь, можэ по обіеді выпогодіцце.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Пахмурны, негаваркі. *Прыехаў — і быў хмурны.* Руднікі Шальч.; *парайн.* польск. *chmarny* 'тж'.

ХМА'РЫЦЦА, ХМУ'РЫЦЦА *незак. безас.* Зацягвацца хмарамі. *Паехаў дзяцька на начлех, відзя — хмарыцца.* Івашкаўцы Смарг. *Хмарыцца, будзіць дошч.* Валынцы В.-Дзв. *Начынаіць хмарыцца, пойдзіць дошч.* Ёдлавічы Брасл., Малі Астр. *Сеня хмарыцца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хмурыцца, дошч пойдзя.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *chmurzyć się,* 'тж'.

ХМА'РЫЦЬ, ХМУ'РЫЦЬ *незак. безас.* Зацягваць хмарамі. *Хмарыць нешта.* Багушэвічы Бярэз. *І так жа ш хмарыла сёння, так хмарыла!* Чапаеўскі В.-Дзв. *Цэлы дзень хмурыла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Хмарыло, обложэно кругом.* Хатынічы Ганц.; *парайн.* польск. *chmurzyć* 'тж'.

ХМЕЛЬ, ХМІЛЬ 1. *м. бат.* Хмель. *Хмель уецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Хмель верціцца возле дзерава, какая вышка, такі хмель, хто дзелаіць піва, заліць цвет вадой, горыч імеіць, уместа чая закладаіць.* Месянцы Брасл. *Мы шэ й тыпэр хміль сыймо.* Дзмітравічы Кам. 2. *ж.* Стан ап'янення. *Такую хмель трудна перанесці, галава баліць.* Вецярэвічы Пух.

ХМІЗЬ *зб. ж.* Хмызняк. *Загнала курувэв в тую хмізь і пасла.* Радастаў Драг.

ХМУ'ЛІЦЦА гл. ХМЫ'ЛІЦЦА

ХМУ'ЛІЦЬ *незак.* Тое ж, што і х м у́ л і ц ц а. *Конь хмуліць вушы.* Вялікія Баяры Шчуч.

ХМУ'РА' *гл.* ХМА'РА'

ХМУ'РНА *гл.* ХМА'РНА

ХМУРНЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і х м а́ р ы ц ц а. *Неба хмурнее, будзе дош.* Вялікія Баяры Шчуч.

ХМУРНОВА'ТО *прысл.* Пахмурна. *На дворыэ хмурновато, але дошчу, мусіт, нэ будэ.* Курашэва Чыж.

ХМУ'РНЫ *гл.* ХМА'РНЫ

ХМУ'РЫЦЦА *гл.* ХМА'РЫЦЦА

ХМУ'РЫЦЬ *гл.* ХМА'РЫЦЬ

ХМЫЗ, ХМЫС *зб. м.* Тонкія карэнні, накапаныя для пляцення кашоў. *Хмыс — дзе сукоў нарыта малых. Хмызу нарыў многа.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХМЫЗА' *зб. ж.* 1. Знесенае ў кучу сухое галлё. *Куча хмызы. Зладжылі ў кучу хмызу, будуць паліць.* Мярэцкія Глыб. 2. Хмызняк. *Хмыза — зараснікі пад'ялоўца, які недарос страявога лесу. Хмыза — ні прайсці.* Рыбчына Віл. *Магільнік зарос хмызой, хмыза парасла.* Мярэцкія Глыб.

ХМЫ'ЗНІК *м.* Тое ж, што і х м ы з а́ 2. *Я убег у хмызнік.* Ухвала Круп.

ХМЫЗНЯ'К *м.* Тое ж, што і х м ы з а́ 2. *Заросля, дзе зарасло хмызняком, кустамі.* Солы Смарг.

ХМЫЗНЯЧО'К *м. памянш.* да х м ы з н я́ к. *Хмызнячок — невялікі лес, маладзенькі лісцёвы.* Вецярэвічы Пух. *Прас хмызнячок бегла, баялася.* Рагулішкі Даўг.

ХМЫ'ЛІЦЦА, ХМУ'ЛІЦЦА *незак.* Прыціскаць вушы (пра каня). *Конь хмыліцца.* Быстрыца Астр., Магуны Паст., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв., Пасіене Лудз., Лука Нараўк. *Як вушы прылoжа і хмыліцца, то можа ўкусіць ці ўбрыкнуць.* Завельцы Астр. *Хацеў зланіць каня, а ён хмыліцца.* Чуркі Ашм. *Конь хмыліцца, кап убрыкнуць, вернецца задам.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Хмыліцца конь, хай яго, яшчэ пакусае.* Малахоўцы Бар. *Конь стрыжэ вушамі, конь хмыліцца, як прытульвае вушы.* Дзяніскавічы Ганц. *Конь хмыліцца, аберагайся, кап не ўкусіў, а с тылу глядзі, кап не ўбрыкнуў.* Гемзы Шальч. *Конь хмуліцца. Гэта злы конь — хмуліцца.* Вялікія Баяры Шчуч.

ХМЫЛЬНЯ'К *м.* Тое ж, што і х м ы з а́ 1. *Ламы ў кучу скідаць і спаліць, а некаторыя кажуць хмыльняк.* Крэва Смарг.

ХМЯЛЁК *м. бат.* Палявая канюшына. *Хмялёк рвуць на чай.* Альхоўцы Лях.

ХНІ'ПАЦЬ, ХНЫ'ПЕЦЬ *незак.* 1. Хныкаць, плакаць. *Хніпая дзіця.* Старыя Трокі Трак. *Што ты хніпаеш?* Мсцібава Ваўк. *Нібыты плачаш, хніпаіш. Чаго хніпаіш?* Гемзы Шальч. *Хніпае чалавек, як плача.* Курашэва Чыж. *Люда хныпіць. Чаго ты хніпаіш?* Крэва Смарг. *Ён хныпля — плача: біла-біла яго.* Аль-

хоўцы Лях. 2. Вішчаць. *Хніпаюць парасята па цыццы.* Мсцібава Ваўк.

ХНЫ'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і хніпаць 1. *Хныча і хныча цалы ранак.* Пацаўшчына Дзятл. *Чаго ты хныкаеш?* Вецярэвічы Пух.

ХОБ *злуч.* Каб. *Трэба, хоб він прышов, а юго нэма.* Радаставў Драг.

ХО'БАЛЬ *гл.* ХА'БАЛЬ

ХО'БАЧКА *ж. анат.* Упадзіна ў ніжняй пярэдняй частцы груднай клеткі. *У самай хобацы баліць.* Гемзы Шальч.

ХОВА'НЕ *гл.* ХАВА'НЯ

ХО'ВАНКІ *гл.* ХАВА'НКІ

ХОД *м.* 1. Хада. *Цяшкі на хаду.* Навасёлкі Свісл. 2. Месца выхаду з нары. *Хады* [баброў] *выходзяць у раку і на сухапуць.* Саланое Віл. 3. *перан.* Дарога. *Наша карова зная ўсе хады.* Ёдупка Шальч. 4. Вось з парай калёсаў. *Калёсы на жалезным хаду.* Латыгаль Віл. *Калёса былі калісь на дзеравянным хаду.* Альхоўка Навагр. ◇ [*Даць*] *ходу* — кінуцца ўцякаць. *Яны тады ходу!* Гальшаны Ашм. *Не даць ходу* — перашкодзіць у якой-н. справе. *Ён не дась яму ходу, не паступіць ён вучыцца.* Груздава Паст.

ХО'ДА *ж.* Тое ж, што і ход 1. ▽ *Хода ходзіць, а віса вісіць, хода вісу хоча з'есці.* Валынцы В.-Дзв.

ХОДАКІ' *гл.* ХАДАКІ'

ХО'ДАЛА *н.* Тое ж, што і хада́к II. *Ходала рабілі. Дзіця скора навучаецца хадзіць у ходалі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХО'ДАЛКА *ж.* Тое ж, што і хада́к II. *Зробіць бацька ходалку дзіцяці.* Азяраны Раг.

ХО'ДЖАНЫ *м.* Польскі танец блізкі да паланеза. *Тэпэр ходжаного ніхто нэ танцюе.* Курашэва Чыж.

ХОДІЕ'НЕ *н.* Хаджэнне. *Тым ходіенём я ўжэ змучыласе.* Курашэва Чыж.

ХО'ДЗІЦЦА *незак.* ◇ *Не ходзіцца* — не ідзе, не вядзецца размова. *Тут аб ліцо не ходзіцца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *o co chodzi* 'у чым справа'.

ХОДЗІ'ЦЬ *гл.* ХАДЗІ'ЦЬ

ХО'ДКА І, ХО'ТКА *ж.* Хада. *Мы ходзім да іх, але слабая хотка.* Вузла Мядз.

ХО'ДКА ІІ *ж.* Тое ж, што і хада́к II. *Дзяціная ходка, дзеці вучацца хадзіць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХО'ДНІК *м.* І. Палавік. *Ходнік — па-даўнейшаму, цяпер дарошка.* Завельцы Астр. *Нада разаслаць на падлогу ходнікі, цяпер палавікі.* Ёдлавічы Брасл., Вострава Маст. *Ходнікі ткалі.* Саланое Віл., Тухавічы Лях., Грыкені Вільн., Дзмітравічы Кам. *Ходнікі я сама ткала.* Старыя Трокі Трак. *Ходнікі ткалі з трапкаў: рвалі ўсё старое.* Быстрыца Астр. *Тку ходнікі, панарэзвала старызны.* Малахоўцы Бар. *З ачоскаў ткалі ходнікі.* Дакудава Лід. *Некаторыя ходнікі ткалі: сляджок с краю, а пасярэдзіне*

*цвяты.* Навасёлкі Лід. *Трапкі буду дзёрці, ходнікі рабіць.* Солы Смарг. *Ходнікі трэба памыць, затапталіся ўжо.* Жодзішкі Смарг. *Выткала новыя ходнікі.* Кіралі Шчуч. *У нас ходнікі бабы самі ткут.* Курашэва Чыж. *Ходнікі засцеля.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Тратуар. *Машына з'ехала, кап хто стаяў на ходніку, так было п і смерць.* Крэва Смарг. *Адзін тут быў у Сіднеі, кажа: «Сядзіць на ходніке жэншчына і просіць, кіне хто грошы».* Старыя Трокі Трак. 3. у знач. *прысл. хóднікам.* Па тратуару. *Ішоў ходнікам у горадзе.* Завельцы Астр.

ХОДНЯ' *гл.* ХАДНЯ'

ХОДЫ'ТЫ *гл.* ХАДЗІ'ЦЬ

ХОЗЕ'ЙКА *гл.* ХАЗЯ'ЙКА

ХО'ЛАД, ХО'ЛАТ *м.* 1. Халоднае надвор'е. *Ат холаду рукі папрутнелі, як куракі.* Вузла Мядз. *Дзеля холаду адзявалі.* Слабада Мін. *Самыя халады ў марцу месяцу.* Чычалі Швянч. *У нас дні жаркія, а ўночы холат.* Солы Смарг. 2. у знач. *прысл. хóладам.* У час халоднага надвор'я. *Такім холадам садзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзе агурке будуць холадам расці.* Вецярэвічы Пух. *Холадам не хацелася палоть.* Рагулішкі Даўг.

ХО'ЛАДНА, ХО'ЛАДНО, ХО'ЛАННО, ХОЛОДНО' *гл.* ХАЛАДНО'

ХО'ЛЕР, ХОЛЕ'РА *гл.* ХАЛЕ'РА

ХОЛО'ДНІЦЯ *гл.* ХАЛО'ДНІЦА I

ХОЛОДНЭ'НЬКО *прысл.* Надта холадна. *Тут холоднэнько.* Дзмітравічы Кам.

ХОЛОДО'К *м. кулін.* Халадзец. *Дрыгва і холодок — одно: дрыгвы наварыла і холодок варыла.* Хатынічы Ганц.

ХОЛОМЭ'ЙНІЦА *ж. зневаж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па вёсцы, з хаты ў хату. *Холомэйніца по хатах пошла, походня.* Калясное Міхал.

ХОЛСТ *м.* Тое ж, што і хвост 2. *Гэта ш бывала халсты бялілі.* Чуркі Ашм.

ХО'НЬДЗЯ *ж. мед.* Малярыя. *У дачкі была хоньдзя. Адзін чалавек пасаветаваў жабу вадзяную настаяць на гарэлцы і даць вупіць — хоньдзя пройдзя. Хоньдзя яе трэсла, дала настою з жабы — і паправілася.* Кузьмічы Люб.

ХОП *выкл.* у знач. *вык.* Адпавядае значэнню дзеяслова *ўхапіць. Хоп за скарач прас плечы.* Гемзы Шальч.

ХО'ПІЦІ *зак.* Хопіць. *Хопіт сыпаць.* Смаляніца Пруж.

ХО'ПНУЦЬ *зак.* 1. Ухапіць зубамі за горла (пра звера). *Як хопнець воўк каня, так зразу і задавіць.* Кураполле Паст. 2. Праняць ветрам, прадзьмуць. *Міне, мусіць, вецяр хопнуў, павярнуць не магу шыі.* Ёдлавічы Брасл.

ХОПЦЬ *выкл.* у знач. *вык.* Адпавядае значэнню дзеяслова *хапіць. Кура хопць каліва бобу — глытая.* Гемзы Шальч.

ХОПШ *выкл.* Тое ж, што і хопць. *Чуць пакажацца рыба, цапля хопш яе.* Замошша Брасл.

ХО'РАША, ХО'РАШО, ХО'РОШЭ *прысл.* 1. Добра, як мае

быць. *Хораша жывём.* Навіны Нясв., Альхоўка Навагр. *Напісаў так хораша: памяць ад усіх дзяцей.* Валеўка Навагр. *Хораша шыў.* Дакудава Лід. 2. Прыемна. *Хораша глядзець, як машына картоплю сея.* Вецярэвічы Пух. *Натта ш запах, пахне хораша.* Гальшаны Ашм. 3. Прыгожа. *Хораша паўбіраныя дзеці.* Гальшаны Ашм. *Хазяіна* [першы сноп жыта ў дзень зажынак] *абвязвалі перавяслам, і кветкаў — рамашкаў, васількоў, кап хораша было.* Дарава Лях. *Салавей хораша пяе.* Лоск Валож. *Пеўчыя спявалі хорашо, жаласно спявалі.* Альхоўцы Лях. *Яна хорашо адзета.* Міратычы Карэл. *Тэпэр жывут людзі і смачно едзят, і хорошэ ходзят* [добра апрануты]. Смаляніца Пруж. 4. у знач. *вык. І яна да яго гэдак хораша.* Валеўка Навагр.

ХОРОШУ'ХА *ж.* Прыгажуня. *Вона і стала такая красавыца, такая хорошуха.* Каўняцін Пін.

ХОРО'ШЫ, ХОРО'ШЫЙ *гл.* ХАРО'ШЫ

ХОРТ *м.* Паляўнічы сабака з гладкай поўсцю. ▽ *Ты худы, як хорт.* Валеўка Навагр. *Ні чорт, ні хорт — кажаць, як хто развядзецца з жонкай, ці мужам.* Малі Астр.

ХО'РЫ I, ХО'РЫЙ *гл.* ХВО'РЫ

ХО'РЫ II толькі *мн.* Месца ў касцёле, дзе размяшчаецца хор. *На хорах піяць хадзіла. Хоры ў каждым касцёлі, арґаны на хорах.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХО'РЫК *м.* Капач. *Хорыкі — капачы. Хорыку плацілі дзесяць капеяк, а мацяры — залатоўку за капанне бульбы.* Мсцібава Ваўк.

ХО'ТКА *гл.* ХО'ДКА I

ХОТЫ'ТЭ *гл.* ХАЦЕ'ЦЬ

ХО'ЎЛЯ *ж.* Догляд. *У добрай хоўлі быў конь.* Быстрыца Астр. ◇ *Хоўлі ня ўзяць* — быць худым. *Грыва ўся ў калтуны паўецца, конь будзя худы, хазяін харашо корміць, а конь хоўлі ня возміць, будзя худы. Хоўлі ні бярэ карова, колькі яе ні кармі, усе роўна хоўлі ні бярэ.* Рыбчына Віл.

ХОЎЧЛІ'ВЫ *прым.* Хцівы, зайздросны. *Хоўчлівы чалавек. Хоча ўхапіць толькі сабе. Нікалай хоўчлівы, залезе за вугал і не вылязя, пакуль не перабярэ ўсё і не выбярэ сабе.* Вецярэвічы Пух.

ХО'ХЛА *ж.* Шэрсць на хібе ў свіней. *Хохла ў свіні — шэрсць каляная — ішла на шчоткі, у смалу шчотку задзелывалі — і часалі лён.* Навікі Лудз.; *параўн.* літ. *kãklas* 'шыя'.

ХО'ХЛІК *м. міф.* Чорт, нячысцік. *Хохлік ездзіў на кані.* Жылі Іўеў.

ХО'ХЛЮШ *м. мед.* Коклюш. *Хохлюш дзяцей забівая.* Дакудава Лід.

ХО'ХЛЯ *ж. рыб.* Доўгая жэрдка, прымацаваная да невада. *Хохля — жэртка ля невада, хохлю гоняць сахавіламі. Хохля — палка восім метраў даўжыні, плыве па версе, вяроўка прывязвае хохлю да невада.* Вецярэвічы Пух.

ХОЦЬ, ХУЦЬ, ХОЧ, ХУЧ 1. *злуч. уступальны. Як багатая,*

*хоць і нікрасівая, ідзёт замуш.* Буды В.-Дзв. *Я хоць хлеба не мела, але дзеці вучыла.* Дзераўное Стаўб. *Я за маладых гадоў за сябе не выбрала, пасці замуш не прышлося, хоць былі ў мяне хлопцы.* Дарава Лях. *Хуч у мяне сям'я: і зяць, і нявестка, і сын — у мяне хватае і сыру, і масла, і малака. Хуч памру, а дзіця раджу.* Валеўка Навагр. 2. *злуч. уступальны* (звычайна з заг. ладам). *А спаць хочыцца, хоць мры.* Оцкавічы Паст. *Ногі — хоць рэпу сей.* Жылі Іўеў. *Хуць калі набяры рыбы.* Лісна В.-Дзв. 3. *злуч. размеркавальны. Хоць еш, хоць ня еш — усе роўна баліць.* Лоск Валож. 4. *часц. узмацняльна-абмежавальная. Прышлеце фатаграфію, хоць паглядзець, якія мы вышлі.* Збляны Лід. *Сынок скапаў хоць адну гратку.* Солы Смарг. *Хоць бы нядзельку пабыла пагода.* Слабада Мін. 5. *часц. узмацняльна-вылучальная. Хоць памох бы, да ні знаіць што.* Саланое Віл. *У нядзелю пакачаю* [*бялізну*], *хоч саграшу.* Смаляніца Пруж. *Як хуч здароўе, ходзіць як вахлак.* Валеўка Навагр. ▽ *Хоць за вала, абы дома не была.* Вузла Мядз. ◇ *Хоць касой касіць* — у вялікай колькасці. *Цыбулі шмат насадзіў, як вырасця — хоць ты касой касі. Вот грыбоў у леся — хоць ты касой касі.* Малі Астр. *Хоць брашы — так есці хочацца. Хоць ты брашы, на хлеп гледзячы!* Кемялішкі Астр.

ХРАБЕ'Т *гл.* ХРЫБЕ'Т

ХРАБО'НШЧ *м. заал.* Хрушч. *У нас храбоншчы былі, ціпер няма.* Сапоцкіна Гродз. *Храбоншчамі мы называлі.* Парэчча Гродз.

ХРАБО'СТКА *ж. кулін.* Яда, прыгатаваная з укісшага *храбусту* і цыбулі. *Хробуст укіням у цэбар, ён укісня, туды цыбулькі і зробім храбостку і ядзімо.* Кіралі Шчуч.; гл. х р а б у́ с т.

ХРАБРО'НШЧЫ *мн.* Тое ж, што і х р а б о́ н ш ч. *Храброншчы — такія жукі. Майскія жукі іх называюць.* Пераброддзе Міёр.

ХРАБУ'СТ, ХРАБО'ЎСТ *м. бат.* Ядомая трава адносіцца да асотавых, расце пераважна на нізкіх балоцістых месцах. *Храбуст расце па балотах.* Каўняны Гродз. *Храбуст кшакамі расце.* Сапоцкіна Гродз. *Храбусту много на гэтум балоці.* Мсцібава Ваўк. *Храбуст свіня ядзяць.* Вострава Маст. *Храбуст расце, гэто зельля.* Навасёлкі Свісл. *Храбоўст расце па ніскум мокрум месцы, лісця з зямлі, лісця як у хрэня, толькі вушшыя, такі яркі, шорсткі, свіня добра ядуць храбоўст.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* укр. *храбуст, хробуст,* польск. *chrobust,* літ. *grabū̃zdas* 'ядомая трава з шырокімі лістамі'.

ХРАБУСТА'ЦЬ *незак.* 1. Есці з хрустам. *Як есць хто гурка, яблыка, то храбушча. Кроль, як есць капусту ці моркву — храбушча.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Разбіваць. *Бацька прышоў п'яны і храбушча талеркі.* Малахоўцы Бар.

ХРАБУСТКІ' *прым.* Які храбусціць. *Зязюлкі храбусткія, крохкія, пераломваецца скоро.* Дзяніскавічы Ганц.

ХРАБУСЦЕ'ЦЬ, ХРАБУСТІЕ'ТІ *незак.* Есці з хрустам. *Хра-*

*бусціць капусту.* Мыто Лід. 2. Бразгатаць. *Ужо храбусціць талерка, пабілі.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Скрэбці. *Як я захворыэв на грыпу, то ў мэнэ в сэрэдзіні штось так храбустіело.* Курашэва Чыж.

ХРАК *м.* Кныр. *Загудзела свіня: нада к храку вясці.* Пасіене Лудз.

ХРА'КІ, ХРЭ'КІ толькі *мн. мед.* Флегма. *Хракі мяне задавяць!* Граўжышкі Ашм. *Хракі ідуць з лёхкаго, а ў мяне — з галаву(ы).* Кузьмічы Люб. *Збіраюцца ў грудзе хрэкі ўсе і ў грудзях хракаціць.* Кіралі Шчуч.

ХРАКАЦЕ'ЦЬ *незак. безас.* Хрыпець. *Стала хракацець у грудзях. Ён умрэ, калі яму ўжо на грудзях хракаціць.* Кіралі Шчуч.

ХРА'КАЦЬ *незак.* 1. *мед.* Хрыпець. *Ён* [хворы бацька] *хракаў яшчэ.* Гальшаны Ашм. 2. Пляваць. *Хракала недзе на яе, аткрые акно і хракае.* Гальшаны Ашм.

ХРАМА'ЦЬ *незак.* Кульгаць. *Шакальком пусціла у курыцу — цяпер храмая.* Малі Астр.

ХРАМЕ'ННЕ *н.* Кульгавасць. *Якое храменне ў каго.* Ухвала Круп.

ХРА'МЛЯНЫ *прым.* Скалечаны, укарочаны (пра нагу). *Нага ў брыгадзіра храмляна.* Ухвала Круп.

ХРАМО'ВЫ *прым.* Хромавы. *Храмова скура.* Номікі Бабіц. *Хазяін, у вас ёсць храмовыя сапагі? Дай мне!* Завельцы Астр. *Храмовыя боты дастаў.* Ністанішкі Смарг. *Чаравікі храмовыя былі, на ўборы.* Магуны Паст.

ХРАМУ'ЛЬКА *ж. памянш.* Крываножка. *У яе нага нахрамлівала — храмулька яна.* Кудзялянцы Шальч.

ХРАМЫ' *прым.* Крывы, кульгавы. *Храмы дзет, клегая, яму нага баліць, клыгаючы ідзе.* Рудня Астравітая Чэрв. *Храмы, ніўдалы, а жонку добрую ўзяў.* Беразіно Докш. *Храмы чалавек, нага баліць.* Завельцы Астр. *Ат трох гот храмая дзевачка.* Малькуны Ігн. *Храмы* [хлопчык], *так і нарадзіўся.* Рыбчына Віл. ∇ *Ты — такая, я — такой, ты — храмая, я — сляпой.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *хромой* 'тж'.

ХРАНІ'ЦЦА *незак.* Захоўвацца. *У свірні хлеп храніўся.* Пераброддзе Міёр.

ХРАНІ'ЦЬ *незак.* 1. Хаваць. *Храніў патроны ў скрыні ад немцаў.* Гальшаны Ашм. *Баба храніла парцізанку раненую за печкай. Еслі б так вот храніла лётчыка — выдалі б паліцаі.* Мішневічы Шум. 2. Гадаваць, трымаць. *Ён храніў дзве каровы.* Якубава Рас. 3. Захоўваць ад псавання. *Мясо натто добро храніць у крапіве, дзе яно ляжыць, муха не пойдзе.* Валеўка Навагр. 4. Аберагаць. *Сцяпану даверылі храніць гэту кнігу.* Пераброддзе Міёр.

ХРА'НУЦЬ *незак.* ◇ *На нос храня* — чуць хадзіць. *На нос храня, стары с кіёчкам ходзіць, а жаніцца сабіраецца.* Вецярэвічы Пух.

ХРА'ПА І, ХРЯ'ПА *ж.* 1. Мыса. *Храпы і ў каня, і ў каровы.* Магуны Паст. *Храпа ў каня і ў каровы.* Беразіно Докш. *У каня*

*храпа. Нельзя біць каня па храпе.* Кіралі Шчуч. *Гадзіна карову за храпу кусаіць.* Вецярэвічы Пух. *Храпа — у каровы.* Грыкені Вільн. *Хряпа ў каня.* Янова Рас. 2. *перан.* Твар. *Добра гуляя* [танцуе], *ён так ні брыткі на храпу.* Альхоўка Навагр.

ХРА'ПА II, ХРЯ'ПА *ж.* Зелле. *Храпу пайду збіраць свінням.* Якубова Рас. *Хряпу пабягу збіраць.* Янова Рас.

ХРА'ПА III *ж.* Груда, замёрзлая гразь. *Падмерзло, храпа гэдака, ні пайсці.* Міратычы Карэл. *Ішоў па храпы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Храпы пазамярзалі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *По храпі кепско ісці, ніглатка дарога такая.* Баброўнікі Гарад.

ХРА'ПАНІНА *ж.* Тое ж, што і х р а́ п а III. *Храпаніна — як зімою развязе снех, а потым замерзня, ды кажуць храпаніна.* Альхоўка Навагр. *Храпаніна, нада коней каваць.* Малахоўцы Бар.

ХРАПА'ТЫ *прым.* Хрыпаты. *Зяць быў храпаты.* Валеўка Навагр.

ХРА'П'Е *зб. н.* Тое ж, што і х р а́ п а II. *Ноша на плячах, храп'я насілі — бабоўнік.* Пасіене Лудз. *Занясла ношту храп'я.* Рагулішкі Даўг.

ХРАПЕ'ЦЬ *незак.* Храпці. *Спіць і храпіць. Ён будзе храпець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мама храпела. Заснуў і стаў храпець!* Едлавічы Брасл. *Вы не храпіцё, а ён як заснець, храпіць.* Завельцы Астр. *Як ён храпець!* Чычалі Швянч.

ХРА'ПІСТЫ *прым.* Грудкаваты. *Храпістая дарога, як снегу няма, едуць каляінамі ці ідуць, замярзае гразь.* Пацаўшчына Дзятл. *Храпістая дарога, такія гулы, скаціна не можа прайці.* Дакудава Лід. *Храпіста дарога, храпа — не пайсці, не паехаць.* Кіралі Шчуч.

ХРА'ПКА I *ж.* Ствол качана капусты без лістоў. *Капусту пассікалі, адны храпкі засталіся.* Мачаск Бярэз.

ХРА'ПКА II *ж.* У выразе: *Мець на штось храпку* — мець да чаго-н. ахвоту. Курашэва Чыж.

ХРАПСЦІ', ХРАПЦІ', ХРОПТЫ' *незак.* 1. Тое ж, што і х р а п е́ ц ь. *Ён храпе, як спіць. Не храпі ты! Ой, ён будзя храпсці!* Лоск Валож. *Не буду храпці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Не заснеш, ён храпе.* Жылі Іўеў. *Лёх і стаў у нос храпці.* Кіралі Шчуч. *Адзін у адным кутку, а другі — у другім — храпуць, як паравікі.* Дэгшні Шальч. *Як пачынае храпці, я кіёк пад бок.* Валеўка Навагр. *Ці храпіце вы? Я храпу.* Гемзы Шальч. *Хропэ на ўсю хату, я нэ хропу, ты хропэш.* Горск Бяроз. 2. Пырхаць пры набліжэнні небяспекі (пра каня). *Коні як стануць храпсці, мы ўскочылі: цю-га, цю-га! — вайкі задушылі каня і зат вырвалі.* Саланое Віл. *Той конь храпе. Чаго ён храпе?* Кухты Віл., Барок Стаўб.

ХРА'ПЫ *мн.* Ноздры. *Храпы ў жывіны і ў чалавека.* Парэчча Гродз. *Храпы ў каровы, у каня.* Быстрыца Астр., Дакудава Лід., Лука Нараўк. *Нос, ноздры — гэта храпы і ў каня, і ў каровы.* Чуркі Ашм. *Конь порскаіць у храпы, аш свішчыць, настаўляіць*

*вушы — страх чуіць.* Саланое Віл. *За храпы сабака хапая, усе каровы збунтуя.* Гемзы Шальч.

ХРАПЯНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Ано храпянула — ён послячы ачухаўся.* Новіны Нясв.

ХРАСНЯ'ЧКА *ж.* Хрэсніца. *Мая храснячка прыходзіла наведаць мяне.* Кудзялянцы Шальч.

ХРАСТО'К I *м.* Парастак. *Храсткі вялікія на бульбя.* Асавец Віл. *Храсток абламала.* Малахоўцы Бар., Тухавічы Лях., Дакудава Лід. *Папушчала бульба храсткі.* Рыбчына Віл., Бакшты Іўеў. *Апцірала храсткі ў картошкі.* Воўкуш Ліпск. *Храсткі вялікія, як харашо прарасла* [бульба]. Завельцы Астр. *Прад даджом садзілі* [бульбу], *ужо храсткі былі.* Солы Смарг. *Дымка* [сорт бульбы] *рана паспявая, ае дзержацць у кашах на печкі, храсткі пусціць во такія.* Малышы Лід. *Бульбы з храсткамі паеш — толькі дзяржысь!* Пацаўшчына Дзятл. *Флянсавала храсткі ружовкі.* Старыя Трокі Трак. *Храсткі ў бульбы, у гурках.* Навасёлкі Лід. *Храсткі пусцілі, пахрасціліся гуркі, нада садзіць на граду.* Багушэвічы Бярэз., Пасека Ст.-Дар. *Храсткі ў бураках цененькія абразаюць.* Гемзы Шальч., Лука Нараўк. *Картошка парошшы, нада храстке абіраць.* Парэчча Гродз. *Храстке — як пачынае расці картофля.* Вострава Маст. *Калі прарастая картопля, то называюць храстке. Насенё храсток пуская.* Старое Сяло Зэльв.

ХРАСТО'К II, ХРЫСТО'К *м. анат.* Храсток. *Храсток у лычы.* Рыбчына Віл. *Храсток дай мне, я буду есці.* Воўкуш Ліпск. *Так упав, што аш хрыстка в руціэ зламав.* Курашэва Чыж.

ХРАСТО'К III *м. анат.* Крыж. *Храсток пячэ о тут.* Пацаўшчына Дзятл.

ХРАСТО'Ў *прым.* Пра масць іградьных карт. *Ідзе храстоў кароль.* Номікі Бабіц.

ХРАСТО'ЧАК *м. памянш.* да х р а с т о́ к II. *Як храсціцца* [бульба], *то беленькія храсточкі, пасадзіш і апходзіць.* Кіралі Шчуч. *Храсточак доўгінькі. Картоплі храсточкі пусцілі.* Старое Сяло Зэльв.

ХРАСТЫ' *мн.* Тое ж, што і х р а с т о́ к 1. *Храсты — бульба пахрасцілася, парасла.* Жылі Іўеў. *Бульба пусціла храсты.* Дэгшні Шальч. *Храсты памёрзнуць у бульбы.* Ісерна Слуц. *Храсты пусцілі гуркі.* Гемзы Шальч.

ХРАСТЭ'ТЭ *незак. экспр.* Есці. *Кынь голоднюській солому храстэ.* Дзмітравічы Кам.

ХРАСЦІ'ЦЦА *незак.* Пускаць парасткі. *Картопля храсціцца.* Засецце Дзятл. *Картопля хросіцца, пуская храсткі, усё насене хросіцца.* Альхоўка Лях. *Картошка храсціцца, з гэтых ямачак вылазяць храсточкі.* Баброўнікі Гарад. *Храсціліся гурке.* Вострава Маст.

ХРАСЦІ'ЦЬ *незак.* Прарошчваць. *Храсцяць буракі.* Рыбчына Віл. *Калісьці храсцілі бульбу: паложыш у хаце, яна парасце, і гэтай парой ужо будзе.* Завельцы Астр. *Хросцяць агуркі, буракі і жыта хросцяць, а потым сушаць, меляць і саладуха смачна ўда-*

*еца.* Жылі Іўеў. *Я храсціла насенё. Завяжа насенё ў лапінку, памочыць і паложыць у цепло месца і гуркі, буракі пусцяць храстке, насенё будзе хрэшчаноё. Хрэсцяць і агурке, і гарбузэ.* Старое Сяло Зэльв. *Гарбузікі храсціла ў міскі.* Масілавічы Сл. *Храсціла буракі.* Тухавічы Лях.

ХРАШЧЫ′ *гл.* ХРУШЧЫ′ II

ХРО′БАСТ, ХРО′БУСТ, ХРО′ПУСТ *м.* 1. Тое ж, што і х р а б ў с т. *Хробаст расце пры балоці, яго рэжаць, вараць квас, ядуць з картошкай, очань вкусна, смятаны дабаўляюць.* Солы Смарг. *С хробасту мы і халаднік варылі.* Граўжышкі Ашм. *Хробаст свіням збіраюць.* Плябанцы Ашм., Пацаўшчына Дзятл. *Некалі хадзілі збіралі хробаст, яго свіні елі, ён па балоці рос. Зельё для скаціны: лебяда, свярэпа, канапелька, малачай, хробаст, елка, чабор.* Міратычы Карэл. *Хробуст варылі і елі ў вайну. Хробуст па сенажаці расце і ў лузе, лісця шырокая, як у асоце, і калюшчыя — балотная трава.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лістке хробуста зубаценькія. Бабы, ідзімо на хробуст! Хробуст укісне — і смачна. Хробуст набяром, у цэбар яго, ён укісне, туды цыбулькі і зробім храбостку.* Кіралі Шчуч. *Ёсць лух, у лузя капуста, хробуст ш шырокімі лістамі, як стары — нават калючы, свіня ядуць добра.* Белы Бераг Іўеў. *Хробуст расце кустамі.* Бакшты Іўеў. *Хробуст свіням рвём, шырокія лісты. Хробуст свіня добра ядуць, шырокі ліст, расце, дзе ні сухо.* Малахоўцы Бар. *Хробуст расце у балацянках, у мокрых мястах, дзе вада, ён лапушысты, яго рвалі свінням.* Рудня Астравітая Чэрв. *Хробуст па балоці рос.* Альхоўцы Лях. *Хропуст крохкі такі, сочная трава.* Рудня Астравітая Чэрв. *Хропуст крохкі пры бары ў балоці расце.* Вецярэвічы Пух. 2. Рэвень. *Хробаст, што кампот вараць, квасны.* Крэва Смарг.

ХРО′МКАЦЬ *незак.* Есці з хрустам. *Свіні хромкаюць костачкі.* Грыкені Шальч.

ХРОНТ *гл.* ФРОНТ

ХРОП *м.* Храп. *Хроп такі стаіць.* Валеўка Навагр.

ХРО′СНАЯ МА′ЦІ, ХРО′СНА МА′ТКА, ХРЭ′СНАЯ МА′ЦІ, МА′МА *ж. устар.* Хрышчоная маці. *Хросная маці мая.* Солы Смарг. *Хросна матка купляя кашульку, шапачку, полкі і адзіялка — укруціць дзіця.* Кіралі Шчуч. *Хрэсная маці купіла касюмчык.* Завельцы Астр. *Мая хрэсная мама гаворыць: «Ідзі за Юзіка».* Індра Красл.

ХРО′СНІК *м.* Хрэснік. *У мяне было многа хроснікаў.* Магуны Паст.

ХРОСТ *м. абрад.* Хрышчэнне. *Куплялі кашульку на хрост* [хрышчэнне]. Жылі Іўеў. *Дзіця вазілі до хросту.* Альхоўцы Лях., Ністанішкі Смарг.

ХРУ′ЛЯ *ж. зневаж.* Худая карова. *Каліась казалі: «Купі ў міне хрулю!»* Мсцібава Ваўк.

ХРУМЕ′ЛЬ *м.* Цвёрдая частка ліста капусты. *Хрумель вы-*

*ражаць на капусных лістах.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *krūmelis* 'асноўная частка чаго-н.'

ХРУМЕ'ЛЬЧЫК *м. памянш.* да х р у м е́ л ь. *Хрумельчык выражаць з лісця.* Малі Астр.

ХРУМЛІ'НА *ж.* Тое ж, што і х р у м е́ л ь. *Хрумліну трэба зразаць.* Малі Астр.

ХРУ'МСТ *м. анат.* Храсток кончыка хваста. *Хрумст у хвасце, у канцы хваста.* Малі Астр. ▽ *Калі ніжэй калена хрумст — карова малочная.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *krumslȳs* 'сустаў касці'.

ХРУ'МСТАЦЬ *незак.* Хрусцець. *Хрумстая гурок.* Ёдупка Шальч.

ХРУ'МСТКІ, ХРУ'МСКІ *прым.* Які хрусціць. *Свіня* [грыбы] *есць, яны чорныя, як зварыш — чорныя і хрумсткія, і смашныя. Груздэ — хрумсткія, здаровыя і харошыя.* Кіралі Шчуч. *Хрумсткі падасінавік.* Бакшты Іўеў. *Рыжыкі — хрумскія грыбэ.* Збляны Лід.

ХРУМСТО'К *м.* Крыж. *Хрумсток у мяне балеў цэльны тыдзень.* Гемзы Шальч.

ХРУ'МСЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да х р у́ м с т к і. *Звары кусок галавэ, смашна мяса з галавэ, хрумсценькая, як храсток.* Кіралі Шчуч.

ХРУМСЦЬ *выкл.* у знач. *вык.* Адпавядае знач. дзеяслова *хрумсцець.* Адкусваць. *Ужо ладная была, гліну ела. Бывала стыдаюся, у кяшэнь схаваю, а тады хрумсць, хрумсць.* Завельцы Астр.

ХРУМЧА'ЦЬ *незак.* Трашчаць. *Нешта хрумчыць, хромкае — як што трашчыць.* Солы Смарг.

ХРУПАЦЕ'ЦЬ *незак.* Хрустаць. *Бульбу перат печчу палажыць, яна зарумяніцца і хрупаціць на зубах.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХРУ'ПАЦЬ *незак.* Есці што-н. цвёрдае. *Хру́пая бульбу карова.* Рудня Астравітая Чэрв. *Што там хрупаеш?* Курашэва Чыж.

ХРУПАЦЯ'СТЫ *прым.* Хрусткі. *Хрупацясты хвораст* [кулін. хрушчы]. Рудня Чэрв.

ХРУСТ *зб. м.* Ламачча, галлё. *Хруст палім.* Быстрыца Астр.

ХРУСТА'ЛКІ *мн. бат.* Трускалкі. *Павязу прадаваць хрусталкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ХРУ'СТКАЦЬ *незак. безас.* Хрустаць. *Ідзём нагамі, у калене хрусткаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХРУ'СТНУЦЬ *зак.* Хруснуць. *Хрустнула мне што-та ў грудзях.* Ахрэмаўцы Брасл.

ХРУСТЫ' I *мн. бат.* Грузды. *Хрусты ў нас ні растуць, у нас рыжыкі, радовачкі.* Завельцы Астр.

ХРУСТЫ' II толькі *мн. кулін.* Хрушчы. *Хрустоў напякла.* Старыя Смільгіні Воран. *Хрусты пяклі: цукер, жаўткі, смятану, соду кладуць, а даўней былі больш крохкія без смятаны і соды.* Завельцы Астр.

ХРУШЧА́Й *м. бат.* Лугавы хвошч. *Хрушчай, як хвошч, хрушчай ломіцца. Сено с хрушчаем.* Хатынічы Ганц.

ХРУШЧА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і х р у п а ц е́ ц ь. *Гарох хрушчыць на зубах, не варыцца, цвёрдая вада.* Рагулішкі Даўг. *Хрушчыць гурок.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ХРУШЧЫ́ I *мн.* Тое ж, што і х р а б о́ н ш ч. *Хрушчы — жукі, а ні грып.* Дакудава Лід. *Хрушчы, як вечар, яны лятаюць.* Зблянны Лід. *Была, ідзем патрасем клён, хрушчы падаюць.* Кіралі Шчуч. *Хрушчы выніклі, іх ціпер німа. Хрушчы вывеліся.* Мсцібава Ваўк.

ХРУШЧЫ́ II, ХРАШЧЫ́ *мн.* Тое ж, што х р у с т ы́ I. *Хрушчы — белы грыб, малако цячэць з яга, як разломіш.* Саланое Віл. *Хрушчы — белыя добрыя грыбы.* Солы Смарг. *Свінні зверху сівыя, хрушчы падобныя* (на свінні). Солы Смарг. *Храшчуов ціелы кошык назбірала.* Курашэва Чыж.

ХРУШЧЫ́ III *мн.* Тое ж, што і х р у с т ы́ II. *Хрушчы пяклі.* Крэва Смарг.

ХРЫБЕ́Т, ХРЫБЁТ, ХРЫ́БЯТ, ХРАБЕ́Т *м. анат.* 1. Пазваночнік у жывёлы, рыбы. *У каждого хрыбёт: у нас, у каровы.* Баброўнікі Гарад. *Хрыбёт скрывіўся.* Магуны Паст. *Хрыбёт у каня.* Сакаляны Сакол. *Косць мекая ў храбце ў гэтай рыбы.* Месянцы Брасл. 2. Спіна. *Сумку за хрыптом пру.* Буды В.-Дзв. *Хрыбет баліць, пайду прылягу.* Рыбчына Віл. *Хрыбёт баліць.* Гайна Лаг. *Хрыбят баліць.* Каўняны Гродз. 3. Хіб. *На хрыпце сала грубое.* Завельцы Астр. *Хрыбет нашай каровы белы.* Гемзы Шальч.

ХРЫБЕ́ЦІНА, ХРЫБЯ́ЦІНА *ж.* 1. Мяса з хрыбетнай косцю. *Хрыбяціну павеся і вісіць, а есці няма каму, вісіць, пака рабакі не з'ядуць.* Солы Смарг. 2. Тое ж, што і х р ы б е́ т 2. *У міне хрыбеціна ўся мокрая.* Лісна В.-Дзв. *Хрыбяціна баліць.* Вялікія Баяры Шчуч., Каўняны Гродз., Альхоўка Навагр. 3. Тое ж, што і х р ы б е́ т 3. *Сала тоўстая на хрыбяціне.* Навасёлкі Лід. 4. Цела чарвяка. *Гэты чарвяк з дзерава ідзе, хрыбяцінай пакручвая.* Кіралі Шчуч.

ХРЫБЯ́ТНАЯ, ХРЫБЯ́ТНА, ХРЫБЯ́ТНЯ КОСЦЬ, ХРЫБЯ́ТНЯ КОСТКА, ХРЫБЕ́ТНАЯ КОСЦЬ, ХРЫБЁТНА КОСЦЬ *ж.* Тое ж, што і х р ы б е́ т 1. *Уся хрыбятная косць баліць.* Гемзы Шальч. *Хрыбятна косць — ад галавы і да нох. Хрыбятня косць. Шпік у хрыбятняй косці.* Кіралі Шчуч. *Хрыбятня костка.* Солы Смарг. *У хрыбетнюю косць коль-коль-коль — так баліць.* Перабродзе Міёр. *Хрыбётна косць баліць мне.* Сакаляны Сакол.

ХРЫ́ПА *ж. мед.* Грып. *Я на хрыпу захварэла.* Парэчча Гродз.; *гл.* г р ы́ п а.

ХРЫПАТУ́НКА *ж.* Тая, якая мае хрыплы голас. *Твая жонка хрыпатунка.* Баброўнікі Гарад.

ХРЫПАЦЕ́ЦЬ *незак.* Хрыпець. *Хрыпаціць у грудзях, граюць, як гармонікі пяюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Можа, хворы ты,*

*чаму ў грудзях тваіх хрыпаціць?* Галубы Маст. *Хрыпаціць у грудзях.* Альхоўцы Лях.

ХРЫПА'ЧКА *ж. мед.* Хрыпата. *У людзей бывае хрыпачка ад бранхіту.* Баброўнікі Гарад.

ХРЫПЕ'ЦЬ, ХРЫПІ'ТЫ *незак.* 1. Тое ж, што і х р ы п а ц е́ ц ь. *Хрыпіць у грудзях.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Кіралі Шчуч. *Хрыпіць і хрыпіць дзіця, і дактары кажуць, што гэта хрыпы. Цяпер у мяне не хрыпіць, а хрыпела і па спіне, і па грудзях.* Завельцы Астр. *Хрыпіт у грудзях.* Лука Нараўк. *Хрыпыть в грудюх.* Сіманавічы Драг. 2. *перан.* Трашчаць. *Гэта талерка пабіта, і яна хрыпіць. Пастукай, як яна хрыпіць!* Кіралі Шчуч.

ХРЫ'ПКА *ж.* Тое ж, што і х р ы п а́ ч к а. *Пэрэмэрс, і хрыпкі достав.* Курашэва Чыж.

ХРЫПЛЯ'К *м.* і *ж. зневаж. У* каго хрыплы голас. *Хрыпляке ўсе, ня пеўчыя. Хрыпляк ты, а не спявачка!* Кіралі Шчуч.

ХРЫПТ *м.* Тое ж, што і х і б 2. *Сабака паставіў хрыпт.* Рыбчына Віл.

ХРЫСТІЕ'НЕ *н. царк.* Хрышчэнне. *Хрыстіене одложымо на тыждэнь.* Курашэва Чыж.

ХРЫСТАВАЛО'ЎШЧЫКІ *мн. абрад. устар.* Валачобнікі. *Хрысталоўшчыкі хадзілі на Вяліканне.* Лісна В.-Дзв.

ХРЫСЦІ'НЫ, ХРЫСТІ'НЫ толькі *мн. царк.* Хрэсьбіны. *На хрысціны прыяжджалі много гасцей: і швагрэ, і браты, і сёстрэ.* Кіралі Шчуч. *Хрысціны, як хрысцяць дзіця, а адведзіны, як бабы ідуць і дзіця не хрышчана.* Лука Нараўк. *В нэдіелю поіедэмо на хрыстіны, моя дочка кумою будэ.* Курашэва Чыж.

ХРЫСЦІ'ЦЬ *незак. царк.* Хрысціць. *Кусок пасцілкі адарве і ў ім да Хрыста вязе хрысціць.* Слабада Мін. *Я іх не хрысціў — не знаю, як зваць.* Дэгшні Шальч.

ХРЫЧ *м. лаянк.* Стары чалавек. *Старый хрыч каршэіць на печкі.* Рагулішкі Даўг.

ХРЫШЧО'НА *ж.* у знач. *назоўніка.* Хросная маці. *Хрышчона сказала.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хрышчона, ні еш там!* Кіралі Шчуч.

ХРЫШЧО'НАЯ МА'ТКА, МА'ЦІ, МА'МА, ХРЫШЧО'НА МА'ЦІ *ж.* Тое ж, што і х р о́ с н а я  м а́ ц і. *Я хрышчоная матка ў дзесяцярых была, на пасху сто яек нада было аднесці.* Збляны Лід. *Хрышчоная маці шкадавала мяне.* Гальшаны Ашм. *Хрышчоная мама.* Міратычы Карэл. *На васэлі была мама хрышчоная.* Стральцы Шальч. *Мая сястра хрышчона маці іхняму хлопцу, і так яны ні мірна жывуць.* Малахоўцы Бар.

ХРЫШЧО'НКА, ХРЫШЧУО'НКА *ж. абрад.* Кавалак ільнянога палатна, які дорыцца дзіцяці ў час хрышчэння. *У нас палатно на хрышчонку даюць.* Баброўнікі Гарад. *Як хрыстят дітя, то светят хрышчуонку.* Курашэва Чыж.

ХРЫШЧО'НЫ *м.* Хроснік. *Ніколі яйкі не ясі, трэба ш хрышчоным разнесці.* Збляны Лід.

ХРЫШЧО'НЫ БА'ЦЬКА, БА'ЦЬКО *м. устар.* Хросны бацькі-

ка. *Як дзіця хрысцілі, быў хрышчоны бацька.* Збляны Лід. *Хрышчоны бацько ў нас.* Смаляніца Пруж.

ХРЫШЧО'НЫЯ у знач. *назоўніка мн.* Хросныя бацькі. *Некалі нам хрышчоныя тры яйкі прынясуць.* Збляны Лід.

ХРЫШЧО'НЫЯ БАЦЬКІ' *мн.* Тое ж, што і х р ы ш ч ó н ы я. *Трэба было добрых хрышчоных бацькоў падабраць, бо дзіця бывала ўдаецца па хрышчоных бацьках.* Гемзы Шальч.

ХРЫШЧЭ'ННІК *м.* Тое ж, што і х р ы ш ч ó н ы. *Хрышчэннік мой у армію атпраўляўся.* Саланое Віл.

ХРЭБЯ'ТНІЦА *ж.* Тое ж, што і х р ы б é т 2. *Баліць мне хрэбятніца.* Бабро**ў**нікі Гарад.

ХРЭ'ЗЬБІНЫ, ХРЭ'СЬБІНЫ толькі *мн. абрад.* Гулянне з выпадку хрэсьбін. *Хто меў вазможнасць — хрэзьбіны робіць.* Чуркі Ашм. *Хрэзьбіны гуляюць.* Завельцы Астр. *У час хрэсьбін бабу возяць на баране, на калясцы, яна трымае графін воткі і закускі і дае ўсім выпіць.* Кіралі Шчуч. *Калі бяседа якая: хрэсьбіны ці вяселля, пілі аднэй чаркай, елі з адной талеркі.* Слабада Мін. *Зюнік на хрэсьбіны егдзіў наказываць.* Валеўка Навагр.

ХРЭ'КІ *гл.* ХРА'КІ

ХРЭ'НІНА *ж.* Адно каліва хрэну. *І хрэніну, бывала, лажыла.* Кураполле Паст.

ХРЭНЬ, ХРЭН *м. бат.* Хрэн. *Хрэнь кладуць у гуркі, як солядь.* Дзяніскавічы Ганц. *Што ты трэш, хрэнь?* Пацаўшчына Дзятл. *Столькі хрэну, расце ўсюды.* Стральцы Гродз. *Сырватку і стакан хрэну і піць на паўстакана: гэта лечацца ат тубаркулёзу.* Завельцы Астр.

ХРЭ'СБІНІКІ *мн. абрад.* Удзельнікі хрэсьбін. *Сабраліся хрэсбінікі і васэльнікі.* Малі Астр.

ХРЭ'СНАЯ *ж.* у знач. *назоўніка.* Тое ж, што і х р ó с н а я м á ц і. *Хрэсна мая саўсім асляпла.* Валеўка Навагр.

ХРЭ'СНАЯ МА'ЦІ *гл.* ХРО'СНАЯ МА'ЦІ

ХРЭ'СНІЦА *ж.* Хросніца. *Хрэсніца мая прыехала.* Рагулішкі Даўг.

ХРЭ'СНЫ БА'ЦЬКА *м.* Тое ж, што і х р ы ш ч ó н ы б á ц ь к а. *Ёсць хрэсная мацi і хрэсны бацька.* Завельцы Астр.

ХРЭ'СТАВІНА *ж.* Тое ж, што і х р а с т ó к III. *Мне хрэставіна баліць.* Рагулішкі Даўг.

ХРЭ'СЦЫ толькі *мн. царк.* Хрышчэнне (свята). *Хрэсцы — свята па раждж**а**стве.* Гальшаны Ашм.

ХРЭСЦЬ *м.* Масць ігральных карт. *У мяне хрэсць козырны.* Валеўка Навагр.

ХРЭШЧ *м.* Храсток. *Мой паляц аброшшы нейкімі хрэшчамі.* Ністанішкі Смарг.

ХРЯ'КІ толькі *мн.* Тое ж, што і х р á п а III. *Хрякі на дарозе паймірзаныя.* Мішневічы Шум.

ХРЯ'ПА *гл.* ХРА'ПА I, II

ХРЯСЦЫ' *мн.* Тое ж, што і х р а с т ó к III. *Хрясцы баляць.* Мішневічы Шум.

ХСЦІ́НЫ толькі *мн.* Тое ж, што і х р о с т. *На хсціны што пяюць?* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *chrzciny* 'тж'.

ХТО *займ. пытальны і адносны. Хто тут старэйшы?* Швэды Вільн. *Хто шмат наткаўшы і напраўшы палатна, то клалі шмат тубаў. Хто скора робя, а хто марудна.* Завельцы Астр. *Як хто хацеў, так і ткалі. С саломы хто ўмеў сплесці капалюш.* Васілевічы Гродз.

ХТО-ТО *займ. неазначальны.* Нехта. *У кустах хто-то крычыць.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *кто-то* 'тж'.

ХТОСЬ *займ.* Тое ж, што і х т о-т о. *Як хтось спевае, то цянеш ты.* Васілевічы Гродз. *Хтось такі прасцяк?* Буйвіджай Вільн. *Хтось свецііў батарэйкаю пэрэд самым светом.* Вялікі Краснік Пруж. *Хтось говоріт чужэй.* Дзмітравічы Кам. *Хтось ідэ.* Радастаў, Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *ktoś* 'тж'.

ХТО́СЬЦІ *займ.* Тое ж, што і х т о-т о. *Хтосьці зачаравау — вузел завязаў у жыця.* Старыя Смільгіні Воран. *Хтосьці купіў той плуг.* Васілевічы Гродз. *Ляціць хтосьці.* Старыя Трокі Трак. *Хтосьці прышоў.* Номікі Бабіц.

ХУВА́ЦЦА *гл.* ХАВА́ЦЦА І

ХУ́ДА *безас.* у знач. *вык.* 1. Пра дрэннае самаадчуванне. *Худа стала, верна глісты, пад грудзямі забалела.* Лісна В.-Дзв. *А мне аш худа. Як стала худа, то вырвіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Худа стала, начало худзіць, сліну клубам гоніць.* Ёдлавічы Брасл. *Худа стала пад грудзьмі. Яму худа і худа, і начало рваць.* Кураполле Паст. *Худа робіцца, на ваніты берыць, чалавек ванітуіць.* Малькуны Ігн. 2. Непрыемна. *Худа мне ат вашай рыбы. Што ты гаворыш, худа слухаць.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* руск. *худо* 'тж'.

ХУДАБРА́ЗЫ *прым.* Хударлявы. *Твар быў худабразы, чорны.* Ухвала Круп.

ХУДАЕ́ДЛІВЫ *прым.* Пераборлівы. *Такі худаедлівы.* Пацаўшчына Дзятл.

ХУДАЕ́ЖЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і х у д а ё д л і в ы. *Худаежлівы ён, высах, як шчэпка.* Магуны Паст.

ХУДАЕ́ЖЫ *прым.* Тое ж, што і х у д а ё д л і в ы. *Такі худаежы хлопец, бяда з ім.* Пацаўшчына Дзятл.

ХУДАРЛЯ́ВЫ *прым.* Тое ж, што і х у д а б р а́ з ы. *Хударлявая ты, табе лёхка.* Чычалі Швянч.

ХУДАРЫ́БА *ж.* і *м. экспр.* Той, хто х у д а р л я́ в ы. *Як худы чалавек, яго так хударыба прызываюць.* Парэчча Гродз.

ХУ́ДАСА *ж.* Мяцеліца. *Худаса — ґуды кажуць як бура, завіруха, завея.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* к у́ д а с а.

ХУДАШЧА́ВЫ, ХУДОШЧА́ВЫ *прым.* Тое ж, што і х у д а б р а́ з ы. *Худашчавы чалавек.* Завельцы Астр.

ХУ́ДЖАЙ *прысл. выш.* Больш. *Худжай баюся цяпер сабак.* Альхоўцы Лях.

ХУДЗЕ́НЬКІ *прым. памянш.* да х у д ы́ 1. *Віш, ён худзенькі, а яна глаткая.* Збляны Лід.

ХУДЗІ́ЗНА *м.* і *ж. экспр.* Той, хто вельмі худы. *Худы, ах ты*

*худзізна!* Вялікія Баяры Шчуч. *Худзізна ты!* Старое Сяло Зэльв. *Худзіна ты, есці нада много.* Стральцы Гродз. *Ну і худзіна конь!* Быстрыца Астр.

ХУДЗІ́ЦЬ *незак. безас.* Нудзіць. *Худзіць міне сягоння, сліну гнала.* Ёдлавічы Брасл. *З'ела кашкі, стала худзіць. Неяк стала худзіць, нудзіць пад грудзьмі.* Валынцы В.-Дзв.

ХУДЗЯ́К *м.* Тое ж, што і х у д з і́ з н а. *Худзяк ты!* Вялікія Баяры Шчуч.

ХУДКІ́ *мн. кулін.* Халадзец. *Пуд вэсіелэ наварылі худок і напэклі пірога.* Курашэва Чыж.

ХУ́ДНУТІ *незак.* Худзець. *Куонь захворуэв і начав худнуті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *chudnąc* 'тж'.

ХУДО́БА *ж.* 1. Рагатая жывёла. *Трэба ш столькі худобы дзяржаць!* Ісерна Слуц. *Уліцу размясілі худобай.* Рудня Марымонава Лоеў. 2. Худы конь. *Яму далі худобу, што возяць ваду, паехаў дурны.* Дзесятнікі Валож.

ХУДО́БІНА *ж.* Тое ж, што і х у д з і́ з н а. *Худобіна ты!* Кіралі Шчуч.

ХУДО́ЖНЫ *прым.* Вялікі, тоўсты. *Художны кусок хлеба атломіць і есь.* Кураполле Паст.

ХУДОШЧА́ВЫ *гл.* ХУДАШЧА́ВЫ

ХУДУНЫ́ *гл.* ХАДУНЫ́

ХУДУШЧА́ВЕНЬКІ *прым.* Тое ж, што і х у д з е́ н ь к і. *Ян малец худушчавенькі.* Юркава В.-Дзв.

ХУДЫ́, ХУДЭ́Й *прым.* 1. Тонкі, хударлявы. *Худая маладая была.* Быстрыца Астр. *Я хачу, кап худая была.* Дэгшні Шальч. *Яна худая, толькі скура ды косці.* Рагулішкі Даўг. *Малы быў худы-худы, як жагар.* Малі Астр. *Худы быў мушчына.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Худэй, як рак.* Дзмітравічы Кам. *Каля худога абляцеў скора, а каля грубога пакуль абойдзеш.* Малі Астр. 2. Няўкормлены. *Худая карова — адны косці.* Ёдлавічы Брасл. *Худая карова і галодная.* Завельцы Астр. *Худы паршук.* Вялікія Баяры Шчуч. *Закалолі кабана і свінку, алі худыя былі.* Лоск Валож. *Сіляўка саўсем худая.* Збляны Лід. *Ёрык* [ёрш] *стары, худы.* Валеўка Навагр. ▽ *Конь худы, дык хоць куды: пастаў хоць дзе — ніхто не ўкрадзе. Хто будзе красці благога каня.* Ёдупка Шальч. 3. Нятлусты (пра мяса). *Худоя мяса.* Магуны Паст., Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Худоя* [мяса]. *У мяне сланіна ёсць, а худога няма.* Малі Астр. *Адно худоя мяса ў кумпяку.* Старыя Смільгіні Воран. *Худое менса, не жырнае, поснае, без тлушчу.* Старыя Трокі Трак. *Любім мясо толькі худое.* Мсцібава Ваўк. *Кап худую скварку хоць меў.* Лоск Валож. *Худая мяса.* Малькуны Ігн. 4. Няўгноены. *У нас худая зямля, на худой зямлі нічога не расцець.* Малькуны Ігн. 5. Пусты (пра зерне). *Зернятка худыя, гэдакія плоскія.* Міратычы Карэл. 6. Невялікі, тонкі (пра кавалак хлеба). *Ці худы кусок дала хлеба?* Кураполле Паст. 7. Недаважаны. *Худы кілаграм — як ні даважаць.* Пасека Ст.-Дар. ◇ *Худое слова* — благое слова. *Мае дзеці ні слова худога*

*не скажуць.* Валынцы В.-Дзв. *Ніхто ня чуў ад яга ні худога слова ні добрага.* Груздава Паст.

ХУДЭ́БЗА *м.* і *ж.* Тое ж, што і х у д з і з н а. *Худэбза ты!* Навасёлкі Свісл.

ХУДЭ́ЗНЫ *прым.* Вельмі худы. *Буў худэзный чоловік.* Дзмітравічы Кам.

ХУЖЭ́Й *прысл. выш.* Горш. *Пры вадзе яшчэ хужэй.* Валеўка Навагр.

ХУЖЭ́ЙШЫ, ХУ́ЖАЙШЫ *прым. выш.* Горшы. *Тут харошая зерне, тут — хужэйшая.* Солы Смарг. *Головкі — хужайша кудзеля.* Хатынічы Ганц.

ХУ́КАЦЬ *незак.* Выдыхаць паветра з сілай. *Хукай у рукі.* Стральцы Гродз. *І хукалі на яго, і дзьмухалі, вадою атлівалі, і што ня рабілі — добра змёрс.* Гарэлец Пух.

ХУЛІ́ЦЬ *незак.* Няславіць. *Нельзя хуліць.* Перабродdзе Міёр.

ХУЛЮРЫ́ЦЦА *незак.* Злаваць. *Бацькі хулюрацца, ня хочуць, кап іна гуляла з ім.* Валынцы В.-Дзв.

ХУНТ *гл.* ФУНТ

ХУ́РА *гл.* ФУ́РА

ХУРАВА́ЦЬ *незак.* Рызыкаваць.*Сын хураваў, хураваў — і папаўся.* Бакшты Іўеў.

ХУРАЖЫ́Р *м.* Фураж, корм. *Хуражыр для коні бралі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХУРДЗІ́ЦЦА *незак.* Сварыцца. *Хурдзіцца матка на міне.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ХУ́РКАЦЬ *незак.* Мур̌каць, варкатаць. *Хуркая кот, хурну пяе, як ласкаяш яго. Кошка хуркая, ідзі, не хуркай!* Рудня Астравітая Чэрв.

ХУ́РМАН *гл.* ФУ́РМА́Н

ХУРНА́ *ж.* ◇ *Хурну пець* (пра ката) — ціха вурчаць. *Кот хурну пяе.* Рудня Чэрв.; *гл.* к у р н а́, к у р н я́.

ХУ́РСТАЦЦА *незак.* Шавяліцца. *З раніцы чуць хадзіла, а цяпер хурстаецца.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ХУ́РТАВІНА *ж.* Бура. *Такая хуртавіна ўсхадзілася!* Стайкі Барыс.

ХУ́РТКА *ж.* Куртка. *Хуртку новую купіла.* Саланое Віл.

ХУРТО́ВІНА, ХУРТАВІ́НА *ж.* Хвароба. *Хуртовіна такая ходзіць!* Азяраны Раг. ∇ *Кап на цябе хуртавіны якой!* Вецярэвічы Пух.

ХУРЧА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і х у́ р к а ц ь. *Хурчыць і хурчыць кошка.* Ухвала Круп.

ХУ́СТА *ж.* 1. Хустка. *Бабушка і мама мая казалі «хуста», а цяпер платок.* Вострава Маст. *Хусту ні завязала. Благенькая хуста.* Дакудава Лід. *Хусту завяжы на галаву, прастудзісся.* Беразіно Докш. *Бяз хусты паехала.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хусту купіла.* Старыя Смільгіні Воран. *Хусты былі шоўкавы.* Валеўка Навагр. *Хусту белую завяжа.* Багушэвічы Бярэз. *У мяне поўна*

*хустаў.* Парэчча Гродз. 2. Вялікая хустка, якой акрываюцца. *Хусты грубыя накрывацца, а на галаву ценькія хусткі.* Завельцы Астр.

ХУ'СТАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да хустка 1. *Надзька, купі хустачку!* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Насавая хустачка. *Пятнасце капеек — і куплю хустачку, з носа цячэ.* Канюкай Вільн.

ХУ'СТКА, КУ'СТКА *ж.* 1. Тое ж, што і хуста 1. *Хустка на галаву.* Мярэцкія Глыб., Васілевічы Гродз., Рудня Астравітая Чэрв. *На галаву ценькія хусткі.* Завельцы Астр. *Ідзе яна, махае хусткай.* Кухты Віл. *Дзе ш мая кустка?* Паляцкішкі Воран. *Я вазьму хустку.* Сакаўшчына Валож. *Дзве грубыя хусткі завязаўшы.* Дэгшні Шальч. *Дай хустку на галаву завязаць.* Рагулішкі Даўг. *Гэтыя хусткі перамый.* Мыто Лід. *Чаравік занясеш да касцёла ў хустцы ўвязаны.* Васілевічы Гродз. *Завязала п хусткоў і цяплей было п.* Пацаўшчына Дзятл. *Мала хусток.* Жылі Іўеў. 2. Тое ж, што і хуста 2. *Маю вельку хустку.* Парэчча Гродз. *Апратвацца ніёмко хусткóю — цёпло, лето.* Хатынічы Ганц.

ХУ'СТКА-ЎКРЫВА'НКА *ж.* Тое ж, што і хуста 2. *Хустка-ўкрыванка с кутасамі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ХУ'СТЫ *зб.* толькі *мн.* Бялізна. *Нада хусты мыць. Хусты — старэйшыя гаварылі.* Ёдлавічы Брасл. *Даўней казалі: «Хусты, кашулі нада мыць».* Вузла Мядз. *Калісь мама і баба Зося кажуць: «Хусты мыла».* Паляцкішкі Воран. *Хустэй многа. Хусты — сподняя адзежа: кашулі, порткі.* Лоск Валож. *Сёння хусты мыла, паласкала.* Солы Смарг. *Давай памый хусты.* Кіралі Шчуч. *Усё сабіраецца разам і называяцца хусты. Нада хусты памыць.* Гемзы Шальч. *Нада хусты памыць і пасушыць.* Рагулішкі Даўг. *Хусты занасіла.* Альхоўка Навагр.

ХУ'СЦЯ, ХУ'СЦЕ *зб. н.* Тое ж, што і хусты. *Намачу хусця і буду мыць.* Сакаляны Сакол. *Гэта хусця памыла.* Крынкі Крын. *Пайду хусця мыць.* Навадворцы Васільк. *Хусце асталосо на дажджэ.* Кнышэвічы Бабіц.

ХУТ *м. міф.* Змей, чорт. *Хут — змей. Яму хут нанасіў грошы. Даўней гаварылі, што хут прыходзіў. Во, гэта яму хут нанасіў. Даўней гаварылі, што быў хут, золата панёс. Цяпер няма ні хутоў, ні зданняў тых.* Рыбчына Віл.

ХУ'ТАР *гл.* ФУ'ТАР

ХУ'ТКІ *прым.* Завішны, быстры. *Хуткі ў робоце.* Калясное Міхалк.

ХУ'ТКО *прысл.* 1. На працягу кароткага адрэзка часу. *І хутко прыедзе Ядзя? Хутко прышла з магазіна.* Мсцібава Ваўк. *Хутко ты управылась.* Дзмітравічы Кам. 2. У хуткім тэмпе. *Ідзе хутко, спяшаецца некуды.* Дзяніскавічы Ганц. *Ідзеце, ідзеце і прыхоцце хутко.* Ялова Пруж. *Хутко прыбех.* Навасёлкі Свісл. *Хутко не ўмею рабіць. Ена хутко робіць, рукі ходзяць як машына.* Мсцібава Ваўк. *Я роб'ю всэ хутко.* Смаляніца Пруж. 3. У хуткім часе. *Забывая хутко.* Навасёлкі Свісл. *На ум нэ збэ-*

*жыт так хутко.* Смаляніца Пруж. *Хутко родыцця дытэна.* Дзмітравічы Кам.

ХУТЫРНА'Я ЗЯМЛЯ' *ж.* Зямля, падзеленая на ўчасткі. *Зямля была палосная, патом хутырная зямля.* Мельнікі Лудз.

ХУТЭ'РКА *ж. памянш.* Футра. *Катора хутэрка павалочаная сукном, звалі павалаканка.* Груздава Паст.

ХУ'ХАЦЬ *незак.* Цяжка дыхаць. *Хухаіць ходзячы.* Груздава Паст.

ХУХВА'ЙКА *гл.* ФУФА'ЙКА

ХУХРА'К *м.* 1. Кныр. *Хухрак прыбех да свіні.* Кураполле Паст. 2. *перан. зневаж.* Стары чалавек. *Хухрак ён: худзенькі, старанькі, як карчок.* Кураполле Паст.

ХУЦЬ, ХУЧ *гл.* ХОЦЬ

ХУЧЭ'Й, ХУЧЫ'Й *прысл. выш.* Хутчэй. *Хучэй ідзі!* Крынкі Крын. *Дождатіса бы хучый сынка. Служыт ешчы ў арміі.* Лукомір Бярэз.

ХУ'ШЧЫ, ХУ'ШЧІЙ, ХУ'ШШЫ *прым. выш.* Горшы. *Есць зярно хушчае, з гірсіцай, первае — даляко ляціць, а з гірсіцай бліска.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сыстра хушча еі.* Дзмітравічы Кам. *Хушшая зямля аўсом засявалася, дзе ўнавожана — рож, ячмень.* Месянцы Брасл.

ХУШШО' I *прысл.* Тое ж, што і хужэй. *Сянне яму хушшо, чым учора.* Мачаск Бярэз.

ХУШШО' II у знач. *назоўніка.* Горшае. *Усё, што хушшо, дзецям дае, злыдня!* Мачаск Бярэз.

ХЦІ'ВІЦЦА *незак.* Квапіцца. *Яны хцівіліся, каб узяць боляй.* Кудзялянцы Шальч.

ХЦІ'ВЫ *прым.* Сквапны. *Ён хцівы быў: грошы у падушачку лажыў.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *chciwy* 'тж'.

ХЫ'БА *гл.* ХІ'БА

ХЫРЭ'ЦЬ *незак.* Чахнуць. *Хырэе, хырэе — да не ўмірае.* Галубы Маст.

ХЫ'ШНЫ *прым.* Драпежны. *Анагда бывая судак перы мая, хышная рыба.* Быстрыца Астр.

ХЭНЬЦЬ *ж.* Жаданне, ахвота. *Што за хэньць выпіць?!* Малі Астр. *Хэньць у бабы ест да квятаў: і саджу, і паліваю.* Гемзы Шальч. *Бяс хэньці пайшоў ён на гэта гулянне.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *chęc* 'тж'.

ХЭ'ЎРА *ж. груб.* 1. Кампанія, група. *Ні я адзін, нас хэўра была, і паехалі перад царскай вайной у Францыю.* Ракаўскія Швянч. *У іх такая хэўра, што не разбіць.* Кальнішкі Шальч. 2. Сябры. *Чалавек у яе лецех — гэта не яе хэўра.* Вецярэвічы Пух. *Ён мае хэўру сваю.* Дэгшні Шальч.

# Ц

ЦАБАЛКА′ *ж.* Сцябло травяністых раслін. *Яжджар расце кустом, асака, тоўстая цабалка, ліст, як на асаке, толькі шарокі.* Мішневічы Шум.

ЦАБЛУ′К *м. рыб.* Вобад у рыбалоўнай снасці. ∇ *Вымак, бы цаблук, мокры, бы цаблук, вымак, што цаблук. Выдзюжыў дошч — вымак, бы цаблук. Выдзюжыў дошч мяне, як ішла картоплю капаць — мокрая, бы цаблукі.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* к а б л у́ к.

ЦАБУ′ЛЬКА *ж. памянш.* да ц а б у́ л я. *Ідзі цабулькі атшчыпні, укропу!* Валынцы В.-Дзв.

ЦАБУ′ЛЯ *ж.* Цыбуля. *Цабуля яшчэ зялёная.* Лісна В.-Дзв.

ЦАБЭ′РАК, ЦЭБЭ′РАК *м.* Невялікі цэбар. *У цабэрак маленькі памыі злівалі.* Дакудава Лід. *С цабэрка кароваў паілі.* Ракаўскія Швянч. *Цабэрак кап не рассохся!* Ністанішкі Смарг. *Цабэрак такі быў, завязавалі пасцілку ці трапку, вар лілі на попел — луг рабілі.* Вузла Мядз. *Ойцец цэбэрка зрабіў.* Баброўнікі Гарад.

ЦАВІНА′ *ж.* 1. Сцябліна. *На картоплях, на памідорах цавіна здаравенна. Ня відна і цавіны ў тым зеллі.* Кузьмічы Люб. 2. *пер*а*н.* Ручка, чаранок. *Цавіна ў етага нажа.* Мельнікі Лудз.

ЦАҐА′Н *м.* Чыгун, гаршчок. *Ідзі пастаў гэты цаґан!* Рыбчына Віл. *Вашчыны ложацъ у цаґан і кіпяцяць трыццаць мінут, тады ў торбачку ўліваецца, сцякае.* Саланое Віл. *Пырсня вады ў цаґан.* Бакшты Іўеў. *У яго і цаґан чысты, і варэнне зварыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Тры цаґаны звару бульбы, і ўсё разойдзяцца.* Асавец Віл. *Хвашчом бяз ёлачкі добра цаґаны чысціць.* Быстрыца Астр. *Куды палезла ў цаґаны!* Альхоўка Навагр.; *гл.* с а ґ а́ н (з тур., крым-тат. *sahan* 'блюда'. Фасм. III, 543).

ЦАҐАНО′ЧАК *м. памянш.* да ц а ґ а́ н. *Цаґан — вялікі, а цаґаночак — малы.* Рыбчына Віл.

ЦАГАНЫ′ толькі *мн. устар.* Тры калочкі, на якіх падвешвалі калыску на полі ў час жніва. *Дайней бралі цаганы — тры палкі — і вешалі люльку на цаґаны.* Ухвала Круп.

ЦАГА′НЬЧЫК *м.* Тое ж, што і ц а ґ а н о́ ч а к. *У цаганьчыку каву варылі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЦАГЕ′ЛАК *м. памянш.* да ц а г л і́ н а. *Цаґелак брыкету. Брыкет робяць на фасон цаґелак.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *cegiełka* 'тж'.

ЦАГЕ′ЛЬНЯ *ж.* Прадпрыемства, дзе вырабляюць цэглу. *Была цаґельня, там рабілі цэґлу.* Рыбчына Віл.

ЦАГЛІ′НА *ж.* Асобная адзінка цэглы. *Адна цагліна ўпала.* Беразіно Докш.

ЦАГЛІ′НКА *ж. памянш.* Драбок, кавалачак. *Цаглінка цукру.* Номікі Бабіц.

ЦА́ДЖАНЫ *дзеепрым.* Цэджаны. *Малако не цаджана.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦАДЗІ́ЛАК *м.* Цадзілка. *Шукаю цадзілак, малако трэба працадзіць.* Малахоўцы Бар. *Цадзілак з мэрлі зрабіла ў чатыры столкі.* Дакудава Лід. *Цадзілак з мэрлі малако цэдзім.* Кіралі Шчуч. *Павесь цадзілак, хай высахня!* Вялікія Баяры Шчуч. *Калісь былі гушчэйшыя цадзілкі.* Баброўнікі Гарад.

ЦАДЗІ́ЛКА *ж.* і *н.* Тое ж, што і ц а д з і л а к. *Цэдзім млека праз цадзілку.* Старыя Трокі Трак. *Цадзілку з мэрлі рабілі.* Солы Смарг. *Пашыла цадзілку.* Лайпушкі Ігн. *З простага дзелалі палатна: апстрыжэць, абрубіць — і цадзілка, яна зажаўцеіць.* Рагулішкі Даўг. *Вазьмі дроў, кіпяці цадзілку!* Валынцы В.-Дзв. *Цадзілка млека цадзіць.* Гемзы Шальч. *Цадзілка робяць з марлі ў шэсць столак.* Ракаўскія Швянч. *Цэдзім млека праз цадзілка.* Магуны Паст. *Прас цадзілка цэдзяць малако.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЦАДЗІ́ЦЬ *незак.* 1. Прапускаць праз што-н. для ачысткі. *Праз цадзілку малако цэдзім.* Буды В.-Дзв. *Бёрыш мэрлячку і цэдзіш малако.* Солы Смарг. *Яна цэдзя малако.* Лоск Валож. *Рабілі аўсяны кісель, цадзілі тры раза.* Навасёлкі Лід. *Начоўкі былі для мёду, у начоўкі на рэшата цадзілі мёт.* Валынцы В.-Дзв. *З палацённага даўней адрэжаць кусок і цэдзяць малако.* Завельцы Астр. 2. Аддзяляць што-н. ад вадкасці. *Ужо картошка будзіць зварана, буду цадзіць.* Ністанішкі Смарг. *Нада ўжо картофлю цадзіць.* Гемзы Шальч. *Буду цадзіць ужо картошку — ужо зварылася.* Кудзялянцы Шальч. *Цаджу грыбы, зліваю вадой с соляй.* Солы Смарг.

ЦАДО́ВЫ *прым. кулін.* Прыгатаваны з цэду. *Цадовыя бліны пяклі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦАЛ *м.* Цаліна. *Цал, дзе пожня была, а цяпер сеюць.* Мачаск Бярэз.

ЦАЛАВА́ЦЦА *незак. перан.* Ласкава абыходзіцца, няньчыцца. *Ня буду з ей цалавацца, няхай сама займаецца!* Рыбчына Віл. ∇ *Цалуючыся век не пражывеш.* Валынцы В.-Дзв.

ЦА́ЛАСЦЬ *ж.* Цэласць. *Тут у цаласці пакінулі гаспадарку сваю: куры, гусі, свіня.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *całość* 'тж'.

ЦАЛЁВЫ *прым.* Роўны даўжыні адной цалі. *Цалёвыя найцянейшыя дошкі, а двацалёвыя — грубыя.* Завельцы Астр. *Тут трэба ўбіць цвек цалёвы.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *calowy* 'тж'.

ЦАЛІ́К *м.* 1. Тое ж, што і ц а л. *Там жа цалік, ты не ўварэш.* Беразіно Докш. *Ужо пагорана, няма цаліка.* Альхоўка Навагр. 2. Неўзаранае поле. *Гарох, боп і лубін сеюць па цаліку. Па цаліку сей!* Саланое Віл. 3. Агрэх. *Калі плуг не захваця і не пераверня зямлю, тое месца называюць цалік.* Ухвала Круп. *Цалік пакінуў — плуг адскочыў, не ўзяў, не перавярнуў.* Пацаўшчына Дзятл. *Многа цаліку пакідаў і скажуць — многа агрэхаў*

*пакідаў.* Саланое Віл. *Німа цаліка, як гараць трактарам.* Альхоўка Навагр. *Як гаруць і не зачэплена плугам — цалік.* Збляны Лід. *Вот нядобра арэ, пуская цалікі.* Рыбчына Віл. 4. у знач. *прысл. цалікóм.* Неўзараным. *Кусок гароду цаліком ляжыць.* Саланое Віл. 5. Заснежаная і нераз'езджаная дарога зімой. *Паехаў па цаліку.* Малахоўцы Бар. *Паехаў па цаліку, па снягу.* Альхоўцы Лях. *Снех выпаў, дарогі німа, трэба ехаць па цаліку.* Кіралі Шчуч. *Па цаліку паехаў.* Пасека Ст.-Дар. *У цалік паехаў па снягу, следу німа.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦАЛІНА' *ж.* 1. Тое ж, што і ц а л і к 2, 5. *У цаліну пасаджу картошку. Як жыта сажнуць, перазімуя і содзіцца ў іржэўнік.* Рудня Астравітая Чэрв. *А дзе ш я паеду ў цаліну, па снягу.* Рыбчына Віл. 2. Цалінныя землі. *Яна і на цаліну з'егдзіла.* Лоск Валож. *Дануся уехаўшы на цаліну.* Месянцы Брасл.

ЦАЛКАВА'Я ЯЕ'ШНЯ *ж.* Яечня з цэльнымі жаўткамі. *Цалкавая яешня была.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЦА'ЛКАМ *прысл.* У лупінах (пра бульбу). *Цалкам бульбу варылі і лупілі.* Пярэкі В.-Дзв.; *параўн.* польск. *całkiem* 'зусім, цалкам'.

ЦАЛКІ' *прым.* Цэльны, непакрышаны. *Зварыла цалку бульбу.* Старыя Смільгіні Воран.

ЦАЛКІ' *мн.* Друзачкі бульбы ў кашы. *Як таўчэш кашу і не стаўчэцца добра, кажуць: «Во цалкоў многа!»* Завельцы Астр.

ЦАЛКО'ВЫ *прым.* Вараны [пра яйцо]. *Елі цалковыя яйкі.* Саланое Віл.

ЦАЛКО'М *прысл.* 1. Тое ж, што і ц á л к а м. *Цалком вараць бульбу, не скрабуць.* Магуны Паст. 2. Нераздробленымі кавалкамі. *Ён не жуе, а глытая цалком.* Кіралі Шчуч. *Цалком есць, хватая.* Альхоўцы Лях. 3. Суцэльнай часткай. *Цалком бальку цягнуў.* Ёдлавічы Брасл.

ЦА'ЛЫ *гл.* ЦЭ'ЛЫ

ЦАЛЬНІ'К *м.* 1. Тое ж, што і ц а л і к 2. *Цальнік ломяць і ў загон гаруць. Глыбока гаруць, як ломяць.* Рыгалаўка Ліпск. *Цальнік нааралі.* Быстрыца Астр. 2. Тое ж, што і ц а л і к 3. *Ён няўмеіць араць — цальнік пакідаў.* Ёдлавічы Брасл. *Араў дрэнна, цальнікі пакідаў.* Магуны Паст. 3. Тое ж, што і ц а л і к 5. *Снех выпаў, па цальніку паехаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Еду ў цальнік.* Быстрыца Астр.

ЦАЛЬНЯ'К *м.* 1. Тое ж, што і ц а л і к 2. *Часць узараў, а палову цальняку пакінуў.* Старыя Смільгіні Воран. *Цальняк ляжыць, ніхто не гарэ.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і ц а л і к 3. *Няўмеў гараць, пагараў на цальнякі.* Гемзы Шальч. 3. у знач. *прысл. цальнякóм.* Уцэла, па заснежанай дарозе. *Завеяна было, ехаў цальняком.* Старыя Смільгіні Воран. *Цальняком паехаў, ніякога следу не было, чуць даехаў.* Гемзы Шальч.

ЦАЛЮ'ТКІ *прым.* 1. Увесь, ад пачатку да канца. *Цалюткі дзень кармі, паі, глядзі гусі, качкі.* Кіралі Шчуч. *Цалютку ноч не спала.* Мсцібава Ваўк. *Адзін цалютку ноч хроп.* Валеўка На-

вагр. *Я ездзіла цалютку зіму.* Баброўнікі Гарад. 2. Жывы, непаранены. *Неяк прайшоўся ўсе тры вайны, і цалюткі астаўся.* Дабрынёва Дзярж.

ЦА′ЛЯ *ж.* Мера даўжыні, роўная 2,54 см. *Плашчакі — шырокія бярвёны, восям цаль.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *cal* ’тж’.

ЦАЛЯ′К *м.* 1. Тое ж, што і цал. *Дзе якая горка, цаляк узарэ, не ўродзіць.* Жылі Іўеў. 2. у знач. *прысл. уцаля́к. Уцэла капаць лапатай. Не распахаў баразну, уцаляк капаю бульбу.* Гемзы Шальч.

ЦАЛЯ′ЦЬ *незак.* Цэліцца. *Ён цаляў яму ў галаву, ды не папаў.* Альхоўцы Лях.

ЦАМАНТО′ВЫ *гл.* ЦЫМАНТО′ВЫ

ЦАМБРАВІ′НА *гл.* ЦЭМБРАВІ′НА

ЦАМЭ′НТ *гл.* ЦЫ′МАНТ

ЦАМЯНТО′ВЫ *гл.* ЦЫМАНТО′ВЫ

ЦАНА′ *ж.* Цана. *Той год цэны павысіліся на парасят. Давадзі да точнай цаны!* Месянцы Брасл. *Бывала, перад летам цёнгля падымаецца цана на хлеп.* Кіралі Шчуч. ◊ *Цаны́-ме́ры нет* — вельмі дарага. *Як тата кажыць — цаны-меры нет.* Буды В.-Дзв.

ЦАНДАЛЕ′Й *гл.* ЦЫМБАЛЕ′Й

ЦАНІ′ЦЬ *незак.* 1. Дорага ацэньваць; даражыць чым-н. *Даўней цанілі зямлю.* Грыкені Вільн. 2. *перан.* Паважаць каго-н., даражыць. *Як будзіш добрым, то і людзі цябе будуць цаніць.* Солы Смарг. *Такі друг, я цаню яго.* Месянцы Брасл.

ЦАНТАБО′Р *м. цясл.* Вялікі свердзел. *Цантаборам дзірку бальшую свярлілі.* Дакудава Лід.

ЦАП *выкл.* у знач. *вык.* Цап, хваць. *Ён мяне цап за плячо.* Лоск Валож. *Сабака цап мяне за паджылкі.* Рагулішкі Даўг. *Цап — і пашоў.* ∇ *Як гультай за работу, а мазоль за руку — цап!* Малі Астр.

ЦАПАВІ′ДЛА *н.* Цапільна. *У цэпе — гэта цапавідла і біч — глаўныя часці.* Асавец Віл.: *гл.* ДАБМ, карта № 257.

ЦАПАВІ′СКА, ЦАПАВІ′СКО *н.* Тое ж, што і цапаві́дла. *Цэп — цапавіска, што ў руках трымаецца, і бужална.* Грыкені Вільн. *У цэпе — цапавіско.* Касілавічы Дзярж.

ЦАПАВІ′ШЧА, ЦЭПАВІ′ШЧЭ *н.* Тое ж, што і цапаві́дла. *Цапавішча да цэпа.* Груздава Паст. *Цэпавішчэ — за што трымаюць рукамі.* Чычалі Швянч.

ЦАПАЎЁ *н.* Тое ж, што і цапаві́дла. *У цэпе — цапаўё, што дзяржаць у руках.* Вузла Мядз.

ЦАПА′ЦЦА *незак.* Чапляцца. *Цапаецца трава за рукі.* Валынцы В.-Дзв.

ЦА′ПАЦЬ *незак.* Ляскаць зубамі, кусаць. *Са зла сабака цапая зубамі.* Альхоўцы Лях.

ЦАПІ′ДЛА, ЦАПІ′ДЛО *н.* Тое ж, што і цапаві́дла. *У цэпе цапідла, а бічоўка на рамушку прывязана.* Саланое Віл.

*Цапідла — ручка ў цэпе.* Дакудава Лід. *У цэпе е цапідло і біч.* Дзяніскавічы Ганц.

ЦАПІ'ЛНА, ЦАПІ'ЛЬНА, ЦАПІ'ЛЬНО *н.* Тое ж, што і ц а п а в і д л а. *Быў цэп і цапілна.* Азяраны Раг. *Цапілна ў цапу.* Стральцы Шальч. *Прывязваем гужык да цапілна.* Гемзы Шальч. *Цапільна — ручка ў цэпу.* Воўкуш Ліпск. *Цапільна ў цапе.* Янова Рас. *У цэпе цапільно.* Вострава Маст.

ЦАПІЛЬНЁ, ЦАПІ'ЎНЯ *н.* Тое ж, што і ц а п а в і д л а. *Цапільнё да цэпа.* Мсцібава Ваўк. *Цапіўня ў цэпе з бярозы, з елкі.* Парэчча Гродз.

ЦАПІ'ЦЦА *незак.* 1. Чапляцца за што-н. *Дзядоўнік цэпіцца да адзёжу.* Месянцы Брасл. 2. Трымацца. *Цапісь за мяне, а то ўпадзеш!* Замошша Брасл.

ЦАПІ'ЦЬ *незак.* Насаджваць. *На кручок цэпім рабачка.* Быстрыца Астр.

ЦА'ПКА *ж.* Матыка без зубцоў. *Ён маю цапку знёс.* Рагулішкі Даўг. *Я цапкай асот пазбіваю.* Валынцы В.-Дзв. *Былі цапкі без зубоў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦА'ПКАЦЬ *незак.* Матычыць. *Чаму ты буракі не цапкала?* Рагулішкі Даўг.

ЦАПКІ' *толькі мн.* 1. Прыстасаванне з жэрдак для сушкі чаго-н. *Цапкі — жэрткі ў ёўні, на іх ставілі снапы.* Мачаск Бярэз. *Снапы ставілі на цапкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *У ёўні на цапкі ставілі снапы.* Азяраны Раг. *На цапкі ставілі снапы лёну.* Гайна Лаг. *Снапы на цапкі паставіў.* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і ц а г а н ы́. *Дайней ідзеш на поле жаць і цапкі цягнеш.* Азяраны Раг. *Вопінку на цапкі, кап пясок не сыпайся ў кулубель.* Мачаск Бярэз. 3. *ткац.* Дзве дошчачкі, якія закладаюцца ў аснову красён. *Як заложаць кросна на навой, тады зацягуюць цапкі, а як снуюць, дык чыны.* Альхоўка Навагр. *Два цапкі, кап ніткі ні блуталіся, па параццы разлучаям.* Дакудава Лід.

ЦА'ПЛЯ *ж.* Чапля. *Цапля ў балоце водзіцца.* Пасека Ст.-Дар. *І цаплі, і буцяны былі. У цаплі ногі не красныя, а цёмныя, стаіць, бальшэй хвост спусціўшы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Цаплі на востраве, на Істрэ жывуць, плодзяцца цэлай арміяй там.* Чарняўскія Лудз. *Цапля прылітаіць вясной на балота.* Замошша Брасл. ∇ *Худы, як цапля.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *цапля* 'тж'.

ЦАПЛЯКІ'(Е) *мн.* 1. Ледзякі. *Цаплякі вісяць са стрэх.* Паляцкішкі Воран. *Цапляке вісяць на страсе.* Нізок Уздз. 2. *экспр.* Махры ў падоле старога адзення, ніткі матэрыялу. *У яе спадніца падраная, цаплякі па лытках б'юць.* Кудзялянцы Шальч.

ЦА'ПНУЦЬ *зак.* Хутка ўхваціць за што-н., укусіць. *Ён цапнуў мяне за нагу.* Вузла Мядз. *Цапу-лапу* — спяшацца, у спешцы збірацца куды-н. *Збірайся цапу-лапу — і запомніў* [забыўся] *ксёншку на стале.* Кудзялянцы Шальч.

ЦАПО'К *м.* 1. Жэрдка, якой умацоўвалі снапы ў час сушкі. *Снапы ставілі на цапкі і перакладвалі цапком.* Рудня Астраві-

тая Чэрв. 2. Грымацаваная жэрдка для вешання адзення. *Цапок — жэрдка ў лазні.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЦАПЫ′ толькі *мн.* Тое ж, што і цапкі 1. *У асеці цапы былі і ставілі снапы: рат хлеба і жордачку перакладзём.* Валынцы В.-Дзв. *У ёуні цапы і жэрдачкі.* Мярэцкія Глыб.

ЦАР *м.* Тытул манарха ў дарэвалюцыйнай Расіі. У выразах: *За царам, пры царэві* — у часы царызму. *За царам дзядуня служыў дваццаць пяць гадоў у салдатах, а як царыца радзіла сына, то пяць гадоў знялі.* Солы Смарг. *За царам я здала экзамен.* Дзераўное Стаўб. *Як за царам мы жылі. За царам тут кухня стаяла.* Латыгаль Віл. *Гэта было пры царэві.* Вялікі Краснік Пруж. *Жылі пры царох, пры каралёх.* Ністанішкі Смарг.

ЦАРАВА′ЦЬ *гл.* ЦЫРАВА′ЦЬ

ЦАРА′ПАЦЬ *незак.* Драпаць, драць. *Як добра выб'еш кросны* [аснову], *то не царапаіць бёрда, а так бёрда царапаіць.* Завельцы Астр.

ЦАРА′ПНУЦЬ *зак.* Драпнуць, зачапіць, закрануць. *Як апарацыю рабілі, нейкую жылку царапнулі — стала балець.* Дэгшні Шальч.

ЦАРКВА′ *гл.* ЦЭ′РКАВА

ЦАРКЕ′ЎНЫ, ЦАРКО′ЎНЫ *прым.* Які адносіцца да царквы. *Ён быў стораш царкеўны.* Лоск Валож. *Была школа царкоўная* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦА′РСКІЯ КУ′ДРЫ *мн. бат.* Палявы хвошч. Крэвені Даўг.

ЦА′РСТВА *н.* Краіна, рэспубліка, дзяржава; цёплыя краіны. *Кап па гаду пажыць у кожным царстве: у Беларусі, Літве, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, у Афрыцы, у чорных людзей, і каб гаварыць умеў усюды, во добра было п.* Латыгаль Віл. ◇ *Царства нябеснае* — неба, рай. *Дай бох ей царства нябеснае!* Кураполле Паст.

ЦАРЫ′ЗМА. У выразе: *За царызмаю* — у час царызму. *За царызмаю я ў войску, быў, цяперачы цяшка ўспомніць, як там было.* Малахоўцы Бар.; *гл.* цар.

ЦАРЫ′К *м. буд.* Вільчык. *Царык, дзе верх крышы, дзе сходзюцца крышы, дзве доскі закрываюць царык і канёк называюць.* Ухвала Круп.

ЦАЎЁ′ *н.* 1. Сцябло. *Кукуруза пайганяла цаўё роўна з чалавекам.* Кузьмічы Люб. 2. Тое ж, што і цавіна́ 2. *Цаўё зламалася ў рыдлёўцы.* Ёдлавічы Брасл. *Цаўё зрабі ў лапату новае!* Беразіно Докш. *Цаўё — ручка лапаты.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Цаўё ў етага нажа.* Мельнікі Лудз.

ЦА′ЎНІК *зб. м.* Каліўе, націна. *Цаўнік картофельны расцець.* Ісерна Слуц.

ЦА′ХАЦЬ *незак.* Ляскаць. *Воўк зубамі цахая.* Гемзы Шальч.

ЦА′ХЛІЦЬ *незак.* Ціўкаць. *Цахляць пыляняты, есці хочуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦАХО′ЎКА *ж.* Кляймо. *Цахоўка — такі малаток, былі выбіты буквы. Цахоўкай і нумаратарам білі па пне. Як няма ца-*

*хоўкі і нумаратара, то той лес ці прадоў, ці укроў.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* польск. *secha* 'тж'.

ЦА'ЦАНКА ∇ *Абяцанка — цацанка, а дурному радасць* — пра нязбыўнае абяцанне і даверлівага чалавека. Малі Астр.

ЦА'ЦКА *ж.* 1. Рэч, прызначаная для гульні дзецям. *Трэба дзецям цацак купіць.* Кіралі Шчуч. *Цацак дасі, кап гуляла дзіця.* Солы Смарг. *Дзіця забаўляецца цацкамі.* Вострава Маст. *Чы вашы то цацкі?* Дзмітравічы Кам. *Цацкаў надам дзецям, яны забаўляюцца.* Дэгшні Шальч. 2. *перан.* Добры, лагодны чалавек. *Пядзісят гадоў жыла я з мужыком; і вы думаеце цацка быў — як стукніць кулаком — лошкі ў стол паўіжджаюць і стол угнецца, а барані бох, па плічах! І ніхто з суседзяў не знаў, ці ён благі, ці добры; нікому слова не сказала, не пажалілася.* Саланое Віл.

ЦВАК *гл.* ЦВЕК

ЦВА'НЫ *прым.* Кемлівы, дасціпны, разбітны. *Хто цваны, той усюды дойдзе.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *cwany* 'хітры, спрытны'.

ЦВАРКУ'Н *гл.* ЦВЫРКУ'Н І

ЦВАТО'К *м. памянш.* да цвэт. *У саду ні цватка!* Кухты Віл.; *параўн.* руск. *цветок* 'тж'.

ЦВЕК, ЦВІК, ЦВІХ, ЦВЯК, ЦВАК *м.* Цвік. *Цвек прыбіў заніска.* Быстрыца Астр., Магуны Паст. *Цвек цалёвы.* Старыя Трокі Трак. *Трэба цвек угнаць у сцяну, завесы прыбіць. Выцягні цвек апцугамі!* Малькуны Ігн. *Бывае трохцалёвы цвек і бальшыя цвякі.* Гемзы Шальч. *Забі цвек, а то галаву праб'еш!* Магуны Паст. *Нада убіць цвек, а як многа — цвякі.* Ёдлавічы Брасл. *Быў цвек дзеравяны.* Руднікі Шальч. *У покуці убіла цвек — ручнік павесіць.* Паляцкішкі Воран. *На цвяку вісяць нажніцы.* Лоск Валож. *Цвяком прабі доску!* Ахрэмаўцы Брасл. *Цвякі табе аддам.* Саланое Віл. *Тры цвякі ўеўшы карова.* Паляцкішкі Воран. *Цвякі трэба рабіць.* Ракаўскія Швянч. *Дзеравяныя цвякі рабілі — дубовыя.* Баброўнікі Гарад. *Яна набіла цвякоў на дошку і палажыла на масток, кап ня ездзілі праз масток.* Дэгшні Шальч. *Цвякоў няма доску прыбіць.* Жодзішкі Смарг. *Дзесяць кілаграм цвякоў прывёз.* Чычалі Швянч. *Цвякамі падбівалі абзацы.* Стральцы Гродз. *Не скажа цвек, а цвік.* Гальшаны Ашм. *Ён егдзіў у Мінск, даставалі цвік, на кастылёх ходзіць.* Альхоўка Навагр. *Прабіў нагу на цвік.* Вострава Маст. *Убі цвік і павесь пальто!* Вялікія Баяры Шчуч. *Цвік заганіла у сценку.* Альхоўцы Лях. *Там цвіке не руш!* Пацаўшчына Дзятл., Парэчча Гродз. *Цвіх сагнуў, цвіхамі прыбіў, многа цвяхоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Прабіла нагу на цвяк, цвяк загнаў.* Рыбчына Віл. *На цвак вяроўку зачэпіш і крукам уеш. Цвакамі грэбінь нагнаны, пачэшаш яга* [лён]. Саланое Віл. ∇ *Сядзеў як цвік* — роўна, нерухома. Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *ćwiek* 'тж'.

ЦВЕ'НЬКАЦЬ *незак. экспр.* Надакучліва прасіць, канькаць. *Што ты цвенькаеш, адстань!* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦВЕРАЗІ'ЛАЎКА *ж.* Выцвярэзнік. *У цверазілаўку з гасціны шлі.* Граўжышкі Ашм.

ЦВЕ'РДА *гл.* ЦВЁРДА

ЦВЕРДА'ВЫ, ЦВІРДА'ВЫ *прым.* Цвердаваты. *Не даварыліся буракі — цвердавыя.* Гемзы Шальч. *Буракі цвірдавыя, не ўпрэлі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦВЕ'РДЫ *гл.* ЦВЁРДЫ

ЦВЕ'РКАЦЬ *незак.* Буркаваць, утвараць гукі, характэрныя для галубоў. *Галубок цверкае харашо.* Солы Смарг.; *параўн.* літ. *čvir̃kti* 'тж'.

ЦВЕТ I, ЦВЭТ *м.* 1. Кветка. *Смокчуць пчолы с цвіта сладасць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Садовыя і хатнія кветкі. *Белым цветам цвіце гэты цвет.* Гальшаны Ашм. *Цвяты распусціліся.* Ёдлавічы Брасл. 3. Цвіценне на дрэвах, ягадных культурах. *Што ўжо цвэту было на вішнях, а мала завязі — нешта пашкодзіла. Цвэт на яблані аб'ядаюць маёвыя жукі. З ліпы цвэту бралі пчолы мёд. Цвэту наскубу.* Саланое Віл. *Паземкі — аж бела цвету.* Плябанцы Ашм. 4. Квяцісты ўзор на тканіне. *Ткалі перабіранку ў цвяты.* Гальшаны Ашм.

ЦВЕТ II *м.* Колер, адценне колеру, афарбоўка. *Даўней вольхай красілі ў карычневый цвет.* Рагулішкі Даўг. *Баравік не аднаго цвета, як расцець пад якім дзеравам ці на пожанькі.* Валынцы В.-Дзв. *Хустка малінавага цвету.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇*І зіма, і лето — адным цветом.* Валеўка Навагр.

ЦВЕТНІ'К *м.* Агародчык, кветнік. *Тут цветнікі былі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦВЕ'ЦЦЕ *зб. н.* Кветкі. *Цвеццяя, кустоў дрыжоўніку было многа кыля дому.* Якубова Рас.

ЦВЁРДА, ЦВЕ'РДА *прысл.* 1. Мулка. *Цвёрда спаць без падушкі.* Паляцкішкі Воран. 2. Цвёрда (пра глебу). *Цверда палоць буракі.* Саланое Віл. 3. Туга. *Кітку саломы звяжа цвёрда і заткне жарало ў яме, кап картохля ні памерзла.* Слабада Мін. 4. *перан.* Бегла, выразна. *Я як прачытаю — так цвёрда, панятна ўсім, не па складах.* Слабада Мін.

ЦВЁРДАСЦЬ *ж.* Моц, шчыльнасць. *Зіма—лес болей здаровы, цвёрдасць паяўляецца, ён поўнасцю сазраваіць.* Месянцы Брасл.

ЦВЁРДЗЕНЬКА *прысл. памянш.* да ц в ё р д а 1. *Цвёрдзенька стала спаць.* Саланое Віл.

ЦВЁРДЫ, ЦВЕ'РДЫ, ЦВЯРДЫ' *прым.* 1. Які адрозніваецца шчыльнай будовай тканак; моцны, устойлівы. *Знаходзяць дубэ ў вадзе, у зямле, яны не згнілі, дуп — цвёрды.* Вострава Маст. *Арэхі цвёрдыя. Цвёрды яблык няможна ўкусіць.* Ёдлавічы Брасл. *Аднабокавае дзерава, адзін бок цвярды, крывы.* Кузьмічы Люб. *Хвошч цвярды.* Парэчча Гродз. 2. Каляны. *Новая кашуля з палатна—цвёрдая, каляная.* Завельцы Астр. 3. Недаваранны, недасмажаны. *Мяса з лася, як слаба ўтушыш — цвёрдае, як дрэва.* Цяпінцы Віл. *Буракі недапрэлі — цвёрдыя.* Вуз-

ла Мядз. 4. Чэрствы, нясвежы. *Цвёрды хлеп.* Паляцкішкі Воран. *Цвёрды хлеп, яго не ўкусіш.* Гемзы Шальч. *Хлеп чэрствы і цвёрды.* Кіралі Шчуч. *Бапка, як пастаіць, зробіцца цвёрдая, як скала. І яечня стала, як скала, цвёрдая.* Ністанішкі Смарг. *Хлеп натто цверды.* Любішчыцы Івац. 5. Ушчыльнены, нярыхлы, ссеклы. *Зямля цвёрда, як ток.* Кіралі Шчуч. *Зямля цвёрдая.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦВІ'ГЛЯ *гл.* ЦВІ'КЛЯ

ЦВІ'ГЛЯЧКА *ж. памянш.* да цвіґля. *У мушчынскія рубашкі цвіґлячкі ўстаўлялі.* Саланое Віл.

ЦВІК *гл.* ЦВЕК

ЦВІ'КІЛЬ, ЦВЫ'КІЛЬ *м. крав.* Цвікля. *Ушывалі адзін цвікіль на чатыры канты пад адну і пад другую руку ў рукаве.* Новікі Гродз. *Цвыкіль устаўлялі ў кашулі.* Жылі Іўеў.

**ЦВІ'КЛА** *гл.* **ЦВІ'КЛЯ**

ЦВІКЛЕ'НЯ *ж. кулін.* Борш, расольнік. *Буракі атпару с луской, абяру, вадой залію, старкую, цыбулькі, сметаны, і робім цвікленю.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *cvikliẽnė* 'тж'.

ЦВІКЛО'ВЫ *прым.* Які адносіцца да сталовых буракоў. *Цвікловыя буракі ў нас завуць, што ужываюць сабе есці. Цвікловыя буракі чырвоненькія, яны не растуць стаўбуном, а круглыя.* Гемзы Шальч.

ЦВІ'КЛЯ, ЦВІ'КЛА, ЦВЫ'КЛЯ, ЦВІ'ГЛЯ, ЦВЫ'ГЛА *ж.* 1. Тое ж, што і цвікіль. *Цвікля — чатырохкантовая звоначка.* Солы Смарг. *Устаўлялі цвіклю, каб шырэй рукаво было.* Вузла Мядз. *Пад рукою ўстаўляюць цвіклі, яґ бракуе матэрыялу.* Баброўнікі Гарад. *Цвіклі ўстаўлялі пат пахаю.* Зблянь Лід., Малі Астр., Кудзялянцы Шальч. *Цвікля ўшывалася ў рукаво.* Бакшты Іўеў. *Цвікля пат пахай.* Валынцы В.-Дзв., Лапічы Асіп. *Цвікля — клінок пад пахай.* Беразіно Докш. *Цвіклю ўстаўлялі пат паху.* Вострава Маст. *Як шыюць кашулю, устаўляюць цвіклі ў рукаво пад рукой.* Дакудава Лід. *Цвікля — чатырохвугольны клінок. Пат паху цвікля устаўлялася.* Малахоўцы Бар. *Сарочку шылі с цвікляю, цвіклю пат паху ўшывалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Каб люзней было, цвіклю ўстаў у рукаў.* Пацаўшчына Дзятл. *Цвіклі ўстаўлялі ў рукавы.* Старыя Трокі Трак. *Трэба ўставіць цвіклі ў рукаўцо, парвалася цвікля.* Гемзы Шальч. *Цвіклі ўстаўлялі ў рукавы.* Старыя Смільгіні Воран. *А хібя ж цвіклю цяпер робяць?* Галубы Маст. *А бабы шылі сарочкі і пат паху давалі цвіклю.* Міратычы Карэл. *Цвікла ў кашулі.* Жодзішкі Смарг. *Мушчынам шылі сарочкі і цвіклы ўстаўлялі, а на плячуках — палікі.* Рудня Чэрв. *Цвыклі ўстаўлялі ў кашулі.* Саланое, Рыбчына Віл. *Цвыкля, па-даўнейшаму, гэты самы клінок.* Гайна Лаг. *Цвыкля чатырохкантовая ўстаўлялася пат паху. Цвыклі ўшыла.* Граўжышкі Ашм. *Цвіглі ўстаўлялі ў армякі.* Саланое Віл. 2. Пахавы клін у споднях штанах. *Упярот шылі порткі споднія і ушывалі цвіклю між калошаў.* Міратычы Карэл. *У штанэ цвіклі ўстаўлялі.* Вецярэвічы Пух.

ЦВІ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Сцебануць, хвоснуць, ударыць. *Я за каргу ды як цвікнуў — ён і пакаціўся.* Азяраны Раг.

ЦВІ'ЛІК *м. памянш.* да цвікіль. *Цвілік у рукаў, у сарочку ўшывалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цвілік у рукаў пад паху ўшывалі.* Азяраны Раг. *Цвілікі ўстаўлялі ў порткі, у штаны.* Парэчча Гродз.

ЦВІЛО' *н.* Дзяржанне, ручка да чаго-н. *Паламаласё цвіло ў качаргі. Трэбо зрабіць цвіло да качарэжніка, німа як гаршка даставаць з печы.* Міратычы Карэл.

ЦВІ'ЛЫ', ЦВЫЛЫ' *прым.* Пакрыты цвіллю, запляснелы. *Цвілы хлеп дала.* Номікі Бабіц., Мсцібава Ваўк. *Цвілы атварох.* Альхоўцы Лях. *Цвілы́ сыр, цвіло́е масла.* Мсцібава Ваўк. *Цвылыя сырчыкі.* Саланое Віл.

ЦВІЛЬ *ж.* Плесня. *Цвіль на хлебе, масле, зацвіло масла, хлеп зацвіў.* Мярэцкія Глыб. *На хлебе цвіль.* Пасека Ст.-Дар. *Цвіль, як зацвітае хлеб, усэ гніе.* Смаляніца Пруж.

ЦВІНЕ'ЦЬ *незак.* Цвісці. *Цвяты цвінуць.* Старыя Трокі Трак.

ЦВІР *м.* Жвіровы пясок. Рудня Чэрв.; *гл.* жвір.

ЦВІРДА'ВЫ *гл.* ЦВЕРДА'ВЫ

ЦВІ'РКАЦЬ *незак.* Стракатаць. *Казёльчык цвіркая.* Солы Смарг.

ЦВІРКУ'Н *гл.* ЦВЫРКУ'Н I, II

ЦВІРЧА'ЦЬ *незак.* Утвараць працяглы насцярожаны гук (пры небяспецы). *Як угледзіць ката, цвірчыць верабей.* Завельцы Астр.

ЦВІРЭ'Ц *м.* Тое ж, што і цвір. Рудня Чэрв.

ЦВІСЦІ', ЦВЫСЦІ' *незак.* 1. Пачынаць цвісці, пакрывацца кветкамі, распускацца. *Яблыні цвілі, а ні воднага яблыка німа.* Парэчча Гродз. *Той гот не цвілі так добра яблыны.* Вецярэвічы Пух. *Цвісці квятке пачалі.* Кіралі Шчуч. *Лён цвіце сінім цветам.* Сакаляны Сакол. *Бульба будзя цвісці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цвіце яблына, вішня.* Гемзы Шальч. *Сад пачаў цвісці. Цвыцець і расцець пасоль, цвыцець квятка, кветкі цвытуць.* Саланое Віл. *Цвет красіва цвыцець.* Асавец Віл. *Трава есць — урочнік беленька цвыець. Свентыян і піжма жоўтым цвыюць. Цвыюць сіненькія кветачкі.* Магуны Паст. *У людзей цвітла картошка.* Рагулішкі Даўг. 2. Пакрывацца белай цвіллю, плесняй. ∇ *Цвіце зямля— грыбы будуць.* Дзяніскавічы Ганц. *Стала зямля цвісці каля краю — грыбы будуць расці. Тыя леты чашчэвікаў, зеляніц, а лісіц — аш лес жоўты, наношвалі уга!* Альхоўка Навагр. *Зямля цвіце — грыбэ будуць.* Кіралі Шчун. 3. *перан.* Быць маладым, радавацца, красавацца. *Я цвыту, як гэта квятка.* Саланое Віл.

ЦВІТУ'ХА *ж.* Выпетраны, засохлы караняплод цыбулі. *Цвітуха — пустая цыбуля праз зіму.* Чычалі Швянч.

ЦВІХ *гл.* ЦВЕК

ЦВІЦЕ'ЦЬ, ЦВЫЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і цвісці 1. *Сталі сады цвіцець. Квяты цвіцяць.* Ёдлавічы Брасл. *Як пачынае цвіцець бульба, называецца ціцівіна.* Мішневічы Шум. *Па-*

*мідоры, каторыя ніжы, тыя цвіцяць.* Валынцы В.-Дзв. *Канюшына цвіціць розавянька.* Быстрыца Астр. *Кураслеп беленькім цвіціць, як снех злезіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Крушына цвіціць.* Месянцы Брасл. *Чаромха найраней цвіціць. Чарнічнік, як цвіціць, кажуць, добра ад сахарнай балезні.* Завельцы Астр. 2. Красаваць. *Кагда рож цвіціць — барвікі есць.* Чарняўскія Лудз. *Цвіціць жыта.* Мішневічы Шум. 3. Пакрывацца водарасцю, багавіннем. *Юнь-юль цвіціць вада ў раке, очань людзі топюцца.* Валынцы В.-Дзв.

ЦВІЦІ′ЦЦА *незак.* Прасвечвацца, прапускаць святло. *Выносілася спадніца, саўсём ужо цвіціцца. Благая страха цвіціцца.* Мярэцкія Глыб.

ЦВІЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц в і с ц і 1. *Будзя цвіць піонія; ні цвіюць нарцызы.* Малі Астр.

ЦВІЦЯ′РНЯ *ж.* Кветнік, палісаднік. ∇ *Мой муж памёр, ліжаў, як ў цвіцярні, наўкола стаялі жывыя цвяты.* Солы Смарг.

ЦВІ′ЧЫЦЦА *незак.* Практыкавацца. *Салдаты цвічацца.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *ćwiczyć się* 'тж'.

ЦВІ′ЧЫЦЬ *незак.* 1. Перадаваць каму-н. веды, навыкі, звычкі, вучыць. *У школе цвічаць дзяцей.* Альхоўка Навагр. *Цвічылі добра ў арміі і ў школе.* Міратычы Карэл. *Ён людзей цвічыць.* Асавец Віл. *Яна дзеці цвічыць да мыцця.* Кіралі Шчуч. 2. Муштраваць, караць. *Абабіў рабёнка, цвічыць яго.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *ćwiczyć* 'навучаць, вучыць'.

ЦВІЧЭ′ЙШЫ *прым. выш.* Больш паваротлівы, рухавы, жвавы. *Худыя людзі цвічэйшыя, боляй рухомыя.* Дакудава Лід.

ЦВІЧЭ′ННЕ(Ё), ЦВІЧЭ′НЕ, ЦВІЧЭ′НЯ *н.* Практыкаванне, практыка, навучанне; ваенныя вучэнні. *Мы на цвічэнні былі. Салдаты атходзяць на цвічэнне.* Івашкаўцы Смарг. *Я быў на цвічэнні ў Вільні.* Галубы Маст. *Такое было цвічэне, а ён служыў у анцілерыі.* Замошша Брасл. *Неко цвічэннё было ў іх, цвічаць салдат.* Старое Сяло Зэльв. *Як вывядуць на цвічэня, так ад нас відаць было немцаў.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *ćwiczenie* 'тж'.

ЦВО′РКА *ж.* Чацвёра. *Цворка курчат асталося.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *czworo* 'чацвёра'.

ЦВУРО′К *м. заал.* Цвыркун. *Цвурок завёўся ў хаце.* Якубова Рас.

ЦВУРЧЭ′ЦЬ *незак.* Цвыркаць. *Цвурок цвурчыць у хаце пат печчу.* Якубова Рас.

ЦВЫ′ГЛА *гл.* ЦВІ′КЛЯ

ЦВЫ′КІЛЬ *гл.* ЦВІ′КІЛЬ

ЦВЫ′КЛЯ *гл.* ЦВІ′КЛЯ

ЦВЫЛЫ′ *гл.* ЦВІ′ЛЫ′

ЦВЫ′РКАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ц в у р ч э́ ц ь. *Цвыркун цвыркая. Цвыркун у ночы цвыркая, у шчэлку залезя.* Багушэвічы Бярэз. 2. Ціўкаць. *Цвыркаюць ціпляты.* Валынцы В.-Дзв.

ЦВЫРКУ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і ц в у р о́ к. *Цвыркуль за печчу сядзіць.* Мярэцкія Глыб.

ЦВЫРКУ'Н I, ЦВІРКУ'Н, ЦВАРКУ'Н *м.* Тое ж, што і ц в у р о́ к. *Расцвыркайся цвыркун — не заснуць.* Глівін Барыс. *Цвыркун пад печчу завёўся — спаць не дае.* Мачаск Бярэз. *Цвыркун — казёлчык такі.* Чуркі Ашм. *Як печ на дзеравянных запечках, то цвыркун там сядзіць.* Азяраны Раг. *Цвыркун, цвыркуны, іх после вайны было многа.* Лісна В.-Дзв., Багушэвічы Бярэз. *Цвіркун у хату папаў.* Кіралі Шчуч. *Цвіркун стаў трашчэць. Цвіркун у хату ўлес. Цяпер іх ня чуць, а было іх: як улезя — ня ведаеш, як яго выгнаць.* Жодзішкі Смарг. *Німа цяпер цвіркуноў.* Рагулішкі Даўг. *Цваркун цвурцыць.* Якубова Рас.

ЦВЫРКУ'Н II, ЦВІРКУ'Н *м. заал.* Зяблік, берасцянка. *Цвыркун цвыркая на холат.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цвіркун на дошч крычыць, гэ праціўная птушка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦВЫРЧО'К *м.* Тое ж, што і ц в у р о́ к. *Цвырчок дайней пагалоўня ва ўсіх быў у хаця.* Вузла Мядз.

ЦВЫСЦІ' *гл.* ЦВІСЦІ'

ЦВЫЦЕ'ЦЬ *гл.* ЦВІЦЕ'ЦЬ

ЦВЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц в і с ц і́ 1. *Сат пукаіць, будзя цвыць.* Магуны Паст.

ЦВЭТ *гл.* ЦВЕТ

ЦВЯК *гл.* ЦВЕК

ЦВЯЛІ'ЦЦА *незак.* Дражніцца, дражніць каго-н. *Ні цвяліся ты з дзецьмі! Вот цвеліцца, не дае спакою.* Дзяніскавічы Ганц.

ЦВЯЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Дражніць, нерваваць. *Не цвялі малога!* Ванелевічы Кап. *Ён цвяліў дзіця.* Старое Сяло Зэльв. *Не цвялі дзіця, бо будзя плакаць.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Раз'юшваць. *Сабаку пачаў цвяліць.* Дзяніскавічы Ганц. 3 *перан.* Вэдзгаць, не есці. *После добрага благое свінка цвяліць.* Мішневічы Шум.

ЦВЯРАЗЕ'ЙШЫ *прым.* Менш п'яны. *Адзін паліцыянт уцёк — ён, мусіць, быў крыху цвяразейшы.* Абрамаўшчына Смарг.

ЦВЯРДЗІ'НА *ж.* Зацвярдзелая зямля. *Тут така цвярдзіна была, не ўкапаць!* Асавец Віл.

ЦВЯРДЫ' *гл.* ЦВЁРДЫ

ЦВЯРО'ЗЛЫ *прым.* Цвярозы. *Ён цвярозлы і то можа натварыць. Я цвярозлая, а мне ў галаву даець.* Рыбчына Віл.

ЦВЯРО'ЗНЫ *прым.* Тое ж, што і ц в я р о́ з л ы. *Ён быў цвярозны.* ∇ *Што ў цвярозлага на ўме, то ў п'янага на языку.* Вузла Мядз.

ЦВЯРО'ЗЫ *прым.* Тое ж, што і ц в я р о́ з л ы. *Я троха выпіў — я цвярозы чалавек. Схавай сам, пака цвярозы быў.* Збляны Лід. *Я цвярозы весялейшы, чым п'яны.* Латыгаль Віл. *Яны цвярозыя.* Вузла Мядз. *Але ж трэба знаць, як прыняць п'янога і цвярозага.* Саланое Віл. *Я цвяроза, а ў галаве кружыцца.* Вя-

лікія Баяры Шчуч. *Ён цвярозы прыдзя, а прыдумая, як п'яны.* Дзяніскавічы Ганц. *Дайней на хрэсьбінах ці на вяселлі пілі аднэй чаркай: пакуль чарка дойдзя да паследняга, першы craнят цвярозы.* Слабада Мін.

ЦВЯТНІ'К *м.* Тое ж, што і цвіця́рня. *Дзівасіл ат сто балезней; каля гародаў расцець, дзіржаць у цвятніках.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦВЯТО'НЯ *ж.* Мянушка стракатай каровы. *Карова мая Цвятоня — уся ў плямах.* Мішневічы Шум.

ЦВЯТЫ' *мн.* Хатнія і палявыя кветкі. *Буду цвятэ полівацъ.* Парэчча Гродз. *Вясной цвятоў, як насыпана.* Ахрэмаўцы Брасл. *На лазоўцы, гэта такая канюшына, цвяты бальшыя. Пчала ідзе па цвятох.* Швэды Вільн.

ЦВЯЧО'К *м. памянш.* да цвек. *Зялезніца з набітых цвячкоў.* Магуны Паст.

ЦЕ *займ.* Цябе. *Сабака скача да це, ласціцца.* Каўняны Гродз.

ЦЕ'КА *ж.* біял. Перыяд цечкі ў ваўкоў, сабак. *Цека ваўчыная, чы воўча вяселля.* Лука Гайн.

ЦЕ'КАВАЦЬ, ЦЯ'КАВАЦЬ *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі. *Авечка цекуя, пацекавала.* Бакшты Іўеў. *Баран цекуя за вечкай.* Руднікі Шальч. *Авечка цякуя з бараном.* Рыбчына Віл.

ЦЕ'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і це́каваць. *Цекают ваўкі. Цекае сука.* Лука Гайн.

ЦЕ'КНУЦЬ *незак.* Ацякаць, набракаць. *Цекнуць ногі мае, тоўстыя парабіліся.* Альхоўка Навагр.

ЦЕ'ЛА *н. анат.* 1. Арганізм чалавека, знешні выгляд. *Я як стаў жыць, у целе ўколу не было, а ў роце—парашка.* Збляны Лід. *На целе здаровая здаецца, але ўсё хварэе.* Крэва Смарг. *Калі пухіры, прышчы на ліцэ, то у целе пабуджэнье есць.* Месянцы Брасл. ◇ *Пры целе* — здаровы. *Мы глядзім — пры целі дзіця.* Завельцы Астр. 2. Паверхня цела, скура. *Усё цела чорнае.* Гальшаны Ашм.

ЦЕЛЕ'ГА, ЦЯЛЕ'ГА *ж.* Воз, калёсы. *У целеге былі калёсы дзірывяные.* Істра Лудз. *За два годы — целегі і нет.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цялега таксама ўстроена, як тарантас: яна без ясель, ручкі карочэ ў цялеге.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *телега* 'тж'.

ЦЕЛЕГАВА'ТЫ *прым.* Мажны, тоўсты. *Яна баба целегаватая.* Вецярэвічы Пух.

ЦЕЛЕ'НЕ *н.* Цяленне. *Прэці самага целеня карова не ўставала.* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЕЛЕНІ'К *м.* Тое ж, што і цалік 5. *Па целенеку пашоў, целенікам пашоў.* Чычалі Швянч.

ЦЕЛЕПА'ЦЦА *гл.* ЦЕЛЯПА'ЦЦА

ЦЕЛЕПА'ЦЬ *незак. экспр.* Ісці. *Зра целепаць туды не хочацца.* Ухвала Круп.

ЦЕЛЕФАНАВА'ЦЬ, ЦІЛІФАНАВА'ЦЬ *незак.* і *зак.* Тэлефа-

ніраваць. *Маці ёй целефанавала.* Стральцы Гродз. *Ціліфанаваў з Гомеля.* Дакудава Лід.

ЦЕЛЕ́Ш *гл.* ЦЯЛЕ́Ш

ЦЕЛІГРА́М *м.* Тэлеграма. *Целіграм дай да мацеры! Яна адбіла целіграм.* Саланое Віл.

ЦЕ́ЛЬНАЯ *гл.* ЦЁЛНАЯ

ЦЕ́ЛЬНЫ *прым.* Нацельны, сподні. *Цельная бяльё даўней шылі самі.* Слабада Мін.

ЦЕЛЮ́ШНІК *м.* Пяколак. Грыкені Вільн.

ЦЕЛЯПА́ЙЛЫ. У выразе: *Часы-целяпайлы* — ходзікі, насценны гадзіннік. Альхоўка Навагр.

ЦЕЛЯПА́ЦЦА, ЦЕЛЕПА́ЦЦА *незак.* 1. Матляцца. *Спадніца целяпаецца на табе.* Альхоўка Навагр. *Вісіць бялізна, целяпаецца, як выдаеш карову.* Мсцібава Ваўк. 2. Хістацца, калывацца. *Зуп ва ўсе бакі целепаецца.* Галубы Маст. 3. Мільгацець. *Чорныя метачкі целяпаюцца ў вачах.* Мсцібава Ваўк.

ЦЕ́ЛЯТКО *н. памянш.-ласк.* да ц я л я́. *Целятко любіць хлепчык. Пайду паіць целятко.* Мсцібава Ваўк. *Прадалі целятко.* Вострава Маст.

ЦЕ́МАЧКУ. У выразе: *На цёмачку* — досвіткам. *Устала на цемачку, каб даткаць кросна, і даткала.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЕ́МЖАР *м.* Месца ў лесе, куды не пранікаюць прамені сонца, цемра. *У цемжары нічога не расце, які грып, ягада — усё любіць свет.* Вецярэвічы Пух.

ЦЕ́МНА *гл.* ЦЁМНА

ЦЕМНАТА́, ЦЯМНАТА́ *ж.* 1. Цемень. *На дварэ цемната такая.* Чычалі Швянч. *Такая цемната, не відаць свету.* Саланое Віл. ◇*Цемната — як у вока пальцам.* Ністанішкі Смарг. *Цемната на дворы, хоць у вока калі.* Мярэцкія Глыб. 2. Тое ж, што і ц é м ж а р. *Ёсць кусок лесу, дарога праходзіць, там елка пры елцы — і такая цемната. Цемната ў густом леся.* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Невуцтва, неадукаванасць, некультурнасць. *Даўней у вёсцы цемната была, не было школ; саветы вывучылі дзяцей.* Малькуны Ігн. *Гэта дзярэўня далёка ад горада, ну і цемната там была!* Ёдлавічы Брасл. *Бывала, спавівічам звяжа дзіцё, каб ногі ні былі крывыя—вот была цямната!* Слабада Мін.

ЦЕ́МНАЧ *ж.* Пацямненне ў час хмарнай пагоды, пахмурнасць. *Як сонца — цяплей, весялей, а то ўсё цемначэй, цемначэй гэтай — спаць хочацца.* Пацаўшчына Дзятл.

ЦЕ́МНЫ *гл.* ЦЁМНЫ

ЦЕ́МНЫ ЗУБ *м. анат.* Зуб, які знаходзіцца супроць вока. *Цемны зуб забалеў, пайду к зубному.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЕМПЕРАТУ́РА *ж.* Павышэнне тэмпературы цела пры захворванні. *Жарыла жывым агнём — цемпература была.* Пацаўшчына Дзятл. *Блузніць, калі цемпература — жара бальшая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦЕ́МРА *ж.* Тое ж, што і ц е м н а т á 1. *Велька цемра на дварэ.* Баброўнікі Гарад.

ЦЕ́МРАЗЬ *ж.* 1. Тое ж, што і цé м ж а р. *Куды ты пойдзеш! Цемразь — густы зараслік, як зойдзеш, не выйдзеш.* Азяраны Раг. 2. Тое ж, што і ц е м н а т á 1. *Вядома ж, цемразь у ночы.* Навіны Нясв.

ЦЕ́МРА-ЦЯМНІ́ШЧА *н. павел.* Вялікая цемень. *Цемра-цямнішча на дварэ.* Груздава Паст.

ЦЕ́МРАШ *ж.* Тое ж, што і цé м ж а р. *А чаго яго злая маць занесла ў тую цемраш?!* Вецярэвічы Пух.

ЦЕ́МЯ, ЦЕ́М'Я *н. анат.* 1. Цемечка ў груднога дзіцяці. *У дзіцяці цемя не зарасло; яно не гаворыць, бо яшчэ цемя не зарасло.* Кіралі Шчуч. *Цем'я ў малога зарастая.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Верхняя частка галавы, цемянная косць. *Тут цемя, а потым патыліца.* Гемзы Шальч. *Цем'я разбіў.* Рыбчына Віл. *Цем'я і віскі баляць.* Кузьмічы Люб.

ЦЕМЯШЫ́ЦЦА *незак.* 1. Чухацца. *Яшчэ ў тую вайну стаялі ў нас салдаты. Гэты ад'ютант цямешыцца, паглядзела я — а там вошы пляцёнкамі ходзяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цямешыцца і цямешыцца — ці то блохі напалі?* Старыя Трокі Трак. 2. Шавяліцца, варушыцца. *Нешта за спіной цямешыцца.* Кураполле Паст. *Глядзі: нешта там у цыганкі цямешыцца за пазухай, глядзім — пры целе дзіця.* Завельцы Астр. 3. Пераварочвацца з боку на бок, рухацца. *Ня можыць заснуць — цямешыцца.* Ракаўскія Швянч. *Ляжыць і цямешыцца на пасцелі, варочаецца, як мядзведзь.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦЕМЯШЫ́ЦЬ *незак.* Чухаць. *Даўней мама цямешыць за плечы, як плечы свірбяць.* Кураполле Паст.

ЦЕ́НЕНЬКІ, ЦЕ́НЯНЬКІ *прым. памянш.* Тоненькі. *Мы называлі мяста кудра, дзе зелень лесавая цененькая.* Дакудава Лід. *Гадзіна цененькая.* Шалкуны Даўг. *У лыцца цененькая косць ёсць.* Жодзішкі Смарг. *Снапок лёну цененькі вязалі. Буракі зараслі травой, зрабіліся цененькія. Цененькую лучыну палілі.* Гемзы Шальч. *Лучыну дралі ценянькую.* Дакудава Лід. *У размоткі ценянькія палачкі ўбівалі, каб дзяржаўся маток.* Быстрыца Астр. *У вас цененькі ланцужок.* Малі Астр. *У камароў ногі ценянькія.* Кудзялянцы Шальч. *Плаценячкі ткалі ценянькія ў клетачкі і ў пасачкі. Даўней нажутачку ценянькую надзеняш і ідзеш гуляць.* Ракаўскія Швянч.

ЦЕ́НЕТО *н.* Сеткавае палатно для рыбалоўнай снасці. *Вувязоў ценето, трэбо осаджваць волока.* Маркоўскае Лельч.

ЦЕНЖ *м.* Тое ж, што і цé н ж а. *Яна ходзя ў ценжу — з брухам замуш пашла.* Малі Астр.

ЦЕ́НЖА, ЦЁНЖА *ж.* Цяжарнасць. ◇ *У цёнжы хадзіць* — быць цяжарнай. *Еслі жэншчына ў ценжы ходзя і перажэргая вяроўку, то пупавіна на шыі дзіця будзя спутана кілька разы.* Рудніки Шальч. *Тая будзя мець дзіця, яна ў цёнжы.* Баброўнікі Гарад. *Зайсці ў цёнжу* — стаць цяжарнай. *Нядаўна дзіцё мела і зноў зашла ў цёнжу.* Кальнішкі Шальч.; *параўн.* польск. *ciąża* 'тж', *w ciąży* 'цяжарная'.

ЦЕ'НЖАР *м.* 1. Цяжар, груз. *Віндаю можна вялікі ценжар падымаць.* Лука Гайн. *Такі ценжар падняла, што аж у жываце нешта зрушылася.* Галубы Маст. *Я ценжар насіла.* Парэчча Гродз. *Такі ценжар панёс.* Пацаўшчына Дзятл. *Ценжар — цяжкі груз на возе.* Вострава Маст. *Трэба ценжар такі браць.* Пацаўшчына Дзятл. *Ценжар даху ідзе на сцены.* Баброўнікі Гарад. *Воз — без накладзенага ценжару.* Лука Гайн. *Такі ценжар не магу нясці.* Сакаўшчына Дзятл. *Гэтакі ценжар несці!* Стары Свержань Стаўб. *Гэтыя месца баляць ат ценжару.* Альхоўка Навагр. 2. Цяжкая работа. *Панапускалі свіне — ценжар, работы многа.* Кіралі Шчуч. *Усё рабіла і ні чуствавала ценжар, мне не прыставалі ніякія ценжары.* Слабада Мін. 3. *перан.* Цяжкае самаадчуванне, недамаганне, захворванне. *Ценжар на грудзях, як стопудовы камянь.* Мсцібава Ваўк. *Спаць хочацца—такі ценжар.* Гемзы Шальч., Вялікія Баяры Шчуч., Крэва Смарг. *Ценжар у грудзях.* Саланое Віл. *Зробіцца ценжар.* Бакшты Іўеў. *Ценжар напаў.* Паляцкішкі Воран. *Такі ценжар, як не мыўшыся.* Дэгшні Шальч. *Так спаць хочацца, да зямле цягня, нейкі ценжар, што не магу сядзець.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *ciężar* 'цяжар, вага'.

ЦЕНЖА'РКІ, ЦЕНЖА'РЫКІ *мн. рыб.* Грузіла. *Ценжаркі— галушкі такія з гліны, кап сетка падала на дно ракі. У брэдні былі ценжаркі.* Вузла Мядз. *Венцер без лукоў, на сподні́м шнуру ценжарыкі прычэплены.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *ciężarek* 'гіра'.

ЦЕНЖАРУ'ВКА *ж.* Грузавая машына, грузавік. *Ест таксувка, а ест ценжарувка; яна вязе ценжары.* Судэрва Вільн.; *парайн.* польск. *ciężarówka* 'тж'.

ЦЕНЖАРЫ' *мн.* Цяжкі груз. *Яна вязе ценжары.* Судэрва Вільн.; *парайн.* польск. *ciężar* 'цяжар, груз'.

ЦЕНЖА'РЫКІ *гл.* ЦЕНЖА'РКІ

ЦЕ'НКА, ЦЕ'НЬКА *прысл.* Тонка. *Кужэльная палатно ткалі ценка.* Жодзішкі Смарг. *Так ценька прадзеш!* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *cienko* 'тж'.

ЦЕ'НКІ, ЦЕ'НЬКІ *прым.* 1. Нязначны ў аб'ёме, невялікі ў папярочным сячэнні. *Бервяно бралі больш ценкая.* Магуны Паст. *У сліза ценкі хвост, а каля галавы — тоўста.* Руднікі Шальч. *У кішку грубую наліваюць, а кілбасы — ў ценкую.* Чуркі Ашм. *Ценькая расліна, атростачкі атходзяць на бак. Ценькі корань ідзе ў бок. Ценькая іголка.* Солы Смарг. *Ценькія кішкі на кілбасы.* Крэва Смарг., Дэгшні Шальч. *Бліны ценькія пяклі.* Івашкаўцы Смарг. 2. Тонкі, худы (пра часткі цела чалавека). *Шыйка ценка, худы, ценкі, мізэрны.* Паляцкішкі Воран. *У яе ценкія лыткі, як на шыпулях ходзіць.* Жылі Іўеў. *Ценькія ногі, як шыпулі.* Старыя Смільгіні Воран. *Я была ценькая.* Старыя Трокі Трак. 3. Кволы, змарнелы. *Морхва ў траве ценькая зрабілася.* Малькуны Ігн. 4. Гатунковы, дабраякасны. *Ценкія ніці з лёну.* Магуны Паст. *Кужаль ценкі.* Каўняны Гродз. *Накрыла ценкім белым*

*палатном.* Пузыры Мядз. *Ценкае валакно.* Гальшаны Ашм. *Як ценькія ніткі, то ткалі як бы ў ёлачку. На галаву ценькія хусткі купляль.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *cienki* 'тонкі'.

ЦЕ'НКНЫ *прым.* Тонкі. *Бліны ценкныя і грубыя.* Магуны Паст.

ЦЕНЦІВО' *н.* Тое ж, што і ц а в і н а́ 1. *Часнок завязвалі, куколкі рабілі па вярхох, закруціш яго ценціво.* Беняконі Воран.

ЦЕ'НШКА, ЦЕ'НШКО *прысл.* Цяжка. *Хвораму пшэжываць ценшка.* Новыя Мацалі Варэн. *Ценшко падняла і зрушыла мацішу.* Каўняны Гродз.; *параўн.* польск. *ciężko* 'тж'.

ЦЕ'НШКІ *прым.* Цяжкі. *Таке ценшке дзверы.* Паляцкішкі Воран. *Бочка такая ценшкая.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *ciężki* 'тж'.

ЦЕ'НШЫ *прым. выш.* да ц е́ н к і 1. *У вазку і палазкі ценшыя.* Беняконі Воран. *Ценшыя кішкі на кілбасы ідуць.* Новыя Мацалі Варэн.

ЦЕНЬ I *м.* і *ж.* 1. Цень. *Ад чалавека і ад будынка цень.* Ёдлавічы Брасл. *Ідзе бабуля гарбатая — і цень гэдак ідзець.* Рагулішкі Даўг. *Мой цень со мной разам ідзе.* Гемзы Шальч. *Ужо дванаста гадзіна — малы цень. Цень ад сонца падая: на ранку большы цень, а пат палудзянь — меншы.* Кіралі Шчуч. *Ужэ вялікі цень.* Альхоўцы Лях. *Спаўдня завярнуўся цень; даўней і ўрэмя ўзнавалі па цяні.* Рудня Астравітая Чэрв. *Во мой цень які, шагамі мераем, сколькі шагоў, столькі часоў.* Азяраны Раг. *Ужо позна — цень вялікая к вечару.* Вецярэвічы Пух. *Ужэ цень малая.* Крынкі Крын. *Няма ценю: сонца прама стаяла.* Ёдупка Шальч. *Як цень* — хто слабы, схуднелы пасля хваробы. *Яна сайшоўшы як цень, не мае сілы.* Паляцкішкі Воран. 2. Засень, зацень, цянёк. *У цяні нічога не расцець.* Ёдлавічы Брасл. *Я ў цяню сяджу; стаім у цяні.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзе цень вялікі, там не расце нічога. Тут німа ценю.* Дзяніскавічы Ганц. *Сонца звярнула — і стаў цень.* Солы Смарг. *У цяні халадно.* Альхоўцы Лях. *Лісточкі ў цяню сушыць.* Плябанцы Ашм. 3. Пахмурнае, дажджлівае надвор'е. *Надаела цень: кажды дзень дош.* Пераброддзе Міёр. 4. Сонечны зайчык. *Цень па хаці бегая.* Кіралі Шчуч.

ЦЕНЬ II *м.* Тое ж, што і ц е́ м я 2. *У самы цень ударыла, як дала палкай.* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЕ'НЬКА *гл.* ЦЕ'НКА

ЦЕНЬКАВА'ТЫ *прым.* Танкаваты. *Ценькавата палатно.* Магуны Паст.

ЦЕ'НЬКІ *гл.* ЦЕ'НКІ

**ЦЕ'НЯНЬКА** *прысл.* Вельмі тонка. *Талька — калі натта ценянька напрадуць.* Магуны Паст.

ЦЕ'НЯНЬКІ *гл.* ЦЕ'НЕНЬКІ

ЦЕПЕЛІ'НЫ *мн. кулін.* Калдуны. *Пачакайце, не ўставайце з-за стала, я цепеліны прынясу!* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *cepelìnai* 'тж'.

ЦЕПЕ'Р *гл.* ЦЯПЕ'Р

ЦЕ'ПЕРСЯ, ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно, значны прамежак часу. *Цеперся паехаў; цеперся сядзімо.* Альхоўка Навагр. *Цеперся пашоў, і яго няма. Пашоў зелё рваць цепярся, нашлі нежывого.* Альхоўцы Лях.

ЦЕ'ПКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц а́ х л і ц ь. *Цепкаюць курчаты.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *ciepsėti* 'тж'.

ЦЕПЛАТА', ЦЯПЛАТА', ЦІПЛАТА' *ж.* 1. Цёплае надвор'е, гарачыня. *Цеплата гэта, не магу быць на сонцы.* Солы Смарг. *Цяплата на дварэ.* Дэгшні Шальч. 2. у знач. *прысл. цеплато́й.* У час цёплай сонечнай пагоды. *Цеплатой кабан ляжаў у цяньку.* Ёдупка Шальч. ∇ *Ціплата касцей ня ломіць.* Кураполле Паст.

ЦЕПЛЕ'Й *гл.* ЦЯПЛЕ'Й

ЦЕ'ПЛІЦЦА *незак.* Паліцца (у печы), ацяпляцца. *Даўней казалі «Цепліцца печка, цепліцца асець, цепліцца лазня».* Валынцы В.-Дзв. *Тут цеплілася печ, затое ад сцяны тошча было.* Магуны Паст.

ЦЕ'ПЛІЦЬ *незак.* Паліць. *Пашла печ цепліць. Печку цепліла.* Лайпушкі Ігн. *Яна ўжо цепліць у печы.* Ракаўскія Швянч. *Нада печ цепліць. Чаму печкі ня цепліш?* Мярэцкія Глыб. *Пашла пліту цепліць. Цепліць ня буду — цёпла.* Магуны Паст. *Печ ня цепліла, бульбу вараную яшчэ маю.* Ёдлавічы Брасл. *Яна будзіць цепліць печ.* Талейкі Швянч. *Там ня цеплілі, наглуха закрыта хата.* Груздава Паст. *Мама стала печ цепліць.* Кураполле Паст. *Цепліла печ, у печы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нада лазню цепліць.* Рагулішкі Даўг. *Нада байню цепліць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пайду цепліць лазню. Нада было тую суботу цепліць лазню.* Ёдлавічы Брасл., Мярэцкія Глыб. *Цепліш лазню?* Малькуны Ігн. *Цеплілі лазню.* Быстрыца Астр. *Як зберыш гультаёў усіх, хто ня хочыць цепліць лазню.* Груздава Паст. *Як я цеплю байню, то ўсім можна мыцца.* Магуны Паст. *Нада ісці баню цепліць.* Курополле Паст. *Я баню цепліў.* Вузла Мядз. *Буду лазню цепліць.* Дварчаны Паст. *Нада было цепліць асець.* Груздава Паст. *Уночы цеплюць яўю.* Чычалі Швянч. *Цепліць восець.* Філіпаўцы Красл. *Асець цепліць.* Мярэцкія Глыб. *Восяць цепляць і лён сушаць.* Вязынка Маладз.

ЦЕРАБЕ'Ж, ЦЕРАБЕ'Ш *м.* Выцерабленае месца пад поле, сенажаць. *Касіў на церабяжы.* Лапічы Асіп. *Пашлі касіць на церабеш.* Гемзы Шальч. *Цалу дзялку выцерабілі і зрабілі церабеш, там кусты былі.* Кіралі Шчуч. *Пасеяў на пасецы, церабеш яшчэ называюць.* Солы Смарг.

ЦЕРАБЕ'ЖНІК *м.* 1. *зб.* Галлё. *Церабежнік нада спаліць.* Мыто Лід. 2. Тое ж, што і ц е р а б е́ ж. *Касіў на церабежніку.* Быстрыца Астр.

ЦЕРАБЕ'НЯ *н.* Абцярэбліванне. *Якое тваё церабеня — ты больш пакіняш аціяропкаў, як ацярэбіш.* Кіралі Шчуч.

ЦЕРАБІ'ЦЦА, ЦЯРАБІ'ЦЦА, ЦІРАБІ'ЦЦА *незак.* 1. Чухацца. *Што ты цярэбішся ўсё?* Беразіно Докш. *Свярбіць цела — ця-*

*рэбіцца.* Рыбчына Віл. 2. Абчышчаць пёры (пра курэй). ∇ *На дош куры цярэбяцца.* Вузла Мядз. *Цярэбюцца куры на дошч.* Валынцы В.-Дзв. *Куры цярэбяцца — будзя дошч.* Дарава Лях. *Куры цірэбюцца — эта на дошч.* Ласвіцкія Шум. 3. *перан.* Варушыцца, вызваляцца, вылазіць з чаго-н. *Мяшок на галаву яму накінулі, а ён церабіўся, церабіўся з яго.* Пацаўшчына Дзятл.

ЦЕРАБІ'ЦЬ, ЦЯРАБІ'ЦЬ, ЦІРАБІ'ЦЬ *незак.* 1. Абсякаць сукі, галлё з паваленага дрэва; высякаць кусты. *Лес цярэбяць; калі сосна таўстая, то атсякаюць сукі, вярхі.* Ністанішкі Смарг. *Мы церабілі пасеку, кусты выцярэблівалі.* Саланое Віл. *Луг мы церабілі, ён зарос кустарнікам.* Азяраны Раг. *Кусты цірабіць сказалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Рваць, церабіць (пра лён). *Мы кажам: «Рваць лён»,— а цяпер у калхозя кажуць: «Церабіць лён».* Груздава Паст. 3. Абчышчаць ад зямлі, лупінаў, ад дробных карэньчыкаў (пра клубні гародніны). *Цераблю цыбулю, кап не было смецця.* Крынкі Крын. *Нада буракі церабіць.* Ёдлавічы Брасл. *Пойдзім церабіць буракі!* Ністанішкі Смарг., Паляцкішкі Воран. *Ён памагаіць церабіць буракі.* Саланое Віл. *Хадзілі церабіць бураке, там бураке цярэбяць.* Збляны Лід. *Буракі цярэбюць і носяць у варыўню.* Дзяніскавічы Ганц. *Цярэбяць кручку, буракі.* Ністанішкі Смарг. *Трэба церабіць храсты ад бульбы. Церабіў бульбу, прынёсшы з склепу.* Гемзы Шальч. *Церабіць— апсекаць лісце капусты* [з качана]. Любішчыцы Івац. 4. Чухаць. *Будзеш церабіць рукі, плечы, калі свярбіць.* Груздава Паст. *Што ты галаву цярэбіш?* Ракаўскія Швянч. *Цярэбяць усё, як свярбіць.* Ністанішкі Смарг. ◊ *Церабіць вочы* — праціраць, церці вочы пасля сну. *«Уставай, мой бажок!» — Яго будзіш, а ён цярэбіць вочы: «Дайця паспаць!»* Саланое Віл. ∇ *Ранняя птушачка дзюбку цярэбіць, а позняя — вочкі.* Груздава Паст.

ЦЕРАБНУ'ЦЬ, ЦІРАБНУ'ЦЬ *зак. перан. экспр.* 1. Ударыць, пабіць, жарнуць. *Бацька церабнуў сына кнутом — і той пабег.* Скрыпчына Лудз. *Цірабнуў яе мужык.* Валынцы В.-Дзв. 2. Хутка пабегчы, уцячы. *Немцы ішлі па шашэйкі — мы цірабнулі і апынуліся на балоці.* Лісна В.-Дзв.

ЦЕ'РАЗ, ЦЕ'РАС *прыназ. з він.* Цераз. Выражае: 1. Рух папярок чаго-н. *Пан пабег за ёю з сабакамі, яна цераз рэчку бехчы.* Багушэвічы Бярэз. *Бома застаўлена цераз рэчку.* Івашкаўцы Смарг. 2. Рух паверх чаго-н. *Церас заборы скакала.* Малышы Лід. *Церас платэ ляцеў.* Міратычы Карэл. 3. Месцазнаходжанне на пэўнай адлегласці. *Яна жыве цераз дзве хаце.* Альхоўцы Лях. 4. Працэджваць праз што-н. *Церас сіту прапусціць картошку, кладуць, што п хлеп не чарствеў.* Філіпаўцы Красл. 5. Часавыя адносіны. *Пагібла баба — цераз ноч памярла.* Вострава Маст. 6. Прычынныя адносіны. Праз. *Цераз цябе і мы пагібнім. Цераз гэтых рабят пагібніш.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ЦЕ'РАМ *м.* Тое ж, што і ц ё м ж а р. *Там такі церам — ня выйці.* Мачаск Бярэз.

ЦЕРА́ЦЬ *незак.* Траціць, утрачваць. *Сукно нігды не цераеѓ фасон.* Малькуны Ігн.; *параўн.* руск. *терять* 'тж'.

ЦЕ́РКІ *мн. Церкі ідуць (пайшлі, пабеглі, бегаюць) па скуры* — пра адчуванні дрыжыкаў, азнобу ад холаду, гусіная скура. *Такі холат праняў, што аш церкі ідуць па скуры.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *ciarki* 'тж'.

ЦЕ́РЛА, ЦЁРЛО *н.* Цёрла. *Рабілі церла з гліны; церла такоя гліняна, памелеш у церлі семя — і жывы алей, мачаем картошку.* Кіралі Шчуч. *Церла з гліны рабілі.* Пацаўшчына Дзятл. *Церла было гліняная.* Навасёлкі Лід. *Гліняныя церлы былі, што мак малоць.* Вялікія Баяры Шчуч., Зבляны Лід. *Церла — гліняная міска для мака.* Данілавічы Дзярж. *У церля мак церлі.* Дакудава Лід. *Цёрло зроблено з гліны — нападобіе міскі. Усып у цёрло маку, трэба яго змяць!* Альхоўцы Лях.

ЦЕ́РЛІЦА І *ж. тэх.* Тое ж, што і ц е́ р н і ц а І. *Тэрас маю церліцу і калаўротак.* Старыя Трокі Трак.

ЦЕ́РЛІЦА ІІ *гл.* ЦЁРЛІЦА

ЦЕРМО́ЦЦЕ *зб. н.* Тое ж, што і ц е́ р м я ц ь. Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЕ́РМЯЦЬ, ЦЕ́РМЕЦЬ *ж.* Кастрыца. *Цермяць сыплецца, як труць лён.* Вострава Маст. *Кудзелю чэшуць трэці рас — пачасы, у пачасах пачці цермяці німа.* Стральцы Гродз. *Як труць лен у церніцы — цермець альбо кароста.* Крынкі Крын.

ЦЕ́РНІЦА І *ж.* Церніца. *Церніца на адзін язык, а патцярня — тры шчокі і два языке.* Міратычы Карэл. *Жменькамі ў церніцу тром, выціраям — цёрты лён с пат церніцы.* Старыя Сільгіні Воран., Каўняны Гродз., Кіралі Шчуч., Парэчча Гродз. *Лён высахне, і потым церлі на церніцу.* Малахоўцы Бар., Альхоўцы Лях., Малыя Аўцюкі Калінк. *Церніца дзераўляна, больш як пуўмэтра; церлі лён церніцаю.* Лука Гайн. *Церла церніцаю лён.* Валеўка Навагр. *У церніцу пераціраюць лён.* Баброўнікі Гарад. *Церніцы былі дзеравяныя.* Васілевічы Гродз. *Лён церлі церніцамі ўручную.* Збляны Лід., Тухавічы Лях. *Труць лён у церніцы.* Крынкі Крын.

ЦЕ́РНІЦА ІІ *ж.* Тое ж, што і ц е́ р л а. *Церніцы глінястыя былі.* Руднікі Шальч.

ЦЕ́РНУЦЬ *зак.* Шмаргануць чым-н. па якой-н. паверхні. *Дайней было бяльё саматканае, са льна; з таго, што пахужа — штаны, кашуля, у ёй кастры — як цернеш, аж кроў пакажацца.* Замошша Брасл. *Церні спічку—загарыцца спічка.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЕ́РПКІЙ *прым.* Даўкі, кіслы, вяжучы. *Мёд з верасу — найхучшый: церпкій, не такі салоткі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* руск. *терпкий* 'тж'.

ЦЕ́РПНУЦЬ *незак.* Дранцвець, нямець ад холаду, зябнуць. *Мне церпнуць рукі, што цапы зрабіліся.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* літ. *tiȓpti* 'тж'.

ЦЕ́РПЯЦЬ *незак.* Цярпець. *Трэба церпяць, адзін нічога не даб'ессь.* Магуны Паст.

ЦЕ́РТКА *ж.* Тарка. *На цертку сцер бульбу.* Лука Гайн.

ЦЕРТУХА́ *ж. кулін.* Цёртая бульбяная каша, бабка. *На кашу цертую ў нас кажуць цертуха.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЦЕ́РТЫ *гл.* ЦЁРТЫ

ЦЕРУ́К *м. заал.* Цецярук. *Вырубілі ляса — церукоў меньшы стала.* Чарняўскія Лудз.

ЦЕРУХА́, ЦІРУХА́ *ж.* Пацяруха. *Церуха ад сена.* Мішневічы Шум. *Так з'елі мышы сена — асталася мелкая ціруха.* Лісна В.-Дзв.

ЦЕ́РХНУЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц е́ р п н у ц ь. *Церхнуць рукі, як немые, як мурашкі ходзяць.* Крэва Смарг.

ЦЕ́РЦІ, ЦЁРЦІ *незак.* 1. Апрацоўваць лён церніцай. *Нада лён церці. Як трэш і астанецца невыцерты, то кажуць: «Чысты жывец!»* Вялікія Баяры Шчуч. *Будзем лён церці.* Каўняны Гродз. *Лён труць у церніцу.* Вострава Маст. *Мяліца — церлі лён.* Дзераўное Стаўб. *Ставілі лён і церлі ў сушні.* Збляны Лід. *Церлі лён церніцаю.* Лука Гайн. *Трэба лён церці ў церніцу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лён церлі на церніцах.* Малахоўцы Бар. *Церлі лён, церніца была.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Цёрлі лён, потым трапалі.* Канюкай Вільн. *Ідзе цёрці лён.* Жылі Іўеў. *Нада цёрці лён, а калі-то казалі мяць лён.* Стральцы Шальч. *Цёрлі рукамі лён.* Старыя Смільгіні Воран. *Мяльніцай цёрлі лён.* Магуны Паст., Старыя Трокі Трак. 2. Раздрабняць, малоць. *Церлі канаплі і рабілі малако.* Жылі Іўеў. *У верцесі церлі мак дзеравянным качалкам.* Лука Гайн. *Цёрлі семя і макалі картошку.* Дакудава Лід. *У цёрніцы мак цёрлі.* Жодзішкі Смарг. *У цёрліцы мак цёрлі, бывала, на куцю качалкай трэш.* Малі Астр. *Цёрлі канаплі.* Латыгаль Віл. *Перац у маждажары цёрлі.* Солы Смарг. 3. Драць. *З аднэй бульбы бапку церла.* Жылі Іўеў. *Рэцьку церлі і елі.* Мсцібава Ваўк. *Картошку на тарку цёрлі.* Рагулішкі Даўг. 4. Націраць; раніць. *Войлак у хамуце, штоб не цёр конь плечы.* Мешкінева Лудз. *Я давай дзікалонам цёрці ногі, лягчэй стала.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ЦЕ́РЦІСЯ *незак.* Церціся адно аб адно. *Рыбы труцца адзін аб адзін і пускаюць ікру і малокі.* Азяраны Раг. *Каровы, як ідуць, усе бокам труцца.* Солы Смарг.

ЦЕРЦЬ, ЦЁРЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ц е́ р ц і 1. *Церніца лён церць.* Парэчча Гродз., Кіралі Шчуч. *Церць лён не пашла.* Жылі Іўеў. *Трэба церць куль лёну.* Вострава Маст. *Цёрць лён пайду.* Ёдлавічы Брасл. *Цёрць яго трэба і прасць.* Старыя Трокі Трак. *Як высахня, лён тром.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Тое ж, што і ц е́ р ц і 2, 3. *Буду мак церць.* Кураполле Паст. *Картофлю трэба церць на тарцы, тады на патэльню і на агонь — і пякуць алаткі.* Крынкі Крын.

ЦЕРЭ́ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая трэ лён. *Якая з цябе церэльніца, ты малая!* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЕРЭ′МШЫНА *ж. бат.* Чаромха. *З церэмшыны галье ламаюць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЦЕРЭ′ПА *м.* і *ж. зневаж.* Той, хто някемлівы. *Церэпа называюць таго, хто не панімая. Эта жмудзяцкае слова.* Парэчча Гродз.

ЦЕРЭ′Я *ж.* Тое ж, што і ц е р э́ л ь н і ц а. *Церэя — хто лён трэ.* Жылі Іўеў.

ЦЕСА′К *гл.* ЦЯСА′К

ЦЕ′САНЫ *дзеепрым. буд.* Апрацаваны часаннем. *У нас бэлькі цесаны.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *тесанный* 'тж'.

ЦЕ′СЛЯ *м.* Цясляр. *Цесля — хто будуе хаты.* Грыкені Вільн. *Цесля хаты рабіў.* Быстрыца Астр. *Тады цесля рабіў хаты.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *cieśla* 'тж'.

ЦЕ′СНО, ЦЕ′СНА *прысл.* Цесна. *Там цесно, хата не велька.* Ялова Пруж. ∇ *Двум катам у мяшку цесна* — пра сямейны разлад. Вузла Мядз.

ЦЕ′СНЫ, ЦЯСНЫ′ *прым.* 1. Малы па размеру. *Бот цесны.* Лоск Валож. *Ні купляй боты — яны цясныя.* Асавец Віл. 2. Абмежаваны па плошчы. *Цеснае мейсца.* Лоск Валож. *Хатка была цясная.* Вузла Мядз. *Індыкі запіралі, як дзе цесная месца, кап не хадзілі.* Завельцы Астр.

ЦЕ′СТА, ЦЕ′СТО *н.* і *ж.* 1. Хлебнае цеста. *Замесім цеста, свежы хлеп спячом.* Груздава Паст. 2. Рошчына. *Наліваеш гэту цесту на скавараду.* Індра Красл. 3. Свіная яда, прыгатаваная з мукі і бульбы. *Трэба замяшаць цеста свіням.* Гемзы Шальч. *Цесто — мука с картошкаю для свіней. Я ўжо цестам кармлю.* Альхоўцы Лях.

ЦЕ′СТАВАТЫ *прым.* Ацеслівы. *Хлеп з закальцам, цеставаты.* Масілавічы Сл.

ЦЕСЬ, ЦЕЗЬ, ЦЕСЦЬ *м.* Бацька жонкі ў адносінах да зяця. *Тут яго цесь.* Індра Красл. *Цесь і цешча да яго прыехалі.* Магуны Паст. *Мой цесь, як родны.* Быстрыца Астр. *Стары ўжо мой цесь.* Асавец Віл. *Мой цесь яшчэ малады.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Яго цесь паехаў.* Лісна В.-Дзв., Пасека Ст.-Дар. *Цезь, бывала, гаворыць: «Разьві можыць козь* [косць] *балець?»* Ласвіцкія Шум. *Цесць захварэў.* Мярэцкія Глыб. *Цесць памагае, то даццэ, то зяцю.* Кіралі Шчуч.

ЦЕ′ТА *займ.* Гэта. *Цета сын пашоў. За цета плаціць трэба. Цета нагу перавязалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЕ′ТАЧКІ *займ. памянш.* да ц е́ т а. Такі маленькі. *Цетачкі кусочак адрэзала.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЕ′ЎКАЦЬ, ЦЁЎКАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае, лапатаць. *Ён цейкае абы-што.* Новіны Нясв. *Ходзіць і дзень цёўкае, сама не знае што.* Мачаск Бярэз.; *парайн.* літ. *čiáukoti* 'павольна есці'.

ЦЕ′ЦЕР *м.* Тое ж, што і ц е р у́ к. Істра Лудз.

ЦЕ′ЦЕРВА *зб. ж.* Цецерукі. *Цецерва — лясные серые птуш-*

*кі; яны па сухому ведуцца.* Істра Лудз.; *параўн.* руск. *тетерев* 'цецярук'.

ЦЕЦЯРУ'К *м.* Тое ж, што і ц е р у́ к. *Цецярук забалбатаў.* Пасіене Лудз. *Есць у лесе цецярук, ён па дрэве скача, балбоча.* Кіралі Шчуч. *Цецярук балбоча.* Навасёлкі Лід. ∇ *Ты, як цецярук, балбочыш.* Пярэкі В.-Дзв.

ЦЕ'ШЧА, ЦЁШЧА *ж.* Цешча. Быстрыца Астр., Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Маці жонкі мне прыходзіцца цешча. Цесь і цешча да яго прыехалі.* Магуны Паст. *Цешча зяця ня цэніць зусім.* Беразіно Докш. *Цёшча врэдная, буркліваяя, усё бурчыць і бурчыць.* Ёдлавічы Брасл. *Я цёшча майму зяцю.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* руск. *теща* 'тж'.

ЦЕ'ШЫЦЦА *незак.* 1. Любавацца, радавацца, быць у вясёлым настроі. *Мы цешымся, што яму ляхчэй.* Гемзы Шальч. *Сядзіць і цешыцца з сваей сукенкі, што красіва. Каб такі абутак, як цяпер, то цешыўся б, а то, бывала, абуіш хадакі — кандалы. Сама выбрала сынавую — няхай цяпер і цешыцца!* Малі Астр. 2. Любіць, мець пацеху. *Матка цешыцца маленькімі дзеткамі.* Ністанішкі Смарг. 3. Злараднічаць. *Такія бываюць людзі, што цешацца над людзьмі, у каго гора.* Магуны Паст. ∇ *Не цешся чужой бядзе, бо свая с тылу ідзе.* Кудзялянцы Шальч. *Не цешся чужой бедзе, бо свая прыедзіць.* Вузла Мядз.; *параўн.* польск. *cieszyć się* 'тж'.

ЦЕ'ШЫЦЬ *незак.* Весяліць, пацяшаць. *Я сама сябе цешу.* Малі Астр.

ЦЁГАЦЦА *незак. экспр.* 1. Гультаяваць, хадзіць без мэты. *Ён цёгаяцца без работы.* Малахоўцы Бар. 2. Ездзіць па свеце; валацужыць. *За цара то ў Расію, па свеці тожэ цёгаліся.* Баброўнікі Гарад.

ЦЁГАЦЬ *незак.* 1. Насіць што-н. цяжкае. *Траву цёгаюць мяшкамі. Цёгалі лён.* Валеўка Навагр. 2. Цягаць што-н. *Цёгаў барану. Ён цёгаў усё з лесу.* Міратычы Карэл. 3. Пэўным спосабам апрацоўваць (пра валакно, палатно). *Лён цёгаюць, кастрыцу гэту трэбо вычысціць.* Баброўнікі Гарад. *Жарствой пасыпаем на палатно і цёгаем.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *ciągać* 'цягаць'.

ЦЁЛАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да ц ё л к а. *Яны цёлачку пакупіўшы.* Старыя Трокі Трак.

ЦЁЛКА *ж.* Цялушка. *Гэту карову мы цёлкай купілі.* Лоск Валож. *Цёлка была ў мяне.* Гальшаны Ашм.; *параўн.* руск. т е л к а 'тж'.

ЦЁЛНАЯ, ЦЁЛНА, ЦЕ'ЛЬНАЯ *прым.* Цельная. *Карова цёлная.* Дакудава Лід. *Цёлная цялушка.* Лоск Валож. *Карова ўжо пабегала — цёлная.* Альхоўцы Лях. *Цёлная карова.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Цёлна карова.* Альхоўка Навагр. *Цельная карова.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦЁМНА, ЦЁМНО, ЦЕ'МНА *прысл.* Цёмна (у час хмарнасці, увечары, уночы; пры недастатковым асвятленні). *Цёмна так бы-*

*ло, але потым светла стала.* Солы Смарг. *Цёмна, нічога ня відацца.* Ёдлавічы Брасл. *Трэба было п ехаць вечарам у Шастакі, але цёмна. Было цёмна-цёмна.* Мярэцкія Глыб. *Вам цёмна?* Дакудава Лід. *Цёмно ў густом лесі.* Мсцібава Ваўк. *Цёмна, хоць у вока калі.* Гемзы Шальч. *Цёмна, хоць у вока ўкалі.* Альхоўка Навагр. *Цёмна-расцёмна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цёмна людзей* — надта многа. *Было цёмна людзей.* Малышы Лід. *Цёмна ў вачах* — мітусліва, мутна ад болю, стомы, хвалявання. *Нешта галава баліць, цёмна ў вачах.* Альхоўцы Лях. *Ад це́мна (цямна́) да це́мна (цямна́)* — ад раніцы да вечара. *Ён ад цемна да цемна рабіў кузняцом.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней на гаспадарцы ад цямна да цямна нада было рабіць.* Вузла Мядз.

ЦЁМНАЧЫ *прысл.* Тое ж, што і ц ё м н а. *Цёмначы прыбеглі даяркі.* Магуны Паст. *Цёмначы прышлі.* Альхоўцы Лях. *Бульбу сабіралі цёмначы.* Кузьмічы Люб. *Цёмначы рабіцьмеш. Тагды ездзілі цёмначы.* Пасека Ст.-Дар.

ЦЁМНАЯ ПЯ'ТНІЦА *абрад.* Апошняя пятніца перад вялікаднем. *Цёмная пятніца — перад паскай.* Азяраны Раг.

ЦЁМНЫ, ЦЕ'МНЫ *прым.* 1. Слаба асветлены праменямі сонца. *Завялі нас у цёмную хату.* Веркалы Пух. *Мужык сядзеў у цёмнай хаці.* Крынкі Крын. *Зайшлі мы у цёмны бор.* Талейкі Швянч. 2. Не асветлены месяцам. *Увосянь ночы цёмныя.* Кіралі Шчуч. 3. Цёмны па колеру, супрацьлеглы светламу. *Цёмная хмара ідзе — будзя дош і маланка.* Рыбчына Віл. *Бусял ясны, а чапля цёмная.* Парэчча Гродз. *Гэты ручнік тканы так: цёмны кужаль, бела бавэлна.* Вузла Мядз. *Цёмнаё плацце, бліщчастаё.* Валеўка Навагр. 4. *перан.* Непісьменны, недасведчаны. *Яна баба цёмная і задуманая, не разбіраецца ў гэтым.* Альхоўка Навагр.

ЦЁНГ *м.* 1. Цяга. *Як німа цёнгу, дровы не гараць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Няма цёнгу, нада люхты чысціць.* Магуны Паст. *Няма цёнгу ў пліце.* Старыя Трокі Трак., Галубы Маст. *Няма цёнгу, не цягне.* Пацаўшчына Дзятл. *Німа цёнгу ў печы.* Мсцібава Ваўк. 2. Скразняк. *Зачыні акно або дзверы, натта цёнг цягня.* Кіралі Шчуч. *Бакамі ідзе цёнг.* Альхоўцы Лях. *Цёнг цягня пад ногі.* Міратычы Карэл. 3. Кругавы рух вады (пра вір). *Вір, там вада круціцца, там цёнг цягня.* Кудзялянцы Шальч. 4. *перан.* Ахвота, жаданне. *Ня маю цёнгу да яго хадзіць.* Быстрыца Астр.; параўн. польск. *ciąg* 'працяг, цяга'.

ЦЁНГЛЯ, ЦЁНГЛЕ *прысл.* Пастаянна, заўсёды, увесь час. *Мне цёнгля пападая ў Тургелі ехаць.* Гемзы Шальч. *Цёнгля хадзіла ў лес.* Кіралі Шчуч. *Нашы дзяды цёнгля рабілі ўсё сваімі рукамі.* Селішчы Ашм. *Цёнгля было гэтак.* Гальшаны Ашм. *Я цёнгля раблю то тоя, то тоя. Я адмаленьця цёнгля ў гэтай рабоця. Ён у мяне цёнгля добра рабіў. Дзенны фіранкі вісяць цёнгля.* Солы Смарг. *Цёнгля сціраюць.* Дзевятні Смарг. *Мая сястра цёнгля пячэ сама.* Дакудава Лід. *Цёнгля ваду носіць.* Рыбчына Віл. *Цёнгля сам сабе гатуя есці.* Кіралі Шчуч. *Цёнгля ест якая-небудзь работа.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён быў цёнгля ў баёх.*

Пузыры Мядз. *Цёнгля наказаваюць нам, каб мы прыехалі.* Саланое Віл. *Цёнгля гэта гаворка.* Малькуны Ігн. *Цёнгля гукаіць да мяне.* Мярэцкія Глыб. *Цёнгля ён кволіцца, што ён хворы.* Альхоўцы Лях. *Цёнгля німа пагоды — і травіна не будзя расці, не толькі агурок.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *На табурэтцы мы цёнгля сядзелі.* Крэва Смарг. *Летам цёнгля сонца ў нашы вокны свеціць.* Лоск Валож. *У нас ключка цёнгля была, мяшалі ключкай.* Парэчча Гродз. *Цёнгля гэдак было.* Гемзы Шальч. *Цёнгля ні зладзяць з нявесткай.* Жыдзевічы Іўеў. *Цёнгля ходзіць на работу.* Жодзішкі Смарг. *Цёнгля бываў у іх.* Рудня Чэрв. *Цёнгле прыягджае ў госці да нас.* Галубы Маст. *Цёнгле робіць: топіць у печы, доіць каровы.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* польск. *ciągle* 'тж'.

ЦЁНГЛЯЧЫ *прысл.* Тое ж, што і ц ё н г л я. *Трэба, кап мыла цёнглячы.* Міратычы Карэл.

ЦЁНЖА *гл.* ЦЕ́НЖА

ЦЁНЛЯ *прысл.* Тое ж, што і ц ё н г л я. *Мы цёнля мачылі валнянкі. Мама цёнля казала, што там хоць што здацца.* Вузла Мядз.

ЦЁПКАЦЬ *незак.* Матычыць. *Будзе ў гародзе што цёпкаць.* Альхоўцы Лях.

ЦЁПЛА, ЦЁПЛО *прысл.* Цёпла (у хаце, на дварэ). *Мы ходзім, нам цёпла, а вы ўстылі.* Збляны Лід. *Сядзеце, не крычэце, вам цёпла!* Навасёлкі Лід. *Як цёпло, мы ходзім праз тую дзвер. Цёпло — на Світазь захацелосё.* Валеўка Навагр.

ЦЁПЛАТА *прысл.* Тое ж, што і ц ё п л а. *Еслі параハароша і цёплата — есць брусніка.* Месянцы Брасл.

ЦЁПЛЫ *прым.* 1. Пагодлівы. *Той рок была цёпла весна.* Мсцібава Ваўк. *Сонейко, цёплая вясна.* Кузьмічы Люб. *Цёплы дзень выдаўся.* Парэчча Гродз. 2. Добра ацеплены. *У нас цёплая хата была.* Рыбчына Віл. 3. Які добра ахоўвае ад холаду. *Цёплы свэдар вывязала.* Вострава Маст. ◊ *Цёплыя крылушкі мець* — быць маладым, здаровым; жыць у добрых эканамічных умовах. *Мої крылушкі былі цёплыя, то грэліса сыны і дочкі, а під крылушкамі цяпла нет — і дзеток коло мэнэ нет.* Хатынічы Ганц.

ЦЁРКА *ж.* Тое ж, што і ц е р э́ л ь н і ц а. *Цёрка — баба, што лён трэ. Набіраюць цёркаў — па баб восем.* Кіралі Шчуч.

ЦЁРЛІЦА, ЦЕ́РЛІЦА *ж.* Тое ж, што і ц е́ р л а. *Цёрліца — такая міска.* Мярэцкія Глыб. *Цёрліца, дзе труць з калапень смятану.* Беразіно Докш. *У цёрліцы мак цёрлі.* Магуны Паст. *У цёрліцы мак труць.* Быстрыца Астр. *Была цёрліца, мак цёрлі.* Ністанішкі Смарг. *Цёрліца з ручкай, у ёй масла білі: смятану атагравалі, злівалі сываратку, а густую смятану мяшалі лапатачкай абы лыжкай — і зробіцца масла. Даўней боік не зналі. Калапні цёрлі ў цёрліцы.* Рыбчына Віл. *Пякуць бапку ў цёрліцы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Цёрліцы былі, мак цёрлі.* Малі Астр. *У цёрліцы атагравалі смятану і масла рабілі. Былі цёрліцы гліняныя, мак цёрлі.* Вузла Мядз., Солы Смарг. *Церліца была, ка-*

*напліная малако рабілі, цыбулькі туды клалі.* Бакшты Іўеў.

ЦЁРЛО *гл.* ЦЕ'РЛА

ЦЁРТЫ, ЦЕ'РТЫ *дзеепрым.* 1. *кулін.* Драны; патоўчаны. *Каша цёртая, або бапка.* Вострава Маст. *Цёртыя бонды пякуць з цёртай картофлі.* Мсцібава Ваўк. *Каша цёрта.* Міратычы Карэл. *Цёрту кашу рабіла.* Крынкі Крын. 2. Раздроблены, змолаты. *Церты каноплі.* Лука Гайн. 3. Апрацаваны церніцай. *Лён церты нада трапаць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЁРЦІ *гл.* ЦЕ'РЦІ

ЦЁРЦЬ *гл.* ЦЕРЦЬ

ЦЁСАЧКА *ж. памянш.* да цёска 1. *Я нарубаў табе цёсачкі смалякаватай на патпалу.* Кіралі Шчуч.

ЦЁСКА *зб. ж.* 1. Смалістыя шчэпкі, аскалёпкі для распалу. *Як выкапаям карча, нарубаям, то гэто цёска. Нарубайця мне цёскі печ патпальваць!* Вострава Маст. *Цёска — гэта дрова дробныя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Некалі бацько насячэ цёскі і накладзе на камінку, ды прадом.* Дзяніскавічы Ганц. *Трэба нашчапаць цёскі для патпалкі дроў. З лесу прынясём смаляк — хваёвы корч, дробных паленцаў нарубаем і патпалім у печы.* Кіралі Шчуч. *Цёскі нарубаў.* Навасёлкі Свісл. 2. Лучына. *Цёска — лучынка смольна.* Навасёлкі Свісл. *Бывала, прынясеш гэдакі пук цёскі і за вечар згарыць.* Альхоўцы Лях. *Цёска — лучына, отколваем і потпальваем.* Ялова Пруж.

ЦЁСЦЬ *м.* Тое ж, што і цесь. *Бацькі жонкі мне прыходзяцца цешча і цёсць.* Дакудава Лід.

ЦЁТКА *ж.* Сястра бацькі або маткі; чужая жанчына ў адносінах да дзяцей і маладзейшых. *Ні хочаш, цётка, малаціць з намі — не?* Лоск Валож. *Пашла я да цёткі.* Гемзы Шальч. *Цётко, дай вады напіцца!* Вострава Маст. *Не крычы, цётко!* Саланое Віл. *Цётку, хай ён жэніцца!* Вострава Маст. *Мэля Садоўшчынка прыехала да цёткі.* Гальшаны Ашм.

ЦЁЎКАЦЬ *гл.* ЦЕ'ЎКАЦЬ

ЦЁЎНІЧАК *зб. м. памянш.* да цяўнёк. Націна. *Цёўнічак папускала картопля. Цёўнічак невялікі ў морквы.* Вецярэвічы Пух.

ЦЁХЦІ *незак.* Цягнуць. *Ён цёх барану.* Вецярэвічы Пух.

ЦЁЦЯ *ж.* Тое ж, што і цётка. *Цёцю, малака мне дасце?* Вялікія Баяры Шчуч. *Гэта цёця лепша за ўсех.* Саланое Віл. *Аддай цёцяй* [цёці] *ножніцы, не стрыжы штаны!* Ёдлавічы Брасл. *Іду да цёці.* Гальшаны Ашм.; *парайн.* польск. *ciocia* 'тж'.

ЦЁШЧА *гл.* ЦЕ'ШЧА

ЦІ 1. *часц.* пыт. Ці. *Цяпер ці не ў Краславе ён?* Істра Лудз. *Ці паехаў Вацюсь?* Стральцы Гродз. *Ці то ўспомніш усенютко?!* Васілевічы Гродз. ∇ *Ці яго пярун!* Буды В.-Дзв. 2. *злуч.* размерк. Або. *Ці з сена, ці з саломы. Як зарэжаш карову ці кабана.* Чуркі Ашм. *Пажыві сто ці восімдзісят гадоў.* Латыгаль Віл.

ЦІВЕНЯ'ТКІ *мн. памянш.-ласк.* Кураняткі. *У нас цівеняткі — самасеі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦІВО'СЯ *прысл.* Даўно, не цяпер, калі. *Цівося гэто было!* Вецярэвічы Пух.

ЦІВУ'Н *м. гіст.* Цівун. *Цівун такі быў, што людзей біў.* Грыкені Вільн. *Цівун у пана быў, яго прыслуга.* Дакудава Лід. *Былі ўсякія і аканомы і цівуны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦІВЯ'НІШЧА *н.* Месца, дзе рос боб. *Убранае месца с пад бобу, дзе рос боп,— цівянішча называлі.* Кураполле Паст.

ЦІГА'НЬСКІ *прым.* Цыганскі. *Ціганьска хустка — вяліка, у цвяты.* Дзяніскавічы Ганц.

ЦІГА'ШКА *м.* і *ж. асудж.* Бадзяга, валацуга. *Яе мужык цігашка быў.* Лісна В.-Дзв.

ЦІ'ГРА *ж. перан. лаянк.* Хто злы, робіць шкоду. *Вот ціграгэта, часы спорціла, ні чапайця часоў!* Кіралі Шчуч.∇ *Ругаецца стары, як ціграо.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. дыял. *cìgras,* літар. *tìgras* 'тыгр'.

ЦІЖА'Р *гл.* ЦЯЖА'Р

ЦІЖА'РНАЯ *прым.* Цяжарная. *Ціжарная баба не ходзіць на работу.* Лісна В.-Дзв.

ЦІ'ЖМА *ж. бат.* Піжма. *Ціжма ад глістоў, кагды глісты ў чалавека.* Масішкі Красл.

ЦІЖЭ'МКІ *мн.* Тапачкі. *Ціжэмкі с скуры, як лапцікі шыліся.* Солы Смарг.

ЦІКА'ВА *прысл.* Цікава. *Мне ні цікава гэта.* Саланое Віл.

ЦІКАВА'ЦЦА *незак.* 1. Пільнаваць, выследжваць, падкрадвацца. *Кошка цікуецца, як хоча зла віць мышу. Кайкі цікуюцца, цікуюцца — і курыныя яйкі з гнізда вынісуць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Нацэльвацца. *Пакуль ён міркаваў, цікаваўся атсеч галаву, я гадзіну забіла.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦІКАВА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ц і к а в а́ ц ц а 1. *Кот цікует мышў.* Рагулішкі Даўг. *Кот цікуе муш* [мыш]. Маркоўскае Лельч. *Кот цікуе, як ходзяць качкі.* Пасека Ст.-Дар. 2. Цікавіцца. *Цікавала, цікавала, дзе яна жыве.* Валеўка Навагр.

ЦІКА'ВЫ *прым.* Дапытлівы, цікаўны. *Ён цікавы чалавек: во дзе увідзіў што — ідзець даведацца.* Завельцы Астр. *Я цікавая паслухаць, бо не ўмею па-рускі чытаць.* Рагулішкі Даўг. *Цікавы быў такі наш тата. Я цікавы да ўсякай справы. Я цікавая была. Мы цікавыя былі, кап гэта папытацца.* Саланое Віл. *Цікавая была баба, хадзіла па хатах, усё ведала, што ў каго, усе сплетні.* Ёдлавічы Брасл. *Я цікавая, ці гаварыў ты што?* Малі Астр.; *параўн.* польск. *ciekawy* 'тж'.

ЦІКА'ЎНА *прысл.* Цікава. *Мне цікаўна, куды дзяўчына пабегла.* Асавец Віл.

ЦІКА'ЎНЫ *прым.* Тое ж, што і ц і к а́ в ы. *Але во які цікаўны, усё табе патрэбна знаць.* Рыбчына Віл.

ЦІКА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і ц і к а в а́ ц ц а. *Кот цікаецца да мышы.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *параўн.* літ. *tỹkoti* 'тж'.

ЦІКІНЯ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і ц і к а в а́ ц ц а. *Кот цікіняецца да птушкі. Кот цікіняецца — хоча схваціць курчо.* Ёдуп-

ка Шальч. *Каб напалохаць яе, ён так будзя цікіняцца: крадучыся на цыпачках патходзя.* Малі Астр.; *параўн.* літ. *tykinėti* 'тж'.

ЦІКУНО'К *м. памянш.* Ручаёк, ручаінка. *Цікунок — рэчка такая з балота цячэць.* Беразіно Докш.

ЦІЛІВІ'ЗАР *м.* Тэлевізар. *Як прыдуць на цілівізар, то загаворaць.* Валеўка Навагр.

ЦІЛІЗНА' *ж.*, ЦЯЛЁЗНЫ *мн. с.-г.* Агрэх, агрэхі. *Цілізна за цілізной, во як узарана, адны цялёзны, калі хто не ўмеіць араць.* Валынцы В.-Дзв.

ЦІЛІФАНАВА'ЦЬ *гл.* ЦЕЛЕФАНАВА'ЦЬ

ЦІЛІФО'Н *м.* Тэлефон. *Ідзі, да ціліфону завуць!* Валеўка Навагр.

ЦІ'ЛТА *ж. кулін.* Кісель, аўсяная каша. *Даўней цілту варылі, такая рэдкая каша с аўса.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* літ. *čilčiẽnė* 'бульбяная каша' і бел. *мілта* 'страва з аўсянай мукі'.

ЦІЛЬЦІСО'Н *м. кулін.* Сальцісон. *У трыбушок мяса кладуць — і пад камянь націскаюць.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *salceson* 'каўбаса з крыві'.

ЦІМАФЕ'ЕЎКА *ж. бат.* Цімафееўка. *На агародзе цімафееўку ён косіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦІМО'ТКА *ж.* Тое ж, што і цімафе́еўка. *Цімотка—трава салоткая.* Руднікі Шальч.

ЦІМЦЯЛЕ'Й *гл.* ЦЯМЦЯЛЕ'Й

ЦІ'НА' *ж. бат.* 1. Раска. *Цінай зацягнула ставок.* Валынцы В.-Дзв. *Ціна зялёная, а далей пажаўцеіць. Ціну збіраюць граблямы, куры кормюць і свіней.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зацягло канаву цінай.* Малыя Аўцюкі Калінк. *У ціны маленькія лісцікі, корні па вадзе.* Навікі Лудз. *Ціна ў вадзе, ціной зарошшы там.* Лісна В.-Дзв. 2. Водарасці. *Ціна — валасістая слізота, як паласкаць бялізну, трэба разгарнуць ціну.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ціна, дзе багна, драгба.* Мярэцкія Глыб.

ЦІНЦЕ'ЛЬ *м.* Камяк кашы і інш., сціснуты рукой. *Даўней таўклі бульбу і сціскалі таўкачком, называлі цінцель, цінцель з капустай ці гурком елі.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *činčiẽlius* 'тж'.

ЦІНЦЮ'К *м.* Тое ж, што і цінце́ль. *Гарох упараць, сцісканы гарох пакачаюць у руках і гарохавы цінцюк ядуць.* Рагулішкі Даўг.

ЦІП *гл.* ЦІФ

ЦІПЕ'Р *гл.* ЦЯПЕ'Р

ЦІПЕ'РАКА *гл.* ЦЯПЕ'РАКА

ЦІПЕ'РАЧЫ, ЦІПЕ'РЫЧЫ *гл.* ЦЯПЕ'РАЧЫ

ЦІПЕ'РЫКА *гл.* ЦЯПЕ'РАКА

ЦІПЕ'Ц *м. бат.* Сівец. *Ціпец — благая трава.* Азяраны Раг. *Гадзюка ў ціпцы звертана была, удырыла хвастом, духам духнула — ядам на міне, засіпела і кудача, бы кура.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦІ́ПКАЦЬ *незак.* Ціўкаць. *Адзін курчук ціпкая, курчаткі ціпкаюць.* Жылі Іўеў.; *параўн.* літ. *ciepsėti* 'тж'.

ЦІПЛАТА́ *гл.* ЦЕПЛАТА́

ЦІПЛІНЁЙ у знач. *прысл.* У час гарачыні, спёкі. *Ціплінёй такой пойдзіш?* Груздава Паст.

ЦІПЛЮ́К *м.* Кураня. *Ціплюкі ў хату бягуць, німа аднаго ціплюка.* Ліпнікі Вільн.; *параўн.* літ. *cipliùkas* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 296.

ЦІПЛЮЧО́К *м. памянш.-ласк.* да ц і п л ю́ к. *Ціплючок адзін астаўся на дварэ.* Ліпнікі Вільн.

ЦІПЛЯНЁ *н.* Зародак кураняці. *Як яйко на ціплянё прынята, то яно чорна, як на сонца праглядаць.* Парэчча Гродз.

ЦІПУ́К *м.* Ціпун. *Ціпук наела курыца.* ◊*Як хто дурна гаворыць, то кажаць: «Ціпук табе на язык!»* Малі Астр.

ЦІПЭНЯ́ *н.* Тое ж, што і ц і п л ю́ к. *Ціпэня здохло.* Смалянiца Пруж.: *параўн.* літ. *сурўпė* 'той, хто пішчыць'.

ЦІРАБІ́ЦЦА *гл.* ЦЕРАБІ́ЦЦА

ЦІРАБІ́ЦЬ *гл.* ЦЕРАБІ́ЦЬ

ЦІРАБНУ́ЦЬ *гл.* ЦЕРАБНУ́ЦЬ

ЦІРАС-ПАГАДЗЯ́ *прысл.* Праз некаторы час. *Цірас-пагадзя дзеўка стала такая добрая.* Юркава В.-Дзв.

ЦІРУХА́ *гл.* ЦЕРУХА́

ЦІРУШЫ́ЦЬ *незак.* Садзіць, сеяць. *Моргву цірушаць — так яе не пасадзіш, бо семяно натта дробная.* Кураполле Паст.

ЦІСА́К *гл.* ЦЯСА́К

ЦІ́СКАЦЬ *незак.* Здабываць, гнаць. *Алей ціскалі.* Ухвала Круп., Кураполле Паст. *Ціскала машына семяня — і алей.* Рагулішкі Даўг. *Алей ціскалі даўней.* Жодзішкі Смарг. *У прэсы складалі семя і ціскалі.* Солы Смарг. *Такія мелі кросны і ціскалі алей с сяменя.* Канюкай Вільн. *Некалі спірт ціскалі — ці ат парушэння гэта, ці ат чаго?* Завельцы Астр.

ЦІ́СНУЦЦА *незак.* 1. Пралазіць у вузкі праход, лезці праз загараду. *Мае куры ціснуцца ў гарот.* Валынцы В.-Дзв. 2. *перан. экспр.* Ехаць, прыязджаць. *Летам у дзярэўню ўсе гарацкія ціснуцца.* Валынцы В.-Дзв.

ЦІ́СНУЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ц і́ с к а ц ь. *Раней алей ціснулі.* Мачаск Бярэз. *С семя алей ціснулі.* Старыя Трокі Трак., Быстрыца Астр. *Алей ціснулі с семя, жамеры аставаліся.* Саланое Віл. *Круцілі варстат і ціснулі алей.* Гемзы Шальч. 2. Сціскаць, муліць, naціраць. *Маладым дзяўчатам так: хай нагу ціснiць, як у апцугох — абы маленькі бацінак купіць.* Саланое Віл. 3. *перан.* Накопліваць. *Сколькі жыла — усё ціснула, ціснула, усё збірала багацце.* Паплавы Бярэз. ◊ *Ціснe пераносіцу, за сэрца, цяжасць ціснe* — баліць, гняце; *сон ціснe* — спаць хочацца. *Каб вы ведалі, як мне ціснe пераносіцу!* Ёдлавічы Брасл. *Ціснe за сэрца.* Малі Астр. *Цяжасць ціснe — ні гада.* Збляны Лід. *Калі пагода дрэнна, тады сон ціснe.* Ракаўскія Швянч. *І мяне сон*

*цісня.* Граўжышкі Ашм. *Нешта цісне да падушкі, муся, скора дамоў пайду* — блізка смерць. Кураполле Паст.

ЦІСО'ЎКА *ж.* Пасма пражы на клубку. *Як пража здзярэцца, клубок ссыпаўся, цэла цісоўка сплуталася.* Мачаск Бярэз.

ЦІТУЛАВА'ЦЬ *незак.* Называць. *Як цітулаваць цябе?* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. *tytułować* 'тж'.

ЦІ'ЎКАЦЬ *незак. перан. экспр.* Ляцець са звонам, свістаць, звінець. *Сядзім у акопе, а пулі ціўкаюць над галовамі. Мы бульбу капалі, а пулі ціўкалі над намі.* Вузла Мядз. *Пулі адно толькі ціўкалі, а я бягом па балоця лячу.* Скрыль Пух.

ЦІФ, ЦІП, ЦІХ *м.* Тыф. *У вайну на ціф хварэлі.* Вецярэвічы Пух. *На ціф пахварэлі дзеці.* Саланое Віл. *Ціф быў появіўся.* Смаляніца Пруж. *Ціфу ў нас не было.* Лука Гайн. *На ціп была хвора, я нічога ні помніла.* Альхоўка Навагр. *Гарончка ці тоя, што ціп. Ціп жару падымая.* Дакудава Лід. *У ціху памёр.* Вецярэвічы Пух.

ЦІ'ХА, ЦІ'ХО *прысл.* 1. Ціха (калі суцяшаюць, просяць супакоіцца). *Ціха, дзеці, не плацце!* Кухты Віл. *Ціхо, не плач!* Номікі Бабіц. *Ціхо, ціхо, не крычы!* Дзяніскавічы Ганц. 2. Марудна. *Тая баба ціха рабіла.* Валынцы В.-Дзв.

ЦІ'ХАНЬКА, ЦІ'ХЕНЬКА(О) *прысл.* 1. Без гуку, шуму, спакойна. *А той маўчыць ціханька.* Пярэкі В.-Дзв. *Сядзіць ціханька, нічога не гаворыць.* Лісна В.-Дзв. *Сядзі ціханька і нічога не гавары!* Мачаск Бярэз. *Леглі аддыхаць і ляжом ціханька.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Стыдаюся, ціханька сяджу.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ціхенька спіць, не храпіць.* Валеўка Навагр. 2. Павольна, не хутка. *Як конь ідзе хутко, то ты ідзі памалу, ціхенько.* Баброўнікі Гарад.

ЦІ'ХАСЦЬ *ж.* Спакой, цішыня. *Мне ціхасці трэба!* Граўжышкі Ашм.

ЦІХАЧО'М *прысл.* Употай, скрытна. *Яны запісаліся ціхачом да арміі.* Замошша Брасл.

ЦІ'ХІ' *прым.* 1. Не гучны, слабы (пра голас). *Нашага брата ціхі голас.* Валеўка Навагр. 2. Спакойны, лагодны, добры. *Нявестка наша ціхая.* Лоск Валож. *Верачка лядача, а ён ціхі.* Новіны Нясв. *Такі ціхі чалавек.* Малі Астр. 3. Добрага нораву (пра жывёлу). *Наша карова ціха́я.* Асавец Віл. *У іх ціха́я карова была.* Малі Астр. *Бываіць свіня зусім ціха́я.* Малькуны Ігн. 4. Павольны, марудны ў рабоце. *Матка ціха́я, павольна робіць, яеназываюць «таптуха».* Малі Астр. 5. Благі, нядобры, злы. *Ціхія — благія людзі — быстрага ня трэба баяцца.* Малі Астр. ▽ *Ціха́я свіння глыбока рыіць.* Вузла Мядз. *Ціха́я свіня глыбокі корань рыя. Яна табе сцішка дакажа.* Малі Астр. *Ціхая свіня глыбока рыець, а быстрая — парнець і пашла — гэта пра чалавека: каторы ціхі, то падзямельны гат, як паткалупіць, вусенкі падцяўшы.* Саланое Віл. *Ціхая свіня глыбока рыець.* Кураполле Паст. *У ціхім балоце ўсе чэрці жэнюцца.* Валынцы В.-Дзв. *У ціхім усе чэрці сідзяць.* Скрудалена Даўг. *На ціхага вецер навеіць, а хітры*

*сам наляціць.* Курapолле Паст. 6. Не бурны, слабай сілы. *Сягоння вецер ціхóй.* Месянцы Брасл.

ЦІХМА'Н *м. неадабр.* Ціхоня. *Ціхман ты! Ціхман гэты, ад яго слова не дачакаесся, хоць ты купляй слова, а другі гавора і гавора.* Ёдупка Шальч.

ЦІ'ХО *гл.* ЦІ'ХА

ЦІХО'НЯ *ж.* Той, хто павольна, марудна робіць. *Ціхоня робіць, як мерзлае гарыць.* Рыбчына Віл.

ЦІ'ХУ *прысл.* Тое ж, што і ц і́ х а 1. *Ціху, дзеці, не плачце!* Пасіене Лудз.

ЦІХУ'Н *м.* Тое ж, што і ц і х м á н. Пасека Ст.-Дар.

ЦІЦЁВА *зб. ж.* Бацвінне. *Ціцёва — лісці з буракоў.* Навасёлкі Свісл.

ЦІЦЁРА *ж.* Цяцера. *Ціцёра такая важная, серая, не ў балоце, а на сухом ходзіць.* Чарняўскія Лудз.

ЦІЦІВІ'НА *ж.* Тое ж, што і ц і в і н á 1. *Пад ціцівінай нашчытала восем бульбін.* Мішневічы Шум.

ЦІЦІЎЁ *н.* 1. Тое ж, што і ц і ц ё в а. *Астаецца толькі ціціўё, а лісты апсморгаваюцца.* Крэва Смарг. 2. Тое ж, што і ц а в і н á 2. *Зрабіў ціціўё да лапаты.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦІЦЮ'Н *м.* Табака. *Старыя людзі звалі ціцюн, а цяпер — табака.* Кузьмічы Люб.

ЦІЦЯЎЁ *гл.* ЦЯЦІЎЁ

ЦІ'ША *прысл.* Тое ж, што і ц і́ х а 1. *Ціша, не брыньгай!* Пацаўшчына Дзятл.

ЦІШКО'М *прысл.* 1. Тое ж, што і ц і х а ч ó м. *Учора прыгнаў карову і пашоў цішком да іх.* Граўжышкі Ашм. *Цішком вышла, каб ніхто не бачыў.* Гемзы Шальч. *Хацела сірэні атарваць цішком.* Вялікае Сяло В.-Дзв. 2. Ціха. *Сядзіць цішком.* Беразіно Докш., Мішневічы Шум. *Пашоў памыўся цішком.* Магуны Паст. *Цішком замаўляла парушэня, дзьмухала.* Багдзюлі Шальч.

ЦІШО'ЧКАМ *прысл.* Тое ж, што і ц і ш к ó м 2. *Ціточкам сядзі, ціточкам нада ляжаць.* Гемзы Шальч. *Дапілі ціточкам, кап сёстры не чулі.* Малі Астр. *Кліча іх ціточкам, ляжыць ціточкам.* Ёдупка Шальч.

ЦІШЫНА' *ж.* Тое ж, што і ц і́ х а с ц ь. *Як чалавек разнэрваваны — цішынэ хочацца.* Кіралі Шчуч.

ЦІЯ'ТРЫ *мн.* ◇ *Адны ціятры*—смех, забава. *Паслухаць яго— адны ціятры, гдзе ж набрацца добрай гаворкі.* Кіралі Шчуч.

ЦКАВА'ЦЬ *незак.* Нацкоўваць. *Ён цкуе сабакам.* Рыбчына Віл. *Як пасуць, то сабакам карову цкуюць, сабака каровы круця.* Гемзы Шальч. *Цкавай на яго сабаку.* Альба Нясв.

ЦМА'ГЛЫ *прым.* Хударлявы, здаровы, ёмкі. *Ён цмаглы мушчына і дзеўка цмаглая.* Саланое Віл.; *гл.* с м á г л ы; *параўн.* польск. *smagły,* літ. *smaglùs* 'тж'.

ЦМЕН *м.* 1. *бат.* Кмен. *Цмен жоўты, але і розавы называюць*

*цмен.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. 2. Настой кмена. *Цмен ад жаўтухі п'юць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦМІН *м.* Тое ж, што і ц м е н 1. *Цмін — адно, а кмін — другая трава.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦМОК *м.* Вясёлка. *Дошч і слонца — цмок стаў.* Граўжышкі Ашм. *На радугу кажуць па-простаму — цмок.* Кемялішкі Астр. *Цмок — дошч палосамі разнацветнымі.* Быстрыца Астр.

ЦМЭ'НТАШ *м.* Могільнік. *Цмэнташ каля касцёла.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *cmentarz* 'тж'.

ЦО'КАЦЬ *незак.* Падзываць парасят. *Парасятам цокаіш — і яны бігаць.* Янова Рас.

ЦОП *выкл.* у знач. *вык.* Цап. *Стала рваць мяне, ляжу, як пласт — цоп за пульс — зусім рэтка б'еица.* Валынцы В.-Дзв.

ЦО'ПАЦЬ *незак.* Парыцца венікам. *Палаці ў бані, венічкам цопаюць — і добра.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦОТ *м.* Цотны лік. *Арэхі бяруць і загадваюць «Ці цот, ці лішка?»* Кіралі Шчуч. *Загадваям на гарэхі і кажам: «Цот ці лішка?»* Магуны Паст.

ЦО'ТКА *ж.* Тое ж, што і ц о т. *Цотка ці лішка?* Дварчаны Паст.

ЦО'ФНУЦЦА *зак.* 1. Памкнуцца, намерыцца, крануцца з месца. *Я цофнулася ісці — і ён прыехаў.* Граўжышкі Ашм. *Цофнулася ісці — і вярнулася назат.* Жылі Іўеў. 2. *безас. экспр.* Падумаць, цюкнуць. *Сню сон — і мне цофнулася, што ён памёршы.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *cofnąć się* 'адступіць, падацца назад'.

ЦО'ШКА *ж.* Сошка, саха. ∇ *Пяціра з лошкый, адзін з цошкый.* Ласвіцкія Шум.

ЦУБІ'НКА *ж.* Бадыль, сцябло. Пасека Ст.-Дар.

ЦУГА'ЙКІ толькі *мн.* Арэлі. *На цугайках пацугайся — і галава закружылася.* Пацаўшчына Дзятл.

ЦУГАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Хутка пабегчы, сігануць. *Дзе яна цуганула?* Альхоўцы Лях.

ЦУ'ГАР *гл.* ЦУ'КЕР

ЦУ'ГІ толькі *мн.* Гумавая пракладка ў даўнейшых чаравіках. *Даўней чаравікі на цугах былі.* Быстрыца Астр.

ЦУ'ҐЛІ, ЦУ'ҐЛЫ толькі *мн.* Цуглі. *Цуґлі ў абрыці для келзання каня.* Глівін Барыс. *Цуґлі, чым келзаюць каня.* Чычалі Швянч., Грыкені Вільн. *Цуґлі — келзаць каня.* Дакудава Лід., Рыбчына Віл., Пасека Ст.-Дар. *Цуґлямі каня трэба зацуґляць.* Альхоўцы Лях., Рудня Астравітая Чэрв., Жодзішкі Смарг. *Аброць ці кантар бяз цуґляў.* Быстрыца Астр. *Цуґлы — каня ўкялзаць, кап не разнёс.* Ёдлавічы Брасл. *Цуґлы, аброць с цуґлам каня замуздаць.* Рагулішкі Даўг. *Цуґлы закілзаць каня.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *cugle* 'тж'. < ням. *Zügel* 'повад, вуздзечка'.

ЦУ'ГНУЦЬ *зак. экспр.* Хутка падбегчы, кінуцца, падскочыць.

*Цугнуў да міне сабака. Цугнула да міне курыца.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЦУД, ЦУТ *м.* і *ж.*, ЦУ'ДЫ *мн.* 1. Дзіўнае незвычайнае здарэнне, праява, падзея. *Ці ня цуд я відзіў?* Руднікі Шальч. *Я сама дазнала цуду.* Солы Смарг. *Нейкі цуд у вёсцы — трусоў пакралі.* Магуны Паст. *Цут сатварыўся — кактус зацвіў! Забылася Лёняй* [Лёні] *пахваліцца, што кактус квітніць.* Ёдлавічы Брасл. *Я не скажу, які там цут быў.* Кіралі Шчуч. *Вялікі цут быў.* Мярэцкія Глыб. *Цут якая!* Гемзы Шальч. 2. Смешна, смех, пацеха. *Відзеў я цуды — бабы біліся, вот цуды дык цуды!* Гемзы Шальч. 3. Гераізм. *Ён цуду паказаў: стаяў пад куляй.* Ёдупка Шальч.; *парайн.* польск. *cud* 'тж'.

ЦУ'ДА *ж.* 1. Тое ж, што і ц у д 1. *Якая цуда зрабілася!* Ёдлавічы Брасл. 2. Дзіва, дзіўна. *У Мінску знаяць аб Ністанішкі— цуда!* Ністанішкі Смарг. *Цуда з гэтага дзіця!* Стральцы Шальч.

ЦУДАВА'ЦЦА, ЦУДУВА'ЦЦА *незак.* 1. Дзівавацца, пацяшацца. *Як пойдзем гуляць, увесь народ цудуецца.* Валеўка Навагр. 2. *перан. экспр.* Займацца, траціць час на догляд, вазіцца. *Ой, я ня буду цудувацца з курыцай! Нашто я цудуюся с каровай?!* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦУДАВА'ЦЬ *незак.* Дзівачыць, сваволіць, гарэзаваць. *Што яны там цудуюць?* Альхоўка Навагр.

ЦУК *м.* Цюк. *У цукі вяжаць сена.* Кураполле Паст.

ЦУДЭ'РЫ толькі *мн.* Тое ж, што і ц у д 2. *Там проста цудэры!* Завельцы Астр.

ЦУКАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц к а в а́ ц ь. *Цукуй, цукуй, а сабака ня брэша.* Кузьмічы Люб.

ЦУКАРНІ'ЦА *ж.* Пасудзіна, у якой трымаюць цукар. *Цукар у цукарніцы.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *cukierniсa* 'тж'.

ЦУ'КЕР, ЦУ'КАР, ЦУ'ҐАР *м.* Цукар. *Цукер і сахар зовіць.* Ёдлавічы Брасл. *Даўней цукер галоўкамі прадавалі.* Малахоўцы Бар. *Цукер быў сінявы.* Жылі Іўеў. *Цукер рассыпной — мончка.* Калясное Міхал. *Бярэця цукер!* Магуны Паст. *Цукер мокры — у шкапіку хлеп ляжаў.* Дакудава Лід. *Цукар даўней казалі, цяпер — сахар.* Мярэцкія Глыб. *А цукар на свае вочы відзіла.* Груздава Паст. *Цукар бяры!* Рыбчына Віл. *З цукрам чай піла, цукар купляла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Даўней шкада цукру было.* Мсцібава Ваўк. *Накуплююць цяпер цукру.* Паляцкішкі Воран. *Хлеб с цукрам люблю есці.* Солы Смарг. *Чатыры кілё цукру достану, на месяц хваціць.* Баброўнікі Гарад. *Раней цуґар, а цяпер сахар кауць* [кажуць]. Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* польск. *cukier* 'тж'.

ЦУКЕ'РАК *м.*, ЦУКЕ'РКА *ж.* Цукерка. *Цукерак з'еў.* Альхоўцы Лях. *Такому пацаневі даваць цукерка!* Смаляніца Пруж. *Цукеркі купляем, калбасу. Цукерак нам купілі, я не ем цукерак.* Гальшаны Ашм. *Ён пільны цукярок.* Стральцы Гродз. ∇ *У мэне шэсць нэвесточок — шэсць цукерок: насмокчуса, а як по кулаку, то согнуса.* Хатынічы Ганц.; *парайн.* польск. *cukierek* 'тж'.

ЦУКЕ'РАЧКА *ж. памянш.* да цукерка. *Дзве цукерачкі прынёс.* Груздава Паст.

ЦУКРО'ВІЦА *ж. мед.* Дыябет. *З таго спалахнення дастала цукровіцу.* Кіралі Шчуч.

ЦУКРЫ'ЦА *ж.* Тое ж, што і цукро́віца. *Ён меў цукрыцу.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *cukrzyca* 'тж'.

ЦУ'КУ-ЦУ'КУ *выкл.* Воклічы, якімі падзываюць куранят. Альба Нясв.

ЦУ'НДАЦЬ *незак. экспр.* Выконваць, рабіць нудную працяглую работу. *Цундай зрана да вечара гэту работу!* Мсцібава Ваўк.

ЦУ'НТАР *м.* Кнот, зроблены з тлелага палатна (для высякання агню крэсівам). *Даўней бралі палатно і тлілі яго і называлі цунтар: як іскра пападае на яго, ён быстра тлее.* Мсцібава Ваўк. *Адны рабілі цунтар, другія — каснік.* Бабро́ўнікі Гарад. *Спаліў яго на цунтар.* Крынкі Крын.; *параўн.* літ. *čiūntas* 'абрэзак'<ням. *Zunder* 'трут, губа'.

ЦУ'ПКІ *прым.* Цвёрды, тугі. *Хлеб цупкі.* Маркаўскае Лельч. *Буракі цупкія.* Альхоўцы Лях.

ЦУПЧЭ'ЙШЫ *прым.* выш. да цу́пкі. *Наш хлеб цупчэйшы.* Маркоўскае Лельч.

ЦУР *м.* Адтуліна ў саску (пра жывёл). *У каровы цур малы ў сісцэ.* Кураполле Паст.

ЦУРА' *ж. кулін.* 1. Страва, прыгатаваная з вады, солі ці цукру і хлеба. *Даўне бабулька вады ўліе, хлеба ўкрыша і кажа: «Есця, гэта цура, здарова есці цуру».* Солы Смарг. *Цуру даўней рабілі так: у халодную ваду накрышыць хлеба і пасоліць.* Пацаўшчына Дзятл., Рыбчына Віл. *Цура — гэта вада халодная, солі сыпалі ці сахару.* Крэва Смарг. 2. Страва, прыгатаваная з хлеба, цёплай вады, прыпраўленая тлушчам. *Цура — нарізаті хлеба, наліті кіпячоное воды, усыпаті солі і зашкварваем салом.* Азарычы Пін. *Цура — у цёплую воду накрышаць хлеба, цыбулькі і засквараць шчэ.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Хлеб, накрышаны ў малако. *Ужо падаіла карову, зара, дзеці, цура будзя.* Граўжышкі Ашм. ∇ *Цура цурыць, а хлеб курыць* — спажываецца, расходуецца. Баравікоўшчына Валож.

ЦУРА'К *м.*, ЦУРАКІ' *мн.* Лядзяш. *Стрэх пацячэ — і цуракі пазамярзаюць.* Азяраны Раг.

ЦУРАЛЁМ *прысл.* Струменем. *Кроў цуралём цячэ.* Солы Смарг.

ЦУ'РАЧКА *ж. памянш. устар.* Драўляны гузік, бірка. *З веніка цурачку рабілі і ў штаны ўшывалі.* Рудня Чэрв.

ЦУРБА'К *м.* Цурбан. Нізок Уздз.

ЦУРБА'ЛКА *ж.* Палка. *Узяла некую цурбалку і чуць не забіла курыцу.* Альхоўцы Лях.; *гл.* цыру́балкі.

ЦУРБА'Н *м.* Тое ж, што і цурба́к. *Цурбан — калотка да метра даўжыні.* Палік Барыс.

ЦУРБА′НЧЫК *м. памянш.* да ц у р б á н. *Задала ножку на цурбанчык — удырыла ножку.* Азяраны Раг.

ЦУРБУНО′ЧКІ *мн. памянш.* Цвёрдыя часткі лісцяў агароднiны. *Брушкоўнік быў — паядуць і цурбуночкі астаюцца.* Вецярэвічы Пух.

ЦУ′РКА I *ж.* 1. Сцябло. *Ад цуркі расходзяцца дробныя лісточкі.* Кузьмічы Люб. 2. Вітка. *Пляцень цуркай перапляталі.* Багушэвічы Бярэз. 3. Палачка, кіёчак, што выкарыстоўваецца для вязання снапоў, кулёў саломы. *Снапы вязалі цуркаю; цурку за пояс заткне і жне. Трэба цурка на гэты сноп.* Кузьмічы Люб. *От цуркаю звяжаш моцно. Гэто даўно вязалі, пры мне не вязалі, але ведаю, што казалі цурка. Цуркаю, як уцуркаеш снопа, то не развяжацца.* Дзяніскавічы Ганц. *Цурка — палачка, каб цясней сноп звязаць.* Альхоўцы Лях. *Цуркаю вязалі снопы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *А кулі цуркай ладзяць.* Ісерна Слуц. 4. Драўляная засаўка да кубла. *Цурка засоўвалася ў вушы паверху века; цурка — палка з булдаўкай.* Азяраны Раг. 5. Тое ж, што і ц ý р а ч к а. *Цурка ў штаны ўшывалася.* Азяраны Раг.

ЦУ′РКА II *ж.* Дачка. *Я бондарава цурка.* Бабро́ўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *córka* ’тж’.

ЦУ′РКІ *мн.* Ледзяшы. Багушэвічы Бярэз.

ЦУРКІ′ *мн.* Струмені. *Абалонь — балота такоя, а там два ключы, цуркі бальшыя выступаяць са дна.* Кураполле Паст.

ЦУРКО′М *прысл.* Тое ж, што і ц у р а л ё м. *Кроў цурком ліецца; баба прыляцела да дарогі, з рукі кроў цурком.* Груздава Паст. *Кроў цурком леецца — хлебам заляпілі.* Вецярэвічы Пух. *Цурком з жылы кроў ідзець.* Завельцы Астр. *Ільецца пот цурком.* Жылі Іўеў. *Там пастаўлена начоўка ці мядніца і цурком ліецца.* Старыя Трокі Трак.

ЦУРУ′БАЛКА *ж.* Тое ж, што і ц у р б á л к а. *Прывешвалі за шыю вяроўку і палку такую — цурубалку, яна да калена даставала — б’ець па нагах, і карова шагам ідзець.* Глівін Барыс.

ЦУРЧА′ЦЬ, ЦЮРЧА′ЦЬ *незак.* Ліцца цурком. *Цурчыць вада.* Саланое Віл. *Цюрчыць вада — бяжыць з шумам.* Палік Барыс. *Вада цюрчыць с-пат камня.* Ёдлавічы Брасл.

ЦУРЫ′ЦЬ *незак.* 1. Ліць, струменіць. *Стаў дош цурыць.* Саланое Віл., Кураполле Паст. 2. Цячы тонкім струменем. *Прыпусціць карова, і цурыць малако, і тоненька цурыць, і тоўста цурыць.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *čiurėti, čiùrinti* ’цячы’.

ЦУТ *гл.* ЦУД

ЦУЦЬ *незак.* Цвісці. *Бульба ўжо цула п, кап ні замершы была.* Ракаўскія Швянч.

ЦЫ′БА *м.* і *ж. зневаж.* Той, хто худы, высокі. *Адзін цыба ўжо ідзе.* Жылі Іўеў.

ЦЫБА′НТ *м.*, ЦЫБА′НТЫ *мн.* Доўгі жалезны прэнт з вінтавым канцом. *Цыбант ест у пярэдняй падушца; цыбанты робяцца з жалеза; праз падушку цыбанты ідуць на восі; канцы цыбантаў нарэзаны вінтом і шрупкі накручуюць на цыбанты. Цыбанты*

*скрапляюць падушку з воссю.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *cybant* < ням. *Ziehband* 'тж'.

ЦЫБА'ТЫ *прым.* 1. Даўганогі. *Цыбаты чалавек.* Пярэкі В.-Дзв. *Цыбаты на доўгіх нагах; і чалавек можа быць цыбаты.* Вялікія Баяры Шчуч. *Худая, цыбатая, а бегая, як чорт.* Малі Астр. *Цапля цыбатая, хітрая: калі хоча — і рыбіну схопя: чуць тая пакажацца з вады.* Замошша Брасл. *Камар цыбаты, нос усуніць, нап'ецца і станіць красны.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Высокі і тонкі (пра расліну). *Цыбатая капуста.* Саланое Віл. *Цыбатая капуста: качан длугі, а галоўка малая.* Гемзы Шальч.

ЦЫ'БАЧКІ *мн.* У выразе: *На цыбачках* — на кукішках. *Села на цыбачках і перабіраю бульбу.* Мачаск Бярэз.

ЦЫ'БІК *м. устар.* Бутэлька, ёмістасцю 0,25 літра. *Як ідуць сяўцы сеіць, яна пытаіць: «Можа цыбік возміш?»* Саланое Віл.

ЦЫБУ'К *м.* 1. Тое ж, што і ц а ў ё 1. *Кіяшэ растуць на вялікум цыбуку.* Вецярэвічы Пух. *Каля балот цыбук расце з чорнымі алоўкамі* [галоўкамі]. Старыя Смільгіні Воран. 2. Кветаножка суквецця цыбулі. *У цыбулі цыбук расцець.* Вузла Мядз. *Пашла цыбуля ў цыбукі, выцвітая тоўсты цыбук.* Бакшты Іўеў. *Цыбуля пашла ў цыбукі.* Рыбчына Віл., Рудня Чэрв., Мачаск Бярэз. 3. Цвёрдая частка пяра. *Цыбукі ў пер'е.* Лука Нараўк. 4. Мунштук. *У люльцы е цыбук.* Альхоўцы Лях. *Цыбук быў длугі — гэта папяроснік, затыкаў цыбук за халеву, тыц — і пашоў, ён паходзіў з кубанцаў.* Гемзы Шальч.

ЦЫБУЛЕ' *мн.* Націна. *Цыбуле бульбы не ядуць каровы.* Вецярэвічы Пух.

ЦЫБУЛЕ'НЁ *зб. н.* Пёры цыбулі. *Цыбуленё — лісты од цыбулі.* Старое Сяло Зэльв.

ЦЫБУ'ЛІНА *ж.* Адно каліва караняплода цыбулі. *Адну цыбуліну вырвала.* Ёдлавічы Брасл.

ЦЫБУ'ЛІСКО *н.* Месца, дзе была пасаджана цыбуля. *Цыбуліско, дзе расла цыбуля.* Мсцібава Ваўк.

ЦЫБУЛЛЁ *зб. н.* Сцяблы сіту. *Плаўке дзеці вяжуць з цыбулля. Унучка угледзіла ета цыбуллё і просіць: «Бабка, нарві мне!»* Вецярэвічы Пух.

ЦЫБУЛЬЁ *зб. н.* Гарбузовая націна. *Цыбульё ад гарбузніка свіні не ядуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЫБУ'ЛЬКА *ж. памянш.* ад ц ы б у́ л я 2. *Цыбулькі накрышу у халадпічок.* Грыкені Вільн. *Я цыбулькі вышчыкнуў.* Збляны Лід.

ЦЫБУ'ЛЬНЫ ВЕРАШЧА'К *м. кулін.* Тое ж, што і ц у р а́ 1. *Цыбульны верашчак робяць так: хлеб, цыбуля і вада.* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЫБУ'ЛЯ *ж.* 1. Караняплод цыбулі. *Цыбулю садзілі ў агародзе.* Мельнікі Лудз. *Пасадзіла цыбулю.* Відаўцішкі Вільн. *Ужо пара цыбулю выбіраць. Трэба плясці цыбулю, вянок цыбулі.* Саланое Віл. *Цыбуля кваснея, не ложаць у кілбасы.* Руднікі Шальч. *Выпшыкалася цыбуля.* Малі Астр. 2. Тое ж, што і ц ы б у л е́ н ё.

*У гародзе: цыбуля, буракі, капуста.* Канюкай Вільн. *Ідзе цыбуля ў стаўбунэ, калі не выдыміш.* Збляны Лід. *Сходзіла п ты мне цыбулі прыправіла.* Вузла Мядз. *Вялікі куст цыбулі — аш дванасця цыбулін.* Солы Смарг. *Цыбуля са смятанай — добра есці.* Малькуны Ігн. *Цыбуля ўжо пасохла — трэба выбіраць.* Старыя Трокі Трак. *Цыбуля пашла ў пукі.* Саланое Віл. *Цыбуля, што лаза, парасла.* Кузьмічы Люб. ∇ *Сыдыт пане ў чырвонум каптані, хто йійі порушит — плакаты мусит.* Дзмітравічы Кам.

ЦЫВІ'ЛЬНЫ *прым.* Цывільны. *Цывільны чалавек.* Рыбчына Віл. *Цывільны хто, то робіць на якой службе і ўдома робіць.* Кіралі Шчуч. *Пабітыя, цывільныя людзі.* Альхоўка Навагр. *Нейкія цывільныя пазабіралі кароў, а мо то немцы былі?* Галубы Маст.

ЦЫ'ВКА *гл.* ЦЭ'ЎКА I

ЦЫГА'Н *м.* Цыган. *Дайней у цыгана толькі конь.* Гемзы Шальч.

ЦЫГАНЫ' I толькі *мн. кулін.* 1. Боршч. *Варылі цыганы — буракі кіслыя.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Крывяныя бліны. *Цыганы пяклі з крыві і картошкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. Палавінкі неабчышчанай зваранай бульбы. *Наварыла цыганоў — палавінак бульбы.* Магуны Паст.

ЦЫГАНЫ' II *мн.* Скураныя лапці. *Цыганы шылі са скуры, у іх дзіркі.* Стральцы Гродз.

ЦЫГА'НЬСКІ ДОЖ *м.* Дождж у час яснай пагоды. *Цыганьскі дож ідзе, і сонца грэя.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЫГАНЭ' толькі *мн. абрад.* Світа маладога ў час вяселля. *Цыганэ з боку маладога, а прыданыя — з яе боку.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЦЫГАРЭ'ТА *ж.* Папяроса. *Яна цыгарэтаў накупіла.* Стральцы Гродз.

ЦЫДЭ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і ц а д з і л а к. *Цыдэлка була с кужилного полотна, а тыпэр з марлі.* Дзмітравічы Кам.

ЦЫКАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц к а в а́ ц ь. *Цыкаваць каго сабакам.* Пасека Ст.-Дар.

ЦЫ'КІШ *выкл.* Выкрык пры адгоне, запужванні курэй. *А цыкіш! — так адганяюць курэй і куранят.* Альба Нясв.

ЦЫЛІДО'НІЯ *ж. бат.* Чыстацел. *Цылідонію разарвеш — жоўтае малако паяўляецца!* Магуны Паст.; *парайн.* літ. cindalijà 'тж'.

ЦЫЛЯ'К *м.* Тое ж, што і ц а л і к 5. *Поехаў па цыляку, поехаў цыляком.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЫ'МАНТ, ЦАМЭ'НТ *м.* 1. Цэмент. *Каб зрабіць падмуроўку, то додаюць цыманту.* Крынкі Крын. *Хто знаў дайней цымант? За Польшчу быў цымант, але дарагі: два злоты, і пуд жыта — два злоты.* Мсцібава Ваўк. *Цыманту дастану.* Жылі Іўеў. *Паехаў браць цыманту, цыманту прывёс.* Альхоўцы Лях. *На вузянькую дошчачку накладаецца цамэнт з нейкаю масаю, так робіцца мянцюшка.* Альхоўка Навагр. 2. Зацэментаваная падлога. *Па цыманту памесці добра.* Ракаўскія Швянч.

ЦЫМАНТО'ВЫ, ЦАМАНТО'ВЫ, ЦАМЯНТО'ВЫ *прым.*

Зроблены з цэменту. *Крыш цымантовы.* Крынкі Крын. *Цамантовы надгробнік паставіў.* Рагулішкі Даўг. *Стары ў калодзісь ували́ўся, у цамянтовы.* Альхоўцы Лях.

ЦЫ'МБАЛ *м. зневаж.* Лодар, гультай. *Цымбал, лабідуда ты!* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *параўн.* літ. *cimbalas* 'тж'.

ЦЫМБАЛЕ'Й, ЦАНДАЛЕ'Й *м. бат.* Тое ж, што і ц ы л і д о́ н і я. Ракаўскія Швянч. *Цымбалей — жоўтыя цвяточкі.* Кураполле Паст. *Ад цандалея раны гояцца.* Ёдупка Шальч.

ЦЫМБАЛІ'СТЫ *м.* Цымбаліст. *Так добро граў той цымбалісты.* Талейкі Швянч.

ЦЫМБА'ЛЫ *мн.* Цымбалы. ◇ *Вялікія цымба́лы* — доўгае апавяданне, што патрабуе многа часу. *Я вам заўтра раскажу пра гэта, гэта вялікія цымбалы.* Крэва Смарг.

ЦЫМБРАВІ'НА *гл.* ЦЭМБРАВІ'НА

ЦЫМБРУ'К *м.* Тое ж, што і ц а ў ё 1. Стральцы Гродз.

ЦЫМБУ'Р *м.*, ЦЫМБУРЭ' *мн.* Тое ж, што і ц ы б у л е́. *Карпапленік увесь, а ежэлі без лісця — то цымбур, цымбурэ. Цымбур, на чым табак расце, найбольш кажуць: ліст і цымбурэ.* Дзяніскавічы Ганц. *Цымбурэ наломяць ад буракоў, сасморгавалі лісты, адно цымбурэ варылі.* Міратычы Карэл. *У картапляніку цымбурэ. Паело нешто буракі, асталосо адно цымбурэ.* Малахоўцы Бар. *Цымбуром выцяўся, цымбуром выцяў яго. Цымбуроў ня хочыць есці карова.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *stemberỹs* 'сцябло'.

ЦЫ'МУС *м. кулін.* Тушаная морква з мясам. *У цымус клалі мясо, усё кладуць.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *cymes* 'лепшы кавалак'.

ЦЫ'НГЕЛЬ *м.* Язычок у дзвярной клямцы, на які націскаюць пальцам, каб адчыніць дзверы. *Цынгель клямку паднімаіць, ён насквозь дзверы праводзіцца.* Мыто Лід.; *параўн.* ням. *Zimbel* > літ. *cingelis* 'тое, што тырчыць'.

ЦЫНДАЛЕ' *мн.* Сандалі. ◇ *Адкінуць цындале* — памерці. *Адкінуў, бедны, цындале!* Пацаўшчына Дзятл.

ЦЫНДАЛЕ'Й *м.* 1. Тое ж, што і ц ы л і д о́ н і я. *Цындалей каля платоў расце.* Бакшты Іўеў., Альхоўцы Лях. 2. Настой чыстацелу. *Цындалей ад жаўцюхі п'юць.* Бакшты Іўеў. *Цындалей піла — ачышчая кроў.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *cindalijà* 'цылідонія'.

ЦЫНДАЛЕ'Я, ЦЫНДАЛІ'Я *ж.* Тое ж, што і ц ы л і д о́ н і я. *Цындалея — горка-горка. Цындалея на гародзе расце, на абмешку; губы зацягвая, як паколюцца, калі памажаш цындалеяй.* Кіралі Шчуч. *Карэні цындаліі парацъ і даюць карові піць, як карова кроўю мочыцца.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *cindalijà* 'тж'.

ЦЫ'НДРА *ж.* 1. Акаліна на паверхні расплаўленага металу. *Цындра ў кузні, каваль паля жалеза, гэта незгаральныя атходы.* Івашкаўцы Смарг. *Цындра ад залеза адлятая ў кузні, нагар такі.* Малахоўцы Бар. 2. Вельмі цвёрдая, з чырвоным адценнем

зямля. *Цындра — цвёрдая чырванаватая зямля, усё там блажэй расце.* Альхоўка Навагр. *Цындра ў Нёмані пры самым беразе і ў полі.* Дакудава Лід. *Цындра ў берагах ракі цвёрдая зямля.* Рыбчына Віл. *Цындра — неўрадлівая зямля.* Тухавічы Лях. ▽ *Цвёрдая, як цы́ндра.* Быстрыца Астр., Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *zyndra, zendra,* літ. *dzi̇̃ndra* 'акаліна; цвёрдая зямля'.

ЦЫНТУ'РЫЯ, ЦЫНТУ'РА *ж. бат.* Цвінтарэй. *Цынтурыя розавянька цвіцець, горкая.* Быстрыца Астр. *Цынтурыя ў нас расце.* Старыя Смільгіні Воран. *На полі была цынтурыя, ад сэрца добрая; розавенькая, чатыры — пяць лісцікаў. Цынтурыя — слынная лякарства.* Солы Смарг. *На цененькіх бадылёчках цынтурыя расце; цынтурыя — ад жывата.* Малі Астр. *Цынтурыя расце, п'юць ад жывата.* Кудзялянцы Шальч. *Цынтура ад сэрца.* Рыбчына Віл.; *параўн.* лац. *Centaurium* 'тж'.

ЦЫ'НЦАЛІ *мн.*, ЦЫ'НЦАЛЬ *м.* Тое ж, што і ц а п л я к і 2. *Адрызгаўшыся спадніца, цынцалі вісяць, вот баба ніраха.* Старыя Смільгіні Воран. *Новы мацерыял і абрызгайся — сколькі цынцалёў. Цынцаль адарві, а то вісіць.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *tiñtalas, cincõlas, dziñdzilas* 'тое, што целяпаецца', *cincaliúoti* 'целяпацца'.

ЦЫНЦЫЛЕ'Й *м.* Тое ж, што і ц ы л і д о́ н і я. *Цынцылей расце ў нас.* Сапоцкіна Гродз.; *параўн.* літ. *cindalijà* 'тж'.

ЦЫНЦЫЛЕ'Я, ЦЫНЦЫЛІ'Я *ж.* Тое ж, што і ц ы л і д о́ н і я. *Цынцылея жоўтым цветам цвіце.* Каўняны Гродз. *У нас гэту траву цынцылія называюць.* Руднікі Шальч.

ЦЫНЫ' *мн.* Тое ж, што і ц а п к і 3. *Цыны перакладалі накрыш. Нада перагнаць цыны на другую старану.* Рагулішкі Даўг.

ЦЫ'ПАЧКІ *мн.* Тое ж, што і ц ы́ б а ч к і. *Села на цыпачкі, сядзіць на цыпачках, як курыца.* Ёдлавічы Брасл. *Прысесці на цыпачкі.* Беразіно Докш. *На цыпачках ногі памлелі сядзець.* Багушэвічы Бярэз. *Садзіцца на цыпачках.* Жодзішкі Смарг.

ЦЫПЕНЯ'ТА *мн.* Кураняты. Азарычы Пін.; *параўн.* літ. *cipùkai* 'тж'.

ЦЫ'ПЛІКІ *мн.* Тое ж, што і ц а п л я к і 1. *Цыплікі са стрэх вісяць.* Дакудава Лід. *Вісяць цыплікі па стрэхах.* Галубы Маст.

ЦЫПЛЯ'ТНІЦА *ж.* Кураводка. *Цыплятніца цыплят водзіць.* Якубова Рас.

ЦЫПЛЯЧКІ' *мн. памянш.* Тое ж, што і ц а п л я к і 1. *Цыплячкі пазамярзаўшы на стрэхах і на дрэвах.* Галубы Маст.

ЦЫПЛЯЧО'К *м. памянш.* да ц ы́ п я л ь 1. *Па гэтаму цыплячку смала цячэ ў кубачак.* Бакшты Іўеў.

ЦЫ'ПУС *м. мед.* Тое ж, што і ц і ф. *Цы́пус быў у вайну.* Дзяніскавічы Ганц.

ЦЫ'ПЯЛЬ *м.* 1. Дошчачка з паглыбленнем, латок. *Цыпяль — дошчачка, па якой смала сцякая. Цыпяль з дзерава робяць і ў хвойку ўбіваюць. Нарабіў цыпляў многа.* Бакшты Іўеў. 2. Прыстасаванне, на якім падвешвалі светач. *Цыпяль падсуніш пад*

*бэльку, а ўнізу лучыну ўтыкалі.* Бакшты Іўеў.

ЦЫР I *гл.* ЦЭР I

ЦЫР II *выкл.* у знач. *вык.* Цвыркаць. *Цвыргун за печчу цыр-цыр!* Вузла Мядз.

ЦЫРАВА́ЦЬ, ЦАРАВА́ЦЬ *незак.* 1. Лапіць ніткамі дзіркі. *Буду панчохі цыраваць.* Грыкені Вільн. *Нада цыраваць дзюркі ў панчохах.* Ёдлавічы Брасл. *Вылязлі пяты, ні бачу, трэба было п цыраваць.* Малахоўцы Бар. *Скажуць цыраваць і лапіць.* Вострава Маст. *Цыруеш добра, а ці доўга — зноў парвецца.* Беразіно Докш. *Нітку ўвясці ў іголку і трэба панчохі цараваць. Шаршаткай цыруюць наскі шарсцяныя.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *cerować* 'тж'. 2. *перан. пчал.* Пакрываць соты тонкім слоем воску. *Пчолы робяць воск дзюркаваты,наліваяць мёд і цыруяць зверху — зацыруяць і мёд не цячэ.* Ёдупка Шальч.

ЦЫРАДЭ́ЛЯ *ж.* бат. Сырадэля. Рыбчына Віл.

ЦЫРА́ТА *ж.* Цырата. *Цырату часта сціраю мокрай трапкай.* Гемзы Шальч. *Накрыла сена цыратай — і байкі, ніхай стаіць.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *cerata* 'тж'.

ЦЫРБУ́ЛЬ *м.* Тое ж, што і ц у р б а́ к. *Бярно парэш на цырбулі або целяжы!* Рыбчына Віл.

ЦЫРГУ́Н *м.* Тое ж, што і ц в ы р к у́ н I. *Цыргуны даўней за печчу цыр-цыр! Німа рады — ня выганіш іх.* Вузла Мядз.▽ *Цыргун цыргаіць — нейкая будзіць непагаць.* Кураполле Паст.

ЦЫРК *выкл.* у знач. *вык.* Гукавая перадача цыркання вады між пальцаў ног. *На балоце мох расцець, як ідзеш па балоту — вада цырк-цырк!* Мярэцкія Глыб.

ЦЫРКАЦЕ́ЦЬ *незак.* Цвыркаць. *Цырыкун цыркаціць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЦЫ́РКАЦЬ I *незак.* Даіць. *Пайду цыркаць карову.* Груздава Паст. *Нада ш ісці цыркаць карову.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *А ты цыркала карову?* Дзёрнавічы, Пярэкі В.-Дзв.; *параўн.* літ. *čirkoti* 'выдойваць, выціскаючы'.

ЦЫ́РКАЦЬ II *незак.* Тое ж, што і ц ы р к а ц е́ ц ь. *Цыркун за печкай цыркая моцно.* Пасека Ст.-Дар. *А другі раз кажуць: «Цыркун цыркаіць».* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦЫ́РКЕЛЬ *м.* Цыркуль. *Цыркель абрысовуе дно, якое трэбо здзелаць.* Баброўнікі Гарад. *Цыркелям размячаю крух для цэбра.* Збляны Лід.

ЦЫРКЛЁЎВАЦЬ *незак.* Абводзіць круг цыркулем. *Цыркелям цырклёўваю дно для цэбра.* Збляны Лід.

ЦЫ́РКНУЦЬ *зак.* да ц ы́ р к а ц ь I. *Карову цыркнуць трэба, пайду пацыркаю.* Груздава Паст.

ЦЫРКУ́Н *м.* Тое ж, што і ц в ы р к у́ н I. *Цыркун залез за печ.* Курaполле Паст. *Цыркун пад печчу завёўся.* Беразіно Докш. *Цыркун за печкай цыркая моцно.* Пасека Ст.-Дар. *Цыркун андарака зьесь суконнага; ён зялёненькі, моцна крычыць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЫРО'П *м.* Сіроп. *І цыроп прывозілі — цэлую бочку.* Дзераўное Стаўб.

ЦЫ'РТА *ж. заал.* Падуст. *Цырта — рыба белая, як плотка, але таўшчэйшая за плотку.* Збляны Лід. *Свінькі ілі цырта яе называюць, белая такая рыбка, на свінку пахожа.* Дакудава Лід. *Цырта — светлая рыба, пры нэрасце віт мяняя, яна кашлявая, касцей многа, да засолкі добра, да варкі — не вельмі. Выкладаюць з камяня тройконцік, туды ідзе цырта на нэраст — паследня рыба.* Быстрыца Астр.

ЦЫРУ'БАЛКІ *мн.*, ЦЫРУ'БАЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і ц а п л я к í 1. *Сягоння цырубалкі замярзаюць. Цырубалку есць — кашаль заб'е.* Рыбчына Віл. *Было цёпла, а цяпер мароз — аж цырубалкі пасталі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Ножка ліста. *Пучкі кляновых лісцяў звяжыш за цырубалкі і дзержыш.* Мішневічы Шум. 3. Тое ж, што і ц ы б у л é. *Пасячы драбней цырубалкі свіням!* Вецярэвічы Пух. 4. Цвёрдыя часткі пер'я. *Цырубалкі — ад пёраў крылаў і з хваста.* Лапічы Асіп. 5. Засохлы гной на поўсці ў жывёлы. *Цырубалкі вісяць у авечак, як у хляве гразна.* Кураполле Паст. 6. *перан.* у знач. *прысл. цырýбалкамі.* Струменем, цурком. *Слёзы цырубалкамі льюцца.* Лоск Валож.

ЦЫТВО'Р *м. мед.* Цытвора. *Піжма, як у аптэках — цытвор.* Старыя Трокі Трак. *Даўней у місачку набярэ рашчыну і цытвору туды — дзеці хлябаюць, і рабакі атходзяць.* Гемзы Шальч. *Цытвор і піжма — памоцны ад рабакоў.* Плябанцы Ашм.

ЦЫ'ЎКАЦЬ *незак.* Ціўкаць. *Цыпляты цыўкаюць.* Янова Рас.

ЦЫ'ХАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц ы́ ў к а ц ь. *Цыхаіць цыплёнак. Калі цыпляты будуць цыхаць, яна іх хватаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦЫ'ЦАЛІ *мн.* Тое ж, што і ц а п л я к í 2. Лісна В.-Дзв.; *параўн.* польск. *cycele,* яўрэйскае *Zizath* 'тж'.

ЦЫ'ЦКА *ж.* 1. Грудзі. *Цыцкі даць дзяцёнку?* Мачаск Бярэз. *Дзіця цыцкі не ссе.* Вецярэвічы Пух. *Дзіця тры гады цыцку ссала.* Лоск Валож. *Цыцку трэба дзіцяці даваць.* Збляны Лід. 2. Сасок у самак жывёлы. *Цыцкі ў каровы мыют.* Лука Гайн. *Цыцкі ў каровы як паколюцца, то натта б'ецца.* Кіралі Шчуч. *Цыцкі пакалоліся ў каровы.* Пацаўшчына Дзятл. *Цыцка ў каровы забалела.* Дакудава Лід. *У каровы чатыры цыцкі, а ў свіні — дванасце цыцок.* Грыкені Вільн. *Свіня ня можа даць цыцкі, бо кусаецца парасё — кла такія ў парасят.* Парэчча Гродз. 3. *перан.* Бакавая выпукласць на буханцы сыраватага хлеба. *Чарана не нагрэлася — цыцка атходзіць ад хлеба.* Кузьмічы Люб. ◊ *Жаба цыцкі дасць* — пра марудную і доўгую працу, калі яна зацягваецца. *Столькі травы, што полю, полю — і конца німа, скора жаба цыцкі дасць.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ЦЫЦЫ'КАЦЬ *незак.* Стракатаць. *Казёльчыкі на лонцы цыцыкаюць.* Жыдзевічы Іўеў.

ЦЬМА І *ж.* 1. Тое ж, што і ц е м н а т á 1. Вялікія Баяры

Шчуч. 2. *перан.* Процьма, вельмі многа. *Цьма людзей сабралася. На дварэ камароў цьма; напалі камары, як цьма.* Вострава Маст. *Цьма мошак.* Мсцібава Ваўк., Завельцы Астр. *З'яжджалася цьма народу на Яна.* Месянцы Брасл. *Як шмат чаго-небудзь, то кажуць цьма.* Вялікія Баяры Шчуч. ◇ *Цьма цьмýшчая* — вельмі многа. *Сколькі галубоў! — То цьма цьмушчая.* Альхоўка Навагр. *Дайней мух — цьма цьмушчая, ані рот разявіць.* Кураполле Паст. *Цьма цьмушчая народу!* Лоск Валож.

ЦЬМА II *ж. заал.* Соўка. *Цьма — начны матыль. Заляцела цьма праз вакно.* Мсцібава Ваўк.

ЦЬМЕЦЬ *незак.* Няярка гарэць. *Лямпа цьмецць.* Номікі Бабіц.

ЦЬМЯ'НА *прысл.* 1. Няярка, без полымя. *Дровы цьмяна гараць, ня хочуць гарэць.* Кіралі Шчуч. 2. Цёмна, змрочна. *Слонца не свеціць, цьмяна ў хаця.* Лоск Валож.

ЦЬМЯ'НЫ *прым.* 1. Чарнявы. *Ён цьмяны з ліца, від яго.* Альхоўцы Лях. 2. Не чыста вымыты, з налётам. *Цьмяныя стаканы, нада содай вымыць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЬНУЦЬ *зак.* Укусіць. *Сабака цьнецць індыка.* Рагулішкі Даўг.

ЦЭБ *выкл.* Выгук, якім падганяюць і запыняюць вала. *«Цэб-цэб!» — Так астанаўлівалі вала.* Азяраны Раг.

ЦЭ'БАР, ЦЭ'БЭР, ЦЭ'БЕР *м.* Цэбар. *Цэбар з двумя вушкамі; у цэбры і вады карові паставіш, і бялізну памочыш.* Кіралі Шчуч. *Як цэбар, кубял быў, адзежу клалі.* Саланое Віл. *Сало кладуць у цэбар.* Міратычы Карэл. *У цэбры, у кадушцы ці ў кубельцы раней сала трымалі.* Пацаўшчына Дзятл. *У цэбар мачылі бялізну, у жлукту яе складалі.* Мачаск Бярэз. *Сало складалі ў кадлубочок чы ў цэбэр.* Лука Нараўк. *Цэбер коровам, волом есці выносілі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Цэбры рабілі.* Судэрва Вільн. *Цэбры былі з вушамі; паілі кароў з цэбраў.* Ёдлавічы Брасл. *Цабры з клёпак рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цабрэ, кублікі рабілі з клепак.* Кузьмічы Люб. *Нарабіў многа цаброў.* Лоск Валож.

ЦЭБО' *выкл.* Тое ж, што і ц э б. *Цэбо! Паехалі, пашоў!* Азяраны Раг.

ЦЭБЭ'РАК *гл.* ЦАБЭ'РАК

ЦЭ'ВАЧКА *ж. памянш.* да ц э́ ў к а I. *Цэвачка нітак.* Мачаск Бярэз.

ЦЭ'ГАЦЬ *незак.* ◇ *Ледзь, чуць цэ́гаць* — ледзь жыць, дыхаць. *Ён і сам ледзь цэгая.* Стары Свержань Стаўб. *Ён сам чуць цэгая.* Нізок Уздз.

ЦЭ'ГЛА *ж.* 1. Цэгла. *Цагельны завод быў, рабілі цэґлу.* Ёдлавічы Брасл. *Цэґла, адна — цаґліна.* Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл. *У Забаліне рабілі цэґлу.* Грыкені Вільн. *З цэґлы печы робяць.* Жодзішкі Смарг. *А дайней печы білі з гліны, цэґлы ня было.* Магуны Паст. *Робяць печ: укладваюць с камень фундамянт, на яго — цэґлу.* Гальшаны Ашм. *Цэґлаў прывёз.* Старыя Трокі Трак. 2. Адна цаґліна. *Зробіць муляр печ, а збо-*

*ку на адну цэѓлу ніжэй — пяколак.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *cegła* 'тж'.

ЦЭД, ЦЭТ *м. кулін.* Працэджаная рошчына з аўсянай мукі. *Берыш муку і квасіш, а потым ліеш ваду і мяшаяш і цэдзіш, выцадзіцца — гэта цэд, жамяра астаецца.* Солы Смарг. *Нанач намочыш, вадзіцка стала белая, ашакі аціскаюць, сцэдзяць, цэд астаецца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Цэд працэдзіш — ашакі аўсяныя астаюцца.* Ёдупка Шальч. *Кісель с цэду варылі.* Вузла Мядз., Ахрэмаўцы Брасл. *Цэду наробім і кісель варым.* Саланое Віл. *Цэду наліла ў гаршчок і вару кісель.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цэду асталося ад кісялю, трэба журу зварыць.* Вецярэвічы Пух. *Цэдзім цэт на сітка і варым кісель.* Дакудава Лід., Пацаўшчына Дзятл. *Аўсяны цэт, кісель варылі з яго і бліны пяклі тоненькіі.* Лісна В.-Дзв. *Квасяць аўсяную муку і на рэшата цэдзяць, гэта малако называецца цэт.* Рыбчына Віл. *Цэдзяць на рэшата — і цэт.* Старыя Трокі Трак., Дзяніскавічы Ганц. *Першы цэт густы сцадзілі на кісель, другі цэт жыткі — на жур.* Міратычы Карэл.

ЦЭ́ДЛІК *м. памянш.* Зэдлік. *Цэдлік прынясі дзеду!* Пацаўшчына Дзятл.

ЦЭЛ *прым. кароткі.* Не паранены, не пашкоджаны. *Ён хадзіў на вайну, ды цэл прышоў.* Азяраны Раг.

ЦЭ́ЛКА I *гл.* ЦЭ́ЎКА I

ЦЭ́ЛКА II *ж. анат.* Прамянёвая косць. *У цэлцы рука баліць.* Ванелевічы Кап.

ЦЭ́ЛКІ *прым.* Цэлы, увесь. *Цэлкі дзень палола.* Номікі Бабіц.

ЦЭ́ЛНЫ *прым.* 1. Напоўнены, поўны. *Цэлна торба лісту куплена.* Лоск Валож. *Цэлны стакан цягня.* Гемзы Шальч. 2. Увесь, уся. *Па цэлнай воласці яго знаяць.* Гемзы Шальч. 3. Працяглы ў часе. *Стаяў цэлну нядзелю самалёт, яго глядзелі, аглядалі.* Новікі Гродз.

ЦЭ́ЛЫ, ЦА́ЛЫ *прым.* 1. Не пабіты, не пакрышаны; суцэльны. *Цэлая яйко.* Малі Астр. *Начыня* [талеркі] *цэлая — які звон, а пабітая — не звоніць. Ліповачка рабілася с цэлай ліпы. Звары сухабульбу, не булён, а цэлую бульбу.* Солы Смарг. *Красіва рыба: пярына на цэлым хрыпце.* Быстрыца Астр. 2. Не пачаты. *Вот ветэ наелі — усэ цэло!* Смаляніца Пруж. *Як цала булка хлеба, то па бакох асушкі.* Каўняны Гродз. ◇ *Ад цэ́лай душы́* — шчыра. *Хацела ад цэлай душы, каб добро было.* Валеўка Навагр. 3. Які суадносіцца з пэўнай сукупнасцю. *Цэлая дзерава сядзела буслаў.* Пацаўшчына Дзятл. *Цэлыя госці збіраюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *З цалаю сям'ёю выехаў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Цала світа за ім, за генералам.* Дарава Лях. *Цалы табун кароў.* Быстрыца Астр. *Вайке цалаю руёю ходзяць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дайней на цалую вёску адна, а то дзве лазні.* Збляны Лід. ◇ *Цэ́лы свет* — многа людзей. *Цэлы свет прыяжджаў да яе.* Малі Астр. 4. Значны па колькасці, вазе,

аб'ёму. *Цэлы кілаграм пячэння прынёс.* Буды В.-Дзв. *Набраў бадзягі цэлу торбу.* Плябанцы Ашм. *Цэлы вос бульбы павёс.* Солы Смарг. *Цэлы мех грошай згарэла.* Гальшаны Ашм. *Цала яма картошкі.* Кіралі Шчуч. *Цалу вяску абаранкаў купіў.* Кіралі Шчуч., Грыкені Вільн. *Цалы цэбар вадэ стаіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Цалы воз кары прывёз.* Грыкені Вільн. ∇ *На Ілью — на лапату налью, а на аспажу — цэлую дзяжу.* Вузла Мядз. 5. Тоўсты, вялізны. *Родныя дарылі маладым цэлы свой палатна.* Дакудава Лід. *Як ішла замуш — цэлы сувой аткала: таму на штаны, і таму на штаны.* Падгаі Мін. 6. Не падраны. *Цалыя мяшкі забралі.* Мярэцкія Глыб. 7. Які суадносіцца з часткай тэрыторыі, поля. *Ён цалы берах ад яго адгараў — як атцялі берах.* Кіралі Шчуч. *Цалы ўчастак поля заліло, заліліся ўчасткі.* Альхоўцы Лях. 8. Працяглы ў часе. *Цэлы дзень і галавы не прылажыўшы.* Гемзы Шальч. *Боўдзіла яе хлапец — выйдзя і будзя крычаць цэлы дзень.* Малі Астр. *Дзень цэлы атседзелі.* Буды В.-Дзв. *Цэлую ноч плакала.* Буды Астр. *Тады ідзе патпоўня цэлы тыдзянь. Цэлую нядзелю ня йдзе ў сваю хату — кажуць няможна.* Малахоўцы Бар. *Лета цэла пасу карову.* Гальшаны Ашм. *Жаргаеш праз дрова цэла лета — так двор завалены.* Малі Астр. *Цэлая лета кундзюк вісіць — і мяса не псуецца, як свежая.* Руднікі Шальч. *Даўней цэлу зіму пралі.* Васілевічы Гродз. *На драніцу нанізваям кляновы ліст — і цэлу зіму вісіць.* Крэва Смарг. *Раблю цэлу весну.* Альхоўка Навагр. *Сядзела цалы дзень дома, хворая была.* Пацаўшчына Дзятл. *Цалую зіму там ні замярзая.* Быстрыца Астр. *Цалу ноч кідаюся, ня сплю. Яна цалы дзень не паказвалася.* Дэгшні Шальч. *Цалы гот ня будзя гаварыць.* Кіралі Шчуч. *Я служыла цалэ жыце па памешчыках.* Васілевічы Гродз. *Цала жыцця рабіў на сталярку.* Збляны Лід. *Цала жыцця пражыў.* Вялікія Баяры Шчуч. *За цала жыцця ўсенькага было.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *cały* 'увесь, цэлы'.

ЦЭ'ЛЬНЫ *прым.* Тое ж, што і ц э́ л ы 8. *Цэльную зіму балей. Яшчэ цэльны час да захаду, а цёмна.* Гемзы Шальч.

ЦЭЛЯ'ЧЫ *гл.* ЦЯЛЯ'ЧЫ

ЦЭМБРАВІ'НА, ЦЫМБРАВІ'НА, ЦАМБРАВІ'НА *ж.* Цэментная труба. *Цяпер калодзеш с цэмбравін.* Баброўнікі Гарад. *Цымбравіна — труба с цыманту.* Ракаўскія Швянч. *Дзесяць цымбравін паставілі, і вады німа* [у студні]. Ахрэмаўцы Брасл. *Цамбравіна — труба, якая пракладаецца пад дарогу.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *cembrowina* 'калодзежны зруб'.

ЦЭМЕНТО'ВЫ *прым.* Пакрыты цэментам. *Там велька цэментова яма, зліваюць брагу.* Кіралі Шчуч.

ЦЭП I *м. с.-г.* Ручная прылада для малацьбы. *Цэп складаецца: цапілна — дзяржыцца ў руках, булаўка — біць снапы, ужык раменны — прывязваць булаўку да цапілна.* Гемзы Шальч. *Цэп мае: цэпільня, біяк, вужык, прывяску.* Сакаляны Сакол. *Калатушка в цэпе, цапом нада вымалаціць. На маей памяці не*

*было цапов.* Рагулішкі Даўг. *Цапом калісьці малацілі.* Кудзялянцы Шальч. *Цапом ідзеш малаціць.* Ністанішкі Смарг. *Цапом б'ёш, даўней цапамі абівалі вусы ў ячмені, пойсавалі ячмень.* Руднікі Шальч. *Малацілі даўней цапамі.* Грыкені Вільн., Стральцы Шальч.

ЦЭП II *м.* і *ж.* 1. Ланцуг. *На цапы навязваюць кароў, кол убіваюць у зямлю.* Пасіене Лудз. 2. *перан. ваен.* Група людзей, размешчаная па адной лініі. *Натходзіць цэп немцаў, а мы ў акопах сядзелі.* Вузла Мядз. *Як ішоў цэп — кругом гарэлі вёскі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Цэп немцаў як ішла, і нас акружыўшы.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Лапанка была, ішлі цэпам салдаты.* Руднікі Шальч.

ЦЭПАВІ'ШЧЭ *гл.* ЦАПАВІ'ШЧА

ЦЭПІ'ЛЬНІСКО *н.* Тое ж, што і ц а п а в і д л а. *Быў цэп, цэпільніско, у яго была булова, і білі ім.* Хатынічы Ганц.

ЦЭПІ'ЛЬНЯ *н.* Тое ж, што і ц а п а в і д л а. *Цэп мае цэпільня, біяк, вужык, прывяску.* Сакаляны Сакол.

ЦЭПІ'СКО *н.* Тое ж, што і ц а п а в і д л а. *У цэпе біч і цэпіско.* Сапоцкіна Гродз.

ЦЭ'ПКІ *прым.* Учэпісты. *Дзяцел цэпкі: дуя дзюбай, упёршыся лапкамі.* Малі Астр.; *параўн.* руск. *цепкий* 'тж'.

ЦЭ'ПЛІ *мн.* Соплі. *Цэплі цячэць* [цякуць] *з носа, як бутылкі павесіўшыся.* Ёдлавічы Брасл.

ЦЭ'ПНУЦЬ *зак. экспр.* Укусіць. *Цэпнула гадзюка за костачкі.* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЭР I, ЦЫР *м.* 1. *бат.* Губа. *На бярозе расце цэр — грыб такі.* Мачаск Бяроз. *Цыр расце на дубі.* Тухавічы Лях. 2. Выробленая губа для дабывання агню. *Цэр на алешыне, калі цэр у попеле памачыць, высушыць і пабіць, ён жоўты такі і гарыць, іскра папала на цэр — патушыш.* Рудня Чэрв. *Цыр зроблены з губы і устаўлены у крэсіва.* Тухавічы Лях.

ЦЭР II *м. пчал.* 1. Тонкае покрыва, абалонка з воску, вашчыны. *Цэрам, пласцінай пчолы закрываяць мёт. Цэр паставілі пчолы.* Груздава Паст. 2. Чарва. *У гочках цэр матка палажыла, то мёт не узліёць. Лучшы паткорм этаму цэру. На трутнёвым цэр заложана.* Быстрыца Астр.

ЦЭ'РА I *ж.* Тое ж, што і ц э р I, 1. *На бярозе расце цэра. Цэра урушная, жоўтая, між расколіны ў бярозе расце.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЭ'РА II *ж.* Колер твару. *Яна дзевачка нічога, і цэра харошая.* Івашкаўцы Смарг. *Адзін чалавек цёмнай цэры, другі — светлай.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *cera* 'тж'.

ЦЭ'РВЫТЫ *незак.* Чахнуць. Сіманавічы Драг.

ЦЭ'РКАВА, ЦЭ'РКАЎ, ЦЭ'РКВА *ж.* Царква. *У цэркаву цяпер ні ходзяць.* Асавец Віл. *Даўна тут была цэркава.* Саланое Віл. *Цэркаў там была — і патанула.* Беразіно Докш. *Маладыя ў цэркаў ня ходзяць.* Малахоўцы Бар. *Цэрква, а на ту сторану — школа.* Малышы Лід. *Найбольша цэрква ў Мастаўлян.*

Баброўнікі Гарад. *Каля цэрквы ест гулачка.* Збляны Лід. *Мы хадзілі ў цэркву за дзевяць кіламетраў, і толькі перад цэрквою абуваліся.* Вузла Мядз. *У цэркву хадзіла.* Рыбчына Віл., Пасіене Лудз., Мярэцкія Глыб., Ністанішкі Смарг. *У цэркву ідучы, вона згубіла рубля.* Смаляніца Пруж.

ЦЭ'РЭП *м. пчал.* Вадкі мёд. *Незалеплены жыткі мёт завецца цэрэп, ён не мае вартасці — плахі мёт. Пчолы зробяць цэрэп, то машуць крыламі, кап воду выпарыць.* Мсцібава Ваўк.

ЦЭ'ТЛІКІ *мн.* 1. Вузкія палоскі ці пасачкі матэрыялу, прышытыя да чаго-н. для завязвання. *Цэтлікі прышыла да фартуха.* Ёдлавічы Брасл. 2. Клінкі, устаўкі. *Цэтлікі ўстаўлялі ў штаны.* Азяраны Раг.; *параўн.* ням. *Zettel* 'значок'.

ЦЭ'ЎКА I, ЦЭ'ЛКА, ЦЫ'ВКА *ж. ткац.* Трубачка для намотвання нітак. *Цэўка ў чаўнык закладаецца, а на цэўку ніткі намотваюцца. Цэўка ў чаўныку насожана на пруток.* Лука Нараўк. *Цэўка ў чаўніку.* Грыкені Вільн., Васілевічы Гродз. *Ніткі наматваюцца на цэўку. У чалнок укладваецца цэўка.* Малышы Лід. *Бярэш цэўку і сукаеш у калаўрот.* Солы Смарг. *Цэўкі сукалі.* Дзераўное Стаўб. *Цэвак з дзерава нарабілі.* Кудзялянцы Шальч. *Цэўка — тонкая трубачка, на якую наматваюць ніткі і закладваюць у чаўнок. Сукаць цэўку нада.* Асавец Віл. *Нада цэўку насучыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *На цэўку намотаныя ніткі закладаюцца ў чаўнок.* Пацаўшчына Дзятл. *Сукалі цэўкі на сукало. Насучы цэўку, буду ткаць кросна!* Альхоўцы Лях. *Адна цэўка, а много — цаўкі.* Навасёлкі Свісл. *На цэлку сучым і ткомь таею цэлкаю кросна.* Дзяніскавічы Ганц. *Сучат цывку.* Дзмітравічы Кам.

ЦЭ'ЎКА II *ж. анат.* 1. Локцевая косць. *Паламала цэўку.* Альхоўцы Лях. *Цэўка баліць.* Старое Сяло Зэльв. 2. Частка рукі, нагі. *Цэўка — ад кулака да локця.* Магуны Паст. *Цэўка — рука да локця.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Цэўка — пярэдняя часць нагі.* Старое Сяло Зэльв. *Ліпаў многа, таўсціні з цэўку.* Валынцы В.-Дзв.

ЦЭ'ХА *ж.* Посцілка, дзяружка. *Накрыўся цэхаю радняною.* Азарычы Пін.

ЦЮГА'-ЦЮГА' *выкл.* Выкрык, якім праганяюць ваўка. *«Цюга-цюга, бяры, цюцька, ваўка!» — Так гналіся за ваўком і крычалі.* Вузла Мядз. *Але як сталі крычаць людзі: цюга-цюга ваўка! — дык, нябэсь, пацяўся назат у лес.* Адамава Валож.

ЦЮК *м.* Вязка, скрутак чаго-н. *Лыка ў цюк звязвалі.* Саланое Віл. *Лён часалі на грэбні і вязалі ў цюк.* Беразіно Докш. *У цюкі б'юць сена.* Малышы Лід.

ЦЮКАВА'ЦЬ, ЦЮКУВА'ЦЬ *незак.* Цюкаваць. *Цюкавалі цюкі.* Кураполле Паст. *Сено цюкувалі ў цюкі.* Мсцібава Ваўк. *Леташню салому цюкувалі.* Ялова Пруж.

ЦЮ'КАЦЬ I *незак. экспр.* Красаць, сячы чым-н. *Гарун паложаць на бляшачку і цюкаюць, гарун загараецца.* Дзёрнавічы

В.-Дзв. *Яна не ўмее цюкаць. Не цюкэй! — Бо не пашчапаеш, а толькі поглуміш.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЮ'КАЦЬ II *незак.* 1. Тое ж, што і ц к а в а́ ц ь. *Толькі ён увайшоў у двор, а яго пачалі цюкаць сабакам.* Мішневічы Шум. 2. *перан. экспр.* Адмаўляць, асуджаць, пераконваць у чым-н. *Усе цюкалі на яго: «Каго ты бярэш!»* Вузла Мядз.

ЦЮ'КНУЦЬ *зак. безас. экспр.* Успомніць, узбегчы на памяць. *Мне цюкнула нешта — і я вярнулася.* Каўняны Гродз. *Цюкнула мне, і я адумалася, што мне нада было рабіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мне цюкнула, што гэта яна зрабіла.* Гемзы Шальч. *Мне цюкнула, куды я палажыла.* Граўжышкі Ашм.

ЦЮКУВА'ЦЬ *гл.* ЦЮКАВА'ЦЬ

ЦЮЛА' *ж.* Тое ж, што і ц і н ц е́ л ь. *Дaўней з талакна сціскаюць цюлу і ядуць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *čiūlė* 'жменя; камяк'.

ЦЮЛІ' *мн.* Цюлевыя фіранкі. *На покуці цяпер бапкі вешаюць цюлі, а было — повесяць ручніка гэ і ўсё.* Хатынічы Ганц.

ЦЮЛЮНКАВА'ТЫ *прым.* Непаваротлівы, марудны, павольны ў рухах. *Цюлюнкаватая баба ідзе, яна здарова, але ледва рухаецца, ледва ногі мяняя.* Кіралі Шчуч.

ЦЮ'МАЧКІ *мн. памянш.* да ц ю́ м к і. *Для мерца шылі цюмачкі: даўней скроіць хто с суравога палатна і пашыіць цюмачкі.* Кіралі Шчуч.

ЦЮ'МКІ *мн.* Тапкі, вязаныя або пашытыя з матэрыялу. *Цюмкі лёгенькія, нагам у іх не горача.* Галубы Маст. *Цюмкі с палатна шылі.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *čiuṁkė, čiuṅkė* 'тапачка з палатна ці з нітак'.

ЦЮМЦЯЛЯ'Й *м. зневаж.* Непаваротлівы, марудны, гультаяваты чалавек. *Цюмцяляй — вялы целяваты чалавек.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *cim̃ci lim̃ci* 'цямця-лямця'.

ЦЮ'МЫ *мн.* Тое ж, што і ц ю́ м к і. *У цюмах мяканька хадзіць.* Кіралі Шчуч.

ЦЮ'НІ *мн.* Тое ж, што і ц ю́ м к і. *Цюні рабілі з валу.* Мсцібава Ваўк.

ЦЮ'НІКА *ж.* Від жаночага верхняга адзення. *Цюнікі шылі — плацце некагда, пала за палу заходзілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *туника,* польск. *tunika* 'тж'.

ЦЮ'НКІ, ЦЮ'НЬКІ *мн.* 1. Тое ж, што і ц ю́ м к і. *Насілі цюнкі плеценыя і шылі с свайго сукна.* Вялікія Баяры Шчуч. *З валу вязалі калюшчыя цюнькі.* Мсцібава Ваўк. 2. Анучкі, закручаныя на нагах, або панчохі, пашытыя з якога-н. матэрыялу. *Цюнкі з палатна даўней круцілі на ногі пакойніку.* Старое Сяло Зэльв. *Бывала, цюнкамі ўкручвалі ногі мертвяцу.* Вострава Маст. *Бывае, што чалавек-калека, ходзіць з куксамі, у яго такія цюнкі пашыты на ногі.* Дэгшні Шальч. 3. Мянушка жыхароў, якія насілі лапці з пянькі. *«Ужо цюнкі едуць на кірмаш»,— так некалі называлі жыхароў вёскі Лоск, якія насілі кнатовікі — цюнькі, вязаны з пянькі абутак.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ.

*čiùnkė, ĉiuñkė* 'вязаная або шытая тапачка', *čiunkinėti* 'хадзіць, брадзіць без мэты'.

ЦЮ'НЦЫ *мн.* Тое ж, што і цю́нкі 1. *Цюнцы пашыла.* Дэгшні Шальч.

ЦЮ'ПА *ж.* 1. *кулін.* Тое ж, што і цура́ 1. *Цюпу рабілі так: разатрэ цыбулі, солі ўсыпле і вадэ уліе, так даўней рабілі цюпу.* Кіралі Шчуч. *Цюпу елі, крышылі хлеб у салодкую ваду.* Беразіно Докш. *Цюпа з цыбулі, солі і хлеба.* Лісна В.-Дзв. *Даўней цюпу рабілі: нальём ВАДЫ, солі туды, цыбулі, хлеба накрышыш — гэта была цюпа.* Руднікі Шальч. *Цюпу елі: крышылі хлеб у салоткую ваду.* Беразіно Докш. *Цюпа з цыбулі, хлеба і солі.* Лісна В.-Дзв. 2. Перапечка з сумесі рознай мукі. *Спякла цюпу з пшанічнай і ячнай мукі.* Груздава Паст. 3. *экспр.* Благая страва, мешаніна. *Бываіць так, хто накідаіць ў капусту скарынак, а прыдзе хто ў хату і скажа: «Што ты тут нейкую цюпу ясі?!»* Груздава Паст. 4. *перан. зневаж.* Той, хто спакойны, недасведчаны, не знае чаго-н. *Цюпа ты!* Мсцібава Ваўк. *Цюпа не знаіць, як рабіць, як звярнуцца.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *čiurà* 'хто марудны'.

ЦЮ'ПАЦЦА *незак. экспр.* Таптацца, павольна, марудна рабіць. *А другая баба хоць і відзіць, але цюпаецца каля печы.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *čiupénti* 'тж'.

ЦЮ'ПАЦЬ *незак.* 1. Размешваць што-н. *Вымешваем, але кап моцно не цюпаць, кап ні пакрышылася вантрабянка.* Крэва Смарг. 2. *перан. экспр.* Павольна ісці. *Як хто ідзець памалу, то кажуць ледва цюпаіць.* Каўняны Гродз. *Цюпаць — ісці дробнымі шагамі, старыя цюпаюць памалу.* Малахоўцы Бар.; *парайн.* літ. *čiupénti* 'павольна ісці'.

ЦЮ'ПІЦЬ *незак. экспр.* Крышыць. *У малако цюпілі хлеб.* Мішневічы Шум.

ЦЮ'ПКА *ж.* Тое ж, што і цю́па 1. *Бывала, узяў зімой вады і засаладзіў, с хлебам — гэта цюпка.* Быстрыца Астр. *Бывала, елі цюпку — хлеп, соль і вада.* Старыя Трокі Трак. *Цюпку елі.* Чычалі Швянч. *Наеўся цюпкі.* Янова Рас. *Хлеба накрышаць у салоткую ваду, хто мурцоўка, а хто цюпка скажыць.* Вузла Мядз. *Еслі у малако хлеба нарэжам і ядзём — то цюпка. Цюпкі пад'еў — хоць не ўежна, але ўлежна, калі на лёгкай рабоце.* Малі Астр.; *парайн.* польск. *ciupka* 'тж'.

ЦЮ'ПКІ *мн.* Тое ж, што і цю́мкі. *Даўней вывяжаш цюпкі ў хаці хадзіць.* Парэчча Гродз. *Дзецям рабілі цюпкі шарсцяныя, усяляк абуваліся і зімою, і летам.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *čèpkės* 'тж'.

ЦЮ'ПЦІЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і цю́паць 2. *Чалавек цюпціўся, як нежывы.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Імкнуцца да цяпла, укрывацца цёплым. *Як пагода кепская, цюпціцца чалавек у цёплае месцо, каб на печ, каб пад пярыну.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *čiurà* 'той, хто марудны'.

ЦЮ'ПЫ *мн.* Тое ж, што і цю́мкі. *Цюпы былі робленыя з*

*нітак або з палатна шылі, зашпіляліся на гузік.* Мсцібава Ваўк. *Жэнщчыны шылі выступкі с мацерыі пакрэпчы. Іх называлі і трэпамі, і цюпамі.* Масілавічы Сл. *Дайней цюпы з ніцей сплятуць на ногі.* Кураполле Паст. *Дзет ідзе ў цюпах.* Вялікія Баяры Шчуч. *З палатна шылі цюпы на смерць.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *ciupy* 'мужчынскія штаны', літ. *čiupénti* 'марудна ісці, рабіць'.

ЦЮРА′ *ж. кулін.* Тое ж, што і ц у р а́ 1. *Цюра ці мурца: хлеп, вада, сахар.* Чуркі Ашм.

ЦЮРКАЧО′М *прысл.* Цурком. *Вельмі дошч даў, вада цячэ цюркачом. Як велькія жарала у каровы — малако цячэ цюркачом.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *čiurkomìs* 'тж'; *гл.* ц у р а л ё м.

ЦЮ′РКІ *прысл.* Тое ж, што і ц ю р к а ч о́ м. *Цюркі цякуць слёзы.* Старыя Трокі Трак.

ЦЮРМА′ *ж.* Турма. *Удвох яны сядзелі ў цюрме і папрыходзілі абудва с цюрмы.* Альхоўка Навагр. *У цюрме сядзеў — гарэлка звяла.* Малахоўцы Бар. ∇ *От цэркві можно отказацца, от цюрмы не откажасса.* Маркоўскае Лельч.

ЦЮРПА′ЛОК *м.* Тое ж, што і ц у р б а́ к. Сіманавічы Драг.

ЦЮРЧА′ЦЬ *гл.* ЦУРЧА′ЦЬ

ЦЮРЭ′МНІК *м.* Вязень. *Цюрэмнікі сновалі.* Азарычы Пін. *Хлапец яго — цюрэмнік, па цюрмах сядзіць.* Кузьмічы Люб.; *парайн.* руск. *тюремщик* 'вязень'.

ЦЮФЯ′К *м.* Сяннік. *Каліська цюфяк саломаю напіхалі.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* руск. *тюфяк* 'матрац'.

ЦЮ′ХАЦЬ *незак. экспр.* Бегчы трушком. *Цюхая конь трохy.* Азяраны Раг.

ЦЮХЛЯ′К *м.* Матрац. *Цюхляк с пільсці рабілі: у нас была сукнавальня, атходы мы ў рэцы мылі, сушылі і рабілі цюхлякі замест падушкі.* Рудня Чэрв.; *парайн.* руск. *тюфяк* 'сяннік, матрац'.

ЦЮ′ХНУЦЬ *зак.* да ц ю́ х а ц ь. *Конь ні хоча бегці: яго пагані, ён цюхне і зноў шагам ідзе.* Азяраны Раг.

ЦЮХЦЕ′ЛЬ *м. зневаж.* Той, хто тоўсты, непаваротлівы; абібок, гультай. *Малады і такі цюхцель!* Асавец Віл. *А ён, як цюхцель, не схваціцца памахчы!* Мсцібава Ваўк.

ЦЮЦІ′Н *м. бат.* Тытунь. *Цюцін некаторыя сеялі, лісты клалі ў горбачку, некаторыя на ніткі вешалі.* Лука Нараўк.

ЦЮЦЮКІ′ *мн.,* ЦЮЦЮ′К *м.* Каташкі, каташок. *Цюцюкі — шышкі на бярозе.* Альхоўка Навагр. ∇ *Абмочысся, як цюцюк!* Міратычы Карэл.

ЦЮЦЮ′Н *м.* 1. Тое ж, што і ц ю ц і́ н. *От цюцюну пасадзіў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тытунь, прыгатаваны для курэння. *Дайней мушчыны мяшок с цюцюном насілі.* Вецярэвічы Пух.

ЦЮЦЮПА′Н *м.* Парася з белай палоскай вакол тулава. *Белапаясыя парасяты, іх называюць цюцюпан.* Альхоўцы Лях.

ЦЮЦЮРЭ′ЦЬ *незак.* 1. Надзімацца, натапырваць пер'я (у час хваробы). *Цюцюрэя курыца — сумна робіцца, пёры ната-*

*пырвае.* Рыбчына Віл. 2. Зябнуць. *Цюцюрэяць індзючкі, як холадна.* Рыбчына Віл. 3. *перан.-экспр.* Сядзець моўчкі. *Нешта ён цюцюрэя, сядзіць, не гаворыць.* Рыбчына Віл.

ЦЮ'ШКА *ж.* Палонка, праломка. *Зімой рыба затыхаецца, як праб'юць цюшку, яна тады лезіць у гэту цюшку наверх. Нада прасячы цюшку. Зімой на возяры прасякаюць цюшку і рыбу дастаюць.* Мярэцкія Глыб. *Цюшка на рацэ прасечана.* Беразіно Докш.

ЦЯ *займ.* Цябе. ∇ *А бадай ця не знаць!* Курaполле Паст.

ЦЯ'ВІНА *ж.* Тое ж, што і ц а в і н а́ 1. *Цявіна бульбы.* Семежава Кап.

ЦЯГ, ЦЯХ *м.* 1. Вяроўка, рэмень. *Цягам ці супоняй падпяражуцца па кажуху.* Азяраны Раг. 2. Пачырванелы след на целе ад пабояў. *Тут цяг нейкі, як ад рамня.* Валынцы В.-Дзв.

ЦЯ'ГА *ж.* Тое ж, што і ц ё н г 1. *Цяга ў печы дрэнная.* Мыто Лід. *Нетуці цягі ў трубе.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦЯГА'Й *м. лаянк.* Валацуга. *Цягай ты гэтакі! Нігды ў хаце не ўседзіш, недзе валачэшся.* Галубы Маст.

ЦЯГА'ЙЛА *м.* Тое ж, што і ц я г а́ й. Дакудава Лід.

ЦЯГАЛЫ' ◇ *Цягалы́ туды́* — хутка пабегчы, драпануць. *Як сказалі яму — ён штаны на сябе і цягалы туды!* Вецярэвічы Пух.

ЦЯ'ГАМ *прысл.* Адно за адно. *Зачапіў цягам два палены.* Мачаск Бярэз. ◇ *Адны́м ця́гам* — павольна, паступова. *Шах за шагам — адным цягам.* Володзькі Малад.

ЦЯГАНІ'НА *ж.* Марудная работа, клопат. *Там цяганіна з гэтымі качкамі.* Парэчча Гродз. *Будзя цяганіна з гэтай работай.* Жылі Іўеў. *Цяганіна па тых паездах ездзіць, я раз паехаў і заблудзіўся.* Баброўнікі Гарад.

ЦЯГА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і ц ё г а ц ц а. *Цягаўся па вуліцы.* Вецярэвічы Пух. *Тая да хаты ідзе, а ты цягалася па вёсцы.* Кіралі Шчуч. *Чаго ён па палёх цягаецца?!* Паляцкішкі Воран.

ЦЯГА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ц ё г а ц ь 1. *Пайду цягаць салому.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён цягоў сено ў копы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прывязуць, выгрузюць, а ты цягай гэты брыкет!* Чапаеўскі В.-Дзв. *Самі цягаям сенаш.* Гальшаны Ашм. *Мне нада цягаць ейная дзіця.* Пляўбанцы Ашм. *Цягалі насілкамі пясок на гару.* Літва Лях. *Яе бацька рабіў склеп, цягаў камення.* Ёдупка Шальч. 2. Выцягваць з глыбіні. *Ідзі цягай ваду з калодзезя!* Азяраны Раг. 3. *экспр.* Рыбачыць. *Яршы цягаіць з возера.* Замошша Брасл. 4. Вазіць сабой. *Ён саначкі цягая.* Лоск Валож. ∇ *Рас любіш катацца — любі і саначкі цягаць.* Вузла Мядз. 5. *ткац.* Прыбіваць ніткі ўтку ў працэсе ткання. *Як тчэш — цягаеш набіліцы туды-сюды.* Слабада Мін. 6. Рассцілаць. *На лонку палатно цягалі, бялілі.* Канюкай Вільн. 7. *плыт.* Сплаўляць. *Лес перасталі цягаць па Нёмну.* Збляны Лід. 8. Вадзіць з сабой. *Яго малога сталі за сабой цягаць.* Ах-

рэмаўцы Брасл. 9. Лавіць, паляваць. *Як прынеслі мы котку, так яна як пачала пацукі цягаць, от цягала яна пацукі!* Гемзы Шальч. *Ваўкі перш авечкі цягалі.* Малі Астр. 10. Дзяўбці. *Іх качар цягая гусяната.* Кіралі Шчуч. 11. Вырываць. *Цяпер зубы цягаюць і ў маладых, не толькі ў старых.* Паляцкішкі Воран. 12. *безас.* Торгаць, балець. *Мне цягае пат каленам.* Воўкуш Ліпск.

ЦЯГА'Ч *м.* Тое ж, што і ц я г а́ й. *Цягач ты!* Вялікія Баяры Шчуч. *Куды той цягач ідзе?* Кіралі Шчуч.

ЦЯГАЧЫ' *мн. с.-г.* Драўляныя падстаўкі пад саху для перасоўвання. *Былі цягачы, каб саху не ганяць па зямлі.* Івашкаўцы Смарг.

ЦЯГА'ШЧА *ж. лаянк.* Распусніца, валацуга. *Ты цягашча, хваробы набралася.* Кудзялянцы Шальч. *І даў мне бох такую цягашчу.* Кіралі Шчуч.

ЦЯ'ГІ *мн. с.-г.* Пастронкі. *Цягі чапаюць за ворчык доўгі.* Палік Барыс. *Цягі рабіліся з пянькі і цягнуліся ад хамута да каромісла, як каня запрагалі ў плух ці ў барану.* Азяраны Раг. *Цягі ці пастронкі — тое самае.* Ухвала Круп.

ЦЯ'ГЛІВІНА *ж.* Крыніца. *Там ніпрахадзімае балота, ёсць цяглівіна каля жорава.* Кураполле Паст.

ЦЯГЛО' I *н. с.-г.* 1. Жалезнае колца, прымацаванае да бараны. *За барану чаплялосё цягло, а за цягло чапляўся ворчык.* Міратычы Карэл. *Цягло — кружок, які прымацоўваўся да закаблука бараны.* Альхоўцы Лях. *За цягло ворчык чапляюць у бароне.* Малахоўцы Бар. *Цягло — за што прывязваецца барана.* Пасека Ст.-Дар. *Цягло саядзіняюць за ворчык.* Тухавічы Лях. 2. Дышаль. *Цягло з дзерава, як запрагалі валоў, цягло между волікаў.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Ярмо. *Пастронкі чаплялі за цягло.* Малыя Аўцюкі Калінк. 4. Бярвенне; груз. *Цягло на прыстань вазілі, вязалі ў плыты.* Рудня Астравітая Чэрв. ◇ *Е́хаць у цягло́* — ехаць у лес на работу. *А мы паедзем у цягло — рэзаць лес.* Мачаск Бярэз. *Паехаў у цягло — лес вазіць.* Рудня Чэрв. 5. *перан.* Вельмі працавіты чалавек. *Яе мужык — такоя цягло.* Валынцы В.-Дзв. *Цягло ён, за ўсіх адзін цягнець у тэй сям'е.* Мішневічы Шум.

ЦЯГЛО' II *н. устар.* Былая мера зямлі, роўная 1/4 валокі. *Даўней пыталі: «У цябе быў надзел ці цягло?» Валока разбівалася на чатыры цяглы. Цягло — чатыры надзелы.* Азяраны Раг.

ЦЯ'ГЛЫ *прым.* 1. Высокі, рослы. *Дзяўчына цяглая, выцягнулася, як цыбук.* Рыбчына Віл. 2. Набраклы. *Цяглыя жылы на руках.* Жылі Іўеў.

ЦЯ'ГЛЯ *ж.*, ЦЯ'ГЛІ *мн. анат.* Паджылкі, каленныя сухажыллі. *Зачасалася цягля пат каленам.* Міратычы Карэл. *Цягля — пат сподам жыла. Гуз сядзеў пат цягляй.* Альхоўцы Лях. *Цягля пад каленам на назе.* Малахоўцы Бар. *Цяглі баляць.*

Рудня Астравітая Чэрв. *Садзіла картоплю — баляць цяглі. Пашыла сукенку па самыя цяглі.* Альхоўцы Лях.

ЦЯГНУ'ЦЦА *незак. экспр.* 1. Ісці. *І ён цягнецца з бацькам на работу.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Ледзь ісці, пераступаць. *Яна палкай апіраецца, ногі чуць цягнуцца.* Завельцы Астр. 3. *неадабр.* Хадзіць, заляцацца. *Упярот ён да яе цягнуўся, а патом гаварыў: «Мама, яна мне праціўна».* Перабродздзе Міёр. ▽ *Цягну́цца за́муж* — выходзіць замуж. *Дайней нявеста* [у царкве] *зачапляла ручнік правай нагой і цягнула да прыстола, каб дзеўкі цягнуліся замуж.* Валеўка Навагр. 4. Распасцірацца на вялікую плошчу, прастору. *Там вялікае возера цягнецца — аш пад Бронкішкі.* Грыкені Вільн. *Горы тыя досі далёка цягнуцца.* Збляны Лід. 5. Расцягвацца. *Цеста с пшанічнай мукі цягнецца.* Лісна В.-Дзв. *Добры кісель з пляcканага аўса, ён цягнецца.* Ракаўскія Швянч. 6. Выпроствацца ў адным напрамку. *Ёсць такая трава — маўра, цягнецца, такая длугая, каровы ядуць.* Завельцы Астр. 7. *перан.* Весціся, быць у наяўнасці. *У іх цягнуліся грошы — яны абоя палучаяць.* Груздава Паст. ▽ *Бяда за бядой так і цягніцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦЯГНУ'ЦЬ *незак.* 1. Перамяшчаць што-н. па вадзе, па зямлі. *Трыгубіцу закладаюць у рэчку, па зямлі цягнуць.* Солы Смарг. *Цягнулі кацерам лес па Нёмні.* Малышы Лід. *Яны яго цягнулі па зямлі.* Ахрэмаўцы Брасл. *На вяроўца цягня.* Латыгаль Віл. 2. Везці. *Не цягнець конь.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Араць. *Маленькую скібачку* [зямлі] *конь цягне.* Васілевічы Гродз. 4. Несці, валачы гвалтоўна; трымацца. *Дайней трэба дзіця цягнуць на поле.* Канюкай Вільн. *Ён цягне з печы біць.* Гемзы Шальч. *Немяц цягня па вуліцы хлопца.* Малышы Лід. *Дзеці за юпку цягнуць.* Гальшаны Ашм. 5. *перан.* Цяжка працаваць. *Яна за ўсіх цягня — колькі сіл ёсць.* Груздава Паст. 6. *асаб.* і *безас.* У выразах: *Цягну́ць нітку* — намотваць. *У калаўроця скрыдла і шпуля цягне нітку.* Быстрыца Астр. *Цягну́ць со́ты* — рабіць соты. *Ад драбіны пчолы цягнуць соты.* Вецярэвічы Пух. *Смалу́ цягну́ць* — дабываць, выцягваць. *Смалу цягнуць — дзерава сітчатае, слабое робіцца.* Вецярэвічы Пух. *Цягнулі смалу, цяпер ня робяць.* Кіралі Шчуч. *Цягну́ць малако́* — ссаць. *А малако хто цягня? — вуш цягня за цыцкі.* Альхоўцы Лях. У выразах: *Цягну́ць дух да сябе́* — удыхаць паветра. *Цягні да сябе як можаш дух!* Гальшаны Ашм. *Цягну́ць за каго́-н.* — заступацца. *Стася будзя цягнуць за матку, а сын — за бацьку.* Ёдлавічы Брасл. *Цягну́ць ду́шу* — вымагаць, патрабаваць. *Дзеці з мацяры душу цягнуць — грошы ім нада.* Слабада Мін. *Цягну́ць да каго́-н.* — хіліцца, любіць. *Ён лепі цягне да бацькі, чым да маткі.* Кудзялянцы Шальч. *Часта віджуся з ёй, а ўсё роўна цягне мяне.* Дакудава Лід. *Цягну́ць ка сну, на сон* — хацець спаць, быць у санлівым стане. *Такой пагодай ка сну цягне.* Кіралі Шчуч. *Што-то на сон цягня.* Мсцібава Ваўк. *Цягну́ць на якую-н. садавіну́* — жадаць, любіць есці. *Нешта мяне*

*ні цягніць на яблыкі.* Груздава Маст. *Цягнуць да пэўнай кольксці гадоў* — набліжацца па ўзросту да мяжы. *Яна да семдзесят лет цягне.* Парэчча Гродз. *Цягнуць жылы* — моцна балець (пра сутаргу). *Сутарга жылы цягне.* Сакаляны Сакол. *Цягнуць да зямлі* — набліжацца да смерці. *Ужо цягне яго да зямлі — толькі скура на касцях.* Лоск Валож. *І кождага родзіна цягніць.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ЦЯ′ГУ у знач. *прысл. бягом. Ён лэп за тую булачку — ды цягу!* Вецярэвічы Пух.

ЦЯГУ′ЛА, ЦЯГУ′ЛЯ *м.* і *ж. неадабр.* Той, хто марудны, адстае, ідзе ззаду. *Цягула ты! — Ідзе, адстае ад нас! І карова — цягуля, катора астаецца, хоць папіхай яе!* Жодзішкі Смарг.

ЦЯГУН *м. бат.* Трыпутнік. Альхоўка Навагр.

ЦЯГЦІ′ *незак.* 1. Тое ж, што і цягну́ць 1. *Дзеці санкі цяглі.* Азяраны Раг. 2. Выцягваць. *Дзве трубе залажылі, каб цягло воду.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Дзе воўк радзіўса ў ломе, туды яго і цягне.* Кузьмічы Люб.

ЦЯЖАЛО′ *прысл.* Цяжка. *З маладых гадоў работалі мы цяжало.* Руднікі Шальч. *У вайну з хлебам было цяжало.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *тяжело* 'тж'.

ЦЯ′ЖАНЬКА *прысл.* Цяжка. *Цяжанька, думаю, мне будзе жыць тут.* Гальшаны Ашм.

ЦЯЖА′Р, ЦІЖА′Р *м.* і *ж.* Тое ж, што і це́нжар 3. *Некая цяжар на мяне напала, так цяшка мне дыхаць.* Вецярэвічы Пух. *Ціжар на міне нейкій узваліўся. Ціжар у галаву, я і печы не паліла.* Валынцы В.-Дзв.

ЦЯЖА′РНЫ *прым.* Вельмі цяжкі, важкі. *Ведра такіе цяжарные парабіў.* Баброўнікі Гарад.

ЦЯ′ЖАСЦЬ *ж.* Вага. *Цяжасць мая каласок неабмалочаны.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *тяжесть* 'цяжар'.

ЦЯ′ЖБА′ *ж.* 1. Цяжкасць, вялікі клопат. *Бульбу выбраць адной бабі без мужыка — гэта ця́жба.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Тое ж, што і це́нжар 3. *Мокраць такая на дварэ, ця́жба ў галаве. Усё ў галаве ця́жба. Хмарната і такая цяжба́.* Магуны Паст.; *параўн.* руск. *тяжба* 'судовая справа, спрэчка'.

ЦЯ′ЖКА, ЦЯ′ШКА, ЦЯ′ШКО *прысл.* 1. Цяжка, важка (пра затрату вялікай фізічнай сілы). *Як падымеш цяжка, і забаліць унутры — гэта парушэнне.* Старыя Трокі Трак. *Парушэння было ў мяне, дайней цяжка працавалі.* Слабада Мін. *Цяшка працавалі: пні выкарчоўвалі. Мне было цяшка.* Солы Смарг. *Рабіць тут цяшка.* Збляны Лід. *Строіцца цяшка было.* Пасіене Лудз. *Цяшка пёрць мех.* Валынцы В.-Дзв. *Цяшко нарабійся.* Мсцібава Ваўк. *Конь упацеў — цяшко бегці.* Хатынічы Ганц. *Як не па торы ехаць — так цяшка каню.* Збляны Лід. 2. У цяжкіх умовах. *Натта цяшка бес каровы.* Плябанцы Ашм. *Было скучно і жыць цяшко, но вясельчыя былі.* Валеўка Навагр. *Цяшка аднэй жыць. Мама, не знаеш, як мне цяшка.* Гальшаны Ашм.

*Было цяшка яму жыць.* Альхоўка Навагр. ◇ *Бываіць цяшка-расцяшка.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Балюча, пакутліва; глыбока. *Цяшка руку быў пасекшы, тады ездзіў да яго.* Груздава Паст. *Цяшка памёр, відацца.* Кураполле Паст. *Хворы, вельмі цяшко ему.* Крынкі Крын. *На ногі цяшко.* Номікі Бабіц. 4. Гаротна. тужліва. *Цяшка ўздыхнуў.* Паляцкішкі Воран. 5. Невыразна, незвычайна. *Цяжко выгаворваецца гэто слово.* Смаляніца Пруж. *Цяшка патрафіць.* Лоск Валож. ◇ *Слова выцягнуць цяшка* — пра маўклівага, неразгаворлівага чалавека. *З яго слова выцягнуць цяшка — усё маўчыць.* Малі Астр. *Цяшка дыхаць* — трудна. *Проці ветра цяшка дыхаць.* Вузла Мядз.

ЦЯ′ЖКІ′, ЦЯ′ШКІ′ *прым.* 1. Які мае значную вагу, важкі. *Чыгун цяжкі, можа, дзе ахнулі, а картошку выбралі.* Валеўка Навагр. *Падняў цяжкі мех жыта.* Азяраны Раг. *Цяшкі пятух, мала граў с курмі.* Малі Астр. *У мяне менсныя куры: цяшкія, як валіза — ні падняць.* Дэгшні Шальч. *Цяшкі мех з мукой, с цымантам. Цяшкі* [цяжкое] *вядро з вадой. Балька цяшкая.* Ёдлавічы Брасл. *Цяшкоя жыта.* Ністанішкі Смарг. *Цяшкі ворак — глядзі, падарвешся, не паднясеш.* Гемзы Шальч. *Мех цяшкі — не падняць.* Кіралі Шчуч., Рудня Астравітая Чэрв. *Хлеп цяшкі.* Старое Сяло Зэльв. *Курыца цяшкая.* Мярэцкія Глыб. *Пальто адзеўшы цяшкоя.* Ёдлавічы Брасл. *Зямля цяшкая.* Мсцібава Ваўк. 2. Які патрабуе многа працы, сілы, непасільны. *Цяжкая работа ў яе.* Старыя Смільгіні Воран. *Як цяшкая работа бывая летам, кіндзюка адрэжа плітку.* Руднікі Шальч. *Гэта работа нам цяшкая.* Крынкі Крын. ◇*Цяжкі лёс* — нешчаслівы. *Цяшкі лёс у маей дачкі.* Солы Смарг. 3. Балючы, марудны. *Натта мне ногі цяшкія, я ледва прыду да Зосі.* Кіралі Шчуч. ◇ *Цяшкі крок* — слабая павольная хада. *У старога чалавека цяшкі крок, ён цяшка ходзіць.* Дэгшні Шальч. 4. Марозны, зацяжны, халодны. *У гэтым годзе будзе зіма цяшкая.* Ліпнікі Вільн. 5. Неўрадлівы, трудны. ▽ *Як у хаці гром першы рас пачуіш — будзіць цяшкі гот на хлеп.* Кураполле Паст.

ЦЯ′ЖКІ′Я, ЦЯ′ШКІ′Я (ВАНТРО′БЫ) толькі *мн.* Печань. *Цяжкія аднімаюцца ад кішок.* Крэва Смарг. *Цяжкія — гэто печань.* Магуны Паст. *Цяшкія — гэта печане.* Асавец Віл. *Цяшкія — печань; легкія — плуцы.* Солы Смарг. *У кабана цяшкія печані, дзе жоўць.* Вузла Мядз. *У цяшкіх жоўць горкая, як труцізна.* Руднікі Шальч. *Мой дзет казаў цяшкія, а цяпер — вантроба.* Паляцкішкі Воран. *Цяшкія вантробы — ніжэй.* Старыя Трокі Трак. *Бываіць, што матылі кратаюцца ў цяшкіх.* Груздава Паст. *Цяшкія вантробы.* Альхоўка Навагр. *Цяшкія вантробы — гэта печань.* Дакудава Лід. *Калі жывёла хворая, цяшкую вантробу як разрэжаш — выскакаваюць пласкія, як аўсяныя хлоп'я, яны жывыя — гэто матыліцы.* Мсцібава Ваўк.

ЦЯЖО′ЛЫ *прым.* 1. Тое ж, што і ц я ж к і 1. *Наклаў цяжолы вос сена.* Ахрэмаўцы Брасл. ▽ *Як у дароге, так і іголка*

*цяжолая.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Звязаны з умовамі жыцця; станам здароўя (пра старасць, хваробу). *Цяжолая мая жызня.* Кіралі Шчуч. *Цяжолая васьмая дзясятка, ай цяжолая!* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *тяжелый* 'цяжкі'.

ЦЯЖЭ'ЗНЫ *прым.* Надта важкі, цяжкі. *Така цяжэзна кура, як гусь.* Кузьмічы Люб.

ЦЯЖЭ'Й *прысл.* Больш цяжка. *Саўну яшчэ цяжэй піліць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦЯЖЭ'ЛЕЙ *прысл.* Цяжэй, больш напружана. *Райкі цяжэлей з васьмі класаў паступаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *тяжелее* 'тж'.

ЦЯ'КАВАЦЬ *гл.* ЦЕ'КАВАЦЬ

ЦЯКА'ВЫ *прым.* 1. Тое ж, што і ц і к á в ы. *Я цякавая, ці ён купіў мукі, ці не купіў.* Парэчча Гродз. 2. Зацікаўлены. *Ён не цякавы, кап што зрабіць.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *ciekawy* 'цікавы, цікаўлівы'.

ЦЯ'КАЦЬ *незак.* Кракаць. *Вуткі ідуць і цякаюць.* Багушэвічы Бярэз.

ЦЯКО'НЦЫ *дзеепрым.* Цякучы. *Цяконцая вада — чыстая.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *cieknąc* 'цячы'.

ЦЯКУ'Н І *м.* 1. Мокры пясок з зямлёй, які ўвесь час наплывае. *Капаюць студню, і пясок шугане — гэта цякун.* Жодзішкі Смарг. *Як капаеш калодзісь і паплыве рэткая зямля, пясок — гэта цякун.* Саланое Віл. 2. Сыпучы пясок. *Цякун — пясок такі, сыпецца, як капаеш.* Каменка Стара Сакол. *Цякун — жаўцяк, на ім нічога не расцець.* Мішневічы Шум. 3. Плывушка. *Цякун — прысыпка з дзеразы.* Азяраны Раг.

ЦЯКУ'Н ІІ *м.* Некастрыраваны баран, кныр. *Нячышчаны баран — цякун.* Быстрыца Астр. *Цякун — нявылажаны баран, цякун бегая за авечкамі.* Малі Астр. *Быў у кождага цякун, калі было многа авечак.* Ракаўскія Швянч. *Свіня на цякуна ўзнялася.* Магуны Паст.

ЦЯКУ'ЧЫ *дзеепрым.* Які цячэ, працякае. *Цякучае вядро, вада з вядра цячэ.* Дзяніскавічы Ганц. *Сарай цякучы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЯКУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і ц я к ý ч ы. *Вядро цякушчая ўнізі стаіць.* Азяраны Раг.

ЦЯЛЕ'ГА *гл.* ЦЕЛЕ'ГА

ЦЯЛЕ'ННЕ *н.* У выразе: *На цяленні* — напярэдадні цялення. *Карова на цяленні — сільно молоко горкая.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЦЯЛЕ'СНІК *м.*, ЦЯЛЕ'ШНІКІ *мн.* 1. Чалеснікі. *У печы цяленік е, куды праходзіць дым. Трэба залажыць дзірку ў цялесніку.* Альхоўцы Лях. *Цялешнік разваліўся.* Палік Барыс. 2. У знач. *прысл.* *у цялéсніках* — месца ў печы каля чалеснікаў. *Пастаў гаршчок у цялешніках!* Вецярэвічы Пух.

ЦЯЛЕ'Ш, ЦЕЛЕ'Ш *м.* Кругляк. *Цялеш адрэзаў, парэж бервяно на целяшы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Колісь жорна ро-*

*білі: отрэжуць дубовы целеш, і набівалі кусочкі чыгуна.* Маркоўскае Лельч.

ЦЯЛЕ′ШКА *ж.* Прычэп да трактара. *Дзве цялешкі дроў прывезла трактарам.* Саланое Віл.

ЦЯЛЁ *гл.* ЦЯЛЯ′

ЦЯЛЁНАК *м.* Цяля. *Там цялёнак прывязаны.* Рагулішкі Даўг. *Яна мела карову, цялёнка.* Кемялішкі Астр. *Карова тры цялёнькі мела.* Гемзы Шальч.; *гл.* ДАБМ, карта № 84.

ЦЯЛЁНАЧАК *м. памянш.-ласк.* да ц я л ё н а к. *Ці цялёначак мой пояны?* Ёдлавічы Брасл.

ЦЯЛЁНКА *н.* Тое ж, што і ц я л ё н а к. *Худоя цялёнка — скабы тарчаць. От добрая цялёнка! Маё цялёнка не п'ецъ.* Саланое Віл.

ЦЯЛЁТКА *н. памянш.-ласк.* да ц я л ё (я). *Цялётка наша на малацэ гадуецца.* Вязынка Маладз. *Цялётка пасецъ мой сын.* Асавец Віл. *Гэта ш я забылася пра сваі цяляткі.* Чуркі Ашм. ▽ *Чые бычкі — абы мае цяляткі* — не мае значэння: бычок ці цялушачка, абы была карысць. Малі Астр.

ЦЯЛІ′ЦА *ж.* Цялушка. *Каровы німа, цяліца толькі, але пабегала.* Пасека Ст.-Дар. *Цяліца харошая була.* Кузьмічы Люб.

ЦЯЛІ′ЦЦА *незак.* і *зак.* Цяліцца, ацяліцца. *Як карова нядобра целіцца — даюць атвар з выпаўзін піць.* Рагулішкі Даўг. *Дзе яна вазьме малака — шчэ корова не цялілася.* Старое Сяло Зэльв. *Мая карова цялілася.* Вецярэвічы Пух. ▽ *Калі карову запускаць у нядзелю, то днём будзя цяліцца.* Дэгшні Шальч.

ЦЯЛУ′ХА *ж.* Карова. *Тры гады цялух даіла. Цялуху пасціў. Завёў цялуху.* Саланое Віл. *Я пасвіла цялуху.* Парэчча Гродз.

ЦЯЛУ′ШКА *ж.* Тое ж, што і ц я л і ц а. *Цялушка равецъ.* Чычалі Швянч. *Глядзі праз акно цялушкі!* Паляцкішкі Воран. *Цялушку купіў.* Пацаўшчына Дзятл. *Цялушка лятая па надворку.* Ёдупка Шальч. *Цялушку мелі.* Завельцы Астр. *Цялушкі скібу хлеба адрэзаў.* Малі Астр.

ЦЯЛЬМЕ′Х *м. зневаж.* Тое ж, што і ц ю х ц е́ л ь. *Цяльмех нейкі, як бутляк.* Новіны Нясв.

ЦЯЛЬПУ′К *м.* Тое ж, што і ц я л е́ ш. *Цяльпук — кусок тоўстага ствала дрэва.* Пасека Ст.-Дар.

ЦЯЛЮ′К *м.* 1. Тое ж што і ц я л ё н а к. *У нас леташні цялюк; панясу цялюку піць.* Малькуны Ігн. *Карову маюся здаваць — яна с пятым цялюком. Цялюк венкшы быў.* Старыя Трокі Трак. *Ад цялюкоў у каровы робяцца шнары на рагах.* Грыкені Вільн. *Трэба ісці цялюка паіць, сена даць драбнейшага.* Гемзы Шальч. *Цялюка вяла.* Лоск Валож. *Як бальшы цялюк, то карова не расцеліцца.* Руднікі Шальч. *Яна пусціла два цялюкі на мой авёс.* Кудзялянцы Шальч. *Ґіґель цялюком мы збіралі.* Малі Астр. *Цялюка навязаў ля хаты.* Кемялішкі Астр. *Вяла цялюка.* Старыя Смільгіні Воран. *Цялюк мох зайсці ў*

*дварышча; сялетні цялюк. Нада зарэзаць цялюка.* Груздава Паст. *Загналі цялюка.* Ліпнікі Вільн. *Пашла травы цялюку. Цялюку не давала, ні пояна стаіць. Я цялюку зварыла — можна паставіць.* Паляцкішкі Воран. *Мая карова пяршачка — з першым цялюком.* Магуны Паст. *Цялюке яўрэі купялі.* Парэчча Гродз. *Цялюкоў паіла.* Быстрыца Астр. 2. *перан.* Хто ціхі, спакойны. *І на кавалера скажуць — цялюк;* ▽ *Спакойны як цялюк.* Чычалі Швянч.

ЦЯЛЮЧО′К *м. памянш.-ласк.* да ц я л ю́ к 1. *Цялючок ест маленькі.* Паляцкішкі Воран. *Цялючкі ходзяць па полі.* Новыя Мацалі Варэн. *Цялючка зарэзалі.* Кудзялянцы Шальч.

ЦЯЛЯ′, ЦЯЛЁ *н.* Тое ж, што і ц я л ё н а к. *Навязала цяля.* Солы Смарг. *Карова с цéлем.* Сакаляны Сакол. *Цяляці свайго няма.* Збляны Лід. *Дзве цяляці прывязлі.* Альхоўцы Лях. *Скінула карова цялё.* Чуркі Ашм. *Цялё нада паіць.* Вузла Мядз. *Цялё здам.* Навасёлкі Лід.; *гл.* ДАБМ, карты № 86—88.

ЦЯЛЯПА′ЦЦА *незак.* Тое ж, што і ц е л я п á ц ц а 1. *Цяляпаюцца ў фартусе брынды.* Бакшты Іўеў. *Дзве касэ былі — па саму спіну цяляпаліся.* Новіны Нясв.

ЦЯЛЯПЕ′Й *м. зневаж.* Тое ж, што і ц ю м ц я л я́ й. *Яна цяляпея мела: маўчаў, што яна робя — добра было.* ▽ *Сякі-такі цяляпей, а ўсё троха ляпей.* Малі Астр.

ЦЯЛЯ′ТНІК *м.* Даглядчык цялят. *Ідзі рабіць за цялятніка!* Альхоўцы Лях. *Чаму за цялятніка пашоў?* Старое Сяло Зэльв.

ЦЯЛЯ′ТНІЦА *ж.* Даглядчыца цялят. *Цялятніца цялят даглядая.* Гемзы Шальч. *Я цялятніцай рабіла.* Лоск Валож.

ЦЯЛЯ′ЦІНА, ЦЯЛЯ′ЧЫНА *ж.* Цялячае мяса. *З абеда будзіць у магазіне цяляціна.* Саланое Віл. *Цялячыну купіла.* Крэва Смарг. *Цялячыну зажарыла.* Альхоўцы Лях. *Летам цялячыны не дастанеш.* Мсцібава Ваўк.

ЦЯЛЯ′ЧЫ, ЦЭЛЯ′ЧЫ *прым.* Цялячы. *Цяляча мясо.* Дакудава Лід. *Цялячо мясо люблю.* Альхоўцы Лях. *Ядзяць цэлячэ менсо.* Крынкі Крын.

ЦЯ′МКАЦЬ *незак.* Разумець, цяміць, кеміць. *Ён не цямкае, не знаець, дзе рыбу лавіць.* Замошша Брасл.

ЦЯ′МКІ *прым.* Кемлівы, памятлівы. *Ён быў маліц цямкі, вучыўся добра і помніў усё. Яна баба цямкая — усё схватвая на ляту.* Ёдлавічы Брасл.

ЦЯМНАТА′ *гл.* ЦЕМНАТА′

ЦЯМНІ′ЦЬ *незак.* Зацямняць. *Ты цямніш пісаць!* Ністанішкі Смарг. *Адыйдзі, ні цямні!* Малахоўцы Бар.

ЦЯМНІ′ШЧА *н. павел.* Цемната, цемра. *Цямнішча на двара!* Груздава Паст.

ЦЯМНО′ *прысл.* Цёмна. *Цямно было ўночы.* Паляцкішкі Воран.

ЦЯМНЯ′ЦЬ *незак.* 1. *безас.* Цямнець. *Ужо вечар, цямняя, шарэя, змяркая.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. *асаб.* Тое ж, што і ц я м н і́ ц ь. *Не заступай, не цямняй агню!* Галубы Маст.

ЦЯМЦЯЛЕ́Й, ЦІМЦЯЛЕ́Й *м.* Тое ж, што і цюмцялЯ́й. *Бацька яго быў цямцялей — смірны чалавек. Цямцялей такі піхатой пашоў.* Гемзы Шальч. *Цімцялей, а не хлопец!* Мсцібава Ваўк.

ЦЯНЕ́Й 1. *прым.* выш. да це́нкі 4. *Што цяней ніткі, так боляй пасам трэба снаваць.* Магуны Паст. 2. *прысл.* Больш тонка. *Яна цяней прала.* Паляцкішкі Воран. 3. *перан.* Больш ласкава, лагодна. *Як я разяўлюся і варчу, то тата скажа: «Цяней гавары!»* Дварчаны Паст.

ЦЯНЕ́ЙШЫ *прым. выш.* 1. Тое ж, што і це́ншы. 1. *Валькі былі цянейшыя і грубейшыя.* Ракаўскія Швянч. 2. Вытканы з больш тонкай пражы. *Было цянейшае і групшае і грубое палатно.* Канюкай Вільн. 3. Меншы (пра адтуліну). *Дорнік дзе ў жалезя дзюрку выбівая — грубшую і цянейшую.* Старыя Трокі Трак.

ЦЯНЕ́ЦЬ *незак.* Худзець, рабіцца тонкім. *Яна усё цянее і цянее.* Паляцкішкі Воран.

ЦЯНЁК *м. памянш.* да цень І, 2. *Каб мне ў цянёк сесці!* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЯНЖА́Р *м.* 1. Тое ж, што і це́нжар 1. *Цянжар насіла, с цянжару аглохла.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Няшчасце, нягода, бяда. *Якей цянжар выняс ён на сваём га́рбу!* Вязынка Маладз.

ЦЯНУ́ЦЬ *незак.* Падпяваць. *Яна спяваць сама ня можа, як хтось спявае, цянеш і ты.* Васілевічы Гродз.

ЦЯНЬКІ́ *мн.* ∇ *Цянькі дома не начуюць* — хто шукае простай дарогі, той часта блудзіць. Вузла Мядз.

ЦЯНЯ́К *м.* 1. Тое ж, што і цень І, 1. *У мяне цяняк, і я па цяняку віджу, што дзень убывая.* Альхоўка Навагр. *Мой цяняк ідзе. Мой цяняк велькі.* Паляцкішкі Воран. *Цяняк ходзіць, як чалавек ідзе.* ◇ *Як цяняк ходзіць за мной.* Кудзялянцы Шальч. 2. Тое ж, што і цень І, 2. *У цяняку трэба палажыць яду.* Жылі Іўеў. ◇ *Узяць цяняк* — пакрыць зямлю. *Бульба цяняк узяла.* Альхоўка Навагр.

ЦЯ́ПАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і цёпкаць. *Я ўжо тры разы цяпала картошку.* Валынцы В.-Дзв. 2. *перан. экспр.* Жыць. *«Як жывіцё?» — «Цяпаям панямношку».* Пераброддзе Міёр.

ЦЯПЕ́ЛІШЧА *н.* Вогнішча. *Як згарыць лоўж — застаецца цяпелішча.* Мачаск Бярэз.

ЦЯПЕ́ЛЬЦА *н. памянш.* да цяпло́ І, 2. *Цяпельца наклалі ў лесі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЯПЕ́Р, ЦЯПЕ́Р, ЦІПЕ́Р *прысл.* Цяпер. *Цяпер багатыя калхозы.* Малі Астр. *Цяпер высуха тут, дашчу няма.* Латыгаль Віл. *Цяпер запрацілі — ня можна страшыць людзей.* Збляны Лід. *Цяпер больш прывыкаюць да культуры.* Малышы Лід. *Цяпер бульбу капаюць.* Гемзы Шальч. *Цяпер каіцца, што не пашла. Цяпер жывуць людзі — кажды дзень вяліканне.* Чапаеўскі В.-Дзв. *Цяпер скрыні на воз кладуць, туды картоплю кла-*

*дуць.* Судэрва Вільн. *Ціпер жа харашо, а было даўней: нада атсідзець праз зіму на прасніцы.* Індра Красл. *Ціпер там балота.* Пасіене Лудз. *Ціпер росна жаць.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Дзеркачы цяпер паляць, а раней не палілі, бо людзі на цябе будуць гаварыць, балтаць.* Дарава Лях.

ЦЯПЕ'РАКА, ЦЯПЕ'РЫКА, ЦІПЕ'РАКА *прысл.* Тое ж, што і ц я п е́ р. *Сын цяперака ў Архангельску робіць.* Навасёлкі Лід. *Цяперака дачка расказавала мне.* Пярэкі В.-Дзв. *То ж цяперака змятала.* Баброўнікі Гарад. *Цяперака самая сяўба лёну.* Малькуны Ігн. *Цяперака жывець ён у горадзя.* Ністанішкі Смарг. *Цяперака ён паставіў новую хату.* Саланое Віл. *Цяперака раблю ўдома.* Дакудава Лід. *Цяперака сыроў не ціснем.* Чуркі Ашм. *Цяперака бабам жыць і жыць: не трэба прасці, ткаць.* Стральцы Гродз. *Цяперыка буду варыць.* Мярэцкія Глыб. *Цяперыка строяць будынкі.* Новікі Гродз. *Ціперака добра жыць, да няма калі — ужо старыя мы.* Галубы Маст. *Там ціперака ён находзіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЦЯПЕ'РАЧЫ, ЦІПЕ'РАЧЫ, ЦІПЕ'РЫЧЫ *прысл.* Тое ж, што і ц я п е́ р. *Гоны і цяперачы ёсць. Ён цяперачы прыбалеў. Цяперачы хвароба прыстае да мяне.* Пацаўшчына Дзятл. *Цяперачы вядро занясі! Цяперачы пайду на работу.* Міратычы Карэл. *Цяперачы рвуць лён.* Іванава Нясв. *Цяперачы пойдуць жаць.* Альхоўцы Лях. *Цяперачы бабам лёхко — ні трэбо ткаць.* Малахоўцы Бар. *Ціперачы ён папросіць памахчы яму.* Альхоўка Навагр. *Ціперычы піяюць ні так, як раней.* Якубова Рас.

ЦЯ'ПКА *ж.* Матыка без зубоў. *Я бульбу грацавала цяпкай.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Цяпка траву сячэ.* Плябанцы Ашм. *Бяры цяпку і брушку садзі!* Збляны Лід.

ЦЯ'ПКАЦЬ *незак. перан. экспр.* 1. Есці, чмякаць. *Цяпкаіць хлеп. Ня цяпкай!* Магуны Паст. 2. Гаварыць недарэчнае. *Цяпкаеш абы-што!* Беразіно Докш.

ЦЯПЛАТА' *гл.* ЦЕПЛАТА'

ЦЯПЛЕ'Й, ЦЕПЛЕ'Й *прысл.* Больш цёпла, цяплей. *Як цяплей каленам, не так баляць.* Дэгшні Шальч. *Нада печку пратапіць, хоць на кухні будзе цеплей.* Малышы Лід.

ЦЯПЛЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Цяплейшы. *Сёня дзень цяплейшы.* Рыбчына Віл. ∇ *Ма́ччына крыло́ цяпле́йшае* — пра больш ласкавыя, прыхільныя, клапатлівыя адносіны маткі да дзяцей. *Маччына крыло цяплейшае, як свякроўчына — не пашла да свякроўкі жыць, а да маткі.* Кузьмічы Люб.

ЦЯПЛІ'ЦА *ж.* 1. Парнік. *Цяпліцу ацепляць і агурке растуць.* Вецярэвічы Пух. *Вы б маглі прадаць вуль, у цяпліцу паставіць — агурцы апладатвараць.* Месянцы Брасл. 2. Сушня. *Звяжам лён у кулі і ў цяпліцы сушым.* Дэгшні Шальч.

ЦЯПЛО' I *н.* 1. Агонь, прылады асвятлення. *Даўней высякалі цяпло крэсівам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Не бяры цяпло!* Вялікія Баяры Шчуч. *Тушы цяпло— ужо спаць трэба!* Азяраны Раг. 2. Касцёр. *Раскладзіце цяпло — пагрээмся!* Глівін Ба-

рыс. *Нада разлажыць цяпло.* Валынцы В.-Дзв. *Давай накладом цяпло!* Азяраны Раг. 3. у знач. *прысл. цяпло́м.* У час спёкі, гарачынёй. *Не магу цяплом рабіць.* Вострава Маст. *Іду цяплом жыта жаць. Яго карова хадзіла цяплом па пашы. Калі парэзаць качак цяплом, гэтулькі карміўшы,— мяса запахне.* Альхоўка Навагр. ∇ *Цяпло касцей ня ломіць.* Груздава, Кураполле Паст., Вузла Мядз.

ЦЯПЛО′ II *прысл.* Цёпла. *Сёня цяпло — мый на дварэ!* Кіралі Шчуч. *Ужэ цяпло.* Альхоўцы Лях. *Робячы, будзя цяпло.* Мсцібава Ваўк. *Цяпер уключыў свет — цяпло і відна, і копаці німа ніякай, а дайней лучыну палілі.* Вузла Мядз. *Каб мне было цяпло.* Баброўнікі Гарад. *Пап'ю сывараткі, цыбулі з'ем — так цяпло ў грудзі.* Пацаўшчына Дзятл. ∇ *Камары мак таўкуць — будзя цяпло.* Солы Смарг.

ЦЯПЛУ′ШАЧКА *ж. памянш.* Ватоўка. *На мне была цяплушачка.* Дзераўное Стаўб.

ЦЯПЛЮ′К *м.* Кабат, безрукаўка. *Цяплюк на ваце шыецца, а як суконны, то і на патшыўцы.* Завельцы Астр.

ЦЯПЛЯ′НІШЧА *н.* Тое ж, што і ц я п е́ л і ш ч а. *Цяплянішча — дзе касцёр гарэў.* Азяраны Раг.

ЦЯПЛЯ′РНЯ *ж.* Тое ж, што і ц я п л і́ ц а 1. *Нам паказвалі памідоры ў цяплярнях.* Мсцібава Ваўк.

ЦЯ′ПНУЦЬ *зак. экспр.* Прыкусіць, параніць. *Цяпнуў недзе — язык тоўсты стаў.* Пацаўшчына Дзятл. ◇ *Ця́пнуць го́ра* — перажыць вялікія жыццёвыя нягоды. *Жыць ты з ім будзіш, но гора цяпніш. Колькі гора цяпнулі! Ніхай ба яна гора цяпнула, а то ў выгадзе жыве.* Малі Астр.

ЦЯПУКІ′ *мн.* Тое ж, што і ц ю м к і. *Для дзяцей малых рабілі цяпукі з простых нітак.* Грыкені Вільн.; *парайн.* літ. *čerpkai* 'тж'.

ЦЯРАБІ′ЦЦА *гл.* ЦЕРАБІ′ЦЦА

ЦЯРАБІ′ЦЬ *гл.* ЦЕРАБІ′ЦЬ

ЦЯРАМШЫ′НА *ж.* Адно дрэва чаромхі. *Цярамшына цвіце пад вокнамі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЦЯРА′ЦЦА *незак.* Траціць памяць, разумовыя здольнасці. *У мяне розум нармальны, я ні цяраюся.* Слабада Мін. *Ён цяраўся памяці, яго паліцаі білі.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *теряться* 'бянтэжыцца, губляцца'.

ЦЯРА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц я р а́ ц ц а. *Стары памяць цярая.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* руск. *терять* 'траціць'.

ЦЯРЛУ′ХА *ж.* Тое ж што і ц е́ р л а. *Былі цярлухі, у іх мак цёрлі.* Старыя Трокі Трак.

ЦЯРЛУ′ШАЧКА *ж. памянш.* да ц я р л у́ х а. *Сем'я сушаць, паджарваюць, бяруць цярлушачку, меляць качалкам, абіраюць картошку, зварануе з лупінамі, і мачаюць.* Пацаўшчына Дзятл.

ЦЯРЛУ′ШКА *ж. памянш.* да ц я р л у́ х а. *Калісьці цярлушкі былі з гліны, мак цёрлі, мачалі з блінамі.* Кудзялянцы

Шальч. *Бывала, страмо* [сатром] *каноплі ў цярлушцы і мачаем пірашкі, ямо і смачна.* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЯРМО'ТКА *ж.* Тое ж, што і цёрмяць. *Даўней цярмоткай закладалі верх страхі.* Вецярэвічы Пух.

ЦЯРМО'ЦЦЕ *зб. н.* Кастра. *Цярмоццем засыпалі зверху паграбішча.* Вецярэвічы Пух.

ЦЯРО'МХА *ж. бат.* Чаромха. *Цяромха харашо пахня, але яна чадна: прынясі дахаты — задуха ў хаці.* Кіралі Шчуч.

ЦЯРО'ПКА *ж.* Расцяроб. *Цяропка, дзе высеклі лес, дзе выцераблены лес.* Мярэцкія Глыб.

ЦЯРПЕ'НЯ, ЦЯРПЕ'НЕ *н.* Цярплівасць, цярпенне. *Кап меў цярпеня многа. Не вывадзі чалавека с цярпеня!* Гемзы Шальч. *Цярпеня ні хваця з ёй — скажу бацьку, хай бацька мазге ўправіць. Цярпеня лопаецца, як з ім зойдзешся.* Кіралі Шчуч. *Я нэ маю церпеня з ёю говорыті.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* руск. *терпение* 'тж'.

ЦЯРПЕ'ЦЬ *незак.* 1. Трываць, пераносіць боль. *Мне баліць, я цярплю і не плачу.* Саланое Віл. *Цярплю боль, мушчыны так не церпляць, як бабы.* Міратычы Карэл. 2. Перажываць непрыемнасці праз каго-н. *Я цераз цябе цярпела.* Валеўка Навагр. ▽ *Цярпі, Зося, так прышлося.* Збляны Лід. ◇ *Ня (ні) цярпе́ць* — ненавідзець, не любіць, не згаджацца, не мірыцца з чым-, кім-н. *Ні цярпіць ён яе.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ня цярплю я гэтага.* Граўжышкі Ашм. 3. Несці пакаранне за нядобрыя ўчынкі, злачынства. *Жонка цярпіць за мужа, муж — за жонку, а то падзе і на дзеці.* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЯРПЁНЦЫ *дзеепрым.* Цяжкі па ўмовах жыцця. *Цярпёнца была жызнь.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *cierpiący* 'нездаровы, хворы'.

ЦЯРПІ'ЦЦА *безас.* з адмоўем *не.* ◇ *Не цярпіцца* — вельмі цікавіцца чым-н. *Мне не цярпіцца знаць, што там?* Збляны Лід.

ЦЯРПЛІ'ВАСЦЬ *ж.* Тое ж, што і цярпе́ня. *Трэба цярплівасць мець.* Чычалі Швянч. *Цярплівасць трэба мець на усё.* Саланое Віл. *Мы ня мелі цярплівасці.* Кудзялянцы Шальч.

ЦЯРПЛІ'ВЫ *прым.* Цярплівы. *Мой стары цярплівы.* Гемзы Шальч. *Які ён цярплівы!* Саланое Віл. *Быў цярплівы.* Гальшаны Ашм. *Цярплівая я — сына радзіла тры дне і не крычала.* Валеўка Навагр.

ЦЯРУСІ'ЦЬ, ЦЯРУШЫ'ЦЬ *незак.* Імжэць. *Цярусіць дошч.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дош цярушыць.* Вецярэвічы Пух.

ЦЯРЭ'ННЕ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова це́рці 3 (пра бульбу на цёрцы). *Якое цярэнне тут з мяне, як спіна баліць.* Азяраны Раг.

ЦЯРЭ'ННІЦА *ж.* Жанчына, якая трэ лён. *Цярэнніцы ідуць лён церці.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЦЯСА'К, ЦЕСА'К, ЦІСА'К *м.* 1. Хто апрацоўвае павалены лес і іншыя рэчы цяслярскай сякерай. *Цясакі апцесавалі склютамі броўны, надавалі ім форму.* Мсцібава Ваўк. *Цесакі* —

*людзі, каторые шпалы цесалі.* Мельнікі Лудз. 2. Цяслярская сякера. *Цясак бяруць, каб правільна абцесваць тоўстыя броўны.* Мачаск Бярэз. *Цесакі былі шпалы цесаць. Цесакі ці склюты — тое ж.* Мельнікі Лудз. *І цісакі ў нас былі.* Беразіно Докш.

ЦЯСА'ЦЬ *незак.* Склюдаваць. *Нада цясаць дзераво, цёшацца броўна.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *тесать* 'тж'.

ЦЯСЁЛКА *ж.* Цясла. *Ёсць цясёлка начоўкі рабіць.* Руднікі Шальч. *Цясёлкай выдоўбаюць карыты, начоўкі.* Кудзялянцы Шальч. *Цясёлкай карыткі дзяўбаюць.* Ёдлавічы Брасл. *Апалонікі і лошкі вырабляюць цясёлкай.* Парэчча Гродз. *Цясёлка ночвы выдоўбваць.* Малахоўцы Бар.

ЦЯСЁМКА *ж.* Тасёмка. *Дайней старыя людзі на цясёмцы хрэсцік насілі.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *тесемка* 'тж'.

ЦЯСЛА' *ж.*, ЦЯСЛО' *н.* Тое ж, што і ц я с ё л к а. *Цяслою карыты, начоўкі рабілі.* Рыбчына Віл. *Цяслою выдоўбваюць карыта.* Вялікія Баяры Шчуч. *Цяслою выдзёўбалі карыта і начоўкі мыць плацё.* Альхоўцы Лях. *Цясло было, цяслом начоўкі выраблялі.* Дакудава Лід. *Цясло гострая, найкруглая, крышачку прыгнёна, ночвы, карыта цяслом рабілі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЦЯСНО'ТА *ж.* Цесната. *Хатка маленькая была, двоя дзяцей было, самы і старыя — цяснота.* Паляцкішкі Воран.

ЦЯСНЫ' *гл.* ЦЕ'СНЫ

ЦЯ'СТКІ *мн.* Пячэнне. *Закусуюць цясткі.* Паляцкішкі Воран. *Цясткі пяклі.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *ciastko* 'пірожнае'.

ЦЯСЦЁВА *ж.* У знач. 'свякроў'. *Я прышла, то мой свёкар удавец быў — не было цясцёвай.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *teściowa* 'цешча'.

ЦЯСЦЁЎ *прым.* Які належыць цесцю. *Прыехаў на цясцёў двор.* Кухты Віл.

ЦЯ'ЎКАЦЬ *незак. экспр.* 1. Жаваць, чвякаючы. *Старая баба цяўкая зубамі, таўчэ зубамі.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Тое ж, што і ц ё ў к а ц ь. *Гэта баба цяўкая, як сабака.* Рыбчына Віл. *Цяўкаіць абы-што.* Мішневічы Шум., Ухвала Круп.

ЦЯЎНЁК *м.* Націна. *Ня пускай каровы, каб цяўнёк ірвала!* Гарэлец Пух.

ЦЯЎПСЦІ', ЦЯЎПЦІ' *незак. экспр.* Гаварыць недарэчна, выдумляць. *Яна будзіць цяўпсці і цяўпсці.* Саланое Віл. *Ён што відзіць, то і цяўпець. Нешта дайней цяўплі — а ні я помню!* Кураполле Паст. *Што ты цяўпеш?* Груздава Паст.; *парайн.* літ. *čiaupti* 'тж'.

ЦЯЎПЦІ'СЯ *незак. экспр.* Тое ж, што і ц ю п а ц ц а. *Пацяўпешка, дакуль ты будзеш цяўпціся!* Дварчаны Паст.

ЦЯ'ХКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц і п к а ц ь. *Курчаты цяхкаюць, як выпушчу на двор — ня будуць цяхкаць.* Граўжышкі Ашм.

ЦЯ'ХЛЫ *прым.* Падгалісты, высокі. *Цяхлая дрэва — высокае, без сукоў.* Рыбчына Віл.

ЦЯЦЕ'РА *ж.* Тое ж, што і ц і ц ё р а. *Цірас садзік зялёненькі цяцера ляцела, ня аддаў мяне татулька за каго хацела* (фальк.). Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦЯЦЕ'РКА *ж. памянш.-ласк.* да ц я ц ё р а. *перан.* Жанчына, жонка. *Мая цяцерка гарэлкі ня п'е!* Збляны Лід.

ЦЯЦЁЛКА *ж.* Тое ж, што і ц я с ё л к а. *Цяцёлкай трэба прадаўбаць, прадаўбі троха!* Старыя Смільгіні Воран.

ЦЯЦІ'ВЕ *зб. н.* Тое ж, што і ц я ў н ё к. *У гародзі ў мяне харошые цяціве ў буракох.* Баброўнікі Гарад.

ЦЯЦІ'ВІНА *ж.* Адно каліва. *Пад каждую цяцівіну падкавырнеш.* Пярэкі В.-Дзв. *Падкалыпну цяцівіну ў бульбе.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦЯЦІ'ВІНКА *ж. памянш.* да ц я ц і в і н а. *Адна цяцівінка сядзіць.* Стары Свержань Стаўб.

ЦЯЦІЎЁ, ЦІЦЯЎЁ *зб. н.* Тое ж, што і ц я ц і в е. *Цяціўё бурачная.* Быстрыца Астр. *Цяціўё ў буракох.* Жодзішкі Смарг. *Даўней на зіму квасілі бацвіня, вязалі пукі, цяціўё апскубалі, вязалі пукі саломкай і складалі: рат буракоў скрабаных і рат пукоў, залівалі вадой і закрывалі дошкамі.* Груздава Паст. *Ціцяўё — лісты на бураках.* Дакудава Лід. *Ціцяўё ў морквы велькае вырасла.* Галубы Маст. *Ціцяўё — лісты на бураках.* Дакудава Лід. *Ціцяўё ў морквы велькае вырасла.* Галубы Маст. *Даўней хлеп садзілі на лістах, на ціцяўі садзілі.* Кураполле Паст.

ЦЯЦЬ, ТЯ'ТІ *зак.* і *незак.* 1. Укусіць. *Цяў сабака мяне даўно, а атмеціна ёсць.* Беразіно Докш. *Воўк сабаку цяў. Як цяла мяне гадзіна.* Старыя Смільгіні Воран. *Як цяў за палец чмель, аш кроў паказалася.* Пацаўшчына Дзятл. ∇ *Камары і мухі началі вельмі тяті, мусіт, будэ дошч.* Курашэва Чыж. 2. Моцна ўдарыць; біць. *А гэты як цяў яму па мордзе!* Збляны Лід. *Ён як цяў мяне па руцэ, аш рука пасінела.* Старыя Смільгіні Воран. *Нашто того коня так тяті, вуон нэ даст рады тягнуті.* Курашэва Чыж. 3. Рэзаць, зразаць, валіць. *Позавтры будэмо тяті дэрэво — того дуба коло дорогі.* Курашэва Чыж. 4. *перан.* Ліць, з сілай падаць, ісці. *Дошч начав тяті, трэба до дому хутчыэй іті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *ciąć* 'рэзаць, сячы, кусаць'.

ЦЯ'ЦЬВІНА *ж.* Цеціва, быліна. ∇ *Сарвала мяне, я што цяцьвіна была.* Асавец Віл.

ЦЯЦЮРЭ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ц ю ц ю р э́ ц ь 2. *Цяцюрэюць індыкі, гусянята, як ім зімна.* Магуны Паст. *Цяцюрэў Коля наш.* Магуны Паст.

ЦЯЦЯРУЧЫ'ХА *ж.* Тое ж, што і ц я ц ё р а. *Цяцяручыха па дзераве лётае.* Кіралі Шчуч.

ЦЯЧЫ' *незак.* 1. Працякаць. *Цячы будзя вядро.* Лоск Валож. 2. Упадаць, уліватцца. *Крынічка цячэць у рэчку.* Ністанішкі Смарг. *Усе рэчкі цякуць у мора.* Альхоўцы Навагр. 3. На-

гнойвацца, нарываць, выдзяляць матэрыю. *Цякла нага гэтымі местамі, а як бабка загаварыла — і цячы перастала.* Старое Сяло Зэльв. *У яго ногі цякуць.* Руднікі Шальч.

ЦЯЧЭ′ННЕ *н.* Плынь. *Там рака, бальшое цячэнне.* Замошша Брасл.; *параўн.* руск. *течение* ’тж’.

ЦЯ′ШКА *гл.* ЦЯ′ЖКА

ЦЯ′ШКІ′ *гл.* ЦЯ′ЖКІ′

ЦЯ′ШКІ′Я *гл.* ЦЯ′ЖКІ′Я

# Ч

ЧАБА′Н *м. заал. перан.* Мерынос. *Тэпэр ужэ мало хто годуе просты овэчкі, купляют і годуют чабаны, бо воны вэлікі, з іх буольш вовны і м’яса.* Курашэва Чыж.

ЧАБО′Р *м. бат.* Чабор. *Там, аш унізе, шмат чабору.* Рыбчына Віл., Альба Нясв. *З чабору чай варацъ, яшчэ ні цвіце, але ўжэ высыпаўшы.* Плябанцы Ашм. *Чабор закідаваяцца на чай.* Груздава Паст. *Чабор, навіт чамбор у нас завуць.* Завельцы Астр. *Чабор натта пахня, чай варацъ з яго, адзін чалавек курыў яго, і дым пахня. Ад грудзей, ад лёгкіх чабор памагая. Чабор паніжае даўлення.* Кіралі Шчуч. *Чабор пахня.* Альхоўцы Лях. *Чабор у сасновым лясу, на пылянах расцецъ.* Вялікі Лес Круп. *Чабор на чай добра.* Вецярэвічы Пух. *Чабор, выпаравалі гладышы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чабор, ён па кустам расцецъ.* Малькуны Ігн.

ЧАБРУ′К *м.* Тое ж, што і ч а б о́ р. *Нарві чабруку гаршкі парацъ. Даўней парылі гаршкі, малочнікі гэтым чабруком.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *čiobrūkas* ’тж’.

ЧАБРЭ′Ц *м.* Тое ж, што і ч а б о́ р. *Чабрэц ад горла можа быць.* Глівін Барыс.; *параўн.* руск. *чебре́ц,* укр. *чебре́ць* ’тж’.

ЧА′ВІТІ *незак.* 1. Душыць, забіваць. *Шчурыэ курэнята чавілі, од’ідалі головы.* Курашэва Чыж. 2. Моцна біць. *Нашто коня так чавіті?* Курашэва Чыж.

ЧАВО′ *прысл.* Чаго. *Чаво я прышла?!* Пасіене Лудз.

ЧА′ГА *ж. бат.* Чага. *Гарун на бярозі, цяпер завуць чага.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЧАГА′ *прысл.* Тое ж, што і ч а в о́. *Чага мы тут асталіся, вернемся назат!* Вузла Мядз. *Чага сядзець?* Груздава Паст. *Чага ж я буду хавацца?* Асавец Віл.

ЧАГА′КАЛЫ *мн.* Мянушка тых, хто гаворыць «чага, кага» замест «чаго, каго». *За Паставамі чагакалы, гаворацъ: «Чага, кага».* Магуны Паст.

ЧАГА′КІ *мн.* Тое ж, што і ч а г а́ к а л ы. *За Паставамі чагакі: «чага, кага».* Магуны Паст.

ЧАГА'НІКІ *мн.* Тое ж, што і чага́калы. *Тыя, што гаварыць «чага», «кага»,— чаганікі.* Солы Смарг.

ЧАГАНЫ' *мн.* Чыгуны. *Чаганы, кажуць, скаравада, а мы — патэльня.* Солы Смарг.

ЧАГО' I *прысл.* Чаму. *Вот чаго я за яго пашла, а так чорт ба пашоў.* Буды В.-Дзв. *Чаго я паганю кароў?* Дарава Лях.

ЧАГО' II, ЧОГО' *займ.* Што. *Чаго вы не можаце падзяліць?* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Буть чого* — што б ні было. *Наша маті нэрвова, буть чого — нэрвуецця.* Курашэва Чыж.

ЧАГУ'Н *гл.* ЧЫГУ'Н

ЧАД, ЧАТ *м.* Чад. *Юшку залажыла, чат ідзець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ідзе чат, учадзяць можна.* Солы Смарг. *Чат, будзя галава балець.* Кіралі Шчуч. *Чат у лазьні ні сышоў, учадзіла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чат ідзе. Чаду нарабіла.* Старыя Трокі Трак. *Чат можа быць, як рана зачыніць юшку.* Гемзы Шальч.

ЧА'ДА *гл.* ЧА'ТА

ЧА'ІТІСЕ *незак.* Затойвацца, падкрадацца. *Куот чаіце, мыш злапае.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *czaić się* 'сядзець у засадзе, падкрадацца'.

ЧАЙ *м.* Чай. *Чаю наварыла, а сама ляту да сусеткі.* Гальшаны Ашм. *Каб горонцай вады, ды заварыць чай.* Паляцкішкі Воран. *Тут чай яму гарачы.* Лоск Валож. *У сылі — коп чай!* Дзімітравічы Кам.

ЧА'ЙКА I *ж. заал.* 1. Чайка. *Чайкі на возіры лятаюць.* Валеўка Навагр. *Смотрыш: чайка б'ець, вісіць над вадой і б'ець.* Замошша Брасл. *Пасадзіла бобу, чайкі павыцягалі боп.* Перабродзе Міёр. *Чайкі куда-то улетают, как толькі лёд сходіт, прылетают.* Чарняўскія Лудз. 2. Кнігаўка. *Чайка над Рэшай* [возера] *паляцела. Чайка — тое самае, што і кнігаўка.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *czajka* 'кнігаўка'.

ЧА'ЙКА II *ж.* Лодка. *У чайках сядзяць, лапаюць рыбу.* Парэчча Гродз. *Іх не ў чайку бралі, а плавам плавілі да берага.* Збляны Лід. *Дзесяць чайкаў едуць.* Альхоўка Навагр. *На чайку паселі хлопцы ды дзяўчаты, ды утапілася двоя.* Вецярэвічы Пух.

ЧА'ЙНІ'К *м.* Чайнік. *У ча́йніку чай залівалі.* Завельцы Астр. *Ча́йнік — сучасны, гляк — даўней, круглы з вускім горлам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цэлы чайнік забраў.* Малахоўцы Бар.

ЧАКА'ЦЦА *незак.* Чакаць. *Во як з дому* [пісем] *чакаецца, а сам пісьмаў не хацеў пісаць.* Лоск Валож.

ЧАКА'ЦЬ, ЧЫКА'ЦЬ *незак.* 1. Чакаць каго-н. *Я хлопца маю і чыкаю яго.* Завельцы Астр. *Чакала яна хлопца.* Кухты Віл. *Маладых прыедзе, як чакаюць сваццьбу.* Гальшаны Ашм. *Людзі чакаюць яго.* Дарава Лях. *Гасцей чакаюць.* Альхоўцы Лях. *Чакалі рызніка.* Канюкай Вільн. *Мой стары недзе мяне чакая.* Гемзы Шальч. *Я яго чакала, чакаю, не сплю.* Чычалі Швянч. *Чакаю дочку, на выхадныя прыяжджаіць.* Рагулішкі Даўг. *Дзе-*

*ці не жана: жана чакая мужа, а дачка — хоць два дні не ідзі — бацькі не чакая.* Ёдупка Шальч. 2. Чакаць набліжэння чаго-н. *І Мáя чакаюць, і Восьмага марта. Чакая, калі яйко знясе курыца.* Збляны Лід. *Чакаем зараненька, што будзе. Я прагледзіла вочы: чакаям на аўтобус. Да васьмі чакаў.* Гальшаны Ашм. 3. *заг. чакай(це).* Чакай, чакайце. *Слухай, чакай, як мне праехаць?* Малышы Лід. *Чакайце, я зараз вам пакажу свае дакументы.* Дзераўное Стаўб.

ЧАЛАВЕ′К, ЧОЛОВЕ′К, ЧОЛОВІ′К *м.* 1. Чалавек. *Нам печка была на трыцаць чалавек.* Месянцы Брасл. *Чатыры чалавекі ў хаці.* Гальшаны Ашм. *Чалавек выцягнуў каня на балота.* Цяпінцы Віл. *Чалавеку усё багаства — здароўя.* Малышы Лід. *Такі спрытны чалавек. На шчэдрынец чалавека прыбяруць у ваўка, у казла.* Дарава Лях. *Кажному чоловекові як станэ росказваці.* Смаляніца Пруж. *Самы горшы чалавек — прымака: сколькі ні рабі — усё мала.* Ёдупка Шальч. *Яны хітрыя чалавека ашукаць.* Грыкені Вільн. *Ніхто боляй не перажывець, як гаратны чалавек за сваё жыццё.* Вузла Мядз. *У каждага чалавека жызня — раман.* Пераброддзе Міёр. *На чалавеку толькі адні рогі не нарастуць і лаза не вырасціць, а так усё на яга ўзбіваіца.* Саланое Віл. *Як муха: чалавек жыў — і рукі згарнуў.* Новіны Нясв. ∇ *Што людзі, то і чалавек.* Буды В.-Дзв. *Чалавека не раскусіш — не арэх. Кап чалавека ўзнаць, нада з'есці пут солі, то можна знаць.* Пераброддзе Міёр. *Добраму чалавеку ўсюды ёсць работа.* Кудзялянцы Шальч. *Гара з гарой не сойдзіцца, чалавек з чалавекам сойдзіцца. «Чаго шукаеш?» — «Чалавека».* Ёдупка Шальч. 2. Мужчына. *Там чалавек замаўляў ад укусаў гада.* Завельцы Астр. *Там сыдылі чоловікі.* Дзмітравічы Кам. 3. Муж. *Учора пакупіў мяса чалавек мой.* Парэчча Гродз. *Яна паехала за сваім чалавекам.* Саланое Віл. *Чалавек мой, мужык,— інвалід.* Дарава Лях. *Яна з чалавекам.* Азяраны Раг. *Чоловіка забралі нэвэдомо куды.* Дзмітравічы Кам.

ЧАЛАВЕ′ЧАК, ЧЭЛОВЕ′ЧАК *м. памянш.* Зрэнка. Міратычы Карэл. *Чалавечак у воку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Чалавечак у воку е.* Альхоўцы Лях. *Чэловечак у воку.* Сакаляны Сакол.

ЧАЛАВЕ′ЧЫНА *м. пагард.* Чалавек. *Пашоў нейкі чалавечына.* Мярэцкія Глыб.

ЧАЛАВЫ′ *прым.* Буйны, адборны, лепшы. *Само чалавое зярно адбіралі на насенё.* Мсцібава Ваўк. *Чалавоя жыта — харошая, буйная.* Янова Рас.

ЧАЛЕ′Й *м.* Дэраш. *Чалей — вол марозавага цвету.* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. *чалый* 'тж'.

ЧАЛЕ′СНІК, ЧАЛЕ′ШНІК *м.*, ЧЫЛЕ′СНІКІ *мн.* Чалеснікі. *Чалеснікі — у печы увахот.* Завельцы Астр. *Пастаў кацёл лі чалесніку.* Мярэцкія Глыб. *Заслонкай зачапіла за чалеснік.* Опса Брасл. *У чалесніку скора перагараіць і вываліваіцца цэгла.* Ёдлавічы Брасл. *Выдраўся чалеснік.* Гемзы Шальч. *Чалес-*

*нік, дзе дым ідзе, дзе прыпечак.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Чалеснік, што дым ідзе.* Крэва Смарг. *І чалеснік, і чалешнік — назва ўваходу у печ.* Рыбчына Віл. *Чалешнік — гэта праход у печы.* Вялікі Лес Круп. *Чылеснікі — ухот у печ.* Масішкі Красл.

ЧАЛНА′, ЧО′ЛНА *ж.* Човен. *На чалне плывець.* Малькуны Ігн. *Чолна ест мая.* Новікі Гродз.

ЧАЛНА′К *м.* Чаўнок. Грыкені Вільн., Ракаўскія Швянч. *У зяво закідваяш чалнаком. У чалнак укладаяцца цэўка.* Магуны Маст.

ЧАЛНАЧКО′ *н. памянш.* да ч а л н а́ к. *Чалначко ест, ім ткуць.* Новыя Мацалі Варэн.

ЧАЛНО′К *м.* Тое ж, што і ч а л н а́ к. *Чалнок, а ў яго ўкладваецца цэўка.* Малышы Лід. *У краснах біла, дзе стукаюць, ніты, дзе ніткі ўдзяюць* — чалнок. Яніна В.-Дзв. *Чалнок і ў чалнаку пруток, на пруток маталі ніці, не было цэвак, накруцім пруток.* Старыя Смільгіні Воран. *Чалнок — ніткі брасаць.* Навікі Лудз.

ЧАЛНЫ′К *м.* Тое ж, што і ч а л н а́ к. Навасёлкі Свісл., Вострава Маст. *Чалныкі былі паробленыя у кроснах.* Завельцы Астр. *У чалнык, каб цэўка ўлазіла.* Васілевічы Гродз. *Закладалі цэўку ў чалнык. Часамі чалнык пускаеш.* Баброўнікі Гарад.

ЧАЛО′ І, ЧЫЛО′ *н.* 1. Буйное адборнае зерне. *Уперат зярно — чало, гэта першая.* Магуны Паст. *Чало ляціць далей, а азаткі астаюцца.* Чуркі Ашм. *Чало — добрае жыто.* Новікі Гродз. *Чало адабраў, буйно́я зерня.* Вялікія Баяры Шчуч. *Само чало ле падваротніцы лажыцца. Чало — вельмі харошаё збожа, зярно харошча* [лепшае]. Альхоўцы Лях. *Первая — чало, самая буйная зярно, сыплю ў гаруды ў свірне.* Гемзы Шальч. *Чыло звалі лепшая буйноя зярно.* Саланое Віл. *Чыло — самая буйная зярнё, каторая ляціць наперат.* Рыбчына Віл. ◇ *Пе́ршая, пе́рша чало́* — буйное зерне. *Пе́ршая чало — буйноя збожа, лучшая збожа.* Ёдупка Шальч. *Як веяць жыта, буйноя збожа ляціць найдаляй — гэта перша чало.* Каменка Шальч. 2. Адборная траста льну. *Самы добры лён — чало.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЧАЛО′ ІІ *н.* Тое ж, што і ч а л е́ с н і к. *У печы нёба (верх), уход — чало. З чала ў трубу дым выходзіць.* Пасіене Лудз.

ЧАЛО′НАК *м.* Тое ж, што і ч а л н а́ к. *У чалонак цэўку уложыш.* Лайпушкі Ігн.

ЧАЛЮ′СНІК *м.*, ЧАЛЮ′СНІКІ *мн.* Тое ж, што і ч а л е́ с н і к. Беняконі Воран. *У печы чалюснікі ест.* Старыя Трокі Трак.

ЧАЛЯ′ДКА *ж. устар.* Парабчанка. *Чалядка служыла ў хазяіна.* Азяраны Раг.

ЧАЛЯ′ДНІК *м. устар.* 1. Вучань, падручны майстра. *За каваля вучыў, два чаляднікі дзяржаў.* Гемзы Шальч. 2. Парабак. *Чаляднікі і чаляднікі былі даўней, служылі ў багатых.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто багаты, то наймаў чаляднікаў.* Ёдлавічы

Брасл. *Хто наняты, той называецца чаляднік.* Лоск Валож. *Чаму за чалядніка не пайшоў?* Старое Сяло Зэльв. *Я думаю, чаго гэта чаляднікі рваліся ісці ў магазін? Чаляднікі бралі дакументы, каб не рабіць у свята.* Рагулішкі Даўг.

ЧАЛЯ'ДНІЦА, ЧАЛЯ'ННІЦА *ж.* Тое ж, што і ч а л я́ д к а. *Чалядніца, што наймаецца.* Лоск Валож. *Дзяржу чалядніцу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён адзін пойдзя да белага дня. Я для цябе чалядніца?! Я не хачу такой жызні!* Пераброддзе Міёр. *Чалядніца.* Груздава Паст., Вострава Маст. *Чалядніца была ў іх і парабак.* Альхоўка Навагр. *І чалядніцу меў і не жаніўся, яна прытулілася, старалася.* Малькуны Ігн. *Чалядніца і ў гаспадара рабіла, і ў пана.* Ракаўскія Швянч. *У пана раней была чалянніца ці парабак.* Асавец Віл.

ЧАМАРА' *м.* і *ж. экспр. зневаж.* Той, хто бесталковы. *Засёк бы цябе, чамара ты!* Альхоўцы Лях.

ЧАМА'РКА *ж.* Доўгае жаночае адзенне з сукна. *Паадзявалі чамаркі, тоўстыя, доўгія, каснікамі кішэні падшываныя, суконныя.* Пацаўшчына Дзятл.

ЧАМАРУ'ХА *гл.* ЧАМЯРУ'ХА

ЧАМБО'Р, ЧЫМБО'Р, ЧЫНБО'Р *м.* Тое ж, што і ч а б о́ р. *Што лепей упадабалі: чамбор ці кмін?* Магуны Паст. *Чабор, навіт чамбор у нас завуць.* Завельцы Астр. *Чамбор кроў шчышчая.* Солы Смарг. *Чамбор расце па дарогах.* Новікі Гродз. *Чамбор і я знаю.* Жылі Іўеў. *Чамбор ад кашлю, парылі і пілі.* Мачаск Бярэз. *Чамбор расце тут.* Гемзы Шальч. *Чымбор — зеля, чай п'юць з чымборам.* Парэчча Гродз. *Чынбор сушуць і п'юць як чай.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* польск. *cząber* 'тж'.

ЧАМБО'РАК, ЧАМБО'РЫК, ЧЫМБО'РЫК *м. памянш.* да ч а м б о́ р. *Чамборак расце ў нас.* Сапоцкіна Гродз. *Чамборак п'юць.* Новікі Гродз. *Чамборык заварыла і папіла.* Магуны Паст. *Чымборык, ён пахніць.* Парэчча Гродз.

ЧАМУ' *прысл.* Тое ж, што і ч а г о́ І. *Чаму яго німа?* Завельцы Астр. *Чаму вы тут мыецесь?* Гемзы Шальч.

ЧАМУ'СЬ *прысл.* 1. Чаму. *Чамусь такі дрэнны і тэй ня руш?* Паляцкішкі Воран. 2. Чамусьці. *Чамусь яго доўго німа.* Баброўнікі Гарад.

ЧАМЯРУ'ХА, ЧАМАРУ'ХА *ж. кулін.* Ежа, прыгатаваная з канаплянага семя. *Чамяруха — малако з калапень. Скіпяцяць яго, мукой паткалоцяць, бірвікоў укінуць і называецца чамяруха. Сягання чамяруху варылі, перапечкамі мачалі.* Рыбчына Віл. *Чамаруху рабілі: цёрлі калапні, рабілася малако, памачаюць перапечкі, рэзалі на кусочкі, ставілі ў печ.* Латыгаль Віл.

ЧАМЯРХАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Правесці, слізгануць па чым-н. *Як пальцамі па далоні чамярханула, тая як падскочыць, думала, што мыша палажыла на рукі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЧАМЯРЫ'ЦА *ж. бат.* 1. Піжма(?). *Чамярыца — трава такая, ат паноса, лісточкі — як на рабінавыя пахожа.* Слабада Мін. 2. *перан.* Самагонка. *Ня робім чамярыцы.* Магуны Паст.

ЧАН *м.* Чан. *Восім чаноў малака наліваюць, малочная — за ракой.* Валынцы В.-Дзв.

ЧАПАВА'ТЫ *прым.* З вялікім чэравам. *Чапаватая карова.* Кураполле Паст.

ЧАПА'НЫ *дзеепрым.* Крануты. *Яно не чапана, а не застые.* Лоск Валож.

ЧАПА'ЦЦА, ЧАПА'ЦА *незак.* 1. Набірацца. *На ношкі пчаліныя чапаецца мядок* [пылок], *і яны яго нясуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Звязвацца з кім.-н. *Чаго вы з ёй чапаецеся.* Малахоўцы Бар. *Ён п'яны, так ты не чапайся.* Ракаўскія Швянч.

ЧАПА'ЦЬ I *незак.* 1. Нанізваць. *Чапалі табаку на маткі і сушылі.* Індра Красл. 2. Чапляць, вешаць на што-н. *На шнурок шарсцяны чапалі хрэсцік.* Ухвала Круп. 3. Навешваць. *Траву буду на плот чапаць, кап сохла.* Асавец Віл. ◇ *Што на нітку чапай* — пра вельмі буйное зерне. *Зярно — што на нітку чапай — поўная.* Вузла Мядз.

ЧАПА'ЦЬ II *незак.* 1. Дакранацца, датыкацца да каго-, чаго-н. *Не чапай кацянё.* Солы Смарг. ∇ *Ні чапай бяду, покі бяда спіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Закранаць, выклікаць на размову, нейкае дзеянне. *На вечарынкі ён мяне чапаіць усё.* Пярэкі В.-Дзв. *Нашто вы яго чапалі?* Валеўка Навагр. *Ні чапай, хай спіць!* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Аказваць уздзеянне на каго-н., умешвацца ў чые-н. справы. *Хто там цябе чапаіць?* Кураполле Паст. *Цяпер старога не чапаяць.* Гемзы Шальч. *Яна людзей чапала. Ні чапай ты яго!* Рагулішкі Даўг. 4. Знішчаць. *Мышы хлеп чапалі.* Лоск Валож. *Калючку* [рыбу] *ні чапаяць рыба.* Быстрыца Астр.

ЧА'ПАЦЬ *незак. экспр.* Павольна ісці. *Нада чапаць на буракі.* Мярэцкія Глыб.

ЧАПЕ'ЛА *гл.* ЧАПЯЛА' I

ЧАПЕ'ЛКІ, ЧАПЁЛКІ толькі *мн. ткац.* Прыстасаванне з колцамі для падвешвання нітоў. *Ніт вісіць на таком станку, у ім, у ніце, чапелкі, кацёлачкі.* Дзераўное Стаўб. *Чапёлкі і ніт па іх пабягая.* Альхоўцы Лях. *Чапёлкі — нітэ чапаць, у чапёлках былі кацёлкі, яны круцяцца.* Вецярэвічы Пух.

ЧАПЕ'ЛЬ *м.* Верхні сноп пры малой укладцы снапоў. *Чапель у вёсцы Касута скажуць на верхні сноп.* Рыбчына Віл.

ЧАПЕ'Ц, ЧЭПЕ'Ц, ЧЭПЭ'Ц *м.* 1. Галаўны ўбор замужняй жанчыны. *Чапец я відзіла ў сваей мамы, уперадзі, як брызґулі з нітак робленыя.* Завельцы Астр. *Чапец насілі бабы.* Лоск Валож. *Пакрый галаву чапцом.* Валеўка Навагр. *Чапцэ бабы насілі, чапец шылі з палатна.* Кіралі Шчуч. *Чапцы насілі. Як выходзіць замуш — чапец адзяюць.* Янова Рас. *Старые бабы і коптуры носылі, чапцы клалы.* Брады Пруж. *Чэпцэ носілі.* Смаляніца Пруж. 2. *анат.* Брыжэйка. *Адбіраем чапцы* [сала] *з кішак.* Новыя Мацалі Варэн. *Абцяненыя кішке салам — гэто чапец.* Старое Сяло Зэльв. 3. Слой нутранога сала, які пакрывае ўсе кішкі і трыбушок, здор. *Чапец — нутраноя сала.* Лоск Ва-

лож. *Чапец ляжыць на трыбусе.* Гемзы Шальч. *Чэпэц бы хустка на кішках, такэе большэе.* Азарычы Пін. *Чэпец — сетка у кабана.* Лайпушкі Ігн. *Жалудок аброшшы гэтым чапцом.* Баброўнікі Гарад. 4. Плацэнта, пасле́д. ◊ *Радзіцца ў чапцу* — пра шчаслівага чалавека. *Будзя шчаслівая, у чапцу радзілася.* Гемзы Шальч.

ЧАПЁЛКА *ж. буд.* Апорны слуп на перакладзіне ў гаспадарчым будынку. *Ставіцца чапёлка на перакавой брус, на яе прагон накладуць.* Азяраны Раг.

ЧАПЁЛКІ *гл.* ЧАПЕ′ЛКІ

ЧАПЁЛЫ *мн. буд.* Апорныя слупы. *Чапёлы дзержаць далжнік, на далжнік вешаяць крохлы.* Ракаўскія Швянч.

ЧАПІ′ЦЦА *незак.* 1. Прымацоўвацца, далучацца да чаго-н. *Атосы чэпяцца да галобляў і да кола.* Кудзялянцы Шальч. *Брункта чэпіцца за плуг.* Відаўцішкі Вільн. 2. Брацца за што-н., лёгка загарацца. *Некалі гупку варылі і сушылі, да яе агонь чапіўся, як высякалі красіўём.* Кальнішкі Шальч. 3. *перан.* Надакучаць сваёй прыхільнасцю. *Жаніхі чапіліся да яе, як мухі да мёду.* Ухвала Круп. 4. *перан.* Прыдзірацца. *Кап сказаць, што ён яго дурыць ці чапіўся да яго, не.* Збляны Лід. ◊ *Работа чэпіцца за рукі* — шмат работы. *А дома работа чэпіцца за рукі сама.* Кураполле Паст.

ЧАПІ′ЦЬ *незак.* 1. Прычапляць, далучаць. *Брункту чэпяць да плуга.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і ч а п а́ ц ь І, 2. *Чапілі бразгулі каню.* Гемзы Шальч. *Катора карова збройная, чапілі ёй званок.* Быстрыца Астр. 3. *перан.* Наносіць на што-н., маляваць. *Радзімы знак нарочна чапілі, красіва было.* Солы Смарг.

ЧА′ПКА *ж.* 1. Шапка. *Чапку надзень.* Быстрыца Астр. *Чапку налажы.* Паляцкішкі, Бенякoні Воран. *Насілі чапкі — баброўкі баранковыя.* Стральцы Шальч. 2. *буд.* Верхняя частка асадкі акна, дзвярэй. *Шулы дзверы трымаць, тады ўшакі кладуць, наверх чапка.* Стракішкі Трак. 3. Тое ж, што і ч а п е́ л ь. Бенякoні Воран. *Дзесяты сноп у мэндлі называецца чапка.* Кудзялянцы Шальч. *Мэндлі накрывалі чапкамі.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *czapka* ’тж’.

ЧАПЛЕ′ЙКА *ж. памянш.* Тое ж, што і ч а п я л а́ 1. *Чаплейкаю пераносіцца скавараду.* Баброўнікі Гарад.

ЧАПЛІ′ВЫ *прым.* Які чапляецца, можа ўтрымацца ўчапіўшыся. *Але то чаплівыя* [кураняты], *на жэртку лезя.* Граўжышкі Ашм.

ЧАПЛІ′СТЫ *прым.* Які перадаецца, заразны (пра хваробу). *Чаплістая хвароба.* Кураполле Паст.

ЧА′ПЛЯ *ж. заал.* Чапля. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Альба Нясв., Грыкені Вільн. *Чаплі пралятаюць: еслі к северу — будзець пагода, а на юг — дождж.* Месянцы Брасл. *Чапля прылятаіць і водзіцца над азярамі.* Ёдлавічы Брасл. *Бусял — ясны, а чапля — цёмная.* Парэчча Гродз. *Ляціць чап-*

*ля — будзіць дошч.* Старыя Смільгіні Воран. *Чапля, як бацян.* Кіралі Шчуч. *Чаплю бачыў пазаўчора, шыя доўгая, худая.* Пацаўшчына Дзятл. *Чапля ета ў балоце.* Пасіене Лудз. *Чаплі па балоці ходзюць.* Саланое Віл. *Чаплі на востраве. Чаплёў здзесь многа.* Істра Лудз.

ЧАПЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Зачэплівацца, прычапляцца за што-н. *Гаплюк чапляўся за гапку.* Новікі Гродз. 2. Хапацца за што-н., прычэплівацца. *За патхватку чапляліся ракі.* Чуркі Ашм. 3. *перан.* Прыставаць, лезці да каго-н. *Чапляецца яе карова да нашае каровы.* Дарава Лях.

ЧАПЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Вешаць. *Даўна крыжык чаплялі на шыю.* Вузла Мядз. 2. Віць (павуціну). *Павукі павуціну чапляіць.* Рагулішкі Даўг.

ЧАПЛЯЯ' *ж.* Чапяла. *У качаргешнікі стаяць кóчаргі, чапляя, вілкі.* Малахоўцы Бар.

ЧАПО'К *м.* Тое ж, што і чапéц 1. *Маладзіцы ш чапком хадзілі.* Міратычы Карэл.

ЧАПУРЫ'ЦЦА *незак.* 1. Прыбірацца. *Гэна чапурыцца.* Валынцы В.-Дзв. *Цяпер усе чапурацца.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Старацца, завіхацца, стара́нна рабіць. *Чапурыся ты! Я чапурылася і зрабіла работу: пашыла, памыла, у печы выпаліла.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЧАПУРЫ'ЦЬ *незак.* Прыбіраць. *Чапурáць цяпер усе дзяцей. Буду чапурыць, мы чапурым.* Азяраны Раг.

ЧАПУХА' *ж.* Глупства, лухта. *Чапуху дундзілі, думаеш, што добрае.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *чепуха* 'тж'.

ЧАПУ'Х-ЧАПУ'Х *выкл.* у знач *вык.* Ужываецца ў значэнні павольнага перамяшчэння. *Дайней пасём у лазовых лапцях; хочаш на курган прыгнуць — а там змяя — чапух-чапух на другі курган.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЧАПУШЫ'ЦЦА *незак.* Сварыцца, нязгодна жыць. *Чапушыліся яны — нязгода была.* Груздава Паст.

ЧАПУШЫ'ЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, несці лухту. *Не чапушыце абы-што.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЧАПЯЛА' I, ЧАПЕ'ЛА *ж.* Тое ж, што і чапляя́. *У качарэжніку чапяла.* Солы Смарг. *Чапела — назва, як хто купляў — гэта патэльні браць.* Завельцы Астр.

ЧАПЯЛА' II *ж. буд.* Тое ж, што і чапёлка. *Паставіў чапялу і залажы жэрткамі* [у шчыце гаспадарчых будынкаў]. Старыя Смільгіні Воран.

ЧАПЯЛА' III *ж. стал.* Від скоблі. *Была чапяла, і выраблялі ёй карыты, і разец быў, і расцом выраблялі карыты.* Кіралі Шчуч.

ЧАПЯЛІ'ШЧА *н.* Ручка ў чапяле. *Чапялішча да чапялы.* Груздава Паст.

ЧАПЯЛЬНІ'К *м.* Тое ж, што і чапялі́шча. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Чапяльнік паламаўся, нада новы зрабіць.* Кураполле Паст. *Чапяльнік новы зрабіў.* Беразіно Докш. *Ча-*

*пяльнік прырабіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чапяльнік да чапялы.* Рагулішкі Даўг.

ЧАРА′ *зб. ж. пчал.* Чарва. *Матка чарыць, чары многа.* Рыбчына Віл.

ЧАРАВА′ТЫ *прым.* 1. Тоўсты, з вялікім жыватом (пра чалавека і жывёлу). *Чаравата баба, чараваты мушчына.* Міратычы Карэл. *Чаравата зрабіласа свінка, катора есь добро.* Кузьмічы Люб. *Чаравата карова.* Дзяніскавічы Ганц. *Скаціна чаравата, трыбухата, як трыбух вялікі.* Альхоўцы Лях. 2. толькі *ж.* Цяжарная. *Чаравата баба.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЧАРАВА′ЦЬ *незак.* Уздзейнічаць чарамі на каго-н. *Дайней гаварылі, што каравая жаба — чараўніца. Хто чаруіць, можа гэту жабу падаслаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Можа, ён і чаравай?!* Вялікія Баяры Шчуч. *Адна баба чаруіць кароў.* Ёдлавічы Брасл. *Кап я ўмела чараваць?!* Магуны Паст.

ЧАРАВІ′КІ, ЧЭРЭВІ′КІ *мн.*, ЧАРАВІ′К, ЧЭРЭВІ′К *м.* Абутак з невялікімі халявамі на шнурках або на гузіках. *Чаравікі ці барлёчы — жаночыя бацінкі з гузікамі, гузікі называліся шпонкі.* Мярэцкія Глыб. *Дайней-прыдайней насілі чаравікі, гэта бабы насілі.* Завельцы Астр. *Чаравікі былі на свята, на нядзелю.* Чуркі Ашм. *Чаравік занясеш да касцёла ў хустцы ўвязаны, а там надзенеш.* Васілевічы Гродз. *Чаравікі — ета бацінкі на шнурках.* Беразіно Докш. *Я насіла чаравікі.* Саланое Віл. *Чаравікі сабе купіла.* Кухты Віл. *Чаравікі, барлёчы — бацінкі на гузіках, цяпер не называюць.* Рыбчына Віл. *Чаравікі дайгія да палавіна лыткі на шнюрках.* Дакудава Лід. *Адарвоў чаравік.* Пацаўшчына Дзятл. *Чаравікі — старажытная назва бацінак жаночых. Чаравікі на гузіках і на шнурках с пістонамі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Усе обутые ў чэрэвіках.* Смаляніца Пруж. *Чаравікі с кожы шылі.* Навікі Лудз. *Чаравікі насілі с халявачкамы кароцянкамы.* Ракаўскія Швянч. *Чэрэвікі строчныя, пяткі на рэзінках і на гузіках насілі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЧАРАВІ′СТЫ *прым.* Тое ж, што і ч а р а в а́ т ы 1. *Чаравістая карова.* Рыбчына Віл.

ЧАРАВІ′ЧКІ *мн. памянш.* да ч а р а в і́ к і. *Шукала сваё чаравічкі.* Гальшаны Ашм. *Чаравічкі насілі.* Талейкі Швянч. *Чаравічкі на шнюрках і на пугавічках.* Філіпаўцы Красл.

ЧАРАВО′ КУ′ТНЯЯ *н.* Прамая кішка. *Хвальбонамі кутняя чараво.* Асавец Віл.

ЧАРАДА′ I, ЧЕРЕДА′, ЧЭРЭДА′ *ж.* 1. Статак. *Цэла чарада пашла кароў.* Кіралі Шчуч. *Чарада авец, чарада кароў. Трэба чараду пасвіць.* Альхоўцы Лях. *Кароў чарада ідзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Бук буў у чарадзе.* Кузьмічы Люб. *Скаціну ганяюць на тры чарады.* Рудня Астравітая Чэрв. *У чарадзе была карова, украдзяцца із званком.* Пасека Ст.-Дар. *Чэрэда овэчок. Чэрэду вэчок жэнэ.* Дзмітравічы Кам. *Ідзе чэрэда.* Навадворцы Васільк. 2. Чарада птушак. *Чарада гусей ляціць.* Кузьмічы

Люб. *Жоравы чарадой паляцелі, парадачкам.* Магуны Паст. *Чарада гусей.* Альхоўцы Лях. *Чарада птушак. Курэй дзве чарады.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вірабейкі прывядуць сваю чараду і ядуць с курамі.* Вецярэвічы Пух. 3. Чарада сабак. *Сучка ляціць с чарадой сабак.* Кудзялянцы Шальч. 4. у знач. *прысл. чарадо́й. Чарадой водзяцца сабакі, адзін за адным.* Магуны Паст. 5. Гурт, натоўп. *Чарада дзяцей.* Магуны Паст. *Цяшка было такую чараду дзяцей накарміць.* Галубы Маст. *Чарада дзяцей у яго.* Пацаўшчына Дзятл. *Ой, дзяцей чарада сабралася.* Рыбчына Віл. *Ідзе чарада дзяцей.* Альхоўцы Лях., Пасека Ст.-Дар. *Чарада дзяцей была.* Багушэвічы Бярэз. *Череда цыганэў.* Азарычы Пін. 6. Куча. *Чарада грыбоў.* Рудня Чэрв. 7. Чарга. *Чарада мая пастара карміць.* Валынцы В.-Дзв. *Чарада пасці кароў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Чыраз дзве нядзелі чарада* [кароў пасціць]. Чапаеўскі В.-Дзв.

ЧАРАДА′ II *ж. бат.*Ваўчкі. *Набяры чарадэ і пакупай дзіця, памагая ад залатухі.* Кіралі Шчуч. *Чарада ад залатухі, набрала чарады.* Навікі Лудз.

ЧАРАДЗЕ′Й *м.* і *ж.* 1. Чараўнік, шаптун. *Чарадзей замаўляе.* Кіралі Шчуч. *Чарадзей мох ачараваць што-коляк.* Гемзы Шальч. 2. Чараўніца. *Катора баба чарадзей — у яе ў хаця муся брудна быць.* Кудзялянцы Шальч.

ЧАРАДО′ЎКА *ж.* Рад. *Шашок усіх курэў парэзаўшы і ў чарадоўку паклаўшы.* Рагулішкі Даўг.

ЧАРА′Н I *м.* Месца на печы каля коміна. *Чаран, на чаране гарачо.* Старыя Смільгіні Воран.

ЧАРА′Н II *м.* Дзяржанне, ручка. *Чаран у нажы зламаўся.* Беразіно Докш. *Зламаўся нош, асталіся чараны.* Мярэцкія Глыб.

ЧАРАНЁ, ЧАРАНО′ *н.* 1. Тое ж, што і ч а р а́ н II. *Чаранё да нажа.* Жылі Іўеў. 2. Цаўё ў лыжцы. *Чарано ў дзераўлянай лышкі было.* Крэва Смарг. *Чарано ўрабіла ў лошцы.* Бакшты Іўеў. 3. Дзяржанне ў выглядзе круглай палкі ў розных прыладах. *Чарано ў качарзе, у памяла. Нада зрабіць другоя чарано да малатка.* Гемзы Шальч. *Чарано ў вілах.* Гемзы Шальч. *У цэпе чарано і булаўка.* Дэгшні Шальч.

ЧАРАНО′К, ЧЫРЫНО′К *м. памянш.* 1. Тое ж, што і ч а р а́ н II. *Чаранок у нажы, вілкі на чаранку.* Масілавічы Сл. *Чаранок у нажэ.* Міратычы Карэл. 2. Тое ж, што і ч а р а н ё 3. *Чаранок у вілах.* Парэчча Гродз. *Вілкі насаджваюць на чаранок. З гарэшніку рабілі чаранкі віл.* Малахоўцы Бар. *Чаранок да відлаў, да рыдлёўкі.* Вострава Маст. *Чаранок да памяла рабілі.* Мсцібава Ваўк. *Чаранок на качаргу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мытла насаджана на чырынок.* Дзмітравічы Кам. *Чаранок у кацюбя паламаўся.* Лука Нараўк.

ЧАРАПА′ШКА *ж.* Кубак. *Чарапашка — кружка дзеравяная.* Рудня Чэрв.

ЧАРАП′Ё *зб. н.* 1. Чарапкі. *Чарап'ё асталося ат міскі.* За-

вельцы Астр. 2. *перан. зневаж.* Старыя хворыя людзі. *Адно чарап'ё старое ляжала ў палаце.* Пацаўшчына Дзятл.

ЧАРАПІ'ЦА *ж.* Ліновішча гада. *Як гадзіна скіне старую скуру — кажуць чарапіца.* Граўжышкі Ашм.

ЧАРА'ПКАЦЦА *незак.* Карабкацца. *Нек чарапкайся, чарапкайся — і вылез.* Галубы Маст.

ЧАРАПЛО', ЧАРПЛО', ЧЭРПЛО' *н.* 1. Рыбалоўная снасць з лейкападобным уваходам. *Чарапло, што рыбу лавіць, буч такі. Чарапло — спачатку вузей, а там шырэй, у горла ляціць рыба.* Магуны Паст. *Чарапло — сетка вялікая. Буч маленькі, а чарапло вялікая.* Лайпушкі Ігн. *Чэрпло без крыл, таптуха таксама.* Глівін Барыс. 2. Падхватнік, сачок для лоўлі рыбы і ракаў. *Чарапло на шасце кульком зроблена.* Завельцы Астр. *Чарпло — палка, душка і сетка, рыбу лавіць.* Кураполле Паст. *Чарплом ракаў даставаць.* Глівін Барыс. *Курмялёў ловюць чарплом.* Лісна В.-Дзв.

ЧАРАПО'К *м.* Пасудзіна, адбітая зверху. *Чарапок — дно ад пабітага гаршка, жарылі сала і мяса.* Лісна В.-Дзв. *З гаршка чарапком накрывалі некалі і елі з чарапка.* Дзяніскавічы Ганц.

ЧАРАПЫ' *гл.* ЧЭ'РАП II

ЧАРАПЯНЫ' *прым.* Зроблены з гліны. *Чарапяная міска была.* Бакшты Іўеў.

ЧАРАСТВО' *н.* Вядзьмарства. *Як чараство патходзіць, то нада патчараваць, не патчаруіць — сама здохніць.* Валынцы В.-Дзв.

ЧАРАСЧУ'Р *прысл.* Занадта. *Маці чарасчур ухаджваіць.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *чересчур* 'тж'.

ЧАРАЎНІ'К *м.* Вядзьмар, чарадзей. *Даўней чараўнікі былі, чаравалі.* Валынцы В.-Дзв. *Чараўнік чаруе.* Мярэцкія Глыб. *Чараўнік можа чараваць.* Рыбчына Віл. *Чараўнік можа зрабіць, што пшчолы цябе могуць заесць.* Дэгшні Шальч.

ЧАРАЎНІ'ЦА *ж.* Вядзьмарка, чарадзейка. *Ёсць чараўніца, яна умеіць чараваць кароў.* Ёдлавічы Брасл. *Чараўніца па хатах ходзіць, чаруіць.* Беразіно Докш. *Чараўніцы былі, мяне адна зачаравала.* Чуркі Ашм. *Алена Філютава — чараўніца. Яна хадзіла ў сароццы белай на благавешча.* Збляны Лід.

ЧА'РАЧКА *ж. памянш.* 1. да ч а р к а. *Пілі аднэй чарачкай.* Саланое Віл. 2. Чарка гарэлкі. *Чарачку мне дай, я змерзла, усю калоціць.* Валеўка Навагр. *Вып'я чарачку.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЧА'РАЧКІ *мн. памянш.* да ч а́ р к і. *Пшчальныя чарачкі буваюць.* Месянцы Брасл. *На вашчурыны ставяцца чарачкі для наліцця мёду. Хлябец* [пчала] *у чарачкі закладая.* Азяраны Раг.

ЧАРАШО'К *м.*, ЧАРАШКІ' *мн. памянш.* 1. Тое ж, што і ч а р а́ н II. *Чарашкі згарэлі — у печ нош укінулі.* Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і ч а р а н ё 3. *Паламаўся чарашок у лапаця.* Ністанішкі Смарг. *Чарашок — ручка лапаты.* Масілавічы Сл. *Ча-*

*рашок грабля.* Чычалі Швянч. *Чарашок дзіравяны ў вілках.* Пасіене Лудз.

ЧАРВА′ *зб. ж.* Тое ж, што і ч а р а́. *Чарву паложыць — і нікуды матка.* Масілавічы Сл. *Чарва ва ўсіх вульях.* Лісна В.-Дзв., Дакудава Лід. *Чарву матка чарвіць.* Бакшты Іўеў. *Поўна рамка чарвы.* Міратычы Карэл.

ЧАРВІ′ВЫ *прым.* Паточаны чарвямі. *А каторы чарвівы грып бывая.* Кудзялянцы Шальч. *Тыя гады не былі такія чарвівыя маліны.* Альхоўка Навагр.

ЧАРВІ′ЎКІ *мн. заал.* Мухі, якія адкладваюць лічынкі на мясе. *Сонца як прыгрэе, дык на платох іх столькі зялёных, велькіх чарвіўкаў, на мяса быле толькі села, так і чэрві.* Пацаўшчына Дзятл.

ЧАРВІ′ЦЬ, ЧЭ′РВІЦЬ *незак. пчал.* Адкладваць чарву (лічынкі). *Матка чарвіць чарву. Матка чэрвіць чарву.* Бакшты Іўеў. *Матка чэрвіць, зачэрвіла.* Старыя Смільгіні Воран.

ЧАРВО′НЫ *гл.* ЧЫРВО′НЫ

ЧАРВЯ′К, ЧЫРВЯ′К *м.,* ЧЭ′РВІ, ЧАРВЕ′ *мн.* 1. Дажджавы чарвяк. *Чарвяк вылес на дошч, а як пагода — хаваюцца.* Кіралі Шчуч. *Як гаруць, гракі чэрві выбіраюць.* Дакудава Лід. 2. Лічынка авадня. *Галавісты чарвяк у вугрэ.* Кіралі Шчуч. *Чарвяк у скуры ў кароў, цялят.* Рагулішкі Даўг. 3. Лічынка мухі і іншых насякомых. *Жоўтая сланіна і чарве — мы ня елі. Гнілец на пчол нападая, чэрві булі.* Парэчча Гродз. *У лісічках чарвей німа.* Багушэвічы Бярэз. *Капусны чырвяк.* Якубова Рас.

ЧАРВЯКІ′ *мн. кулін.* Страва, прыгатаваная з паранага аўса. *Чарвякі із мілты. На драчку праціраюць цеста і выходзяць чарвячкі, абсыпаюць альбо альняным семам, альбо канаплямі і ставяць у лёгкі дух — і закуска да піва.* Ухвала Круп.

ЧАРГА′ *ж.* 1. Тое ж, што і ч а р а д а́ I, 7. *Чарга карову пасціць.* Кузьмічы Люб. *Я пасвіла чэргу.* Альхоўцы Лях. 2. Тое ж, што і ч а р а д а́ I, 1. *У чэрзе пасуць авечкі.* Парэчча Гродз.

ЧАРІ′ТЬ *гл.* ЧАРЫ′ЦЬ

ЧА′РКА *ж.* Чарка. *Прамей чарка звалі і на ношца і бяз ношкі, і тоя і другоя.* Магуны Паст. *Чарка даўней з ношкай і бяз ношкі, а цяпер адзін скажа кілішак, адзін — чарка.* Быстрыца Астр. *Чаркі без ножак.* Завельцы Астр. *Кілішак высокянькі, бяз ношкі — чарка.* Жодзішкі Смарг. *Кілішак — з ношкай, чарка — бяз ношкі.* Дакудава Лід. *Чарка рупчасцянька.* Малахоўцы Бар. *Чарка была роўная.* Слабада Мін. *Чарка — маленькі стаканчык.* Пасека Ст.-Дар. *Чарка вотку піць.* Пасіене Лудз. ∇ *Мушчына чаркай бароніцца, а баба слязьмі.* Кураполле Паст., Ракаў Валож. ◇ *Рабіць чарку* — піць гарэлку. *Ехалі, чарку рабілі.* Мыто Лід. *За чаркі брацца* — пачынаць піць гарэлку. *Ніхто за чарку не адважаецца брацца.* Пацаўшчына Дзятл. *Дапіваць чарку* — выпіваць да канца тое, што наліта ў чарку. *Нада дапіваць чарку — нельга пакідаць зло ў хаце.* Вузла Мядз. *Выпіць чарку* — выпіць гарэлкі. *Выпілі яны чарку.* Кухты Віл.

ЧА′РКАЦЬ, ЧЫ′РКАЦЬ, ЧЭ′РКАЦЬ *незак.* 1. Стракатаць (пра сароку). *Сарока чаркая.* Гемзы Шальч. *Сарока чыркае на дошч.* Солы Смарг. *Чэркая сарока на слоць.* Івашкаўцы Смарг. 2. Ціўкаць (пра куранят). *Чаркаяць курчаты.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *čeřkšti, čirkauti* 'тж'.

ЧА′РКІ *мн. пчал.* Соты. *Чаркі ў рамках.* Валынцы В.-Дзв. *У вашчыня чаркі. Вашчына — гэта аснова, палатно, купляюць гатовую, а чаркі самі пчолы робяць.* Груздава Паст.

ЧАРНАБО′ЛЬ *м. бат.* Чарнобыль. *Чарнаболь — чорны палын.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЧАРНАГАЛО′ВІК *м. бат.* Падвей. *Чарнагаловік па ніскіх містах расцець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЧАРНАГАЛО′ВІЦА *ж.* Тое ж, што і ч а р н а г а л о́ в і к. *Чарнагаловік з вясны расце на выгалках, на сцябурчыках расце. Навярху, як чорная шапачка, а тады беленькі пушок.* Кіралі Шчуч.

ЧАРНАГАЛО′Ў *м.* Тое ж, што і ч а р н а г а л о́ в і к. *Чарнагалоў — трава, што выпускае белы пучок як бы ваты.* Лісна В.-Дзв. *Чарнагалоў расцець у заванi.* Саланое Віл.

ЧАРНАГАЛО′ЎКА *ж.* Тое ж, што і ч а р н а г а л о́ в і к. *Чарнагалоўку каровы натта ядуць, як пацягнуць, то выцягаюцца белымі карэньчыкамі, чорны стаўбуньчык, у вомшары расце.* Пацаўшчына Дзятл. *Чарнагалоўка ў балоці расцець.* Саланое Віл.

ЧАРНАГАЛО′ЎНІК *м.* Тое ж, што і ч а р н а г а л о́ в і к. *Чарнагалоўнік расце па лугах, як чорнянькія цвяточкі.* Быстрыца Астр.

ЧА′РНАЗЕ′М *м.* Чарназём. *Дзе чарназем, там добра расце.* Міратычы Карэл. *Дзе чарназем — капалі чэрві.* Парэчча Гродз.

ЧАРНАЗЁМ *м.* Тое ж, што і ч а р н а з е́ м. Відаўцішкі Вільн.

ЧАРНАО′ЛЬХА *ж. бат.* Від вольхі. *На чарнаольсе лісты ліпкіе, кара чорная.* Грыкені Вільн.

ЧАРНАРА′БЫ *прым.* Чорны з белымі плямамі. *Скаціна чарнарабая* (карова, бык). Кураполле Паст.

ЧАРНАТА′ *ж.* 1. Непрыемнасць, нядобрае. *Такая бяда, да такая чарната — не вытравацъ.* Вецярэвічы Пух. 2. Паклёп. *Чарнату на міне выдумаў.* Номікі Бабіц. ∇ *Як прысніцца чорная карова, то будзе чарната.* Дарава Лях.

ЧАРНАШЛЁПІК *м. кулін.* Перапечка, якая зроблена з мёрзлай бульбы. *Чарнашлёпікі і дрычкі із мёрзлай картошкі пяклі.* Мішневічы Шум.

ЧАРНЕ′ЦЬ *незак.* Рабіцца чорнай. *Яна* [бульба] *была харошая, а як сварацъ — чарнея.* Малышы Лід.

ЧАРНІГАЛО′Ў *м.* Тое ж, што і ч а р н а г а л о́ в і к. *Чарнігалоў па мхох, распускаецца пушок белы — смугай, на ём растуць галовачкі чорныя, патом параспускаюцца, беленькія, што вата.* Кузьмічы Люб.

ЧАРНІ′ДЛА *н.* Чарніла. *Чарнідлам пісалі. Купі чарнідла.*

ЧО′ХІ *мн.* Ваўначоска. *Воўну чахралі на чохах.* Быстрыца Астр.

ЧО′ХНУЦЦА *зак. экспр.* Упасці, бухнуцца. *Пайшоў прас клатку я — як чохнуўся ў рэчку.* Вузла Мядз.

ЧО′ХРАЦЬ *гл.* ЧАХРА′ЦЬ

ЧО′ХРЫ *мн.* Тое ж, што і ч о́ х і. *Чохры — воўну часаць.* Завельцы Астр. *Чохры — машына часаць воўну.* Беняконі Варан. *Воўну часалі на чохрах.* Магуны Паст. *Чохры былі, чохралі воўну.* Малькуны Ігн. *Чохры ў хаця стаялі воўну чохраць.* Гемзы Шальч. *Чохры былі воўну чахраць.* Кудзялянцы Шальч. *Воўну чэшуць у чохрах, чохрамі.* Ёдлавічы Брасл. *Чохры удваёх круцілі. С чохров на барабан накручавалася.* Рагулішкі Даўг.

ЧО′ШЧЫК *м.* Той, хто чэша бярвенні. *Бандаш — сякера такая, ёю чошчыкі чэшуць.* Чычалі Швянч.

ЧТЭРНА′ЦЦАЦЬ *ліч.* Тое ж, што і ч а т ы р н а́ с ц я. *Яна чтэрнаццаць дзён была ў шпіталі.* Баброўнікі Гарад.

ЧТЭ′РЫ *ліч.* Тое ж, што і ч а т ы́ р ы. *Мае чтэры дзеці.* Парэчча Гродз. *Ткуць у чтэры нічальніцы.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *cztery* 'тж'.

ЧУБ, ЧУП *м.* 1. Чупрына. ▽ *Пусціўся ў драку — чуба ні жалей.* Саланое Віл. 2. *перан.* Некалькі жмень ячменю, лёну, пастаўленых вертыкальна і змацаваных зверху. *Чуп ячменю ўвярху звязаны, і стаіць.* Ёдлавічы Брасл. *Ячмень у чубэ вязалі, скора сохня.* Бакшты Іўеў. *Ячмень ставілі ў чубэ.* Парэчча Гродз. *Лён падымаюць і ставяць у чубы.* Быстрыца Астр. 3. Пучок травы, які застаецца на скошанай сенажаці. *Цябе, касец, можна прывязаць да чуба: хто чысценька косіць, луг толькі бялеіць, а некаторыя нявроўна косяць.* Месянцы Брасл. *Касой не заразаеш — чуб застаецца.* Валеўка Навагр. *Чубы астаюцца, як касіць не умее хто.* Саланое Віл. *Сенажаць пакасілі, адны чубы пазаставаліся.* Глівін Барыс. *Астаюцца абкосы — чубы.* Азяраны Раг. *Прыехаў зяць сена касіць — наастаўляў чубоў: гарацкі чалавек.* Вязынка Маладз. 4. Група дрэў. *Чуб бярозаў расце.* Гемзы Шальч. 5. у знач. *прысл. чуба́мі. Пакінуўшы пучкі травы, чубамі пакасіў.* Номікі Бабіц. 6. *з чубам. Салаты талерку з'ела з чубам.* Каўняны Гродз.

ЧУБАВА′ЦЬ *незак.* Ставіць снапы, закручваючы іх вярхі. *Ячмень чубавалі, у чубы ставілі. Авёс, ячмень, проса, грыку — усё чубавалі.* Ёдлавічы Брасл. *Канюшыну чубуюць, ставяць у кучкі і закручваюць вяршок.* Кемялішкі Астр.

ЧУБАРЭ′КІ *мн. экспр.* Мянушка беларусаў у пэўным рэгіёне. *Чубарэкамі звалі мазуры* [палякі] *нас, крыўдзілі.* Мсцібава Ваўк.

ЧУБА′СТЫ *прым.* Чубаты (пра птушак). *Курыца чубастая.* Бакшты Іўеў.

ЧУБА′ТЫ *прым.* 1. Тое ж, што і ч у б а́ с т ы. *У мяне дзве курыцы чубатыя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Чубатая курыца ў мяне.*

Пярэкі В.-Дзв. *Чубата курка, чуб велькі.* 2. Высокі. *Чубата шапка.* Мачаск Бярэз.

ЧУБА'ТЫЯ КАНАПЛІ' *мн. бат.* Жаночыя асобіны канапель. *Чубатыя канаплі. З канаплей мяшке ткалі, натта моцныя.* Каўняны Гродз.

ЧУБА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да ч у б á т ы 1. *Ой, хароша курачка ў нас есць, чубаценька.* Кіралі Шчуч.

ЧУБІ'НКА *ж. памянш.* Касмычок. *Травы чубінка.* Чычалі Швянч.

ЧУБІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ч у б а в á ц ь. *Ячмень, авёс касілі і чубілі ў чубы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЧУБКІ', ЧУПКІ' *мн. памянш.* да ч у б 2. *Грэтчыну збіралі і ў чубкі ставілі, не вязалі ў снапы.* Вузла Мядз. *Стаўляяш чупкі па пяць жмень.* Магуны Паст. *У чупкі лён ставяць, як падымаюць.* Жодзішкі Смарг.

ЧУБО'К *м. памянш.* 1. да ч у б 3. *Травы чубок.* Чычалі Швянч. 2. *абрад.* Жменя незжатага жыта, якая пакідалася пры дажынках. *Як канчаюць жаць, абагнуць чубок жыта.* Дакудава Лід. 3. Чубок (пра птушак). *Кнігаўка з чубком, пёрушак — і беленькіх і цёмненькіх.* Месянцы Брасл.

ЧУВА'НЫ *прым.* Чуты. *У крыніцы — акно, гэта чуваная слова.* Кураполле Паст.

ЧУВА'ЦЦА *незак.* 1. Чуць што-, каго-н., успрымаць на слых. *Ужо чувацца, як жабы крумкаюць.* Малі Астр. *Як жылкі трашчаць, граюць, і другому чувацца. Грому не чувацца.* Ёдлавічы Брасл. *Ні чувацца жабаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *За кілометраў два чувацца, як вада шуміць. С прагненям п'ець, аш чувацца, як ёкаіць.* Кураполле Паст. *Гул можа ідзе, далёка чувацца.* Індра Красл. 2. *безас.* Чуць пра што-н., пра наяўнасць каго-, чаго-н. *Цяпер не чувацца турчакоў. Нешта не чувацца, кап хто што браў.* Завельцы Астр. *У нас ні чувалася, кап дзецi так робілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Толькі што чувацца, што хлеп прывязлі.* Пераброддзе Міёр. *Не чувалася такога. У нас не чувалася такіх слоў.* Магуны Паст. *Цяпер ужо не чувацца, кап сварыліся.* Кураполле Паст. *Сям'я жывець і нічога не чувацца.* Малькуны Ігн. 3. *перан.* Быць чутным, пачутым. *Нада ш дабівацца, кап і я была чувацца.* Кураполле Паст. 4. Адчуваць што-н., адчувацца (органамі пачуццяў). *Сягоня ні так чувацца, менш стала балець спіна.* Кураполле Паст. 5. Адчуваць сябе. *За дзве нядзелі ужо чувалася добра.* Рагулішкі Даўг.

ЧУВА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ч у в á ц ц а 1. *Ні чуваць нідзе песні.* Пярэкі В.-Дзв. *Здалёк чуваць. Рэха адбіваяць, тады чуваць.* Солы Смарг. *Не чувалі даўнейшай песні.* Навікі Лудз. 2. *безас.* Тое ж, што і ч у в á ц ц а 2. *У нас не чуваць, каб так звалі.* Вузла Мядз. *Нешта ні чуваць, кап каровы падалі.* Гальшаны Ашм. *Што там чуваць?* Граўжышкі Ашм. *Суседы прыходзяць і кажаць: «Нядобрая чуваць».* Ёдупка Шальч. *Што чуваць у вас, суседзе?* Буйвіджай Вільн. 3. Тое ж, што і ч у в á ц-

ц а 5. *Я чую слабым і скажу, як жыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Успрымаць абаняннем. *Такая краска, нічога ні чуваць.* Солы Смарг. *Чуваць тхліна.* Номікі Бабіц. 5. Адчуваць смак чаго-н. *Чуваць соль.* Малахоўцы Бар. ◇ *Там, дзе пятуха не чуваць* — далёка. *Расцець гэта трава там, дзе пятуха не чуваць — далёка ў лесе.* Кураполле Паст.

ЧУГА′Н *гл.* ЧЫГУ′Н

ЧУГУ′Н *гл.* ЧЫГУ′Н

ЧУ′ДА *н.* і *ж.* Цуд, дзіўныя здарэнні, падзеі. *Чуда сатварылася: яна яму кіпцямі морду абадрала.* Пераброддзе Міёр. *У гэту ноч у леся чуда тварылася.* Груздава Паст. *Гэта ж нада ікая чуда.* Пярэкі В.-Дзв. *Чуда была ў нас: пчолы ў рукаве кажуха сіделі і чарачкі сделалі.* Прэдэ Даўг. *Я яшчэ табе чуду скажу.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* руск. *чудо* 'тж'.

ЧУДА′ЧКА *ж.* Дзівачка. *Такая чудачка, абы-як адзенецца.* Пераброддзе Міёр.; *параўн.* руск. *чудачка* 'тж'.

ЧУДЗІ′ЦЬ, ЧУДІ′ТІ *незак.* 1. Дзівачыць, вытвараць, смяшыць. *Ідзе і будзя чудзіць.* Альхоўцы Лях. *Позбіралісе всіе в хату і началі чудіті.* Курашэва Чыж. 2. Гаварыць няпраўду, бязглуздзіцу. *Ты нэ чуді, кажы правду.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *чудить* 'тж'.

ЧУДЗЬ *ж.* Тое ж, што і ч у́ д а. *Ці ж гэто не чудзь?* Валеўка Навагр.

ЧУДНЫ′ *прым.* Дзіўны. *Чудная дзяўчына.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* руск. *чудной* 'тж'.

ЧУЖ *ж.* Лухта, глупства, мана. *Чы гэта праўда?* — Чуж. Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *чушь* 'тж'.

ЧУЖА′К *м.* Чужынец. *У канцы сяла адны чужакі насяліліся.* Мачаск Бярэз.

ЧУЖАНІ′НА *зб. ж.* Чужыя. *Чужаніна сойдуцца і жывуць, і раднёй стануць.* Чапаеўскі В.-Дзв.

ЧУЖАНІ′ЦА *ж.* Чужая. *Яна мне чужая, чужаніца.* Альхоўцы Лях.

ЧУЖАПА′НЕЦ *м.* Тое ж, што і ч у ж а́ к. *Етыя не нашы, чужапанцы.* Беразіно Докш.

ЧУЖА′ТІСЕ *незак.* Цурацца, чужацца. *Бліскі своякі, а так чужаюцце.* Курашэва Чыж.

ЧУЖА′Я-ЧУЖАНІ′НА *ж.* Тое ж, што і ч у ж а н і́ ц а. *Сын родны, а нявестка — чужая-чужаніна.* Кухты Віл.

ЧУЖА′Я-ЧУЖЫ′М *ж.* Тое ж, што ч у ж а н і́ ц а. *Яна чужая-чужым ей, што ш яе прыглашаць.* Кіралі Шчуч.

ЧУЖНІ′К *м.* Госць. *Для чужніка дзержалі сала.* Кураполле Паст. *Як чужнік, трэба падаць на стол лепшага.* Саланое Віл.

ЧУЖЫ′, ЧУЖЭ′Й *прым.* 1. Не родны, з чужой сям'і. *Мая хазяйка і чужога дзіця глядзіць, і есці дась, і ўгасціць.* Вузла Мядз. *Любых я жалею, мне і чужых жалка: удавы і сірот.* Месянцы Брасл. *Ён чужых любіць.* Саланое Віл. *Чужыя дажа дарэць па дваццаць рублей с пары.* Збляны Лід. *Хтось чужэй пры-*

*шов.* Дзмітравічы Кам. *С чужымі дзецьмі цяжко. Крычыт на чужые дзеці.* Смаляніца Пруж. *Я ім чужы чалавек.* Вецярэвічы Пух. 2. З другой мясцовасці. *Быў шчэ раней такі звычай, што чужой дзеўкі ў вёску не бралі.* Збляны Лід. *Я люблю чужы нарот, да мяне часта прыяжджаюць.* Навасёлкі Лід. *Німа таго дня, кап хто чужы да нас не прышоў.*Ністанішкі Смарг. 3. Не аднаго гнязда, вывадка. *Як чужыя парасяты, свіння будзіць рэзаць.* Завельцы Астр. 4. Не ўласны, які належыць іншым. *На чужую нійку хадзіла* (зарабляць). Саланое Віл. *Сядзі, баба, у чужой хаце.* Саланое Віл. *Петушок нарушаў певам пшчаліны спакой і чужых клявоў.* Месянцы Брасл. ▽ *Свой са сваім бісяя, а чужы не мяшайся! На чужым кані і ў вадзе злась. Чужая болька нікому не баліць. Чужы хлеп пірагом пахніць.* Вузла Мядз. *Чужога не хачу, а сваяго ні папушчу.* Курапoлле Паст. *Чужога не бяры, свайго не пускай.* Ёдупка Шальч. *На чужом няшчасці не паставім свайго шчасця.* Пераброддзе Міёр. ◇ *Чужая косць* — няродная кроў. *У яе сыны, дзеці, унукі, а мужык — чужая косць, яна яго выгнала.* Камянка Шальч. *Чужыя багі — іран.* чужыя мужы. *Я не ішчу чужых багоў, у мяне свой ёсць.* Пераброддзе Міёр.

ЧУЖЫНА′ *ж.* Чужы край, чужая старана. *Надаесь на чужыне жыць, паеду на родзіну. Адзін адзіненькі жыве на чужыне.* Альхоўцы Лях.

ЧУ′ЙКА *ж.* 1. Армяк. *У нас ермякі, а за Вяльёй чуйкай звалі.* Завельцы Астр. *Кажух, а наверх чуйку накладалі, суконна чуйка.* Новікі Гродз. *Чуйка доўга, а марынарка каротча. Чуйка проста пашыта* (не адразная). *Чуйкі с сукна шылі. Чуйка — ўродзі як тулуп, с сукна.* Васілевічы Гродз. *Чуйка, з сукна шылі. Чуйку адзеў і гуляў.* Каўняны Гродз. *Чуйка — адзенне.* Чычалі Швянч. *На кожуха наложыв чуйку і поіехав до ліеса по дрова.* Курашэва Чыж. 2. Верхняе жаночае адзенне, падобнае на армяк. *Бабы чуйкі насілі, як ярмяк.* Магуны Паст. *Калісь ткалі і шылі чуйкі, такі кляшовы плашч суконны.* Баброўнікі Гарад. 3. *перан.* Той, хто мае прыгнечаны, ашаломлены, неахайны выгляд. *От ужэ гэто чуйка, ны чоловік: і одэжа на ёму бы на старчёвы, і опушчаный някый, бы на ёго ввэсь світ звалывся.* Сіманавічы Драг. 4. Мянушка. *Чуйка — так празывалі аднаго.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *czujka* 'вартавы'.

ЧУ′КАЦЦА *незак.* Калыхацца, гойдацца (уверх і ўніз або ў бакі). *Калыска чукалася.* Жылі Іўеў. *Вазьмі пачукай дзіця! Яно чукаецца.* Азяраны Раг.

ЧУКУЛЯ′ДА, ЧЫКУЛЯ′ДА *ж.* Шакалад. *Сама галодная, а сабаку чукуляду купляе.* Солы Смарг. *Чыкуляду купіла.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *czekolada* 'тж'.

ЧУЛІ′НДРА *ж. зневаж.* Нязграбная, неахайная, нядбайная жанчына. *За харошым мужам і чуліндра — жана!* Мішневічы Шум.; *парайн.* літ. *pečialìnda* 'той, хто сядзіць за печчу'.

ЧУЛО'К *м.* Панчоха. *І чулкі, і абуванне — усё здзела.* Юркава В.-Дзв.; *параўн.* руск. *чулок* 'тж'.

ЧУ'ЛЫ І *прым.* Спагадлівы, памяркоўны. *Чулы чалавек, добры.* Ёдлавічы Брасл. *Чулы чалавек, сазнае, што трэба памагці другому.* Азяраны Раг.; *параўн.* польск. *czuły* 'тж'.

**ЧУ'ЛЫ ІІ *прым.*** Дужы, здаровы. *Чулы — хоць стары, але чулы, нішто, рухомы, а як нячулы, то ўжо кажы яму, нічога не панімаіць, маўчыць, як сціна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яму восімдзісят гадоў, а ён яшчэ чулы, верніць, як звер.* Мярэцкія Глыб. *Чулы яшчэ, добра чуецца.* Граўжышкі Ашм. *Чулы чалавек — васолы, бодры, ідзе як ня чуецца, як нясе яго хто.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён яшчэ чулы, можа рабіць.* Рыбчына Віл.

ЧУМА' *ж.* 1. *мед.* Чума. *Чума — хвароба.* Альхоўка Навагр. *Чума на людзей нападала.* Вузла Мядз. 2. *перан.* Адходы пры ачыстцы збожжа. *Чума — усякая змесь, смяццё, пыл, кастра, чума — горшыя атходы чым шуспіца.* Груздава Паст.; *параўн.* літ. *čiūmalai* 'тж'.

ЧУМАДА'Н, ЧУМУДА'Н *м.* Чамадан. *Узяла свой чумадан і паехала.* Гальшаны Ашм. *Чумадан сабраў і пашоў.* Плябанцы Ашм. *У чумуданя ляжыць.* Граўжышкі Ашм.

ЧУМА'К *м. зневаж.* Неразумны чалавек. *Чумак нейкі, не панімаеш, што пляцеш.* Новіны Нясв. *Чумак ты!* Навасёлкі Свісл.

ЧУМУДА'НЧЫК *м. памянш.* Чамаданчык. *Чумуданчык быў у міне.* Рагулішкі Даўг.

ЧУ'НІ', ЧУ'НЫ' *мн.* 1. Лапці, плеценыя з нітак, вяровачак. *Чу́ні вязалі кручком, з лёну, с пакуля. Кручок віць вяроўкі, чу́ні дзелаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Чу́ні плялі з пакула хушчага. Чу́ні плялі кручком.* Пярэкі В.-Дзв. *Чу́ні з таўстых нітак робілісі.* Манякова Міёр. *Чу́ні рабіліся з нітак.* Крэва Смарг. *Бало, напроду пачіс, посучу да навяжу чу́ней дітюм, да так і ходылы.* Сіманавічы Драг. *Чуні з вяровачак дзелаюць, з нітак.* Яніна В.-Дзв. *Чуні́ кручком плялі.* Кіралі Шчуч. *Чуні́ паробім і жыта жнём у чунёх.* Груздава Паст. *Лапці з лыка плялі, чу́ны́ — з аборак. Чу́ны с пянькі плялі. Чун усценж раздзёрла.* Рыбчына Віл. *Чу́ны — з тоненькіх вяровачак.* Чычалі Швянч. 2. Лапці, плеценыя з лазы. *Малы надзярэць лазы два кулі, прынясець, чуні́ спляцець.* Валынцы В.-Дзв. 3. Клееныя гумавы абутак. *Чу́ні клеілі з рызіны. С·кіхаў чуні рабілі.* Завельцы Астр.; *параўн.* літ. *čiùnkė, čiuñkė* 'тж'.

ЧУНКІ' *мн.* Наскі. *Чункі — шкарпэткі называлі.* Кальнішкі Шальч.

ЧУНЬКІ' *мн. памянш.* да ч у́ н і 1. *Чунькі ўместо тапачак.* Яніна В.-Дзв.

ЧУП *гл.* ЧУБ

ЧУ'ПАЦЬ *незак. экспр.* Ісці. *Трэба чупаць пяшком у Чэрвень.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЧУПЕРА́ДЛА *ж.* Тое ж, што і ч у л і н д р а. *Хто яе абдыме, чупырадлу?* Валеўка Навагр.

ЧУПКІ́ *гл.* ЧУБКІ́

ЧУПРЫ́НА *ж.* 1. Тое ж, што і ч у б 1. *Валасэ павырывала, чупрыну выдзерла.* Вецярэвічы Пух. 2. Тое ж, што і ч у б 4. *Чупрына лесу — малы кусок сярод поля.* Азяраны Раг.

ЧУРА́К *м.* Цурбан. *Чурак — адрэзаны кусок бервяна. Адрэзаў ад дрэва чурак, трэба апрадзяліць крывізну на чураку.* Рыбчына Віл.

ЧУРА́ЦЦА *незак.* Цурацца, пазбягаць каго-н., адракацца. *Ён чураўся, а патом адаў. Цураўся ён іх, асобня жывець. Яна чураецца бацькоў.* Кураполле Паст. *Што ш ты чураяся?* Асавец Віл. *Не чураліся яе.* Азяраны Раг. *Не чурайся мяне.* Талейкі Швянч. *Будзьце, будзьце — мы не чураемся.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *чураться* 'тж'.

ЧУРБА́К *м.* Тое ж, што і ч у р а́ к. *Чурбакамі націскалі лён, як мачылі яго ў мачулішчы.* Лісна В.-Дзв. *Чурбак тоўсты прывезлі на дрова, трудна разбіць.* Бакшты Іўеў.; *гл.* ц у р б а́ к.

ЧУРБА́Н *м.* 1. Палена. *Як чурбаном ударыла — так аглушыла мяне.* Пераброддзе Міёр. 2. Падстаўка пад вулей. *Каранік на чурбанах стаял.* Прэдэ Даўг.; *парайн.* руск. *чурбан* 'тж'.

ЧУРБАНО́К *м. памянш.* Цурбанок. *Чурбанкі астаюцца ад вуглоў, як хату рубяць.* Азяраны Раг.; *гл.* ч у р б а́ н.

ЧУ́РКА *ж.* Тое ж, што і ч у р а́ к. *Парэзаў дзерава на чуркі.* Беразіно Докш.

ЧУРКО́М *прысл.* Цурком. *Чурком вада ляціць.* Ракаўскія Швянч.; *гл.* ц у р к о́ м.

ЧУРЧЭ́ЦЬ *незак.* Цурчэць. *С пенай вада, аш чурчыць ляціць.* Магуны Паст. *Сок ідзець, аж чурчыць — у суткі вядры тры.* Ахрэмаўцы Брасл.; *гл.* ц у р ч а́ ц ь.

ЧУ́ТКА I, ЧУ́ТКО *прысл.* Чуйна. *Так чутка сплю.* Кудзялянцы Шальч. *Я вельмі чутко сплю.* Курашэва Чыж.

ЧУ́ТКА II *ж.* 1. Погаласка. *Чуткі абы-што ходзюць.* Мішневічы Шум. *Ідуць чуткі на чалавека, што будзя жаніцца.* Міратычы Карэл. *Чуткі пашлі, што нібы ў той вёсцы забіўся чалавек.* Гемзы Шальч. *Цяпер чутак няма.* Азяраны Раг. 2. Звестка, паведамленне. *Паехаў той чалавек — і чуткі нема.* Кузьмічы Люб.

ЧУ́ТКІ́ *прым.* 1. Чуйны. *Чу́ткі сабака, як хтось заворушыцце, вуон будзіцце.* Курашэва Чыж. *Я чутка́я: чуць што, не сплю.* Номікі Бабіц. 2. *перан.* Спагадлівы, чулы. *Чу́ткі — хто чуткі, панімаюшчы.* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. *чуткий* 'тж'.

ЧУ́ТКО *прысл.* Чуць, ледзь. *Чутко летнюю ваду раблю.* Быстрыца Астр.

ЧУТНО́, ЧУ́ТНА у знач. *вык.* 1. Чуваць. *Чутно, як вада цячэ.* Стральцы Гродз. *Чутно, як шлёпае трава. Чутно мне, ён там быў. Чутно, як свінчо пішчыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Укралі бочку піва — і ні чутно, і ні відно. Чутно, што бабы галасяць*

[крычаць]. *Павесяць на шыю званок, і чутно далёка.* Кіралі Шчуч. *Не чутно, каб рабілі так.* Кузьмічы Люб. *Чутно, што ён сем'ю пакінуў.* Альхоўцы Лях. 2. Адчувацца, адчуваць. *Чутна боль.* Дзяніскавічы Ганц.

ЧУТНЮ'ТКА у знач. *вык.* Чуваць. *Чутнютка ў Гемзах, як Полька бярэцца з Валькай.* Гемзы Шальч.

ЧУФЫ'Р *выкл.* Гукапераймальнае слова, якое перадае голас цецерука. *Цяцярук вясной балбочыць, уродзе ў бочку: чуфыр — чхаіць.* Замошша Брасл.

ЧУ'ХАТЭ *незак.* Чухаць, часаць. *Чухае, почухав голову.* Дзмітравічы Кам.

ЧУ'ХАЦЦА *незак.* 1. Часацца. *Чаго ты чухаяссе?!* Слабада Мін. 2. *перан.* Варушыцца, ісці. *Чухайся скарэй, раскажу, што дзелаць.* Азяраны Раг. *Чухаецца старая, памалу ідзе.* Вецярэвічы Пух.

ЧУ'ХНЫ *мн.* ЧУХО'НЬ, ЧУХО'Н *м.* Тое ж, што і ч у́ н і 1. *З пянькі плялі і называліся чухны. Чухонь парваўся. Адзін чухон.* Саланое Віл.

ЧУХРЫ'ЦЬ I *незак. экспр.* Хадзіць. *Сюды чухрыць, туда пачухрыў.* Кіралі Шчуч.

ЧУХРЫ'ЦЬ II *незак.* Чысціць (пра бульбу). *Як начнеш нажом чухрыць. Чухрыць картошку маладую — ета скабліць, чысціць.* Стары Свержань Стаўб.

ЧУХ-ЧУХ *выкл. экспр.* Гукапераймальнае слова, якое перадае гукі шагоў. *Чух-чух — пашла, шалых-шалых — ідзець, буднім днём поўна хата.* Валынцы В.-Дзв.

ЧУ'ЦЦА *незак.* 1. *безас.* Мець звесткі, чуць пра каго-н., што-н., пра наяўнасць каго-н., чаго-н. *Кап хто сказоў, а то нідзе не чулася.* Вецярэвічы Пух. 2. Адчуваць што-н. (органамі пачуццяў). *Чуюся, што сэрца баліць.* Граўжышкі Ашм. *Ей чуецца, што ненармальна ідзе.* Кіралі Шчуч. *Галава чулася.* Лоск Валож. 3. Адчуваць сябе. *Слаба чуюся я.* Граўжышкі Ашм. *Калі я чуюся добра, то хаджу.* Паляцкішкі Воран. *Калі чуесся нядобра.* Старыя Смільгіні Воран. *Нешта чуюся недобра, нешта мяшая.* Кіралі Шчуч. *Кап чуўся лепей, то і таварыства было п.* Мсцібава Ваўк. *Добра чуюся.* Жылі Іўеў. *Чуюся лепяй — піла зелля.* Дэгшні Шальч. 4. Прадчуваць. *Яна чулася, што памрэ.* Лоск Валож. ◇ *Ідзе, як ня чуецца* — пра лёгкую хаду. *Ідзе, як ня чуецца, як нясе яго хто.* Завельцы Астр.; *гл.* ч у в а́ ц ц а.

ЧУЦЬ I, ЧУ'ЦІ *незак.* 1. Мець слых. *Я добра віджу і добра чую, хоць і старая.* Вузла Мядз. *Аглохла цяпер, не чуя.* Збляны Лід. *Ён ня чуя.* Лоск Валож. *Семдзесят лет, ужо я не чую.* Дэгшні Шальч. 2. Успрымаць на слых гукавыя сігналы. *Чуем, стукаіцца нехта пад акно.* Завельцы Астр. *Людзі чуяць, як ён на жонку кажа: «Галабля ты!»* Ёдупка Шальч. *Лялька плача, а ты не чуіш.* Гемзы Шальч. *Воўк чуе ўшыма.* Дзяніскавічы Ганц. *Ён многа выпіў і нічога не чуе.* Дарава Лях. 3. Атрымліваць звесткі аб кім-, чым-н. *Я чула, што ўмееш замаўляць.* Старыя

Смільгіні Воран. *Я чула, што як залом выжнеш, то палучаецца якое калецтва.* Чуркі Ашм. *Не чуць, што б бабы умералі.* Ялова Пруж. 4. Успрымаць носам. *Як прыду і чую дым...* Завельцы Астр. *Воўк чуе носам.* Дзяніскавічы Ганц. 5. Успрымаць смакавыя якасці. *Ня чую смаку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не чую, не адчуваю смаку ў гэтай ядзе.* Ёдупка Шальч. 6. Адчуваць біялагічныя праявы. *Як яна цяпер чуіць?* Крэва Смарг. *Хаджу другім дзіцем, чую, што жывое ўжо.* Гальшаны Ашм. 7. Умець успрымаць. *Слімені чуюць дзяціныя сікі.* Саланое Віл. *Чуюць тыя коні вайну.* Барок Стаўб. *Коні чуюць ваўка, галавы задзераць і сільна фырчаць.* Рагулішкі Даўг. *Сабака ваўка чуе, кошка мыш чуе.* Дзяніскавічы Ганц. 8. Прадчуваць. *Сабака чуя сваю смерць — ямы капая.* Кіралі Шчуч. ▽ *Чула звон, але не знаіць, адкуль ён.* Кураполле Паст. *І плахоя чуць, і харошая далёка чуць.* Саланое Віл. ◇ *Не чуць нох; не чуць нох перат сабой.* Саланое Віл.; *гл.* н а г á. *Ані* [яны] *чуяць* — не слухаюць, не падпарадкоўваюцца. *Ім кажы — ані яны чуяць.* Гемзы Шальч.

ЧУЦЬ II, 1. *прысл.* Ледзьве. *Чуць сала валакець.* Замошша Брасл. *Нясёт кіту, чуць падняць.* Месянцы Брасл. *Напійшыся, чуць языком владая.* Завельцы Астр. *Чуць прышоў.* Малі Астр. *Малая была і ткала, чуць даставала панажы.* Слабада Мін. *Я чуць помню.* Грыкені Вільн. *Чуць устаў, так балеў крыш.* Гемзы Шальч. *С Косцікам кепско зрабіласё, чуць сандалі не аткінуў.* Валеўка Навагр. 2. *прысл.* Трошкі. *Еслі чуць — так тожэ было б па голаве* (застрэліў бы). Гемзы Шальч. 3. *прысл.* Недастаткова. *Еслі печка чуць пагрэіца, тады хлеп ацесліві.* Індра Красл. 4. *прысл.* Амаль. *Так мяне кідала,чуць ні сорак жары.* Солы Смарг. *Чуць не роўны берагоў канал быў.* Латыгаль Віл. *У Германіі быў чуць не тры гады.* Чычалі Швянч. 5. *злуч.* Як толькі. *Чуць сяду на сонца — шум у галаве.* Слабада Мін. ◇ *Чуць-чуць* — ледзьве. *Чуць-чуць выскрапсё.* Рыбчына Віл. *Чуць што* — пры ўсякай магчымасці. *Чуць што сцяжалі* [кралі] *паёк.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *чуть* 'тж'.

ЧУЧАВІ́ЦА *гл.* ЧАЧАВІ́ЦА

ЧУ́ЧАЛА *н.* Пужала. *Дзеці зробяц чучала, намажуц вочы вэнглем.* Парэчча Гродз. ◇ *Зрабіць чучала на галаве* — пра неахайную прычоску. *Зробіць чучало на галаве.* Дарава Лях.; *парайн.* руск. *чучело* 'тж'.

ЧУ́ЧАЛАПАК *м. анат.* Сустаў пальцаў рукі. *Чучалапак выцяў. Абабіў чучалапкамі.* Дзяніскавічы Ганц.

ЧУЧАРА́ПАЧКІ *мн. памянш.* да ч ý ч а р а п к і. *Чучарапачкі, як камячкі: там дзірачка і ў ёй чарвячок; каля Нёмна чучарапачкі.* Альхоўка Навагр.

ЧУ́ЧАРАПКІ *мн.* Ракавіны малюскаў. *Чучарапкі на Нёмане на пяску, іх там многа, з іх жабы выходзяць.* Дакудава Лід.

ЧУ́ЧКА *ж.*, ЧУ́ЧКІ, ЧУЧКЕ́ *мн.* 1. Тое ж, што і ч ý ч а л а п а к. *Чучкі баляць.* Каўняны Гродз. *Баляць мне чучкі.* Парэчча Гродз. *Чучке, чучка — адна.* Вострава Маст. *На пальцах костач-*

*кі — чучкі.* Малахоўцы Бар. *Чучке́ — костачкі на руке ў аснове пальцаў, суставы.* Старое Сяло Зэльв. *У адном пальцові, то чучка.* Баброўнікі Гарад. *Чучке на пальцах.* Сакаляны Сакол. 2. Пупышка пальца. *Збіла чучку на пальцы.* Міратычы Карэл.

ЧУ'ЧЫРЫПОК *м.* Вылівак. *Курыца чучырыпка знысла, зусім быз шкаралюпы.* Сіманавічы Драг.

ЧУША'ЙКА *ж.* Тое ж, што і ч а с о́ й к а. *Чушайка с клубка аб'ежджае.* Лука Нараўк.

ЧУ'ЯЧКА *ж. памянш.* да ч у́ й к а 2. *Чуячкі бапскія, бяс каўнярой, да калена, а такія, як ярмяк.* Магуны Паст.

ЧХА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і ч о́ х а ў к а. *Чхаўка напала.* Граўжышкі Ашм.

ЧХАЦЬ, ЧКАЦЬ, ЧЫ'ХАТЫ *незак.* Чхаць. *Найболей, як катар палучыш, тады чхаіш.* Завельцы Астр. *Я чху часта і ён чхець, а ты ці чкеш? Мы чкалі і яны чхуць.* Малі Астр. *Часта чхая, ат прастуды чхая.* Солы Смарг. *Чхаіць, чохаўка напала.* Саланое Віл. *Чхая, прастудзіўся, чхаць пачаў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чмыхая, як катар — чкая.* Старыя Смільгіні Воран. *Була змэрзла, то всэ чыхаю да чыхаю.* Сіманавічы Драг. *Цяцярук як бы чхаіць, так балбочыць.* Замошша Брасл.

ЧХНУЦЬ *зак.* Чхнуць. *Аш чхнеш сідзя ў хаце — столькі пылу каля дарогі.* Ёдлавічы Брасл. *Ён толькі збіраўся чхнуць.* Стары Свержань Стаўб.

ЧЫ 1. *злуч.* Ці, або. *Чы двадцаць чатыры чалавекі, чы сколькі?* Кураполле Паст. *Крупы беляныя, чы булён беляны.* Быстрыца Астр. *Трыбух быў лопнуўшы, чы ў кішцэ? Чы ат колаў тор, чы ат саней. Ідуць чы да тэй, чы да гэтай.* Завельцы Астр. *Пойдзеш замуш чы не?* Гальшаны Ашм. *Дзесяць сцен снуеш . чы пяць.* Васілевічы Гродз. *Ны відаю, чы е.* Дзмітравічы Кам. *Жэнэ тэля, чы тэлушку.* Смаляніца Пруж. *Чы кісло, чы не?* Ялова Пруж. *Ты ровэром чы пэшком?* Горск Бяроз. *Глінка чы крэйда, патом беляць.* Баброўнікі Гарад. 2. *часц.* Ці. *Чы пойдзеш ты? А чы піша?* Гальшаны Ашм. *Чы выляс сабака?* Жодзішкі Смарг. *Чы ня лепей, каб мяне ты быў забраўшы?* Паляцкішкі Воран. *Чы вам шчо боліт?* Смаляніца Пруж. *Чы ўзавтра будэ гожа погода? Нэ знаю, чы штось с того выйдэ?* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *czy* 'тж'.

ЧЫ Ж *часц.* Тое ж, што і ч ы 2. *Чы ж ты такі дурны, коп такого простого заданя нэ поняв.* Курашэва Чыж.

ЧЫ'БІС *м.* Кнігаўка. *Чыбіс у нас зовюць.* Ёдлавічы Брасл.

ЧЫБУРЫ'ЦЦА *гл.* ЧЫПУ'РЫЦЦА

ЧЫГА'НІЦЬ *незак. экспр.* Хутка пісаць, страчыць. *Смотрым, ён чыганіць, чыганіць у свой блакнот.* Юркава В.-Дзв.

ЧЫГА'ЦЬ *незак.* 1. Прагнуць, хацець. *Не натта чыгала за цябе ісці.* Лоск Валож. 2. Сярдзіта пазіраць. *Што ты на міне чыгаеш?* Мсцібава Ваўк. 3. Мець злосць, гаварыць са злосцю. *Чыгае на міне.* Вострава Маст. 4. Меркаваць, думаць. ◊ *На двая*

*чыгаць* — меркаваць, думаць і так, і так. *На двая чыгай — думай: або жывы, або не жывы.* Старое Сяло Зэльв.

ЧЫГУ'Н, ЧУГУ'Н, ЧУГА'Н, ЧАГУ'Н, СЫГУ'Н *м.* Чыгун (посуд). *Ці ж ей цягаць тыя вёдры і чыгунэ?* Пацаўшчына Дзятл. *Ды чыгун восем літраў пабілі. Гаршчэчнікам бралі чыгунэ.* Валеўка Навагр. *Чыгун вялікі.* Бенякойі Воран., Грыкені Вільн. *Чыгун паставіў.* Пасіене Лудз. *Чыгун паставіў у печ.* Калясное Міхал. *Чыгун горыць у печы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Гаршчэчнікам выцягні чугун.* Новіны Нясв. *Чугун пабеляный ўсрэдзіне.* Навікі Лудз. *Чугуны пастаўляла ў печ.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дайней мычарніку ўтопчаш у чуган, напарыш і красіш ніткі.* Малахоўцы Бар. *Саган пабеляны з ушыма, чуган — без ушоў.* Номікі Бабіц. *Чагун люміневы.* Пасека Ст.-Дар. *Чагуны паліваныя.* Малахоўцы Бар. *Не буду выкідаць сыгуна.* Навасёлкі Свісл.

ЧЫГУ'НА ж. Чыгун (метал). *Саган з чыгуны.* Быстрыца Астр.

ЧЫГУ'НІК *м. памянш.* да ч ы г у́ н. *Чыгунік маленькі.* Пасека Ст.-Дар.

ЧЫГУ'ННЫ *прым.* Зроблены з чыгуну (металу). *Гаршкі былі чыгунныя.* Пасіене Лудз.

ЧЫГУНО'К *м.* Тое ж, што і ч ы г у́ н і к. *Чыгунок маленькі ў печы.* Дзяніскавічы Ганц. *У чыгунковэ шчо е?* Дзмітравічы Кам.

ЧЫЖАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ч а с а́ ц ь I, 2. *Была машына чыжаваць войну.* Каўняны Гродз.

ЧЫ'ЖМА *ж. бат.* Піжма. *Чыжма яшчэ памацнейшая ад бруха, чым што.* Ракаўскія Швянч.

ЧЫ'ЖЫК *м. заал.* Чыж. *Чыжык — птушка такая.* Пасіене Лудз.

ЧЫЙ *займ.* Чый. *Чыё там цяля паляцела?* Кіралі Шчуч. *Чые маці грошы забрала?* Смаляніца Пруж. ∇ *Чые п цяляткі рыкалі, а твае маўчалі п!* Груздава Паст.

ЧЫЙСЬ, ЧЫ'ЙСЯ, ЧЭ'ЙСЯ, ЧЫЯ'СЬ *займ.* Нечы. *Чыйсь кот прышоў.* Мсцібава Ваўк. *Чыйся сабака.* Вялікі Краснік Пруж. *Прыглэдывся добрэ, а то чыйся кінь ходыть.* Ушкавіца Кобр. *Чэйся сабака.* Радастаў Драг. *Чыясь дзеўка прыляцела.* Навадворцы Васільк.

ЧЫКАТА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ч а́ р к а ц ь 1. *Чыкоча сарока.* Лука Нараўк.

ЧЫ'КАЎКА *ж.* Зыбун, дрыгва. *Джыгаяцца чыкаўка.* Крэва Смарг.

ЧЫ'КАЦЦА *незак.* 1. Зыбацца. *Бэгна, балота, зямля чыкаіцца.* Рыбчына Віл. 2. *перан.* Займацца, важдацца, няньчыцца. *Доўго ён з ім чыкаецца.* Мсцібава Ваўк.

ЧЫ'КАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ч в і р к а ц ь 1. *Чыкаў чыркун.* Жылі Іўеў. 2. Цікаць (пра гадзіннік). *Чыкае зага́рак.* Завельцы Астр. 3. Тачыць, ствараючы пэўныя гукі (пра шаша-

ля). *Чыкаіць, як часы кавалёк, есць сцены, парахня сыпіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 4. Жвава ісці. *Сядзе ехаць, аж чыкае конь.* Валеўка Навагр. 5. *перан.* Выказваць нездавальненне, сыкаць. *Усе чыкаюць, што круп прывезла ў магазін і не прадае.* Дэгшні Шальч.

ЧЫКА′ЦЬ *гл.* ЧАКА′ЦЬ

ЧЫКІЛДА′ЦЦА *незак.* Хістацца. *Нешта кола ў возі чыкілдаецца, вось чыкілдаецца.* Засецце Дзятл.

ЧЫКІЛДА′ЦЬ, ЧЫКІЛЬДА′ЦЬ *незак.* Кульгаць. *Далася нагою, а цяпер чыкілдаю.* Бакшты Іўеў. *Чыкільдаць будзя.* Багушэвічы Бярэз.

ЧЫКІЛО′ *н.* Крэсіва. *Чыкілом высякалі цяпло. Чыкілом ляскаюць, губу прыкладаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *skilà* ’асколак (крэменю)’.

ЧЫ′КІ-ЧЫ′КІ *выкл.* Гукапераймальная перадача крыку бакаса. *Бакас крычыць чыкі-чыкі — мэ-гэ-гэ.* Кудзялянцы Шальч.

ЧЫКНУ′ЦЬ *зак. экспр.* Дадумацца, здагадацца, прыйсці ў галаву. *Яе бацька рабіў склеп, цягаў каменя, а ім ня чыкнула, што ў яго парушэня.* Ёдупка Шальч.

ЧЫКОЛДА′ТІ *незак.* Шчыкатаць. *Чыколдаті дітя нэ трэба. Нэ чыколдай мэнэ.* Азарычы Пін.

ЧЫКУЛЯ′ДА *гл.* ЧУКУЛЯ′ДА

ЧЫК-ЧЫК *выкл.* Пра гукі, якія ўтвараюцца пры згінанні суставаў. *Мае ногі — чык-чык.* Саланое Віл.

ЧЫ′ЛАЯ ЖЫ′ТА *н.* Адборнае жыта ў снапах. *Чылая жыта — немалочаная жыта, буйная жыта.* Саланое Віл. *Жыта чылая. Адборная зярно. Неабіваная жыта ў снапах называецца жыта чылая.* Рыбчына Віл.

ЧЫ′ЛАЯ МАЛАКО′ *н.* Цэльнае малако. *Малака чылага не дасць.* Саланое Віл.

ЧЫЛЕ′СНІКІ *гл.* ЧАЛЕ′СНІК

ЧЫ′ЛІ *злуч.* Або, альбо. *У адным палетку сеют авёс, садзят бульбу, чылі мяняют кажны год.* Лука Нараўк. *параўн.* польск. *czyli* ’тж’.

ЧЫЛІЗНА′ *ж.* Агрэх. *Ты ж узорвай, штоб чылязён не была. Кусок, дзе праскочыў плуг, называўся чылізна.* Мішневічы Шум.

ЧЫЛІ′КАЦЬ *незак.* Знімаць лушпінне, абіраць, чысціць. *Венкшанькую бульбу выбрала і чылікала яе.* Жылі Іўеў.

ЧЫЛО′ *гл.* ЧАЛО′ І

ЧЫ′ЛЫ *пры.* Чужы, незнаёмы. *Нейкі чылы чалавек, аднекуль прышоў.* Мачаск Бярэз. *Чылая месца. Чылы чалавек.* Рудня Чэрв.

ЧЫМ І *злуч.* Чым. *Лён чым болей ляжыць, тым харашэй робіцца.* Завельцы Астр. *Больш чым сто гадоў мея.* Старыя Трокі Трак. ∇ *Лепей з разумным згубіць, чым з дурным найсці.* Збляны Лід.

ЧЫМ II *займ. тв.* да што. Кім. *Чым я ні была: і даяркай, і звенявой.* Крэва Смарг.

ЧЫМБО'Р *гл.* ЧАМБО'Р

ЧЫМБО'РЫК *гл.* ЧАМБО'РАК

ЧЫМ-КО'ЛІКА *займ.* Чым-небудзь. *Як утну цябе зара чым-коліка!* Солы Смарг.

ЧЫН *м.* Чын, званне. *Чына ніякага ня заслужыў, гора пабачыў.* Якшыцы Бярэз.

ЧЫ'НА *прысл.* Добра. *Каранік* [вулей] *закрываіца чына.* Саланое Віл.

ЧЫНАВА'ЦІНА *ж.* Грубае палатно з пакулля. *Чынаваціну ткуць у чтэры нічальніцы радочкамі. Тонка чынаваціна — на мешок на муку, тоўста чынаваціна — на мешок на картофлю.* Баброўнікі Гарад.

ЧЫНБО'Р *гл.* ЧАМБО'Р

ЧЫНІ'ЦЦА *незак. ткац.* Разыходзіцца накрыж, праходзіць. *Чыняцца, адна нітачка туды, другая — сюды.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЧЫНІ'ЦЬ *незак.* 1. Скручваць абтрапаны лён. *Чыніць харошы лён, ручайкі чыніць, а кудзелю скручваем.* Круціца Мін. *У ручэйкі чыніць лён. З ручэйкі чыняць лён у пасцельку.* Рудня Чэрв. 2. Рыхватаць кудзелю да прадзіва. *Кудзелю чынілі, да прасніцы прывязавалі.* Валынцы В.-Дзв. *Кудзелю чынюць і прадуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чыніць нада куклы, яна шчыніла і скруціла ў кудзельку.* Мярэцкія Глыб. *Кудзелю чыніць.* Беразіно Докш. *Чыніць кудзелю — рыхтаваць кудзелю да прадзіва, скручваць.* Жодзішкі Смарг. *На стол разгортуюць кудзелю, бяруць па ручайцы і чынюць.* Тухавічы Лях. *Кужаль чынюць на стале і круцюць у кудзельку.* Саланое Віл. *Трэба чыніць кудзелю.* Вязынка Маладз. *Чыніць кудзелю.* Галубы Маст. *Кудзелю чынілі і пралі.* Лоск Валож. *Кужаль чынюць, а кудзельку калоцюць.* Гайна Лаг. 3. Пластаваць (сена). *Чынілі пласт сена, саломы.* Міратычы Карэл. *Чыні пласт тугі, хоць малы, алі пруткі.* Бакшты Іўеў. 4. Чысціць, патрашыць. *Рыбу трэба чыніць.* Мачаск Бярэз. *Чынім рыбу, вычыніш кішкі, печань, што ні ё выкініш. Як зарэжаш, тады чыніш курыцу.* Азяраны Раг. 5. *кулін.* Начыняць. *Калбасы чынілі ў тонкія кішкі.* Крэвені, Рагулішкі Даўг. *Чыныты кубасу.* Сіманавічы Драг. *Чыныты ковбасу.* Відзібар Стол. *Чынэтэ кубасу.* Радастаў Драг.

ЧЫНО'ВАЧКІ *мн. памянш.* да чыно́ўкі 1. *Адцягні ты мне чыновачкі.* Кураполле Паст.

ЧЫНО'ЎКІ *мн. ткац.* 1. Планкі, што закладаюцца ў чыны. *Чыноўкі парадак вядуць нітак.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Кіёчкі, на якія нанізваюцца ніты. *Чыноўкі — палачкі на нітох.* Магуны Паст.

ЧЫНО'ЎНІКІ *мн.* Тое ж, што і чыно́ўкі 1. Груздава Паст.

ЧЫНШ *м. гіст.* Грашовы падатак. *Чынш быўшы. Грошы*

*плацілі, але нашто?* Магуны Паст. *Чынш плацілі, чынш да пад'ёмнага не належаць, пад'ёмныя — падатак. Чынш выплачвала за зямлю.* Граўжышкі Ашм.

ЧЫНЫ', ЧЫНЭ' *мн. ткац.* 1. Папарнае перакрыжаванне ніτак асновы. *Чыны перакладает накрыш, як кросны снуем.* Саланое Віл. *Як снуем кросна, робяцца чыны. Е дошчычкі, кап чыны не раскідаліся.* Альхоўцы Лях. *Чыны — як снуём, то дзве ніткі зверху, а дзве знізу. Устаўляем такія дошчачкі, дзе чыны, як накручваем на навой.* Дзераўное Стаўб. *Калі чыны спусціў — то прапалі кросны.* Дэгшні Шальч. *Чыны — перакрыжоўваюцца ніткі, кап не зляцелі, па парачкі берыш і берыш.* Ракаўскія Швянч. *Дошчачкі ў чыны ўкладалі.* Лука Нараўк. *Чынэ — перакладаюць* [ніткі] *пат спот і наверх.* Кіралі Шчуч. *У чынэ закладваюцца дошчачкі. Не звязала і раскінула чынэ, навівала без чыноў. Чыны раскрываюцца.* Малышы Лід. *Чыны снуюцца чэрэс усю аснову. У чынах пасма шчытаюцца.* Баброўнікі Гарад. *Перакладаяш, на дошчачках — гэта чыны.* Рыбчына Віл. 2. Дзве дошчачкі ў кроснах, якія раздзяляюць аснову. *Бяз чыноў ткаць ня будзяш.* Малахоўцы Бар. *Без чыноў ня выччаш: гэта дзве дошчачкі перавязаныя, калі снуеш, нада чыны, кап ніткі не мяшаліся.* Старыя Трокі Трак.

ЧЫ'ПАК *м.* 1. Тое ж, што і ч а п е́ ц 1. *Наложа чыпак, такая хароша баба!* Быстрыца Астр. *Чыпак зваўся, падобен да каптура.* Рыбчына Віл. 2. *анат.* Нутранае сала, здор. *Чыпак нада зняць* (з трыбушка). *Нада атадраць, выбраць чыпак.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *czepek* 'чапец'.

ЧЫПУ'РЫЦЦА, ЧЫБУРЫ'ЦЦА *незак.* Прыбірацца. *Чыпурышся — губы красіш, валасы.* Збляны Лід. *Чыбурымся мы перад выступленнем.* Валеўка Навагр.

ЧЫ'ПЧЫК *м. памянш.* да ч ы́ п а к 1. *Чыпчык настаўлены, і стушкі, а павярху хусточку завязавалі, маладыя бабы насілі.* Рыбчына Віл.

ЧЫПЧЫ'ННІК *м. бат.* Шыпшына (дрэва і плады). *Чыпчыннік — красныя ягады ад даўлення.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Чыпчыннік калючы.* Мярэцкія Грыб., Ракаўскія Швянч. *Шыпоўнік у нас збіраяць, а па-простаму — чыпчыннік.* Крэва Смарг.

ЧЫПЭ'РЫЧКА *прысл.* Цяпер, зараз. *Чыпэрычка ны хочэ істы.* Дзмітравічы Кам.

ЧЫР *м. мед.* Скула. *Будуць чыра рэзаць.* Мсцібава Ваўк. *После чыра пляма осталас.* Дзмітравічы Кам.; *гл.* ч ы́ р а й.

ЧЫ'РА *ж.* Тое ж, што і ч ы р. *Чыра сядзіць, мёт прыложыць — праврвець.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Скула села, чыра села. Скула — даўней, чыра, чыры — сучаснае.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЧЫ'РАЙ *м.* Тое ж, што і ч ы р. *Чырай нацягнець, можна прыкладаць падбел.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *чирей* 'тж'.

ЧЫРА'НАЧКА *ж. памянш.* да ч ы р а́ н к а II. *Чыраначка — маленькая дзікая качка.* Дзяніскавічы Ганц.

ЧЫРА'НКА I *ж. памянш.* да ч ы́ р а. *На чыранках твар, еслі бальшыя, балячкі, а так папрышчыцца твар.* Пасека Ст.-Дар.

ЧЫРА'НКА II *ж. заал.* Чырок. *Чыранка ў атоках водзіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЧЫ'РВАНА *прысл.* Вялікая колькасць (пра скапленне жукоў чырвонага колеру). *Аш чырвана жукоў на бульбі.* Саланое Віл. *Жукоў было чырвана.* Вецярэвічы Пух.

ЧЫРВОНАГАЛО'ВІК *м. бат.* Падасінавік. *Чырвонагаловікі былі, раслі там.* Вострава Маст. *Чырвонагаловік, як возмешся, то чорны, і як зварыш.* Кіралі Шчуч.

ЧЫРВО'НЕНЬКІ, ЧЫРВО'НІНЬКІ, ЧЫРВО'НІНКІ *прым. памянш.* да ч ы р в о́ н ы. *Па сенажаці растуць чырвоненькія цвяточкі.* Пляңбанцы Ашм. *На гэтых дзвюх чырвонінькія яблыкі.* Груздава Паст. *Шышачка чырвонінкая.* Саланое Віл.

ЧЫРВО'НЕЦ *м.* Дзесяцірублёвы банкнот. *За чырвонец многа не купіш.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЧЫРВО'НІК *м.* Тое ж, што і ч ы р в о н а г а л о́ в і к. *Ох, сколькі ж там тых чырвонікаў — хадзі і збірай. Чырвонік — тоўстая ножка, больш па бярэзніках.* Пацаўшчына. Дзятл.

ЧЫРВО'НКА, ЧЭРВУО'НКА *ж. вет.* Рожа. *На чырвонку хварэў парасёнак.* Ёдлавічы Брасл., Івашкаўцы Смарг. *Адзін гот усе свіня захварэлі на чырвонку.* Магуны Паст. *У свіней бывая чырвонка.* Чуркі Ашм., Альхоўцы Лях. *Чырвонка, свіння зрабілася аш сінія.* Саланое Віл. *На чырвонку свінні хварэюць.* Рыбчына Віл., Солы, Жодзішкі Смарг., Кіралі Шчуч., Галубы Маст. *Чырвонка, свіня на чырвонку хворая.* Пацаўшчына Дзятл. *Свіня чырвонкай хварэюць і яшчурам.* Дакудава Лід. *Падыхаюць* [свінні] *ат чырвонкі, калі яна не выйдзя наверх.* Навасёлкі Лід. *Можаш хаваць свіню два года, а не будзя сала, рас перабалея на чырвонку.* Паляцкішкі Воран. *Зашчыкі даюць ад чырвонкі.* Гемзы Шальч. *Чырвонка — плямы чырвоныя ў свіні, есці мясо можна.* Лука Нараўк. *Свіні на чэрвуонку захворыэлі і поздыхалі.* Курашэва Чыж.

ЧЫРВО'НЧАК *м. памянш.* да ч ы р в о́ н е ц. *За геты чырвончак я не знаю, як дамоў заеду.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЧЫРВО'НЫ, ЧАРВО'НЫ *прым.* Чырвоны (колер). *Дзе чырвоная галоўка — то чорны мак.* Завельцы Астр. *Чырвоны цвет.* Мярэцкія Глыб., Горск Бяроз. *Мой каптан чырвоны.* Кіралі Шчуч. *Чырвоная сукенка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Калі сліўкі будуць чырвоныя?!* Паляцкішкі Воран. *У дзяцеліны белыя галаўке, а ў канюшыны — ружовыя, чырвоныя.* Пацаўшчына Дзятл. *Плаце чырвонэ зложыш.* Смаляніца Пруж. *Чырвоная хустка парвалася ўжо.* Старыя Трокі Трак. *Расаленік з бурачка чырвонага.* Грыкені Вільн. *Чарвоны твар.* Старыя Смільгіні Воран. *Калі я глянула на сценку — плюскі, аш чырвона сценка,*

*цяпер няма іх.* Гальшаны Ашм. *Скакунэ* [блохі] *чорные, а блохі* [клапы] *чырвоные.* Дарава Лях. *Чырвоная аснова.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чырвоныя мурашкі сякуць, што крапіва, цела пячэцца.* Вецярэвічы Пух. *Ест чырвоныя гадзіны.* Дэгшні Шальч. ∇ *Хто пасля смерці чырвоны?* — рак. Малі Астр.

ЧЫРВО'НЫЯ Я'ГАДЫ, ЧЫРВО'НЫЕ Я'ГАДЫ *мн.* Суніцы. *Чырвоныя ягады, як трускаўкі, толькі меншыя.* Васілевічы Гродз. *Прынёс чорные і чырвоные ягады.* Номікі Бабіц.

ЧЫРВЯ'К *гл.* ЧАРВЯ'К

ЧЫ'РГАЦЬ *незак. экспр. Ледзьве жыць, рухацца, ліпець. Чалавек хворы, еле чыргае.* Пацаўшчына Дзятл.

ЧЫ'РКАЦЬ *незак.* 1. Квакаць, кракатаць (пра жаб). *Рапуга пат хату паткапаіцца, чыркая.* Солы Смарг. 2. *гл.* ча́ркаць 1.

ЧЫРКУ'Н *м. заал.* Цвыркун. *Чыкаў чыркун.* Жылі Іўеў.; *гл.* цыркýн.

ЧЫРПА'К *гл.* ЧАРПА'К

ЧЫРСТВЭ'Й *гл.* ЧАРСТВЫ'

ЧЫРЧА'ЦЬ *незак.* Шамацець. *Кап цяпер чырчаў* [прусак], *не пачула п. Цяпер іх і няма.* Рагулішкі Даўг.

ЧЫР-ЧЫР *выкл.* Гукапераймальная перадача шамацення прусакоў. *Чвыркі — чыр-чыр і падаюць на каву.* Рагулішкі Даўг.

ЧЫРШКУ'ЛЬ *м.* Скварка. *Чыршкуль ён берыць і кушаіць. Чыршкулёў налажы наверх.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *čirškùlis* 'тж'.

ЧЫРЫ'КАЦЬ *незак.* 1. Цырыкаць (пра вераб'я). *Вірабей чырыкаець.* Пасіене Лудз. *Верабей чырыкая.* Багушэвічы Бярэз. *Вараб'і чырыкаюць.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і ча́ркаць 1. *Сарокі чырыкаяць на дош.* Кураполле Паст.

ЧЫРЫНО'К *гл.* ЧАРАНО'К

ЧЫСА'ЛЬНЯ *гл.* ЧАСА'ЛЬНЯ

ЧЫСЛАВІ'К *м.* Каляндар. Чычалі Швянч.

ЧЫ'СЛІНА *ж. ткац.* Тры ніткі ў пасме. *У чысліня тры ніткі.* Магуны Паст. *Чысліна — тры ніткі, якія ўваходзяць у пасмо.* Вострава Маст.

ЧЫ'СЛІНІК, ЧЫ'СЛІННІК *м.* Тое ж, што і чыславі́к. *Дайней казалі: «Дайця мне чысліпік».* Лісна В.-Дзв. *Чыслінпік купіла.* Сіманавічы Драг.

ЧЫ'СЛІНКА *ж.* Тое ж, што і чы́сліна. *Тры ніткі — чыслінка.* Стральцы Гродз. *Чыслінка — тры ніткі.* Кіралі Шчуч. *У чыслінцы тры ніткі.* Рудня Чэрв. *У чыслінцы тры ніці.* Баброўнікі Гарад. *Дзесяць чыслінкаў—пасмінё.* Старое Сяло Зэльв.

ЧЫ'СЛІЦЦА, ЧЫ'СЛІЦА *незак.* Адносіцца, быць на ўліку дзе-н. *Куды дом чысліца.* Зблдяны Лід. *Ён чысліцца не бы да Гемзаў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *числиться* 'тж'.

ЧЫСЛО *н.* 1. Лік. *С том чысле і я там быў.* Месянцы Брасл. 2. Чысло месяца, дзень. *Якім чыслом выехалі?* Альхоўцы Лях.

*Гэта была ў жытнім жніве, у гаўсяным жніве, гэта было ў бульбакопя — калісьці так вызначалі час, людзі не зналі чыслы.* Гемзы Шальч. *Ні ў вадных чыслах, пятаго бывая свята.* Лоск Валож.; *парайн.* руск. *число* 'тж'.

ЧЫ'СНІЦА *ж. ткац.* Дзве ніткі ў аснове пры снаванні красён. *Чысніца — тые двухніткі, што аснуе.* Лука Нараўк.

ЧЫСНО'К *гл.* ЧАСНО'К

ЧЫСО'ВАЧКА *гл.* ЧАСО'ВАЧКА

ЧЫСО'ЎКА *гл.* ЧАСО'ЎКА

ЧЫ'СТА, ЧЫ'СТО *прысл.* 1. Чыста. *Возьмеш у полку завяжыш попел, бо проста ў саган не так чыста. А хлеп, як садзілі, прад гэтым чыста вымяталі печ.* Завельцы Астр. *Я бяльё чыста мыла.* Вузла Мядз. *Яны чыста адзеўшыя.* Лоск Валож. *Там чыста, хоць ты кашу пакладзі.* Вецярэвічы Пух. 2. У поўнай акуратнасці, чысціні. *Натто чыста гадуе дзяцей.* Ракаўскія Швянч. 3. Зусім. *Чысто забылі?!* Малахоўцы Бар. *Мне цяшка гаварыць, я прыстану чыста.* Рагулішкі Даўг. *Усе рассыпаліса дарогу шукаці, чысто змучыліса.* Бáброўнікі Гарад. 4. Цалкам, поўнасцю. *Дзярэўні былі чыста ў лясу.* Замошша Брасл. 5. Да апошняй каплі. *Цяля карову выдундзіло чысто.* Мсцібава Ваўк. 6. Поўнасцю. *Яблынку зайцы чыста абгрызлі.* Грыкені Вільн. 7. Выключна. *Чыста ржаной хлеп. Чыста валоўе катлетнае мяса было па руп семдзесят.* Масішкі Красл. 8. Спрэс. *Галка чыста чорная.* Пасіене Лудз. 9. у знач. *злуч.* Быццам. *Масло вельке — чысто бурда. Табе нігды нема часу, ты чысто вада* [бягучая]. *Чысто дзяцел.* Мсцібава Ваўк. ◇ *Усіх чыста* — цалкам усіх. *Усіх чыста немцы гонюць у дом.* Замошша Брасл. *Усе (усё) чыста* — поўнасцю усе (усё). *Яму сказалі, каб усе чыста ў мяшок сабраць і завязаць крэпка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Усё чыста забрала.* Кемялішкі Астр. *Усе чыста ткуць.* Дакудава Лід. *Мой чыста ўсё мох дзелаць, і дома мох дзелаць.* Індра Красл. *Да чыстага* — да поўнай апрацоўкі. *Да чыстага абрабляли лён.* Гальшаны Ашм. *І ўсё чыста* — і ўсё іншае (рабіць). *І будаваліся, і ўсё чыста.* Кураполле Паст.

ЧЫ'СТА-ГЛА'ТКА *прысл.* У поўным парадку. *Назаўтра ўстала, было чыста-глатка.* Гальшаны Ашм.

ЧЫСТАКО'Л *гл.* ЧАСТАКО'Л

ЧЫСТАПЛО'ДНЫ *прым.* Ахайны. *Ён добры такі, чыстаплодны.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *чистоплотный* 'тж'.

ЧЫСТАТА' *ж.* Чысціня. *Яна прывыкшы да чыстаты. Цяпер усе харашо жывуць, чыстата ў дамах.* Лоск Валож. *У іх у хаце чыстата.* Старое Сяло Зэльв. *Такой чыстаты раньша ні было.* Слабада Мін. *Яны чыстаты не дзержаць.* Солы Смарг. *Ні слядзіць за чыстатой.* Бакшты Іўеў. *Пшчолы любяць чыстату.* Дэгшні Шальч.; *парайн.* руск. *чистота* 'тж'.

ЧЫСТАЦЕ'Л *м. бат.* Падтыннік. *Чыстацел, як разламаеш — малако жоўтае. Гэта новая назва.* Завельцы Астр. *Чыстацел лечыць язву.* Валынцы В.-Дзв. *Чыстацел ад язвы — перша лякар-*

*ства.* Солы Смарг. *Чыстацел жоўтым цветам цвіце.* Малышы Лід.; *параўн.* руск. *чистотел* 'тж'.

ЧЫ'СТЫ *прым.* 1. Незасмечаны, без гразі, бруду. *Вы перахоцце на чыстае, а я буду мыць.* Мсцібава Ваўк. *Прырода — чыстая, а тут бутыл аб бутыл — сцякол, усяго ўсякага пры лесе.* Месянцы Брасл. *І вёска наша чыста.* Рагулішкі Даўг. 2. Ахайны. ▽ *Чыстая хазяйка з'ядая шэсць пудоў гразі, а гразная — дванаццаць.* Солы Смарг. 3. Ачышчаны, апрацаваны належным чынам. *Чысты лён прадзецца на палатно.* Кіралі Шчуч. *Быў бы лён чысты, без кастры.* Грыкені Вільн. 4. Без дабавак. *Чысты хлеп елі толькі к святу.* Саланое Віл. 5. Адной якасці, аднаго гатунку. *З башлыком і з чыстай шэрсці — бурка.* Чуркі Ашм. 6. Чыстакроўны. *Як чысты паляк гаворыць — ня поймяш.* Рагулішкі Даўг. 7. Аднатонны. *Пасцілка чыстая, а дыван каляровы.* Грыкені Вільн. 8. у знач. *прысл.* *чы́стай.* Выключна, толькі. *Актарчык чыстай пожні.* Кураполле Паст. ◇ *Чыста гора* — сапраўднае гора. *Мае куры — чыста гора.* Дакудава Лід. *Чыстая проўда* — ісціна. *Сказаць табе чыстую проўду — забылася, Кацярыначка.* Вецярэвічы Пух.

ЧЫ'СТЫ ЧАЦВЕ'РГ, ЧЫ'СТЫ ЧАЦВЕ'Р, ЧЫ'СТЫ ЧВА'РТАК *м. царк.* Чацвер перад вялікаднем. *У чысты чацверг перат паскай ён прыягджаў.* Валеўка Навагр. *Чысты чацвер то перат паску.* Баброўнікі Гарад. *Чысты чвартак, да дня трэба лазню цепліць.* Ракаўскія Швянч.

ЧЫ'СЦЕНЬКА *прысл. памянш.* Чыста. *У нас скот па вуліцы ня ходзіць, поўны гот чысценька.* Малышы Лід. *Лён палолі чысценька.* Латыгаль Віл.

ЧЫ'СЦЕНЬКІ *прым.* памянш. 1 да ч ы́ с т ы 3. *Як атходы са льна ўбяруць, то лён чысценькі.* Опса Брасл. 2. Які мае светлы колер, светлы. *Мочым — ваўнейкі ўкусненькія, чысценькія.* Лісна В.-Дзв.

ЧЫСЦЁХА *ж.* Від ільнамялкі. *Была мяліца ламака і чысцёха, яна з дошчак.* Латыгаль Віл.

ЧЫСЦІ'ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і ч ы с ц ё х а. *Адна мяльніца цёрка, шыршая, а вузейшая — чысцільніца.* Завельцы Астр.

ЧЫ'СЦІНА *ж.* Паляна ў лесе. *Чысціна — чыстае месца.* Рыбчына Віл.

ЧЫ'СЦІЦЬ *незак.* 1. Выдаляць непатрэбнае, ачышчаць. *Чысцяць жыта: вазьмі венік пачысці жыта.* Рыбчына Віл. *Арха чысціць збожа.* Крынкі Крын. *Мяць бярэщ жменю* [лёну], *сатрэш, парадаеш чысціць.* Завельцы Астр. *Мяліца, чысцёха, чысціць лён.* Латыгаль. Віл. *На шчотку чысцілі лён.* Дэгшні Шальч. 2. Вычышчаць і аскрабаць. *Чысціць кішкі.* Завельцы Астр. *Кішкі, іх чысцяць, пакуль не стануць светлыя, а пасля туды напіхаюць крышанага мяса.* Альхоўка Навагр. *Кішкі чысцім, выкідаям гной, у солі вытрым.* Новыя Мацалі Варэн. *І рыбу чысцяць ад лусты.* Дэгшні Шальч. *Трэба кішкі чысціць.* Ліпнікі Вільн. *Рыбу чысціць.* Беразіно Докш. *Нада чысціць рыбу. Чысцім —*

*луска ляціць.* Мсцібава Ваўк. *Буду рыбу чысціць і жарыць.* Рагулішкі Даўг.

ЧЫСЦЯ'К *м.* 1. Тое ж, што і чы́сціна. *Палянка ў леся, там чыста, чысцяк. Чысцяк — гэта палянка.* Мярэцкія Глыб. 2. у знач. *прысл. чысцяко́м.* На адкрытым месцы. *Тут, чысцяком, памёрзлі сады.* Груздава Паст.

ЧЫСЦЯЧО'К *м.* памянш. да чысця́к 1. *Там чысцячок, паляначка. На чысцячку, ягат там многа.* Кураполле Паст.

ЧЫТА'ННЕ, ЧЫТА'НЯ *н.* 1. Дзеянне паводле дзеяслова *чытаць,* тое, што чытаюць. *А чытаня інцерэсная?* Ахрэмаўцы Брасл. *Ты рана сёня ўзялася за чытаня.* Кіралі Шчуч. 2. Апісанне замовы. *Кнішка ёсь, дзе чытанне ёсь ад грому.* Груздава Паст.

ЧЫТА'ЦЬ *незак.* Чытаць. *Раскажа харашэй, чым чытае.* Солы Смарг.

ЧЫХАВЫ'ЦЯ *ж.* Тое ж, што і чо́хаўка. *Чыхавыця на мынэ напала, всэ чыхаю да чыхаю.* Сіманавічы Драг.

ЧЫ'ХАТЫ *гл.* ЧХАЦЬ

ЧЫ'ХАЎКА *ж.* Тое ж, што і чо́хаўка. *Чыхаўка напала на мяне.* Азяраны Раг.

ЧЫХО'НКА *ж.* Двухколка. *Чыхонка — двухколка праяздная, два калясы і скрынка.* Петкуны Брасл.

ЧЫЧУ'РКІ *мн.* Ігліца. *Чычуркі — іголкі з елкі і хвоі.* Старыя Трокі Трак.

ЧЫЧЫ'КАЦЬ, ЧЫЧЭ'КАТЫ *незак.* Тое ж, што і ча́ркаць 1. *Сарока чычыкаіць.* Валынцы В.-Дзв., Мярэцкія Глыб. *Як сарокі сідзяць на крышы, у вакно глядзя галавой — харошыя весці, а хвастом ківаіць і чычыкаіць, тады звесці плашэйшыя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сарока чычэкае.* Сіманавічы Драг.

ЧЫШЧА'ЛІНА *ж.* Тое ж, што і чы́сціна. *Выгнаць нада кароў на гэну чышчаліну, на чышчаліне кароў паставіў.* Груздава Паст.

ЧЫШЧЫ'МЫ *мн.* Макуха. *Б'юць алей і чышчымы астаюцца, варылі верашчаку з чышчымаў.* Жылі Іўеў.; *параўн* літ. *tirštìmai* 'гушча'.

ЧЫШЧЫ'НЫ *мн.* Жамерыны. *Чышчыны — у ягадах, высеўкі ў муцэ.* Чуркі Ашм.; *гл.* чышчымы.

ЧЫЯ'СЬ *гл.* ЧЫЙСЬ

ЧЭ *часц.* Тое ж, што і чы 2. *Чэ дома наш господар?* Дзмітравічы Кам.

ЧЭ'ЗЛЫ *прым.* Худасочны, худы. *Учора былі такія чэзлыя парасята.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* літ. *čẽžas, kẽžas, kėžlỹs* 'той, хто худасочны, худы'.

ЧЭ'ЗНУЦЬ *незак.* Марнець. *Чэз, чэз, ды счэз. Чэзня чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чэзла, чэзла і прапала карова.* Пацаўшчына Дзятл. *Занудзілася, чэзла, чэзла і памерла.* Бакшты Іўеў.

ЧЭ'ЙДАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць абы-што, несці лухту. *Чэйдая, сам ні ведая што.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЧЭ'ЙСЯ *гл.* ЧЫЙСЬ

ЧЭ'КАЦЦЯ *незак.* Гайдацца, калыхацца. *Вот палажылі добру жэртку — дзеці чэкаюцца.* Кіралі Шчуч.

ЧЭ'КАЦЬ I *незак.* Тое ж, што і ча́ркаць 1. ∇ *Госці будуць — сарока чэкая.* Старыя Смільніні Воран.; *параўн.* літ. *čekénti* 'тж'.

ЧЭ'КАЦЬ II *незак.* Калыхаць. *Ні чэкай ты калыску!* Вялікія Баяры Шчуч. *Чэкаць — уверх і уніз пакачаць калыску.* Даніла-вічы Дзярж.

ЧЭ'КЕР *зб. ж.* Дробязь, малыя дзеці. *Як вы заедзеце з гэтаю чэкер'ю.* Дзяніскавічы Ганц.

ЧЭ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, выцяць. *Вось чэкну па зубах.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЧЭК-ЧЭК-ЧЭК выкл. Гукаперaймальная перадача грукацення калаўрота пры хуткай рабоце. *Бутэлачка і кноцік усунены, і прадзе: чэк-чэк-чэк.* Гальшаны Ашм.

ЧЭЛО' *н.* Джала. *Пчола чэло упускае.* Дзмітравічы Кам.

ЧЭЛОВЕ'ЧАК *гл.* ЧАЛАВЕ'ЧАК

ЧЭ'ЛЮСТІ *мн.* Тое ж, што і чале́снік. *Задымляны чэлюсті глінкою помазала, коб былі хоруошчы.* Курашэва Чыж.

ЧЭ'ЛЯДЗЬ, ЧЭ'ЛЯЦЬ *зб. ж. устар.* Дваровыя людзі. *Пан чэляць наймаў.* Плябанцы Ашм. *Чэлядзь — наёмныя батракі.* Паляцкішкі Воран. *Наш бацька з чэлядзей расчытываўся.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *челядь* 'тж'.

ЧЭ'МЕР, ЧЭ'МЯР *м. бат.* Чамярыца. ∇ *Горкі, як чэмер* — вельмі горкі. *Лікарство гуорке, як чэмер.* Курашэва Чыж. *Каб цябе чэмяр з'еў*—пры пажаданні благога. Вялікія Баяры Шчуч.

ЧЭ'МХАЦЦА, ЧЭ'МХАЦЦЯ *незак.* 1. Церабіцца (пра птушак). *Курыца ўсунула галаву ў пёры, яна чэмхаецца.* Гемзы Шальч. 2. Чухацца. *Сядзіць і чэмхаецца. Чаго ты чэмхаешся?* Кіралі Шчуч.

ЧЭМЭРГА' *ж.* Тое ж, што і чамяры́ца 2. *Як тые отрокі тую чэмэргу п'ют?* Курашэва Чыж.

ЧЭ'МЯР *зб. ж.* Тое ж, што і чэ́кер. *Гэтай чэмяры дахалеры. Чэмяр кажуць на дзяцей.* Альхоўцы Лях.

ЧЭ'ПАК *м.* Тое ж, што і чапе́ц 1. *Чэпак надзевалі замужнія.* Новікі Гродз. *Чэпак зложыць маладая пасля васэля.* Паляцкішкі Воран. *Як замуш выходзілі, куплялі чэпак на голаў — белы. А на чэпак завязвалі хустку.* Кіралі Шчуч. *А назаўтра дарацъ маладую. Надзяваюць чэпак і садзяць на дзяжу.* Глебкавічы Мін. *Чэпак насілі замужнія.* Малахоўцы Бар. *Маладзіца с чапком хадзіла* (у чапцы). Міратычы Карэл. *Старыя насілі чэпак.* Старое Сяло Зэльв. *Чэпак насілі бабы.* Навасёлкі Свісл. *Чэпкі бабы насілі, з нітак робілі.* Рудня Чэрв. *Чэпкі насілі пат спот, наверх хустку завязвалі.* Мсцібава Ваўк.

ЧЭПА'ЦЦА *незак.* Прычэпліваццa, зачэпліваццa. *У стальвагу чэпаюца два ворчыкі.* Саланое Віл.

ЧЭПЕ'Ц *гл.* ЧАПЕ'Ц

ЧЭПІЕ'ТІ *незак.* Вісець. *Пэкаэс ужэ іехав, а я на схуотках чэпіев.* Курашэва Чыж.

ЧЭПЛЕ'ЙКА *ж.* Тое ж, што і ч а п л я я́. Азарычы Пін.

ЧЭ'ПЛЯЦЬ *незак.* Вешаць на што-н. *Аня бульбашнік чэпляя.* Вязынка Маладз.

ЧЭ'ПЧЫК І *м.* Тое ж, што і ч а п е́ ц 1. *Чэпчык некалі насілі і з брыжыкамі і шкуцікамі: тут вушшыя, а тут шыршыя.* Вецярэвічы Пух.

ЧЭ'ПЧЫК ІІ *м.* Брыжэйка. *Бабуля звала чэпчык каля чароў. Груздава* Паст.; *гл.* ч а п е́ ц 2.

ЧЭПЭ'Ц *гл.* ЧАПЕ'Ц

ЧЭР І *м.* Тое ж, што і ч а р а́. *Чэр закладаць.* Груздава Паст. *Дзелая соты, закладая чэр. Зыкуюць каровы, зыкі садзяцца на іх і запускаюць чэр свой.* Азяраны Раг.

ЧЭР ІІ *м. бат.* Губа. *Красадло бралі, крэмень, чэр — грып выраблялі такі спецыяльна — і выкрасалі агонь.* Лука Нараўк.

ЧЭ'РА *ж.* Тое ж, што і ч э р І. *Нада атцадзіць воск прас сіта, мёт цячэць, нада выбіраць, кап чэры не было.* Валынцы В.-Дзв. *Тры рамкі чэры стаіць.* Кураполле Паст. *Чэра — чарвячок, з яго пшчала палучаяцца.* Жодзішкі Смарг. *Чэры многа матка чаріт.* Прэдэ Даўг.

ЧЭ'РАВА, ЧЭ'РАВО, ЧЭ'РЭВО *н.* Жывот; бруха. *Чэрава ў яго расце хутко.* Валеўка Навагр. *У цябе бальшое чэраво. Вяліко чэраво ў свінні.* Альхоўцы Лях. *Чэравам піхне яго — і ён паваліцца.* Новіны Нясв. *У каровы велько чэраво.* Міратычы Карэл. *У свінні, каровы чэраво вялікае.* Дзяніскавічы Ганц. *Чэрэво ў свынні.* Дзмітравічы Кам. ◇ *Чэраво разбіць* — патаўсцець. *Вот чэраво разбіў!* Кузьмічы Люб.

ЧЭ'РАЗ, ЧЭ'РАС, ЧЭ'РЭЗ *прыназ. з він.* 1. Пры назвах прадметаў, цераз якія што-н. пранікае. Праз. *Чэрэз окно крічэт.* Дзмітравічы Кам. 2. Пры ўказанні прадмета, на паверхні якога знаходзіцца іншы прадмет. Цераз. *Падпінка чэраз падсядзёлак.* Чычалі Швянч. *Рэмень чэраз сядзёлку.* Мешкінева Лудз. 3. Пры ўказанні на адрэзак часу, на працягу якога што-н. адбываецца. Праз. *Чэрас тры гады я хварэла.* Паляцкішкі Воран. 4. Пры ўказанні на адрэзак часу, пасля якога што-н. адбываецца. Праз. *Чэраз дзён чатыры прыедзе.* Навасёлкі Свісл. *Чэрэз месяц будэ ў Пружані купляці.* Смаляніца Пруж. *Чэрэз гадзіну пойдзе аўтобус назад.* Грыкені Вільн. 5. Пры ўказанні на адлегласць, на якой што-н. знаходзіцца. Цераз. *Чэраз дарогу гэта хата.* Слабада Мін. *Чэрэс сэло вышла замуш* (праз вуліцу). Азарычы Пін. *Чэрэз дзве хаці ён жыве.* Малыя Аўцюкі Калінк. 6. Пры ўказанні месца, праз якое трэба прайсці. Праз. *Чэраз двор ні магу ісці, ні віжу.* Слабада Мін. 7. Пры ўказанні на прадмет, пры дапамозе якога што-н. перадаецца. Праз. *Чэрэз ціліфон падавай.* Гемзы Шальч. ◇ *Каша чэрэз ложку* — рэдкая каша. *Слабая каша, то каша чэрэз ложку.* Азарычы Пін.

ЧЭ'РАН, ЧЭ'РАНЬ *м.* 1. Тое ж, што і ч а р а н ё 3. *У вілках*

*чэран.* Старое Сяло Зэльв. *Чэран у граблях.* Кіралі Шчуч. *Няма чэраня да відлаў, да лапаты.* Паляцкішкі Воран. *Чэрань — качаргу насаджвалі.* Мыто Лід. 2. Кій, палка. *Устаў у валенак чэрань і пастаў на печ, хай прасохня.* Кіралі Шчуч. 3. Тое ж, што і ч а р а́ н II. *Трэба да нажа зрабіць чэрань.* Кіралі Шчуч. 4. Тое ж, што і ч а р а н ё 2. *У лышцы галоўка і чэрань.* Жылі Іўеў.

ЧЭ′РАНЬ *ж.* Чарада, натоўп. *Во якая чэрань дзяцей.* Рыбчына Віл.

ЧЭ′РАП I. *м. мед.* Чэрап. *Галава баліць, як смеху замнога, у мяне было парушэнне чэрапа.* Месянцы Брасл.

ЧЭ′РАП II *м.*, ЧАРАПЫ′, ЧЭРАПЫ′ *мн.* 1. Тое ж, што і ч а р о́ п к а I, 2. *Збанкі гліняныя і злівалі мёт — казалі чэрап.* Старыя Смільгіні Воран. *Налі вады ў які-небуць чэрап!* Слабада Мін. *Пакуль чарапы памыю — міскі, гладышы.* Груздава Паст. 2. Тое ж, што і ч а р а п о́ к. *Чэрап — пабіты гаршчок.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Бліноў во такая рэшата напякалі, а сала ў чатырох чэрапах было.* Вузла Мядз. 3. Абломак, чарапок. *Чэрап пабіты ад гаршка.* Старыя Трокі Трак. *Чарапы былі ад саґаноў.* Граўжышкі Ашм. *Збан разбіўся на чарапы.* Гемзы Шальч.

ЧЭРВ, ЧЭРФ *зб. ж.* Тое ж, што і ч а р а́. *Чэрв — вусень пчол.* Старыя Смільгіні Воран. *Пчолы чэрф пускалі.* Мыто Лід. *Чэрф залажыўшы пшчолы.* Гемзы Шальч.

ЧЭ′РВІ *гл.* ЧАРВЯ′К

ЧЭ′РВІЦЬ *гл.* ЧАРВІ′ЦЬ

ЧЭРВУО′НКА *гл.* ЧЫРВО′НКА

ЧЭ′РГА *ж.* 1. Тое ж, што і ч а р а д а́ I, 7. *Прыходзіць чэрга, і чэржнік гоніць кароў.* Каменка Стара Сакол. 2. Тое ж, што і ч а р а д а I, 1. *Пастух жэне чэргу ў лес.* Альхоўцы Лях.

ЧЭ′РЖНІК *м.* Той, хто пасе статак па чарзе. *Раней нанімалі пастуха, цяпер той, чыя чарга,— чэржнік.* Стральцы Гродз. *Прыходзіць чэрга, і чэржнік гоніць кароў.* Каменка Стара Сакол.

ЧЭ′РКАЦЬ *гл.* ЧА′РКАЦЬ

ЧЭ′РНЯ *ж.* 1. Чорная фарба. *Кару альхову, жалеза і мучан варым — і гэта чэрня, фарбавалі.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан. зб.* Зборышча бандытаў, зброд. *Вайной чэрня нападала. Будзіць чэрня хадзіць, і не будзіць лішнега месца для цябе.* Саланое Віл.

ЧЭ′РПАНЕ *н.* Чэрпанне. *Тым чэрпанём воды я ўжэ змучылася.* Курашэва Чыж.

ЧЭ′РПАЦЬ *незак.* 1. Выцягваць ваду са студні. *Чэрпаяць іс студні ваду.* Завельцы Астр. *Баба чэрпае ваду.* Паляцкішкі Воран. *С калодзіся чэрпаюць ваду.* Вострава Маст. *Ваду вядром чэрпаюць.* Дакудава Лід. *Чэрпе воду с калодзеся, чарпу́ воду, чэрпам воду с калодзеся.* Дзяніскавічы Ганц. *Ваду чэрпаць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ваду чэрпаў.* Малькуны Ігн., Старыя Трокі Трак. 2. Набіраць гразь (ваду) праз верх абутку. *Ішла праз балота, боты праз верх чэрпалі гразі.* Едлавічы Брасл.

3. Зачэрпваць лыжкай. *Тэрас лышкамі чэрпаяць.* Стральцы Шальч.

ЧЭРПЛО′ *гл.* ЧАРАПЛО′

ЧЭ′РСТВАЦЬ *незак.* Чарсцвець. *Пухкі хлеп, ні чэрствая.* Дакудава Лід.

ЧЭ′РСТВЫ′ *гл.* ЧАРСТВЫ′

ЧЭРФ *гл.* ЧЭРВ

ЧЭ′РХНУЦЬ *незак.* Падмярзаць, пакрывацца лёдам. *Вада чэрхла ў цэбры.* Дзяніскавічы Ганц.

ЧЭРЫ′КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ча́ркаць 1. *Сарока чэрыкае.* Мачаск Бярэз.

ЧЭРЭВІ′КІ *гл.* ЧАРАВІ′КІ

ЧЭ′РЭВО *гл.* ЧЭ′РАВА

ЧЭРЭДА′ *гл.* ЧАРАДА′ І

ЧЭ′РЭЗ *гл.* ЧЭ′РАЗ

ЧЭРЭ′МХА *гл.* ЧАРО′МХА

ЧЭ′РЭНЬ *м.* Тое ж, што і чара́н І. *Ляжала на чэрэні.* Смаляніца Пруж.

ЧЭ′САНЫ *дзеепрым.* 1. Ачышчаны ад кары, габляваны, струганы. *Купіў броўны, яны былі чэсаныя.* Гальшаны Ашм. 2. Ачышчаны ад кастры, пакулля (пра лён). *Чэсаны лён, як вада чысты.* Стральцы Шальч.

ЧЭСА′ТЫ, ЧЭСА′ТЭ *гл.* ЧАСА′ЦЬ І

ЧЭСА′ЦЬ *гл.* ЧАСА′ЦЬ І

ЧЭСНО′К *гл.* ЧАСНО′К

ЧЭСЦЬ *ж.* 1. Чэсць (павага). Аддаць чэсць. *Многа чэсці яму.* Паляцкішкі Воран. 2. Пачастунак, яда, частаванне. *У посце са́ма чэсць была мілта.* Вецярэвічы Пух. *Ой, якая ў яго была чэсць!* Альхоўцы Лях.

ЧЭТВЕ′Р *гл.* ЧАЦВЕ′Р

ЧЭТВЭРТУ′ХА *гл.* ЧАЦВЯРТУ′ХА

ЧЭ′ЎРАЦЬ *гл.* ЧА′ЎРАЦЬ

ЧЭЦВЕ′РГ *гл.* ЧАЦВЕ′Р

ЧЭЦВЁРА *гл.* ЧАЦВЁРА

ЧЭЦВЁРТЫ *гл.* ЧАЦВЁРТЫ

ЧЭ′ЦВЯР *гл.* ЧАЦВЕ′Р

ЧЭЦВЯРЫ′К *гл.* ЧАЦВЯРЫ′К

ЧЭ′ЧКІ *мн. экспр.* Валасы. *На валасы кажуць чэчкі. Я яму павырываю чэчкі!* Альхоўцы Лях.

ЧЭШУЯ′ *ж.* Луска. *Краснапёрка — красныя пер'я і красныя глаза, а чэшуя бальшая.* Валеўка Навагр.

ЧЭ′ШЧА *ж.* Цешча. *Чэшча смашно дае зяцю есці, а ён ні есь.* Пасека Ст.-Дар.

ЧЭШЧА′ *зб. ж.* Яловае суччa. *Колья, а тады чэшчой застаўляецца, і вада бяжыць у жяряло.* Мішневічы Шум.

# Ш

ШАБАЛДЗІ'ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнасці, глупства. *Шабалдзіць неізвесна што.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАБАЛЬБО'Н, ШАЛБАБО'Н *м.* Від фасолі, больш буйная фасоля. *Шабальбону ў гэтым року будзе много.* Воўкуш Ліпск. *Шалбабон падобны да фасолі, можна есці, як атварыш і шалуху знявіш.* Ахрэмаўцы Брасл.

ША'БАР *м.* Раздробленае каменне. *Шабар — як дробяць каменя.* Мсцібава Ваўк.

ШАБЕ'ТКА *ж.* Капшук. *У шабетку клалі курэцкія рэчы.* Лапічы Асіп.

ША'БЛЯ *ж.* Шабля. *Салдацік шабляй аднаму сабаку галаву атсёк, а астальныя сабакі пайцікалі ў паветку.* Дзесятнікі Валож. *Кажуць, у тым слупу замураваны шапка, шабля і пальчаткі.* Барок Стаўб.

ШАБО'РКІ *мн.* Аўсяная мякіна. *Шаборкі ад аўса.* Мачаск Бярэз.

ШАБУНЯ'ЦЬ *незак. экспр.* 1. Тое ж, што і ш а б а л д з і ц ь. *Што ўсё шабуняіш, хваціць табе шабуняць, луччы памаўчы.* Лісна В.-Дзв. *Усю дарогу шабуняў.* Вецярэвічы Пух. 2. Хутка і невыразна гаварыць. *Пачаў шабуняць, і што гаворыць — не разбярэш.* Азяраны Раг.

ШАВЕ'Ц *м.* Шавец. *Шавец шыў боты.* Збляны Лід., Быстрыца Астр., Грыкені Вільн. *Шавец шые боты і мушчынскія, і бапскія.* Кіралі Шчуч. *Хацелі хлопца за шаўца вучыць.* Альхоўка Навагр.

ШАВІ'НА *ж.* Сухастоіна. *Шавіна — сухабокая дзерава, ад прыроды бываіць.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *šovà* 'дупло'.

ШАВЯЛІ'ЦЦА, ШАВАЛІ'ЦЦА *незак.* 1. Кратацца. *Ідзеш: кучка травы ляжыць, вада калышаць яечкі па траве, пцянец вылупіўся, шавеліцца, падходзіш — болць — і паплыў.* Замошша Брасл. *Шавеліцца, рухаецца рабачок.* Лайпушкі Ігн. *Нешта шавеліцца, дзеці, не дурэйці толькі.* Валынцы В.-Дзв. *Мыша шавеліцца за абоямі.* Курaполле Паст. 2. Хістацца ў розныя бакі. *Шаволіцца калодка ў клейні.* Азяраны Раг. 3. Рухацца, хадзіць. *Я шавалюся, мо і цёпла.* Азяраны Раг. *Шавеліцца мой старык.* Валынцы В.-Дзв. *Шавеліцца наш дзедушка.* Мсцібава Ваўк. 4. Прыйсці ў рух, пачаць дзейнічаць. *Пасля вайны сталі людзі шаваліцца.* Азяраны Раг.

ШАВЯЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Пагойдваць. *Шавеліць вецярок калоссе.* Месянцы Брасл. 2. Шавяліць. *Шавялю пальцам.* Валынцы В.-Дзв. 3. *безас.* Часацца, свярбець. *Я не магу, мне тут дрочыць, шавяліць.* Валеўка Навагр.

ШАВЯЛЬНУ'ЦЬ *зак.* Шавяльнуць. *Шавяльнуў пальцамі — і застагнаў ад болю.* Месянцы Брасл. ◇ *Пальцам не шавяль-*

*нуць* — нічога не зрабіць. *Нават пальцам ніхто не шавяльне.* Ёдлавічы Брасл.

ШАВЯРДА' *м.* і *ж. экспр.* Балбатун, балбатуха. *Сціхні, шавярда!* Дзяніскавічы Ганц.

ШАВЯРДА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш а б а л д з і́ ц ь. *Шавярдая абы-што.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАВЯРДЗІ'ЦЬ, ШЭВЯРДЗІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш а б а л д з і́ ц ь. *Ні слухай ты яго, ён толькі і знае, што шавярдзіць.* Засінцы Дзятл. *Што ты шэвярдзіш, ні хочацца слухаць; шэвярдзіць — гаворыць ні к сялу, ні г гораду.* Дзяніскавічы Ганц.

ШАВЯТА'ЦЦА *незак.* 1. Кідацца ў бакі, ірвацца. *Прыдзя і б'е каня, мусіць шавятацца конь.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *экспр.* Хістацца, сланяцца, сноўдацца. *П'яныя шавяталіся па дарозя.* Старыя Смільгіні Воран.

ШАГ, ШАҚ, ШАХ *м.* 1. Крок. *Шаг ступіць да вайка — і назад.* Вулька Гродз. *Адзін шак ступіў.* Старыя Смільгіні Воран. *На кажды шак трэбо высыпаць, загусто сеяць, былі і сейкі з саломы і лыка.* Мсцібава Ваўк. *Ступіў шах.* Рыбчына Віл. *Шах зрабіў.* Мярэцкія Глыб. *Нескалькі шагоў прайшоў.* Гемзы Шальч. 2. у знач. *прысл. шагам.* Пехатою, паволі. *Шыпка пашоў шагам.* Ёдлавічы Брасл. *Шагам ехаў конь.* Гемзы Шальч.

ШАГУ'Н *м.* Хадок. *Ён такі шагун.* Баброўнікі Гарад.

ША'ДҚА *прысл.* Хутка, быстра. *Ідзе шадка. Шадка ў лес бяжыць.* Малыя Аўцюкі Қалінк.

ША'ЕЧҚА *ж. памянш.* Невялікі драўляны цэбрык. *Райґеню ў шаечкі дзеравянные злівалі, церас суткі закісала.* Навікі Лудз.

ША'ЙҚА *ж.* Ражка. *Шайка бальшая.* Янова Рас. *Шайку вынесі на двор.* Мішневічы Шум.

ШАҚАЛА'НЫ *прым.* Шакаладны. *Шакаланых канфет не люблю.* Саланое Віл.

ШАҚАЛА'ЦЬ *незак.* Шапялявіць. *Зубоў німа, то шакалаяш.* Лапічы Асіп.

ШАҚАЛЁҚ, ШАҚАЛО'Қ *м. памянш.* 1. да ш а к а́ л ь 1. *Кроім шакалькі.* Старыя Трокі Трак. *Мама, во табе шакалькі печ распалівацъ.* Қураполле Паст. *Шакалькі там у калоду ўстаўлялі.* Малькуны Ігн. *Не запякаецца хлеп, як паложыш шакалькоў, то запячэцца, аш цёмны станя.* Старыя Смільгіні Воран. *Прынясі шакалькоў у печ.* Валынцы В.-Дзв. *Маленькіх шакалкоў наняслі.* Қураполле Паст. 2. да ш а к а́ л ь 2. *Вышла каройка, як шакалёк.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *šakaliùkas, šakalȳs* 'тж'.

ШАҚА'ЛІҚ *м. памянш.* да ш а к а́ л ь 1. *Шакалькі сабраць нада, дзеці майстравалі. Шакалькі граблямі зграбаюць.* Ракаўскія Швянч.

ШАҚА'ЛІНА *ж.* Аскепак. *Ускінь шакаліну, каб паднебенне было белае.* Қураполле Паст.; *гл.* ш а к а́ л ь 1.

ШАКА'ЛІНКА *ж. памянш.* да ш а к а́ л і н а. *Як булкі пяклі к вяселлю, ускінь шакалінку: кап паднябеня было белая, кап накалілася.* Курраполле Паст.

ШАКА'ЛЬ, ШАКА'Л *м.* 1. Тое ж, што і ш а к а́ л і н а. *Шакаль с палена атпадая, шчэпка такая. Брат прыдзе, шакалём троня, яна* [гадзюка] *шыпіць.* Старыя Трокі Трак. *Гора ламаць гэтыя шакалі.* Паляцкішкі Воран. *Кухоным тапаром баба шакалі можа на камні шчапаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шакалі — палачкі на растопку печы.* Перабродздзе Міёр. *Як рубаеш і асколкі лятуць — гэта шакалі на растопку.* Рагулішкі Даўг. *Шакалі грубыя дровы распальваць.* Гемзы Шальч. *Шакалі прынялі.* Беняконі Воран. *Шакале — смаляке.* Каўняны Гродз. *Шакале — дробныя дровы, трэскі. Ідзі шакалёў прынясі.* Парэчча Гродз. *Шакалёў нарубаў.* Старыя Смільгіні Воран. *На патпалку шакалёў нашчапаў.* Кальнішкі Шальч. *Шакалоў націгаў.* Кураполле Паст. 2. Верацяно. *Шакаль рабілі з дзерава і гэтым пралі лён.* Старыя Трокі Трак. 3. *пераН.* Той, хто худы, тонкі (пра чалавека, жывёліну). *Як лета, высахну на шакаля.* Гемзы Шальч. ∇ *Як шакаль, тонкі.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *šakalỹs* 'тж'.

ШАЛ *м.* 1. Стан нервовага псіхічнага расстройства, шаленства, раз'юшанасць. *Лікарства ат шалу — веліp'ян.* Валынцы В.-Дзв. 2. Распушчанасць. *Ну, гэта няйначай — шал: чалавеку ў такім паважным веку ды баба нада!* Вузла Мядз.

ШАЛАБЭ'ЙКА *ж. экспр.* Хата. *Ніхай тая шалабэйка згарэла п, яму не было п куды ўцякаць!* Вецярэвічы Пух.

ШАЛАГО'ЙДА *ж. экспр.* Неахайны чалавек. *Шалагойда ты — так кажуць на неапратнага чалавека.* Вецярэвічы Пух.

ШАЛАГУНЭ' *мн.* Шамкі. *На шалагунох можа дваццаць званкоў.* Парэчча Гродз.

ШАЛАМЯ' I *н.* Гарышча хаты, якое высцілаецца кастрыцай. Беразіно Докш.; *параўн.* літ. *šelmuõ* 'тж'.

ШАЛАМЯ' II *н.* Полымя. *Шаламя вялікая, як пылаяць дровы, даець аш у чалеснік.* Кураполле Паст.

ШАЛАМЯ'ЦЬ, ШАЛАМЯ'НЬ *ж.* Тое ж, што і ш а л а м я́ I. *Нада мякіны на шаламяць узнясці.* Мярэцкія Глыб. *Верх страхі — шаламянь.* Беразіно Докш.

ШАЛАНДЗІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш а б а л д з і́ ц ь. *Шаландзіць языком, лепей бы памаўчаў.* Вострава Маст.

ШАЛАПЛУ'Т, ШАЛАПУ'Т *м.* Легкадумны, пусты чалавек; баламут. *Шалаплут ён такі.* Чычалі Швянч. *Шалаплут скажа што люцкае?* Вецярэвічы Пух. *Яна гаворыць, што яе мужык шалапут.* Парэчча Гродз.

ШАЛАПЛУ'ЦІЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш а б а л д з і́ ц ь. *Шалаплуціць ён, гаворыць абы-што.* Магуны Паст. *Шалаплуціць ён: гаворыць многа і невядома што.* Чычалі Швянч. *Напіўшыся, шалаплуціць.* Граўжышкі Ашм.

ШАЛАСТУНЫ', ШАЛАСТУНЭ', ШАЛЯСТУНЭ', ШЭЛЕ-

СТУНЫ′ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шаластуны надзявалі каню, многа званочкаў.* Дакудава Лід. *Конь ляціць, шума аш з яго падае, шаластуны бражджаць.* Галубы Маст. *Шаластуны на шыю каню павесяць, конь імчыць, усё браскоча на ім, хараша.* Пацаўшчына Дзятл. *Шаластуны надзяваліся на случай свадзьбы, на празнік.* Мыто Лід. *Шаластуны складалісь з бубенчыкаў з нікялю і ў сярэдзіне памяшчалі шарачак, прыкрапляліся да скуранога паска дванаццаць штук.* Альхоўка Навагр. *Клалі шаластуны лошадзі на шыю.* Старыя Смільгіні Воран. *Шаластуны накладаліся на шыю, цэлы крух званочкаў.* Мсцібава Ваўк. *Як на рамне вакруг — шаластунэ зваліся, а так — званочкі.* Валеўка Навагр. *Шаластунэ — маленькія званочкі, калі вяселя, каню надзяваюць.* Збляны Лід. *Шаластунэ каню чаплялі.* Вялікія-Баяры Шчуч. *Трэба запрахчы каня, налажыць шалястунэ каню на шыю.* Кіралі Шчуч. *Шэлестуны кругом шыі вешалі.* Лука Нараўк. *Шэлестуны на рэмняві, як многа іх.* Калясное Міхал.

ШАЛАЎЯ′ *ж. бат.* Від асакі. *Шалаўя — шырокая віксва.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *šalavijà* ’тж’.

ШАЛАФІ′НА *ж.* Лупіна, шалупіна. *Яйка ў шалафінах. Шалафіну кідаяця куды?* Ракаўскія Швянч.

ШАЛАХВА′ *ж.* і *м.* Тое ж, што і ш а л а п л у́ т. *Яна такая шалахва, каждага асмяець.* Асавец Віл.

ШАЛАХВО′СТ *м.* Тое ж, што і ш а л а п л у́ т. *Шалахвост зродзіцца і заўсягда такі.* Гемзы Шальч. *Замёр шалахвост.* Саланое Віл.

ШАЛАХЦЕ′ЦЬ *незак.* Мітусіцца, сноўдаць. *Людзі шалахцяць, лётаюць, толькі мы ляжом.* Кураполле Паст.

ШАЛА′ЦЦА *незак.* Хадзіць, цягацца без заняткаў, бадзяцца. *Еслі хто шалаецца, нада спрашываць: «Хто такой?»* Пераброддзе Міёр. *Шалаецца, нідзе не работая.* Дакудава Лід. *Шалаецца па свеці, німа яму месца.* Мсцібава Ваўк. *Чаго ты там шалаесся па лесе?* Ахрэмаўцы Брасл. *Жонка прышла і ўвяла б яго дайно, а то ён тут шалаецца.* Ухвала Круп. *Шалаўся ўсю ноч недзе, а цяпер спіць без задніх нох.* Чаплевічы Сл.

ШАЛАШАЯ′, ШАЛШАЯ′ *ж.* Перхаць. *Пойна галава шалашаі, ніяк ня можна выгнаць.* Вузла Мядз. *Шалашаі пойна галава.* Беразіно Докш. *Шалшая была ў галаве.* Кураполле Паст.

ШАЛБАБО′Н *гл.* ШАБАЛЬБО′Н

ШАЛЕ′НДАЦЬ *незак.* Разводзіць плёткі, пляткарыць. *Шалендалі па вёсцы.* Альхоўка Навагр.

ШАЛЕ′НСТВА *н.* Шаленства. *Гэта прызналі шаленства сабакі: пена з морды і хвост ушчэмлены міжду нох.* Ёдлавічы Брасл.

ШАЛЕ′НЯЦ *м.* Тое ж, што і ш а л е́ н с т в а. *Шаленяц быў у сабакі, дайней людзі лячылі шаленяц і ў людзей: хлеб нагаваравалі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАЛЕ'ЦЬ *незак.* 1. Дурэць, сваволіць, забаўляцца. *Шалея дзіця.* Старыя Смільгіні Воран. *Усё шалеў с тым вазонам* [пра кацяня]. Дакудава Лід. 2. Знаходзіцца ў стане ўзбуджэння. *Гіль пабольшы абадня, коні ад яго шалеюць.* Дакудава Лід.

ШАЛЁНЫ *прым.* 1. Хворы на шаленства. *Шалёны сабака пакусаў нашу сабаку.* Кіралі Шчуч. *Шалёны сабака і апкусаў чалавека.* Малькуны Ігн. *Шалёны сабака быў укусіўшы мяне.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Заўзяты, люты, раз'юшаны. *Як вып'е, такі шалёны зробіцца.* Беразіно Докш. 3. *перан.* Густы, непраходны. *Лес быў шалёны тады.* Латыгаль Віл.

ШАЛЁЎКА I *ж. буд.* 1. Асада, ліштва. *У акне шалёўка.* Баброўнікі Гарад. *Шалёўкі да дзвярэй, акон.* Завельцы Астр. *Рама для вакна дарабляяца, устаўляяца і шалёўкай абабіваяца, кап красівей было.* Збляны Лід. 2. Матэрыял для абшыўкі, дошкі. *Шалёўкі — ашалёўваюць шуфляды.* Завельцы Астр.

ШАЛЁЎКА II *ж.* Квяцістая вялікая хустка. *Шалёўка — квяцістая хустка.* Мсцібава Ваўк. *Накрале буле кожухов з барана і поховале в яловцех, шалявок там буле, одён пойіхав рубатэ яловцев і нашов ту покражу.* Дзмітравічы Кам.

ШАЛІНО'ЎКА *гл.* ШАЛЯНО'ЎКА

ШАЛНА' *ж.* Шэрань, іней, намаразь. *Шална напала — белая трава зробіцца, будзя зіма, памарозіла агуркі, трэба ўбіраць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *šalnà* 'тж'.

ШАЛО'ПАЦЬ *незак. экспр.* Разумець, разбірацца ў якіх-н. справах. *Шалопае малы.* Старыя Смільгіні Воран.

ШАЛПАТА'ЦЦА *незак.* Шкрабацца. *Шалпочыцца мыш.* Новіны Нясв.

ШАЛПАЦЕ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і ш а л п а т а́ ц ц а. *Штось шалпочыцца мне за спіной — мыш за сцяной.* Мсцібава Ваўк.

ША'ЛТАТЫ'Х у знач. *вык.* Гукапераймальная перадача пульсацыі ці біцця сэрца ў старога чалавека. *Замарылася сідзя, серца шалтатых, скора заб'еецца саўсім, а даўней ідзеш і ўсіх людзей абганяіш.* Валынцы В.-Дзв.

ШАЛТА'ЦЬ *незак.* Махаць. *Сабака хвастом ні шалтаў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАЛУГА' *гл.* ШАЛУХА' I

ШАЛУ'ДЗІ *мн. экспр.* Нядобрыя людзі. *Шалудзі — нялюцкія, нядобрыя людзі.* Вецярэвічы Пух.

ШАЛУДЗІ'ВЫ *прым.* Паршывы, шалудзівы. *Шалудзівы — у каго быў грыбок і вылазілі воласы.* Альхоўцы Лях. *Шалудзівы такі!* Рудня Чэрв.

ШАЛУ'Н *м.* Свавольнік, гарэза. *Такі ўжо шалун.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШАЛУПА'ЙКА *ж.* 1. Шкарлупіна. *Шалупайка із яйца.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Лупіна. *Шалупайкі з бульбы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАЛУПІ'НА *ж.* 1. Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 2. *Скра-*

*беця бульбу, а шалупіны ў саган.* Магуны Паст. *Бес шалупін наварыла бульбы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зварыш бульбу з шалупінамі і налупіш.* Саланое Віл. *Упала адна шалупіна.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 1. *Шалупіна ад яйка.* Саланое Віл. 3. Шалуха ад бабовых і іншых культур. *Шалупіны ад бобу каровам даюць.* Мярэцкія Глыб. 4. Цвёрдая абалонка арэха. *Арэх, шалупіна, а ўнутры ядро.* Кураполле Паст. 5. Знешняя абалонка зерня (пра ячмень). *З пансаку аттаўчэш і варыш кашу.* Ракаўскія Швянч.

ШАЛУПІ′НКА *ж. памянш.* да ш а л у п і́ н а 3. *Шалупінкі ад бобу.* Саланое Віл.

ШАЛУ′ПКА *ж.* 1. Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 1. *Шалупкі ад яец збіраю — і даю курам узіму.* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 2. *Шалупкі ад бульбы забяры карові.* Ухвала Круп. 3. Тое ж, што і ш а л у п і́ н а 3. *Шалупкі нада змясці, боп нада лушчыць.* Ёдлавічы Брасл. 4. Цвёрдая абалонка сланечніку. *Выплёўвай, з шалупкамі не еш семюшкі.* Беразіно Докш.

ШАЛУ′П'Я *зб. н.* Шалупінне. *Шалуп'я ад бульбы.* Кураполле Паст., Глівін Барыс.

ШАЛУПЯ′КА *ж.* Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 1. *Шалупяка з яйца прыліпла.* Мярэцкія Глыб.

ШАЛУПЯ′КІ *мн.* Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 2. *Шалупякі звары для каровы.* Беразіно Докш. *Шалупякі не выкідвай, зварым карове.* Мярэцкія Глыб.

ШАЛУФІ′НЫ *мн.* Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 2. *Шалуфіны ачысцім свіням. Даўней шалуфіны цененькія астаўлялі.* Ракаўскія Швянч.

ШАЛУХА′ І, ШАЛУГА′ *ж.* 1. Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 2 *Варуць бульбу ў шалухе; лупюць, таўкуць у ступі.* Лісна В.-Дзв *Шалуха ад бульбы, шалупкі.* Рагулішкі Даўг. 2. Тое ж, што і ш а л у п і́ н а 3. *Шалуха ад бобу.* Рагулішкі Даўг. *Шалбабон адварыш, шалуху сніміш.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Высеўкі ад грэчкі. *Шалуха ад грэчкі.* Рагулішкі Даўг., Альхоўка Навагр. *Навысявала шалухі.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Адходы пры веянні збожжа. *У апалушках — шалуха.* Дакудава Лід. *Веюць, шалуга астаецца, коням давалі.* Старыя Трокі Трак. 5. Мякіна. *Шалуха — мякіна ад аўса.* Рыбчына Віл. 6. Лушпіна. *Вішняў не была, пташкі аб'ядалі, адна шалуга была.* Старыя Трокі Трак.

ШАЛУХА′ ІІ *ж.* Тое ж, што і ш а л а ш а я́. *Шалуха ў галаве нашлася.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шалуха завялася, нада мыць галаву.* Гемзы Шальч. *Шалуха ў галаве завялася.* Кальнішкі Шальч. *Шалуха, перхайка ў галаве.* Мярэцкія Глыб. *Завялася шалуха, галава свярбіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шалуху з галавы не магу вывесці.* Ухвала Круп. *Шалуха бывая і ў скаціны.* Чуркі Ашм. *Шалуха у галаве.* Крэва Смарг.

ШАЛУ'ЦЬКА *ж. бат.* Асот. *Апанавала шалуцька, цвіце сірэневым цветам, кветка, як у адуванчыке.* Бакшты Іўеў.

ШАЛУ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 2. *Шалушкі ад картошкі.* Замошша Брасл. *Шалушкі з бульбы.* Лісна В.-Дзв. *Шалушку з маладой картошкі счышчаем.* Навікі Лудз. 2. Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 1. *Шалушку выкінуў курам.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шалушка ў яйцы.* Пярэкі В.-Дзв. 3. Скурка. *Шалушкі ат сала кот любіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШАЛУШЫ'НЫ *мн.* Тое ж, што і ш а л у х а́ I, 3. *Грэцкія шалушыны.* Рыбчына Віл.

ШАЛУЯ' *ж.* Тое ж, што і ш а л а ш а я́. *У цялухі шалуя падняўшыся, рукой пацягніш, дык бярэцца.* Саланое Віл.

ШАЛШАЯ' *гл.* ШАЛАША'Я

ША'ЛЫ *мн.* Забавы. *Шалея з кацянём, хто гадуе кацяня, той і шалы мае з ім.* Дакудава Лід.

ШАЛЫГНУ'ЦЬ *зак.* Угрузнуць, увязнуць. *Трахтар шалыгне ў гразь, угруз, глыбоко месца.* Дзяніскавічы Ганц.

ШАЛЫ'Х-ШАЛЫ'Х *выкл.* Гукапераймальнае слова, якое перадае паходку чалавека. *Шалых-шалых — ідзець.* Валынцы В.-Дзв.

ША'ЛЬКІ толькі *мн.* Вага. ∇ *Яна хістаецца, як на шальках.* Груздава Паст.

ШАЛЬМО'ЎСТВА *н.* Ашуканства, махлярства. *Шальмоўства такое, не вучаць дзіця к добраму.* Вецярэвічы Пух.

ШАЛЭ'НДЗІЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш а б а л д з і́ ц ь. *Уп'ецца ды шалэндзіць, ходзячы па хатах.* Старыя Смільгіні Воран. *Нап'ецца, потым шалэндзіць абы-што.* Альхоўцы Лях. *Шалэндзіць абы-што.* Дакудава Лід.

ШАЛЮГА' *ж. бат.* Від асакі. *Па пяскох шалюга расце, садзілі яе, кап украпляла пясок.* Парэчча Гродз.

ШАЛЯГІ' *мн. бат.* Раска. *Наваліла шалягоў, намяшала, няхай ядзяць свіня.* Ілазы Маст.

ШАЛЯВА'НЫ *дзеепрым.* Абшаляваны. *Шаляваныя дзверы, трэба пашаляваць.* Гемзы Шальч.

ШАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Абшалёўваць. *Загадалі хату шаляваць, люблю, калі домік абшаляваны.* Вузла Мядз. *Дом шалявалі.* Валеўка Навагр.

ШАЛЯНІ'ЦА *ж.* Дурасліўка, свавольніца, балаўніца. *Што ты з ёй зробіш — такая шаляніца.* Груздава Паст.

ШАЛЯНО'ЎКА, ШАЛІНО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і ш а л ё ў к а II. *Шаляноўкі ў файных кв'яткох такіх.* Галубы Маст. *Тэрас шаляноўкі носяць, куплёны хусткі.* Стракішкі Трак. *Была пазычыўшы чорную шаляноўку.* Бакшты Іўеў. *Купіла шаляноўку с кутасамі на галаву завязваць.* Кіралі Шчуч. *У будні дзень завязаўшы шаліноўку.* Паляцкішкі Воран. *Як завяжу чырвону шаліноўку, хораша так.* Вострава Маст.

ШАЛЯСТУНЭ' *гл.* ШАЛАСТУНЫ'

ШАЛЯХЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Шамацець. *Шаляхціць адзеня на*

*ей.* Мсцібава Ваўк. 2. Бражджаць. *Шаляхціць кручочак у часах: дзеці ўкінулі, бацька дастаў — і часэ ідуць.* Кіралі Шчуч.

ШАМАРЭ'ТНУЦЬ *зак. экспр.* Уцячы. *Пралеска — карова яе — хутка шамарэтнула ў кусты.* Граўжышкі Ашм.

ШАМАТО'ТА *ж.* Бязладная беганіна, мітусня, сумятня. *Пачалася шаматота.* Вецярэвічы Пух.

ША'МАЦЬ *незак.* Шамацець, скрэбціся. *Мышы за сцяной шамаюць, заберуцца за абоі.* Лісна В.-Дзв.

ШАМДЗЁЛЫ *гл.* ШАНДЗЁЛЫ

ШАМКІ' *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шамкі клалі каню на шыю.* Альхоўцы Лях. *Шамкі абаранкам на шыі каня.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шамкі разнымі галасамі бразгалі.* Кузьмічы Люб. *Шамкі на шыі ў каня.* Альба Нясв. *Шамкі трэба адзець каню на шыю.* Вецярэвічы Пух. *Каню надзявалі шамкі, багато званочкаў, а пад нізом быў самы большы.* Дзяніскавічы Ганц.

ША'МНУЦЬ *зак.* ◊ *І ні шамнуць* — ні крыкнуць. *Нават і ні шамнуў.* Ісерна Слуц.

ШАМПІЁН, ШАМПІНЬЁН *м. бат.* Шампіньён. *Шампіёны ў нас збіраюць.* Беразіно Докш. *На выганах растуць шампіньёны.* Азяраны Раг.

ШАМРЫ'ЦЬ *незак.* Нагаварваць, абмаўляць, пляткарыць. *Шамраць людзі пра цябе.* Старыя Трокі Трак.

ШАМРЭ'ЦЬ *незак.* Пераліваццa, зіхацець, блішчэць (пра новае адзенне). *Глянь, аж шамрыць, так адзеўся.* Галубы Маст. *Адзеўся, аш шамрыць.* Пацаўшчына Дзятл. *На яе сукенка шамрэла, а зялёна дуброва гарэла.* Валеўка Навагр.

ШАМУ'РЛА *м.* і *ж. абразл.* П'яніца. *Шамурла ўсё ля магазіна верціцца.* Месянцы Брасл.

ШАМУХА' *ж.* 1. Смецце. *Назганяла шамухі ў заводзіну.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і ш а л а ш а я́. *Шамуха ў галаве завялася.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАМШЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Шамацець. *Сена шамшчыць, ужо сухоя.* Кураполле Паст. 2. Бразгатаць. *Чай закіпеў, крушка, як чэрап, шамшчыць.* Кураполле Паст.

ШАМЯТА'ЦЬ I *незак.* Шамацець, шоргаць, шастаць. *Шамечыць паперай, перастань шамятаць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАМЯТА'ЦЬ II *незак.* Грэбці, драць лапамі зямлю. *Куры шамятаюць гарбузэ.* Вецярэвічы Пух.

ШАМЯТА'ЦЬ III *незак.* Шкуматаць (схапіўшы, трэсці). *Шамятая гусянё сабака, а ён і не абазвоўся. І шамятая свіння парасят.* Вецярэвічы Пух.

ШАНАВА'НЯ *н.* Павага. *Дзе там шанаваня дачакаешся, хоць бы ў вочы не пырскай.* Кіралі Шчуч.

ШАНАВА'ЦЦА *незак.* Берагчыся. *Шанавалася і не балела натта.* Вецярэвічы Пух. *Німа за кім шанавацца, цяжка.* Гемзы

Шальч. *Шануйся, ні ець — паедзеш, табе пагоршае.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *szanować się* 'тж'.

ШАНАВА'ЦЬ, ШАНАВА'ЦІ *незак.* 1. Берагчы. *Бальныя ногі і халодна ў іх, не шанавала іх.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шануй здароўя.* Рыбчына Віл. *Яна сябе шануіць.* Саланое Віл. *Здароўя трэба шанаваць.* Магуны Паст. *Ён сам сабе шанавай.* 2. Паважаць. *Баба шануя дзяцей.* Вецярэвічы Пух. *Шанавала бацькоў, даглядала, як магла.* Ёдупка Шальч. *Цяпер шануюць бацькоў.* Саланое Віл. *Яны павінны шанаваць мяне.* Валеўка Навагр. ∇ *Благі, добры мужычок — трэба шанаваці.* Саланое Віл. 3. Ашчадна насіць (пра адзенне). *У маёй мамы бабінай бабы платок быў, во як даўней адзежу шанавалі.* Вузла Мядз. ∇ *Шануй адзежу дома, яна цябе — у людзях.* Вузла Мядз. *Хто шануя адзежу дома, таго адзежа ў людзях шануя.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *szanować* 'тж'.

ШАНА'К, ШАНО'К *м.* Драўляная пасудзіна мерай па 5 пудоў. *Намалоў шанак жыта.* Старое Сяло Зэльв. *Бувало, як станут двох на цілый дэнь коло жорней, то змелют цілый шанок.* Хмелева Кам.

ШАНДЗЁЛЫ, ШАМДЗЁЛЫ *мн. бат.* Чартапалох. *Шандзёлы, як вырастуць шышкі, за іх ні ўзяцца, як пастарэюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шамдзёлы — калючыя сарнікe ў жыце.* Нізок Уздз.

ШАНДО'РЫ *мн.* Слупкі, якімі замацоўваўся ез на рэчцы. *Язы на раке пароблены, шандоры пазакладаны, каб рака не пераходзіла, крыгі каб не разваліпі мост.* Альхоўцы Лях.

ША'НДРА, ША'НТА *ж. бат.* Меліса. *Шандра — зеле, з яго ванну робяць, як балеюць па-жэнскаму.* Парэчча Гродз. *Шандра — некаторыя завуць гэту малізу.* Завельцы Астр. *Шанту ніхто ні есць. Я табе шанту пакажу ў гародзі, расце там.* Бакшты Іўеў.

ША'НІКІ *мн. кулін.* Піражкі. *У голат пяклі шанікі з гугялей, дабаўлялі ляной мякіны.* Лісна В.-Дзв.

ШАНТАКЛЕ'Р, ШАНТЭКЛЕ'Р, ШЫНДЗІКЛЁР, ШЫНТЫКЛЕ'Р, ШЫНТЫКЛЮ'Р *м.* Спадніца з мноствам кліноў (фалдаў). *Спадніца вуская, длугая, шантаклеры насілі.* Гемзы Шальч. *Насілі шантэклеры — спадніцы на гарсажах і пасы чорныя аксамітовыя на спронжках.* Старыя Трокі Трак. *Шындзіклёр — многа кліноў ў спадніцы.* Пацаўшчына Дзятл. *Шынтыклеры насілі, спадніцы доўгія і вускія.* Граўжышкі Ашм. *Шынтыклюр — шырока, з белага палатна спадніца, у хвалды.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* літ. *šimtasklin̄ris* 'які складаецца са ста кускоў'.

ШАНТРАПА' *м.* і *ж. лаянк.* Шантрапа. *Не какой шантрапа ён, а харошы.* Гемзы Шальч.

ШАНЦАВА'ЦЬ *незак.* Шанцаваць. *Яму ўсё ўдаецца, шанцуя.* Рыбчына Віл. *Шанцуя, павязло, як каму ўдача.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гэта табе ўсюды шанцуе.* Вецярэвічы Пух.

*Ён шчаслівы, усюды шанцуя.* Дакудава Лід. ∇ *Як каму шанцуя, дык і ў лапцях танцуя.* Вецярэвічы Пух.

ША'НЬКА *ж.* Вялікая торба. *Цэлу шаньку сухароў прынеслі.* Азяраны Раг. *Шанька — торба велька.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ША'ПА *ж.* 1. Шафа для адзення. *Даўней ні было ніякай шапы. Былі скрыні, куфар з пукатым верхам.* Вязынка Маладз. *У шапя павесіў паліто.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *szafa* 'тж'. 2. Невялікая шафа для пасуды. *Шапа — з достак шкапчык, посуд ставіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *У шапу схавай посуд.* Мачаск Бярэз. *Пастаў у шапу кубак і талеркі.* Ванелевічы Кап.

ШАПАВА'Л *м.* Шапавал. *Шапавалы ў нас валілі шапкі — валёнкі, край шапкі адгіналі.* Ухвала Круп.

ША'ПАТНІК *м. бат.* Лопух. *Калі галава баліць, ліст шапатніку прыкладзі.* Беразіно Докш. *Шапатнік такі расцець з дзядамі, дзяды як ускінеш — і дзержуцца на адзежы.* Вялікі Лес Круп.

ШАПАЦЕ'ЦЬ *незак.* Шапацець. *Як лён даспявае — шапацяць галоўкі.* Гемзы Шальч.

ША'ПАШНІКІ *мн.* Вянцы зруба, якія кладуцца над бэлькамі. *Як кончыцца хата, запускаюць бэлькі, а па бэльках — шапашнікі, а потым — кроквы.* Малахоўцы Бар.

ША'ПКА, ШЯ'ПКА *ж.* 1. Шапка. *Шапку ішчуць, даўняя салдацкая шапка, а ў шапцы золата зашыта было.* Вузла Мядз. *Шапка мокрая.* Беразіно Докш. *Шапка вушатая.* Магуны Паст. *Каля шапкаў коньськія хвастэ папрывязаваныя.* Дарава Лях. *Шапка касматая, зімняя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шапка з ушамэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Чапец. *І жанчыны насілі шапку, пашые з ганучаў, нашые брыжуў, фальбануў, і насілі шапку.* Васілевічы Гродз. 3. *пчал.* Верх калоднага вулея. *У вулеі шапка.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Верхні сноп у малой укладцы снапоў на полі. *Копка, у ёй шапка.* Грыкені Вільн. *Мэндлю шапкай накрывалі.* Вецярэвічы Пух. *Пастаўлена жыта ў бапкі, а дзесяты сноп — шапка.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Дзісятак снапоў пакрывая шяпка.* Парэчча Гродз. *Шяпкаю накрывают ляшку, заломлюют снопа і накрывают.* Дзмітравічы Кам. 5. Верхняя частка арэха, зялёная абалонка, якая пакрывае арэх зверху. *Арэхі ш шапкамі лушчыць трэба.* Альхоўка Навагр. 6. Перакладзіна над вушакамі акна, дзвярэй. *Шапка накладаяцца на вушакі* [у дзвярах]. Быстрыца Астр. *Шапка шыркі, як акно.* Скрудалена Даўг. *Шапка — уверсе акна, нанізе — падушка.* Пацаўшчына Дзятл. *Над акном — шапка.* Беразіно Докш. *Увярху акна шапка.* Мачаск Бярэз., Беразіно Докш. *Ушаке ў дзвярах, а зверху шапка, а ўнізе парох.* Кіралі Шчуч. *Шапка — перакладзіна над вушакамі.* Глівін Барыс. *Шапка ў дзвярах і вокнах.* Опса Брасл. *Дзверы вешаюць, папярок — шапка.* Гальшаны Ашм. *У дзвярах зверху шапка.* Мала-

хоўцы Бар. *Шапку будзят ламаці і накрываць.* Парэчча Гродз. 7. у знач. *прысл. ша́пкай.* Роем, у вялікай колькасці. *У такую пагоду пчолы шапкай кружацца, на плот, на сліву садзяцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ◇ *На злодзяю шапка гарыць* — пра таго, хто міжвольна сам паказвае тое, што больш за ўсё хацеў бы схаваць. Вузла Мядз. *У шапку спаць* — гультаяваць. *А нада работаць, а не ў шапку спаць.* Ёдупка Шальч. *Шапка паднімаецца на галаве* — пра пачуццё страху. *Як гляну ў бок могілак, шапка паднімаецца на галаве.* Вулька Гродз.

ШАПЛУКІ′ *мн.* Тое ж, што і ш а л у х а́ I, 3. *Аўсяныя шаплукі, грачаныя шаплукі.* Мярэцкія Глыб.

ШАПЛЯКЕ′ *мн.* Камякі гною на хвасце кароў. *У хляве мокра, шапляке начапляліся, неапратная карова.* Вецярэвічы Пух.

ШАПТА′ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць ціхім голасам. *Што ты там шэпчаш — нічога не разабраць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Шаптаць, лячыць шэптам (адносна знахароў). *У нас шэпчуць ад урокаў.* Збляны Лід. *Вядзьмак шэпча на ваду і дась яе — такоя лячэння!* Слабада Мін. *Дзяцька шаптаў ат падзіву і ат перапалоху.* Дарава Лях. 3. Ціха падаць (пра невялікі дождж). *Дошч шэпчыць.* Лісна В.-Дзв.

ШАПТУ′К, ШАПТУ′Х, ШУПТУ′К, ШУПТУ′Х *м.,* ШАПТУХА′ *ж.* Гнілая, пустая, пасохлая цыбуля. *Шаптукамі стала цыбуля, як павесілі яе на печы.* Саланое Віл. *Цыбуля, як шаптух.* Пацаўшчына Дзятл. *Проста ў шуптукох цыбуля. Цыбуля, як шаптуке, пагніла і пасохла на печы.* Галубы Маст. *Уся цыбуля на шаптуху зрабілася.* Гемзы Шальч. *Зрабілася цыбуля, як шаптуха.* Пацаўшчына Дзятл. *Цыбуля высахла, як шаптуха.* Кіралі Шчуч.

ШАПТУ′Н *м.* Чараўнік, знахар. *Я шаптуну не веру.* Вецярэвічы Пух. *Шаптун лячыў ад сполаху.* Мярэцкія Глыб. *Па шаптунох вазілі яе.* Паляцкішкі Воран. *Шаптуны лячылі людзей.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАПТУНІ′ХА *ж.* Чараўніца, знахарка. *Быў у шаптуніхі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАПТУ′НКА *ж.* Тое ж, што і ш а п т у н і́ х а. *Шаптунка была, хадзілі, як што баліць, дзіця ўраклі.* Старыя Трокі Трак. *Ездзілі ўгаварваць да якое шаптункі.* Дарава Лях.

ШАПТУ′Р *м.* Тое ж, што і ш а п т у́ н. *Шэпча шаптур, каб перастало балець.* Дзяніскавічы Ганц.

ШАПТУ′Х *гл.* ШАПТУ′К

ШАПТУХА′ *гл.* ШАПТУ′К

ШАПТУ′ШКА *ж. памянш.* да ш а п т у́ к. *Цыбуля згніе, шаптух высахня і зробіцца шаптушка.* Гемзы Шальч.

ШАПУ′ЛЬ *гл.* ШЫПУ′ЛЬ

ШАПЯЛЯ′ВЫ *прым.* Шапялявы. *Шапялявы быў чалавек.* Вялікія Баяры Шчуч.

ШАПЯЛЯ'ТЫ *прым.* Тое ж, што і ш а п я л я́ в ы. *Нявестка ў яе шапялятая і сто разоў некрасівая.* Ухвала Круп.

ШАПЯТЛІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і ш а п я л я́ в ы. *Шапятлівы чалавек.* Альхоўцы Лях. *Шапятлівы хлопец.* Альхоўка Навагр.

ШАПЯЦЕ'НЬ *м.* і *ж.* Той, хто ш а п я л я́ в ы. *Такая шапяцень, што разабрацца цяжка, што і гаворыць.* Ухвала Круп.

ШАР *м.* Рад. *У адном шару магіл пахованы.* Вецярэвічы Пух.

ШАРАВА'ЛКА, ШАРАВА'НКА *ж.* Мачалка, вяхотка. *Вазьмі шаравалку і вычысці добра чыгун.* Глівін Барыс. *Шараванку з дзіразы рабілі.* Старыя Трокі Трак.

ШАРАВА'НАЧКА *ж. памянш.* Тое ж, што і ш а р а в а́ л к а. *Шараваначкі цяпер з капрону.* Пасека Ст.-Дар.

ШАРАВАРО'НКА *ж. заал.* Сіваваронка. *Шараваронка тут ест, прыгожая.* Старыя Смільгіні Воран.

ШАРАВА'РЫ толькі *мн.* Шаравары. *Усе шаравары паданошвала.* Альхоўка Навагр.

ШАРАВА'ЦЬ І, ШАРОВА'ЦІ, ШУРАВА'ЦЬ *незак.* 1. Таркаваць, драць. *Бульбу шарую на дранікі.* Навасёлкі Лід. *Шаравалі картофлю ў бонду. Бульбу шаруям на тарку.* Дакудава Лід. *Трэба шараваць картофлі на тарку.* Кіралі Шчуч. 2. Чысціць, мыць. *Як асмаляць кабана, снегам шаруяць.* Дэгшні Шальч. *Шорсткай травой шаруеш кацялок.* Месянцы Брасл. *Дзень шараваць каструлі нада.* Солы Смарг. *Трэба бутылкі шароваці.* Вялікі Краснік Пруж. *Хвошч па барах сухі, катлы харашо шураваць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Ачышчаць ад кастры, церці. *Кудзелю шаруюць, трапаюць яе.* Баброўнікі Гарад. *Шаруям на жвірэ палатно.* Кіралі Шчуч.

ШАРАВА'ЦЬ II *незак. с.-г.* Матычыць. *Буракі матычкай шаравалі, кап зелье не расло.* Збляны Лід.

ШАРАВА'Я МО'ЛНІЯ *ж.* Шаравая маланка. *Шаравая молнія летіт у хату і вылетіт.* Рагулішкі Даўг.

ША'РА(Я) ГАДЗІ'НА, ШЭ'РАЯ ГАДЗІ'НА *ж.* Змрок, прыцемкі. *Прыходзіць шара гадзіна, лямпу запалім.* Баброўнікі Гарад. *Шарая гадзіна, як сонцо зойдзе, немного прыцемнівая.* Альхоўцы Лях. *Шэрая гадзіна — ні цёмна, ні светла.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У шэрую гадзіну шыла і вочы папсула.* Ністанішкі Смарг. *Шэрая гадзіна, калі шшарэя, яшчэ агню не паляць, а ўжо сцямнея.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *szara godzina* 'тж'.

ШАРАГІ' I *мн.* Вешалка для адзення. *Вісіць фуфайка на шарагах. Сам зрабіў шарагі.* Мсцібава Ваўк. *Павесь пальто на шарагі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *szaragi* 'тж'.

ШАРАГІ' II *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Едуць у сваты, нада пазычыць шарагоў. Старыя людзі казалі і шарагі, і шумёлы.* Мярэцкія Глыб.

ШАРА'К I *м.* Саматканы матэрыял у палоску ці клетач-

ку. *Шарак, калі белым па чорным начэш.* Малахоўцы Бар. *У палоску шарак. Мужчынам з яго порткі шылі.* Пацаўшчына Дзятл. *Шарак ткалі — плацянковая ўсё, з лёну.* Малышы Лід. *Шаракі ткалі.* Кемялішкі Астр. *Шараке ткалі і шылі спадніцы.* Парэчча Гродз. *Шарак і плаценак — адно і тоя ж.* Быстрыца Астр. *Шарак — фарбаваная тканіна ў чатыры нічальніцы.* Завельцы Астр. *Шарак ткалі, лёнам патыкалі, пачасні патыкалі.* Кіралі Шчуч. *Шарак ткалі ў паскі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Па льняной аснове ды сукном, штанэ с шарака шылі і часам жыкетку пашыеш.* Вецярэвічы Пух. *Трэба ўчарніць ніткаў, шарак выткаць.* Бакшты Іўеў. *Шаракі на гаці ткалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Шарак суконны.* Магуны Паст. *З шараку шылі касцюмы.* Старыя Трокі Трак. *Шарак такі па белай аснове чорнымі фарбаванымі ніткамі.* Стральцы Гродз. *Яна ўмея добра ткаць шарак.* Гемзы Шальч. *Шарак тканы насілі.* Стракішкі Трак.

ШАРА'К II *м. заал.* Пячкур. *Піскара яшчэ шарак завуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ШАРАКАНО'ШКА *ж. заал.* Сараканожка. *Шараканошка мае многа нох.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАРАЛА' *ж. бат.* Сівец. *Шарала — цвёрдая трава.* Ёдупка Шальч. *Як пашла шарала, то няма нічога.* Граўжышкі Ашм. *Шарала жорсткая. Шарала і зялёная, але не мае соку, яе толькі коні ядуць. Яна пры балотцы, пры лесе. Шаралу і верас косяць пасля марозу.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ. *šeriaĩ* 'шчацінне'.

ШАРАНДЗІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш а б а л д з і ц ь. *Буду сядзець шарандзіць.* Кураполле Паст.

ШАРАНО'К *м. памянш.* да ш а р о́ н 1. *Я ішоў па шаранку.* Гальшаны Ашм. *Шаранок сягання, падымая па шаранку.* Рыбчына Віл.

ШАРАНШ'Ё *зб. н.* Машкара. *Пусціў шаранш'ё; шаранш'ё— мошкі ўсялякія.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *szarancza* 'тж'.

ША'РАНЬКА *прысл.* Шэра, цёмна. *Шчэ шаранька.* Вялікія Баяры Шчуч.

ША'РАНЬКІ *прым. памянш.* да ш а́ р ы 1. *Шаранькі верх у пальце.* Малахоўцы Бар. *Шаранькія куры.* Альхоўцы Лях.

ШАРАСЕ'НЬ *м.* Шарон. *Шарасень — можна ісці па снегу і не правалішся.* Мярэцкія Глыб.

ШАРАФА'Н *м.* Сарафан. *Трэба шарафан шыць.* Граўжышкі Ашм.

ШАРАХУНЫ' *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шарахуны надзяюцца на шыю каню.* Рыбчына Віл.

ШАРАХШЭ'ЦЬ *незак.* Бражджаць. *Ідуць, шарахшаць ружжамі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ША'РАЦЬ *незак.* Віднецца, наступаць (пра ранак). *Ужо шарала, як я прачухнуласа.* Парэчча Гродз.

ШАРА'ЧАК, ШАРА'ЧЫК, ШАРАЧО'К *м.* 1. *памянш.* да ш а р а́ к I. *Шарачак ткала.* Жодзішкі Смарг. *Шарачак —*

*чорная аснова, патыкалі рудымі ці зялёнымі, сінімі ніцямі. Шарачку выткала на штаны, мужчынам ткалі ў скрынкі і паласамі.* Рыбчына Віл. *Шарачак ткалі так у елачку. Шарачак — аснову красілі, а белым патыкалі.* Латыгаль Віл. *Шарачак — даматканы матэрыял.* Мсцібава Ваўк. *На спадніцы ткалі шарачак.* Вузла Мядз. *Палатно — шарачак, хто у палоску, хто ў клетачку ткаў.* Крэва Смарг. *Шарачак выткала і пашыла спадніцу.* Кураполле Паст. *Сачак кароткі шылі з шарачку.* Пацаўшчына Дзятл. *Шарачык — снуюць льняным, а паткуць сукном.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Шарачок — тая самая тканіна, толькі фарбаваная. Шарачок на аснове, па чарным фарбавалі, хлопцам на портачкі.* Магуны Паст. *Шарачок выткала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Палатно ў дзве нічальніцы, а шарачок як ткалі, і на воркі, то ў чатыры нічальніцы.* Завельцы Астр. 2. Світка, шарак. *Шарачке шылі і насілі.* Галубы Маст.

ШАРА′ЧКА *ж.* Тое ж, што і ш а р а́ к I. *Сардак — хто с сукна шыў, хто — с шарачкі.* Васілевічы Гродз.

ШАРАЧКО′ВЫ *прым.* Шарачковы (тканы з шэрых і чорных нітак), які мае адносіны да шарачку. *Нажуткі, ці каптаны шарачковыя на патклатцы.* Завельцы Астр. *Шарачковы пінжак пададзеў, якая б ні адзежына.* Слабада Мін. *Нажуткі і каптаны шара́чковыя.* Завельцы Астр. *Дзесь і цяпер маю шарачковы касцюм, але парваны.* Галубы Маст. *Шарачковыя спадніцы насілі, тканыя, сваёй работы.* Гемзы Шальч.

ШАРАЧО′К *гл.* ШАРА′ЧАК

ШАРА′ЧЫК *гл.* ШАРА′ЧАК

ШАРАШО′Р *м.* 1. Тое ж, што і ш а р а с е́ н ь. *Шарашор па снегу.* Малахоўцы Бар. 2. Шуга. *Па рацэ гоніць шарашор.* Малахоўцы Бар.

ША′РГА *ж.* Бура. *Шарга — такая уюга ўзялас. Бура летом стропы скідае, дэрво ломыт. Хоть і ны зымою вэтэр, то шарга.* Брады Пруж.

ША′РГАЦЦА *незак.* Аціраццa, церціся. *Не шаргайся поўз мяне.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *szargać się* ’пэцкацца, пляміцца’.

ША′РГАЦЬ *незак. экспр.* 1. Гаварыць. *Шаргаюць тое, што не трэба.* Саланое Віл. 2. Крыўдзіць, ругаць, паносіць. *Стаў бацьку шаргаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Старога так не шаргай, бо ўстае разам с табой.* Жылі Іўеў. *Шаргаеш мяне за нішто, што ты мяне ўсё шаргаеш!* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *szargać* ’пэцкаць, пляміць’.

ШАРГУНЫ′, ШАРХУНЫ′ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шаргуны — званочкі на шыю.* Тухавічы Лях. *Шаргуны — званочкі, якія вешалі на шыю каню.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Шархуны каню ва время свадзьбы адзівалі.* Мішневічы Шум. *Дайней шархуны на шыю каню павесяць — і страйней.* Вузла Мядз. *З Вараноў сваты прыехалі, пара коні с шархунамі.* Саланое Віл.

ШАРКІ′ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Коньмі шаркі вешалі на шыю, званок да дугі.* Старыя Трокі Трак.

ШАРЛІ′ВЫ *прым.* Які траціць бессэнсоўна грошы. *Хазяйка не шарлівая, грошы не траціць.* Курaполле Паст.

ШАРЛУ′ПКА *ж.* Тое ж, што і ш а л у п а́ й к а 1. *Шарлупкі ад ейца курам кінь.* Глівін Барыс.

ШАРЛУ′ПЫ *мн.* Шалупінне. *Высахла цыбуля, аднэ шарлупы.* Кіралі Шчуч.

ША′РНУЦЬ *зак.* 1. Шаргануць, шаркнуць. *Шарнуў нагой і загнаў дрот.* Крэва Смарг. 2. Махнуць. *Шарнуў касой — і парэзаў нагу.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. *перан. экспр.* Ударыць. *Яна як шарніць гэта дзіцянё, а яно плачыць, просіцца: «Мамачка, я ня буду».* Вузла Мядз. 4. *экспр.* Штурхануць з вялікай сілай. *Мужык жонку як шарнуў, яна нават адляцела ў другі куток.* Валынцы В.-Дзв.

ШАРНЭ′ТКА *ж.* Даматканая світка ў мелкую клетачку. *Расклоў я гэта агню, разаслоў шарнэтку і прылёх.* Вялікія Баяры Шчуч.

ШАРОВА′ЦІ *гл.* ШАРАВА′ЦЬ І

ШАРО′ЙКІ *мн.* Тое ж, што і ш а л у х а́ І, 3. *Шаройкі — высеўкі ад грэцкай мукі.* Азяраны Раг.

ШАРО′К *м. памянш.* 1. Радок. *Авёс ставяць у шарок, у кучкі.* Граўжышкі Ашм. 2. Паглыбленне на градзе для пасадкі чаго-н. *Шарок — равок на градзе.* Азяраны Раг.

ШАРО′Н, ШАРО′НЬ, ШАРУ′Н, ШРОН *м.* 1. Тое ж, што і ш а р а с е́ н ь. *Адліга была, а пасля і шарон харошы — ідзеш па снезе, не правалішся.* Жылі Іўеў. *Ідзе па шаране.* Граўжышкі Ашм. *Шарон — можна ехаць па снягу.* Старыя Сміљгіні Воран. *Шарон шахаціць пад нагамі.* Мсцібава Ваўк. *Іду па шараню.* Гайна Лаг. *Сёння па шаруну можна іці.* Багушэвічы Бярэз. *Шарун, паверху бегаем.* Азяраны Раг. *Па шаруну можэць і конь ісці.* Мачаск Бярэз. *Шарун дзяржыць, па шаруну ішла.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Іней, намаразь. *На дзеравах шарун, шаруном пакрылася дзерава.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вышаў шрон, марос сівенькі, небальшы, сівенька трава.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *szron* 'іней, шэрань'.

ШАРО′С *гл.* ШАРО′Ш І

ШАРО′СІК *м. памянш.* Тое ж, што і ш а р о́ н 1. *Як шаросік — не бойся ехаць, не правалішся.* Галубы Маст.

ШАРО′ЎКА І *ж.* Рад, баразна, засаджаная якой-н. культурай. *Шароўка буракоў, моркві.* Збляны Лід.

ШАРО′ЎКА ІІ *ж.* Мачалка. *Шароўка харошая катлы шараваць.* Лісна В.-Дзв.

ШАРО′ХАВАТЫ *прым.* Грудаваты. *Як зямля мокра і падмерзня, яна шарохавата.* Альхоўцы Лях.

ШАРО′ХАЦЬ *незак. экспр.* Варушыць, выграбаць салому. *Града зярня, як шарохаеш граблямі.* Саланое Віл.

ШАРО′Ш І, ШАРО′С, ШАРУ′С *м.* Шарош. *Шарош —як ва-*

*да замярзае ў рацэ, возеры.* Валеўка Навагр. *Шарош — дробныя кавалачкі лёду ў вадзе.* Нізок Уздз. *Шарош ідзе — рака станя.* Бакшты Іўеў. *Калі замярзая рака, па ёй шарош ідзе.* Альхоўка Навагр. *Шарош — як рака замярзае, і гэты лёт рубіць рыбу.* Семежава Кап. *Шарос — камякі лёду ў вадзе.* Пацаўшчына Дзятл. *Шарос — калі ідзе кусочкамі лёт. Нёман становіцца, ідзе шарос.* Дакудава Лід. *Па Нёмне ідзе шарос — велькія брылы лёду на схот зімэ, велькія кавалкі.* Каўняны Гродз. *Шарус — лёд паўмярзаны, кусочкі лёду.* Галубы Маст. ◇ *Шарош на целе* — па целе дрыжыкі. *І цяпер прайшоў шарош па целе, як успомніла пра гэта, цела пашло шурпамі.* Бакшты Іўеў.

ШАРО'Ш II *м.* Сплаўны лес, разрозненыя бярвенні, якія сплаўляюць па рацэ. *Не звязаныя бярвенні, якія ідуць па рацэ,— шарош. Шарош — сплавной лес.* Лісна В.-Дзв.

ШАРПАВА'ТЫ I *прым.* Шурпаты, у бугры. *Рапуха рабая, шарпаватая.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* літ. *šiùrpa* 'хто шурпаты'.

ШАРПАВА'ТЫ II *прым.* Тое ж, што і ш а р о́ х а в а т ы. *Шарпаватая дарога, няроўная.* Навасёлкі Лід.; *параўн.* ням. *scharf* 'цвёрды'.

ШАРПАНУ'ЦЬ *зак.* Абадраць. *Шарпануў руку аб доску.* Дакудава Лід. *Другому* [злодзею] *шарпануў шчаку і уха.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *szarpnąć* 'рвануць, шмаргануць'.

ШАРПА'ТЫ I *прым.* Цвёрды, грубы, каляны. *Хвашчанка шарпата. Шарпата кара.* Малахоўцы Бар.

ШАРПА'ТЫ II *прым.* Патрэсканы, шурпаты. *Шарпаты твар ат сіверу пакалоўся.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн* літ. *šiùrpa* 'тж'.

ША'РПАЦЬ *незак.* Скубці (пер'е). *Шарпаім пёры, а курыцу дзяром.* Быстрыца Астр. *Мама натта пёры шарпала.* Гемзы Шальч. *Шарпалі пер'я.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* польск. *szarpać* 'тж'.

ШАРПІ'НА *ж.* Драпіна. *Нескалькі шарпіноў знаць на бакох.* Гемзы Шальч.

ШАРСЁН *м. заал.* Шэршань. *Шарснэ водзяцца пат стрэхамі, гнязло, як бы каптур, гайдаецца.* Кіралі Шчуч.

ШАРСТКАВА'ТЫ *прым.* Шарсткаваты. *Шарсткаватая воўна.* Номікі Бабіц.

ШАРСТКІ' I *прым.* Тое ж, што і ш а р п а́ т ы I. *Шарсткая трава.* Рыбчына Віл.

ШАРСТКІ' II *прым.* Тое ж, што і ш а р п а́ т ы II. *Шарсткая нага зрабілася.* Саланое Віл.

ШАРСТКІ' III *прым.* Цвёрды, чэрствы, які цяжка глытаць. *Шарсткі хлеп, як с мякінай пяклі.* Саланое Віл.

ШАРСТУ'Х *м.* Спадніца з адным швом. *Шарстух — папярэчная спадніца, някроіная і называлі шарстух. Шарстух — мэтры два палатна атрэзаць і ў адно шво шшыць, зрабіць закладачкі — і гэта называлі шарстух. Шарстух беленькі-белень-*

*кі, выбелены шарстухі насілі.* Рыбчына Віл. *Пашыла шарстух і мудруя.* Жылі Іўеў.; *параўн.* ням. *Schürze* 'фартух'.

ШАРСЦЕ'НЬ, ШАРСЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і ш а р с ё н. *Не пчала гэта, а шарсцень.* Беразіно Докш. *Шарсцень — у яго жыгала бальшоя.* Кураполле Паст. *Шарсцень моцна кусаецца.* Рыбчына Віл. *Шарсцень укусіў, усё пад глазам апухла.* Мярэцкія Глыб. *Шарсень рудаваты, куслівы.* Альхоўка Навагр. ∇ *Злы, як шарсцень.* Ракаўскія Швянч.

ШАРСЦІ'НКА *ж.* Валасіна. *Шарсцінкай с конскага хваста перавязвалі бародаўкі.* Дарава Лях.

ШАРСЦІ'ННЕ *зб. н.* 1. Свіная шэрсць. *Са свінога шарсціння шчэткі былі. Свіннуха, як свіное шарсцінне, за тое ж яе так завуць, трудна яе касіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Волас. *Гняды конь — гэта між рыжага белыя шарсцінні пападаюцца.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ШАРСЦЯ'НЫ *прым.* 1. Шарсцяны. *Жычка — як шнурок урадзе, бы шарсцяны ці шоўкавы.* Ухвала Круп. *А с шарсцянай шчэткі — пачасся.* Кураполле Паст. *На пачаскі — з шарсцяноя шчэткі.* Дакудава Лід. *Лён шарсцяной шчэткай чэшуць.* Збляны Лід. *Шарсцяныя ніткі купіла.* Навасёлкі Лід. *Ткала посцілкі, шарсцяныя дываны, ручнікі.* Солы Смарг. *Потым часалі лён шарсцянай шчоткай.* Канюкай Вільн. 2. Шорсткі, каляны, гнуткі. *Хвошч на бару расце, ён шарсцяны, ні крышыцца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАРУДЗІ'ЦЬ *незак. экспр.* 1. Разварочваць, бурыць. *Пачалі шарудзіць будынак стары.* Рыбчына Віл. 2. Шукаць. *Што ты там шарудзіш?* Пацаўшчына Дзятл. *Пачалі шарудзіць, увесь будынак апшарудзілі.* Саланое Віл. 3. Звозіць (у кучу). *Пачалі шарудзіць лам'е.* Рыбчына Віл. 4. Цягаць. *Пачалі шарудзіць кансервы з магазіна.* Жыдзевічы Іўеў. 5. Прыбіраць. *Дзень шарудзіла ў хаце.* Бакшты Іўеў.

ШАРУ'ДНА *прысл.* Актыўна, хутка. *Так шарудна робіць.* Бакшты Іўеў.

ШАРУ'Н *гл.* ШАРО'Н

ШАРУПАВА'ТЫ *прым.* Шурпаты. *Шарупавата дошка.* Номікі Бабіц.

ШАРУ'С *гл.* ШАРО'Ш I

ША'РФІК *м. памянш.* Шарф. *Шарфік носяць на шыі.* Завельцы Астр.

ШАРХАНУ'ЦЦА *зак. экспр.* Кінуцца. *Яны шархануліся ў хату, а іх нет.* Лісна В.-Дзв.

ШАРХУ'БЛІК, ШАРШУ'БЛІК *м. памянш.* да ш а р х ў б э л ь. *Шархублік прынёс.* Вецярэвічы Пух. *Шаршублік збольшага габлюе.* Збляны Лід.

ШАРХУ'БЭЛЬ, ШАРШУ'БАЛЬ *м.* Гэбель. *Шархубэль — такі габэлек, выбіраць дошку, дзе грубей.* Солы Смарг. *Шаршубаль глатка не габлюе.* Гемзы Шальч. *Перш-наперш ачышчаюць*

*дошку шаршублям.* Навасёлкі Свісл.; *парайн.* ням. *Schrupphobel,* руск. *шерхебель* 'рубанак'.

ШАРХУНЫ′ *гл.* ШАРГУНЫ′

ШАРЦАВА′ЦЬ *незак. плыт.* Звязваць. *Шарцаваць плыт — звязваць лаўкі плыта.* Рыбчына Віл.

ШАРЦУ′ГА *ж. плыт.* Прывязка з кручаных дубцоў, пры дапамозе якой змацоўваюцца (звязваюцца) бярвенні. *Шарцуга — тое, чым звязваюць лаўкі плыта. Шарцуга — з дупцоў бярозавых вілі і вязалі ганкі. Шарцугамі шчаплялі лаўкі, лавак восем.* Рыбчына Віл.; *гл.* ш в а р ц ý г а.

ШАРШАВІ′НА *ж. плыт.* Жардзіна, якая накладаецца на бярвенні плыта для змацавання іх. *А жардзіна, якой скраплялі ганкі, называлася шаршавіна, у адным канцы шаршавіна і ў другім.* Лісна В.-Дзв.

ШАРША′ТКА *ж.* Вялікая іголка для шыцця тоўстымі ніткамі. *Уводжу нітку ў шаршатку і пераколваю лісты самасейкі.* Гемзы Шальч. *Іголка для тоўстых нітак — гэта шаршатка.* Грыкені Вільн. *Шаршатка для тоўстых ніцей.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шаршаткай цыруюць наскі шарсцяныя.* Кіралі Шчуч. *Шаршатка грыбы нізаць, рукавіцы цыруем.* Завельцы Астр.; *парайн.* літ. *šaršė* 'вялікая іголка для шыцця хамута'.

ШАРША′ТЫЙ *прым.* Шурпаты, бугрысты. *Я стаўлю мярожы, лёт шаршатый.* Пераброддзе Міёр.

ШАРШО′Н, ШАРШУ′Н *м.* Тое ж, што і ш а р с ё н. *Шаршон яе цяў, як кольне.* Паляцкішкі Воран. *Шаршун натта кусаецца. І на траву калючую кажаць:«Коліцца, як шаршун».* Дэгшні Шальч.

ШАРШУ′БАЛЬ *гл.* ШАРХУ′БЭЛЬ

ШАРШУ′БЛІК *гл.* ШАРХУ′БЛІК

ШАРШЭ′НЬ І *м.* Тое ж, што і ш а р с ё н. *Шаршэнь такі вялікі, ён кусае, як бы б'е.* Чуркі Ашм. *Шаршэнь — овад такі, шаршні кусаюцца, бальшыя, рабыя.* Лісна В.-Дзв. *Шаршэнь як дванасця ўкуся, то чалавек жыць не будзя.* Граўжышкі Ашм. *Шаршэнь укусіў карову, і яна паляцела.* Гемзы Шальч. *Шаршні вядуцца ў дуплі і ў купіні.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шаршэнь кусаецца.* Чычалі Швянч.

ШАРШЭ′НЬ ІІ *м.* Тое ж, што і ш а р ó ш І. *Плыве шаршэнь, ужо маразіць.* Солы Смарг.

ША′РЫ *прым.* 1. Шэры. *Каршун як шары.* Бакшты Іўеў. *Наш сабака шары, курыца шара.* Кіралі Шчуч. *Шары кот.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Няпоўнасцю выбелены. *Палатно шарэ — нявыбеленае.* Лука Нараўк. 3. Цёмны. *Шара хмара — будзе навальны дошч.* Старыя Смільгіні Воран.

ША′РЫКІ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шарыкі надзівалі каню.* Лісна В.-Дзв.

ШАРЫ′ННІК, ШАРЫ′ЛЬНІК *м. бат.* Сівец. *Дасць шарыннíку. Шарыннік — шорсткая трава.* Жылі Іўеў. *Шарыльнік з вяс-*

*ны зялёны, а патом падсыхая і белы.* Гемзы Шальч.; *гл.* шаралá.

ШАʹРЫЦЬ I *незак. экспр.* Шукаць. *Давай шарыць па карманах.* Саланое Віл.

ШАʹРЫЦЬ II *незак.* Хутка бегчы. *Шаруць ласі па міне, бываіць, убок праскочыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАʹРЫЦЬ III *незак.* Хадзіць (з аднаго боку ў другі). *Шарыць — туды-сюды хадзіць.* Альхоўка Навагр.

ШАРЭʹНЬ *м.* Тое ж, што і шарóн 2. *Шарэнь харошы на дрэвах.* Дзяніскавічы Ганц.

ШАРЭʹЦЬ *незак.* Шарэць, змяркацца. *Ужо шарэя.* Альхоўцы Лях. *Ужо шарэіць, трэба агонь паліць.* Навасёлкі Свісл. *Пара ўставаць, ужо шарэе.* Мсцібава Ваўк.

ШАРЭʹШАННЕ *н.* Тое ж, што і шарóн 2. ◊ *Пабрацца шарэшаннем* — заінець. *Пакуль зайду на кароўнік, у мяне шарэшаннем усё пабярэцца, уся апшарэшаеш.* Мачаск Бярэз.

ШАСАʹ *ж.* Шаша. *Па адзін бок шасы — маладняк.* Баброўнікі Гарад.

ШАСЕʹ *н.* Тое ж, што і шасá. *Тут зямля харошая і шасе.* Дарава Лях.

ШАСНАʹСТКА *ж.* Пасудзіна, зробленая з драўляных клёпак з адной ручкай для вымярэння збожжа, бульбы і г. д. (змяшчала або тры, або паўтара пуда). *Былі шаснасткі, асьміны. Шаснастка з аднэй ручкай.* Саланое Віл. *Была шаснастка драўляна з адной ручкаю — тры пудэ важыла.* Кіралі Шчуч. *Шаснасткай мералі збожа* [тры пуды]. Старыя Смільгіні Воран. *Шаснасткай мералі зярно, тры пуды важыла.* Вузла Мядз. *Шаснастка — мерка паўтара пуда. Шаснастка с клёпачак, ручка дліненькая, жыта мералі.* Лапічы Асіп. *Мерылі дабро шаснасткай, паўтары пуды, дзве шаснасткі — тры пуды — называлі асьміна, шаснастка с коптарам.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАСНАСТОʹВЫ *прым.* Тканы ў шаснаццаць ніцей. *Шаснастовыя ручнікі ткалі.* Кураполле Паст.

ШАСНАʹЦЦАТЫ *ліч.* Шаснаццаты. *У шаснаццатым року памёр мой бацька.* Грыкені Вільн.

ШАʹСНУЦЬ *зак. экспр.* Абваліцца, рухнуць. *Падгніў мост, шасьне — і ўсё.* Вецярэвічы Пух.

ШАСТАʹК I *м.* Мера зямлі, роўная адной шостай частцы надзелу (участка). *Шастак зямлі быў.* Старыя Смільгіні Воран. *Шастак — шостая частка зямлі.* Кураполле Паст. *Шастак зямле.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шастак зямлі меў.* Саланое Віл. *Шастак зямлі. Адзін участак на шэсць часцей падзяліў — шастак.* Солы Смарг. *Шастак зямле было* [дзве дзесяціны]. *Я ўзяла шастак зямлі і палавіну гаспадаркі.* Кіралі Шчуч. *Шастак зямлі бацька даў.* Вецярэвічы Пух.

ШАСТАʹК II *м.* Мянушка чалавека, у якога шэсць пальцаў. *У нас адзін быў, у яго было шэсць пальцаў, яго звалі шастак.* Збляны Лід.

ШАСТАКО′Л *гл.* ЧАСТАКО′Л

ШАСТАКО′ЛІНА *ж.* Завостраны калок. *Шастаколіну якую знайду.* Вецярэвічы Пух.

ША′СТАЦЦА *незак.* 1. *экспр.* Хадзіць, шоргацца. *Хто шастаецца ў каморы?* Граўжышкі Ашм. *Я ўчуў, што нехта як бы шастаецца.* Гемзы Шальч. 2. Бегаць, драпаць, шапацець. *За паперам мышы шастаюцца.* Жылі Іўеў.

ША′СТАЦЬ *незак.* 1. Шоргаць, шапацець. *За шпалерай мыша шастаюць.* Кураполле Паст. *Вох, як мышы шастаюць!* Альхоўка Навагр. 2. Варушыцца, кратацца. *Шастая нешта, шасціць.* Жылі Іўеў. 3. Хадзіць (па сене, саломе). *На сені шастаіць нехта.* Саланое Віл. 4. Шамацець, шалясцець. *Шастая нешта, калі пагляджу — грошы там.* Старое Сяло Зэльв. 5. Рэзаць, валіць (пра лес). *Во лес шастаюць — быстро рэжуць, ідзе ўсё бес пашчады.* Альхоўцы Лях. 6. Раскідаць. *Валы вецяр шастая.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШАСТО′К *м.* Жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу, шост. *Шасток каля печы, падвешаны кіёк.* Груздава Паст. *Шасток ля печы.* Рыбчына Віл. *На шасток павесь хусту.* Беразіно Докш. *Дзе шасток, што кілбасы вешаць?* Завельцы Астр.

ШАСТУ′ШКА *ж. памянш.* Тое ж, што і ш а с т а́ к I. *Шастушка поля было.* Бакшты Іўеў.

ШАСЦЕ′ЦЬ *незак.* Шапацець, шалясцець. *Як высахня, шасціць званец.* Жыдзевічы Іўеў.

ШАСЦЁРА, ШАСТО′РА *зб. ліч.* Шасцёра. *Шасцёра дзяцей малых.* Гальшаны Ашм. *Шасцёра ўнукаў.* Збляны Лід. *Я шасцёра радзіла.* Слабада Мін. *Нас прышло шасцёх картоплю набіраць.* Вецярэвічы Пух. *Прышло шасцёх да мяне.* Старыя Трокі Трак. *Шастора нас было.* Буды В.-Дзв.

ШАСЦІ′НА *ж.* Тое ж, што і ш а с т а́ к I. *Шасціна зямлі засталася і карова.* Беразіно Докш. *Шасціна зямлі за ім была.* Мярэцкія Глыб. *Шасціна — шоста доля ўчастка.* Солы Смарг. *У нас шасціны зямлі.* Міратычы Карэл.

ШАСЦІРА′ДНЫ ЯЧМЕ′НЬ *м.* Сорт ячменю, які мае адметную форму коласа (у шэсць радоў). *Шасцірадны ячмень відаў, але не сеяў.* Гемзы Шальч.

ШАСЬ-ШАСЬ *выкл.* у знач. *вык.* Шась. *Аш чую — нешта толькі шась-шась!* Мацясы Мядз.

ШАТА′Н *м.* Сухое галлё, ламачча, суччa. *Шатан знасіце — будзем паліць.* Беразіно Докш.

ША′ТАЦЦА *незак.* Упраўляцца з работай. *Трэба шатацца.* Ністанішкі Смарг. *Нада ісці шатацца — з работай спраўляцца.* Норкавічы Паст. *Шаталася, шаталася, чуць прысьпела — і зарас жа аўтобус пашоў.* Кураполле Паст.

ШАТА′ЦЦА *незак.* 1. Хістацца ў бакі. *Шатаецца, ледзьва ідзе.* Жылі Іўеў. 2. Калывацца. *Шатаяцца каса.* Багушэвічы Бярэз. 3. Блукаць, хадзіць туды-сюды без мэты. *Шаталася, пахаджвала па хаці.* Валынцы В.-Дзв.

ШАТКАВА'НКА *ж.* Шаткаванка. *У рэцы памыюць і пасякуць нажом капусту, пасоляць — гатова шаткаванка.* Слабада Мін.

ШАТКАЎНІ'ЦА *ж.* Шаткоўка, шаткаўніца. *Шаткаўніцы ня было, я лепяй рукамі накрышу капусты.* Слабада Мін. *Шаткаўніца ест.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *szatkownica* 'тж'.

ШАТКО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і ш а т к а ў н і ц а. *Шаткоўка е, капусту шаткуюць.* Дзяніскавічы Ганц.

ШАТКУВА'ЦЬ, ШЫТКАВА'ЦЬ *незак.* Шаткаваць. *Нада шаткуваць капусту.* Янова Рас. *Капусту шыткавалі і ставілі ў дзешку.* Завельцы Астр.

ШАТРАВА'НЫ *дзеепрым.* Шатраваны. *Ячмень пушчаюць на таркі, і ён абдзіраецца, а тады мелім гэтыя крупы на муку, і гэта называлася шатраваная.* Завельцы Астр. *Бывая шатраваная мука і пітляваная.* Солы Смарг.

ШАТРАВА'ЦЬ *незак.* Шатраваць. *Ячмень шатравалі і малолі на муку.* Кіралі Шчуч. *Крупэрня была — шатравалі ячмень.* Чуркі Ашм.

ШАТРАВІ'НЫ *мн.* Шатраванне. *Шатравіны ад ячменю свіням давалі.* Кіралі Шчуч.

ШАТРА'К *м.* Шатрак. *На шатрак нада пусціць ячмень.* Солы Смарг.

ШАТРО'ЎКА *ж.* 1. Тое ж, што і ш а т р а́ к. *Уперша шатруюць на шатроўцы.* Чуркі Ашм. 2. Шатроўка. *Кажуць, ячменная мука, ці шатроўка.* Мачаск Бярэз.

ШАТРЫ'ЦЬ *незак.* Біць, дзяўбці. *Казалі, што другая качка гусі шатрыць, дзюбай возьміць і шатрыць.* Кіралі Шчуч.

ША'ТЫ *мн. экспр.* Адзенне. *Яму змянілі шаты, чорным арнатам пакрылі.* Кальнішкі Шальч.

ША'ЎКАЦЬ I *незак.* Кракаць. *Вуцяк шаўкаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ША'ЎКАЦЬ II *незак.* Чвякаць, есці. *Досьць ужэ шаўкаць!* Гемзы Шальч.

ША'ФА I, ША'ХВА *ж.* Шафа. *Шафы рабілі самы.* Збляны Лід. *Шафа новая ў нас.* Чычалі Швянч. *Шафа палітураваная.* Солы Смарг. *Шафа — гэта Зінін пасах, шафу прынясла яна.* Кіралі Шчуч. *Нясі сукню ў шафу.* Паляцкішкі Воран. *Я стаю ля шафы.* Сакаўшчына Валож. *Шафа старая, чуць ліпіць.* Мярэцкія Глыб. *Шахва новая ў нас.* Чычалі Швянч., Пасека Ст.-Дар.

ША'ФА II *ж.* Тое ж, што і ш а т к а ў н і ц а. *Шафа — капусту шаткаваць.* Мішневічы Шум.

ШАФА'РНЯ *ж.* Вялікая скрыня для захоўвання мукі. *Муку ссыпалі ў шафарні, нада муку ссыпаць у шафарню, у каго не было шафарні, ссыпалі ў каць.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* польск. *szafarnia* 'вялікая скрыня для зерня' (СВ. VI, с. 553).

ША'ФАЧКА *ж. памянш.* Шафа для пасуды. *Мы сядзелі па розныя бакі шафачкі.* Завельцы Астр.

ША'ФЕР, ША'ХІР *м. абрад.* Шафер. *Вянцэ дзяржаць ша-*

*фярэ*. Новіны Нясв. *Да свадзьбы ідзуць маладыя з шаферамі*. Опса Брасл. *Маладуха бярэ дзве дружкі, а малады — шахіра, а па-доўняму — бруснік*. Кукарава Бярэз.

ША′ФЕРКА *ж. абрад*. Шаферка. *Выходзіла сусетка замуш, я была шаферкай*. Мельканавічы Сл. *Шаферкі даюць падаркі, а шафярэ — грошы*. Квачы Нясв.

ША′ФЕРЫЦА, ША′ФІРЫЦА *ж*. Тое ж, што і ш а́ ф е р к а. *Шаферыца не ўпілася на вяселлі*. Ухвала Круп. *Дружына была: шафіра, шафірыцы, сваты*. Індра Красл.

ШАФЁР, ШОФЁР *м*. Шафёр. *Шафёрам робіць у калхозе*. Старое Сяло Зэльв. *Вася буў шофёром*. Дзмітравічы Кам.

ШАФІЁНЫ *мн*. Тое ж, што і ш а м п і ё н. *Шафіёны пат сподам цёмныя, па канюшыні растуць*. Солы Смарг.

ША′ФКА *ж*. Шафка для пасуды. *Шафка, дзе кладзецца пасуда*. Вострава Маст.

ШАХ *гл*. ШАГ

ША′ХА I *ж*. Шопа, пабудова на чатырох слупах. *Шаха на стаўбах, чатыры сцяны саломай забівалі і крышу саломай крылі*. Лісна В.-Дзв. *Загадвалі шаху старажыць*. Мішневічы Шум.

ША′ХА II *ж*. Тое ж, што і ш а с а́. *Па шахе кілометраў сем*. Кіралі Шчуч.

ШАХАРДЗІ′ЦЬ *незак. экспр*. Гаварыць абы-што, несці лухту. *Шахардзіш абы-што*. Лісна В.-Дзв.

ШАХАЎНІ′ЦА I *ж*. Тое ж, што і ш а т к а ў н і́ ц а. *Шахаўніца — капусту шаткаваць*. Мыто Лід.

ШАХАЎНІ′ЦА II *ж. с.-г. устар*. Участак зямлі. *Шахаўніца — кавалак, куплены ў пана, мярнічнік разбіў па дзве дзесяцiны і называўся шахаўніца, трэба на шахаўніцу гной вазіць*. Гемзы Шальч. *Шахаўніцы — зямля кусочкамі, кліночкамі*. Граўжышкі Ашм.; *парайн*. польск. *szachownica* ’цераспалосіца’.

ШАХАЦЕ′ЦЬ *незак*. 1. Шамацець, шалясцець. *Глаткі хвашчай дзёрсткі, аш шахаціць*. Кіралі Шчуч. *Лісцяя шахаціць*. Номікі Бабіц. 2. Рыпець, хрусцець. *Шарон шахаціць пад нагамі*. Мсцібава Ваўк.

ША′ХВА *гл*. ША′ФА I

ША′ХІР *гл*. ША′ФЕР

ША′ХНУЦЦА *зак*. Упасці, моцна ўдарыўшыся. *Ніколі не было мне такога здарэння: як шахнулася і змярцвела*. Бакшты Іўеў.

ША′ХТА *ж*. Шахта. *Другі сын на шахце робіць*. Альхоўка Навагр.

ШАХЦЕ′ЦЬ *незак*. 1. Рыпець, хрусцець. *Шарус, снег прымёрз, шахціць*. Галубы Маст. 2. Шумець, шастаць. *Шахціць, а дзелая хораша, аш усё шахціць*. Кіралі Шчуч. 3. Храбусцець. *Вот хлеб аш шахціць на зубах, мусі, у ём ест мякіна*. Кіралі Шчуч.

ШАХ-ШАХ *выкл*. у знач. *вык*. Гукапераймальная перадача

хуткасці працэсу кашэння. *Што касіць: шах-шах, а вот грэпці: зачапі і пацягні.* Граўжышкі Ашм.

ШАЦІ'ЦЬ *незак.* Трызніць. *Хворы пачаў шаціць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАЦЬ *ж.* Тое ж, што і ш а р о́ н 2. *Шаць на дрэвах, але ш і бальшая, дрэвы апшацеўшы.* Жылі Іўеў. *Шаць выпала на дзеравы, дзерава апшацея, аш цяшка галэнзям.* Старыя Смільгіні Воран.

ШАЧЭВІ'ЦА *ж. бат.* Сачавіца. *Калісьці шачэвіцу елі.* Бакшты Іўеў.

ШАША' *ж.* 1. Тое ж, што і ш а с а́. *Ішоў праз шашу. Тангі на шашэ паявіліся.* Дарава Лях. *Шаша сліская.* Навасёлкі Свісл. *Я аткідала да шашэ снех.* Парэчча Гродз. *На шашу пашлі.* Альхоўцы Лях. *Ат шашэ два вярстэ.* Кіралі Шчуч. *Там была шаша, з Вільні на Майшаголу.* Грыкені Вільн. *Шаша дыміць ат пылу.* Навасёлкі Свісл. *Гоняць мужыкоў паліцаі на шашу рабіць.* Слабада Мін. 2. у знач. *прысл. шашою.* Па шашы. *Ішлі шашою.* Альхоўцы Лях. *Шашою аўтобус ходзіць.* Мсцібава Ваўк.

ША'ШАЛЬ, ША'ШЭЛЬ *м. заал.* Шашаль. *Шашаль дзерава можа з'есць, як някрэпкае.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзяцел шукае, дзе шашаль, мягкае месца.* Валеўка Навагр. *Шашаль точыць дзераво.* Альхоўцы Лях. *Шашаль быў стачыў шалёўку, дык цамэнтам замазалі.* Альхоўка Навагр. *Шашаль убіўся ў хату, паточыў усю хату, як пачне тачыць, усё паточыць.* Вецярэвічы Пух. *Шашаль сцену з'ядая, чыргіча.* Кіралі Шчуч. *Шашэль — папросту скажуць.* Чуркі Ашм.

ША'ШКА *ж.* Шашка. *Шашка вострая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАШКІ' *мн. кулін.* Вараная бульба, якую запякалі потым у печы да ўтварэння скарынкі. *Шашкі рабілі так: абіралі бульбу, зварыш, тады перчыку, солі і вады, разбаўтаць на патэльню бульбу, заліеш гэтым — і ў печ, яна апсохніць, гэта была ежа, постам рабілі шашкі.* Кураполле Паст.

ШАШО'К *м.* 1. *заал.* Шашок. *Шашок паходжы пад ката, но меньшы, хвост харошы. Шашок адно толькі грэбень і падбародавіч з'ядае, голаву адгрызе і мозг высмакчэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Шашок курэй ловіць.* Лісна В.-Дзв. *Шашок пісклят паеў, двоечка асталася.* Саланое Віл. *Шашок курэй душа.* Завельцы Астр. *Шашок смярдзючы.* Мярэцкія Глыб. *Шашок — у яго вяршкі рудзенькія, а пад нізом жоўценька, такая ў яго скурачка.* Кураполле Паст. *Шашок курэй бярэць, на ката пахош, толькі ніжэй і дліней, у хмызя плодзіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шашок перадушыў усіх курэй.* Бакшты Іўеў. *Шашок курэй есць.* Чычалі Швянч., Бенякані Воран. *Шашок дусіць курэй.* Ракаўскія Швянч. *Шашок куры ловіць.* Каўняны Гродз. *Шашок пападая ў капкан, як пасткі ставяць.* Кіралі Шчуч. *Шашок курэй дзярэ.* Гемзы Шальч. *Шашок курчат паеў.* Пераброддзе Міёр. *Шашкі плодзяцца ў ламе.* Вузла Мядз.; *парайн.* літ.

*šẽškas* 'тж'. 2. *перан. лаянк.* Пра неахайнага чалавека. *Шашок ты смярдзючы!* Беразіно Докш.

ШАШЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Шамацець, шалясцець. *Высах* [млечнік], *аш шашчыць.* Саланое Віл. *Шашчыць сена, ой, сухоя сена.* Курapoлле Паст. *Шашчыць ліст, як ідзеш увосінь па лісту.* Валынцы В.-Дзв. *Нічога, маё сена шашчыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Лісты самасейкі, як высахнуць, шашчаць.* Гемзы Шальч. *Лісця высахла, аш шашчыць.* Вузла Мядз. 2. Трашчаць, храбусцець. *Шашчыць хлеп каля зубоў з мякіны.* Гемзы Шальч. *Бывала, дзе пры ламох, так толькі шашчыць, а цяпер не так лазілі яшчары.* Завельцы Астр. 3. Шумець. *Шашчыць нешта, мусіць, дош ідзець.* Вузла Мядз.

ШАШЭ'ЙКА *ж. памянш.* да ш а ш á 1. *Ішлі да шашэйкі.* Лісна В.-Дзв.

ША'ШЭЛЬ *гл.* ША'ШАЛЬ.

ШАШЭ'НЬ I *м.* Тое ж, што і ш а ш к í. *Кацапы шашні з бульбы пякуць.* Азяраны Раг.

ШАШЭ'НЬ II *м.* Тое ж, што і ш á ш а л ь. *Шашэнь есь дзераво.* Кузьмічы Люб.

ШВА'ГЕР, ШВА'ҐЕР *м.* Швагер. *Швагер аддоў даццэ хату.* Пацаўшчына Дзятл. *Быў швагерам маім колісь.* Новіны Нясв. *Швагер часэ купіў.* Кіралі Шчуч. *Звала шваграм. Я пасмяялася.* Сакаўшчына Валож. *Шваґер — мой муш для майго брата.* Солы Смарг. *Шваґер расказваў, як ён у бежанцах быў.* Збляны Лід. *Ад шваґра ўцёк рой.* Шкаўна Лудз. *Брат жонкі — шваґер мне прыходзіцца.* Грыкені Вільн. ∇ *Вантроба — ні мяса, шваґер — ні радня.* Лапічы Асіп. *Шваґер — не фамілія, вантробы — не мяса.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* ням. *Schwager* 'тж'.

ШВАГЕ'РКА, ШВАГЕ'РКА *ж.* Швагерка. *Усё ш швагерка выйшла, са мной пагаварыла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Патом сваю швагерку пажаніў з ім.* Дарава Лях. *Сястра мая — майго мужа — швагерка.* Солы Смарг. *Шваґерка — жонкі сястра.* Гемзы Шальч.; *гл.* ш в á г е р.

ШВА'ГРА, ШВА'ГРА' *м.* Тое ж, што і ш в á г е р. *Яго швагра ў Валынцы жывець.* Валынцы В.-Дзв. *Швагра прыехаў.* Лісна В.-Дзв. *Мой швагра аддаваў дачку замуж.* Буды В.-Дзв. *Шваґра мне дапамагаў.* Мярэцкія Глыб. *Мой шваґрá піў ёдавую траву, але позна была, у горле ўсё была занятая ракам.* Скрыпчына Лудз.

ШВА'ЙКА, ШВА'ЙГА *ж.* 1. Шыла, якім колюць свіней. *Швайка е, каторай каляць свіня.* Альхоўцы Лях. *Свіня колюць швайкаю.* Міратычы Карэл. *Ест швайка, што свіння калоць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Перакуляць кабана — і швайкай.* Чуркі Ашм. *Швайкай колюць свіней.* Навасёлкі Лід. *Бяры швайку і ідзі калі паршука.* Кіралі Шчуч. *Швайка калоць свіню.* Лука Нараўк. *Швайґай каля пярэдняй лапаткі ў сэрца з левага боку — і гатова свіння.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Вялікая іголка, шаршат-

ка. *Швайкаю калісьці шылі хамуты, швайка — такое шыло, а дзірачка, як у голцы.* Альхоўцы Лях. *Дай швайку мяхі латаць, цыраваць скарпэткі.* Малькуны Ігн. 3. Прылада для пляцення лапцей. *Швайку рабілі з крэпкага дзерава, з бэза, клёна, яна гладзенькая, каб за яе не чапілася.* Гемзы Шальч. 4. *перан.* Шрам, рубец, след ад рога бадлівай каровы. *Швайкі выгналі карова карові.* Навасёлкі Лід.

ШВАНДРЫНА′ *ж. бат.* Балотная ядавітая трава. *Швандрыну жывёліна як з'есць, то здохніц.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *švéndras* 'трыснёг'.

ШВА′НКА *ж.* Тое ж, што і ш в а́ й к а 4. *Шванка — ат рога, вышванкавала карова карову, на баку тры шванкі.* Жылі Іўеў. *Шванку выгнала на баку карова рогам.* Старыя Смільгіні Воран. *Шванку выгнала карова, ці шнар.* Белы Бераг Іўеў.

ШВА′РА *ж. плыт.* Прывязь, скручаная з трох вітак для змацавання плытоў. *Швара — з трох гардзялей для звяскі лавак, плыта.* Бакшты Іўеў.; *гл.* ш в а р ц у́ г а, ш в а́ р ц ы.

ШВАРАНО′К, ШВАРНО′К *м. памянш.* Шпянёк. *На сподні камень шваранок, а ў парпліцу ў верхнім устаўляецца.* Чуркі Ашм. *На шварнок надзяваецца парпліца.* Пераброддзе Міёр.

ШВА′РГАЦЬ *незак.* Кідаць, піхаць. *Узяўся шварґаць, я ні шварґала.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШВА′РКА *ж.* 1. Адзежына (паўпаліто) з даматканага сукна да кален на ваце ці на кажуху; паддзёўка. *Тканыя шваркі насілі.* Валынцы В.-Дзв. *Шварка — з саматканага сукна.* Опса Брасл. *Яна ў шварку ўкруцілася і вышла.* Пераброддзе Міёр. *Шварка — на кажуху, кажух, абвалочаны сукном.* Кураполле Паст. *Шварку адзеў.* Лоск Валож. *Шварка саматканая на ваці.* Валынцы В.-Дзв. *Шварка — поўпальто с саматканага сукна на кудзелі ці ваці, надзень маю шварку, а то замерзніш.* Лісна В.-Дзв. *Шварка на ваці бывая і на кажуху. Шваркі мушчынскія — адзежа з адваротамі — курткі да калена, як новыя шваркі, то можна было і ў касцёл ісці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шваркі на пакулях; і жанчыны і мужчыны насілі да пажылых лет.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *švar̃kas* 'пінжак', дыял. *švarkà* 'доўгае паліто'. 2. Безрукаўка. *Шварка — на ваце, без рукавоў.* Чычалі Швянч.

ШВАРЦАВА′ЦЬ *незак. плыт.* Тармазіць. *Шварцуй плыт!* Вузла Мядз.; *параўн.* руск. *швартовать* 'швартаваць'.

ШВАРЦО′ЎКА *ж. плыт.* Вяроўка, прывязь, скручаная з вітак, пры дапамозе якой звязвалі бярвенні і тармазілі плыты. *Шварцоўка — скручаныя дупцы ў такую доўгую вяроўку. Шварцоўкай вязалі бярвенні, і шварцоўка прывязвалася да кала, якім тармазілі плыт.* Вузла Мядз. *Шварцоўка — скручаныя дупцы з бярэзіны, шварцоўкай лаўкі счапляюцца.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* ш в а р ц у́ г а.

ШВАРЦУ′ГА *ж. плыт.* Тое ж, што і ш в а р ц о́ ў к а. *Шварцоўка — дліннны кручаны гуж з дупцоў, з руку таўшчыні, мет-*

*раў сем даўжыні і да дзесяці метраў. Шварцугай вязалі і тармазілі ганок.* Вузла Мядз.

ШВА′РЦЫ *мн.* Скручаныя дупцы, віткі. *Шварцы — длінныя кручаныя дупцы.* Вузла Мядз.; *парайн.* руск. *швартов* 'швартоў'.

ШВАРЭ′НІК *м.* Дэталь у віндзе, шпень. *Шварэнікі е ў лядзе грузіць дзерава на вос.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* ш в о́ р а н.

ШВА′ХА *ж.* Швачка, краўчыха. *Занясі сукенку да швахі, хай пашые к святу.* Мачаск Бярэз.

ШВА′ЧКА I *ж.* Тое ж, што і ш в а́ х а. *Я твая швачка толькі. Такая швачка, сапсуеш.* Солы Смарг. *Швачкай яна, шые адзенне.* Грыкені Вільн. *У швачкі ён астаўся.* Груздава Паст. *Швачкі, як шыяць, яны і фастрыгуюць.* Завельцы Астр.

ШВА′ЧКА II *ж. абрад.* Удзельніца вяселля з боку маладога. *Сколькі ў маладога швачак, столькі ў маладой дружак.* Талейкі Швянч. *На васэлі ў маладога швачкі, у маладой — баяркі.* Ракаўскія Швянч.

ШВА′Я *ж.* Паля, апорны слуп. *Шваі былі ў мосце.* Рыбчына Віл.

ШВЕД, ШВЭД *зб. м.* Шведы. *У Курганне поле і курганы, ляжыць швед, што ваяваў.* Ухвала Круп. *Швэд выбіў многа народу.* Барок Стаўб.

ШВЕ′ЙКА *ж.* Тое ж, што і ш в а́ х а. *Вучыцца дачка ўжо другі год на швейку.* Мачаск Бярэз.

ШВЕ′ЙНАЯ *ж.* Майстэрня па пашыву адзення. *Яна ў Навагрудку ў швейнай робіць.* Валеўка Навагр.

ШВЕ′РКАЦЬ *незак. экспр.* Тое ж, што і ш а б а л д з і́ ц ь. *Чаго ты шверкаяш абы-што?* Пасека Ст.-Дар.

ШВЕРШНЯ′ *ж.* Журавель у студні. Беняконі Воран.; *парайн.* літ. *svirtìs* 'тж'.

ШВІ′ДРА *ж.* Свіцер, джэмпер. *Другую швідру опрані.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* руск. *свитер* 'тж'.

ШВО *н.* 1. Шво. *Шво распаўзлося.* Рыбчына Віл. *Шво нада апкінуць.* Мярэцкія Глыб. *Там, дзе сшыты дзве полкі, завецца шво.* Альхоўка Навагр. *Шво вуская, трэба апкідаць, шво распаролася.* Кіралі Шчуч. ◇ *Адным швом* — напрасткі, па адной лініі імчацца куды-н. *Конь, як укусіла пчала, дык адным швом аш у рэку і там упаў у воду.* Кіралі Шчуч. 2. Шыццё, пашыў адзення. *Шво дорага стоіць.* Пацаўшчына Дзятл.

ШВО′РАН, ШВО′РАНЬ, ШВО′РЭНЬ, ШВО′РЯН *м.* Шворан. *Шворан праз вузавалак праходзіць у вось.* Альхоўцы Лях. *На подушку накладаўся вузавалак і ўкладваўся ў сярэдзіну шворан, што перадок на этым шворні варочаўся.* Пацаўшына Дзятл. *Шворан у цялегі.* Навікі Лудз. *Шворан драўляны быў тэж.* Грыкені Вільн. *Шворан ёсць у калёсах.* Глівін Барыс. *Для шварна нада дырку прасверліць.* Пасіене Лудз. *Шворан праходзіць на подгур і ўвязваецца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дышаль накладаюць на перадок і закладаюць шворань, кап дышаль*

*трымаўся.* Збляны Лід. *Шворань — жалязяка пeратыкаецца, кап паварот быў каню.* Мыто Лід. *Шворань з дуба выцёсавалі.* Азяраны Раг. *Касяк, загвастка і шворань.* Кіралі Шчуч. *На шварне цягнулі.* Старое Сяло Зэльв. *Біз шворня нікуды не заедзіш.* Опса Брасл. *Пат сподам шворань паткладаецца* [у жорнах]. Старыя Смільгіні Воран. *Шворані былі дзеравяныя, пакуль з'ездзіш у Рыгу, то трэба мяшкі два шваранёў.* Швэды Вільн. *У верхні камень укрэплены шворэнь* [у жорнах] *і ён дзержыцца, і падліваецца масла.* Валеўка Навагр. *Шворян сагнуўся.* Янова Рас.

ШВО'РКА *ж.* Ланцуг. *Вяжы сабаку на шворку, а то ён кідаецца.* Навасёлкі Свісл.

ШВО'РЭНЬ, ШВО'РЯН *гл.* ШВО'РАН

ШВУ'РНУЦЬ *незак.* Ударыць, кінуць. *Мяне швурнула галавой аб дарогу, добра, не засадзіла галаву, памазала спіртам — і нічога.* Мішневічы Шум.

ШВЫ'ДКІ *прым.* 1. Лоўкі, праворны, бойкі, разбітны. *Бяруць швыдку бабу за сваньку.* Валеўка Навагр. 2. Шустры. *Карова Пчолка — рэкардзістка і швыдкая да пашы.* Валеўка Навагр. *Швытка, шустра карова.* Міратычы Карэл. 3. Быстры (пра цячэнне). *Верацея гэдака швытка.* Навасёлкі Свісл.

ШВЫ'РГА'ЦЬ *незак. экспр.* Кідаць. *Швыргаіць камнямі.* Саланое Віл.

ШВЫ'РНУЦЬ *зак.* Моцна піхнуць, таўхануць. *Яна яго як швырнула, ён лёх і заснуў на дзіване.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШВЭД *гл.* ШВЕД

ШВЭ'ДА *ж.* Тое ж, што і ш в і д р а. *Швэду купіў.* Бакшты Іўеў.

ШВЭ'ДАР, ШВЭ'ДЭР *м.* Тое ж, што і ш в і д р а. *На ей швэдар целяпаецца.* Альхоўцы Лях. *Швэдар вяжуць шпрыхамі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Швэдароў колькі купляя.* Парэчча Гродз. *Матка выходзіла, швэдар ухваціла.* Саланое Віл. *Швэдар купіла, а насіць не хоча.* Паляцкішкі Воран. *Швэдар з фабрычных ніцей звязала.* Старыя Смільгіні Воран. *Тры швэдры за зіму звязала.* Пацаўшчына Дзятл. *Купілі швэдар.* Дзмітравічы Кам.

ШВЭ'ДАРКО *н. памянш.* да ш в э́ д а р. *А дзеўчуку швэдарко, портачкі прывезла.* Галубы Маст.

ШВЭ'ДЫ I *мн.* Тое ж, што і ш а́ ш а л ь. *Швэды сточылі дэрэво.* Курашэва Чыж.

ШВЭ'ДЫ II *мн.* Скваркі. *Усе яйцэ поедут, а швэды оставят.* Азарычы Пін.

ШВЭ'ЙКА *ж. заал.* Страказа. *Швэйка — багата лятая, на адзін бок дзве крыльцы, і на другі чатыры крыльцы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШВЭЛЬ *зб. ж.* Кавалкі тынку, адыходы ад драўніны пры апрацоўцы, смецце. *Усяляка швэль валяецца пад нагамі, пакідалі швэлі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШВЭ'ЛЬКА *ж.* Шчылінка. *У чатырнаццатом гаду і лучын-*

*каю асвяшчаліся, дзе швэлька ў печы, уткнуць, дзе раскалоўшыся.* Пасіене Лудз.

ШВЭ'ЛЯ *ж. буд.* Бэлька, якая кладзецца ў першы вянок зруба. *Швэлі — першыя бэлькі ў ізрубя хаты.* Дэгшні Шальч. *Швэлі кладуцца ўнізу на камення, закладаюць застаранкі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* ням. *Schwelle* 'шпала'.

ШВЭ'НДАЦЦА *незак. экспр.* Хадзіць без мэты. *Швэндаешся ўсё, а работа есць ці агарод які апалоць, ці карова падаіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Швэндаіцца туды-сюды.* Саланое Віл.

ШВЭ'РГАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш а б а л д з і ц ь. *Швэргая і швэргая, цябе ніхто не слухая.* Азяраны Раг.

ШВЭ'РЫЦЬ *незак. экспр.* Шукаць. *Прышоў і давай швэрыць што.* Мсцібава Ваўк.

ШВЭ'ТАР *м.* Тое ж, што і ш в і д р а. *Швэтры рабіла.* Жылі Іўеў.

ШЕ'ХЛЯ, ШІ'ХЛЯ, ШО'ХЛЯ, ШУ'ХЛЯ, ШЫ'ХЛЯ *ж.* Малярыя. *Шехля замучыла.* Азарычы Пін. *Шіхля трасе.* Радастаў Драг. *Шохля трасла.* Лука Нараўк. *На шухлю захвореў.* Відзібар Стол. *Шыхля — то хвороба.* Сіманавічы Драг.

ШКА'БА *ж.* 1. Рабро. *Шкабы тарчаць у каня.* Малькуны Ігн. 2. *перан.* Худая жывёліна. ∇ *Карова худая, як шкаба. Цянецца, як шкаба.* Малькуны Ігн.

ШКАДА' 1. у знач. *безас. вык.* Шкада. *Шкада цукру было.* Мсцібава Ваўк. *Добры быў чалавек, шкада.* Альхоўцы Лях. *Як не шкада, згубіла недзе.* Азяраны Раг. 2. *пабоч.* Шкада. *Шкада, што не прышоў.* Навасёлкі Свісл.

ШКАДАВА'ЦЦА у знач. *безас. вык.* Шкадаваць, было шкода. *Шкадавалася, што не паехаў.* Жылі Іўеў.

ШКАДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Скупіцца, шкадаваць чаго. *Шкадуя хлеба старой даць.* Навасёлкі Свісл. *Есці шкадуя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ты мне вады шкадуеш.* Ялова Пруж. *Шкадуя дзецям даць.* Саланое Віл. *Скупы шкадуя, ён не пазычыць.* Альхоўцы Лях. *Я грошы не шкадавала.* Парэчча Гродз. *Я не шкадавала, а ён як даць, то ён шкадуя. Дзяцька гадаваў — солі, хлеба шкадаваў.* Гемзы Шальч. 2. Баяцца, асцерагацца. *Шкадую здароўя марнаваць — ня п'ю.* Солы Смарг. *Бох шкадаваў мяне, жыву.* Гальшаны Ашм. 3. Шкадаваць, спачуваць, апякаць. *Старых ні любяць, ні шкадуюць.* Альхоўка Навагр. *Шкадуя мяне.* Саланое Віл. *Я шкадую яе.* Вецярэвічы Пух. *Я і дзісь шкадую Клеманса.* Гемзы Шальч. *Шкадаваў ён гэту нявестку.* Кузьмічы Люб. *Мужык жонку шкадуя.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Любіць. *Шкадую дзіця.* Альхоўка Навагр. *Прытульвая да сябе і шкадуя.* Міратычы Карэл. *Шкадую дзяцей.* Паляцкішкі Воран. *Дужа шкадавала іх* [дзяцей]. Саланое Віл. 5. Адчуваць страту чаго-н. *Не шкадую, што не паехала да яго.* Паляцкішкі Воран.

ШКАДАЎЛІ'ВЫ I *прым.* Шкадлівы, які робіць шкоду. *Такі шкадаўлівы, ні маці, ні бацька нічога не могуць з ім зрабіць.* Міратычы Карэл.

ШКАДАЎЛІ'ВЫ II *прым.* Спачувальны. *Шкадаўлівы, усіх шкода яму.* Міратычы Карэл.

ШКАДЛІ'ВЫ *прым.* 1. Тое ж, што і ш к а д а ў л і в ы I. *Шкадлівыя дзеці такія.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Збродлівы. *Кот шкадлівы, памаўзлівы.* Мярэцкія Глыб. *Такая шкадлівая кошка — сыра, масла паспрабуе.* Паляцкішкі Воран. *Кот наш ні шкадлівы.* Пасека Ст.-Дар. *Шкадлівая карова, толькі глядзіць, каб у шкоду папасць.* Буды В.-Дзв. 3. Зайздросны, нядобры. *Некалі казалі: «У каго вочы шкадлівыя, як глянуў — жывёла мусіць адхварэць».* Ёдупка Шальч. *Шкадлівыя вочы.* Вострава Маст.

ШКАДНЕ'Й *прысл.* Больш шкода, намнога. *Ты, мамачка, не абіжайся, мне Піліпа шкадней, як цябе.* Курaполле Паст.

ШКАП *гл.* ШКАФ

ШКАПЕ'Ц *м.* Кастрыраваны, пакладаны баран. *Шкапец — вылехчаны баран.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *skãpas* 'тж'.

ШКАПЛЕ'РЫ *мн.* 1. *царк.* Ладанка. *Ружанец на шыі насілі, шкаплеры былі, іконачка маленькая, палатняная, атпечатаны святой на ланцужку.* Месянцы Брасл. *Шкаплеры — шнурок і хрэст нарысавана, цяпер — медалік металічны.* Навікі Лудз. *Тэй, хто носіць шкаплеры на шнурку, за яе моліцца. Шкаплеры — шарсцяная суконачка, вышыта на ёй нешта, багародзіца.* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. *szkaplerz* 'тж'. 2. *перан.* Перавіццe ў кошыку на месцы перакрыжавання ручкі і вобада. *Душкі загнуў, заплёў шкаплеры, уставіў скапкі і дупцамі пераплітаіць.* Кураполле Паст. *Дзе перакрыжоўваюцца душкі кошыка і пераплятаюць, называлі шкаплеры. Шкаплеры — як пляцеш кош. то заплятаюцца клеткі.* Саланое Віл.

ШКАРА'ТНЫ *прым.* Брыдкі, агідны. *Шкаратная баба, не вадзіся з ёй.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *szkaradny* 'тж'.

ШКА'РАЦЬ *ж. лаянк.* Дрэнь, брыда. *Шкараць ты, паскуда!* Ахрэмаўцы Брасл.

ШКАРЛА'Т *м. мед.* Шкарлятына. *Восім дзецей шкарлатом болелі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШКАРЛАТЫ'НА *ж.* Тое ж, што і ш к а р л á т. *На шкарлатыну сын хварэў.* Кураполле Паст. *Раній, бувало, половына люды рабых було. Всё такійі страшныі хваробы: вудра, шкарлатына, вуспа.* Залессе Кам. *Шкарлатына прыляціць, выкаціць усіх рабят.* Мельнікі Лудз.

ШКАРЛАЦІ'Н *м.* Тое ж, што і ш к а р л á т. *Як малыя былі, шкарлацін быў.* Замошша Брасл.

ШКАРЛУ'ПА *ж.* Вонкавая абалонка клубняў цыбулі. *Чэрві за шкарлупаю, чэрві ў цыбулі.* Вецярэвічы Пух.

ШКАРЛУ'ПІНА *ж.* Тое ж, што і ш а л у п á й к а 1. *Шкарлупіна ад яйца.* Навасёлкі Свісл.

ШКАРЛУ'ПКА *ж.* Тое ж, што і ш а л у п á й к а 2. *Шкарлупку з бульбы здзерыш, а там — крахмал.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ШКАРЛУ′П'Е *зб. н.* Луска. *Шкарлуп'я ат слону.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШКАРЛУ′ШКІ *мн.* Тое ж, што і шалупáйка 2. *Кагда чысціш бульбу, у нас прямёханька называюць шкарлушкі.* Мішневічы Шум.

ШКАРПЭ′ТКІ, ШКАРПЕ′ТКІ, ШКЯРПЭ′ТКІ *мн.* Шкарпэткі. *Новы шкарпэткі купіла Лёніку.* Солы Смарг. *Кладзі шкарпэткі.* Мсцібава Ваўк. *Шкарпэткі однэ і другі.* Дзмітравічы Кам. *Шкарпэткі перш, цяпер толькі наскі.* Завельцы Астр. *Дзе ты паклоў шкарпеткі?* Пацаўшчына Дзятл. *Шкарпеткі памыла.* Ялова Пруж. *Шкярпэткі надзень, халадно.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *skarpetka* 'тж'.

ШКАРПЭ′ТЫ *мн.* Тое ж, што і шкарпэ́ткі. *Шкарпэты дзярэ.* Вострава Маст.

ШКАФ, ШКАП *м.* Тое ж, што і шафа I. *Шкаф новы купіў.* Рыбчына Віл. *У шкаповэ простынэ.* Дзмітравічы Кам.

ШКА′ФЧЫК *м. памянш.* Тое ж, што і ша́па 2. *Шкафчык памыла.* Чычалі Швянч.

ШКВА′РАЧКА *ж. памянш.* да шква́рка. *Матка шкварачку ў капусту раздавіць.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ШКВА′РКА *ж.* Скварка. *Шкваркі есць, спяку яёк.* Пацаўшчына Дзятл.

ШКВА′РЫЦЦА *незак. безас.* Скварыцца. *Шкварыцца сала.* Навікі Лудз.

ШКЕ′ЛЛЯ *зб. н.* Кавалкі бітага шкла. *Шкелля блішчыць на дарозе.* Азяраны Раг.

ШКІЛО′НДЗЯ, ШКІЛЕ′НДЗЯ, ШКІЛЁ′НДЗЯ, ШКІЛЮ′НДЗЯ, ШКІЛЁНДА *ж.* 1. Тоўстая каўбаса, зробленая з вантробаў, крыві, мяса і іншых дадаткаў. *Шкілондзю як любіш, то дам табе ў дарогу.* Галубы Маст. *У кроў мяшаюць крупы, картошку цёртую, і налівалі грубыя кішкі, і звалі шкілёндзя.* Мсцібава Ваўк. *Шкілёндзя — тоўстая каўбаса, на лета пакідалі: на сенаваня і на пасвянцэня. Думала, што ты шкілюндзю нясеш.* Бакшты Іўеў. *Шкілёнда — некалі так казалі на каўбасу.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *skilándis* 'каўбаса з мяса'. 2. *м.* і *ж. перан. зневаж.* Пра тоўстага непаваротлівага чалавека. *Вот цягнецца шкілёнда, на яе другога слова няма. Як гэты шкілёнда ідзе, як спіць.* Вецярэвічы Пух.

ШКІ′РЯ *выкл.* Выгук для адгону авечак. *Шкіря!— так авечак адганяюць.* Янова Рас.

ШКЛІ′НА *ж.* Кавалак шкла. *Шкліна побіта, на шкліну наступіў.* Азарычы Пін.

ШКЛІ′ЦЬ *незак.* Шкліць. *Сталяр і габлюя ён, і шкліць.* Солы Смарг. *Шкляныя дзверы шкліць буду.* Мярэцкія Глыб. *Буду вокны шкліць.* Рыбчына Віл.

ШКЛО′ *н.* 1. Шкло (матэрыял). *Шкло ўстаўляяцца ў рамы.* Збляны Лід. *Шкло пабіў.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.*

польск. *szkło* 'тж'. 2. Камянок да лямпы. *Купі шкло да лямпы.* Паляцкішкі Воран.

ШКЛУ'НКІ *гл.* ШЛУ'НКІ

ШКЛУНДЗЮ'К *м.* 1. Свіны трыбушок, начынены мясам. *Шклундзюк смачны.* Кураполле Паст. 2. *перан. зневаж.* Хто нязграбны, непаваротлівы. ∇ *Да работы ані цюк, а да танцаў, як шклундзюк.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *skilandžiùkas* 'тж'; *гл.* к л у н д з ю́ к.

ШКЛЫ'. У выразе: ◇ *Выткаць у шклы* — выткаць у клеткі. *Посцілку выткалі ў шклы.* Старыя Смільгіні Воран.

ШКЛЮД, ШКЛЮТ *м.* 1. *цясл.* Склют. *Шклюд быў, броўны часалі.* Месянцы Брасл. *Шклюд — на хаты дзерава шклюдавалі.* Пасека Ст.-Дар. *Мала хто відзіўшы шклюта.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шклюд — дзе лес цесалі, шырокі, а тут ад абуха — тонкі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Шклют — вялізна сакера.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *перан.* Пра чалавека, які не мае добрай паставы, ходзіць сагнуўшыся. *Ходзіць, як шклют, скорчыўшыся.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *sklìutas* 'тж'.

ШКЛЮДАВА'ЦЬ *незак.* Склюдаваць. *На хаты дзерава шклюдавалі.* Пасека Ст.-Дар. *Шклюдуй дзераво.* Дзяніскавічы Ганц.

ШКЛЯ'НКА *ж.* Шклянка. *Падай сподак і шклянку.* Кіралі Шчуч. *Шклянкаю націскалі на цеста.* Васілевічы Гродз. *Дай шклянку, хачу піць.* Збляны Лід. ∇ *У яго печ, што шклянка — ні дыму, нічога, а ў нас во там абдыміць, там абдыміць.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *szklanka* 'тж'.

ШКЛЯ'НКІ *мн.* Кавалкі пабітай шкляной пасуды. *Шклянкі валяюцца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШКЛЯ'НЫ *прым.* Зроблены са шкла. *Шкляны посуд і не давезла.* Рыбчына Віл.

ШКЛЯРО'З, ШКЛЯРО'С *м.*, ШКЛЯРО'ЗА *ж.* Склероз. *У мяне шкляроз галаўных сасудаў.* Дарава Лях. *Мне прызналі шклярос сэрца.* Парэчча Гродз. *Ей шкляроза пала на мазгі.* Гемзы Шальч. *Маю шклярозу, галава баліць.* Дэгшні Шальч.

ШКО'ДА I *ж.* Патрава. *Лятом каровы — у шкоду, там лубен.* Новіны Нясв. *Каровы зрабілі шкоду.* Альхоўцы Лях. *Твая карова ні звыкшы ў шкоду хадзіць.* Альхоўка Навагр. *Каровы ў шкоду ляцяць, зямля аж варушыцца.* Пацаўшчына Дзятл. *Карова да шкоды ляціць.* Кіралі Шчуч. *Прывыкнуць каровы хадзіць у шкоду, дзе жыта.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *szkoda* 'тж'.

ШКО'ДА II у знач. *безас. вык.* 1. Тое ж, што і ш к а д а́ 1. *Шкода яго мне.* Грыкені Вільн. *Шкода яго.* Бенiяконі Воран. *Шкода яго, небарака памёр.* Вецярэвічы Пух. *Мне шкода дзіцяці.* Паляцкішкі Воран. *Мамы было шкода.* Кураполле Паст. *Шкода, такі маладый — і памёр.* Галубы Маст. 2. *пабоч.* Тое ж, што і ш к а д а́ 2. *Шкода, што яго тут не было.* Кіралі Шчуч.

ШКО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Шкодзіць здароўю. *Мне смятана не*

*шкодзіць*. Каўняны Гродз. *Нічога мне не шкодзіла*. Парэчча Гродз. 2. Наносіць урон. *Казалі, што залом шкодзіў шмат каму*. Чуркі Ашм. *Пажар шкодзіць*. Лайпушкі Ігн.

ШКО'ДЛІВЫ *прым*. 1. Тое ж, што і шкадаўлівы 1. *Хлопцы былі шкодлівыя, усюды ўлезуць*. Бакшты Іўеў. *Ох, і шкодлівы гэты чалавек, усё спаціху робіць злое*. Завельцы Астр. 2. Тое ж, што і шкадлівы 2. *Шкодлівы кот*. Завельцы Астр. *Шкодлівы кот па збанках лазіць; кап палізаць міске*. Кіралі Шчуч. *Такая шкодлівая кошка — сыра, масла папробуя*. Парэчча Гродз. *Але і шкодлівая карова, нідзе ёй месца няма*. Пацаўшчына Дзятл. *Шкодліва карова, любіць у шкоду хадзіць, у шкоду усё бяжыць*. Альхоўцы Лях.; *параўн*. польск. *szkodliwy* 'тж'. 3. Тое ж, што і шкадлівы 3. *Яго вочы шкодлівыя, як гляня, то, кажа, зрок можа ўрачы, вочы мая гэдакія шкодлівыя*. Міратычы Карэл.

ШКО'ДНІЦА *ж*. Хто робіць шкоду. *Шкодніца ў шкоду залезла* [карова]. Пасіене Лудз.

ШКО'ДНЫ *прым*. Тое ж, што і шкадлівы 2. *Шкодна карова: занадзілася ў шкоду*. Лука Нараўк. *Шкодны кот*. Малькуны Ігн. *Шкодная карова*. Завельцы Астр.

ШКО'ЛА *ж*. Школа. *Да школы хадзілі*. Васілевічы Гродз.

ШКО'ЛЬНІК *м*. Школьнік. *Школьнікі віку абдзелываюць*. Валеўка Навагр.

ШКО'ПОК *м*. Даёнка. *У шкопок даілі корой*. Калясное Міхал.

ШКО'РНЫ *мн*. Апоркі, хадакі. *Шкорны надзеты былі ў бацькі, а дачка трэбавала купіць ей на плацця*. Кураполле Паст.

ШКРА'БНУЦЬ *зак*. Абдзерці, параніць. *Шкрабнула руку аб нешта*. Азяраны Раг.

ШКРО'ПЯЛЬ *м*. *мед*. Дыятэз. *Шкропяль — вочы баляць, ат шкроплю салоткім маслам мазаць*. Саланое Віл.

ШКРО'ТКА *ж*. Драўляны кружок, які служыць для замацавання шпулькі на шпяні рагулькі. *Шкротка — кружок, шпулю закручываць, прышпулек*. Кураполле Паст.

ШКРОФ *м*. Тое ж, што і шкро́пяль. *Калючы дзет, дзяткі п'юць ат шкрофу*. Ахрэмаўцы Брасл.

ШКРО'ФІЛЬ *м*. Тое ж, што і шкро́пяль. *Шкрофіль у вачах*. Саланое Віл.

ШКРУ'БАЦЬ *незак*. *экспр*. Хадзіць без мэты, бадзяцца. *Дзе ты шкрубаеш, дзе павалачэсся?* Кіралі Шчуч.

ШКРУ'МБАЦЦА *незак*. Ісці, шоргаючы абуткам. *У клумбах шкрумбайся*. Кураполле Паст.; *параўн*. літ. *skrumplinti* 'паволі, няўклюдна хадзіць'.

ШКРУМ-ШКРУМ *выкл*. у знач. *вык*. Шкраб-шкраб. *Шкрум-шкрум — зашкрумгайся нехта*. Кураполле Паст.

ШКРЫФ *м*. Тое ж, што і шкро́пяль. *Шкрыф — цячэ з вушэй і ў ліцо разкідаецца, струпэ*. Вострава Маст.

ШКРЫ'ФУЛ *м*. Тое ж, што і шкро́пяль. *Шкрыфул на вочкі быў паўшы*. Гемзы Шальч.

ШКУЛІНА′ *ж.* Ігліца з хвоі. *Грабём на потсціл з хвоі — кастрыца, ці шкуліна.* Малышы Лід.; *гл.* с к у й н а́.

ШКУ′РА *ж.* 1. Шкура. *Кушнер выробляў шкуру, і шылі кажух.* Дэгшні Шальч. 2. Скура. *Пат шкураю нарыў.* Міратычы Карэл. ◊ *Шкура да косці* — вельмі худы. *Так збалеў, што адны шкура ды косці засталіся.* Міратычы Карэл. *Выходзіць са шкур* — моцна крычаць, плакаць. *Дзіця выходзіць са шкур, есці хацела.* Валеўка Навагр.

ШКУРАЛУ′П *м.* Скуралуп. *Шкуралуп коні лупіў.* Вецярэвічы Пух.

ШКУРАНЫ′ *прым.* Скураны, зроблены са скуры. *Шкураны пасачак.* Дзяніскавічы Ганц.

ШКУРА′ПКА *ж.* Пенка. *Шкурапка на гарачым малацэ.* Пасека Ст.-Дар.

ШКУРА′Т, ШКУРЛА′Т *м.* Скурат, скураны акравак. *Некалі шылі башмакі са шкурата, вазьмі шкурат і пашый башмакі.* Альхоўцы Лях.

ШКУ′РКА *ж.* Тое ж, што і ш к у р а́ п к а. *Шкурка ў кіпячоным малацэ.* Вецярэвічы Пух.

ШКУРЛА′ПА *ж.* Скураны акравак. ∇ *Сухая, як шкурлапа.* Старыя Смільгіні Воран.

ШКУ′РНІК *м.* Чалавек, які вырабляе скуры. *Шкурнік шкуры вырабляе.* Альба Нясв.

ШКУ′РНІЧЫХА *ж.* Жанчына, якая вырабляе скуры. *Дачка шкурнічыхі ўжо вышла замуж.* Альба Нясв.

ШКУРНЫ′, ШКУРНІ′ *мн. экспр.* Атопкі. *Дзе мае шкурны?* Груздава Паст. *Шкурні выразалі са старога абутку.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШКУТ *м.* Матуз. *У фартусе шкутэ, і ў полцы — шкутэ.* Вецярэвічы Пух. *Шкуты папрышывала к андараку.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* Фасм. III, 663; Фрэн. 824; літ. *skùtai*//*skutaĩ*// *škùtas* ’абрэзак’.

ШКУТО′К *м. памянш.* Абрэзак. *Як што крояць, то шкуткоў многа астаецца, а хто скажаць абрэзкі.* Вузла Мядз. *Шкуткі асталіся, як сукенку шыла.* Кураполле Паст.

ШКУ′ЦЦЕ, ШКУ′ЦЕ, ШКУ′ЦЦЯ *зб. н.* 1. Рыззё, анучы. *Усякага шкуцця назбірай, усякага рыззя.* Рыбчына Віл. *Накідалі дзеці шкуцця ўсякага.* Кураполле Паст. *Шкуцця — трап’ё, што збіраем і здаём.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Бялізна. *Шкуцця назбіралася многа, мыць нада.* Ухвала Круп. *Трэба ўсё шкуцця перамыць.* Азяраны Раг.; *парайн.* Фрэн. 824; літ. *škùtai* ’абрэзкі, рыззё’.

ШКЯРПЭ′ТКІ *гл.* ШКАРПЭ′ТКІ

ШЛАПАВА′ТЫ *прым.* Пахілы. *Шлапаватая страха гніе, сцёку няма.* Гальшаны Ашм. *Шлапаватая страха, нада было страмчэйшую ставіць.* Мярэцкія Глыб. *Натта шлапаваты дах.* Гемзы Шальч. *Стромкая страха, а гэта — шлапаватая.* Завельцы Астр.

ШЛАПАКЕ′, ШЛЕПАКЕ′ *мн.* Шлёпанцы. *У нас носяць шлапаке.* Вялікія Баяры Шчуч. *Можа, шлапакамі я папэцкаю.* Завельцы Астр. *У шлепакох і пашла на работу.* Гемзы Шальч. *Ходзіць у шлепакох.* Вялікія Баяры Шчуч.

ШЛАПА′ТЫ *прым.* Кудлаты (пра курыцу, у якой на нагах многа пер'я). *Гэта курыца шлапата.* Кіралі Шчуч.

ШЛАПА′ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да ш л а п а́ т ы. *Гэта курыца шлапаценька, перы ў нагах.* Кіралі Шчуч.

ШЛЕ′ЙКІ *мн.* Шлейкі, завязкі. *Да фартухоў тасемкі прышываліся і завязваліся, каторыя шлейкі прышывалі і накрыш, а каторыя так.* Завельцы Астр.

ШЛЕ′НГА *ж.* 1. Планка. *Да сцяны прыбіваюць шленґу, кап на гэтую шленґу можна было лажыць дошкі.* Гемзы Шальч. 2. Бэлька. *Шленґі пад падлогу кладуць.* Гемзы Шальч.

ШЛЁГАЦЬ, ШЛЁГАТІ *незак.* 1. Сцябаць, біць, падганяць пугай. *Каня пугаю шлёгаюць.* Кіралі Шчуч. *Дратовою пугаю добро каня шлёгаць.* Стральцы Гродз. *Кінь шлёгаті.* Азарычы Пін. 2. *перан.* Сварыцца. *Ні шлёгайце, аш непрыятна слухацца.* Мсцібава Ваўк.

ШЛЁГНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *На всэ тело рубэц, де шлёгнула.* Азарычы Пін.

ШЛЁПАЦЦА *незак.* Купацца. *Рабяты шлёпаюцца ў стаўку.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШЛЁП-ШЛЁП *выкл.* у знач. *вык.* Шлёп-шлёп, плюх-плюх. *Рыба шлёп-шлёп, дзе мелка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЛІ′ЗГАЦЦА *незак.* Катацца, слізгацца. *Дзеці дзе-та шлізгаюцца, не вучаць урокі.* Гальшаны Ашм.

ШЛІН *м.* Сівая зямля, глей. *Сівая зямля — шлін.* Малькуны Ігн. *Шлін — такая зямля сіняя, рэдкая.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *šlýnas* 'тж'.

ШЛІ′ПАРЫ *мн.* Бэлькі пэўных памераў, шпалы. *Шклюдам часалі шліпары.* Месянцы Брасл.

ШЛІ′ПРЫ *гл.* ШЛІ′ФРЫ

ШЛІ′ФРЫ, ШЛІ′ПРЫ *мн.* Тое ж, што і ш л і́ п а р ы. *Шліфры — такія кавалкі дрэва пад жалезну дарогу, шпалы.* Кіралі Шчуч. *Шліпры чэшым склютом.* Парэчча Гродз.

ШЛІ′ФЫ *мн.* Трэскі, якія застаюцца пасля абчэсвання бервяна. *Шліфы — як чэшуць бервяно, траске.* Парэчча Гродз.

ШЛІХТ *м.*, ШЛІ′ХТА *ж.* Шліхта, штабель. *Шліхта — склад лесу, метраў дваццаць пяць у шліхты.* Чычалі Швянч. *Адна шліхта дзерава, калодаў, некалі шліхтаў наставяць ад Астраўца да Ягадня.* Бакшты Іўеў.

ШЛО′КШЫНА *ж.* Вузкая палоска (з арэшніку, карэнняў хвоі і інш.), прыгатаваная для пляцення чаго-н. *Гэта шлокшына ад гэтага прутка адстае і дзярэцца. Шлокшыны з карэнняў сасны. Шлокшынаў надзяру з ляшчынавага прутка. З гэтых*

*шлокшынаў кашы плятуць.* Гемзы Шальч. *Шлокшыны з лячыны, надзярэ шлокшын.* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *slúoksna* 'тж'.

ШЛОП *выкл.* у знач. *вык.* Шлёп. *Мне рэткую кашу на талерку шлоп — гэта пюрэ кажыць.* Збляны Лід.

ШЛО'ПАЦЬ *незак.* Падаць з сілай. *Шлопая грат у сцяну.* Вецярэвічы Пух.

ШЛУ'НКА *ж. анат.* Кумпяк. *Баліць шлунка — кунбяк.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *członek* 'тж'.

ШЛУ'НКІ, ШКЛУ'НКІ *мн.* Клункі. *Яны паролісяў нашых шлунках, усё шапкі шукалі.* Вузла Мядз. *Забраў ейныя шлункі і прывёз у Віцебск.* Лісна В.-Дзв. *Яны ўсякія шклункі сабралі.* Саланое Віл.

ШЛЫ'НДАЦІ *незак. экспр.* Бадзяцца без пэўнага занятку. *Чаго ты шлындаеш так доўга?* Парэчча Гродз.

ШЛЫ'ХАЦЬ *незак. экспр.* Ісці. *А я думаю, хто тут шлыхая?* Каменка Шальч.

ШЛЭ'ГАЦЦА *незак.* Тое ж, што і шлы́ндаці. *Будзеце там шлэгацца па Хведзюках.* Дарава Лях. *Шлэгалася па Баранавічах цалы дзень.* Літва Лях.

ШЛЭ'ПАЦЬ *незак.* Хадзіць стукаючы. *Вожык цэлу ноч шлэпая па хаце.* Вецярэвічы Пух.

ШЛЭ'ПНУЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, пляснуць. *Шлэпнула я яго па мордзе, хай маўчыць.* Крэва Смарг.

ШЛЮБ, ШЛЮП *м.* Шлюб. *Кахаюцца, бяруць шлюбы.* Барок Стаўб. *Шлюп бралі ў касцелі.* Снягяны Смарг.

ШЛЮ'БЫ *прым.* Кульгавы. *Ён такі шлюбы.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. дыял. *šliùbas*, літар. *šlùbas* 'тж'.

ШЛЮС *м.* Слізь. *Шлюс на кішках, трэба вычысціць яго нажом.* Кіралі Шчуч.

ШЛЮХ *выкл.* у знач. *вык.* Плюх, плюхнуць, упасці. *Отчыне дзверы, шлюх — і лежыт.* Вялікі Краснік Пруж.

ШЛЮХАНУ'ЦЬ *зак.* Лінуць, плюхнуць. *Шлюханула млека занатта. Вынес памыі і шлюхануў.* Жылі Іўеў.

ШЛЮ'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і шлюхану́ць. *Шлюхні троху вады, то не будзе кіпець.* Мсцібава Ваўк.

ШЛЮХТАВА'ЦЬ *незак.* Чысціць, скрэбці. *Кішкі на коўбасы шлюхтаваць трэбо.* Баброўнікі Гарад.

ШЛЯГ, ШЛЯК *м.* Палоска тканіны іншага колеру або іншага ўзору. *Са шлягом хуста.* Вялікія Баяры Шчуч. *У хустцы шлякі е.* Вецярэвічы Пух.

ШЛЯ'ГА *ж.* Доўбня. *Шляга — дровы калоць, як сакеру загоніш, не дастаніш, то шлягаю як упірыш, і сакера падасца.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* ням. *Schlägel* 'тж'.

ШЛЯКО'ЦКІ *прым.* Шляхецкі. *Яна была шлякоцкай пароды.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЛЯМ *м.* Гразь. *А шлям — гэта грась.* Мыто Лід. *Было натта многа шляму на вуліцы.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* ням. *Schlamm* 'тж'.

ШЛЯМАВА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ш л ю х т а в а́ ц ь. *Шлямаваць — гэта чысціць кішкі, шлямаваць — здзіраць унутраны слой нажом ці дупчыкам.* Навасёлкі Свісл. *Шлямуюць тонкіе кішке.* Баброўнікі Гарад. 2. Знімаць што-н. з паверхні, зразаць, саскрабаць. *Шлямуюць лапатаю ў хаце, як у каго земляны пол.* Засецце Дзятл. *Шлямаваць — купіны зрэзваць, раўняць, ест шуфлі такія.* Навасёлкі Свісл. *Узяў рыдлёўку і шлямуя сені. Шлямаваць — узяць рыдлёўку і гной патчышчаць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яны шуфлямі шлямуюць.* Гемзы Шальч. *Палоў не было, вылажана глінаю, шлямую лапатай.* Мыто Лід.; *парайн.* польск. *szlamować* 'ачышчаць ад гразі, глею, слізі', 'чысціць кішкі'.

ШЛЯМО'ЎКА *ж.* Саскрэбванне. *Ест шуфлі такія, робіцца шлямоўка.* Навасёлкі Свісл.; *гл.* ш л я м а в а́ ц ь 2.

ШЛЯ'ПА *ж.* Шляпа. *У шляпе прыехаў, брылі такія былі даўней.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *шляпа* 'тж'.

ШЛЯПАНІ'НА *ж.* Хлюпа, слота, непагадзь. *Шляпаніна на дварэ.* Баброўнікі Гарад.

ШЛЯ'ПАЎКА *ж.* Тое ж, што і ш л я п а н і́ н а. *Шляпаўка — снех, дошч, вецер.* Завельцы Астр.

ШЛЯПІ'ЦЬ *незак.* Ісці, падаць (пра снег, дождж). *І снег, і дождж сёння шляпіць.* Кураполле Паст.

ШЛЯХАВЫ' *прым.* Шашэйны. *Шляхавая дарога с прысадай.* Вецярэвічы Пух.

ШЛЯХАТНЕ'Й *прысл.* Далікатней. *Кажуць, подбіва, а патшэўка — троха шляхатней.* Парэчча Гродз.

ШЛЯХТА'ВЫ *прым.* Шляхецкі. *Ён такі шляхтавы: абы-што не есць, абы-што не надзене.* Кураполле Паст.

ШЛЯХЭ'ТНЫ *прым.* Далікатны, незвычайнай пароды. *Дзерава шляхэтнае, баіцца марозу.* Мсцібава Ваўк.

ШЛЯ'ЦЦА *незак. экспр.* Хадзіць у пошуках работы, батрачыць. *Нашоўся батрак, шляўся па людзях, я за яго пашла.* Слабада Мін.

ШЛЯЦЬ *ж.* Тое ж, што і ш л я п а н і́ н а. *Шляць ідзець, шляць — снех і дошч.* Пераброддзе Міёр.

ШЛЯЧО'К *м. памянш.* да ш л я г. *У сэрвэце шлячок ест.* Мсцібава Ваўк.

ШЛЯЯ' *ж.* Шляя. *На каня хамут, і шляя, і дуга.* Васілевічы Гродз. *Шлеі, аброць, у колы тады запрагаюць.* Завельцы Астр.

ШМА'ГЛЫ *прым.* 1. Высокі, прыгожы. *Шмаглы быў хлопец.* Старыя Смільгіні Воран. *Шмаглы чалавек — файны.* Парэчча Гродз. 2. Жвавы. *Шмаглыя мурашачкі.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *smagły* 'смуглы, высокі, прыгожы'.

ШМАЛЬЦО'ЎКІ *мн.* Селядцы. *Шмальцоўкі былі смашныя.* Новікі Гродз.

ШМА'ЛЯЦ, ШМАЛЬЦ *м.* Застылы тлушч (гусіны, індычы). *Шмаляц — сала гусей.* Навасёлкі Свісл. *Шмальц гусіны, інды-*

*чы, як сытыя індыкі.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *szmalec,* ням. *Schmalz* 'тж'.

ШМАНА'ЦЬ *незак.* Лічыцца з кім-н., пытацца ў каго-н. *Яго ня буду шманаць. Цяпер я яго не шманаю.* Кураполле Паст.

ШМАР *м.* 1. Сок, вадкасць. *Казёльчык выпушчая шмар, як дзёгаць, і гэтым мне звеў барадаўкі.* Жылі Іўеў. 2. Мазут, каламазь. *Не прытыкайся да шмару, што колы мазаць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* ням. *Schmière* 'тж', польск. *smar* 'замазка'.

ШМАРАВА'ННЕ *н.* Мазь, націранне. Старыя Смільгіні Воран.

ШМАРАВА'ЦЬ, ШМАРОВА'ТЫ *незак.* 1. Намазваць якім-н. тлушчам. *Шмаравоў жырам па хлебе — упэцкаўся, мыць адзежу ўсю трэба цяперачы.* Галубы Маст. 2. Націраць, шмараваць. *Шмаравалі яму кульшу, гаілі. Гусіны жыр — шмаруюць цыцкі карові.* Кіралі Шчуч. *Шмаровала собі рану.* Сіманавічы Драг. 3. Змазваць, падказваць, каб аблягчыць рух. *На шмаравідла больш дзёхцю і шмаруй калёса.* Номікі Бабіц. *Колы трэба шмараваць.* Завельцы Астр.; *парайн.* польск. *smarować* 'мазаць'.

ШМАРАВІ'ДЛА, ШМАРАВІ'ДЛО *н.* Каламазь, мазут. *Шмаравідла — густоя, чорная калёсы мазаць.* Парэчча Гродз. *Шмаравідлам мазалі колы, дай мне шмаравідла чатыры кілі.* Гемзы Шальч. *Купіў банку шмаравідла колы шмараваць.* Кіралі Шчуч. *Маслюкамі смазвалі дзеравяны вос, калі жалезныя — шмаравідла дзелалі.* Лука Нараўк. *Падмазваюць колы шмаравідлам,* Вострава Маст. *Шмаравідло колы мазаць.* Мсцібава Ваўк. *На шмаравідло — і шмаруй.* Номікі Бабіц. *Шмаравідло — як то вазаліна ці тавот.* Калясное Міхал.; *парайн.* польск. *smarowidło* 'мазь'.

ШМАРГАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Парнуць рогам. *Як карову другая шмаргане рогам, кажуць: велькі шнар абагнала рогам; і як сама абдзярэ ў лесі, то кажуць: шнар.* Міратычы Карэл. 2. Хуткім рухам правесці бруском па касе. *Малатком па бабцы адклеплеш косу, бруском шмаргануў — і косіш.* Валеўка Навагр.

ШМА'РГЛЯ, ШНА'РГЛЯ *ж.* і *м. неадабр.* Смаркачка, смаркач; хто непаслухмяны. *Шмаргля — гэта дзяўчынка такая, ня слухая.* Кіралі Шчуч. *Ідзі ты, шнаргля, чаго ты прычапіўся!* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* літ. *snarglẽ, snar̃glius* 'тж'.

ШМАРО'КАЦЬ *незак. экспр.* Стукаць, шумець. *Ні шмарокай ты, дзяцём спаць трэба.* Саланое Віл.

ШМАРШО'К *м. бат.* Смаржок. *Адзін шмаршок рос, каля яго другі.* Пасіене Лудз. *Шмаршкі смачныя.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШМА'РЫЦЬ *незак.* Хадзіць. *А ён шмарыць па ўсіх кутках.* Груздава Паст.

ШМАТ І *прысл.* 1. Вялікая колькасць, многа. *Малых куранят шмат вынялa?* Валеўка Навагр. *Шмат яблыкаў у садзе.* Груздава Паст. *Ужо камароў шмат у лесе.* Пацаўшчына Дзятл. *Было шмат мышэй.* Навасёлкі Свісл. *Шмат гадоў жыла адна.* Альхоўка Навагр. *Шмат хто быў.* Жылі Іўеў. *Сажы шмат у коміне,*

*трэба выцірадь.* Міратычы Карэл. *Тады будзім шмат мець цетрадзяў.* Лоск Валож. *Шмат вапросаў, шмат атветаў. Шмат дзяцей у яе.* Солы Смарг. *У нас шмат было дзяцей.* Завельцы Астр. *Шмат людзей павaрачалася з горада ў вёску.* Дэгшні Шальч. *Дубоў было шмат, крушыны не так-то шмат.* Грыкені Вільн. 2. У вялікім аб'ёме, многа. *Сыпіш мукі шмат.* Гальшаны Ашм. *Мукі шмат у нас.* Лісна В.-Дзв. *Гароху насыпала шмат.* Гемзы Шальч. *Шмат вускіх пасаў надрала.* Солы Смарг. *Шмат рэманту трэба на хату.* Снягяны Смарг. *Крываўніку ў нас шмат па межах.* Завельцы Астр. *Шмат ёсць чабору.* Плябанцы Ашм. *Шмат каму рабіў.* Чуркі Ашм. *Я ні ем шмат.* Гемзы Шальч. 3. Па працягласці ў часе. *Чатэрэ часа — шмат часу, цемно.* Гемзы Шальч.

ШМАТ II *м.* 1. Абрэзак, кусок. *Дай мне які-небудзь шмат, кавалак якой тканіны.* Старыя Трокі Трак. 2. Доўгі адрэзак палатна. *Шмат — кусок палатна, як беляць. Шматамі белілі палатно.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* польск. *szmat* 'кавалак, кусок'.

ШМА'ТА *ж.* 1. Кусок тканіны. *Шмату купіш, пафарбуеш.* Гемзы Шальч. 2.Ануча. *Шматай абвяжаш збан і между ног і чах-чах — і саб'еш масла.* Гемзы Шальч. *Запалілася шмата, курыць, дымам гарыць.* Мсцібава Ваўк. *Шматы збірае.* Лука Нараўк. *Шматы цыган збіраў.* Грыкені Вільн. *Палатно ў попел качалі, у гліну, у печ лажылі, шматамі абкручвалі, палатно было мокрае і шматы мокрые.* Васілевічы Гродз.; *парайн.* польск. *szmata* 'ануча'.

ШМАТАНУ'ЦЬ *зак.* Парнуць рагамі. *Карова свіней не любіла, як шматанула рагамі — і кішкі выбеглі.* Саланое Віл.

ШМА'ТАЧКА *ж. памянш.* да ш м а́ т а 2. *Луг прас чыстую шматачку прапусцяць.* Новікі Гродз.

ШМА'ТКА *ж.* 1. Тое ж, што і ш м а́ т а 1. *Пасцялю шматку і ляжу.* Навасёлкі Свісл. 2. Тое ж, што і ш м а́ т а 2. *Шматкамі абтыкалі тые дыркі.* Вулька Гродз.

ШМАТКІ' *мн.* Шмаркі, касмыкі поўсці, кавалкі скуры. *Шэсць авец за ноч ваўкі з'елі, адны шматкі асталіся.* Чарняўскія Лудз.

ШМА'ТНІК *м.* Анучнік. *Аддалі шматніку мае палатняныя кашулі.* Парэчча Гродз.

ШМЕЛЬ *гл.* ЧМЕЛЬ

ШМЕ'ТНІК *м.* Сметнік. *Лупіну збіралі па шметніку.* Швэды Вільн.

ШМЕ'ЦЦЯ *зб. н.* Смецце. *Выбрала шмецця.* Мярэцкія Глыб.

ШМОК *м. абразл.* Крывасмок. *Шмок ты!* Жылі Іўеў.

ШМО'РГАЦЬ *незак.* 1. Церабіць. *Дзень лён шморгала.* Мачаск Бярэз. 2. Абрываць з галінак лісце і кветкі, захапіўшы ўсёй жменяй. *Шморгалі верас, як быў голат, варылі з бульбай і елі, што грачана каша, алі даўкая.* Старыя Смільгіні Воран.

ШМУ'ЛІЦЦА *незак.* Церціся аб што-н. *Кошка ля нох шмуліцца.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* літ. *šmùlinti* 'церці, націраць'.

ШМУЛЬНУ'ЦЬ *зак.* Правесці рукой па чым-н. *Хвошч шорст-*

*кі па лесе расце, як шмульнеш рукою — бы коліцца.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* шмуліцца.

ШМУЛЬ-ШМУЛЬ *выкл.* у знач. *вык.* Шморг-шморг. *Кошка прыдзя і шмуль-шмуль каля нох.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* шмуліцца.

ШМУЛЯ'ЦЬ *незак.* Церціся аб што-н. *Карова шмуляя ражком, вароты паломя.* Азяраны Раг. *Шмуляя кот каля нох.* Міратычы Карэл.; *гл.* шмуліцца.

ШМУ'ТКІ *мн.* Рыззё, анучы. *Шмуткаў тут многа.* Пацаўшчына Дзятл.

ШМУ'ЦЯ *зб. н.* Тое ж, што і шмуткі. *Шмуця ўсякага назбірала.* Мсцібава Ваўк.

ШМЫГ, ШМЫК *выкл.* у знач. *вык.* Шмыг. *Ён шмыг туды — вагон разгрузіў — грошы зарабіў.* Пераброддзе Міёр. *Рыба шмык — і ў буч.* Гемзы Шальч.

ШМЫ'ГАЛО *н.* Той, хто мурзаты. *Шмыгало ты такое, мурзаты.* Валеўка Навагр.

ШМЫ'ГНУЦЬ *зак.* Шмыгнуць, хутка ўбегчы куды-н. *Я шмыгнула ў камору.* Гемзы Шальч. *Мыш шмыгнула пад лаўку, кот не паспеў яе злапаць.* Пацаўшчына Дзятл. *Калі ж яна шмыгнула с хаты?* Беразіно Докш.

ШМЫ'КАЦЬ *незак.* Шморгаць. *Шмыкае і шмыкае носам.* Старыя Смільгіні Воран.

ШМЫК-ШМЫК *выкл.* у знач. *вык.* 1. Шмыг-шмыг. *Заяц шмык-шмык у кусты.* Граўжышкі Ашм. 2. Раз-раз, шарк-шарк. *Шмык-шмык мяцёлачкай — і вымяцеш.* Гемзы Шальч.

ШМЫ'ТКА *прысл.* Вельмі хутка. *Вангор шмытка вей-вей — і кярунак да рэчкі, нейкі ценч мая — віляецца да рэчкі. Па пяску вангор ня пойдзя. От шмытка ён яго перакуліў. Шмытка трэба гаварыць. Шмытка так яна доя ў дзве рукі.* Гемзы Шальч.

ШМЫ'ТКІ *прым.* Жвавы, быстры. *Шмыткі шчэ дзет.* Жылі Іўеў. *Шмыткая пані была. Ён такі шмыткі, гэты хлапец.* Гемзы Шальч.

ШМЭ'ДЫ *прым.* Брудны, пакачаны ў поўсці. *Як паедзіць на кані, штаны зробяцца шмэдыя.* Глівін Барыс.

ШМЭ'РГЕЛЬ, ШМЭ'РГАЛЬ *м.* Тачыла, брусок. *Шмэрґель жалеза бярэ, ён круглы на два пальца.* Старыя Смільгіні Воран. *Шмэрґаль точыць.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* ням. *Schmirgel*, польск. *szmergiel* 'наждак'.

ШМЭ'РКУЛЬ *м. неадабр.* Смаркач. *Шмэркуль ты! Я тобі наломаю!* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* шмáрґля.

ШНАР *м.* 1. Гадавыя кольцы на рагах у жывёлы. *Як цяля, так і шнар, колька было цялят, столька шнароў на рагох.* Кіралі Шчуч. *На рагах шнáры, па шнарох шчытаюць, колькі гот. Колькі шнароў на рагах? Сколькі шнароў — столькі гадоў, першы — тры гады.* Гемзы Шальч. *Шнары на рагах, ад целюка робіцца шнар.* Грыкені Вільн. *Шнарэ́ — па іх лічаць годы.* Міратычы Карэл. 2. Шрам, рубец. *Шнар у каровы на скуры.* Бакшты Іўеў.

*Карова шнар прагнала рогам на баку.* Гемзы Шальч. *Карова велькі шнар абагнала рогам і як сама абдзярэ ў лесі, тожа кажуць шнар.* Міратычы Карэл. *Шнар астаўся ў каровы.* Лука Нараўк. *Шнар пралупіла карові, што кроў ідзе.* Азяраны Раг. *На назе вялікі шнар, зачапілася за дрот і нагу абарвала.* Кіралі Шчуч. *Шнары пры пабоях.* Альхоўцы Лях. *У каровы на баку шнарэ.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Шнур. *Шнар парваўся.* Ністанішкі Смарг.

ШНА'РГЛЯ *гл.* ШМА'РГЛЯ

ШНІ'ПАРАЦЬ *незак.* Шукаць якую-н. яду, прынюхваючыся, нікаць. *Шніпарая кошка, шукая чаго паесці.* Азяраны Раг.

ШНІПАРЫ' *мн.* У выразе: ◊ *Даць у шніпары* — даць па мордзе. *Как дам табе ў шніпары!* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *šnìpas* 'тж'.

ШНІ'ПАЦЬ *незак.* Шморгаць носам, смаркацца. *Што ты носам шніпаеш?* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *šnỹpšti* 'смаркаць'.

ШНІПС *м.* У выразе: ◊ *Даць у шніпс* — даць па мордзе. *Ідзі, як дам у шніпс.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *šnìpas* 'рыла'.

ШНІ'ПЯРЫ *мн.* Тое ж, што і ш л і п а р ы. *Шніпяры часалі, дзе масты робяць, патпоркі называлі, шніпяры ставяць чворагранныя, шніпяры вазілі ў шахты на ўкрапленя.* Гемзы Шальч.

ШНІ'РПШЛІ *мн.* Ноздры. *Шнірпшлі каня.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *šnir̃pšlės* 'тж'.

ШНІ'ТКА *ж. бат.* Снітка. *Шнітку варуць, паядалася людзьмі.* Месянцы Брасл. *Шнітка адна расце.* Пярэкі В.-Дзв. *Шнітка ў нас расце.* Янова Рас., Мярэцкія Глыб. *Шнітку елі ў вайну.* Беразіно Докш. *Намест шчавеля едзят шнітку.* Скрыпчына Лудз. *Шнітка — свіняча ежа.* Пасіене Лудз. *Даўней шнітку варылі с прыкалоткай, прыкалаці шнітку.* Кураполле Паст. *Шнітка, як рабінка, свіням збіраюць.* Глівін Барыс.

ШНІЦЬ *ж.* Тое ж, што і ш н і т к а. Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шніць варылі і елі ў вайну.* Мішневічы Шум.

ШНО'ЎДАЦЦА *незак.* Хадзіць туды-сюды, маячыць. *Ідзі ты бульбу еш, чаго ты там шноўдаісся? Шноўдаіцца па хаці — ходзіць с кутка ў куток.* Груздава Паст.

ШНУР І, ШНЮР *м.* 1. Шнур, тонкая вяровачка. *Шнурам сцягнуў — і панёс лазу.* Месянцы Брасл. *Бярэ шнюр і звязвая.* Дэгшні Шальч. 2. Абора. *У хадаку такі шнур.* Грыкені Вільн. 3. Завязка (у фартуху і інш.), матуз. *Шнюры прышывалі да фартуха.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Нізка чаго-н., звязка. *Шнюр тытуну.* Старыя Смільгіні Воран. *Табакі шнюр.* Навасёлкі Лід. 5. *рыб.* Перамёт. *Трэба, штоб рыба под шнурам пашла.* Гемзы Шальч. 6. *ткац.* Шнур, пры дапамозе якога прыводзіцца ў рух калаўрот; прывод, пас. *У караўлоце кола, шнур, вілачкі.* Дзераўное Стаўб. *Шнурэ надзяюцца на шпулю.* Вецярэвічы Пух. *Шнюр накладаецца на кола* [у калаўроце]. Чуркі Ашм.

ШНУР ІІ, ШНЮР *м.* 1. *с.-г.* Паласа зямлі (поля) пры цераспалосіцы. *Былі калісьці шнуры зямлі. Зямля была пабіта шну-*

*рамі.* Завельцы Астр. *Шнур* [зямлі] *быў доўгі, а не будзем праз увесь шнур ганяць, дзелім на гоні.* Крэва Смарг. *Бывала, упоперак жалі, калі шнур шырокі.* Солы Смарг. *Шнур зымні мав.* Сіманавічы Драг. *Шнур зымлі.* Відзібар Стол. *Шнур зямлі меў.* Альхоўцы Лях. *Шнур узараў.* Валынцы В.-Дзв. *Шнур аднаго гаспадара.* Саланое Віл. *Вялікі пасах дала маці: карову, авечку, шнур зямлі, а я сваей толькі гонкі зямлі даў.* Рыбчына Віл. *Шнуры даўней былі.* Мярэцкія Глыб. *Шнуры даўней дзяліліся на гоны, прыкладна, да канавы — адны, да пожні — другія гоны. Шнуры, як хаты стаялі — было дваццаць шэсць шнуроў.* Кураполле Паст. *За сялом — шнуры.* Беразіно Докш. *Наша поле — былі шнуры і прыдаткі.* Латыгаль Віл. *Размаітых назваў было гэтых шнуроў.* Канюкай Вільн. *Была шнурамі зямля пабіта.* Лоск Валож. *Была зямля шнурамі пацята.* Грыкені Вільн. *Зямля шнурамы пабіта.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бывала, зямля ў шнурох была.* Гемзы Шальч. *Зямля была ў шнурах.* Кіралі Шчуч. *Бывая і вярсту шнюр.* Чуркі Ашм. *Шнюр — дванаццаць дзісяцін. Было два шнюры.* Гальшаны Ашм. *У тым шнюру і поле, і санажаць.* Гемзы Шальч. *Зямля была ў шнюрох, доўгія шнюрэ.* Кіралі Шчуч. 2. Пракос. *На сенакося шнуры, а на полі — палоса, шнур скасіў на балоця.* Вецярэвічы Пух. *Тры шнуры скошана.* Вузла Мядз.

ШНУРАВА́НЫ *дзеепрым.* Шнураваны. *Камашы із доўгімі халейкамі, шнураваныя аш сюды.* Солы Смарг.

ШНУРАВА́ЦЦА *незак.* Шнуравацца. *Даўней-прыдаўней насілі чаравікі, шнуркамі шнураваліся.* Завельцы Астр.

ШНУРАВЫ́ *прым.* Шнуравы. *Даўней была шнуравая зімля, займеш шнур і гоніш.* Вузла Мядз. *Зімля шнуравая была.* Ахрэмаўцы Брасл. *У аспадароў шнуравая зямля, шнуры рэзалі.* Граўжышкі Ашм.

ШНУРО́К I, ШНЮРО́К *м. памянш.* 1. да ш н у р I, 1. *Што, шнюрок быў заведзены ў башлык?* Збляны Лід. 2. да ш н у р I, 2. *Хадачкі былі с шнуркамі і вушкі такія.* Канюкай Вільн. *Чаравікі шнуркамі шнураваліся.* Завельцы Астр. *Чаравік насілі з халявачкамы кароцянкамы са шнюркамі.* Ракаўскія Швянч. 3. да ш н у р I, 3. *Шнуркі сплецены і падвязавалі спадніцу.* Граўжышкі Ашм. *Фартух с фальбанкай і два шнюркі завязваць. Шнюркі да спадніцы.* Гемзы Шальч. 4. да ш н у р I, 4. *У шопах шнюркі цюціну сушацца.* Лука Нараўк. *Шнюрок грыбоў сушаных.* Кіралі Шчуч.

ШНУРО́К II, ШНЮРО́К *м. памянш.* да ш н у р II, 1. *Як бальшая—паласа, як меншая—шнурок.* Мішневічы Шум. *Шнюрок лёну, ячменю. Землю трымалі шнюркамі.* Парэчча Гродз.

ШНУРО́ЎКА *ж.* 1. Гарсэт. *Як каравайніцы выходылі на высыльлі, то шнуроўкы надэвалі.* Брады Пруж. *Шнуроўка—гарсет.* Лапічы Асіп. *Шнуроўка з брыжжамі, брыжжы кругом і цясёмачкай па берагу па брыжжам абкладзена.* Саланое Віл. *Шнуроўка — такі нагруннічак, ушпыліцца шнуроўкаю.* Ухвала Круп.

2. Безрукаўка. *Я тры шнуроўкі надзеўшы, крыві нет, ня грэіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прадай, татка, кароўку і купі мне шнуроўку. У мяне грудзі трасуцца, з мяне хлопцы смяюцца.* Ухвала Круп.

ШНУРО'ЧАК I *м. памянш.* 1. да шнур I, 1. *Пашла Валя шнурочак шукаць. Валічка, пашукай мне дзе шнурочкаў.* Кіралі Шчуч. 2. да шнур I, 2. *Камашы із доўгімі халеўкамі і на шнурочках.* Солы Смарг. 3. да шнур I, 4. *Шнурочак тытуну.* Солы Смарг.

ШНУРО'ЧАК II *м. памянш.* да шнур II, 1. *Была зямля на шнурочкі.* Грыкені Вільн. *Шнурочкі ўтыкаюцца ў лес.* Дарава Лях.

ШНУРЫ'ЦЬ *незак.* Абматваць, абвязваць шнурам. *Ключ ёсь шнурыць балкі, нада балкі ашнурыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШНЫП *м.* Штыр. *Буравяцца два бярвенні і заганяецца шнып.* Мачаск Бярэз.

ШНЫ'ПРЫЦЬ *незак. экспр.* Шукаць, лазіць па кутках, шнарыць. *Што ты там шныпрыш?* Крынкі Крын.; *гл.* шніпарыць.

ШНЫ'РЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і шныпрыць. *Прыдуць у хату* [немцы] *і давай лазіць, шнырыць усюды, не баяўся бога, ні стыду.* Папоўцы Паст. *Шнырыць усюды.* Альхоўка Навагр. *Што ты шнырыш па куткох?* Жыдзевічы Іўеў.; *параўн.* літ. *šmirinėti* 'тж'.

ШНЭ'ПАЦЦА *незак. экспр.* Таптацца на месцы, паволі збірацца куды-н. *Што ты шнэпаесся, ня можаш ніяк выбрацца?* Кураполле Паст.

ШНЮР *гл.* ШНУР I, II

ШНЮРО'К *гл.* ШНУРО'К I, II

ШНЮРО'ЧАК *м. памянш.* Вешалка. *На крыжачак даўней не было цэпачкаў, вісеў на шнюрочку.* Кіралі Шчуч.

ШНЯ'РА *м.* і *ж. экспр.* Скнара. *Шняра які, ні дасць нічога.* Ракаўскія Швянч.

ШО'ЛІНКА *ж. памянш.* Шчылінка. *Бо як дід возыв просо, чоботы булі дыравы і просынка попала ў шолінку і там ліжала, аж до гэтых пур.* Сасноўка Пруж.

ШО'ЛОХ, ШО'ЛУХ *м.* Шум. *Шолох паднімуць, як гром загрыміць.* Граўжышкі Ашм. *Шолух паднялі дома.* Валынцы В.-Дзв.

ШО'ЛУДЗІ *мн.* 1. Перхаць. *Шолудзі — кошасць белая ў галаве.* Жылі Іўеў. 2. Парша. *У нашай свінкі шолудзі.* Саланое Віл. *А кап вас шолудзі елі!* Вецярэвічы Пух.

ШОЛУХА' *ж.* Тое ж, што і шалупáйка 1. *Разбіў яйка, шолуху выкінуў.* Пасіене Лудз.

ШО'МПАЛ *м. ваен.* Штык, шомпал. *Немец убег у хату і шомпалам праткнуў дзіця і бросіў на салому.* Ухвала Круп.

ШОНСЬ *выкл.* у знач. *вык.* Тое ж, што і шмыг. *Я тады шонсь у камбайн.* Васілевічы Гродз. *А ён шонсь у кузню.* Сонічы Гродз.

ШО'ПА *ж.* 1. Павець. *Шопа — вялікі паднавес з крышаю,*

[сто метраў даўжыні і дваццаць шырыні]. *Рэзалі ганду і складалі на шопу, перш складалі снапы ў шопу.* Парэчча Гродз. *Шопа робіцца са сценамі.* Рыбчына Віл. *Лажы сена пат шопу.* Бакшты Іўеў. *Шопа — надбудова над склепам.* Міратычы Карэл. *Дзе захоўвалася вупраж, называлі шопа.* Вострава Маст. *Шопы строілі на слупах.* Курапolle Паст. *Імелі шопы, на шнюрках вешалі цюцін сушыць.* Лука Нараўк. *Шопы ставілі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Печ для выпальвання цэглы. *Шопа — цэлыя пячоры із хату велічыні, паляць пад дном дзень і ноч. Шопы — з кірпіча сцены здзеланы і крытыя зверху, там кірпіч перапальвалі.* Азяраны Раг.; *парайн.* польск. *szopa* 'тж'.

ШО'ПАТКАМ *прысл.* Шэптам. *Шопаткам гаварыў — не разбярэш што.* Мішневічы Шум.

ШО'ПАЧКА *ж. памянш.* да ш о́ п а 1. *Скляпы ў зямлі рубілі, а зверху шопачка.* Вецярэвічы Пух.

ШО'ПКА *ж.* 1. *памянш.* да ш о́ п а 1. *Над склепам шопка зроблена.* Каўняны Гродз. *Пад шопкай была паклала сено.* Вялікі Краснік Пруж. 2. Шафка для пасуды. *На пасуду збіта з дасок шопка, палажы сала ў шопку.* Рыбчына Віл.

ШО'ПЛІК *м. памянш.* Цэбар. *Шоплік з клёпак.* Стральцы Гродз. *Шоплік — цэбар з вушкамі.* Жылі Іўеў.; *парайн.* ням. *Schaufel* 'лапата'.

ШО'ПЛЯ *ж.* Шуфлік, шуфель. *Шопля на чаранку загнутая, пілавіны збіраці, смецё.* Лука Нараўк.; *гл.* ш о́ п л і к.

ШОР І *м.* Пустазелле. *Як змываюць крупы, то ўсплываіць на ваду шор: васількі і свірэпка. Сколькі шору пры змыванні круп!* Мярэцкія Глыб.

ШОР ІІ *м.* Стос, штабель дроў. *Шор дроў паваліўся і прыдавіў яго насмерць.* Галубы Маст.

ШО'РА *ж.* Рад, паласа даху з гонты. *Шора — паласа крышы з гонту ці драніц, на даўжыню драніцы. Чатыры шоры вышла.* Лісна В.-Дзв.

ШО'РАНЬ *ж.* Тое ж, што і ш а р о́ ш І. *Ужо рака становіцца, шорань ідзець.* Курапolle Паст.

ШО'РАХ І *м.* 1. Тое ж, што і ш а р а с е́ н ь. *Шорах, снег цвёрды, ехаць можна канём.* Мярэцкія Глыб. 2. Тое ж, што і ш а р а ш о́ р 2. *Рэка застывае, і на ёй шорах пойдзе.* Баброўнікі Гарад.

ШО'РАХ ІІ *м.* 1. Перапалох. *Шорах быў: ён яе лупцаваў.* Саланое Віл. 2. *прысл.* Страшна, боязна. *Шорах было глядзець!* Саланое Віл.

ШО'РКІ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шоркі робілі і на шыю каню кладуць.* Валынцы В.-Дзв. *Шоркі надзенуць на галаву, жарабок ляціць, шоркі пазвоньваюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шоркі на шыю каню падвешвалі.* Глівін Барыс.

ШО'РНІК *м.* Рымар. *Ён шорнікам быў.* Курапolle Паст.

ШОРО'КІ *прым.* Шырокі. *Шорокая дарога, ехаць добра.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШО'РСТКІ *прым.* 1. Шурпаты, няроўны, нягладкі. *Шорсткі*

*камянь, няроўны, другі раз я нагу збіў аб яго.* Старыя Смільгіні Воран. *Шорсткі ў каровы язык.* Малькуны Ігн. *Шорсткі, як ёлачка, асюклей.* Месянцы Брасл. *Шорсткі хвошч.* Гемзы Шальч. *Хвошч шорсткі, па лесе рос.* Дзяніскавічы Ганц. *Гэта нітка шорсткая, шарсцяная больш мяканькая.* Навасёлкі Лід. 2. Каляны. *Шорстке палатно.* Лука Нараўк. 3. Надта цвёрды. *Шорсткі яблык, крэпкі, ядраны такі.* Солы Смарг.

ШО'РХАЎКІ *мн.* Тое ж, што і шалагунэ. *Шорхаўкі бразгаюць на шыі ў каня.* Беразіно Докш.

ШО'РХНУЦЬ *незак.* 1. Зацягвацца (пакрывацца) ільдом, замярзаць. *Сёня вада шорхня, гэта ўжо марос, вада зашорхла лёдам.* Кіралі Шчуч. 2. Нямець, дзеравянець (пра цела). *Шорхне шкура — шкура робіцца ў пупышкі, бярэ азноб. Аш мне шорхла шкура, як я пераживала.* Старыя Смільгіні Воран.

ШОР-ШОР *выкл.* у знач. *вык.* Дзінь-дзінь, дзінькаць. *Шоркі надзенуць, жарабок ляціць — шор-шор і капатамі стучыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШОРЫ *мн.* ◊ *Падняць шоры* — ачуняць, прыйсці ў сябе. *Мы думалі, усё яму, а ён падняў шоры.* Вялікія Баяры Шчуч.

ШО'РЫЦЦА *незак.* Качацца. *Яблакі шорацца на зямле.* Саланое Віл.

ШО'СНІК *м.* Шосты чацвер пасля вялікадня. *Шоснік заўтра, бывая ў чэцвер шоснік.* Саланое Віл. *Прат сёмухай у чвартак завуць шоснік, тады ногі свіныя вараць.* Завельцы Астр. *Шоснік — калі атходзяць велікодныя святы.* Вузла Мядз.

ШОСТ *м.* 1. Жэрдка. *На шост цыбулю, кілбасы вешаюць. Яна недоўгая і на печы. Перад печчу для адзежы жэртка, на вуліцы жэртка, з мяса рабілі кілбасы, панавешваюць на шост.* Завельцы Астр. *Павесь нажутку на шост.* Мярэцкія Глыб. *Каля печы быў шост, павесь на шост, нашто ты прыняў шост.* Кураполле Паст. *Павесь кажух на шост.* Мачаск Бярэз. 2. Завостраны кол. *Шасты рабілі, шастамі папіраліся.* Азяраны Раг. *Ён шостам атапрэць* [лавачнік, плытнік]. Саланое Віл. *Шост быў, шастом упіралі і атпіхваліся ад берага.* Лісна В.-Дзв.

ШО'СТЫ *ліч.* Шосты. *Шосты дзесятак, як я тут.* Дарава Лях. *У шостым гаду здзелалі апірацыю.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шостым гатком памёр.* Саланое Віл.

ШОСЬ *займ.* 1. Штосьці, нешта. *За шось воны не паладзілі.* Ялова Пруж. *Шось на лавцэ пулужэла.* Радастаў Драг. *Шось там лыжыть.* Сіманавічы Драг. 2. *прысл.* Чамусьці. *Шось мне халадно.* Вялікі Краснік Пруж.

ШОЎ *м.* Шво. *Па швах распаўзлося адзенне.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШО'ЎГАЦЦА *незак. экспр.* Хадзіць без мэты, соўгацца. *Шоўгаецца па хаце туды-сюды.* Альхоўка Навагр.

ШОЎК *м.* Шоўк. *Шоўк да цела не прыстане.* Пацаўшчына Дзятл.

ШОЎКАВЫ *прым.* Шаўковы. *Шоўкавы дыван выткала.* Навасёлкі Лід.

ШОФА *ж.* Тое ж, што і шопа 1. *Шофа была бэз сцен, дах на сохах, складалі сена. Шофу крыюць.* Жылі Іўеў.

ШОФЕР, ШОФЯР, ШОХВЫР *м.* Тое ж, што і шафёр. *Мой брат шоферам робіць.* Дзераўное Стаўб. *Ён за шофера вучыўся.* Саланое Віл. *Сын шоферам робіць на аўтобусе.* Чуркі Ашм. *Мой брат на аўтобусе шофярам.* Ністанішкі Смарг. *Сын яе шофярам.* Граўжышкі Ашм. *Будэ за шохвыра.* Дзмітравічы Кам.

ШОФЁР *гл.* ШАФЁР

ШОХЛЯ *гл.* ШЕХЛЯ

ШПАДАЛЬ *м.* Лапата. *Шпадаль кажуць на лапату.* Пацаўшчына Дзятл. *Шпадаль быў.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *szpadel* 'тж'.

ШПАК *м. заал.* Шпак. *Кот прынёс шпака.* Мярэцкія Глыб. *Шпакі робяць гулды* [гнёзды] *у скрынцы.* Дэгшні Шальч. *Шпаке летаюць, зязюлькі куюць.* Пацаўшчына Дзятл.

ШПАКОЎКА *ж.* Шпакоўня. *Мой стары зрабіў тры шпакоўкі і паставіў у клёнікі.* Кальнішкі Шальч.

ШПАКОЎНІЦА *ж.* Тое ж, што і шпакоўка. Рудня Чэрв.

ШПАКОЎНЯ *ж.* Тое ж, што і шпакоўка. *Шпакоўні на дрэвах павесілі.* Пасека Ст.-Дар.

ШПАЛА *ж.* Шпала. *Шпала ёсьціка і каля шасці пудоў.* Камена Лаг.

ШПАЛЕРЫ *мн.* Абоі. *Прывёс трохі шпалераў. Я папрасіла для сябе дзесяць каткоў шпалераў, трэба хату паклеіць.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *szpaler* 'шпалера'.

ШПАЛЯЧКІ *мн. пчал.* Прымітыўная рамка ў калодачным вуллі ў форме перакрыжаваных пруцікаў. *Шпалячкі такія закладаюцца ў калоду* [замест рамак]. Курaполле Паст.

ШПАР *м.* 1. Шчыліна. *Шпар межу пален плыта, у шпар устаўляецца шырыга для задзершкі плыта на вадзе.* Бакшты Іўеў. *Даўней не гэтакія суфіты былі, а сталяванне, і пат бэлькі ў каждую шпару пхнем бероску.* Завельцы Астр. 2. *перан.* Рад. *Чатыры шпары насаджу буракоў.* Азяраны Раг. 3. *мн. перан.* Прамежак між пальцамі. *Шпары папарыліся.* Жылі Іўеў. *Папрэло між шпарамі.* Лука Нараўк. *Шпары між пальцаў баляць, як папрэе.* Вострава Маст. *У мяне шпары баляць: ногі пацеяць і сільна параца.* Старыя Смільгіні Воран. *Паміж шпараў папрэўшы бываіць.* Завельцы Астр. *Шпары міжа пальцаў на руках і нагах.* Альхоўка Навагр. *Макрэц высыпае, як лішай, у шпарах у чалавека гніе, не зажывае.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *szpara,* ням. *Sparren* 'тж'.

ШПАРАГА *ж. бат.* Аспарагус. *Маладзенька шпарага расце.* Дзераўное Стаўб. *Шпарага, як ёлачка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШПАРАННЕ *н.* Апёк. *Трапкі намажце лоем баранім і прыкладзіце ад шпарання кіпятком.* Месянцы Брасл.

ШПАРАК *м.* Тое ж, што і шпарага. *Шпарак пад вакном*

*расце.* Завельцы Астр. *Шпарак толькі ў нас расце, гэта ёлачка такая.* Малышы Лід.

ШПА'РГАЦЦА *незак. экспр.* Кідацца, нерваваццa. *Чаго ты шпарґаісся?* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* літ. *spirgėti* 'тж'.

ШПА'РГАЦЬ *незак.* Кідаць чым-н., шыбаць, шпурляць. *Камнямі шпарґая.* Азяраны Раг.

ШПА'РКА, ШПА'РКО *прысл.* Хутка, борзда, быстра. *Вот шпарка робіць.* Кіралі Шчуч. *Шпарка ідзе.* Солы Смарг. *Шпарка ідзець.* Чычалі Швянч. *Робіць усё шпарка.* Лісна В.-Дзв. *Вродзі ідзеш шпарка, а скорасці нет.* Валынцы В.-Дзв. *Шпарко ідэ.* Дзмітравічы Кам. *Шпарко ідзе.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *szparko* 'тж'.

ШПА'РКІ *прым.* Быстры, борзды, жвавы. *Я яе шкадавала, ён гак-гак, дужа шпаркі быў чалавек.* Валынцы В.-Дзв. *Шпаркі конь.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *szparki* 'тж'.

ШПА'РНІК *м.* Ланцэтападобны трыпутнік. *Шпарнік расце ля дарогі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гэта зелле шпарнік у нас называюць.* Парэчча Гродз. *Язычніца — трэбо прыкласці шпарнікам.* Навасёлкі Свісл.

ШПА'РЫЦЬ *незак.* 1. Біць. *Шпарыць у сцену палкай.* Вецярэвічы Пух. 2. Шыбаць, кідаць. *Шпарыць каменям.* Вецярэвічы Пух. 3. Ударыць. *Пярун шпарыў і спаліло.* Баброўнікі Гарад.

ШПАЧО'К *м. памянш.* да ш п а к. *Для шпачкоў клетку паставілі.* Горск Бяроз.

ШПЕ'ГІ *мн.* Вяснушкі, плямы. *Увесь твар у шпегах.* Малькуны Ігн.

ШПЕНЬ *м.* Шпень. *Шпень у калаўроце.* Вецярэвічы Пух. *Шпень укладалі ў вітушку.* Бакшты Іўеў.

ШПЕ'НЬЧЫК *м. памянш.* да ш п е н ь. *У верхнік шпеньчык і жалеска ўскладаецца.* Завельцы Астр. *Шпеньчык трэба ўсуваць.* Гемзы Шальч.

ШПІГАДА'Р *м.* Шкіпінар. *Шпіґадарам націрала.* Саланое Віл.

ШПІГАНО'Р *м.* Тое ж, што і ш п і ґ а д á р. *Шпіґанорам добра націраць.* Саланое Віл.

ШПІГА'ЦІНКА *ж. памянш.* Шпагат. *Шпігацінка была, я ёю за рогі і вяду карову свайго гадавання.* Валынцы В.-Дзв.

ШПІК *м.* Шпік. *Есць косць сітавая, а ёсць шпік толька.* Завельцы Астр. *Шпік у касці высмакчыць.* Малькуны Ігн.

ШПІКЛЕ'РЫ *мн.* Стос, старана льну. *У стадоле, у шпіклеры складалі чысты лён, першы гатунак.* Гальшаны Ашм.; *парайн.* польск. *spichlerz* 'свіран' < ням. *Speicher* 'склад'.

ШПІКУЛЯВА'ЦЬ *незак.* Спекуляваць. *Ён шпікулюе.* Парэчча Гродз.

ШПІКУЛЯ'ЦІЯ *ж.* Спекуляцыя. *Мы жылі пад Польшу, шпікуляція была.* Саланое Віл.

ШПІ'ЛЬКА І, ШПЫ'ЛЬКА *ж.* Шпілька. Чычалі Швянч. *Булайка, як іголка, і галоўка зверху, а шпілька — прышпіліць што-*

*небудзь.* Солы Смарг. *Купіла шпільку, яна добра зашпіляецця.* Кіралі Шчуч. *Шпілька мала называлі.* Слабада Мін. *Шпільку ўтыкні ў падушачку.* Беразіно Докш. *Зашпіліць шпільку за пазухай.* Дарава Лях. *Шпылькі пашукай.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *szpilka* 'тж'.

ШПІ'ЛЬКА II *ж.* Прыстасаванне для лоўлі ракаў. *Шпільку з жабай утыкалі ў зямлю, у вадзе, і як прыпаўзуць ракі, тады ён кубар у ваду і пад ніз падстаўляе, і яны, ракі, тады ўваляцца, ад жабы адрываюцца — і ў кубар.* Ухвала Круп.

ШПІ'ЛЬКІ *мн.* Ігліца. *На сосня шпількі калючыя.* Гемзы Шальч. *Шпількі ў лесі з хвой насыпаліся.* Вузла Мядз.

ШПІ'ЛЬНІК *зб. м.* Тое ж, што і ш п і л ь к і. *Я награбу шпільніку і ў хлеў занясу. Скольki шпільніку ў лесе!* Вялікія Баяры Шчуч.

ШПІЛЬНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Стрэльнуць, выстраліць. *Узлез тэй парцізант і шпільнуў у матацыкліста нямецкага.* Ухвала Круп.

ШПІЛЯ'ЦЦА *незак.* Зашпіляцца, зашпільвацца. *Страказа— шпілька, чым шпіляюцца.* Слабада Мін.

ШПІНА', ШПІНЯ' *ж.* Спіна. *Шпіна пачала балець.* Вострава Маст. *Так баліць шпіна мне, не сагнуся.* Каўняны Гродз. *Да шпіны жывот падцягня, як не будзеш есьці.* Мсцібава Ваўк. *Шпіна застуджана.* Лука Нараўк. *Шпіня сагнулася.* Навасёлкі Свісл.

ШПІНА'К *м.* Подплетка. *Шпінак лапці падплятаць, рабілі з дзерава, як шыдла.* Старыя Смільгіні Воран.

ШПІНЕ'ЦЬ *незак.* Шыпець. *Змяя шпініць.* Чычалі Швянч.

ШПІНЁК *м. памянш.* да ш п е н ь. *Шпінёк у чаўнаку, на яго накладваецца цэўка.* Бенякoні Воран.

ШПІ'НІНГ *м. рыб.* Спінінг. *Мужыкі сабіраюцца ўтрам шпінінг закідаваць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШПІТА'ЛЬ *м.* Бальніца. *Памёр ён у шпіталі.* Лайпушкі Ігн. *Прывязлі яго да шпіталю.* Кухты Віл. *Ад госені ляжаў у шпіталі.* Дэгшні Шальч. *Пабыла восем дней у шпіталю.* Саланое Віл. *У шпіталі таблеткі давалі, лепей стала.* Новікі Гродз. *С першага року пайгода лежаў у шпіталю.* Паляцкішкі Воран. *Забіўся машынай, да шпіталю завезлі.* Ёдупка Шальч. *Ногу лячыла ў шпіталю.* Сакаляны Сакол. *Я шпіталю баюся, як чорт крыжа.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн. польск. szpital* 'тж'.

ШПІТА'ЛЬНЫ *прым.* Які мае адносіны да шпіталя, шпітальны. *Уколы давалі шпітальныя.* Кемялішкі Смарг.

ШПІ'ЦА *ж.* 1. Спіца. *Есць калотка і шпіцы.* Мсцібава Ваўк. *Шпіцы ў коле, шпіцу загоня.* Гемзы Шальч. *Шпіцы ў возе.* Лука Нараўк. 2. Планка, балясіна. *Шпіцы шшываюць драбіну.* Мсцібава Ваўк.

ШПОК *выкл.* у знач *вык.* Шлёп, плясь. *Шпок па плячам яму!* Вецярэвічы Пух.

ШПО'КАЦЬ *незак.* Плюскатаць. *Шпокая дош, хай шпокая.* Вецярэвічы Пух.

ШПО'НГІ *мн.* Шпунты. *Кап сцяна не вывернулася, ставяць шпонґі — кажная браўно з дзіркамі на шпонґі замацоўваецца.* Завельцы Астр. *У заслоне е шпонґі.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* польск. *szponga* 'тж'.

ШПО'НКА *ж.* 1. Гузік. *Дзе проразкі — і ўкладалася шпонка, сцякельца сіненькая, а сама шпонка медная.* Ухвала Круп. 2. Драўляны гузік. *Шпонкі з дзерава рабілі, у кажухі ўшывалі.* Беразіно Докш. 3. Кнопка. *Шпонкі ўшывалі і зашпіляліся.* Старыя Смільгіні Воран.

ШПО'НЫ *мн.* Кіпцюры. *У ката шпоны бойкія, можа велькага бацука аблажыць.* Кіралі Шчуч. *Кот уставіў шпоны і задушыў гаспадара.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *szpon* 'кіпцюр'.

ШПО'РЫЦЬ *незак. перан.* Застаўляць, прымушаць. *Іх не шпорацъ, каб работалі.* Мішневічы Шум.

ШПРЫ'ХІ *мн.* 1. Спіцы. Грыкені, Судэрва Вільн. *Шпрыхі ў ровары паламаліса.* Дзяніскавічы Ганц. *Шпрыхі ад ровара.* Лука Нараўк. *Шпрыхі нагнаты ў калотку, а тады обат, нацягаюць шыну — і кола гатова.* Збляны Лід. *Шпрыхі былі, на шпрыхі обат нацягваецца.* Мыто Лід. 2. Пруткі для вязання. *Шпрыхамі вяжуць швэдар, хустку.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *szprycha* 'спіца (кола)'.

ШПУЛЬ *м.* 1. Шпулька. *Прадут калаўроткам, круціцца нітка на шпуль.* Лука Нараўк. 2. Прылада, якой карыстаюцца пры вязанні снапоў. *Калі вяжуць сноп, шпулем заціскаюць.* Воўкуш Ліпск.

ШПУ'ЛЬКА *ж.* 1. Тое ж, што і ш п у л ь 1. *Прадзеш, выцягваяш нітачку на шпульку.* Гальшаны Ашм. *Як прадзеш, то ідзе на шпульку па зубах.* Баброўнікі Гарад. 2. Шпулька крамных ніцей. *Шпуляк крамных не было даўней.* Рудня Чэрв.

ШПУ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і ш п у л ь 1. *Шпуля ў калаўроце не дзержыцца.* Саланое Віл. *Напрадзецца на шпулю.* Грыкені Вільн. *У караўлоце кола, шпуля, вілачкі.* Дзераўное Стаўб. *Дзве шпулі напрала.* Гальшаны Ашм. *Шпуля ў караўлодзе.* Гемзы Шальч. *Осунулася шпуля.* Дзмітравічы Кам. *Звы на клубок шпулю.* Горск Бяроз.

ШПУПТА'МІ *прысл.* ◇ *Узяць шпуптамі* — трыма пальцамі. *Шпуптамі ўзяў солі.* Калясное Міхал.

ШПУР *зб. м.* 1. Рознае смецце. *Шпур толькі, тут добрага нічога няма, трэба вынесці ў яму.* Гемзы Шальч. *Накідалі ўсякага шпуру.* Кіралі Шчуч. *Паглядзі, сколькі ў нас шпуру кругом хаты!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Дробны вугаль. *У смалярні як згарацъ карчэ, то астаецца шпур, яго атвозяць у Ліду, бяруць шпур, дзе будуюцца, пат падлогу засыпаюць.* Парэчча Гродз.

ШПУРГНУ'ЦЬ *зак.* Кінуць, шпурнуць. *Білет шпургне праз акно.* Багушэвічы Бярэз.

ШПУ'РЫЦЬ *незак.* Таўхаць, піхаць. *Шпурыла дзіця, аб камянь выцялася. Шпурыў аб камянь — і канцы.* Вецярэвічы Пух.

ШПЫ'ЛЬКА *гл.* ШПІ'ЛЬКА I

ШПЫЛЯ'ЦЬ *незак. экспр.* Рабіць (уколы). *Шпылялі яму ўколы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШПЫ'РГЕЛЬ, ШПЭ'РГЕЛЬ *м. бат.* Свінакроп. *Свінакропка — па-даўнейшаму шпырґель называлі.* Граўжышкі Ашм. *Шпэрґель — трава сочная, харошая, вітамінаў многа мая, сцябло на тры канцікі, сінявыя кветкі.* Жылі Іўеў.; *параўн.* ням. *Spargel* 'спаржа'.

ШПЭ'КТЫ *мн.* Парнікі. *У шпэктах сеюць расаду памідораў, капусты. Агарожа, на верх наложана сцякло.* Навасёлкі Свісл. *У шпэктах растуць памідоры, гурке.* Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *inspekty* 'тж'.

ШПЭ'ТНЫ *прым.* Брыдкі, непрыгожы. *Яна не была шпэтная.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *szpetny* 'агідны, брыдкі'.

ШПЭ'ЦІЦЬ *незак.* Рабіць непрыгожым, брыдкім. *Кожнага чалавека шпэціць абы-якая адзежа.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *szpecić* 'псаваць выгляд, брыдзіць'.

ШРАМ *м.* 1. Тое ж, што і ш н а р I, 1. *Шрамы ёсць на рагах у каровы: сколькі шрамоў — столькі цяляткаў.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і ш н а р 2. *Шрам прагнала карова.* Бакшты Іўеў. *Шрамы ад рагоў у каровы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Карова як дала рагом, адразу — шрам.* Малькуны Ігн. *Шрам патпісала карова на баку.* Вецярэвічы Пух. *Шрам здзелала карова — баднула.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. Драпіна. *Котка падзёрла рукі — шрамы на руках.* Вузла Мядз.

ШРАМО'К *м. памянш.* да ш р а м 1. *На рагах шрамкі, столькі цялят, сколькі іх шрамкоў — рубчыкаў гэтых.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШРОН *гл.* ШАРО'Н

ШРУБ *м.* Тое ж, што і ш р ý б а. *Шруб закруціць.* Малькуны Ігн.

ШРУ'БА *ж.* Шруба. *У варстаце ест шруба, ды не адна і кліны зажымаць вешч.* Гемзы Шальч. *Шрубы ў варстаце ест, прыцягваюць вазок.* Збляны Лід. *Шрубы ў задніх калёс закручваліся, кап каляса не звалілася з асі.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *szruba* 'тж'.

ШРУВА'ЦЕЛКА *ж.* Мачалка. *Вазьмі шрувацелку і бойку вымый.* Мішневічы Шум.

ШРУДЗІ'ЦЬ *незак. экспр.* Шукаючы што-н., пераварочваць рэчы. *Што ты шрудзіш?* Галубы Маст.

ШТАБ, ШТАП *м.* Штаб. *У Каралёўшчыне стаяў штап.* Дарава Лях.

ШТА'БА *ж.* Жалезная засаўка, завала, штаба. *Закрый ты-ка штабаю вокны.* Пацаўшчына Дзятл. *Ну, хто к табе палезе, вокны штабамі пазакрываны.* Галубы Маст. *Вышла старая, запёрла на штабу вокны.* Дзесятнікі Валож. *Штабай заложана і замкнёна.*

Дзёрнавічы В-.Дзв.; *параўн.* польск. *sztaba* 'жалезная засаўка', *sztab* 'жалезны прут'.

ШТАБНАВА'НЫ *дзеепрым.* Прашыты рэдкай строчкай на машыне. *Куфайка штабнаваная.* Завельцы Астр.

ШТАБНАВА'ЦЦА *незак.* Прашывацць рэдкай строчкай. *Што на ваце — штабнуецца, перасякаецца.* Завельцы Астр.

ШТАБНАВА'ЦЬ *незак.* Штабнавацць. *Штабнаваць — шыць рэдкай строчкай.* Грыкені Вільн.

ШТАКЕ'ТНЫ *прым.* Штыкетны. *Штакетны плот.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШТАМПЛЯВА'ЦЬ *незак.* Штампавацць. *На рынку мясо штамплюе.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* ням. *stempeln* 'ставіць кляймо'.

ШТАНДА'РКІ *мн.* Апорныя слупы ў будынку. *Пасярэдзіні ўкапуюць штандаркі.* Азяраны Раг.

ШТАНДА'РСКАЯ БЯРНО' *н.* Тое ж, што і ш т а н д а́ р к і. *Штандарская бярно кладуць.* Мярэцкія Глыб.

ШТАНДА'РЫ *мн.* Тое ж, што і ш т а н д а́ р к і. *Штандары паклалі.* Беразіно Докш. *Штандары — слупы, на якіх ставілі будынак.* Азяраны Раг. *Штандары — слупы дубовыя абрэжа, пастаўляе пат печ, пат хлеў, пад вуглы, шчэ яго хлеў на штандарах.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* ням. *Ständer* 'брус, падпорка, слуп'.

ШТАНДА'РЫНА *ж.* Апорны слуп у будынку. *Штандарына — слуп, на якім ставілі будынкі.* Азяраны Раг.

ШТА'НІКІ *мн. памянш.* да ш т а н ы́. *Штанікі пашыла хлапцу.* Кураполле Паст.

ШТАНІ'ЧКІ *мн.* Тое ж, што і ш т а́ н і к і. *Белыя штанічкі адныя і кашуля адна.* Чычалі Швянч.

ШТАНКЕ'Т, ШТЫНКЕ'Т, ШЧЫНКЕ'Т, ШТЫКЕ'Т, ШТЫХЕ'Т, ШТАХВЕ'Т, ШТАХЕ'Т *зб. м.* 1. Штыкет. *Штанкетам абгароджаны, дошкі рашчэпяць папалам — і штанкет.* Кемялішкі Астр. *Штынкетам абгароджаны сат.* Вялікія Баяры Шчуч. *Штынкеты набіваныя.* Гемзы Шальч. *Шчынкет пасярэдзіні двара.* Бакшты Іўеў. *Далі штыкеты, дай і жартке.* Вострава Маст. 2. Штыкетнік. *Не пралезе і курыца праз штанкет.* Малькуны Ігн. *Штанкет — плот з роўных бланкаў.* Крэва Смарг. *Былі парканы, цяпер штанкеты.* Гальшаны Ашм. *Гэты гаротчык гароджаны штанкетам.* Завельцы Астр. *А двор абгароджаны штынкетам.* Кіралі Шчуч. *Плот з балясак — з штыхету.* Лука Нараўк. *Штахветы ў нас найбольш.* Азяраны Раг. *Штахет — плот.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *sztachet,* ням. дыял. *staket* 'тж'.

ШТАНКЕ'ЦІНА, ШТЫХЕ'ЦІНА *ж.* Штыкеціна. *Штанкеціна — як адна.* Кураполле Паст. *Штыхеціну прыбіваюць.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *sztacheta* 'тж'.

ШТАНКІ' *мн.* Тое ж, што і ш т а́ н і к і. *Штанкі ўмараны.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШТАНЫ', ШТАНЭ' *мн.* Штаны. *Штаны надзеў.* Рудня Астра-

вітая Чэрв. *Ходзіць у адніх штанох.* Старыя Смільгіні Воран. *Штаны бяс крэсла цесныя.* Слабада Мін. *Гэтыя штаны гадамі віселі.* Кураполле Паст. *Дайней гузікаў не куплялі, бірку ўшывалі ў штаны.* Вузла Мядз. *Лядачэ штанэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Штанэ нацягнуцьця.* Дзмітравічы Кам. *У дзве нічальніцы ткалі штанэ мушчынам і на спут, і на верх.* Баброўнікі Гарад.

ШТА'ПЕЛЬ *м.* Штапельнае палатно. *Дзе купіць штапелю?* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* ням. *Stapel* 'штапельнае валакно'.

ШТА'РХНУЦЬ *зак.* Парнуць, ударыць. *Карова як штархнула рагом.* Старыя Смільгіні Воран.

ШТАФАВА'ЦЬ *незак.* Цыраваць. *Штафавалі іголкай, як машынкай, мама штафавала каўнер у рубашкі.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* ням. *stopfen* 'тж'.

ШТАХВЕ'Т, ШТАХЕ'Т *гл.* ШТАНКЕ'Т

ШТО I *займ.* 1. Што. *Што за пагода: лье і лье дошч.* Дарава Лях. *Што чуваць у вас, суседзе?* Буйвіджай Вільн. *Што трактарыст будзя зеля абрываць? У яго другая работа.* Збляны Лід. *А што я знаю?* Гемзы Шальч. *Што аб праўдзе сказаць?* Дарава Лях. 2. Каго, чаго. *Што, а сабакі не дзяржалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Німа што на яго сказаць, быў харошы чалавек.* Гемзы Шальч. *Што ты варт?* Солы Смарг. 3. Што-небудзь. *Купіць што, так пуд.* Васілевічы Смарг. *Як у трыбуха яда заляжа, то яшчэ што даюць для развальнення.* Завельцы Астр. *Калі што не так* [пры снаванні], *перамот будзя.* Падгаі Мін.

ШТО II 1. у знач. *злучн.* Што. *Не цярпіца знаць, што там.* Збляны Лід. *Такі злодзей, што канца німа.* Саланое Віл. *Якія мы дурні, што яго звалі, яму там добра.* Малышы Лід. 2. у знач. *злучн.* Аб чым. *Патом вы харашо ўложыце тое, што я вам расказала.* Канюкай Вільн. 3. у знач. *злучн.* Як. *Плаваць я ўмею, што тапор.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мокрая я, што з вады.* Саланое Віл. *Мед ужо робіцца, што лёд.* Старыя Смільгіні Воран.

ШТОБ, ШТО'БЫ *злучн.* Каб. *У хамуце клешчы, войлак, штоб не абшароўвалася кабыла.* Васілевічы Гродз. *Дзед казаў: сягодня штобы сеяць, то быў бы гарох добры.* Вулька Гродз. *Так трэба прасці, штобы тонка напрась.* Навікі Лудз. *Зачаплялі сеткі такія* [у санках], *штобы пану не папала. Загоны шырокія, штобы не было роскідкаў многа.* Відаўцішкі Вільн.

ШТОВЕ'ЧАР *прысл.* Кожны вечар. *Штовечар ідзе да дачкі.* Ёдупка Шальч.

ШТОГАДЗІ'НУ *прысл.* Кожную гадзіну. *Тут ідуць штогадзіну аўтобусы.* Грыкені Вільн.

ШТОДЗЕ'НЬ *прысл.* Штодзень, штодня. *Яны штодзень на кіно.* Курапалле Паст. *Корт на штодзень носіць.* Сакаўшчына Валож. *Штодзень лён трапалі.* Кемялішкі Астр. *Штодзень хадзілі на работу.* Паляцкішкі Воран. *Будзіш усё ўрэмя пры ей і пры ей, штодзень будзіш ругацца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШТОДЗЁННЫ *прым.* Штодзённы. *Гэта маё адзенне штодзённае.* Завельцы Астр.

ШТОКО'ЛІК, ШТОКО'ЛЕК, ШТОКО'ЛЬВЕК *займ.* Што-небудзь. *Раскажы штоколік мне. Пойдеш штоколік рабіць?* Солы Смарг. *Давай штоколек рабіць.* Баброўнікі Гарад. *Штокольвек нада выдумаць.* Малькуны Ігн. *Мелі штокольвек ішчэ.* Дзевятні Смарг.; *парайн.* польск. *cokolwiek* 'тж'.

ШТОКО'ЛІКА *займ.* 1. Тое ж, што і ш т о к о́ л і к. *Трэба, кап было штоколіка.* Дакудава Лід. *Апкіну штоколіка гэтымі ніткамі.* Солы Смарг. 2. Абы-што. *Штоколіка вырабляе гэтым дзецям, сабраўшы іх: малюя, лепя.* Солы Смарг.

ШТОКО'ЛЬВЕК *гл.* ШТОКО'ЛІК

ШТОЛЬ *займ.* Што-небудзь. *Ну, к гэтаму яшчэ штоль прыкіну.* Ухвала Круп.

ШТОМЕ'СЯЦ *прысл.* Штомесяц, кожны месяц. *Штомесяц прысылаў сто рублей.* Кемялішкі Астр.

ШТО-НЕ'БУДЗЬ *займ.* Што-небудзь. *Кумы што-небудзь прахлопалі ілі ксёндз задуманы быў, што так мяне назвалі.* Месянцы Брасл.

ШТОНЯДЗЕ'ЛЮ *прысл.* Кожную нядзелю. *Штонядзелю едзя туды да яго.* Дэгшні Шальч.

ШТО'ПКА *ж.* Цыроўка. *Штопка па штопцы — чулкі светларозавыя, чыста шоўка.* Замошша Брасл.; *парайн.* руск. *штопка* 'тж'.

ШТОРА'С *прысл.* З кожным разам. *Цяпер шторас людзі гайней і гайней жывуць.* Солы Смарг.

ШТОРО'КУ *прысл.* Кожны год. *Штороку пагібая многа бубяшкоў.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *rok* 'год'.

ШТОСЬ *займ.* Штось, штосьці. *Штось там зрабілосо, цэлу ноч страхата, што было. Штось галава баліць.* Галубы Маст.

ШТРАМ *м.*, ШТРА'МА *ж. буд.* Гарызантальны брус, які падтрымлівае папярочныя бэлькі столі, падоўжная бэлька. *На штрамя ляжыць, што паложыш, папярочная бэлька.* Мярэцкія Глыб. *Штрама — апорная бэлька. Штрама ў хаце, клалі розныя рэчы на штраму.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *tram* 'тж'.

ШТРАХЭ'ЎКА *ж.* Страхоўка. *Штрахэўку заплацілі.* Азарычы Пін.

ШТРОФ *м.* Фігура ў танцах, скоках; калена. *Сем штрофаў кадрыль танцавалі.* Пераброддзе Міёр.

ШТРЫ'ФЛІК *м. памянш.* Нашыўка ў выглядзе трохвугольніка над разрэзам у мужчынскай кашулі. *Як канчаіцца распорак* [у кашулі], *прышываіцца штрыфлік.* Солы Смарг.; *парайн.* ням. *Strippe* 'штрыпка'.

ШТРЫ'ЦА *ж.* Кручок на шпулі калаўрота. *Штрыца прыцiскае, каб нітка прутко ішла ў калаўротку.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *tryca* 'дыск'<ням. *Tritze* 'тж'.

ШТУ'КА *ж.* 1. Адзінка вымярэння, пэўная колькасць каго-, чаго-н. *Трое штук авец.* Пацаўшчына Дзятл. *Два штукі пцянцоў кніга выводзіць.* Валеўка Навагр. *Маеш штук з паўста чарвякоў з гэтага матыля.* Замошша Брасл. *Янэ выбралі тры штуке коней.*

Дарава Лях. *Сем штук дзяцей памярло.* Лоск Валож. 2. Браўно. *У зрубі штука ляжыць на штукі. Штука — браўно.* Збляны Лід. 3. Стварэнне. *Воўк — гэта хітрая штука.* Цяпінцы Віл. ◊ *Рабіць усялякія штукі* — мудраваць, выдумляць што-н. *Ён робіць усялякія штукі для дзвярэй.* Солы Смарг.

ШТУКА′Р *м.* Выдумшчык, штукар, забаўнік. *Што-небудзь ён, штукар, патсмяе.* Гемзы Шальч.

ШТУКЛІ′ВЫ *прым.* Штукарскі. *Вельма штуклівая баба была.* Вецярэвічы Пух.

ШТУ′НДА *ж.* Евангелічна-баптысцкая секта, якая ўзнікла ў Расіі ў сярэдзіне XIX ст. *Адвярнула мяне ад штунды.* Азяраны Раг.; *парайн.* ням. *Stunde* 'ўрок, вучэнне'.

ШТУПУВА′ЦЬ *незак.* Цыраваць. *Я штупувала.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *штопать* 'тж'.

ШТУРА′ЦЬ *незак.* Штурхаць, пхаць. *Буду штурацьцябе.* Мярэцкія Глыб.

ШТУРНА′ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ш т у р а́ ц ь. *Усё штурнаіць і штурнаіць людзей — спакойна не пастаіць.* Беразіно Докш. 2. Кідаць, шпурляць. *Штурнаіць камення, баяцца яга дзеці.* Беразіно Докш. *Штурнаў камнем.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШТУРНУ′ЦЬ *зак.* Пхнуць, кінуць. *Штурнуў пад ногі, глядзі, кап не апкалоўся.* Валынцы В.-Дзв.

ШТУРХА′ЦЦА *незак.* Штурхацца, піхацца. *Не штурхайся так.* Глівін Барыс.

ШТУРХА′ЦЬ *незак.* Ганяць, біць. *Гэта карова штурхая ўсіх кароў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *szturchać* 'тж'.

ШТУРХНУ′ЦЬ *зак.* Штурхнуць, піхнуць. *Штурхнула ў руру — і малако выліла.* Паляцкішкі Воран.

ШТУ′ЦІК *м.* Шыдэлак. Грыкені Вільн.

ШТУ′ЧНЫ *прым.* Штучны. *Гэто прырода дала — добра, а штучная ўсё дрэнна.* Солы Смарг.

ШТЫ′БНА *прысл.* Прутка. *Штыбна ходзя, роўненька нагамі ступая.* Гемзы Шальч.; *гл.* ш т ы́ ў н ы.

ШТЫ′БНЫ *прым.* 1. Пруткі. *Штыбны зрабіўся.* Жылі Іўеў. 2. Накрухмалены. *Штыбны — крахмальны матэрыял.* Жылі Іўеў.; *гл.* ш т ы́ ў н ы.

ШТЫК *м. ваен.* Штык. *На штыке сышліся з немцамі.* Дарава Лях.

ШТЫКЕ′Т *гл.* ШТАНКЕ′Т

ШТЫКЕ′ТНІК *м.* Тое ж, што і ш т а н к е́ т 2. *Штыкетнік — плот з досачак.* Лісна В.-Дзв.

ШТЫЛЬ I *м.* 1. Вострьі стрыжань. *Штылямі штылявалі клейні.* Азяраны Раг. 2. Шып. *У штылі бяром сцяну, каб не раз'ежджаліся бярвенні.* Вецярэвічы Пух. 3. Стрыжань дрэва. *Штыль дрэва.* Беразіно Докш.

ШТЫЛЬ II *м.* Вялікі кавалак (сала). *Адрэжыць вялікі штыль.* Кураполле Паст.

ШТЫЛЯВА′ЦЬ *незак.* 1. Змацоўваць пры дапамозе шыпоў.

*Штылююць бярвеня, каб не расходзіліся, як рубяць хаты.* Вецярэвічы Пух. 2. Адпіхваць пры дапамозе штыля (вострага стрыжня). *Як плывуць клейні, то штылююць, штылям увапрэцца ў бераг і адпіхне, каб клейня сярод ракі ішла.* Азяраны Раг.

ШТЫЛЯ'ЦЬ *незак. перан.* Кульгаць. *Нага баліць, як нагой штыляя.* Мсцібава Ваўк.

ШТЫНКЕ'Т *гл.* ШТАНКЕ'Т

ШТЫР *м.* 1. Штыр. *Штыр — жалезны прэнт, калочак, што навязваюць цяля, убіваюць у зямлю.* Рыбчына Віл. *На штыры рагацюлька.* Мішневічы Шум. *Жылезны штыр забіваюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тарчалі штыры да метра даўжыні.* Азяраны Раг. 2. Дэталь ярма. *Штыр ярма.* Азяраны Раг.; *парайн.* ням. *Steuer* 'руль'.

ШТЫРНА'ЦАТЫ *ліч.* Чатырнаццаты. *Гэта было ў штырнацатым гаду.* Завельцы Астр.

ШТЫРНА'ЦЦАЦЬ *ліч.* Чатырнаццаць. *Дідовы тогды було штырнаццаць літ.* Вярхі Кам.

ШТЫ'РНІК, СТЫ'РНІК *м. плыт.* Плытагон. *Штырнік — плытагон. Штырнікі плыты ганялі да Каўнаса, у Вільню ганялі.* Рыбчына Віл. *Стырнік стаяў уперадзі, заднік стаяў ззаду.* Саланое Віл.; *парайн.* ням. *Steuer* 'руль', *Steuermann* 'рулявы'.

ШТЫ'РХАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш т у р а́ ц ь. *Ніхай штырхая.* Граўжышкі Ашм. *Ты міне ні штырхай.* Кіралі Шчуч.

ШТЫ'РХНУЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Штырхнуў яго.* Кіралі Шчуч.

ШТЫ'РЫ, ШТЫ'РЭ *ліч.* Чатыры. *Рагатыўкі насілі на штыры канты.* Васілевічы Гродз. *Хата мае штыры сцен.* Сакаляны Сакол. *Штыры класы з быдою кончыла.* Ляскавічы Бярэз. *Штырэ котэ.* Дзмітравічы Кам.

ШТЫ'ЎНА *прысл.* Трывала. *Як з'ясі бліноў, дык штыўна.* Ністанішкі Смарг.; *гл.* ш т ы́ ў н ы.

ШТЫ'ЎНЫ *прым.* 1. Цвёрды, грубы, каляны. *Абоі штыўныя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Падкладалі матэрыял, кап штыўная кятурка была.* Перабroддзе Міёр. *Штыўная хустка.* Жыдзевічы Іўеў. *Штыўная тканіна — густая такая.* Завельцы Астр. *Накрахмаль бальё — будзіць штыўная.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Устойлівы, моцны. *Штыўны траснік.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *sztywny* 'нягнуткі, незгібальны, цвёрды'.

ШТЫХ *м.* Слой зямлі, роўны адной пядзі. *Штых адзін снімі чарназему, там і мылец, ён заплывае, на мыльцы не ўглубіш яму.* Дзяніскавічы Ганц.

ШТЫХЕ'Т *гл.* ШТАНКЕ'Т

ШТЫХЕ'ЦІНА *гл.* ШТАНКЕ'ЦІНА

ШТЭ *займ.* Што. *А штэ, добруй?* Вялікія Баяры Шчуч. *А штэ, як добра, як файна.* Кіралі Шчуч.

ШТЭ'КЕЛЬ *м.* Шпень, які ўстаўляецца ў скрыжаваныя планачкі, мянташка ў маслабойцы. *Гэты штэкель упускаеш, як б'еш масла. Штэкель с крыжаваннем, масла біць. Палка, якая пра-*

*соўваецца праз два крыжаванкі — гэта штэкель.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* ням. *Stechen* 'палка', *stecken* 'соваць'.

ШТЭ'МПЛІ *мн.* Адборны штампаваны лесаматэрыял для падпорак у шахтах. *Штэмплі з вярхоў, шлі ў капальні на патпоркі і суфіт масцілі са штэмпляў.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *stempel* 'знак', ням. *Stempel* 'штамп'.

ШТЭ'РЫ, ШТЭ'РЭ *ліч.* Тое ж, што і ш'т ы р ы. *Штэры нічальніцы.* Васілевічы Гродз. *По штэры ведрэ не много.* Ялова Пруж. *Сукно ў штэры нічальніцы ткалі.* Мсцібава Ваўк. *Штэрэ кіль.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *cztery* 'чатыры'.

ШУ'БА *ж.* Шуба. *Я шубу надзеў, хлеба ўзяў.* Замошша Брасл. *Шуба с капюшонам, а з варатнікам — кажух.* Глівін Барыс. *А шубы і цяпер і даўней зверху з мехам.* Завельцы Астр. ◇ *Шубай падняцца* — успучыцца (пра дрыгву). *Тут стаў на азярэ і стаіш — азяро заросшае, а там шубай паднялася, і вокны ёсць, пупаў у тое вакно і утонеш.* Мішневічы Шум.

ШУБАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Шыбануць, ударыць. *Шубану — і будзеш знаць.* Мішневічы Шум.

ШУБА'ЦЬ *незак. экспр.* Шыбаць, кідаць. *Гналіся і чым-та шубалі.* Мішневічы Шум.

ШУГА' *зб. ж.* Смецце. *Нагнала шугі — кара, трэсачкі, галінкі на вадзе.* Саланое Віл.

ШУГА'ЛКА *ж.* Гушкалка, арэлі. *На шугалцы шугаюцца.* Вострава Маст.

ШУГАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Хутка пабегчы. *Во шугануў, аж пяткі засвяркалі.* Вецярэвічы Пух.

ШУГА'ЦЦА *незак.* Гушкацца. *Шугаяцца дзіця.* Дзяніскавічы Ганц.

ШУГА'ЦЬ *незак.* 1. Гарэць яркім полымем, палаць. *Шугае полымя.* Альхоўцы Лях. 2. Люляць, калыхаць. *Дзіця як плача, то шугаюць.* Мсцібава Ваўк. *Шугаю дзіця.* Кіралі Шчуч. 3. *экспр.* Набягаць вялікімі хвалямі. *Вада шугая на берах далёка, выганяя мусар.* Вецярэвічы Пух.

ШУГНУ'ЦЬ *зак.* Раптоўна вырасці. *Шугнула трава.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* ш у х н у ц ь 3.

ШУЖДЖЭ'ЦЬ, ШУЖДЗЕ'ЦЬ *незак.* 1. Шапацець, шалясцець. *Папера шужджыць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Шамацець. *Шуждзяць лісты.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Шыпець. *Сода шужджыць, як ліеш сыроватку.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Гусці. *Пшчолы шужджаць.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Шумець. *Шуждзіць дождж.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *šiugždėti* 'тж'.

ШУКА'ЦЦА *незак.* Шукаць адна ў адной (вошай). *Бывала, шукаюцца ў галаве.* Старыя Трокі Трак.

ШУКА'ЦЬ, ШУКА'ТЭ *незак.* Шукаць што-, каго-н. *Прапалі каровы, а пастухе давай шукаць кароў.* Дарава Лях. *Шукаю папярос.* Граўжышкі Ашм. *Шукалі, дзе ў кага сала зложана.* Саланое Віл. *Пайду веніка шукаць.* Азяраны Раг. *Я там брадзіла,*

*шукала ягадаў.* Солы Смарг. *Чаго ты шукаеш, ходзіш, голаў апусціўшы, каля ўглоў.* Кіралі Шчуч. *Шукалі, каб дабраць такога матэрыялу.* Ёдупка Шальч. *Там не шукай, бо не знайдзеш.* Кнышэвічы Бабіц. *Што ты шукаіш?* Саланое Віл. *Шукала хлапца.* Гальшаны Ашм. *Немяц доўга шукаў сястру.* Малышы Лід. *Бабаў шукалі — так лячылі ад пярэпалаху.* Слабада Мін. *Хто пайдзе шукаць мне іх?* Старое Сяло Зэльв. *Я ныкого ны буду шукатэ.* Дзмітравічы Кам.; *парайн.* польск. *szukać* 'тж'. ◇ *Шукаць рады* — лячыць. *Бывала, у варожак шукалі рады, а цяпер усе да дактароў ідуць.* Старыя Смільгіні Воран.

ШУКУ'ТКІ *мн. памянш.* Чарапкі. *Шукуткі — абломкі чарапка.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *šukùtės* 'тж'.

ШУ'ЛА, ШУ'ЛО *ж.* і *н.* 1. Шула. *Шула ўкапаў.* Беразіно Докш. *Шула з двух старон з пазамі.* Азяраны Раг. *Шула завецца.* Кураполле Паст. *Шула, шулы ў пунькі па вуглах, трысьцен дастаўлялі ў шулы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Згніла адна шула ў будынку.* Пераброддзе Міёр. *Адно шула, шула стаўлялі ў гумне.* Кіралі Шчуч. *Мая шула згніла.* Мсцібава Ваўк. *Шула ёсць у плоце.* Пацаўшчына Дзятл. *Бура шула вырывала з зямлі.* Дзяніскавічы Ганц. *Нада шулу укапаць, на гэтай шуле вароты вісяць.* Лісна В.-Дзв. *Шуло укапалі.* Рыбчына Віл. *Шуло ў хлеў трэба паставіць, шуло ў дзвярах.* Альхоўцы Лях. *Шуло ставяць у варота.* Рудня Чэрв. *Згніло шуло.* Гемзы Шальч. *Адно шуло стаіць.* Ёдупка Шальч. *Шулы пайкапвалі, вароты будзем навешваць.* Мачаск Бярэз. *Усе стаўбы ў гумне — шулы.* Чычалі Швянч. *У гумне шулы паставілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Жэрдкі, шулы трэба было купляць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *перан. экспр.* Доўгія рукі. *Трэць і трэць сваімі шуламі.* Замошша Брасл.; *парайн.* літ. *šùlas* 'слуп'.

ШУ'ЛКА *н. памянш.* да ш у́ л а 1. *У шулцы пас — і дзерава закладаюць — і зямеццем называлі такую агарожу.* Ухвала Круп. *Шулка — слупкі ў сцяне.* Чычалі Швянч.

ШУЛУХА' *ж.* Тое ж, што і ш а л а ш а́ я. *Шулуха ў каровы.* Глівін Барыс.

ШУ'ЛУЧКА *н. памянш.* да ш у л а 1. *Шулучкі паставілі ў прыгуменніку і швэльку паложыш.* Гемзы Шальч.

ШУЛЯ'К, ШУЛЕ'КЬ *м.* 1. заал. Шуляк. *Шуляке водзяцца і каршунэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Шуляк хватая куры.* Альхоўцы Лях. *Шуляк гусенята крадзе.* Лука Нараўк. *Шулякі хватают цыплянята.* Вялікі Краснік Пруж. *Шуляк оно як показався, то куры як сопонуть.* Сіманавічы Драг. *Шуляк нашу куру чырвону чуть ны схватыв.* Відзібар Стол. *Ой, Зо* [Зоя], *шулекь курыцю пуніс.* Радастаў Драг. 2. *перан.* Недаразвіты качан капусты. *Ныякыі капусты ныма, одны шулякы.* Сіманавічы Драг. *Вырызала два шулякы.* Відзібар Стол.

ШУ'ЛЯР *м.* Шулер. *Быў першы шуляр у Мсцібаве.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *szuler* 'тж'.

ШУМ І *м.* 1. Шум. *Калі б'юцца — шум.* Чычалі Швянч. 2.

*мед.* Характэрны гук, які праслухваецца ў некаторых унутраных органах пры іх паталогіі. *Шум у галаве.* Валынцы В.-Дзв. *Шум мне галаве.* Альхоўцы Лях. *Чуць сяду на сонца — шум у галаве.* Слабада Мін. *На сэрцы шум быў.* Пацаўшчына Дзятл.

ШУМ II *м.* 1. Накіп. *Во, які шум на булёне.* Солы Смарг. *Шум стаў, як варыш мяса.* Старыя Смільгіні Воран. *Як варыш бульбу, дык шум наверху збіраецца, як бы ў попілі. Шум, як суп варыцца.* Кураполле Паст. *Шум збіраюць з булёну.* Завельцы Астр. *І на супе тоже шум.* Чычалі Швянч. *Шум з мяса. Шум падымаецца, як доіш.* Кіралі Шчуч. *Як мяса гатуецца — шум. Шум на малацэ.* Каўняны Гродз. *Шум, як што варыцца. Шумам азялося малако.* Рыбчына Віл. *Шум счэрпай.* Сіманавічы Драг. *Як доіш — шум на млеку.* Парэчча Гродз. *Шум на малацэ.* Паляцкішкі Воран. *На малаке становіцца шум, шуму многа.* Міратычы Карэл. *Шум на молоці.* Дзмітравічы Кам. *Палавіна даёнкі малака, а шума поўная даёнка.* Гемзы Шальч. *Шум на капусця.* Дэгшні Шальч. 2. Мыльная пена. *Шум болей, як ад мыла.* Завельцы Астр. 3. Пена з каня. *Шум, пена на кані.* Рыбчына Віл. *Шум, як перагнаты конь, бела пена.* Лука Нараўк. *Пад шумам конь.* Пасека Ст.-Дар. *Шумам пакрываецца конь.* Чуркі Ашм. *Упацеў конь, аш пот шумам.* Рудня Астравітая Чэрв. *На кані шум, аш шумам займецца, як нешта яму цяжка.* Завельцы Астр. *На коні аж шум пошов.* Сіманавічы Драг. 4. Смецце. *Шум стаіць на вадзе пры берагах — смяцё стаіць, пена.* Жылі Іўеў. *Шум на рацэ.* Альхоўцы Лях.

ШУМА′ *ж.* 1. Тое ж, што і ш у м II, 1. *Шума — пена з мяса. Каноплі церлі, сцёршы, варылі, шумою падымалася, і палучалася мачанне — канапляная смятана.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шума на квашаніне, на супе. Як мяса варыцца, збіраецца пена такая, трэба зняць.* Мсцібава Ваўк. *Шума, як мяса варыцца.* Вострава Маст. *Шума — накіп, пена.* Навасёлкі Свісл. *Шума — як мяса варыш.* Багушэвічы Бярэз. *Шума на малацэ.* Старое Сяло Зэльв. *Шума на малаку.* Беразіно Докш. *Як варыш ягады — шума.* Багушэвічы Бярэз. *Шума на варэні.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і ш у м II, 3. *Згрэўся конь, аш шума выступіла.* Навасёлкі Свісл. *Шума на кані, зашумеў, пакрыўся шумой.* Данілавічы Дзярж. 3. Тое ж, што і ш у м II, 4. *Шумы многа на вадзе.* Беразіно Докш. *Куры капаюцца ў шуме.* Валынцы В.-Дзв. *Шумы ў хаце поўна.* Кураполле Паст. *Збяры шуму, у хаця поўна шумы, нясі вон.* Мярэцкія Глыб. *Хату міла, а шуму не вынасіла.* Мішневічы Шум. *Толькі пользы мала — адна шума, адно смятьё — што за памідоры.* Кураполле Паст. ◇ *Шуму за парог насіць* — рабіць вядомым тое, чаго не павінны ведаць іншыя. *Штоб шуму за парог не насіла!* Пелічава Лудз.

ШУМАВІ′НА *ж.* Тое ж, што і ш у м II, 1. *Як варыш суп, шумавіну нада сабраць. Як канфітуры варылі, шумавіна зверху.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шумавіна на кісялю.* Лайпушкі Ігн.

ШУ′МАЦЬ *ж.* Смецце ў збожжы. Пасека Ст.-Дар.

ШУМЕ'ТНІК *м.* Сметнік. *Нясі на шуметнік шуму.* Мярэцкія Глыб. *Трэба шуму вынесці на шуметнік.* Саланое Віл. *Памыі вылей на шуметнік.* Беразіно Докш. *На шуметнік шуму выкінь.* Мішневічы Шум.

ШУМЕ'ЦЬ I *незак.* Пеніцца. *Малако шуміць, як карова з'есць пасцель.* Гемзы Шальч.

ШУМЕ'ЦЬ II *незак.* Кішэць. *Шумяць чэрві ў мясе.* Пацаўшчына Дзятл.

ШУМЕ'ЦЬ III *незак.* Утвараць гукі рухам чаго-н. *Шуміць ручэй, вада бурболіць.* Пераброддзе Міёр. *Шуміць сена, ужо перасохшы.* Лісна В.-Дзв.

ШУМЕ'ЦЬ IV *незак.* Выклікаць раздражненне слыху пры склерозе. *Шуміць у вусе.* Альхоўцы Лях. *Што гэта галаве робіцца, чаму шуміць?* Альхоўка Навагр. *Шуміць галава.* Гемзы Шальч.

ШУМЁЛКІ *мн. памянш.* да ш у м ё л ы. *Ай, с шумёлкамі сваты паехалі.* Кураполле Паст.

ШУМЁЛЫ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шумёлы звіняць. Шумёлы натрэпліваныя і звіняць, і за шэю начэпіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шумёлы каню на шыю надзівалі.* Кураполле Паст.

ШУМІ'ЛЫ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Жанік едзіць, шумілы на шыі ў каней бražджаць.* Месянцы Брасл.

ШУМО'ЧАК *м. памянш.* Туман. ∇ *Стаіць у глазах, як шумочак.* Старыя Смільгіні Воран.

ШУМСЦЬ *выкл.* у знач. *вык.* Шусь. *Зграбе — да шумсць у печ.* Старыя Смільгіні Воран.

ШУМЧЭ'ЦЬ *незак.* Цурчаць, струменіць. *Шумчыць дожджык.* Месянцы Брасл.

ШУМШЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Шалясцець, шморгаць. *Вецер шумшчыць кола лістоў: гэта на дошч.* Гемзы Шальч. 2. Перасядаць, трашчэць. *Шумшчыць у горле чорны хлеб.* Гемзы Шальч.

ШУМЯ'ТА *ж. бат.* Мята перцавая. *Шумята такая, пахня.* Рудня Чэрв.; *параўн.* літ. *šùntėtė* 'тж'.

ШУ'ПЕЛЬ, ШУ'ПЯЛЬ *гл.* ШУ'ФАЛЬ

ШУ'ПЛЫ *прым.* Спарахнелы, чарвівы. *Два баравікі, да шуплыя.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *šiupùs* 'які можа рассыпацца'.

ШУПЛЯВА'ЦЬ *незак.* 1. Хутка кідаць, выкідваць лапатай зямлю, пясок. *Шуплявацъ зямлю, пясок лапатай, у паскораным тэмпе. Калі хто быстро робіць і кідая лапаткай пясок, то задзівяцца і кажуць: «Ох, як шуплюя».* Альхоўцы Лях. *Пачаў снех шупляваць.* Кіралі Шчуч. 2. Падаць вялікімі сняжынкамі. *Снех шуплюя, як стане шупляваць, то с хаты не вылезеш.* Каўняны Гродз. *Снех шуплюя, што вочы не расплюшчыш.* Кіралі Шчуч.; *гл.* ш у́ ф а л ь.

ШУПЛЯ'ДА *гл.* ШУФЛЯ'ДА

ШУПО'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Есці. *Што яна шуполіць ды шуполіць.* Кузьмічы Люб.

ШУПСЦЕ'ЦЬ, ШУПЦЕ'ЦЬ, ШУПЧЭ'ЦЬ, ШУПШЧЭ'ЦЬ

*незак.* Браздждаць. *Талерка шупсціць, скора паб'ецца.* Мачаск Бярэз. *Бітая пасуда шупціць, ой, яна ўжо разбітая, і яйцо на зуб возьміш, дык яно шупціць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пабітая талерка шупчыць.* Мярэцкія Глыб. *Талерка шупшчыць, як бітая.* Завельцы Астр.; *параўн.* літ. *šiùpės* 'дробныя кавалкі, крошкі', *šiupėti* 'крышыцца, драбіцца, сыпацца'.

ШУПТУ'К, ШУПТУ'Х *гл.* ШАПТУ'К

ШУПУ'ЛІК *м. памянш.* да ш у п у́ л ь. *Шупулік — мала трэска.* Альхоўцы Лях.

ШУПУ'ЛЬ *м.* Смаляк. *Шупулі — такія смаляке.* Каўняны Гродз.; *параўн.* літ. *šipulỹs* 'тж'.

ШУПЦЕ'ЦЬ, ШУПЧЭ'ЦЬ *гл.* ШУПСЦЕ'ЦЬ

ШУПШУ'ЛЬ *м.* Спарахнелы грыб. *Такіх шупшулёў набярэ.* Куранец Віл.; *гл.* ш у п с ц е́ ц ь.

ШУПШЧЭ'ЦЬ *гл.* ШУПСЦЕ'ЦЬ

ШУРАВА'ЦЬ *гл.* ШАРАВА'ЦЬ

ШУ'РКАЦЬ *незак.* Шаркаць, шоргаць. *Ваду беруць, шуркаць зачнуць вядром.* Замошша Брасл.

ШУРМАВА'ЦЦА *незак.* Шумець, гусці. *Еслі пшчолы шурмуюцца, то шчэ пару клубоў дыму нада даць.* Опса Брасл.

ШУРМАВА'ЦЬ *незак. экспр.* 1. Шумець, крычаць. *Ні шурмуйця, дзеці, на ўсю хату.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *šurmuliúoti* 'тж'. 2. Лазіць у пошуках ежы, шнырыць. *Кот шурмуя ўсюды.* Альхоўка Навагр.

ШУРНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Кінуцца. *Рас шурнула кошка за мышаю, дак усё пазвальвалася.* Кіралі Шчуч.

ШУ'РПА *ж.* 1. Парода кур, гусей з натапыраным, ускудлачаным пер'ем. *Ест куры такія — шурпы, у іх пёры не туды служаць: не служа да хваста, але ад хваста да шыі.* Дэгшні Шальч. *Раньшы былі куры, пер'е стаяла, як накудлачанае, і казалі на іх шурпы.* Пацаўшчына Дзятл. *У шурпы — пёры стаяць дагары.* Жылі Іўеў. *Пёры курыцы шурпы стаяць, не ляжаць.* Старыя Смільгіні Воран. *Шурпа — кура з стаячымі пер'ямі.* Сапоцкіна Гродз. 2. Курыца ў час лінькі. *Шурпа—кура, ліняіць.* Малькуны Ігн. *Шурпа — курыца як вылянае.* Жыдзевічы Іўеў. 3. Паблытаныя ніткі. *У мотку шурпа цэлая.* Кузьмічы Люб. 4. Пра капусту, якая не ўтварае качана. *Шурпа — капуста бяз галовак.* Бакшты Іўеў. 5. *перан.* Пра неахайнага чалавека. ∇ *Ходзіць, як курыца шурпа.* Мсцібава Ваўк. *Ходзіць, як шурпа.* Сіманавічы Драг. *Ідзе, як шурпа, така лахмата.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *šiùrpa* 'птушка з ускудлачанымі пёрамі'.

ШУРПА'К *м.* 1. Тое ж, што і ш у́ р п а 1. *Шурпатая курыца, во надула, як шурпак.* Парэчча Гродз. 2. Разбітае яйцо. *Шурпак — разбітае яйцо, як іграюць на вельканоц. Можа адным яйком многа разбіць і забірае сабе ўсе шурпаке.* Парэчча Гродз.

ШУРПА'ТЫ *прым.* 1. Шурпаты, з патрэсканай скурай. *Павыдзірала ўсе пальцы, сталі шурпатыя.* Лісна В.-Дзв. *Шурпатыя пальцы ад балота, ад пяску.* Дэгшні Шальч. *Шурпатыя пальцы,*

*як у зямлю што саджу.* Мсцібава Ваўк. *Шурпатыя рукі ад ветру.* Лука Нараўк. *Шурпатыя рукі, задзіраецца скура.* Парэчча Гродз. *Рукі шурпатыя ад вады і ветру.* Кураполле Паст. *На руках скура шурпатая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ана бульбу капала, а рукі шурпатыя.* Гемзы Шальч. *Шурпатыя ногі.* Завельцы Астр. *Шурпатая скура.* Жылі Іўеў. *Цела шурпатае стала.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Шыпаты. *Птушка як вылінаіць — шурпатая, перамі не абросшая.* Чычалі Швянч. 3. Неадпаліраваны, нягладкі. *Гэта гліняная шурпатая пасуда.* Кураполле Паст. *Дрэва шурпатое.* Беняконі Воран. 4. Сабраны ў складкі (зборкі). *Шурпатае плацце.* Саланое Віл. *Як палатно ччэш, скажуць шурпатае, негладкае, не па бёрду.* Азяраны Раг. 5. Бугрысты. *Каравая, шурпатая жаба паскакала.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шурпатыя агурке, як бобачкі на іх.* Вецярэвічы Пух. *Бульба шурпатая.* Гемзы Шальч. 6. З натапыранымі пер'ямі. *Шурпата курыца, гусь.* Кіралі Шчуч. *Курыца шурпатая, нехарошая: пер'я ўверх.* Кураполле Паст. *Шурпатая птушка.* Чычалі Швянч. 7. Няроўны, ухабісты. *Зімой дарога такая шурпатая бывая. Гальцом бярэ, бэс снегу.* Солы Смарг.; *гл.* шу́рпа.

ШУРПА́ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* Шорсткі, сабраны ў складкі. *Каля шыі плацця шурпаценька.* Кіралі Шчуч.; *гл.* шу́рпа.

ШУ́РПАЧКА *ж. памянш.* Складачка. *Шурпачкі каля горлачкі апшывалі.* Саланое Віл.; *гл.* шу́рпа.

ШУРПУЛІ́ *мн.* ◇ *Шурпулі пашлі па целу* — пакрыцца дробнымі пухіркамі (ад перажывання, азнобу). Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *šiurpuliaĩ* 'дрыжыкі'.

ШУРУНА́ *ж.* Парушынка. *У вока шуруна папала.* Валынцы В.-Дзв.

ШУРУХНУ́ЦЦА *зак.* Зварухнуцца. *Дзе стукне, дзе шурухнецца — здаецца ідзець нехта.* Замошша Брасл.

ШУ́РХНУЦЬ *незак.* Пакрыцца дробнымі пухіркамі (ад холаду). *Шурхнець цело.* Мсцібава Ваўк.

ШУ́РШАЛЬ *м. заал.* Аса. *Шуршалі кусаюцца, осы, шарсні.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. дыял. *šur̃šalė* 'тж'.

ШУРШЭ́ЦЬ *незак.* Шамацець, шастаць, шалясцець бумагай. Лісна В.-Дзв.

ШУ́РЫН *м.* Швагер. *Бярош шурына і едзіш.* Месянцы Брасл.; *парайн.* руск. *шурин* 'тж'.

ШУСПІ́ЦА *гл.* ШУШПІ́ЦА

ШУ́СТКА *ж.* Мэндлік. *У шусткі ставілі, пяць снапоў паставяць, а шостым ужэ накрые.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *szóstka* 'шасцёрка'.

ШУ́СТРА *прысл.* 1. Хутка, скора. *Мне трэба шустра ісці.* Парэчча Гродз. 2. Бадзёра, весела, жвава. *Шустра пазірая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШУ́СТРЫ *прым.* Шустры, жвавы, спрытны. *Яшчэ баба шустрая, што ў калхоз ходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я такая шустра, а другі — панюра.* Парэчча Гродз.

ШУСЬ *выкл.* у знач. *вык.* 1. Бух. *Шусь — і ўляцеў у ваду.* Лісна В.-Дзв. 2. Соў, шусь. *У вайлакі шусь ногі і абуўся.* Гемзы Шальч.

ШУ'ТАЧКА. У выразе: ◇ *Што гэта шутачка* — надзвычай цяжка; пра што-н. важнае, сур'ёзнае. *Што гэта шутачка што лі, столькі здаваць экзаменаў!* Пярэкі В.-Дзв.

ШУ'ТАЯ КАРО'ВА *ж.* Бязрогая карова. *Шутая карова, німа рог, такі завод тавару.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШУТКАВА'ЦЬ *незак.* Жартаваць. *Баба ветлая, шуткуя, яна гаворыць — усе смяюцца.* Малькуны Ігн.

ШУТКА'Р *м.* Жартаўнік. *Ён шуткар, любіць пашуткаваць.* Парэчча Гродз.

ШУТЛІ'ВЫ *прым.* Жартаўлівы. *Шутлівы, вясёлы чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шутлівы, смяшлівы чалавек.* Мярэцкія Глыб. *Ён ні шутлівы.* Валынцы В.-Дзв. *Шутлівы ён.* Чычалі Швянч. *Ой, шутлівы, смяешся з ім усю дарогу.* Кіралі Шчуч. ∇ *Вотка — шутліва цётка.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *шутливый* 'тж'.

ШУ'ТРЫК *м.* Насенная частка гарбуза. *Разбій гарбуз, а ў шутрыку семак поўна. У гарбузе шутрык унутры.* Глівін Барыс.

ШУ'ФАЛЬ, ШУ'ФЕЛЬ, ШУ'ФЯЛЬ, ШУ'ПЕЛЬ, ШУ'ПЯЛЬ *м.* Шуфель. *Шуфаль — як лапата, толькі берагі загнутыя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шуфаль — у ім загнутыя берагі, мае уха, у ўха ўсаджуям чэрано, ест дзеравяная.* Гемзы Шальч. *Шуфаль, як лапаць, бірагі загнутыя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шуфель, як лапата, толькі берагі захіленыя.* Завельцы Астр. *Ён шуфля прыходзіў пазычыць.* Альхоўцы Лях. *Шуфяль нападобія лапаткі, кідаюць, бярэ шуфяль і закідае торф.* Альхоўка Навагр. *Шуфяль бальшы, збожжа насыпаць.* Лапічы Асіп. *Шуфяль на чэрані насаджаны, гной пачысціць.* Кіралі Шчуч. *Шупель загнёны.* Галубы Маст. *Шуплям снех аткідаюць.* Збляны Лід. *Е у нас шупялі, картоплю браць, шупяль вялікі, а веячка маленька.* Дзяніскавічы Ганц. *Шуплямі зямлю бяруць.* Вострава Маст. ∇ *Валіць, як з шуфлям, снег.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* ням. *Schaufel* 'тж'.

ШУФЛЯ'ДА, ШУПЛЯ'ДА *ж.*, ШУХЛЯ'Д *м.* 1. Скрынка ў шафе, стале. *У шафе больш шуфляды, а ў стале — проста кажуць: паглядзі ў століку, а ні ў шуфляткі.* Завельцы Астр. *Бялізну кладуць у шуфляду.* Вострава Маст. *Шкаф з адным шухлядам разнымі цвітамі выкладзены.* Мішневічы Шум.; *параўн.* польск. *szuflado* 'тж'. 2. Асадка акна, дзвярэй. *Шуфляда апшалявана.* Гемзы Шальч. *Шуфляда ўстаўляецца ў акно.* Кіралі Шчуч. *Вяжацца шуфляда для вакна.* Збляны Лід. *Шуфляды ў вокны ўстаўляюцца.* Завельцы Астр. *Шуфляды ўстаўляліся для акна і ў дзверы.* Мыто Лід. *На акне шупляда.* Дзяніскавічы Ганц.

ШУФЛЯ'ТКА *ж. памянш.* да шуфля́да 1. *Шуфлятка, кла-лі што папала, мелач, вот ніткі.* Рудня Чэрв. *Шуфлятка ў стале.* Завельцы Астр.

ШУФЭ'ЛЕК *м. памянш.* да ш у́ ф а л ь. *Дзе наш шуфэлек? Можа, ён каля хлява ёсь? Шуфэлек попял выбіраць.* Солы Смарг.

ШУХ *выкл.* у знач. *вык.* Шух. Ужываецца паводле дзеясловаў шухаць, шухнуць, шухнуцца. *Памялом печ вымяціць, кўракі ў печ шух — і пякуцца.* Вузла Мядз.

ШУХАЛЁК *м.* Тое ж, што і ш у ф э́ л е к. *Шухальком больш возьміш.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я два шухалькі сыплю мукі на дваіх свіней.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* ш у́ ф а л ь.

ШУ'ХАЦЦА *незак.* 1. Рухацца,ісці. *Ледва шухаюся.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Марудзіць, корпацца. *Ні шухайся, ідзі скарэй.* Вялікія Баяры Шчуч.

ШУ'ХЛЯ *гл.* ШЕ'ХЛЯ

ШУХЛЯ'Д *гл.* ШУФЛЯ'ДА

ШУ'ХНУЦЬ *зак. экспр.* 1. Кінуцца. *Разам шухнеш у рэчку — і паплыў.* Вецярэвічы Пух. 2. Абваліцца. *Зямля на нас шухнула.* Саланое Віл. *Снех шухне на нас.* Парэчча Гродз. 3. Раптоўна вырасці. *Грыбэ так і шухнулі з зямле.* Кіралі Шчуч.

ШУХЦЬ *выкл.* у знач. *вык.* Нечакана выбегчы, наляцець. *Я іду, дваццаць дзікоў шухць на міне!* Парэчча Гродз.

ШУЦЕ'ЙНЫ *прым.* Тое ж, што і ш у т л і в ы. *Шуцейна баба.* Рыбчына Віл.

ШУЦІ'ЦЬ *незак.* Жартаваць. *Усе шуцяць, а абет стыніць.* Кураполле Паст.; *парайн.* руск. *шутить* 'тж'.

ШУ'ШАМЕЦЬ *ж.* Недабраякаснае зерне. *Шушамець кажуць на ячмень, на жыто благое, адна шушамець, зернятка благіе.* Дзяніскавічы Ганц.

ШУ'ШВАЛАК *м.* Галавешка. *Шушвалак у пячыэ перагарэў.* Баброўнікі Гарад.

ШУ'ШМА I *ж.* 1. Тое ж, што і ш у ш п і́ ц а 1. *Шушма — адходы пры ачысцы збожжа.* Рыбчына Віл. 2. Куча. *Якая шушма мякіны.* Рыбчына Віл.

ШУ'ШМА II *ж.* Маток паблытаных нітак. *Шушма — ніткі зблытаныя. Шушму нітак наблытала.* Рыбчына Віл.

ШУШМІ'ЦА *гл.* ШУШПІ'ЦА

ШУШПА'Н *м. устар.* Паўкафтан, жупан. *Шушпан надзеў кужэльны, варатніка німа, горла круглая, шылі з белага палатна, доўгі, ніжы калена, шырокі, як ціпер плашч. Два шушпанэ: на будзянь — зрэбны, на свята — кужэлны.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* укр. *жупан,* польск. *župan* 'тж'.

ШУШПІ'ЦА, ШУСПІ'ЦА, ШУШМІ'ЦА *ж.* 1. Адходы пры веянні збожжа (з дробных зярнят, каласкоў, пустазелля), смецце. *Якоя там дабро — шушпіца — смяццё, зелля розна с травы.* Вузла Мядз. *Шуспіца — сямяна траў, дробныя зярняты, сарнякі.* Рыбчына Віл. *Шуспіца і пазадзя — адно і тоя ш. Шуспіцы курам сыпалі, з бульбай мяшалі і малолі свіням.* Граўжышкі Ашм. *Шушміца — зелля, каласкі зверху.* Рыбчына Віл. *Свіная мука з шушпіцы.* Груздава Паст. 2. Сумесь аўса і вікі. *Я насеяў шушпіцы для каня: авёс, выга, падкормка карміць каня.* Альхоўцы Лях.

3. Сумесь аўса, ячменю, жыта. *Шушпіцы намалоў і павёс.* Граўжышкі Ашм.

ШУ'Я *ж. экспр.* Банда. *Ідзе шуя адкуда-нібудзь, кідая камені ў сцяну.* Гемзы Шальч.

ШЧАБЫРКНУ'ЦЬ *зак.* Абазвацца. *Кошка ляжыць і не шчабыркне.* Вузла Мядз.

ШЧАБЯТА'ЦЬ, ШЧЭБЕТА'ТЫ *незак.* 1. Шчабятаць. *Ластаўкі і сарокі шчабечуць. Пташкі не шчэбеталы.* Ялова Пруж. 2. Гагатаць. *Гусі шчабечуць.* Якубова Рас.

ШЧАВЕ'Й *м.* 1. *бат.* Шчаўе. *Шчавей расце па межах, па дарогах, па крушнях. Шчавей пуская стрэлачкі, і насеня бывая ў ём.* Кіралі Шчуч. *Шчавей ты свой сеіш?* Міратычы Карэл. *Шчавей кіслы, лугавы кіслейшы.* Альхоўка Навагр. *Пашоў па шчавей.* Крынкі Крын. 2. *кулін.* Кіслая страва з шчаўя. *Шчавей варылі.* Мсцібава Ваўк., Вострава Маст. *Я шчавей зварыла на абет.* Малышы Лід. *Шчавей варым, костку якую ўкінім.* Кіралі Шчуч. *Шчавей падлівала.* Валеўка Навагр.; *парайн.* польск. *szczaw* 'шчаўе'.

ШЧАВЕ'ЙЧЫК *м. памянш.* да ш ч а в е́ й 2. *Зварыла шчавейчыку на гэтай плітаццы.* Валеўка Навагр.

ШЧА'ВЕ'ЛЬ, ШЧА'ВІЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і ш ч а в е й 1. *Шчавель кіслы.* Беразіно Докш., Пасека Ст.-Дар. *Шчавель ля ракі расцець.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шчавіль пасеяла, вымахаў вялікі.* Мярэцкія Глыб. 2. Тое ж, што і ш ч а в е́ й 2. *Шчавелю паелі гарачага.* Валынцы В.-Дзв. *Шчавель так ядуць, аш вушы трасуцца.* Паляцкішкі Воран.

ШЧАВЕ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і ш ч а в е́ й 1. *Шчавельнік нарос.* Пасека Ст.-Дар.

ШЧАВУ'К, ШЧАВУ'Х *м.* 1. Тое ж, што і ш ч а в е́ й 1. *Вайной шчавук елі.* Ракаўскія Швянч. 2. *бат.* Конскае шчаўе. *Шчавук у канаве расцець, коні елі.* Вузла Мядз. *Шчавук — конскі шчавель.* Саланое Віл. *Шчавух — лісці длугія, коні ядуць.* Чычалі Швянч.

ШЧАГО'Л *м. заал.* Шчыгол. *Шчагол — файная птушка.* Грыкені Вільн.

ШЧАДРАВА'ЦЬ *незак. абрад.* 1. Святкаваць у час каляд. *Адны шчадравалі ат калят да Новага года — не пралі, не рабілі работу.* Кіралі Шчуч. 2. Хадзіць па хатах з абрадавымі песнямі, танцамі, прымаючы пачастунак. *На каляды шчадруюць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШЧАДРА' *ж. абрад.* Вячэра перад Новым годам. *Посна куцця і багата куцця, або шчадра. Вот заўтра шчадра, варацьь галаву свінную на шчадру, бліноў напякуць.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *szczodrak* 'навагодні пірог'.

ШЧА'ДРАНАЯ НЯДЗЕ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і ш ч а д р а́. *Шчадраная нядзеля.* Глівін Барыс.

ШЧАДРО', ШЧАДРЭ' *н.* 1. Тое ж, што і ш ч а д р а́. *Шчадро— свята такое, сабіраюцца на баль, балююць.* Ракаўскія Швянч.

2. Перыяд часу, тыдзень да Новага года. *Ат калят да Новага году — шчадрэ, нічога не робяць, не пралі вечарам.* Кіралі Шчуч.

ШЧАДРО'ЎНІКІ *мн. абрад.* Людзі, якія хадзілі па хатах з абрадавымі песнямі, танцамі на каляды. *Шчадроўнікі на коляды ходзяць. Шчадроўнікі просяць: «Дзяцько і цётко! Прабудзіцеса, вынесь каляду!»* Дзяніскавічы Ганц.

ШЧАДРЫ'ВЫ *прым.* Воспавы. *Шчадрывая ліцо, як у каго оспа была.* Перабродзе Міёр.

ШЧАКА' *ж.* Шчака. *Шчака апухла.* Вострава Маст. *Шчака зачырванелася нечага.* Гемзы Шальч.

ШЧАКАТА'ЦЬ *гл.* ШЧЫКАТА'ЦЬ

ШЧАКО'ТКА, ШЧЫКО'ТКА *ж.* Козыт. *Ні шчакачы, я баюся шчакоткі.* Рыбчына Віл. *Так баюся шчыкоткі.* Ухвала Круп.

ШЧАКО'ТКІ *мн.* Козыт, лоскат. *Баіцца шчакотак.* Рыбчына Віл. *Я баюся шчакотак.* Мярэцкія Глыб.

ШЧАКЯТУ'РКА *гл.* ШЧЫКЯТУ'РКА

ШЧАКЯТУ'РЫЦЬ *гл.* ШЧЫКАТУ'РЫЦЬ

ШЧАЛАКАВА'ТЫ *прым.* Сакавіты, сочны. *Такія шчалакаватыя дзікія яблыкі, як памерзнуць.* Кіралі Шчуч.

ШЧАЛАКІ' *мн. кулін.* Суп з бульбы. *Сёня на вячэру звару з адной картофлі шчалакі.* Навасёлкі Свісл.

ШЧАЛАЧО'К *м.* 1. *памянш.* да ш ч о́ л а к I, 1. *Шчалачок варылі.* Альхоўцы Лях. 2. Варыва з ільнянога семя ці канапель. *І зальем гэтага шчалачку* [з семя ці канапель], *патсолім і ямо с хлебам, с картошкаю, хто с чым.* Навасёлкі Свісл. 3. Жыжка. *Наш паршук гушчыні ня есць, а шчалачок пап'е.* Магуны Паст.

ШЧАЛКА'ЦЬ *незак.* Лушчыць. *Некалі сядзім і шчалкаем арэхі.* Лоск Валож.

ШЧАЛУКА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш ч а л к а́ ц ь. *Трэба шчалукаць арэхі. Шчалукаем боп.* Рыбчына Віл.

ШЧАМА'ЦЬ *незак.* Шчапаць. *Шчамаў дровы, трэсак нашчамаў.* Пасека Ст.-Дар.

ШЧАМЕ'ЛЬ, ШЧУМЕ'ЛЬ *м. заал.* Чмель. *Шчамялі гранкі робюць і мёт носюць.* Валынцы В.-Дзв. *Шчамялі ў мху дзелаюць гнязда.* Лісна В.-Дзв. *Шчамлі дзікія лесавыя ў дупле.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шчамлі кусаюцца.* Мярэцкія Глыб. *Шчамлі літаюць.* Мішневічы Шум. *Шчумель цёмны, у лясу жыве, кусаіцца.* Кураполле Паст.

ШЧАМІ'ЦЦА *незак.* Спароўвацца. *Ваўчыца шчэміцца, і сучка шчэміцца.* Вузла Мядз.

ШЧАМІ'ЦЬ *незак.* Сціскаць. *Шчаміў моцно кулак.* Міратычы Карэл. *Панаганяла асоту ў рукі, не магу руке шчаміць у кулак.* Кіралі Шчуч.

ШЧА'МКАЦЬ *зак. экспр.* З'есці. *Ты шчамкала ўсё і мне не аставіла, шчамкала скварку.* Каўняны Гродз.

ШЧАМЛЁТКА *ж.* Расшчэпленая рагаціна. *Шчамлёткай ракаў лавілі, ета такая вілка дзераўляная.* Беразіно Докш. *У шчам-*

*лётку вужаку возьміш.* Валынцы В.-Дзв. ◇ *Папасці ў шчамлёткі* — быць у цісках, папасці ў бязвыхаднае становішча. *Ён папаў у такія шчамлёткі.* Кураполле Паст.

ШЧАМЭ′ *гл.* ШЧЫМЭ′

ШЧАМЯ′К *м.* Стрэмка. *Шчамяк у руку загнала.* Беняконі Воран.

ШЧАМЯЛЬКІ′ *мн.* Чапяла. *Шчамялькамі пятэльну дастаюць.* Ракаўскія Швянч.

ШЧА′НАЧКА *ж. памянш.* да шчань. *Шчаначка дубовая.* Азяраны Раг.

ШЧАНЁТКА *н. памянш.-ласк.* да шчаня́. *Ён шчанётка ўкраў.* Бакшты Іўеў.

ШЧАНІ′ЦЦА *незак.* Цвісці. *Як блёкату аб'есца карова — абдуваіць, асабліва калі ў такі час пападзець, як блёкат шчэніцца, тады ён шкодны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЧАНЬ *ж.* Дубовая бочка. *Шчанёў наставіць на воз і вязе ў горад.* Азяраны Раг.

ШЧАНЮ′К *м.* 1. Шчанё. *Ужо добры шчанюк брэша.* Новыя Мацалі Варэн. *Шчанюк у сучкі. Шчанюк скуліць.* Міратычы Карэл. 2. *перан. лаянк.* Пра дрэннага чалавека. *Шчанюк ты!* Груздава Паст. ▽ *Маленькі сабачка да смерці шчанюком.* Вострава Маст.

ШЧАНЮЧО′К, ШЧУНЮЧО′К *м. памянш.-ласк.* да шчанюк 1. *Шчанючок маленькі бегая з дзецьмі.* Новыя Мацалі Варэн. *Шчунючок малы, а такі злы.* Якубова Рас.

ШЧАНЯ′ *н.* Шчанё. *Шчаня носіцца па траве за мухамі.* Міратычы Карэл.

ШЧАПА′ *ж.* Від гонты. *Шчапою хату сама накрыла.* Альхоўцы Лях. *Шчапа крыць страху.* Багушэвічы Бярэз.; *параўн.* руск. *щепа* 'тж'.

ШЧАПА′НІК *м.* 1. Палена (дроў). *Адзін шчапанік астаўся.* Ністанішкі Смарг. 2. Трэска, падпалка. *Як шчапалі лучыну — шчапанікі, імі ў печы падпальвалі.* Месянцы Брасл. *Шчапанікаў прынясі печ падпаліць.* Граўжышкі Ашм.

ШЧАПА′НЫ *дзеепрым.* Шчапаны. *Шчапалі дровы і са шчапаных дроў яшчэ больш дробныя шчэпкі рабілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЧАПА′ЦЦА *незак.* Шчапацца. *Пры ройсця сосна натта шчапалася на лучыну.* Каменка Шальч.

ШЧАПА′ЦЬ, ШЧАПІ′ЦЬ *незак.* 1. Шчапаць (пра лучыну). *Шчапалі лучыну.* Месянцы Брасл. *Шчапаеш лучыну і начынаеш плясці кашолкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У яго ёсць улюблёны занятак — шчапаць лучыну.* Беразіно Докш. 2. Калоць (пра дровы). *Дровы шчапаюць.* Альхоўка Навагр. *Літоўскай сякерай добра шчапаць.* Завельцы Астр. *Ён дрова шчапаў.* Дэгшні Шальч. *Дровы пілуюць, шчапаюць.* Паляцкішкі Воран. *Калотка, дзе дрова шчапаць.* Пасіене Лудз. *Як шчапіць, напілуя і шчэпя на некаль-*

*кі часцей, с плашкі шэсць-восем лучын, а як пашчэпя, кладзе на комін.* Гемзы Шальч.

ШЧАПЕ'ЛІНА *ж.* Сківіца. *Вывіхнула шчапеліну.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШЧАПЁРЫ *гл.* ШЧЫПЁРЫ

ШЧАПІНА' *ж.* Штыкеціна. *Трэба шчапіну прыбіць.* Граўжышкі Ашм.

ШЧАПІ'ЦЬ I *гл.* ШЧАПА'ЦЬ

ШЧАПІ'ЦЬ II *незак.* Прышчэпліваць. *Трэба воспу шчапіць.* Рыбчына Віл.

ШЧАПНЯ'К *м.* Частка двара, дзе пілуюць і шчапаюць дровы. *На шчапняку дровы шчапаюць і пілуюць.* Малькуны Ігн.

ШЧАПО'ТКА *ж.* Дробачка. *Шчапотку солі дай.* Лісна В.-Дзв.

ШЧАПО'ЧКІ *мн.* Трысцінкі (у бёрдзе). Навікі Лудз.

ШЧАПУ'ЛЬ *м.* Аскалёпак. *Абсякалі, шчапулі адляталі.* Гальшаны Ашм.

ШЧАПУЛЬКІ' *мн. памянш.* да ш ч а п у́ л ь. *Нясі шчапулькоў мне на распалку.* Солы Смарг.

ШЧАРБА'ТЫ *прым.* Бяззубы, шчарбаты. *Шчарбатая, як зубоў няма, павывальваўшыся.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шчарбаты, без зубоў наперадзі.* Лука Нараўк. *Шчарбаты, зубоў няма.* Завельцы Астр. *Бабуля шчарбатая.* Гемзы Шальч.

ШЧАРБІ'НА *ж.* Вышчарбленае месца, зазубрына. *На сярпу шчарбіна.* Пасека Ст.-Дар.

ШЧАРУ'ПКА *ж.* Ракавінка, цвёрдая абалонка. *Шчарупка ў слімаках.* Альхоўка Навагр.

ШЧАСЛІ'ВА *прысл.* Удачна, паспяхова, шчасліва. *Шчасліва табе, кап скора увідзіцца.* Ністанішкі Смарг.

ШЧАСЛІ'ВЫ *прым.* Той, якому шчасціць, шчаслівы. *А шчаслівы ці не шчаслівы — урэмя пакажыць.* Месянцы Брасл. *Мы шчаслівыя дзеці, такія маткі нашы доўгавечныя.* Слабада Мін. *Шчаслівыя тыя бацькі, якім бох даець добрых дзяцей.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яна шчасліва: перад велькім святам радзілася.* Валеўка Навагр.

ШЧА'СНЫ *прым.* Тое ж, што і ш ч а с л і в ы. ∇ *Не радзіся красна, а радзіся шчасна.* Новыя Мацалі Варэн.

ШЧА'СЦЕ, ШЧА'СЦЯ *н.* 1. Удача, шчасце. *Усё людзі пробавалі шчасця.* Дарава Лях. 2. Шанцаванне, поспех, шанц. *Мела шчасця да хлопцаў.* Гемзы Шальч. 3. *іран.* Карысць. *Уся шчасця, што начуіць у хаці.* Малькуны Ігн. 4. *пабоч.* К шчасцю, на шчасце. *Шчасця ваша, бабушка, што кроў пашла, было зліяня.* Слабада Мін. ∇ *Ня строй сваё шчасця на чужом няшчасці!* Пераброддзе Міёр.

ШЧАТЫ' толькі *мн.* Лічыльнікі. *А цяпер шчаты бяруць лічыць.* Латыгаль Віл.

ШЧАЎ *м.* 1. Тое ж, што і ш ч а в е́ й 1. *Шчаў варылі і буракі, наскрабаю, закіснуць.* Малькуны Ігн. 2. Тое ж, што і ш ч а в е́ й 2.

*Шчаў смачны, так наелася.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *szczaw* 'тж'.

ШЧА'ЎЕ, ШЧА'ЎЯ, ШЧА'ЎЁ, ШЧО'ЎЕ, ШЧО'ЎЯ *н.* і *ж.* 1 Тое ж, што і шчаве́й 1. *Шчаўе расце на мяжы.* Чычалі Швянч. *Шчаўю набрала за вёскай, на лузе.* Пацаўшчына Дзятл. *Шчаўя шмат на мяжы і вялікая.* Завельцы Астр. *Шчаўя хадзіла збіраць, горат яго раскупоў.* Слабада Мін. *Збіралі шчаўя на Калной.* Саланое Віл. *Макрына ў шчаўя пашла.* Вузла Мядз. *Шчаўе на сенакосах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сабяры хоць жменячку шчаўя.* Граўжышкі Ашм. *Паслала набраць шчаўё.* Плябанцы Ашм. *Шчаўё маё падрасло.* Жылі Іўеў. *У мяне шчаўё расце.* Гальшаны Ашм. *Шчоўя, як лух парасце.* Вецярэвічы Пух. 2. Тое ж, што і шчаве́й 2. *Шчаўе ці бацьвінне смятанай бялілася.* Завельцы Астр. *Кажаць, як ясі шчаўя, баляць ногі.* Вузла Мядз. *Шчаўю згатуюць, смятанай забеляць.* Новікі Гродз. *Шчаўё варылі часта.* Гемзы Шальч. *Інагда і шчаўё ем, і малако, і смітану.* Гальшаны Ашм. *Шчоўе з'ем — баліць жывот.* Падгаі Мін. *Шчоўя варылі усю вясну.* Вецярэвічы Пух.

ШЧА'ЎЛЯ *ж.* Тое ж, што шчаве́й 2. *Гэта шчаўля твая густа.* Малькуны Ігн.

ШЧАЎНІ'К *м.* Тое ж, што і шчаву́к 2. *Шчаўнік ля плоту расце. Шчаўнік, як кашаль натта сільны, памагая.* Пацаўшчына Дзятл. *Шчаўнік — конскі шчавель.* Рыбчына Віл.

ШЧАЎПЦІ'СЯ *зак.* Нагаварыць абы-чаго. *Гэдак во шчаўплюся.* Завельцы Астр.

ШЧА'ХНУЦЬ І *зак.* Астыць. *Як печ троха шчахня, мы чэрствы хлеп абальём вадою і ў печ, ён робіцца тады мяхкі.* Кіралі Шчуч.

ШЧА'ХНУЦЬ ІІ *зак.* Прапасці, падохнуць. *Былі тараканы і шчахлі.* Мсцібава Ваўк.

ШЧАЦІ'НА *зб. ж.* Шчацінне. *У дзікоў шчаціна стаіць на хрыпце.* Пераброддзе Міёр.

ШЧАЧЫ'ННЕ *зб. н.* Тое ж, што і шчаці́на. *Шчачынне густое ў свінні.* Мачаск Бярэз.

ШЧАЯ' *ж.* Дапушчаная памылка пры кіданні ніцей ў бёрда. *Калі нітачку не накідаеш ў трасцінку — то шчая.* Мачаск Бярэз.

ШЧІ'ТКА *ж.* Шчотка. *Шчітка, шчо чэсаты лён.* Дзмітравічы Кам.

ШЧО *займ.* Тое ж, што і што І, 1. *Шчо ветэ тута рвэтэ?* Смаляніца Пруж.

ШЧОБ *злучн.* Тое ж, што і штоб. Шчоб я буў поіхав сам, то діло зробыв бы. Дзмітравічы Кам.

ШЧО'ГАЛЬНЫ *прым.* Франтавы, фарсісты. *Відзіш, якая шчогальная Наташка!* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *щеголь* 'франт, фарсун'.

ШЧО'ДЗЕР *м.* Тое ж, што і шчадра́. Пасека Ст.-Дар.

ШЧО'ДРЫК *м.* Тое ж, што і ш ч а д р а́. *На шчодрыка бліны пяклі.* Кузьмічы Люб.

ШЧО'ДРЫКІ *мн.* Тое ж, што і ш ч а д р о́ ў н і к і. *Шчодрыкі пяюць перад Новым годам.* Азяраны Раг.

ШЧО'КАТ *м.* Тое ж, што і ш ч а к о́ т к а. *Баіцца дзіця шчокату.* Мачаск Бярэз. *Ой, баіцца шчокату!* Беразіно Докш.

ШЧО'КІ *мн.* 1. *ткац.* Бакі ткацкага станка. Рудня Чэрв. 2. Верхняя рухомая частка церніцы. *У церніцы е язык і шчокі, ды гэтым языком завальваяш жмэнькі ды джах-джах.* Альхоўцы Лях.

ШЧО'ЛАК I *м.* 1. Кіслая вадкая страва, поліўка. *З капусты і гуркоў смашны шчолак.* Беразіно Докш. *Налі мне шчолаку.* Мыто Лід. *Папрабуй шчолаку.* Альхоўцы Лях. *Зварыла грыбэ шчолакам.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Кіслы сок (з садавіны, гародніны). *Шчолак — сок з ягат, капусты, сліў, яблык.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Вадкая частка стравы, юшка. *Падлі іс шчолакам ратчэйшага крупніку.* Старыя Смільгіні Воран. *Шчолаку улій зверху.* Кузьмічы Люб. *Шчолак зліў, а гушча асталася.* Збляны Лід. *Густую вару з'ела, шчолак застаўся.* Галубы Маст. *Свіня цэдзіць адно шчолак.* Альхоўцы Лях. *Крышаньчыкі асталіся, а шчолак з'еў.* Пацаўшчына Дзятл. *Падлей шчолаку, а то ў міне адзін густыш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Наварыла рэтка, адзін толька шчолак.* Кіралі Шчуч.

ШЧО'ЛАК II *м.* Вада з попелам для адбельвання бялізны, палатна; луг. *З попялу шчолак.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шчолаку нарабіла, буду сціраць.* Опса Брасл. *Шчолакам мылі бяллё.* Яніна В.-Дзв. *Шчолак з попелу рабілі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Шчолак рабілі з попелу: жлукта абвязуем, попял сыпіш на посцілку і вады гарачай налеіш.* Азяраны Раг. *Шчолак — вада з попелам.* Багушэвічы Бярэз.

ШЧО'ЛАК III *м.* Шчыліна. *На правы віжу глаз праз шчолак.* Валеўка Навагр.

ШЧО'ЛАЧАК *м. памянш.* да ш ч о́ л а к I, 3. *Гушчы не чапаў, шчолачак сабраў палонікам і гэта папіў.* Гемзы Шальч.

ШЧО'ЛАЧКА I *ж. памянш.* да ш ч о́ л а к I, 3. *Мой толькі шчолачку есь, а гушча асталася, улі мне толькі шчолачкі.* Рыбчына Віл.

ШЧО'ЛАЧКА II *ж.* Вузкая лясная дарожка, сцяжынка. *Шчолачка — вузенькая дарожка лесам.* Чычалі Швянч.

ШЧО'ЛУТ *м.* Тое ж, што і ш ч о́ л а к II. *Шчолут для мыцця бялля.* Глівін Барыс.

ШЧО'ПАЦЬ, ШЧО'ПЯЦ *м.* Невялікая колькасць чаго-н. сыпучага, што можна ўзяць трыма пальцамі. *Усыпаў дзве шчопці солі — і мала.* Ухвала Круп. *Усып шчопяц солі, два шчопцы солі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дала шчопці перцу.* Альхоўцы Лях. *Шчопці солі ўзяла і пасаліла.* Новікі Гродз. *Дай мне перцу шчопці, солі шчопці.* Кіралі Шчуч. *Шчопці солі ўзіла.* Завельцы Астр. *Узяла шчопці солі, мукі.* Міратычы Карэл.

ШЧОСЬ, ШЧО'СЬЦІ *займ.* Тое ж, што і шт о с ь. *Шчось нэ хватае ёму. Шчось скажэ.* Дзмітравічы Кам. *Шчось недобра бульба.* Вялікі Краснік Пруж. *Шчосьці зрабілосо для лымя.* Сакаляны Сакол.

ШЧОТ *м.* Лік, колькасць. *Вот іх сколька шчотам.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *счет* 'тж'.

ШЧО'ТАЧКІ I *мн. памянш.* Тасёмка з ворсам. *Пры берагу спадніцы шчотачкі прышывалі.* Ракаўскія Швянч. *Пат сподам шчотачкі патшыты, штоп не брызгалася спадніца.* Мсцібава Ваўк.

ШЧО'ТАЧКІ II *мн. памянш.* Частка нагі ў жывёлы вышэй капыта. *Карове шчотачкі баляць.* Старыя Смільгіні Воран.

ШЧО'ТКА I, ШЧЭ'ТКА *ж.* 1. Шчотка (з цвікоў) для часання льну пасля церніцы. *Шчотка — такая доска набіта, гозьдзікамі панабівана.* Васілевічы Гродз. *На жалезну шчотку лён трапалі.* Лайпушкі Ігн. *Шчоткай чэша лён.* Старое Сяло Зэльв. *Тады лён чэшэм на шчотку.* Баброўнікі Гарад. *Пакуля знімалі на шчотках.* Пераброддзе Міёр. *Былі жалезныя шчоткі, гваздзямі набіты.* Слабада Мін. *Часалі на шчоткі лён. У шчотках зубы часаць лён.* Канюкай Вільн. *Троха прачэсвают лён на шчотках.* Горск Бяроз. *Шчоткі часаць лён.* Вострава Маст. *Бяруць шчатке і чэшуць лён.* Пацаўшчына Дзятл. *Былі шчаткі лён часаць.* Навасёлкі Свісл., Дзяніскавічы Ганц. *Дзве достачкі прыбіта гваздзямі ўгару, гвоздзі набітыя, адна шчэтка гусцейшая, другая радзейшая.* Дзераўное Стаўб. *Шчэткай лён часалі.* Ністанішкі Смарг. *Вялікая шчэтка, з вялікімі цвікамі знімаць камлі і вярхі.* Мярэцкія Глыб. *Буду часаць на жалезну шчэтку.* Кіралі Шчуч. *Шчэтка зялезная.* Груздава Паст. *Лён чэшуць жалезнай шчэткай.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шчэткі былі лён абдзелываць.* Малышы Лід. 2. Невялікая шчотка, зробленая са шчаціння для часання льну пасля трапання. *Потым часалі лён шарсцяной шчоткай.* Канюкай Вільн. *Пасля трапання шчоткаю чэшут лён.* Лука Нараўк. *На шчотку чысцілі лён.* Дэгшні Шальч. *Шчотку дзелалі з шэрсці свіной, знімалі пласты, аставаўся кужаль.* Пераброддзе Міёр. *Шчотка рэтка.* Крынкі Крын. *Як ткалі палатно, на шчотку прачэшым і прадзём.* Завельцы Астр. *Чэшуць на другі грэбінь ці шчэткай.* Саланое Віл. *Часалі на шчотках лён.* Васілевічы Гродз. *Шчотка са шчаціны, чэшуць лён.* Азяраны Раг. *Трэці рас шчоткай шарсцяной чэшуць лён.* Стракішкі Трак. *А танкі кужаль ад шарсцяной шчэткі.* Вострава Маст. *Шчэтка із свінога шчаціння.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шчэтка шарсцяна была, часалі на лепша.* Дакудава Лід. *Лён шарсцяной шчэткай чэшуць.* Збляны Лід. *Шчэткай лён часалі.* Мішневічы Шум. *Кужаль у куклы вязалі пасля свінной шчэткі.* Вузла Мядз. *Шчэткі са свінога шарсціння робілі і смалой аблівалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шчэткі былі, часалі імі.* Навасёлкі Лід. *Дзе каляная шэрсь — выбіралі і рабілі шчэткі лён часаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шчэткі са свіной шэрсця.* Груз-

дава Паст. *Дайней шчэткі былі.* Валынцы В.-Дзв. *Шчэтка была, лён часалі.* Мсцібава Ваўк. 3. Шчотка (для расчэсвання валасоў). *Шчэткай часалі валасы.* Асавец Віл. *Шчэтка гразная, шчэтку можна памыць.* Ністанішкі Смарг. *Шчэткі калючыя, галаву часалі.* Жылі Іўеў. ∇ *Дайней гаварылі: трэба шчотку адзёжну залажыць за пазуху, штоб не здзівілі цябе.* Дарава Лях.

ШЧО'ТКА II *ж.* Кветаножка сланечніку. *У сланечніка шчотка велька астаецца.* Навасёлкі Свісл. *Шчотка слонечніку.* Міратычы Карэл.

ШЧО'ТКА III *ж.* Тое ж, што і ш ч о́ т а ч к і II. *Шчотка на нагах каня.* Дзяніскавічы Ганц.

ШЧО'ТНІК *м. бат.* Сівец. *Шчотнік — зелье лугавое.* Дзяніскавічы Ганц.

ШЧО'ЎГАЦЬ *незак.* Ікаць. *Малец замерз, шчоўгаіць.* Якубова Рас.

ШЧО'ЎЕ, ШЧО'ЎЯ *гл.* ШЧА'ЎЕ

ШЧО'ЎКНУЦЬ *зак.* Шчоўкнуць. *Як ні шчоўкне, то яно закрытае.* Баброўнікі Гарад.

ШЧО'ЎЛІК *м. памянш.* да ш ч а в е́ й 2. *Шчоўліку пакушайце.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШЧО'ЧКА *ж. памянш.* да ш ч а к а́. *Шчочкі розавінькія.* Пярэкі В.-Дзв.

ШЧУ'КА *ж. заал.* Шчупак. *Шчука хітрая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Усялякая платва, гусцерка, акунь водзіцца; шчука — такая доля нападаць на іх. Шчука хлясь хвастом — і няма яе.* Месянцы Брасл. *Шчука за палец хваціла.* Беразіно Докш. *Шчуку злавілі ў возеры.* Істра Лудз.; *параўн.* руск. *щука* 'тж'.

ШЧУМЕ'ЛЬ *гл.* ШЧАМЕ'ЛЬ

ШЧУНЮЧО'К *гл.* ШЧАНЮЧО'К

ШЧУПА'К *м.* Тое ж, што і ш ч у́ к а. *Шчупака злавіў хунтаў дзесяць, не прывес мне і кусочка, я яму ўспомню.* Саланое Віл. *У азярыне шчупак водзіцца.* Валеўка Навагр. *Я сёня злавіў шчупака.* Кіралі Шчуч. *У шчупака — рыла, як шуфля, хваціць рылам і праглытніць рыбку.* Малькуны Ігн. *Відзела, ляжаў шчупак кілаграм на шаснаццаць, прадавалі, але я такога не данясу.* Вузла Мядз. *Шчупак расце да кілаграм дзесяць і больш.* Мыто Лід. *Шчупакі круглыя, длінныя растуць.* Гальшаны Ашм. *Шчупакі па чатыры кілі.* Гемзы Шальч. *Я два шчупаке злавіў.* Збляны Лід.; *параўн.* польск. *szczupak* 'тж'.

ШЧУПА'РАЧАК *м. памянш.* да ш ч у п а́ к. *Шчупарачкі праскаквалі ў каробку.* Азяраны Раг.

ШЧУ'ПАЦЦА *незак.* Церабіцца. *Куры шчупаюцца на дошч.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШЧУ'ПАЦЬ *незак.* 1. Спароўвацца. *Пятух шчупае курэй.* Навасёлкі Свісл. *Пятух курыцу шчупаіць, с курамі іграіць.* Саланое Віл. 2. Вызначаць, ці з яйкам курыца. *Шчупалі курэй,*

*каб ведаць, ці знесліся, ці не.* Мярэцкія Глыб. 3. Мацаць. *Ягады шчупаюць, ці ні мяккія.* Слабада Мін.

ШЧУПЕ́Ц *м. іран.* Пра таго, хто робіць выгляд, што хоча купіць тавар. ∇ *Гэта не купец, а шчупец: пашчупаіць — і пашоў.* Валынцы В.-Дзв.

ШЧУ́ПЧЫК *м.* Тое ж, што і шчо́паць. *Шчупчык солі ўзяла.* Навасёлкі Лід.

ШЧУР *м. заал.* Пацук. *Наш кот ловіць мышы і шчуры.* Навасёлкі Свісл. *Кошка лапае мышэй, шчуроў.* Лука Нараўк. *Шчуры плодзяцца ў крусьні.* Малькуны Ігн. ∇ *У вушах, як у шчура.* Кемялішкі Астр. *Шчур вадзяны такі самы, як і нармальны.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *szczur* 'тж'.

ШЧУРО́НАК *м.* Тое ж, што і шчупа́рачак. *Шчуронак злавіў шчуронка.* Лісна В.-Дзв.

ШЧУХА́ *ж.* Тое ж, што і шчая́. *Шчуха, як мінеш трысцінку, не ўкінеш пару.* Вецярэвічы Пух. *Шчуха — памылка ў нітах; шчуху нада развадзіць, наніціць кабылкі, укласці берагавую пару.* Азяраны Раг. *Як не накінеш нітку ў бёрдо, прапусціш праз адну — шчуха.* Лука Нараўк.

ШЧУ́ЦЦА *незак.* Здзекавацца. *Яна шчулася нат табою, волю мая, пабядзіла цябе.* Вецярэвічы Пух.

ШЧУЦЬ *зак.* Пачуць. *Унук едзе — сабака шчуў.* Парэчча Гродз.

ШЧЫГІЛЯ́ЦЬ *незак.* Выхваляцца. *Шчыгіляюць, ходзячы, чатэры пастухе, па сотні палучкі.* Валеўка Навагр.; *параўн.* руск. *щеголять* 'тж'.

ШЧЫ́ГЛА *ж.* Тое ж, што і шчаго́л. *Шчыгла — птушка, жоўтая брушка, шчыглу лёгка лавіць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *szczygiel* 'тж'.

ШЧЫГУ́ЛЬНІНЬКІ *прым.* Вузкі, цесны. *Туфлі шчыгульнінькія, гэта, як вускія.* Рудня Чэрв.; *параўн.* польск. *szczególny* 'асаблівы'.

ШЧЫДРЫКЕ́ *мн.* Тое ж, што і шчадро́ 2. *Шчыдрыке бываюць между святамі ад Новага року да трох круляў.* Баброўнікі Гарад.

ШЧЫК *м.* Вершаліна. *Як паўзлазяць на дзерава, то па самы шчык.* Кузьмічы Люб.

ШЧЫ́КАЛАТКІ *мн.*, ШЧЫ́КАЛАТКА *ж. анат.* Суставы пальцаў рук. *Шчыкалаткі на руках напухлі.* Беразіно Докш. *Шчыкалаткі баляць.* Ухвала Круп. *Шчыкалаткі пабіла.* Бакшты Іўеў. *Ныюць шчыкалаткі.* Саланое Віл. *Шчыкалаткі на руках папухлі.* Завельцы Астр. *Збіў шчыкалаткі на пальцах.* Солы Смарг. *Баляць мне шчыкалаткі на руках, шчыкалаткі ў кожным пальцы.* Вузла Мядз. *Пальцы ў шчыкалатках баляць.* Гемзы Шальч. *Шчыкалатку пабіла.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ШЧЫ́КАЛАЧКА *ж.* Тое ж, што і шчы́калаткі. *Кумпяк адрэзайся да шчыкалачкі.* Лісна В.-Дзв.

ШЧЫКАТА́ЦЬ, ШЧАКАТА́ЦЬ *незак.* Казытаць. *Не шчы-*

*качы, баюся.* Рудня Астравітая Чэрв. *Не трэба шчакатаць дзіця.* Рыбчына Віл.

ШЧЫКАТУ'РЫЦЬ, ШЧАКЯТУ'РЫЦЬ *незак.* Тынкаваць. *Шчыкатураць хату: прыб'юць лучыны і мажуць глінай, а патом беляць. Шчакятурыць нада хату, усё было згарэўшы.* Валынцы В.-Дзв.

ШЧЫ'КАЎКА *ж.* Ікаўка. ◇ *Шчыкаўка б'е.* Міратычы Карэл.

ШЧЫ'КАЦЬ *незак.* Ікаць. *Дзіця шчыкая.* Вострава Маст.

ШЧЫКА'ЦЬ *незак.* Шчыпаць. *Шчыкая за бок, а ён хоць бы што.* Старое Сяло Зэльв.

ШЧЫКЕТУ'РКА *гл.* ШЧЫКЯТУ'РКА

ШЧЫКЕТУ'РЫЦЬ *незак.* Тынкаваць. *Яны даўно пачалі шчыкетурыць мешкане і ешчэ не скончылі.* Баброўнікі Гарад.

ШЧЫКІНЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш ч ы к а т а́ ц ь. *Ой, ні шчыкіняй мяне, ні шчыкіняй!* Солы Смарг. *Як пачала яе шчыкіняць!* Граўжышкі Ашм.

ШЧЫКІТА'ЦЬ *незак.* Шчабятаць. *Сарока шчыкіча.* Кіралі Шчуч.

ШЧЫКО'ТКА *гл.* ШЧАКО'ТКА

ШЧЫКО'ТЫ *мн.* Тое ж, што і ш ч а к о́ т к а. *Баіцца шчыкотаў.* Граўжышкі Ашм.

ШЧЫКО'ЦІЦЬ *незак.* Тое ж, што і ш ч ы к а т а́ ц ь. *Пачала шчыкоціць.* Граўжышкі Ашм.

ШЧЫКУ'ЦЬКА *ж.* Гліняны гаршчок з адбітым верхам. *Шчыкуцьку выкінь, верх адбіты, новы зраблю.* Паляцкішкі Воран.

ШЧЫКЯТУ'РКА, ШЧАКЯТУ'РКА, ШЧЫКЕТУ'РКА *ж.* Тынк. *Сухую шчыкятурку закладаюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шчакятурка на сцяне абвалілася.* Мярэцкія Глыб. *Трэбо палажыць шчыкетурку на доме.* Баброўнікі Гарад.

ШЧЫЛЕ'ЦЬ *незак.* Мець шчыліны. *Бондар з дубу, з сасны шчапая дылькі на клёпкі, патом гэтыя клёпкі вырабляя, выгаблёўвая, каб глаткія былі, кап не было шчэлінаў, каб не шчылелі.* Гемзы Шальч.

ШЧЫ'ЛІ *мн.* Шчыліны. *Шчылі затыкаюць гэтым мохам.* Баброўнікі Гарад.

ШЧЫ'ЛІНКА *ж. памянш.* да ш ч э́ л і н а. *Мы праз шчылінку глядзім.* Дарава Лях.

ШЧЫ'ЛЬНА, ШЧЫ'ЛЬНЕ, ШЧЫ'ЛНА, ШЧЫ'ЛНО *прысл.* Шчытна. *Шчыльна закрый слоікі.* Пацаўшчына Дзятл. *Закрывай дзверы шчыльна, прыпусці берванo шчыльна.* Гемзы Шальч. *Шчыльна зроблена.* Навасёлкі Лід. *Шчыльна загароджаны шчыкет.* Багушэвічы Бярэз. *Так шчыльне загарадзіў.* Дэгшні Шальч. *Шчылна загарадзіў плот.* Дзяніскавічы Ганц. *Шчылно ўбівалі калочкі.* Альхоўцы Лях. *Шчылно загароджаны прыстаранкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ШЧЫЛЬНЕ'Й *прысл.* Шчыльней. *Вісяць лядкі, што прыбіваеш ніткі, каб шчыльней былі.* Валеўка Навагр.

ШЧЫ'ЛЬНЫ *прым.* Шчытны. *Нада плот рабіць шчыльны, кап не ўлезьлі куры.* Кіралі Шчуч. *Хата шчыльным плотам абнесена.* Гемзы Шальч. *Шчыльны плот і дзіравы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Шчыльны паталок.* Лісна В.-Дзв. *Плот шчыльны.* Рыбчына Віл.

ШЧЫМЕ'ЦЬ, ШЧЫМНЕ'ЦЬ *незак.* Шчымець, балець. *Шчыміць мне гэты бок.* Саланое Віл. *Шчымяць зубы, галава шчыміць.* Бакшты Іўеў. *Шчымняць очы.* Ванелевічы Кап.

ШЧЫ'МКА *прысл.* Тое ж, што і ш ч ы́ л ь н а. *Шчымка закрый слоік, кап не свіцелася, кап воздух не заходзіў, кап муха не ўляцела.* Кіралі Шчуч.

ШЧЫМЭ', ШЧАМЭ' *мн.* Тое ж, што і ш ч а м л ё т к а. *Мы брали гадзюку ў шчымэ.* Вецярэвічы Пух. *Як не возьмеш вужаку ў шчамэ — то не ўхопіш яе.* Азяраны Раг.

ШЧЫ'НАК *м.* Пласт сена. *Шчынак — сена пласт.* Вострава Маст. *З сена робяць шчынкі, граблямі шчыняць шчынкі трэба.* Старыя Смільгіні Воран.

ШЧЫНІ'ЦЬ *зак.* 1. Збіць, згрэбці сена ў пласты. *Трэба шчыніць пласт сена.* Бакшты Іўеў. 2. Скруціць кудзелю. *Нада страсці і шчыніць кудзеліну.* Валынцы В.-Дзв. *Трэба шчыніць кужаль у кудзелю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Я ўжо кудзелю шчыніла.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЧЫ'НКА *прысл.* Тое ж, што і ш ч ы́ л ь н а. *Шчынка слоікі закрыла.* Галубы Маст.

ШЧЫНКЕ'Т *гл.* ШТАНКЕ'Т

ШЧЫ'НКІ *мн.* Дробныя адыходы пры ачыстцы змалочанага збожжа. *Шчынкі — гэта ўсякая драбяза, каласы, зганяюць іх мятлой.* Мачаск Бярэз.

ШЧЫНЯ'ЦЬ *зак.* Змятаць мятлою, аддзяляць каласы ад зерня. *Шчыняць — мятлою змясці каласы, кап былі адны зерната, гэто шчыняць, зграбе каласы шуплямі.* Дзяніскавічы Ганц.

ШЧЫПАТО'К *м.* Тое ж, што і ш ч о́ п а ц ь. *Усып шчыпаток, перасол на спіне.* Солы Смарг.

ШЧЫПА'ЦЦА *незак.* 1. *безас.* Пячы. *Крапівай сякуць курыцу, штоб ей шчыпалась.* Саланое Віл. 2. Мець здольнасць шчыпацца. *Ракі клюшнёй шчыпяцца.* Вузла Мядз.

ШЧЫПА'ЦЬ *незак. 1.* Зрываць, ірваць. *Шчыпай арэхі, вунь іх сколькі!* Глівін Барыс. *Ідзі шчыпай яблыкі.* Паляцкішкі Воран. 2. Шчыпаць, скубці. *Гусі траву шчыпаюць.* Паляцкішкі Воран. 3. Кляваць. *Хлеп шчыпаюць куры.* Вострава Маст. 4. *перан.* Шчыпаць, маразіць. *Марос аш трашчыць, аш за твар шчыпля.* Альхоўка Навагр.

ШЧЫПЁРКІ *мн. памянш.* да ш ч ы п ё р ы. *Шчыпёркі ў цыбулі ці ламбякі.* Паляцкішкі Воран.

ШЧЫПЁРЫ, ШЧАПЁРЫ, ШЧЫ'ПЕРЫ *мн.* Пер'е цыбулі.

*Ідзі нашчыпай шчыпёраў.* Малькуны Ігн. *Вырві сабе з дзесяць шчыпёраў цыбулі і паеш.* Кіралі Шчуч. *Шчапёраў нарваў.* Грыкені Вільн. *Шчыперы ў цыбулі.* Лука Нараўк. *Шчыпераў ня ем.* Навасёлкі Свісл. *Нашчыпай шчыпероў.* Вострава Маст. *Пёры ат цыбулі, хто кажа шчыперы, хто пёры.* Завельцы Астр. *Выраслі шчыперы ў цыбулі.* Збляны Лід.; *парайн.* польск. *szczypior* 'тж'.

ШЧЫПО'ВЫ *прым.* Прышчэплены. *Дзікія яблыкі ні шчыповыя, і дзікія грушы ні шчыповыя.* Кіралі Шчуч.

ШЧЫПО'К *м.* Тое ж, што і ш ч о́ п а ц ь. *Шчыпок солі.* Валынцы В.-Дзв.

ШЧЫПО'ТКА *ж.* Тое ж, што і ш ч о́ п а ц ь. *Шчыпотку солі ўсыпця.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *szczypka* 'тж'.

ШЧЫПУ'ЛЬ *гл.* ШЫПУ'ЛЬ

ШЧЫПУНО'К *м. памянш.* Тое ж, што і ш ч о́ п а ц ь. *Дай мне шчыпунок солі.* Валынцы В.-Дзв.

ШЧЫПУ'ШАЧКІ *мн.* Тое ж, што і ш ч о́ п а ц ь. *У шчыпушачкі ўзяла солі.* Вузла Мядз.

ШЧЫ'ПЦІ *мн.* Тое ж, што і ш ч о́ п а ц ь. *Шчыпці солі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШЧЫПЦЫ' *мн.* Клюшні. *Ракі кусаюцца такімі шчыпцамі.* Чуркі Ашм.

ШЧЫР *м. бат.* Крываўнік, падтыннік. *Напар шчыру, еслі карова кроўю мочыцца.* Пасека Ст.-Дар.

ШЧЫ'РА *прысл.* 1. Старанна, рупліва, добра. *Шчыра работаў, а мяне білі.* Валынцы В.-Дзв. *Не капай ты шчыра, утравеўшы бульба.* Жыдзевічы Іўеў. *Шчыра робіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Чалавек той працуе шчыра.* Рыбчына Віл. *Дайней пралі шчыра.* Гальшаны Ашм. *Ён шчыра рабіў, не хітрыў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Конь шчыра цягніць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Сапраўдна. *Я шчыра рускі чалавек.* Парэчча Гродз.

ШЧЫРА'К *м. бат.* Баравік. *Каторы баравік па бару расцець, называюць шчырак, шчыракі — цёмныя галоўкі ў іх.* Вузла Мядз.

ШЧЫ'РАНЬКА *прысл. памянш.* Ад усяго сэрца, да кроплі. *Шчыранька ўсё выпіла.* Вузла Мядз.

ШЧЫ'РАСЦЬ *ж.* 1. Стараннасць, руплівасць. *Здароўя няма, толькі шчырасцю і робя.* Мачаск Бярэз. 2. у знач. *прысл. па шчырасці.* Старанна. *Робілі студэнты па шчырасці.* Рагулішкі Даўг.

ШЧЫРГІТА'ЦЬ *незак.* Шчабятаць, цырыкаць, цвыркаць. *Шчыргічуць ластавачкі, прама на кошку падаюць.* Кіралі Шчуч. *Індзючок шчыргіча, астайся ат мацяры.* Кіралі Шчуч.

ШЧЫ'РЫ, ШЧЭ'РЫ *прым.* 1. Старанны, дбайны, працавіты. *Але ш і шчыры да работы.* Кіралі Шчуч. *Таня — шчырая дзеўка, усё зробіць.* Вецярэвічы Пух. *Шчыры да работы, як возьмецца, што вечарам паўзе ракам.* Солы Смарг. *Шчыры да працы чалавек.* Завельцы Астр. *Шчыры да работы ён натта, як*

*станя рабіць, то не атхіліцца.* Гемзы Шальч. *Ён у рабоце шчыры, робіць ад душы, ні схітрыць.* Магуны Паст. *Шчыры да работы чалавек.* Мыто Лід. *Да работы такі шчыры, заўзяты.* Беразіно Докш. *Шчыры ў рабоце, не лянуецца, ад сэрца робя.* Граўжышкі Ашм. *Хоць і ні дужы, а шчыры, шчырасці хопіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шчырая была да работы, не рабіўшы, жыць не будзеш.* Бакшты Іўеў. *Шчыры — старанны да работы.* Опса Брасл. *Шчыры мужык, усё на свеце паробіць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Цягавіты. *Конь шчыры, усе сваё жылы выцягвая.* Кіралі Шчуч. *Шчыры конь, добра цягня.* Рыбчына Віл. *Конь шчыры, добра цягня, а мой гэткі наравісты.* Саланое Віл. *Шчыры конь, бярэць з усей сілы.* Мішневічы Шум. *Шчыры конь, цягня добра.* Жылі Іўеў. 3. Сардэчны, душэўны. *Як сусед шчыры, прывёз вадзіцы гетай.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яе мужык такі ён шчыры чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён шчыры чалавек, добры, мілы.* Збляны Лід. *Шчыры да людзей.* Завельцы Астр. 4. Адкрыты, шчыры. *Добры, шчыры, нічога ні таіць.* Мярэцкія Глыб. *У расказе шчыры, усю праўду скажа.* Солы Смарг. *От сэрцо моё шчэрое.* Валеўка Навагр. 5. Сапраўдны. *Гэта шчыры падарожнік.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Шчырыя каралі харашэйшыя.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна шчырая літоўка.* Парэчча Гродз. *Німа ніводнага шчырага якубоўскага чалавека.* Якубова Рас. *Ціпер шчырых нет католікаў, мішанка.* Валынцы В.-Дзв. 6. Добры, не скупы. *У даніне можа быць шчыры: усё дае ат сэрца.* Солы Смарг. 7. Непераборлівы. *Шчыры да яды.* Мыто Лід.

ШЧЫ́РЫ ГРЫБ, ШЧЫ́РЫ ГРЫП *м.* Тое ж, што і ш ч ы р а́ к. *Шчыры грыб па баравіне расце.* Вострава Маст. *Шчыры грып — баравік, шчырыя грыбы тут растуць.* Вузла Мядз.

ШЧЫРЫ́ЦЬ *незак.* Рупна працаваць, старанна. *Кап шчырыла, што-нібудзь было п.* Раўбічы Мін. *Як яго нет, тады ён шчырыць.* Курраполле Паст.

ШЧЫРЭ́ЦЬ *незак.* Расці кволым (пра расліны). *Шчырэіць бурачок, як яго не прапаліш, свідэркам бурачок робіцца. Шчырэіць, як выцяняіць.* Жодзішкі Смарг.

ШЧЫ́СЦІЦЦА *зак.* Вызваліцца ад плацэнты (пра жывёліну). *Карова шчысцілася, вышла пасцель.* Быстрыца Астр. *Карова шчысцілася.* Старыя Трокі Трак. *Жывёла шчысцілася.* Ёдлавічы Брасл. *Карова шчысцілася, пасцель вышла.* Навасёлкі Лід. *Шчысцілася ўжо карова.* Завельцы Астр.

ШЧЫТ *м.* 1. *буд.* Франтон. *Ужо трэба шчыт забіць.* Кіралі Шчуч. *Шчыт забівалі.* Лайпушкі Ігн. *Шчыт — калі доскамі забіта.* Міратычы Карэл. *Шчыт прыбіваецца да крохвы.* Стральцы Гродз. *Нада забіць шчыт.* Кемялішкі Астр. *Шчыты сама забівала.* Альхоўцы Лях. 2. Залобак. *Шчытэ ў гумне саломаю, пучкамі саломы застаўлены.* Кіралі Шчуч. 3. Верх страхі. *Шчыт зверху трэба, на шчыт нацягаюць мялянне.* Рыбчына

Віл. 4. Вершаліна дрэва. *На дзераве шчыт зламала бура.* Лісна В.-Дзв. *Шчыт зламаўся ў дзеравіне.* Пасека Ст.-Дар.

ШЧЫТАВО'Т *м.* Рахункавод. *Шчытаводам робіла.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *счетовод* 'тж'.

ШЧЫТА'ЦЦА *незак.* 1. Лічыцца. *Я ні шчытаюся з імі, як са сваімі.* Валынцы В.-Дзв. *Хто дык шчытаіцца с капейкай, я мала шчытаюся.* Кураполле Паст. 2. *пабоч.* Лічыцца. *Шчытаецца, што ты вытаргаваўся, бо ён спусціў дваццаць капеек.* Замошша Брасл.; *парайн.* руск. *считаться* 'тж'.

ШЧЫТА'ЦЬ *незак.* 1. Лічыць. *Ён грошы не шчытаіць.* Рагулішкі Даўг. *Я ўмела шчытаць ад малку.* Плябанцы Ашм. ∇ *Ціплят па восяні шчытаюць — хто ведаіць, колькі іх астанецца.* Вузла Мядз. 2. Меркаваць, думаць. *Шчытаюць: ціжало ім.* Месянцы Брасл. 3. *пабоч.* Быць прыкладным, прыблізным, амаль падобным. *Да Асвеі ён* [аўтобус], *шчытай, пустый.* Буды В.-Дзв. *Шчытай, сам за сваё грошы купіў.* Лісна В.-Дзв. *Шчытай, с курыцу курапатка, шэранькая.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *считать* 'тж'.

ШЧЫ'ТНА, ШЧЫ'ТНО *прысл.* Тое ж, што і шчы́льна. *Шчытна закрый банку.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сяня ў слоічак атлажу, ён закрыты шчытна.* Масішкі Красл. *Шчытна загарадзіў згароду.* Мішневічы Шум. *Шчытно збіваюць калэ.* Малахоўцы Бар.

ШЧЫ'ТНІК *м. бат.* Сівец. *Адзін шчытнік расце.* Альхоўцы Лях. *Сухая трава — сівец.* Міратычы Карэл. *Шчытнік — пруткая трава, як дрот, часам каровы і ядуць, як пасем, купкамі расце, сівая трава. Шчытнік не зеляніцца, сівы, не ўкасіць яго.* Галубы Маст. *Шчытнік — дзіка цвёрда трава, скот ні есць.* Дакудава Лід. *Шчытнік каровы ядуць, на шчытніку папасём.* Пацаўшчына Дзятл.

ШЧЫ'ТНІЧАК *м. памянш.* да шчы́тнік. *Шчытнічак і валасей завецца.* Парэчча Гродз.

ШЧЫ'ТНЫ *прым.* Тое ж, што і шчы́льны. *Варота шчытныя, ні відаць шчыліны.* Малахоўцы Бар. *Шчытны плот шчытна загароджаны, няма шчэлак.* Ёдлавічы Брасл. *Плот шчытны.* Мярэцкія Глыб., Беразіно Докш.

ШЧЫТО'К *м. памянш.* 1. да шчыт 1. *Шчыток дошкамі забівалі.* Мсцібава Ваўк. 2. да шчыт 4. *Узлес на самы шчыток.* Пасека Ст.-Дар.

ШЧЫ'ЧЛА *прысл.* Тое ж, што і шчы́льна. *Шчычла загарадзіў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШЧЫ'ЧЛЫ *прым.* Тое ж, што і шчы́льны. *Шчычлы плот.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШЧЫ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Спакладаны. *Шчышчаны баран.* Быстрыца Астр.

ШЧЫШЧЭ'ННЯ *н.* Пазбаўленне ад плацэнты пасля ацёлу. *Карову на шчышчэння паставілі.* Жодзішкі Смарг.

ШЧЭ *прысл.* Яшчэ. *Шчэ кароў ажыдаем.* Дарава Лях. *Шчэ*

*за Мікалая тое было.* Швэды Вільн. *У баране тры ляскі складаецца, зуб гоніцца, вітка шчэ, накруціць вітку.* Відаўцішкі Вільн. *Шчэ пайдзеця да яго?* Вялікія Баяры Шчуч. *Шчэ быў раней такі звычай, што чужой дзеўкі ў вёску не бралі.* Збляны Лід. *Там шчэ большы замак.* Солы Смарг. *Шчэ можа і саіла дзіця?* Івашкаўцы Смарг. *Я шчэ малады.* Барок Стаўб. *Шчэ відно. Лух шчэ зусім не замёрс.* Баброўнікі Гарад. ∇ *Шчэ батько нэ ўродыўся, а сын ужэ на світы нажыўся* (агонь і дым). Старыя Пескі Бяроз.

ШЧЭ′БАЧКІ *мн. памянш.* Трэсачкі. *Бляшанка, на яе наложаць шчэбачак і гнілячкоў.* Магуны Паст.

ШЧЭ′БЕЛЬ *м.* Шчэбень. *На шчэблеві невазможна іці.* Ялова Пруж.

ШЧЭБЕТА′ТЫ *гл.* ШЧАБЯТА′ЦЬ

ШЧЭ′БЛАЧКІ *мн. памянш.* да ш ч э́ б ы л ь 2. *Шчэблачкі ў драбіня.* Старыя Трокі Трак.

ШЧЭ′БЫЛЬ *м.*, ШЧЭ′БЛЫ *мн.* 1. Планкі, да якіх прымацоўваюцца драбіны воза. *Шчэбыль у возе.* Дзмітравічы Кам. *Шчэблы ў драбінах.* Грыкені Вільн. *Два шчэблы да драбіны.* Кіралі Шчуч. *Шчэблы — палкі ў драбінах.* Старыя Трокі Трак. 2. Планкі ў драбіне воза. *Шчэблы і ў драбіне — шчэблаў штук з дзесяць бывая. Шчэблы заганяюцца ў жэрткі зверху і споду.* Кіралі Шчуч. *У драбіне шчэблы.* Вялікія Баяры Шчуч.

ШЧЭ′ДРЫ *прым.* Шчодры. *Яна шчэдрая, не скупая.* Пераброддзе Міёр.; *параўн.* руск. *щедрый* 'тж'.

ШЧЭ′ДРЫК *м.* Тое ж, што і ш ч а д р о́ 2. *Шчэдрык перад Новым годам; у католікаў шчэдрыка нет.* Вострава Маст.

ШЧЭДРЫНЕ′Ц *м.* Тое ж, што і ш ч а д р о́ 2. *Перад Новым годам на шчэдрынец з батлеею хадзілі, песні спявалі.* Дарава Лях.

ШЧЭ′ЛЕПА *ж.*, ШЧЭ′ЛЕПІ, ШЧЭ′ЛЯПІ, ШЧЭ′ЛЕПЫ, ШЧЭ′ЛЯПЫ *мн.* Сківаца, сківаццы. *Ніжняя шчэлепа, верхняя шчэлепа.* Чуркі Ашм. *Пазяхнуў — і шчэлепі саскочылі.* Беразіно Докш. *Шчэляпі ў свінні, санкі — у чалавека.* Асавец Віл. *Я сягання шчэляпі зварыла, укінула ў капусту.* Вузла Мядз. *Шчэлепы ў чалавека.* Гайна Лаг. *Шчэляпы ў свінні і ў чалавека.* Лісна В.-Дзв. *Шчэляпы вывіхнуў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШЧЭ′ЛЕПІНА, ШЧЭ′ЛЯПІНА *ж.* Тое ж, што і ш ч э́ л е п а. *Не раскрыць шчэлепіну — баліць.* Мачаск Бярэз. *Шчэляпіна баліць.* Азяраны Раг.

ШЧЭ′ЛІНА *ж.* Шчыліна. *У шчэліну пралез.* Рыбчына Віл. *Паставяць дзеда ў шчэліну і пралі.* Жодзішкі Смарг. *У вароцах ніводнай шчэліны.* Магуны Паст. *Зашпараваць дзверы — замазаць шчэліны.* Старыя Трокі Трак. *Сядзелі ў вайну ў зямлянцы, як клапы ў шчэліне — так было страшно.* Слабада Мін. *Дошкамі абіта, але шчэліны відаць.* Плябанцы Ашм.

ШЧЭ′ЛІНКА *ж. памянш.* да ш ч э́ л і н а. *Віжу, шчэлінка свеціцца.* Слабада Мін.

ШЧЭ'ЛІСЬ *ж.* Тое ж, што і шчэ́лепа. *Як доў яму ў шчэлісь, дык і зуб апошні выляцеў.* Мачаск Бярэз.; *параўн.* руск. *челюсть* 'тж'.

ШЧЭ'ЛІШЧА *н.* Шчыліна. *Рыба* [акунь], *як нерастуе, у шчэлішча лезе, у шчэль, каб болей ціснула жывот.* Азяраны Раг.

ШЧЭ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і шчэ́ліна. *Цвыркун уночы цвыркая, у шчэлку залезя.* Багушэвічы Бярэз. *Прусакі былі, па шчэлках сядзелі.* Кураполле Паст. *Шчэлкі ў хаці, у хляву.* Валынцы В.-Дзв.

ШЧЭЛЬ *ж.* Тое ж, што і шчэліна. *Была шчэль жалезная ўтыкаць лучыну.* Месянцы Брасл.; *параўн.* руск. *щель* 'тж'.

ШЧЭ'ЛЬНЕНЬКІ *прым. памянш.* Шчытны. *На вальцаваную шчэльненькую скрынку тата рабіў.* Магуны Паст.

ШЧЭ'ЛЯПІ, ШЧЭ'ЛЯПЫ *гл.* ШЧЭ'ЛЕПА

ШЧЭ'ЛЯПІНА *гл.* ШЧЭ'ЛЕПІНА

ШЧЭ'МКА *ж.* Трэска. *Нашчамаў шчэмак.* Пасека Ст.-Дар.

ШЧЭ'МЫ *мн.* Клюшні. *У рака шчэмы, ён імі шчыкаецца.* Парэчча Гродз.

ШЧЭ'ННАЯ, ШЧЭ'ННА. Цяжарная (пра сучку, ваўчыцу і пад.). *Шчэнная сука.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сука шчэнна.* Воўкуш Ліпск.

ШЧЭ'ПІНА *ж.* Стрэмка. *Загнаў шчэпіну ў нагу.* Мішневічы Шум.

ШЧЭ'ПІНКА *ж. памянш.* Маленькі кавалачак. *Шчэпінкай дзялілі хлеб на дзесяць чалавек.* Мішневічы Шум.

ШЧЭ'ПКА *ж.* 1. Трэска. *Шчэпкі нашчапаныя.* Завельцы Астр. 2. Тое ж, што і шчэпіна. *Шчэпку загнаў у руку.* Рудня Чэрв.

ШЧЭ'ПШЧЫК *м.* Сцэпшчык. *Ён шчэпшчык вагонаў на жалезнай дарозе.* Замошша Брасл.

ШЧЭ'ПЫ *мн.* Прышчэпы. *Садзонкі — шчэпы яблык.* Навасёлкі Лід. *Шчэпы купілі не трвалыя.* Старыя Трокі Трак.

ШЧЭ'РБА *м.* і *ж. неадабр.* Той, хто бяззубы. *Шчэрба ты, няма зубоў.* Быстрыца Астр.

ШЧЭ'РЫ *гл.* ШЧЫ'РЫ

ШЧЭ'РЫЦЦА *незак.* Шчэрыцца. *Шчэрыцца сабака.* Дакудава Лід.

ШЧЭ'ТКА I *гл.* ШЧО'ТКА I

ШЧЭ'ТКА II *ж.* Тое ж, што і шчы́тнік. Азарычы Пін.

ШЧЭЦЬ *ж.* 1. Тое ж, што і шчо́тка I, 2. *Шчэці дзелалі, вычасывалі валакно, вытыкалі.* Яніна В.-Дзв. 2. Ручная ваўначоска. *На шчэці часалі воўну, ручныі шчэці былі ў мамы.* Валынцы В.-Дзв.

ШШАЛЕ'ЦЬ *зак.* Ашалець. *Сабака шшалеў, шаленяц быў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШШАРЫ'ЦЦА, ШШО'РЫЦЦА *зак.* Прапасці, падохнуць, загінуць. *Шшарылася курыца.* Кураполле Паст. *Бальшы ўпа-*

*дак у гаспадарцы: свінчо шшорылася, курчо шшорылася.* Рыбчына Віл. *Парасёнак шшорыўся, піскдюкі шшорыліся.* Мярэцкія Глыб. *Рой быў улес у дупло, але матка шшорылася, ніская места.* Мярэцкія Глыб. *Шшорыліся курачкі.* Малькуны Ігн.

ШШАРЭ'ЦЬ *зак.* Змеркнуцца. *Слонца ўжо зайшоўшы, сцямнела, шшарэла.* Ністанішкі Смарг. *Шэрая гадзіна, калі шшарэя, яшчэ агню не паляць.* Завельцы Астр.

ШША'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і шча́хнуць I. *Як паліш у пліце, то жар ужэ шшах.* Баброўнікі Гарад.

ШШО'РЫЦЬ *зак.* Згубіць. *Шшорыў грошы.* Рыбчына Віл.

ШШЫБА'ЦЬ *незак.* Кідаць (з сілай). *Веялка як савок, сядзіш і шшыбаеш на таку.* Азяраны Раг.

ШШЭ'РХНУЦЦА *зак.* Зацягнуцца лёдам. *Рэчка шшэрхлася, зашэрхла вада.* Данілавічы Дзярж.

ШЫ'БА *ж.* Шыба. *У вакно ўстаўляюць шыбу.* Кіралі Шчуч. *Шыба пабітая.* Чычалі Швянч. *Адна шыба вынята.* Лісна В.-Дзв. *Шыба вывалілася.* Мярэцкія Глыб. *Выціраем шыбу.* Альхоўцы Лях.

ШЫБАВА'ЦЬ *незак. экспр.* З сілай выходзіць, валіць. *Я баюся пажару, а дым шыбуіць.* Ёдлавічы Брасл.

ШЫ'БАР, ШЫ'БЕР, ШЫ'БЭР *м.* Юшка. *Шыбар здзеланы ў лазні, шыбар адцягваеш.* Перабродзе Міёр. *Шыбер, ці засаўка, ў коміне.* Опса Брасл. *Шыбэр быў засоўваць комін.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *szyber* 'тж'.

ШЫБА'СТЫ *прым.* Быстры, спрытны. *На работу баба шыбастая.* Альхоўка Навагр.

ШЫБА'ЦЦА *незак.* Кідацца. *Дзеці шыбаюцца гэтымі шышкамі.* Вецярэвічы Пух.

ШЫБА'ЦЬ *незак.* 1. Кідаць, шпурляць. *Шыбаў, пакуль не пабіў пасуду.* Азяраны Раг. *Дзеці шыбаюць паколкамі.* Вецярэвічы Пух. *Шыбаю картоплі.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Тое ж, што і шыбава́ць. *Дровы палаюць, полымя шыбая.* Гемзы Шальч. ◊ *На поты шыбаць* — ад страху, перапалоху пакрывацца потам. *Яго на поты шыбая.* Дэгшні Шальч. *Словы шыбаць* — хутка гаварыць. *Я словы вам шыбаю, ня поўню, а ці поўніш ты?* Курaполле Паст.

ШЫБЕ'ЛЬ *выкл.* у знач. *вык.* Адпавядае значэнню дзеяслоў *швырнуць, кінуць. Свякроўка возьміць лышку і шыбель са стала, а іна падыміць ды зноў у міску.* Кураполле Паст.

ШЫ'БІНА *ж.* Тое ж, што і шы́ба. *Шыбіну разбілі.* Глівін Барыс.

ШЫ'БКА, ШЫ'ПКА *прысл.* 1. Хутка, быстра. *Нада шыпка ісці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Чалавек шыпка ходзіць.* Завельцы Астр. *Шыпка бех.* Малькуны Ігн. *Ён шыпка едзіць.* Чуркі Ашм. *Во шыпка пашоў, не дагнаць.* Палік Барыс. 2. Хутка выконваць якую-н. работу. *Шыпка крыіць страху.* Саланое Віл. *Во я шыпка рабіла!* Чуркі Ашм. *Шыпка робя.* Саланое Віл. *Шыпка рабіла.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Вельмі. *Шыпка многа прала.*

Солы Смарг. *Ён шыпка граматны.* Гемзы Шальч. 4. Надта. *Шыбка мёд акісляецца.* Опса Брасл. *Шыпка кроў ня йдзець, тады мне лёгка зробіцца.* Саланое Віл. 5. Скорагаворкай. *Шыбка не гавары.* Латыгаль Віл.

ШЫБНУ'ЦЬ *зак.* Скінуць. *Штоб яго шыбнула с пасцелі!* Кураполле Паст.

ШЫБУЛІ'ЦЦА *незак.* Хавацца, скрывацца. *Куды ты шыбулісся?* Альхоўка Навагр.

ШЫ'БЭР, ШЫ'БЕР *гл.* ШЫ'БАР

ШЫ'ГАЛЬНІК *м.* Ігліца. *Шыгальнікам засыпалі.* Гальшаны Ашм.

ШЫГА'ЦЬ *незак.* Крочыць. *Так шыгаець, што не дагоніш.* Беразіно Докш.

ШЫ'ДЗІЦЬ, ШЫ'ДЗІЦІ *незак.* Насміхацца, смяяцца, кпіць. *Будуць шыдзіць з маей гаворкі.* Граўжышкі Ашм. *Шыдзіць чалавека, перадражнівае.* Жылі Іўеў. *Будуць шыдзіці з нас.* Парэчча Гродз.; *парайн.* польск. *szydzić* 'тж' (СВ, VI, 699, Brüchner A. 56).

ШЫ'ДЛА *гл.* ШЫ'ЛА

ШЫДЛАВА'ТЫ *гл.* ШЫЛАВА'ТЫ

ШЫДЛАВА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да ш ы д л а в а́ т ы. *Палачка шыдлаваценькая.* Быстрыца Астр.

ШЫДЭ'ЛАК *м.*, ШЫДЭ'ЛКА, ШЫДЭ'ЛКО *н.* Шыдэлак. *Шыдэлкам вязалі карункі.* Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл. *Шыдэлкам навязала гарунак.* Альхоўцы Лях. *Прыгожыя карункі вязалі шыдэлкам.* Падгаі Мін. *Купі мне шыдэлак, звяжу табе каўнерык.* Глівін Барыс. *Вязалі кружава шыдэлкам.* Кіралі Шчуч. *Шыдэлка зламалася.* Мачаск Бярэз. *Шыдэлка на тоненькае штось бралі, устаўкі ў абрусачкі, у наўлечкі. З ніцей звяжа лапці шыдэлкам.* Пацаўшчына Дзятл. *Шыдэлко бралі, цюпы рабілі.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск *szydełko* 'тж'.

ШЫ'ЙКА *ж.* 1. Звужаная частка пасудзіны. *Цененькая шыйка ў гладышы, смітана застойваецца ў ценькіх шыйках даўгаватых.* Завельцы Астр. 2. Нітка пацерак. *Скэлькі ў тэбэ патэрок? — Чэтыры шыйкі.* Азарычы Пін. 3. Запечак. *Шыйка між сцяной і печчу.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ШЫ'ЙНІК *м.* Ашыек. *Аткраяюць шыйнік.* Ліпнікі Вільн.

ШЫК *м.* Шык, шыкоўнасць. *О, якім шыкам жые багаты!* Каменка Шальч.; *парайн.* польск. *szyk* 'тж'.

ШЫКАВА'ЦЦА *незак.* Рыхтавацца да чаго-н. *Шыкуюцца дзеці, экзамены заўтра.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *szykować się* 'рыхтавацца'.

ШЫКАВА'ЦЬ *незак.* Шыкаваць, падрыхтоўваць. *Шыкуйце ўжэ, зараз бульба зварыцца.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *szykować* 'тж'.

ШЫ'КАЦЬ *незак.* 1. Цвыркаць. *Птушка шыкая, а я думала — зданя.* Бакшты Іўеў. 2. Сіпець. *Гадзюка шыкая.* Кузьмічы Люб.

ШЫКО'ЎНЫ *прым.* Прыгожы. *Дыван у яе шыкоўны.* Груздава Паст.

ШЫ'ЛА, ШЫ'ДЛА *н.* 1. *спец.* Жалезнае шыла. *Свіння шылам калолі.* Саланое Віл. 2. *шав.* Шыла. *Шыдла прынёс, будзе боты шыць.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *szydło* 'тж'. 3. Завостраная палачка. *Шыла дзеравяная было патшываць лапці.* Кіралі Шчуч.

ШЫЛАВА'ТЫ, ШЫДЛАВА'ТЫ *прым.* 1. Завостраны. *Насок яйка шылаваты, пятка — лабаценькая.* Саланое Віл. *Зовуць шыдлаватае яйко, як доўгае.* Ліпнікі Вільн. *Шылавата яйко.* Дакудава Лід. *Пятка шырэйшая, а насок шылаваты.* Солы Смарг. 2. Востры. *Даўней драўляная саха была: канчук шылаваты, бляхай абраблялі.* Завельцы Астр. 3. Доўгі. *У яе шылаваты нос, на бацьку схожа.* Кіралі Шчуч.

ШЫЛАВА'ЦЕЙШЫ *прым. выш.* Больш тонкі, танейшы. *Вярхі лёну шылавацейшыя.* Кураполле Паст.

ШЫЛАВА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* 1. да ш ы л а в á т ы 1. *Шылаваценькае яйко.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шылаваценькі носік яйко мае.* Гемзы Шальч. *Шылаваценька яйко.* Навасёлкі Лід. 2. Востраканцовы. *Дзе ножык карнаценькі, шылаваценькі, думала навастрыць.* Кураполле Паст.

ШЫ'ЛІЦЦА *незак.* 1. Бегчы куды-н. з мэтай укрыцця (ад мух, аваднёў). *Карова шыліцца ў лес.* Каўняны Гродз. 2. Лязець праз што-н., пранікаць. *Праз вокны пыл шыліцца.* Альхоўцы Лях. *Шыліцца пыл у вокны.* Крэва Смарг. 3. Туліцца, лезці. *Кот да печы шыліцца, як халадно.* Альхоўка Навагр.

ШЫЛЛЁ *зб. н.* Тое ж, што і ш ы́ г а л ь н і к. *Шыллё з хвойкі. На маху шыллё, грыбы растуць па зарасніку.* Рыбчына Віл.

ШЫ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і ш ы́ г а л ь н і к. *На магілках шыльніку насыпалася.* Малахоўцы Бар. *Шыльнік — калючкі з хвоі і елкі.* Дакудава Лід. *Шыльнік ад хвойных дрэў. Дзе шыльнік, там грыбэ растуць. Калючы шыльнік увосень грабуць с хвоі.* Кіралі Шчуч. *Шыльнік асыпаўся.* Солы Смарг. *Шыльнікам засыпалі прызбы.* Навасёлкі Лід. *Шыльнік у леся пат хвойкай, пад ёлкамі.* Жылі Іўеў. *Шыльнік на хвоі, на елцы.* Альхоўка Навагр. *Як асыпаецца — шыльнік.* Старыя Смільгіні Воран. *Пад елкамі шыльнік.* Граўжышкі Ашм. *Шыльнік вязуць у гной. Харошы гной і суш дзяржыць.* Гемзы Шальч.

ШЫЛЬНЯ'К *м. заал.* Шашаль. *Шыльняк точыць дзерава.* Дзяніскавічы Ганц.

ШЫЛЯ'ЦЦА *незак. асудж.* Бадзяцца, туляцца. *Чаго ты шыляесся? Лянуецца рабіць, дык шыляецца.* Вецярэвічы Пух.

ШЫ'МКА *ж.* Пілавінне, апілкі. *Шымка папала ў вока.* Старыя Смільгіні Воран.

ШЫ'НА *ж.* 1. Металічны абруч, нацягнуты на вобад. *Шына е ў калясе зялезная.* Дзяніскавічы Ганц. *Шына на калёсах.* Грыкені Вільн. *Шыну на кола нацягаюць.* Збляны Лід. *Калёсы*

*абкоўваюцца шынамі.* Чычалі Швянч. *Шына ў коле.* Бенякoні Воран. *Шына на обат накладалася.* Пасіене Лудз. *На обат ідзёт жалезная шына.* Рагулішкі Даўг. 2. Металічная пласціна, якая набіваецца на палазы ў санях. *Па палазах у санях — шына.* Пасіене Лудз. *Шына ложыцца пад ніз у санях, нада сані падкаваць.* Гемзы Шальч.

ШЫ'НАЧКА *ж. памянш.* да ш ы́ н к а. *Шыначка зачатая адна вэнджаная.* Мсцібава Ваўк.

ШЫНДЗІКЛЁР *гл.* ШАНТАКЛЕ'Р

ШЫНЕ'ЛЬ, ШЫНЭ'ЛЬ *м.* і *ж.* Шынель. *Сукна выткуць, звалюць і пашыюць шынель.* Альхоўцы Лях. *Шынель пад галавой, пад бок шынелем накрыешся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ішло немцаў много. У чорных шынялёх. Шынэль у аднаго ўся парваная.* Кайшоўка Карэл.

ШЫ'НКА, ШЭ'НКА *ж.* Кумпяк, шынка. *Шынка — задні кумпяк.* Солы Смарг. *Шынка высалена добра.* Жодзішкі Смарг. *Шынкі пазабіраў.* Жылі Іўеў. *Як разбірая кабана, вылучая шынкі з сланіны.* Дэгшні Шальч. *Шэнку повэдэт.* Дзмітравічы Кам.

ШЫНКАВА'ЦЬ I *незак.* Тое ж, што і ш а т к у в а́ ц ь. *Шынкуе капусту.* Стральцы Гродз. *Капусту шынкавалі.* Малахоўцы Бар.

ШЫНКАВА'ЦЬ II *незак.* 1. Траціць бессэнсоўна грошы, шыкаваць. *Шынкуя — хто разбрасая дзеньгі.* Альхоўка Навагр. 2. Фарсіць. *Шынкаваць умея. Мая многа сукенак, носіць туда-сюда, шынкуя.* Альхоўцы Лях.

ШЫНКА'РКА *ж. устар.* Шынкарка. *Як зайшлі, а яму ўсе там шынкаркі знакомыя, ён кажа: «Нясі гарняц гарэлкі і гусь смажаную».* Слабада Смал.

ШЫ'НКІ *мн.* Прыстасаванне з дроту, куды ўтыкалі лучыну (смалякі). *Здзелаеш шынкі з дрота — гэто каза, кап падсвечуваць смалякамі, калі рыбу лавілі.* Быстрыца Астр.

ШЫНТЫКЛЕ'Р, ШЫНТЫКЛЮ'Р *гл.* ШАНТАКЛЕ'Р

ШЫНТЫКЛЮ'ШКА *ж. зневаж. перан.* Пустая, легкадумная жанчына. *Шынтыклюшка ты!* Жылі Іўеў.; *параўн.* руск. *финтифлюшка* 'забаўка, бескарыснае дробнае ўпрыгожванне'.

ШЫНЭ'ЛЬ *гл.* ШЫНЕ'ЛЬ

ШЫП I *м. заал.* Шыцік. *Шып жыве пры берагах.* Жылі Іўеў.

ШЫП II *ж.* Гронка арэхаў. *Шыпоў богато, а ў шыпу аж по шэсь орэхоў.* Дзмітравічы Кам.

ШЫП III *м.* Драўляны клін, шып. *Прадалбаеш страпіла і шып заганяеш.* Скрудалена Даўг. *Зрабі шып і загані, як рубюць хату.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЫПАВА'ЦЬ *незак. буд.* Змацоўваць, скрапляць пры дапамозе шыпоў. *Рубюць хату, шыпуюць сцены, каб не вывернуліся балькі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЫПА'К I *м.* Белы пясок. *Там шыпак, як бела.* Рудня Астравітая Чэрв.

ШЫПА'К II *м.* Тое ж, што і шып II. *Ох, якія шыпакі орэхоў!* Дзмітравічы Кам.

ШЫПАТУ'ХА *ж.* Тое ж, што і шаптýк. *Цыбуля папсавалася, шыпатухі парабіліся.* Ёдупка Шальч.

ШЫПЕ'Ц *м.* Мокрая жвірыстая зямля. *Шыпец — мокрая зямля, якая налепіцца, як бы заплывая, зімля с каменьчыкамі.* Мярэцкія Глыб.

ШЫП'Ё *зб. н.* Тое ж, што і шы́гальнік. *Шып'ё асыпаяцца с сасны.* Рыбчына Віл.

ШЫ'ПКА I *гл.* ШЫ'БКА

ШЫ'ПКА II *ж. памянш.* да шы́ба. *Шыпка ў акне.* Гемзы Шальч.

ШЫ'ПКІ *прым.* 1. Хуткі, быстры. *Шыпкі — хто быстра робіць.* Магуны Паст. *Шыпкі мой мужык быў.* Парэчча Гродз. *Шыпкі чалавек ён.* Рыбчына Віл. 2. Борзды. *Шыпкі конь быў.* Ёдлавічы Брасл. 3. Гарачы, запальчывы. *Шыпкі характар, скажаш не так, ён і запаліўся.* Граўжышкі Ашм.

ШЫПО'ЎНІК *м. бат.* Шыпшына. *З шыпоўніку кісель варылі.* Беразіно Докш.; *парайн.* руск. *шиповник* 'тж'.

ШЫПУЛЁК *м. памянш.* да шыпýль. *Пойная хата шыпулькоў.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *šipulŷs* 'тж'.

ШЫПУЛІ' *мн.* 1. Ігліца. *Іголкі с хвойных дрэў — шыпулі, шыпулі — калюшачкі з лесу.* Нізок Уздз. *Шыпулі с хвоі.* Данілавічы Дзярж. 2. Сухія галінкі. *Шыпулі — дробныя сучкі па лесе.* Завельцы Астр.; *парайн.* літ. *šipulŷs* 'тж'.

ШЫПУ'ЛІЦЬ, ШЫПУ'ЛЫТЫ *незак.* 1. Дробна шчапаць, рэзаць, калоць (дровы). *Дробна шыпуліць дровы.* Бенякові Воран. *Нашто так шыпуліш?* Вялікія Баяры Шчуч. *Нашо ты так шыпулыш гэты дрова?* Сіманавічы Драг. 2. Падпальваць трэскамі. *Шыпуліш — падпальваеш у печы дробнымі трэсачкамі.* Масілавічы Сл. 3. *перан.* Есці памалу. *Як маленькае дзіця ды само бярэ есці, то на яго кажуць: «Вот шыпуліць і шыпуліць, вот шыпулька гета!»* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* шыпýль.

ШЫПУ'ЛЬ, ШЧЫПУ'ЛЬ, ШАПУ'ЛЬ *м.* 1. Трэска, аскепак. *Узяў ад дроў трэску, шыпуль.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шчапаў, адзін шчыпуль адляцеў і твар пацарапаў.* Глівін Барыс. *Шапуль падымі і занясі на падпалку.* Навасёлкі Свісл. *Прынясі мне шыпулёў, буду печку паліць.* Кіралі Шчуч. *Шыпулі парубаяш на дробненька і печ распалююць, і гэта шыпулі.* Граўжышкі Ашм. *Шыпулі — кавалачкі дрэва.* Старыя Смільгіні Воран. *Пакуль не прынясеш шыпулёў і не падкладзеш, не разгарацца ў печы дровы.* Галубы Маст. *Шыпулёў надзелаў, дробненькіх шыпулёў больш наверх — і распаліваю печку.* Гемзы Шальч. *Шыпулі астаюцца, шыпулёў набрала і палю.* Дэгшні Шальч. *Шыпулі — мелкія кавалачкі.* Мыто Лід. *Чысцім браўно, шыпулі толькі ляцяць.* Дакудава Лід. *Шыпулі — дробныя*

*трэсачкі.* Беняконі Воран. *Сколькі ад дроў шыпулёў навыскакавала.* Бакшты Іўеў. *Прынясі шыпулёў патпаліць печ.* Старыя Трокі Трак. *Шыпуле маленькія, а лучына доўгая.* Парэчча Гродз. *Шыпуле нарабіў з дрэва.* Пацаўшчына Дзятл. *Нашчапаў шыпулёў.* Масілавічы Сл. 2. *перан.* Пра худога чалавека (пра часткі яго цела). *Усе людзі гаворац шыпуль на худога чалавека.* Каўняны Гродз. ∇ *Такі худы, як шыпуль, зробіўся!* Дэгшні Шальч. *Былі паненкамі во такія, а ціпер худыя, як шыпулі. Ногі, як шыпулі, і рукі, як шыпулі.* Мсцібава Ваўк. *Якая там дзеўка, у яе лыткі, як шыпуле.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *szypul,* літ. *šipulŷs* 'тж'.

ШЫПУ'ЛЬКА I *зб. ж.* 1. Тое ж, што і ш ы п у л і́ 1. *Шыпулька асыпалася з хвоі.* Вецярэвічы Пух. 2. *бат.* Бадзяк. *Шыпульку я зводжу і ніяк не звяду.* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Маленькае худзенькае дзіця. *Вот шыпуліць шыпулька гэта.* Дзяніскавічы Ганц.

ШЫПУ'ЛЬКА II *ж.,* ШЫПУ'ЛЬКІ *мн.* 1. Тое ж, што і ш ы п у́ л ь 1. *Пайшла ў грыбэ, дык тоўстух пад шыпулькамі знайшла.* Вецярэвічы Пух. *Шыпулькі з хвоі пераядаюць і носяць мурашкі.* Вецярэвічы Пух. 2. Тое ж, што і ш ы п у л і́ 2. *Шыпулькі калючыя з ігрушы.* Вецярэвічы Пух.

ШЫПУ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і ш ы́ г а л ь н і к. *Мурашкі шыпульнік носяць, капцэ строяць.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *šipulŷs* 'сухая галінка'.

ШЫПЧЫ'ННІК *гл.* ШЫПШЫ'ННІК

ШЫПЧЭ'Й *прысл.* Хутчэй. *Гэта старая, а шыпчэй ходзіць за маладую.* Лісна В.-Дзв. *Ідзе паціху, не падойдзе шыпчэй.* Ёдупка Шальч.

ШЫПШЫ'НА *ж.* Тое ж, што і ш ы п о́ ў н і к. *Шыпшына калюшчая натта, мала есць яе ў нас.* Кіралі Шчуч. *Шыпшына ружовым цвіце.* Альба Нясв. *У шыпшыны голкі калючыя.* Альхоўцы Лях.

ШЫПШЫ'НАВЫ *прым.* Шыпшынавы. *Шыпшынавыя голкі так колюцца, рукі ўсе падзярэш.* Альхоўцы Лях.

ШЫПШЫ'ННІК, ШЫПЧЫ'ННІК *зб. м.* Тое ж, што і ш ы п о ў н і к. *Шыпшыннік расце тут.* Парэчча Гродз. *Шыпшыннік калючы.* Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл. *Шыпчыннік розава квітніць.* Солы Смарг.

ШЫ'РАКА *прысл.* Шырока. *Жолап пплялі з дупцоў: унізе — шырака, кверху — вузей.* Асавец Віл. *Дзе шырака было, там займалі постаць.* Вузла Мядз.

ШЫ'РАКІ *гл.* ШЫРО'КІ

ШЫ'РКА I *ж.* Шырыня. *Шырка бальшая — пяць-шэсць мэтраў.* Курапалле Паст. *Такой длінкі і шыркі брускі.* Месянцы Брасл.

ШЫ'РКА II *ж. плыт.* Прыстасаванне для тармажэння плыта ў выглядзе завостранага кала, бервяна. *Шырка — пяць мэт-*

*раў — кол такі для плыта.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. širkas 'тж'.

ШЫРКАЦЕ́ЦЬ *незак.* Рыпець, скрыпець. *Снех шыркаціць.* Номікі Бабіц.

ШЫРО́ЗНЫ *прым. павел.* Шырокі. *Тая матэрыя была шырозная.* Мсцібава Ваўк. *На бор дарога была шырозная.* Вецярэвічы Пух.

ШЫРО́КІ, ШЫ́РАКІ *прым.* 1. Які займае шырокую плошчу. *Такая шырокая даліна.* Барок Стаўб. *Бывала, і ўпоперак жалі, калі шнур шырокі.* Солы Смарг. *Шырокі пракос.* Месянцы Брасл. 2. Шырокі па форме (пра асобныя прадметы). *Лісты шырокія.* Ахрэмаўцы Брасл. *Віксва бальшая, шырокая, рукі можна парэзаць.* Месянцы Брасл. *Рашка нізенькая, шырокая і круглая.* Судэрва Вільн. *Лавы шырокія такія былі.* Латыгаль Віл. *Купіла натта шырокі мацер'ял.* Кіралі Шчуч. 3. Вялікі, не па размеру. *Шырокі пінжак, шырокая сукенка, нада яе павузіць.* Ёдлавічы Брасл.

ШЫРО́КО, ШЫРО́КА *прысл.* 1. Шырока. *Шыроко была розрэзала.* Смаляніца Пруж. *Шыроко помыз хлівамы можна проіхаты.* Дзмітравічы Кам. 2. *перан.* Усюды. *Яе шырока зналі людзі.* Гемзы Шальч.

ШЫРШУ́ЛЬ *м.* Тое ж, што і ш а р с ц ё н ь. *Шыршуль жоўты, кусаецца моцна.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. širšūlė 'тж'.

ШЫ́РШЫ *прым. выш.* Шырэйшы. *Гэты матэрыял шыршы.* Кіралі Шчуч. *Шыршыя пасачка на колдры.* Паляцкішкі Воран. *Брыжы шыршыя, чым у той сурвэце.* Дакудава Лід. *Стул, што сядзіш, такі самы, толькі шыршы.* Малышы Лід. *Шырша жаляска ў шаршубліку.* Збляны Лід. *Мяльніцы драўляныя пароблены: адны шыршыя, а другія вузейшыя, яны вастрэйшыя, вычышчаюць кастру.* Завельцы Астр. *Гэта паласа шырша.* Гальшаны Ашм.

ШЫРЫ́ҐА *ж.* Тое ж, што і ш ы́ р к а II. *Шырыґа — крэпкая браўно, упіраецца на дно рэчкі.* Бакшты Іўеў. *Пастаў шырыґу, застаў шырыґу! Бярэ шырыґу, закладая ў дзірку, пралезя аш у дно і станаўляя плыт.* Рыбчына Віл. *Шырыґа напраўляя плот.* Дакудава Лід. *Шырыґа — вясло на плыце, такое бервяно, якім упраўлялі плытом.* Вузла Мядз.

ШЫРЫ́НГА *ж.* Рад, шарэнга. *Очырыць у дзве шырынгі.* Бабро́ўнікі Гарад.

ШЫРЫНЯ́ *ж.* Тое ж, што і ш ы́ р к а I. *Быў пол паложаны мэтр шырыні, на ім спалі.* Збляны Лід.

ШЫРЭ́Й *прысл.* Шырэй. *Карзінка такая вуская, потым шырэй, шырэй.* Дарава Лях. *Нада вузей ілі шырэй паставіць.* Істра Лудз.

ШЫРЭ́ЙШЫ *прым.* Тое ж, што і ш ы́ р ш ы. *Зямля была пабіта шнурамі, у каго вузейшы, у каго шырэйшы.* Завельцы Астр.

ШЫСТАКО'Л *гл.* ЧАСТАКО'Л

ШЫТКАВА'ЦЬ *гл.* ШАТКУВА'ЦЬ

ШЫТЛА'НДКА *ж.* Шатландка (тканіна ў клетку). *Крэпкая шытландка, плацце з яе мо дваццаць лет носіцца.* Замошша Брасл.

ШЫ'ТЫ, ШЫ'ТЫЙ *дзеепрым.* Шыты. *Шыты, роблены свэтар.* Грыкені Вільн. *Прастые шытые юпкі.* Пасіене Лудз.

ШЫ'ТЫСЬ *незак.* Хавацца. *Шыіцьця курыня пуд крыло.* Сіманавічы Драг.

ШЫ'ФЕР *м.* Шыфер. *Шыферу ў срадзіну накінулі.* Валеўка Навагр.

ШЫХАВА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і ш ы к а в а́ ц ц а. *Ён чортам шыхуецца.* Каўняны Гродз.

ШЫХАЎНІ'ЦА *ж.* Спадніца ў клетку. *Шыхаўніца — спадніца ў скрынкі* [клетку], *тканая, лепша, як шарачок.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *szachownica* 'шахматная дошка'.

ШЫ'ХЛЯ *гл.* ШЕ'ХЛЯ

ШЫХОВА'ЦЬ *незак.* Шанцаваць. *Шыхуе яму.* Калясное Міхал.

ШЫ'ХТЫ *мн.* Штабель. *Шыхты — рад паложаных бярвенняў.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* польск. *szychta* 'змена (шахцёраў)'.

ШЫ'ЦІК І *м. заал.* Шыцік. *На шыціка лавілі рыбу, у шыціка скарупка, а ўнутры — чарвячок ў пупырышкі.* Пасіене Лудз. *На шыцікаў рыбу лавіць.* Ракаўскія Швянч. *Рыбу ловіць на шыціках.* Кураполле Паст.

ШЫ'ЦІК ІІ *м. бат.* Махавік. *Шыцік — махавік, толькі вочачкі падыспадам, а зверху жоўценькі.* Рыбчына Віл.

ШЫ'ЦЦА, ШЫ'ЦЦЯ *незак.* 1. Тое ж, што і ш ы́ л і ц ц а 1. *І чаго карова ўсё шыецца ў лес?* Галубы Маст. *Каровы шыюцца ў лес.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Хавацца, тачыцца. *Куранята шыюцца пат куравотку.* Галубы Маст. *Шыюцца пад курыцу кураняты.* Пацаўшчына Дзятл. *Куранята пат курыцу шыюцца, бо ім халадно. Бывала, блохі па ўсіх зарупках ў адзеня шыюцца.* Кіралі Шчуч. 3. Тое ж, што і ш ы́ л і ц ц а 2. *Пул шыецца ўсюды, паднімаецца, як машыны ідуць.* Кузьмічы Люб.

ШЫЦЬ І, ШЫ'ЦІ *незак.* Шыць. *На верхняе фарбавалі* [ніткі], *а на просціні — белыя, а тады шылі бяльё і ўсё.* Завельцы Астр. *Я ш ні шыю, я твая швачка толькі. Людзям шыла.* Солы Смарг. *Кажухі шылі.* Васілевічы Гродз. *Ватовачкі шылі, мне малой каптан шылі.* Латыгаль Віл. *Кашулі шылі, гаці шылі.* Канюкай Вільн. *Зрэбніна, з яе мяшкі шылі.* Малышы Лід. *Шыці рэменны пояс.* Смаляніца Пруж.

ШЫЦЬ ІІ *незак.* Шыцца. *Гадыні сабраліся лі яе і аш шылі.* Саланое Віл.

ШЫШ І *м. заал.* Верхаводка. *Шышы, як камса, маленькія.* Мсцібава Ваўк.

ШЫШ ІІ *м.* 1. Хто непаседлівы, вяртлявы. *Шыш — той, хто*

*круціцца і туды, і сюды.* Мярэцкія Глыб. *Сапраўдны шыш, лётаеш, места не можаш знайсці.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Разбойнік. *Шышалаў мост, пад ім шышы сядзелі, шыш гатоў чалавека ўбіць і абабраць.* Кураполле Паст. *Ах, шыш, раштант!* Ёдлавічы Брасл. 3. Нічога; поўная адсутнасць чаго-н. *Па ніскіх мястах шыш ты пасееш!* Мсцібава Ваўк.

ШЫШ III *выкл.* Кыш. *Шыш! — так курэй адганяюць.* Янова Рас.

ШЫША'К *м.* 1. Гронка арэхаў. *Шышакі арэхаў, бальшыя шышакі па чатыры-пяць гарэхаў.* Альхоўцы Лях. *Гарэхі растуць шышакамі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *перан. экспр.* Хто малога росту, недарослы, падлетак. *Шышак нівелькі, малы шышак пашоў.* Граўжышкі Ашм.

ШЫШАКІ' *мн.* Міндаліны. *Шышакі нарастаюць у горлі пры ангіне.* Саланое Віл.

ШЫ'ШАЛЬНІК *м.* Тое ж, што і шы́гальнік. *Шышальнік коліцца, хваёвы шышальнік, яловы шышальнік.* Бакшты Іўеў.

ШЫША'СТЫ *прым.* Гузаваты. *Шышасты грэбянь у пятуха.* Бакшты Іўеў.

ШЫ'ШКА *ж.* 1. Шышка. *Хвоёвэ шышкі, ёловэ.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і шыша́к 1. *Шышка арэхаў.* Дакудава Лід. 3. у знач. *прысл. шы́шкай, шы́шкамі.* Сукупнасцю, кучай. *Гарэхі шышкамі растуць.* Альхоўка Навагр. *Арэхі растуць шышкамі.* Старыя Смільгіні Воран. *Смаржкі шышкай растуць, вясной чорныя.* Бакшты Іўеў. 4. Катах. *У кукурузе эта шышкай називаецца.* Старыя Трокі Трак. *Шышка кукурузы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 5. *мн. перан.* Камякі гразі, бруду. *Шышкі панарасталі, трэба іх рыдлёўкай саскрабаць.* Вецярэвічы Пух.

ШЫШЛА'К *м.* Патаўшчэнне на пражы, гуз. Вялікія Нястанавічы Лаг.

ШЫШЫ'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і шы́каць 2. *Вужака галаву падымя ды шышыкая па вадзе.* Вецярэвічы Пух.

ШЫ'Я *ж. анат.* Шыя. ▽ *Піла* [жонка] *шыю піліць.* Вузла Мядз.

ШЫЯ'К *м.* Ашыек. *Шыяк — кругом шыі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ШЭВАЛІ'ЦЦА *незак.* ◇ *Шэволяцца валасы* — паднімаюцца ўверх ад страху. *Шэволяцца валасы ў яга.* Беразіно Докш.

ШЭВЯРДЗІ'ЦЬ *гл.* ШАВЯРДЗІ'ЦЬ

ШЭЙСЯ'Т *ліч.* Шэсцьдзесят. *Нам далі па шэйсят сотак.* Слабада Мін. *Ліда шэйсят пяць кіламетраў ад нас.* Гальшаны Ашм.

ШЭ'ЛЕНА *прысл.* Быстра. *Ты шэлена робіш.* Саланое Віл.

ШЭЛЕСТУНЫ' *гл.* ШАЛАСТУНЫ'

ШЭ'ЛЬМА *ж. праст. груб.* Шэльма, прайдоха (пра хітрую

жанчыну). *Знаёмыя шэльмы прышлі.* Малькуны Ігн.; *парайн.* руск. *шельма,* польск. *szelma* 'хітрун'<ням. *Schelm.*

ШЭЛЯГЕ' *мн. бат.* Раска. *Шэляге на стаячай вадзе.* Старое Сяло Зэльв.

ШЭ'МРЫЦЬ, ШЭ'МРАЦЬ *незак.* 1. Абгаворваць, асуджаць, абмаўляць. *Сабраліся бабы, пра гэтага шэмраюць, апсуждаюць.* Крэва Смарг. *І тут ужо шэмруць людзі, як гэта баба з ім прагаварылася.* Гемзы Шальч. 2. Нагаворваць. *Пачалі шэмрыць на мяне.* Гемзы Шальч. 3. Меркаваць, гаварыць. *Шэмраць людзі, што нібыта ён гэта зрабіў.* Гемзы Шальч. 4. Выказваць незадавальненне. *Шэмрыць — як недавольны чым, гаворыць, што неправільна.* Лісна В.-Дзв. 5. Непакоіцца, мітусіцца. *Шэмраць людзі, як перапалох які.* Кураполле Паст. 6. Увіхацца, круціцца. *Расчырванеўся і каля дзевак шэмрыць.* Кураполле Паст. 7. Крычаць, палохацца. *Як да курэй шашок уберыцца, і куры шэмраць.* Кураполле Паст. 8. Муркаць. *Кот шэмрыць.* Кураполле Паст. 9. Папіскваць, шамацець, скрэбціся. *Мышы за сцяной шэмраць.* Кураполле Паст.

ШЭ'НКА *гл.* ШЫ'НКА

ШЭНЦІКЛЮ'Ш *м.* Тое ж, што і ш а н т а к л е́ р. *Шэнціклюш — шырока спадніца.* Бакшты Іўеў.

ШЭ'НЦІЦЬ *незак.* Шанцаваць. *Так мне шэнціла.* Солы Смарг.*Шэнціць яму.* Магуны Паст. *Шэнця яму, а мне вядзецца нічога.* Быстрыца Астр. *Чаму так не шэнця?* Граўжышкі Ашм.

ШЭ'ПКА *ж.* Тое ж, што і ш ы́ г а л ь н і к. *Колюшка ў хвоі — то шэпка.* Дзмітравічы Кам.

ШЭПТУ'ХА *ж.* Тое ж, што і ш а п т у н і́ х а. *Шэптуха не пашкодзіць, баба малітвы гаворыць.* Баброўнікі Гарад.

ШЭ'ПТЫ *мн. міф.* Замовы. *Старыя кажуць, што ад ружы шэпты памагаюць.* Альхоўцы Лях.

ШЭ'ПЧЫК *м.* Здор. *Кала трыбуха шэпчык.* Валынцы В.-Дзв.

ШЭ'ПЯТЫ *мн.* Тое ж, што і ш а л а г у н э́. *Шэпяты — званочкі каня.* Альхоўка Навагр.

ШЭ'РА *прысл.* Змрочна, не зусім цёмна. *Чуць шэра — прывёў каня.* Гемзы Шальч.

ШЭ'РАГ *м.* Чарада. *Цэлы шэраг гоняць кароў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *szereg* 'тж'.

ШЭ'РАНЧ *зб. ж.* 1. Тое ж, што і ш а р а н ш'ё. *Надвечар мошкі талпой і кажуць шэранч, шэранч напала на капусту і з'елі.* Гемзы Шальч. 2. Малеча; вялікая колькасць маленькіх рыб. *Кінь кручок, як шэранч апануя, на гэтага чарвяка, за гэтай брыдой не зловіш добрую рыбу.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *szarancza* 'тж'.

ШЭ'РАНЬ, ШЭ'РЫНЬ *ж.* Тое ж, што і ш а р а с е́ н ь. *Шэрань сяння, можна па шэрані ісці.* Саланое Віл. *Па шэрані дзяржыць. Як снех сасліжыць, а тады замарозіць і павярху добра ісці — гэта шэрань.* Вузла Мядз. *Можна ісці на вёску*

*па шэрані.* Ёдупка Шальч. *Па шэрыню можна ісці, не правалішся.* Глівін Барыс.

ШЭ'РАНЬКА *прысл. памянш.* да шэ́ра. *Шэранька, да дня. Шэранька было, калі я ішоў.* Магуны Паст.

ШЭ'РАСЦЬ *ж.* Тое ж, што і шаро́ш I. *Як рака замярзая ўвосянь, бальшая шэрасць ідзе, скора рака станя.* Рыбчына Віл. *Шэрасць, скора станіць рака.* Мярэцкія Глыб.

ШЭ'РАХ *м.* Шоргат. *Чуцён быў шэрах: хто-та ішоў.* Альхоўцы Лях.

ШЭ'РАШ *м.* Тое ж, што і шаро́ш I. *Шэраш плывець, замірзаіць.* Лісна В.-Дзв.

ШЭ'РАШЧ *м.* Тое ж, што і шаро́н 2. *Шэрашч на бярозах, на елках — красіва.* Беразіно Докш.

ШЭ'РАЯ ГАДЗІ'НА *гл.* ША'РА(Я) ГАДЗІ'НА

ШЭ'РАЯ КАПУ'СТА *ж.* Асобым спосабам прыгатаваная квашаная капуста. *Бяруць зялёныя лісця, крошаць, соль непатрэбна, шэрая капуста кісне сама па сабе, і смак харошы.* Ухвала Круп. *Секлі капусту, рэпу, моркву, бурак сталовы — і ўсё гэта разам — шэрая капуста называлася.* Мішневічы Шум.

ШЭ'РГАЦЬ *незак.* Піхаць, штурхаць. *Што ты мяне шэргаіш — піхаеш, піргаеш.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *szargać* 'пэцкаць, ганьбіць'.

ШЭРСНЯ'ТЫ *прым.* Шорсткі. *Скрыпячнік болій шэрсняты.* Завельцы Астр.

ШЭРСЦЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і шарсён. *Шэрсцень бальшы, аса маленькая, як пчала.* Пацаўшчына Дзятл.

ШЭРСЦЬ, ШЭРСЬ *ж.* 1. Шчацінне. *Шэрсць на плечах свіні.* Лука Нараўк. *Шэрсць у свіней.* Альхоўка Навагр. *Шэрсць рвуць у свіней, і робім шчоткі.* Гемзы Шальч. *Заколяць свіню, потым рвалі шэрсць: павяжаш шэрсь у пучочкі і прадавалі; коньска шэрсь ішла ў гасударства.* Слабада Мін. 2. Поўсць. *Сабака страшны, шэрсь зляшчылася.* Дружба Мін. *З сабакі шэрсі рукавіцы вязала.* Слабада Мін.

ШЭРСЦЯНО'Е *н.* Шарсцяное палатно. *Шэрсцяное ткалі.* Слабада Мін.

ШЭ'РХНУЦЬ *незак.* Замярзаць. Глівін Барыс.

ШЭ'РШАНЬ, ШЭ'РШАЛЬ *м.* Тое ж, што і шарсён. *Шэршань падобны да асы, але валькі.* Мсцібава Ваўк. *Шэршань куслівы.* Пасека Ст.-Дар. *Шэршань кусушчы такі.* Багушэвічы Бярэз. *Шэршань як укусіць, надта баліць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Шэршаль кусаецца.* Новікі Гродз. ∇ *Ах ты шэршню!* Номікі Бабіц. *Злы, як шэршань.* Старыя Трокі Трак.

ШЭ'РЫ *прым.* 1. Шэры. *У мяне былі такія шэрыя гусі.* Кухты Віл. *Шэры певянь, шэрая курыца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шыйка ў птушкі як бы шэрая.* Гемзы Шальч. *Кот шэры.* Мярэцкія Глыб. *Шэрыя гадзюкі неедавітыя.* Рагулішкі Даўг. ∇ *Дачка абярнулася на зязюлю шэрую і стала летаць і кукуваць.* Дзёр-

навічы В.-Дзв. 2. Васпаваты. *Твар шэры ад воспы.* Завельцы Астр.

ШЭ'РЫНЬ *гл.* ШЭ'РАНЬ

ШЭРЭ'НГ *м.* Рад, штабель. *У шэрэнгі складалі дрэва.* Мсцібава Ваўк.

ШЭСЦЁРА *ліч.* Шасцёра. *Шэсцёра дзецей у его.* Кемялішкі Астр.

ШЭСЦЬ, ШЭСЬ *ліч.* Шэсць. *Брацей шэсць, пяць сясцёр.* Месянцы Брасл. *Ён шэсць гадоў мяне старэй.* Саланое Віл. *Там шасці мушчын сабраўшыся.* Ністанішкі Смарг. *Іх было шасці.* Жылі Іўеў. *А нас шасціх было.* Груздава Паст. *Нас шасцёх ішло.* Міратычы Карэл. *Прышло шасцёх да мяне.* Старыя Трокі Трак. *Вязлі шасьмі канямі.* Талейкі Швянч. *Шэсь нядзель ляжаў лён.* Латыгаль Віл. ∇ *Як жала, шэсь каласкоў вырвала на дным коласе, як вышла замуш, мела шэсць дзяцей.* Граўжышкі Ашм.

ШЭЎ *м.* Шво. *Абкідаць шэў.* Грыкені Вільн.

ШЭ'ЎКАЦЬ *незак. зневаж.* Невыразна гаварыць. *Шэўкаіць бяззубым ротам.* Завельцы Астр. *На вяселлі шэўкалі бяззубыя бабы.* Курапolle Паст.; *параўн.* літ. *šaukoti* 'крычаць'.

ШЭ'ЎЧЫК *м. памянш.* Шавец. *Шэўчык спрытна боты шыў.* Ухвала Круп.

ШЭ'ХВАРАСТ *м.* і *ж. абразл.* Гультай, гультайка, прайдзісвет, бесталковы чалавек. *Еслі хазяйка шэхвараст — усё змарнуе, не дагледзе, свіня, карова галодна.* Мсцібава Ваўк.

ШЯ'ПКА I *гл.* ША'ПКА

ШЯ'ПКА II *ж.* Кветаножка сланечніку. *Шяпка солонэчныка.* Дзмітравічы Кам.

# Э

Э'БАЛЬ *м.* Гэбаль. *Эбаль, чым габлюю, а рубанак спускае.* Быстрыца Астр.

ЭГЗА'МЕН *м.* Экзамен. *Я тры аддзеленні кончыла, за царом здала эгзамен.* Дзераўное Стаўб.

ЭКЗЕ'МА *ж. мед.* Экзема. *Экзема — сільна больна.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЭКСПАЛЬНІЖАВА'ЦЬ *зак.* Спаралізаваць. *Экспальніжавала яга.* Саланое Віл.

ЭКСПЕДЗІ'ЦЫЯ *ж.* Карная экспедыцыя. *После экспедзіцыі бабаў і дзевак многа не вярнуўшыся — немец іх у зямлю жывымі закапаў.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЭЛЕ'КСТРЫКА *ж.* Электрычнасць. *Была электрыка ў акопах бэтановых.* Дарава Лях.

Э'НЬЧЫ *займ.* Іншы. *В пычі хліб сыдыть два с половыною часа. В эньчых мэньч — то як до хліба.* Казловічы Брэсц.

ЭТАЎРО'ЧНІ *прым.* Сёлетні. *Этаўрочні цялюк.* Старыя Смільгіні Воран.

Э'ХА *н.* і *ж.*, Э'ХО *н.* Рэха. *Пойдзеш за ягадамі — так эха па лесе ідзе.* Навасёлкі Лід. *Ляснуўся, аш эха пашла.* Збляны Лід. *У лесі як гукнуў, то адкукваецца эха.* Кіралі Шчуч. *У лесі эхо чуваца.* Малькуны Ігн.; *параўн.* руск. *эхо* 'тж'.

# Ю

Ю'БКА, Ю'ПКА *ж.* Спадніца. *У яе юбка з фальбонай.* Валеўка Навагр. *Юбкі насілі длінныя, клёшныя, у складку.* Яніна В.-Дзв. *Юпка с свайго палатна.* Навікі Лудз.; *параўн.* руск. *юбка* 'тж'.

Ю'ДА *м.* і *ж.* *абразл.* Прадажнік, здраднік. *Ах ты — юда! Юда здрайца быў, павек жызьні гаварыў на здраду.* Граўжышкі Ашм.

Ю'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Спакушаць, падгаворваць; зводзіць. Магуны Паст., Крэва Смарг. *Юдзіў, юдзіў — і з'юдзіў: угаварыў на плахоя.* Жылі Іўеў. *Яна яго юдзіць.* Мсцібава Ваўк. 2. Нудзіць. *Трошко юдзіць, ташніць, як п'еш, але гэто лячное зеле.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *jùdinti* 'спакушаць, падгаворваць'.

ЮДРА', ЮРДА' *ж.* *бат.* Свінакроп. *Юдра, як лён, нібы выходзіць з лёну, яна калючая, вяршок коліцца, расцець сучочкамі, сучочкамі, зёрашкі жоўтыя. Юдрой вілі вянкі, мелам красілі юдру, пучочкамі красілі у крэйду.* Рагулішкі Даўг. *Юрда расцець у льне, але яна не круціць лён.* Пераброддзе Міёр.; *параўн.* літ. *judrà* 'тж'.

Ю'ДРЫЦА *ж.* *бат.* Гірса. *Юдрыца, як авёс, расце у жыці, зярнётка нібальшоя, мякіны многа.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *júdra* 'свінакроп'.

ЮДЫ'НА *ж.* Ёд. *Замест, кап юдынай заліць, кажуць атымачкай закурыць трэба. Усё роўна, як цяпер гэтай юдынай заліваеш.* Завельцы Астр.; *параўн.* польск. *jodyna* 'тж'.

ЮЖ *прысл.* Ужо. *Ідзі ты есьці, Юзуля, бо ўжо пара, юж вечэра зварылася.* Буйвіджай Вільн.; *параўн.* польск. *już* 'тж'.

Ю'ЖНЫ *прым.* Паўднёвы. *Южны вецер хоць і маленько веіць — выдзяляецца нектар, северны падуіць — не выдзяляецца.* Месянцы Брасл.; *параўн.* руск. *южный* 'тж'.

ЮЗЮ'К *м.* *заал.* Язь. *Усякая рыба, і юзюке́ ідуць.* Збляны Лід.

ЮЛЬ *м.* Ліпень. *Пятро — дванацатага юля.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *июль* 'тж'.

Ю'МАЧКА *ж.* *памянш.* Ямачка. *Шапачка бальшая, а пася-*

*род юмачка увагнуўшыся. Пасярод шапачкі ў мачонак* [грыбы] *юмачка.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЮʹМІНА *ж.* Яма. *Бомба разарвалася — і юміна зрабілася, там вада стаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Туды толькі юміна, дзе цэрква правалілася.* Пярэкі В.-Дзв.

ЮН *гл.* ВІЮʹН

ЮНК *м.* Ярмо. *Юнк на шыю валу накладаюць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *jùngas* 'тж'.

ЮНЬ I *м.* Чэрвень. *У юне кап цяпла не было?!* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* руск. *июнь* 'тж'.

ЮНЬ II *м. заал.* Уюн. *Юнь у багнах водзіцца. Юнь — як п'яўка, толькі галава большая.* Сапоцкіна Гродз.; *гл.* віюн.

ЮʹПКА *гл.* ЮʹБКА

ЮР *м.* 1. Узбуджэнне. *Цяпер апасна хадзіць — самы іхні* [воўчы] *юр.* Рыбчына Віл. 2. Захапленне. *Каму што, а бабі юр на ўме. Ішла баба на хрэзьбіны, мужчына ўзяўся паднясці яе хатуль і знік; баба прышла і пытала: «А дзе Юр* [Юрка]?» *На хрэсьбінах гавораць хто што, а баба кажыць: «А мне Юр на ўме».* Лісна В.-Дзв.

ЮРАВАʹЦЬ *незак.* Узбуджацца ў час цечкі (пра ваўкоў). *Вайке юруюць, тады нападаюць на чалавека.* Кіралі Шчуч.

ЮРАВАʹЯ ПАРАʹ *ж.* Перыяд цечкі (у ваўкоў). *Юравая пара — грамніцы — вайкі юруюць.* Кіралі Шчуч.

ЮʹРАЙ, ЮʹРЭЙ *м.* Рэлігійнае свята, якое адзначаецца 23 красавіка па старому стылю. *Скора Юрай. На Юрай должан рунь быць у калена.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як Юрэй, то выганяють скотыну на росу.* Сіманавічы Драг.

ЮРАʹЎШЧЫНА *ж.* 1. Зграя ваўкоў у час цечкі. *Юраўшчына — калі стадам вайкі ходзяць.* Беразіно Докш. 2. у знач. *прысл.* *юраўшчынай.* У перыяд цечкі. *Юраўшчынай вайкі ходзяць.* Беразіно Докш.

ЮРҐІʹНЯ, ЯРҐІʹНЯ *ж.* Вяргіня. *Мне юрґіня рабая палучылася.* Вялікія Баяры Шчуч. *Юрґіня ў мяне чырвоная.* Быстрыца Астр. *У вадзе ярґіня не стаіць.* Стральцы Гродз.; *гл.* вярґіня.

ЮРДАʹ *гл.* ЮДРАʹ

ЮРЗДЫʹК *м.* Зборышча. *Калі ішлі на сяло, то казалі: «Сабраліся ужо, палятуць на юрздык.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЮРЛІʹВЫ *прым.* Палкі, гарачы, страсны. *Мой мужык юрлівы. Баба юрлівая, мушчын водзіць.* Валынцы В.-Дзв.

ЮРОʹК *м.* Палачка з прарэзанымі дзірачкамі з абодвух канцоў для намотвання нітак на клубок. *Юрок — ніткі матаюць ім: нітку прадзяеш і на клубок матаеш.* Валынцы В.-Дзв. *Юрок — матаюць ніткі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бяры юрок, бо стрыміш рукі кастрыцаю.* Кіралі Шчуч. *Юрок — у клубок матаюць ніткі.* Гайна Лаг. *Праз юрок нітка праходзіла, на клубок маталі.* Ухвала Круп. *Віюць на клубок юрком.* Збляны Лід. *Матаюць ніткі юрком.* Лоск Валож. *Юрком маталі, каб пальцы не рэзалі.* Мішневічы Шум. *Як з мотка на клубкі, то матаем юрком.*

Лука Нараўк. *Ляныі ныткы в'ють на клубок, а суконны — быз юрка.* Сіманавічы Драг. *Былі юркі матаць ніткі.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *vijuřkas* 'тж'; *гл.* в і р о к, в і ю р о к.

ЮРЫ'НА' *ж.*, ЮРЫ'НЫ *мн.* 1. Тое ж, што і ю р 1. *Юрына — воўчае гулянне.* Магуны Паст. *Юрына — гулянне ваўкоў.* Чуркі Ашм. *Як юрына ваўкоў — не ідзі ў лес: могуць парваць.* Гемзы Шальч. *Воўча юрына — ваўкі збіраюцца ў рой, гуртуюцца, гуляюць ваўке.* Бакшты Іўеў. *Ваўчыныя юрыны.* Асавец Віл. 2. Чарада ваўкоў у час цечкі. *Юрына ваўкоў ляціць.* Кіралі Шчуч. 3. у знач. *прысл.* ю р ы н а й. Зграяй. *Юрынай ваўкі ходзяць.* Жылі Іўеў.

ЮРЫ'ЦЦЯ *незак.* Тое ж, што і ю р а в а́ ц ь. *У мясаедзе будуць юрыцця ваўкі. На грамніцы юрацца ваўкі — летаюць бандай.* Кіралі Шчуч.

ЮРЫ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ю р а в а́ ц ь. *Ваўкі юраць: цяпер апасна хадзіць, самы іхні юр.* Рыбчына Віл. *Ваўкі юраць у калядніцу.* Бакшты Іўеў. *Ваўкі юраць.* Асавец Віл. 2. Моцна жадаць чаго-н., быць страсным, гарачым. *Такі дзяцюк, што да дзевак юрыць. Яна толькі юрыць да мушчызнаў.* Ёдупка Шальч. *Баба юрыць, заюрыла ужэ.* Альхоўцы Лях. *Гэта баба юрыць з мужчынамі, заюрыла і пашла гуляць.* Азяраны Раг.

Ю'РЭЙ *гл.* Ю'РАЙ

Ю'Р'Я *н.* Тое ж, што і Ю'р а й. *Дайней на Юр'я у хлеве свенцілі свянцонай вадой, і скаціну свенцілі, як першы раз выганялі ў поля. Юр'я с сухой вясной і с цёплай расой, скаціну гоняць у поля. Юр'я — празнік вясны, шостага мая Юр'я па-новаму.* Збляны Лід. ∇ *Як у грамніцы пятух нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я конік напасецца. Да Юр'я, каб было і ў дурня* (корму для скаціны). *Два Юр'і і абодва дурні: адзін галодны, другі халодны.* Вузла Мядз.

Ю'Р'ЯВЫ РО'СЫ *мн.* Раса ў дзень рэлігійнага свята Юр'я. *Мы выганяям скот на юр'явы росы, калі трава ўжо ёсць.* Вузла Мядз. *Выганялі скаціну на юр'явы росы так: на двор выганялі ўвесь скот — кароў, авечак, курылі свянцонай травой, нясе траву і яйцо, тры разы абойдзе і можна гнаць пасціць. А бывае, авечка ці карова выбяжыць з гэтага круга, то прымета такая, што яна або здохне, або воўк з'есць.* Чараўкі Сен.

Ю'СТРО *н.* Люстра. *Пойду подыв'юсь у юстро, чы прыдаецьця мыні в гэтуй хустцы.* Сіманавічы Драг.

Ю'СТРЫЧКО *н. памяшн.* да ю́ с т р о. Люстэрка. *Хай і юстрычко в кышэні будэ.* Сіманавічы Драг.

ЮСТЭ'РАК *м.* Тое ж, што і ю́ с т р о. *У юстэрак глядзелася.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЮСТЭ'РКА *н.* Люстэрка. *У юстэрка пагляджу.* Рудня Астравітая Чэрв.

Ю'ХА' *ж.* 1. Вадкая частка стравы. *Наварыць баба якога мяса, а астаецца там гэта вада — юха́.* Стары Сверdroжань Стаўб. 2. Рыбная поліўка. *Юху варуць з рыбы.* Янова Рас. *Юха́ з рыбы:*

*рыба варыцца — юха́.* Горск Бяроз. ∇ *Потявухы, потявухы: наварыла баба ю́хы, поставыла на столі — йіжтэ, хлопці-москалі, йіжтэ, хлопці, покы всэ: маты быльш прынысэ.* Сіманавічы Драг. 3. *перан.* Кроў. *Свіню заколюць, цячэ юха́.* Дакудава Лід. *Ю́ха сцякая і запякаецца.* Навасёлкі Лід. *Юха сырая с паршука, а як зварам — юшка.* Старое Сяло Зэльв. *Кабана зарэжут і на кров кажут: юха́ тэчэ з горла.* Горск Бяроз. *Як дам, дык пацячэ з цябе юха́!* Альхоўцы Лях. 4. *кулін.* Страва з дабаўленнем крыві. *Ю́хі наварыла з крыві свінячай; каторыя на муцэ, а каторыя на хлебі заціраюць, квасу ліюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Кроў расцiралі, хлеба крышылі, мукі, квасу, костка адзельна варылася, гэтым залівалі і варылі юху́.* Дакудава Лід. 5. Квашаніна. *Ю́ха — гэто студзень.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Юха́ — гэто квашаніна.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* руск. *уха* 'рыбная поліўка', польск. *jucha* 'кроў жывёлы'.

ЮʹХТА I *ж.* Недавырабленая скура. *Скуру юхту куплялі, з яе хадакі рабілі.* Збляны Лід. *Юхта для обуві бралася. З юхты обуў шылі.* Беразіно Докш.

ЮʹХТА II *ж.* Юшка. *Юхта, якой засоўваюць печ.* Якубова Рас.

ЮʹЧНЯ *ж.* Зараніца. *Ючня — ранняя зорка.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *jutrzenka* 'золак, світанне'.

ЮʹШАЧКА *ж. памянш.* да ю́ ш к а 1. *Улій мне юшачкі.* Мярэцкія Глыб. *Юшачкі можна пахлібаць.* Валынцы В.-Дзв.

ЮʹШКА I *ж.* 1. Тое ж, што і ю х а́. 3. *Як коляць свінчо і цячэ кроў, і называецца юшка, свіная юшка.* Альхоўка Навагр. *Юшка — кроў з паршука.* Галубы Маст. *Як заколюць паршука, то юшка бяжыць із горла; і вараць юшку каторыя, у кілбасы ліюць.* Кіралі Шчуч. *З юшкі вараць квас і ў кішке льюць, труць кашу* [крупы] *і пякуць.* Вострава Маст. *Як пальну — толькі юшкаю абальешся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як дав ёму пуд ныс, то юшкыю облывся.* Сіманавічы Драг. ∇ *Чырвона, як юшка.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і ю х а̀ 4. *С крыве вараць юшку: косткі кідаюць і скабы кідаюць.* Кіралі Шчуч. *Вараць юшку с крыві.* Альхоўка Навагр. *Юшку с крыві варылі.* Старыя Смільгіні Воран. *Юшка — кроў с паршука, вараць юшку з яе і запраўляюць хлебам.* Галубы Маст. *З крыві — юшка ці журка.* Завельцы Астр. *Наварыла юшкі.* Альхоўка Навагр. 3. Крываная каўбаса. *Пячом кішкі, наліваючы кроўю — гэто юшка.* Альхоўка Навагр. *Юшку с кішкамі пячэм.* Вялікія Баяры Шчуч. 4. Бліны з дабаўленнем крыві. *Напякла бліноў з юшкі, давайце есці.* Альхоўка Навагр. 5. Тое ж, што і ю х а̀ 2. *Юшку варуць з рыбы — рыбная юшка.* Янова Рас. *Звару юшкі з рыбай к абеду.* Азяраны Раг. ∇ *Баба рыбу варыла — добра юшка була; баба діда любыла — добра душка була.* Сіманавічы Драг. 6. Кіслая або прэсная вараная страва з мучной ці крупяной прыправай, поліўка. *Юшка — кіслі трошкі, прыкалоціш, ложачку мукі, кос-*

*тачку укінеш — і поліўка, або юшка.* Саланое Віл. *Юшка — кіслая і прэсная поліўка.* Мярэцкія Глыб. *Зварым супчык редэнькій, то юшкою называют.* Горск Бяроз. 7. Грыбная поліўка з дабаўленнем крыві. *Юшка — поліўка грыбная, крывяная з расолу, мукой закалочвалі.* Груздава Паст. 8. Абрадавая поліўка. *Юшку кіслую варылі на дзяды.* Мачаск Бярэз. 9. Навар для квашаніны. *Шэ булы пооставалысь лапы з свынні, зварыла, як хоч, нальлю юшкы, бо поставлю, хай квашылына захолодае.* Сіманавічы Драг. 10. Тое ж, што і ю́ха̀ 1. Валынцы В.-Дзв. *Мне не густога, а юшкі падлі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як есьць, то юшку вып'е, а густое не хоча.* Мачаск Бярэз. *Суп густы — юшка выварылася.* Ёдлавічы Брасл. *Звары крупнік з юшкаю! Падлій юшкі!* Дзяніскавічы Ганц. *Улей мне юшкі больш!* Вецярэвічы Пух. *З юшкаю картоплі: юшка і густыш.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Поставыла ёму капусты, то юшку выхлыптав, а густэ оставыв.* Сіманавічы Драг. 11. Цэд. *Ашакі сцэджаваюць, а на аўсянай юшкі пякуць бліны.* Лісна В.-Дзв. 12. Рэдкі кісель. *Журку вараць, а некаторыя кажаць — юшка.* Завельцы Астр. 13. Лёк. *Дайней юшку ад сялёдак елі.* Лісна В.-Дзв. *Юшку селяццовую елі з бульбай.* Валынцы В.-Дзв. *Юшка запраўлялі суп ці бульбу.* Яніна В.-Дзв.

Ю́ШКА II *ж.* 1. Тое ж, што і ю́хта II. Завельцы Астр., Старыя Трокі Трак. *Каміны глінянай юшкай закладалі.* Мсцібава Ваўк. *Комін юшкай закрый!* Грыкені Вільн. *Калі я юшку не выму, то дым пойдзіць на хату.* Навасёлкі Свісл. *Юшка — што комін закрываюць. Круглая — тожа юшка.* Груздава Паст. *Печы ўмелі рабіць, але не было жалезных юшак.* Латыгаль Віл. *Юшкай закрываюць комін.* Мярэцкія Глыб. *Юшка закладаваць комін. Бляшаная юшка, чугунная юшка.* Быстрыца Астр. *Трэба закрыць комін юшкаю.* Міратычы Карэл. *Юшка — кружок у печы; шыбір — застаўка.* Петкуны Брасл. *Юшкай комін закладаюць.* Опса Брасл. *Закрый юшку, засунь юшку!* Рудня Астравітая Чэрв. *Трэба юшку залажыць.* Малькуны Астр. *Зачыні юшку!* Лайпушкі Ігн. *Замкнулі юшку?* Стральцы Гродз. 2. Адтуліна для выхаду дыму ў былых курных хатах. *Юшка была ў сталяванні ў курнай хаце; адкрывалі і аччынялі юшку.* Каўняны Гродз.

ЮШНІ́К *м.* 1. Тое ж, што і ю́ха̀ 4. *Юшнік с крыві варылі, і смачны; с хлебам, з бульбай елі. Юшнік кіслы без квасу не можна варыць, юшнік — з мукой кроў адмешваеш і туды запускаеш.* Малькуны Ігн. *Трэба зварыць юшніку — кроў, крышуць хлеба кусочкамі і варуць, і ложуць мяса кусок, ліе оцту для квасі.* Гемзы Шальч. *Мяса зварыцца, дабаўляецца бурачковы квас, а кроў, калі застыня, ллюць у макацёрт, туды хлеба разатрэш на кашу і пераліваеш у квас і варыш нядоўга.* Стральцы Гродз. *Юшнік варылі с крыві свінской і мукі. Юшнік варáць з мукі жытняй: разбоўтая, кап квасілася, крыві трошкі, варатак узлія на кроў і варыць.* Быстрыца Астр. *Юшнік гатовяць так:*

*паставяць крой у небальшым кацялку пат чопаўкай.* Рагулішкі Даўг. *С крыві юшнік варылі і мяса клалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Юшнік с крыве варыць* [вараць]. Парэчча Гродз. *Юшнік варылі з крыві.* Бакшты Іўеў. *Юшнік называюць толькі старыя бабы.* Груздава Паст. 2. Боршч з буракоў. *Юшнік варылі — запусціш закваскі з рашчынькі, быдловыя буракі наскрабаіш, і сталовых бурачкоў, яны сфарбуюць, і расол з бурачкоў; расол у вароўні ставілі.* Малькуны Ігн.

ЮШНІЧО'К *м. памянш.* Рыбная поліўка, грыбная поліўка. *Юшнічок — сул з рыбы, з грыбамі; юшнічок варылі так: усыпяць крупак, паложаць рыпкі, бульбачкі — і юшнічок гатоў, елі яго.* Рыбчына Віл.

# Я

Я *займ.* Я. *Пазаўчора была я ў Браславе.* Опса Брасл. *Я яму буду і дзядзька, і бацька.* Саланое Віл. *Трасуцца рукі мне.* Ахрэмаўцы Брасл. *А мне слёзы коцяцца.* Мсцібава Ваўк. *Мне наліта тут вадэ.* Кіралі Шчуч. *А мне не ўдалася груша.* Альхоўка Навагр. *Ні палено мне.* Міратычы Карэл. *Задушыў мне сабака курыцу і пітуха.* Граўжышкі Ашм. *А мне конь падох і заплаціў дарагá за каня.* Паляцкішкі Воран. *Зга́га мне ела, я крэйду ела.* Старыя Трокі Трак. *Мне прызнана дыхавіца.* Рагулішкі Даўг. *Іна жыла ў міне.* Пасіене Лудз.

Я'БЛАНЬКА *гл.* Я'БЛЫНКА

Я'БЛЫК *м.* Яблык. *Які кіслы яблык.* Магуны Паст. *Яблык халодны скушаю, і мне горла баліць.* Гемзы Шальч. ∇ *Яблыкі ад яблыны нідалёка аткатаваюцца.* Саланое Віл.

Я'БЛЫКА *н.* Тое ж, што і я́ б л ы к. *Я утрам толькі яблыка з'ем і бягу на работу.* Ухвала Круп. *Яблыкаў ёсь на яблынах.* Рыбчына Віл.

Я'БЛЫНА *ж.* Яблыня. *Яблынаў насадзіў салодкіх.* Рыбчына Віл. *Яблына ядрона, шмат яблыкаў на ёй.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яблыны палівають хіміяй.* Завельцы Астр. ∇ *Якая яблына, такія яблыкі.* Саланое Віл.

Я'БЛЫНКА, Я'БЛАНЬКА *ж. памянш.* да я́ б л ы н а. *Яблынку зайцы чыста абгрызлі.* Грыкені Вільн. *Касуля пад ябланьку ідзе.* Вулька Гродз.

ЯБЛЫННЁ *зб. н.* Яблыні. *Яблыннё такое ў садах вырасла, вымахала.* Ухвала Круп.

Я'ВА *ж.* Ява, рэчаіснасць. *Я думаю, што я гэта ва сне відзела, а не на яве.* Дзераўное Стаўб. *Як на явя, ён мне гаворыць.* Гальшаны Ашм.

Я'ВАР І, Я'ВЕР, Я'ВІР, Я'ГАР, Я'ГЕР, Я'ГІР *м.* Аер. *На вадзе расце сітнік і явар.* Бакшты Іўеў. *Явар пахучы, духмяны,*

*пасыпалі на падлогу, корачка пахучая. Явар сабіраюць, здаюць карэньчыкі.* Вецярэвічы Пух. *У сыботу пасыпіш у хаце пяском і явару парэжаш, пасыпіш, кап пахла.* Латыгаль Віл. *У явера лісты шырэй, як касач ён, пахне.* Ухвала Круп. *Явір такі пахучы.* Глівін Барыс. *Явір каля рэчкі расцець, хлеб пяклі на явіры к тройцы.* Вялікі Лес Круп. *Явір ля ракі расце.* Гайна Лаг. *Ягар ля балот расце.* Магуны Паст. *Яґер мейсцамі ест.* Гемзы Шальч. *У балоце яґір, як кукуруза, бэз шышак расце.* Руднікі Шальч.

Я'ВАР II *м. устар.* Асіна. *Асіна, а па-старадаўняму явар.* Кузьмічы Люб.

Я'ВАР КО'НСКІ *м. бат.* Касач жоўты. *Явар конскі цвіце жоўтым цветам на балоце, широкія лісты ў яго.* Рыбчына Віл.

ЯВО'НЫ, ЯГО'НЫ *займ.* Яго. *Явоныя ўтарыя дзверы.* Пасіене Лудз. *Сын ягоны ажаніўся.* Ністанішкі Смарг. *Прыяжджаў ягоны бацька.* Магуны Паст. *Ягоны ацец пагіп.* Лісна В.-Дзв. *Піялі на ягоным раждзэнні: «Коні мае вараныя».* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Не па ягонаму зрабіла, дык справіў крык.* Груздава Паст. *Ягоную рубашку схваціў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ягоная матка з Казьян браная.* Кураполле Паст. *Ягонай дачкі дванасты год.* Рагулішкі Даўг. *Сястра ягоная дасць мех жыта.* Ракаўскія Швянч. *Ён кінуў трахтар, унукі ягоныя нягодныя падбеглі.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *Ягоная сіла — ягоная ніва* — чыя сіла, таго і праўда. Кураполле Паст.

ЯВО'РНІК *зб. м.* Асіннік. *Малады яворнік засеў.* Кузьмічы Люб.

Я'ВУРА *ж.* Падзол. *Явура — зямля нягліністая, а такая падзолістая, цяшкая. На ёй боп садзілі і ячмень сеяць.* Магуны Паст.; *гл.* я́ ў р а.

ЯГ *злуч.* Як. *Каласы, яґ бічэ.* Галавачы Скідз.

ЯГА' *займ. род. він.* ад ён. Яго. *Падойдзіць да яга хаты і крычыць: «А дзе ш тут матка яга?!»* Груздава Паст. *Мы да яга абрашчаімся. Убінтавалі яга.* Асавец Віл. *Яга будзя смерць.* Рыбчына Віл. *Здзекаваліся з яга.* Азаркі-Пудавінка Мядз. *Госьці пілі біз яга.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* ДАБМ, карта № 139.

Я'ГАВІЦА *ж.* Шчака. *Ягавіцы чырвоныя, гараць.* Галубы Маст. *Ягавіцы гараць.* Мішневічы Шум.

Я'ГАДА I *ж.* Ягада. *Яшчэ зеленкаватыя былі ягады клубнікі.* Дзераўное Стаўб. *Ягады, як гарох.* Паляцкішкі Воран. *За ягадуў захадзілі ў густыя лясы.* Завельцы Астр. *Пашла ў ягады.* Кураполле Паст. *Ягадаў пры кустох было.* Старыя Смільгіні Воран. *Буду варыць ягады, бо прасьмерднуць.* Парэчча Гродз. *Ягады чаромухі чорненькія, яны на языку асядаюць.* Вецярэвічы Пух. *У кошык даўней ягады збіралі.* Вузла Мядз. *Набрала жменю ягадаў.* Кіралі Шчуч. *Ягады — пазёмке, маліны, чарніцы, журавіны, п'яніцы.* Грыкені Вільн. *Ён нагнуўшыся збірае ягады.* Гемзы Шальч. ∇ *Спусця лета за ягадамі не ідуць.* Ухвала Круп.; *гл.* с п у с ц я́.

Я′ГАДА II *ж.* Пупышкі пальцаў. *Змерзлі ягады.* Лука Нараўк.

Я′ГАДА III *ж.* Тое ж, што і я́гадзіца II. *Спіна баліць, пад самыя ягады падбіраецца.* Вецярэвічы Пух.

Я′ГАДЗІНА *ж.* Адна ягада. *Набрала ягад і за аднаею ягадзінаю усё рассыпала.* Дзяніскавічы Ганц.

Я′ГАДЗІЦА I *ж.* Тое ж, што і я́гадзіна. *Бульбіна, агуркі, ягадзіца зрастаюцца — спарышкай завуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

Я′ГАДЗІЦА II *ж. анат.* Ягадзіца. *Ягадзіцы баляць.* Перавознікі Астр.

Я′ГАДЗІЦА III *ж.* Тое ж, што і я́гавіца. *Чырвоныя ягадзіцы.* Мярэцкія Глыб. *Ягадзіцы пад вокам.* Старое Сяло Зэльв.

Я′ГАДКА I, Я′ГОТКА *ж. памянш.* Ягадка. *Ягадка маліны красненькая.* Перавознікі Астр. ∇ *Нявестка, як яготка ў лесе.* Якубова Рас.

Я′ГАДКА II, Я′ГАТКА *ж.* Тое ж, што і я́гавіца. *Ягадкі загарэліся.* Азяраны Раг. *Ягаткі гарацъ на твары.* Беразіно Докш. *Ягаткі гарацъ.* Мачаск Бярэз. *Ягадкі, як каліна, гарацъ на твары.* Ухвала Круп. *Ягаткі чырвоныя.* Рудня Астравітая Чэрв., Кемялішкі Астр. *Ягаткі ў яе ружовыя.* Дзяніскавічы Ганц.

Я′ГАДНІК, ЯГО′ДНІК, ЯГО′ННІК *м.* 1. Ягаднік. *Ягаднік выглядае бы брушніцы.* Жылі Іўеў. *На ягадніку ягады растуць.* Альхоўка Навагр. *Ягаднік у гальс.* Дзяніскавічы Ганц. *Ягоднік бальшы парос.* Вецярэвічы Пух. *Там ягоднік з берага.* Груздава Паст. *Німа ягонніку суніц.* Рыбчына Віл. 2. Настой з ягадніку. *Ягаднік п'юць.* Парэчча Гродз.

Я′ГАДНІЦА *ж.* Тое ж, што і я́гадзіца II. *Сядзім на ягадніцах.* Рагулішкі Даўг.

Я′ГАР, Я′ГЕР, Я′ГІР *гл.* Я′ВАР I

Я′ГАТКА *гл.* Я′ГАДКА II

ЯГЛІ′ЦА *ж. мед.* Трахома. *Ягліца, як чырвоныя очы, хвароба очэй.* Лука Нараўк.

ЯГЛІ′ЦЬ *незак.* 1. Прагна хацець. *Яглію, яглію — нічого не вышло.* Масілавічы Сл. 2. Дакучаць просьбамі. *Чаго ты ягліш?! Як захоча есці, ці чаго хоча — ягліць і ягліць.* Азяраны Раг. *Чаго ты ягліш?* Багушэвічы Бярэз.

ЯГНЁ, ЯГНЯ′ *н.* Ягня. *Ягнё прапала.* Груздава Паст. *Асенняя ягнё.* Рыбчына Віл. *У нас ест адно ягня.* Сакаляны Сакол.

ЯГНЁНАК *м.* Тое ж, што і ягнё. *Увосень ягнёнак радзіўся.* Палік Барыс. *Восіньскі ягнёнак.* Мярэцкія Глыб. *Веснавога ягнёнка купіла.* Саланое Віл.

ЯГНЮ′К *м.* Тое ж, што і ягнё. *Асенні ягнюк.* Магуны Паст. *Настрыгла фунт воўны з ягнюка.* Груздава Паст. *Прывяла тры ягнюкі: двух — любя, а трэцяга — не любя, і мусіш ты з бутэлечкі паіць праз соску.* Гемзы Шальч.

ЯГО′ДНІК *гл.* Я′ГАДНІК

ЯГО′МАСЦЬ *ж. устар. іран.* Пан, васпан (пры звароце да

каго-н.). *Ягомасць, госці прыехалі да нас.* Рудня Чэрв. *Ай, ягомасць, дзе ты жалеза набярэш?* Дзяніскавічы Ганц.

ЯГО'ННІК *гл.* Я'ГАДНІК

ЯГО'НЫ *гл.* ЯВО'НЫ

Я'ГОТКА *гл.* Я'ГАДКА І

Я'ГРАСТ, Я'ГРЫСТ *м.* 1. Куст агрэсту. *Куст ягрАсту ё у міне.* Лапічы Асіп. 2. Ягады агрэсту. *З ягрАсту варАць варэня.* Кіралі Шчуч. *Ураджай на ягрыст.* Воўкуш Ліпск.

ЯД *м.* Яд. *У пчоле яд. Гадюка упускае яд.* Дзяніскавічы Ганц. *Змяіны яд — мазь з дабаўленнем змяінага яду. Змяіны яд прадаецца ў аптэках.* Вузла Мядз.

ЯДА' *ж.* 1. Ежа, страва. *Любімая яда.* Рыбчына Віл. *Яда зварана, усё смачнае.* Солы Смарг. *Спракудзілася сваею ядою.* Вялікія Баяры Шчуч. *Схажу ў госці, ні абіжаюся на яду, ні на адзеня.* Кіралі Шчуч. *Сухая яда — не яда.* Дзяніскавічы Ганц. *Яда нядобрая была.* Старыя Смільгіні Воран. *Пасната началася — не было чым прыкінуць ядой* [яды]. Ёдлавічы Брасл. 2. Тое, што прызначана для прыгатавання яды, стравы. *Аддзяляюць бульбу: гэта будзя сяўба, гэта — яда, самая дробненькая — паранка.* Магуны Паст. 3. Корм. *Курыную яду карова з'ела.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *Бяда бядой, а яда ядой. Німа горшай бяды, як німа яды.* Вузла Мядз.

ЯДВА'Б *м.* Шоўк. *Ядваб быў, куплялі, шылі плаця і блюскі.* Васілевічы Гродз.; *параўн.* польск. *jedwab* 'тж'.

ЯДЗЕ'ННЯ *гл.* ЯДЗЭ'НЯ

ЯДЗІ'МЫ, ЯДО'МЫ *прым.* Ядомы. *На стале усё ядзімая.* Груздава Паст. *Казякі — ядзімыя грыбы.* Саланое Віл. *Ядомыя грыбы.* Янова Рас.

ЯДЗІ'НЫ *прым.* у знач. *прысл.* Спрэс. *Усе дзверы, увесь хлеў у ядзіных мухах.* Малышы Лід.

ЯДЗІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і я д á 1. *Любімая яда, ядзіца.* Рыбчына Віл.

ЯДЗЭ'НЯ, ЯДЗЭ'ННЯ, ЯДЗЕ'ННЯ *н.* Тое ж, што і я д á 1. *Матка ядзэня варыць.* Паляцкішкі Воран. *Бяры ядзэня с сабой.* Старыя Смільгіні Воран. *Даеш разныя ядзэня.* Старыя Трокі Трак. *Нада ўбіць яечка — укусная ядзэння.* Плябанцы Ашм. *Цёрлі семя да ядзэння.* Навасёлкі Свісл. *Раньша ні было такого ядзення.* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* польск. *jedzenie* 'тж'.

ЯДКІ', ЯТКІ' *прым.* 1. Прыгодны для корму. *Круглец і асака ні ядка карове.* Пасека Ст.-Дар. *Як трава яткая, што скаціна есь — мурох.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кругляк — не яткая трава.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Неперабарлівы. *Яткая карова.* Старыя Смільгіні Воран.

Я'ДЛА, Я'ДЛО *н.* 1. Корм для жывёлы. *Пошар — наогул кармы, общая салома ячменная. Усё — ядла.* Магуны Паст. 2. Прысмакі (для дзяцей). *Цукар зварыць у малаке, астыне, на хлеб намажаш — і самае лепшае ядло.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *jadło* 'ежа'.

ЯДЛАВЕ'Ц, ЯДЛО'ВЕЦ *м.* Ядловец. *Ядлавец расце ў лесе.* Чычалі Швянч. *Пужальня рабілі з ядлаўцу.* Мсцібава Ваўк. *Ядловец расьце ў бары.* Вецярэвічы Пух. *Ядлоўцам капцяць калбасы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЯДЛЕ'НЕЦ, ЯДЛЕ'НІЦ *м.* Тое ж, што і я д л а в е́ ц. *Наламаў ядленцу на ядленцавых кустох.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ядленец у лесі расце.* Азяраны Раг. *Ядленіц расцець, яго сякуць і калбасы вэндзяць.* Кураполле Паст.

ЯДЛЕ'НЦАВЫ, ЯЛЕ'НЦАВЫ, ЯЛЫНЦО'ВЫЙ *прым.* Ядлаўцовы. *Ядленцавы ягады п'юць ад почак.* Валынцы В.-Дзв. *Яленцавыя ягады.* Якубова Рас. *Из ялынцовай лазы плялі лапці.* Навікі Лудз.

Я'ДЛО *гл.* Я'ДЛА

ЯДЛО'ВЕЦ *гл.* ЯДЛАВЕ'Ц

ЯДЛО'ВЫ *прым.* Яловы. *Верх страхі лапкамі крылі ядловымі.* Беняконі Воран. *Парканіны былі ядловыя і пераплятталі плот з парканіны.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *jodłowy* 'тж'.

ЯДЛО'ЎЧЫК *м. памянш.* да я д л а в е́ ц. *Ядлоўчык расце па барах.* Старыя Смільгіні Воран.

ЯДЛО'ЎЧЫНА *ж.* Адно дрэва ядлоўцу. *Нігодненькай німа ядлоўчыны.* Вецярэвічы Пух.

ЯДО'МЫ *гл.* ЯДЗІ'МЫ

Я'ДРАВЫ *прым.* Халодны. *Ядравая раніца, халодная.* Глівін Барыс.

Я'ДРАНА *прысл.* Холадна, з марозам. *Ядрана на дворы.* Новіны Нясв.

Я'ДРАНЫ І, Я'ДРЫНЫ *прым.* 1. Тое ж, што і я́ д р а в ы. *Ядраная раніца.* Азяраны Раг. *Ноч была ядрана.* Ухвала Круп. *Ядрына раніца.* Мачаск Бярэз. 2. Ясны з кучавымі аблокамі. ∇ *Як ядранаё небо, много абалачкоў, то будзе ядраная картопля.* Пасека Ст.-Дар.

Я'ДРАНЫ ІІ, ЯДРО'НЫ, Я'ДРЕНЫ, Я'ДРЫНЫ *прым.* 1. Наліўны, спелы, хрумсткі. *Шорсткі яблык, крэпкі — ядраны такі.* Солы Смарг. *Груша ядрона.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ядроныя яблыкі.* Альхоўка Навагр. *Ядрыная вішня.* Малахоўцы Бар. 2. Буйны, умалотны. *Каласы ядраныя, не заліта, не запалена, усяго хватая.* Солы Смарг. *Ядраная зерне — красівая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Жыта маё ядранае.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ядраны боп, гарох. Жыто ядрано.* Міратычы Карэл. *Ядроны авёс.* Жылі Іўеў. 3. З поўным ядром. *Ядрыныя арэхі.* Кураполле Паст. 4. Сакавіты. *Ядреныя гуркі нільзя з расой абіраць — паламаецца агурешнік.* Мішневічы Шум. 5. Урадлівы; вялікі. *Ураджайная картошка, во гот ядраны!* Нізок Уздз. *Бульба урадзіла, ядроная бульба.* Кіралі Шчуч. *Ядраныя картоплі параслі.* Кудзялянцы Шальч. *От ядроныя буракі!* Старыя Смільгіні Воран. *Ядроны сат, груша ядрона. Жыта гэты гот ядрона.* Вялікія Баяры Шчуч.

Я'ДРАНЫ ІІІ *прым.* 1. Звонкі (пра голас). *От ядраны ў яе*

*голас.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Добры, чуткі (пра слых). *Слух не ядраны у мяне — я глухаватый.* Ахрэмаўцы Брасл.

Я′ДРЕНЫ *гл.* Я′ДРАНЫ II

ЯДРО′ *н.* Ядро (арэха). *Ядро ў арэху яшчэ зялёная, маленькая.* Кураполле Паст. *Настав жменю, то ядер кроху дам.* Курашэва Чыж.

ЯДРО′НАЧКА *ж. заал.* Божая кароўка. *Ядроначка, палець у тую староначку, у каторум боку мая сястроначка жывець.* Вялікія Баяры Шчуч. ◊ *Кагда пагода — ляці, ядроначка, кагда непагода — пасядзі.* Малькуны Ігн.

ЯДРО′НЫ, Я′ДРЫНЫ *гл.* Я′ДРАНЫ II

ЯДРЭ′НЕЦ *м.* Тое ж, што і я д р о́ н а ч к а. *Ядрэнец мы называем божу каройку. Кепскага ядрэнец не дзелая, лазіць тылькі.* Новікі Гродз.

Я′ДУ′ХА *ж.* Астма, задышка. *Ядýха у яе — цяжко дыхаць.* Лука Нараўк. *Ад ядухі ядушлівы чоловек.* Азарычы Пін.

ЯДУ′ШЛІВЫ *прым.* Задушлівы, удушлівы. *Ядушлівы чоловек.* Азарычы Пін. *Ядушлівы быў наш сусед.* Лука Нараўк.

ЯЕ′Р *м.* Тое ж, што і я́ в а р I. *Яер расце у лузя, у райку.* Міратычы Карэл. *Яер ля рэкі ростэ.* Азарычы Пін. *Яер шурокі, пер'е пахнець укусна.* Чарняўскія Лудз. *На яерэ пяклі хлеб.* Гемзы Шальч.

ЯЕ′ЧКА, ЯЕ′ЧКО, ЯІ′ЧКА *н. памянш.* Яйцо. *Убі яечка — будзе укусна.* Плябанцы Ашм. *Яечко раздýшанае адно.* Пацаўшчына Дзятл. *Мама дзешку выскрабіць, бондачку здзелаець, у сярэдзіне яічка — і падскрэбуеш.* Скрудалена Даўг.

ЯЕ′ЧНЯ, ЯЕ′ШНЯ *ж.* Яечня. *Яечня з малаком, з мукой і яёк.* Парэчча Гродз. *Яечня з гласком.* Навікі Лудз. *Яечня з цэлых яек.* Старыя Смільгіні Воран. *Яечня боўтаная, і яечня як яец наб'еш.* Жодзішкі Смарг. *Пачаставалі іх яешняй.* Кухты Віл. *Спячы мне тоўстую яешню.* Ухвала Круп. *Яешню спікла саджóную.* Валынцы В.-Дзв. *Спякла яешню.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЯЕ′ШНІЦА *ж.* Тое ж, што і я е́ ч н я. *Яешніцу смажым на патэльні.* Быстрыца Астр.

ЯЁРКА *ж.* Ваверка. *Яёрка ў леся жыве.* Лісна В.-Дзв. *Яёрка грызе гарэхі.* Міратычы Карэл.

ЯЖАВІ′НЫ *мн.* Ажыны. *Яжавіны чорныя.* Рудня Чэрв.; *гл.* а ж а в і́ н ы.

ЯЖГУ′Р, ЯЖГУ′Р, ЯЧГУ′Р *м.* Ёрш. *Яжгур — калючая рыба.* Мярэцкія Глыб. *Яжгуры — калючыя. Яны жырныя. Яжгуроў парылі і тушылі.* Вузла Мядз. *Вараць суп з яжгуроў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто скажа ажгур, а хто яжгур.* Магуны Паст. *Яжгур — калючая рыба.* Жодзішкі Смарг. *Яжгуры калючыя крэпка.* Рагулішкі Даўг. *Што ты ходзіш, надуўшысь, як яжгур.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ячгуры калюшчыя, іх накладаюць з цыбулькай, ставяць у печ.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *jażdż, jazgarz* 'тж'.

Я′ЖДЖАЛЬ *м. бат.* Від асакі. *Яжджаль ціляткам сабіралі.*

Янова Рас. *Яжджаль, як плісьнік, па берагах расце, меньшы, як плісьнік, ядуць каровы.* Ухвала Круп. *Яжджаль зялёненькі, а корань беленькі, выцягваюць свіням, саладкаваты.* Глівін Барыс. *Яжджаль, як снех далоў, так ён і расцець па мокрых месцах.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *júodžolė* (Actatea spicata).

ЯЖДЖА'ЛЫ *прым.* Уезджаны. *Дарога ні яжджалая — ета сценка.* Лапічы Асіп.; *гл.* е ж д ж а́ л ы.

Я'ЖДЖАР *м.* Тое ж, што і я́ ж д ж а л ь. *Яжджар па ніскіх містах расьцець.* Валынцы В.-Дзв. *Яжджар расьцець.* Лісна В.-Дзв. *Яжджар расце кустом, як асака, тоўстая цабалка, ліст, як на асаке, толькі шырокі.* Мішневічы Шум.

ЯЖДО'МЫ *прым.* Прызначаны для язды. *У яждомых коняй — ужы, а ў аровых — пастронкі.* Быстрыца Астр. *Яждомы хамут.* Грыкені Вільн.

ЯЖЫ'НА *ж.* Агародніна, садавіна. *Моргаўка, цыбуля, яблыкі — усю яжыну нясуць.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *jarzyna* 'тж'.

ЯЖЫ'НЫ *мн.* Тое ж, што і я ж а в і́ н ы. *Яжыны, як маліны, толькі чорныя.* Магуны Паст. *Яжыны растуць, як і маліны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яжыны — смачныя такія, чырвоныя аж чорныя.* Васілевічы Гродз.

Я'ЖЭЛЬ *м.* Тое ж, што і я́ ж д ж а л ь. *Яжэлю нарваў цялёнку.* Мачаск Бярэз.

ЯЗ I, ЯЗЬ, ЯСЬ *м.* Я́зь. *Яз — укусная рыба.* Мешкінева Лудз. *Язь — кусны, хітрая рыба; у язя красныя глаза.* Ахрэмаўцы Брасл. *Язі — самая укусная рыба.* Шкаўна Лудз. *Язі — тоўстыя.* Навікі Лудз. *Мы завём ясь, а некаторыя — галавач.* Быстрыца Астр. *Язь — хітрая рыба, у нараст у рэчку заходзіць, у травяністыя залівы, а так яго не паймаеш, перапрыгваюць сетку.* Месянцы Брасл.

ЯЗ II *м.* Плеценая перагародка папярок ракі для затрымання і лоўлі рыбы. *На раке язы рабілі, калкі забівалі і кідалі яловыя лапкі і нараты ставілі.* Вузла Мядз. *Язы з прантоў жалезных рабілі, на ручках.* Альхоўка Навагр. *Язы рабілі на рэчках.* Бакшты Іўеў.; *гл.* е з.

Я'ЗВА *ж.* Язва. *Прыстала язва ці што, і ён памёр.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Язва была, і тою масцю я вылячыў.* Парэчча Гродз.

ЯЗДА' *ж.* Язда. *Што гэта за язда!* Гемзы Шальч.

ЯЗДО'К *м.* Align Вознік, возчык. *Яздок на вазе.* Быстрыца Астр.

Я'ЗМІН, Я'ЗМЕНЬ, Я'ЗВІН *м. бат.* Язмін. *Язмін зара расьцвітае.* Пацаўшчына Дзятл. *Гэто позні язмін, расце красіво.* Быстрыца Астр. *Язмін пат хатаю расце.* Кіралі Шчуч. *Бэс люблю і язмін, вот пахне.* Солы Смарг. *Язмін пахучы дужа.* Граўжышкі Ашм. *Язмін, як бэс: пахня, многа цвяточкаў.* Старыя Трокі Трак. *Ліпаў цвет, язвін ад прастуды памагае.* Альхоўка Навагр. *Язмень пахне, цвіце белым.* Воўкуш Ліпск. *Язвін пат хатаю расце.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *jaśmin,* руск. *жасмин* 'тж'.

ЯЗЫ'К I *м.* 1. Орган у поласці рота, які з'яўляецца органам смаку, а таксама ўдзельнічае ва ўтварэнні гукаў. *Можа, языка няма, адарвалі?* Пацаўшчына Дзятл. *Языкам толька меліш.* Вялікія Баяры Шчуч. ∇ *На языцэ жаба не спячэцца* — хто рэагуе хутка, меткім словам. Вострава Маст. *Языком што хочаш гавары, но рукам волі не дай.* Кураполле Паст. *Язык бэз косьці: цо хцэ, то хвосці.* Кіралі Шчуч. *Чы языком, чы пугай па вадзе.* Саланое Віл. *У мяне што на языку, тоя і за губамі.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Пусціць, зрабіць языкі* — пусціць чуткі, пагалоскі. *Пусцілі языкі. Хто зрабіў языкі? — Бабы. Мушчыны не так гэтыя плёткі распускаюць.* Навасёлкі Лід. 2. Верхняя рухомая частка церніцы. *У церніцы ест язык, шпеньчык, язык паходжая.* Малахоўцы Бар. *У церніцы е язык і шчокі.* Альхоўка Навагр. *Язык з ручкай.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЯЗЫ'К II *м.* Мова, гаворка. *У нас мішаны язык.* Ахрэмаўцы Брасл. *У адной дзірэўні двацаць языкоў.* Лісна В.-Дзв. *Ён ведае языкі не нашы.* Солы Смарг.

ЯЗЫ'КЛІВЫ *прым.* Языкаты. *Языклівы ляпніць, а тады і сам ні рады таму, што сказаў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЯЗЫ'ЧЛІВАТЫ *прым.* Тое ж, што і я з ы́ к л і в ы. *Языччліваты чалавек.* Міратычы Карэл.

ЯЗЫ'ЧНІК *м. асудж.* Пляткар, балбатун. *Язычнік ты, балтаўнік, змоўкнеш хоць ці не? Не прыслухоўвайся к таму, што скажа гэты язычнік.* Ухвала Круп. *У язычніка язык доўгі.* Вузла Мядз.

ЯЗЫ'ЧНІЦА I *ж.* Пляткарка, балбатуха. *Яна такая язычніца.* Саланое Віл.

ЯЗЫ'ЧНІЦА II *ж. бат.* Ланцэталісты трыпутнік. *Язычніца — трава ад прэласці.* Груздава Паст.

ЯЗЫЧО'К *м.* Жалезная пласцінка, пры дапамозе якой падымаецца і апускаецца клямка ў дзвярах. *Язычок у клямцы.* Збляны Лід.

ЯЗЬ *гл.* ЯЗ I

Я'ЗЬВІНА *ж.* Ясень. *Язьвіна — дзерава пад ляміну.* Тухавічы Лях. *Язьвіна каля плоту так і асталася расці.* Гайна Лаг.

Я'ІРНІК *зб. м. бат.* Аер. *Яірнік па берагах рэчкі расце.* Лайпушкі Ігн.

ЯІ'ЧКА *гл.* ЯЕ'ЧКА

ЯЙКО' *н.* Яйцо. *Кукушка ў чужоя гняздо кладзе яйко.* Жодзішкі Смарг. *Курыца яйко зліла.* Быстрыца Астр. *Яйко велька.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яйко знесла кура.* Кемялішкі Астр. *Яйко з'еш варанае.* Пацаўшчына Дзятл. *Загранае яйко.* Галубы Маст. *Яйко цэлае.* Паляцкішкі Воран. *Яйко зварыла.* Гемзы Шальч. *Яйко уб'ець і з'есць.* Завельцы Астр. *Яйка́ рэшатам не паб'еш, еслі паложыш у вугалок.* Вузла Мядз. *Сала не любіла, і яйка́ ні спячэш.* Гальшаны Ашм. *Мне з я́йка так плоха стала.* Саланое Віл. *Бялко з я́йка выцекло.* Каменка Стара Сакол. *Яйкі продалі на базары.* Бакшты Іўеў. *Курыца з яйком.* Лісна В.-Дзв. *Куры*

*яйкі нясуць.* Грыкені Вільн. *Яйкі са тры нада ў сыр убіць. Нада ш ісці па яйка.* Груздава Паст. *Яйка нада прадаць.* Альхоўка Навагр. *Можа яяк маяця?* Солы Смарг. *Пяць яек убіла.* Крэва Смарг. *На дзяды я варыла капусту, сяканку, з яёк што-небудзь рабіла.* Дакудава Лід. *Ест яёк.* Альхоўка Навагр. ∇ *Яйко курыцу учыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лупінькі з яёк свянцоных на Юр'і закопвалі на полі, кап уражай быў.* Збляны Лід.

ЯЙЦО' *н.* Тое ж, што і я й к о́. *Моцноё яйцо.* Альхоўка Навагр. *Курыца з яйцэм.* Дзяніскавічы Ганц. *З'ясі дзве яйцэ.* Міратычы Карэл. ∇ *Гэта ні ў яйцэ пішчыць* — калі датычыцца сур'ёзнай справы. Саланое Віл.

ЯК I *прысл.* Як. *Як дажынаць жыта?* Васілевічы Гродз. *Як ухаваць гэтыя кураняты?* Збляны Лід. *Як следуецца, так яго радзіла.* Малі Астр. *Люзная адзежа, як люзна яна на табе.* Солы Смарг. ∇ *Што такі вясёлы, як у неба ўзяты.* Груздава Паст.

Як II *злуч.* Як, калі. *Калежанкі не будуць да мяне туліцца, як будуць знаць, што замужняя.* Гальшаны Ашм. *Як сват прыедзе, то на кут вешалі рушнікі.* Завельцы Астр. *Як трэба ісці падноску* [які-н. корм] *гатаваць карове, то яна галаву ў жолаб.* Малышы Лід. *Натта плоха, як чалавек раптам уміpae.* Дзераўное Стаўб. *Паршучка як заколюць, то на цэлы рок.* Васілевічы Гродз. *Як усе работы разам збяруцца — гарача пара і яшчэ неяк кажуць.* Збляны Лід. *Як слонца, то паліць кварціру.* Навасёлкі Лід. *Як прачнуўся і балтаюсь. Як галава баліць, пьюць чамбар.* Скрудалена Даўг. ∇ *Як ёсць раса — добрая пагода, а як сухавей — на дош. Сухавей, як няма расы.* Солы Смарг.

Я'КАСЬ *гл.* Я'КОСЬ

ЯКІ' *займ.* Які. *Здоўжыліся вы тут, і сям'я ёсць якая.* Быстрыца Астр. *Дзе якое зупы зварыш.* Васілевічы Гродз. *Палучаецца якое калецтва, як гэта зробіш.* Чуркі Ашм. *Німа тэй бабы, якой прасіла вады ўкінуць.* Магуны Паст. *Былі такія ткачыхі, якія спецыяльна вучыліся.* Дзераўное Стаўб. *Якія мы дурні, што мы яго звалі.* Малышы Лід. *Прышлеце фатаграфію, хоць паглядзець, якія мы вышлі.* Збляны Лід. *Не помню, якім часам прыехала.* Завельцы Астр.

ЯКІ'СЬ, ЯКІ'ЙСЬ, ЯКІ'СЦІ *займ.* Якісьці, нейкі, невядома які. *Якісь хлопчык пабех.* Мсцібава Ваўк. *Якісь кот прышоў.* Вялікі Краснік Пруж. *Ішоў якійсь чэловек.* Навадворцы Васільк. *Якась чорна газета дайняшня.* Вялікі Краснік Пруж. *Якаясь гузка назаўтра села.* Калядзічы Ваўк. *Шчотачкі да падолкаў падшывалі, якаясь валасяная шчотачка.* Старыя Трокі Трак. *Мо якаясь прычына мусяла быць. Разгавор збіраецса якісці.* Крынкі Крын.

Я'КНЫ *мн.* Печань. *Якны тоўстыя, як бонды.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *jãknos* 'тж'.

ЯКО'ЙСЬЦЯ *займ.* Нейкае. *Дало ў галаву якойсьця пломя.* Старыя Трокі Трак.

Я'КОСЬ, Я'КАСЬ 1. *займ.* Нешта. *Якось нядобра мне.* Нава-

сёлкі Свісл. *Якась скора памёр.* Жылі Іўеў. 2. *прысл.* Аднаго разу, неяк. *Якось казалі, што сачавіцу сеялі.* Мсцібава Ваўк.

ЯКРА'С *прысл.* Якраз. *Якрас на тры карале белыя наляцелі.* Малышы Лід.

Я'ЛАВАЦЬ І, ЯЛАВЕ'ЦЬ, ЯЛОВЁ'ТЫ *незак.* Дзірванець, не апрацоўвацца пад пасевы. *Зімля ялаваіць, як яе не пашуць.* Валынцы В.-Дзв. *Ялавея зімля тры гады і зноў пахаецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Поле яловело.* Горск Бяроз.

Я'ЛАВАЦЬ ІІ *незак.* Быць, станавіцца ялавай (пра жывёл). *Калі карова ялаваіць, шырэйшыя прагаліны между рупцоў становяцца.* Кураполле Паст.

ЯЛАВЕ'Ц, ЯЛОВЕ'Ц, ЯЛОВЭ'ЦЬ *м.* Тое ж, што і я д л а в е ц. *Ялавец сушылі, ён добра гарыць.* Галубы Маст. *Ялаўцом вэндзяць сланіну.* Пацаўшчына Дзятл. *Ялавец расце тут.* Граўжышкі Ашм. *Ялавец у сасонніку абычна расце.* Галоўні Воран. *Ялавец расце ў нас.* Міратычы Карэл. *Ялавец для капчэння добры.* Талейкі Швянч. *Яловец кустом расце.* Кузьмічы Люб. *У яловцёвэ колюшкі. Покрале кожухі і поховалі в яловце.* Дзмітравічы Кам.

ЯЛАВЕ'ЦЬ *гл.* Я'ЛАВАЦЬ І

ЯЛАВЁ *н.* Тое ж, што і я́ л а в і н а І, 1. *Ялавё — калі поле аддыхае пат зімнюю рош.* Глівін Барыс.

Я'ЛАВІНА І *ж.* 1. Абложная зямля. *Кагда-та зямля рабілася, а цяпер ялавіна.* Збляны Лід. *Ялавіна, як поле не пашыцца, ляжыць.* Альхоўка Навагр. *Ялавіна міжду поля. Не сеяная зямля, якая раней абраблялася.* Саланое Віл. *Ялавіна—гэта кусок, зямля, якую не гаруць.* Кіралі Шчуч. *Ялавіна — закінутае поля, дзе раней сеялі, а цяпер там трава расце. Ялавіна, дзе ня сеяць, там трава расце.* Рыбчына Віл. *Ялавіна — поле, якое не гаралі.* Вострава Маст. *Лён на ялавіне слалі.* Мсцібава Ваўк. *Ялавіна—поле, як яго не пагарай, ялавіна ляжыць.* Мыто Лід. *Ялавіна — як гадоў сколькі ні сеюць.* Тухавічы Лях. *Ялавіна — як хтось не арэ, гуляе зямля, адлох — як два лет не гаруць.* Рыгалоўка Ліпск. 2. у знач. *прысл. я́лавінаю.* Аблогай. *Хай поле паляжыць з гот ялавінаю.* Кіралі Шчуч.

Я'ЛАВІНА ІІ *ж.* Ялавічына. *Ялавіна — кароўская мяса.* Ёдлавічы Брасл.. *Ялавіна — мяса каравячая.* Старыя Смільгіні Воран. *Ялавіна — гэта каровіна.* Завельцы Астр. *Ялавіна — ялава мяса.* Малыя Аўцюкі Калінк.

Я'ЛАВІ'ЦА *ж.* 1. Ялаўка. *Не пабеганая карова — ялавіца асталася.* Пацаўшчына Дзятл. *Ялавіца — перадоўка.* Навасёлкі Свісл. *Ялавіца — запушчана карова, яе не дояць, здаць трэба.* Навасёлкі Лід. *Ялавіца, як ні цельна карова і ня доіцца, яе запускаюць на мяса.* Кіралі Шчуч. *Карова — ялавіца.* Воўкуш Ліпск. *Карова — ялавіца, не доіцца.* Бакшты Іўеў. *Карова-ялавіца доўга не бегая.* Галубы Маст. 2. Тое ж, што і я́ л а в і н а ІІ. *Ялавіца — мяса ялава.* Малыя Аўцюкі Калінк.

Я'ЛАВІЧЫНА, Я'ЛАВІЧАНА, Я'ЛАВІЧЧЫНА *ж.* Тое ж,

што і я́ л а в і н а II. *Ялавічына — кароўя мяса.* Вузла Мядз. *Ялавічана — мяса харошая, яно любівая ўсё.* Кіралі Шчуч. *Ялавічына з бычкоў.* Магуны Паст. *Ялавічына — каровіна мяса.* Гемзы Шальч. *Ялавіччыны купіла.* Старыя Трокі Трак.

Я'ЛАВЫ I, ЯЛО'ВЫ *прым.* 1. Ялавы, бясплодны. *Тры лет ялава карова.* Сакаляны Сакол. *Ялавая карова без ацёла.* Пасіене Лудз. *Ялава, як не пабегае карова.* Лука Нараўк. *Яловая карова.* Воўкуш Ліпск. 2. Ялавічны. *Ялавая мяса.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ялова мяса доўга варыцца.* Малькуны Ігн.

Я'ЛАВЫ II *прым.* 1. Абложны, неўзараны. *Ялавая зямля, яе не гаруць.* Кіралі Шчуч. *Ялавая поле ляжала дзірваном, а тады абаралі.* Мярэцкія Глыб. 2. Не брукаваны. *Ялава дарога.* Каменка Стара Сакол.

Я'ЛАЎКА *ж.* Тое ж, што і я́ л а в і ц а 1. *Мая карова—ялаўка.* Рудня Чэрв. *Мая карова ялаўкай быўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кароўка тры гады ялаўкай была, не стала пакрывацца.* Рагулішкі Даўг.

ЯЛАЎЦО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і я д л е́ н ц а в ы. *Ялайцова загвастка крэпка.* Збляны Лід.

Я'ЛАЎЧЫНА *ж.* Тое ж, што і я́ л а в і н а II. *Ялаўчына — каровіна мяса.* Паляцкішкі Воран.

ЯЛАЎЧЫ'НА' *ж.* 1. Яловая палка. *Которая ялаўчына ня тоўстая — запляталі пляцень.* Збляны Лід. *Узяць ялаўчыну, абстругаць, пяском церці, запалку паднесьці — і загарыцца.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Ядлаўцовая палка. *Выразаў ялаўчыну да біча, да пугі ад елаўца.* Жылі Іўеў. *Ялаўчына да пугі, яе з елаўца рабілі.* Граўжышкі Ашм.

ЯЛЕ'НА *ж.* Яліна. *На ялену кажут ёла і ялена.* Дзяніскавічы Ганц.

ЯЛЕ'НЕЦ, ЯЛЕ'НІЦ, ЯЛЭ'НІЦ, ЯЛЫ'НЕЦ *м.* Тое ж, што і я д л а в е́ ц. *Яленец нада, каб капціць окаркі свіныя.* Яніна В.-Дзв. *Яленец дралі і лапці пплялі.* Лісна В.-Дзв. *Яленіц расце ў барах кустамі.* Якубова Рас. *Ні ялэніц, сасонік возьмеш і памяло дзелаіш.* Масішкі Красл. *Ялынец ад мочы, ад мачавога пузура.* Навікі Лудз.

ЯЛЕ'НЦАВЫ *гл.* ЯДЛЕ'НЦАВЫ

ЯЛЕ'НЬЧЫК *зб. м. памянш.* да я л е́ н е ц. *Яленьчык, там папугай сядзіць.* Солы Смарг.

ЯЛЕ'Ц, Я'ЛЯЦ *м. заал.* Рыба ялец. *Ялец — рыба, у іх луска дзярэцца, с краснымі пёрышкамі.* Солы Смарг. *Ялец шмытлясты, дліны, быстры.* Мсцібава Ваўк. *Яляц — рыба такая.* Малахоўцы Бар. *Яльцаў налавіў многа.* Рыбчына Віл. *Ялцы жывуць у рэчачках, прыходзяць з Нёмана нібальшыя, рабенькія.* Альхоўка Навагр.

ЯЛІ'НА' *ж.* Яліна. *Як цвіце яліна, карова наесца, можа забалець.* Лука Нараўк. *Усякае дрэва па лесе: яліна, альшына, сасніна, драп.* Васілевічы Гродз. *Яліна расце на двары.* Навасёлкі Свісл. *Расце яліна.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЯЛОВЕ'ТЫ *гл.* Я'ЛАВАЦЬ

ЯЛОВЕ'Ц *гл.* ЯЛАВЕ'Ц

ЯЛО'ВЫ I *гл.* Я'ЛАВЫ I

ЯЛО'ВЫ II *прым.* Які мае адносіны да елкі, зроблены з елкі. *Яловы сук доўга стаіць у агарожы.* Гальшаны Ашм. *Яловыя голкі пад нагамі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Яловыя калючкі.* Мярэцкія Глыб. *Мяліца з лапы яловай.* Дзераўное Стаўб. *Яловыя лясы усё.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бучок з кары яловай.* Саланое Віл.

ЯЛОВЭ'ЦЬ *гл.* ЯЛАВЕ'Ц

ЯЛУ'ШКА *ж.* Елка. *Там і сосны, і ялушкі растуць.* Якубова Рас. *Расла там ялушка.* Кухты Віл.

ЯЛЧА'ЦЬ *незак.* Ялчаць, горкнуць. *Сала ялчая.* Малахоўцы Бар.

ЯЛЧЫНЯ' *ж.* Гарката. *Сала ялчынёй аддае.* Гемзы Шальч.

ЯЛЫ'НЕЦ *гл.* ЯЛЕ'НЕЦ

ЯЛЫНЦО'ВЫЙ *гл.* ЯДЛЕ'НЦАВЫ

ЯЛЬМЕ'НІНА *ж.* Адно дрэва ільмы. *З яльменіны лыка дзяруць.* Беразіно Докш.; *гл.* і л ь м і н а.

ЯЛЬНЯ'К *зб. м.* Ельнік. *У яльняку грыбы растуць.* Галубы Маст. *Зайшлі ў яльняк — во было грыбоў!* Галоўні Воран.

Я'ЛЬЧЫК *м. памянш. да* я л е́ ц. *Яльчыкі ночай лавілі.* Чуркі Ашм.

ЯЛЭ'НІЦ *гл.* ЯЛЕ'НЕЦ

ЯЛЯ'ГА *зб. ж.* 1. Тое ж, што і я л ь н я́ к. *Яляга тут густая, па гэтай ялязя былі баравікі, як салдаты стаяць, пад ялягамі.* Граўжышкі Ашм. 2. Лапкі ельніку. *Пamёлы рабілі з ялягі.* Крэва Смарг.

ЯЛЯ'ЖНІК *зб. м.* Тое ж, што і я л ь н я́ к. *Руж'я хавалі ў яляжніку.* Крэва Смарг.

Я'ЛЯЦ *гл.* ЯЛЕ'Ц

Я'МА *ж.* 1. Паглыбленне ў зямлі. *Ямы на балоце вялікія, як торп пакапалі.* Рыбчына Віл. 2. Яма для захоўвання бульбы. *Некалі бульбу з ямы бралі.* Саланое Віл. *У ямы бульбу хаваюць.* Кіралі Шчуч. *Яму зробяць са скрынкай і бульбу заваляць наглуго.* Номікі Бабіц. 3. Прыстасаванне ў выглядзе глыбокай ямы для лоўлі звяроў. *Ямы капалі, лавушкі такія, ваўкоў лавілі.* Латыгаль Віл. 4. Магіла. *Яе бацька дзве ямы пакапаўшы для пахавання.* Гемзы Шальч. 5. *перан.* Глыбокая рана. *Яма была на ўсё сцягно.* Пацаўшчына Дзятл. ▽ *Ні капай каму ямы, бо сам уваліся.* Збляны Лід. *Не капай ямы другому — сам уваліся.* Ёдлавічы Брасл. *Хай цябе яма заваліць.* Кіралі Шчуч. *О каб цябе заваліла яма!* Пацаўшчына Дзятл.

Я'МАЧКА *ж. анат.* Дыхавіца. *Забалела мне пад ямачкай, пад ямкай.* Рагулішкі Даўг.

ЯМЁЛА *ж. бат.* Амяла. *Ямёла на бярозе, яна зялёная. Кажуць бяроза квітне.* Солы Смарг.; *гл.* а м е л а́.

Я'МІСТЫ *прым.* Ухабісты. *Яміста дарога, багато ям:* Дзяніскавічы Ганц.

Я'МКА I *ж.* 1. Пячурка, месца, куды заграбаюць жар з печы. *Выгарну жар у ямку.* Кіралі Шчуч. *Ямка ў печэ. Можна было што спячы ў ямцы.* Мсцібава Ваўк. *Ямка — вугаль зграбаць.* Мыто Лід. *У ямку жар заграбалі.* Вецярэвічы Пух. *Дзе прыпячак, там ямка, туды жаратак зграбаюць.* Жодзішкі Смарг. *Загарні жар у ямку.* Пасека Ст.-Дар. *Нада зграбаць жар у ямку. кап цяплей было.* Ёдлавічы Брасл. *У ямку згарнуць жар.* Старыя Смільгіні Воран. *Ямка ў печы, жар, попял зграбалі.* Малахоўцы Бар. *Ямка для попелу, а з другога боку камінак.* Дзяніскавічы Ганц. *Нада жар заграбіць у ямку.* Малькуны Ігн. 2. Тое ж, што і я́ м а 4. *Ямкі капаюць. Ямкі скопаны на кладбішчы.* Азяраны Раг. 3. Тое ж, што і я́ м а 1. *Куры на ямкі пакапалі, дзе пасеяна.* Гемзы Шальч.

Я'МКА II *ж.* Тое ж, што і я́ м а ч к а. *У ямцэ баліць.* Гемзы Шальч. *Рабакі падходзілі пад ямку.* Старыя Трокі Трак.

ЯМЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш удалы. *У нас быў ямчэйшы сабака і гэты ёмкі.* Вецярэвічы Пух.

ЯН *м. абрад.* Купалле. *Сяганя купальнік, а назаўтрыя Ян.* Вузла Мядз. *Прад Яна касілі.* Месянцы Брасл.

Я'НА I *н. абрад.* 1. Тое ж, што і Я н. *Заўтра Яна.* Ёдлавічы Брасл. *На Яна вянкі нада віць.* Гальшаны Ашм. *На Яна купаецца сонцо у расе.* Дзяніскавічы Ганц. *Яна — свято летом.* Лука Нараўк. 2. у знач. *прысл.* *Я́нам.* У перыяд Купалля. *Самая меншая ноч — Янам.* Вузла Мядз.

Я'НА II *н. бат.* Зверабой. *Яна — зеля, свенціянске зеле.* Старыя Смільгіні Воран.

ЯНА' *займ.* Яна. *Яна* [бульба] *была харошая, а як сварацъ — чарнее.* Малышы Лід. *Прыходзіць яна і пытае: «Ты сціхатварэння навучыла?»* Гальшаны Ашм. *Я відзеўшы саву: яна страшная.* Скрудалена Даўг. *Вокны ей пабілі, табе шкоды нарабілі, цыбулю пабралі.* Груздава Паст. *Ей быў сын с тым мужам нажыўшы.* Малькуны Ігн. *Я загайвала яну рану.* Лайпушкі Ігн.

Я'НАВЫ ГАЛО'ЎКІ *мн. бат.* Купальнік. *Янавы галоўкі бухмаценькія цвяточкі, сінінькім цвіцяць.* Кураполле Паст.

ЯНО'Т *м.* Янот. *Яноты, як сабачкі, каля возера, дарагой зверок, паядаіць курапатак, вутак, дзіч любіць пралётную.* Чарняўскія Лудз.

ЯНЧАРЫ' толькі *мн.* Шамкі. *Янчары вешалі каню на шыю.* Гемзы Шальч.; *гл.* е н ч а́ р ы.

ЯНЭ' *займ. мн.* Яны. *Янэ наелісе і паехалі.* Кіралі Шчуч. *Учора вечарам хадзіла да ім.* Пацаўшчына Дзятл. *Пайду з іма.* Альхоўцы Лях. *Я не бачыла ік* [іх], *прыехаў да ік.* Старыя Смільгіні Воран.

ЯПРУ'К *м.* Вяпрук. *Япрука разматлашылі.* Ванелевічы Кап. *Япрук удачны быў, яго здалі на базу.* Альхоўка Навагр. *Япрук стары і малады.* Дзяніскавічы Ганц.

ЯПРУ'ЧНІК *м. бат.* Парэчнік. *Было багато япручніку у балоце, цяпер выдралі. У япручніку лісты, як на клёне. Япручнік*

*парылі і дзеці купалі, як балячкі на твары, галоўцы.* Дзяніскавічы Ганц.

ЯРАВЫ′, ЯРО′ВЫ *прым.* Яравы. *Яравая пшэніца.* Відаўцішкі Вільн. *Яравоя збожа — ячмень.* Гемзы Шальч. *Яравая салома, жыта.* Альхоўка Навагр. *Ярова збожа хароша, расьце, як гай.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прышло літо, посіяла яровое жыто.* Дзмітравічы Кам.

Я′РАЙ *м.* Тое ж, што і я́вар 1. *Ярай у возіры расце.* Азяраны Раг. *Ярай ля ракі расце.* Лапічы Асіп. *Ярай — ля возера.* Багушэвічы Бярэз.

Я′РАЧЫ *прым.* Тое ж, што і яравы́. *Ярача жыто.* Номікі Бабіц.

ЯРГІ′НЯ *гл.* ЮРГІ′НЯ

ЯРЗУ′Н *м. экспр.* Хто ёрзае, круціцца, не сядзіць на месцы. *Ні ёрзайся па лошку, ярзун ты.* Граўжышкі Ашм. *Ён такі ярзун, як кнюр.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *erzėti* 'шумець, крычаць'.

Я′РКА *ж.* Яравая пшаніца. *Ярка — летняя пшаніца.* Быстрыца Астр.

Я′РКІ *прым.* 1. Яркі, зыркі, халаднаваты. *Такая яркая раніца, аш ногі памерзлі.* Лапічы Асіп. 2. Звонкі, рэзкі. *Яны* [цвыркуны] *туркнуць такім яркім звукам!* Старыя Трокі Трак.

Я′РМАЛКА *ж.* Кірмаш. *На ярмалку егдзілі ў Мыш.* Малахоўцы Бар. *Ярмалка была ў другой вёсцы.* Азарычы Пін.

ЯРМО′ *н. устар.* Вупраж на вала, ярмо. *Ярмо — адна клетка, на два вала — рама.* Галубы Маст. *Налажыў гэто ярмо валу, ды няхай цягая.* Міратычы Карэл. *У ярме палачка.* Рыбчына Віл. *Ярмо на вала.* Дзяніскавічы Ганц. *Бервянко паложыць на шыю, і валы цягнулі, называецца ярмо, тым дрэвам, тым бервянком.* Грыкені Вільн. *Валы загілявалі — ярмо паламалі.* Гемзы Шальч. *Ярмо быкавае.* Завельцы Астр.

ЯРМЯ′К *м.* Армяк. *Бурнос і ярмяк кароткі і доўгі.* Старыя Смільгіні Воран. *Ярмяк з сукна. Ярмяк на кажух надзяваўся ці на пальта.* Быстрыца Астр. *Ярмяк с сукна быў, надзявалі наверх кажуха.* Магуны Паст. *Ярмякі шылі с паўсукеніка, болі ўсе карычневы, красілі вольхай.* Ёдлавічы Брасл. *Ярмяк быў глаткі, кляпа была, былі кароткія і длугія, на кажух адзявалі.* Старыя Трокі Трак. *На кажухе ярмяк.* Гемзы Шальч. *Ярмяк быў.* Лайпушкі Ігн. *Ярмякі доўгія шылі, з башлыкамі на галаву.* Ракаўскія Швянч.

ЯРМЯЧО′К *м. памянш.* да ярмя́к. *Ярмячок шыўся з сукна свайго іздзелія; у ярмячку ні было шва на спіне.* Магуны Паст.

ЯРО′ВЫ *гл.* ЯРАВЫ′

Я′РУС *м.* Штабель (бярвення). *На прыстані у ярус накладаюць лес.* Азяраны Раг. *У ярус згружалі бярвенні на руме.* Вецярэвічы Пух.

ЯРУ'ШАЧКА *ж. памянш.* Карова, якая першы раз ацялілася. *Ярушачка — ета калі першы раз целіцца.* Беразіно Докш.

ЯРУ'ШКА *ж.* Маладая авечка. *Ярушкі маленькія ў нас.* Мельнікі Лудз.

ЯРЧУ'К *м.* 1. Злы, яры сабака. *Тыя сабакі ярчуке, іх ніхто не пабядзіць.* Вецярэвічы Пух. *Сабака — ярчук, злы, заядлы.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Злосны чалавек. *Ярчук ты!* Рудня Астравітая Чэрв.

ЯРЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш яры. *Гусака кормюць перцам, кап ярчэйшы быў.* Валынцы В.-Дзв.

Я'РЫ *прым.* 1. Яры, злы; заўзяты. *Во яры бык.* Кураполле Паст. *Яры — заядлівы, біца прычэпляецца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Такі яры, заўзяты.* Ухвала Круп. 2. Жвавы, энергічны. *Яры — павёрткі, быстры, энергічны.* Рыбчына Віл. 3. Які знаходзіцца ў стане палавой актыўнасці. *Давалі гусаку перац. Ат перцу гусак дзелаіцца яры, к гусям ідзець.* Валынцы В.-Дзв.

ЯРЫНА' *ж.* Ярына. *Ярыну сеюць вясною.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Пасеяў я ўжо ярыну, толькі асталася адна грачыха.* Кіралі Шчуч. *Ярыну пасеялі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ярына — што сеялі, ячмень, авёс.* Янова Рас. *Ярына — авёс, ячмень, грэчка, катора вясной сеіцца.* Альхоўка Навагр. *Мы ужэ пабілі і паслалі лён, а ярыну яшчэ жном.* Руднае Кап. *Ярына, што сеюць вясной.* Дзяніскавічы Ганц. *Сею ярыну.* Відаўцішкі Вільн.

Я'РЫЦА *ж.* 1. Яравое жыта. *Ярыца — яравоя жыта.* Вецярэвічы Пух. *Ярыцу вясною сеюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Жыта сеялі вясной — гэта ярыца, яна ішла на саладуху.* Стральцы Гродз. *Ярыца — жыта, якое сеюць вясной.* Рыбчына Віл. *Тое жыта — ярыца.* Талейкі Швянч. 2. Мука з яравога жыта. *Мацi ржаной хлеб учыніць, а ярыцай замесіць.* Вузла Мядз. *Ярыца добра на бліны.* Рудня Астравітая Чэрв.

Я'СЕНЬ, Я'САНЬ, Я'СЯНЬ *м.* і *ж.* Ясень. *Ясень есць каля хат.* Кіралі Шчуч. *Тут сухая ясень есць.* Лайпушкі Ігн. *Ясень пазней распускаецца.* Чычалі Швянч. *Ясань — дзераво тако.* Дзяніскавічы Ганц. *З ясяняў гнуць обат.* Збляны Лід.

ЯСЁНАЧКА *ж. памянш.* да я с ё н к а. *Вясной ясёначкі насілі.* Саланое Віл.

ЯСЁНКА *ж.* Асенняя жаночае паліто. *Ясёнка купляная, да палавіны на падбіцi і рукавы на падбіцi.* Кіралі Шчуч. *Ясёнка — асенная пальто.* Солы Смарг. *Пала брудная ў ясёнцы.* Галубы Маст. *Трэба ясёнку купляць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ясёнка — асення пальто.* Мсцібава Ваўк. *Ясёнка — лёгкае пальто.* Быстрыца Астр. *Ясёнка — бапская асенняя адзежа з грубага сукна.* Завельцы Астр. *Ясёнка — осіннэ пальто.* Дзмітравічы Кам.

Я'СІК *м.* Маленькая падушачка. *Ясік маленькі прынясла — гэта падушка.* Гайна Лаг. *Ясік — гэто малая падушачка.* Альхоўка Навагр. *Я с хаты ўзіла падушку і ясік, капу купіла.* Гальшаны Ашм. *Ясік маляныкі.* Жодзішкі Смарг. *Ясік — маленька падушачка.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* польск. *jasiek* 'тж'.

ЯСІНЁВЫ, ЯСЯНЁВЫ *прым.* Зроблены з ясеню. *Ясінёвыя палазы.* Гемзы Шальч. *Ясянёвая тапарышча.* Рудня Астравітая Чэрв.

Я'СІЧАК *м. памянш.* да я́сік. *Ясічак зрабіла пухавы.* Жодзішкі Смарг.

Я'СКАР, Я'СКІР *м. бат.* Казялец. *Яскар вельмі ядавіты.* Альхоўцы Лях. *Яскір — едавітая расліна.* Альхоўка Навагр.

Я'СКРА *ж.* Тое ж, што і я́скар. *Яскра — трава, цвет — з жоўтымі цвяткамі.* Мсцібава Ваўк. *Яскры — жоўцянькія на ценянькай носцы цвяток.* Магуны Паст.

Я'СЛІ *мн.* 1. Загарадка ў хляве каля сцяны ў выглядзе драбіны, у якую кладуць сена. *Яслі — драбінкі збіты, сена туды закладаецца.* Галубы Маст. *Трасянку ў яслі паложыш.* Старыя Смільгіні Воран. *Сена, корм кладуць карові ў яслі — скрынка з дошчак, з дном.* Груздава Паст. *Яслі бы драбінкі, к сцяне прычэпваюцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Даўней гаварылі, што ў яслях хавалі Ісуса.* Завельцы Астр. ∇ *Асёл ждаў, каб яслі прышлі да яго, ды здох, не даждайся* — пра гультая. Вузла Мядз. 2. Драбіны ў возе. *Цялега таксама, як і тарантас, устроена, толькі бес ясель.* Пасіене Лудз.

Я'СНА I *прысл.* 1. Зразумела. *Як Фэлька да мяне прагаварыў, усё стала ясна.* Івашкаўцы Смарг. 2. Вядома. *Ну дык жа ясна, кажды ездзіць у дзярэўню, каб памагчы.* Чапаеўскі В.-Дзв.

Я'СНА II *мн.* Дзясны. *Ясна, дзе зубы сядзяць.* Галубы Маст. *Ясна напухлі.* Лука Нараўк.

Я'СНАСЦЬ *ж.* Яркае святло. *Із яснасці пападалі.* Альхоўка Навагр.

ЯСНЕ'Й *прысл.* Больш зразумела, ясна. *Ты ясней раскажы.* Ахрэмаўцы Брасл.

Я'СНЫ *прым.* 1. Светлы. *Бусял ясны, а чапля цёмная.* Парэчча Гродз. 2. Яркі, ясны. *Зараначка ясная.* Рагулішкі Даўг.

ЯСЬ *гл.* ЯЗ I

ЯСЯНЁВЫ *гл.* ЯСІНЁВЫ

Я'СЯНЬ *гл.* Я'СЕНЬ

ЯТ *зб. м.* Авадні, мухі і інш. *Ят напаў на скаціну.* Альхоўка Навагр.; *гл.* ава́т.

ЯТКІ' *гл.* ЯДКІ'

Я'ТРАСЬ, Я'ТРЫСЬ *ж. мед.* Запаленне, раздражненне вакол нарыва. *Ятрась каля нарыва.* Ісерна Слуц. *Удражніў ятрысь.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЯТРО'ВІЦА *ж.* Ятроўка. *Ятровіцу заву, каб памагла.* Азяраны Раг.

ЯТРО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і ятро́віца. Пасека Ст.-Дар., Багушэвічы Бярэз., Беразіно Докш. *Я жыла з ятро́ўкамі.* Саланое Віл. *Ятроўка была гуляшчая.* Лісна В.-Дзв. *Калі пайшлі за родных братоў, то яны ятроўкі.* Мачаск Бярэз. *Мы з ятроўкай не ладзілі.* Дзяніскавічы Ганц. *Ятроўка папіла траву, язва была ў яе, і вылечылася.* Навікі Лудз. *Ятроўка прыходзіцца жонка*

*майго брата маей жонцы.* Гемзы Шальч. ∇ *Залвіца — не сястрыца, ятроўка — не матуля.* Солы Смарг.

Я′ТРЫСЬ *гл.* Я′ТРАСЬ

Я′ТРЫ′ЦЦА *незак.* Запаляцца, чырванець. *Я′трыцца нага.* Малахоўцы Бар. *Балячка ятры́цца, чырванее, свербіт.* Лука Нараўк.

Я′ТРЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і я́ т р ы́ ц ц а. *Ятрыць у мяне нарыў.* Ісерна Слуц.

ЯЎЁРКА *ж.* Вавёрка. *Яўёрка пабегла.* Дзяніскавічы Ганц.

Я′ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць, яўкаць. *Яўкае кот, не вытрымаць.* Хатынічы Ганц.

Я′ЎКНУЦЬ *зак.* 1. Яўкнуць. *Сабака яўкнуў.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Крыкнуць. *Я яўкнула — і ўсё, і дух заняўся.* Гемзы Шальч.

ЯЎЛЕНЁ *н.* Прывід. *Яўленё было.* Альхоўка Навагр.

Я′ЎРА *ж.* Падзолістая зямля. *Яўра — як гліна, ні то пясок, на яўры слаба расьцець. Яўра — сіняватая, ні то белая, ні то жоўтая ёсь яўрыстая зімля.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* літ. *jáura* 'тж'.

ЯЎРЫ′СТЫ *прым.* Падзолісты. *Есць яўрыстая зімля.* Ахрэмаўцы Брасл.; *гл.* я́ ў р а.

Я′ЎЯ *ж.* Асець. *Яўя, дзе сушылі снапы.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *jáuja* 'тж'.

Я′ХАЦЬ *незак.* Яхкаць. *Чую, яхая сабака: ах, ах, ах. Ахотнічы сабака яхая.* Гемзы Шальч.

Я′ХКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і я́ х а ц ь. *Сабака яхкая, гоніць зайца.* Старое Сяло Зэльв.

Я′ХО *н.* Рэха. *Яхо чуецца далёка.* Масілавічы Сл.

Я′ЧА *ж.* 1. Стрававод. *У ячу пападая яда.* Лісна В.-Дзв. 2. Адтуліна ў верхнім камені жорнаў, куды сыплецца збожжа. *Яча — у верхнім камені дзірка; насыпаіш зерна і меліш.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* е́ ч а.

Я′ЧАННЕ, Я′ЧАННЯ *н.* Тое ж, што і я ч м е́ н і с к а 1. *Ячанне, як ячмень рос.* Палік Барыс. *Пайду ячання касіць.* Асавец Віл.

ЯЧАЯ′, ЯЧЫЯ′ *ж.* 1. Тое ж, што і я́ ч а 1. *Ячая ат каўбуха ідзе.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і я́ ч а 2. *Ячая — дзірка ў жорнах.* Семежава Кап. *Ячыя ў жорнах.* Відзібар Стол.

ЯЧГУ′Р *гл.* ЯЖГУ′Р

ЯЧМЕ′НІК *м. бат.* Від асакі. *Ячменік расцець і на балоці; ён падобін да троcніка, ён палігаіць і корні пускаіць. Расце ячменік сільна, густа.* Кураполле Паст.

ЯЧМЕ′НІСКА, ЯЧМЕ′НІСКО *н.* 1. Ячнішча. *Ячменіска — дзе ячмень жжалі.* Гемзы Шальч. *Як ячмень убралі, асталося ячменіска.* Кіралі Шчуч. *Ячменіско, дэ рос ячмень.* Азарычы Пін. 2. Ячная салома. *Ячменіска — салома ад ячменю.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЯЧМЕ́НІЦА *ж. бат.* Брыца. *Ячменіца сціснула бульбу.* Кураполле Паст.

ЯЧМЕ́НІШЧА *н.* Тое ж, што і я ч м е́ н і с к а 1. *Ячменішча пасля ячменя поле.* Янова Рас.

ЯЧМЕ́НКА, ЯЧМЯ́НКА *ж.* 1. Ячная салома. *Ячменка — салома ячменна.* Груздава Паст. *Ячменку рэзалі ў сячкарні.* Кіралі Шчуч. *Ячменка — ячменная салома.* Азяраны Раг. *Ячменку прывезлі, пошар харошы.* Гемзы Шальч. *Ячмянка — салома з ячменю.* Номікі Бабіц. 2. Тое ж, што і я ч м е́ н і с к а 1. *Ячменка, дзе быў пасеяны ячмень.* Жылі Іўеў.

ЯЧМЕ́ННЫ, ЯЧМІ́ННЫЙ *прым.* 1. Прыгатаваны з ячменю. *Зварыла суп з ячменных круп.* Солы Смарг. *Надзеруць бульбы, адцэдзяць, ячменнай мукой замесяць, а як кіпяток закіпіць, камы качаюць і кідаюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Які мае адносіны да я ч м е н ь I. *Ячменная пожня.* Галубы Маст. *Ячмінна салома.* Дзмітравічы Кам.

ЯЧМЕ́НЬ I *м.* Збожжавая культура ячмень. *Ячмень памалоцяць, после яшчэ пойсаюць яго.* Навасёлкі Лід. *Ячмень на крупы таўклі ў ступя.* Вузла Мядз. *З ячменю малолі крупэ.* Васілевічы Гродз. *Сеялі жыта, ячмень, авёс.* Дзераўное Стаўб. *З ячменю крупы атаўкалі.* Кухты Віл. *Трава расцець па ячменю.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ячменя сеюць.* Магуны Паст. *Ячмень сеялі.* Мельнікі Лудз. *Крупы з ячменю.* Грыкені Вільн. *Сеялі гарох, грыку, ячмень, жыта, просу.* Канюкай Вільн. *Ячмень пойсаваць нада.* Скрудалена Даўг.

ЯЧМЕ́НЬ II *м.* Гнойнае запаленне павека. *Ячмень на воку, дзе веялкі, нарос, яму нічога ні зробіш, пакуль сам ні паспее.* Кіралі Шчуч. *Трэба паука злапаці, памяці і да вока прытуліці, і ячмень загіня.* Кемялішкі Астр. *Ячмень сам па сабе праходзіць.* Рагулішкі Даўг. *Ячмень выскачыў на оку.* Лука Нараўк.

ЯЧМЕ́НЯЦ *м.* Тое ж, што і я ч м е́ н і ц а. *У ячменяцу вялікая ветка выбрасаваеца, як у проса.* Альхоўка Навагр.

ЯЧМІ́ННЫЙ *гл.* ЯЧМЕ́ННЫ

ЯЧМЯ́НКА *гл.* ЯЧМЕ́НКА

Я́ЧНІСКО *н.* Тое ж, што і я ч м е́ н і с к а 1. *Ячніско — ячна пожня.* Пацаўшчына Дзятл.

Я́ЧНІШЧА *н.* Тое ж, што і я ч м е́ н і с к а 1. *Ячнішча пасля ячменю.* Груздава Паст.

Я́ЧНЫ, Я́ШНЫ *прым.* Тое ж, што і я ч м е́ н н ы. *Крупеня ячныя.* Ухвала Круп. *Ячныі крупы.* Лісна В.-Дзв. *Ячная мука.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ячна мука.* Пасека Ст.-Дар. *Мяшок яшнай мукі стаіць — і пшоннай ёй трэба.* Беразіно Докш. *Ячна салома.* Дзяніскавічы Ганц.

ЯЧЫЯ́ *гл.* ЯЧАЯ́

ЯЧЭ́ЙКА *ж.* Ячэйка. *Гладкі Міхаіл, ён быў старшына ячэйкі.* Асташына Навагр.

ЯЧЭ́НЬ *м.* Ячмень. *Ячэня трэба пойсаць.* Саланое Віл.

Я'ЧЭНЯ *н.* Тое ж, што і я ч м е́ н і с к а 1. *Каровы на ячэне ходзяць.* Саланое Віл.

Я'ШНЫ *гл.* Я'ЧНЫ

Я'ШЧАР *м.* Яшчарка. *Яшчары не кусаюцца.* Саланое Віл.

Я'ШЧАРКА, Я'ШЧУРКА, Я'ШЧЫРКА, Я'ШЧЭРКА *ж.* Тое ж, што і я́ ш ч а р. *Яшчарка ні ўрэдная.* Солы Смарг. *Яшчарка с хвастом.* Дакудава Лід. *Яшчарка кініць хвост.* Рагулішкі Даўг. *Яшчаркі е.* Грыкені Вільн. *Яшчаркаў много ўсялякіх.* Збляны Лід. *Пайшлі па падземнаму ходу, а там яшчаркі і ўсё такоя.* Чуркі Ашм. *Яшчурка не кусаецца.* Кемялішкі Астр. *Яшчурку ударуць — і хвост атламіцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Як яшчырку чым ударыш, то хвост адвальваецца.* Завельцы Астр. *Яшчэркі вяліся ў крушне.* Гемзы Шальч.

Я'ШЧАРЫЦА *ж.* Тое ж, што і я́ ш ч а р. *Яшчарыца не кусаецца.* Галубы Маст. *Яшчарыца з хвастом, быстра ўцякая.* Кіралі Шчуч. *Яшчарыцы ў крушнях жывуць.* Мсцібава Ваўк.

Я'ШЧУР *м.* Заразная хвароба буйной рагатай жывёлы. *Каровы яшчурам балелі.* Азяраны Раг.

Я'ШЧУРКА *гл.* Я'ШЧАРКА

Я'ШЧЫК *м.* 1. Скрынка. *За печкай яшчыкі ім там пастаўлены.* Валынцы В.-Дзв. *Тут яшчык прыбіты.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Пасудзіна для захоўвання сала. *У кубеляц складалі сала, цяпер — у яшчык.* Малахоўцы Бар. *Сало кладуць цяпер у яшчык, а раней у кубелец.* Альхоўка Навагр. *Раней вешалі саланіну, цяпер у яшчыку, лепш ляжыць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. Скрынка для пасылкі. *Як яблыкі пасылала, у яшчыку дзіркі пакруціўшы была.* Альхоўка Навагр. 4. Кузаў у возе ў выглядзе скрынкі. *Яшчык у возе.* Петкуны Брасл.

Я'ШЧЫРКА *гл.* Я'ШЧАРКА

ЯШЧЭ' *прысл.* Яшчэ. *А патом яшчэ вару, і наварваецца добры суп.* Гальшаны Ашм. *Яшчэ за два гады знаў гэта.* Чуркі Ашм. *Яшчэ каня і кароўку хаваю.* Кухты Віл. *Яшчэ не хадзіла ў лес.* Цяпінцы Віл. *Яна яшчэ добра выглядзіць.* Васілевічы Гродз. *Яшчэ быў учора тут.* Старыя Трокі Трак. *Ён яшчэ ў Краславе.* Істра Лудз. *Там яшчэ валамі аралі.* Швэды Вільн. *Некаторыя варылі яшчэ крупы з гарохам.* Завельцы Астр. *Трэба па каровы ісці яшчэ.* Дарава Лях.

Я'ШЧЭРКА *гл.* Я'ШЧАРКА

ЮЗЕФА ФЛОРИАНОВНА МАЦКЕВИЧ
ЕЛЕНА ЙОНОВНА ГРИНАВЕЦКЕНЕ
ЕВГЕНИЯ МИХАЙЛОВНА РОМАНОВИЧ И ДР.

# СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКИХ ГОВОРОВ СЕВЕРО-ЗАПАДНОЙ БЕЛОРУССИИ И ЕЕ ПОГРАНИЧЬЯ, Т. 5

Минск. Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі *Г. Ф. Юрчанка*
Рэдактар *Н. М. Тарасевіч*
Мастак *В. В. Сіманенка*
Мастацкі рэдактар *А. А. Шупляцоў*
Тэхнічны рэдактар *А. У. Скакун*
Карэктар *Н. В. Кудрэйка*

ІБ № 2464

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 11.03.86. Падпісана ў друк 03.09.86. АТ 13779. Фармат 60×90[1]/16. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 35,25. Ум. фарб.-адб. 35,25. Ул.-выд. арк. 37,63. Тыраж 1000 экз. Зак. № 592. Цана 2 р. 60 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

